УДК 811.161.3:398.91
ББК 81.411.3-4
Л48

Рэкамендавана Саветам філалагічнага факультэта
ГрДУ імя Я. Купалы.

Рэцэнзенты:

*Рагаўцоў В.І.,* доктар філалагічных навук, прафесар,
загадчык кафедры беларускай мовы МДУ імя А.А. Куляшова;

*Даніловіч М.А.,* доктар філалагічных навук, прафесар,
загадчык кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства
ГрДУ імя Я. Купалы.

**Лепешаў, І.Я.**

Л48 Тлумачальны слоўнік прыказак / І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцэвіч. – Гродна : ГрДУ, 2011. – 695 с.
ISBN 978-985-515-446-5

Першае выданне (пад назвай «Слоўнік беларускіх прыказак») выйшла ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» ў 1996 г. (апісана 954 прыказкі). У цяперашнім выданні апісваецца каля 1800 найбольш ужывальных прыказак, тлумачыцца іх сэнс, пры неабходнасці даецца іх сітуацыйная і стылістычная характарыстыка. Выкарыстанне прыказак як моўных адзінак ілюструецца прыкладамі з мастацкіх і публіцыстычных тэкстаў. Паказана, у якіх парэміялагічных зборніках прыводзіцца пэўная прыказка ці яе разнавіднасці. Пры некаторых прыказках ёсць даведкі пра іх паходжанне. У слоўніку адлюстравана варыянтнасць прыказак і сінанімічныя адносіны паміж імі.

Прызначаецца для спецыялістаў-мовазнаўцаў, літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў, журналістаў, настаўнікаў, студэнтаў і шырокага кола чытачоў.

**УДК 811.161.3:398.91**
**ББК 81.411.3-4**



**ISBN 978-985-515-446-5**

# ПРАДМОВА

У выніку шматгадовага вывучэння мовы, быту, звычаяў свайго народа І. І. Насовіч зазначыў: «Беларусы ўсе факты, усе выпадковасці чалавечага жыцця, усе ўчынкі, як добрыя, так і дрэнныя, і ўсякае нават меркаванне пра што-небудзь падводзяць пад мерку прыказак сваіх... Паміж простымі людзьмі ёсць шмат такіх здольных, якія на ўсякую падзею, на ўсякі выпадак, вясёлы, спрэчны, сумны, – адразу ж і дарэчы падаюць прыказку, нібы яны знарок вывучалі іх, як тыя, хто, авалодваючы лацінскай мовай, завучвае на памяць дыстыхі Катонавы»[1] .

Шырокую вядомасць, распаўсюджанасць і ўжывальнасць прыказак у народзе падмеціў і К. Крапіва: «Ёсць такія аматары прыказак, якія чуць не кожны свой крок апраўдваюць прыказкаю, чуць не кожны свой выраз аздабляюць ёю. Пра такіх нават і знарочыстая прыказка ўтварылася: «Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца»[2] .

Гэта пашыранасць прыказак у народзе знаходзіць сваё адлюстраванне і ў мастацкіх тэкстах. Так, у трылогіі Я. Коласа «На ростанях» выкарыстана 109 прыказак, у п’есах Я. Купалы «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» іх адпаведна 18 і 21, у раманах «Мядзведзічы» К. Крапівы – 37, «Сокі цаліны» Ц. Гартнага – 29, «Людзі на балоце» І. Мележа – 26, «Птушкі і гнёзды» Я. Брыля – 31, «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава – 30, у аповесцях «Рудабельская рэспубліка» С. Грахоўскага – 24, «Шануй сваё імя» В. Блакіта – 12.

Амаль усе прыказкі характарызуюцца «найбольшай канцэнтрацыяй думкі пры найменшай затраце слоўнага матэрыялу»[3] і вылучаюцца такімі асаблівасцямі, як сцісласць, выразнасць, вобразнасць, высокія мастацкія вартасці.

Народжаныя ў жывой народнай мове, прыказкі запісваліся і выдаваліся шматлікімі збіральнікамі вуснай народнай творчасці (Я. Чачот, П. Шпілеўскі, В. Дыбоўскі, Е. Раманаў, П. Шэйн, І. Насовіч, Я. Ляцкі, М. Федароўскі, Ф. Янкоўскі і інш.).

На працягу доўгага перыяду прыказкі вывучаліся толькі ў фальклоры, разглядаліся як адзін з жанраў вуснай народнай творчасці. І ў працах параўнальна нядаўняга часу знаходзім аналагічны погляд. Так, у прадмове да «Фразеалагічнага слоўніка рускай

---

[1] Сборник белорусских пословиц, составленный И. И. Носовичем // Сб. ОРЯС Имп. АН. – СПб., 1874. Т. XII. № 2. С. III–IV.

[2] Крапіва К. Беларускія прыказкі // Зб. тв.: У 4 т. – Мінск, 1963. Т. 4. С. 227.

[3] Тамсама. С. 250.

мовы» чытаем: «Як прыказка, так і прымаўка, – паняцці не лінгвістычныя»[4] .

Прыкладна такое ж азначэнне «фалькторнай накіраванасці» даецца і ў «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі»: «Прыказка – граматычна і лагічна афармленае кароткае выслоўе павучальнага зместу, закончанае суджэнне; адзін з фальклорных жанраў»[5] .

Ужо тое, што прыказка не складаецца ў маўленні, а ўзнаўляецца ў памяці ў якасці гатовага слоўнага комплексу, дазваляе ставіць яе ў адзін рад з такімі моўнымі адзінкамі, як слова, фразеалагізм, састаўны тэрмін, крылаты выраз. Прыказкі, у адрозненне ад іншых фальклорных жанраў, ніколі не выконваюцца, не спяваюцца, як, напрыклад, народныя песні ці частушкі, не расказваюцца, як казкі ці анекдоты або гумарэскі, не прапануюцца для разгадвання, як загадкі, – словам, самастойна не бытуюць, а, выкліканыя канкрэтнай жыццёвай з'явай, у патрэбны момант устаўляюцца ў маўленне як афарыстычнае закончанае суджэнне, праверанае вопытам многіх пакаленняў.

Прыказкі, як і іншыя моўныя адзінкі, павінны даследавацца з чатырох бакоў: семантычнага, этымалагічнага, граматычнага і стылістычнага.

Перш чым гаварыць пра асноўныя асаблівасці прыказак у іх лінгвістычным плане, неабходна коратка спыніцца на пытанні пра **размежаванне паняццяў «прыказка» і «прымаўка».**

Даволі многія парэміялагічныя зборнікі XIX–XX стст. уключалі ў сябе фальклорны матэрыял пад агульнай назвай «Прыказкі і прымаўкі». Пры гэтым адны складальнікі зборнікаў не размяжоўвалі паняццяў «прыказка» і «прымаўка», другія – спрабавалі выявіць розніцу, знайсці мяжу, якая раздзяляе прыказку і прымаўку. Пытанне пра размежаванне гэтых паняццяў не раз закранлася ў тэарэтычных літаратуразнаўчых працах, аднак і сёння яно не мае адназначнага рашэння.

У энцыклапедыях, лексікаграфічных даведніках і навучальных дапаможніках пераважае думка, што прымаўка «адрозніваецца ад прыказкі тым, што не з'яўляецца закончаным суджэннем і звычайна не мае павучальнага зместу»[6] .

---

[4] Фразеологический словарь русского языка / под ред. А. И. Молоткова. – М., 1978. С. 15.

[5] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. – Мінск, 1975. Т. 8. С. 597.

[6] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. – Мінск, 1980. Т. 4. С. 449. (ТСБМ).

Нягледзячы на такое, здавалася б, лагічнае размежаванне дзвюх моўных з'яў, іх вельмі часта змешваюць, у тым ліку і ў тлумачальных слоўніках, прыводзячы ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу ў слоўнікавых артыкулах. Так, у ТСБМ ужыванне слоў *жыццё* і *перайсці* ілюструецца народным афарызмам *Жыццё пражыць – не поле перайсці*, але ў адным выпадку (т. 2, с. 267) гэта выслоўе суправаджаецца паметай «прыказка», а ў другім (т. 4, с. 184) – паметай «прымаўка». З аналагічнай з'явай сутыкаемся і ў іншых тлумачальных даведніках. Напрыклад, у «Тураўскім слоўніку» (т. 1, с. 72) слова *бор* мае ілюстрацыю *Кажна сосна свому бору шуміць* з паметай «прыказка», а слова *бусько* (т. 1, с. 97) ілюструецца народна-дыялектным афарызмам *На готово кубло бусько найдзецца*; гэты прыклад пазначаецца паметай «прымаўка», хоць абодва выслоўі, і гэтае, і папярэдняе, аднатыпныя: характарызуюцца закончанасцю ў граматычных адносінах, ужываюцца ў вобразна-пераносным плане і маюць павучальны змест.

У мастацкіх тэкстах розных аўтараў таксама сустракаюцца нярэдкія выпадкі, калі адзін пісьменнік называе пэўны народны афарызм прыказкай, а другі – прымаўкай. Напрыклад, у К. Крапівы: «Я прыказкай хачу тут байку завяршыць: *хто ўкраў свінню, таму ў вушах пішчыць*»; у рамане ж І. Новікава «Да світання блізка» гэта прыказка кваліфікуецца як прымаўка. *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш* паводле К. Крапівы («Ёлкі-палкі») і Н. Гілевіча («Не кажы «гоп»...») – прыказка, а паводле М. Паслядовіча («Навошта цябе адкрылі, Амерыка?») – прымаўка. Наогул пры ўключэнні прыказкі ў больш шырокі кантэкст з дапамогай стылеўказальных агаворак ці непасрэдных аўтарскіх спасылак звычайна словы «прыказка» і «прымаўка» не размяжоўваюцца, выкарыстоўваюцца як абсалютныя сінонімы. Да прыкладу: «Як у *прыказцы* той: не купіў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць» (М. Лынькоў) і «Як у той *прымаўцы*: каб не клін ды не мох, то і плотнік бы здох» (С. Кухараў); «Ёсць *прыказка*: хто ажэніцца, той пераменіцца» (С. Кавалёў) і «Ёсць *прымаўка*: не смейся, рабе, дасць бог і табе» (С. Лобач).

У фалькларыстыцы і мовазнаўстве існуе нямала поглядаў на размежаванне прыказак і прымавак. Вось найбольш тыповыя з іх.

1. Гэты погляд (яго можна назваць лагічным) стаў складвацца яшчэ ў першай палове XIX ст. У яго аснову рускія фалькларысты паклалі такія крытэрыі, як завершанасць ці незавершанасць выказвання, здольнасць выражаць суджэнне або паняцце. Прыказка выражае закончанае суджэнне, а прымаўка абазначае паняцце і

характарызуецца незавершанасцю выказвання. Паняцце «прымаўка» ілюструецца такімі прыкладамі: *чужымі рукамі жар заграбаць, не ўсе дома, аднаго поля ягада, малако на губах не абсохла* і інш. Аналагічнай думкі прытрымліваюцца і беларускія даследчыкі. Так, К. Крапіва ў артыкуле «Беларускія прыказкі», прывёўшы прыклады *дзесятая вада на кісялі, як Піліп з канапель, і хвастом накрыўся*, дадае: «Тут адразу відаць, што яны самастойна ўжывацца не могуць і, такім чынам, з'яўляюцца прымаўкамі»[7] .

Такі погляд на размежаванне прыказак і прымавак мае месца і ў школьных падручніках па літаратуры. Тут прымаўкамі называюць «яркія ўстойлівыя выслоўі з незавершанай думкай», ілюструюць іх прыкладамі: *следам за дзедам, рэшатам ваду насіць, хто ў лес хто па дровы*[8] . Тое самае знаходзім і ў сучасным падручніку-хрэстаматыі, дзе паняцце «прымаўка» паясняецца выразамі тыпу *сем пятніц на тыдні, жаба на языку не спячэцца, мякка сцеле ды мулка спаць*.

Прыхільнікі гэтага погляду, як відаць з пададзеных вышэй прыкладаў, прымаўкамі лічаць тое, што сёння аднадушна называецца фразеалагізмамі. Выразы тыпу *чужымі рукамі жар заграбаць, не ўсе дома, дзесятая вада на кісялі, рэшатам ваду насіць* на законнай падставе ўключаюцца ў сучасныя фразеалагічныя слоўнікі і з'яўляюцца аб'ектам фразеалогіі – новай лінгвістычнай навукі, што сфарміравалася ў апошнія дзесяцігоддзі. Зразумела, што ахарактарызаваны погляд на размежаванне прыказак і прымавак сёння выглядае як анахранізм.

2. Яшчэ адзін погляд на паняцці «прыказка» і «прымаўка» можна назваць структурна-граматычным. Яго прыхільнікі ў аснову размежавання гэтых паняццяў кладуць форму народнага афарызма, адначленнасць ці двухчленнасць яго структуры. Я. Ляцкі пісаў: «Адметнай рысай прыказкі, як кароткага выслоўя, служыць яе фармальная двухчленнасць, тады як прымаўка ва ўласным сэнсе заўсёды адначленная»[9] .

Падзяляюць гэты погляд і некаторыя сучасныя беларускія мовазнаўцы. Так, В.П. Красней піша: «Адрозніваюцца прыказкі і прымаўкі сваёй структурай. Прыказкі па сваёй форме з'яўляюцца выслоўем, што складаецца з дзвюх частак (*Ад душы працуеш –*

[7] Крапіва К. Беларускія прыказкі. С. 225.

[8] Родная літаратура. Падручнік-хрэстаматыя для 5 класа. – Мінск, 1984. С. 25.

[9] Ляцкий Е. А. Несколько замечаний по вопросу о пословицах и поговорках // Изв. ОРЯС. 1897. Т. 2. С. 756.

*Радзіму мацуеш*). Прымаўка – таксама выслоўе, але яно складаецца з адной часткі (*На чужыне і камар загіне*)»[10] .

Паводле прыхільнікаў гэтага погляду, такія, напрыклад, тыповыя прыказкі, як *Гарбатага магіла выправіць* ці *Для старца міля не круг*, трэба лічыць прымаўкамі, бо яны «адначленныя», а выслоўі *За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш; Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж* варта кваліфікаваць як прыказкі, бо яны маюць «двухчленную» ці «трохчленную» структуру.

Думаецца, што такі погляд бесперспектыўны, фармалістычны і нічым не апраўданы. Розніцу паміж прыказкай і прымаўкай нельга шукаць у іх форме, у тым, з адной ці дзвюх частак яны складаюцца.

3. Адрозніваць прыказку ад прымаўкі можна і трэба толькі з улікам наяўнасці ці адсутнасці ў іх пераноснага сэнсу – такі пункт гледжання ўпершыню быў выказаны В. Шырокавай у 1931 г. Яна пісала: «Асноўным адрозненнем прыказкі ад прымаўкі лічыцца пераносны сэнс, якім валодае прыказка, і адсутнасць яго ў прымаўцы»[11] .

Гэты погляд быў у далейшым развіты У. П. Жукавым, які прапанаваў па-новаму асэнсаваць тэрмін «прымаўка» і ўсе парэміі, структурна арганізаваныя як сказ, падзяліў на тры тыпы: прыказкі, прымаўкі і прыказкава-прымаўкавыя выразы. Да прыказак ён адносіць народныя афарызмы, «якія маюць адначасова літаральны і пераносны (вобразны) план ці толькі пераносны план і з’яўляюцца ў граматычных адносінах закончаным сказам». Пад прымаўкамі «разумеюцца кароткія народныя выслоўі (нярэдка павучальнага характару), якія маюць толькі літаральны план і ў граматычных адносінах з’яўляюцца закончаным сказам». Прыказкава-прымаўкавыя выразы «спалучаюць у сабе прыметы прыказак і прымавак. Гэтыя выразы характарызуюцца тым, што частка слоў у іх складзе збліжаецца ці супадае са словамі свабоднага ўжывання, а другая частка (нярэдка рэальныя або патэнцыяльныя фразеалагізмы) мае фігуральнае, пераноснае значэнне»[12] .

Варта сказаць некалькі слоў пра яшчэ адзін погляд, пададзены ў нядаўняй кнізе А. Аксамітава «Прыказкі і прымаўкі» (Мінск, 2000). Гэта тым больш неабходна зрабіць, бо і ў анатацыі (с. 2), і ў іншых мясцінах (с. 11, 30) аўтар, можна сказаць, прэтэнцыёзна

[10] Красней В. П. Грані слова. – Мінск, 1986. С. 159-160.
[11] Широкова О. Жизнь пословицы // Рус. яз. в школе. 1931. № 6-7. С. 117.
[12] Жуков В. П. Словарь русских пословиц и поговорок. – М., 1967. С. 11–12.

называе свой погляд «новым», лічыць, што «ў кнізе ўпершыню абгрунтоўваецца навуковае размежаванне прыказак ад прымавак паводле лінгвістычных прымет». Як сцвярджае А. Аксамітаў, «прыказцы ўласцівы аднačасова прамы і пераносны сэнс». Але, па-першае, такіх прыказак зусім мала. Па-другое, немагчыма ўявіць, які прамы сэнс мае прыказка *Пойдзе каза да ваза, папросіць сена: скулле ўбок* (яна прыводзіцца аўтарам, у ліку іншых, як прыклад прыказак з падвойным сэнсам). Прымаўкі ж, паводле А. Аксамітава «не маюць такога двухпланавага характару», «прымаўка мае толькі прамы план зместу выказвання». Прыказка – «вобразная матываваная адзінка мовы» (с. 298), а прымаўка – «фальклорны жанр» (с. 299). Затым аўтар ставіць пытанне: «Які ж лінгвістычны прынцып ляжыць у аснове размежавання прыказак і прымавак?» (с. 300). Пасля непераканальнага і досыць блытанага разгляду ўсяго пяці парэмій робіцца нечаканы і дзіўны вывад: «Такім чынам, магчымасць уключэння фразеалагічных адзінак у склад прымавак і немагчымасць уключэння іх у склад прыказак можа разглядацца як лінгвістычны крытэрый іх размежавання» (с. 301).

З такім «лінгвістычным крытэрыем» ніяк нельга пагадзіцца. Прыказкі і фразеалагізмы – гэта розныя рэчы. Разам з тым можна прывесці дзясяткі прыкладаў несумненных прыказак, а таксама, паводле У.П. Жукава, прыказкава-прымаўкавых выразаў, у якіх, як ужо цытавалася, «другая частка (нярэдка рэальныя або патэнцыяльныя фразеалагізмы) мае фігуральнае, пераноснае значэнне». Вось толькі некалькі прыкладаў: «На беднага Макара *ўсе шышкі валяцца*», «Як ваўка ні кармі, а ён *у лес глядзіць*», «Ваўка *ногі кормяць*», «Работа не воўк, *у лес не збяжыць*», «Багатаму *чорт дзяцей калыша*».

Як бачым, сцісла апісаны тут «новы погляд» «навуковага размежавання прыказак ад прымавак» з'яўляецца не чым іншым, як няўдалай спробай удасканаліць схему, прапанаваную У.П. Жукавым.

Сярод даследчыкаў беларускай парэміялогіі ёсць думка не размяжоўваць прыказкі і прымаўкі. Так, К. Крапіва ў пачатку свайго артыкула «Беларускія прыказкі» выкладае погляды І. Снегірова, А.А. Патабні, А.І. Барычэўскага на паняцці «прыказка» і «прымаўка», а пасля, прыступаючы да аналізу народных афарызмаў, зазначае, што ў далейшым ён будзе «ўжываць адно слова – прыказка»[13] .

Ф. Янкоўскі лічыць, што «справа, відаць, у надуманасці размежавання прыказак і прымавак»[14] . Ён ставіць знак роўнасці паміж

[13] Крапіва К. Беларускія прыказкі. С. 226.
[14] Янкоўскі Ф. Беларуская мова. – Мінск, 1978. С. 160.

прыказкай і прымаўкай, называе іх словамі-дублетамі, паказвае, што слова *прымаўка* трапіла ў беларускую літаратурную мову з жывой народнай мовы, што ў народзе словы *прыказка* і *прымаўка* сэнсава не адрозніваюцца.

Ужыванне тэрміна «прымаўка» было ў пэўнай меры апраўданым, пакуль у моваазнаўстве не замацаваўся тэрмін «фразеалагізм», які фактычна выцесніў свайго папярэдніка для абазначэння адных і тых жа моўных адзінак – устойлівых, узнаўляльных зваротаў з цэласнай семантыкай (тыпу: *кот наплакаў, карона з галавы не спадзе, чужымі рукамі жар заграбаць*).

У гэтай сувязі, каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны, уяўляецца найбольш лагічным, апраўданым скасаваць тэрмін «прымаўка» як аналаг фразеалагізма і выкарыстоўваць адзіны тэрмін «прыказка» для абазначэння народных афарызмаў, якія валодаюць інтанацыйнай і сэнсавай закончанасцю, або ўжываць абодва словы як тэрміны-дублеты.

Трэба, аднак, мець на ўвазе, што прыказкі, калі іх разглядаць з семантычнага боку, паводле пераасэнсаванасці іх састаўных частак, далёка не аднатыпныя моўныя адзінкі. Тут выразна вылучаюцца тры групы прыказак.

Значная частка прыказак (п е р ш а я група) мае алегарычны сэнс, г.зн. у іх гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае. Напрыклад, у прыказцы *Куй жалеза, пакуль гарачае* зусім не пра жалеза ідзе размова; сэнс прыказкі – ‘спяшайся рабіць што-небудзь, пакуль не позна’ ці ‘карыстайся момантам’. Або: *На злодзеі шапка гарыць* – ‘той, хто правінаваціўся ў чым-небудзь, сам мімавольна выдае сябе сваімі паводзінамі’; *Яблык ад яблыні недалёка падае* – ‘свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў’. Такіх прыкладаў прыкладна 520 сярод апісаных у Слоўніку.

Д р у г а я група аб’ядноўвае прыказкі, у якіх няма поўнага пераасэнсавання ўсіх кампанентаў. У гэту групу ўваходзіць больш за палову прыказак (іх амаль 900 з ліку 1780). Частка слоў такіх прыказак захоўвае сваё літаральнае значэнне. Так, у прыказцы *Не такі чорт страшны, як яго малююць* іншасказальны сэнс маюць толькі словы *чорт* і *малююць*; агульны сэнс прыказкі – ‘не так страшна на самай справе, як здаецца’. Або возьмем прыказку *Стары вол баразны не псуе*. У ёй таксама не ўсе кампаненты атрымалі пераасэнсаванне, таму яе змест перадаецца з выкарыстаннем гэтых непераасэнсаваных слоў: ‘стары, вопытны чалавек не сапсуе таго, за што бярэцца’. Захоўвае сваё літаральнае значэнне і слова

*вучыць* у прыказцы *Яйцо курыцу вучыць*, якая абазначае ‘малады, нявопытны вучыць старэйшага, больш вопытнага’.

Ёсць і т р э ц я я група прыказак (іх каля 300). Яны наогул заўсёды ўжываюцца толькі ў прамым значэнні і не патрабуюць тлумачэння. Агульны сэнс кожнай такой прыказкі вынікае з прамых значэнняў яе слоў-кампанентаў, напрыклад: *Госць госця ненавідзіць, а гаспадар абодвух; Век жыві – век вучыся.*

У беларускім мовазнаўстве няма адзінства поглядаў адносна таго, **уключаць ці не ўключаць прыказкі ў склад фразеалогіі**. Напрыклад, Ф.М. Янкоўскі да фразеалогіі адносіць не толькі «ўласна фраземы», але і прыказкі, крылатыя выразы, прыгаворкі і матывуе гэта тым, што ўсе яны «не ствараюцца ў размове, а выкарыстоўваюцца як гатовыя, маюць сваё, вядомае, зразумелае значэнне, ужываюцца ў гатовай, вядомай форме»[15] .

Прыкладна тое самае знаходзім і ў некаторых навучальных дапаможніках па беларускай мове, у іх прыказкі разглядаюцца як фразеалагічны матэрыял, уключаюцца ў раздзел «Фразеалогія».

Несумненна, паміж прыказкамі і фразеалагізмамі ёсць шмат чаго падобнага, агульнага. Адзначаючы гэта агульнае, нельга, аднак, не заўважаць, што паміж імі існуюць істотныя, прынцыповыя адрозненні лагічнага, структурнага, сінтаксічна-функцыянальнага і спалучальнага плана, якія дазваляюць сцвярджаць, што фразеалагізмы і прыказкі – моўныя адзінкі неаднароднага тыпу.

1. Фразеалагізмы заўсёды абазначаюць паняцце, выступаюць адзінкамі намінацыі, будаўнічым матэрыялам для сказаў. Фразеалагізмам уласціва катэгарыяльнае (часцінамоўнае) значэнне, у адпаведнасці з гэтым вылучаюцца дзеяслоўныя (*вадзіць за нос* к а - г о, *несці свой крыж*), прыслоўныя (*гады ў рады, на вераб’іны скок*), назоўнікавыя (*агульнае месца, бабіна лета*), прыметнікавыя (*аднаго поля ягады, лёгкі на язык*) і іншыя разрады фразеалагізмаў. Возьмем такі ўрывак з аповесці Я. Коласа «Дрыгва»: – *Ты сам сабе яму капаеш... – Ты мне капаеш яму! – перапыніў Аўгіню Васіль*. Будаўнічым матэрыялам для сказаў гэтага ўрыўка выступае паралельна са словамі і фразеалагізм *капаць яму* к а м у, які служыць для выражэння пэўнага паняцця, мае дзеяслоўнае значэнне ‘рыхтаваць пагібель каму-небудзь’.

Прыказкі ж выражаюць не паняцце, а суджэнне, заўсёды з’яўляюцца не намінатыўнымі, а камунікатыўнымі адзінкамі, пры да-

[15] Янкоўскі Ф. М. Беларуская фразеалогія. – Мінск, 1981. С. 9.

памозе якіх перадаецца вычарпальны ў сэнсавых адносінах змест, што ўласціва толькі сказу, а не слову ці фразеалагізму. Адзін прыклад: – *Затаіўся здраднік, жыве з намі тут побач... А хто? – Ц і х а я с в і н н я г л ы б о к а к а п а е, – задуменна сказаў Карабан* (А. Кобец-Філімонава. Жаваранкі над Хатынню). Выдзеленая тут прыказка выражае суджэнне, якое можна перадаць сказам ‘ціхі, скрытны чалавек здольны на рашучыя, нечаканыя ўчынкі’.

2. Фразеалагізмы адрозніваюцца ад прыказак і па сваёй структуры. Знешне, па сваёй форме, фразеалагізмы часцей за ўсё падобныя на словазлучэнні разнастайнага характару, у якіх ёсць граматычна галоўны кампанент і граматычна залежнае ад яго слова (напрыклад: *абіваць парогі, стрэляны верабей, казёл адпушчэння, бачыць наскрозь, на лес гледзячы*). Другая група фразеалагізмаў паводле іх структуры – гэта выразы са структурай спалучэння слоў; у такіх фразеалагізмах няма ні граматычна галоўнага, ні граматычна залежнага кампанента (*пад бокам, на вачах, ні рыба ні мяса, і ў хвост і ў грыву*). Яшчэ адна група – фразеалагізмы са структурай сказа, аднак амаль усе яны «маюць адкрытую (незамкнёную) структуру і патрабуюць інфарматыўнай падтрымкі з боку моцна кіруемых слоў са значэннем асобы, якая выступае ў ролі лагічнага суб’екта»[16] . Гэта выразы тыпу: *вочы на лоб лезуць* у к а г о, *душа не прымае* ч ы я ч а г о, *песенька спета* ч ы я, к а г о, *язык каля вушэй матляецца* ў к а г о, *кашы не зварыш* з к і м.

Калі цяпер звярнуцца да прыказак, то відавочна, што ўсе яны маюць форму закончанага сказа, валодаюць і сэнсавай, і інтанацыйнай завершанасцю, служаць для перадачы закончанай інфармацыі. Разглядаючы прыказкі з боку іх структуры, можна сцвярджаць, што сярод іх ёсць амаль усе вядомыя ў сінтаксісе тыпы простых і складаных сказаў. Вось прыклады прыказак, структурна арганізаваных як просты двухсастаўны сказ: *Адклад не ідзе на лад; Да пары збан ваду носіць*. Вельмі многія прыказкі маюць структуру аднасастаўных сказаў у такіх разнавіднасцях, як абагульнена-асабовы сказ (*Кашы маслам не сапсуеш*), безасабовы сказ (*Да ўдачы не трэба прыдачы*), інфінітыўны сказ (*Сілай не быць мілай*). Значная частка прыказак з’яўляецца той ці іншай разнавіднасцю складанага сказа. На ўзор складаназлучаных сказаў аформлены, напрыклад, такія прыказкі: *Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды; Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей*.

[16] Жуков В. П. Русская фразеология. – М., 1986. С. 208.

Структуру складаназалежнага сказа з рознымі дадзенымі часткамі маюць такія прыказкі: *Ведае кошка, чыё сала з'ела; Добра смяецца той, хто смяецца апошні; Які куст, такі і адростак; Хто б дзятла пазнаў, каб не яго доўгі нос; На тое і шчупак у моры, каб карась не драмаў; Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў; Дзе нянек многа, там дзіця бязнога*. Ёсць нямала прыказак са структурай бяззлучнікавых складаных сказаў: *Лес сякуць – трэскі ляцяць; Сабака брэша – вецер носіць; Гультай за работу – мазоль за руку*. Многія прыказкі складаюцца больш чым з дзвюх прэдыкатыўных частак: *Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж; Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла; Скажы мне, хто твае сябры, і я скажу, хто ты*.

3. Істотныя адрозненні паміж фразеалагізмам і прыказкай назіраюцца і ў сінтаксічна-функцыянальным плане. Фразеалагізмы, з'яўляючыся будаўнічым элементам сказа, гэтак жа, як і словы, заўсёды функцыянуюць у ролі таго ці іншага члена сказа. Напрыклад, дзеяслоўныя фразеалагізмы выступаюць звычайна ў ролі выказніка, назоўнікавыя – у ролі розных членаў сказа, прыслоўныя – у ролі акалічнасці і г.д. Фразеалагізмы, несуадносныя з той ці іншай часцінай мовы (тыпу: *мядзведзь на вуха наступіў* к а м у), часцей за ўсё выконваюць ролю галоўнага члена безасабовага сказа.

Што да прыказак, то, паколькі яны ў камунікатыўных адносінах з'яўляюцца закончаным сказам, ні адна з іх не можа функцыянаваць у ролі якога-небудзь члена сказа. Калі перад намі прыказка, усе кампаненты якой выкарыстаны з прамым значэннем, то кожнае яе паўназначнае слова выступае ў ролі пэўнага члена сказа. Напрыклад, не выклікае ніякіх цяжкасцей сінтаксічны разбор прыказкі *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую*.

Зусім іншае назіраем у прыказках, усе ці амаль усе кампаненты якіх пераасэнсаваліся. Скажам, у прыказцы *Рука руку мые*, што значыць 'адзін выгароджвае другога ў якой-небудзь несумленнай справе', кампанент *рука* не з'яўляецца прадметам выказвання. А таму лічыць, што тут *рука* – дзейнік, *мые* – выказнік, *руку* – дапаўненне, значыць разбурыць прыказку, ператварыць яе ў звычайнае спалучэнне слоў, абяссэнсіць яе, вытравіць з яе тое абагульненае, пераасэнсаванае, што замацавалася за ёй у працэсе моўных зносін.

Прыказка *Яйцо курыцу вучыць* адрозніваецца ад папярэдняй тым, што ў ёй два першыя кампаненты пераасэнсаваныя, а трэці мае прамое значэнне. Але і ў ёй *яйцо* (хоць і стаіць у форме назоўнага склону) не з'яўляецца прадметам нашай думкі і, значыць,

дзейнікам. Інакш кажучы, такія прыказкі сінтаксічна непадзельныя. «Спроба сінтаксічнага чляненне або пераводзіць іх з іншасказальнага, вобразнага плана ў літаральны, або ператварае прыказку, калі яна не мае літаральнага плана, у свабодны сказ такога ж лексічнага складу»[17].

4. Фразеалагізмы адрозніваюцца ад прыказак і па сваіх спалучальных магчымасцях. Будучы структурным элементам сказа, фразеалагізм уступае ў пэўныя сувязі і адносіны з іншымі словамі ці (значна радзей) фразеалагізмамі. У залежнасці ад таго, як ажыццяўляецца лексіка-граматычная спалучальнасць фразеалагізма са словамі, выдзяляюцца чатыры тыпы фразеалагічных значэнняў: адносна свабоднае, валентна абмежаванае, канструктыўна абмежаванае і сінтаксічна абумоўленае.

Фразеалагізмы з адносна свабодным значэннем валодаюць семантычнай самастойнасцю і таму не маюць патрэбы ў слоўных канкрэтызатарах іх значэння. Спалучальныя магчымасці такіх фразеалагізмаў даволі шырокія. Фразеалагізм *бабіна лета* можа ўжывацца, напрыклад, у такім акружэнні: *Стаяла бабіна лета* (М. Капыловіч); *Быў пачатак бабінага лета* (І. Дуброўскі); *Адвячорак апошняй пары бабінага лета* (В. Быкаў); *Плыло павуцінне бабінага лета* (І. Шамякін).

Фразеалагізмы з валентна абмежаваным значэннем спалучаюцца са строга акрэсленымі словамі. Напрыклад, фразеалагізм *куры не клююць* ‘вельмі многа’ ўступае ў кантакт толькі са словам *грошай*. Некаторыя фразеалагізмы спалучаюцца з двума і больш словамі; напрыклад, прыслоўны выраз *на свае вочы*, што значыць ‘без пасрэднікаў, непасрэдна самому’, кантактуе з дзеясловамі-суправаджальнікамі *бачыць, пераконвацца, упэўнівацца*.

Фразеалагізмы з канструктыўна абмежаваным значэннем рэалізуюцца толькі ў пэўнай, акрэсленай канструкцыі, яны маюць абавязковую спалучальнасць «справа». Паяснім гэта такім прыкладам: *Дакуль жа вы будзеце вадзіць за нос мяне?* (С. Баранавых). Тут, як і ва ўсіх астатніх выпадках, дзеяслоўны фразеалагізм *вадзіць за нос* ужываецца пры дзейніку са значэннем асобы і абавязкова дапаўняецца назвай аб’екта са значэннем асобы ў вінавальным склоне. Менавіта такія ўмовы спалучальнасці з’яўляюцца нормай функцыянавання для гэтага фразеалагізма з канструктыўна абмежаваным значэннем.

---

[17] Жуков В. П. Словарь русских пословиц и поговорок. С. 11.

Фразеалагізмы з сінтаксічна абумоўленым значэннем – гэта такія назоўнікавыя выразы, якія надзелены яркай ацэначнасцю і не столькі называюць прадмет, асобу ці з'яву, колькі вобразна характарызуюць іх, а таму ў сказе выступаюць пераважна ў ролі іменнага выказніка, а таксама зваротка і прыдатка: «Табе, Андрэй, бачу... гэты завод *як костка ў горле*» (Э. Ярашэвіч); «А ты, *божая кароўка*, не кіпі! І язык пачасаць нельга!» (І. Мележ); «*Святая прастата*, Піваварaў, мабыць, думаў, што на ваеннай карце ўсё абазначана» (В. Быкаў).

Прыказкі ж, самі з'яўляючыся сказам, не абумоўлены якімі-небудзь заканамернасцямі лексіка-граматычнай спалучальнасці са словамі свабоднага ўжывання. Будучы «гатовымі формуламі жыццёвых з'яў ці гатовымі іх характарыстыкамі» (К. Крапіва), прыказкі свабодна ўключаюцца ў тэкст. Найчасцей у гутарцы паміж суразмоўнікамі яны ўжываюцца як самастойны сказ-рэпліка: 1) *– А не нарвёмся? За дротам ужо не пашкадуюць. Канец на месцы... – Баязліваму і корч мядзведзь* (В. Адамчык. Год нулявы); 2) *– Куды яны дзеліся, тыя людзі? – Усё будзеш ведаць, хутка пастарэеш* (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). Нярэдка прыказка выступае як частка складаназлучанага ці складаназалежнага сказа, звязваючыся з папярэдняй часткай пры дапамозе злучнікаў: 1) *Такія людзі заўсёды лезуць на ражон, а беражонага і бог беражэ* (У. Дамашэвіч. Дарожная гісторыя); 2) *Глыбока запала ў душу пачутае на вёсцы, што лапаць боту не пара* (Я. Лецка. Дарога ў два канцы).

У мастацкіх і публіцыстычных творах адным з пашыраных спосабаў уключэння прыказкі ў тэкст з'яўляецца папярэдняя спасылка на народную мудрасць звычайна са станоўчай яе ацэнкай. У такіх выпадках сінтаксічная канструкцыя ўяўляе сабой бяззлучнікавы складаны ці складаназалежны сказ, першая частка якога – уводна-ацэначная формула тыпу «нездарма ж людзі кажуць», «праўду людзі кажуць», «у народзе кажуць»: 1) *Нездарма ж кажуць, што ахвота горш за няволю* (М. Ваданосаў. Надзеі і спадзяванні); 2) *Праўду кажуць людзі: адклад не ідзе ў лад* (Л. Левановіч. Якар надзеі); 3) *У народзе кажуць: горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі* (І. Гурскі. Вецер веку); 4) *Праўду кажуць, што гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам абавязкова стрэнуцца* (Я. Васілёнак. Адзіночная камера).

Уключэнне прыказак у тэкст даволі часта ажыццяўляецца пры дапамозе іншых слоўных стылеўказальных агаворак (тыпу: «кажуць», «як кажуць», «як гаворыцца», «як той казаў», «і праўда ж» і г.д.). Некалькі прыкладаў: 1) *Як кажуць, бог не выдасць – свіння не з'есць* (І. Шамякін. Першы генерал); 2) *Як той казаў, вышэй самога сябе не скочыш* (К. Чорны. Зямля); 3) *І праўда: паспяшыш – людзей насмяшыш* (У. Ягоўдзік. Пугачова песня).

У вельмі многіх выпадках перад ужытай прыказкай ідзе прамая спасылка на гэты афарызм, які называецца то *прыказкай*, то *прымаўкай*. Сінтаксічная канструкцыя, утвораная такім чынам, – бяззлучнікавы складаны сказ, першая частка якога (са словам *прыказка* ці *прымаўка*) афармляецца па-рознаму: «Ёсць такая прыказка», «Прымаўка недарма гаворыць», «Вось дзе пацвердзілася прыказка», «Правільна кажа народная прымаўка» і г.д. Напрыклад: 1) *Ёсць такая прыказка: «Адзін Сцяпан – заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача»* (Я. Колас. На ростанях); 2) *У нас нават прымаўка пайшла ў народзе: шавец заўсёды без ботаў* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). Аналагічная спасылка можа быць і пасля папярэдне ўжытай прыказкі: «*Адна галава добра, а дзве лепей», – успомніў ён прыказку* (А. Якімовіч. Базылёў курган). Часам прыказка можа разрывацца пабочнай канструкцыяй: «*Не ўздыхай, – кажа беларуская прыказка, – чаго няма, то няхай»* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

Гаворачы пра адрозненне прыказак ад фразеалагізмаў, нельга пакінуць па-за ўвагай і той факт, што прыказкі з'яўляюцца дэрывацыйнай базай фразеалагізмаў, што на іх аснове сфарміравалася каля сотні фразеалагічных адзінак. Зразумела, што крыніцай узнікнення фразеалагізмаў бываюць толькі прыказкі, у якіх усе ці амаль усе кампаненты пераасэнсаваліся. Скарачэнне кампанентнага складу прыказак і ўтварэнне на іх аснове фразеалагізмаў – адзін з жывых працэсаў, што адбываюцца ў мове. Для адных выслоўяў працэс эліпсацыі ўжо закончаны, яны ўжываюцца толькі ў скарочаным выглядзе (як фразеалагізмы): *губа не дура* (з прыказкі *Губа не дура: знае, што прымае*), *і кнігі ў рукі* (з прыказкі *Пісьменнаму і кнігі ў рукі*) і шмат іншых. Другія ж выкарыстоўваюцца і ў скарочанай форме (як фразеалагізм), і ў поўнай (як прыказка). Пры гэтым ужыванне выслоўя ў няпоўнай форме становіцца ўсё больш тыповым для сучаснай беларускай мовы. Так, часцей ужываецца

фразеалагізм *абяцанка-цацанка*, чым прыказка *Абяцанка-цацанка, а дурню радасць*.

Сярод іншых прыказак, якім абавязаны сваім узнікненнем некаторыя фразеалагізмы[18], можна выдзеліць тры групы. Адны прыказкі расшчапіліся на дзве часткі, і кожная з іх ужываецца самастойна як фразеалагізм. Напрыклад, з прыказкі *Старога вераб'я на мякіне не правядзеш*, якая абазначае 'вопытнага чалавека не ашукаеш', утварыліся фразеалагізмы *стары верабей* і *на мякіне не правядзеш*. Адпаведна і значэнне прыказкі размеркавалася паміж двума яе фрагментамі ('вопытны чалавек' і 'не перахітрыш, не абдурыш каго-небудзь'). Другую групу складаюць прыказкі, ад якіх адарваўся толькі трапны выраз з некалькіх слоў і стаў фразеалагізмам. Так, «абломкам» прыказкі *Мая хата з краю, нічога не знаю* з'яўляецца фразеалагізм *хата з краю*, які заўсёды выступае ў функцыі галоўнага члена безасабовага сказа і сваё значэнне 'каго-небудзь зусім не датычыцца' рэалізуе, ужываючыся ў спалучэнні з тым ці іншым прыналежным займеннікам: *мая хата з краю* (А. Макаёнак), *твая хата з краю* (К. Крапіва), *яго хата з краю* (А. Бачыла), *яе хата з краю* (І. Навуменка), *наша хата з краю* (І. Гурскі), *ваша хата з краю* (А. Куляшоў), *іх хата з краю* (Х. Шынклер), *іхняя хата з краю* (М. Лынькоў).У трэцюю групу ўваходзяць прыказкі, вобразная аснова якіх стала дэрывацыйнай базай фразеалагізмаў. Напрыклад, фразеалагізм *кусаць сабе локці* сфарміраваўся на вобразнай аснове прыказкі *Блізка локаць, ды не ўкусіш*, як бы насуперак яе літаральнаму сэнсу.

Прыказкі ўсіх трох груп, даўшы жыццё фразеалагізмам, не перастаюць ужывацца і самастойна.

Варта асобна вылучыць чатыры прыказкі, якія, відаць, можна лічыць анамальнай з'явай, выключэннем з правіла. Маючы абсалютна аднолькавы кампанентны склад, яны ў адных выпадках выступаюць як прыказка з усімі ўласцівымі ёй рысамі, у другіх – як звычайны фразеалагізм. І гэта адбываецца таму, што яны развілі ў сабе спалучальныя магчымасці, набылі здольнасць быць структурным элементам сказа, уступаць у пэўныя сувязі і адносіны са словамі кантэксту (гл. пра гэта больш падрабязна ў слоўнікавых артыкулах *Кароль <жа> голы; Найшла каса на камень; Сэрца не камень; Язык без касцей*).

[18] Пра шматлікія і разнастайныя шляхі ўзнікнення фразеалагізмаў на аснове прыказак гл. больш падрабязна: Лепешаў І. Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў. – Мінск, 2004.

Як відаць са сказанага, прыказкі – моўныя адзінкі іншага парадку ў параўнанні з фразеалагізмамі, а таму няма ніякіх рэальных падстаў уключаць іх у раздзел «Фразеалогія». Прыказкі павінны апісвацца не ў фразеалагічных, а ў парэміяграфічных даведніках, у тлумачальных слоўніках прыказак. Думаецца, што прыказкі як моўныя адзінкі найбольш мэтазгодна разглядаць у асобным раздзеле, які здаўна існуе ў навуцы: парэміялогія. Праўда, гэты раздзел традыцыйна кваліфікуюць як састаўную частку фалькларыстыкі. Але паколькі прыказкі не толькі малы фальклорны жанр (гэта, так бы мовіць, з пункту гледжання іх паходжання), але і рэальна існуючыя моўныя адзінкі, то ёсць усе падставы выкарыстоўваць тэрмін «парэміялогія» і як назву аднаго з раздзелаў мовазнаўства. Адпаведна варта абазначаць тэрмінам «парэміяграфія» тэорыю і практыку складання тлумачальных слоўнікаў прыказак. Гэтак жа, як у мовазнаўстве існуюць раздзелы «Лексікалогія» і «Лексікаграфія», «Фразеалогія» і «Фразеаграфія», павінны быць у курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы і раздзелы «Парэміялогія» і «Парэміяграфія». У такім разе прыказкі перастануць быць беспрытульнымі і зоймуць сваё законнае, належнае ім месца ў курсе мовы як у вышэйшай, так і ў сярэдняй школе[19] .

Як вядома, тэрмін – гэта слова ці словазлучэне, якое дакладна абазначае, называе пэўнае паняцце і становіцца агульнапрынятым, як бы ўзаконьваецца ў якой-небудзь галіне навукі, тэхнікі і г.д. Прыказка – несумненны тэрмін. Яго сутнасць раскрываецца ў дэфініцыі. Пад яе павінны безагаворачна падпадаць кожная прыказка паасобку і ўсе, што ўваходзяць у парэмійны склад. Аднак калі звярнуцца да шматлікіх прыказкавых дэфініцый, што даюцца ў энцыклапедыях, іншых даведніках, падручніках, навучальных дапаможніках і г.д., дык бачым, што амаль пад кожную з іх ніяк не падыходзіць вялізнае мноства прыказак. Называецца, напрыклад, як адна з адметных рыс прыказкі яе «рытмічная арганізаванасць». Але ў адных прыказках рытм сапраўды мае месца: *Зняўшы галаву, па валасах не плачуць* (шасцістопны харэй); *Калі хата гарыць, не да пацераў* (чатырохстопны анапест). Другія ж прыказкі не маюць рытму: *Кашы маслам не сапсуеш; І баран бы касіў, каб хто касу насіў*. Гэтак жа прыказкі далёка не аднатыпныя паводле іншых

[19] Гл. пра падрабязную характарыстыку прыказак як моўных адзінак з семантычнага, этымалагічнага, граматычнага і стылістычнага пункту гледжання ў кнізе: Лепешаў І. Я. Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства. – Гродна: ГрДУ, 2006. 279 с.

нібыта адметных рыс. Не ўсе прыказкі вобразныя, не ўсе яны маюць «прамы і пераносны сэнс» або «адначасова літаральны і пераносна-вобразны план», не ўсе выражаюць суджэнне і не заўсёды з'яўляюцца выказамі павучальнага характару.

Можна, не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі, прапанаваць такое **азначэнне прыказкі**: устойлівае, узнаўляльнае, не менш як двухкампанентнае афарыстычнае, найчасцей поўнасцю або часткова алегарычнае закончанае выказванне звычайна павучальнага характару ў форме простага ці складанага сказа. Але і такое азначэнне патрабуе агаворкі. Праўда, яна датычыць зусім нязначнай часткі прыказак, якімі даецца якасная ацэнка асобе, не названай у самой прыказцы: *І за лучынку знойдзе прычынку; І за шчэпку знойдзе прычэпку*. Або прыказка *І сам не гам і другому не дам*, якая гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто сам не карыстаецца і іншым не дае карыстацца чым-небудзь.

Пад у с т о й л і в а с ц ю прыказкі разумеецца пастаянства яе зместу, а таксама часцей за ўсё кампанентнага складу і структуры. У з н а ў л я л ь н а с ц ь – гэта рэгулярная паўтаральнасць, выкарыстанне прыказкі як звычайнай моўнай адзінкі, якая не складаецца ў працэсе зносін, а выхопліваецца з памяці ў гатовым выглядзе. А ф а р ы с т ы ч н а с ц ь – гэта трапнасць, лаканічнасць, адшліфаванасць.

У шматлікіх працах, прысвечаных прыказкам, звычайна адзначаецца як адна з асноўных асаблівасцей прыказкі яе ўстойлівасць, пастаянства яе лексічнага складу. Калі ж назіраць за ўжываннем прыказак у маўленні, то можна бачыць, што далёка не ўсе яны, захоўваючы пастаянства свайго зместу, характарызуюцца ўстойлівасцю формы, нязменнасцю іх кампанентнага складу. Для значнай часткі прыказак (каля 40 %) характэрна з'ява варыянтнасці.

Пад **варыянтамі ў галіне парэміялогіі** разумеюцца агульнаўжывальныя разнавіднасці прыказкі, якія адрозніваюцца пэўнай структурнай зменнасцю плана выражэння пры нязменнасці плана зместу. Напрыклад, прыказка *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў* найчасцей ужываецца менавіта ў такім афармленні. Аднак, апрача гэтага, яна бытуе і ў іншых разнавіднасцях: *Не кажы гоп, не пераскочыўшы*; *Не пераскочыўшы, не кажы гоп; Не пераскочыў, не кажы гоп; Калі не пераскочыў, не кажы гоп*. Ва ўсіх сваіх варыянтах прыказка рэалізуе адно і тое ж значэнне 'не лічы што-небудзь зробленым, пакуль не давядзеш яго да канца' і непарушна захоўвае сваю непаўторную вобразную аснову. Гэтыя аба-

вязковыя дзве ўмовы і вызначаюць мяжу вар'іравання той ці іншай прыказкі.

У залежнасці ад таго, ш т о закранаецца вар'іраваннем, вылучаецца некалькі тыпаў прыказкавай варыянтнасці.

Адным з найбольш распаўсюджаных тыпаў з'яўляюцца лексічныя варыянты, якія адрозніваюцца адзін ад другога слоўнымі відазмяненнямі. У якасці непастаянных кампанентаў пэўнай прыказкі найчасцей ужываюцца сінанімічныя словы: *Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела; Слязамі гору (бядзе) не паможаш*. Нярэдка нараўне з агульнамоўнымі лексічнымі сінонімамі выкарыстоўваюцца і кантэкстуальныя, але гэта не ўплывае на змест прыказкі: *Лісліваe (ласкавае, пакорнае) цяля дзвюх матак ссе*. Лексічная варыянтнасць іншы раз распаўсюджваецца не на адзін кампанент, а на два і больш, напрыклад: *Груган гругану вока не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе) – Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе – Воран ворану вока не выклюе (не выдзеўбе, не клюе)*.

Другі тып – марфалагічныя варыянты. Яны адрозніваюцца адзін ад другога формамі прыказкавага кампанента (лікавай, склонавай, асабовай і інш.): *Сорам не дым, вачэй (вочы) не выесць; Ваўкоў (ваўка) баяцца – у лес не хадзіць*.

Трэці тып – словаўтваральныя варыянты. Яны адрозніваюцца адзін ад другога дэрывацыйнымі сродкамі (прыстаўкай, суфіксам): *Пажывём – пабачым (убачым); З ваўкамі жыць – па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць*.

Яшчэ адзін тып – сінтаксічныя варыянты. Ад прыказкі ў яе зыходнай форме яны адрозніваюцца відазмяненнямі сінтаксічнай канструкцыі. Так, прыказка *Клін клінам выбіваюць* структурна арганізавана як абагульнена-асабовы сказ, а яе сінтаксічны варыянт *Клін выбіваецца клінам* – як двухсастаўны сказ. У многіх выпадках адначасова адбываюцца і слоўныя відазмяненні або другі варыянт адрозніваецца ад першага большай або меншай колькасцю слоў-кампанентаў. Параўн., напрыклад, *Голаму разбой не страшан* і *Голы разбою не баіцца; Жывому наўме жывое* і *Жывы пра жывое <і> думае; Тапелец і за саломінку хапаецца* і *<Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца, Як топішся, дык і за саломінку хапаешся; У сям'і не без вырадка* і *Сям'я не без вырадка*. Варыянты *Старцу міля не круг* і *Для старца міля не круг*; *Глухому дзве абедні не служаць* і *Для глухога дзвюх абедней не служаць* больш мэтазгодна кваліфікаваць не як сінтаксічныя, а як марфалагічныя: яны адрозніваюцца склонавай і прыназоўнікава-склонавай формай

граматычна залежнага кампанента. Аналагічна, а менавіта як марфалагічныя варыянты, разглядаюцца такія ж разнавіднасці ў фразеалогіі: *цераз хлеб (ад хлеба) шукаць хлеб, адарваць гніламу (у гнілога) цяляці хвост, заламаць асінку (асінкай)*.

Досыць пашыраны тып – камбінаваныя варыянты (каля 150). Яны з'яўляюцца спалучэннем дзвюх і болей разнавіднасцей вар'іравання, апісаных вышэй. Напрыклад, у межах адной і той жа прыказкі бывае лексічная і словаўтваральная варыянтнасць: *Курачка (курыца) па зернятку клюе (збірае)*; лексічная і марфалагічная: *Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш*; лексічная і акцэнтна-фанетычная: *Маладзец супраць (супроць, сярод) авец, а супраць (супроць) малайца – сам аўца* і г.д.

Значна радзей у параўнанні з іншымі тыпамі варыянтнасці сустракаюцца фанетычныя варыянты. Яны адрозніваюцца невялікімі асаблівасцямі ў агаласоўцы аднаго кампанента: *Кось-кось (кося-кося, косю-косю), пакуль у аглоблі*. Рэдкаўжывальны тып – акцэнтна-фанетычныя варыянты, у якіх адзін з кампанентаў адрозніваецца месцам націску, што вядзе і да фанетычных змяненняў: *Дзвюм смерцям (смярцям) не бываць, а адной не мінаваць*.

У з'яве варыянтнасці назіраецца пэўная заканамернасць: чым прыказка больш мнагачленная, тым больш яна мае варыянтаў, і наадварот. Так, зусім не вар'іруюцца, напрыклад, такія параўнальна няшматкампанентныя прыказкі: *Адзін у полі не воін; Ад дабра дабра не шукаюць; Запас бяды не чыніць; На бязрыб'і і рак рыба*. Устойлівасцю характарызуюцца і многія шматкампанентныя прыказкі, часткі якіх звязаны ўнутранай рыфмай або рытмічнай арганізаванасцю: *Дружба дружбай, а служба службай; Зняўшы галаву, па валасах не плачуць; Якія самі, такія і сані*.

Існаванне пэўнай прыказкі ў двух і больш варыянтах пацвярджаецца прыкладамі з мастацкіх і публіцыстычных тэкстаў, а таксама фіксацыяй гэтых варыянтаў у зборніках беларускіх прыказак. Ад агульнанародных варыянтаў трэба адрозніваць **індывідуальна-аўтарскія варыяцыі** той ці іншай прыказкі, якія звычайна матывуюцца мастацкімі задачамі і разлічаныя на дасягненне пэўнага стылістычнага эфекту. Так, у п'есе Я. Коласа «У пушчах Палесся» сустракаем прыклад стылістычна абумоўленага змянення прыказкі *Гультай за работу – мазоль за руку*, у якой першы назоўнікавы кампанент замяняецца ўласным імем: *Саўка з выгляду просты чалавек, а натура яго панская: Саўка за работу, мазоль за руку*.

Індывідуальна-аўтарскія варыяцыі прыказак даволі часта сустракаюцца ў вершаваным маўленні. І гэта зразумела: вельмі цяжка ўключыць у тканіну паэтычных твораў прыказку, асабліва шматкампанентную, не падпарадкаваўшы яе адпаведным рытма-рыфмічным асаблівасцям вершаванага маўлення. Гэта выклікае і змяненні інверсійнага характару, і іншыя дэфармацыі, і ўключэнне слоў, узятых «збоку», каб запоўніць вершаваную прастору. Вось як, напрыклад, выкарыстана прыказка *У чужым воку саломку бачым, а ў сваім і бервяна не заўважаем* у вершы Я. Купалы «На тэму крытыкі і самакрытыкі»: *Пылінку бачым у суседа, ды што? – ў яго іх не адна! А ў сваім воку, даўнім следам, не заўважаем бервяна.*

Зразумела, што гэтыя і падобныя варыяцыі, апраўданыя ці дапушчальныя ў пэўным мастацкім творы, не могуць быць выкарыстаны ў тлумачальным слоўніку прыказак у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу, бо ўжытыя ў зmененай форме, нехарактэрнай для агульнанароднай мовы. Разам з тым яны вартыя таго, каб знайсці адлюстраванне ў адпаведнай частцы слоўнікавага артыкула як ілюстрацыі, якія паказваюць і такі магчымы спосаб рэалізацыі прыказак у маўленні.

Можна назіраць і яшчэ некаторыя асаблівасці ўжывання прыказак у маўленні, якія, аднак, **не з'яўляюцца індывідуальна-аўтарскімі**. Гэта, па-першае, скарочанае ўжыванне прыказкі, недагаворванне яе апошняй часткі. Персанаж ці аўтар разлічвае ў такім выпадку, што суразмоўнік ці чытач добра ведае прыказку ў яе поўным лексічным складзе і ў думках дапоўніць яе. Напрыклад: *Яна, можа, і не дала б ганьбы Рыбіну, але гэта ўжо будзе залежаць ад яго. Пад ляжачы камень...* (П. Пестрак. Серадзібор). Прыказка *Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды* часта ўжываецца ў скарочаным выглядзе – з недагаворваннем апошняга кампанента, з апушчэннем другой часткі або з апушчэннем другой часткі і дзеяслоўнага кампанента першай часткі: 1) *З таго часу, абы [Карзюк] выходзіў у горад – усё сціішка азіраўся паабапал. «Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам...»* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца); 2) *– Яшчэ раз дзякую. Можа, сустрэнемся яшчэ. – Няма за што дзякаваць, мілы чалавек, паслуга невялікая. А сустрэцца – не дзіва, гара з гарой не сходзіцца...* (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску); 3) *– Як кажуць, гара з гарою... – Вядома, чаго ў жыцці не бывае... – Можа, яшчэ і сустрэнемся калі, праўда* (Я. Васілёнак. Таццяна Ларына). Непаўната прыказкі на пісьме абазначаецца шматкроп'ем, а вымаўлен-

не такіх прыказак звычайна суправаджаецца інтанацыйнай незавершанасцю. Скарочанае выкарыстанне прыказак адлюстроўвае тыповую для вуснага маўлення з’яву і павінна кваліфікавацца як стылістычна не абумоўленае змяненне прыказак.

Па-другое, уключэнне ў прыказку пабочных слоў, зваротκаў, прыслоўяў часу *заўсёды*, *часам*, часціцы *маўляў*, якія не аказваюць уплыву на змест прыказкі: 1) *Золата, кажуць, і ў смецці блішчыць* (Я. Ермаловіч. Валуны); 2) *Чакай Пятра, чалавеча, – сыр з’ясі* (У. Паўлаў. Спелыя травы); 3) *Як ваўка ні кармі, ён заўсёды ў лес глядзіць* (М. Пянкрат. Буян); 4) *Каму невядома, што і ў сцен часам ёсць вушы* (В. Быкаў. Сотнікаў); 5) *За кампанію, маўляў, і цыган павесіўся* (Л. Гаўрылкін. Сорак кіламетраў роздуму).

Як яшчэ адну асаблівасць рэалізацыі прыказак у маўленні трэба назваць з’яву факультатыўнасці. Некаторыя прыказкі могуць ужывацца то ў поўным, то ў няпоўным складзе, пры гэтым абодва варыянты суадносяцца як раўнапраўныя, аднолькава дапушчальныя ў межах нормы. Неабавязковымі, факультатыўнымі могуць быць як асобныя словы, так і апошняя частка прыказкі. Вось некалькі прыкладаў, у якіх факультатыўная частка ўзята ў ломаныя дужкі: *Адзін з’еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>; <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду; Вышэй <самога> сябе не скочыш.* Факультатыўная частка некаторых прыказак ужываецца ўсё радзей і радзей. Так, прыказка *Да пары збан ваду носіць <ручка адарвецца – збан паб’ецца>* толькі 4 разы выкарыстана ў поўным лексічным складзе (у творах Л. Арабей, І. Гурскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Клімковіча) і 15 разоў – у скарочаным варыянце (у творах В. Адамчыка, А. Бялевіча, В. Вольскага, Ц. Гартнага, І. Гурскага, У. Корбана, Я. Купалы, Я. Курто, М. Лобана, А. Макаёнка, А. Маўзона, А. Махнача, М. Машары, І. Новікава, А. Якімовіча).

Многія прыказкі ўступаюць у сінанімічныя сувязі з іншымі прыказкамі. Адрозніваюцца сваёй вобразнай асновай, але маюць гранічна блізкае значэнне, напрыклад, такія прыказкі: *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адзін у полі не воін; Адна галавешка і ў печы тлее; Адной рукой і вузла не завяжаш*; *Адной рукой у далоні не пляснеш; Адным калом плота не падапрэш.*

Некаторыя прыказкі маюць не адно, а два значэнні. Так, прыказка *Блізка відаць, ды далёка дыбаць*, калі гаворыцца пра таго, хто ідзе ці едзе, абазначае ‘не так і блізка што-небудзь, як здаецца’. Яе

другое значэнне – ‘не так лёгка дасягнуць таго, пра што марыць хто-небудзь (пра цяжкасці выканання якой-небудзь задумы)’[20] .

Закранём яшчэ пытанні пра **падачу прыказак у парэміялагічных зборніках** і тлумачальных слоўніках.

Напачатку ўжо гаварылася, што беларускія прыказкі запісваліся і выдаваліся шматлікімі збіральнікамі фальклору пачынаючы з 1840 г., калі А. Рыпінскі апублікаваў 50 прыказак у кнізе «Беларусь», выдадзенай у Парыжы. У XIX ст. апублікавалі зборнікі прыказак ці падборкі ў зборніках Я. Чачот, Я. Тышкевіч, В. Дыбоўскі, Е. Раманаў, П. Шэйн, І. Насовіч, Е. Ляцкі, М. Нікіфароўскі і інш. Запісы прыказак і іх публікацыя працягваліся і ў далейшым, працягваюцца і ў наш час (працы М. Федароўскага, Ф. Янкоўскага, Т. Сцяшковіч, Я. Рапановіча і інш.).

На аснове ўсіх папярэдніх выданняў быў створаны навуковы сістэматызаваны звод «Прыказкі і прымаўкі» ў дзвюх кнігах (Мінск, 1976). У ім больш за 12 тысяч прыказак, згрупаваных у раздзелы «па асноўных сферах жыцця і быту народа». Але ў гэтых раздзелах вельмі многа прыказак, звязаных з назвай раздзела толькі этымалагічна або выпадкова, праз знешнія прыметы. Так, у раздзеле «Сельская гаспадарка» ёсць мноства прыказак, якія замацаваліся ў маўленні толькі ў пераносным значэнні і да сельскай гаспадаркі ніякіх адносін не маюць, напрыклад: *І баран бы касіў, каб хто касу насіў; Цераз сілу і конь не цягне; На лечаным кані далёка не заедзеш; Кабыла здыхае, а траву хапае*. Або ў раздзеле «Прырода, яе стыхіі і з’явы»: *З вялікага грому малы дождж бывае*; у раздзеле «Харчаванне»: *На бязрыб’і і рак рыба*. Пададзеная ў раздзеле «Жывёльны свет» прыказка *Ваўка ногі кормяць* дастасоўваецца не да ваўка, а толькі да людзей і абазначае ’каб пракарміцца, трэба шукаць харчы, турбавацца, а не сядзець на адным месцы’, таму ў складзе прыказкі яе кампаненты *воўк* і *ногі* страцілі свой першапачатковы сэнс, тут ужо зусім іншы *воўк* і не тыя *ногі*, як не тыя ў прыведзеных вышэй прыказках *баран, конь, кабыла, гром, дождж, рак, рыба* і г.д.

Чытач звяртаецца да зборніка прыказак не для таго, каб чытаць іх агулам, адну за другой, а найчасцей, каб выбраць з некалькіх адну, самую неабходную, ці каб пераканацца, у якой традыцый-

[20] Гл. пра гэта больш падрабязна: Яколцевич М. А. О многозначности пословиц // Переходные явления в области лексики и фразеологии русского и других славянских языков. – Великий Новгород, 2001. С. 110-111.

най форме яна замацавалася ў мове. Таму прынцып размяшчэння прыказак у зборніку павінен быць абумоўлены інтарэсамі чытача, зручнасцю ў карыстанні зборнікам і параўнальнай лёгкасцю знаходжання ў ім патрэбнай прыказкі.

У адных зборніках, гэтак жа як і ў згаданым акадэмічным зводзе, прыказкі аб'ядноўваюцца ў вялікія тэматычныя групы тыпу «Маральныя павучанні», «Вонкавы выгляд і сутнасць», «Відавочная ісціна», у другіх падаюцца па «галоўных», «апорных» словах, у трэціх – у алфавітным парадку. Здавалася б, размяшчэнне прыказак у алфавітным парадку – найлепшы прынцып, які палягчае пошукі той ці іншай прыказкі. Але гэта не так. Прыказкі – шматкампанентныя моўныя адзінкі, многія з іх дапускаюць свабодную перастаноўку сваіх кампанентаў (*Адна бяда не ходзіць – Бяда адна не ходзіць*), ужываюцца ў некалькіх варыянтах *(Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш – Не пераскочыўшы, не кажы гоп; Груган груганy вока не выдзеўбе – Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе; Старцу міля не круг – Для старца міля не круг),* могуць мець факультатыўныя словы *(<Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду)*. Усё гэта абцяжарвае знаходжанне шматлікіх прыказак у зборніку, калі яны даюцца ў алфавітным парадку.

Размяшчэнне прыказак у такіх зборніках патрабуе інакшага падыходу, пра што будзе сказана ў раздзеле «Пра структуру Слоўніка».

Яшчэ ў XIX ст. прыказкі сталі ўключацца ў тлумачальныя слоўнікі ў якасці ілюстрацый да значэння слоў. Гэта шырока выкарыстоўвае І. І. Насовіч у сваім «Слоўніку беларускай мовы» (СПб., 1870). Аднак такая практыка далёка не заўсёды апраўданая. Справа ў тым, што вялікая колькасць прыказак ужываецца толькі ў пераносным, алегарычным сэнсе. У такіх прыказках кампаненты страцілі сваё лексічнае значэнне, дэнататыўную накіраванасць, падпалі пад дэсемантызацыю. Напрыклад, у прыказцы *Перамелецца – мука будзе* зусім не пра муку ідзе гаворка; сэнс выказвання – 'усё дрэннае, непрыемнае з часам пройдзе, забудзецца'. Таму няма падставы ілюстраваць гэтай прыказкай значэнні слоў *перамалоцца, мука, быць*. Адзначым, дарэчы, што і У. І. Даль у сваім «Тлумачальным слоўніку жывой велікарускай мовы» выкарыстоўвае тысячы прыказак як ілюстрацыйны матэрыял да загаловачных слоў. Так, ілюстрацыяй да слова *каса* ў яго прамым значэнні 'ручная сельскагаспадарчая прылада для зразання травы, збожжа і пад.' выступае прыказка *Найшла каса на камень*. У падручніку па рускай мове для студэнтаў-філолагаў адносна такіх

ілюстрацый робіцца слушная крытычная заўвага: «У складзе прыказак тыпу *Найшла каса на камень* словы дэактуалізаваліся ў семантычных адносінах, а таму тут «не тая каса» і «не той камень»[21] .

Падобнае можна назіраць і ў «Слоўніку...» І. І. Насовіча. Так, слова *баразна* ілюструецца прыказкай *Стары конь баразны не сапсуе*. Складальнік «Слоўніка...», відаць, добра разумеў, што ў гэтай прыказцы *баразна* не мае прамой сувязі з загаловачным словам артыкула. Пра гэта сведчыць тое, што ў «Зборніку беларускіх прыказак» (СПб., 1874) І. І. Насовіч так перадаў абагульнены, алегарычны змест названай прыказкі: «Кажуць жартаўліва ў пахвалу старому, які добра распараджаецца». Такім чынам, пры ілюстрацыі прамых значэнняў слова прыказкай алегарычнага характару назіраецца відавочная супярэчнасць. І. І. Насовіч ва ўсіх выпадках алегарычныя народныя выказванні суправаджае паметай *посл.* (пословица), як бы папярэджваючы, што сувязь паміж прыказкай і загаловачным словам толькі фармальная ці толькі этымалагічная.

У некаторых выпадках на аснове кампанента з прыказкі алегарычнага характару І. І. Насовіч выводзіць лексічнае значэнне, нібыта ўласцівае загаловачнаму слову. Так, у слове *зязюлька*, апрача асноўнага значэння, перададзенага рускім *кукушка*, складальнік вылучыў яшчэ два, абазначыўшы іх як пераносныя: «2) *перан.* Любімая жанчына. *Начная зязюлька дзённую перакукуе*. Прыказка. Гаворыцца пра жонку, якая ў начной размове з мужам змяняе яго намеры і думку. 3) Сам голас зязюлькі. *Схавай дзенежку на зязюльку.* Павер'е: калі, першы раз вясною пачуўшы голас зязюлі, маеш у кішэні грошы, то на працягу цэлага года будзеш мецць іх». Але, безумоўна, і 'любімая жанчына', і 'сам голас зязюлькі' – не пастаянныя значэнні, а штучна вылучаныя з прыказкавага кантэксту. Яны не сталі фактам мовы і не былі ім у часы І. І. Насовіча. Таму іх вылучэнне ў слове *зязюлька* трэба лічыць памылковым.

На жаль, і ў сённяшняй лексікаграфічнай практыцы мае месца тая самая з'ява. Напрыклад, у пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (1977–1984) выкарыстана каля 400 прыказак у якасці ілюстрацый да слоў ці пэўных іх значэнняў. Так, значэнне слова *рак* 'прэснаводная жывёліна' падмацоўваецца прыказкай *На бязрыб'і і рак рыба*, сэнс якой – 'калі няма нічога лепшага, то прыходзіцца абмяжоўвацца тым, што ёсць'. Значэнні слоў

[21] Современный русский литературный язык / под ред. П. А. Леканта. – М., 1982. С. 72.

*цялятка*, *масла*, *гарбаты* ілюструюцца прыказкамі: *Ласкавае цялятка дзве маткі ссе; Кашы маслам не сапсуеш; Гарбатага магіла выправіць*. Аднак у прыведзеных прыказках «не той рак», «не тое цялятка», «не тое масла» і «не той гарбаты».

Прыкладна тое самае можна бачыць і ў аднатомным «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» (1996). Тут, напрыклад, назоўнік *кулік* тлумачыцца як ’невялікая балотная птушка з доўгімі нагамі’ і мае адзіны ілюстрацыйны прыклад (без паказу ў дужках, што перад намі прыказка): *Кожны кулік сваё балота хваліць*. Але гэты прыклад не выступае дадатковым сродкам семантычнай інфармацыі пра загаловачнае слова і не дае ніякага ўяўлення пра яго нарматыўнае ўжыванне ў маўленні. Больш таго, ён нават дэзынфармуе чытача. Яшчэ некалькі прыкладаў. Значэнне і ўжыванне слоў *каса, клін, кошка, рай, язык* праілюстравана прыказкамі *Найшла каса на камень; Клін клінам выбіваюць; Збродлівай кошцы хвост уцінаюць; Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць; Малако ў каровы на языку*.

Правільнае і дакладнае ўжыванне ў маўленні гэтых згусткаў народнай мудрасці могуць забяспечыць не ілюстрацыйныя прыклады і не зборнікі прыказак, а парэміяграфічныя даведнікі, **тлумачальныя слоўнікі прыказак**. І такія слоўнікі ў апошнія дзесяцігоддзі пабачылі свет: «Крынічнае слова» (Мінск, 1987) І. Шкраба і Р. Шкрабы, «Слоўнік беларускіх прыказак» (Мінск, 1996; 2002) І. Я. Лепешава і М. А. Якалцэвіч, «Слоўнік беларускіх прыказак, прымавак і крылатых выразаў» (Мінск, 1997) С. Ф. Івановай і Я. Я. Іванова. Думаецца, што складанне парэміяграфічных даведнікаў будзе працягвацца, таму хацелася б спыніцца на некаторых хібах у слоўніках такога тыпу. Іх, гэтыя хібы, варта ўлічваць і пры напісанні новых слоўнікаў, і найперш пры карыстанні даведнікамі цяпер, тым больш што, як пісаў А. М. Бабкін, «памылкі і промахі слоўнікаў і даведнікаў укараняюцца і ў далейшым набываюць сілу аўтарытэту»[22] .

1. Апісанне фразеалагізмаў у слоўніку прыказак. Як ужо гаварылася, фразеалагізмы адрозніваюцца ад прыказак па ўсіх параметрах. Аднак яны ўключаліся ва ўсе папярэднія парэміялагічныя зборнікі побач з прыказкамі і ў якасці нібыта прымавак. Больш за 1000 фразеалагізмаў трапіла ў акадэмічныя выданні – у раней

[22] Бабкин А. М. Русская фразеология, ее развитие и источники. – Л., 1970. С. 140.

памянёны двухтомны звод прыказак і прымавак і ў «Выслоўі» (Мінск, 1979). І. і Р. Шкрабы імкнуліся пераадолець гэтую даўнюю традыцыю, але і ў іх «Крынічным слове» знаходзім каля 30 фразеалагізмаў: *давай бог ногі, з гразі ды ў князі, з плеч ды ў печ, не верыць сваім вачам, не першы год замужам, пасаліўшы можна есці* і інш.

Некаторыя з гэтых фразеалагізмаў, апісаных у «Крынічным слове» як прыказкі, перавандравалі ў «Слоўнік...» С. і Я. Івановых. Напрыклад, выраз *пасаліўшы можна есці* ў абодвух даведніках атрымаў такую семантычную характарыстыку ў форме не словазлучэння, а закончанага выказвання (сказа): у першым – «нешта зроблена не надта добра, але прыстойна...», у другім – «усё здаецца нядрэнным, прывабным, калі знарок не зважаць на недахопы». На самай справе гэта прыметнікавы фразеалагізм, які ўжываецца як азначэнне ці выказнік у адносінах да асобы, канкрэтнага або абстрактнага прадмета і абазначае ’не дрэнны і не добры, сярэдні, пасрэдны’, што можна пацвердзіць, скажам, такімі цытатамі-ілюстрацыямі: *– Новых п’ес у вас не густа, чым мая вам не да густу? – Калі справа йдзе аб змесце, пасаліўшы можна есці* (К. Крапіва); *Звычайныя заводскія, фабрычныя дзяўчаты, якіх тузін на фунт сушаных. – Пасаліўшы есці можна, – ацаніў Жорка* (В. Казько); *Нічога, бяры, пасаліўшы есці можна* (Г. Юрчанка); *«Добрых і розных» вершаў у «Дні паэзіі» багата, іх больш, чым вершаў-сераднячкоў, пра якія звычайна гавораць «так сабе», «пасаліўшы есці можна»* (Н. Гілевіч).

У «Слоўніку...» С. і Я. Івановых фразеалагізмы выступаюць як нешта двухаблічнае: апісваюцца ў якасці прыказак з іх груваcткім тлумачэннем і тут жа супастаўляюцца з фразеалагізмамі аднолькавага гучання. Напрыклад, нібыта прыказка *Паспееш з козамі на торг* семантызуецца як ’заўжды паспееш зрабіць тое, што можна зрабіць у любы час’ і параўноўваецца з такім жа дзеяслоўным фразеалагізмам са значэннем ‘не спяшайся, няма чаго спяшацца’.

2. Падача індывідуальнай варыяцыі якой-небудзь прыказкі ў творы аднаго аўтара ў якасці агульнапрынятай, агульнамоўнай прыказкі. Так, Р. Барадулін на вобразнай аснове прыказкі *Лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе* стварае метафарычны кантэкст, у якім ёсць і *Бачаннем не зловіш жураўля*. Але гэта не прыказка. Тое самае, напрыклад, і ў паэме «Новая зямля» Я. Коласа: *Тады толькі пан, калі добра я п’ян*. Або ў рамане І. Мележа «Людзі на балоце», дзе Сарока амаль заўсёды гаворыць у рыфму, часам пе-

райначваючы прыказку: *Лёгка сказаць, ды далёка дыбаць*. Гэтак жа беспадстаўна падаюцца ў якасці загаловачных у слоўнікавых артыкулах і многія іншыя аўтарскія варыяцыі прыказак: *І дурань ведае, што ў нядзелю свята* (замест *І без папа ведаюць, што ў нядзелю свята*); *Дзе прапала кароўка, там прападай вяроўка* (замест *Прапала кароўка, прападай і вяроўка*); *Добрае карэнне, добрае і насенне* (замест *Якое карэнне, такое і насенне*) і г. д.

3. Уключэнне ў загаловак слоўнікавага артыкула і апісанне маўленчых адзінак пэўнага аўтара, абумоўленых кантэкстам. У п’есе К. Крапівы «Канец дружбы» камсамолка Зося ў час хлебанарыхтовак гаворыць пра Лютынскага (ён у *акулярах*), які спачувальна паставіўся да селяніна: «Чатыры вокі мае, але трасцу бачыць». І гэту рэпліку, дастасаваную да канкрэтнай сітуацыі і да канкрэтнага чалавека ў акулярах, аўтары «Слоўніка...» (услед за аўтарамі «Крынічнага слова») падаюць як прыказку. Ёсць і адпаведнае тлумачэнне гэтай нібыта прыказкі: «Нават і той, хто павінен бачыць больш за іншых, можа не бачыць таго, што відавочна». У якасці прыказак апісваюцца, напрыклад, і такія выкліканыя пэўнай маўленчай сітуацыяй індывідуальныя выказванні, як *Не падганяй, бо не вельмі паедзеш* (В. Адамчык); *Ад жыгучкі трымай далей ручкі* (У. Дубоўка).

4. Варыянты адной і той жа прыказкі нярэдка апісваюцца не ў адным слоўнікавым артыкуле, а ў двух. Паколькі многія прыказкі існуюць у некалькіх разнавіднасцях-варыянтах, перавага павінна аддавацца асноўнаму, найбольш ужывальнаму варыянту. Ён вызначаецца колькасцю пацвярджальных ілюстрацыйных прыкладаў-цытат з картатэкі складальніка, а таксама паказчыкамі акадэмічнага зводу прыказак. Іншыя варыянты (лексічныя, марфалагічныя, словаўтваральныя, фанетычныя і акцэнтна-фанетычныя) пры наяўнасці ў картатэцы адпаведнага ілюстрацыйнага матэрыялу павінны знаходзіць адлюстраванне ў загаловачнай прыказцы. Што да сінтаксічных, а часам і некаторых іншых варыянтаў, то з-за немагчымасці падаць іх у загалоўку яны прыводзяцца ўнутры слоўнікавага артыкула пасля апісальнай і ілюстрацыйнай частак, звязаных з загаловачнай прыказкай.

5. Недакладная семантызацыя прыказак. Асабліва часта гэта назіраецца ў «Слоўніку...» С. і Я. Івановых. Аўтары паставілі перад сабой непасільную і непатрэбную мэту: даць кожнай прыказцы семантычную і сітуацыйную характарыстыку. А між тым многія прыказкі не маюць пераноснага сэнсу і таму не

патрабуюць тлумачэння. *Канюшына – каню сіла* дастасоўваецца толькі да канюшыны, што і пацвярджаецца адпаведнай цытатай з твора М. Лужаніна. Аднак у «Слоўніку...» чытаем шасцірадковае «філасафічнае» тлумачэнне: «Кожнаму патрэбныя пэўныя ўмовы для самавыяўлення ўласцівых яму якасцей. Гаворыцца, калі хто-н. атрымлівае ўволю або, наадварот, недаатрымлівае тое, што...» І гэтак далей. Не мае патрэбы ў тлумачэнні, напрыклад, і прыказка *Муж і жонка – найлепшая сполка*, але атрымлівае яго (аж 8 радкоў).

У прыказцы *Багатаму чорт дзяцей калыша* першы кампанент захоўвае сваё літаральнае значэнне. Яе сэнс – ’багатаму ўсё ўдаецца, ва ўсім шанцуе’. А С. і Я. Івановы, даючы волю фантазіі і ўводзячы чытача ў зман, семантызуюць прыказку так: «Звычайна ўдача спадарожнічае таму, хто і без таго не пакрыўджаны лёсам, а ўсе бядоты навальваюцца на таго, каму і так несалодка жывецца...»

Пры семантызацыі прыказак алегарычнага характару тлумачэнне найчасцей ажыццяўляецца паводле прынцыпу «падобнае падобным». Яно не павінна ўтрымліваць семантычных элементаў, якіх няма ў сэнсавай структуры самой прыказкі. Семантызуючы змест прыказкі *Не да пацераў, калі хата гарыць*, варта і ў тлумачэнні захоўваць сінтаксічную схему прыказкі: ’не час каму-н. займацца чымсьці высокім, аддаленым, калі самому крута прыходзіцца’. Параўн., як тлумачаць гэту прыказку С. і Я. Івановы, ускладняючы яе змест тым, чаго ў ёй няма: ’калі неабходна рашуча змагацца з ударамі лёсу, не трэба наракаць на долю, траціць час на роспач’. Аналагічных прыкладаў адвольнага, шматслоўнага тлумачэння прыказак у «Слоўніку...» мноства.

Прыказкі толькі ў рэдкіх выпадках маюць не адно, а два значэнні, прычым першае звычайна прамое, літаральнае, а другое – пераноснае. Складальнікі ж «Слоўніка...» штучна выдзяляюць у шэрагу адназначных прыказак па два значэнні. Прыказка *Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку* заўсёды адрасуецца таму, хто, будучы непрыбраным, няёмка адчувае сябе перад чужым чалавекам. У «Слоўніку...» ж яна двухзначная: 1) добра вядомае лёгка распазнаецца ў любым абліччы; 2) сапраўды выдатнае па сваіх якасцях абавязкова будзе заўважана і адпаведна ацэнена, нягледзячы на яго знешні выгляд. Але прыведзеныя ілюстрацыйныя прыклады не толькі не пацвярджаюць гэтага, а, наадварот, бясспрэчна паказваюць, што прыказка адназначная.

Некаторыя прыказкі апрача семантычнай (лагічнай) характарыстыкі маюць патрэбу і ў сітуацыйнай характарыстыцы. У такіх выпадках коратка раскрываецца сітуацыя, у якой ужываецца пэўная прыказка. У даведніку С. і Я. Івановых усе прыказкі забяспечваюцца сітуацыйнай характарыстыкай, а многім з іх беспадстаўна даецца па дзве такія характарыстыкі – за кошт шырокага кантэксту, у якім рэалізуецца прыказка. Напрыклад, *Баязліваму і корч мядзведзь* нібыта выкарыстоўваецца ў такіх дзвюх, па сутнасці, тоесных сітуацыях: 1) гаворыцца, калі хто-н. палохаецца таго, што не ўяўляе сабой ніякай небяспекі; 2) гаворыцца, калі хто-н. занадта перабольшвае якую-н. небяспеку.

Вызначыць сэнс вельмі многіх прыказак без апоры на іх рэальнае ўжыванне, без адпаведных маўленчых кантэкстаў, а толькі шляхам абстрактных разважанняў, гіпатэтычна – рызыкоўная і далёка не заўсёды паспяховая справа. Менавіта з гэтым сутыкаемся ў раней названай кнізе А. Аксамітава «Прыказкі і прымаўкі», якая мае падзагаловак «Тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак». Тут сотні няправільна растлумачаных прыказак. Так, прыказка *Абяцанка-цацанка, а дурному радасць*, як паказваюць кантэксты яе рэалізацыі, абазначае ‘няма надзей на здзяйсненне абяцанага’, а ў слоўніку А. Аксамітава апісанне прыказкі зводзіцца да пераліку толькі некалькіх магчымых маўленчых сітуацый яе праяўлення: «Гэтак высмейваюць простага паслухмянага чалавека, які паверыў абяцанкам ашуканца. Таксама прамаўляе насмешна ашуканы чалавек, якога цешаць абяцанкамі, на здзяйсненне якіх няма ніякіх надзей. Кажуць з неадабрэннем, калі не вераць у хуткае выкананне абяцання».

Сэнсавы змест прыказкі *Старой бабцы хораша ў шапцы* такі: ‘старому чалавеку неабавязкова быць добра прыбраным, прыгожа адзетым’. У слоўніку ж А. Аксамітава знаходзім наступнае тлумачэнне: «Раней старыя беларускія жанчыны насілі шапкі-каптуры. Цэняць не тое, што на галаве, а што ў галаве» (с. 95). Прыказка *Мыш капы не баіцца* мае ў даведніку А. Аксамітава такое паясненне: «Насмешліва кажуць, калі нехта, імкнучыся быццам бы пакараць каго-небудзь, стварае яму спрыяльныя ўмовы, пускае вінаватага ў асяроддзе пражывання» (с. 254). У сапраўднасці ж гэта прыказка двухзначная: 1) гаворыцца ў дачыненні да жанчыны, несуадноснай па камплекцыі з мужчынам; 2) кажуць, часам іранічна, калі хто-небудзь не баіцца мацнейшага за сябе працаўніка.

Прыказка *Лепей старожа, чым варожа* гаворыцца як парада лепей дзейнічаць асцярожна, чым рызыкаваць, а ў памянёным слоўніку яна прыводзіцца двойчы з недакладным тлумачэннем яе сэнсу: «Прамаўляе дбайны селянін, лічачы, што лепей страціць час на вартаваннне сваёй гаспадаркі, чым быць абрабаваным» і «Лепей вартаваць, чым думаць, што не ўкрадуць». *Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць* – прыказка пра непазбежнасць раскрыцця таго, што было чыёй-небудзь тайнай. У тым жа слоўніку яна растлумачана так: «У лесе адзываецца рэха, а ў полі далёка відаць». Няправільную семантызацыю атрымалі тут і такія, напрыклад, прыказкі (гэта трэба ўлічваць пры карыстанні слоўнікам): *Ад напасці не прапасці; Бог не слухае, што свіння рухкае; Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй; Над сіратою Бог з калітою; На сваім сметніку і певень гаспадар; Не адзін Гаўрыла ў Полацку; Не даў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць; Пераначуем – болей пачуем; Хацела б душа ў рай, але грахі не пускаюць.*

6. Неабгрунтаваны падбор іншамоўных адпаведнікаў да пэўнай прыказкі. Гэта можна бачыць найперш у «Малым руска-беларускім слоўніку прыказак, прымавак і фразем» (Мінск, 1991) З. Санько. Як вядома, асноўным прынцыпам, якім кіруюцца пры складанні перакладнога слоўніка, з'яўляецца вызначэнне, падбор найбольш дакладнага эквівалента да моўнай адзінкі, што перакладаецца з адной мовы на другую. Калі прыказка не мае прамога аналага, то падбіраюць блізкі ў сэнсавых і стылістычных адносінах адпаведнік і абазначаюць гэта ў слоўніку спецыяльным знакам прыблізнага падабенства (..).

З. Санько далёка не заўсёды прытрымліваецца названага прынцыпу. Гэта можна было б праілюстраваць дзясяткамі прыкладаў. Вось толькі адзін з іх. Руская прыказка *Куй железо, пока горячо* перакладаецца не адным, як гэта прынята, адпаведнікам, а шасцю, першы з якіх *Касі, каса, пакуль раса*. Але, па-першае, прамым аналагам рускай прыказкі з'яўляецца беларуская *Куй жалеза, пакуль гарачае* (яна ёсць у зборніках М. Федароўскага, Ф. Янкоўскага, акадэмічным двухтомніку прыказак, у шмат якіх іншых даведніках, ужываецца ў творах Я. Коласа, С. Александровіча, М. Гамолкі, П. Місько, Б. Сачанкі, В. Гігевіча, А. Дзятлава, іншых аўтараў і, дарэчы, перайшла ў многія мовы як калька з лацінскай мовы). Гэта прыказка – алегарычнага характару і мае толькі пераноснае значэнне 'спяшайся рабіць што-небудзь, пакуль ёсць спрыяльныя ўмовы'. Па-другое, *Касі, каса, пакуль раса* ніяк не можа

быць эквівалентам папярэдняй прыказкі, бо не мае пераноснага, вобразнага сэнсу, а заўсёды ўжываецца толькі ў прамым значэнні, у дачыненні да касца (дарэчы, тое самае ў рускай і ўкраінскай мовах): *Марцін падаўся разам з хлопцамі да Андрэя, які дабіваў апошні пракос. Дзядзька весела сказаў: – Касі, каса, пакуль раса, раса далоў, касец дамоў!* (Я. Колас).

Аналагічны адвольны падбор адпаведнікаў назіраецца і ў «Слоўніку...» С. і Я. Івановых, толькі тут, наадварот, да беларускіх загаловачных прыказак падбіраюцца рускія паралелі. Але найчасцей гэта несуадносныя адзінкі. Напрыклад, да беларускай прыказкі *Чым чорт не араў, тым і сеяць не стаў*, што значыць ’няхай так і будзе; варта рызыкнуць’, прыраўноўваецца руская *Бог не выдаст – свинья не съест*, сэнс якой – ’нічога кепскага не павінна здарыцца’. У многіх выпадках беларуская прыказка атрымлівае не адзін сапраўдны эквівалент, а тры-шэсць. Але звычайна такі падбор можна кваліфікаваць толькі як недарэчны. Ды і прыказкі павучаюць: «Што задужа, то не здрова» і «Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж».

Коратка спынімся на дзвюх прыказкавых групах, якія знаходзяцца па-за межамі парэмійна-семантычных груп, належаць, відаць, да асобных тэматычных разрадаў і могуць быць супрацьпастаўлены ўсяму прыказкаваму складу мовы.

Першая група – **сітуацыйныя прыказкі**. Іх больш за 350. Яны ўжываюцца ў строга акрэсленых сітуацыях. Напрыклад, прыказка *Бог тройцу любіць* гаворыцца як прапанова зрабіць штонебудзь трэці раз ці ў апраўданне чаго- ці каго-небудзь трэцяга. Між іншым, тут кампанент *тройцу* двухсэнсавы, адным сваім, падтэкставым, прыхаваным, значэннем ён асацыюецца са святам хрысціянскай царквы. Прыказка *Аржаная каша сама сябе хваліць* гаворыцца з насмешкай пра таго, хто сам сябе хваліць, а *Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю* ўжываецца як адмоўная рэакцыя на чые-небудзь непрымальныя дзеянні выпраміць, выправіць, падправіць штосьці, якія могуць прывесці да горшага выніку.

Ужываючыся ў пэўнай сітуацыі, такія прыказкі перадаюць якое-небудзь суджэнне. І толькі ў рэдкіх, адзінкавых выпадках яны не маюць прадметна-паняццевага зместу і выкарыстоўваюцца як сітуацыйна абумоўленыя стэрэатыпныя, шаблонныя выказванні. Так, сінанімічныя прыказкі *За пастой грошы не плацяць* і *У нагах праўды няма* гаворацца пры запрашэнні сесці, напрыклад: «Ся-

дай, мой мілы, мой харошы, бо за пастой не плацяць грошы» (Я. Колас); «– Сядай, дружа, – пачулася з кутка. – У нагах праўды няма» (І. Новікаў).

Сітуацыйнымі прыказкамі перадаецца суджэнне прыватнага характару, дарэчнае толькі ў строга акрэсленай сітуацыі. Напрыклад, сэнс прыказкі *Салаўя байкамі не кормяць* можна перадаць сказам ‘размовамі сыты не будзеш’, і гаворыцца яна, калі, перапыняючы размову, запрашаюць госця да стала. *Аддай рукамі, а хадзі нагамі* – так з абурэннем кажуць пра таго, хто доўга не вяртае пазычанага і да каго прыходзіцца хадзіць, нагадваючы пра пазычку. *Ад работы коні дохнуць* – кажуць, часам жартаўліва, у апраўданне сваёй ці чыёй-небудзь бяздзейнасці або тады, калі хочуць перастаць рабіць што-небудзь, перапыніць работу.

Большасць сітуацыйных прыказак пры іх апісанні ў парэміяграфічных слоўніках атрымлівае ці павінна атрымліваць падвойную характарыстыку – лагічную (сэнсавую) і сітуацыйную: *Грозен рак, ды вочы ззаду*. Няма чаго баяцца каго-небудзь. Насмешлівы адказ на чые-небудзь пагрозы; *Чыя б кароўка мычала, а твая маўчала*. Не табе пра гэта гаварыць. Кажуць з незадавальненнем у адказ на папрок, абвінавачванне таго, хто сам чым-небудзь абняславіў, запляміў сябе.

Другая група – **кантэкстуальныя прыказкі**. Іх больш за 30. Яны, у адрозненне ад іншых прыказак, у тым ліку і сітуацыйных, ужываюцца толькі ў дыялагічным маўленні звычайна як адмоўная рэакцыя на якое-небудзь слова ў папярэднім выказванні суразмоўніка. У прыказцы-рэпліцы, выкліканай гэтым словам-стымулам, нярэдка ёсць такое ж слова-кампанент, часцей сэнсава тоеснае з ім.

Так, прыказка *Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так* мае сэнс ‘няма чаго ўспамінаць тое, што было калісьці’ і ўжываецца як іранічная рэакцыя на слова *бывала* пры спробе суразмоўніка супаставіць што-небудзь ранейшае з сучасным. Напрыклад: «– Даўней такога не здаралася. Бывала, неяк шанавалі, паважалі адзін другога. – Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так, – перадражніла Маланку Верка» (Л. Калодзежны).

Такімі прыказкамі, ужыванне якіх абмежавана пэўным кантэкстам, выказваюцца розныя, часцей неадабральныя адносіны да пачутага ад суразмоўніка (незадавальненне, абурэнне, іронія і інш.). Так, прыказка *Грэх у мех, грашаняты ў торбу* ўжываецца як адмоўная рэакцыя на слова *грэх* у папярэняй рэпліцы; напрык-

лад, у рамане К. Крапівы «Мядзведзічы»: «– А граху гэта ты не баішся? – Грэх у мех, грашаняты ў торбу. Годзе ўжо ўсіх баяцца!».

Пададзім некалькі кантэкстуальных прыказак з паказам перад імі (праз працяжнік) слова, якім стымулюецца ўжыванне пэўнай прыказкі: дарам, задарам – *Задарам і скулка не сядзе*; думаць, падумаць – *Індык думаў, думаў ды здох, Хай конь думае: у яго галава большая (вялікая)*; каб – *Каб ды кабы, дык у роце раслі б грыбы*; бог – *На бога спадзявайся, а сам не давайся*; так – *Так нічога не бывае <усё за грошы>*; моцны, вялікі – *Турма моцная (вялікая), але ніхто не хоча там быць*; Маруся – *На Беларусі ўсе Марусі*; чорт – *У чорта спіна сцёрта*.

Амаль усе кантэкстуальныя прыказкі, як часткова паказвалася на прыкладзе *Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так*, з'яўляюцца не толькі стандартнымі адказамі на пытанне ці рэплікай-адказам на папярэдняе выказванне, але і выконваюць інфармацыйную функцыю, часам агульнага, неакрэсленага характару. Так, *Задарма і скулка не сядзе* абазначае 'задарма, бясплатна нічога не робіцца', *Чуткамі зямля поўніцца* – 'чуткі, весткі пра каго- ці што-небудзь дайшлі і да нас', *Ад ліха ціха, а дабра не чуваць* – 'нічога асаблівага, ні дрэннага, ні добрага, не чуваць'. У стварэнні інфармацыйнасці ўдзельнічаюць і вобразныя парэмійныя часткі, як напрыклад, *зямля поўніцца* ў другой з прыведзеных вышэй прыказак.

# ПРА СТРУКТУРУ СЛОЎНІКА

Пры складанні гэтага Слоўніка аўтары ўлічылі вопыт сваіх папярэднікаў.

У гісторыі збірання і асэнсавання беларускіх прыказак самая значная з'ява – «Зборнік беларускіх прыказак» (СПб., 1874) І. І. Насовіча. У адрозненне ад іншых фалькларыстаў І. І. Насовіч не проста падае ў алфавітнай паслядоўнасці сабраныя ім прыказкі, але і раскрывае іх сэнс. Таму яго працу слушна лічаць першым у гісторыі ўсходнеславянскай філалогіі тлумачальным слоўнікам прыказак. У ім 3715 прыказак і прымавак (фразеалагізмаў). Амаль усе яны атрымалі семантычную або сітуацыйную характарыстыку. Так, сэнсавы змест прыказкі *Дараванаму каню ў зубы не глядзяць* раскрываецца наступным чынам: «Недахопаў падарунка не разбіраюць». Часцей за ўсё паведамляецца сітуацыя, у якой ужываецца прыказка («Кажуць наконт...», «Гаворыцца, калі...», «Кажуць з выпадку...» і пад.). Іншы раз да сітуацыйнай далучаецца і стылістычная характарыстыка (тыпу: *з насмешкай, жартаўліва, у пахвалу, з жальбай* і інш.). Вось як апісана, напрыклад, прыказка *Каждаму старцу па стаўцу*: «З прыкрасцю гавораць гаспадыні, калі сям'я не адначасова збіраецца да стала і даводзіцца даваць есці кожнаму паасобку».

Яшчэ адна праца – «Крынічнае слова» (Мінск, 1987) І. Шкраба і Р. Шкрабы. Гэта тлумачальны слоўнік прыказак, «якія выкарыстоўваюцца ў беларускай мастацкай літаратуры». Тут каля 750 прыказак (разам з варыянтамі, а таксама некалькімі дзясяткамі фразеалагізмаў тыпу: *давай бог ногі, не першы год замужам*). Кожная прыказка ілюструецца прыкладам ці прыкладамі яе ўжывання. Калі прыказка мае пераносны сэнс, то яна атрымлівае адпаведнае тлумачэнне. Напрыклад, прыказка *Да пары збан ваду носіць* растлумачана так: «Усё мае канец. Часам гаворыцца ў якасці асуджэння: як бы чалавек ні ўтойваў свае намеры або свае ўчынкі, усё ўрэшце выйдзе наверх». Далей у слоўнікавым артыкуле ідуць дзве ілюстрацыі з твораў Я. Коласа і А. Жука. На сэнсавую блізкасць асобных прыказак паказваюць паметы «тое самае, што» або «параўн.».

У «Тлумачальным слоўніку прыказак» апісана каля 1800 прыказак, якія ўжываюцца ў сучасным літаратурным маўленні як моўныя адзінкі, суадносныя са сказам. Гэта, як правіла, афарызмы народнага паходжання, што склаліся непасрэдна ў мове белару-

саў. Некаторыя прыказкі перайшлі ў нашу мову з іншых моў як запазычанні ці калькі або паўкалькі, напрыклад: *Іван ківае на Пятра <а Пётр на Івана>* – запазычанне з рускай мовы; *Што задужа, то не здрова* – паўкалька з польскай мовы; *Няпрошаны госць горш за татарына* – паўкалька з рускай мовы; *Рука руку мые* – калька з лацінскай мовы; *Прывычка – другая натура* – паўкалька з лацінскай мовы; *Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку* – недакладная калька з англійскай мовы; *Добра смяецца той, хто смяецца апошні* – калька з французскай мовы. І толькі асобныя выслоўі, уключаныя ў Слоўнік, паводле сферы свайго першапачатковага ўжывання з'яўляюцца афарызмамі кніжнага паходжання, крылатымі выразамі, якія адарваліся ад сваёй літаратурнай крыніцы і цяпер успрымаюцца як звычайныя прыказкі, фіксуюцца ў парэміялагічных зборніках (гл., напрыклад: *Апетыт прыходзіць у час яды; З мілым рай і ў шалашы; Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала; Кропля камень крышыць; Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці*).

Крыніцай Слоўніка стала картатэка, створаная аўтарамі шляхам франтальнага і выбарачнага распісвання мастацкай і публіцыстычнай літаратуры галоўным чынам XX ст. (выкарыстаны творы 380 пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў). Амаль усе прыказкі, што ўвайшлі ў Слоўнік, зарэгістраваны ў парэміялагічных зборніках або ў лексікаграфічных даведніках.

Кожная прыказка з усімі ўласцівымі ёй варыянтамі апісваецца ў асобным слоўнікавым артыкуле, які складаецца з наступных элементаў: а) загаловачнай прыказкі; б) семантычнай, а пры неабходнасці – сітуацыйнай і стылістычнай характарыстыкі (з паказам, дзе гэта магчыма, сінанімічных сувязей пэўнай прыказкі з іншымі); в) ілюстрацыйнага матэрыялу; г) даведачнай часткі.

Загаловачныя прыказкі размешчаны ў алфавітным парадку, пры гэтым у алфавіце ўлічваюцца як іх варыянты, так і факультатыўная частка.

З а г а л о в а ч н а я  п р ы к а з к а. Яна прыводзіцца ў найбольш тыповай форме. Месца націску ў кампанентах загаловачнай прыказкі абазначаецца толькі ў асобных выпадках, калі неабходна папярэдзіць розначытанне:

**Адзін і ў ка́шы няспорны.**
**Гора толькі ра́ка красіць.**
**Дачка ў пары́ – не трымай у двары.**

Лексічныя, марфалагічныя, словаўтваральныя, фанетычныя і акцэнтна-фанетычныя варыянты прыказак уключаюцца ў загаловак і даюцца ў круглых дужках:

**Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць).**

**З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон.**

**Каму шанцуе (пашанцуе), той і ў лапцях танцуе.**

**Кось-кось (арся-кося, косю-косю), пакуль у аглоблі.**

**Невучоны (нявучаны) як сляпы**.

Што да сінтаксічных і некаторых іншых варыянтаў, то іх звычайна нельга адлюстраваць у загалоўку. Таму яны прыводзяцца ўнутры слоўнікавага артыкула паўтлустым (як і ў загалоўку) шрыфтам. Напрыклад,у артыкуле **У сям'і не без вырадка** пасля загаловачнай прыказкі ідзе яе апісанне (семантычная характарыстыка з паказам сінанімічных сувязей) і ілюстрацыйны матэрыял, а затым даецца сінтаксічны варыянт **Сям'я не без вырадка**, які таксама ілюструецца адпаведнымі прыкладамі. Параўн. таксама: загаловачная прыказка **Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра** і варыянт **Хто заб'е бабра, не будзе мець дабра**.

Варыянты, уключаныя ў загаловак або пададзеныя ўнутры слоўнікавага артыкула, прыводзяцца і на адпаведным месцы агульнага алфавіта з адсылкай да асноўнай (зыходнай) формы. Напрыклад:

**Адвага гарады бярэ.** *Гл.* Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.

**Аўчына вырабу не варта.** *Гл.* Не варта шкурка вырабу.

**Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.** *Гл.* Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш, а назад не вернешся.

**Не злоўлены – не злодзей.** *Гл.* Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.

Факультатыўная частка прыказкі бярэцца ў ломаныя дужкі:

**За <аднаго> бітага двух нябітых даюць.**

**Старасць не радасць <а горб не карысць>.**

У дачыненні да загаловачных прыказак, якія пачынаюцца з факультатыўнага слова, таксама выкарыстоўваецца сістэма адсылак:

**Лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.** *Гл.* <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.

С е м а н т ы ч н а я  і  с і т у а ц ы й н а я  х а р а к т а р ы с т ы к а. Прыказкі паводле іх семантыкі, як ужо гаварылася ў «Прадмове», падзяляюцца на тры групы і ў гэтай сувязі тлумачацца з улікам іх сэнсавай матываванасці.

Пераважная большасць прыказак рэалізуецца з поўным ці частковым пераносным сэнсам, а таму мае патрэбу ў растлумачэнні іх сэнсавага зместу. Паколькі прыказкі структурна арганізаваныя як сказ, то іх тлумачэнне ажыццяўляецца таксама праз сказ, просты ці складаны. Напрыклад, прыказка *Быць бычку на вяровачцы* тлумачыцца так: ‘прыйдзецца расплачвацца за што-н., адчуць непрыемнасці’. Прыказка *Колькі ваўка ні кармі, ён у лес глядзіць*, утвораная па структурнай схеме складанага сказа, атрымлівае такое тлумачэнне: ‘як ні старайся перамяніць сутнасць чалавека, яго прывычкі, якасці, яны абавязкова праявяць сябе’. У некаторых выпадках прыказка са структурай простага сказа вымагае семантычнай характарыстыкі ў форме складанага сказа, напрыклад: *Ваўка ногі кормяць* – ‘каб пракарміцца, трэба шукаць харчы, турбавацца, а не сядзець на адным месцы’.

Прыказкі, у якіх адны словы пераасэнсаваліся, а другія захоўваюць сваё літаральнае значэнне, маюць патрэбу ў тлумачэнні толькі пераасэнсаваных слоў. Так, сэнсавы змест прыказкі *П’янаму <і> мора па калена* перадаецца з выкарыстаннем першага слова ў яго прамым значэнні: ‘п’янаму нічога не страшна, нічога не значыць’.

Прыказкі трэцяй групы не патрабуюць тлумачэння, бо іх кампаненты рэалізуюцца з прамым значэннем. Не тлумачацца, напрыклад, такія прыказкі: *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую; Вучыцца ніколі не позна; Госць на парог – радасць у хату*.

Некалькі прыказак, уключаных у Слоўнік, маюць не адно, а два значэнні. Кожнае значэнне аддзяляецца парадкавай лічбай і, апрача першага, даецца з чырвонага радка. Паслядоўнасць размяшчэння значэнняў абумоўліваецца лагічнай сувяззю паміж імі. Першае значэнне звычайна канкрэтнае, літаральнае, вынікае з прамых значэнняў састаўных частак прыказкі; другое ж – абстрактнае, пераноснае. Напрыклад, прыказка *Пешы коннаму не таварыш* у яе першым значэнні не патрабуе тлумачэння, а яе другое значэнне – ‘людзей, розных па характары, сацыяльным становішчы і пад., нішто не можа аб’яднаць’. Параўн. таксама такія прыказкі: *Галоднай куме хлеб наўме; Дзвюм смерцям не бываць, <а> адной не мінаваць; Дзе п’юць, там і льюць; Пераначуем, болей пачуем; Што пасееш, тое і пажнеш*.

У многіх выпадках, апрача семантычнай (лагічнай) характарыстыкі, узнікае неабходнасць даваць і сітуацыйную характарыстыку, г.зн. раскрываць сітуацыю, у якой ужываецца пэўная прыказ-

ка. Сітуацыйная характарыстыка пачынаецца са слоў: «Кажуць пра...», «Кажуць, калі...», «Кажуць таму...», «Кажуць у апраўданне...», «Гаворыцца ў адказ...», «Гаворыцца як прапанова...» і інш. Так, тлумачальная частка прыказкі *Ад ліха ціха, а дабра не чуваць* складаецца з семантычнай і сітуацыйнай характарыстыкі: *Нічога асаблівага, ні дрэннага, ні добрага, не чуваць. Жартаўлівы адказ на пытанне: «Што новага?» ці «Што чутно?»* Калі прыказкі ўжываюцца толькі ў прамым значэнні і не патрабуюць лагічнай характарыстыкі, то яны нярэдка суправаджаюцца сітуацыйнай характарыстыкай:

**Абедаў, а жывот не ведаў.** *Кажуць пра дрэнную яду, калі хто-н. не пад'еў.*

**Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся).** *Гаворыцца, часцей з незадавальненнем, як ухілівы адказ на пытанне суразмоўніка.*

У тлумачальную частку слоўнікавага артыкула ўваходзіць і адлюстраванне сінанімічных сувязей паміж прыказкамі. Калі прыказка мае сінонімы, то яны прыводзяцца ў канцы тлумачальнай часткі пасля скарачэння **Сін.** (сінонімы). Напрыклад:

**Адзін у полі не воін.** *Аднаму чалавеку, у адзіночку цяжка дабіцца чаго-н., справіцца з чым-н. Часцей ужываецца як апраўданне чыйго-н. бяссілля, бездапаможнасці.* **Сін.:** *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адна галавешка і ў печы тлее; Адной рукой і вузла не завяжаш; Адным калом плота не падапрэш.*

С т ы л і с т ы ч н а я  х а р а к т а р ы с т ы к а. У сэнсавую структуру прыказкі ўваходзіць не толькі яе парэмійнае значэнне, лагічны змест, але і стылістычнае значэнне – канататыўны элемент, які экспрэсіўна-эмацыянальна афарбоўвае сэнсавы змест прыказкі, надае выказванню фамільярнасць, іранічнасць, жартаўлівасць, непашану, пагардлівасць і інш. Стылістычнае значэнне складаецца з двух кампанентаў, што выступаюць як розныя бакі адной з'явы: а) экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі, якая надае прыказцы ацэначныя, эмацыянальныя і іншыя адценні, б) функцыянальна-стылёвай афарбоўкі, якая паказвае на прыналежнасць прыказкі да пэўнага стылю. Так, прыказка *Не жолаб да каня, а конь да жолаба ідзе* мае парэмійнае значэнне 'каму-небудзь непасрэдна самому трэба нешта рабіць, а не чакаць немагчымага ад іншых', а таксама экспрэсіўна-ацэначную афарбоўку неадабрэння чыіх-небудзь паводзін і належыць да разраду размоўных прыказак. Усе гэтыя тры кампаненты і складаюць сэнсавую структуру дадзенай прыказкі.

Экспрэсіўна-ацэначная афарбоўка, уласцівая той ці іншай прыказцы, адзначаецца ў Слоўніку па-рознаму. У адных выпадках яна ўключаецца ў тлумачальную частку прыказкі, у сэнсавую характарыстыку. Напрыклад, прыказка *Кось, кось, пакуль у аглоблі* мае такое тлумачэнне: кажуць з неадабрэннем пра таго, хто напачатку задобрывае каго-небудзь, каб дасягнуць пэўнай мэты. У другіх выпадках яна даецца асобна, пасля тлумачальнай часткі, часам у сукупнасці з апісаннем сітуацыі, у якой рэалізуецца пэўная прыказка. Семантычная, экспрэсіўна-ацэначная і сітуацыйная характарыстыка, скажам, прыказкі *Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй* апісваецца так: «За старэйшым і больш вопытным, пераймаючы яго, цягнецца і маладзейшы. Часам ужываеццца як адмоўная ацэнка таго, хто пераймае чые-небудзь дзеянні, звычкі і пад.».

Прыказкі паводле іх функцыянальна-стылёвай афарбоўкі можна падзяліць на дзве групы: функцыянальна замацаваныя за пэўнымі стылямі і функцыянальна не замацаваныя за асобным стылем. У першай групе выдзяляюцца кніжныя, размоўныя і прастамоўныя прыказкі.

Кніжных прыказак вельмі мала (каля 1 %). Яны выкарыстоўваюцца ў публіцыстычным, навуковым стылях, а таксама ў мастацкіх тэкстах і маюць ярка выяўленую афарбоўку кніжнасці, што звязана з іх кніжным паходжаннем. Зразумела, не ўсе прыказкі, скалькаваныя з заходнееўрапейскіх ці іншых моў, – кніжныя. Вельмі многія з іх, асабліва з жывой унутранай формай, даўно страцілі кніжную афарбоўку, шырока ўжываюцца ў вусным і пісьмовым маўленні, сталі размоўнымі (*Рука руку мые; Куй жалеза, пакуль гарачае; Груган туругану вока не выдзеўбе* і інш.) або функцыянальна не замацаванымі, напрыклад: *Прывычка – другая натура; Няма прарока ў сваёй айчыне.*

Абсалютная большасць прыказак – размоўныя. Іх ужыванне паказвае на неафіцыйнасць адносін паміж суразмоўнікамі, надае маўленню натуральнасць, прастату і непасрэднасць. Размоўныя прыказкі выкарыстоўваюцца ў бытавых зносінах, літаратурна-гутарковым маўленні і ў мастацкай літаратуры. Генетычна гэта прыказкі, якія часцей за ўсё ўзніклі ў жывой народнай мове. Размоўныя прыказкі этымалагічна могуць быць і запазычаннямі, калькамі ці паўкалькамі, якія, аднак, і ў мове-першакрыніцы мелі не кніжнае паходжанне. Многія з іх захавалі сваю першапачатковую вобразнасць і ўспрымаюцца носьбітамі мовы як свае, прывычныя і зразумелыя: *Язык да Кіева давядзе; У агародзе бузіна, а ў Кіеве*

*дзядзька; З мілым рай і ў шалашы; Не адразу Масква будавалася; Ласкавае цялятка дзвюх матак ссе; Канец – дзелу вянец; Ружы без калючак не бывае* і г.д. Сюды ж можна аднесці і некаторыя біблеізмы: *Бог даў, Бог узяў; Бойся Усявышняга і не гавары лішняга*. Вельмі многія размоўныя прыказкі вылучаюцца значнасцю ўнутранай формы, яркай вобразнасцю, наяўнасцю рыфмы, рытму, гукапісу, іншых спецыфічных якасцей паэтычнага характару, і гэта абмяжоўвае іх ужыванне гутарковым стылем, а таксама мастацкім маўленнем, істотная рыса якога – вобразнасць. Групу размоўных прыказак папоўнілі і некаторыя генетычна крылатыя выразы: *Каб сонца засланіць, вушэй аслiных мала; Няма таго, што раньш было*.

Прастамоўныя прыказкі (іх каля 50) трэба разглядаць у складзе размоўнага стылёвага разраду як яго найбольш зніжаную частку, якая знаходзіцца як бы на перыферыі літаратурнай мовы, хоць гэта нiколькі не зніжае актыўнасці іх ужывання. Яны рэалізуюцца ў вусным маўленні, а таксама мастацкай літаратуры, але звычайна ў мове персанажаў. Прастамоўная афарбоўка прыказак часцей за ўсё стварaецца этымалагічным вобразам, які выклікае негатыўныя асацыяцыі. Вось некалькі прастамоўных прыказак «жывёльнага паходжання»: *Апошняму парасяці цыцка пад хвастом; Вялікага сабакі вялікі брэх; Давялося свінні на неба глядзець; Каму што, а свінні месіва; Карова целіцца, а ў быка зад баліць; Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол; Свіння лужыну знойдзе*. Да гэтых прыказак можна далучыць і крапівоўскі крылаты выраз, які стаў прыказкай: *Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч*. У сінанімічным радзе *Заракалася свіння за вугол хадзіць* і *Заракалася кошка мышэй лавіць* першая прыказка, з улікам значнасці яе ўнутранай формы, ацэньваецца як прастамоўная, а другая – як размоўная.

Кніжныя, размоўныя і прастамоўныя прыказкі, абазначаючы тую ці іншую з’яву, адначасова сігналізуюць аб пэўных тыпах маўлення. Яны не могуць ужывацца ў іншых, не характэрных для іх стылях, калі не лічыць выпадкаў мэтанакіраванага выкарыстання, напрыклад, кніжнай прыказкі ў гутарковым маўленні або размоўнай у публіцыстычным стылі. Разам з тым у мове, апрача стылістычна замацаваных, ёсць шэраг прыказак, не абмежаваных у сваім ужыванні толькі пэўнай сферай зносін. Гэта абумоўліваецца гістарычнай зменлівасцю мовы, грамадскай пераацэнкай той ці іншай прыказкі, пашырэннем або звужэннем межаў яе функцыянавання. Пераход адной з’явы ў другую адлюстроўвае бесперапынны і непазбежны працэс развіцця мовы. У гэтай сувязі ў кожны перыяд

моўнага развіцця існуе шэраг пераходных, прамежкавых з'яў, якія ў галіне парэміялагічнай стылістыкі варта называць функцыянальна не замацаванымі прыказкамі.

Гэты стылёвы разрад актыўна папаўняецца за кошт кніжных і размоўных прыказак. Шматлікія былыя, несумненна, кніжныя прыказкі (*Падняўшы меч, ад мяча і загіне; Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма; Добрымі намерамі выслана дарога ў пекла; Кожнаму сваё; Не хлебам адзіным жыве чалавек; Разумнаму дастаткова* і інш.) страцілі кніжны каларыт, выйшлі за межы кніжных тэкстаў, шырока ўжываюцца ў гутарковым маўленні, сталі функцыянальна не замацаванымі. Не менш актыўна пераходзяць у гэты разрад многія былыя размоўныя прыказкі: *Адна ластаўка вясны не робіць; Загляне сонца і ў наша аконца; З песні слова не выкінеш; Капейка рубель беражэ; Лес сякуць – трэскі ляцяць; Сем разоў адмерай, а адзін раз адрэж* і г.д. Разрад функцыянальна не замацаваных прыказак параўнальна невялікі (6 % ад агульнай колькасці). Адны з іх стаяць як бы бліжэй да кніжных, але ўжо не кніжныя: *Гара нарадзіла мыш; Кропля камень крышыць; Грошы не пахнуць; Надзея памірае апошняй; Дум не скуеш ланцугамі; Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае* і інш. Яны ўжываюцца ў мастацкіх і публіцыстычных тэкстах, у некаторых адгалінаваннях навуковага стылю, а таксама ў гутарковым маўленні. Другія – бліжэй да размоўных, але перасягнулі межы гутарковага стылю, актыўна выкарыстоўваюцца ў мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, іншы раз са стылеўказальнымі агаворкамі тыпу «як кажуць», «што называецца», «як прынята гаварыць»: *Вялікаму караблю – вялікае плаванне; Смеласць гарады бярэ; Што пасееш, тое і пажнеш; Адзін у полі не воін; Многа шуму з нічога; Хто шукае, той знаходзіць* і г.д.

Функцыянальна не замацаваныя прыказкі не павінны ацэньвацца як міжстылёвыя і нейтральныя, бо не з'яўляюцца «стылістычнымі нулямі», не пазбаўлены экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі і гэтым істотна адрозніваюцца ад разраду функцыянальна не замацаваных слоў: апошнія складаюць асноўнае ядро лексікі і з'яўляюцца нейтральнымі з экспрэсіўна-ацэначнага боку і міжстылёвымі з функцыянальнага пункту гледжання.

Паколькі размоўныя прыказкі колькасна пераважаюць амаль у 10 разоў усе разам узятыя іншыя парэмійныя стылёвыя разрады, то ў Слоўніку пры такіх прыказках не даецца стылістычная памета «разм.». Што да прыказак іншых стылёвых разрадаў, то пры іх

(пасля загаловачнай прыказкі) ставіцца адпаведная памета (*кніжн., праст., функц. не зам.*).

Ілюстрацыйны матэрыял. Расказваючы пра сваё ўражанне пры чытанні далеўскага зборніка прыказак, В. Бялоў зазначае: «Прыказкі, многімі тысячамі сабраныя разам, у адзін каземат, неяк не іграюць, можа, нават перашкаджаюць адна адной. Ім цесна ў кнізе, ім няма чым дыхаць. Яны жывуць толькі ў кантэксце, у стыхіі няпрыказкавай мовы. Якой жывой, паўнакроўнай становіцца кожная (нават заняпаленькая) прыказка ў бытавых абставінах, у гутарковай мове»[23] .

Паказаць жыццё прыказкі ў маўленні, у кантэксце – адна з істотных задач тлумачальнага слоўніка прыказак. Таму прыклады-цытаты тут выступаюць як неад’емная частка слоўнікавага артыкула, як дадатковы сродак сэнсавай і іншай інфармацыі. Вальтэр пісаў: «Слоўнік без прыкладаў – гэта шкілет!»

Сэнсавы змест, сітуацыйная і стылістычная характарыстыка прыказкі і яе рэалізацыя ў кантэксце звычайна ілюструюцца чатырма цытатамі з твораў беларускіх пісьменнікаў ці з перыёдыкі. Калі прыказцы ўласцівы такія з’явы, як варыянтнасць ці факультатыўнасць, то колькасць ілюстрацыйных прыкладаў адпаведна павялічваецца.

Скарачэнні ў цытатах абазначаюцца дзвюма кропкамі (..).

Часам пры цытаванні выкарыстоўваюцца квадратныя дужкі. Імі адзначаюцца ўстаўкі асобных слоў (звычайна гэта назвы дзейных асоб, замененыя ў тэксце асабовым ці прыналежным займеннікам). У квадратных дужках даецца таксама імя дзейнай асобы, якой належыць рэпліка з драматургічнага твора.

Калі прыказка не ўскладнена варыянтнасцю ці факультатыўнымі кампанентамі, то ілюстрацыі размяшчаюцца ў храналагічным парадку. У іншых выпадках парадак падачы прыкладаў-цытат звязаны з паслядоўным адлюстраваннем формы загаловачнай прыказкі. Прыклады, у якіх прыказка выкарыстана ў скарочаным выглядзе – з недагаворваннем яе апошняй часткі, падаюцца пасля ілюстрацый, дзе прыказкі ўжыты ў найбольш тыповай форме.

У «Прадмове» ўжо гаварылася, што ў мастацкіх і публіцыстычных тэкстах сустракаюцца індывідуальна-аўтарскія варыяцыі прыказак, звычайна абумоўленыя мастацкімі мэтамі або асаблівасцямі вершаванага маўлення. Такі магчымы спосаб рэалізацыі прыказак таксама адлюстроўваецца ў слоўнікавым артыкуле. У ім

[23] Белов В. Лад: Очерки о народной эстетике. – М., 1982. С. 232.

следам за прыкладамі-цытатамі, у якіх прыказкі выкарыстаны нарматыўна, з абзаца за знакам зорачкі (*) даюцца індывідуальна-аўтарскія ўжыванні прыказак у зменаным форме.

Д а в е д а ч н а я  ч а с т к а. Тут амаль ва ўсіх выпадках адзначаецца, у якіх парэміялагічных зборніках (гл. «Спіс скарачэнняў») фіксуецца загаловачная прыказка ці яе варыянты. Калі ў некалькіх зборніках прыказка пададзена ў аднолькавай форме, то перавага аддаецца аднаму зборніку, храналагічна больш ранняму. Дарэчы, у спісе, дзе падаюцца парэміялагічныя і лексікаграфічныя працы, ёсць і нядаўна выдадзеная кніга А. С. Аксамітава «Прыказкі і прымаўкі» (Мінск, 2000), якая з'яўляецца зборам рукапісных і друкаваных беларускіх прыказак, што захоўваюцца ў архівах, аддзелах рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэк Вільнюса, Кракава, Лондана, Мінска, Санкт-Пецярбурга. Гэта запісы Я. Чачота, П. В. Шэйна, А. Н. Шыманоўскага, А. К. Сержпутоўскага, А. Варлыгі і шмат якіх іншых збіральнікаў парэмій у XIX–XX стст.

У даведачнай частцы зрэдку ёсць звесткі, з якой мовы запазычана або скалькавана загаловачная прыказка. Часам даюцца звесткі гістарычна-этымалагічнага характару (гл., напрыклад, артыкул *Апетыт прыходзіць у час яды*)[24] .

Як ужо ўпаміналася ў «Прадмове», многія прыказкі дапускаюць свабодную перастаноўку сваіх кампанентаў (*Адна бяда не ходзіць – Бяда адна не ходзіць*), ужываюцца ў некалькіх варыянтах, маюць факультатыўныя словы. Таму, каб палегчыць пошукі той ці іншай прыказкі, у канцы Слоўніка (у першым яго выданні) прыводзіўся алфавітны пералік слоў (за выключэннем службовых), якія ўваходзяць у загаловачныя прыказкі або ў іх варыянты, пададзеныя ўнутры слоўнікавых артыкулаў. Карыстаючыся ім, можна было знайсці любую з апісаных прыказак, ведаючы хоць бы адзін яе кампанент. Пры кожным з гэтых слоў прыводзіліся ў алфавітнай паслядоўнасці ўсе прыказкі, у якіх яно (слова) сустракаецца. Але такі алфавітны пералік слоў займаў больш за 100 старонак у Слоўніку. Таму ў гэтым выданні Слоўніка даецца іншы паказчык слоў, значна карацейшы і, думаецца, не менш эфектыўны. А засноўваецца ён на такім істотным фактары.

У мове (паводле акадэмічных слоўнікаў) больш за палову слоў прыпадае на назоўнікі. А ў апісаных у нашым Слоўніку прыказ-

[24] Пра найбольш тыповыя шляхі ўзнікнення прыказак гл. у артыкуле: Лепешаў І. Пра паходжанне прыказак // Полымя. 2007. № 4. С. 210–216.

ках прыкладна 90 % ад іх агульнай колькасці маюць у сваім складзе кампанент-назоўнік. Сярод астатніх ёсць нямала такіх, у якіх прыметнік, лічэбнік, займеннік ужыты ў значэнні назоўніка (*багаты, бедны, голы, добры, дурны, скупы, стары, сыты, чужы, адзін, кожны, сам* і інш.). І гэта, на нашу думку, дазваляе, абраўшы ў якасці «апорнага» слова назоўнік або апрадмечаны прыметнік, лічэбнік, займеннік, агульны для многіх прыказак, падаваць іх у адной групе, незалежна ад іх тэматыкі. І «апорны» назоўнік, і прыказкі пры гэтым назоўніку захоўваюць свой алфавітны парадак. «Безназоўнікавыя» прыказкі аб'ядноўваюцца ў групы на чале з іншым паўназначным словам (дзеясловам, прыслоўем і г.д.) і таксама займаюць сваё алфавітнае месца. У такім разе, скажам, прыказку *Куды ні кінь, усюды клін* параўнальна хутка знаходзім пры «апорным» назоўніку **Клін**, а *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш* – пры дзеяслове **Казаць**. У некаторых, параўнальна рэдкіх, выпадках адна і тая ж прыказка па пэўных прычынах прыводзіцца двойчы. Напрыклад, папярэдняя – і пры дзеяслове **Казаць**, і пры апрадмечаным назоўніку **Гоп**. Калі ў прыказцы ёсць два назоўнікі, то нярэдка і яна паўтараецца. Так, прыказку *Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары* можна знайсці пры словах як **Гара**, так і **Магамет**.

Назоўнікі, а таксама словы, ужытыя ў значэнні назоўніка, як і некаторыя іншыя часціны мовы, падаюцца ў іх зыходнай форме (напрыклад, назоўнік – у назоўным склоне адзіночнага ліку).

* * *

Гэты Слоўнік адрозніваецца ад папярэдніх выданняў найперш значна большай колькасцю апісаных прыказак: у выданні 1996 г. (пад назвай «Слоўнік беларускіх прыказак»; выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя») іх было 954; у выданні 2002 г. (выдавецтва «Беларуская навука») іх больш як 1400; у гэтым Слоўніку іх амаль 1800. Апрача таго, даволі многія слоўнікавыя артыкулы дапоўнены новымі ілюстрацыйнымі прыкладамі. Дадаткова адлюстраваны варыянтнасць некаторых прыказак і сінанімічныя адносіны паміж імі. У некаторых выпадках унесены папраўкі ці ўдакладненні ў семантычную і сітуацыйную характарыстыку прыказак. Кніжныя, прастамоўныя і функцыянальна не замацаваныя прыказкі пазначаны адпаведнымі паметамі, пры размоўных прыказках памета не ставіцца. Папоўнілася даведачная частка некаторых слоўнікавых артыкулаў. Усюды ў канцы артыкула не толькі назы-

ваецца скарочаная назва парэміялагічных ці лексікаграфічных прац, але і паказваецца лічбавае абазначэнне старонкі з гэтай працы, напрыклад: *Прыказкі*, кн. 2, с. 456; *Федароўскі*, с.49.

У «Прадмове» дадаткова асэнсоўваюцца пытанні пра размежаванне паняццяў «прыказка» і «прымаўка», «прыказка» і «фразеалагізм», а таксама пра падачу прыказак у парэміялагічных зборніках і тлумачальных слоўніках. Асобна разгледжаны сітуацыйныя і кантэкстуальныя прыказкі. Раздзел «Пра структуру Слоўніка» дапоўнены апісаннем стылістычнай характарыстыкі прыказак.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

гл. – глядзіце
знач. – значэнне
і інш. – і іншае
і пад. – і падобнае
кніжн. – кніжны
-н. – –небудзь
параўн. – параўнайце
праст. – прастамоўны
сін. – сінонім
устар. – устарэлы
функц. не зам. – функцыянальна не замацаваны

# ПАРЭМІЯЛАГІЧНЫЯ І ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЫ

*Аксамітаў* – Аксамітаў А. Прыказкі і прымаўкі. – Мінск, 2000.

*БРС* – Беларуска-рускі слоўнік. Т. 1–2. 2-е выд. – Мінск, 1988–1989.

*Выслоўі* – Выслоўі / Склад. М. Я. Грынблат. – Мінск, 1979.

*Іванова* – Іванова С. Ф., Іваноў Я. Я. Слоўнік беларускіх прыказак, прымавак і крылатых выразаў. – Мінск, 1997.

*Іваноў* – Крылатыя выразы ў беларускай мове. Частка 1 / Пад рэд. Я.Я. Іванова. – Магілёў, 2004.

*Лепешаў* – Лепешаў І. Я. З народнай фразеалогіі: Дыферэнц. слоўнік. – Мінск, 1991.

*Ліцвінка* – Ліцвінка В. Д., Царанкоў Л. А. Слова міма не ляціць. – Мінск, 1985.

*Ляцкі* – Ляцкий Е. А. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. – М., 1898.

*Насовіч* – Носович И. И. Сборник белорусских пословиц. – СПб., 1874.

*Прыказкі* – Прыказкі і прымаўкі. Кн. 1– 2 / Склад. М. Я. Грынблат. – Мінск, 1976.

*Рабкевіч* – Рабкевіч В. І. Паслухай, што людзі кажуць: Бел. нар. прыказкі, прымаўкі, прыкметы, жарты. – Мінск, 1985.

*Раманаў* – Романов Е. Белорусский сборник. Т. 1. Вып. 1-2. – Киев, 1886.

*Рапановіч* – Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі / Склад. Я. Рапановіч. – Мінск, 1972.

*РБС* – Русско-белорусский словарь. Т. 1–2. 2-е изд. – Минск, 1982.

*Санько* – Санько З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. – Мінск, 1991.

*Сцяшковіч* – Сцяшковіч Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1983.

*ТСБЛМ* – Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1996.

*ТСБМ* – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1–5. – Мінск, 1977–1984.

*Федароўскі* – Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej. – Warszawa, 1935. T. 4.

*Шкраба* – Шкраба І., Шкраба Р. Крынічнае слова: Беларускія прыказкі і прымаўкі. – Мінск, 1987.

*Янкоўскі* – Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / Склад. Ф. Янкоўскі. 3-е выд., дапрац., дап. – Мінск, 1992.

# А

**Аб воўку (на воўка) памоўка, а ён <сам> тут**. *Гл.* Пра воўка (аб воўку) памоўка, а ён <сам> тут.

**Абедаў, а жывот не ведаў**. *Кажуць пра дрэнную яду, калі хто-н. не пад'еў.* Нажэрліся мы гэтай бручкі, як каровы, і ўсё роўна, што і не еў чалавек. Як той казаў – абедаў, а жывот не ведаў (Я. Брыль. Зязюленька). «Абедаў, а жывот не ведаў» – любімая прымаўка дзеда Фёдара, які прымаў гасцей да стала, што аднекваліся: маўляў, мы ўжо абедалі (Т. Мушынская. Чалавек не адзін на зямлі). – А сам ты, пэўна, галодны?.. Кішкі марш іграюць? – Ну, не еў, – крыху памяўшыся, сціпла адказаў Кузёмка і адразу пажвавеў, зрабіўся весялейшым. – Абедаў, а жывот не ведаў, – дадаў ён, – але я прывыкшы (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

– *Насовіч*, с. 117: Абедаў, ды жывот не ведаў; *Федароўскі*, с. 2: Снедаў, абедаў, а жывот не ведаў.

**Абед на абед не тое, што кій на кій**. *Звычайна гаворыцца ў адказ таму, хто, адмаўляючыся ад пачастунку, кажа, што ўжо абедаў.* Ганна тым часам на стол сабярэ. Абедаць хоць, можа, і рана, але ж некалі мой Гірша казаў – абед на абед не тое, што кій на кій (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

– *Янкоўскі*, с. 160: Абед на абед – не тое, што кій на кій; *Выслоўі*, с. 143: Абед на абед не зашкодзіць, а кій на кій пашкодзіць; Абед на абед – не палка на палку; *Ліцвінка*, с. 90: Абед на абед – не кій на кій.

**Або пан або прапаў**. *Гл.* Пан ці прапаў.

**Абразу лепей праглынуць, чым яе разжоўваць.** *Гаворыцца як парада не надаваць пачутай абразе асаблівай увагі.* Ёсць мудрая пагаворка – абразу лепей праглынуць, чым яе разжоўваць. Ну і праўда, калі нехта назваў цябе дурнем, то прапусці міма вушэй, а не хадзі і не скардзіся ўсім, хто трапіў пад руку – «ён назваў мяне дурнем»... (Л. Арабей. Мокры снег).

**Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле**. *Няма патрэбы праяўляць станоўчыя адносіны да каго-н. Кажуць іранічна пра таго, хто не заслугоўвае чаго-н. станоўчага.* Пасля ён [Міхал] сурова сказаў мне: – Ідзі наперад, атаман. Няўчасна ты з імі [«паляўнічымі»] добры стаў. Дабрыню прэч. Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле (У. Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха).

– *Федароўскі*, с. 61: Абыдзецца цыганскае вяселле без марцыпанаў.

**Абы сына прычакаць, а імя можна падшукаць.** *Назву чаму-н. новаму, чаканаму, калі яно з'явілася, атрымалася, прыдумаць не так цяжка.* Умоўна зборнік названы «Верасовы звон». Справа, безумоўна, не ў загалоўку. Як кажуць, абы сына прычакаць, а імя можна падшукаць. А сын – такі добры! (Р. Барадулін. Чакаю зборніка!).

**Абы ўмеў (умела) танчыць, а гараваць (рабіць работу) гора наўчыць.** *Гаворыцца жартоўна пра неабходнасць умець танцаваць як нібыта самае галоўнае параўнальна з усім астатнім, якому навучыць само жыццё. Танчыць (tańczyć...) – паланізм са значэннем 'танцаваць'.* Выехалі з лесу – дзядуля дадаў незразумелае тады мне і нечаканае, як загадку: «Абы ўмеў танчыць, а гараваць, хлопча, гора наўчыць». Думаў я: што гэта? Дзядуля хвілінкі-часінкі не мог пасядзець рукі склаўшы ці пастаяць рукавы звесіўшы. А сказаў – як найпершае – абы ўмеў танчыць? (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог). Мясцовыя школьнікі стараліся патрапіць так, як танцавалі студэнты, вучыліся танцаваць модна. – Э, умелі б танчыць, а рабіць і гора наўчыць, – жартавалі кабеты (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

* Вялікага гаспадара з Буйніцкага не выйшла. Ёсць такая вясёлая прыказка: «Умеў бы танчыць, а працы гора наўчыць». У Буйніцкага выйшла іначай – працаваць ён умеў, а танцаваць яго навучыла гора (Р. Семашкевіч. Світка Буйніцкага).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 198: Абы ўмела танчыць, работку гора наўчыць; Абы ўмела танчыць, а гора дзелу навучыць; Умей танчыць, а работу рабіць гора наўчыць.

**Абы шыя, <а> хамут знойдзецца**. *Гл.* Была б (абы) шыя, <а> хамут знойдзецца.

**Абяцанага тры гады чакаюць**. *Наўрад ці можна спадзявацца, што абяцанне будзе хутка выканана. Ужываецца як адмоўная рэакцыя на чыё-н. абяцанне зрабіць што-н.* **Сін**.: *Абяцаная шапка на вушы не лезе; Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць; Абяцаў пан футра, ягоныя словы цёплыя.* [Плінке:] Хутка возьмем Баку. Тады я падару вам фляконьшык газа... тоны тва. Ха-ха-ха... [Таццяна:] Дзякую, гер Плінке. Я пачакаю. [Плінке:] Не тоўга. [Таццяна:] Абяцанага тры гады чакаюць (К. Крапіва. Валодзеў гальштук). – Не бойся, не пакіну [цябе]... – Абяцанага тры гады чакаюць, – Хрысця скрывіла падпухлыя з цёмным налётам губы (В. Адамчык. Голас крыві брата твайго). – Тады трымай, чараўнік, гэты доктарскі скарб, – Барыс кіўнуў на каробкі. – Не адразу, як бачыш, прывёз... Але ж ёсць прымаўка: абяцанага тры гады чакаюць (В. Якавенка. Пакутны век).

* Я спяшаюся нагадаць пра абяцанне... – Абяцанага сем год чакаюць (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе).

– *Янкоўскі*, с. 179: Абяцанага тры гады чакаюць.

**Абяцаная шапка на вушы не лезе**. *Наўрад ці можна спадзявацца на здзяйсненне абяцанага. Ужываецца як адмоўная рэакцыя на чыё-н. абяцанне зрабіць што-н.* **Сін**.: *Абяцанага тры гады чакаюць; Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць; Абяцаў пан футра, ягоныя словы цёплыя.* «Маці ігумення абяцала [даць другі послух]». Падняўся Абакум. Падумаў. – Абяцаная скуф'я [шапка ў манахаў] на вушы не лезе, – высунуўся за дзверы (М. Воранаў. Яніна). Можа, і сёння яшчэ засталіся ў жывых ветэраны, хто верыць такім абяцанням, у млявай стоме слінкі глытаючы. Але, як трапна заўважана, абяцаная шапка на вушы не лезе (В. Гроднікаў. Ваўкалак).

– *Насовіч*, с. 117: Абяцаная шапка на вушы не лезець; *Прыказкі*, кн. 2, с. 478: Абяцаная шапка вушэй не грэе.

**Абяцанка-цацанка, а дурню радасць**. *Гл.* Абяцанкі-цацанкі, а дурню (дурному) радасць.

**Абяцанкі-цацанкі, а дурню (дурному) радасць**. *Няма надзей на здзяйсненне абяцанага. Кажуць іранічна ці з неадабрэннем, калі не вераць у хуткае выкананне кім-н. дадзеных ім абяцанняў.* **Сін**.: *Абяцанага тры гады чакаюць; Абяцаная шапка на вушы не лезе; Абяцаў пан футра, ягоныя словы цёплыя.* – Ну, што ж, таварышы, абяцаю вам усякую дапамогу... – і Саколіч хацеў развітацца з хворымі. – Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць... – адпаліла тут Насця, рэзка штурхануўшы зэдлік, які трапіў ёй на дарозе (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Абяцалі ўсё яслі. Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць (В. Каваленка. Падвышанае неба). [Крулеўскі:] Цяпер жа.. даруюць нам усім волю і роўнасць. [Талаш:] Абяцанкі-цацанкі, а дурному радасць, эге ж (Я. Колас. У пушчах Палесся). – Вот як план лесанарыхтовак выканаем, тады заеду з пляшкай. Нават дзве пастаўлю. – Ого, калі тое будзе! – прысвіснуў Казакевіч. – Абяцанкі-цацанкі, а дурному радасць... (Л. Левановіч. Паводка сярод зімы). **Абяцанка-цацанка, а дурню (дурному) радасць**. **[**Юлія:] Я, штоб адчапіцца ад яго, абяцала прыйсці. [Навум:] Абяцанка цацанка, а дурному радасць (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Так уяўлялася акупантам перамога на савецка-германскім фронце, якую Гітлер абяцаў ім у 1942 годзе. Абяцанка-цацанка, а дурню радасць (К. Крапіва. Ёлкі і палкі). Сакратар райкама Гарцуеў абяцаў, але... «абяцанка-цацанка, а дурню радасць», як любіў казаць мой бацька (І.Шамякін. Слаўся, Марыя!).

* Занепадае мая хата. Усё ладжуся паднавіць яе сям-там, ды трудна мне адной. Сваякі абяцаюць дапамагчы, але, як кажуць, цацанкі-абяцанкі, а дурному радасць (Я. Колас. На ростанях). – Я ж пісаў табе... і ў апошнім пісьме таксама. – Ці мала каму хто і пра што піша... Абяцанкі-цацанкі, а... – але яна не сказала «дурню», падабрала замест гэтага слова нешта іншае, як ёй здавалася, бяскрыўднае, – а некаму радасць (І. Чыгрынаў. Трэція пеўні).

– *Насовіч*, с. 117: Абяцанка цацанка, а дурному радасць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 247: Абяцанка-цацанка (абяцалка-цацалка), а дурному радасць.

**Абяцаў пан футра, ягоныя словы цёплыя.** *Іранічная ацэнка чыіх-н. нядзейсненых абяцанняў.* **Сін.:** *Абяцанага тры гады чакаюць; Абяцаная шапка на вушы не лезе; Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць.* Бутэвіч абяцаў «разабрацца», абяцаў «даць ход». Але атрымалася, як у беларускай показцы: «Абяцаў пан футра, ягоныя словы цёплыя» (Р.Барадулін. Інтэрв'ю...).

– *Федароўскі*, с. 216: Абяцаў пан кажушка зрабіць, але яго і слова цёплае; *Прыказкі*, кн. 1, с. 305: Абяцаў пан купіць кажух, ды яго словы грэюць.

**Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць**. *Калі караюць аднаго, то для другога гэта павінна быць папярэджаннем, навукай.* **Сін**.: *Кошку б'юць – нявестцы намёкі даюць.* Мы тут не думаем абараняць падсудных... Але трэба неяк абараняцца самім. Бо, як кажуць, авечку стрыгуць – баран дрыжыць (Л. Прокша. Ці ж яны вінаваты?). Аб «Думе» можаш думаць колькі ўлезе, але гаварыць голасна асцерагайся: гэта не ўсіх па шэрсці гладзіць, авечку стрыгуць, а цякун [баран] дрыжыць (Я.Купала. Старыя праўды на новы лад).

– *Насовіч*, с. 117: Авечку стрыгуць, а баран дзівісь (дрыжыць); *Прыказкі*, кн. 2, с. 296: Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць.

**Агонь агнём не тушаць**. *Гл.* Пажар (агонь) агнём не тушаць.

**Адальюцца воўку авечыя слёзкі (слёзы)**. *Крыўдзіцель паплаціцца за прычыненыя каму-н. зло, крыўду. Ужываецца як пагроза ці перасцярога.* [Габрусевіч:] Яны маюць дазвол на зброю, дык думаюць, на іх управы не будзе. Няхай, няхай! Яшчэ пабачым, хто дужэйшы! Адальюцца воўку авечыя слёзкі!.. (М. Хведаровіч. Споведзь перад будучыняй). Нупрэй падумаў толькі: як добра, што ён прыхаваў у ямах не прыгуменні трохі збажыны. Цяпер бы пэўна забралі, каб яна была напаверсе. – Адальюцца ваўкам авечыя слёзкі, – сказаў сам сабе Нупрэй, калі ўжо фурманка з мяхамі была далекавата (Р. Сабаленка. Знаходка на гарышчы).

– *Федароўскі*, с. 340: Пабілі воўка гавечыя слёзы; *Прыказкі*, кн. 1, с. 64: Адрыгнуцца воўку кароўі слёзы.

**Ад астрогу няма перасцярогу**. *Няма ўпэўненасці, што чалавека не напаткае бяда, няшчасце і пад.* **Сін**.: *Ад торбы (сумы) і турмы не адракайся*. Народная мудрасць, увасобленая ў прымаўцы «ад астрогу няма перасцярогу», застаецца актуальнай назаўсёды і для ўсіх. То не заракаймася! (Я. Лецка. Знак засцярогі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 357: Ад астрогу няма перасцярогу.

**Ад бога грэх і ад людзей смех**. *Гаворыцца з папрокам як асуджэнне чыйго-н. благога ўчынку.* [Камісар:] Дык гэта ты, сабака, на мяне набрахаў штось перад панам? [Навум:] Хто? Я? Э! Пану такі і стыдна, і брыдка гэтак аба мне падумаць. Гэта, як кажа прымаўка, ад бога грэх і ад людзей смех (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Федароўскі*, с. 32: Ад Бога грэх, ад людзей смех; *Аксамітаў*, с. 14: Ад бога грэх і ад людзей смех.

**Ад бяды кіем не адаб’ешся (не абаронішся).** *Ад бяды няма паратунку.* Я паўсюль чую адну мелодыю... Гэта запраграмаванасць нашага народа на любую бяду. А шчасце? Шчасце – рэч часовая. Народ кажа: «Ад бяды кіем не адаб’ешся» (Крыніца. 1997. № 4). «Ад бяды кіем не абаронішся, – кажуць людзі. – Ты дзверы на зашчапку, а бяда праз акно...» Нездарма я ўспомніў народную прымаўку. Вось што сталася далей. Прыйшла неяк раніцаю мама карміць жыўнасць, адчыніла дзверы, а каля парога – аднелькае гусяня... (У. Ягоўдзік. Тхор).

– *Федароўскі*, с. 24: Ад бяды кіем не абаронішся.

**Ад бяды ўцёк, а ў гора трапіў.** *Пра таго, хто з адной бяды трапіў у яшчэ большую.* Каб не выгналі яго, ён павінен сам штодня выганяць людзей на панскія палеткі, стаяць над імі груганом... Вось так, Яўхім, Міхайлаў сын, ад бяды ўцёк, а ў гора трапіў (У. Ліпскі. Невядомы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 447: Ад бяды ўцёк, ды ў гора трапіў; *Санько*, с. 20: Ад бяды ўцёк, ды ў гора трапіў.

**Адвага гарады бярэ**. *Гл.* Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.

**Адвага альбо мёд п’е, альбо кайданы трэ.** *Гаворыцца пра адважнасць таго, хто робіць рызыкоўны ўчынак.* Пісалі пра кайданы многія паэты. Само слова гучнае, выклікае шмат эмоцый, праўда, не зусім станоўчых. Існавала ў нашым народзе нават прымаўка: «Адвага альбо мёд п’е, альбо кайданы трэ». Ды і паселішча ў Беларусі было – Койданава (В. Касцень. Ланцуг).

– *Насовіч*, с. 120: Адвага альбо мёд п'е, альбо кайданы трэ; *Прыказкі*, кн. 2, с. 293: Адвага ці мёд п'е, ці кайданы б'е.

**Ад вялікага да смешнага адзін крок.** *Функц. не зам. У жыцці чалавека, народа, дзяржавы і пад. могуць быць нечаканыя істотныя змены супрацьлеглага характару.* За два дні паспеў [пасеяць]? Глядзі, хутка прыеду. Помні – ты ж у нас перадавік. Сам разумееш. Ад вялікага да смешнага адзін крок, – так, здаецца, нехта сказаў. Запомні (І. Чыгрынаў. Дзівак з Ганчарнай вуліцы). Хто гэты чалавек, адлюстраванне якога зыбаецца на бруістай воднай паверхні? Рэвалюцыянер? Тыран, асуджаны на павольную агонію на забытым Богам востраве? Зрэшты, тыранаў выраджаюць якраз рэвалюцыі. Геній? Блазан? Ад вялікага да смешнага – адзін крок (У. Арлоў. Сны імператара). Смеху варта: ад вялікага да смешнага адзін крок, а смешнае да вялікага дацягнуцца не можа (М. Коўзкі. Доля праўды).

– Калька з французскай мовы. Фраза належыць Напалеону, які ў снежні 1812 г. у часе ўцёкаў з Расіі часта паўтараў яе свайму паслу ў Варшаве, пра што той пісаў пасля ў сваёй кнізе «Гісторыя пасольства ў Вялікае герцагства Варшаўскае» (1816).

**Ад вялікіх любошчаў сабачае разбежышча.** *Праст. Занадта працяглыя дашлюбныя любоўныя адносіны не заўсёды ўдачныя.* – Але ж ты сама ведаеш, які цяпер свет пайшоў... Гэты Мікалаевіч, хоць і настаўнік, але ж ад яго таксама ўсяго можна чакаць... Бо чаго ж ён гэтак доўга валаводзіцца? Праўду ж людзі гавораць, ад вялікіх любошчаў сабачае разбежышча... Дык я ж і кажу: шануй сябе, дачушка, беражы, бо беражонага і бог беражэ (В. Дайліда. Буслы над вёскай). **З вялікага кахання сабачае разбежышча**. З вялікага кахання ў іх сабачае разбежышча стала, варагавалі доўга. Нарэшце ён кінуў-рынуў усё – і пайшоў ад яе. Яна ровам раўла, але позна (С. Лобач. Па закутках памяці).

**Ад дабра дабра не шукаюць**. *Кажуць, калі не бачаць сэнсу мяняць існуючае становішча, прывычны спосаб жыцця, якія цалкам задавальняюць каго-н.* [Пытляваны:] А каго ж ты яшчэ хочаш? Жаніха? Забірай. Толькі шчыра вам скажу: дурань будзе, калі пойдзе. Ад дабра дабра не шукаюць (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). [Хамякоў:] Аставайся тут. Мы цябе ўраз ажэнім. Брыгаду трактарную дам, такую, што... [Сяргей:] Не, Павел Сцяпанавіч. Ад дабра дабра не шукаюць (А. Макаёнак. Твой хлеб). А што мы дзе выхадзім лепшае? Ад дабра дабра не шукаюць.У Вялікім Лесе нас усе ведаюць і мы ўсіх ведаем. Калі што – і памогуць, і абароняць

(Б. Сачанка. Вялікі Лес). – Што ж ты, Арцём, маю хату мінаеш? – добразычліва ўшчуваў Сілівей былога суседа. – Заначаваў бы ў мяне: месца ж не праляжыш. – Ад дабра дабра не шукаюць... (В. Праскураў. Людзі-суседзі).

* Есці, дзякаваць Богу, хапае. Хоць і не кожны дзень Вялікдзень, ды ўсё ж не галадаем. Праўда? Ад хлеба хлеба не шукаюць (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 429: Ад дабра дабра не шукай.

**Аддай рукамі, а хадзі нагамі.** *Гаворыцца з абурэннем пра таго, хто доўга не вяртае пазычанага і да каго прыходзіцца хадзіць, нагадваючы пра пазычку.* У Закуцці жыта на агародах сеялі толькі Чапялевічы – стары і яго сын, Кіран. – Пазычка – чортава звычка. Аддай рукамі, а хадзі нагамі. У гэтым калгасе, як у ваўка з зубоў, не вырвеш тады, – умяшалася Кіраніха, Сакава маці (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам). Аддай рукамі, а хадзі нагамі (З «Прыбабунькаў» Р. Барадуліна). Аддай рукамі, хадзі нагамі (загаловак апавядання П. Міська).

* Але во Бараноўскі памёр, а пазыка засталася. «Дала рукамі, хадзі нагамі», – зласлівіла сама сябе Мар'яна, цвёрда пастанавіўшы з той пазыкаю прыкончыць (Я. Янушкевіч. Трагікамедыя ў Люцынцы).

– *Насовіч*, с. 31: Даў рукамі дый хадзі нагамі; *Янкоўскі*, с. 320: Аддай рукамі, а хадзі нагамі; *Прыказкі*, кн. 1, с. 491: Пазычай рукамі, адбірай нагамі; Аддаўшы рукамі, хадзі нагамі.

**Аддайце мае цацкі, я з вамі не гуляю.** *Гаворыцца часцей як жартаўлівая нязгода з чыім-н. выказваннем, дзеяннямі і пад.* – Скажыце, а чаму вы маўчалі ўвесь час?.. – Не хацеў вас канфузіць перад гэтай кабетай. Яна хоць, можа, і малапісьменная, а гаварыла больш пераканаўча, чым вы. – Яна – пераканаўча!.. Гэта вы сур'ёзна? – На жаль, сур'ёзна. – Тады аддайце мае цацкі, я з вамі не гуляю, – жартаўліва-пакрыўджаным тонам сказала Валя і ўзяла з яго рук партфель (У. Дамашэвіч. Між двух агнёў).

– *Рапановіч*, с. 245: Давай мае цацкі – пайду дамоў; *Аксамітаў*, с. 25: Бяры свае цацкі, я з табой не гуляю.

**Адзін дасужы, ды нядужы**. *Аднаму чалавеку, які б ён спрытны, дзейны ні быў, цяжка справіцца з чым-н.* **Сін**.: *Адзін і ў кашы няспорны; Адзін у полі не воін; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адна галавешка і ў печы тлее; Адной рукой і вузла не завяжаш; Адной рукой у далоні не пляснеш; Адным калом плота не падапрэш*. – Шануйце волю, людзі. Што ў вас ёсць, акрамя яе?.. –

Адзін дасужы, ды нядужы (Г. Каржанеўская. Чарнабог).

– *Насовіч*, с. 118: Адзін дасуж, ды нядуж; *Янкоўскі*, с. 61: Адзін дасужы, ды не дужы.

**Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць**. *Кажуць з незадавальненнем пра таго, хто назаляе шматлікімі пытаннямі.* – Куды вы спяшаецеся?.. У мяне яшчэ да вас многа пытанняў. – Кажуць, – разгадаў хітрыкі бундаўца Галуза, – адзін дурань можа задаць столькі пытанняў, што дзесяць разумных не адкажуць (І. Гурскі. Вецер веку). – А праўда, што папы раней па хатах хадзілі? – распытваў Алёша дзеда. – Хадзілі, унучак, свянцілі вуглы, маліліся... – А чаму цяпер не ходзяць? – Не дазваляюць улады. – А чаму не дазваляюць? – Адзін дурань задасць столькі пытанняў, што сем разумных не адкажуць (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

* Пры сустрэчах з цікавымі людзьмі, якіх на судне было нямала, яна [жанчына] задавала столькі пытанняў, на якія, як сцвярджае народная мудрасць, не змаглі б адказаць сто мудрацоў (У. Корбан. Цеплаход ідзе на Поўнач). А гэта ўжо з «Сатырыкона». Пра такое ў народзе кажуць: адзін дурань можа ў дзесяць разоў больш задаць пытанняў, чым дзесяць мудрацоў здольны адказаць. Што будзе, калі мы возьмем уладу, а не атрымаем ні перамір’я, ні міру? Атрымаем! (І. Шамякін. Стратэгія).

– *Ліцвінка*, с. 137: Адзін дурань можа задаць столькі пытанняў, што дзесяць разумных не адкажуць.

**Адзін едзе на шчасці, другі на снасці**. *Аднаму шанцуе ў жыцці, а другі шчаслівы тым, што мае добрую работу, любімы занятак.* – Ну... а шчаслівы ты, не? – Шчасце... Як табе сказаць? Шчасце – рэч неразумная. Чуў я, як казалі старыя людзі – адзін едзе на шчасці, другі на снасці. А ў мяне, як і табе вядома, не было калісьці ні таго, ні другога. Ні табе шчасця, ні табе снасці. Гол як сакол, ды з падрэзаным крыллем яшчэ (М. Лынькоў. Маньчжур).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 424: Хто едзе на снасці, а хто на шчасці; Еду не на снасці, а на шчасці.

**Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго**. *Функц. не зам. Кожны падтрымлівае іншых, і ўсе дапамагаюць аднаму. Пра пачуццё ўзаемнай дапамогі і ўзаемавыручкі.* Толькі, браткі, цвёрда стойце за сваё! Не бойцеся ніякіх пастрашак, кажыце начальству ўсё, як ёсць. Помніце: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго (М. Гарэцкі. Чырвоныя ружы). А мы ж такі закон прынялі, клятву далі – адзін за ўсіх і ўсе за аднаго, і не хлусіць ніколі адзін аднаму. Ніколі! (П. Місько. Хлоп-

цы, чые вы будзеце...). Мы павінны выступіць як найлепш [на спаборніцтвах]. Бачыце, на нас глядзіць алімпійскі мішка... Помніце наш дэвіз: адзін – за ўсіх і ўсе – за аднаго! (М. Зарэмба. Сакрэт тэлепата). **Усе за аднаго і адзін за ўсіх**. [Прут:] А калі мы можам зрабіць гэта [раскрыць вочы народу]? Толькі тады, калі мы, як правільна казалі тут, будзем аб'яднаны, калі кожны з нас за сваёй спінаю будзе чуць падтрыманне сяброў, калі мы будзем, хлопцы, граць у адну дудку. Усе за аднаго і адзін за ўсіх! (Я. Колас. Забастоўшчыкі). Памаўчаў швагер, быццам сіліўся нешта важнейшае ўспомніць, і зноў доўжыў: – Там законы свае! Усе за аднаго і адзін за ўсіх. Не тое, што тут! (Я. Пархута. Адзінец). Выскачыў яшчэ адзін з грэшнікаў: – Таварышы! Усе за аднаго, адзін за ўсіх! Мы ўсе павінны аб'яднацца!.. (Я. Маўр. Падарожжа ў пекла).

– Калька з французскай мовы: *Tous pour un, un pour tous*. Цытата з рамана французскага пісьменніка Аляксандра Дзюма-бацькі (1802–1870) «Тры мушкецёры» (1844), якая неаднаразова выкарыстоўваецца як дэвіз галоўных герояў рамана, верных сяброў – Атоса, Партоса, Араміса і Д'Артаньяна. Магчыма, у французскую мову гэты выраз перайшоў з англійскай мовы (*One for all, all for one we gage* – Адзін за ўсіх, усе за аднаго мы адказваем, ручаемся), дзе ўпершыню ўжыты ў паэме «Лукрэцыя» (1594) англійскага паэта і драматурга У. Шэкспіра (1564 – 1616).

– *Янкоўскі*, с. 62: Усе за аднаго, а адзін за ўсіх; *Рапановіч*, с. 284: Адзін за ўсіх – усе за аднаго.

**Адзін з'еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>**. *Кажуць у пахвалу хлебасольнаму чалавеку і ў дакор таму, хто не любіць дзяліцца з іншымі.* – Шылам мора, сынок, не нагрэеш. З'еў бы сам, дык толк быў бы, а так кожнаму і панюхаць не дастанецца. – Некалі ж самі казалі: «З'еш хоць вала – адна хвала, а пакрысе, ды ўсе». Няхай хоць панюхаюць (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). Усе гавораць, што адзін хоць з'еш вала – адна хвала. Знайшла вавёрка між ляшчын арэх і па гасцей пайшла... (М. Танк. Лясная быль). – На людзях неяк усё смачнейшае. – Кажуць жа: адзін з'еш хоць вала, дык адна хвала (В. Каваленка. Падвышанае неба). Канечне, і па тэлевізары таксама паказваюць, але ў нас жа новыя фільмы. Ды і разам з людзьмі паглядзіш, разам парадуешся, пасумуеш... Адзін з'еш вала, дык адна хвала. Так і тут... (Л. Левановіч. Кіно, якое не канчаецца).

* І хоць не хочаш – заякочаш, калі, кума, ты падпіла. Вышэй пупа, брат, не падскочыш, хоць з'еш вала – адна хвала (П. Панчан-

ка. Простыя ісціны). Заўважыўшы, што курыца грабе, шукаючы спажыву, – ад сябе, рагочам, пальцам тыцнуўшы: «Дурная...» Рагочам, быццам прымаўкі не знаем: «Сам-насам з'еш употай хоць вала – адна хвала» (А. Бачыла. Вартасць).

– *Насовіч*, с. 118: Адзін хоць з'еш вала, усё адна хвала; *Прыказкі*, кн. 2, с. 37: Адзін з'еш хоць вала, то адна хвала.

**Адзін з сошкай, а сямёра (пяць) з ложкай.** *Працуе адзін, а кормяцца яго працай многія.* **Сін**.: *На сем прыганятых адзін араты*. Непакой выклікае і тое, што непамерна расце колькасць служачых сярод занятых у рэальным сектары. Атрымліваецца, як у той прыказцы: адзін з сошкаю, а пяць з ложкаю (У. Кулажанка. Незалежная экспертыза). Калі бачу аграмадныя кварталы высокіх будынкаў, то думаю – гэта ж у кожную кватэру трэба правесці газ, ваду, ацяпленне, каналізацыю, электрычнасць... Колькі працы чалавечай! А ў нас і сёння, як той казаў, – адзін з сошкаю, а сямёра з ложкаю... (Л. Арабей. Сямёра з ложкаю). Літаратурнае міністэрства пад назваю СП збірала пад сваім дахам усіх, хто так ці інакш прычыніўся да друкаванага слова, і нагадвала тым самым звычайны савецкі калгас, дзе панаваў прынцып: адзін з сошкай, а сямёра з ложкай (М. Тычына. 1537 вясёлых радкоў). Слухаючы [гасцей з Амерыкі] Гары і Джэкі, мы міжволі задумаліся: а колькі ў нас ветурачоў, заатэхнікаў, аграномаў, інжынераў, бухгалтараў у кожным калгасе, саўгасе. Як кажуць, адзін з сошкай, а сямёра з ложкай. Ці не павучыцца нам у амерыканскіх фермераў? (І. Макаловіч. Гары і джэкі).

– *Насовіч*, с. 118: Адзін з сошкаю, а сямёра з ложкаю [тлумачыцца звужана: «Кажуць, калі адзін працуе на ўсю сям'ю»]; *Федароўскі*, с. 6: Адзін з сошкаю, а дзесяць (дзясяцера, сем) з ложкаю; *Прыказкі*, кн. 1, с. 426: Адзін з сошкаю, а сямёра з ложкаю.

**Адзін і ў кашы няспорны**. *У адзіноце ніякая справа не ладзіцца.* **Сін.:** *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адзін у полі не воін; Адна галавешка і ў печы тлее; Адной рукой і вузла не завяжаш; Адной рукой у далоні не пляснеш; Адным калом плота не падапрэш.* Рабіць лепш за ўсё гуртам, калектывам, – так і лягчэй, і спарней: калі робіш у купе, не баліць у пупе, і наадварот: адзін і ў кашы няспорны (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). – Наша Парася на ўсе рукі прыдалася, – падладзіўся пад свата бацька. – Кудзельку скубе, лён трэ, карову доіць, то й мужа ўлагодзіць. – Адзін і ў кашы няспорны, – павесялеў дзядзька Хведар і падміргнуў Максіму: – Вяселле і шчасце на

адным кані едуць, давайце прыпынім скакуна ды згуляем шчаслівае вяселле (У. Ліпскі. З палаты «мінёраў»).

– *Насовіч*, с. 119: Аднаму і ў кашы няспорна; *Прыказкі*, кн. 2, с. 37: Адзін і ў кашы няспорны; Аднаму і ў кашы няспорна; Адзін і ў кашы прападзеш.

**Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон.** *Аднаму чалавеку, у адзіночку цяжка дабіцца чаго-н., справіцца з чым-н.* **Сін.:** *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін у полі не воін; Адна галавешка і ў печы тлее; Адной рукой і вузла не завяжаш; Адной рукой у далоні не пляснеш; Адным калом плота не падапрэш.* Ну, а перамагчы Гарунова, самі ведаеце... Як кажуць, пугай абуха не пераб'еш... Галавы б я нават сваёй не пашкадаваў, каб ведаў, што страчу яе недарма. Але ж адзін нічога не зробіш. Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон (І. Дуброўскі. Зялёныя вузлы).

**Адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць?** *Кніжн. Пра непазбежную страту даверу да таго, хто схлусіў хоць аднойчы.* Зразумела, Панцеляймон Кандратавіч дапусціў вялікі грэх: пакрывіў душой. Ён, чалавек адукаваны, ведаў афарызм Казьмы Пруткова: «Адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць?» Таму і рашыў стаяць на сваім да канца (І. Новікаў. У пошуках ісціны). 5-ы том выйшаў без актуальнага артыкула «Голад», хоць слова гэта ў 1-м томе [энцыклапедыі] надрукавана курсівам. Міжвольна прыгадалася: адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць? (Г. Лагуновіч. Калі двойчы два – пяць).

– Паўкалька з рускай мовы: *Единожды солгавши, кто тебе поверит?* Афарызм, аўтар якога – Казьма Пруткоў, быў апублікаваны ў ліку іншых у 1884 г.

**Адзін Сцяпан – заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача**. *Аднаму, без сям'і лягчэй пражыць ці перажыць нястачу, чым сямейнаму чалавеку.* – Ну, і што з вамі будзе [пасля звальнення з працы]? – А што ж будзе? Вазьму лахі пад пахі – маёмасць мая невялікая – ды пайду шукаць шчасця па свеце. Дзе-небудзь прыпынюся. Ёсць такая прыказка: «Адзін Сцяпан – заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача» (Я. Колас. На ростанях).

– *Янкоўскі*, с. 112: Адзін Сцяпан – заўсёды пан, а калі і нястача – дзіця не плача.

**Адзін сын – не сын, два сыны – палова сына (паўсына), тры сыны – сын**. *Гаворыцца з адабрэннем пра бацькоў, у якіх тры сыны, бо хоць адзін з іх стане ўцехай бацькоў.* Ну, вось калі ў мяне

будуць дзецi – тры сама меней, як у той пагаворцы: адзiн сын – не сын, два сыны – палова сына, тры сыны – сын, – як цяжка будзе ўсюды паспець (Л. Левановiч. Якар надзеi). **Адно дзiця – няма дзяцей, двое дзяцей – што адно, а трое – сям'я**. Уцякаць найлепш утрох. Адзiн захварэе, дык двух яго нават i паднясуць, на днёўках менш даводзiцца кожнаму дзяжурыць, зручней пераправляцца цераз рэкi... Словам, як гаварылася, адно дзiця – няма дзяцей, двое дзяцей – што адно, а трое – сям'я (Я. Брыль. Птушкi i гнёзды). **Адно дзiця – не дзiця, двое дзяцей – паўдзiцяцi, трое дзяцей – гэта дзiця**. У iх цэлая печ дзяцей... Чацвёра!.. Бацька ж лiчыць, што ў яго толькi двое дзяцей. Ведаеш, чаму? Свая матэматыка. Ён разважае так: адно дзiця – не дзiця, двое дзяцей – толькi паўдзiцяцi, а трое – вось гэта дзiця. Далей iдзе звычайны падлiк. Вось i атрымлiваецца, што ў яго двое дзяцей (В. Праскураў. Людзiсуседзi). Чым больш у народа дзяцей – тым зайздросней яго будучыня, тым шчаслiвейшы лёс. Не я прыдумаў: адно дзiця ў сям'i не дзiця, двое дзяцей – паўдзiцяцi, i толькi трое дзяцей – дзiця! (В. Зянько. Ад полю, ад лесу, ад лёну...).

– *Насовiч*, с. 118: Адзiн сын – не сын, два сыны – паўсына, тры сыны – сын; *Федароўскi*, с. 91: Адно дзiця, то так, як жадно, а двое, то палавiна дзiця, а трое, то ўжо дзiця цэлае; *Прыказкi*, кн. 2, с. 117: Адно дзiця – не дзiця, двое дзяцей – палова дзiцяцi, трое дзяцей – гэта дзiця.

**Адзiн сын у сям'i – блiннiчак, смятаннiк.** *Пра выключныя, спрыяльныя адносiны да адзiнага сына ў сям'i.* Згодна народнай прымаўцы, адзiн сын у сям'i – блiннiчак, смятаннiчак. Толькi мне i ў галаву нiколi не прыходзiла думаць пра такiя даваенныя прысмакi, – мацi рабiла прыбiральшчыцай райспажыўсаюза (Р. Барадулiн. Дзякуй роднаму слову!).

– *Прыказкi*, кн. 2, с. 87: Адзiн сын – смятаннiк.

**Адзiн у полi не воiн**. *Функц. не зам. Аднаму чалавеку, у адзiночку цяжка дабiцца чаго-н., справiцца з чым-н. Часцей ужываецца як апраўданне чыйго-н. бяссiлля, бездапаможнасцi.* **Сiн**.: *Адзiн дасужы, ды нядужы; Адзiн i ў кашы няспорны; Адзiн – не трапiш у кон, то выскачыш вон; Адна галавешка i ў печы тлее; Адной рукой i вузла не завяжаш; Адной рукой у далонi не пляснеш; Адным калом плота не падапрэш.* – Гавораць жа i так: адзiн у полi не воiн... Што я магу зрабiць, Казюк? – Многае можаш, калi толькi захочаш (П. Броўка. Калi злiваюцца рэкi). Сам загiнеш i нам наробiш клопату. Ты яшчэ малы, дый адзiн у полi не воiн (I. Гурскi.

Над Нёманам). Прыбаўлялася універсальных інструментаў, за якімі неабходна было сачыць, рамантаваць іх, а многія рабіць. Аднаму? Адзін у полі не воін. У Клімчанкі з'явіліся здольныя вучні (М. Гроднеў. Сонечны вецер). [Коркін:] А вам трэба б было не толькі аднаму думаць, бо, як кажа прыказка, адзін у полі не воін, а перш за ўсё пазнаёміцца з думкамі іншых... (В. Зуб. Сумленне ў шафе).

* Часамі яго [Варанецкага] апаноўвала згрызота сумлення, што ён маладушнічае, адступае, не вядзе барацьбы супраць таго, што замінае і шкодзіць уздыму гаспадаркі. Але як, як змагацца? Адзін, як кажа мудрасць народная, у полі не ваяка (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы). Цацура запрашае аўтара на паляванне: «Удвох, знацца, весялей будзе... Адзін у лесе не воін» (В. Праскураў. Надзейка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 373: Адзін у полі не воін.

**Ад (з) напасці не прапасці**. *Гаворыцца ў адказ на чые-н. пагрозы.* – Ад напасці не прапасці, – абазваўся Мішка сваёй любімай прыказкай. – Ліха перамелецца, радасць застанецца... (С. Кухараў. Зорка Канікула). Спі, пакуль не гоняць з хаты, люлі, люлі, спі! Ты ж не рынешся ў канаву з гора ды з бяды, – красці выўчышся на славу, пан будзеш тады... Што, з напасці не прапасці. Гулі, гулякі! Спі, пакуль не ўмееш красці, люлі, люлі, спі! (Я. Купала. Над калыскай).

– *Насовіч*, с. 122: Ад напасці не прапасці; *Прыказкі*, кн. 1, с. 453: Ад напасці не прапасці.

**Ад (з) работы коні дохнуць**. *Кажуць, часам жартаўліва, у апраўданне сваёй ці чыёй-н. бяздзейнасці або тады, калі хочуць перастаць рабіць што-н., перапыніць працу.* Заўтра пойдзеш у лес... Ты не вер, гэта дурань прыдумаў, што ад работы коні дохнуць. Усё, брат, ад догляду, на ўсё трэба добрае вока... (Я. Брыль. Рэўнасць). – Ужо скора год, як на пенсіі, – пахваліўся Архіп Архіпавіч. – Сваё аддзяжурыў. Хопіць! Бо, казаў той, ад работы і коні дохнуць, – і весела засмяяўся (І. Сіняўскі. На паляванні). Самусік размашыста ўдзёўбнуў тапор. – До. Канчай. Ад работы коні дохнуць (Л. Калодзежны. Паўлюк Самусік са Стаўроў). – Паабедаю ды зноў на поле. На работу. – На работу ды на работу, як той удод, дзяўбеш. З работы коні дохнуць. Хай трактар працуе, у яго сто конскіх сіл. Што табе, памерці некалі будзе з-за гэтай работы? (Я. Ермаловіч. Зазімак).

– *Аксамітаў*, с. 17: Ад работы і коні дохнуць.

**Адклад не ідзе на (у) лад**. *Не варта адкладваць на пазнейшы час тое, што можна ці трэба зрабіць неадкладна.* **Сін**.: *З ад-*

*кладу няма ладу; Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.* – Дык жа можна схадзіць па венікі і заўтра. – Адклад не ідзе на лад. Рабі, што я табе сказала, – строгім голасам загадала Вера (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках). – Чым хутчэй, тым лепш. – Ты так лічыш? – Старыя людзі кажуць: адклад не ідзе на лад (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Сёння, Міхась, не забудзься скокнуць да маці. Адклад не ідзе на лад (І. Капыловіч. Дача). [Жлукта:] Я думаю зараз жа адпраўляцца ў паход. [Клава:] Можа б на заўтра адклаў? [Жлукта:] Адклад не ідзе ў лад (К. Крапіва. Мілы чалавек). – Дык так, Міронавіч, бярыцеся за справу, – сказаў Адзінец. – Перадавайце брыгаду. Адклад не ідзе ў лад, сёння і пачынайце (Э. Ярашэвіч. Практыка ў Вербічах). – Калі падаваць машыну? – Адклад не ідзе ў лад, давай сёння і рушым (У. Ліпскі. Крутыя вёрсты).

* – Трэба ў Курані... – Зараз? – А чаго ж? – Башлыкоў па-таварыску дадаў: – Адклад, кажуць, не ў лад (І. Мележ. Завеі, снежань). Гаварыць, узгадніць трэба, параіцца. А чаго ж валаводзіць? Хіба адклад ідзе на лад? (М. Ткачоў. Згуртаванасць).

– *Насовіч*, с. 121: Адклад не ідзець на лад; *Прыказкі*, кн. 1, с. 173: Адклад не ідзе ў лад; Адклады не ідуць на лады.

**Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю.** *Свае недахопы, заганы дзеці пераймаюць ад бацькоў.* **Сін.:** *Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду; Яблык ад яблыні недалёка падае; Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка; Які куст, такі і адростак; Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын; Якое карэнне, такое і насенне.* Дзеці – дакладны паўтор сваіх бацькоў... Прырода ўсё роўна сваё возьме. Рана ці позна, але возьме. Нездарма народная мудрасць гаворыць: «Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю» (В. Кадзетава. Сямімужніца).

**Адкуль сіраце бацьку ўзяць**. *Пра стан адзіноты, пакінутасці, безнагляднасці.* Вам даводзілася бачыць Нямігу? Не, не тую, што як вымавілася, дык і ўспомнілася, – вы падумалі пра вуліцу. Была такая, была. Вузенькая, крывая, не сказаць каб бліскучай чысціні, бо адкуль жа, як адзначыла прыказка, сіраце бацьку ўзяць? (М. Лужанін. Берагі залатыя Нямігі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 105: Дзе сіраце бацьку ўзяць, калі яго зроду не было.

**Ад лені не гнуцца калені**. *Іранічна кажуць пра лянівага чалавека.* [Халімон:] Язык у цябе вот ніяк не адваліцца. Малоціць,

як цэп літоўскі. [Куліна:] Ты – работнік. Ад лені не гнуцца калені (У. Сауліч. Халімон камандуе парадам).

– *Насовіч*, с. 168: У лені баляць калені; *Прыказкі*, кн. 2, с. 267: Ад лені не гнуцца калені.

**Ад лёсу не ўцячэш**. *Кажуць пра немінучасць, непазбежнасць чаго-н. як бы загадзя вызначанага.* **Сін**.: *Свайго лёсу не мінеш; Суджанага і канём не аб'едзеш; Ты ў свет, і доля ўслед; Чаму быць, таго не мінаваць.* Колькі гадоў мінула, а яна адразу пазнала яго. Гэта ён, толькі не адзін і тады без пагонаў, забіраў яе Івана. Яна падумала яшчэ, што ад лёсу не ўцячэш, хаця, можа, чалавек мае што сказаць пра Уладзіка, а можа, і пра Івана новае што ведае (А. Кудравец. Познія яблыкі). Так мінуў год, і я паступова пачаў забываць незнаёмку, з галавой акунуўшыся ў свае клопаты. Але нездарма кажуць, што ад лёсу не ўцячэш... [Аднойчы] я ўбачыў знаёмы профіль, усё тую ж пасму валасоў... (Настаўн. газ. 2001, 18 снеж.). У мяне хлопцаў было даволі. Усё перабірала, якому б аддаць перавагу. Але праўду кажуць: ад лёсу не ўцячэш. Я паступова прывыкла да Барыса, пакахала... (Л. Юргілевіч. У Мядзвінавічы, да мамкі). Кампанія кароў у колькасці дзесяці асобін, якая прыбыла на мясакамбінат, была ў разгубленасці. І не ад таго, што іх чакала наперадзе, бо ад лёсу не ўцячэш, а з-за чалавечага нахабства і безгаловасці (Вожык. 1996. № 7).

**Ад ліха ціха, а дабра не чуваць**. *Нічога асаблівага, ні дрэннага, ні добрага, не чуваць. Жартаўлівы адказ на пытанне: «Што новага?» ці «Што чутно?»* [Камісар:] Што чутно, Навум? [Навум:] Нічога, пане! Ад ліха ціха, а дабра не чуваць (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – Ну, што чутно ў вас, дабрадзеі мае? – вітаючыся, спытаўся Міхайла. – А што ў нас пачуеш? – адазваўся адзін. – Ад ліха ціха, а дабра не чуваць, – казаў той (З. Бядуля. Буслы). – А як пані Мядзёлцы жывецца? – Пакуль, цьфу-цьфу, ад ліха ціха... – А муж... Твой Грыб як? – Тамаш у Лодзі (А. Пашкевіч. Пляц Волі). **Ад ліха ціха, дабра не відаць (не чуваць)**. [Паўліна:] Ну, кажы, што ў вас чуваць? Так даўно не бачыліся! [Ядзька:] Што чуваць!.. Ад ліха ціха, дабра не відаць – як той казаў (Ф. Аляхновіч. Няскончаная драма). – Што ж у вас тут, якія навіны? – Ад ліха – ціха, дабра не чуваць... (А. Гарун. У Панасавым сяле).

* – Скажыце, суседзе, мо чуў што важнае, ідучы па свеце? – Эт, усюды тое самае: ціха ліха і дабра нідзе няма (У. Галубок. Ліпавічок).

– *Насовіч*, с. 122: Ад ліха ціха, ды і дабра не чуваць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 451: Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.

**Ад ліха ціха, дабра не відаць**. *Гл.* Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.

**Ад ляноты чакай бядоты.** *Гаворыцца з асуджэннем пра лянівага чалавека, ад якога можна чакаць бяду, гора.* – Сашка наш, Грабчук, перакоўцы не паддаецца, – пачаў Куневіч. – Ну, той, што Лёхам дражняць. На работу – бокам, а з яе – скокам. А ад ляноты – чакай бядоты (Полымя. 1988. № 6).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 269: Ад ляноты чакай бядоты; *Санько*, с. 43: Ад ляноты чакай бядоты.

**Адна бяда – не бяда**. *Гаворыцца, калі чалавеку не шанцуе, калі непрыемнасці ідуць адна за адной.* **Сін**.: *Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>; Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе; Ты за мора, а за табою бяда і гора; Чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе.* Я паўсюль чую адну мелодыю... Гэта запраграмаванасць нашага народа на любую бяду... Народ кажа: «Адна бяда – не бяда»... (Крыніца. 1997. № 4).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 441: Адна бяда – не бяда.

**Адна бяда не ідзе, другую за сабой вядзе**. *Гл.* Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>.

**Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>**. *Гаворыцца, калі чалавеку не шанцуе, калі непрыемнасці ідуць адна за адной.* **Сін**.: *Адна бяда – не бяда; Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе; Ты за мора, а за табою бяда і гора; Чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе.* [Баба:] А што ж мы цяпер рабіць будзем?.. Дзед, чаго маўчыш? [Дзед:] Не ведаю, баба. Адна бяда не ходзіць, другую за сабою водзіць (В. Вольскі. Дзед і Жораў). Кажуць: адна бяда не ходзіць, другую за сабой водзіць. Не паспеў Міхаіл Ціхановіч як след апамятацца ад візіту шэфа сельгаскамендатуры, як на яго галаву зваліласяновае ліха (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). **Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>**. – Бяда адна не ходзіць – за сабою другую водзіць, – прамовіў ён [Андрэй]. – Усё гэта: кульгавая нага, рука папсаваная, грудзі – драбяза. Па гэтым жыць можна. А вось... А вось далей... Не давядзі бог, што было... (Я. Пархута. Споведзь). Даўно Андрэй заўважыў, ды і не адзін ён, што бяда адна ніколі не ходзіць, за сабою другую водзіць. А можа, і добра, што так. Бо калі б па адной беды прыходзілі... Адну збудзеш, другая на парозе стаіць... (Б. Сачанка. Родны кут). – Бяда, праўду кажуць, адна не ходзіць. У блакадзе чалавек мой – Змітро – загінуў. Партызанскі камандзір быў... Гаравала я страшэнна, як даведалася. А тут яшчэ як вярнулася я на селішча – з лесу, з

партызанаў, – дык і следу не знайшла ад хаты сваёй, адзін попел ад усяго (І. Мележ. Мінскі напрамак). У апошні час да раматусу далучылася колка ў сэрцы... Усё адно да аднаго склалася: бяда адна не ходзіць (І. Канановіч. Святло ў акне). **Адна бяда не ідзе, другую за сабой вядзе**. Бяда за бядою. Праўду людзі кажуць: адна бяда не ідзе – другую за сабой вядзе (А. Якімовіч. Чалавек-невідзімка). [Соня:] Я маме ўсё раскажу! [Лявон:] Соня! Соня! Пачакай! Пайшла... Ну... От уліп... Адна бяда не ідзе, за сабою другую вядзе (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце).

– *Ляцкі*, с. 1: Адна бяда не ходзіць, другую за сабою водзіць; *Федароўскі*, с. 24: Калі адна бяда ідзе, то й другую за ручку вядзе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 442: Адна бяда не ходзіць; Адна бяда ідзе, другую за ручку вядзе.

**Адна галава добра, а дзве <яшчэ> лепш (лепей)**. *Кажуць, калі лічаць, што лепш параіцца з кім-н., чым рашаць справу аднаму.* – А мы ўдваіх праверым, – сказала Вера.., – адна галава, кажуць, добра, а дзве яшчэ лепш (М. Ваданосаў. У Баркоўскай пушчы). Хандога нават не стаў разразаць усіх буханак, але затое як спрытна ён рашыў складаную задачу... Кажуць, адна галава добра, а дзве яшчэ лепей (М. Аўрамчык. Палон). Васіль вырашыў паклікаць на дапамогу сяброў. «Адна галава добра, а дзве лепей», – успомніў ён прыказку (А. Якімовіч. Базылёў курган). Я ўжо сёе-тое прадумаў. Давай абмяркуем. Бо кажуць: адна галава добра, а дзве – лепш (І. Сіняўскі. Заранка). Трэба было б з Васілём Мікалаевічам параіцца па некаторых іншых пытаннях. – Так, адна галава добра, а дзве лепей, – ходзячы ўразвалку па зямлянцы, разважаў уголас Сяргей Паўлавіч (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

* – Рыхтуйся сустракаць гасцей. Да цябе едзе вельмі прадстаўнічая камісія. Адзін акадэмік, два дактары навук і іншыя... – Цудоўна!.. – Ты рады?.. – Адна галава добра, а сем лепей... Памяркуем разам, што рабіць далей (Л. Гаўрылкін. Не магу без цябе). Слухай, Тарасе, можа б ты зайшоў да мяне? Захапі Відука. Чакаю. Разам абмяркуем. Адна галава добра, а тры лепей (І. Гурскі. Новы горад).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 39: Адна галава – добра, дзве – лепей, але хай адна разважыць і наважыць.

**Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць (не тухнуць)**. *У адзіночку нічога не атрымліваецца, а разам, сумесна з кім-н. усякая справа ладзіцца.* Не ўтрымаўся і Алесь, каб не прывітаць усіх з добраю справай: – Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць. Значыць, за ўсё бяромся адра-

зу!.. І, галоўнае, дружна!.. (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). [Анця:] Пойдзем, Несцерка, тата чакае. [Несцерка:] Хадзем, Анця. Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве – і ў полі не тухнуць (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі). – А што, сынок? Годзе бадзяцца па свеце. Трэ й гняздзечка сваё віць, – сказала маці, якая моўчкі слухала размову, і дадала: – Адна галавешка, сынок, і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не тухнуць (У. Ліпскі. Лапташонак).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 374: Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць.

**Адна галавешка і ў печы тлее (не гарыць)**. *Аднаму цяжка, дрэнна жыць, у адзіноце ніякая справа не ладзіцца.* **Сін**.: *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адзін у полі не воін; Адной рукой і вузла не завяжаш; Адной рукой у далоні не пляснеш; Адным калом плота не падапрэш.* Гэта вось што, сынок, хацеў яшчэ табе сказаць. Надумаў я быў жаніцца, каб лягчэй дажыць. Адна ж галавешка, як той казаў, і ў печы тлее... (В. Макоўскі. Бацькава слова).

– *Насовіч*, с. 119: Адна махнытка не гарыць, а цьмеець; *Прыказкі*, кн. 1, с. 374: Адна галавешка не гарыць, а толькі тлее.

**Адна ластаўка вясны не робіць**. *Функц. не зам. Адзінкавыя прыметы якой-н. з'явы яшчэ не сведчаць пра яе існаванне, узнікненне і пад., не могуць аказваць істотны ўплыў на што-н.* [Галасы:] Скуры б драць з такіх паскудаў... [Патап:] Не гарачыцеся, хлопцы! І не кідайцеся ў вір галавой, не падумаўшы. Адна ластаўка вясны не робіць (Я. Колас. Вайна вайне). – Пагаварылі з намі – і спакайней у групе. Толькі Панкова. Але ведаеце пагаворку: адна ластаўка вясны не робіць. – Ластаўка? От не тую выбрала ты пагаворку. Я лепей новую прыдумаю, спецыяльна для Панковай: адна варона не робіць граю (Я. Радкевіч. Антаніна). Адна ластаўка вясны не робіць. Хай сабе будзе так. А вось дзявочая песня на гэта здольна. Без яе быццам нечага не хапала ў прыродзе, каб можна было канчаткова паверыць, што прыйшла вясна (У. Шахавец. Дарога пачыналася ў Бярозаўцы).

* Цяпер гасцям узрадавалася [Вольга]. Шчыра. За мужа. Яны – як тая ластаўка, якая вясны не робіць, але з'яўляецца самай вернай прыметай яе. Можа, яшчэ наступіць вясна і ў Іванавым жыцці? (І. Шамякін. Снежныя зімы).

– Калька з грэчаскай мовы. Лічаць, што прыказка склалася на аснове байкі Эзопа (УІ ст. да н. э.). У ёй апавядаецца пра марнатраўнага юнака, які, праматаўшы ўсю бацькоўскую спадчыну, пра-

даў і апошні плашч, калі ўбачыў, што з выраю вярнулася адна ластаўка, а значыць, наступіла вясна. Аднак пачаліся маразы, ластаўка загінула, і марнатравец з абурэннем папракаў яе ў падмане.

– *Насовіч*, с. 119: Адна ластаўка вясны не дзелаець.

**<Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду**. *Нязначная, але непрыемная дробязь псуе што-н. добрае.* Кажуць, што адна лыжка дзёгцю псуе бочку мёду. Не ведаю, не каштаваў такога мёду. Але што адна лыжка дзёгцю падняла хворага з ложка – бачыў на ўласныя вочы (У. Дубоўка. Пялёсткі). Вядома ж, калі правам жульніцтва ў навуцы не паставіць рашучы заслон, то яно паступова будзе рабіцца нормай з усімі адмоўнасцямі ўплыву на ўсё грамадства. Таму што, як вядома, лыжка дзёгцю псуе бочку мёду (А. Саламонаў. Дысертацыйны вал...).

* Гэта сапраўды дробязь... Але ведаеце, прафесар, часам лыжкай дзёгцю можна сапсаваць бочку мёду (М. Герчык. Вяртанне да сябе). Вядома, што лыжка дзёгцю можа сапсаваць бочку мёду. Але лыжка мёду не здольная змяніць уласцівасці бочкі цукру (В. Жук. Лыжка мёду, бочка дзёгцю).

– *Рапановіч*, с. 223: Лыжка дзёгцю псуе кадку мёду.

**Аднаму густа, а другому пуста**. *Гаворыцца неадабральна, калі несправядліва дзеляць што-н., неаднолькава адносяцца да каго-н. і пад.* **Сін**.: *Аднаму льецца, а другому нават не капае; Каму па каму, а каму <дык> два камы.* – Кеб усім зямлі пораўну, адзінакавай, то маглі б і перабіцца. А то ж аднаму густа, а другому – пуста, – адгукнулася мачыха... (І. Мележ. Людзі на балоце). **Каму густа, <а> каму пуста.** Новы старшыня казаў для тых, што цікаўна тоўпіліся навокал, назіралі. – Па справядлівасці штоб. Пароўну. А не так – каму густа, каму – пуста (І. Мележ. Подых навальніцы). – Мне б хоць дзесятую долю яго [Юза] практычнасці, – усклікнуў ён [Снежны] з горыччу. – Дык не – каму густа, а каму пуста. Дзе ж справядлівасць? (І. Клімянкоў. Рацыяналіст).

– *Ляцкі*, с. 48: У каго густа, у каго пуста; *Прыказкі*, кн. 1, с. 432: Аднаму густа, а другому пуста.

**Аднаму льецца, а другому нават не капае.** *Гаворыцца, калі несправядліва дзеляць што-н., неаднолькава ставяцца да каго-н. і пад.* **Сін.:** *Аднаму густа, а другому пуста; Каму па каму, а каму два камы.* Нехта бачыў, як Колька гэты дрыль майстраваў. Пасадзілі яго. Дык хоць калгас распускай. Уся справа спынілася. Механізатары напісалі петыцыю, маўляў, бяром яго на парукі... Адным словам, выпусцілі яго. Вось я і кажу. Гэта ўжо якім хто ўродзіцца. Аднаму льецца, а другому нават не капае (І. Падбярэжскі. Ванцак).

– *Федароўскі*, с. 167: Аднаму льецца, а другому нават не капае; *Янкоўскі*, с. 27: Аднаму льецца, а другому нават не капае.

**<Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе)**. *Дрэнны чалавек сваімі паводзінамі, учынкамі адмоўна дзейнічае на ўвесь калектыў або стварае непрыхільнае ўражанне пра калектыў.* Бывала, дзе ні прападзе конь, то ўсе ідуць у Яршы яго шукаць. Недарма кажуць, што паршывая авечка ўвесь статак псуе. Праз Бурачкоў усіх яршоўцаў лічылі зладзеямі (І. Гурскі. Лясныя салдаты). – Многа ў вас гэтых самых бобікаў? – Тры чалавекі. Але, кажуць, і адна шалудзівая авечка ўсю чараду псуе (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Што ж, нездарма ў народзе спрадвеку прымаўка такая ходзіць: «Адна паганая аўца – увесь статак сапсуе» (Э. Валасевіч. Бывае часам і так...). [Максім:] Не павінна быць усякага дробнага крадзяжу, які некаторыя тыпы дапускаюць... Адна паганая авечка псуе ўвесь статак (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце). Быў адзін недавярак завёўся і ў нас, нетутэйшы, аднекуль прыбіўся ў калгас, дык ён гарэлку браў. Прывязе сена ці дроў – стаў барыш... Паршывая авечка ўвесь гурт псуе (В. Шырко. Стукаў). Паспрабаваў адзін ідэаліст з міжнароднага аддзела заклікаць калег да партыйнага сумлення – яму жанчыны не пасароміліся нагадаць, што адна паганая авечка псуе ўвесь статак, назвалі яго баранос. Абражаны «баран» пакінуў сход (І. Шамякін. Выкармак).

* Працуе цэх, шчыруе цэх, ідзе ўсё чынна-гладка. Ды завялася, як на грэх, адна авечка ў статку... Глядзіш, там – глум, а там – прастой, дзе трэба роўна – крыва... (Г. Кляўко. Як Кузьму крытыкавалі).

– *Насовіч*, с. 110: Адна паршывая аўца ўсё стада заражаець; *Ляцкі*, с. 34: Паршывая аўца ўсё стада порце; *Раманаў*, с. 205: Адна паганая аўца ўсю стаду порце.

**Адна толькі курыца грабе ад сябе**. *Часцей гаворыцца з асуджэннем пра тых, хто не клапоціцца пра іншых, пра агульнае, усё робіць толькі на сваю карысць.* **Сін**.: *Усякі чорт на сваё кола цягне.* Усё думалася і спадзявалася, што мы хоць трохі, для прыстойнасці і гонару, дбаем пра агульнае, людское, аднак, аказваецца, клопат найбольшы і найпершы – сваё. Ды што мудраваць – адна толькі курыца грабе ад сябе (В. Адамчык. Ліст аканту).

* [Яніна:] Ён як ваяваў з бальшавікамі, дык, кажуць, і мірных людзей грабіў. [Лабыш:] А хто гэта грабе ад сябе? Адна курыца і тая зярняткі падбірае (І. Козел. Папараць-кветка). Вядома, курыца

не ад сябе грабе, і гэта факт, відаць, упарты. Але хто дбае толькі аб сабе, дык той і курыцы не варты (М. Скрыпка. Чаго варты?).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 189: Курыца толькі ад сябе грабе.

**Адно дзіця – не дзіця, двое дзяцей – паўдзіцяці, трое дзяцей – гэта дзіця**. *Гл.* Адзін сын – не сын, два сыны – палова сына, тры сыны – сын.

**Адно дзіця – няма дзяцей, двое дзяцей – што адно, а трое – сям'я**. *Гл.* Адзін сын – не сын, два сыны – палова сына, тры сыны – сын.

**Адной рукой і вузла не завяжаш**. *Аднаму чалавеку, у адзіночку цяжка справіцца з чым-н.* **Сін**.: *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адзін у полі не воін; Адна галавешка і ў печы тлее; Адной рукой у далоні не пляснеш; Адным калом плота не падапрэш.* Колькі выдатных прыказак і прымавак прыдумаў народ аб дружбе, сяброўстве! Адною рукою і вузла не завяжаш... (В. Шырко. Стукаў).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 38: Адным пальцам вузла не завяжаш; Адна рука і вузла не завяжа.

**Адной рукой у далоні (ладкі) не пляснеш**. *Аднаму чалавеку, у адзіночку цяжка справіцца з чым-н.* **Сін**.: *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адзін у полі не воін; Адна галавешка і ў печы тлее; Адной рукой вузла не завяжаш; Адным калом плота не падапрэш.* [Клаўберг:] Начальнік лагера тут ні пры чым. У яго ёсць больш важныя справы – сувязь з органамі ўлады і эмігрантнымі арганізацыямі. Вы павінны за ўсім сачыць. – Адной рукой у далоні не пляснеш... – апраўдваўся Гарбачэўскі (І. Гурскі. Чужы хлеб). – Скажу яшчэ: адзін валадар, без народа, нішто. А адною рукою нават у ладкі не пляснеш, – працягваў прапаведнік (П. Місько. Грот Афаліны).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 38: Адной рукой у далоні не хлопнеш.

**Адну карову мае і тую за хвост падымае**. *Пра беднага селяніна.* – Можа, ён пан які недабіты ды вы надумаліся яго дабіць? – Пан! Гэтакі, як я княгіня, – адказала за ўсіх Аўдоля. – Адну карову мае і тую за хвост падымае. Хацеў сена гэтай карове накасіць, дык яму і касянулі... (К. Крапіва. Мядзведзічы).

– *Федароўскі*, с. 141: Адну казу маю і тую за хвост падымаю; *Ляцкі*, с. 2: Адну казу маю і тую штодзень падымаю.

**Адным калом плота не падапрэш.** *Аднаму чалавеку, у адзіночку немагчыма справіцца з чым-н.* **Сін.:** *Адзін дасужы, ды няду-*

*жы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адзін у полі не воін; Адна галавешка і ў печы не тлее; Адной рукой і вузла не завяжаш; Адной рукой у далоні не пляснеш.* [Анця:] Той Несцерка, які пана Бараноўскага правучыў? [Несцерка:] То быў мой дзед. А я толькі ў людзі выйшаў, бо, думаю, дзед хоць і рыпае яшчэ па белым свеце, але ж адным калом плота не падапрэш (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн.1, с. 374: Адным калом плота не падапрэш.

**Адны пануюць, другія гаруюць**. *Пра сацыяльную няроўнасць*. **Сін**.: *Палавіна свету скача, а другая палавіна свету плача; Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца.* [Бацька:] Вялікая крыўда, сынок, на свеце. Адны пануюць, другія гаруюць... (В. Вольскі. Цудоўная дудка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 428: Адны пануюць, а другія гаруюць.

**Ад прыбытку галава не баліць**. *Прыбытак ніколі не зашкодзіць, не можа непакоіць каго-н.* Дзяцей? Можна сказаць, няма дзяцей. Хоць ад прыбытку галава не баліць, але ж у чым я вінен? (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). Ужо, кажуць, здабыты першыя керны са шмат багацейшых пластоў, чым салігорскія. Што ж, ад прыбытку галава не баліць (М. Паслядовіч. Салігорскае дзіва). [Ядзя:] Нашто нам другая карова тая?! [Федзя:] Ад прыбытку ж галава не баліць. Я і свіней сёлета больш пусціць думаю (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). – Калі што – патарабаніш пасля на возе сама [здаваць бычка ў нарыхтоўчы пункт]. – Што ты, як певень наіндычыўся? Бач ты, прыспічыла яму. Другі [нарыхтоўшчык] падвернецца, хіба мала іх цяперака... Было б што здаваць... Ад прыбытку галава не баліць... (М. Мікуліч. Разгараўся дзень).

– *Насовіч*, с. 158: З прыбылі галава не баліць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 472: З (ад) прыбытку галава не баліць.

**Адрэзанае (-ай) лусты не прыклеіш (не прылепіш)**. *Таго, што было, назад не вернеш.* Яму [Кірылу] не хацелася верыць, што Зоська збегла назусім. Пабрэндае па свеце ды і вернецца. Але цесць пад самы корань падсек яго веру. – Я так думаю, зяцёк, адрэзанае лусты не прыклеіш. Таму і прыйшоў да цябе. Трэба нам палічыцца (А. Асіпенка. Кірыла Уласік). Вывучылася [дачка] на швачку, працуе ў Бабруйску. Адрэзанай лусты не прыклеіш. Дома засталіся мы з жонкай, меншая Святлана, ды неўзабаве сын з арміі прыйшоў (В. Шырко. Прадчуванне свята).

– *Федароўскі*, с. 172: Адрэзанай лусты не прылепіш; *Янкоўскі*, с. 180: Адрэзанае лусты не прылепіш.

**Ад <самога> сябе не ўцячэш**. *Толькі сам зможаш, здольны рашыць сваё, набалелае, патрэбнае.* Ты ўмееш ваяваць, але хлусіць не навучыўся. Хадзем. Ад партызан можна ўцячы – ад сябе не ўцячэш (А. Дзялендзік. Грэшная любоў). Купала бачыць сябе ў розных абліччах... Але хто ж усё ж ён? Кім стаў? «Я ад мамкі ўцёк!..» – кальнула сэрца. Ад сябе нікуды не ўцячэш! О, мудрасць прыказак! А пісаў жа калісь Клейнбарту: «... стараўся... не ўмешвацца...» Уцячы?!... Ён не ўцёк ні ад сябе, ні ад свайго лёсу, як ніколі не ўцякаў ні ад народа, ні ад свайго часу (А. Лойка. Як агонь, як вада). Але ж не! Не дачакаецца яна [жонка, якая пакінула яго, п'яніцу]! І каб я руку з чорнай кепкай на вуліцы працягнуў, таксама не дачакаецца!.. Не, мы што-небудзь іншае прыдумаем. Але потым... Чытаў. Думаў. І пра гэтую самую сілу, што неўпрыкмет пачала станавіцца мацнейшай за мяне. Так, я магу ў тым прызнацца. Ад сябе не ўцячэш. Так казала і яна (В. Кадзетава. Я ёй не дарую). Здавалася, што ён хоча вярнуцца ў мінулае, каб пабіць крыўдзіцеля, які спаскудзіў яму жыццё. Ды і сабе таксама. – Так, на чужым няшчасці сваё шчасце не выпестуеш! Ды і ад сябе не ўцячэш! (С. Пратасевіч. Вальс працягласцю ў жыццё).

– *Янкоўскі*, с. 180: Ад самога сябе не ўцячэш.

**Ад смерці доктара няма.** *Пра непазбежнасць і няўмольнасць смерці.* **Сін.***: Ад смерці не адкупішся; Дзвюм смярцям не бываць, <а> адной не мінаваць (у 1 знач.); Круці не круці, а трэба памерці; Смерць не ручаінка – не пераскочыш; Смерць нікому ў зубы не глядзіць; Смерць у бутэльку не заткнеш.* На іх [труны] сталы попыт і грошы жывыя, як любяць казаць у народзе. Здаровы народны фаталізм: ад смерці доктара няма (Крыніца. 1996. № 4).

– *Федароўскі*, с. 304: Ад смерці доктара няма.

**Ад смерці не адкупішся**. *Пра непазбежнасць і няўмольнасць смерці.* **Сін**.: *Ад смерці доктара няма; Дзвюм смерцям не бываць, <а> адной не мінаваць (у 1 знач.); Круці не круці, а трэба памерці; Смерць не ручаінка – не пераскочыш; Смерць нікому ў зубы не глядзіць; Смерць у бутэльку не заткнеш.* Ад смерці не адкупішся, – кажа прыказка, бо ўсё роўна: круці не круці, дык прыйдзецца ўмерці (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). Усё роўна паміраць. Раней ці пазней. Ад смерці не адкупішся... (Л. Левановіч. Апошні аўтобус). Але ж ад смерці не адкупішся, і ніхто не ведае свайго веку. Хіба думаў Петрык, што пойдзе на той свет у свае трохі больш за дваццаць гадоў (Т. Супрановіч. Жыць ды цешыцца...). Колькі ў нашым Заполлі засталося пенсіянераў? Толькі тры:

я, ты ды Іван. Пара ўжо і нам на той свет збірацца. Чарга падышла. Ад смерці не адкупішся... (М. Капыловіч. Шчаслівая).

* Горай за ўсё гэта тое, што перад смерцю мы бездапаможныя і слабыя і не маем спосабу адхіліць яе ад сябе або хоць аддаліць час яе прыходу. Ад яе не адмолішся, ад яе не адкупішся нічым (Я. Колас. На ростанях).

– *Федароўскі*, с. 304: Ад смерці не адкупішся і не адпросішся; *Прыказкі*, кн. 2, с. 412: Ад смерці не адкупішся; Ад смерці не адмолішся.

**Адсохні тая рука, што сабе не спрыяе**. *Кожны спрыяе сабе, дбае пра сябе.* Сем'ямі тыя цукровікі полюць, цярэбяць. Няважна, што сілай многіх заганяюць у той падрад і пагрозамі (не даюць сена, каня) і плацяць за работу капейкі. Затое даход гаспадарцы. Адсохні тая рука, што сабе не спрыяе (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

* [Марфа, гадае:] Зараз усю праўду вылажу. Так... Рука твая бярэ ўсё, што можа ўзяць. [Халімон:] Бадай тая рука адваліцца, што ад сябе грабе (У. Сауліч. Халімон камандуе парадам).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 378: Адсохні тая рука, што сабе не спрыяе; Адсохні тая рука, што сабе дабра не зычыць.

**Ад старасці ды ад смерці няма лекаў на свеце.** Ад старасці ды ад смерці няма лекаў на свеце (Эпіграф да раздзела з кнігі Б. Сачанкі «Вечны кругазварот»).

– *Янкоўскі*, с. 142: Ад старасці ды ад смерці няма лекаў на свеце.

**Ад сумы і ад турмы не адракайся**. *Гл.* Ад торбы (ад сумы) і ад турмы не адракайся.

**Ад сціпласці не паміраюць**. *Часцей ужываецца ў форме 2-й ці 3-й асобы адз. і мн. л. Кажуць іранічна або з асуджэннем пра таго ці таму, хто паводзіць сябе нясціпла, хваліцца сваімі поспехамі, заслугамі і пад.* [Артар:] Пакуль мы з табой валэндаліся, цэны выраслі... Перадавай... «Малю вас, не таргуйцеся з ім. У яго руках лёс Абібіі...» [Путана:] А ты яшчэ і хвалько! Ад сціпласці не памрэш! (М. Матукоўскі. Калізей). Падумалася: але і нахабнік ты, Корзун, такія ад сціпласці не паміраюць (У. Шыцік. Па жураўля ў небе). [Барыс:] Сумленне – вораг веры. [Людміла:] Вы не памраце ад сціпласці (А. Маўзон. Пад адкрытым небам). – Калі так здарыцца, буду надзвычай усцешаны, бо гэты артыкул Статута сфармуляваў я сам і здолеў адстаяць перад каралём. – Вы ад сціпласці не памраце, шаноўны доктар (А. Петрашкевіч. Прарок для Айчыны).

**Ад сябе не ўцячэш.** *Гл.* Ад <самога> сябе не ўцячэш.

**Ад торбы (ад сумы) і (ды) ад турмы не адракайся (не заракайся)**. *Нельга быць упэўненым, што цябе не напаткае бяда, няшчасце і пад.* **Сін.:** *Ад астрогу няма перасцярогу.* – Ні салдатам, ні арыштантам не хочаш быць, – заўважыў Лабановіч. – А я, брат, жыву па прыказцы: ад торбы і ад турмы не адракайся (Я. Колас. На ростанях). – Мала што можа здарыцца. Не хачу я на старасці год ісці з торбамі па свеце... – Мама! Ад сумы і турмы не заракайся (І. Гурскі. Чаму ж мне не пець). Прыйшла ў галаву [Ніне] прымаўка: «Ад сумы ды ад турмы не заракайся». Вось і яна, можна сказаць, у турме. І бацька некалі так сядзеў... (Л. Арабей. Халодны май). На той час ужо адбылося судовае паседжанне, ужо быў «састаў злачынства», ужо трэба было чакаць выканаўчы ліст на чатырыста восемдзесят адзін рубель восемдзесят чатыры капейкі... Не, нездарма людзі кажуць: ад сумы і турмы не заракайся (А. Кажадуб. Стрэчанне). Беркут шануе розум і сілу. Вялікі знаўца сабак, кароль арэны. Але, як кажуць, ад турмы і сумы не заракайся. Патрапіў і кароль арэны ў край з пуховымі зімовымі пярынамі і ледзянымі палацамі... (В. Дубінка. Браты святой ночы).

* Ах, мілая, вы так далёка ад ісціны вядомай той: ад торбы ды турмы няўрокам не абаронены ніхто (А. Звонак. Жанчына, мілае стварэнне...). Можа, і пляменнікі таксама пазайздросцяць [Ісаку], бо невядома яшчэ, да чаго давядзе тая іх класавая барацьба. Можа, да сумы, а можа, і да турмы... (В. Быкаў. Сцюжа).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 356: Ад турмы і ад торбы не адчурайся; Ад турмы і ад сумы ніколі не адказвайся; Сумы і турмы ніколі не заракайся.

**Адтуль горача, адсюль боляча**. *Гл.* <І> адтуль горача, <і> адсюль боляча.

**Ад цяплосці не баляць косці**. *Гарачыня, цеплыня не шкодзяць. Гаворыцца, калі хто-н. не адчувае нязручнасці ад празмернай гарачыні на вуліцы або ў памяшканні ці ад вельмі цёплага адзення.* **Сін**.*: Пара касцей не ломіць.* Ціма.. кабаціка свайго на аўчынцы ні зімою, ні летам не знімаў. «Ад цяплосці не баляць косці!» – на кепікі.. адказваў (У. Пашкевіч. І дам табе вянок жыцця). Во ліха, ажно ўзагрэўся, гаворачы... Ды хай сабе... Ад цяплосці, кажуць, не баляць косці (Маладосць. 2000. № 2).

– *Насовіч*, с. 123: Ад цяплосці не баляць косці; *Прыказкі*, кн. 1, с. 214: Ад цяплосці косці не баляць; *Санько*, с. 291: Ад цяплосці не баляць (не гнуцца) косці.

**Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся**. *Жаніцьба – справа сур'ёзная, якая не дапускае паспешнасці і памылак.* – Алёнка добрая, сціплая, не беларучка і, я сказаў бы, таленавітая, – гаварыў Сяргей. – Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся, – працягвала Вера Антонаўна (І. Гурскі. Вецер веку). – А ты, я бачу, халасцяк?.. – Выходзіць, што так. – Нічога! У Запалонным дзевак шмат. Ажэнім!.. – Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш і не атрасешся, – сказала яна [маці] (У. Гніламёдаў. Усход).

– *Ляцкі*, с. 2: Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся; *Прыказкі*, кн. 2, с. 55: Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся.

**Ажэніцца, пераменіцца**. *Гл.* <Хто> ажэніцца, <той> пераменіцца.

**<А> калі што якое, дык <і> што тут (там) такое**. *Няма прычын непакоіцца. Жартоўны адказ на які-н. папрок.* [Моцкін:] Калі б я што-небудзь якое, дык я ж ніколі нічога ніякага. А калі што якое, дык што тут такое? Квітанцыі я не выдаваў, распіскі не даваў, на старшынь не націскаў і па радыё таксама не выступаў (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка). – Пахмяліўся гаспадар з добрымі людзьмі, як той казаў... – Мала што на свеце бывае. А, як той казаў, калі што якое, дык што там такое... (У. Калеснік. Доўг памяці). – А каб у каго другога ўбачыў? – І ўхваляў бы, і не ўхваляў, – з мужыцкай хітрасцю сказаў Кагут. – Я, брат, ніколі і нікому нічога ніякага... – Ну, а калі што якое? – Ну, а калі што якое, дык што тут такое... (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). Лёнік, бач ты, конюх, а носіць капялюш. Любіць, каб на штанах вяліся рубчыкі. А кашулі ўпадабаў светлых колераў. Усё як не ў замасцянскіх мужчын... – У нашай вёсцы, Лявонцій, адна маладзіца заўсёды гаварыла: «Калі што якое, дык і што там такое. Як хто што, дык нішто. А як чуць што, дык ужо і што...» (У. Ліпскі. Куплёнікі).

* А калі і было што якое, дык што там такое? Чаго ўжо так трубіць па пасёлку, калі часам і перападзе? Я ж такая, як і ўсе. Я жывая ж яшчэ! (П. Місько. Ядвіня).

– *Янкоўскі*, с. 351: Ды што ж там такое, калі што якое?

**Альбо (або) дожджык, альбо (або) снег, альбо (або) будзе, альбо (або) не**. *Невядома, ці збудзецца што-н. задуманае.* [Пытляваны:] Прыгожая паперка, што і казаць. [Туміловіч:] Чаму – паперка? [Пытляваны:] А план што ж гэта такое? Пакуль што паперка. Гэта яшчэ – альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо не (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). – Ты на галандскія сарты стаўку

рабіў, а я на старога аб'езджанага каня... – Ты хітранькі, не рызыкаваў. А ў мяне – альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо не... (В. Шырко. Сцяжына да людзей). – Што Кучаронак пра пачатак драмы не хлусіў, я не сумняваўся. Але ў ёй быў і канец. Чаму абавязкова твой фермер павінен мець да яго дачыненне? – Версія, Аркадзь Міхайлавіч, версія! У яго былі падставы, каб Рамейка не даў ходу пісьму. – Або дожджык, або снег, або будзе, або не! (У. Шыцік. Па жураўля ў небе).

– *Выслоўі*, с. 29: Або дожджык, або снег, або будзе, або не.

**Альбо пан альбо прапаў**. *Гл.* Пан ці прапаў.

**Андрэй за ўсіх мудрэй**. *Часцей ужываецца як насмешка над самахвалам.* Патрэбны іншыя ўмовы... Што ж мы бачым замест гэтага? А тое, што бачым: адзін Андрэй за ўсіх мудрэй. Адзін усіх вучыць, як што рабіць: як расціць хлеб, як будаваць дом.. і г. д. (Н. Гілевіч. Жыццёвы выбар).

– Паходзіць ад назвы беларускай чарадзейнай казкі, у якой гаворыцца, як дапытлівы хлопец Андрэй, дзякуючы чарадзейнай сіле, стаў мудрэйшым за ўсіх і даваў людзям парады.

– *Насовіч*, с. 2: Андрэй усіх мудрэй; *Прыказкі*, кн. 2, с. 234: Андрэй усіх мудрэй.

**Апетыт прыходзіць у час (у часе) яды. 1.** Матруна кажа повару, каб ён усё ж такі пакаштаваў перасоленую ім страву. – У мяне ў такі час апетыту не бывае. – Нічога. Апетыт прыходзіць у час яды (В. Зуб. Здавацца не трэба).

**2.** *Жаданне, патрэбнасць, цікавасць да чаго-н. павялічваюцца па меры таго, як пазнаеш што-н., захапляешся тым, што пачаў рабіць.* Відаць, і ў гэтага неспакойнага фюрэра перамогі нарodзяць і новыя прэтэнзіі, бо апетыт, як кажуць, прыходзіць у час яды (М. Лынькоў. Векапомныя дні). [Гаворка:] Цяпер яна лічыць, што ёй мала плацяць. Апетыт прыходзіць у час яды. Асабліва ў такіх, як яна (І. Шамякін. Выгнанне блудніцы). Апетыт прыходзіць у часе яды... А чаму б гэта мне яшчэ не набраць крамы на плацце ці, можа, і на два?.. (А. Васілевіч. Пачакай, затрымайся...). Апетыт прыходзіць у часе яды. Гітлер не задаволіцца тым, што ён захапіў ужо, ён павядзе сваіх галаварэзаў на нас, на Савецкі Саюз (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

* Ну, проста абнаглеў [гангстэр], на сорам напляваў, хапае ўсё, забыўшы межы. Як кажуць, апетыт прыходзіць з ежай (У. Корбан. Гангстэр і сонца). Злачынцы працавалі алмазнікамі, шліфавалі алмазы. Аклад неблагі, трыста рублёў, ды апетыт, як кажуць,

прыходзіць падчас яды. Вось і цягалі паціху мужыкі тыя дыяменты (В. Шырко. Справа пра чорныя брыльянты).

– Паўкалька з французскай мовы: *L'appetit vient en mangeant*. Аўтар афарызма – епіскап Жэром дэ Анжэ, які ўпершыню ўжыў яго ў творы «Аб прычынах» (1515). Папулярызацыі выразу і набыццю ім крылатасці садзейнічала тое, што ён скарыстаны, са спасылкай на яго аўтара, у рамане Ф. Рабле «Гарганцюа і Пантагруэль» (1534), хоць і ўжыты там з прамым значэннем – у раздзеле «Гутарка пад чаркай».

– *БРС*, т. 1, с. 132: Апетыт прыходзіць у час яды; *Рапановіч*, с. 242: Апетыт прыходзіць у час яды.

**Апёкшыся малаком, ваду студзяць**. *Гл.* Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш.

**Апёкшыся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш**. *Гл.* Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш.

**Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш (дзьмухаеш)**. *Той, хто ўжо аднойчы сутыкнуўся з непрыемнасцямі, няўдачай, робіцца празмерна асцярожным.* **Сін.:** *Напужаў мех, дык і торба страшна; Пужаная варона <і> куста баіцца.* Літавар, ужо не верачы свайму ўспуджанаму, наравістаму каню, скіраваў у канаву, паехаў цалiком збоку шашы. – Апёкшыся на малацэ, ужо і на ваду дзьмеш, – засмяяўся Міця (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). – Памалу! Нашто вы гоніце машыну! – Баішся? Хе-хе! – засмяяўся Коля... – Мы паўзём, як чарапаха. Але, як гаворыцца, апёкшыся на малацэ, на ваду дзьмухаеш (І. Грамовіч. Рына-Марына). **Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае**. [Ян:] Выбіўшы з галавы думкі аб заграпічных красунях, у сваім краі пастараюся знайсці сабе таварышку жыцця; а з гэтага часу не так лёгка дамся запутацца ў іхнія сеткі. [Навум:] Эге! Знаеш прыказку: хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). **Апёкся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш**. [Несцерка:] Вядома, у страху вочы вялікія. Апёкся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш (В. Вольскі. Несцерка). **Апёкшыся малаком, ваду студзяць**. Цяпер мы без патрэбы разглядаем свае авіяцыйныя білеты, хоць яны ўжо і зарэгістраваны. Праўду кажуць: «Апёкшыся малаком, ваду студзяць». Так і мы (С. Грахоўскі. Дзе ўзыходзіць сонца).

– *Насовіч*, с. 117: Абпарыўшысь на малацэ, і на ваду студзіш; *Федароўскі*, с. 9: Апарыўшыся на малацэ, то й на ваду падмухаеш; *Прыказкі*, кн. 2, с. 298: Апёкшыся на малацэ, і на халаднік студзіць будзеш; Хто на малацэ апарыўся, той на халодную ваду дмухае.

**Апошняму парасяці цыцка пад хвастом.** *Праст.* **1.** *Таму, хто спазніўся куды-н., нічога не дастаецца.* **Сін.:** *Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць.*

**2.** *Каму-н., не роўнаму з іншымі людзьмі ў якіх-н. адносінах, нічога не дастаецца або толькі горшае, кепскае.* Меншаму ростам чалавеку заўсёды выпадае больш працы і менш уцехі. Ёсць нейкая доля праўды ў мудрых словах, што апошняму парасяці цыцка пад хвастом. Прымаўка не для цытавання па радыё ці ў газетах, але рацыю мае, і немалую (Я. Палубятка. Прыгоды Мармулка).

– *Федароўскі*, с. 221: Апошняму (задняму) парасяці цыцка пад хвастом; *Лепешаў*, с. 103: Задняму парасяці цыцка пад хвастом; *Аксамітаў*, с. 252: Меншае парася заднюю цыцку ссе.

**Апускайся, куме, на дно**. *Пра бесперспектыўнасць у якой-н. справе.* Стой, брат, падумай: а можа, гэта і не так, можа, ты яшчэ здолен на нешта патрэбнае людзям. «Апускайся, куме, на дно»... Не, гэта прыказка... Пакі носяць цябе ногі, ты нешта рабі, рабі тое, што трэба людзям... (Я. Колас. На схіле дзён). **Не траць, куме, сілы, спускайся на дно**. [Голас з рэпрадуктара:] Шаноўныя грамадзяне! Хто дабіваецца неўміручасці, павінен прадставіць аналізы... Просьба прадставіць яшчэ характарыстыкі з месца працы. Хто ўсяго гэтага не зможа прадставіць, просьба не падаваць заяў, не ўскладняць работу Камітэта па справах неўміручасці. [Адзін з чаргі:] Словам, не траць, куме, сілы, спускайся на дно (К. Крапіва. Брама неўміручасці). Робім складкі сіламі найбольш свядомага і грамадска вырабленага люду, без чаго ўсё пайшло б па старой прыказцы: «Не траць, куме, сілы, спускайся на дно...» (В. Якавенка. Пакутны век).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 110: Пускайся, куме, на дно – не траць дарам часу; *Янкоўскі*, с. 383: Не траць сілы, спускайся на дно.

**Аржаная каша сама сябе хваліць**. *Гаворыцца з насмешкай пра таго, хто сам сябе хваліць.* **Сін.:** *Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная.* «Аржаная каша сама сябе хваліць, – едучы думаў Рагуля. – Выхваляўся [Абрамчык], што адзіны за мяжою прадстаўнік бацькаўшчыны...» (І. Гуркі. Чужы хлеб). **Любіць аржаная каша сама сябе хваліць**. Яўхім побач з ёй [Ганнай] таксама пацягнууўся за ягадай. – Усё-такі з памочнікам спарней! – Гледзячы, які памочнік!.. – А хіба – паганы? – паспрабаваў ён пажартаваць. – Добры, значыцца!.. Любіць аржаная каша сама сябе хваліць! (І. Мележ. Людзі на балоце). Ох, як жа хораша ўмеем мы ўсміхац-

ца на паўгубы: любіць аржаная каша сама сябе хваліць... (Я. Сіпакоў. З чаго мы смяёмся).

– *Насовіч*, с. 3: Аржаная каша сама сябе хваліць; *Раманаў*, с. 228: Усякая каша сама сябе хваліць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 338: Аржаная (грэцкая) каша сама сябе хваліць.

**Арлу з савой не па дарозе**. *Пра адсутнасць адзіных поглядаў, імкненняў і пад. у каго-н. з кім-н.* **Сін**.: *Воўк казе не таварыш; Гусь свінні не таварыш; Пешы коннаму не таварыш* (у 2 знач.). – Чуеш, Зорах? Больш з табой ніякіх спраў мець не хачу. Арлу з савой – не па дарозе. А калі толькі ўздумаеш размяняць на залатыя імперыялы маю галаву, дык во, глянь... – Ціхан выцягнуў з халявы востры нож і бліснуў ім перад тварам Зораха (З. Бядуля. Разбойнік Ціхан).

– *Янкоўскі*, с. 64: Арлу з савою не па дарозе.

**Атаўка – сену прыбаўка, ды не мог скасіць яе Саўка**. *Кажуць з насмешкай, калі хто-н. не паспеў ці не захацеў скасіць атаву.* Калі адрасла атава, дык і яе не змаглі скасіць... – Атаўка – сену прыбаўка, ды не мог скасіць яе Саўка, – дакорліваківалі галовамі дзяды, калі бачылі, як трактары цягнулі валакушы з саломай ад фермера (М. Даніленка. Атаўка – сену прыбаўка). Скасіў, высушыў [сена], адвёз дадому. І на атаву, вядома, спадзяваўся: атаўка – сену прыбаўка (В. Шырко. Анатоль Мацвеевіч).

– *Насовіч*, с. 3: Атаўка – сену прыбаўка, ды не ўмеў скасіць Саўка; *Прыказкі*, кн. 1, с. 134: Атаўка – прыбаўка, ды не ўмеў скасіць Саўка.

**Аўчына вырабу не варта**. *Гл.* Не варта шкурка вырабу.

**Ахвота горш за няволю**. *Тое, што чалавеку па душы, ён робіць ахвотна. Кажуць, калі бяруцца за што-н. складанае, цяжкае не па абавязку, а дабравольна і ахвотна.* – Летам яшчэ не бяда, а вось калі б такое [дождж] восенню... – Бывае і восенню. Нездарма ж кажуць, што ахвота горш за няволю. І перамерзнеш, і перамокнеш [на рыбалцы], а прыемна! (М. Ваданосаў. Надзеі і здзяйсненні). – Усё з Радзюкамі ваюеце?.. – Што зробіш, ахвота горш за няволю. Я такі – калі пачаў што-небудзь, не супакоюся, не адступлюся ўжо, пакуль да канца не давяду (Б. Сачанка. Родны кут). Я рабіў даклад. Першы раз у жыцці. Але ж – па ўласнай ахвоце. А ахвота, кажуць, горш за няволю. Узяў на плечы – нясі, не данясеш – сорам будзе. Што называецца, улез у нерат ... (В. Якавенка. Другой зямлі не будзе). Я дакараў сябе: «Навошта было перціся ў тыя грыбы? Мала табе сваіх, пушчанскіх?» Але ахвота, кажуць,

горш за няволю. Не столькі ў тыя грыбы, колькі на прыроду пацягнула (К. Камейша. Паміж кубкам і вуснамі).

– *Насовіч*, с. 123: Ахота хужы няволі; *Прыказкі*, кн. 1, с. 170: Ахота горы няволі; *БРС*, т. 1, с. 158: Ахвота горш за няволю.

**Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся**. *Гл.* Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш, а назад не вернешся.

# Б

**Баба з воза – каню (кабыле) лягчэй**. *Калі хто-н. пакіне каго-н. ці адмовіцца ад чаго-н., то ад гэтага будзе толькі лепей.* Каты пасунуліся з хаты, прыгрукнуўшы за сабою дзвярмі, аж у лямпе падскочыў жоўты язычок агню. – Баба з воза – каню лягчэй, – сказаў Корсак, калі ў сенях аб кручок дзынкнула клямка (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). І сапраўды, яны, земцы, спешна выйшлі з залы. – Баба з воза – каню лягчэй, – усміхнуўся Аўторак, і яго словы пакрыліся воплескамі (Г. Далідовіч. Свой дом). [Марыя Тарасаўна:] Хай бярэ. Навошта мне тая ўлада? Баба з воза – каню лягчэй. З настаўнікамі нам тут будзе весялей (Я. Ермаловіч. Сіняя птушка). Дырэктар забраў з воза свой лёгенькі, з увагнутым бокам, чамаданчык і заспяшаўся да машыны. – Што ж, баба з воза – кабыле лягчэй!.. – весела прамовіў Жывіца (І. Мележ. Мінскі напрамак). **Баба з калёс – калёсам (каню) лягчэй**. – Вы, Цімафей Міронавіч, пэўна, таксама ў калгас пераступіце? – А чаму ж не?.. Ці ж мне век... мардавацца на гаспадарцы. Баба з калёс – калёсам лягчэй... (М. Зарэцкі. Вязьмо). – Збег, як самы апошні здраднік, – пагардліва сказаў Пятрусь. – Ён заўсёды віхляў, быў добры і вашым і нашым. Баба з калёс, каню лягчэй... (І. Навуменка. Мой сябар Пятрусь). Возьмем і аб'явім байкот. Не пойдзем у тваю сталоўку... – Ну што ж, баба з калёс, каню лягчэй. Толькі вы загадзя скажыце, каб я адмяніў заказ. А то прадуктаў шкада, яны дарагія (І. Шамякін. Губернатар).

* [Каляда:] Месяц гавару Журу, каб адрамантаваў дах у інтэрнаце мантажнікаў, – як гарох аб сцяну! Абяцае, а не робіць! [Кісялёў:] Такіх работнічкаў з воза – кабыле лягчэй... (П. Васілеўскі. Любоў, Надзея, Вера).

– *Насовіч*, с. 3; Баба з калёс, калёсам легчы; *Ляцкі*, с. 3: Баба з калёс – калёсам лягчэй (калёсы як чорт панёс); *Прыказкі*, кн. 1, с. 283: Баба з воза – возу лягчэй.

**Баба з калёс – калёсам лягчэй**. *Гл.* Баба з воза – кабыле лягчэй.

**Баба і чорта звядзе**. *Пра дрэнны характар жанчыны.* I характарам жанчына нібыта розніцца ад мужчыны ў дрэнны бок, што і бывае прычынаю сварак і неладоў: баба і чорта звядзе (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 77: Баба і чорта звядзе.

**Баба трымае тры вуглы гаспадаркі, а мужык – адзін вугал.** *Гл.* Жонка (баба) у хаце тры вуглы трымае, а мужчына (мужык) адзін.

**Баба ў хаце тры вуглы трымае, а мужчына адзін.** *Гл.* Жонка (баба) у хаце тры вуглы трымае, а мужчына (мужык) адзін.

**Бабіна (бабе, у бабы) дарога – ад печы да парога**. *Пра абмежаванасць жанчыны хатнімі абавязкамі, справамі.* [Халімон:] У цілівізары паказваць будуць яго [парсюка] і – мяне! [Марфа:] Ого! Цябе? А Куліну што? Забракавалі?! [Халімон:] Куды ёй? Яе дарога – ад печы да парога! (У. Сауліч. Халімон камандуе парадам). У бабы адна дарога – ад печы да парога (Эпіграф да раздзела «Жанчына» з кнігі Б. Сачанкі «Вечны кругазварот»). Маці магла толькі распісацца. Тады лічылася: «Бабе дарога – ад печы да парога» (С. Лобач. Пажывём для людзей). А хіба ж я, жанчына, не спраўляюся са сваім, як ты кажаш, заняткам? Ці, па-твойму, па-дамастроеўску, бабе дарога – ад печы да парога? (Г. Далідовіч. Гэлька).

* Бабская дарога ад печы да кухоннага камбайна (Л. Дайнека. Парадаксізмы).

– *Ляцкі*, с. 3: Бабіна дарога ад печы да парога; *Прыказкі*, кн. 2, с. 74: Бабіна (бабе) дарога – ад печы да парога; *Сцяшковіч*, с. 580: Бабе была дарога ад печы да парога.

**Багатаму і чорт у кашу дбае**. *Багатаму ўсё ўдаецца, ва ўсім шанцуе.* **Сін**.: *Багатаму чорт дзяцей калыша; У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.* I як назло ўсяму сялу – не сам робіць Дарош на зямлі, а расце на ёй лепш, чымся ў людзей. I заўжды, калі гутарка дзе ўсчнецца пра Дароша, дык і гавораць, уздыхаючы: – Багатаму і чорт у кашу дбае (Р. Мурашка. Сын).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 422: Багатаму і чорт у кашу маслам кідае.

**Багатаму чорт дзяцей калыша**. *Багатаму ўсё ўдаецца, ва ўсім шанцуе.* **Сін**.: *Багатаму і чорт у кашу дбае; У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.* [Пацук:] Прыказка нездарма кажа, багатаму чорт дзяцей калыша. Гаспадарка дыхт, воўк яго еш. Багаты гаспадар усяго мае: і зямлю, і скаціну, і дачушку-сакатушку. Вось каб бог дапамог ажаніцца з ёй (У. Галубок. Плытаго-

ны). – Адзін Цубер-Крумкач адбухаў новую [хату]. Паспе-еў! Але ж багатаму і чорт дзяцей калыша. – Дзед стрымаў сябе, каб не разагнацца і не сказаць чаго больш (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). Пасее бедны мужык пшаніцу, ледзь на насенне збярэ. Пасее багаты – поўныя засекі насыпле. І, здаецца ж, загоны побач, а няма шчасця бедняку. Праўду людзі кажуць: багатаму чорт дзяцей калыша (В. Шырко. Дзед Манюкін не салжэ).

– *Насовіч*, с. 6: Багатаму чорт дзяцей калышыць; *Федароўскі*, с. 19: Багатаму чорт дзеці калыша, а беднаму з калыскі выкідае; *Прыказкі*, кн. 1, с. 422: Багатаму чорт дзеці калыша.

**Багатаму шкада (шкода) карабля, а беднаму – кашаля**. *Кожнаму шкада свайго набытку. Гаворыцца звычайна са спагадай у дачыненні да беднага, калі ў яго прападае што-н.* – Як.. яно будзе [пасля абагульвання гаспадарак]?.. Добра, як у каго няма нічога! – Аге! – запярэчыла нявестцы Васілёва матка. – Не шкода хіба! Багатаму шкода карабля, а беднаму – кашаля (І. Мележ. Подых навальніцы).

– *Насовіч*, с. 6: Багатаму жаль карабля, а беднаму кашаля; *Раманаў*, с. 291: Багатаму не столькі жалка карабля, сколькі беднаму жалка хатуля.

**Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца**. *Ужываецца, часцей жартаўліва, як станоўчая ацэнка жыццёвасці небагатага чалавека.* [Дзядзька:] Не бойцеся беднасці, бо бедны любіць чалавека, а багаты – багацце. Нічога, што багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца. Па гэтым людзі жылі і жыць будуць (У. Дамашэвіч. Дзявочая клятва). **Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца**. Хапіла на булку хлеба і каструлю журавінавага кісялю. Акружылі яе з лыжкамі і рагочам. Як мама мая гаварыла: «Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца» (Я. Брыль. Жменя сонечных промняў).

– *Насовіч*, с. 106: Няхай багач дзівіцца, чым худак жывіцца; *Ляцкі*, с. 3: Багатыр дзівіцца, чым худак жывіцца. – Не дзівіся, багачу, я й за цябе заплачу; *Прыказкі*, кн. 1, с. 414: Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца, а бедны смяецца, дзе ў багатага дзяецца.

**Бадалася цялё (цяля) з дубам.** *Пра далёка не раўнасільную, але не бескарысную і не безвыніковую барацьбу адважных адзіночак. «*Як цялё бадалася з дубам» – назва артыкула А. Вярцінскага, дзе расказваецца, на аснове архіўных матэрыялаў, пра «ліст 53-х» у абарону В. Быкава і прыводзяцца іншыя матэрыялы пра «культуру і ўладу, творчую інтэлігенцыю і палітыку». «Бадалася цялё з дубам» – так у свой час называў сваё змаганне з таталітарным брэж-

неўскім рэжымам А. Салжаніцын. Прайшлі гады, пісьменнік вярнуўся на радзіму, дзе жыве і цяпер. А савецкі рэжым сышоў у мінулае, «дуб» спарахнеў і паваліўся (С. Буткевіч. Баданне з дубам). [Нік:] Калі жарты былі плоскімі, білі пугай, секлі розгамі. Занадта вострым – секлі галаву... А хавалі – за агароджай могілкаў... [Лета:] Сумны лёс. [Нік:] Выпрабаваў на сваёй скуры... Як сказаў класік – бадалася цяля з дубам... (А. Дзялендзік. Лета).

– Паўкалька з рускай мовы. Паходзіць ад назвы нарысаў А. Салжаніцына «Бодался телёнок с дубом» (1970-я гады).

**Бадлівай карове бог рог не дае**. *Той, хто хацеў бы зрабіць каму-н. штосьці дрэннае, не мае магчымасці ажыццявіць сваё жаданне.* **Сін**.: *Ведаў бог, каму не даў рог.* [Пякарская:] А вы хто такі? Чаму ў вайсковым? Без шапкі? Не зашпіліўшыся? Будзь я камандзірам, трое сутак гаўптвахты. [Байкач:] Кажуць: «Бадлівай карове бог рог не дае» (І. Гурскі. Патрыёты). – А я ўсё не супакойваюся, усё мне хочацца за сабою ў магілу хоць каго-небудзь з маіх крыўдзіцеляў пацягнуць. – Бадлівай карове бог не дае рог... (М. Стрыжоў. Могілкі... ноч месяцовая). – Ты ва ўсім вінаваты. Спалохаўся, як зайчык, не паехаў з Раманам. Каб я была хлопцам, толькі б мяне тут і бачылі. – Не балабонь пустое. Бадлівай карове бог рогаў не дае (Л. Дайнека. След ваўкалака).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 263: Бойкай (бушлівай) карове бог рог не дае.

**Бацькоў не выбіраюць**. *Кажуць з незадавальненнем, калі хто-н. выказвае штосьці негатыўнае пра чыіхсьці бацькоў.* – Вось што значыць не аднаго бацькі... не родныя і не чужыя... – Казала ўжо... Бацькоў не выбіраюць (М. Воранаў. Карона). [Тарасевіч:] Дзеці мае... Я не магу больш вам гаварыць. Я ўсё сказаў. Нават лішняга наплёў. Бацькоў не выбіраюць... (Л. Леванові. Пасля разводу). – Вялікі ты стаў, Алёша. Прывыклі мы да цябе... Бацьку ўспамінаеш? – Успамінаю... – Правільна. Бацькоў не выбіраюць. Бацька ёсць бацька. На ўсё жыццё... (А. Варановіч. Сын).

– *Ліцвінка*, с. 85: Ніхто сабе бацьку і маці не выбірае.

**Бачна (відаць) па вочках, што ходзіць па ночках**. *Па ўчынках, справах, паводзінах відаць, што за чалавек.* – Чым жа ты давядзеш, што Алена вінавата? – Нечага і даводзіць. Я і так ведаю, што яна. Бачна па вочках, што ходзіць па ночках... – Як ты можаш гаварыць так!.. Сама пачала спрэчку, а цяпер яшчэ сарамаціш чалавека... (І. Мележ. Гарачы жнівень). Я ўжо тыдзень-другі прыкмячаю: надта ўбірацца ты пачала... Праўда, то вясёлая, лётаеш, як на крылах, то задуменная ці сумная. Гэта – не проста так у маладой

дзяўчыны. Відаць па вочках, хто ходзіць па начках... Прызнавайся: пазналася з баярынам? (Г. Далідовіч. Кліч роднага звона). – Дык усё-такі, чаму не падабаецца, а, дзядзька Коля? – Позірк непрыгожы... Відаць па вочках, што ходзіць па ночках (Маладосць. 1988. № 10).

– *Насовіч*, с. 62: Відна па вочках, што ходзіць па ночках.

**Бачылі вочы, што бралі (выбіралі, куплялі), дык (цяпер) ешце, хоць павылазьце**. *Праст. Гаворыцца як папрок, дакор за неабачлівасць, неразважлівасць пры выбары, набыцці каго- ці чаго-н.* [Маці:] Проста мне не пашанцавала. Пайшла замуж за вахлака, цяпер пакутую! Быў бы ён прэзідэнт ці які пасол, якое жыццё прыгожае было б! Візіты, прыёмы... Але бачылі вочы, што бралі, дык ешце, хоць павылазьце! (З. Дудзюк. Заложнікі шчасця). Бабуля казала яшчэ так: «Бачылі вочы, што куплялі, ешце, хоць павылазьце». І ўсё гэта, і шмат што іншае было варыянтамі расшыфроўкі аднаго з асноўных законаў жыцця гэтага раёна горада: «Жаніцца можна толькі адзін раз» (Н. Цыпіс. Вінніцкія замалёўкі). Як успрыме наша жытло Алена? Ды і ці хоча яна наогул з’язджаць з Масквы? Патрэбна ж куча грошай на ўладкаванне. Аднак вярнуўся з магазіна Мікола з гарэлкаю, і страхі прайшлі. «Дзе наша не прападала, – думаў я, куляючы чарку. – Урэшце рэшт яна ведала, за каго выходзіла замуж. Бачылі вочы, што куплялі, цяпер ешце, хоць павылазьце» (А. Кажадуб. Без настальгіі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 462; кн. 2, с. 50: Бачылі вочы, што куплялі, а цяпер плачце, хоць павылазьце; Бачылі вочы, што бралі (выбіралі), а цяпер ешце (плачце), хоць павылазьце; *Насовіч*, с. 127: Плачце, вочы, хоць павылазьце, відалі, што купавалі.

**Бачылі вочы, што выбіралі (куплялі), дык ешце**. *Гл.* Бачылі вочы, што бралі (выбіралі, куплялі), дык ешце.

**Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем**. *Гл.* У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.

**Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей**. *Пра здольнасць чалавека прадбачыць, адчуваць што-н.* – Адразу ж і сынок [нарodзіцца]! – пыхнула Ірына. – Можа, дачка. А то і двайняткі. Адкуль ведаеш? – Ведаю. – Ну-ну, бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей, жадаю табе, каго сама хочаш... (В. Рудава. Крылы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 232: Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей.

**Бачыць вока, ды зуб няйме.** *Хоць што-н. і вельмі жаданае, але дасягнуць яго немагчыма.* **Сін.:** *Блізка локаць, ды не ўкусіш;*

*Ёсць на ваўку кажух, ды прышыты; Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.* Канае на звалках вялікіх і малых гарадоў выкінутае туды бязлітаснай маладой рукой напаўдэбільнага тэлепузікавага нашчадка [дабро]. А гэтыя трое, іх інтэлігентныя бацькі, не прамінаюць нічога. Толькі над патрэбнымі, але груваcткімі і цяжкімі рэчамі больш сумуюць: бачыць вока, ды зуб няйме (В.Казько. Час збіраць косці). [Тамара:] Гэта ж Аўлас ведаеце, чаго хацеў? Хацеў, каб Ліза яго папрасіла... [Ліза:] Няма чаго вам зубаскаліць! [Леанід:] Мы пра цябе нічога не гаворым. Гэта ж у Аўласа – вока бачыць, ды зуб няйме (А.Макаёнак. Выйгрыш).

* – Чаму ты марудзіш, чужаземец? – незадаволена спытаўся Уладар. – Ці адмаўляешся лячыць нашу крывінку?.. – Бачыць вока ды на зуб далёка, – прамовіла Уладарка. – Не будзе Ружа тваёй жонкай. Скруціш сваю галаву ўдалую (У. Ягоўдзік. Янка і Ружа).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 471: Вока бачыць, а зуб няйме.

**Баязліваму і корч мядзведзь**. *Баязлівы ўсяго баіцца, нават таго, што не можа быць небяспечным. Кажуць іранічна пра залішне асцярожнага чалавека.* **Сін.:** *Баязліўцу і заяц – воўк.* – А не нарвёмся [на вартавых]? За дротам ужо не пашкадуюць. Капец на месц[ы]... – Баязліваму і корч мядзведзь (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 296: Баязліваму і корч мядзведзь.

**Баязліўцу і заяц – воўк.** *Баязлівы ўсяго баіцца, нават таго, што не можа быць небяспечным. Кажуць іранічна пра залішне асцярожнага чалавека*. **Сін.:** *Баязліваму і корч мядзведзь.* Каб у нас гадзюка? Не. Баязліўцу і заяц – воўк. У нас тут і даўней былі вужы, а гадзюкі? Яе ніколі тут не было (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог).

**Бегаў Яначка ля плота – якая плата, такая і работа.** *Пра залежнасць старання і якасці работы ад заробку за яе, ад матэрыяльнай зацікаўленасці.* Не сакрэт, работа ў калгасе ішла праз пень калоду: усё там казённае, не сваё, за работу плацілі пустымі працаднямі. Адсюль і адносіны да яе. Акурат, як у той прыказцы: бегаў Яначка ля плота – якая плата, такая і работа (К. Цвірка. Далёкія воблакі).

**Бег сабака за возам, мусіць бегчы і за санямі**. *Гл.* Бег сабака за калёсамі (возам), мусіць бегчы і за санямі.

**Бег сабака за калёсамі (возам), мусіць бегчы і за санямі**. *Аднойчы прыслужыўшы каму-н., будзеш і далей прыслужваць.* Юльяну крыўдна: увесь час ён на повадзе ў Лукоткі. Зноў трэба згаджацца. Як адмовіцца? Бег сабака за калёсамі, мусіць бегчы і за санямі (М. Воранаў. Пакаянная галава).

– *Ліцвінка*, с. 190: Калі сабака бег за возам, то пабяжыць і за санямі.

**Беднаму (няшчаснаму) Івану няма нідзе талану**. *Кажуць пра таго, каму не шанцуе ў жыцці.* – І пад кулю шалёную трапілі, у бальніцы столькі пралежалі, і не друкуюць вас нідзе. – Беднаму Івану няма нідзе талану, – паўтарыў Сцяпан Радзівонавіч прымаўку, што чуў яшчэ ў дзяцінстве (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Калі б мелі свой кавалачак зямліцы, то трасцу – ніхто не пароў бы, з месца не гнаў бы. А так... Няшчаснаму Івану няма нідзе талану! (С. Александровіч. На шырокі прастор).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 420: Нашаму Івану няма талану; Нашаму беднаму Івану нідзе няма талану.

**Беднасць не загана**. *Функц. не зам.* Здзівіла, што навуковы супрацоўнік жыве так бедна. Але, як кажуць, беднасць не загана (І. Шамякін. Выкармак). Я разумею ваша маўчанне, Павел Міканоравіч: вы не маеце сродкаў. Але беднасць – не загана. Так спрадвеку лічылі... (М. Віж. Лабірынт).

– *РБС*, т. 2, с. 150: Беднасць не загана.

**Бедная тая дамова, дзе вала бадзе карова.** *Гл.* Кепская (бедная) тая дамова, дзе вала бадзе карова.

**Без Бога ні да парога**. *Кажуць, калі трэба сцвердзіць, што без Бога як вярхоўнай істоты і кроку не ступіш, што ўсё падуладна Богу.* – Здорава ты засвоіў евангельскую навуку, – пажартаваў Лабановіч. – Без Бога ні да парога (Я. Колас. На ростанях). – Што ж было б, дзедка, каб ніхто не мяшаўся. Хто б нас абстояў тады? – Бог... На Бога спадзявацца трэба. Без Бога ні да парога (Р. Мурашка. Сын). Гэта ж цяпер пакруціліся маладыя, кажуць: «Бога няма і папа не трэба», а без Бога ні да парога (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). – Прадалі бульбу – будзем мецць гэтыя самыя... – умоўна папляваў ён на пальцы, складзеныя ў шчопцю. – Скормім свінням – памінай, як тую бульбу звалі... І чым больш скормім, тым большыя страты. А ў гаспадарцы без грошай, як без Бога – ні да парога. Самі ведаеце (У. Дуброўскі. Красна хата не толькі пірагамі).

– *Насовіч*, с. 5: Без Бога ні да парога; *Федароўскі*, с. 33: Без бога ні да парога; *Прыказкі*, кн. 2, с. 149: Без Бога ні да парога.

**Без ветру і дуб не шуміць.** *На ўсё ёсць свае падставы. Пра прычынна-выніковыя сувязі паміж пэўнымі з'явамі.* Дзіда-дзед з захапленнем назіраў за ваўком і авечкай. Што гэта? Мір на зямлі? Ці ж так? Што ж... без ветру і дуб не шуміць. Калі Зміцер хіцер,

дык і Матрона не варона. Паспрабую і я [скокнуць ваўку на спіну і ўпраўляць ім] (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

– *Ліцвінка*, с. 100: Без ветру лісты на дрэве не шалясцяць.

**Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата**. *Без гаспадара няма парадку ў гумне, а без гаспадыні – у хаце.* У хаце з таго часу, як раптоўна памерла гаспадыня, асаблівага парадку ніколі не было. Нездарма кажуць: без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата (А. Макоўскі. Бацькава слова).

– *Федароўскі*, с. 105: Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата; *Прыказкі*, кн. 2, с. 64: Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні – хата.

**Без гаспадара (без мужчыны) <і> дом сірата**. *Пра выключную ролю гаспадара ў хаце.* **Сін.:** *Калі хата без гаспадыні – вуглы гараць, а без мужыка (гаспадара) – увесь дом; Хата без гаспадара плача.* Дык я ж кажу, Зоечка, усё ў вас ёсць, як паглядзіш навакол, і самі не благія, толькі гаспадара не хапае. А без гаспадара, кажуць людзі, дом – сірата (А. Пальчэўскі. Малако). У Краюхіных – такое прозвішча мела сям'я мужа – мужчын не было, свёкар таксама на вайну падаўся, а без мужчыны, як вядома, і дом сірата (В. Шабалтыс. Душагуб).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 64: Без хазяіна і дом сірата.

**Без глыбокага кораня дуба не бывае.** *Якая-н. важная жыццёвая справа немагчымая без трывалага падмурка.* Хочацца спадзявацца, што такое захапленне моднымі сістэмамі пройдзе і мы вернемся да сваіх маральна-этычных асноў і каштоўнасцяў, якія ўваходзяць каранямі ў тысячагадовую культуру нашага народа. Інакш мы проста ператворым сваіх дзяцей у «тутэйшых» спажыўцоў, а не стваральнікаў сваёй дзяржавы. Бо «без глыбокага кораня дуба не бывае», – сцвярджае народная прыказка (Настаўн. газ. 2001, 26 мая).

– *Янкоўскі*, с. 183: Вялікага дуба з малым карэннем не бывае.

**Без мужчыны і дом сірата.** *Гл.* Без гаспадара (без мужчыны) <і> дом сірата.

**Без мукі няма навукі**. *Дасягнуць пэўных поспехаў у навучанні, у навуцы – далёка не лёгкая справа.* Заходні чалавек не зробіць ніводнага сур'ёзнага кроку без кансультацый з адвакатам. Там гэта норма. Але да гэтай нормы там ішлі некалькі соцень гадоў. Нам прапанавана прайсці гэты шлях за лічаныя гады. І мы яго пройдзем. Іншая справа, чаго нам гэта будзе каштаваць? Шмат будзе каштаваць, бо без мукі няма навукі (Звязда. 2001, 26 мая). Альбіна пераканалася, што ўсё сапраўды святое неабходна дбайна пільна-

ваць, затойваць ад чужых, жорсткіх, нахабных і крывадушных вачэй, што без мукі для беларуса няма навукі... (М. Віж. Лабірынт).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 178: Без мукі няма й навукі; *Рапановіч*, с. 175: Без мукі не набыць навукі.

**Без мяне мяне жанілі (ажанілі) <мяне дома не было>**. *Без ведама ці згоды каго-н. рашылі за яго ці зрабілі што-н. ад яго імя.* Калі ты правільна выбраў маршрут свой і маеш план, як дабівацца на ім, – ты сам кум каралю, а то і болей... І нечага тут плакаць: без мяне мяне жанілі, мяне дома не было. А дзе ж ты быў? (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму). Я не прасіўся на гэты аддзел. Тут, як кажуць, без мяне мяне жанілі. Але я не адбіваўся (І. Шамякін. Губернатар). Вяселле. А Галя ж яшчэ нічога не ведае. Сапраўды, як у прыказцы «без мяне мяне ажанілі» (С. Грахоўскі. Засвеціцца акно). – Тваю групу сальём пакуль што з групай Пацыкайліка, хай разам пазаймаюцца... Дык як?.. – Без мяне мяне ажанілі... – не знайшоў што сказаць [Віця] (П. Місько. Канал імя Віцькі Зайцава).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 36: Без мяне мяне жанілі; Без мяне мяне жанілі, мяне дома не было.

**Без начыння і лапця не спляцеш.** *Без належных прылад ніякай справы не зробіш.* **Сін.:** *Без струманту і вошы не заб'еш.* – А як жа яго зламалі? – Кажуць жа, пані, што без начыння і лапця не спляцеш. А ўсялякае начынне пры рабоце псуецца. Вось так і панскі сцізорык. Хацелі пану на боты злупіць з выжла шкуру, узялі сцізорык. Але на панскім выжле вельмі ж моцная шкура была. Ну, сцізорык і зламаўся (З народнай казкі «Як Сцёпка з панам гаварыў»).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 149: Без начыння і лапця не спляцеш.

**Без падпалу дровы не гараць**. *Без чыіх-н. нагавораў, даносаў не абвастраюцца спрэчкі, сваркі, непрыязныя адносіны паміж людзьмі.* – Можа, даўно замужам былі б, каб не гэтакі брат. Можа, ніхто і браць не квапіцць з гэтакае хаты. – А што яны вінаваты! – І старэйшая гэтакая самая. Яна ж і памагала яму нябожчыцу грызці: усё ж і падвучвала, а без падпалу дровы не гараць (К. Чорны. Ліст Якуба Малькевіча).

– *Насовіч*, с. 5: Без паджогі дровы не гараць; *Янкоўскі*, с. 181: Без падпалу дровы не гараць; *Рапановіч*, с. 12: Без падпалкі і дровы не гараць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 150: Без паджогі дровы не гараць; Без падпалкі дровы не гараць.

**Без працы не будзеш есці калачы**. *Гл.* Без працы не будзеш есці коляцы (калачы).

**Без працы не будзеш есці коляцы (калачы)**. *Гаворыцца як павучанне працаваць* (у польскай мове: *jesc kolacje* – вячэраць). **Сін**.: *Хочаш есці калачы, то не сядзі на пячы.* Працавітасць у народзе высока ставіцца, бо без працы не будзеш есці коляцы (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 166: Без працы не будзеш есці коляцы (калачы).

**Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца**. *Кажуць пра таго, хто часта і ўмела ўжывае прыказкі.* Ёсць такія аматары прыказак, якія чуць не кожны свой крок апраўдваюць прыказкаю, чуць не кожны свой выраз аздабляюць ёю. Пра такіх нават і знарочыстая прыказка ўтварылася: «Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца» (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Насовіч*, с. 5: Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца; *Рапановіч*, с. 243: Без прыказкі і з печы не зваліцца.

**Без снасці і вошы не заб’еш**. *Гл.* Без струманту (без снасці) і вошы (гніду) не заб’еш.

**Без старога каля хаты – як без сабакі**. *Пра станоўчую ролю старога чалавека ў гаспадарцы.* Пузач.. ідзе да дзвярэй. На гэты раз ключ яго ляскае толькі ў дзвярах. А ў вязневай галаве, несучы за сабою далёкую, даўнюю ўсмешку, з’яўляецца прымаўка: «Без старога каля хаты – як без сабакі...» Гэты пільнуе і брэша, відаць, не толькі для хлеба, але ж і для душы (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 92: Без старога каля хаты горш, як без сабакі.

**Без струманту (без снасці) і вошы (гніду) не заб’еш**. *Без належных прылад ніякай справы не зробіш.* **Сін.:** *Без начыння і лапця не сплящеш. «*Без струманту і вошы не заб’еш» – вось лозунг баявы за тэхніку мінуўшчыны вашывай! (К. Крапіва. Захара-дырэктар). – Жадаю поспеху вашым партызанам. Так і трэба. Само нічога не прыйдзе. – Мы і не чакаем, таварыш камандзір. Абы было чым, дык мы любому дамо па загрыўку, а без струманту і гніду не заб’еш (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). Калі ён [Паўлюк] выйшаў на свіст з-за куста, на ім мы ўбачылі... вінтоўку-«дзясятачку», наган, за «ласяком» – гранату. – Э, брат, дык ты маніў, што нічога сабе не пакінуў! – Што ж, – загудзеў ён у адказ, – без снасці, браце, і вошы не заб’еш (Я. Брыль. Мой зямляк).

– *Насовіч*, с. 5: Без прыбору і вошы не заб’еш; *Прыказкі*, кн. 1, с. 149: Без струманту і вошы не заб’еш; Без прылады і вошы не заб’еш і блыхі не паймаеш.

**Без хлеба яда – да парога хада**. *Калі есці страву без хлеба, то добра не наясіся.* Галоўным – «галавой», «гаспадаром» – ва ўсякай ядзе ў продкаў-палешукоў быў хлеб. Без хлеба не елі ні адной стравы: без хлеба яда – да парога хада. Перш чым падаць што-небудзь на стол, ставілі ці лажылі хлеб (Б. Сачанка. Вечны кругазварот).

– *Рапановіч*, с. 39: Без хлеба яда – да парога хада.

**Беражонага <і> бог беражэ**. *Хто беражэцца, хто асцярожны, той унікне небяспекі. Гаворыцца як парада быць асцярожным, не рызыкаваць ці ў апраўданне чыёй-н. нібыта залішняй асцярожнасці.* – Будзь здаровы, сынок. Беражонага, кажуць, бог беражэ. – Яна [маці] пацалавала Зміцера і адчула, як шчымліва заныла сэрца, а ў вачах закіпелі слёзы (М. Даніленка. Ля Дняпра, у другім эшалоне). Беражонага бог беражэ. Спадзеючыся на бога, берагліся, як маглі, і верасаўцы – абапал вёскі ставілі па крыжу. З аднаго канца – праваслаўны, з другога – каталіцкі (В. Адамчык. Голас крыві брата твайго). Дык я ж і кажу: шануй сябе, дачушка, беражы, бо беражонага і бог беражэ (В. Дайліда. Буслы над вёскай). **Сцеражонага <і> бог сцеражэ**. [Клава:] А наш жа горад ад фронту яшчэ далёка. [Жлукта:] Ну, ведаеш... Сцеражонага бог сцеражэ. Прыляціць, плясне – вось табе і далёка (К. Крапіва. Мілы чалавек). – А зараз нічога такога не раблю, за што б трэба было баяцца. – А ўсё ж, як кажуць, сцеражонага і бог сцеражэ (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). У душы яна [Ніна] баялася госці. Гаворыць адно, а што думае? Сцеражонага бог сцеражэ. Трэба пераканацца на справе, тады да канца адкрываецца (І. Новікаў. Ачышчэнне).

* Разумная асцярожнасць ніколі не перашкода. Нездарма кажуць, што беражонага і сам пан бог беражэ... (М. Ваданосаў. Пад чужым паролем). – Што ж, уцякаць ад іх [легіянераў]? – Ад воўка ўцякаеш, на мядзведзя наскочыш. А беражонага і куля беражэ (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). Вы не крыўдуйце, што так доўга адкладвалі сустрэчу. У нас ёсць прымаўка: «Хто сцеражэцца, таго і бог сцеражэ» (І. Новікаў. Да світання блізка).

– *Насовіч*, с. 157: Сцеражонага і бог сцеражэць; *Федароўскі*, с. 302: Сцеражонага і бог сцеражэ; *Прыказкі*, кн. 2, с. 299: Беражонага бог беражэ; Асцярожнага і бог сцеражэць.

**Бі сароку, бі варону, даб'ешся да белага лебедзя.** *Пачаўшы з малога, з цягам часу, набыўшы вопыт, навык, даб'ешся і большага.* Бі сароку, бі варону, даб'ешся да белага лебедзя (Загаловак раздзела з рамана Р. Мурашкі «Салаўі святога Палікара»).

– *Насовіч*, с. 5: Бі сароку і варону, даб'ешся да белага лебедзя; *Янкоўскі*, с. 206: Бі сароку і варону – даб'ешся да белага лебедзя.

**Бі свой свайго, каб чужы баяўся (чужыя баяліся).** *Кажуць, часцей іранічна, пра непатрэбную барацьбу паміж сваімі ж людзьмі (зрэдку і іншымі адушаўлёнымі прадметамі).* Стралялі, нішчылі, білі – не дужа разбіраючыся, не надта мяркуючы-судзячы – абы больш крыві – і сваёй, і варожай. Але ці гэта пачалося толькі з вайной, ці і да вайны было не тое самае... Свае з сваімі пачалі ваяваць даўно і рабілі гэта з немалым поспехам. Нездарма казалі: «Бі свой свайго, каб чужы баяўся». Чужых не надта напалохалі, а сваіх пабілі. Цэлыя горы трупаў (В. Быкаў. Сцюжа). Ды неўзабаве сварка паміж братамі ўсчалася. Аднаму падалося, што другі мяжы трохі прыхапіў. Справа ад слоў перайшла да калкоў. Дубасяць браты адзін аднаго, а вяскоўцы рагочуць ды дзівуюцца: які чорт іх за адно месца ўкусіў. – Бі свой свайго, каб чужыя баяліся, – пад'юджвае стары Піліп (У. Правасуд. Піліпава семя). **Бі сваіх, каб чужыя баяліся.** Спачатку пеўні ўзляталі ўгору, на якога паўметра ад зямлі, і стараліся дастаць адзін аднаго кіпцюрамі сваіх ног або крыламі... «Бі сваіх, каб чужыя баяліся!» – І разляталіся белыя пёркі, і падалі чырвоныя кроплі на траву... (М. Зарэмба. Дзень магнітнай буры). Пабываўшы ў розных лагерах, хачу зазначыць: і левыя і правыя ў пытаннях ідэалагічнай барацьбы аднолькавыя, яны нават творчых людзей дзеляць на «нашых» і «вашых»... Адсюль вынікае і іх спрадвечны дэвіз: бі сваіх, каб чужыя баяліся (Л. Галубовіч. Як «Наша слова» адзавецца). А неабачлівым ды безадказным калегам хочам нагадаць, што, працуючы дзеля адзінай мэты, ганебна трымацца прынцыпу «бі сваіх, каб чужыя баяліся» (Л. Дранько-Майсюк, Р. Сініца. Пісьменнік і перамога).

– *Выслоўі*, с. 34: Бі свой свайго, каб чужы баяўся.

**Благая тая птушка, што свайго гнязда не пільнуецца**. *Кажуць з неадабрэннем пра таго, хто не пільнуецца родных мясцін, сваёй «малой радзімы».* Сцяпан нават пашкадаваў, што праявіў бязволле і, добра не падумаўшы, паехаў у Маскву: можна было зрабіць гэтую вандроўку і пазней. «Благая тая птушка, што свайго гнязда не пільнуецца», – успомніліся яму словы маці, якія ён чуў ад яе яшчэ ў студэнцкія гады (І. Карэнда. Воплаўская госця).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 289: Дурная птушка сваё гняздо не шануе.

**Благія прыклады заразлівыя.** *І другім хочацца рабіць так, як зрабіў нехта іншы.* [Ляшчук:] Штосьці я не прыгадаю, Алёна Мікалаеўна, каб райкам адмяніў сваё рашэнне! [Новікава:] Зна-

чыць, будзе ўпершыню. [Ляшчук:] Не стварайце прэцэндэнта – благія прыклады заразлівыя (А. Дзялендзік. Гаспадар). Мурзатыя дзецюкі, пакідаўшы долу ключы, ледзь не кладуцца лёгма ад рогату, а за імі, пацвярджаючы даўняе выслоўе, што благі прыклад заразлівы, пачынаюць весела падхіхікваць Людвік і Падгайскі (В. Гардзей. Блаславёныя зёлкі).

– *Ліцвінка*, с. 105: Дрэнны прыклад заразлівы.

**Блізак кубак да губак, але шмат выбояў паміж ім і губою.** *Не так лёгка дасягнуць таго, пра што марыць хто-н.* **Сін.:** *Блізка відаць, ды далёка дыбаць* (у 2 знач.). Эпіграфам да твора [эпіграмы Язэпа Семяжона] былі ўзяты народная прымаўка «блізак кубак да губак, але шмат выбояў паміж ім і губою» і вытрымка з верша Еўдакіі Лось «Я напісала вершаў цэлы жмут...» (І. Лапцёнак. Арыгінальная творчасць паэта-перакладчыка Язэпа Семяжона).

**Блізка (блізкі) локаць, ды (а) не ўкусіш**. *Хоць здаецца, што і лёгка ажыццявіць што-н., але нельга дасягнуць жаданага*. **Сін**.: *Бачыць вока, ды зуб няйме; Ёсць на ваўку кажух, ды прышыты; Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў*. [Мікола:] А яно такі і крыўдна сядзець ды глядзець, як чужыя дзядзькі каля маладой увіхаюцца. [Госця:] І праўда, хіба ж гэта не здзек! Напроціў пасадзілі і сталом адгарадзілі. [Паўліна:] Блізка локаць, ды не ўкусіш (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). А ён [сцяг], як і раней, развяваўся пад сінню нябёс, наганяючы на паліцыянтаў злосць і трывогу. Блізкі локаць, ды не ўкусіш... (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). А мяне раз – і сухапутным маракам зрабілі! З берага на тыя караблі пазіраў. Блізка локаць, а не ўкусіш, так і тое мора... дражнілася толькі (Э. Ярашэвіч. Практыка ў Вербічах). – Былі, браток, блізка былі [немцы ад Масквы]. Але, як той казаў, блізка локаць, ды не ўкусіш, – адказаў дзядзька Хведар (Я. Курто. Дарога бяжыць насустрач).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 471: Блізка локаць, ды не ўкусіш.

**Блізка відаць, ды далёка дыбаць**. **1.** *Не так і блізка што-н., як здаецца. Гаворыцца ў дачыненні да таго, хто ідзе ці едзе.* – А гэта зусім блізка, вунь, відаць! – Блізка відаць, ды далёка дыбаць, – сказаў Асадчы. – Да таго ляска – кіламетраў пятнаццаць з гакам... (І. Гурскі. Неспакойныя характары). – Здавалася ж, адтуль рукою падаць да зарасніку. – Блізка відаць, ды далёка дыбаць, – незадаволена адказаў Міхась (М. Аўрамчык. Палон). – Сядайце, падвязём, а то блізка відаць, ды далёка дыбаць, – гасцінна запрашалі шафёры, спыняючыся каля падарожнікаў (Р. Няхай. Туман над стэ-

пам). Блізка відаць, ды далёка дыбаць, як людзі кажуць. Косціку здавалася, што да таго лесу рукой падаць, а вось ідзе, ідзе і ніяк да яго не дойдзе (Л. Арабей. Сіні бор). **Хоць і відаць, але (ды) далёка дыбаць**. У народзе кажуць: хоць і відаць, але далёка дыбаць. Так і тут. Амаль цэлы дзень дыбаеш, а Клінка і відам не відаць (М. Пянкрат. Ведрыцкія напевы).

**2.** *Не так лёгка дасягнуць таго, пра што марыць хто-н. Пра цяжкасці выканання якой-н. задумы*. **Сін.:** *Блізак кубак да губак, але шмат выбояў паміж ім і губою*. [Нодэльман:] А ты што?.. Тэхнікай авалодваеш? [Карнейчык:] Бяру ва ўсе лапаткі. Хачу галоўнага інжынера дагнаць і перагнаць. [Нодэльман:] Ого! Блізка відаць, ды далёка дыбаць (К. Крапіва. Канец дружбы).

* Потым Сарока пацікавілася: – А хто яе [грэблю] будзе будаваць? – Хто?! Самі! – Аге! Лёгка сказаць, ды – далёка дыбаць! (І. Мележ. Людзі на балоце).

– *Насовіч*, с. 6: Блізка відаць, ды далёка дыбаць; *Ляцкі*, с. 53: Хоць відаць, ды далёка дыбаць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 280: Блізка відаць (зіраць), ды далёка дыбаць.

**Блізкі локаць, ды не ўкусіш**. *Гл.* Блізка локаць, ды не ўкусіш**.**

**Блін не блін, пуза не расколе.** *Жартаўлівае запрашэнне каго-н. есці што-н. смачнае.* Распытвалі [родзічы] пра вучобу і частавалі магазіннымі прысмакамі, якія былі для мяне нейкім казачным дзівам. Ты падмігнуў мне: «Не саромейся есці. Блін – не блін, пуза не расколе» (У. Ліпскі. Бацька).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 242: Блін не блін, бруха не распора; *Ліцвінка*, с. 99: Блін не блін, пуза не расколе.

**Бога любі, але і чорта не гняві.** *Гл.* <І> бога хвалі і чорта не гняві.

**Бога хвалі і чорта не гняві**. *Гл.* <І> бога хвалі і чорта не гняві.

**Бог дасць дзень, бог дасць і харч.** *Гл.* Дасць бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).

**Бог даў, бог і ўзяў**. *Гаворыцца, часта як суцяшэнне, пра чыю-н. смерць, а таксама пра страту чаго-н.* Айцец Мікалай сядзеў некаторы час у глыбокім разважанні і ў смутку. Але ён успомніў многапакутніка Іова, заспакоіўся і сказаў: – Што тужыць, маці? Бог даў, бог і ўзяў. – Даць то даў, а забраў [мяккія крэслы] Сівалдайкін, – паправіла яго матушка (Я. Колас. Пракурор). [Глушак] хоць супакойваў сябе: бог даў – бог і ўзяў; хоць разважаў цвяроза: не ведаў жа, што так кончыцца, – калі маліўся аб малой, быццам

прасіў ва ўсявышняга літасці і даравання (І. Мележ. Подых навальніцы). – А чаму яны [дзеці] памерлі? Бо вы іх не да ўрача, а да шаптухі насілі. – Бог даў, бог і ўзяў, – сказала маці (А. Асіпенка. Мірная вайна). – Мама, хадзем хутчэй, людзі ж будуць чакаць, – прыспешваў бабу Насцю Міхалка, – памянем грэшную душу. Адпакутавала сваё. Ты вось што, – звярнуўся ён да мяне, – не плач. Бог даў, бог і ўзяў. Я цябе ў крыўду не дам (Г. Марчук. Кветкі правінцыі).

* Казалі пра сваіх таварышаў і таварышак. Хто яшчэ тупае, а каго «бог даў – бог узяў, бог прыслаў – бог прыняў». Каго раней, каго нядаўна. Хто ліпіць яшчэ, чаўрае, як і гэтая пара... (Ф. Янкоўскі. І гэтак...).

– *Насовіч*, с. 7: Бог даў, бог і ўзяў; *Ліцвінка*, с. 88: Бог даў, бог і ўзяў.

**Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш**. *Гл.* Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей.

**Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей**. *Людзей немагчыма зраўняць, зрабіць аднолькавымі ў якіх-н. адносінах.* – Адзін шалее з раскошы, другі кавалку хлеба жадзён. – Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей, – не здаваўся Станіслаў (І. Гурскі. Чужы хлеб). **Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш**. Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш. Падзялі вось сёння ўсё пораўні, дык на той год зноў перадзельваць давядзецца. Бо адзін будзе рабіць ад цямна да цямна, а другі будзе чэрава грэць пад сонцам (К. Крапіва. Мядзведзічы).

– *Ляцкі*, с. 62: Як бог лесу не зраўнаваў, так і людзей; *Прыказкі*, кн. 1, с. 428: Бог лесу не ўраўняў, а людзей тым больш.

**Бог не без літасці, казак не без шчасця**. *Кажуць са спадзяваннем, што ўсё абыдзецца, што ўсё павінна быць добра.* – Ат, бог не без літасці, казак не без шчасця, – казала ў тыя дні мама. – Паправішся, Мікола, вось паглядзіш (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). **Гасподзь не без міласці, а казак не без долі**. Хведаркаў сабака.., убачыўшы, што нічога не маю яму з ежы, бег праз агароды назад, да свае хаты. Я зноў заставаўся адзін і з цяжкім сумам вяртаўся пад свой дамок ды лягаў спаць. Аднак, як гаварыў Іванок: «Гасподзь не без літасці, а казак не без долі». Нажыў і я свайго сабаку (В. Петручук. Пожня).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 422: Бог не без міласці, а казак не без долі: ці худая, ці харошая – усё будзець.

**Бог не выдасць (не дасць, не папусціць, не прадасць), свіння не з'есць**. *Нічога кепскага не павінна здарыцца. Кажуць для заспакаення, што ўсё пагрозлівае, небяспечнае мінецца і што*

*з рызыкоўнага становішча будзе выйсце.* [Галубовіч:] Трэба абараняць, пакуль яшчэ ў ВАК не пайшла заява, а то тады ад маёй дысертацыі паляціць і пух, і пер’е. [Ракітны:] Будзем спадзявацца на лепшае. Бог не выдасць, свіння не з’есць (К. Крапіва. На вастрыі). Давай пра горшае не думаць. Бог не выдасць – свіння не з’есць (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). [Бацька:] Што будзе – тое будзе! Бог не выдасць – свіння не з’есць. Вязі, Мар’яна. Бог залічыць нам за гэта. Ды і людзі... (І. Шамякін. Ахвяра). Не турбуйся, усё абыдзецца... Бог не выдасць, свіння не з’есць. Мы з табой у вайну набраліся страху ў запас, навошта ў мірны час некага баяцца? (І. Новікаў. Ачышчэнне). Палкоўнік.. сам абвясціў павестку дня. Ну, што ж? Такі ўжо звычай новы: не ступіш кроку без прамовы, ды бог не дасць – не з’есць свіння. Але скрабе яго сумленне: ці проймеш словамі салдат? (Я. Колас. На шляхах волі). [Янка:] Бог не папусціць, свіння не з’есць. А калі б пабачыў, што мяне запыняюць і зробяць вобыск, дык сказаў бы: а я іду якраз у паліцыю – недазволеную літаратуру знайшоў (Я. Колас. На ростанях). Так, так, не бянтэжся.. Бог не прадасць, свіння не з’есць, а мы з капітанам адной куляй паранены (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

* [Камбат:] Няма рыдлёвак. І людзей няма, не прасі, Карпенка, сам ведаеш... «Нічога, чорт не здрадзіць – свіння не з’есць», – бесклапотна пажартаваў пэтээравец Свіст (В. Быкаў. Жураўліны крык). – А мы зробім усё ціха-ціха і хуценька звалім. Бог не папусціць, свіння не ўкусіць, – адказаў Алесь і нырнуў у чэрава машыны (В. Быль. Малюнкі з Адзіж-Бенах). – Людзі... Яны розныя бываюць. – Будзем верыць у добрае, у добрых людзей... Як у нас тут кажуць: вол не стопча, свіння не з’есць (Б. Сачанка. Вялікі Лес). А за дваццаць кіламетраў ад нас, на поўнач – у Веткаўскім раёне, – [радыяцыя] у два разы большая, там трэць раёна адсялілі. Што ж, будзем жыць па прыслоўю: «Бог не выдасць – радыяцыя не з’есць» (І. Шамякін. Зона павышанай радыяцыі).

– *Раманаў*, с. 291: Бог не дасць, свіння не з’есць; *Ляцкі*, с. 23: Бог не дасць, і свіння не з’есць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 149: Бог не дасць – свіння не з’есць.

**Бог не дасць, свіння не з’есць**. *Гл.* Бог не выдасць, свіння не з’есць.

**Бог не папусціць, свіння не з’есць**. *Гл.* Бог не выдасць, свіння не з’есць.

**Бог не прадасць, свіння не з’есць**. *Гл.* Бог не выдасць, свіння не з’есць.

**Бог не роўна дзеліць**. *Пра сацыяльную ці іншую няроўнасць сярод людзей.* Чым то дзеецца на свеце, што не роўна дзеле бог? Адзін ходзе у саеце, у золаце з плеч да ног, а другому, каб прыкрыцца хоць анучкай – велькі труд... (Ф. Багушэвіч. Бог не роўна дзеле). І гэта звычайны замак двараніна, нават не першага па багаццю і знатнасці. Бог не роўна дзеліць: ён дае порткі менавіта таму, у каго яны будуць падаць з мізэрнага заду (У. Караткевіч. Раман Ракута). [Моцкін:] І праўду кажуць: «Бог няроўна дзеліць». У Сярэдняй Азіі цэлае лета пячэ і пячэ, а тут – нібы з рэшата цячэ (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка). Я не разгінаючыся з хлопцамі ішачыў на бальніцы, а Іван не вылазіў з бокса, і ў мяне зарплата меншая, чым у яго... – Вот адкрыццё зрабіў! – падтрымлівае Рычарда Булойчык. – Не роўна дзеліць бог... (І. Капыловіч. Асенні гром).

– *Федароўскі*, с. 94: Бог няроўна дзеліць: аднаму дае многа, а другому мала; *Прыказкі*, кн. 1, с. 427: Бог няроўна дзеліць.

**Бог не слухае, што свіння рухае**. *Кажуць з асуджэннем пра таго, хто гаворыць што-н. непрымальнае, няўвартае ўвагі.* Два стараверы люта спрачаюцца з маладымі хлопцамі. Адзін хлопец патрабуе паказаць яму бога, калі ён ёсць. Стары выходзіць з раўнавагі: «Бог не слухаець, што свіння рухаець» (А. Мрый. Па Дзвіне ў Сураж). Бог не слухае, што свіння рухае (Р. Барадулін. Прыбабунькі). [*Рухаць* (дыялект.) – ‘рохкаць’.]

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 155: Бог не слухае, як свіння рухае.

**Бог не цяля, бачыць (пазнае) круцяля**. *Чыё-н. махлярства ці несумленнасць абавязкова выявяцца і ацэняцца па заслугах.* [Якаў:] Усё, усё прыпомніцца. Бог не цяля, бачыць круцяля (М. Гарэцкі. Антон). Крычалі сяляне на розныя галасы: – Глядзі ты, казанская сірата! Чаму ты не падумаў пра дзяцей дваццаці логвішчанскіх сямей, калі іх прадаваў? Лайдак! – Чаго там, бог не цяля – бачыць круцяля (І. Гурскі. Лясныя салдаты). – Цяпер, мамаша, той жыве, хто да начальства бліжэй. – Глядзі, Віцька. Бог не цяля, бачыць круцяля (А. Жук. Красатуля). Чытаеш, слухаеш усю гэтую дэмагогію і ўспамінаеш народную прымаўку: «Бог не цяля, бачыць круцяля» (С. Законнікаў. Нам нельга згінацца...).

* А шэльму ж нюхам пачуе сабака, і ўсюды для шэльмы чэсць будзе аднака. І прыказка ж кажа, што бог – не цяля, з усёй грамады пазнае круцяля! (Ф. Багушэвіч. У астрозе).

– *Насовіч*, с. 7: Бог не цяля, відзіць круцяля; *Раманаў*, с. 28: Бог не цяля, ён забачыць круцяля; *Ляцкі*, с. 4: Бог не цяля: ён відзіць

круцяля; *Прыказкі*, кн. 2, с. 160: Бог не цяля, пазнаець круцяля; Бог не цяля, бачыць круцяля.

**Бог плануе, а чорт руйнуе**. *Не заўсёды бывае так, як хто-н. мяркуе, хоча, разлічвае.* **Сін**.: *Чалавек мяркуе, а бог не чуе; Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.* Усё ішло як мае быць: неўзабаве і ў рэдактара ўдалося вырваць абяцанне, што першая вакансія – яго... Але, як кажуць, бог плануе, чорт руйнуе. Калі, нарэшце, жаданая вакансія стала рэальнасцю, нечакана ўсплыў канкурэнт – студэнт-пяцікурснік (В. Блакіт. Усмешка фартуны).

**Бог сіротак любіць, але долі не дае**. *Кажуць са спагадай пра сірот і іх нешчаслівы лёс.* [Кацярына:] Пяцёра дзяцей – сіроты. А бог сіротак любіць, але долі не дае. Самой трэба дбаць! (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 104: Бог сіротаў любіць, але долі не дае.

**Бог то бог, але і сам не будзь жох.** *Ужываецца як рэакцыя на слова б о г у папярэднім выказванні і як парада разлічваць не на каго-н., а на свае ўласныя дзеянні. Жох – кепскі чалавек, ашуканец.* **Сін.:** *На бога спадзявайся, а сам не давайся.* Утаўчэцца ўсё як-небудзь, не ты першы, не ты апошні... Пакуль душа ў целе – на Бога надзея, але ж як кажуць: Бог то Бог, але і сам не будзь жох! (П. Місько. Няпрошаныя слёзы).

– *Рапановіч*, с. 62: Бог то бог, ды і сам не будзь плох.

**Бог тройцу любіць**. *Гаворыцца як прапанова зрабіць што-н. трэці раз ці ў апраўданне чаго- або каго-н. трэцяга.* Снарад разарваўся далёка ў полі, толькі трохі правей за першы. – Бог любіць тройцу, – цераз сілу ўсміхнуўся Кальтвасер. – Зараджайце яшчэ (Я. Курто. Дарога бяжыць насустрач). Вяселле, як і належыць, імчала па вуліцах на трох парах коней – «бог тройцу любіць», – з вясёлай музыкай, песнямі, гучнымі выкрыкамі падпітых родзічаў маладажонаў (В. Праскураў. Рута-мята). Аня не паступіла ў інстытут і на другое лета... Дамасед-бацька, шафёр лясгаса, супакойваў: «Пракормім. Няхай сядзіць ды рыхтуецца. Бог тройцу любіць. На трэці раз паступіць» (Г. Марчук. Булачка). Лейтэнант засмяяўся, ляпнуў па плячы: «Наш чалавек! Дайце, хлопцы, ім тры аўтаматы і патронаў са свайго загашніка. Бог тройцу любіць» (С. Законнікаў. Сум па «бранкавым коле»). – Ой, няблага! Яшчэ па адной [вып’ем]? – Наперадзе – ноч цэлая. – За агульным сталом так смачна не п’ецца... Бог любіць тройцу. Яшчэ па напарстачку (І. Шамякін. Навагодні жарт).

– *Насовіч*, с. 7: Бог тройцу любіць; *Аксамітаў*, с. 131: Бог троіцу любіць.

**Бог (Хрыстос) цярпеў і нам вялеў**. *Кажуць, часам жартаўліва, таму, хто перажывае цяжкасці або церпіць няўдачы.* – Пацерпім. – Во-во – цярпі. Бог цярпеў і нам, дурням, вялеў (В. Быкаў. Праклятая вышыня). Здзіўляла пакорлівасць, з якой Ліда прымала ад мужа маральную і фізічную знявагу. Ліда ніколі не скардзілася, не плакала, не ўпадала ў істэрыку... Да яе поглядаў на жыццё падыходзіць народная прымаўка: «Хрыстос цярпеў і нам вялеў» (Настаўн. газ. 2002, 18 мая).

**Бог чэсных (шчырых) любіць, ды долі не дае**. *Чэсны (шчыры) чалавек не заўсёды шчаслівы ў жыцці.* [Кацярына:] Значыць, мы коней гэтых украдзём? Так нядобра. [Несцерка:] Э-э, Бог чэсных любіць, ды долі не дае. Не ўкрадзём, а пазычым (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Федароўскі*, с. 34: Бог шчырага любіць, ды шчасця яму не дае.

**Бог шчырых любіць, ды долі не дае**. *Гл.* Бог чэсных (шчырых) любіць, ды долі не дае.

**Бог шэльму меціць**. *Махляра, падманшчыка заўсёды што-н. выдасць.* – А чаму там... на крэсле ў тваім пакоі яе камбінацыя вісіць і панчохі? – ускіпеў Сцяпан. – Ды яны там... тры дні ляжаць. Дачка насіла. Я іх забылася забраць, – памагала Надзя заблытаць ісціну. – Маўчы. Ладна... Усё адно злаўлю. Бог шэльму меціць (Г. Марчук. Сава Дым і яго палюбоўніцы). Гэту капусту да немагчымасці насольвала Камбала, адна нашая гора-суродзічка, нейкая Новік. Камбала таму, што вока адно навыкаце (Бог шэльму меціць) (Л. Геніюш. Споведзь). Лукаш Бэндэ. Руплівец у даносах, паклёпах, ад нараджэння меў прозвішча Бонда. Гэта, як мне чуецца, штосьці кшталту кадкі, бочкі. А захацелася мэтанакіраванага прозвішча – і стаў Бонда Бэндам. Абрэвіятура ад «Бей национал-демократов», карацей, нацдэмаў. І калі я перакладаў Яна Райніса, у слоўніку ўбачыў слова «bende» – у латышскае мовы ў яго адно значэнне «кат». Сапраўды, Бог шэльму меціць (Р. Барадулін. Лукаш Бэндэ).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 377: Бог шэльму меціць; *Рабкевіч*, с. 28: Бог шэльму меціць.

**Божыя дарогі неспазнаныя.** *Гл.* Неспавядальныя шляхі гасподнія.

**Бойся быка сперады, каня ззаду, а дурня – з усіх чатырох бакоў**. *Праст. Пра неабходнасць быць вельмі абачлівым у адносінах з тупым, неразумным чалавекам.*

* [Траян:] Вам баяцца няма чаго. Вы святы чалавек. [Ірына Цімафееўна:] Ай, што вы такое кажаце, Аляксей Сцяпанавіч! Гэта

каня ззаду, а ваўка спераду трэба сцерагчыся. А начальства – з усіх бакоў. Яно заўсёды прычыну знойдзе, каб паказаць, што... яно – начальства і што на яго трэба толькі маліцца... (М. Матукоўскі. Бездань). Новы прэзідэнт даверлівы, як дзіця. Наіўны. І таму небяспечны. Каровы бойся спераду, каня ззаду, а яго з усіх бакоў (А. Макаёнак. Кашмар).

– *Янкоўскі*, с. 246: Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня – з усіх чатырох бакоў.

**Бойся Усявышняга і не гавары лішняга.** *Ужываецца як перасцярога не гаварыць нічога лішняга.* Андрэй і Янка.. напісалі Райскаму [адказ на яго пісьмо], шмат выказвалі радасці, надзей на шчаслівы канец і накідаліся на нікчэмства ўсяе чыноўніцкай тармасні вакол настаўніцкага сходу. І ўсё ж такі дадалі евангельскія словы, упэўненыя ў тым, што іх пісьмо чыноўніцкіх рук не міне: «Бойся ўсявышняга і не гавары лішняга» (Я. Колас. На ростанях).

– Магчыма, склалася пад уплывам біблейскага выказвання: «Не спяшайся языком тваім і словы твае хай будуць нямногія» (Эклезіяст, 5, 1–2).

– *Янкоўскі*, с. 305: Бойся ўсявышняга і не гавары лішняга.

**Бот лапцю не пара**. *Хто-н. не раўня каму-н., не падыходзіць па якіх-н. якасцях (багацці, сацыяльным становішчы і пад.)*. Звычайна пра дзяўчыну і хлопца. Можа, і праўду кажа гаспадар, што бот лапцю не пара, што Гэльцы трэба жаніх не абы з якога роду, каб у яго і зямля была, і добрыя стаеннікі, і дом як дом, і адзежа, адным словам – раўня (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). **Лапаць боту не пара**. З ім, казаў ён, гуляць нецікава цяпер: не студэнт ён, не будучы інжынер... – Што ж, – Марына яму, – лапаць боту не пара, гэта праўда (А. Куляшоў. Грозная пушча). Глыбока запала ў душу пачутае на вёсцы, што лапаць боту не пара, і ён [Алесь], усё больш цвярдзеючы і зацінаючыся ў сабе, рабіў быццам знарок, каб яшчэ больш аддаліцца ад Рэні (Я. Лецка. Дарога ў два канцы).

**Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую**. [Зося:] Проста [жаночая] прырода слабейшая за мужчынскую. А ведаеш сам: брат сястру любіць багатую, а мужык жонку здаровую. І таму здароўе для мяне важней усяго (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Нікому я, старая ды нямоглая, не трэба. Праўду кажуць: брат любіць сястру багатую, муж жонку здаровую... (Б. Сачанка. Непаваротлівы пухнаты чмель...). [Траян:] Маша ніколі не скардзілася на сэрца. Нічога не разумею... [Ірына Цімафееўна:]

А што тут разумець, мілы Аляксей Сцяпанавіч!.. Брат любіць сястру багатую, а муж жонку – здаровую. Спрадвеку так было. Вось і маўчым мы пра свае балячкі. Не скардзімся. Да самай смерці... (М. Матукоўскі. Бездань). Хоча яна [княгіня] любові, хоча пяшчоты, ды вельмі цяжка даецца ўсё гэта, вельмі рэдка. Мала любові адпушчана ёй, бо брат любіць сястру багатую, муж жонку здаровую... Калі ж ты не багатая, не здаровая і не маладая, як жыць табе? (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

* І пайшло ўсё наперакос. Захварэла я, не тут казана, а Ваганавіч мой з другой любошчы закруціў. Праўду кажуць, муж любіць сястру багатую, а жонку здаровую (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– *Насовіч*, с. 8: Брат любіць сястру багатую, а муж жану здаровую; *Прыказкі*, кн. 2, с. 67: Любіць муж жану здаровую, а брат сястру багатую; Брат любіць сястру багатую, а муж жану здаровую.

**Брат мой, але хлеб еш свой**. *Нягледзячы на сяброўскія ці сваяцкія адносіны, кожны найперш дбае пра сябе.* – Я – як я... А вось пра вас гаварылі, што вы – дрэнныя сябры. Пакідаеце таварыша ў бядзе. – Кожны за сябе, Лукіч! – Брат – мой, але хлеб еш свой! (Г. Далідовіч. Заходнікі).

* Пракаповіч з адказам не паспяшаў. Замуляла ў ім раптам якаясь насцярожанасць да гэтага чалавека. Упарты ён, мусіць, і прамы. З такімі цяжка. Але нічога, сёння я табе Іван, а заўтра Іван Адамавіч. Хоць ты брат мой, але хлеб еш свой (Т. Гарэлікава. Перад усім светам).

– *Янкоўскі*, с. 114: Брат мой, але еш хлеб свой; *Прыказкі*, кн. 2, с. 141: Ты брат мой, а еш хлеб свой.

**Брахаць – не цэпам махаць**. *Брахаць, балбатаць, выдумляць не цяжка.* Не вельмі ты слухай суседку маю, Чмычыху. Прыкідваецца яна святой, а брахаць – не цэпам махаць (І. Сяркоў. Мы – хлопцы жывучыя).

– *Ліцвінка*, с. 46: Брахаць – не цэпам махаць: спіна не баліць.

**Брахня праўдзе вочы выдрала.** *Гаворыцца з абурэннем як ацэнка чыйго-н. няпраўдзівага, хлуслівага ці паклёпнага выказвання.* – Распусціліся, распусціліся, ніякага кантролю... Зарплата ў іх малая! Сёння ж будуць зроблены вывады, не сумнявайцеся. – Брахня праўдзе вочы выдрала! – пачуўся голас Лапекі. – А што, трактарыст праў. З такім асуджэннем ніводнага дрэўца не застанецца (А. Кажадуб. Дуб).

– *Аксамітаў*, с. 56: Крыўда праўдзе вочы выкалала.

**Бруднае (паганае) да чыстага не прыстае (не прыстане)**. *Абраза, паклёп і пад. не прынізяць сумленнага, невінаватага чалавека.* **Сін**.: *Добрыя вочы дыму не баяцца*. Англічане кажуць: «Чыстае сумленне не баіцца абвінавачванняў». Беларус таму, што яго зневажалі, не стаў горшы. Бруднае да чыстага не прыстае (І. Гурскі. На скрыжаванні дарог).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 255: Паганае да чыстага не прыстане.

**Брыгадзір капейкі не варт, калі чарцы рад**. *Гаворыцца з асуджэннем пра брыгадзіра-п'яніцу.* Брыгадзірамі былі адны п'яніцы. Людзі казалі: брыгадзір капейкі не варт, калі чарцы рад. Асабліва знявідны быў нябожчык Андрэй. Ён і чытаў па складах, і пісаць не ўмеў; трымалі, бо брахаў, як цюцька (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 524: Брыгадзір і капейкі не варт, калі чарцы рад.

**Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята**. *Даб'ёмся і мы свайго, збудуцца нашы (мае, твае) надзеі; будзе і ў нас (у мяне, у цябе) радасць. Кажуць у цяжкі час, выражаючы ўпэўненасць, што няўдачы мінуцца*. **Сін**.: *Будзе мёд і ў Сідаравай калодзе; Загляне сонца <і> у наша аконца.* Нічога, Аксён: будзе свята і на нашай вуліцы. Надыходзіць час расплаты за здзекі над народам (Я. Колас. На ростанях). [Гудовіч:] Ну, а як настрой там, на Вялікай зямлі? [Юля:] Лётчыкі расказваюць: настрой адзін – перамагчы. Будзе і на нашай вуліцы свята (К. Крапіва. З народам). – Не бядуй, будзе і на нашай вуліцы свята, пабачым! – Сам ведаю (А. Карпюк. Данута). Я не злуюся, Алена... У цябе сёння больш [зроблена]. Але... будзе свята і на маёй вуліцы! (А. Чарнышэвіч. Лясная быль). Не гаруйце, усё пройдзецца, усё мінецца, будзе свята калі-небудзь і на нашай вуліцы... Не ўсё ж ім ды ім... (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). Не плач, мама, не бядуй. Будзе некалі і на нашай вуліцы свята. Тата ўсё роўна вырвецца ад фашыстаў, усё роўна ўцячэ... (В. Дайліда. Пяро дзікай качкі). **Прыйдзе (прыходзіць, прыйшло) і на нашу вуліцу свята**. [Самасееў:] Нічога! Прыйдзе і на нашу вуліцу свята! (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся). Прыйшла пара падымаць Беларусь, як некалі казаў Карусь Каганец. Прыходзіць свята і на нашую вуліцу... (С. Александровіч. Крыжавыя дарогі). Увесь дзень з вуснаў у Міхала Сцяпанавіча Былінскага не сыходзіла вясёлая ўсмешка. Прыйшло і на нашу вуліцу свята (І. Гурскі. У агні).

– *Насовіч*, с. 9: Будзе кірмаш і на нашай вуліцы; *Федароўскі*, с. 144: Будзе і на нашым (маім) рынку кірмаш; *Прыказкі*, кн. 1, с. 456: Будзе і на нашай вуліцы свята; Прыйдзе і на нашу вуліцу свята.

**Будзе мёд і ў Сідаравай калодзе.** *Збудуцца і нашы надзеі, будзе і ў нас радасць. Кажуць у цяжкі час, выражаючы ўпэўненасць, што няўдачы мінуцца.* **Сін.:** *Будзе і на нашай вуліцы свята; Загляне сонца і ў наша аконца.* – А далей – трэба аднесці сукенку ў Дом модаў. Напракат узяла. У казённай сукенцы стала прыгажуняй... – Нічога. Казаў той, будзе мёд і ў Сідаравай калодзе. – Не ведаю, што будзе ў Сідаравай калодзе, а на рэспубліканскі конкурс паеду ў сваёй сукенцы (М. Воранаў. Карона).

**Будзем жывы – не памром**. *Жартаўлівае выказванне як спадзяванне, што ўсё павінна быць някепска.* Ты, Міхась, галоўнае, не перажывай. Прапасці табе ніхто не дасць, каб і захацеў. Уласць у нас нашая. Будзем жывы – не памром (А. Кажадуб. Гарадок). Ну, што ж гэта ты, Пашка, абнядужыў? Ад адной кроплі... Слабак... Ладна, жывы будзем – не памром. Мы ўжо дома, яшчэ крышку (М. Зарэмба. Дзень магнітнай буры). Зусім патушыла пачуццё іншае: радасці, што нарэшце ён дома, што перамаглі ў такой вайне, што сонца бачыць, а не парыць косці дзе-небудзь у Прусіі... А цяпер адбудуемся, жывы будзем – не памром... (Б. Пятровіч. Віна). – Сынок, ты жывы? – Ды з ім усё добра, – адказаў за яго шафёр. – А вы як?.. – Нічога, Ваня, будзем жывы, не памром, – адказала Зінаіда Міхайлаўна (У. Ліпскі. Крутыя вёрсты).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 219: Не памрэ, дык жыў будзе.

**Будзе (прыйдзе) і на крапіву мароз**. *Дачакаецца хто-н. пакарання. Кажуць з упэўненасцю пра непазбежнасць адплаты, пакарання.* **Сін:** *Быць бычку на вяровачцы.* – Яшчэ і выскаляецца, – нагнуўся перад печчу і кінуў туды палена бацька. – Напалітыкуеш. Будзе і на крапіву мароз (В. Адамчык. Год нулявы). – Колькі разоў табе казалі: ад жыгучкі трымай далей ручкі!.. – Нічога, Марылька! – пашкадаваў яе Адам. – «Прыйдзе і на крапіву мароз!» (У. Дубоўка. Жоўтая акацыя). А дзеці гатовы пайсці да яго: Каця тады хацела застацца. Вялікая адзінота чакае цябе, Пёкла. Нешта мяне калоціць. Прыйшоў і на крапіву мароз (Л. Левановіч. Пасля разводу).

* І Крапіву сячэ Мароз! – То крытык крытыка разнёс (Э. Валасевіч. Крапіва і Мароз).

– *Федароўскі*, с. 152: Будзе і на крапіву мароз; Прыйшоў мароз на крапіву; *Прыказкі*, кн. 1, с. 342: Будзе і на крапіву мароз.

**Будзе табе дудка, будзе і свісток**. *Ужываецца як пагроза пакараць каго-н.* Гаспадыня коршунам кінулася на мужа, абедзве рукі запускаючы ў кішэні Сцяпана Сцяпанавіча. А той, не маючы сілы адчапіцца ад яе, крычаў: – Не чапай! Не чапай грошы, амерыканец ты! Ведзьма! А то... будзе табе дудка, будзе і свісток! (А. Макаёнак. Сцяпан Сцяпанавіч). Мацак зусім не ведаў, што рабіць яму цяпер [калі ўбачыў хлопцаў, якія ўкралі ў яго донкі], бездапаможна аглядаўся, торгаў плячом. Чамусьці вельмі захацелася пазяхнуць. «Будзе табе дудка, будзе і свісток», – круцілася ў галаве недарэчная, зусім не да месца прымаўка (А. Кажадуб. Доўгі дзень Мацака).

* [Ганна Паўлаўна, пяшчотна:] А як машына? Хутка будзе? [Гарлахвацкі:] Чакалі, пацярпі крыху. Будзе табе белка, будзе і свісток... (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). Мамуленька, рэдкай госцяй ты бываеш у мяне, а добра прыняць цябе не магу. Пачакай, родная, будзе свая кватэра ў мяне – інакш усё пойдзе. Будзе вавёрка, будзе і свісток! (Р. Барадулін. Паслаў бы табе душу...).

**Будзе час – будзе і квас**. *Усё, што трэба, будзе ў свой час. Кажуць таму, хто спяшаецца прыблізіць што-н., зрабіць як найхутчэй.* Яму ўсё Анатоль Іванавіч – бацька родны знайшоўся. А сам ні кроку. Але ж пачакай, будзе час – будзе і квас. Не ўсё разам (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 256: Будзе час – будзе і квас, не ўсё за раз.

**Будзеш усё ведаць, хутка (скора) пастарэеш (састарышся, стары зробішся)**. *Гаворыцца, часцей з незадавальненнем, як ухілівы адказ на пытанне суразмоўніка.* – Чаго смуцен, мой Даніла? Ці я чым не дагадзіла? Ці ўжо стала нямілаю, што глядзіць ён магілаю? – Запытала раз самога. А ён толькі буркнуў строга: – Будзеш усё ведаць – хутка пастарэеш... (Я. Колас. Паслушная жонка). – Куды яны дзеліся, тыя людзі? – Усё будзеш ведаць, хутка пастарэеш (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). – Дык чаго ж мы стаім? – пытаюся. Яшка нічога не адказаў. Кудлаты дзядзька адказаў за яго: – Усё будзеш ведаць – хутка састарышся (М. Пянкрат. Ведрыцкія напевы). – А хто даў?.. – Хто даў, хто даў... Будзеш усё ведаць, скора стары зробішся (Л. Арабей. Іскры ў папялішчы). **Скора састарышся, як усё будзеш ведаць**. [Паўлінка:] Аб кім гэта, татка, гаворыце, што мае ўсякую далікатнасць і ўсё такое? [Сцяпан:] Вельміваспанна цікавая. Скора састарышся, каханенькая, родненькая, як усё будзеш ведаць (Я. Купала. Паўлінка).

*– Ах, ох! Якія мы інтэлігентныя! А што ты з ёю [Юляй] будзеш рабіць? – Шмат будзеш ведаць, хутка пастарэеш... (З. Дудзюк. Заложнікі шчасця).

– *Янкоўскі*, с. 288: Будзеш усё ведаць – хутка пастарэеш.

**Будзьце як дома, але і не забывайцеся, што ў гасцях**. *Кажуць жартаўліва гасцям.* [Лабыш:] Сілкуйцеся, сваточкі, будзьце як дома... [Базыль:] Будзьце як дома, але і не забывайцеся, што ў гасцях (І. Козел. Папараць-кветка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 394: Будзьце як дома, але не забывайце, што ў гасцях.

**Бусенькі, бусенькі – абое галюсенькі**. *Кажуць насмешліва пра матэрыяльна, маёмасна не забяспечаных маладажонаў*. На другім курсе Алесь раптам аб’явіў бацькам, што жэніцца. Пярэчыць сыну яны не ўмелі, не хацелі і не маглі. І ён прывёў Лену ў кватэру. Усё атрымалася, як у народнай прымаўцы: «Бусенькі, бусенькі – абое галюсенькі». Яны былі здатныя толькі да пасцелі, да бусенькаў. Усё астатняе ўзвалілі на шыі спагадлівых бацькоў (У. Ліпскі. Цунамі над намі).

– *Насовіч*, с. 9: Бусенькі, бусенькі, абое галюсенькі; *Прыказкі*, кн. 2, с. 42: Бусенькі, бусенькі – абое галюсенькі; *Аксамітаў*, с. 144: Бусенькі, бусенькі, ды абое галюсенькі.

**Бывае (было) на вяку <што> і па спіне і па баку**. *За час жыцця даводзіцца перанесці нямала цяжкіх выпрабаванняў, непрыемных сітуацый.* – А мне, братачка, абламалі рогі. Было на вяку, што і па спіне, і па баку... Накіпіць іншы раз – жыць не хочацца... – чуваць было, як Шычка цяжка ўздыхае ў трубку (П. Місько. Такое сліпучае сонца).

*Кажуць часам: «На вяку сем раз палкай па баку». Хто калі зрабіў падлік? Бедны бок балець прывык. Страты б’юць па ім, згрызоты сёмы раз і сямісоты... Ды чамусьці мне здаецца, што баліць не бок, а сэрца! (Г. Каржанеўская. Прымаўка).

– *Ляцкі*, с. 23: На доўгім вяку трапіцца па спіне і па баку; *Прыказкі*, кн. 2, с. 407: Бывае на вяку і па спіне і па баку.

**Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так**. *Няма чаго ўспамінаць тое, што было калісьці. Ужываецца іранічна як рэакцыя на слова б ы в а л а пры спробе суразмоўніка супаставіць што-н. ранейшае з сучасным.* – Даўней такога не здаралася. Бывала, неяк шанавалі, паважалі адзін другога. – Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так, – перадражнівае Маланку Варка (Л. Калодзежны. Перад бабіным летам).

– *Лепешаў*, с. 102: Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.

**Была б (абы) шыя, <а> хамут знойдзецца**. *Было б каму рабіць, а праца знойдзецца.* – Будзеш працаваць у нашым цэху. Гэта, брат, вялікі гонар!.. – Была б шыя – хамут знойдзецца... (М. Ваданосаў. Пераломнае лета). – Куды ты паедзеш?.. – Куды вочы глядзяць, у горад, на будоўлю, завярбуюся куды-небудзь... – Была б шыя, а хамут знойдзецца, – зазначыў Міця (А. Макаёнак. Твой хлеб). – Дзе цяпер будзеш рабіць? – Абы-дзе... – Мусіць, у горадзе? – Была б шыя, а хамут знойдзецца... (А. Алешка. Неба на замку). Дырэктар.. звольніў мяне з працы. Вядома, каб я пайшоў, растлумачыў усё, павініўся, папрасіўся, то... Можа б, усё і па-другому было. Але ж у мяне – гонар!.. Была б шыя, а хамут знойдзецца... (Б. Сачанка. Белая мыш). Работа будзе, Піліпавіч. Не бядуй, брат мой. Абы шыя, хамут знойдзецца (Л. Левановіч. Дзікая ружа). Была б шыя, хамут знойдзецца. Знайшоўся такі хамут і для маладога паэта. Знайшлася праца на бровары ў Яхімоўшчыне, непадалёку ад Маладзечна (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

* [Раман:] Нашаму брату каб шыя, а хамут знойдзецца (П. Васілеўскі. Год дзевяцьсот сямнаццаты). – Работа ж знойдзецца. – Чаму ж не? Знойдзецца. Чаго добрага. Была б шыя (У. Кузьмянкоў. Споведзь).

– *Ліцвінка*, с. 23: Абы шыя, а хамут заўсёды знойдзецца.

**Была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася**. *Пра прыгожага хлопца.* Быў ён [Казік] рослы, тонкі і нейкі зялёны, хваравіты з твару, але прыгожы. Нехта казаў, што была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася (В. Адамчык. Раяль з адломаным вечкам).

– *Насовіч*, с. 34, 41: Дзевачка была б, ды пятух запеў, як ражалася; Жанчынка ражалася, ды пятух запеў, хлопец паспеў.

**Была калісь праўда, ды іржа з'ела.** *Гавораць, калі не вераць, што пачутае – праўда.* [Якуб:] Мне ён казаў, што ён вучыцца, але штось не ўспомню. [Янка:] Была калісь праўда, дык іржа з'ела (К. Каганец. Модны шляхцюк).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 434: Была калісь праўда.

**Было б балота, а чэрці знойдуцца**. *Калі ёсць умовы, магчымасці рабіць што-н. нядобрае, то знойдуцца і тыя, хто пакарыстаецца гэтымі ўмовамі, магчымасцямі.* Тупыя, бяздушныя, гэтыя слугі слепа рабілі тое, што пан хацеў. Хто яны? Адкуль? Сярод гайдучага племені траплялісся розныя людзі: дзеці дробных збяднелых паноў, чыноўнікаў, разжалаваныя афіцэры царскай арміі.

Адным словам, было б балота, а чэрці знойдуцца (А. Якімовіч. Адкуль ліха на свеце).

* – Дзе ж гэта, васпан, так доўга быў? – Было б балота, а жабы знойдуцца. Так і з маім хаджэннем (І. Чыгрынаў. Свае і чужыя).

– *Федароўскі*, с. 21: Абы балота, то чорт будзе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 344: Было б балота – чарцей многа будзець; Абы балота, чорт найдзецца.

**Было на вяку, <што> па спіне і па баку**. *Гл.* Бывае (было) на вяку, <што> па спіне і па баку.

**Было сватацца ўдзень, распытаўшыся ў людзей.** *Гаворыцца халасцяку як парада выбіраць будучую жонку не пры выпадковай сустрэчы на вячэрняй гулянцы.* – Ганначка! Ты напішы ў партбюро іхняга інстытута. Там па галоўцы не пагладзяць за такую знявагу, ды і ў страты цябе завёў... – Нікуды я пісаць не буду. Сама вінавата! Мужчынам кажуць: «Было сватацца ўдзень, распытаўшыся ў людзей». А нам таксама трэба больш цікавіцца, з кім мы манімся злучаць свой лёс (У. Дубоўка. Ганна Алелька).

**Было што піць і есці, але прынукі не было**. *Кажуць пра гасціннасць і ўвагу гаспадара да гасцей.* – Ну, як жа вам, панічок, гасцілася? – пытала бабка Лабановіча. – От, бабка, добра гасцілася! «Было што піты і есты, але прынукі не было», – адказаў настаўнік на паляшуцкі лад (Я. Колас. На ростанях). **Усяго было даволі (удаволь), толькі прынукі не было**. [Альжбета:] Што ж, выбачайце, госцікі. Не хацелі піць і есці, пасля самі будзеце жалець. [Сцяпан:] Выбачайце, выбачайце, каханенькія, родненькія, адно не скажыце, што ўсяго было ўдаволь, толькі прынукі не было (Я. Купала. Паўлінка).

* [Ціт:] Нечага казаць: ядзення было многа, але піцення і прымусу саўсём не было... [Навум:] Відно, што не было, бо ты і цяпер на нагах устаяць не можаш (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Ешце! Ешце! А то будзе, як на адным вяселлі: «Усё было, але не хапала аднаго – прымусу...» (А. Дзялендзік. Гаспадар). Гасцей увесь час трэба было прымушаць, запрашаць піць і есці, каб потым, крый Бог, не сказалі: піць-есці было, толькі прымуса не было. Ці на стале ўсяго было, толькі прынукі не было (Р. Барадулін. Як беларусы гасцей прымаюць і ў госці ходзяць).

– *Федароўскі*, с. 249, 250: Было што піці, есці, да прынукі не было; Усяго было досыць, адно прыгону не было; *Янкоўскі*, с. 65: Добра было ў гасцях, толькі прынукі не было.

**Быў бы папом, ды галава кляпом**. *Кажуць з асуджэннем пра таго, хто мог бы дабіцца пэўнай жыццёвай мэты, каб разумна паводзіў сябе.* «Артыст, адным словам, артыст», – яшчэ тады, калі хлопчык толькі пачаў здзіўляць вяскоўцаў сваім талентам, зазначыў конюх Росцік Рманоўскі... Гаварыў так Росцік і папярэджваў: «Вядома, калі галава на плячах, а не сядалішча. А то іншы, як той казаў, быў бы папом, ды галава кляпом...» (У. Саламаха. «Трынкен шнапс, гармонік шпілен...»).

**Быў бы хлеб, а мышы знойдуцца**. *Калі ёсць умовы, магчымасці, заўсёды знойдзецца хто-н. для несамавітых, нядобрых учынкаў, спраў і г.д. Гаворыцца з неадабрэннем.* Цяпер уся чынавецкая рать.. лашчыць слых свайму начальніку... Хто пяе па звычцы, хто ад страху за сваю скуру. Яно так: быў бы хлеб, а мышы знойдуцца (В. Гроднікаў. Іпастасі Чырвонага Маісея). – Я хацеў вось аб чым. І жыццё навокал якое, і людзі харошыя. Ат жа завёўся нейкі гніляк. – Быў бы хлеб, а мышы знойдуцца, – уздыхнуў Лапко. – От і гэты гніляк завёўся (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 236: Быў бы хлеб, а мышы будуць.

**Быў конь, ды з’ездзіўся**. *Пра таго, хто састарыўся ці страціў сваё былое значэнне, становішча, уплыў і пад.* **Сін.:** *Укаталі сіўку крутыя горкі.* Вазьму сякеру, секану колькі разоў і задыхаюся. Адным словам, Міхасік, быў конь, ды з’ездзіўся. Мне патрэбен спакой, поўны адпачынак (Я. Колас. М. Лынькову). Я ўжо сілу сваю страціў, я ўжо зжыўся, як тое гавораць – быў конь, ды з’ездзіўся (М. Гарэцкі. Антон). Даюць нашаму міламу начальніку па шапцы. Быў конь, ды з’ездзіўся. Капут (Я. Васілёнак. Сакрэт). [Ганула:] Як кажуць, быў конь, ды з’ездзіўся. [Юстын:] Што праўда, то праўда. Вось прайшоўся крыху, а ўжо задыхаўся (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы).

– *Насовіч*, с. 10: Быў конь, ды з’ездзіўся; *Федароўскі*, с. 148: Была кабыла, ды з’ездзілася; *Прыказкі*, кн. 2, с. 225: Быў конь, ды з’ездзіўся (заездзіўся).

**Быў на вайне, спагадай і па мне**. *Гаворыцца каму-н., каб ён са спачуваннем, спагадай ставіўся да суразмоўніка.* Па людзях трэба спагадаць, асабліва калі і самому прыходзілася быць у дрэнным становішчы: «Быў на вайне, спагадай і па мне» (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 500: Быў на вайне, спагадай і па мне; Быў ты сам на вайне, спагадай жа і мне.

**Быў час, калі любілі і нас.** *Кажуць звычайна старыя, прыгадваючы свае маладыя гады, каханне.* [Дзед Змітрок:] Не ўжо, браце. Ды і навошта [падрастаць]? Дзеўкі цябе і так любяць. Эххе, быў час, калі любілі і нас. Праўда, на ігрышчы мы на сваіх дваіх бегалі, а вы на трактары ездзіце (Л. Левановіч. Чабор).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 11: Быў час, калі дзеўкі любілі нас.

**Быўшы ля мукі, запылішся**. *Гл.* Каля мукі ходзячы, запылішся.

**Быць бычку на вяровачцы (на лычку)**. *Прыйдзецца расплачвацца за што-н., адчуць непрыемнасці.* **Сін**.: *Будзе і на крапіву мароз.* Быць бычку на вяровачцы! – Пра Гітлера і вісельню (К. Крапіва. Прыказкі). [Аўлас:] Так і быць, Косця, палову выйгрышу на клуб, а другую палову... [Косця:] На вяселле. [Ліза:] Не спяшайцеся з вяселлем. Яшчэ паглядзім на цябе... [Аўдоцця:] Так, ліхадзей! Не-е, быць бычку на лычку! Не так за цябе ўзяліся (А. Макаёнак. Выйгрыш).

– *Насовіч*, с. 11: Быць бычку на лычку, а цёлачцы на вяровачцы; *Прыказкі*, кн. 2, с. 25: Быць бычку на лычку, а кароўцы на вяроўцы.

**Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>**. *Гл.* Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>.

**Бяда не па лесе, а па людзях ходзіць**. *Гаворыцца, калі з кім-н. здарылася бяда, няшчасце і пад.* **Сін**.: *Не людзі выбіраюць бяду – бяда людзей выбірае*; *Не шукай бяды, яна <сама> цябе знойдзе.*

* [Баба:] Пане войт, куды ж ты яго [дзеда] пацягнуў? [Войт:] Да пана. Пан разбярэцца... [Дзед:] Правільна людзі кажуць: бяда не па лесе ходзіць, а па людзях бродзіць. Бывай, баба! (В. Вольскі. Дзед і Жораў).

– *Насовіч*, с. 12: Бяда не па лесу, а па людзях ходзіць. *Федароўскі*, с. 25: Бяда па людзях ходзіць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 439: Бяда па людзях, не па пушчы ходзіць.

**Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе**. *Кажуць, калі чалавеку не шанцуе, калі непрыемнасці ідуць адна за адной.* **Сін**.: *Адна бяда – не бяда; Адна бяда не ходзіць <другую за сабой водзіць>; Ты за мора, а за табою бяда і гора; Чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе.* У сэрцы яго, як снежны ком з гары, падымалася, расла трывога. Балючая, шчымлівая: «Хто я цяпер? Ні сыры, ні печаны, як кажуць. Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе. Пасля войска паўгода пачуваў сябе някепска, а зараз задышка пачалася, надоечы нават кроў горлам ішла (Я. Галубовіч. Жыві сабе). Ноч не скон-

чыцца, калі мы будзем спаць... Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе. Няўжо ты гэтага не заўважаеш, Раман? А можа, ты таксама прынясеш роту Мсціславу? (Л. Дайнека. След ваўкалака).

– *Насовіч*, с. 12; *Федароўскі*, с. 251; *Прыказкі*, кн. 1, с. 442: Бяда па бядзе як па нітцы (нітачцы) ідзе.

**Бяда хоць мучыць, ды жыць вучыць.** *Розныя жыццёвыя непрыемнасці загартоўваюць чалавека.* Лёс ганяў мяне па ўсім свеце. Абставіны ўкралі ў мяне сям'ю, далі новую, зноў забралі. Бяда хоць мучыць, ды жыць вучыць... Жывы нажывае! (В. Лобан. Чужая – і мілая). Бяда хоць мучыць – ды жыць вучыць. Не бядуй, даражэнькі Музыка! Гэтыя непраходныя нетры мы раскарчуем, цемрадзь навакольную развеем, і пабачыш – сонейка яшчэ ўсміхнецца над нашай збажыною! (У. Ягоўдзік. Усміхніся, прынцэса).

– *Насовіч*, с. 12: Бяда хоць мучыць, ды жыць вучыць; *Федароўскі*, с. 25: Бяда розуму вучыць.

**Бяздоннай бочкі (бяздонную кадушку) не напоўніш**. *Ніяк немагчыма накарміць, напаіць, задаволіць і пад. каго-н.* **Сін.:** *Дзіравага мяшка не напоўніш.* Сяляне вось як мяркуюць: бяздонную кадушку не напоўніш, а багатага не накорміш. Прызнаюся, я напісаў швагру, Вяршынскаму, на фронт, што няма чаго яму праліваць сваю кроў за чужыя інтарэсы, няхай хоць пешшу ідзе дадому, але толькі з вінтоўкай, бо голымі рукамі і кала не зачэшаш (І. Гурскі. Вецер веку).

* Усе гавораць, старшыня, што вы разумны чалавек. Дык вось, памяркуйце самі. Ясна, як дзень, што нельга напоўніць вадой бяздонную бочку. Гэтаксама ж нельга выліць ваду з бяздоннага балота... (В. Праскураў. Цішыня).

– *Федароўскі*, с. 32: Бяздоннай бочкі не напоўніш; *Прыказкі*, кн. 1, с. 411: Бяздоннай бочкі не напоўніш.

**Бяздонную кадушку не напоўніш**. *Гл.* Бяздоннай бочкі (бяздонную кадушку) не напоўніш.

**Бяла не бяла, а ваду відала**. *Пра няякаснае, неахайнае мыццё чаго-н. ці каго-н.* Адзінае выйсце – нагрэць у печы вады ды памыцца ў начоўках. Як кажуць, бяла не бяла, а ваду відала (В. Гроднікаў. Аброць на Беларусь). – Чысцейшага няма? – [Хведар] ірвануў з кручка на сцяне шэры, бруднаваты ручнік. – А ён чысты... Бяла не бяла, абы ваду відала (П. Місько. Зялёны змей). Мама, з цяжкасцю памыўшы ў балеі коўдру, пасміхаецца са свайго бяссілля: «Бяла не бяла, абы ваду відала...» (Л. Галубовіч. Зацемкі з левай кішэні).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 350: Бяла не бяла, абы ваду відала; *Янкоўскі*, с. 261: Бела ці не бела, абы ваду паглядзела.

**Бясплатны сыр бывае толькі ў мышалоўцы.** *Гл.* Дармовы (бясплатны) сыр бывае толькі ў мышалоўцы.

# *В*

**Вада не бяда**. *Гаворыцца ў сітуацыі, калі вада трапляе куды-н. і хутка сцякае, высыхае, вычэрпваецца і пад.* Хуценька з большага вычарпалі ваду з байдаркі, ды наперад: як кажуць, вада – не бяда, не такое было, нічога (А. Вераб'ёў. Там, дзе Бяроза і Бобр...).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 58: Вада не бяда: пастаяла ды й пайшла.

**Вада не гарэлка – шмат не вып'еш.** *Жартоўная ацэнка суадносін паміж вадой і гарэлкай як пітвом.* Пестрак нахінаецца ўзяць з паліто бутэльку. Цоп адну кішэню – нічога няма, цоп другую – і там пуста. Нездарма кажуць: вада не гарэлка – шмат не вып'еш. Таксама і закусь, асабліва загадзя ахвяраваная пад чарку, у рот не лезе (Р. Барадулін. Укоптур). – Ці можна ў вас вады напіцца? – праз парог спытаў Хведар, чырванаваты і заснежаны з дарогі. – А чаму ж не – можна! – у тон яму адказала гаспадыня. – Заходзьце! – Яна кінулася на кухню і прынесла адтуль поўны кубак. Хведар крыху адпіў і перадаў Васілю. – Вада не гарэлка – шмат не вып'еш, – пажартаваў ён (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

**Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся**. *Бяздзейнічаючы, не праяўляючы актыўнасці, не зробіш ніякай справы, нічога не даб'ешся.* **Сін**.: *Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці; Не раскусіш арэх, зерня не з'ясі.* [Адась:] Мы не раз дапамагалі рабочым хлебам, салам, гароднінай. Але гэта і ўсё, а вось на дэманстрацыі разам з імі мы яшчэ ні разу не былі. [Міхась:] Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся. [Адась:] Правільна. Трэба нам з вамі варушыцца, ды жывей (І. Козел. Папараць-кветка).

– *Янкоўскі*, с. 246: Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.

**Вайна ўсё спіша**. *Устар. Гаворыцца як апраўданне якіх-н. дзеянняў, учынкаў, спраў у ваенны час.* **Сін.:** *На вайне як на вайне* (у 1 знач). «Вайна ўсё спіша...» Была тады такая прымаўка дзеля апраўдання... Ну, ды не столькі яна, тая прымаўка, але і туга па сям'і таксама падганяла мяне на тыя ігрышчы (А. Марціновіч. У канцы дарогі). – Калі гэта паспелі ліпавую абсаду выразаць і на-

вошта? – Тады ж, у вайну. Хто на начоўкі, хто на дзежачку-ліпаўку, хто на сявеньку, а хто на дровы... – Вапшчэткі, так, раз пачалі ўжо, то рэж, палі, нішчы – вайна ўсё спіша!.. (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму). Таго ж, хто выдумаў у вайну выратавальны лозунг «вайна ўсё спіша», я павесіў бы на асіне. Нічога вайна не спісала (А. Асіпенка. Цыркачка і маёр). Праз месяц-паўтара зволілі дзяўчат... Большасць з іх былі выдатнымі салдаткамі, яны сагравалі мужчынскую палавіну, няхай некаторыя і грахоўна, але, як казалі тады, «вайна ўсё спіша» (І. Шамякін. Слаўся, Марыя!).

**Вакол крам ды зноў к нам**. *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто ў размове хітрым, абходным шляхам зноў вяртаецца да свайго, ранейшага, накіраванага на дасягненне якой-н. мэты.* – Народ кіруе сёння жыццём, – спакойна гаварыў дакладчык, – ён гаспадар свайго жыцця. Ён ведае, што адзіна правільным шляхам да шчасця – да заможнага і культурнага жыцця – для нас, сялян, з'яўляецца калгасны шлях. – А што, не казала?! – ледзь не ўсхапілася з месца Тарадра. – Вакол крам ды зноў к нам. Так і казаў бы адразу! Людзі самі ведаюць, не маленькія!.. (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

– *Янкоўскі*, с. 274: Вакол крам ды зноў к нам.

**Варвара ноч уварвала**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара. Варвара(-ы) – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 4 снежня (па старым стылі), калі пасля зімняга сонцастаяння (21-22 снежня па новым стылі) ноч пачынае памяншацца, а дзень павялічвацца*. У канцы снежня – свята Варвары. «Варвара ноч уварвала» – гаворыць народная прымаўка. Дні сталі зусім кароткія і цьмяныя (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

–*Насовіч*, с. 12: Варвары ночы ўрвалі; *Федароўскі*, с. 22: Святая Варвара ночы ўварвала; *Прыказкі*, кн. 1, с. 113: Варвара ноч уварвала.

**Варона з кала – сем на кол**. *Гл.* Варона з куста, а пяць на куст.

**Варона з куста, а пяць (дзесяць) на куст**. *Заўсёды знойдуцца ахвотнікі заняць свабоднае, толькі што вызваленае месца на службе, рабоце і інш.* **Сін.:** *Святое месца пустым не бывае.* А мне, ты думаеш, салодка? Ды справа проста і каротка: не будзеш ты з ляснічым спорыць, рабі вось тое, што гаворыць. А не – йдзі вон: варона з куста, а пяць на куст, бо хлеба луста нялёгка ўсім, брат, дастаецца (Я. Колас. Новая зямля). – А хто ж, Нюра Яфімаўна, намі кіраваць будзе? – Варона з куста – дзесяць на куст: зной-

дуць некага (І. Кананові́ч. Цёплы камень). **Варона з кала – сем на кол**. Дзён колькі легкавушка... была без гаспадара. Але святое месца пустым не бывае: варона з кала, сем – на кол. Распіхнуўшы локцямі процьму сапернікаў, на дужа пашаноўны і прыбыткоўны «кол» усеўся Петрукоў... (В. Гардзей. Уратуй ад нячыстага). **Сарока з кола – дзесяць на кол**. Панкрат Малюжыч.. нёс у сабе непрыемны асадак ад усяго: змучанасць ад бяссоннае ночы, утомленасць на паравіку, непрыемная вестка на глухой станцыі, разам з тым скептычная заўвага самога да сябе наконт парадку рэчаў – «сарока з кола – дзесяць на кол», разам жа з гэтым адчуванне, што зневажаецца такім меркаваннем з прыслоўем гэтым беспрацоўная Маня Ірмалевічанка, якой ён жа сам думае дапамагчы застацца працаваць у апусцелай школе (К. Чорны. Сястра). **Сарока з куста – сорак на куст**. Федзя кідаецца да Ядзі, каб затрымаць яе. [Жыліцкая, спыняючы яго:] Куды? Сарока з куста – сорак на куст. Цяпер табе толькі запець застаецца (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Янкоўскі*, с. 208: Варона з куста, а пяць на куст; *Прыказкі*, кн. 1, с. 67: Адна варона з кола, другая на кол.

**Варта шкурка вырабу**. *Гл.* Не варта шкурка вырабу.

**Вастры зуб аб зуб і розум аб розум**. *Гаворыцца як парада раіцца адзін з адным, перш чым рашаць якую-н. справу.* – Калі гэта не сакрэт, скажы, шаноўны Заяц, усім нам, у чым справа? – Гэтага я і хачу, – сказаў Дзіда-дзед. – Бо, як гэта кажуць, вастры зуб аб зуб і розум аб розум (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

– *Рапановіч*, с. 175: Вастры зуб аб зуб, а розум аб розум; *Прыказкі*, кн. 2, с. 233: Вастры зуб аб зуб, а розум аб розум.

**Ваўка баяцца – у лес не хадзіць**. *Гл.* Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца – у лес не хадзіць.

**Ваўка (воўка) ногі кормяць.** *Каб пракарміцца, трэба шукаць харчы, турбавацца, а не сядзець на адным месцы.* Саламея наогул дома была рэдка. Яна так і казала: ваўка ногі кормяць. – Калі я буду дома сядзець, дык што я тут каля вас выседжу? А так от хоць сяго, а хоць таго ды дастану (Р. Сабаленка. Успомненае). – Але ж ты лазіш, хлопец... – Ваўка ногі кормяць. А заўтра мяне ўжо не будзе. Ні тут, ні ў лагеры... (І. Пташнікаў. Найдорф). Ды зразумей ты – служба ў мяне такая. Ваўка ногі кормяць. Думаеш, немцы даюць хоць каліва прадуктаў, што паступаюць па нарыхтоўках? (І. Навуменка. Вецер у соснах). Кажуць людзі: ваўка ногі кормяць. Пайду шукаць сабе другі прытулак (А. Жураўскі. За родныя хаты). Не лёсу сляпая пакорнасць – дужасць цешыла палешу-

ка. «Ваўка ногі кормяць!» – казаў пра сябе, не пра ваўка (М. Мятліцкі. Шалі жыцця). – Усё-такі дарэмна мы вас, Гайшун, узялі. – Нічога, воўка ногі кормяць, – сказаў Рубеж, – а яму трэба падкарміцца (А. Адамовіч. Хатынская аповесць). Здарова, брат... Чаго гэта ты рассеўся, як пан? Пойдзем на здабычу. Воўка ногі кормяць (В. Шырко. Дзед Манюкін не салжэ).

* Пасля пачастуемся... Няма мне сёння калі. Сабаку ногі кормяць, так і мяне. Я да цябе, Хведар, па справе (І. Шамякін. Гандлярка і паэт). Адно што цэлы дзень на нагах. Тут ужо нічога не зробіш – ногі не толькі ваўка кормяць (Б. Стральцоў. Рэпартаж першай ночы).

– Калька з грэчаскай мовы (літаральна «Ваўка ногі яго кормяць»). *Насовіч*, с. 14: Ваўка ногі кормяць; *Федароўскі*, с. 341: Воўка ногі жывяць (гадуюць); *Прыказкі*, кн. 1, с. 60: Воўка ногі кормяць.

**Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца – у лес не хадзіць**. *Калі баяцца цяжкасцей, небяспекі, то не варта і пачынаць што-н.* – Не баіцеся адзін ездзіць?.. У Вульцы, казалі, міліцыянера лесавікі павесілі. – Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць, – сказаў Канькоў, але паглядзеў па баках (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). – А як хто-небудзь цябе ўбачыць? – Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць. Ды і не дзеля таго я ў вёску прыйшоў, каб на гарышчы сядзець (Б. Сачанка. Вялікі Лес). – Можа, застанецеся? – прапанавала Зоя. – Вас жа патруль затрымае. – Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). [Анжэк:] Могуць быць непрыемнасці. Прытым вялікія. [Фелікс:] Ахвотна веру... Толькі «ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць» (В. Зуб. Юнацтва рыцара). – Глядзі, яшчэ ўрэжуць дваццаць пяць гарачанькіх, як некалі ў пана Іваненкі. – Э, ваўка баяцца, у лес не хадзіць (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). – Цяпер ён спаліць нас... – Спаліць? Што ж... ваўка баяцца – у лес не хадзіць. Спаляць – адбудуем... (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

* – А калі, часамі, і давядзецца крыху пацярпець – што ж: на горы жыць вучацца. – Ды яно ж так. Баішся воўка – у лес не ідзі (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Пятроў забіяцка на хутар глядзіць: – Як воўка баяцца, то ў лес не хадзіць (К. Крапіва. Шкірута). [Рыгор:] Эх, ваўкоў баяцца – не бываць у лесе, страх нам вораг: гне ён крукам чалавека, не дае падняцца (М. Клімковіч. Кацярына Жарнасек). – Боязна рабочаму браць уладу... – Керанскага баяцца, у лес не хадзіць, – наступаў пуцілавец (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Насовіч*, с. 8: Баючыся воўка, і ў лес не хадзіць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 297: Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць.

**Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела**. *Кажуць пра таго, хто адчувае сваю віну і магчымасць адплаты, пакарання.* Ведае кошка, чыё сала з'ела. Сам кругом вінаваты... (У. Карпаў. За годам год). – Ведае кошка, чыё сала з'ела, – прымаўкай рэзюміраваў Бураўскі паводзіны Бараноўскага (І. Новікаў. Ачышчэнне). Гітлераўцы.. пачалі здымаць свае войскі з захаду і кідаць супраць нас. Ведае кошка, чыё сала з'ела. Мы ім у дзесяць разоў страшней, чым нашы саюзнікі. Занадта вялікі ў нас да іх рахунак (Р. Няхай. Шлях на Эльбу). Пачакай! Куды ж ты, ягадка? Хадзітка сюды. Будзем разбірацца... Трасешся?! Ведае кошка, чыё сала з'ела! (Л. Калодзежны. Паўлюк Самусік са Стаўроў). [Сапляк:] А я, братачка, баяўся: думаў, вы мяне браць прыйшлі. [Старшыня:] Мусіць, вінават, калі баішся. [Алесь:] Знае кошка, чыё сала з'ела. [Сапляк:] Братачкі, дальбог жа не вінават! (К. Крапіва. Канец дружбы).

* «Памдзей» штурхець пад бок Міхала: «Счуў, бестыя, чыё з'еў сала», на Арцюшка «Памдзей» ківае, а сам нявесела ўздыхае і выраз твару мае горкі (Я. Колас. Новая зямля). Мачыха паправіла табурэтку каля стала і вычакальна, ласкава, з неспакойнасцю паглянула на Рыгора: «Ну – што ж вы?!» «Без мыла лезе... Чуе кошка, чыё сала сцягнула...» (П. Місько. Градабой).

– *Насовіч*, с. 50: Знае кошка, чыё сала з'ела; *Прыказкі*, кн. 1, с. 373: Знае кошка, чыё сала з'ела.

**Ведай каток свой куток.** *Гл.* Ведай цвіркунок (каток) свой куток.

**Ведай цвіркунок (каток) свой куток.** *Ведай сваё належнае месца, адпаведнае свайму становішчу.* – Спявак знайшоўся! – Занадта многа забраў сабе ў галаву! – Ведай цвіркунок свой куток (Я. Колас. Цвіркун). Вечарам, калі ўсіх запрасілі за даўгаваты банкетны стол на афіцыйную частку ды прыцяжарылі той стол букетамі страў і грандыёзнымі выявамі пляшак, ім, кіроўцам, накрылі зусім сціплы стол у нейкай бакоўцы. Ведай, каток, свой куток, як казалі некалі (К. Камейша. Паміж кубкам і вуснамі). **Кожны чарток ведай свой куток**. Улада не любіць непаслухмяных. І не толькі асобых людзей. Нават народаў. І яго – зловяць, то па галоўцы не пагладзяць, засудзяць. Але жыцця не пазбавяць, бо і такія, як ён, пустэльнікі ў грамадстве не лішнія. Вось ужо і праўда: кожны чарток ведай свой куток! (А. Масарэнка. Адзінокі).

* Кожны цвыркунок, як гаворыцца, павінен ведаць свой куток, а кожны прадпрымальнік – сваё месца пад небам. Гэта якраз і праігнараваў Аляксей Татаржыцкі (Вожык. 1996. № 7).

– *Янкоўскі*, с. 250: Кожны цвіркунок ведай свой куток; *Санько*, 12, 48: Ведай, каток, свой куток.

**Ведаў бог, каму не даў рог**. *Той, хто хацеў бы зрабіць каму-н. штосьці дрэннае, не мае магчымасці ажыццявіць сваё жаданне.* **Сін**.: *Бадлівай карове бог рог не дае.* [Камісар:] Пачакай, лайдача! Я прыпільную! Але не прасі бога, калі дазнаюся! Будзе канчук [нагайка] у рабоце. [Навум, убок:] Баш ты яго, вельмі пабаяліся! Ведаў бог, каму не даў рог (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 153: Ведаў бог, каму не даў рог.

**Век жыві, век будуйся.** *Ужываецца як сцвярджэнне, што чалавек, асабліва вясковы, мусіць усё жыццё будавацца.* Можа, і не вельмі дарэчы тут наша беларуская прымаўка «Век жыві, век – будуйся». Цётка Марыля будавалася, як ужо магла і колькі ўжо змагла, так і не прыждаўшы сына (В. Адамчык. Сцежка на расходніку).

**Век жыві – век вучыся**. *Функц. не зам. Гаворыцца як парада пастаянна вучыцца, а таксама тады, калі даведваюцца пра што-н. новае, раней невядомае.* – Вось у гэтым і задача камандзіра – кіраваць боем. – Дзякую за навуку!.. Нездарма кажуць: век жыві, век вучыся (І. Гурскі. Вецер веку). Каваль ляпнуў сябе далоняй па лбе. – Ах ты, ліха маё! Як жа я, такі мудрэц і хітрэц, не дадумаўся! Вось праўду кажуць, век жыві – век вучыся (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). – Позна, перарос. Час мне ўжо дваццаць шосты гадок горне, а за спінаю і людскіх трох класаў не наскрабеш... – горасна ўздыхнуў Шлык. – А ты чуў, што народная мудрасць кажа? «Век жыві, век вучыся» (І. Дуброўскі. Жывая слава). Мусіць, аграном мае рацыю: трэба ўсё ж разоры рабіць уздоўж схілаў. Канечне, гэта для тэхнікі не зусім зручна, аднак... Вось так: век жыві – век вучыся (В. Блакіт. Шануй імя сваё). «Век жыві – век вучыся», – спрабаваў цяпер апраўдвацца Бацька сам перад сабой, але не мог – сорам цвяліў душу (Р. Семашкевіч. Бацька ў калаўроце).

– *Насовіч*, с. 188: Век жывеш, век вучышся; *Прыказкі*, кн. 2, с. 179: Век жыві, век вучыся.

**Век жыві, век вучыся, а дурнем памрэш.** *Гаворыцца звычайна са шкадаваннем, калі даведваюцца пра які-н. промах, памылку, непаразуменне ці пра што-н. нечаканае, неспадзяванае для каго-н.* Тых, у каго няма сваіх станцый, падключаюць. А.. нас у апошнюю чаргу, пасля ўсіх. Навука. Век жыві, век вучыся, а дур-

нем памрэш. Ніколі не трэба забягаць наперад (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам). Падвёў ты мяне, Дзіма, падвёў... Не чакаў... Памылка выйшла. Як кажуць, век вучыся, а дурнем памрэш. Сёння адзін фальстарт, заўтра другі (М. Зарэмба. Сакрэт тэлепата).

– *Ляцкі*, с. 6: Век жыві, век учыся, а ўсё дурнем памрэш.

**Век звекаваць – усяго пазнаць**. *Век звекаваць – не лёгкая справа.* **Сін**.: *Век зжыць – не мех сшыць; Жыццё пражыць – не лапці сплесці; Жыццё пражыць – не поле перайсці.* Хіба думала-гадала Анюта, што, застаўшыся ўдавой, не прападзе, выжыве ў ліхалецці і пражыве доўгі свой век у згодзе і любові з іншым чалавекам. Ну што ж – век звекаваць – усяго пазнаць (Т. Супрановіч. Жыць ды цешыцца...).

– *Ляцкі*, с. 6: Век звекаваць – усяго павідаць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 407: Век звекаваць – усяго павідаць (пазнаць).

**Век зжыць – не мех сшыць**. *Век зжыць – не лёгкая справа.* **Сін**.: *Век звекаваць – усяго пазнаць; Жыццё пражыць – не лапці сплесці; Жыццё пражыць – не поле перайсці.* Я не ведаю, што ты кажаш. Толькі я думаю, што ты не хацеў мяне пакрыўдзіць. Бо зжываю я свой век, а век зжыць – то не мех сшыць (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). Хоць прымаўка мімаходзь зазначае: век зжыць – не мех сшыць, але і мех сшыць, каб ні зернятка не прапаролася вострым носікам, ні цяжкое пакладзіва не прарвала яго, трэба ўмець (Р. Барадулін. Адным словам).

* Памёр, бедалага. Давай памянём Круглікава. Хоць праз яго ў цюрагу загрымеў. Хрэн з ім... І мая жысць ні к чорту... Век зжыў, як мех сшыў (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян).

– *Насовіч*, с. 22: Век зжыць не лукошка сшыць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 405: Век зжыць – не мех сшыць.

**Век пражыць – не лапці сплесці.** *Гл.* Жыццё (век) пражыць – не лапці сплесці.

**Верабейка па зярнятку клюе – і сыты, а воўк авечак цягае – і галодны**. *Гаворыцца як парада быць не сквапным, а памяркоўным, прытрымлівацца сярэдняй лініі ў сваіх жаданнях, памкненнях.* Маці, бачачы, як я спяшаюся, руплюся ўсюды паспець нешта зрабіць, казала мне: «Не будзь такім сквапным, сынок! Работы ўсёй не пераробіш, грошай усіх не забярэш. Верабейка па зярнятку клюе – і сыты, а воўк авечак цягае і галодны...» (Б. Сачанка. У вёску, да маці).

**Вераб’і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі**. *Замест адных, можа, і вінаватых у чым-н., пакаралі іншых, ні ў*

*чым нявінных.* Вось такая была геніяльная палітыка камуністаў-бальшавікоў. Цэліліся ў кулакоў, а папалі па астатніх сялянах. Як у прымаўцы: вераб'і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі (В. Гроднікаў. Яд контррэвалюцыі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 351: Вераб'і крупы з'елі, а сініца ў клетку папала; Верабей проса папіў, а сінюга ў бяду ўпала.

**Веру Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню**. *Кажуць пры грашовых разліках, калі не вераць чыім-н. абяцанням і патрабуюць плаціць неадкладна.* [Бусыга:] Мы табе ўсё спаўна заплацім, калі зробіш справу. [Саўка:] Не, кладзі на бочку! [Бусыга:] Што ты, Саўка, мне не верыш? [Саўка:] Веру Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню (Я. Колас. У пушчах Палесся).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 494: Вер Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню.

**Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла**. *Дзеці пераймаюць схільнасці, прывычкі сваіх бацькоў.* **Сін**.: *Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю; Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду; Яблык ад яблыні недалёка падае; Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка; Які куст, такі і адростак; Якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын; Якое карэнне, такое і насенне.* [Порхаўка – пра Наташу:] Рыхтык маці. Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла (І. Гурскі. Свае людзі). – Дзе пройдуць мае салдаты, там трава не расце. – Мала адной сілы, патрэбен яшчэ і розум, а ў цябе яго бракуе. А які бацька, такія і сыны. Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

– *Янкоўскі*, с. 183: Вецвейка недалёка ад дрэва адскоквае.

**Відаць па вочках, што ходзіць па ночках.** *Гл.* Бачна (відаць) па вочках, што ходзіць па ночках.

**Вішня – зямля лішня.** *Пра адмоўныя адносіны да вішняў як садова-ягадных дрэў.* Аднаго разу Віцік пачуў, як стары Рагозін сказаў бацьку: – Што ты не выцерабіш палову кустоўя гэтага? Навошта табе гэтулькі? Вішня – зямля лішня. «Во дурны дзед, – падумаў Віцік, – вішня ж салодкая» (А. Кажадуб. Гарадок).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 117: Вішня – зямля лішня.

**Воз дадому возіць, сані на базар.** *Селянін улетку сабраны на полі ўраджай возіць дадому, а частку яго мусіць везці зімой на базар.* Астатняе ўсё прыходзілася купляць, прадаючы пудок жыта. Лішку ў верасаўцаў не было, але прадавалі. Недарма кажуць: воз дадому возіць, сані на базар. За тыдзень-два наперад згаворваліся, хто з кім паедзе і што павязе на продаж (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

**Воз і цяпер (зараз, сёння) там**. *Функц. не зам. Справа нiколькi не рухаецца, стаiць на месцы. Звычайна ўжываецца ў ролi другой часткi складаназлучанага сказа з супрацiўнымi адносiнамi*. Пераменiцца? Ды каб жа яно хутчэй!.. Бачыце. Прыбавiлi вунь у пятым годзе i што выйшла? Бачыце, параспiхалi людзей немаведама куды i што, а воз i цяпер тамака (Ц. Гартны. Сокi цалiны). За гэты час з калгаснай канторы на рахунак распрацоўшчыка-iнстытута.. паралiчана нi многа нi мала восем тысяч рублёў, але, як кажуць, воз i зараз там (Маладосць. 1984. № 6). Колькi разоў я гаварыў пра гэта раённаму начальству, у тым лiку i Валынкiну, а воз, як кажуць, i сёння там (В. Макарэвiч. Надзея i вера). Пытанне разглядалася на розных узроўнях, усе, здаецца, былi згодны, але воз i цяпер там (А. Мальдзiс. Як iмя тваё, мiнская вулiца?). Сам мiнiстр.. пры сустрэчы з камунальнiкамi абяцаў i матэрыялы, i механiзмы. А воз i зараз там (Звязда. 1986, 5 вер.).

– Паўкалька з рускай мовы: *А воз и ныне там*. Паходзiць з байкi I.А. Крылова «Лебедзь, Шчупак i Рак». У ёй расказваецца, як Лебедзь, Шчупак i Рак разам узялiся везцi воз, але Лебедзь цягнуў яго ў неба, Шчупак – у раку, а Рак адыходзiў назад. Як нi старалiся, «ды толькi воз i цяпер там».

**Волас сівее, розум слабее**. *Старэючы, чалавек страчвае ранейшыя здольнасцi разважна дзейнiчаць. Гаворыцца як адмоўная ацэнка якога-н. безразважнага ўчынку, зробленага пажылым цi старым чалавекам.* Што будзе? Да чаго ўжо свет дайшоў, калi гэты стары баламут... Але праўду кажуць: волас сiвее, розум слабее... (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Ляцкi*, с. 6: Волас сiвее, дзед дурэе; *Федароўскi*, с. 100: Галава сiвее, то розум дурэе; *Прыказкi*, кн. 2, с. 226: Волас сiвее – розум слабее.

**Вольнаму воля, <а> шалёнаму поле (уратаванаму рай)**. *Кожны волен у выбары сваiх учынкаў, рашэнняў. Кажуць таму цi пра таго, хто робiць па-свойму, не прымаючы чыiх-н. парад.* – Як загадае ўлада пайсцi ў калгас, дык i пойдуць усе... – А як не загадае?.. Як тады?.. – Як хто захоча... Вольнаму воля... – А шалёнаму поле?.. (М. Зарэцкi. Вязьмо). – Значыць, мяняеш вольную шыкоўную жызню на швабру i вечнае заняволенне? – Значыць, мяняю, – задзiрыста адказаў Чыж. – Вольнаму – воля, шалёнаму поле, – падвёў вынiкi Хан (А. Асiпенка. Лабiрынты страху). У мяне няма падстаў цябе дакараць: мы сапраўды не клялiся ў каханнi i ты вольная ад якiх бы там нi было абавязкаў... Вольнаму – воля, уратава-

наму – рай (Л. Левановіч. Якар надзеі). **Вольнаму воля, шалёнаму поле, а спасёнаму рай**. Вольнаму воля, шалёнаму поле, а спасёнаму рай. Так беларусы вызначаюць абсягі чалавечага духу, розуму, руху (Р. Барадулін. Вярні нам Бацькаўшчыну, Божа!)

– *Насовіч*, с. 15: Вольнаму воля, а спасённаму рай; *Прыказкі*, кн. 1, с. 321; кн. 2, с. 164: Вольнаму воля, а шалёнаму поле; Вольнаму воля, святому рай.

**Воран ворану вачэй не выклюе**. *Гл.* Груган гругану вока не выдзеўбе.

**Восень на рабым кані (кабыле) едзе**. *Увосень надвор'е дажджлівае, пахмурнае.* Лейцы верасень сплёў з павуціны, пугу звіў кастрычнік з пянькі, лістапад лісця ў воз падкінуў. – Паганяй! Нацянькі!.. Уцякаць сабраўся мачэўнік... Ды не ўцёк – падвялі карані. Едзе восень – па пнях, па карчэўю... Едзе восень на рабым кані (В. Зуёнак. Крэсіва). Зжухлая трава паўблытвала рудое лісце, палегла. «Едзе восень на рабой кабыле...» – успомніла Таіса (М. Воранаў. Карона). Добра падмечана: восень на рабым кані едзе!.. Часам нябачная сіла разрывала заслону з хмарай – утваралася блакітнае акно... (В. Якавенка. Наперад па крузе).

* Праўду кажуць: увосень пагода на рабым кані едзе. То дождж, то сонца, то вецер. Думалася, што бабінага лета так і не прычакаюць (П. Місько. Сітус інверсус).

– *Федароўскі*, с. 338: Восень на рабым кані ездзіць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 86: Восень на рабым (шэрым) кані ездзіць.

**Вось вам хамут і дуга, <і, а> я вам <болей> не слуга.** *Гл.* Вось табе (вам) хамут і дуга, <і, а> я табе (вам) <больш, болей> не слуга.

**Вось табе (вам) хамут і дуга, <і, а> я табе (вам) <больш, болей> не слуга**. *Гаворыцца пры адмаўленні падтрымліваць якія-н. сувязі, мець справу з кім-н.* [Надзя:] І наогул, Антаніна Пятроўна, сёння я ў вас апошні дзень. Пасуду памыю пасля гасцей – і бывайце здаровы. Вось вам хамут і дуга, і я вам больш не слуга (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). [Люба:] Што гэта за грошы? [Ганна Іванаўна:] Ад магазінаў засталося... Вось табе хамут і дуга, я табе не слуга... Іду я... (І. Мележ. У новым доме). [Байкач:] Скажы, а калі ты пападзешся, выдасі мяне ці не? [Пякарская:] А ты думаў як! Я ў зямлі буду гніць, а ты па волі хадзіць? Не чакай ад мяне гэтага! [Байкач:] Тады вось табе хамут і дуга, а я болей не слуга (І. Гурскі. Патрыёты).

– *Насовіч*, с. 16: Вот табе хамут і дуга, а я табе не слуга; *Прыказкі*, кн. 1, с. 366: Хамут не дуга, я табе не слуга.

**Воўка баяцца – у лес не хадзіць**. *Гл.* Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца – у лес не хадзіць.

**Воўка ногі кормяць**. *Гл.* Ваўка (воўка) ногі кормяць.

**Воўк і лічанае бярэ**. *Гаворыцца з асуджэннем пра таго, хто не лічыцца ні з чым і гатовы адабраць нават апошняе.* – Тады нічога не астанецца, як з немцамі сябраваць, – заключыў Гадлеўскі. – Яны нам памогуць... – Хутчэй апошняе забяруць, – іранізаваў Езавітаў. – Ваўкі і лічанае бяруць… (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Насовіч*, с. 14: Воўк і шчотанае бярэць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 62: Воўк і лічанае бярэ.

**Воўк казе не таварыш**. *Людзей, розных па характары, сацыяльным становішчы і пад., нішто не можа аб'яднаць. Кажуць пра таго, хто не раўня каму-н.* **Сін**.: *Арлу з савой не па дарозе; Гусь свінні не таварыш; Пешы коннаму не таварыш* (у 2 знач.). – Праўду бацька кажа, воўк казе не таварыш. Бач ты, разумны які, на хутар аблізваецца, на гатовенькае. Мужык мужыком, а дурнейшых за сябе шукае, – абурыўся Казік (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 62: Воўк казе не таварыш.

**Воўк каля (паблізу) свайго логава не бярэ (не шкодзіць)**. *Несумленны, але хітры чалавек не робіць шкоды суседзям, каб не выклікаць у іх падазрэння да сябе.* – Трэба было б Парамонішынага паглядзець. – Успеецца. Каля свайго логава і воўк не бярэ (М. Лобан. На парозе будучыні). І да калектывізацыі ён [Калчак] не падаваў голасу, і ў час калектывізацыі маўчаў. Старэйшыя, больш вопытныя людзі ацэньвалі гэта так: воўк ніколі не шкодзіць паблізу свайго логава… (У. Шахавец. Дарога пачыналася ў Бярозаўцы).

* – Ну, а тут – не чапаў? – Тут – спакой: воўк і той не хапае авец бліз бярлогі сваёй (А. Куляшоў. Грозная пушча).

– *Насовіч*, с. 15: Воўк не робіць шкоды блізка; *Федароўскі*, с. 399: Воўк паблізу свайго кубла шкоды не робіць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 290: Воўк ля свайго логава не шкодзіць.

**Воўк ліняе, ды нораву не мяняе**. *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто па-ранейшаму застаецца ўпартым, не мяняе сваіх звычак, нораву.* – Воўк ліняе, ды нораву не мяняе. – Вы аб кім гэта? – не зразумеў адразу Віктар. – Вядома, аб кім – аб Полю Арнолю! (М. Гамолка. Шосты акіян).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 61: Воўк кожны год ліняе, але нораву не мяняе.

**Воўк не з'еў, дык бугай не забадае.** *Пераржылі больш страшнае, дык пераржывём і гэта, менш небяспечнае. Гаворыцца з ра-*

*шучасцю зрабіць што-н. рызыкоўнае.* **Сін.:** *Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць (*у 2 знач.*); Спроба не хвароба; Чым чорт не араў, тым і сеяць не стаў.* Упэўнена трымаў сябе заходнебеларускі селянін, памяць аб ваенных жахах рабіла яго смелым перад трывожным эксперыментам калектывізацыі: «Эх, воўк не з'еў, дык бугай не забадае» (У. Калеснік. Сяброўскія згадкі).

**Воўк не пастух, а казёл не агароднік**. *Нельга дапускаць каго-н. туды, куды ён імкнецца з-за карыслівай мэты і дзе можа толькі нашкодзіць.* [Начальнікі] не без падстаў заявілі Бразгоўку, што воўк – не пастух, а казёл – не агароднік. Выказалі слушную думку, што такога казла трэба трымаць як мага далей ад спакуслівых месц (М. Чавускі. Пакручастыя сцежкі-дарожкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 63: Воўк не пастух, а свіння не агароднік; Воўк не пастух, а казёл не агароднік: воўк – злодзей, а казёл – шкоднік.

**Воўк сабакі не баіцца, але (ды) звягі не любіць**. *Надакучлівыя дакоры, прыдзіркі, абгаворы і пад. часта больш непрыемныя і нясцерпныя, чым што-н. іншае.* Гарбаносы не вытрымаў: – Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць. – Гэта-то праўда, і якраз яна сюды падходзіць, бо сабака – гэта ты (К. Чорны. Звяга). Праўду кажуць: воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць. Ёсць у майго суседа сабачанё – ну, каб яно нечага здохла! Так жа ўсім у косці ўелася!.. (К. Крапіва. Сабачанё). – Ці не баіцеся вы, што нехта ўбач[ыць]?.. – А лепей, каб ніхто не бачыў... Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць... Звяга бывае страшней самога сабакі (А. Кудравец. Двое за нізкім столікам). Адзіны, хто пазычыць грошы на дарогу – Іван Пятровіч. Але дзе завуча падпільнаваць? Можна, але боязна: Валя даведаецца – з'есць і яго, нябогу, і яе.. Ну, на ёй паламае зубы, але, як кажуць, воўк сабакі не баіцца, ды звягі не любіць (І. Шамякін. Палеская мадонна). Не кожны адважыцца, як не ўсякі пойдзе і на тое, каб дзіця ягонае.. вучылася на сваёй мове. Адвучылі. Запалохалі. Вось і трымаюцца гэтай звычкі хутаране. Хоць і кажуць, што воўк сабакі не баіцца, але ж звягі не любіць... (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

* І не сабака страшан воўку, калі прыйшлося сказаць к слоўку, мой пане-браце, мой Марцяга, а непрыемна яго звяга! (Я. Колас. Новая зямля). – А чаго ж вы яго [баптыста] баіцеся? – Ат, – адказала Марта, – воўк сабакі не баіцца, але не хоча звягі слухаць, дальбог. А мой яму патурае... (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). – Толькі сабе пашкодзіце. А яна [Вольга] пабрэша і сціхне. – Воўк сабакі не

баіцца, але звягі наравіцца. Яна будзе мянціць языком, а я цярпецьму – не на таго нарвалася (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

– *Насовіч*, с. 15: Воўк не баіцца сабакі, да звягі яго; *Федароўскі*, с. 341: Воўк сабакі не баіцца, да толькі звягу ненавідзіць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 298: Воўк сабакі не баіцца, ды звягі яго не любіць.

**Воўна не воўна, абы кішка поўна.** *Праст. Гаворыцца, калі няма лепшага выбару сярод прадуктаў харчавання.* Што? Не купіла селядцоў? Цэны ашалелыя? Ды ты чаго ўзяла, Давыдаўна? Цюлькі ды камсы? Пратухлай нейкай? Вохці нас! Сабе ці парасятам? Ага, сама ўплятаеш? Ато ж: воўна не воўна, абы кішка поўна! (Ф. Рудовіч. Парасятам ці сабе?..).

* – Фёкла, пачастуй чым-небудзь госця. – Але ў нас нічога такога няма. Хіба што бульба халодная... – Дык падагрэй!.. – Хоць клочча, хоць воўна, абы кішка поўна! – усміхнуўся вандроўнік, адламаў ад буханкі, што ляжала на стале, акрышчык і паклаў у рот, стаў жаваць (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

– *Раманаў*, с. 113; Хоць воўна, абы кішка поўна [паясняецца так: «Галоднаму не да ласункаў»].

**Воўчае насенне да лесу цягне**. *Гл.* Воўчы дух (воўчае насенне) да лесу цягне.

**Воўчы дух (воўчае насенне) да лесу цягне**. *Сутнасць чалавека, яго прывычкі застаюцца нязменнымі і ўсё роўна выяўляюцца.* **Сін**.: *Колькі ваўка ні кармі, <а> ён у лес глядзіць.* – Вы нам аддасцё тое, з чым мы прыйшлі да вас, калі далучаліся да калгаса. І зямлю, і маёмасць... – Во куркуль! – пакруціў галавой Іван Падзерын. – Як Жыватоўшчык кажа, як тэй таго, воўчы дух да лесу цягне, – пакпіў Мікіта Драніца (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі). [Суля:] А што ты хочаш? Яго бацька быў такім. Воўчае насенне да лесу цягне. Што, не праўду кажу? (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Федароўскі*, с. 340: Воўча натура да лесу цягне; *Прыказкі*, кн. 1, с. 61: Воўчае насенне да лесу цягне.

**Воцат не гарэлка, а кума не жонка.** *Пра несупастаўляльныя, нераўнацэнныя з'явы, рэчы.* Сёння ў нас такое становішча, што якраз і не варта радавацца, параўноўваючы сябе з вёскамі Расіі, а лепей схапіцца за галаву, прымерваючыся да фермерскага Захаду. Пара ўжо нарэшце зразумець: воцат не гарэлка, а кума – не жонка (В. Гроднікаў. Мужыкі-сталічнікі...).

– *Ляцкі*, с. 51: Усё воцат не водка, а кума не жонка.

**Вочы – люстра (люстэрка) душы**. *Кніжн. Па вачах, па позірку чалавека можна пазнаць яго душэўны стан, схільнасці, на-*

*строй, намеры і пад.* Гарбачэўскі сядзеў у крэсле, абдумваючы, што прывяло гэтых людзей да яго. Правакацыя? Наўрад. Вочы – люстра душы (І. Гурскі. Чужы хлеб). Я (у які ўжо раз) думаю, што прымаўка пра тое, нібыта вочы – люстэрка душы, гэта не пра Блыху (В. Кадзетава. Я ёй не дарую). Еду, а перада мною – Кастусь, яго вочы. Я не ведаў Кастуся, толькі партрэт бачыў. Праўду кажуць: вочы – люстэрка душы (Ф. Янкоўскі. Чытаючы Лукаша Калюгу).

* Вочы справядліва называюць вокнамі душы. У іх часам можна ўгледзець куды больш, чым удаецца выказаць словамі. Трэба толькі быць уважлівым, умець бачыць добрае ў гэтых «вокнах» і не назаляць празмернай цікаўнасцю, не падглядаць у іх (В. Праскураў. Рута-мята).

– Магчыма, склалася пад уплывам лацінскага афарызма: *Imago animi vultus est* (літаральна «Твар – люстэрка душы»).

– *Ліцвінка*, с. 69: Вочы – люстра душы.

**Вочы не бачаць, душа не баліць**. *Калі чалавек не ведае пра чыю-н. бяду, гора, няшчасце, то і не хвалюецца, не перажывае.* Ні жонка, ні сястра мне пра яе [смерць У. Караткевіча] не казалі, хоць ведалі праўду, не казалі і ў рэшце рэшт не сказалі, што, шкадуючы мяне, гэта рабілі: вочы не бачаць, душа не баліць. А яна, колькі летаў мінула, баліць і дагэтуль... (А. Лойка. Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі).

– *Федароўскі*, с. 336: Вочы не бачаць, то й душа (сэрца) не баліць.

**Вочы па яблыку, <а> галава з арэх**. *Праст. Гаворыцца з непашанай пра чалавека, здольнага на безразважныя ўчынкі.* Вочы па яблыку, а галава з гарэх. – Пра прагнасць і дурасць нямецкіх захопнікаў (К. Крапіва. Прыказкі). – Падыдзі толькі, зрэнкі твае лупатыя выдзеру! Вочы па яблыку, а галава з арэх. Марцовы кавалер! – Жанчына са слязьмі на вачах звярталася да ўсіх (І. Гурскі. Вецер веку). Не мілаваў мяне мой Змітрок... Не ўладзь яму, слова ўпоперак скажы – вылупіцца: вочы па яблыку – галава з арэх (Л. Калодзежны. Перад бабіным летам). – Пазнаўшы сонца, жыві сонцам і, хоць яно і зайшло, будзь з ім. Па сонцу ідзе свет, а не па бібліі, сонца – галава! – Галава з арэх, а вочы – па яблыку, – падаючы яшчэ адну патэльню з прыпека, выгукнула нявестка Амброжыка. Купала заўсміхаўся, хоць арэх і яблыкі былі ні пры чым да галавы – сонца (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Насовіч*, с. 17: Вочы па яблыку, а галава з арэх; *Прыказкі*, кн. 2, с. 205: Вочы па яблыку, а галава з арэх.

**Вочы страшацца (баяцца), а рукі зробяць**. *Баішся пачынаць што-н., але пры жаданні і старанні ўсё зробіцца.*

* Зараз лідзян чакае вялікая праца па разборцы і ўпарадкаванні ўсяго дастаўленага. І тут востра паўстае пытанне паскарэння работ на новым будынку бібліятэкі. Але вочы баяцца, а рукі зробяць (Я. Грынкевіч. Завершана перавозка бібліятэкі). Вынік работы ў руках чалавека. Відаць, недарма ў народзе гавораць: «Чаго вочы баяцца, тое рукі зробяць». Волька не спалохалася нічога, настаяла на сваім. І стрымала слова (В. Праскураў. Вялікая радня). Мусіць, такіх сенцаў і не знойдзеш нідзе, старыя надта, але ж і моцныя. Пэўне, добрымі рукамі рабілася. Як вочы ні страшацца, а рукі зробяць... (А. Кажадуб. Старая хата). Лёгкай работы ў калгасе не было. І хоць давалася яна цяжка, хоць вочы страшыліся, рукі рабілі (С. Давідовіч. Ускрыша). У Рамана ныла спіна, з непрывычкі дрыжалі ў каленях і балелі ў ікрах ногі... – Глянь, колькі зрабілі. – Вочы заўсёды баяцца, а рукі робяць, – заключыў Арлан (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 147: Вочы страшацца, а рукі зробяць.

**Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна.** *Кніжн. Шчырыя, праўдзівыя, без скрытых намераў выказванні дзяцей вартыя ўвагі дарослых.* Былі, як кажуць, і смех і грэх. Смех – бо ёсць вялікая доля праўды ў выслоўі: вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна. Грэх, бо, здаецца, не зусім патрыятычна выхоўваць дзяцей у духу негатыўных адносін да нацыянальна-дзяржаўных сімвалаў (А. Вярцінскі. Трывожны досвітак). – Вучым дзяцей самастойна вырашаць некаторыя задачы... Хочаце пагаварыць з нашымі актывістамі? – Пагаварыць? Чаму ж не пагаварыць, тым больш што вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна (А. Куліцкі. Чым бы дзіця ні цешылася...). Вуснамі дзяцей гаворыць ісціна, пакуль дарослыя не пачынаюць вучыць іх розуму (Вожык. 1995. № 7).

* Даволі совацца ўпацёмку і скаголіць! – Вуснамі дзіцёнка ісціна глаголе (Я. Колас. На шляхах волі). [Мікола:] Трэба мець волю бараніць погляды і ўсё вось гэта, што звязана з нашымі поглядамі, з нашымі жыццёвымі патрабаваннямі. [Іонна:] Сама ісціна глаголе вуснамі юнашы сяго! (М. Грамыка. Каля тэрасы). Меў рацыю мудрэц, калі сказаў: «З вуснаў немаўляці злятае ісціна». Не памыліўся ён і тады, калі дабавіў: «Ва ўчынках і думках маладых, як у люстэрку, відаць жыццё дарослых» (Маладосць. 1994. №3). – Дзеду, а дзеду! Бог жа аднойчы пачуў нашы просьбы... Калі мы прасілі за татку! Помніш? – Ай сапраўды! – дзед усміхнуўся, і цеп-

лыня ў яго шэрых вачах набыла сіняватае адценне. – Вуснамі дзіцяці прамаўляе ісціна! (В. Якавенка. Пакутны век).

– Відаць, калька з нямецкай мовы: *Kindermund tut Warheit kund*.

**Вусы – чэсць, а барада і ў казла ёсць**. *Кажуць жартаўліва або з гонарам пра вусатага чалавека.* Маруся сваіх гасцей не спазнала, ледзь не выпусціла з рук кайстру, у якой брынчэлі поўныя пляшкі. – Анігадкі прыкукобіліся: а чыстыя, а вусатыя. – Вусы – чэсць, а барада і ў казла ёсць, – паўтарыў сваю прымаўку Сівы (У. Ліпскі. Стрэлы над старым акопам).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 273: Вусы – чэсць, а барада і ў казла есць.

**Вучыцца ніколі не позна**. *Функц. не зам.* [Жук:] І так жыць нельга, давайце ж лепш школы, вучыцца хачу!.. [Прадстаўнік асветы:] Ах ты, гультай! Табе ўжо жаніцца пара, пражывеш і без школы! Позна! [Жук:] А чаму прыказка кажа, што вучыцца ніколі не позна? (У. Галубок. Краб). Зялёнка з табою паедзе. Адпачніце месяц і – за кнігі. Вучыцца, як кажа прыказка, ніколі не позна (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). – Справа ў тым, што я хачу вучыцца... – Вучыцца ніколі не позна, – няпэўна перабіла яна [Галіна] (В. Праскураў. Рута-мята). Лічы, дарослы ўжо, час сям’ю заводзіць... А вучыцца? Вучыцца, кажуць, ніколі не позна. А ці так гэта на самай справе? (А. Масарэнка. Сонца майго дня).

– *Янкоўскі*, с. 146: Вучыцца ніколі не позна; *Прыказкі*, кн. 2, с. 179: Вучыцца ніколі не позна.

**Выбірай жонку не на ігрышчы, а на іржышчы**. *Гаворыцца як парада хлопцу пры выбары жонкі.* **Сін**.: *Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.* Павячэраць – занятак варты. Тым больш збіраюся на ігрышча. Як гэта кажуць: «Выбірай жонку не на ігрышчы, а на іржышчы». Не, па мне лепш на ігрышчы (А. Казлоў. Адкуль з’яўляюцца яны?..).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 27: Выбіраюць не на йгрышчы, а на іржышчы; Шукай жонку не на йгрышчы, а на ржышчы.

**Выдумаў чорт моду, ды сам у воду, а вы, бабкі, ганіцеся**. *Ужываецца як рэакцыя на моду, на што-н. моднае.* – А мы месца пад КБА шукаем... – Пад што месца? – Бытавая абслуга. Адрамантаваць што, пашыць. Модніцамі зробіцеся. – Аўдоля б сказала: «Выдумаў чорт моду, ды сам у воду, а вы, бабкі, ганіцеся» (А. Кажадуб. Старая хата).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 273: Выдумаў чорт моду, ды сам у воду, а вы, бабкі, ганіцеся.

**Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю**. *Гаворыцца з асуджэннем як адмоўная рэакцыя на чые-н. непрымальныя дзеянні выправіць, падправіць што-н., якія могуць прывесці да горшага выніку.* [Лявон:] Свайго ўчастка я не аддам. Не маеце права! Я знайду закон у вобласці, калі і там... то я дастукаюся да самой Масквы. Там цяпер за перагібы ведаеш як?.. [Максім:] А мы цябе не перагібаем. Мы цябе выпрамляем. [Лявон:] Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю. А я не хачу (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце). Выпростванне, выпраўленне моўных нормаў не на карысць беларускай літаратурнай мове, якую ў сённяшніх неспрыяльных для яе варунках хто толькі не спрабуе «ўбрыкнуць». Як бы не здарылася, як у той прыказцы: выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю (Настаўн. газ. 2000, 1 крас.).

**Вырас, а розуму не вынес**. *Кажуць насмешліва таму ці пра таго, хто не разумее або не зразумеў чаго-н. простага. Звычайна ўжываецца ў дачыненні да юнака.* **Сін**.: *Вырас пад неба, а дурань як трэба.* Мы з Санькам пасмейваемся: старшыня сельсавета – і не можа адрозніць камандзіра ад радавога. А ён з нас дзіву даецца: выраслі, а розуму не вынеслі. Многа мы, ёлупні, разумеем – гэта ж для палітыкі (І. Сяркоў. Мы – хлопцы жывучыя). – Сынок мой любы, ты яшчэ малы. Падрасцеш, усё зразумееш. – Я не малы, мама. Мне шаснаццаць год. Глядзі, я вышэйшы за цябе. – Вырасці то вырас, ды розуму не вынес (Л. Левановіч. Пасля разводу).

– *Раманаў*, с. 215: Вялікі вырас, а ўма не вынес; *Прыказкі*, кн. 2, с. 242: Вырас, а розуму не вынес.

**Вырас пад неба, а дурань як трэба.** *Праст. Кажуць насмешліва таму ці пра таго, хто не разумее або не зразумеў чаго-н. простага. Звычайна ўжываецца ў дачыненні да юнака або маладога чалавека высокага росту.* **Сін**.: *Вырас, а розуму не вынес*. Чаго ты на мяне, чачотка, вызвяраешся? Наракай, хлопец, на самога сябе. Вырас пад неба, а дурань як трэба (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках). Я злую на старую: усюды яна свой востры нос уткне. Тут вайна ідзе, а ёй дошкі шкада. Асмялела. Немцам так не камандавала. – Вырас пад неба, а дурань як трэба, – адказала мне на гэта бабуля. – То ж немцы, а то свае (І. Сяркоў. Мы з Санькам у тыле ворага). Дораш крывіць свае тоўстыя губы, на ўвесь голас смяецца, аж прысядае: – Вырас ты, Валодзька, пад неба, а дурань як трэба. Коршакі на дубах жывуць... А гэта ж асіна... (І. Капыловіч. Гняздо на дубе).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 242: Вырас пад неба, а дурны як трэба; Вялікі да неба, а дурань як трэба.

**Высока лятаеш, але нізка сядзеш**. *Кажуць насмешліва фанабэрыстаму чалавеку, прадракаючы нязбытнасць яго намераў, задум.* [Бондар:] Ствараецца ўражанне, што ты клапоцішся пра калгас, а на самай справе тармозіш развіццё калгаса. Пры сустрэчы з сакратаром райкама абавязкова раскажу яму пра гэта. [Анішчук:] Ого! Ты высока лятаеш, але нізка сядзеш (І. Гурскі. Хлеб).

* [Старац:] Ох, маці, маці! Высака твой сынок падымацца хоча, але каб нізка часам не зваліўся (Я. Купала. Раскіданае гняздо). Мы [дзеці] прывыклі да гэтых баёў у бярозах, набылі ў іх надта ж вялікую мужнасць, але ж нездарма кажуць: высока лятаеш, ды дзе ты сядзеш? (А. Кажадуб. Пра вайну).

– *Федароўскі*, с. 209: Высока падляцеў, ды нізка сеў; *Прыказкі*, кн. 1, с. 341: Высока лятаеш – нізка ўпадзеш; Высока паляціш, дык нізка сядзеш.

**Высока ляціць вырай – высокі вырасце і авёс.** *Народная прымета пра сувязь паміж вышынёй лёту журавоў і ўраджайнасцю аўса.* Яны [палешукі] ведалі, у які дзень, у якую нават часіну трэба выязджаць з сахою на поле, пры якіх умовах трэба сеяць тую ці іншую збажыну. Ім досыць пабачыць першы вырай жураваў, каб сказаць, які будзе авёс. У залежнасці ад вышыні лёту знаходзіўся і рост аўса: высока ляціць вырай – высокі вырасце і авёс (Я. Колас. На ростанях).

**Выцягвай ножкі паводле адзёжкі**. *Жыві паводле сваіх сродкаў, даходаў, адпаведна сваім магчымасцям.* Сяды-тады нават у рэдакцыі гаварылі свае жанчыны – Роўда ці Жывіца, – чаму ён не купіць сабе новы гарнітур, ці лепшае паліто, або людскі плашч? Але ён толькі пасміхаўся: ён і сам купіў бы, каб было за што, купіць не так цяжка. «Наша пасада нас абавязвае», – гаварылі жанчыны. А Драгун ім адказваў прымаўкай: «Выцягвай ножкі паводле адзёжкі» (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 267: Па адзёжкі выцягвай ножкі; с. 435: Выцягвай ножкі падлуг адзёжкі.

**Вышэй галавы не падскочыш**. *Гл.* Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш (не скочыш).

**Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш (не скочыш)**. *Праст. Больш за тое, на што здольны, што ў тваіх магчымасцях, не зробіш.* **Сін**.: *Вышэй <самога> сябе не падскочыш; Цераз сілу і конь не цягне.* – А што з таго, што я буду крычаць? Хто мяне пачуе? Вось ты папрабаваў крыкнуць, і цябе перамясцілі. Не, брат, вышэй пупа не падскочыш! – тонам пераможца заключыў Анцыпік

(Я. Колас. На ростанях). Даём табе, Вася, усё, што можам. Вышэй пупа не падскочыш (І. Шамякін. У добры час). [Сокалаў:] Наогул зроблена многа. Але толькі не ў параўнанні з тым, што трэба зрабіць. [Чарнуха:] Вышэй пупа не скочыш (В. Палескі. Песня нашых сэрцаў). Неяк было не па-чалавечы пакідаць аднаго Мар'яна Казіміравіча, прыехалі ж разам. Хоць вышэй пупа не скочыш (В. Супрунчук. Сяргей Сяргеевіч). Ён разбудзіў Андрэйку, і яны пайшлі спаць на сена. Пры гэтым дзед мармытаў: – Што ж! Вышэй пят не падскочыш! Заўтра дапішам пісьмо... (З. Бядуля. Летапісцы). – Дык яны цябе сёння, збяруцца, як ліпку абдзяруць! І абараняць не будзе каму! – Знайшоўся абаронца! Не падскочыш вышэй пят (П. Місько. Градабой). – Чалавек – бязмежны творца. – І ўсё ж ёсць межы і для гэтага бязмежнага, як вы кажаце, творцы... Вы, паважаны мой зямляк, не будзеце адмаўляць народную мудрасць, якая сцвярджае: вышэй галавы не падскочыш (Я. Васілёнак. Салдаты не адступаюць).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 475; кн. 1, с. 184: Вышэй пупа не падскочыш; Вышэй галавы не паднімешся; Вышэй носа не пераскочыш; Вышэй ілба не падскочыш.

**Вышэй пят не падскочыш**. *Гл.* Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш (не скочыш).

**Вышэй <самога> сябе не скочыш (не падскочыш)**. *Больш за тое, на што здольны, што ў тваіх магчымасцях, не зробіш.* **Сін**.: *Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш; Цераз сілу і конь не цягне.* Як той казаў, вышэй самога сябе не скочыш. Калі суджана паправіцца, дык паправішся (К. Чорны. Зямля). – Ці вы ўсё жыццё думаеце на пенсіі пражыць? Інвалідам? – Не ведаю. – Хто ж ведае? – Вышэй сябе не скочыш! Як будзе, так будзе (І. Мележ. Дом пад сонцам). – Не ведаю, ці чытаў гэты Галавацкі, што пра яго сына напісана. А калі і чытаў, дык чаму ён такі абыякавы? Вясёлы, нібы так усё і павінна быць. – Слухай. Між намі гаворачы, а куды падзенешся? Вышэй сябе не падскочыш. Лёс (Я. Ермаловіч. Зазімак).

**Вялікага сабакі вялікі брэх**. *Праст. Кажуць іранічна ў адказ на чые-н. пагрозы, лаянку і пад.* [Камісар:] Пачакай, лайдача! Я прыпільную! Але не прасі бога, калі дазнаюся! Будзе канчук [нагайка] у рабоце. [Навум, убок:] Вялікага сабакі вялікі брэх! Баш ты яго, вельмі пабаяліся! (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 340: Вялікага сабакі вялікі брэх.

**Вялікае бачыцца на адлегласці.** *Кніжн. Што-н. вялікае, выдатнае па сваім значэнні па-сапраўднаму ацэньваецца, прыз-*

*наецца не адразу, а праз пэўны час.* Можна сказаць, што ягоная [А. Адамовіча] проза і публіцыстыка, густа насычаная думкамі і ідэямі, сёння актыўна спасцігаецца чалавецтвам... Мабыць, у поўнай меры ім суджана быць спасцігнутым пасля – вялікае бачыцца на адлегласці. У дадзеным выпадку – на адлегласці часу... (В. Быкаў. Мужнасць). Цяпер нам відаць абмежаванасць і бесперспектыўнасць некаторых з яго [Льва Талстога] духоўных пошукаў, і мы з пэўнасцю можам меркаваць аб ягоных памылках. Але вялікае бачыцца на адлегласці... (Звязда. 2000, 5 снеж.). Паэтава муза жывіцца з уласна перажытага, з плёну асэнсаванага і ацэненага, бо вялікае бачыцца на адлегласці. А ці будзе ашчадна-поўна выдадзена спадчына паэта? (А. Астравух. Долі інакшай не трэба зямной...). Вялікае бачыцца на адлегласці, зараз, праз многа гадоў, мае вяскоўцы часам узгадваюць «з'едзенага» імі палешука добрым словам: вось, маўляў, каб ён зараз быў... (У. Міхно. Ці пазайздросцяць мёртвыя жывым?).

* Вялікае відно на адлегласці, і Багдановіч сваім прыкладам бліскуча пацвердзіў гэта. Усё яго жыццё – гэта подзвіг (М. Стральцоў. Загадка Багдановіча).

– Паўкалька з рускай мовы, крылаты выраз з верша С. Ясеніна «Письмо к женщине» (1924), дзе ёсць радкі: «Лицом к лицу лица не увидать. Большое видится на расстоянье».

**Вялікаму каню – вялікі хамут**. *На чалавека з вялікімі здольнасцямі і магчымасцямі ўскладваюцца і значныя абавязкі. Ужываецца як станоўчая ацэнка чыіх-н. выдатных здольнасцей.* **Сін**.: *Вялікаму караблю – вялікае <і> плаванне.* – Пра ўвесь калгас мне застаецца думаць. – Што ж, вялікаму каню вялікі хамут, – з усмешкай перабіла Насця (І. Мележ. Гарачы жнівень). – Вялікім дастаецца... – У нас кажуць: вялікаму каню – вялікі хамут, – таксама ўсміхнуўся цёмнавалосы селянін (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі). Вялікаму каню – вялікі хамут (Эпіграф да байкі К. Крапівы «Саманадзейны конь»).

– *Насовіч*, с. 8: Большаму каню большы хамут; *Прыказкі*, кн. 1, с. 340: Вялікаму каню – вялікі хамут.

**Вялікаму караблю – вялікае <і> плаванне**. *Функц. не зам. Незвычайнага чалавека чакае і вялікая плённая дзейнасць. Ужываецца як станоўчая ацэнка чыіх-н. выдатных здольнасцей або як пажаданне таму, хто атрымаў магчымасць выявіць свае здольнасці.* **Сін**.: *Вялікаму каню – вялікі хамут.* Кажуць, што вялікаму караблю – вялікае плаванне. Дык Сёмка Фартушнік, як узбуяў доб-

ра, не стаў вялікі карабель. На вялікую глыбіню ён нырца ніколі не даў, меў дробны ход (К. Чорны. Трыццаць год). Калі Зусь абмацаў і аглядзеў усё аж па некалькі разоў і пераканаўся, што нічога не схавалася ад яго вока, што ўсё, чаму патрэбна быць на сваім месцы, добра і моцна, – ён прыпыніўся на сярэдзіне перад рабочымі і спаважна, па-гаспадарску кашлянуў у кулак (вялікаму караблю – вялікае і плаванне) (Р. Мурашка. Сын). [Мякішаў:] Што ў Маскве прымаеш? [Траян:] Глаўк. [Мякішаў:] Твайго ж профілю? [Траян:] Майго. [Мякішаў:] Правільна. Сказана – вялікаму караблю вялікае плаванне (А. Маўзон. Пад адным небам). Вашы хлопцы папрацавалі на славу. Ну што ж, як кажуць: вялікаму караблю вялікае і плаванне (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

* Ён плавае на ўсіх заліках і на любым экзамене. Вядома, гультаям вялікім – вялікае і плаванне (П. Сушко. Студэнт пад ветразем).

– *БРС*, т. 1, с. 582: Вялікаму караблю вялікае плаванне.

**Вялік пень, ды дурань**. *Гаворыцца іранічна пра што-н. знешне вялікае, з чаго, аднак, няма толку.* [Рахлюк:] У вёсцы не павінна быць сто пяцьдзесят двароў, як у Мядзведзічах. Да такой вёскі цалкам падыходзіць прыказка: «Вялік пень, ды дурань» (К. Крапіва. Мядзведзічы). – Чаго ж ты маўчыш?.. Марыкуеш, ці што? – Вялік пень, але дурань! – адказвае ён, варавіта зірнуўшы на татульку (Я. Лёсік. Апавяданне без назвы). Вялік пень, ды дурань, – нарэшце робім свой прысуд (Я. Сіпакоў. З чаго мы смяёмся).

– *Насовіч*, с. 13: Вялік пень, ды дурань; *Прыказкі*, кн. 2, с. 242: Вялік пень, ды дурань.

**Вяроўка добра доўгая, а размова кароткая.** *Часцей ужываецца як папярэджанне, каб хто-н. гаварыў коратка, непрацяглa.* І хоць кажуць, што вяроўка добра доўгая, а размова кароткая, мы слухалі князя некалькі начэй запар (Л. Дайнека. След ваўкалака).

**Вясенні (вясновы) дзень год корміць**. *Ужываецца як сцвярджэнне, што дабрабыт селяніна залежыць ад яго стараннасці, дбайнасці ў вясеннія дні на полі.* Я ведаю, што ты стаміўся і што табе трэба адпачыць. Але... Вясенні дзень год корміць. Вясна на вачах сушыць поле, коней мала... Трактар стаіць, а Ягаднае ў нас не кранута нават (У. Краўчанка. Веснавымі днямі). А як захварэеш? Ды яшчэ вясною, калі сама араць, сеяць трэба? Ці ў час касавіцы, жніва? Вясновы, ды і летні дзень, кажуць, год корміць (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). Красавік – месяц птушак. Усе яны, вярнуўшыся з далёкіх вандровак, ладзяць гнёзды, выводзяць птушанят, кормяць іх. І радасна спяваюць – а як жа не радавацца:

вярнуліся на радзіму! А мы ўсю вясну працуем не разгінаючыся. Бо ведаем: вясенні дзень год корміць (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля). От, маўляў, які з мяне расказчык, ды і няма калі – вясна... працы шмат, а вясновы дзень, як вядома, год корміць... (Б. Пятровіч. Кропкі).

* Ужо даўно адсеяліся. Прыйшла самая гарачая пара, калі, як кажуць хлебаробы, дзень год корміць (І. Гурскі. У вялікай дарозе).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 75: Вясенні дзень год корміць.

**Вясновы дзень год корміць**. *Гл.* Вясенні (вясновы) дзень год корміць.

**Вясной і травінка да травінкі хінецца.** *Пра вясну як перыяд абуджэння прыроды і час кахання.* Жыццё працягвалася, а прырода брала сваё: вясной і травінка да травінкі хінецца. А тут – абое маладыя, у самай сіле (А. Вараповіч. Валацуга).

**Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.** *Кажуць пра вясеннія і асеннія дажджы і іх вынікі.*

* Непакоіла іншае: калі так пабудзе – днём сонца, ноччу марозік, – не агледзішся, як асмягне, запыліць зямля. Гэта не восень, калі з лыжкі вады – вядро гразі. Вясною наадварот: з вядра вады – лыжка гразі (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

– *Насовіч*, с. 13: Вясною кораб вады, ды коўш гразі, а восенню коўш вады, ды кораб гразі; *Ляцкі*, с. 6: Вясной вядро вады, а лыжка балота, а ўвосені лыжка вады, а вядро балота; *Федароўскі*, с. 333: Вясною цэбар вады – ложка гразі, а восенню ложка вады, а вядро гразі.



**Гавары, ды не <усё> дагары**. *Кажуць з неадабрэннем таму, хто гаворыць што-н. нелагічна, бесталкова.* **Сін**.: *Гаворыць(-ыш), а ў роце холадна.* – Вой, ці чулі ж яшчэ? У Дварчаны з Нямеччыны жыдэ панаехалі. – Ой, Вольга, ты гавары, ды не ўсё дагары (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). «Добра жывеш, сынок, – кажа бацька, – каб у трыццатым так жыў – раскулачылі б!..» Але гэта я ўжо наперад забягаю, як Ігнасева сучка. Гавары, ды не дагары (В. Шырко. Споведзь правінцыяла).

**Гаворыць (-ыш), а ў роце холадна**. *Праст. Кажуць з насмешкай пра таго або таму, хто гаворыць што-н. недарэчнае, бесталковае.* **Сін**.: *Гавары, ды не ўсё дагары.* – Во шапну Мар-

фэні, дык гэты ж твой юр праз бок выйдзе, праз тое самае рабро, з якога Адам Еву сатварыў. – Гаворыш, а ў роце, мусіць, холадна, – пасміхнуўся Верамей (А. Масарэнка. Лесавікі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 322: Гаворыць, а ў роце холадна.

**Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці**. *Гаворыцца з неадабрэннем пра бацькоў ці бацькам, дзеці якіх не атрымалі належнага выхавання.* [Вярэніч:] А цяпер вось табе і вяселле! Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці! Бо на свет пусціць – кожны дурань пусціць. А ты выгадуй, выведзі на чалавека, тады і звацьмешся маткаю (А. Петрашкевіч. Трывога).

– *Федароўскі*, с. 273: Гадавала сава дзеці – і няма на што глядзеці.

**Гадка (гідка) з'есці і шкада кінуць**. *Кажуць пра што-н. звыклае, але нявыгаднае, калі неабходна зрабіць пэўны выбар.* [Даніла:] І гэта каханая твая паглядзіць на цябе, галетніка, ды нос адверне. Яна толькі забаўляецца з табою, як кошка з жабай, – гадка з'есці і шкада кінуць (К. Крапіва. Партызаны). [Сын:] І яшчэ праблема. Вы прыдумалі атамную і вадародную бомбы. І пакідаеце іх нам. А што нам з імі рабіць? Гідка з'есці і шкада кінуць. Гэта не клопат? (А. Макаёнак. Зацюканы апостал).

* Вечарам на спатканні Ада расказвала Лёню пра незаслужаны дакор з Сібіры. – Ну, і як жа ты вырашыла? – спытаў Лёня. – Ды от і сама не ведаю. – Нельга з'есці і шкада кінуць. Праўда? – Усё ж такі, знаеш, каторы час у нас цягнецца сяброўства... (А. Пальчэўскі. Круты паваротак). Перакруціўся мой лёс настолькі, што я, вясковец да апошняй крывінкі, зрабіўся гарадскім жыхаром. І, як па той прымаўцы – гадка есці, ды не кінеш, – мушу жыць сярод чужога сэрцу, непатрэбнага душы ассяроддзя (С. Давідовіч. Два бакі медаля).

– *Насовіч*, с. 22: Гадка з'есці і жаль кінуці; *Янкоўскі*, с. 289: Гадка з'есці і шкада кінуць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 331: Гадка есці, жаль пакінуць; Горка з'есць і жаль пакінуць; Жалка выкінуць і гідка есці.

**Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзеці**. *Гаворыцца бацькам як пажаданне вырасціць дзяцей такімі, каб можна было пры іх дажываць свой век.* Дочкі мае ўжо ўсе замужам. Аж тры. У сваім сяле ўсіх пааддавала. Сын быў адзін – забілі ў вайну. Самы большы быў. От, і ўсе мае дзеці. Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзеці. Пагадавала, а сядзець і няма за кім. Удваіх, як пні, старыя засталіся (Я. Ермаловіч. Валуны).

– *Ляцкі*, с. 7: Гадаваў воўк дзеці, а не за кім сядзеці; *Прыказкі*, кн. 2, с. 138: Гадаваў мядзведзь дзеці, а галавы няма дзе дзеці.

**Галавою (ілбом) сцяны (сцяну, муру, мур) не праб’еш**. *Праст. Немагчыма, бескарысна супрацьстаяць сіле, уладзе.* **Сін**.: *Напроці ветру не падзьмеш; Пугай абуха не пераб’еш; Супраць ражна не папрэш.* – Не мамент цяпер, – вінавата і як бы павучаючы запярэчыў Глушак. – Сіла ў іх цяпер!.. Галавою сцяну не праб’еш! (І. Мележ. Подых навальніцы). Немец.. і б’е нас, б’е на дзіва. Бракуе нам чагось, чагосьці не стае... Павалім напралом – калі, сячы і рэж! Але сцяны ілбом – не, дудкі – не праб’еш! (Я. Колас. На шляхах волі). Кепскі дыплом, і без сувязей, шэлег цана! Не паможа апломб. Мур не праб’еш ілбом... (Р. Барадулін. Смаргонская акадэмія).

– *Насовіч*, с. 81: Муру лбом не разаб’еш; *Федароўскі*, с. 100: Галавою муру не праб’еш; *Прыказкі*, кн. 2, с. 475: Галавою сцяны не праб’еш.

**Галоднае бруха да працы глуха.** *Галодны чалавек не надта здольны, ахвочы да працы.* – Зараз пажуяце трохі чаго, пакуль той Карняплодаў. – Дзякую, не трэба. Дацярплю ўжо. – А нашто ж цярпець? Галоднае бруха да працы глуха (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...).

**Галоднай куме хлеб (сыр) наўме**. **1**. *Галодны толькі і думае пра яду.* – Галоднай куме хлеб наўме, – хітра пасміхнуўся Уладзік. – Можа, і так, – абыякава прамовіў Касперыч і паўтарыў пытанне: – Не, не на жарты: колькі чалавек здужае з’есці сырога сала? (Я. Колас. На ростанях). А я тым часам займуся абедам. Галоднай куме хлеб наўме (І. Гурскі. Вецер веку). Часам з дымам далятаў пах смажанага сала ці цыбулі. І тады адразу Клімёнак пачынаў глытаць сліну. Што ні кажы, а галоднай куме хлеб наўме... (У. Дамашэвіч. Порахам пахла зямля). Праўду кажуць, галоднай куме хлеб наўме. Сню я, гэта, дом, бабка Аўдоля дастае з печы чыгунок капусты... (В. Шырко. Дзед Манюкін не салжэ).

**2**. *Чалавек найперш думае пра тое, што яго непакоіць, чаго ён хоча дасягнуць.* І смех і бяда. Галоднай куме, кажуць, хлеб наўме. Прыслухоўваліся мы, сяляне, да таго, што аб зямлі гаварылі. Паявіліся ў нас нейкія доўгенькія паперкі друкаваныя – праклamацыі (Я. Колас. «Сацыяліст»). – Паплавок – не дурань. Таксама выпіць захацеў, – ухмыльнуўся незнаёмец з бутэлькай. Усе мужчыны заўсміхаліся, загаманілі. Толькі жанчына, надзьмутая, сярдзітая, стаяла ўбаку, падціснуўшы вусны. – Галоднай куме – хлеб

наўме... – падала яна голас (Л. Левановіч. Паплавок). [Гітлераўцы] думаюць, што завываннем сірэн у час бамбёжкі ім удасца ўздзейнічаць на псіхіку, запалохаць, застрашыць, падавіць волю абаронцаў нашай зямлі... Галоднай куме сыр наўме... (К. Кірэенка. З аповесці вайны). Не сыходзіла нікуды і Тэкля. Швэндалася па надворку, то да аднае кампаніі прыстане, то да другое. Спадзявалася, што якая добрая душа яшчэ чарачку паднясе, ведама – галоднай куме хлеб наўме (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

* Нават у сне Мікола бачыў ваду. Ён піў яе, гарачую, піў і ніяк не мог напіцца... – Праўду кажа прыказка: «Галоднай куме проса сніцца» (І. Новікаў. Тварам да небяспекі).

– *Насовіч*, с. 26: Галоднай куме хлеб наўме; *Прыказкі*, кн. 1, с. 219: Галоднай куме пірагі наўме; Галоднай куме сала наўме.

**Галоднаму не спіцца, калі хлеб сніцца**. *Чалавек не можа жыць спакойна, калі яго непакоіць, хвалюе што-н.* – Хто гэта? Гэта вы? І не спіцца вам? – усміхнулася Вера. – Галоднаму не спіцца, калі хлеб сніцца. Колькі ж вы тут наскрэблі [буракоў]? – пацікавіўся ён [Варанецкі] (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 232: Не спіцца, калі хлябок сніцца.

**Галодны і каня з капытамі з’есць**. *Галодны чалавек надта прагны, ненасытны і непераборлівы.* «Галодны і каня з капытамі з’есць». Русаковіч-Барысаўскі ўспомніў гэтую народную прымаўку, пaглядаючы на Філістовіча-Слуцкага і яго «войска», якое малаціла і пялёхкалася лыжкамі ў вядры з бульбяным супам (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках).

– *Федароўскі*, с. 102: Галодны з’еў бы каня з капытамі.

**Галота на выдумку (-і) вострая (хітрая)**. *Гл.* Голь (галота) на выдумку (-і) вострая (хітрая).

**Гаманіць галава не баліць**. *Крыўдныя словы не так і страшныя, іх можна сцярпець.* Пастаяў Мікалай Іванавіч, паглядзеў на іх работу і кажа мне: «Гані ты іх, Карагед, з калгаса, брыдка глядзець...» Ну-ну, думаю, гаманіць галава не баліць: паглядзім, на што здатны... (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– *Насовіч*, с. 26: Гаманіць галава не баліць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 383: Гаманіць – не баліць.

**Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць**. *Той, хто робіць што-н. для іншых, не мае магчымасці зрабіць гэта для сябе.* **Сін**.: *Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў; Шавец у падзёртых ботах ходзіць.* – Што, і вам даюць кватэры? – Даюць, а як жа! Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку варыць... так і мы.

Зробім – і вам аддамо. А самі – у інтэрнаце звякуем (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

– *Федароўскі*, с. 103: Ганчар у чарапку есці варыць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 158: Ганчар гаршкі лепіць, а ў чарапку есці варыць.

**Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды**. *Гаворыцца пры нечаканай сустрэчы ці ростані на няпэўна доўгі час.* Нічога, маці, сустрэнемся. Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Гэта была яна. Тая самая Косцева знаёмая, з якой мы сустрэліся на праспекце. Я сумеўся і апусціў вочы: вось сапраўды гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды (А. Крыга. Паўночны фарватэр). Як вы мяне знайшлі? Адрас з лістоў ведалі? Дык я ж нядаўна перабраўся на новую гэтую самую кватэру... Выпадак. Ах, які ж выпадак! Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам, калі суджана... (К. Чорны. Ідзі, ідзі). – Не пазнаяце, мама? Русакевічава дачка, тая, што ў Сібіры жыла... – Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам... Гэта меншая? Якраз як Тоня, маці (А. Жук. Праклятая любоў). – Яшчэ раз дзякую. Можа, сустрэнемся яшчэ. – Няма за што дзякаваць, мілы чалавек, паслуга невялікая. А сустрэцца – не дзіва, гара з гарой не сходзіцца... (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Я не забуду тваёй дапамогі. І за сталярку не забуду... Як кажуць, гара з гарой не сходзіцца... (В. Дайліда. Буслы над вёскай).

* І хто б то мог спадзявацца [на сустрэчу]... Я ўжо казала Рыгору... Ці не праўда, Сроль? – Чалавек з чалавекам – не гара з гарою... (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Заскочыў у адрасны стол, мне і далі даведачку, дзе ты жывеш. От так і знайшоў я цябе праз столькі год. Праўду кажуць, што гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам абавязкова стрэнуцца (Я. Васілёнак. Адзіночная камера). Ён зноў успомніў дзіўную сустрэчу з выдатным польскім рэвалюцыйным паэтам, вершамі якога зачытваўся ў турме. Праз дваццаць год сышлася гара з гарою – асабіста яны пазнаёміліся толькі пазалетась у Навагрудку, на юбілеі Міцкевіча... (Я. Брыль. Сэрца камуніста).

– *Насовіч*, с. 26: Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам усягды; *Прыказкі*, кн. 1, с. 383: Гара з гарою не сыйдзецца, а чалавек з чалавекам зыйдзецца; Гара з гарою не сходзяцца, а чалавек з чалавекам заўсягды.

**Гара нарадзіла (радзіла) мыш**. *Функц. не зам. Вялікія намаганні далі мізэрныя вынікі.* Каціная плётка: гара нарадзіла мыш (М. Коўзкі. Неэўклідава геаметрыя). Вось неяк яно заўсёды ат-

рымліваецца: хочацца выказаць думку вялікую, выступіш – маленькую частачку выказаў замест таго, што хацелася. Мыш, а не думка. А стаяла гара. Гара радзіла мыш (Я. Ермаловіч. Зазімак). Яшчэ праз паўтара месяца рабочы рух паціху сышоў на нішто. «Гара нарадзіла мыш», – уздыхнуў знаёмы літаратар (Ю. Станкевіч. Пляц Незалежнасці). «Падстрыгаць» іх [тэксты на кінастудыі] – іхняя справа, а даваць іншыя, лагодненькія, аўтарскія тэксты – не варта. У нас ужо адзнакаю стала, што гара нараджае мыш (М. Дубянецкі. «Трэба рызыкаваць...»).

– Калька з французскай мовы: *La montagne enfante une souris*, якая склалася на аснове лацінскай прыказкі *Parturint montes, nascetur ridiculus mus* ‘раджаюць горы, нараджаецца смешная мыш’.

– *БРС*, т. 1, с. 311: Гара нарадзіла мыш.

**Гара радзіла мыш**. *Гл.* Гара нарадзіла (радзіла) мыш.

**Гарбатага магіла выправіць (выпрастае)**. *Чые-н. перакананні, недахопы, заганы не выправіш. Кажуць з перакананнем, што хто-н. не зменіцца ў лепшы бок.* **Сін**.: *Крывое дрэва не выпраміш; Як удасца жарабё з лысінкай, дык і здохне такім.* Дарэмна яна спрабавала даказаць гэтым «чорствым мужчынам», што Рая змянілася і шчыра хоча ведаць, дзе Алёша. – Гарбатага магіла выправіць, – адрэзаў на яе довады Валодзя (І. Шамякін. Крыніцы). – Колькі гора і пакут прынеслі [фашысты]. Няхай хоць цяпер самі іх паспытаюць і смак іхні ўведаюць. Мо тады і жахнуцца з таго, што робяць. – Гарбатага магіла выправіць (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). Паслухаеш цябе, Герасім, дык здаецца, не ў турме ты быў, а на адпачынку. Праўду кажуць: гарбатага магіла выправіць (Х. Жычка. Зброю бяруць сыны). [Матка:] Ты ўжо нам даруй, сыночку, не гневайся на старых, – нас ужо не перавучыш. [Мікола:] Так-с... праўду кажаш! Гарбатага выпрастае магіла (М. Гарэцкі. Свецкі чалавек). [Косця:] Ну, чыя праўда, Андрэй? Гарбатага магіла выпрастае. Я не разумею, чаго мы цацкаемся з ім? Валаводзімся, угаворваем, выхоўваем, а навошта? (М. Матукоўскі. Мужчына, будзь мужчынам).

* Яшчэ год таму я чуў ад яго падобныя разважанні – усё ж не чакаў, каб іх наша сапраўднасць не змяніла... Між тым... Гарбатага магіла зменіць... (Ц. Гартны. Сокі цаліны). – Ну, вось скажы: што ты зрабіў, каб перамяніць, перавыхаваць яе? – Гарбатага, кажуць, не выраўняеш... (А. Марціновіч. Надзея).

– *Насовіч*, с. 27: Гарбатага адна магіла спраміць; *Раманаў*, с. 231: Справіць гарбатага магіла; *Прыказкі*, кн. 2, с. 303: Гарбатага хіба магіла выпрастае (выпраміць).

**Гарэлка да дабра не давядзе**. *Кажуць з асуджэннем пра п'янства.* Можна было б вярнуцца ў хату і пахмяліцца – гэтае атруты даволі, ды не хацелася дурны прыклад падаваць. П'янка дзелу не помач. Яно і праўда, дзе чарка, там і сварка. Гарэлка да дабра не давядзе (М. Гроднеў. Права адплаты).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 351: Гарэлка да дабра (да добрага) не давядзе.

**Гаспадар за гарэлку, гаспадыня за талерку**. *Зварот да бацькоў нявесты пры сватанні.* [Даніла:] А мы ж такога хлопца набываем! Такую дзяўчыну губляем! Так што, гаспадар за гарэлку, гаспадыня за талерку! (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Янкоўскі*, с. 116: Гаспадар за гарэлачку, а гаспадыня за талерачку.

**Гаспадар і жонка – найлепшая сполка**. *Гл.* Муж (гаспадар) і жонка – найлепшая сполка.

**Гаспадарка – клапатарка**. *Гаспадарка патрабуе вялікіх клопатаў.* **Сін**.: *Гаспадарку весці – не лапці плесці*. Саломай карміць высокапародную жывёлу не будзеш. Трэба і травы вырошчваць, і буракі, і бульбу... Гаспадарка – клапатарка (В. Шырко. Жаваранак над нівай).

– *Федароўскі*, с. 105: Гаспадарка – клапатарка.

**Гаспадарку весці – не лапці плесці**. *Гаспадарку весці – не лёгкая справа.* **Сін**.: *Гаспадарка – клапатарка*. [Кажамяка:] Саладуха далей свайго носа нічога не бачыць, ён гатоў жыць так, як жылі дзяды. Лепшага за Высоцкага старшыню мала дзе знойдзеш. Гаспадарку весці – не лапці плесці (І. Гурскі. Свае людзі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 185: Гаспадарку весці – не лапці плесці.

**Гасподзь не без міласці, а казак не без долі**. *Гл.* Бог не без літасці, казак не без шчасця.

**Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі**. *Кажуць гаспадыні ці гаспадару пры святочным частаванні.* «Не, так нядобра, – паднялася з месца Нона. – Госці сядзяць, а гаспадыня стаіць». Нявестку падтрымаў Дзед: «Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі!» (М. Капыловіч. Былі б рукі...). – Перакусвайце, перакусвайце! – падахвочвала гасцей Хвядосся, аглядаючы стол. – Бярыце, хто што хоча, даставайце! – Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі! – усмешліва азвалася Стэпа, беручы ў адну руку лусту хлеба, у другую – скрыль паляндвіцы (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 402: Госцю гадзі, дый сябе не галадзі.

**Гідка з'есці і шкада кінуць**. *Гл.* Гадка (гідка) з'есці і шкада кінуць.

**Глухім два разы ў касцёле не звоняць.** *Кажуць у адказ на просьбу паўтарыць сказанае, пры нежаданні паўтараць.* **Сін**.: *Глухому дзве абедні не служаць.* – Як, як?.. Прачытай яшчэ раз! – Глухім два разы ў касцёле не звоняць (А. Цяжкі. Смутак).

– *Рабкевіч*, с. 44: Глухому два разы не звоняць.

**Глухому дзве абедні не служаць**. *Кажуць у адказ на просьбу паўтарыць сказанае, пры нежаданні паўтараць.* **Сін**.: *Глухім два разы ў касцёле не звоняць.* – Паўтары яшчэ раз. – Глухому дзве абедні не служаць. Ідзі лепш паглядзі, што ў нас робіцца... (Р. Няхай. Туман над стэпам). **Для глухога дзвюх абедзень не служаць**. – Для глухога дзвюх абедзень не служаць! – строга прамовіла яна [Марына]. – Трэба заўважаць не толькі тое, што робіцца ў вас усярэдзіне, але і тое, што робіцца навокал... (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 166: Глухому дзве малебны не служаць.

**Год на год не прыходзіцца (не выпадае)**. *Функц. не зам. Не кожны год падобны на папярэдні.* Год на год не прыходзіцца. За цёплай восенню хутка наляцела ў гарадок зіма, не енчыла макроццем і дажджом, а насыпала адразу снегу і ўдарыла маразамі (Г. Марчук. Кветкі правінцыі). – А чаму летась май быў халодны, а цяпер стаіць такі гарачы?.. Як гэта растлумачыць? – Год на год не выпадае. Май звычайна ў нас бывае халодны, бо на поўначы пачынаецца вясна, там растае снег і забірае цяпло (С. Александровіч. Крыжавыя дарогі). Але грыбы не мох, не растуць па ўсім лесе без разбору. Кожны грыб любіць свае мясціны, ды і год на год не прыходзіцца (С. Давідовіч. Суперпадарунак). Спрадвеку каліну пасля маразоў збіралі. Год на год не прыходзіцца, але кожны раз яе можна назбіраць на ўзлеску, а найбольш яе было – ядранай, чырвонай – у двух шырозных і глыбокіх... акопах-бліндажах (П. Місько. Смерці яны не баяліся...).

– *Ляцкі*, с. 8: Год на год не прыходзіцца; *Прыказкі*, кн. 1, с. 89: Год на год не прыходзіцца.

**Голад не цётка**. *Голад вымушае пакарыцца абставінам, рабіць што-н. не так, як хацелася б. Кажуць у апраўданне дзеянняў, звязаных з пошукамі ежы.* **Сін**.: *Не пад'ясі – і залатую фурманку аддасі.* Найчасцей знаходзілі выхад у тым, што ішлі з горада ў вёску, каб прынесці мяшэчак бульбы. І гэта кіламетраў за трыццаць і болей, і на сваім гарбу. Голад – не цётка... (М. Гарэцкі. Віленскія камуна-

ры). Перш за ўсё: голад не цётка. Пад вечар усе мы так нагаладаемся, што не памагае ні курыва, ні вялізныя цяжкія галовы сланечніку з мяккімі, яшчэ зялёнымі семкамі, якіх мы паназапашваем з ночы. Хочацца есці (В. Быкаў. Трэцяя ракета). Некаторыя каровы, асабліва маладняк, языкамі ўсё лізь ды лізь. То на адзін бок, то на другі. Голад – не цётка! Шкада жывёлы (Я. Ермаловіч. Трактарыст Антон Знак). Праўду кажуць: голад – не цётка. Распаўзліся птушаняты з гнязда, цвікаюць – есці просяць (В. Праскураў. Бярозавы сок).

* Толькі ў сваёй траншэі я скумекаў, чаго гэта ён так да майго кажушка ліпне: холад не цётка, а мы палоннага, аказваецца, па марозе і снезе дастаўлялі транзітам у адных споднiках (Вожык. 1985. № 12).

– *Насовіч*, с. 26: Голад не цётка, з'есць, што папала; *Прыказкі*, кн. 1, с. 218: Голад не цётка, паглядзяць ды з'ядзяць; Голад не цётка.

**Голаму разбой не страшан (не страшны)**. *Бедны чалавек не баіцца пагроз, бо яму няма чаго губляць.* [Скіба:] Людзі мы ліхія, прыехалі грабіць старога. [Дзед Бадыль:] Спазніліся крыху. Знайшліся такія, што раней за вас управіліся. Цяпер, як той казаў, голаму разбой не страшан (К. Крапіва. Партызаны). – Ну? – пытае Горбач. – А можа, і паслухаць. Што я ад таго страчу. – Голаму разбой не страшны. А біцца будзем за праўду (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). **Голы разбою не баіцца**. – Ці ты, можа, баішся?.. Дык скажы проста, Позняк. Я не буду крыўдаваць на цябе. Не хоч, дык не хоч, так і скажы. – Не, настаўнік, голы разбою не баіцца. Але не справа гэта старых. Дзе мне ўжо свой нос тыкаць, куды не след (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

– *Насовіч,* с. 26: Голаму разбой не страшан; *Прыказкі*, кн. 1, с. 410: Голы разбою не баіцца.

**Голаму сабрацца – толькі падперазацца**. *Чалавеку, не абцяжаранаму ўласнай маёмасцю, вельмі лёгка сабрацца куды-н. Кажуць пра каго-н. перад адыходам, ад'ездам куды-н.* **Сін**.: *Голы збірайся, голы гатоў.* [Васіль перад адпраўкай у варожы тыл] зняў узнагароды.., на чыстым аркушы паперы на ўсякі выпадак вялікімі літарамі напісаў адрас бацькоў. Голаму сабрацца – толькі падперазацца (А. Кажадуб. Даўгі нашы).

* – Куды, куды мы едзем? – У горад, мама? – Набеглі, узнялі голас дзеці, толькі старая Аўроння і Лазар апраналіся моўчкі... Лазар ужо звык, пачуўшы каманду, падпарадкоўвацца. Голаму апрануцца – толькі падперазацца (В. Казько. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 265: Голаму сабрацца – толькі падпаясацца.

**Голы збірайся, голы гатоў**. *Беднаму чалавеку вельмі лёгка сабрацца куды-н. Кажуць пра каго-н. перад адыходам, ад'ездам куды-н.* **Сін**.: *Голаму сабрацца – толькі падперазацца*. Чутак тых, чутак!.. Герман пад Гродняю, герман у Беластоку, герман ля Слоніма – страхоцце... І хоць мне няма чаго шкадаваць – голы збірайся – голы гатоў, – а вось кут дарагі, з месца не ўзняцца... (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Распісваў Зарэмба, нібы агітаваў яе [Хелену] збірацца і хутчэй пакідаць хутар. А што ёй збірацца? Голы збірайся, голы гатоў... (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). Бачу: раз насталі, то скарагодзяць, нікуды не дзенешся. Жаніся, значыць. Хоць зноў жа, пытаюся: «Які ў цябе рэсурс ёсць, каб жаніцца? Голы збірайся – голы гатоў?» (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 412: Голы, збірай! – Голы гатоў.

**Голы разбою не баіцца**. *Гл.* Голаму разбой не страшан (не страшны).

**Голь (галота) на выдумку (-і) вострая (хітрая)**. *Чалавек пры вострай патрэбе зрабіць штосьці праяўляе вынаходлівасць, прыдумвае што-н. Гаворыцца з адабрэннем ці задавальненнем, калі ўдалося знайсці выйсце ў якой-н. сітуацыі.* Уладзік узяўся і паправіў [пыласос]. – Мы цяпер усё ўмеем, мама. Як кажуць, галота на выдумку хітрая... І мы хітрыя, мама (І. Шамякін. Сатанінскі тур). [Несцерка:] А вось мы ёй [Кацярыне] вестачку пададзім – як ад Андрэя. А пан пераапранецца – ды замест яго. І пад вянец. А там – воля ваша, мой клопат – да касцёла. [Пшэбыеўскі:] От праўда, галота на выдумкі хітрая (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Насовіч*, с. 26: Голь на выдумкі востра; *Янкоўскі*, с. 210: Голь на выдумку вострая.

**Гора маё чубатае: ніхто мяне не сватае**. *Адказ дзяўчыны, часцей жартоўны, дасціпны, на пытанне, чаму яна не выходзіць замуж.* [Куліна:] І табе, Марфа, пара б утаймавацца. [Халімон:] Тады дзеўка схамянулася, як у жываце страпянулася. [Марфа:] Гора маё чубатае – ніхто мяне не сватае (У. Сауліч. Халімон камандуе парадам).

– *Раманаў*, с. 293: Гора маё чубатае: ніхто мяне не сватае; *Федароўскі*, с. 295: Доля мая чубатая: ніхто мяне не сватае.

**Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе**. *Гора вымушае чалавека быць выкрутлівым.* [Кузьмін:] Няўжо вы сапраўды на танцы з ім [эсэсаўцам] пойдзеце? [Вікця:] Яшчэ чаго не хапала. [Кузьмін:] Вы так какетнічалі. [Вікця:] Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе (К. Крапіва. Людзі і д'яблы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 450: Гора плача, гора скача, гора і песенькі спявае; Гора мучыць, гора вучыць, гора песеньку пяе.

**Гора табе, воле, калі цябе карова коле**. *Гаворыцца як насмешка над мужам (ці мужчынам), калі ім кіруе, бярэ над ім верх жонка (ці жанчына).* **Сін.:** *Кепская тая дамова, дзе вала бадзе карова; Няхай той бык здохне, якога пабора карова.* [Федзя:] І твая ж, мусіць, гаспадарка такая самая, як і наша? Разам жывём. [Ядзя:] Для мяне з Таняй хопіць і тых грошай, што я ў школе атрымліваю. [Жыгліцкая:] Гора табе, воле, калі цябе карова коле (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Сцярпеў я адзін раз, другі, пасля спакойна так кажу: «Можа, у лесе тут у вас бабы камандуюць, у нас у Бабруйску няма такога. Гора табе, воле, калі цябе карова коле. Зарубі сабе на носе раз і назаўсёды: у мае справы не мяшайся» (В. Шырко. Дыханне жыта).

– *Янкоўскі*, с. 300: Гора табе, воле, колі цябе карова коле!; *Прыказкі*, кн. 2, с. 52: Бедная тая дамова, дзе вала бадзе карова.

**Гора толькі рака (ракаў) красіць**. *Кажуць са спачуваннем пра чалавека, які шмат перажыў.* Не глядзі, што я чорнай зарос барадой. Не зарос барадой, а зарос я бядой. Не дзівіся таксама з убораў маіх: гора красіць, Паліна, толькі ракаў адных (А. Куляшоў. Грозная пушча).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 448: Гора толькі рака красіць.

**Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць**. *Гаворыцца звычайна як суцяшэнне, што іншага выйсця няма, што з гэтым трэба прымірыцца.* **Сін**.: *Горкая гарэлка, але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць*. [Дзяўчына:] Я, здаецца, [замуж] нізашта не пайду. [Маладзіца:] Ах, мая ты Мар'ічка! Як прыйдзе твая часіна, дык і не падумаеш, цяжка ці не. Як у той прыказцы гаворыцца: горка рэдзька, ды ядуць, цяжка замужам, ды йдуць... (М. Гарэцкі. Каменацёс). – Вы так хваліце... «Горш не будзе...» Хто ж гэта пойдзе, калі горш? – Горка рэдзька – ды ядуць, цяжка замужам – ды йдуць (П. Місько. Градабой). [Пажылы селянін:] А чаго? Спытай хто хоча, не сілком жа іх валочуць! Горка рэдзька, ды ядуць, дрэнна замужам, ды йдуць (М. Клімковіч. Кацярына Жарнасек). [Скрылёў:] Цяжка, брат, тут што-небудзь раіць. Бадай што ты разумную думку выказаў. Рабі так. Горка рэдзька, ды ядуць, ліха замужам, ды ідуць (Р. Кобец. Гута).

– *Ляцкі*, с. 8: Горка рэдзька, ды ядуць, ліха замужам, ды йдуць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 16: Горка рэдзька, ды ядуць, ліха (дрэнна, кепска) замужам, ды ідуць.

**Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі**. *Гаворыцца з упэўненасцю ў апраўданне добрых вынікаў часам цяжкай працы.* Рукі ў вас ёсць і галава на плячах, будзеце працаваць, як і ўсе добрыя людзі. Праца красіць і славіць. У народзе кажуць: горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 168: Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.

**Горкая гарэлка (гарэлачка), але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць**. *Гаворыцца жартаўліва ці як суцяшэнне, што іншага выйсця няма, што з гэтым трэба прымірыцца.* **Сін.:** *Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка замужам, ды ідуць*. [Васіліса:] Наташа! Не ўводзь мяне ў злосць, бо я не пагляджу, што ў хаце сваты. Я, можа, не бацька, з табою цацкацца! [Шпакоўскі:] Што ж, горкая гарэлачка, але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць. [Наташа:] Не чапайце мяне (І. Гурскі. Свае людзі).

* [Маці] прыгубляла чарку, калацілася і пытала: – Як жа людзі п'юць? Але праўду кажуць: кепска замужам, але йдуць, горка водка, але п'юць (В. Адамчык. Дзікі голуб).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 16: Гарэлка горка, ды яе п'юць, замужам нядобра, ды ідуць.

**Горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся**. *Гаворыцца як парада не паддавацца страху.* [Навум:] Я пярвей маўчаў; але як пан пачаў распытваць, прыпомніў сабе прымаўку: горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся; бяды ж горшай не будзе; дай ну ж пець ды выспеўваць усю праўду (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч*, с. 27: Горшы, калі баішся: і ліха не мінеш, і надрыжышся; *Федароўскі*, с. 20: Найгорш, як баішся, бо і наб'юць і надрыжышся; *Прыказкі*, кн. 2, с. 295: Горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся.

**Госці ў хату – свінні рады.** *Гаворыцца жартоўна, калі на стале пасля гасцей застаецца шмат чаго няз'едзенага ці недаедзенага.* «Госці ў хату – свінні рады», – жартуюць крывічы. Гэта значыць, што ўсяго будзе да адвалу. Для гасцей крывічы нічога не шкадавалі. Не на чорны дзень, а для гасцей заўсёды нешта прыпасалася. Нездарма ж кажуць: дай Бог гасця, а каля гасця й я (Р. Барадулін. Як беларусы гасцей прымаюць і ў госці ходзяць).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 389: Госці ў хату – свінні рады.

**Госць <выпіць> рад, калі гаспадар дасць прыклад**. *Гаворыцца ў часе застолля гаспадару, калі той, запрашаючы іншых*

*частавацца, сам прыкладу не падае.* Хопіць слёз, варта было б яшчэ ўзяць па адной кроплі, каб вашы шчасліва дабраліся ў горад. Добра ў вас тут кажуць: «Госць выпіць рад, калі гаспадар дасць прыклад» (Г. Далідовіч. Заходнікі).

– *Насовіч*, с. 29: Госць рад, калі сам хазяін дасць прыклад; *Янкоўскі*, с. 67: І госць рад, калі сам гаспадар дасць прыклад.

**Госць мала гасцюе (бывае), ды многа (багата, шмат) бачыць**. *Чужы чалавек, нядоўга пабыўшы ў каго-н., многае заўважае.* Асабліва асцерагаліся новага, свежага чалавека, які мог зайсці ў любы час у хату, убачыць непарадак і абняславіць: «Што ён падумае пра нас? Ды і скажа?» Госць мала гасцюе, ды багата бачыць (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). Госць, кажа беларуская прыказка, мала бывае, ды шмат бачыць. Купала бываў у Акопах госцем і бачыў шмат (А. Лойка. Як агонь, як вада).

* Пасля тэлевізійных здымак хтось з украінскіх рэдактараў сказаў: «Здымаць Ніла Гілевіча адна асалода!.. У яго дзяржаўная галава!.. Праўду народная мудрасць кажа: «Госць мала бывае, але ўсё прыкмячае» (У. Содаль. Пытанні з юнацтва).

– *Насовіч*, с. 28: Госць нямнога бываець, ды многа відаець; *Прыказкі*, кн. 1, с. 403: Госць мала гасцюе, а многа бачыць.

**Госць на парог – гаспадыня за пірог**. *Гаворыцца з адабрэннем пра гасціннасць і частаванне.* Убачыўшы на стале талеркі, ён [сівы дзядок] весела, неяк зухавата ўсклікнуў: – Вось гэта парадачак! Госці на парог – гаспадыня за пірог! Дзень добры ў хату і куму і свату! (М. Ваданосаў. Адзінай маці сыны).

**Госць на парог – радасць у хату**. *Прыход госця – вялікая радасць.* **Сін**.: *Госць у дом, бог у дом; Дзе госць, там і бог ёсць.* – Заходзьце, калі ласка, – пачціва запрашала Ядвіга. – Гасцямі будзеце. А госць на парог – радасць у хату (В. Праскураў. Рута-мята).

**Госць не костка, за вароты не выкінеш**. *Да госця, які б ён ні быў, ставяцца прыветліва.* Раман падышоў да стала, наліў сабе ў келіх віна і тым самым як бы падаў прыклад іншым... Костусь-Канстант пачуваў сябе ніякавата ад бунтарскага імпэту Рамана, але палічыў за лепшае паквітацца з ім жартам. Ён, праўда, перш звярнуўся да селяніна Пятра: – Спадар Пятро, як гэта ў вас, мужыкоў, гавораць? Госць... А-а, вось: госць – не костка, за вароты не выкінеш! (В. Якавенка. Пакутны век).

**Госць – нявольнік**. *Госць не павінен адмаўляцца ад таго, што прапаноўваюць гаспадары.* **Сін.:** *Госць як нявольнік: ляжа, хоць і ў пярыну паложаць.* [Ядзя:] Тваёй падтрымкі мне таксама

не забыць ніколі. І раз ты сёння мой госць, а госць нявольнік, кажуць, дык досыць патачкі табе: пакуль не адведаеш майго пірага з вяндлінай – з хаты не выпушчу (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Федароўскі*, с. 113: Госць – нявольнік, што даюць, мусі есць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 392: Госць – нявольнік.

**Госць у дом, бог у дом**. *Прыход госця – вялікая радасць.* **Сін**.: *Госць на парог – радасць у хату; Дзе госць, там і бог ёсць.* [Навум:] Вяльможны наш пане дзядзічны, вотча і дабрадзею! Добра кажа прыгаворка: госць у дом, бог у дом; а ты ж наш дарагі госць, як яснае солнышка (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Заўважыўшы Касцюшку, які спыніў каня каля брамы, Рэйтаноўскі радасна павітаўся, хвошчучы сябе па плячах: – Госць у дом – бог у дом. Далучайцеся, ваша мосць! (Я. Конеў. Грэчкасейная ідылія Тадэвуша Касцюшкі). **Госць у хаце, бог у хаце.** Народ гэты чысціню шануе, і вясёлы, і не злапомны, і гасцінны. Калі да каго госці прыйдуць, гаспадар кажа: «Госць у хаце, бог у хаце». І ўсё лепшае на стол ставіць (У. Арлоў. Пішу вам у Масковію).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 388: Госць у дом, бог у дом.

**Госць у хаце, бог у хаце.** *Гл.* Госць у дом, бог у дом.

**Госць як нявольнік: ляжа, хоць і ў пярыну паложаць**. *Госць мусіць не адмаўляцца ад таго, што прапаноўваюць гаспадары. Ужываецца звычайна з адценнем гумару як ацэнка залішняй гасціннасці.* **Сін**.: *Госць – нявольнік*. І цяпер у нас рэдка знойдзецца хата, у якой не паставілі б рубам апошняга рубля, калі ў доме госць. Часам гэта бывае нават смешна, і беларус кпіць са сваёй «празмернай» гасціннасці досыць злосна: «Госць як нявольнік: ляжа, хоць і ў пярыну паложаць» (У. Караткевіч. Зямля пад белымі крыламі).

– *Насовіч*, с. 29: Госць як нявольнік: ляжа, хоць і ў пярыну паложаць. (І. І. Насовіч зазначае, што і сам госць часам кажа гэту прыказку гаспадарам, калі яны занадта прынявольваюць яго да чарговага пачастунку.)

**Госцю гадзі, ды і сябе глядзі**. *Гаспадар, дагаджаючы, задавальваючы госця, не павінен забываць пра сябе.* [Марфа:] Ай забыўся, што госця трэба дараваць, а гаспадару – памаўчаць? [Зазыба:] Але я ведаю і другое – госцю гадзі, дый сябе глядзі. [Марфа:] Ды я, калі хочаш, не горш за цябе разбіраюся, што да чаго (І. Чыгрынаў. Свае і чужыя). – Што ж мы – прыехалі і адразу – высяляем гаспадароў. – А нічога! – не адступіла жанчына. – У нас такі парадак. «Госцю – гадзі», кажуць. – «Госцю гадзі, ды й сябе глядзі!» – падхапіла, падтрымала Башлыкова Ганна (І. Мележ. Завеі, снежань).

– *Насовіч*, с. 29: Госцю гадзі, дый сябе хазяін не галадзі; *Прыказкі*, кн. 1, с. 402; Госцю гадзі, дый сябе глядзі; *ТСБМ*, т. 2, с. 11: Госцю гадзі, ды і сябе глядзі.

**Госцю двойчы рады: калі ён прыязджае і калі ён ад’язджае**. *Часцей жартаўлівая ацэнка гасціннасці.* – А што ні кажы, Яначка, госцю двойчы рады: калі ён прыязджае і калі ён ад’язджае. Ну то я і паеду. Далібог, ісцінная праўда!.. (А. Лойка. Як агонь, як вада).

* Сядзець на шыі ў сям’і Лопесаў Юзіку было няёмка. Ды і гасцям, не сакрэт, гаспадары рады два разы: калі тыя прыходзяць і калі выбіраюцца дахаты (Звязда. 2001, 20 студз.). – Кажуць: хто рэдка прыходзіць, таго добра прымаюць. – Э-э, не кажы... – Чаму ж? Гасцям двойчы рады: сустракаючы і праводзячы, – гнуў сваю жартаўлівую лінію Яўген Буланаў (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Выслоўі*, с. 42: Госцю рады двойчы: калі ён прыязджае і калі ён ад’язджае.

**Госцю трэба дараваць, а гаспадару памаўчаць**. *Пра ўзаемаадносіны паміж гаспадаром і госцем.* [Зазыба:] Ты вунь як за сталом выстанчала! [Марфа:] Ну і што? Ты як зусім маленькі. Ай забыўся, што госцю трэба дараваць, а гаспадару – памаўчаць? (І. Чыгрынаў. Свае і чужыя).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 390: Госцю трэба дараваць, а гаспадару прамаўчаць.

**Граза ў лес не ідзе**. *Строгасць, пагроза не праходзяць безвынікова.* Праводзячы Збінацкага ўважлівым позіркам, Пеця падумаў: «Бач ты яго, якім героем зрабіўся. Стройны, бадзёры. А быў такі сутулы, проста ў зямлю жывы лез. Выходзіць, граза ў лес не ідзе» (І. Сіняўскі. На правым флангу). І навальніца летняя гразіцца зусім не грозна, не злосна, яна спагадліва дакарае, як маці. Пазней дойдзе да цябе сэнс прымаўкі: граза ў лес не йдзець… (Р. Барадулін. Планета матуль).

– *Насовіч*, с. 29: Граза ў лес не ходзіць, а па людзях; *Прыказкі*, кн. 1, с. 70; кн. 2, с. 487: Граза ў лес не йдзець; Граза ў лес не йдзець, а па людзях ходзіць; *Лепешаў*, с. 102: Граза не ідзе ў лес.

**Гракі цяпла не прыносяць**. *Ужываюць як народную прымету: вясной, калі гракі вяртаюцца з выраю, на дварэ яшчэ не цёпла.* Вясна, на жаль, пакуль што не радуе – халодная, ветраная. Праўду кажуць, што гракі цяпла не прыносяць... Вось прыляцяць ластаўкі – тады адразу ж пацяплее (В. Праскураў. Жывыя крыніцы).

**Грамніцы – палавіна зіміцы**. *Ужываюць як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; Грамніцы – свята ў хрысці-*

*ян, якое ў праваслаўных прыпадае на 15 лютага па новым стылі, а ў католікаў – на 2 лютага.* Даволі траскучыя марозы гулялі на прасторы, ціснулі ўсё жывое і нежывое. Прайшлі і Коляды, і Хрышчэнне (тры каралі), і блізка Грамніцы. Хоць і кажуць: «Грамніцы – палавіна зіміцы», але ўжо зіма ідзе к канцу (Я. Колас. Канец зімы).

– *Насовіч*, с. 29: Грамніца зімы палавіца; *Прыказкі*, кн. 1, с. 95: Грамніцы – палавіна зіміцы.

**Грозен (грозны) рак, ды (але) ззаду вочы**. *Праст. Няма чаго баяцца каго-н. Насмешлівы адказ на чые-н. пагрозы.* [Жыгалка:] Э-эх, і свіснуў бы я па гэтай першай скрыпцы. Гайда?! [Смык:] Грозен рак, але ззаду вочы (І. Гурскі. Новы горад). «Да ўлады я [Адольф] смела па трупах пайду, ступаючы кованым ботам, і свет, як канцлагер, вакол абвяду калючым гартованым дротам». Мы на гэта скажам гаду: – Грозен рак, ды вочы ззаду! (К. Крапіва. Біблія людаеда). Вусаты на дзіва спакойна, нават без намёку на абурэнне, адышоў, як паслухмяны сабака на крык гаспадара. Грозны рак, ды ззаду вочы (У. Рубанаў. Грыбавар). **Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?** [Цыганок:] Не глядзі, не глядзі на мяне так, не спалохаюся. Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?.. (Маладосць. 1994. № 10).

– *Насовіч*, с. 29: Грозен рак, ды ззаду вочы; *Раманаў*, с. 293: Грозен рак, ды дзе яго вочы? *Прыказкі*, кн. 2, с. 263: Грозен (грозны) рак, ды ззаду вочы; Грозен рак, ды дзе ў яго вочы?

**Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?** *Гл.* Грозен (грозны) рак, ды ззаду вочы.

**Гром не грымне, мужык не перахрысціцца**. *Гл.* <Пакуль> гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца.

**Грошы – вада.** *Кажуць пра грошы, калі яны хутка расходуюцца.* – Бачу, ты дастукаўся да свайго даўжніка? – спытаў я. – Ага, сустрэліся – і ён якраз пры грашах. Кажа: колькі разоў адкладваў – столькі і распускаў. Грошы – вада (А. Кудравец. Смерць нацыяналіста). – Бяры, студэнт, – падбадзёрыў яго гаспадар. – Спатрэбіцца. Грошы – вада. Не паспееш азірнуцца, як сплывуць. Асабліва калі кішэні ў чалавека дзіравыя (Я. Курто. На свой хлеб).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 477: Грошы – вада.

**Грошы не пахнуць**. *Функц. не зам. Для каго-н. не мае значэння, якім шляхам атрыманы, здабыты грошы. Гаворыцца пра каго-н. з неадабрэннем.* Гэтыя за зарплату падстаўляць лоб пад кулю не надта адважацца, дый няма ніякіх гарантый, што некага з іх рэкет не купіць. Грошы, як ты кажаш, не пахнуць (І. Канановіч. Чорныя цені). З ледзь захаванай агідай глядзеў Язэп Сымонавіч

на Булыгу. Як перад вачамі ўяве – стаялі ў памяці падобныя ж інжынеры на падрадчыкавых работах, для якіх найсвяцейшым і натуральнейшым прынцыпам было «Pecunia non olet» (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы). І, не міргнуўшы вокам, містэр Лаяна адказаў: – Думаю, вам вядома, што грошы не пахнуць. І ніхто не мае права дапытвацца ў мяне, адкуль гэтыя грошы (М. Лынькоў. Містэр Лаяна). – Не трэба нам яго брудныя грошы. – Грошы не пахнуць (І. Шамякін. У засені палаца). [Люся:] І ўсё ж адкуль такія вялікія грошы?.. [Альдона:] У першы дзень Новага года адкрыю сакрэт. [Арнольд:] Дай спакою. Грошы не пахнуць. Мо гэта яе сямейная тайна (Г. Марчук. Альдона, Анэта, Анфіса).

– Калька з лацінскай мовы: *Pecunia non olet*. Паходзіць са слоў рымскага імператара Веспасіяна (1 ст. н. э.), які ўвёў падатак на грамадскія прыбіральні, а калі сын папракнуў бацьку за гэта, той паднёс да яго носа першыя грошы, сабраныя як падатак, і прапанаваў яму панюхаць, пытаючы, ці пахнуць яны.

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 480: Грошы не пахнуць.

**Груган гругану вока (вачэй) не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе)**. *Людзі, звязаныя якімі-н. агульнымі, звычайна карыслівымі, інтарэсамі, дзейнічаюць заадно і не здрадзяць, не зробяць кепскага адзін аднаму. Ужываецца з адценнем неадабрэння.* Суддзі доўга шукалі, як бы змякчыць пакаранне. І не дзіва: груган гругану вока не выдзеўбе. Толькі аднаго Штарка прыгаварылі на пажыццёвае зняволенне (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). [Ніксан] стараўся выгарадзіць агрэсара і забяспечыць яму прэмію за кошт арабскіх тэрыторый. Па прыказцы: груган гругану вока не выдзеўбе (К. Кірэенка. Амерыка здалёку і зблізку). Ці не быў часам і ты ў кампаніі? Нехта казаў, што і цябе бачыў, як ты ўцякаў за плот. Груган гругану вачэй не выдзеўбе (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). – Хіба ён [цар] не за мужыка; хіба ён заадно з панамі? – Цар – самы вялікі пан у Расіі, з паноў пан. А, як вы ведаеце, груган гругану вачэй не дзяўбе (Б. Сачанка. Твор, які не магу скончыць). Ён [Пархамчук] прымірэнча сказаў: – Супакойся. Груган гругану вока не клюе (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). **Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе**. – Няма каб памагчы злодзея за каўнер узяць, дык яшчэ пакрываюць. Усё сяло абыдзі, не ўпросіш чалавека за сведку пайсці. Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе, – скончыў ён [Сомік] не зусім дарэчы (К. Крапіва. Мядзведзічы). – Дзіва што пашкадуе немец немца, – зашумелі мужыкі. – Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе (А. Якімовіч. Канец сервітуту). – Ах, братка, –

адказвае селянін, – каму новая ўлада, а нам – усё тая ж. Як быў над намі наш пан, так і застаўся. – Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе, – змрочна згаджаецца гарбар (В. Вольскі. Падарожжа па краіне беларусаў). – Можа, да самога начальніка?.. – Пустое, суседзе, – роспачна махнуў рукой Даніла. – Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе... (І. Аношкін. Чырвоная каліна стаяла). **Воран ворану вачэй (вока) не выклюе (не выдзеўбе, не клюе)**. [Навум:] Няма чаго казаць: воран ворану вачэй не выклюе. Пан з панам пазнаюцца, а мы ўсё-такі ў бядзе (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – Калі б уланы рабавалі саміх немцаў, то можа б яны і далі адпор... А другіх ім не шкада. – Воран ворану вока не выдзеўбе, – зрабіў вывад з усёй гісторыі Азаркевіч (А. Якімовіч. Цяжкі год). Каб жа разагнаў [гэтую хеўру], дык ужо за адно гэта, можа, і варта было б галасаваць. Але ж не намі і не цяпер заўважана: воран ворану вока не выклюе (В. Быкаў. Баль у часе чумы). Мы часта чуем пра тое, што воран ворану вока не клюе. Можна падумаць, што калі хтосьці камусьці «вока клюе», то адзін з іх з'яўляецца воранам, а другі галубчыкам... (У. Казбярук. Што такое «тайдзяпа»?..).

* – Цікава, што гэны скажа? – прыклаў руку да вуха пажылы селянін. – Тое самае! Скірмунт Крыжаноўскаму вока не выдзеўбе. Чуеш, адразу каршуном наляцеў на селяніна (І. Гурскі. Вецер веку).

– Калька з лацінскай мовы: Corvus oculum corvi non cruet.

– *Насовіч,* с. 16: Воран ворану вока не клюець; *Янкоўскі*, с. 43: Груган грugану вока не выклюе; *Санько*, с. 45: Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе.

**Грэх не схаваеш у мех**. *Чые-н. здзейсненыя заганы, учынкі відавочны.* Назаўтра была надрукавана афіцыйная інфармацыя пра тое, што пяць чалавек звярнуліся з заявай пра здзяйсненне ў дачыненні да іх злачынства... Як кажуць беларусы: грэх не схаваеш у мех (Л. Баршчэўскі. Крывавая ноч).

– *Ляцкі*, с.8: Грэх не схаваеш у мех: Бог далёка відзя (не ўтопчаш у балота); *Прыказкі*, кн. 2, с. 171: Грэх не схаваеш у мех, не ўтопчаш у балота.

**Грэх у мех, грашаняты ў торбу**. *Ужываецца як адмоўная рэакцыя на слова «грэх» у папярэдняй рэпліцы суразмоўніка.* – Людзі на ўсяночную, а вы на шпіктаклі. Ну і вымеркавалі! – Знарок і вымеркавалі богу напоперак. – А граху гэта ты не баішся? – Грэх у мех, грашаняты ў торбу. Годзе ўжо ўсіх баяцца! (К. Крапіва. Мядзведзічы). – Гэта ж проста грэх не выкарыстоўваць цэнтральную кацельню! – Але, мабыць, грэх у мех, грашаняты ў торбу, –

канстатавала цётка Апанасіха. – Бо год мінуў, а тыя будаўнічыя хлопцы ўсё ніяк падперазацца не могуць. І зніклі, як здані (А. Сурыновіч. Волаты ці здані?). **Грэх у мех, а спасенне ў торбу**. [Пракоп:] Не пайшоў бы я ў той дзень у лес па луцце, не ўбачыў бы тых буданоў, не сказаў бы паліцаям – можа б, яно і не так усё было... А так, выходзіць, і мой грэх ва ўсім ёсць... Эх, грэх у мех, а спасенне ў торбу... (Б. Сачанка. Ехала – упала...).

* Грахі! З іх прыказка смяецца: сапхай, гаворыць, грэх у мех, правер, ці завязка на месцы, па боку кіем і пабег (М. Лужанін. Як нараджаўся новы свет).

– *Насовіч*, с. 29: Грэх у мех, а спасенне наверх; *Ляцкі*, с. 8: Грэх у мех, а сам наверх; *Прыказкі*, кн. 2, с. 171: Грэх у мех, а спасенне ў торбу; Грэх у мех, кіем па мяху – будзеш без граху.

**Гулі не аднаго ў лапці абулі**. *Разгульнае жыццё, з папойкамі ці азартнымі гульнямі, нярэдка даводзіць да беднасці, нястачы.* [Дзед Лукаш:] Ціха, ціха. Слухай. Што гэта шапоча? А-а, дурная баба карты раздае!.. Баішся гуляць [у карты], баішся? [Баба Дарка:] Гулі не аднаго ў лапці абулі. Курыцу ўчора з'елі, а што будзем сёння есці, заўтра? (В. Шырко. Дзед Лукаш і кірмаш). Сярод дваровых Генрых вылучаўся сваёй надзвычайнай стараннасцю і працавітасцю. На запрашэнні сяброў з'ехаць цішком да вабных і багатых паненак аджартоўваўся: «Вясёлыя гулі не аднаго ў лапці абулі» (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю).

– *Насовіч*, с. 30: Гулі не аднаго ў лапці абулі; *Ляцкі*, с. 3: Балі ды гулі ў лапці абулі.

**Гульня не вартая свечак**. *Справа не варта патрачаных на яе сіл, сродкаў і пад*. **Сін**.: *Не варта шкурка вырабу; Спяваць дарма – баліць гарла.* **Гульня вартая свечак**. *З супрацьлеглым значэннем.* Мы даўно ўзялі вас пад прыгляд. Мы даўно прыкмецілі, што гульня вартая свечак, што здольнасці вашыя надзвычайныя (І. Клімянкоў. Корак з-пад шампанскага).

– Паўкалька з рускай мовы: *Игра не стоит свеч.* У рускую мову прыказка прыйшла як калька з французскай мовы: *Le jeu ne vaut pas la chandelte.*

**Гультай за дзела – мазоль за (на) цела**. *Кажуць пра чалавека, непрывычнага да фізічнай працы, у якога хутка націраюцца мазалі на руках.* **Сін**.: *Гультай за работу – мазоль за руку.* – Ну, пакажы свае рукі, Томачка! – Вось, палюбуйцеся. – Якраз па прымаўцы: гультай за дзела, мазоль за цела... Ды які мазоль! – Гэта я –

гультай?! – Не, не, жартую. Ты працавітая дзяўчынка – заўсёды мне дапамагаеш (Л. Прокша. Стрэлы над ярам).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 284: Гультай за дзела – мазоль на цела; Як гультай за дзела, дык мазоль за цела.

**Гультай за работу – мазоль за руку (мазалі за рукі)**. *Кажуць пра чалавека, непрывычнага да фізічнай працы, у якога хутка націраюцца мазалі на руках.* **Сін**.: *Гультай за дзела – мазоль за (на) цела.* Балела паясніца, плечы, смылелі далоні. Ён [Сымон] зірнуў на іх і ўбачыў крывавыя мазалі. – Эге! – сказаў Андрэй Сідаравіч. – Гультай за работу – мазоль за руку (А. Чарнышэвіч. Музыка). Праўду кажуць: гультай – за работу, мазалі – за рукі. А хто з дня ў дзень не разгінае рук, у таго не мазалі, а набоі, цвёрдыя, як конскія капыты (С. Грахоўскі. Гарачае лета).

* [Саўка:] Саўка з выгляду просты чалавек, а натура панская: Саўка за работу, мазоль за руку. [Бруй:] Ад такой работы, ягамосцю, мазоль не сядзе (Я. Колас. У пушчах Палесся).

– *Федароўскі*, с. 121: Гультай за работу – мазоль за руку; *Прыказкі*, кн. 2, с. 285: Гультай за работу – мазоль за руку.

**Гультаю – хлеб на кію**. *Гаворыцца з неадабрэннем пра гультая, якога чакае лёс жабрака*. Праца звязваецца ў народнай свядомасці з хлебам, як умова з вынікам: «Гультаю – хлеб на кію», лаканічна выказаны асацыятыўны вобраз (падразумяваецца жабрацкі кій, да якога застанецца дайсці гультаю, апускаючыся ўніз па жабрацкай лесвіцы) (У. Калеснік. Руплівец у матачніках роднага слова).

– *Янкоўскі*, с. 262: Гультаю – хлеб на кію.

**Гуляй, Ямеля, твая нядзеля.** *Ужываецца як рэакцыя старэйшых людзей або начальства на чые-н. вольнасці, выступленні, што-н. іншае недазволенае, з чым часова па пэўных прычынах можна змірыцца.* Рэакцыйныя сілы і ў 1913 годзе заставаліся ў моцы, але што «гуляй, Ямеля, твая нядзеля» – цяпер ужо не гаварылася. Новы рэвалюцыйны ўздым, пачынаючы ад Ленскага расстрэлу, адчуваўся ва ўсёй краіне ўсё больш выразней (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Ліцвінка*, с. 122: Скачы, Ямеля, твая нядзеля, а прыйдзе пост – падагнеш хвост.

**Гуртам і бацьку добра (лацвей) біць**. *Сумесна, гуртам любая работа спорыцца.* – А то мне аднаму, відаць, не ўправіцца. – Гэта ўжо сапраўды. Гуртам, кажуць, і бацьку добра біць... (А. Петрашкевіч. Прарок для Айчыны). – Жылка! Няўжо ты?!. Даўно ў

Вільні? – Першы дзень. – А як дабраўся? – Ды без прыгод. Гуртам, кажуць, і бацьку лацвей біць, не тое што перахітрыць Пілсудскага (А. Пашкевіч. Пляц Волі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 376: Гуртом і бацьку добра біць.

**Гусі нізка – зіма блізка**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды.* Ляцелі гусі, плылі не чарадой, а бязладнай гурмой, наперагонкі, нібыта грэліся, нібыта збіраліся скучыцца, каб было цяплей і каб не даймаў сіберны вецер. «Гусі нізка – зіма блізка», – прыгадалася чутае (Л. Калодзежны. Паўлюк Самусік са Стаўроў).

* У перадвячорным спакоі рэзка вылучаецца маркотнае курлыканне жораваў. – А ляцяць як нізка! – Зіма блізка, – напамінае Сцяпан вядомую ўсім прыкмету (К. Крапіва. Мядзведзічы).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 72: Жураўлі ляцяць нізка – зіма ўжо блізка.

**Гусь свінні не таварыш**. *Людзей, розных па характары, сацыяльным становішчы і пад., нішто не можа аб'яднаць. Кажуць пра таго, хто не раўня каму-н.* **Сін**.: *Арлу з савой не па дарозе; Воўк казе не таварыш; Пешы коннаму не таварыш* (у 2 знач.). – Дзень добры, таварышы! – Гусь свінні не таварыш! – адразу аглушыла яе Вольга сваім надрыўным голасам. – І ў мяне каб тваёй нагі больш не было... (М. Ваданосаў. Надзеі і здзяйсненні). – Я вам не таварыш! – Га-га-га! – грымнулі рабацягі. – Га-га-га! Правільна, Корзун! Гусь свінні не таварыш (Р. Кобец. Ноеў каўчэг). [Рэкша] не забыўся, што ідзе вайна, і ад сялян усяго можна чакаць. «Грамадзяне»? Але якія яны яму грамадзяне? Гусь свінні не таварыш. «Панове»? Гэта занадта ўжо вялікі гонар для іх... (Р. Няхай. Героі не адступаюць). – Мы ж вас не абзываем ніяк, вядзем перагаворы культурна, раўнапраўна. – А я паўтараю: роўнасці не будзе. Гусь свінні не таварыш! (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...).

* [Жухін:] Трэба змяніць таксама свае адносіны да салдатаў, стаць з імі на роўную нагу. [Дзяменя:] Ці таварыш гусь каню? Як гэта ліберальна і гуманна! Усе парабіліся сацыялістамі-рэвалюцыянерамі (Я. Колас. Вайна вайне).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 429: Гусь свінні не таварыш; Гусь свінні не таварыш: гусь паднялася, свіння засталася.

**Гутар, гутар, а валы ў жыта**. *Гаворыцца насмешліва пра тых, хто, захапіўшыся размовай, забывае пра іншыя справы.* – Айёй! – раптам здзівілася маці. – Навошта ж мы начысцілі... ажно столькі?! – І, пад смех памагатай, яна наракае: – Гутар, гутар, а

валы ў жыта: мы тут адно за адным, а рукі самі абіраюць. На цэлы ўзвод наабіралі, як мы некалі ў лесе... (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

– *Янкоўскі*, с. 306: Гутар, гутар – а валы ў жыта!

**Гэта пакуль кветачкі, а ягадкі наперадзе**. *Гл.* Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе.

**Гэта толькі кветачкі, а ягадкі наперадзе**. *Гл.* Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе.

**Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе (уперадзе, яшчэ будуць)**. *Гэта яшчэ толькі пачатак, а галоўнае наперадзе. Кажуць, калі што-н. непрыемнае, нежаданае толькі пачынаецца, а ўсё горшае яшчэ наперадзе.* За снарадамі паляцела плойма мін... Мой Зайчык стаяў недзе ўнізе, ахоўваў наглядальны пункт. «Трымайся, хлопча, – хацелася сказаць яму. – Гэта яшчэ кветачкі, а ягадкі наперадзе!» (Р. Няхай. Шлях на Эльбу). – Бач ты яго! Яшчэ старшынёй не абралі, а што спявае: адно не пацерпім, другое не дазволім, ад трэцяга адвучым. – Гэта яшчэ кветачкі, а ягадкі наперадзе! (В. Праскураў. Святая сівізна). Усё гэта былі яшчэ кветачкі, а ягадкі ўперадзе. Скажу вам, мама, адкрыта: нам з Кірэем трэба ісці, пакуль не позна (У. Дамашэвіч. Заклінаю ад кулі). [Федзя:] Бачыце, бачыце, плача! Ужо адна плача! Гэта толькі кветачкі, а ягадкі яшчэ будуць (В. Зуб. Злавацца не трэба). Начштаба, запінаючыся, чытаў: «...Партызаны ў першым жа баі наламалі бакі гофманаўцам. А гэта пакуль кветачкі, а ягадкі наперадзе» (І. Гурскі. У агні).

* Там [на фронце] я ўпершыню атрымаў баявое хрышчэнне, не раз бываў у сур'ёзных пераплётах, зусім не ведаючы, што гэта толькі кветачкі і што наперадзе яшчэ не адна вайна і не адзін пераплёт (К. Крапіва. Ад маленства да сталасці).

– *Насовіч*, с. 23: Гэта яшчэ цвет, а ягады будуць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 489: Гэта толькі цвет, ягады яшчэ будуць.

# Д

**Да бога высока, да цара (да пана) далёка**. *Кажуць, калі няма адкуль чакаць дапамогі, няма каму паскардзіцца.* [Навум:] Толькі ж ты, наш каралёк, не пакідай нас болі: бо хто ж сірот у злой прыгодзе ратаваць будзе? Прымаўка кажа: да бога высока, да пана далёка (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). **Да цара далёка, а да бога высока**. – То добра, калі рабочых слухае гаспадар. – Яшчэ не слухае, а рабочыя стараюцца прымусіць, каб паслухаў іх. – Цару, можа, скардзіліся? – Да цара далёка, а да бога высока (М. Грод-

неў. Пярэдадзень). Да нас нікому не было справы. Да бога высока, да цара далёка. Ні паскардзіцца, ні дапамогі папрасіць (У. Міхно. Ці пазайздросцяць мёртвыя жывым?).

* – Я ўжо сказаў, ойча, хто я – і тады як перайшоў граніцу сюды, і ўчора, на допыце ў губернскай канцылярыі. Ты спытай лепей пра мяне ў генерала. – Да генерала мне далёка, да бога высока (І. Чыгрынаў. Следчая справа Вашчылы). Каму паскардзіцца? Хто дапаможа? Да бога – высока, да султана – далёка. Дый хадзілі ж да султана, скардзіліся і прасілі літасці. Ну, а што з таго? (П. Місько. Грот Афаліны).

– *Насовіч*, с. 35: Да бога высока, а да цара далёка; *Ляцкі*, с. 9: Да бога высока, да цара (пана) далёка; *Федароўскі*, с. 34: Бог высока, пан далёка.

**Да вас не п'юць, не кажыце здароў будзь**. *Гл.* Да цябе (да вас) не п'юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь.

**Давялося свінні на неба глядзець**. *Праст. Кажуць насмешліва пра таго, хто ўмешваецца ў такія справы, у якіх нічога не разумее.* Калі падлічыць, дык, напэўна, 30–35 працэнтаў прыказак маюць у сабе пэўную ступень іроніі, якая нярэдка пераходзіць у сарказм. Вось некаторыя прыклады: Высах, як мядзведжая лапа; Давялося свінні на неба глядзець... (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). З фальклорных крыніц узніклі байкі «Ліслівае цяля», «Пра цыгана і кабылу», «Саманадзейны Конь», «Давялося свінні на неба глядзець» і шэраг іншых твораў К. Крапівы (Я. Казека. Беларуская байка). Міжволі прыгадваецца грубаватая беларуская прыказка: «Давялося свінні на неба глядзець». Стаўленне Крастоўскага да «невзрачного серенького человечка» цалкам адмоўнае. Але, нягледзячы на гэта, аўтару цяжка было схаваць, нават прыкрываючыся дакументальнымі фактамі, велічнасць постаці Каліноўскага (І. Запрудскі, А. Кузьмянок. Давялося свінні на неба глянуць).

– *Насовіч*, с. 36: Давялося свінні на неба глядзець; *Прыказкі*, кн. 1, с. 343: Давялося свінні на неба зірнуць.

**Давярай, але (ды) правярай**. *Функц. не зам.* Губернатар ажно застагнаў: – Што робіцца, Івона Багданаўна? – Ваша бяда, што вы верыце людзям. – Ды як жа жыць без веры! – Давярай, кажуць, але правярай, Вікенцій Паўлавіч (І. Шамякін. Губернатар). Той жа, хто захоча пакарыстацца непасрэдна арыгіналамі, атрымае доступ, але працаваць ён зможа толькі пад кантролем. Як кажуць, давярай, але правярай (А. Марціновіч. Пісьмёны Вольгі Ляўко). Адпаведным беларускім установам і службам, якія павінны сачыць за

якасцю пастаўляемай у нашу краіну віна-гарэлачнай прадукцыі з Расіі, відавочна, трэба кіравацца правілам: давярай, але правярай. Прычым праверка павінна быць куды больш грунтоўнай і дэталёвай, чым зараз (Звязда. 2000, 16 верас.).

* Нават сяброўства з дзяўчынкай не зрабіла птушку менш асцярожнай. Як кажуць, давярай, але пільнасці не губляй (М. Зарэмба. Дзень магнітнай буры).

– Відаць, недакладная калька з лацінскай мовы: *Fide, sed cui fidas, vide* (літаральна «Давярай, але глядзі, каму давяраеш»).

– *Рабкевіч*, с. 53: Давярай, ды правярай.

**Даганяючы не нацалавацца (не нацалуешся)**. *Сілай не прымусіш палюбіць сябе.* **Сін**.: *Насільна міл не будзеш.* [Куторга:] Ну, я гатоў вам удружыць, толькі як ваша дачка захімерычыцца ды адцураецца ад мяне, то што тады? Вы ж ведаеце прыпавесць: даганяючы не нацалавацца (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта). «Даганяючы не нацалавацца», – уздыхае п. К. П., зазначыўшы, што беларусы гостра адварочваюцца ад іх і лепей слухаюць праф. Карскага і іншых, што пужаюць іх польскімі легіёнамі і настройваюць на антыпольскі лад (А. Гарун. Одгукі). [Кубэ:] Вас [былых эмігрантаў] не разумеюць беларусы... Ва ўсякім выпадку, вас не падтрымліваюць. А па вашай жа беларускай прымаўцы, даганяючы не нацалуешся... (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

– *Насовіч*, с. 36: Даганяючы не нацалуешся; *Прыказкі*, кн. 2, с. 91: Даганяўшы не нацалавацца; Даганяючы не нацалуешся.

**Да дваццаці пяці хлопец сам жэніцца, з дваццаці пяці да трыццаці – людзі, а пасля сам чорт не ажэніць**. *Звычайна кажуць пра хлопца, які занадта доўга халасцякуе.* «Пятрок, – сказала аднойчы яму [Зоя Максімаўна], – не сядзі ты вечарам у хаце, схадзі ў клуб. Можа, хутчэй ажаню цябе. Вунь пад вокнамі якія дзяўчаты гойсаюць!» А ён толькі адмахваецца, як ад той мухі: «Ажаніцца, як і паміраць, – не спяшаюся». Вось праўду кажуць: да дваццаці пяці хлопец сам жэніцца, з дваццаці пяці да трыццаці – людзі, а пасля сам чорт не ажэніць (А. Асенні. Родны чалавек). – Маўчы лепш! – папракае мяне маці, якая жыве ў вёсцы. – Не мае часу жаніцца! Вось праўду кажуць: да дваццаці пяці гадоў хлопец сам жэніцца, з дваццаці пяці да трыццаці – людзі, а пасля сам чорт не ажэніць (А. Рылько. Анюта).

– *Янкоўскі*, с. 115: Да дваццаці пяці гадоў хлопец сам жэніцца, з 25 да 30 – людзі, а пасля сам чорт не ажэніць.

**Дажыліся (дажылі) казакі (палякі), <што> ні хлеба, ні табакі**. *Гаворыцца пра беднасць, галечу, недахоп чаго-н. самага неабходнага.* От, дажыліся казакі: ні хлеба, ні табакі... За грошы нічагенька не дастанеш (М. Гарэцкі. Дзве душы). – Хоць бы закурыць, чэрці б яго пабралі, – чуецца чыйсь голас, а потым і адказ на яго: – Дажылі палякі, што ні хлеба, ні табакі (Я. Колас. Дрыгва).

– *Насовіч*, с. 137: Прыжыліся казакі: ні хлеба, ні табакі; *Раманаў*, с. 307: Прыжыліся палякі: ні хлеба, ні табакі; *Ляцкі*, с. 9: Дажыліся палякі: ані хлеба, ні табакі; *Федароўскі*, с. 142: Дажыліся казакі: ні хлеба, ні табакі; *Прыказкі*, кн. 1, с. 504: Згалелі казакі: ні хлеба, ні табакі.

**Дай бабе волю – завядзе ў няволю**. *Гл.* Дай жонцы (бабе) волю – завядзе ў няволю.

**Дай бог адным кавалкам (куском) удавіцца (папярхнуцца)**. *Ужываецца як выказванне надзеі або пажадання ці парады пражыць усё жыццё з адным мужам ці з адной і той жа жонкай.* А я цябе перасцерагала, пляменніца. Дый сама не маленькая дзяўчынка ўжо. Нездарма людзі кажуць: «Дай бог адным кавалкам папярхнуцца». Калі ўжо не пашэнціла адразу, дык трэба было адной жыць ды дзіця гадаваць. Дык табе прыпёр той «замуж» (В. Кадзетава. Ад кахання не паміраюць). Зноў успамінаецца адвечнае, сказанае цёткай: «Дай бог адным кавалкам папярхнуцца», а таксама «рашэнне» Віктаравай маці «разлучыць сына з той прайдзісветкаю...» (У. Саламаха. Зразумець чужую душу). **Дай божа задавіцца першым куском.** Пагаравала я [пасля смерці мужа], мо з ручай слёз выліла. А жыць адной, ой, цяжка... Другі мужык у мяне сыты, мурлаты, а да работы лёгенькі... Сам не паварушыцца. Яму нават падумаць лянота... Дай божа задавіцца першым куском! (С. Лобач. Горкую лілею пакашу...).

* Любім, каб нам ва ўсім патакалі жонкі. А як не так, адразу разводзіцца бяжым, другую шукаем. А мне здаецца, калі ўжо давіцца, то адным кавалкам (У. Кузьмянкоў. Такая доўгая ноч). – Значыць, нельга і сустракацца, калі не думаеш усур'ёз аб сям'і. – Не трэба ламаць жыццё сабе і іншым. – Дажываць, як прыйдзецца... Лепш ужо адным кавалкам падавіцца, чым двума (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 476: Можна толькі адным куском удавіцца.

**Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з'есці)**. *Гаворыцца, часам жартаўліва ці з недаверам, як пажаданне поспеху ў якой-н. справе.* [Надзя:] Абрыдлі мне гэтыя чара-

пы. На завод пайду. [Антаніна Пятроўна:] Славы захацела? Можа, стаханаўкай думаеш быць? [Надзя:] А чаму б і не? Што я – горшая за людзей? [Антаніна Пятроўна:] Не з тваім, мусіць, спрытам... Ну што ж, дай божа нашаму цяляці ваўка спаймаці (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). [Каліноўскі:] Дай толькі волю здабыць, а падзяліць мы здолеем... Пана ў саху ўпражэм, а не пойдзе, дык пана бізуном сцябаць будзем. [Матруна:] Дай жа божа нашаму цяляці ваўка спаймаці (Е. Міровіч. Кастусь Каліноўскі). – Рабочыя дэманстрацыі прайшлі ва ўсіх буйных цэнтрах... І гэта толькі пачатак! – Дай божа, як кажуць, нашаму цяляці ваўка спаймаці. (В. Коўтун. Крык міласэрнасці). – А чалавек прыйдзе новы. – А старога куды? – На печ. – Ну-ну, гэта добра, каб на печ, а не пад печ, дай бог і нашаму цяляці воўка з'есці (В. Казько. Неруш). – Мы пажэнімся да размеркавання. І цябе нікуды не пашлюць. Школ і ў Мінску багата, без работы не застанешся... – Дай бог нашаму цяляці воўка з'есці (М. Герчык. Вяртанне да сябе). Не паступіць табе [на кінарэжысёра] ніколі. – Паглядзім. Я дашлю табе запрашальны білет на прэм'еру майго фільма! – Ну-ну, дай бог нашаму цяляці ваўка з'есці, – усміхаўся ён [Булька] (Г. Марчук. Кветкі правінцыі).

* – А ведаеш, Лабуня, гэты артыкул зробіць калі не пераварот, дык поўнае замяшанне ў галовах судовых чыноўнікаў, а таксама і ў паліцэйскіх, бо «Минский листок» – гэта іх сімвал веры. – Што ж! – весела азваўся Лабановіч, падняўшы чарку: – Дай божа нашаму цяляці воўка зваяваці (Я. Колас. На ростанях). – Малады ён яшчэ, маці, дурны, пабачыш, раджу яму другое, пабольшае клопатаў, тады ён працверазее... – Каб жа, донька, твае словы ды богу ў вушы, каб, як гавораць, і нашаму цяляці ваўка спаймаці (І. Капыловіч. Бяроза на мяжы). – Вось што вы ў жыцці бачылі? Працаваць ды есці, ды спаць. А я ўбачу. – Многа ты ўбачыш без грошай, – хмыкнула Таня. – Нашаму цяляці ды воўка з'есці (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 17: Дай бог нашаму цяляці воўка паймаці; Дай божа цяляці воўка паймаці, але бяда, як воўк цяля паймае.

**Дай божа задавіцца першым куском.** *Гл.* Дай бог адным кавалкам (куском) удавіцца (папярхнуцца).

**Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай божа**. *Часцей ужываецца як тост.* [Янка:] Дый піце ж, пане, браце! Пры чарцы і высказаць лягчэй будзе. [Якуб:] Ну, дай божа, каб усё было гожа (А. Каганец. Модны шляхцюк). Усе садзяцца за стол. Саўка садзіцца ў шапцы. Бусыга налівае чарку, ківае на Бруя. [Бусыга:]

Ну, то дай божа, каб усё было гожа. Здароў будзь, васпане Бруй! (Я. Колас. У пушчах Палесся). – З потам прыйшла хвароба, з потам хай пойдзе, – шаптала маці, – пральецца на зялёную траву, на чыстую расу... Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай божа... (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў). **Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не давядзі божа**. – Сілкуйцеся, чым бог даў і што ў працы здабыта. – Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не давядзі божа! – апошнія словы прамовіла Маніна маці, і яны прагучалі як тост і заклінанне адначасова (В. Якавенка. Пакутны век).

* – Адзін з іх хоча, каб я ехаў да яго бацькоў у Кіргізстан... Як вы скажаце, дзядзька Сямён? – Дай божа, каб табе і з намі было гожа, а будзе нягожа – не дай нам шчасця, божа... Так старыя гаварылі (В. Мыслівец. Мужанцы).

– *Янкоўскі*, с. 331: Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай божа; *Выслоўі*, с. 161: Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай (не давядзі) божа!

**Дай божа майму дзіцяці той розум наперад, што да мужыка прыходзіць потым.** *Пра таго, каму патрэбная думка прыходзіць тады, калі яе ўжо нельга выкарыстаць.* [Нічыпар:] «Эх ты, чорт! Чаму я не дагадаўся даць рублёў дваццаць пяць прыставу! Вярнуў бы пратакол, ну, знішчыў бы. А напісаць новы не такая ўжо трудная справа». На ўсе нападкі і на ўсе запозненыя разважанні Лабановіч заўважыў: – «Ёсць у яўрэяў такая прыказка: «Дай божа майму дзіцяці той розум наперад, што да мужыка прыходзіць потым» (Я. Колас. На ростанях).

– *Аксамітаў*, с. 46: Каб майму сыну той розум наперад, што ў мужыка ззаду.

**Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць**. *Ужываецца як агаворка, што чалавек змушаны казаць пра што-н. нядобрае, што лепш бы пра гэта не гаварыць.* Ёсць у народзе сказ-прымоўка: «Дай божа ў добры час сказаць, а ў час нядобры памаўчаць», дык вось і думай тут, галоўка (Я. Колас. Рыбакова хата). Словы, як відаць, маюць моц і могуць выклікаць няшчасныя з’явы, калі пра гэтыя з’явы гавораць у нядобры час. А таму, калі гавораць аб якім-небудзь няшчасці, звычайна агаворваюцца: «Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць»... (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). **У добры час сказаць, у ліхі памаўчаць**. У добры час сказаць, у ліхі памаўчаць. Ва ўсёй форме і з патарчакаю пры боку ўвайшоў Цытатовіч у літаратуру. І ніводным пытальні-

кам да другой Пакумейкавае кнігі ён не дакрануўся (Л. Калюга. Пустадомкі).

– *Насовіч*, с. 31: Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 173: У добры час сказаць, а ў ліхі прамаўчаць.

**Дай душы (сэрцу) волю – завядзе ў няволю**. *Калі не стрымліваць свае пачуцці, то гэта кончыцца кепскім.* Каб быць свабоднымі, трэба мець сілу волі, волю да перамогі, але захаваўшы душу ў цноце. Бо недалёка іншае выслоўе: дай душы волю – завядзе ў няволю (Р. Барадулін. Вярні нам Бацькаўшчыну, Божа!). – Не кіпяціся, Драгун, што ты гаворыш! – стаў супакойваць яго Пятроўскі. – Трэба трымаць свае нервы. Ведаеш прымаўку: дай сэрцу волю – завядзе ў няволю (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

* Паплач, дачушка, паплач, можа, хоць трохі пачнеш розумам жыць, бо толькі сэрцам жыла, а ці ж не чула, як старыя людзі кажуць: не давай сэрцу волі – не зазнаеш нядолі (М. Кусянкоў. Арляк і зязюля).

– *Федароўскі*, с. 88: Дай душы волю, то сам будзеш у няволі.

**Дай жонцы (бабе) волю – завядзе ў няволю**. *Гаворыцца таму ці пра таго, хто папускаецца, паддаецца жонцы, дазваляе ёй свабодна дзейнічаць.* – Вось няхай ведае на другі раз... – ківаў ён [Псюк] пальцам у бок, куды пабегла Зося да бацькоў. – Гэтакіх гусак трэба, не шкадуючы, скубці. Вядомая рэч! Дай бабе волю – завядзе ў няволю! Не супынім спачатку – прапала. Го-о! (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

– *Федароўскі*, с. 365: Хто дае жонцы волю, то сам лезе ў няволю; *Прыказкі*, кн. 2, с. 50: Дай жонцы волю, то сам пойдзеш у няволю; Дай волю, а сам у няволю.

**Дай сэрцу волю – завядзе ў няволю**. *Гл.* Дай душы (сэрцу) волю – завядзе ў няволю.

**Далей кінеш – бліжэй возьмеш.** *Калі зробіш каму-н. ласку, то і табе адплацяць тым самым.* **Сін.:** *Кінь за сабою, знойдзеш перад сабою; Кінь наперад – знойдзеш ззаду.* – Навошта табе, мама, столькі гэтай расады? – пытаецца Зося. – А ці ж я, Зоська, для сябе адной? Кажуць жа людзі: далей кінеш – бліжэй возьмеш (М. Даніленка. Цётка Поля).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 453: Далей паложаш, бліжэй возьмеш.

**Далей у лес – болей дроў**. *Гл.* Чым далей у лес, тым болей (больш) дроў.

**Даносчыку першы бізун.** *Даносчыка, даказчыка, нагаворшчыка караюць першым.* – А мяне куды?.. – Цябе, князь-бацюхна, у

Свіслач, – простасардэчна адказаў Вель. А потым пайшло-закруцілася, як і заўсёды бывае ў такіх выпадках. Даносчыку першы бізун. Вель пляваўся крывавай слінай, крычаў, што да скону верны князю Ізяславу (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 354: Даказчыку першая чарга і першая палка.

**Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца – збан паб'ецца>**. *Усяму бывае канец. Найчасцей ужываецца як пагроза ці папярэджанне быць асцярожным.* А што справа небяспечная – гэта праўда, ды і не вельмі пачэсная справа. Да пары збан ваду носіць (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). [Андрэй:] Тата, мне так хочацца з табой пагаварыць па шчырасці, каб ты, выслухаўшы мяне, зразумеў – нельга так далей, нельга. [Зарудны:] Ты што? Ты на што ўвесь час намякаеш? [Андрэй:] На прыказку: «Да пары збан ваду носіць...» (А. Маўзон. У ціхім завулку). – Бачыш, колькі разоў выносім скуры, і нічога, жывыя. – Да пары збан ваду носіць, – не здавалася Марыя (І. Новікаў. Да світання блізка). А дзед вёў сваё: – Ведаеш жа, мусіць, прымаўку – да пары збан ваду носіць... – Ды нічога такога я не раблю, – Якім адвёў позірк убок (Я. Курто. Дарога бяжыць насустрач). Ты думаеш, у цябе асечкі не будзе? Да пары жбан ваду носіць (М. Лобан. Шэметы). [Сіман:] Так, да пары збан ваду носіць: ручка адарвецца – збан паб'ецца. Я ведаю, народ паборамі, пакутай па вёсках высушан, як цэр счарнелы (М. Клімковіч. Георгій Скарына). Партызаны падвялі Пясецкага, у яго былі звязаны назад рукі. Ён увесь калаціўся ад страху. – Да пары збан ваду носіць: вушка адарвецца і збан паб'ецца, – гаварыў Гарашчэня (І. Гурскі. Лясныя салдаты). – Яго хоць за руку і не злавілі, а ўсе ведаюць, што ён злодзей... – А калі ведаюць, то і добра, да пары да часу збан ваду носіць, а як ручка адарвецца, дык і збан паб'ецца... (Л. Арабей. Сіні бор).

* [Даміцэля:] Будзь пэўным, што шахраванне [круцельства] будзе гладка сходзіць, пакуль гэта будзе не праз меру. [Пятрук:] Гэта кажуць, паненачка, патуль жбан ваду носіць, пакуль не прарвецца вуха, а там... (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты). Проста накас, скокам-бокам жылося, вялося, але, як кажуць, да часу жбан вадзіцу носе (Я. Купала. За чужую елку). – Цэлыя? – Мы не гаршкі, каб... – І гаршчок да пары ваду носіць... (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

– *Насовіч*, с. 37: Да пары жбан ваду носіць; *Федароўскі*, с. 351: Да пары збан ваду носіць: вушка адарвецца і збан разаб'ецца; *Прыказкі*, кн. 2, с. 229: Да пары збан ваду носіць: як вуха (ручка) уварвецца, той й збан паб'ецца.

**Дараванаму (даровнаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць**. *Тое, што лёгка дасталася каму-н., не павінна ім абмяркоўвацца ці прыдзірліва ацэньвацца.* Выступіла Анюта: – Дараванаму каню ў зубы не глядзяць. А я такі поп, што прымаю і боб... Аленка пасаромееццца, а я – не (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). – Глядзі, каб глёўкі не быў, каб скарынка ад мякішу не адстала. Ды і не перакіс каб – сама ведаеш, каму хлеб, хто есці яго будзе. – Зжаруць. Які спяку, такі і зжаруць. Даровнаму каню ў зубы не глядзяць, – не сунімалася Сонька (Б. Сачанка. Вялікі Лес). – А каб не было сумна ў дарозе, вось вам пра наш, а цяпер ужо і пра ваш край, – працягнуў начальнік хадакам па кніжачцы. – Дармоваму каню ў зубы не глядзяць. Прыгодзіцца, дзеля сяго дзела, – сказаў Даніла, хаваючы кніжачку ў клунак (А. Пальчэўскі. Жнівеньская раніца). Антось забраў алоўкі і схаваў іх у куфэрак. Ён не прабаваў, трымцяць яны ці звіняць, бо ведаў, што дармоваму каню ў зубы не глядзяць (А. Чарнышэвіч. Світанне).

– *Насовіч*, с. 33; *Ляцкі*, с. 9; *Федароўскі*, с. 148: Дараванаму каню ў зубы не глядзяць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 468: У даронага каня зубоў не глядзяць.

**Дарагая (дорага) лыжка к абеду**. **1**. *Гаворыцца ў дачыненні да лыжкі*. Было распараджэнне – падрыхтаваць найбольш спешную пошту для адпраўкі на самалёце. З гэтым самалётам збіраўся ляцець генерал-маёр. Выпадкова ўбачыўшы лыжку, ён сказаў са смехам: «А лыжку вы не думаеце адпраўляць спешнай поштай? Бо сказана ж: дарагая лыжка к абеду». І лыжка паляцела на пазіцыі разам з самымі важнымі паперамі (Я. Маўр. Драўляная лыжка).

**2**. *Дарагое, вартае ўвагі тое, што зроблена, атрымана своечасова, у патрэбны момант.* [Каравай:] Пачакай, паспееш. [Скаромны:] Вам грошы трэба, а мне час дораг. За тэрміны я буду вельмі строгі. Як кажуць: дарагая лыжка к абеду. Тыдзень – максімум. Тыдзень – наша галоўная ўмова (А. Макаёнак. Таблетку пад язык). – Пакуль што – ніякіх праблескаў. Можа, толькі будзе пашырацца будаўніцтва. – Дарагая лыжка к абеду, – сказала маці і ўздыхнула, уважліва паглядзеўшы на Вераніку (У. Дамашэвіч. Німфа). Заўтра ты цётцы не трэба. Дорага лыжка к абеду. Ёй трэба бульбу пасадзіць (А. Кудравец. Раданіца).

* [Віхура:] Братухна ты наш... Ды сядай, сядай... Нарэшце сваіх дачакаліся... Разумееш, якраз у пару, а кажуць жа, што дорага лыжка ў абед (І. Гурскі. Новы горад).

– *Насовіч*, с. 37: Дорага ложка к абеду; *Прыказкі*, кн. 1, с. 262: Да абеду лыжка дорага; Дарага лыжка перад абедам; *БРС*, т. 1, с. 653: Дарагая лыжка к абеду.

**Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка**. *Пра замілаванне да роднага краю, да мясцін, дзе нарадзіўся хто-н*. **Сін**.: *Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл; Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся; Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае; Міл той куток, дзе абрэзалі пупок; Мой родны кут, як ты мне мілы; Няма лепшае справы ад свае хаты; Родная зямелька як змораному пасцелька; У родным краю, як у раю*. – Ведаю, куды ты хіліш, – звярнуўся да Кунцэвіча Станіслаў. – Мяне не заарканіш у свой край. Не люблю... – А мне дарагая тая хатка, дзе нарадзіла матка, – разважаў Кунцэвіч (І. Гурскі. Чужы хлеб). Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка (Эпіграф да раздзела «Вёска» ў кнізе «Вечны кругазварот» Б. Сачанкі). – Дзяўчаткі, а праўда ж у нас зямля вельмі прыгожая?.. – Праўда. Куды ні кінь – цуд! – Праўда... Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка, – самавіта падаў з печы Пятрок (В. Якавенка. Пакутны век). Беларуская зямля – родная і для братоў Гальперыных, і для людзей розных нацый, якія нарадзіліся тут. Нездарма прыказка кажа: «Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка» (Л. Целеш. Дзіўныя прыгоды хлопчыка з Дзяржынскага гета).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 287: Дарагая (мілая) тая хатка, дзе радзіла мяне матка.

**Дарагое не вінцо, а слаўцо**. *Дарагі не пачастунак, а само запрашэнне, ветлівасць.* І госць цешыўся, бо дарагое не вінцо, а слаўцо, і ён ніколі не пакідаў на дне вінца – злосці, бо лепш жыватом стол адапхнуць, чым не ўважаць гасцін гаспадара, сказаўшы нарэшце, што наеўся па самае не хачу, а гаспадар не паверыць (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Насовіч*, с. 77: Не дарага чэсць, а дорага добрае слова; *Прыказкі*, кн. 2, с. 186: Добрае слаўцо лепш, чым піўцо.

**Дарма (задарма) і каза <ваўку> не скача**. *Дарма, бясплатна нічога не робіцца. Кажуць таму ці пра таго, хто просіць зрабіць што-н.* **Сін**.: *Задарам і скулка не сядзе.* – Не ведаю нават, як і прыступіць [да школьнай справы]. – Ну, што ж? Раскажу вам, як і што, толькі вы мне за гэта павінны будзеце зафундзіць, бо дарма, кажуць, і каза не скача, – пачынае жартам Лабановіч (Я. Колас. На ростанях). Трэба жыць, трэба і патурбавацца. Захочаш есці, дык знясеш паняверку, ператрываеш і зняваrу. Дарма, кажуць, і каза воўку не скача, – разумна разважае Моўша (Я. Лёсік. «Не ўсе ж

разам, ягамосці!..»). Сеў бы, таксатар, калі ўжо да мяне парог пераступіў... А я нікуды з ложка не крануся... І ты знаеш чаму. Добра знаеш. Дарма і каза ваўку не скача (І. Пташнікаў. Лонва). Прыедуць [трактарысты] у нядзелю, соткі зааруць, дроў прывязуць... І нам памагаюць. Бутэльку дам калі, пяцёрку ў кішэню суну: задарма і каза не скача (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

– *Насовіч*, с. 62: Каза ваўку дарам не скачаць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 361: Дарма і каза не скача; Дарма і каза ваўку не скача.

**Дарма і скула не сядзе.** *Гл.* Задарам (дарма) і скула не сядзе.

**Дармоваму каню ў зубы не глядзяць**. *Гл.* Дараванаму (дарованаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць.

**Дармовы (бясплатны) сыр бывае толькі ў мышалоўцы**. *Бясплатна ці бескарысліва нічога не робіцца. Часцей гаворыцца іранічна.* Знаўцы сцвярджаюць, што дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы. Вось так яно ў жыцці часта і здараецца (Маладосць. 1999. № 3). З-за чаго такая шчодрасць і ласка яму, Вілену, ад незнаёмага чалавека? Лічы, равесніка?.. «Дармовы сыр – толькі ў мышалоўцы» (А. Казлоў. Дзеці ночы – служкі зла). Аперыравалі няпланава. Дамаўляцца давялося... Не так проста: чарга, кругом чарга... Дактарам цяпер за працу мала плацяць. А бясплатны, кажуць, бывае толькі сыр у мышалоўцы! (Маладосць. 2000. № 12). – За ўсё трэба плаціць, капітан... – За што плаціць?.. – За ўсё. За кісларод і вадарод, за ссечаныя лясы, за рукатворныя пустыні, адным словам, за жыццё, наша чалавечае жыццё. Бясплатны сыр бывае толькі ў мышалоўцы (Л. Дайнека. Чалавек з брыльянтавым сэрцам).

* Ні перад кім ніколі продкі не гнулі гордыя галовы. У паднявольных век кароткі. У пастцы толькі сыр дармовы (Р. Барадулін. Усебеларускаму з’езду). Вымалёўваецца знаёмы ланцужок: на добрае жыццё трэба спачатку зарабіць – каб зарабіць, трэба даць такую магчымасць – каб выкарыстаць такую магчымасць, трэба хацець яе. Паколькі канструкцыя грувасткая, можна прасцей: бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы (Звязда. 2001, 13 чэрв.).

**Дарованаму каню ў зубы не глядзяць**. *Гл.* Дараванаму (дарованаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць.

**Дарога не спіць**. *Падчас падарожжа ці паездкі з чалавекам можа здарыцца што-н. нечаканае.* Дарога не спіць, кажуць людзі. Гэта так. Нават у самую лютую непагоду, у самае грознае ліхалецце дарога нейкім чынам усё ж жыве. Не прайшоў Сцёпа і двух кіламетраў, як з падарожных кустоў вытыркнулася чарнявая галава: – Эй, гражданка! (Я. Курто. А жыццё – адно).

– *Федароўскі*, с. 75: Дарога не спіць.

**Да роднай хаты няма далёкай дарогі**. *Прыезд, вяртанне ў мясціну, дзе нарадзіўся, не лічыцца далёкай дарогай.* Ведаеш, Сяргей, нездарма кажуць, што да роднай хаты няма далёкай дарогі. У родную вёску, дзе ты малым некалі гуляў у розныя гульні.., хочацца ехаць хоць на дзень (Я. Саламевіч. Да роднай хаты няма далёкай дарогі). Добра, што яшчэ можна спыніцца ў бацькавай хаце, дзе жыве мой брат Анатоль. Нездарма кажуць, што да роднай хаты няма далёкай дарогі (Маладосць. 2008. № 10).

**Дарэмна мылішся, галіцца не будзеш**. *Гл.* Не мылься (дарэмна мылішся), галіцца не будзеш.

**Дасі кішкам волю – праясі шчасце і долю**. *Гаворыцца як папрок таму, хто не мае меры ў харчаванні і ўсё выдаткоўвае на харчы*. Няправільна ты жывеш, Аніська, няправільна. Капейкі не беражэш. Дзеці растуць, час і пра ўласны домік падумаць. А ты ўсё праядаеш, усё праядаеш. Пашкадуеш, ды будзе позна. Дасі кішкам волю – праясі шчасце і долю (А. Ус. За лесам – бярозавы гай).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 252: Дай кішцы волю – праясі і шчасце і долю.

**Дасць бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак)**. *Неяк будзе, усё ўладзіцца. Гаворыцца з надзеяй, што ўсё павінна быць добра, што няма асаблівых падстаў непакоіцца пра заўтрашні дзень, пра ежу і пад.* [Бяздомны жабрак Мікіта] нічога не выпрошваў, аднолькава дзякаваў тым, хто нешта даваў і хто кпіў з яго. Звычайна казаў: «Мне, як птушцы нябеснай, трэба толькі адно каліва, а там дасць бог дзень, дасць і полудзень» (С. Грахоўскі. Гарачае лета). – Не крычыце, супакойцеся... Калі яшчэ немцы тыя прыйдуць. – Заўтра. Бадай кажа – заўтра, – паведаміў Мікалай. – Ну заўтра дык заўтра. Дасць бог дзень, дасць і хлеб (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Дасюль Адам жыў па прымаўцы: дасць бог дзень, дасць і ежу. Старання ці клопату, каб зарабіць, прыдбаць кавалак хлеба, у яго ані не было (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). Калі амаль усе на нашай вуліцы жылі адным днём (дасць бог дзень, дасць і ежу), няхай месяцам, дык Бабёр умеў зазірнуць на паўгода наперад (Г. Марчук. Кветкі правінцыі). **Бог дасць дзень, бог дасць і харч.** У рэшце рэшт яго звольнілі. І пакаціўся чалавек на самае дно. – І як жа далей жыць думаеш? – запытаў я. – Бог дасць дзень, бог дасць і харч, – прагаварыў ён, павярнуўся і паціху пакрочыў да выхаду (У. Правасуд. Дурненькі).

– *Насовіч*, с. 33: Дасць бог дзень, дасць і пажытак; *Санько*, с. 15: Дасць бог дзень – дасць і спажытак.

**Даў бог цяля, ды не даў хлява**. *Гаворыцца са шкадаваннем, калі ў каго-н. ёсць што-н. адно, але няма, не хапае другога.* [Бабка, лічыць грошы:] Лічу, лічу і толку дайсці не магу. Тут па тысячы... адна, дзве, тры тысячы, а тут чырвончыкі, 25, 26, 27, 28, 29, дваццаць дзесяць.., а як далей? Даў бог цяля, ды не даў хлява... (У. Галубок. Ветрагоны).

* І вы ліпіце тут да часу пад страхам заўтрашняга дня, даў бог, казаў той, хлеў Уласу, але не даў яму каня... (Я. Колас. Рыбакова хата).

– *Федароўскі*, с. 36: Бог даў цяля, ды не даў хлява; *Прыказкі*, кн. 1, с. 192: Даў бог цяля, ды няма хлява; Бог даў цяля, ды не даў хлява.

**Да ўдачы не трэба прыдачы**. *Кажуць пра нявесту добрую, прыгожую, якой з-за гэтых якасцей і пасаг не патрэбны.* [Шыдлоўская:] Няхай жа лепш на пасаг Жэньцы будзе, пустадомак ты. [Шыдлоўскі:] Да ўдачы не трэба прыдачы (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Рабкевіч*, с. 52: Да ўдачы не даюць прыдачы.

**Даўся запрэгчы (запрэгчыся) – дасіся і паганяць**. *Аднойчы папусціўшыся каму-н., станеш ад яго залежным. Звычайна пра залежнасць мужа ад жонкі.* [Жыгліцкая:] Ты ж мужык яе, – дзе твая мужчынская цвёрдасць? Не ты за лейцы бярэшся, а яна, каб кіраваць табою. І памятай, даўся запрэгчы – дасіся і паганяць (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Юля пайшла адразу ж на свінаферму ў калгас, а я цэлы месяц шукаў работу. Не спяшаўся, даўся запрэгчыся, дасіся і паганяць. А я не хацеў, каб на мяне нукалі. Чым заняцца? (В. Шырко. Анатоль Мацвеевіч).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 53: Калі даўся запрагчы, то дайся і паганяць.

**Да цара далёка, а да бога высока**. *Гл.* Да бога высока, да цара далёка.

**Да цябе (да вас) не п'юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь**. *Не ўмешвайся ў справы, якія цябе не датычаць.* [Мацейка:] Адным словам, без паўкварты не разбярэш. Ха-ха-ха! [Паланея:] А да цябе, паўкварта, калі не п'юць, то і не кажы «здароў будзь» (Я. Купала. Прымакі). – Гэта не суд, а самасуд. Здзек з кабеты... – Чаго ты там кукарэкаеш, як певень на куросадні? – вызверыўся.. Аўдзейчык. – Да цябе не п'юць – не кажы здароў будзь (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы). А вы збоку не ўмешвайцеся! Да вас не п'юць, не кажыце – «Здароў будзь!» (П. Міська. Сімфонія – гэта жыццё). **Не да цябе (не да вас) п'юць, не кажы (не кажыце) здароў будзь (на здароўе)**. [Мар'я:] Я б цябе мякнула [за разбіты

сподачак] па тваёй салятырцы, але пана шануюся. [Панас:] Не да цябе п'юць, не кажы здароў будзь. Добра ёй, паночку, здзекі строіць, меўшы гультайскія рукі, а тут... (У. Галубок. Пісаравы імяніны). [Высоцкі, спявае:] Многа маю, цёшча, мер аўса, мая на ўсё поле паласа... [Васіліса:] Не да цябе п'юць, не кажы на здароўе (І. Гурскі. Свае людзі).

– *Ляцкі*, с. 16: Калі да цябе не п'юць, не кажы дзякуй; *Прыказкі*, кн. 1, с. 401: Да цябе не п'юць, не кажы на здароўе; Не за цябе п'юць, дык не гавары здароў будзь.

**Дачка ў пары – не трымай у двары**. *Пра дзяўчыну, якую пара выдаваць замуж.* [Малання Адамаўна:] Я, Юстын Хаміч, не супраць. Лепшага зяця мне не трэба. Калі Данута згодна, дык, як кажуць, дачка ў пары – не трымай у двары (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы).

– *Рапановіч*, с. 84: Калі дачка ў пары, не дзяржы ў двары.

**Даюць – бяры, б'юць – уцякай**. *Гаворыцца таму, хто не адразу бярэ тое, што яму даюць.* – А заржавеў той карабін. – Ты што – у катле ім мяшаў?.. – Даюць – бяры, б'юць – уцякай. І ваабшчэ, ты! Мой селядзец, у што хачу, у тое і фарбую, дзе хачу – там і вешаю... (П. Місько. Мора Герадота). Ды мала што наплёў мне той стары! Я сам не лыкам шыты, маю вусы: б'юць – уцякай, даюць – бяры! І нечага разводзіць тут турусы... (Э. Валасевіч. Бацька і Сын). Даюць – бяры, б'юць – уцякай. Такое жыццёвае крэда ў Радзіма Чмялёва (Р. Яўсееў. Вароны ў банку). **Як даюць, то бяры, а як б'юць, то ўцякай**. – Чаго стаіце, садзіцеся! – маладзіца вярнулася да прыпека і прынесла тонкі, што ўжо з'еўся, нож. – Як даюць, то бяры, а як б'юць, то ўцякай, га? – абярнуўся і сказаў за пляччо стары мужчына (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

* – Ну, ну, і далей што?.. Што ты нам скажаш яшчэ? – А што мне казаць? Б'юць – уцякай, даюць – бяры, не даюць – пастарайся (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). [Шпакоўскі:] От, не каркай, як варона, – з'ясі сыры. [Порхаўка, узяўшы сыр:] Я не крыўдую. Не, не. Калі даюць, то бяру, а як б'юць, то бягу. Характар такі... Ну і сыр, на смятане... (І. Гурскі. Свае людзі).

– *Янкоўскі*, с. 247: Даюць – бяры, б'юць – бяжы (уцякай); *Ліцвінка*, с. 103: Даюць – бяры, б'юць – уцякай.

**Два вякі я жыць не збіраюся**. *Ужываецца як неадабрэнне скупасці і сцвярджэнне, што жыццё недаўгавечнае.* [Шыдлоўскі:] Я.. ні ў чым не буду апошнім. І не радыёлу – тэлевізар-камбайн завалю сабе, каб і карціну паглядзець можна было. Два вякі я жыць не збіраюся (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Насовіч*, с. 33: Два вякі жыць не будзем; *Федароўскі*, с. 367: Мне два вякі не жыць; *Рапановіч*, с. 163: Два вякі жыць не будзеш.

**Два каты ў адным мяшку не тоўпяцца (не месцяцца)**. *Сапернікі разам не ўжываюцца. Пра тых, хто прэтэндуе на першынство, кіраўніцтва і пад.* **Сін**.: *Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць*. – Мама, ці ж я вінаватая, што яны ад мяне не адыходзяцца? – Бо дурныя. Вот зараз прыгледзяцца, ды абодва адступяцца. Як было многа – так не стане нікога... Але ты тады паскавычаш. – Абыдуся. – Два каты ў адным мяшку не тоўпяцца. Пагрызуцца. – З-за мяне? Ой, мама родная (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

– *Насовіч*, с. 33: Два каты ў адным мяшку не месцяцца; *Прыказкі*, кн. 2, с. 54: Два каты ў адным мяшку не месцяцца (не ўседзяцца, не паміраюцца, не тоўпяцца).

**Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць**. *Сапернікі разам не ўжываюцца. Пра тых, хто прэтэндуе на першынство, кіраўніцтва і пад.* **Сін**.: *Два каты ў адным мяшку не тоўпяцца*. Добра вядома: два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць. Гэтак жа сталася і з экстрасенсамі – між імі ўсчаліся сваркі... (В. Гігевіч. Кентаўры). **Два мядзведзі ў адным логавішчы ўжыцца не могуць**. Два мядзведзі, кажа прыказка, у адным логавішчы ўжыцца не могуць. Немагчыма ўжыцца побач і Англіі з Германіяй (Я. Лёсік. Хто вінавайца вайны). **У адным берлагу два мядзведзі не жывуць**. [Памочнік:] Аддай мне свайго сына, я зраблю з яго другога Бога-прышэльца. Дам яму веды. Мы ўдвух будзем навяваць страх. Зямляне схіляць галовы перад намі. [Марыя:] Мой сын і ты? У адным берлагу два мядзведзі не жывуць (І. Казлова. Дзень першы). [Яўген:] Пажыў нейкі тыдзень і адчуў: цесць ужо адкрыта праяўляе незадаволенасць мною. Сказаў аднойчы: «Два мядзведзі ў адным берлагу не жывуць!» Што рабіць? Параіўся я з жонкаю, і мы рашылі з’ехаць (Я. Пархута. Акварэлі аднаго лета).

* Маці і сама не хоча пераязджаць да нас. І ўяві, яна тлумачыла сваё нежаданне жыць у нас амаль гэтак, як і ты. Толькі яна выказала тваю думку інакш: дзве лісіцы ў адной нары не жывуць... (А. Асіпенка. Святыя грэшнікі).

– *Насовіч*, с. 33: Два мядзведзі ў адной бярлозе не месцяцца; *Раманаў*, с. 292: У адной бярлозе два мядзведзі не ўжывуць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 54: Два мядзведзі ў адной бярлозе не ляжаць.

**Два Юр’і і абодва дурні: адзін халодны, другі – галодны**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды. Юр’я («галодны») – свята ў хрысціян, 23 красавіка па старым*

*стылі, і Юр’я («халодны») – 26 лістапада па старым стылі.* Юр’е, як і Мікола, святкуецца ў нас двойчы – увесну і ўзімку. Беларусы заўважылі, што колькі снегу бывае на Юр’е зімовае, столькі травы – на Юр’е вясновае. А ўвогуле на абодва святы мы паблажліва злуёмся: «Два Юр’і ды абодва дурні: адзін халодны, другі – галодны» (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 98: Два Юр’і і абодва дурні: адзін галодны, а другі халодны.

**Двойчы дае той, хто зараз дае.** *Кажуць суразмоўніку пры яго спробе адмовіцца ад прапанаванага хабару, задатку і пад. як цвёрдае, гарантаванае абяцанне, што гэта плата не апошняя.* [Філімон:] А можа, пасля? Як усё ўжо будзе таго?.. [Скакун:] Пане міністр! Прыказка кажа: двойчы дае той, хто зараз дае. [Філімон:] Ну, што ж зрабіць! Маленечкі авансік можна (Ф. Аляхновіч. Пан міністр).

**Двойчы ў адну <і тую ж> раку ўвайсці немагчыма (нельга)**. *Функц. не зам. Немагчыма паўтарыць якія-н. дзеянні, працэсы, падзеі і пад. з-за пастаяннай зменлівасці жыцця, яго бесперапыннага руху.* Здаўна вядома, што двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма, на гэты раз даваеннага адзінадушша, «адабрэння і падтрымкі» не адбылося. Народ пачаў разумнець (В. Быкаў. Горкі смак перамогі). Зважаючы на тое, што мы стаім на парозе XXI стагоддзя і што двойчы ў адну і тую ж раку гісторыі ўвайсці нельга, сёння гэты ідэал [Вялікае Княства Літоўскае часоў Скарыны] я акрэсліў бы знешне парадаксальна: Вялікае Княства Літоўскае плюс інфарматызацыя ўсяго грамадства! (А. Мальдзіс. Гонар быць беларусам). Правільна кажуць, што двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма. Так і з тарашкевіцай. Гэта ўжо пройдзены этап. Няма патрэбы, як гаварыў В. Вітка, «рэанімаваць правапіс, які не прыняла і даўно адкінула жывая народная мова» (Роднае слова. 2001. № 4). Нельга ўвайсці ў адну і тую ж рэчку двойчы. Аднойчы згубленае, страчанае па нашай легкадумнасці, нерашучасці, баязлівасці не знойдзецца, назад не вернецца (С. Сяргей. Мара светлая). Мы не капіруем ранейшае. Змяніўся час, мяняецца змест адукацыі ў пачатковай школе, становяцца іншымі дзеці. Правільна гавораць, што немагчыма двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку (Настаўн. газ. 1998, 23 ліп.).

– Калька з грэчаскай мовы. Выказванне, заснаванае на ўяўленні аб бесперапынным цячэнні ракі, належыць старажытнаму грэчаскаму філосафу Гераkліту.

**Дзвюм смерцям (смярцям) не бываць, <а> адной не мінаваць**. **1**. *Пра непазбежнасць смерці.* **Сін**.: *Ад смерці доктара няма; Ад смерці не адкупішся; Круці не круці, а трэба памерці; Смерць не ручаінка – не пераскочыш; Смерць нікому ў зубы не глядзіць; Смерць у бутэльку не заткнеш.* – Чаго нам паміраць? Вось пакуль што не забіралі. А прыйдзецца паміраць – дык што такое? Дзвюм смерцям не бываць, адной не мінаваць! – прамовіў ён прыказкаю і засмяяўся (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). Шэф сказаў, што, калі не хопіць корму, каровы будуць есці яго, старасту. Міхаіл Ціханавіч адказаў: – Дзвюм смярцям не бываць, а адной не мінаваць... (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне).

**2.** *Рызыкнём, што б ні здарылася. Гаворыцца з рашучасцю зрабіць што-н. рызыкоўнае, небяспечнае.* **Сін**.: *Воўк не з'еў, дык бугай не забадае; Спроба не хвароба; Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў.* – Ну і хуткія ж на пад'ём!.. Трах-бах, і ўжо ў траншэі.Ваякі!.. – А ты не дужа таго! – кажа Жаўтых. – Глядзі, каб калі бокам не вылезла. Дажартуешся. – Хе! Ерунда! Дзвюм смерцям не бываць – адной не мінаваць. Што мне, падумаеш!.. (В. Быкаў. Трэцяя ракета). – Давай пойдзем адсюль, – прапанаваў Васіль, – а то бывае, зноў наляцяць [нямецкія самалёты]. Мост усё-такі. Хоць і не вялікі, але ж стратэгічны аб'ект. – Э-э!.. – гарэзліва крыкнуў Сцёпа і бухнуўся ў ледзяную ваду.. – Давай. Дзвюм смярцям не бываць, а адной не мінаваць (Я. Курто. А жыццё – адно).

* Артыст нават спрабаваў жартаваць, каб зменшыць перадсмяротныя пакуты людзей, але ў яго нічога не выходзіла. – Эт, сямі смярцям не бываць, а адной не мінаваць, – сказаў артыст і, спахапіўшыся, што не тое гаворыць, змоўк (І. Гурскі. У агні).

– *Насовіч*, с. 33: Дзвюх смярцей не бываець, а раз чалавек уміраець; *Прыказкі*, кн. 2, с. 414: Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць.

**Дзе быў (хадзіў), там <цяпер, ужо> няма**. *Гаворыцца як уніклівы адказ на пытанне «Дзе быў?» ці падобнае на гэта.* – Ты дзе ж гэта вандруеш? – Дзе я быў, там цяпер мяне няма. – Бач ты, які канспіратар! (Я. Колас. На ростанях). – У які бок ён накіраваўся? – Дзе хлопец быў, там цяпер яго няма, – здагадаўся, у чым справа, Шыманскі (І. Гурскі. Чужы хлеб). – Што, на дарогу хадзіў? – Дзе хадзіў – там няма. Што вам? – ваўкавата адказвае Крывёнак (В. Быкаў. Трэцяя ракета). – Дзе гэта ты хадзіў? – не вытрымала Сабіна. – Думала, ужо не прыйдзеш. – Дзе быў, там ужо няма, – рагатнуў Воўка, і яна зразумела, што ён выпіў (А. Кажадуб. Стрэ-

чанне). – Дзе ты быў?.. Мы цябе шукаць кінуліся. – Дзе быў – там няма (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

– *Выслоўі*, с. 48: Дзе быў, там нет, а толькі след.

**Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл**. *Пра замілаванне да роднага краю, да мясціны, дзе нарадзіўся хто-н.* **Сін**.: *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся; Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае; Міл той куток, дзе абрэзалі пупок; Мой родны кут, як ты мне мілы; Няма лепшае справы ад свае хаты; Родная зямелька як зморанаму пасцелька; У родным краю, як у раю*. Эх, калі б з ёй разлучыўся, плакаў з усіх сіл... Эй, бо дзе воўк урадзіўся, яму куст той міл! (Я. Купала. З песень аб сваёй старонцы). – Прыказка і праўда: дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл... – А вось і няпраўда, – запярэчыў гаспадар. – Я ў Ігумені радзіўся, а тутака як абжыліся, дык калом не выганіш (Л. Калюга. Ні госць ні гаспадар).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 289: Дзе воўк радзіўся, там і куст міл.

**Дзе гной, там і лой**. *У каго поле ўгноенае, той можа спадзявацца на багаты ўраджай для сябе і свойскай жывёлы.* Вы саромеецеся вымаўляць слова «гной», які ж з вас тады кіраўнік сельскай установы? Дайце гною нашай зямлі – яна азалаціць чалавека... Чулі, можа, прыказку: дзе гной, там і лой (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя).

– *Федароўскі*, с. 111: Дзе гной, там і лой; *Прыказкі*, кн. 1, с. 123: Калі ёсць гной, то й будзе лой; Дзе гнаёк, там і лаёк.

**Дзе госць, там і бог ёсць**. *Прыход госця – вялікая радасць.* **Сін**.: *Госць на парог – радасць у хату; Госць у дом, бог у дом.* [Баба:] Захадзі, Цярэшка, захадзі. [Цярэшка:] Пахвалёны Езус! [Дзед і баба:] Навекі! Навекі! [Баба:] Дзе госць, там і бог ёсць. [Дзед:] Заходзьце бліжэй, бліжэй (У. Галубок. Ліпавічок).

**Дзе грошы гавораць, там праўда маўчыць**. *Грошы могуць прымусіць чалавека адступіцца ад праўды, паступаць несумленна, несправядліва.* [Русалка:] Вучыся нікога не шкадаваць. [Томначка:] Я з праўдай і любоўю жыву. [Пачварнік:] Дзе грошы гавораць, там праўда маўчыць. Я бяру цябе да сябе ў краму. Будзеш гандляваць кока-колай, гарэлкай, спіртам... (Г. Марчук. Чужое багацце).

– *Рапановіч*, с. 31: Праўда маўчыць, калі грошы гавораць.

**Дзед бабцы купіў лапці, былі малыя – абсек пальцы**. *Гаворыцца як іранічная ці асуджальная ацэнка чыіх-н. безразважных дзеянняў або намераў.* І да такога ў нас даходзіла зусім нядаўна [«пры Кебічу»]: так аб’яднацца з багацейшай, мацнейшай су-

седкай, што і бюджэт ёй падпарадкаваць, і нацыянальны банк. Згадалася даўно пачутае ад старое маці: «Дзед бабцы купіў лапці, былі малыя – абсек пальцы». Няўжо і такая мудрая палітыка народам нашым даўно прадугледжана? (Я. Брыль. Дзевяноста чацвёрты).

**Дзе двое б'юцца, трэцяму карысць**. *Гл.* Калі (дзе) двое б'юцца, трэцяму карысць.

**Дзе двое – там рада, дзе трое – там здрада.** *Калі пра якую-н. сакрэтную справу ведаюць больш як два чалавекі, то яна перастае быць сакрэтам.* Я амаль нікому іх [нумары альманаха] не паказваў, ды, як вядома з даўніх і з зусім нядаўніх часоў, дзе двое – там рада, дзе трое – там здрада (У. Арлоў. Мой радавод да пятага калена...).

– *Федароўскі*, с. 90: Дзе двое, там рада, а дзе трэці, там здрада.

**Дзе каша ды аладка, там і грамадка**. *Гаворыцца за сталом у часе абеду ці святочнага частавання.* [Поп:] Дай мне, бабулька, кавалачак сала... Дай мне яечак ды трохі кілбас... [Дзед:] Дзе каша ды аладка, там і грамадка... Сядайце, бацюшка (В. Вольскі. Дзед і Жораў).

– *Ляцкі*, с. 7: Дзе каша й аладка, там будзе й грамадка; *Прыказкі*, кн. 1, с. 396: Дзе каша і аладкі, там будзе і грамадка.

**Дзе коратка (тонка), там ірвецца (і рвецца)**. *Калі ў чым-н. не шанцуе, то здараецца і яшчэ большая непрыемнасць, бяда.* Калі вячэралі, разбілі гладыш з сыраквашай, якую Саша купіла ім [Пятру з Ленкай], – галоўны іх харчовы запас. Дзе коратка, там ірвецца (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). «Дзе коратка, там і рвецца», – падумаў Валошын. І так невялікія сілы іх былі раздзелены ў траншэі. Вядома, немцы хутка прыкончаць тых у нейкім там бліндажы, пасля возьмуцца за астатніх (В. Быкаў. Яго батальён). З сарака двух чалавек умелі плаваць толькі дваццаць сем... – А я, грэшным дзелам, палічыў, што мы і без парома абыдземся. Ажно... Дзе коратка – там і рвецца (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Чаго мы баяліся, так і здарылася. І гэта заўсёды так. Дзе коратка, там і рвецца (В. Зуб. Госці з космасу). Недарма ж, чалавеча, кажуць, дзе коратка, там і рвецца... Паслухай жа, што было далей. Выйшла я на двор, каб вады ў студні набраць ды чаю згатаваць, гляджу – немцы!.. (І. Сіняўскі. Сакратарыха). Раслі, кучаравіліся дрэўцы, дагледжаныя тваімі клапатлівымі рукамі. Толькі, як кажуць, дзе тонка, там ірвецца. У калядныя маразы вымерз твой маладзенькі сад (В. Праскураў. Сады цвітуць).

– *Ляцкі*, с. 10: Дзе коратка, там і рвецца; *Прыказкі*, кн. 2, с. 478: Дзе тонка, там і рвецца; Дзе коратка, там рвецца, дзе больна, там б'ецца.

**Дзела дзельніка (справа майстра) баіцца**. *Ва ўмелых руках дзела (справа) спорыцца.* Цар скамарохаў пахваліў парашок і майстра: – Дзела дзельніка баіцца (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка). Недарма кажуць: справа майстра баіцца. Сёння ж аддам у друкарню. А цяпер будзем абедаць (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Насовіч*, с. 34: Дзельніка дзела баіцца; *Прыказкі*, кн. 1, с. 147: Дзельніка дзела баіцца; Дзела майстра баіцца; *БРС*, т. 1, с. 662: Справа майстра баіцца.

**Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць**. *Пра сацыяльную няроўнасць і ўзаемаадносіны паміж беднымі і багатымі.* [Маці:] Стары мой працуе ад ранку да ранку, а ўсё пану ідзе... Праўду стары мой кажа: дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць. Так вось і з намі, галубка, – мы бяднеем, а пан сабе новыя палацы будуе (В. Вольскі. Цудоўная дудка).

– *Янкоўскі*, с. 30: Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.

**Дзе многа на куце сядзіць, там мусіць мыш галодна быць**. *Дзе многа начальства, там кепска жыць падначаленым.* Беларуская душа відушчая... За колькі стагоддзяў да сённяшніх прэзідыумаў, парламентаў ведала: дзе многа на куце сядзіць, там мусіць мыш галодна быць (Р. Барадулін. Існасць).

– *Насовіч*, с. 23; *Ляцкі*, с. 7: Дзе многа на куце сядзіць, там мыш мусіць галодна быць.

**Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся.** *Пра замілаванасць да роднага краю, да мясцін, дзе нарадзіўся хто-н.* **Сін.:** *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл; Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае; Міл куток, дзе абрэзалі пупок; Мой родны кут, як ты мне мілы; Няма лепшае справы ад свае хаты; Родная зямелька як змoранаму пасцелька; У родным краю, як у раю.* – Дзеда, я ніколі не еў такой смачнай шакаладкі, – з удзячнасцю прамовіў унук [дзеду, які прыехаў у госці да сваіх – у Амерыку]. – Значыць, прагаладаўся. – Не, дзеда. Гэта таму, што яна з нашай радзімы. Ну, гэтая шакаладка... Турка [дзікая індычка] смачная тут. Яна нарадзілася тут.. – Ну, што ж, праўду кажуць людзі... Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся, – дзед Пятро моўчкі абняў унука (Л. Левановіч. Турка). Куток Бацькаўшчыны, адкуль ты родам.., у сапраўднасці ніякая і не «малая радзіма», а Радзіма, якая ніколі не забывае сваіх адданых сыноў і дачок. Нездарма ёсць выслоўе: «Дзе нарадзіўся – там прыгадзіўся» (А. Марціновіч. «...Над пыльнай вечнасцю дарог»).

**Дзе ні кінь, дык клін**. *Гл.* Куды ні кінь, усюды клін.

**Дзень з алеем, а два (тыдзень) <так> галеем**. *Пра жыццё надгаладзь.* **Сін.:** *Ёсць хлеб – ядзім, а няма – глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра – не ведаем.* А як вы з Кашалевічавым Васем падаткі збіралі? Недзе стары партфель знайшлі, хімічны аловак, напхалі ў той партфель паперы і давай хадзіць па хатах. Людзі рагочуць, хто кусок хлеба дасць, хто аладку... Так і жылі: дзень з алеем, а тыдзень так галеем (В. Шырко. Хай людзі бачаць). Чаго ты прыстаў да яго, як смала?!. Добра, што сам ты жывы на неба паляціш, святы... А ён, калека, бедны чалавек. Мы дзень з алеем, а тыдзень – так галеем... (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). Хоць што там было ў людзей? Перабіваліся з хлеба на квас. Дзень з алеем, два – галеем (В. Супрунчук. Кошык дробнай бульбы). Сёння рэпрадукцыі ў часопісах падпісваюцца так: акварэль, гуаш, гравюра, сепія, *алей*. Гэта падкрэслім. Бо не толькі ж трэба было вякамі ціснуць яго з лёну ці канапель, не толькі бульбу абмачаць, але і прыказку пакінуць: «Дзень з алеем, а тыдзень так галеем» (Я. Брыль. Жнівень).

– *Янкоўскі*, с. 54: Дзень з алеем, а тры дні галеем.

**Дзень мала, а два многа**. *Кажуць пра старога ці хворага чалавека, якому засталося нядоўга жыць.* – Мне што, сынок, – гаворыць яна пасля. – Мне то ўжо засталося, як той казаў, дзень мала, а два многа. А ты глядзі. Хто ім, разбойнікам, верыў... (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

– *Федароўскі*, с. 348: На два замала, на адзін замнога.

**Дзень пражыў, то і дзякуй богу**. *Гл.* <Што> дзень (дзянёк) пражыў, то і дзякуй богу.

**Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае)**. *Справы кепскія, калі за іх бярэцца адразу некалькі чалавек. Гаворыцца з асуджэннем пра безадказныя адносіны да справы, калі адзін спадзяецца на другога.* **Сін**.: *У сямі нянек дзіця без вока.* – Вось што, Віктар, – рэзка перапыніў яго Зімчук, – дзе нянек многа, там дзіця бязнога. Гэта – азы... (У. Карпаў. Без нейтральнай паласы). Ты добры гаспадар, Лазавенка, і ведаеш, што дзе многа нянек, там дзіця заўсёды мурзатае (І. Шамякін. У добры час).

– *Насовіч*, с. 23: Дзе многа нянек, там часта дзіця бязносае; *Прыказкі*, кн. 2, с. 123: Дзе нянек многа, там дзіця бязнога; Дзе многа нянек, там дзіця без носу; Дзе багата нянек, там дзеці бязносыя.

**Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць**. *Пра невыпадковае, наўмыснае суседства карчмы з царквой.* – Ды яшчэ Пранас Парэчкус дадаў ім жару, што некалі твой дзед і дзед Анежкі

ў касцёле галовы ледзь адзін другому не праламалі. – Я чуў пра гэта сам... Праз гарэлку, відаць, усё гэта. Недарма ж кажуць – дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 494: Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць.

**Дзе прыбытак чуюць, там памагачы начуюць**. *Кажуць з незадавальненнем, калі да каго-н., адчуваючы карысць, выгаду, пажыву, шмат хто напрошваецца ў памагатыя.* Крыўдна зрабілася Брэшку, за жывое ўкусіла: – Дзе прыбытак чуюць, там памагачы начуюць. Майстар мне знайшоўся! Свой мурашнік па драбнічцы награбі, скідай. Тагды і гаспадарнічай (Д. Слаўковіч. Апошняя чарка).

– *Рапановіч*, с. 246: Дзе прыбытак чуюць, там памагачы начуюць.

**Дзе п’юць, там і льюць**. **1**. *Кажуць у апраўданне, калі хто-н. за сталом незнарок разліў пітво.* Вольф нязграбна павярнуўся і разліў кофе. Ён хацеў пахваліцца, што ведае рускую мову, і сказаў: – Дзе коратка, там і льецца... Чорт вазьмі!.. – У нас кажуць: дзе п’юць, там і льюць, – усміхнуўся Зорын, дадаўшы: – А яшчэ: дзе коратка, там і рвецца... (І. Гурскі. У агні). Бравусаў спрытна наліў усім, на гэты раз і Андрэю аж цераз край. – Ну, ты ўжо не разлівай. Заліў вочы і краёў не бачыш... – Ат, бывае. Не перажывай. Дзе п’юць, там і льюць. А мы хвакцічаскі, не п’ём, а лечымся, – ухмыльнуўся Бравусаў (Л. Левановіч. Палыновы вецер).

**2**. *У вялікай справе не абысціся без страт.* Каб тады яшчэ, як першыя «матылькі» залёталі, легла зіма, – ого-го, што было б [з буракамі]! А гэта ўжо дробязь асталася... Дзе п’юць, там і льюць... А гатовыя не цяпер, то ў чацвер выграбуць, завязуць. Нічога, калі і мароз трохі прыхопіць (П. Місько. Сітус інверсіс).

– *Ляцкі*, с. 10: Дзе п’юць, там і льюць; *Янкоўскі*, с. 338: Дзе п’ецца, там і льецца; *Выслоўі*, с. 146: Дзе п’юць, там льюць.

**Дзетак узгадаваць – не грыбоў назбіраць**. *Дзетак узгадаваць – не лёгкая справа.* Што за людзі пайшлі па свеце, адзін за другога мудрэйшы... І мне не хочацца пакідаць школу, але што ты зробіш? Дзетак узгадаваць – не грыбоў назбіраць (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Янкоўскі*, с. 117: Дзетак узгадаваць – не грыбкоў назбіраць.

**Дзеткі падраслі, хатку растраслі**. *Пра вялікія выдаткі бацькоў на дарослых дзяцей.* Так, выраслі дзеткі. Як гэта кажуць: дзеткі падраслі, хатку растраслі? Падобна на праўду (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Насовіч*, с. 35: Дзеткі падраслі, хатку растраслі; *Федароўскі*, с. 92: Як дзеткі падраслі, то й куткі растраслі; *Прыказкі*, кн. 2, с. 120: Дзеткі падраслі – хатку растраслі.

**Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом**. *Устар. Пра бяспраўнасць селяніна.* [Кароль:] Я не знаў, што мая вёска гэткі скарб – дзяўчыну мае. [Навум:] Не для нас, знаць, дзеўкадворка. Добра кажа прыгаворка: гдзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 317: Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.

**Дзе тонка, там ірвецца**. *Гл.* Дзе коратка (тонка), там ірвецца.

**Дзеўка не конь, вупраж (збрую) не накінеш (не надзенеш)**. *Насільна дзяўчыну не прымусіш падпарадкавацца.* [Пшэбыеўскі:] Катажына хаця і прыгажуня, а мяшчанка, не з рукі мне, Пшэбыеўскаму, пры ўсім народзе [вянчацца]. Вось пажыве ў Варшаве, стане паненкаю... [Несцерка:] А сілком, паціху, – не атрымаецца. Дзеўка не конь, вупраж не накінеш (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 12: Дзеўка – не конь, збрую не надзенеш.

**Дзеўка не конь, збрую не накінеш**. *Гл.* Дзеўка не конь, вупраж (збрую) не накінеш (не надзенеш).

**Дзе фэст, там і я ест**. *Гаворыцца, часцей іранічна, пра тых, хто любіць пастаянна наведваць гулянкі, сходы і пад.* У Мядзведзічах было сёння трохі чужога народу з суседніх вёсак. Гэта найбольш былі браты, сваты, швагры, зяці і іншыя катэгорыі сваяцтва. Шмат якія з іх былі такія аматары, што смела пра сябе маглі сказаць: дзе фэст, там і я ест (К. Крапіва. Мядзведзічы). Зноў, паводле выслоўя «Дзе фэст, там і я ест», у Віцебску вытыркнецца рэальны сакратар віртуальнай дзяржавы, па якім сумуе амерыканская турма... (П. Васілеўскі. Віцебск – Рыо-дэ-Жанейра па-беларуску).

* Зазыба стаяў на праходзе, і ў яго твары пад скурай хадзілі жаўлакі. Ён усяго мог чакаць ад сваіх верамейкаўцаў – дзе толькі фэст, і яны заўсёды там, – але тое, што пабачыў зараз, не ўкладвалася ў галаве: выходзіла, толькі звядзі вочы, як адразу разнясуць усё па дварах (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 168: Дзе фэст, там і я ест.

**Дзе хадзіў, там няма**. *Гл.* Дзе быў (хадзіў), там <цяпер, ужо> няма.

**Дзе цесна, там пацешна**. *Кажуць, калі дзе-н. сабралася шмат народу і цесната не перашкаджае ім быць добразычлівымі адзін да аднаго.* **Сін**.: *У цеснаце, ды не ў крыўдзе; Цяснота – не крыво-*

*та.* – Дзе цесна, там пацешна, – увіхаючыся з трыма крэсламі, са сталом і адзежаю, некалькі раз пераказаў Рыгор. – А хоць бы жанчыне даць дарогу. – Не турбуйцеся за мяне (Ц. Гартны. Сокі цаліны). – Цеснавата крыху ў нас будзе, але што ты зробіш, – ліслівіў Заяц. – Дзе цесна, там пацешна, – перабіраў у руках ружанец Гадлеўскі (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 376; кн. 2, с. 41: Дзе цесна, там пацешна.

**Дзе чарка, там і сварка**. *Гаворыцца з неадабрэннем пра ўзаемасувязь паміж выпіўкай і сваркай.* Можна было б вярнуцца ў хату і пахмяліцца – гэтае атруты даволі, ды не хацелася дурны прыклад падаваць. П’янка дзелу не помач. Яно і праўда, дзе чарка, там і сварка (М. Гроднеў. Права адплаты). Колькі пілі, не помню, а п’янаму, як кажуць, і чорт з дарогі саступае. А тут усе п’яныя, вось і не саступілі. Злосныя мы былі, акопныя салдаты. Нездарма ж яшчэ кажуць – дзе чарка, там і сварка... Але ж і мяне апрацавалі, што забыўся, як дзверы адчыняюцца (А. Дзятлаў. Век жыві – век вучыся).

– *Ліцвінка*, с. 96: Дзе чарка, там і сварка.

**Дзе чорт <сам> не зможа (не можа, няйме), туды (там) бабу пашле**. *Гаворыцца пра жанчыну з неадабрэннем за які-н. яе непрымальны ўчынак.* Маўляў, дзе чорт сам не зможа, туды ён бабу пашле; браты, – жыўшы што дай божа! – разлучыліся ў тузе. Бо Ульяна сплетняй многа ляпеча злым языком... (В. Дунін-Марцінкевіч. Быліцы, расказы Навума). Купіў чорт бабе-звадыяшцы чаравікі, але баіцца аддаць іх проста бабе – з рук у рукі. Выразаў ён даўжэразную тычыну, пачапіў на яе чаравікі і аддаў іх бабе. З таго часу і пайшла гутарка: «Дзе чорт сам не зможа, туды ён бабу пашле» (Я. Колас. Баба і чорт). Смалы б пякучай на гэткі язычок! Нездарма ж кажуць: дзе чорт не можа, там бабу пашле... Яна, гэтая Фрося, няйначай, і разносіць па вёсцы ўсю бязглуздзіцу пра мяне (Т. Бондар. Жывыя жывуць). [Чорт:] Кіньце, цётка, так брыдка лаяцца! Я ж вам нічога благога не раблю... [Баба:] Я б табе зрабіла, ты – касматы! [Чорт:] Успомніў я, што ў вас, людзей, ёсць прыказка: дзе чорт няйме, там бабу пашле... (Ф. Аляхновіч. Чорт і баба).

* [Навум:] Пайду ды прышлю тут яго жонку. Хіба яна дасць рады. Бо добра кажа прымаўка: куды чорт не даступіцца, туды бабу пашлець (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). [Трэці казак:] Ой, рызыка вялікая, бабе даручаць справы выведаў!.. [Віцька:] Баба хітрэй ад чорта! [Першы казак:] Нездарма кажуць, дзе чорт не возьме, баба справіцца!.. (У. Галубок. Пан Сурынта).

– *Насовіч*, с. 2: Айдзе чорт сам няймець, там бабу пашлець; *Федароўскі*, с. 68: Дзе чорт сам не справіцца, туды бабу пашле; *Прыказкі*, кн. 2, с. 77: Дзе чорт не дойдзе, туды бабу пашле.

**Дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць**. *У вялікай справе не звяртаюць увагі на дробязі. Гаворыцца як апраўданне памылак, недахопаў, ахвяр, якія не закранаюць асноўнага, сутнасці справы.* **Сін**.: *Лес сякуць – трэскі ляцяць*. – Мядзведзі вы! – крыкнуў пан! – Толькі шкоды наробіце. – Эх, пане, дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць, – сказаў Рыгор (Я. Колас. У балоце).

– *Санько*, с. 23: Дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць.

**Дзіравага мяшка (меха) не напоўніш (не напхаеш***)*. *Ніяк немагчыма задаволіць кагосьці чым-н.* **Сін**.: *Бяздоннай бочкі не напоўніш*. [Маланка:] Колькі год адзін шляешся – і да бабы цябе не цягне – га? [Несцерка:] Ну, ну, дзіравага меха не напоўніш, карысці ад вас, ад баб, вось я лепш сто грамаў вып'ю (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Насовіч*, с. 34: Дзіравага мяшка, як ні супаўняй, не супоўніш; *Федароўскі*, с. 182: Без дна мяшка не напоўніш; *Сцяшковіч*, с. 588: Дзіравага мяшка не напхаеш.

**Дзіця за руку бярэш – маці за сэрца**. *Пра чуйнае рэагаванне маці на адносіны каго-н. да яе дзіцяці.* Я даўно прыкмеціла, Алёша, ты любіш дзяцей, і яны цябе любяць. Значыць, і жонка будзе любіць. Прыкмета ёсць такая: дзіця за руку бярэш, маці – за сэрца. Не чуў? Гэта наша мама так гаварыла (В. Праскураў. Рута-мята).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 114: Узяў дзіця за руку – матку за сэрца; *Янкоўскі*, с. 135: Узяў дзіця за руку – матку за сэрца бярэш.

**Дзіця не плача, матка (маці) не дагадаецца**. *Пакуль не скажаш пра тое, што табе трэба, нельга разлічваць на чыю-н. дапамогу.* А я ўжо смак гарэлкі забыўся: не каштаваў бадай тры гады... Ніхто мяне не частуе: дзіця не плача, матка не дагадаецца, казаў той (З. Бядуля. Летапісцы). Не магу ж я памятаць аб кожным. Ты ў мяне не адзін. Людзі кажуць: дзіця не плача – маці не дагадаецца. Прыходзь сюды заўтра а дзявятай гадзіне вечара, пагутарым (М. Машара. Старонкі летапісу). **Пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца**. Што яшчэ скажаш, братухна? Што ты ведаеш пра маю жытку, акрамя плётак? Чужая болька не баліць, і пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца... (П. Місько. Градабой).

– *Насовіч*, с. 35: Дзіцятка не плачыць, мамка не знаець; *Прыказкі*, кн. 2, с. 122: Дзіця не плача, маці не дагадаецца.

**Дзяды не зналі бяды, а ўнукі набраліся мукі**. *Часам лічаць, што раней, у мінулыя гады, было, жылося лепей, чым цяпер.* [Панас:] Мой сынок, ці мне ўжо дужацца! Чакаю толькі веку, дамавіны магільнай. Пабачыць бы сёлетняе збожжа, каб спачыць з ціхай мыслю аб спрацаваных унуках. [Саўка:] Дзяды не зналі бяды, а ўнукі набраліся мукі! (М. Грамыка. Змітрок з Вялікай Буды). **Нашы дзяды не ведалі бяды, іх унукі спазналі мукі.** Парвалася пупавіна паміж дзецьмі і бацькамі. І падаюць, спяшаюцца хутчэй адысці на той свет бацькі... Сапраўды, нашы дзяды не ведалі бяды, іх унукі спазналі мукі (В. Казько. Да сустрэчы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 444: Нашы дзяды не зналі бяды, але ж унукі набраліся мукі; Дзяды не зналі бяды; насталі ўнукі, набяруцца мукі; Дзяды не зналі бяды, а ўнукі даждаліся мукі; *Федароўскі,* с. 93: Дзяды не зналі бяды, але ўнукі зажываюць мукі.

**Дзяк не поп, бярэ і боб**. *Гаворыцца з асуджэннем пра прагнага чалавека, які нічым не грэбуе.* [Лена:] Як табе не брыдка? Ты ж ад мамы ўсё грабеш! Пра цябе ж сказана: дзяк не поп, бярэ і боб! (М. Гіль. Развод).

– *Ляцкі*, с. 14: Яна не поп, бярэць і боб; *Янкоўскі*, с. 278: Іван не поп, бярэ і боб.

**Дзякуй гэтаму дому, пайшлі (пойдзем) к другому**. *Гавораць, часам жартаўліва, пры развітанні перад адыходам, ад'ездам куды-н.* Васіль прывычна агледзеў аўтамат, праверыў затвор. Усё як мае быць, нават магазін поўны. – Забагацею – разлічуся, – павярнуўся ён да старшыні... Ну што ж, дзякуй гэтаму дому, пайшлі к другому (А. Кажадуб. Даўгі нашы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 403: Спасіба гэтаму дому, пойдзем к другому.

**Дзякуй гэтаму столу, а мы пойдзем дадому**. *Развітальнае выказванне пасля гасцявання.* І пакуль тое яшчэ далёкае, запаўночнае «Дзякуй гэтаму столу, а мы пойдзем дадому!», пакуль гаспадарлівае: «То выбачайце: што кепскае, то не мы!» – усё новыя і новыя слоўцы і жартачкі гучаць над бяседным сталом дома пад таполяй (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Выслоўі*, с. 147: Дзякуй гэтаму столу, пойдзем к свайму дому.

**Дзякуй на хлеб не намажаш.** *Адной падзякай не адкруціцца. Часцей жартаўліва-іранічны адказ на слова «дзякуй».* Успомнілася народнае: «Дзякуй на хлеб не намажаш». І таму дасылаю квіток з аплатай. Разумею – мала. Але паверце, на большае ваша «рэклама» не цягне (А. Пісьмянкоў. Дзякуй за «рэкламу»).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 361: Дзякуй не з’ясі; Дзякаю сыт не будзеш; Дзякуй не накорміць, не нагрэе.

**Дзянёк пражыў, то і дзякуй богу**. *Гл.* Што дзень (дзянёк) пражыў, то і дзякуй богу.

**Дзяцей радзіць – не грошы лічыць**. *Дзяцей радзіць – цяжка, балюча, не вельмі прыемная справа.* Чаго ты плюскаеш на мяне вачыма, бы сына нарадзіўшы? Пакажы мне, дзе ён? Не маеш яго, ага. А я гаварыў табе: трэба нам хлопца!.. Баялася ты болю, скажу, во, табе ў вочы! Вядомая справа: дзяцей радзіць – не грошы лічыць (С. Яновіч. Сцяна).

**Для глухога дзвюх абедзень не служаць**. *Гл.* Глухому дзве абедні не служаць.

**Для мілага друга і завушнічка з вуха**. *Для блізкага чалавека не шкада і апошняга.* Але што не зробіш для добрага суседа, га?.. Па прымаўцы: «Для мілага друга і завушнічка з вуха» (І. Новікаў. Да світання блізка).

– *РБС*, т. 2, с. 378: Для мілага друга і завушнічка з вуха.

**Для прадажнай псіны кол з асіны**. *Прадажнік, здраднік варты самага суровага пакарання.* Ух, які я злосны! Няма большага злачынства, як здрада. Для прадажнай псіны кол з асіны. Прызнацца папраўдзе, я выказаў думку Віктару Іванавічу расправіцца з Настассяй (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Рапановіч*, с. 305: Для прадажнай псіны кол з гнілой асіны; *Прыказкі*, кн. 2, с. 550: Для прадажнай псіны кол з асіны.

**Для старца міля не круг**. *Гл.* Старцу міля не круг.

**Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае**. *Пра замілаванне да роднага краю, да мясціны, дзе нарадзіўся хто-н.* **Сін**.: *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся; Міл той куток, дзе абрэзалі пупок; Мой родны кут, як ты мне мілы; Няма лепшае справы ад свае хаты; Родная зямелька як зморанаму пасцелька; У родным краю, як у раю*. Як хораша сустракалі цябе пасля перамогі на «Еўрабачанні-2005». Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае. Дома ты пачувала куды лепш, чым у самалёце і аэрапорце, дзе ўспышкі фотаапаратаў прымушалі жмурыцца (В. Шырко. Палессе дзіўнае дзіцця).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 289: Для ўсякай птушкі сваё гняздо міла.

**Добрае далёка чуваць**. *Функц. не зам. Ужываецца як станоўчая ацэнка чаго-н., пра што распаўсюджваецца добрая слава.* [Туміловіч:] Чулі, можа, – ёсць такі калгас багаты – «Новая ніва»? [Аўдоцця:] Чулі, чаму ж не. Добрае далёка чуваць (К. Крапіва.

Пяюць жаваранкі). – Адкуль будзеш родам? – Здалёку. Можа, чуў калі пра Азярышча? – А як жа, чуў. Добрае далёка чуваць (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

* Калгас вялікі, аж чатыры вёскі... Але добрае і далёка чуваць і хутка ляціць. Загаманілі пра Старавойтава ва ўсіх брыгадах (В. Праскураў. Дабрата).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 172: Добрая слава далёка чуваць.

**Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей**. *Дрэнная слава распаўсюджваецца хутчэй і далей, чым добрая. Ужываецца як адмоўная ацэнка чаго-, каго-н. дрэннага.* **Сін**.: *Добрая слава далёка ідзе, а кепская яшчэ далей <ляціць>; Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.* Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей; была ў вёсцы сям'я Бурачкоў, якія жылі на ўскраі вёскі, на паплавах. З кожнага калена ў Бурачкоў каго-небудзь ды ўтаўкуць. Гэта былі на ўсю акругу канакрады (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

* – П'е [Цівунок] дзень і ноч, – сказаў Алесь. – Я з другога калгаса, але дурное, кажуць, далёка чуваць (Я. Брыль. На Быстранцы).

– *Насовіч*, с. 35: Добрае чуваць далёка, а дурное яшчэ далей; *Прыказкі*, кн. 2, с. 428: Добрае чуваць далёка, а благое яшчэ далей.

**Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з'еў бы**. *Пра добрае, пажыўнае, ядкое сена.*

* Вось паплавец мой. Сена – піва, ядкое, брацікі, на дзіва: запраў, дык есці будзе поп (Я. Колас. Новая зямля).

– *Федароўскі*, с. 276: Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з'еў бы.

**Добрае слова і кату (кошцы) прыемнае**. *Ужываецца як ацэнка слушнай спагадлівасці, чуласці да іншых людзей.* Цудко ледзь не маліўся на знакамітага суродзіча і ладнае месца ў сваім музеі адвёў для матэрыялаў пра Альберта. Да таго ж рэгулярна друкаваў у раённай газеце водгукі на ўсе акалічнасці яго творчага шляху. Што ж, добрае слова і кату прыемна, і Святкоўскі апекаваўся самадзейным калекцыянерам... (Л. Рублеўская. Сэрца мармуровага анёла). Пачуў: «Добрае слова і кошцы прыемнае». Падумаў: «А наколькі ж яно прыемней і жаданей чалавеку!» (Я. Сіпакоў. Узятак з маўчання). «Хітрун. Камплімент мне. А маіх заслуг тут няма», – падумаў Сахута, але адчуў, што на душы пасвятлела: слабы чалавек! А зрэшты, добрае слова і кошцы прыемнае (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян). Бог даў вушы жанчыне найперш для таго, каб яна чула ад мужчын, якая яна прыгожая, мілая, доб-

ражаданая. Хто больш і лепш нагаворыць такога, да таго яна і хінецца. Часам нават да самага што ні ёсць няшчырага, хлуслівага, а то і нягодніка. «Добрае слова і кошцы прыемнае» (Г. Далідовіч. Кліч роднага звона). Яна цябе, што характэрна, чакае. Сеў бы з ёй дома, прытуліў. Ганна табе сама чарку налье. Добрае слова і кату прыемнае. А ты – гвардзеец (М. Клімковіч, У. Сцяпан. Тэолаг).

**Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>**. *Гаворыцца пра добрага, памяркоўнага чалавека.* [Сымонка, робіць выгляд, быццам не можа ўтрымацца на нагах, і валіцца ў самую гушчу дзяўчат:] Добраму чалавечку добра і ў запечку! (В. Вольскі. Машэка). Ні той спагады, ні той парады, ані шаны... Хіба што прыказка і суцяшала: – Добраму чалавечку добра і ў запечку, а якой благаце дрэнна й на куце... (Р. Барадулін. Мама). Жывём... Як па той прымаўцы: добраму чалавечку – добра і ў запечку, а благой благаце – дрэнна й на куце (У. Ягоўдзік. Перадзім’ем).

* – Будар! – пераходзіць з плачу на крык маці. – Каб табе язык паганы адсох! Каб ты без кія не мог кроку ступіць! Каб людзі на пір, а ты ў вір! Каб ты ў запечку да смерці сядзеў! – Добраму чалавечку добра і ў запечку, а пустаце ліха і на куце! (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

– *Раманаў*, с. 295: Добраму чалавечку харашо і ў запечку; *Прыказкі*, кн. 1, с. 213: Добраму чалавечку добра і ў запечку.

**Добра сабаку і муха**. *Калі няма лепшага, то і тое, што ёсць, добрае. Звычайна пра які-н. нязначны прыбытак, набытак.* Прыбыў [я] за час побыту ў санаторыі на 1 кіло і 200 грам. Добра сабаку і муха (Я. Колас. Дзённікі).

– *Насовіч*, с. 36: Добра сабацы й муха; *Прыказкі*, кн. 1, с. 206 і 435: Добра сабаку і муха.

**<Добра> смяецца той, хто смяецца апошні (апошнім)**. *Гаворыцца як папярэджанне не насміхацца з каго-н., не ведаючы, чым закончацца чые-н. дзеянні, учынкі, справы.* [Чумак:] Паказаць [пісьмо]? Дарэчы, яно ў мяне з сабой... [Траян:] Пакажы! Калі яно так «дарэчы» аказалася ў тваёй кішэні! [Чумак:] Добра смяецца той, хто смяецца апошнім! (М. Матукоўскі. Бездань). Кажуць: добра смяецца той, хто смяецца апошнім. А дзе можна стаць у чаргу? (Б. Кавалерчык. Мімаходзь). – Ой, не магу! – Алачка хапае сурвэтку і выцірае вочы. А Ігар Мікалаевіч ажно ўгнуўся і выдае нейкія булькатлівыя гукі. Але ж нездарма кажуць: «Смяецца той, хто смяецца апошні» (В. Зуб. Далікатныя людзі). Аж засоп, рукі ў ку-

лакі сашчапіў Яўхім Бабай. «Нічога, нядоўга вам смяяцца асталося. Смяецца той, хто смяецца апошні. Так вам усё не мінецца!» (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Ехаць у раён, на карэспандэнцкую пасаду, назаўсёды адрэзаць сабе шляхі... Ну, хай сабе, дапусцім, не назаўсёды, але на два гады – як мінімум. А за два гады можна імя займець, кніжку выдаць... Хай тады пасмяюцца!.. Смяецца той, хто смяецца апошні... (В. Блакіт. Усмешка Фартуны).

– Калька з французскай мовы: *Rira bien, qui rira le dernier.*

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 400: Смяецца той, хто смяецца апошні; *Рапановіч*, с. 218: Добра смяецца той, хто смяецца апошнім.

**Добра таго біць, каму баліць, добра таго лаіць, хто сорам маіць.** *Пра ацэнку каго-н. і аб'ектыўнасць успрымання крытыкі тым, да каго яна адносіцца.* У сваім нядаўнім зборніку «Крык сойкі» па-панчанску задзірыста і з'едліва ён як бы папярэджвае: «Сягоння не засну, мяне так шчыра хваляць, як спелую сасну, якую хутка зваляць». Праўда, выручыць мяне ідзе вясёлая ўшацкая прыказка: «Добра таго біць, каму баліць, добра таго лаіць, хто сорам маіць». Крыху перайначыўшы яе, можна сказаць: добра таго хваліць, хто пахвальбы баіцца, хто ведае сапраўдную цану існага слова (Р. Барадулін. Кніга вандраванняў і любові...).

**Добра там, дзе нас няма**. *Гл.* Там добра, дзе нас няма.

**Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць**. Ляцяць стружкі на ўсю кухню, вераценка атрымліваецца прыгожае, гладкае, зграбнае... Калі ласка, бяры і прадзі... Калі я залішне ахаю ад бацькавага ўмельства, ён кідае: «Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць»... (П. Місько. Не ў явар, а ў камень). У Алесі.. пякучым страхам зайшлося сэрца: што з ім і дзе ён, Змітрык? – Ці вінаваты ён, што благога зрабіў? – з жалем спытала ў бацькі. – Добра, кажуць, усё ўмець, ды не ўсё рабіць. Не трэба было сунуцца ў палітыку... (В. Адамчык. Год нулявы). Круціла я тую касу ў руках, а пасля як размахнулася, і пайшло... Мама мяне ўсяму навучыла. Яна казала, што добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць. Як гэта мне ў жыцці прыдалося! (Маладосць. 1990. № 2). **Дай божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць**. [Патыліца:] Штосьці не веру, што ты служыў на кухні ў турэцкага султана. Навошта прыкідваешся? [Абдула:] Абдула – эфендзі, а не дэрвіш. [Патыліца:] Гавары па-шляхецку. [Абдула:] Дай божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць. Замененаму кухару будзе болей увагі і павагі (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 172: Добра ўсё ўмець, але не ўсё рабіць; Дай божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.

**Добра яблычка к Іспасу**. *Па старым звычаі лічылася, што яблыкі нельга есці да Вялікага Спаса (свята ў хрысціян, прыпадае на 19 жніўня па новым стылі).* – Добра яблычка к Іспасу, – так казалі нашы продкі, збіраючыся сустрэць адно з улюбёных у народзе святаў – Яблычны, або Другі (услед за Медзяным), Сярэдні (перад Хлебным) ці Вялікі Спас. Гэта – свята садавіны. У гэты дзень людзі нясуць у царкву асвячаць яблыкі, грушы, слівы (з гэтай пары іх, як лічылася, можна есці), а таксама мёд і калоссі новага ўраджаю. Так будзе і заўтра, 19 жніўня (Звязда. 2001, 18 жн.).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 109: Добра яблычка к Іспасу.

**Добра, як сусед блізкі і пералаз нізкі**. *Жартаўлівае, добразычлівае выказванне пра добрага суседа. (Пералаз – ход цераз плот, агароджу паміж хатамі ў вёсцы.)* Амброж, бывала, заходзячы да Ясевых у двор ці ў хату, каб слова сказаць ці пачуць або з патрэбаю якою, любіў пахваліцца: добра, як сусед блізкі і пералаз нізкі (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог).

* [Даніла:] І па-мойму, перасяляйся ты, сват, і ўсё. А жылплошчу абмяняеце. [Паўліна – Ігнату:] А можа, добрыя людзі і праўду гавораць? [Даніла:] Зразумела нарэшце, што не так ужо і блага, калі сват будзе блізка, а пералаз нізка (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Федароўскі*, с. 293: Добра, як сусед блізка і пералаз нізка.

**Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>**. *Дрэнная слава распаўсюджваецца хутчэй і далей, чым добрая. Ужываецца як адмоўная ацэнка чаго-, каго-н. дрэннага.* **Сін**.: *Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей; Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць.* – Старшынёй калгаса тады тут быў нейкі Савіч. – Дзіва што! – Вось бачыце, – прадаўжала Алена Паўлаўна. – Добрая слава далёка ідзе, а кепская яшчэ далей ляціць (А. Бялевіч. З азёрнага краю). Сурмілу ў Забор'і рэдка хто нават у твар бачыў, але, як кажуць, добрая слава далёка ідзе, а ліхая – яшчэ далей, таму вёска пасля столькіх дзён непрыемнасцей уздыхнула з палёгкаю: слава богу, застанецца Кунцэвіч, нават Пілшавічы прагаласавалі за Кунцэвіча (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

– *Янкоўскі*, с. 186: Добрая слава далёка чуваць, а кепская яшчэ далей.

**Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць**. *Добрае пра чалавека можа застацца і невядомым, а дрэнная слава распаўсюджваецца хутка. Ужываецца як адмоўная ацэнка чаго-, каго-н. дрэннага.* **Сін**.: *Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ*

*далей; Добрая слава далёка ідзе, а кепская яшчэ далей <ляціць>.* Ігар Леанідавіч задумаўся. Атрымліваецца, як у той прымаўцы: добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць. Да сакратара парткама дайшло (І. Скарынкін. Рэзерв камбата).

– *Раманаў*, с. 312: Харошая слава ў лукошцы ляжыць, а худая па дарожцы бяжыць.

**Добрую траву (травіну) людзі сеюць, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца**. *Ужываецца як здзіўленне і абурэнне кепскімі ўчынкамі якіх-н. людзей.* Загад ёсць загад, служба ёсць служба. І калі на плячах пагоны міліцэйскія, які можа быць сумнеў?! Так краіну да пустога канца давесці можна. Не, правільна ў нашай вёсцы казалі: добрую травіну людзі сеюць, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца... (Я. Рагін. Выбіраю радзіму...). Добрую траву чалавек сее, а дрэнная чорт ведае, адкуль бярэцца. У гэтым неаднойчы пераконваешся, размаўляючы з цяжкімі падлеткамі, іх гора-бацькамі, для якіх чарка даражэй за сваё дзіця (А. Гук. Адзін дуб у полі – не лес).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 430: Добрую траву чалавек сее, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца; *Сцяшковіч*, с. 589: Добру траву людзі сеюць, а дрэнная сама расце.

**Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты) не выганіць у такую нягоду (у такое надвор'е, у такі дзень)**. *Кажуць таму, хто ў вельмі дрэнную пагоду хоча ісці куды-н. ці прыйшоў адкуль-н.* Куды ты паедзеш? Паглядзі, што робіцца на двары? Дзвярэй нельга адчыніць. Добры гаспадар сабаку з двара не выганіць у такі дзень (І. Шамякін. Завіруха). Ну і дождж!.. Агонь то весела патрэскваў, то ўздыхаў з парывамі ветру. «У такое надвор'е добры гаспадар, – казала мая маці, – і сабаку з хаты не выганяе» (М. Танк. Лісткі календара). – Як жа ты дабраўся? – запытаў Ляўкоў. – Гэта ж добры гаспадар у такую нягоду і сабаку не выганіць (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). – Прымайце, людзі добрыя, малайца Сцяпана Песляка-ўдальца! – Як жа не прыняць? Добры гаспадар у такое надвор'е і сабаку з двара не выганіць. Праходзьце да печы, абагрэйцеся ды за стол сядайце! – замітусілася Бянігда Іванаўна, спрытна вымаючы на прыпечак чыгун з гарачай капустай (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 56: У паганую пагоду добры хазяін і сабаку з двара не гоніць.

**Добры гаспадар не толькі ў жываце, а нават у ботах вады не любіць.** *Жартоўнае выказванне перад выпіўкай пра перавагу*

*гарэлкі над вадой.* З радасці, што сустрэліся з сваім чалавекам, Панас і Тарас, згодна прыказцы, што добры гаспадар не толькі ў жываце, а нават у ботах вады не любіць, пачаставаліся з Арцёмам квартаю гарэлкі... (В. Ластоўскі. Прыгоды Панаса і Тараса).

**Добры дзень пазнаецца з раніцы**. *Пагодлівы дзень пазнаецца па пунсовым колеры ранішняга сонца.* Бліснула ранішняе сонца, і ён выехаў у поле. «Добры дзень пазнаецца з раніцы», – прыгадаў прымаўку дзеда Кірылы. Любіў стары зямлю (У. Гніламёдаў. Вяртанне).

**Добрымі (харошымі) намерамі выслана (вымашчана, высцелена) дарога ў пекла**. *Функц. не зам. Добрыя намеры не заўсёды ператвараюцца ў рэальнасць, у добрыя вынікі гэтых намераў.* Сапраўды, ці думаў і ці сніў [Ц. Гартны], збіраючыся будаваць новую вольную Беларусь, чым скончацца ягоныя добрыя намеры?.. Нездарма людзі кажуць, што добрымі намерамі выслана дарога ў пекла (Г. Тычка. Янка Купала і савецкая ўлада). Не святыя гаршкі лепяць – падвучыцца, паможам. Харошымі намерамі дарога ў пекла вымашчана. Справа скранулася з месца не дзякуючы «пяцідзесяцітысячнікам». Яны даволі хутка пакідалі калгасы... (У. Паўлаў. Бог чуе таго, хто плача). Толькі не будзем забываць пра вядомае выслоўе, паводле якога добрымі намерамі вымашчана дарога ў пекла. Ідэалізаванне сітуацыі, празмерны рэалізм Орліка ў сапраўднасці слаба ўвязваліся з рэальнасцю (А.А. Марціновіч. Мяцежнік з гетманскай булавою). Ім ставілася задача выбіць праціўніка з горада. Ні менш ні больш. Ажно, бачыш... Добрымі намерамі дарога ў пекла высцелена... (В. Якавенка. Пакутны век).

– Калька з англійскай мовы. Мяркуюць, што аўтарам гэтага афарызма быў англійскі пісьменнік С. Джонсан (1704–1784).

**Добры пачатак – палавіна справы**. *Функц. не зам. Кажуць з задавальненнем, калі паспяхова пачалася якая-н. справа.* [Краскін:] Ну, таварыш камандзір, першы крок для фарсіравання Прыпяці зроблен – дарога да яе пралажана. [Шалёхін:] Ну, а далей што? [Краскін:] Добры пачатак – палавіна справы, таварыш камбат (Я. Колас. У пушчах Палесся). Даўно сказана, што добры пачатак – палавіна справы. Ва ўсім – вялікім, малым, самай найменшай дробязі. Важна толькі ўдала пачаць, зрушыць з месца, а там – паказвай кірунак, не разгубіся перад цяжкасцямі, што сустрэнуцца на дарозе... (В. Праскураў. Святая сівізна).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 177: Добры пачатак – палавіна справы.

**Добры певень тлусты не бывае**. *Пра хударлявага мужчыну, здатнага да любошчаў. «*Не гаварыце, Гафір Сабіравіч, не кожны ваш брат аднолькавы. Вось Георгій мой дрэнна есць. Таму і худы такі...» «Нічога, як кажуць у народзе: добры певень тлусты не бывае». Жарт Шэфікава праглынулі моўчкі. І самому яму стала няёмка (Л. Прокша. Урок любві і нянавісці).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 275: На добрым петуху мяса не расце.

**Добры сусед раднейшы за роднага брата. –** А вы хто? – Блізнюк, сусед ваш. – Добры сусед, кажуць, раднейшы за роднага брата. – А мы зараз праверым, – узрадаваўся Блізнюк, што ў галаве мільганула нейкая цудоўная думка (Я. Ермаловіч. Малады старшыня).

* Вяртаючы патэльню, напрыклад з 2–3 аладкамі, гаспадыня паказвае сваю падзяку. А гэта садзейнічае падтрыманню добрых адносінаў з суседзямі, якія, як вядома, бліжэй за родзічаў (Звязда. 2001, 14 жн.).

**Добрыя весці, калі запрашаюць есці**. *Гаворыцца як удзячнасць суразмоўніку за запрашэнне есці.* – Сядай, вып'ем разам. – Добрыя весці, калі запрашаюць есці, – адказаў Пыхаў. – Але ўсяму свой час (К. Мохар. Апошнія дні).

– *Выслоўі*, с. 157: Харошыя весці, калі запрашаюць есці.

**Добрыя вочы дыму не баяцца**. *Абраза, паклёп і пад. не прынізяць сумленнага, невінаватага чалавека.* **Сін**.: *Бруднае да чыстага не прыстае.* – І цяпер, Рыгор, мы дачакаліся аддзякі! Што ж, – Дар'я кінула на сваяка непрыязны позірк. – Пляці, нябога, што хочаш. Толькі добрыя вочы дыму не баяцца! (В. Якавенка. Пакутны век).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 256: Добрыя вочы дыму не баяцца.

**Добрыя рэчы ляжаць на печы**. *Гаворыцца пра звычай класці якія-н. прадметы на печ.* Ашчадная гаспадыня магла закідваць (класці) на печ тыя старыя рэчы з хатняга ўжытку ці з вопраткі, якія яшчэ маглі спатрэбіцца, «як знойдзеш потым, калі прыцісне». Нездарма ў народзе гаварылі: «Добрыя рэчы ляжаць на печы» (А. Ненадавец. Печ і грэе і аберагае).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 212: Добрыя рэчы ляжаць на печы.

**Дождж ідзе не тады, як (калі) просяць, а тады, як (калі) жнуць ды (і) косяць**. *Гаворыцца з незадавальненнем пра дажджлівую пагоду ў жніво ці ў касавіцу.* У самы разгар касьбы раптам пайшоў дождж. Мусіць жа, недарэмна кажуць, дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць. Потым, праўда, крыху праяснілася. Нават сонца паказалася. Але ненадоўга (І. Сіняўскі.

Лугі не ўсе пакошаны). – Ты лепей раскажы, што там за варотамі? – Там дождж. – Гэта мы самі бачым і чуем. І ведаем: дождж не тады ідзе, калі просяць, а тады, калі жнуць і косяць (Я. Сіпакоў. Гумно). **Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць**. – Штосьці я вас, дзядзька Пятрок, не разумею... – падышоў Лёня да тэлевізара. – Ач ты, дождж на заўтра сказалі... – Ага... Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць (П. Місько. Градабой).

* Дождж кажа: «Не пайду туды, дзе просяць, а туды, дзе косяць; не пайду, дзе ждуць, пайду, дзе жнуць» (Я. Колас. Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле).

– *Раманаў*, с. 295: Дождж не там ідзець, дзе просяць, а дзе сена косяць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 54: Дождж не тады ідзе, як просяць, але тады, як косяць; Дождж ідзе не тады, калі просяць, а калі жнуць і косяць; Не тады дождж, як ждуць, а тады, як жнуць.

**Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць**. *Гл.* Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць.

**Доля як стадоля, а шчасце як заезджая карчма**. *Пра нешчаслівую долю.* Доўга не засынаў. А прачнуўся з прымаўкай, хутчэй за ўсё мамінай: «Доля – як стадоля, а шчасце – як заезджая карчма». Тут яшчэ трэба думаць, што да чаго... (Я. Брыль. Парастак).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 420: Доля, мая доля, шчасце як таўкач; *Федароўскі*, с. 79: Доля як бандоля, а шчасце як мушкет.

**Дома і вуглы памагаюць**. *Гл.* У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы памагаюць.

**Дома і салома ядома**. *Дома, у прывычных абставінах жыць лягчэй, чым дзе-н. у іншых умовах. Ужываецца звычайна тады, калі гаворыцца пра харчаванне, ежу.* **Сін.:** *Хоць еш крапіву і салому, але пры дому.* Вазьмі яшчэ гэты кавалачак, сынок, вазьмі! Мы тут як-небудзь, а табе трэба вучыцца, трудзіць мазгі. Бяры, не глядзі на нас... Мы дома. А дома і салома ядома (У. Дамашэвіч. Студэнты апошняга курса). – А вы з чым застаняцеся? – Уладзік, мы параб’ёмся. Мы ж дома. А дома і салома ядома, казаў мой бацька (І. Шамякін. Сатанінскі тур). Ды саўладаць можна з думкамі горкімі не на чужыне, а дома: там і акно мамы свеціцца зоркаю, там і салома ядома... (С. Законнікаў. Развітанне з Італіяй).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 288: Дома і салома ядома, а на чужыне і гарачы тук стыне.

**Дорага лыжка к абеду**. *Гл.* Дарагая (дорага) лыжка к абеду.

**Дораг той куток, дзе абрэзалі пупок**. *Гл.* Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі пупок.

**Доўг не вяроўка, ззаду не цягнецца.** *Кажуць, супакойваючы таго, хто перажывае з-за немагчымасці вярнуць, аддаць пазычанае.* Маці як пазычыць грошы і не можа іх у час аддаць, непакоіцца ўсё. А бабуля ёй: «Доўг не вяроўка, ззаду не цягнецца» (С. Лобач. Горкую лілею пакашу...).

**Доўг не вяроўка, не парвецца**. *Доўг (пазычанае) трэба вяртаць.* [Кудрачок:] А мяне чорт штурхануў – захацеў пабагацець. Узяў казённыя грошы, звязаўся з гандлярамі, – абяцалі барыш, атрымаўся шыш. Ледзь у астрог не трапіў. Вось пан Пшэбыеўскі і даў – і купіў мяне з вантробамі. [Несцерка:] Тае бяды. Доўг – не вяроўка, не парвецца. [Кудрачок:] Не вяроўка, а шыя ў пятлі. Не проста ён грошы даў – прыглянулася яму мая дачка – Кацярына. Патрабуе замуж за сябе (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 485: Доўг не вяроўка – не парвецца.

**Другіх слухай, а сваім розумам жыві**. *Гл.* Людзей (другіх) слухай, а свой розум май.

**Другіх слухай, а свой розум май**. *Гл.* Людзей (другіх) слухай, а свой розум май.

**Дружба дружбай, а служба службай**. *Сяброўскія адносіны не павінны ўплываць на службовыя.* [Цесакоў:] Вы ж казалі, што ён ваш стары друг. Яшчэ ў камсамоле разам былі. [Глуздакоў:] Дружба дружбай, а служба службай (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце). – Хто гэта так службу нясе? – Даруй, дзядзька Дзяніс, – ідучы поруч з вазком, прасіў юнак. – Не. Дружба – дружбай, а служба – службай (І. Гурскі. У агні). Андрэй жа сёння, можна сказаць, уратаваў Сяславіна ад смерці... Гэты довад Андрэю было сорамна выстаўляць нават перад самім сабой – ён быў сумленны чалавек і разумеў, што, як кажуць, дружба – дружбай, а служба – службай (А. Марціновіч. Няхай ідзе дождж). Дружба дружбай, а служба службай... Не я ўводзіў правіла для завуча, каб гаварыць пра ўрокі, не я гэта буду зводзіць... (Г. Далідовіч. Завуч).

– *Насовіч*, с. 37: Дружба дружбаю, а служба службаю; *Прыказкі*, кн. 1, с. 359: Дружба дружбаю, а служба службаю.

**Дружба, дружба – цяжкая <твая> служба**. *Сапраўдная дружба – не лёгкая справа, заснаваная на агульнасці інтарэсаў, узаемнай прыхільнасці і яшчэ шмат на чым.* [Хазяінаў – падае руку Івану:] Трымай на дружбу. І чарвякоў капай. У пятніцу нанач едзем, месца

знаю... [Іван:] Няўжо на дружбу?.. [Хазяінаў:] На ўзаемную. [Ганна:] Дружба, дружба – цяжкая служба (А. Петрашкевіч. Соль).

– *Ляцкі*, с. 31: Ой, дружба, дружба, цяжкая твая служба.

**Дружба (прыяцель) пазнаецца ў няшчасці**. *Функц. не зам.* **Сін**.: *Сябры пазнаюцца ў бядзе.* [Лютынскі:] Я табе вельмі ўдзячны за твае пачуцці, хоць... людзі і кажуць, што дружба пазнаецца ў няшчасці (К. Крапіва. Канец дружбы).

– Калька з лацінскай мовы: *Amieus certus in re ineerta cernitur*. Цытата з трагедыі «Гекуба» рымскага паэта Энія (239-169 гг. да н. э.).

– *Федароўскі*, с. 249: У няшчасці прыяцеля пазнаць; Прыяцеля пазнаеш у няшчасці; *Прыказкі*, кн. 1, с. 381: У бядзе друга пазнаюць.

**Дрэнны той салдат, які не хоча стаць генералам**. *Ужываецца і не толькі ў дачыненні да салдата.* **Сін**.: *Кожны салдат носіць у ранцы маршальскі жэзл.* – Ары і сей... добрае, вечнае. Згадзіся, што ні Талстым, ні Чэхавым ты не станеш, але нейкую нізку засееш. І гэта – подзвіг. Дрэнны той салдат, які не хоча стаць генералам (І. Шамякін. Выкармак).

* – Ваша задача – залатая сярэдзінка [на спартыўных спаборніцтвах], – сказаў Фядзько ў выканкаме. – Чым можам – паможам. – Я іншага месца, акрамя першага, не прызнаю, – адказаў Эдуард Цімафеевіч. На яго паглядзелі як на дзівака. Але дрэнны той салдат, які не носіць у кішэні пагоны генерала, разважала начальства, хай працуе, хай стараецца (В. Шырко. Фізкульт – ура, ура!).

– Паўкалька з рускай мовы. У кнізе А.Ф. Пагоскага (1816-1874) «Салдацкія заметкі» (1855) сярод афарызмаў, складзеных на ўзор прыказак, даецца і такі: «Плох тот солдат, который не думает быть генералом, а ещё плоше тот, который слишком думает, что с ним будет». Ужо як прыказка ў форме «Худой солдат, который не надеется быть генералом» яна прыводзіцца ў «Тлумачальным слоўніку жывой велікарускай мовы» (1863-1866) У.І. Даля.

**Думай звечара, а рабі зранні**. *Пра неабходнасць абдумаць што-н., перш чым прыняць пэўнае рашэнне.* [Галя:] Навошта мне ваша месца? Мне і льнаводкай добра. [Баркун:] Ну, пайду. Заўтра спытаю ў старшыні. Як мой дзед гаварыў: думай звечара, а рабі зранні. Пайшлі (Л. Левановіч. Ці любіце вы грэчку?).

– *Янкоўскі*, с. 247: Думай звечара, а рабі зранні.

**Думкі за гарамі, а смерць за плячамі**. *Гаворыцца звычайна пра старога чалавека, які, не зважаючы на, магчыма, блізкую смерць, выказвае шмат задумак, памкненняў і пад.* Нягледзячы,

аднак, на няўхільнасць смерці і на тое, што часамі думкі за гарамі, а смерць за плячамі, усё ж такі – жывому наўме жывое (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). Праўду кажу, мне заўсёды памагае, калі паляжу на зямлі. Але не тым разам. Ой, зазнала я тады бяды. Думкі за гарамі, а смерць за плячамі. Галава звінела, як пусты качан... (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

* Яно так. Ты, можа, і ўбачыш [папараць-кветку], а я ўжо не. Кажуць: думы за морам, а яна за плячыма (А. Кажадуб. Лесавік).

– *Насовіч*, с. 38: Думы за гарамі, а смерць за плячамі; *Ляцкі*, с. 11: Думкі за гарамі, а смерць за плячамі; *Прыказкі*, кн. 2, с. 416: Мысль за гарамі, смерць за плячыма; Дума за марыма, а смерць за плячыма.

**Дум не скуеш ланцугамі**. *Функц. не зам. Мысленне, думкі чалавека не могуць быць падуладнымі каму-н.* «Дум не скуеш ланцугамі», – Купалавы словы, што былі ці не заўсёднымі ў вуснах Ф. Ждановіча ў спрэчках па надзённых пытаннях тэатральнай творчасці (Б. Бур'ян. Купалаўцы – любоў мая).

– Паходзіць з паэмы Я. Купалы, дзе гусляр кажа князю: «Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць, – не скуеш толькі дум ланцугамі».

– *Ліцвінка*, с. 140: Дум не скуеш ланцугамі.

**Дурань дурнем і вушы халодныя**. *Праст. Гаворыцца як асуджэнне каго-н. за дзівацкія, неразумныя дзеянні, паводзіны.* [Бацька:] Ты не разумееш! За гэтую бомбу можна пяць машын купіць! [Маці:] Дурань дурнем і вушы халодныя! Як ты мог?! Ты хоць пра дзяцей сваіх падумаў бы!.. (З. Дудзюк. Заложнікі шчасця). – Нічога я рабіць не буду. Не бачу сэнсу. Мая задача – зрабіць прозу. – От, дурань ты, Лёшка, і вушы халодныя! Цябе б увесь клас на руках насіў. – Не трэба мяне насіць, я сам хаджу, – адказаў Лёшка ўжо сур'ёзна (В. Гапееў. Лёшкава каханне).

**Дурань (дурны) дае, разумны бярэ**. *Кажуць, калі каму-н. лёгка дастаецца прыдбаць штосьці.* [Пан:] Дасканала. Згодзен... Бяры панскую вопратку. [Несцерка, убок:] Дурны дае, разумны бярэ. [Пан:] Што? [Несцерка:] Прыгожае адзенне, кажу (В. Вольскі. Несцерка).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 238: Дурань дае, разумны бярэ.

**Дурань не той, што спатыкаецца, а той, хто на тым жа месцы двойчы робіць гэта**. *Кажуць з асуджэннем пра таго, хто неаднойчы робіць аднолькавыя памылкі, праступкі, злачынствы.* [Аляксей Данілавіч:] Маральна апраўданы тэрор – што можа быць страшней за гэта? [Пагасаў:] Урокі мінулага. Праўду кажуць, ду-

рань не той, што спатыкаецца, а той, хто на тым жа месцы двойчы робіць гэта (І. Чыгрынаў. Чалавек з мядзведжым тварам).

**Дурань чырвонаму (з чырвонага) рад**. *Праст. Ужываецца як выражэнне насмешлівых ці жартоўных адносін да таго, каму падабаюцца прадметы чырвонага колеру.* Ласы карэйцы на ўсялякія чырвоныя стужкі – чырвонаму, кажуць, кожны дурань рад (Я. Лёсік. Хто вінавайца вайны).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 245: Дурань чырвонае любе; Дурань – варона, любіць чырвона; Дурань заўсёды краснаму рад; Дурань з чырвонага рад.

**Дурная помач горш за немач**. *Адмоўная ацэнка чыёй-н. дапамогі, паслугі, вынікі якой даюць не карысць, а шкоду.* А колькі прыйдзецца папацець, каб адмяніць старыя і выпрацаваць новыя і талковыя законы, бо дурная помач горш за немач?! (В. Гроднікаў. Непаднятая цаліна).

– *Насовіч*, с. 38: Дурная помач хужы немачы.

**Дурная справа няхітрая**. *Гл.* Дурное дзела няхітрае.

**Дурное дзела няхітрае**. *Гаворыцца з асуджэннем пра дрэнную, непрыемную справу, выкананне якой не патрабуе ніякай кемлівасці, умельства.* Аляксей схапіў сякеру і ўжо хацеў адбіваць цэлы пралёт плота ад вуліцы. – Стой!.. Дурное дзела няхітрае... Дазваляю адбіць дзве планкі (П. Місько. Самыя кароткія ночы). – За ноч паспяваў прыгалубіць каторую, кухталёў атрымаць, натанцавацца і да раніцы дадому вярнуцца. – Дурное дзела – няхітрае, – па-свойму пахваліў начальніка яго падначалены (У. Саламаха. Там, дзе самота і радасці...). – Сазонавіч, папрасі ў Эмількі бутэльку. Мне яна не дасць. А табе не пашкадуе. – Не, Кузьміч, хопіць. Мы з табой ужо назбіраліся. Як жаба гразі. Дурное дзела... не хітрае... Сядзь во лепей, пасядзі (Л. Леановіч. Чабор). – Гэтыя шлёмы [будзёнаўкі], запомніце, мастак яшчэ адзін выдумаў, іхні, рускі – Васняцоў быў такі! І прыдумаў даўно, пры Мікалаі яшчэ, і нарабілі іх мо мільёны, а тут рэвалюцыя – вось бальшавікі і прысвоілі... – Ну дык! – Дурное дзела няхітрае! – падтрымалі дзядзьку – старога салдата. – Гэта ж не шыць, а зрывай замкі, грабі награбленае, як яны кажуць!.. (А. Федарэнка. Нічые). **Дурная справа няхітрая**. – Цябе тады [Люська] перад генералам апраўдала, дык ужо і справядлівая. – А што ж – і апраўдала. Уратавала. Калі б не яна – расстралялі б за нішто. Дурная справа – не хітрая. Шлопнулі б, і ўсё... (В. Быкаў. Трэцяя ракета).

– *Прыказкі*, кн.2, с. 319: Дурное дзела не хітрае.

**Дурной бабе і галава мяшае**. *Праст. Кажуць пра жанчыну, калі яна гаворыць штосьці недарэчнае.* – Што ты мне пра старых расказваеш? – нерваваўся бацька. – Трэба наперад глядзець! – Ты наперад глядзеў, як цябе з работы здымалі... – Цьфу, праўду кажуць – дурной бабе і галава мяшае... – бацька ідзе ў залу, але хутка вяртаецца зноў (А. Кажадуб. Гарадок).

– *Прыказкі*, кн.2, с. 78: Дурной бабе і галава мяшае.

**Дурному закон не пісан**. *Гл.* Дурню (дурному, дурням) закон не пісан (-ы).

**Дурны дае, разумны бярэ**. *Гл.* Дурань (дурны) дае, разумны бярэ.

**Дурню (дурному, дурням) закон не пісан (-ы)**. *Дурань не лічыцца з агульнапрынятымі правіламі, нормамі паводзін.* – Выклікае мяне дырэктар і кажа: «Забірайце [дзіця], іначай у калонію здадзім». А дурны такі, як пень. – Хто? Дырэктар? – Ну. Я і падумаў: дурню закон не пісан. Возьме і здасць. Шкода яму чужога? (Я. Ермаловіч. Зазімак). [Аўлас:] Эх, Аўлас, Аўлас... Мала цябе сцёбалі па адпаведных мясцінах і ў адпаведны час... А трэба было выбіваць дурасць. Дурню закон не пісаны... (А. Макаёнак. Выйгрыш). [Лесік] быў незвычайна дужы і, калі здаралася бойка, біўся жорстка, зацята. Апроч таго, за маўклівую панурасць, нелюдзімасць яго лічылі крыху ненармальным. А дурням, як вядома, закон не пісаны (І. Клімянкоў. Жабятон).

– *Насовіч*, с. 39: Дурному закон не пісан; *Прыказкі*, кн. 2, с. 251: Дурному закон не пісан.

**Дурня і ў царкве б'юць**. *Дурню нідзе не даюць спуску.* Калі трэба рашаць што важнае, без гэтага ніяк нельга. Трэба з розумам: дурня і ў царкве б'юць (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму).

* [Сямёнаўна:] Фарбу прыбяры, а то будзе, як тады. [Генадзь:] А што было тады? [Сямёнаўна:] Тады спёрлі тры банкі і не аддалі. [Генадзь:] Аблавухіх, кажуць, і ў царкве б'юць (А. Петрашкевіч. Укралі кодэкс).

– *Насовіч*, с. 39: Дурнога і ў царкве б'юць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 245: Дурнога і ў царкве (у касцёле) б'юць.

**Дурням закон не пісан**. *Гл.* Дурню (дурному, дурням) закон не пісан (-ы).

**Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца (вырастаюць)**. *Гаворыцца звычайна як ацэнка чыйго-н. промаху, недарэчнага ўчынку і пад.* Вера глядзіць на Зосю і тыкае сабе пальцам у лоб. – Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца, – ціха кажа Гарбач (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

* Дзіва, кайзеру патрэбны будуць халуі... Здраднікаў не сеюць і не жнуць, яны самі родзяцца (І. Гурскі. Вецер веку). І ёсць жа гэткія ахламоны, не пераводзяцца. Нездарма людзі кажуць: дурняў не сеюць і не жнуць, яны самі растуць... (В. Гігевіч. Палтэргейст). – Я чуць не самлела, калі ўбачыла цябе на хісткіх рыштаваннях са стамескай. Зявак натоўп сабраўся. Душу раздзіралі каментарыі некаторых. Смяяліся людзі. – Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі вырастаюць... Я ганебнае што рабіў, калі на пні выразаў цэлую казку?.. (І. Шамякін. Бумеранг).

– *Насовіч*, с. 39: Дурняў не сеюць, а самі родзяцца; *Федароўскі*, с. 85: Дурняў не сеюць, не гаруць: яны самі родзяцца.

**Душа <чалавека> не кажух, не вывернеш**. *Цяжка зразумець душэўны стан, намеры, настрой, паводзіны якога-н. чалавека*. **Сін**.: *Чужая душа – пацёмкі.* Чаму ён такі сумны? З ім штосьці робіцца, гэта ясна, але як ты заглянеш у чужую душу? Душа не кажух, не вывернеш. Па вачах, па твары відаць, што жыццё ў Арсеня нялёгкае (І. Гурскі. У агні). – А-а-а, – успомніў Максім, – я яго, рыбалова, ведаю. А ўсё ж трэба асцерагацца... Душа чалавека не кажух, не вывернеш... (Маладосць. 1971. № 7).

– *Янкоўскі*, с. 162: Душа чалавека не кажух, не вывернеш.

**Дыму без агню не бывае. 1.** *Гаворыцца ў дачыненні да дыму.* [Галілей:] Цыркулярную печку раблю, цыркуляцыя, значыцца, духу. Хачу, каб без дыму. Дым цеплыню з хаты выносіць, Марына Паўлаўна. [Марына Паўлаўна:] Дыму ж без агню не бывае, дзядзька Ахрэм (М.Зарэцкі. Сымон Карызна). Нядрэнныя Брандмайстар вочы мае: надоечы здалёк убачыў ён дымок, а дыму ж без агню, напэўна, не бывае. – Пажар! Пажар! – сігнал трывожны. – Гарыць! Скарэй! Гарыць! (К. Крапіва. Пажар).

**2.** *На ўсё ёсць свая прычына; без прычыны нічога не бывае. Гаворыцца тады, калі распаўсюджваюцца якія-н. чуткі.* **Сін.:** *Каб не было снегу, не было б і следу.* Прыпісалі б яе мужу любую другую жанчыну, у Валянціны Андрэеўны, магчыма, яшчэ ўзніклі б нейкія падазрэнні: не бывае дыму без агню. Але Маша... (І. Шамякін. Сэрца на далоні). – Не разумею. Адкуль гэта пайшло? – Паважаны Пётр Фёдаравіч, дыму без агню не бывае. Так? Недзе нешта нейкае выткнулася. – Вера Данілаўна, вы паверце мне: з майго боку – нічога (Я. Ермаловіч. Валуны). Цяпер ужо бачылі галоўнае, новая ўлада – свая. Калі што і не так, можна пацярпець. Маўляў, усяе падаплёкі вывезеных і пакрыўджаных я не ведаю, але дыму без агню не бывае (А. Карпюк. Хроніка майго пакален-

ня). Цяпер ён [Вадзік] ужо не сумняваўся, што зласлівая субяседніца па тэлефоне сказала праўду. Дыму без агню не бывае (У. Навумовіч. Крапіўная жонка).

* Адны яго [Івана] шкадуюць і дзівяцца – каму ўсё гэта трэба, а другія кажуць, што дыму без полымя не бывае (А. Петрашкевіч. Соль).

– *Федароўскі*, с. 7: Не бывае агню без дыму; *Янкоўскі*, с. 186: Дыму без агню не бывае.



**Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень**. *Гаворыцца як папярэджанне, што ў дарозе ўсё можа здарыцца і лепш мець харчы ў запасе.* Згодна прыказцы – едзеш на дзень, а хлеба бяры на тыдзень – добры гаспадар без адпаведнага запасу ежы ў дарогу ніколі не выбіраецца (В. Ластоўскі. Прыгоды Панаса і Тараса). «Трымай, Васіл, гэта ваша падмога. Тут тэрмас з кавай, пара бутэрбродаў і кавалак дзічыны. У дарозе пойдзе за маліну». Калатай ускінуў сабе заплечнік, і яны ўжо гатовы былі рушыць. «Едзеш у дарогу на дзень – бяры хлеба на тыдзень», – успомнілася Калатаю старая беларуская прымаўка. Добра, хай вісіць заплечнік, будзе трохі цяплей і спіне (У. Дамашэвіч. Фінская лазня...).

* – Навошта ты, маці, гэтулькі кладзеш? – Ты, бацька, мяне заўсёды вучыў: ідзеш у дарогу на дзень, бяры есці на тыдзень (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 241: Едзеш на дзень – бяры хлеба на тыдзень; Едзеш на дзень, а харчоў бяры на тры дні.

**Еду ціха – са мной ліха, еду скора – са мной гора**. *Гаворыцца як адмоўная ацэнка свайго жыцця, становішча.* – А вы ўсё ж не расказалі пра сваё жыццё.. – Еду ціха – са мной ліха, еду скора – са мной гора, – прагаварыў Касач (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Ляцкі*, с. 11: Еду ціха – са мной ліха, еду скора – са мной гора; *Прыказкі*, кн. 1, с. 453: Паедзеш ціха, тут ліха, паедзеш шпарка, ад ліха варка; Еду ціха – са мной ліха, еду скора – са мной гора.

**Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся**. *Усё будзе добра і цябе не зачэпяць, калі сам будзеш асцярожны і далікатны.* Трэба быць пакорлівым і далікатным у абыходжанні: «З паклону галава не баліць», «Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся» (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Насовіч*, с. 191: Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся.

**Еш боршч з грыбамі, а язык трымай за зубамі**. *Гл.* Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі.

**Еш, дурань, бо то з макам**. *Праст. Гаворыцца як пабуджэнне да чаго-н. непрыемнага.* Забыцца мне пра цётухну пара, бо ўжо даўно яе аплакаў, але ў жыцці я чуў яшчэ не раз: «Еш, дурань, бо то з макам!» (К. Крапіва. Еш, дурань, бо то з макам). – Аладкі з’ясі. Анэльчыны, з макам. – Еш дурань, бо то з макам... Не забыўся полацкай прымаўкі?.. – Памятаю... (А. Петрашкевіч. Прарок для Айчыны). Маўчы, жывёліна, і не пікні! Еш, дурань, бо то з макам!.. Нічога не скажаш, любімая дык любімая, народная дык народная ўлада! Ашчаслівіла!.. (Г. Далідовіч. Заходнікі).

* Немцы пішуць загады, колькі беларускі селянін павінен здаць кароў, капчонага мяса, сала... [Партызаны:] Вы хочаце сала? А чаму б вам не паспытаць партызанскага бобу! – І як секануць з кулямётаў ды аўтаматаў па нямецкіх эшалонах ды калонах, з тых аж пыл і дым ідзе, як з тае кацельні... Партызаны пастрэльваюць ды прыгаворваюць: – Ешце, фрыцы, бо то з макам! (М. Лынькоў. Ешце, фрыцы, бо то з макам!). Пан падкінуў ласунак угару. Мішка хацеў адбіць пернік, але прамахнуўся, злосна зароў і падняўся на заднія лапы. – Еш, дурань, то з мёдам! – выгукнуў Радзівіл (І. Гурскі. Саўка Траян).

– *Насовіч*, с. 190: Еш, дурань, бо то з макам; *Выслоўі*, с. 178: Еш, дурань, бо то з макам.

**Еш з голаду, <а> любі з моладу**. *Усё павінна рабіцца ў свой, пэўны час. Звычайна гаворыцца ў дачыненні да кахання.* «Двадцать первая весна расцветает у окна... Я опять брожу одна...» Пасля той прыгажэннай, 21-й вясны неўпрыкмет праляцела 22-я, 23-я, 24-я... Потым – 31-я... Апошняй жа, мо не вельмі арганічнай, але ж здольнай яшчэ «ўпісацца» можа 45-я. А далей – усё.. Тады ўжо позна не спаць, позна шукаць, позна марыць... Еш (людзі кажуць) – з голаду, любі – змоладу. І дай бог не інакш! (Звязда. 2005, 24 мая).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 13: Еш з голаду, а любі змоладу.

**Еш, пакуль рот свеж.** *Гл.* Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.

**Еш пірог (боршч) з грыбамі, а язык трымай за зубамі**. *Не гавары нічога лішняга.* Вось і глядзі сабе, чалавеча. І нічога ты не бачыў, і нічога ты не чуў... Еш боршч з грыбамі, а язык трымай за зубамі... (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім). Апрануўшыся, Максімавіч уважліва і строга паглядзеў на кампаньёнаў. – Толькі

міліцыі пра мяне ні гу-гу. І ваабшчэ... Еш пірог з грыбамі – трымай язык за зубамі (Маладосць. 1989. № 6).

– *Насовіч*, с. 191: Еш пірог з грыбамі, ды дзяржы язык за зубамі; *Прыказкі*, кн. 2, с. 465: Еш капусту (капустачку) з грыбамі, дзяржы язык за зубамі.

**Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны**. *Праст. Гаворыцца іранічна як рэакцыя на чые-н. прымусовыя дзеянні рабіць што-н. насуперак свайму жаданню.* Праўда, вытрымліваць такія цырымоніі, ды яшчэ два разы на дзень, цяжкавата. Рабіў спробу выкруціцца – дарэмна! Хоць плач, а мыйся. Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны – здзекуецца кплівая прыказка (М. Лужанін. Рэпартаж з рубцом на сэрцы).

**Еш хоць расперажыся, але і (толькі) працаваць не лянíся**. *Часцей дастасоўваецца да таго, хто не надта ахвочы да працы.* У нас, на Віцебшчыне, кажуць: «Еш хоць расперажыся, але і працаваць не лянíся». Гэтую спаконвечную народную мудрасць столькі гадоў разбурала «прымусоўка», праца за «палачку» (С. Законнікаў. Ліёнскі тыдзень).

– *Янкоўскі*, с. 263: Еш хоць расперажыся, толькі рабіць не лянíся.



**Ёсць на ваўку кажух, ды прышыты**. *Хацелася б каму-н. ажыццявіць што-н., але няма магчымасці дасягнуць жаданага.* **Сін**.: *Бачыць вока, ды зуб няйме; Блізка локаць, ды не ўкусіш; Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.* – Мэта ёсць у кожнага. Аднак... Ведаеце такую прыказку: ёсць на ваўку кажух, ды прышыты? – Не, не чуў... Гэта пра што – пра недасяжныя мэты? – Во-во, пра ўтапічныя. Я ж рэаліст, мне хочацца, каб добрыя хаты ў Валюхах стаялі (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

– *Прыказкі*, кн.1, с. 155: Ёсць на воўку кажух, ды прышыты.

**Ёсць хлеб – ядзім, а няма – глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра – не ведаем**. *Кажуць пра беднасць, нястачу і няпэўнасць у жыцці.* **Сін**.: *Дзень з алеем, а два (тыдзень) <так> галеем.* [Жораў:] Чаго ты жадаеш, дзед? Чаго табе ў жыцці не хапае? [Дзед:] Не хапае?.. Усяго, браток, не хапае. А жаданняў у мяне нямнога: каб нам з бабай галоднымі заўсёды не быць. Вось чаго я жадаю. Ды гэтага, мусіць, ніколі не будзе... Так і жывём, браце жораў:

ёсць хлеб – ядзім, а няма – глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра – не ведаем (В. Вольскі. Дзед і жораў).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 237: Ёсць хлеб – ядзімо, а няма – глядзімо.



**Жабрак жабраку відзён па кійку**. *Людзі, падобныя па якіх-н. звычках, якасцях, дасягаюць поўнага паразумення.* **Сін**.: *Рыбак рыбака бачыць здаляка; Сваяк сваяка пазнаў здаляка.* – Ну, вось бачыш, Янка, афарызм не горшы за шніцлераўскі. Толькі не зусім арыгінальны: нешта падобнае сказана ў Ібсена. – Ну, што ж, – сказаў спакойна Янка. – Жабрак жабраку відзён па кійку (Я. Колас. На ростанях).

– *Янкоўскі*, с. 213: Жабрак жабраку відаць па кійку.

**Жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом**. *Ужываецца як прымета народнага календара прыроды.* – Гэты [Зубкоўскі] у корань глядзіць! – адобрыў Крыгін. – Каму невядома, што жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў – з цяплом, а ластаўка – з лістом. Адным словам, на ўсё пара... (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя). Той, ранейшы чалавек, верыў у нябесныя і зямныя прыкметы, верыў у сонца і месяц, у вецер і дождж. Маладзік рогі задраў – на пагоду. Маладзік умываецца – то будзе непагадзь. Жаўранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, ластаўка з лістом.. Для таго чалавека амаль усе гэтыя прыкметы спраўджваліся, цяпер жа было не тое (А. Кажадуб. Лесавік).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 65: Жаўранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, ластаўка з лістом.

**Жаніся, каб дурні не звяліся**. *Гаворыцца звычайна як жартаўлівы адказ на прапанову жаніцца.* [Ракітны:] Жаніцца вам трэба – вось што. [Галубовіч:] Жаніся, каб дурні не звяліся, – кажуць людзі. [Ракітны:] Кажуць, а самі жэняцца. Кіруюцца больш мудрым правілам, каб людзі не звяліся (К. Крапіва. На вастрыі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 25: Жаніся, каб дурні не звяліся.

**Жонка (баба) у хаце тры вуглы трымае, а мужчына (мужык) адзін**. *Куды большая частка хатняй, гаспадарчай работы, клопатаў прыпадае на жонку, чым на мужа*. Я вам шчыра скажу: жонка была ў мяне залатая. Іншы раз галавы не падняць – трашчыць. Дык сама пабяжыць на нарад, сама работу вечарам у людзей прыме. Хоць бы ўжо на іншую работу не перлася, а то ж цэлы

дзень як выгнаная ў полі. Праўду, мабыць, людзі кажуць, што баба ў хаце тры вуглы трымае, а мужчына – адзін. Куды ні ткнешся – усюды яе поўна (П. Місько. Дзівак-чалавек). **Баба трымае тры вуглы гаспадаркі, а мужык – адзін вугал.** Устану, бывала, додня і праду. Гавораць, што «баба трымае тры вуглы гаспадаркі, а мужык – адзін вугал». А яшчэ: мы – людзі старога закалу (С. Лобач. Горкую лілею пакашу...).

– *Рапановіч*, с. 101: Жонка дзяржыць хату за тры вуглы, а мужык за чацвёрты.

**Жонка не лапаць, <абуўшы> з нагі не скінеш**. *Жонку нельга пакінуць, з ёй цяжка расстацца.* **Сін**.: *Жонка не рукаў, не адпораш.* Баба прыслала ліст, лае на чым свет стаіць, што дадому не еду. Нічога не зробіш. Жонка не лапаць, з нагі не скінеш (І. Гурскі. Вецер веку). Як казала Віталева бабка Зося, жонка не лапаць, з нагі не скінеш. Івану прыказка чамусьці не спадабалася (А. Кажадуб. Вяселле ў паўднёвым горадзе). Яму [Анісіму] раптам пачало здавацца, што ёсць шмат дзяўчат, куды вартнейшых, лепшых за Веру. Ды і чаго спяшацца?.. Жонка не лапаць, абуўшы, з нагі не скінеш... (Б. Сачанка. Дзік – бадзяга).

– *Насовіч*, с. 43: Жонка не бот – не скінеш; *Прыказкі*, кн. 2, с. 101: Жонка не лапаць – з нагі не скінеш.

**Жонка не рукаў (не рукаво), не адпораш**. *Жонку нельга пакінуць, з ёй цяжка расстацца.* **Сін**.: *Жонка не лапаць, з нагі не скінеш.* Даўно ўжо думка гэтая таўчэцца ў галаве: «Жонка – не рукаво, не адпораш... А маці, добрая маці маіх ненаглядных дзяцей, – якую пра гэта прыказку выдумаць?..» (Я. Брыль. Апошняя сустрэча). Сход пачуў, даведаўся: «па дарозе» ў гэтую новую ўстанову ён [Чарняеў] пакінуў жонку. Ірванула нервы сходу чарняеўскае «набыў новую сям'ю». Суседка, што сядзела побач са мною, за адным сталом, не сцярпела: «Людзі кажуць, што жонка – не рукаво, не адпораш. А тут...» (Ф. Янкоўскі. Толькі адно пытанне).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 101: Жонка не рукаў – не адпораш.

**Жуда бядзе не помач**. *Кажуць таму, хто плача або чым-н. расхваляваны, засмучаны.* **Сін**.: *Слязамі гору не паможаш.* – Не плач, Мар'я, – супакойвала яе маці. – Жуда – бядзе не помач (В. Якавенка. Пакутны век).

– *Насовіч*, с. 43: Жуда бядзе не помач.

**Жыве кот і жыве сабака**. *Не аднолькава, у розных матэрыяльных і іншых умовах жывуць людзі.* – Мае дзеці пражывуць і без навукі... – выгукнуў Яська. – Не ўсім жа быць вучоным. Жыву я,

пражывуць і мае дзеці... – Жыве кот і жыве сабака... – асекла яго жонка (В. Дайліда. Мне – пару слоў). **Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака**. «Але ж і пры Саветах жылі, і пры немцах, мабыць, жыць некаторыя будуць». «Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака». «А якой ты жыткі хацеў? Каб на руках цябе насілі, што заманулася, тое і падавай» (Б. Сачанка. Вялікі Лес). – Няўжо і табе надакучыла жыццё? – А што ты думаеш? Хіба гэта жыццё? Жыве кот, жыве й сабака, ды жытка ў іх не аднака (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча). **Жыве кот, жыве і сабака, але доля не аднака**. Каго ёй трэба было мець за зяця, яна і сама не ведала. Перажывала, аж начэй не спала. Што ёй здавалася тады? «Жыве кот, жыве і сабака, але доля не аднака, – казала Гарабініха. – Адзін на печы, другі – пад вуглом. Адзін, як цвет працвіце, а другі – як у ступе пратаўчэцца» (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 207: Жывецъ кошка, жывецъ і сабака; Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака; Жыве кот і сабака, ды толькі жытка не аднака: кот на пячы, сабака пад дзвярыма.

**Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака**. *Гл.* Жыве кот і жыве сабака.

**Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе – хто ідзе, той і скубе**. *Пра неспрыяльныя жыццёвыя ўмовы, трывожнае, неспакойнае ці адзінокае і без догляду жыццё.* Каму мы трэба, хто аб нас падумае... Жывём як той гарох пры дарозе – хто ідзе, той і скубе (М. Лынькоў. Журавель мой, журавель). – Дык як вы тут жывяце? – спытаўся ў аднаго з юнакоў Гацько. – Як гарох пры дарозе – хто ідзе, той і скубе, – адказаў хлопец (І. Гурскі. Чужы хлеб). Як я жыву, пан доктар? Я таксама па прымаўцы, як той гарох, што пры дарозе, хто йдзе, той і скубе (М. Клімковіч. Георгій Скарына). [Заціруха:] Ну і работка ў нас... Хто яе толькі выдумаў. Жывём, можна сказаць, як гарох пры дарозе, – хто ідзе, той і скубе (В. Зуб. Злавацца не трэба).

* А далей жыву, як гарох пры дарозе, хоць не даюся, каб усякі дурань мяне шчыпаў (Я. Купала. Да Б. І. Эпімах-Шыпілы). Удава магла знайсці апірышчы толькі ў сваіх крэўных. А калі гэтых крэўных не было, як у Насці, тады заставайся сам-насам са сваім горам. І недарма народ называў удоў і сірот гарохам пры дарозе: хто ідзе, той і ўскубне (І. Дуброўскі. Аддадзенае дзецям). З таго часу, як войны пачаліся, зваявалі нас, ляскі, літасці ніадкуль няма... Жывём як той гарох пры дарозе – кожны, хто міма ідзе, ушчыпне... (Б. Сачанка. Твор, які не магу скончыць).

– *Федароўскі*, с. 278: Сірочае жыццё як гарох пры дарозе: хто ідзе, той ускубне.

**Жывём, хлеб жуём**. *Жывём памаленьку. Часцей гаворыцца як адказ на пытанне: «Як жывеш (жывяце)?» Часам ужываецца як няпэўная характарыстыка жыцця.* – Ну, як жывеш? – адчуваючы маладосць, спытаўся я. – Жывём, хлеб жуём... (А. Карпюк. Данута). От вы пытаецеся, як жывём. Жывём, хлеб жуём, як той казаў, толькі нялёгка нам той хлеб даўся. Паваявалі мы са сваім балотам... (В. Палтаран. На зямлі Палескай). – Ну, як вы тут, хлопцы, жывяце? – А так, – не вельмі ветліва буркнуў Санька. А я дадаў: – Жывём, хлеб жуём (І. Сяркоў. Мы – хлопцы жывучыя). – Як жыццё-быццё, сусед?.. – Так сабе, не жалімся... Як гэта кажуць: жывём, хлеб жуём, часам з квасам, а іншым дзянькам з пчаліным мядком (В. Праскураў. Людзі-суседзі).

– *Федароўскі*, с. 368: Жывём, хлеб жуём.

**Жыві, Ярома, да смерці дома**. *Кажуць як рашучае адмаўленне пераязджаць куды-н. з родных мясцін.* – Пайшлі б да сына ці дачкі жыць, – раіць Валя. – Нікуды са сваёй хаты не пайду. Жыві, Ярома, да смерці дома, – сурова сказала Аўдоцця і павяла галавой (Т. Гарэлікава. Юр'еў дзень).

**Жывому (жывым) наўме жывое**. *Гаворыцца ў апраўданне таго, што думкі і дзеянні чалавека звязаны не з чым-н. іншым, а з жыццёвымі справамі, надзённымі інтарэсамі.* Каму на вусны смерць прыляпала пячаць, таму без руху спачываць. Ну, а жывым наўме жывое: злюбіліся ў сяле тым двое, ды вось бяда – няма каму звянчаць (К. Крапіва. Поп і Папугай). – Сараматніца, хоць бы настаўніцы пастыдалася, – абурылася Параняка. – Хіба ж не праўда? Жывому жывое наўме. А настаўніца хіба з другога цеста спечана? (С. Грахоўскі. Ранні снег). **Жывы пра жывое <і> думае**. У працэсіі ўжо лягчэй. Тут амаль заўсёды людзі як бы забываюць пра смерць і ўзнаўляюць размовы пра жыццё, пра надзённыя справы, не дарма мудра кажуць: жывы думае пра жывое (І. Шамякін. Крыніцы). – Ой, не кажэце, цётка, як чыя доля. – Мая доля жджэ мяне ў канцы поля. А вам, маладым, трэба жыць. Жывы ж пра жывое думае (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). – Вярнуліся сюды жыць? На пустэчу?! – Чалавек, дружа, такі: жывы пра жывое і думае... – зноў пачуўся старэчы голас (Г. Далідовіч. Жывы покліч). За работай людзі свету не бачылі. Каб не пухнуць з голаду, каб пракарміць сябе і сям'ю. Жывы пра жывое і думае (В. Праскураў. Сонца ў зеніце).

– *Раманаў*, с. 296: Жывы аб жывое і думаець; *Ляцкі*, с. 12: Жывы аб жывое й думае; *Прыказкі*, кн. 2, с. 220 і 483: Жывое аб жывым думае.

**Жыву як <той> гарох пры дарозе – хто ідзе, той і скубе**. *Гл.* Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе – хто ідзе, той і скубе.

**Жывы (жывым) у зямлю (у магілу, у ямку) не палезеш (не ляжаш)**. *Заўчасна не памрэш. Гаворыцца як апраўданне становішча, з якім прыходзіцца мірыцца.* – Дык ты, бабка, не ведаеш, чаго мы на свеце жывём? – Не, панічок, не ведаю! Каб вы запыталіся ў дрэва, чаму яно расце, дык хіба ж бы яно вам адказала? Так і я не магу адказаць вам. Жывём, покі жывецца, бо жывы ў зямлю не палезеш, а прыйдзе смерць, тады пахаваюць (Я. Колас. На ростанях). Ну, а згадзіся, сястрыца: бывае, што памрэ чалавек. Такі ўжо лёс... Ласне другому, будзь то маці сабе, не трэба жыць? Жывым жа ў зямлю не палезеш... (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Слязьмі гору не паможаш, нудой бяду не разгоніш. Трэба як-небудзь мадзець. Жывым жа.. у ямку не палезеш (М. Гроднеў. Пярэдадзень). – Жывадзёр! – са злосцю ўсклікнуў Язэпка. – Усе жывадзёры... – Што ж зробіш... Жывым у зямлю не ляжаш... (А. Якімовіч. Адкуль ліха на свеце). Стары ці старая забываліся на ўсё, што ні рабілі, яны не толькі не маглі перайсці хату, але ў іх адбірала і розум, яны слеплі, глухлі. Ды, як тады казалі, жывы ў зямлю не ляжаш... (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). – Як гляну во на рэчку, так і свайго хлопчыка ўспомню. – Што ты, Вольга? – перасільваючы боль у крыжы, адапхнулася ад слупка Алеся. – Жывым у магілу не ляжаш (В. Адамчык. Год нулявы). Люба з горыччу спытала ці мо сказала сама сабе: – А калі прымусяць працаваць на іх, фашыстаў, што тады? – Жывая ж у магілу не палезеш, – адказала бабка. – А без працы не пражывеш, асабліва ў горадзе. Памрэш з голаду (В. Давыдзенка. Свае і чужыя дарогі).

* Гэта ж у зямлю жывой трэба легчы, чуючы гэткія штукі... (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Не сілы дзеда цягацца па хатах, але што зробіш – не лезці ж жывым у яму (У. Галубок. Смерць старца). І зноў тут Вараны напружыў спіну, і зноў штодзень яму без жалю плечы трэ хамут (бо не ў зямлю ж жывому лезці) (К. Крапіва. Вараны).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 220: Жывы ў зямлю не палезеш.

**Жывым наўме жывое**. *Гл.* Жывому (жывым) наўме жывое.

**Жывым у зямлю не палезеш**. *Гл.* Жывы (жывым) у зямлю не палезеш.

**Жывы пра жывое <і> думае**. *Гл.* Жывому (жывым) наўме жывое.

**Жыццё (век) пражыць – не лапці сплесці**. *Жыццё пражыць – не лёгкая справа*. **Сін**.: *Век звекаваць – усяго пазнаць; Век зжыць – не мех сшыць; Жыццё пражыць – не поле перайсці.* Вось такая была ў Любы гісторыя з няўдалым каханнем. Ды, уласна кажучы, з кім іх не бывае? Жыццё пражыць – не лапці сплесці (А. Кажадуб. Гісторыя пра Любу Дворкіну). – Дык вось, братка, век пражыць – не лапці сплесці, усякае бывае... Што зробіш з бабай – пайшоў я адзін у калгас (А. Рылько. Сама зразумела).

– *Прыказкі*, кн.2, с. 405: Жыццё пражыць – не лапці сплесці.

**Жыццё закон нязломны мае: ніколі праўда не ўмірае**. *Кніжн. Гаворыцца з упэўненасцю і верай у перамогу справядлівасці.* **Сін**.: *Праўду не схаваеш; Усё мінецца, а праўда застанецца.* – Я і спадзяюся, што, як Сяргей паздаравее, я змагу сваю сілу паказаць гэтым [нягоднікам]... Жыццё закон нязломны мае – ніколі праўда не ўмірае, – задуменна сказала Аксана нібы сама сабе, калі мы развіталіся (Н. Бабіна. Рыбін горад).

– Паходзіць з верша У. Дубоўкі «Ніколі праўда не ўмірае» (1929), які пачынаецца радкамі: «Жыццё закон нязломны мае: ніколі праўда не ўмірае».

**Жыццё пражыць – не поле перайсці**. *Жыццё пражыць – не лёгкая справа.* **Сін**.: *Век звекаваць – усяго пазнаць; Век зжыць – не мех сшыць; Жыццё пражыць – не лапці сплесці.* Жыццё пражыць, сынок, не поле перайсці. Так не бывае, каб чалавек пражыў без адзінай хмурынкі. Будзеш ты бачыць і шчасце, можаш стрэць і бяду... (У. Краўчанка. Не поле перайсці). Усё-такі якое складанае і незразумелае жыццё, што калісьці здавалася такім простым і бесклапотным... Нездарма ж людзі кажуць: «Жыццё пражыць – не поле перайсці» (М. Аўрамчык. Палон). Зазіраючы ў тое сваё далёкае мінулае, Алесь яшчэ і яшчэ раз пераконваўся ў мудрасці прымаўкі: «Жыццё пражыць – не поле перайсці» (І. Новікаў. Ачышчэнне). Кажуць, жыццё пражыць – не поле перайсці. Праўду кажуць. Асабліва, калі такое жыццё, як у Івана Сцяпанавіча Шмеі (М. Замскі. Не поле перайсці). Беларус відочна-рызыкоўны, нібы ў шахматнай гульні, ў жыцці... А жыццё пражыць, мой друг цудоўны, так і ёсць, – не поле перайсці! (В. Жуковіч. Андрэю Федарэнку).

* Умарыўся!.. Жыццё пражыць – не поле перайсці з сахой... (З. Бядуля. Умарыўся). Барані цябе бог, унучак, але ведай: не хачу я, каб ты няўмекам і лядачым рос... Жыццё чалавеку пражыць – не

поле перайсці, у жыцці чалавеку багата чаго трэба знаць і ўмець, бо інакш прападзе ён, як піць даць, прападзе... (І. Капыловіч. Унук).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 406: Жыццё пражыць – не поле перайсці.

**Жыццё што макаў цвет: раніцой расцвітае, а к вечару ападае**. *Пра жыццё як зменлівую з'яву ў розныя яго перыяды.* [Кацярына Карпаўна:] Старасць – не радасць, а смерць – не падарунак. [Дзед Язэп:] Жыццё – што макаў цвет! Раніцою расцвітае, а к вечару – ападае. Жывеш ты, Карпаўна, як пані (У. Сауліч. Сабака з залатым зубам).

– *Федароўскі*, с. 307: Гэты свет як макаў цвет: зранку расцвітае, да вечара ападае.

# З

**За <аднаго> бітага двух нябітых даюць**. *Адзін бывалы, вопытны чалавек варты двух нявопытных. Кажуць пра таго, хто прайшоў якое-н. жыццёвае выпрабаванне.* У мяне высыпаліся слёзы, а Будай яшчэ больш ласкава: – Ну, ладна, бо за бітага двух нябітых даюць. А ты, Сысой, каб праз два дні на ногі паставіў (П. Броўка. Вінчэстэр). Варанецкі падышоў.. і сказаў: – Ну, чаго зажурыліся? За аднаго бітага двух нябітых даюць. Так што цана на нас расце (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы). Сяргей разуўся, доўга цёр снегам падмарожаную нагу і ўсё бурчэў: – Колькі ж яны нас будуць біць? – За аднаго бітага двух нябітых даюць... (Р. Няхай. Сарочы лес). [Садовіч:] Я цябе разумею! Паскубла цябе жыццё без жалю і літасці. Але ж за аднаго бітага двух нябітых даюць! (П. Васілеўскі. Твой заўтрашні дзень).

* Хай гавораць, што, нібыта, біты варты двух нябітых; я па вопыту здабытым раю быць табе не бітым (А. Александровіч. Парада). Хоць і кажуць, што за аднаго бітага даюць двух не бітых, бітым быць ніхто не хоча (Б. Сачанка. Манпансье з гарчыцаю).

– *Насовіч*, с. 44: За бітага аднаго двух нябітых даюць, ды не бяруць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 360: За аднаго бітага даюць дзесяць нябітых, а іх і так не бяруць.

**За багацце розуму не купіш**. Народная прымаўка «За багацце розуму не купіш» стала неактуальнай, наадварот, многія спяшаліся прадаць розум за валюту, думалі, што на Захадзе дзверы не замыкаюць, а завязваюць каўбасой (В. Ширко. Сонечныя блікі тэорыі лікаў).

* [Ян:] Але, кажучы між намі, і ў Парыжы дурань зглупіць: каб меў золата пудамі, сабе розуму не купіць (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Федароўскі*, с. 264: Усё за грошы купіш, толькі розуму не купіш; *Прыказкі*, кн. 2, с. 235: За багацце розуму не купіш.

**Забаронены плод салодкі.** *Функц. не зам. Штосьці прывабнае, спакуслівае, але недазволенае заўсёды прыцягвае, вабіць.* Рыхцік маніў, а яму верылі, і малыя верылі, і дарослыя. Гарвась спрабаваў зразумець, чым ён адурманьваў людзей, чаму яны цягнуліся да яго, як галодныя да хлеба, верылі паганаму слову, а не боскаму. «Забаронены плод салодкі!» – вучыў ён братоў і сясцёр (А. Кажадуб. Дуб). Лоўля вугра вельмі строга забаронена. Ды забаронены плод салодкі. Але колькі б лёска ні разматвалася, канец некалі будзе (Вожык. 1994. № 7).

* Дзяцей збіралася даволі многа, і сена мы дратавалі «па-чорнаму». Дарослыя нам забаранялі гэта рабіць, часцяком праганялі, але забаронены плод робіцца яшчэ смачней (С. Давідовіч. Марык).

– Паўкалька з рускай мовы *(Запретный плод сладок)*, дзе прыказка склалася на аснове біблейскага міфа пра першых людзей на зямлі. Паводле Бібліі, Бог дазволіў Адаму і Еве есці плады з усіх дрэў, акрамя дрэва пазнання дабра і зла: «І не датыкайцеся да іх, каб вам не памерці» (Бытие, 3,3; Бытие, 2, 16–17). Аднак занадта цікаўная Ева не ўтрымалася, каб не сарваць забаронены плод, і спакусіла таксама Адама. За гэта абое былі пакараны і выгнаны з раю. На базе прыказкі ўтварыўся фразеалагізм *забаронены плод*, які ўжываецца са значэннем ‘штосьці прывабнае, спакуслівае, але недазволенае’: «Грамадзянін Міхалёў пакаштаваў *забаронены плод*, які аказаўся для яго атрутным» (А. Масарэнка).

– *БРС*, т. 1, с. 419: Забаронены плод салодкі.

**Забілі зайца не забілі, а гуку (шуму) многа нарабілі**. *Хоць вынікі і нязначныя, але водгалас ад якіх-н. дзеянняў вялікі.* – Як ваша ўражанне? Словам, раскажыце, якія вынікі ад выбуху? – Вынік, – усміхнуўся Зазыба і пачухаў патыліцу, яўна спрабуючы гэтакім чынам зменшыць уражанне ад свае ўсмешкі. – Ведаеце, ёсць такая людская прымаўка: забілі зайца – не забілі, а шуму многа нарабілі (І. Чыгрынаў. Свае і чужынцы).

– З паэмы Я. Коласа «Новая зямля», адзін з раздзелаў якой («Зіма ў Парэччы») завяршаецца радкамі: «Нідзе не бачылі зайцоў, і дзядзьку стрэліць не прыйшлося, але пачулі ад Антося: – Забілі зайца не забілі, але, брат, гуку нарабілі».

**За бітага двух нябітых даюць**. *Гл.* За <аднаго> бітага двух нябітых даюць.

**За ваяводам гожым усё зможам**. *Маючы добрага, надзейнага сябра, таварыша ці кіраўніка, даб'ёмся жаданай мэты, усё зможам зрабіць.* [Ванда:] Яшчэ высмейваў вас [Фабіян] – маўляў, трэба на рэвалюцыю працаваць, народ абуджаць, а не збіраць рушнікі ды збанкі. І вось – зацікавіўся нашай Людвісяй!.. І яна, вядома, не ўстаяла перад такой выбітнай асобай... За ваяводам гожым усё зможам (Л. Рублеўская, В. Скалабан. Людвіка і Фабіян).

– *Санько*, с. 7: За ваяводам гожым усё зможам.

**Заві хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй**. *Гл.* Хоць гаршком заві (называй), адно ў печ не стаўляй.

**За вялікім пагонішся – і малое згубіш**. *Калі паквапішся на што-н. значнае, вялікае, то не даб'ешся поспеху і ў малым.* Лепш бы перакуліць той [эшалон], што ідзе на фронт. Але ж фашыстам не загадаеш, які эшалон пасlаць на пагібель. За вялікім пагонішся – і малое згубіш (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

– *Федароўскі*, с. 329: Пажанешся за вялікім, то й малое згубіш; Паквапішся на вялікае, то й малое згубіш; *Прыказкі*, кн. 2, с. 450: Не ганіся за вялікім, а то й малое згубіш.

**Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е**. *Праст. Занадта руплівы чалавек толькі шкодзіць справе. Гаворыцца з асуджэннем пра чалавека, які перастараўся.* Не растлумачылі вам як мае быць гэтай справы. Вы, мусіць, чулі прыказку: загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е. Калі сапраўды вас хто-небудзь гнаў на пасёлкі, дык да яго гэта прыказка вельмі падыходзіць (К. Крапіва. Мядзведзічы). Чаго вы лезеце кожную хвіліну?.. Паспрабуйце самі вызваліцца з такіх путаў. Праўду кажуць: загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). **Пашлі (застаў) дурня (дурнога) богу маліцца, дык ён лоб разаб'е**. Многія члены рады недаўменна глядзелі на прамоўцу: што стары меле? Іваноўскі аж заёрзаў на месцы: «З глузду з'ехаў Іван, далібог з глузду з'ехаў... бо, пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е» (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Другі [кантралёр] праверыў бы, склаў адчэпны акт, маўляў, ёсць нязначныя недахопы, але і яны будуць выпраўлены, а я сур'ёзна ўзяўся за справу. Кажуць жа, застаў дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е (В. Шырко. Споведзь правінцыяла). Праўду кажуць: пашлі дурнога богу маліцца – лоб разаб'е. Ды каб свае вузкія пустыя лбы паразбівалі – чорт бы з імі. Падставілі, каб ён, дырэктар,

разбіў лоб, а яны сабе нават гузакоў не панабівалі. Во дзе крыўдна! (В. Блакіт. Адчай).

* Навучы дурня маліцца, дык ён атэістам зробіцца (Л. Дайнека. Парадаксізмы).

– *Насовіч*, с. 47: Застаў дурня богу маліцца, дак і лоб сабе расквасіць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 248: Застаў дурака богу маліцца – увесь лоб праб'е; Навучы дурня маліцца, то ён і лоб паб'е.

**За гладкага (сытага) і вош не зачэпіцца**. *Здаровая жывая істота не надта паддаецца розным захворванням.* Вось і яшчэ просты прыклад. Падчас стрыжкі авечак звярнуў увагу, што калі сытая авечка, то на ёй амаль няма кляшчоў, а на худой жывога месца няма – клешч на кляшчы. Нездарма у народзе кажуць: «За гладкага (сытага) і вош не зачэпіцца» (Звязда. 2001, 6 сак.).

**Загляне сонца <і> у наша аконца**. *Функц. не зам. Даб'ёмся і мы свайго, збудуцца нашы надзеі. Кажуць у цяжкі час з надзеяй, што няўдачы мінуцца.* **Сін**.: *Будзе і на нашай вуліцы свята; Будзе мёд і ў Сідаравай калодзе.* Ці не скажаце, што чуваць у вас аб вашых беларусах, як жывуць эсдэкі, эсэры? Калі «загляне сонца ў наша аконца»? (Я. Нёманскі. Драпежнікі). Ці ж гэта жыццё, шчасце? Людзі і дня не знаюць без трывогі і бяды. Можа, калі загляне сонца і ў наша аконца (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). – Згода, хлопча, – адказаў Максім Платонавіч. – Няхай загляне сонца ў наша аконца (І. Аношкін. Чырвоная каліна стаяла). Можа, трэба і пазмагацца. Але ўрэшце – «загляне сонца і ў нашае аконца». Таму што інакш немагчыма, калі не спыніцца жыццё на зямлі (В. Быкаў. Шчасце так проста не прыходзіць).

* Не, няпраўда! Быць не можа, каб не грэла цёпла сонца. Наша праўда нам паможа – блісне нам святло ў аконца! (Я. Колас. Сябрам).

– *Насовіч*, с. 45: Загляне сонца і ў наша ваконца; *Федароўскі*, с. 285: І наша слонца ўвойдзе ў ваконца.

**За грошы шчасця не купіш**. – Я не вінават... Што ж я... Яна сама была згодна... запытай у яе. А цяпер... што ж я зраблю цяпер? Жаніцца я не магу – у мяне ёсць нявеста... Але я так не кіну... я памагу... я дам грошы... – За грошы шчасця не купіш... і граху таго грашмі не загладзіш (М. Зарэцкі. Белыя ружы).

– *Федароўскі*, с. 248: За грошы шчасця не купіш.

**Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць)**. *Нельга адмаўляцца ад сказанага ці ад ранейшага рашэння, абяцання і пад.* Там [у вобласці] адны паспачувалі, другія адказалі больш акрэслена: нечага заднім розумам хваліцца, задам толькі

ракі поўзаюць (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік). – Калі не адмаўляецеся, можаце атрымаць заданне. Не адмаўляецеся? – Задам толькі ракі ходзяць, – нахмурана адказаў Салавянчык (Я. Радкевіч. Закон прыцяжэння). – Памешчыцкую маёмасць, якую мы па несвядомасці прыхапілі, маглі б і вярнуць, на ліха яна нам здалася, а зямлю ніяк не можам. – Нічога памешчыку не аддавайце... Назад толькі ракі поўзаюць (І. Гурскі. Вецер веку). – З жонкай, значыць, ладу не будзе? – Ніколі, – памаўчаў [Сінеў] і дадаў: – Назад толькі ракі поўзаюць (А. Масарэнка. Баргузінскае лета). «Ці варта пачынаць? – нібы нехта шаптаў.. збоку. – Можа, пачакаеш? Можа, Вадзім Мікалаевіч...» – «Ніякіх «можа»! – аж узлаваўся Ціток. – Толькі ракі паўзуць назад» (М. Гамолка. Лясная крэпасць).

* Людзі кінуліся ісці назад, забыўшыся на сваё прызначэнне, забыўшыся пра тое, што вяртання няма, усё там, наперадзе, што толькі ракі адыходзяць назад (В. Казько. Хроніка дзетдомаўскага саду).

– *Ліцвінка*, с. 72: Назад (задам) толькі ракі поўзаюць.

**Задарам (дарма) і скула (скулка) не сядзе**. *Задарам, бясплатна нічога не робіцца. Часцей ужываецца як рэакцыя на словы д а р м а, з а д а р а м у папярэднім выказванні.* **Сін**.: *Дарма і каза <ваўку> не скача*. – Ну? Аддаеш мне Бязлапага [бабра]?.. – Ты не жартуеш, Хвост? – Не дарма ж, Андрэевіч... – Дзіва што – задарам і скулка не сядзе... (А. Масарэнка. На бабровых тонях). І на яго [галоўнага бухгалтара] злосна зыркнуў Вашкевіч: – Няма ў мяне дарэмнай зямлі [пад гараж]. Дарма і скула не сядзе! – Дык мы гатовы... – Колькі? – Пяцьсот даляраў (Р. Яўсееў. Суровы землямер). – Малайчына, Васіль, што не ўпарціўся. Справішся. Толькі трэба ўсёй душой палюбіць зямлю, – вучыў стары Янушэўскі. – Ды ўжо ж, дзядзька, дарма і скула не сядзе. Будзеш шанаваць людзей ды зямельку, то й цябе шанавацьму, – па-сталаму развaжаў Васіль (У. Ліпскі. Лапташонак).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 361: Дарэмна і скула не сядзе.

**Задарма і каза <ваўку> не скача**. *Гл.* Дарма (задарма) і каза <ваўку> не скача.

**За двума зайцамі пагонішся, ніводнага (ні аднаго) не зловіш**. *Калі возьмешся адразу за некалькі спраў, то не дасягнеш поспеху ні ў адной.* [Афіцэр:] Ты не ведаеш, дзе гэта, ну, як яе, Алеська? [Ахрэм:] Алеська?.. Якая?.. Не ведаю такой! [Афіцэр:] Вось табе і гаспадар: пакуль звярнуўся – птушка ўцякла! Нездарма прыказка кажа: «За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш» (У. Галубок. Краб). [Валодзя:] А ты ўжо і прыраўнавала

[Валю]. [Надзя:] Глядзі, брат, за двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш. [Валодзя:] За гэтым зайцам я не ганяюся. [Надзя:] Дык, можа, заяц за табой? [Валодзя:] У нас з ёю старая дружба (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). [Шпакоўскі:] Ах, ах, галава! Такую кабеціну выпусціць. Ну і Марфа, не чакаў я ад цябе гэтага. [Пушкарэвіч:] За двума зайцамі пагонішся, ні аднаго не зловіш (І. Гурскі. Свае людзі).

–Недакладная калька з лацінскай мовы: *Duo inseguens lepores, neutrum capit* (літаральна «Двух гонячы зайцаў, ніводнага з двух не зловіш»). Відаць, у лацінскую мову перайшла з грэчаскай, дзе ў байцы Эзопа выкарыстана (у літаральным перакладзе) так: «Хто двух зайцаў гоніць, ні аднаго не ловіць».

– *Янкоўскі*, с. 248: За двума зайцамі пагонішся – ніводнага не зловіш; *Прыказкі*, кн. 2, с. 452: За двума зайцамі пагонішся – ні аднаго не паймаеш.

**З адкладу няма ладу**. *Не варта адкладваць на пазнейшы час тое, што можна ці трэба зрабіць неадкладна.* **Сін**.: *Адклад не ідзе на (у) лад; Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.* Нялёгка ўсё гэта «ўціснуць» у рамкі звычайнага нарыса. Але ж, як любіць гаварыць Рыгор Іванавіч, з адкладу няма ладу, паколькі нічога само не зробіцца (В. Праскураў. Бярозавы сок).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 173: З адкладу няма ладу.

**З аднаго вала дзвюх шкур не дзяруць**. *За што-н. адно не патрабуюць плаціць двойчы. Кажуць тады, калі з каго-н. хочуць атрымаць больш, чым ён мае.* [Абдула:] Што ж ты, наш саколіку, не шануеш больш гасцей? [Аксён:] Госці дарагія, з аднаго ж вала дзвюх шкур не дзяруць. Яшчэ на тым дні з'елі пяць хунтаў сала, тры хунты масла. Засталася толькі рэпа (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Насовіч*, с. 158: З аднаго вала сем шкур не дзяруць; *Федароўскі*, с. 337: Хоча драць з аднаго вала дзве скуры.

**З аднаго палена агню не раскладаюць.** *Значная справа не робіцца малымі сродкамі. Пра безвыніковасць, бесперспектыўнасць якога-н. пачынання.* Вольга Сідараўна з малых гадоў даводзіла сыну, што добрага ніколі не замнога, бо жыць – не мех сшыць, з аднаго палена агню не раскладаюць і з шыла не зробіш мыла (Настаўн. газ. 2000, 10 чэрв.).

– *Янкоўскі*, с. 187: З аднаго палена агню не раскладаюць.

**За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне**. *Гаворыцца як сцвярджэнне, што ў сям'і вельмі многае за-*

*лежыць ад паводзін, якасцей мужа.* **Сін.:** *За добрым чалавекам, як за сцяною, а за благім, як за плотам.* А наконт талковай жонкі, не ў крыўду сказана, то за добрым мужам – і варона жона, а за кепскім – і княгіня загіне. Так у жыцці бывае (А. Вараповіч. Сын). Часам мы задзіраемся, задаёмся: «Нам і мора па калена»... Але ж ведаем: «За добрым мужам і варона жона, а за дрэнным – і княгіня загіне» (Я. Сіпакоў. З чаго мы смяёмся).

– *Насовіч*, с. 45: За добрым мужыком і гулінда жана, а за дурным і папоўна раба; *Прыказкі*, кн. 2, с. 62: За добрым мужам і варонка жонка, а за дурным і княгіня загіне.

**За добрым чалавекам, як за сцяною, а за благім, як за плотам**. *Гаворыцца як сцвярджэнне, што ў сям'і вельмі многае залежыць ад паводзін, якасцей мужа.* **Сін**.: *За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.* «За добрым чалавекам, як за сцяною, а за благім, як за плотам». Гэта як бы пра майго Цімоха і пра мяне. Праз яго за ўсё нашае сумеснае жыццё нічога я не бачыла, нідзе не пабывала, таўклася ў хаце, як мак у ступе (С. Лобач. Па закутках памяці).

**За дурной галавой нагам неспакой (небалазе, няма спакою)**. *За непрадуманыя дзеянні, учынкі даводзіцца разлічвацца, паўторна рабіць што-н., яшчэ раз ісці куды-н. і г.д.* – Вось, кажуць, забралі сёння пяцёх [сялян], дый не знайся. Гарапнікам як прыгналі, то пазавозілі ўсё назад пану. – За дурной галавою ды нагам неспакой (Р. Мурашка. Сын). Праца павінна быць абдумана, а то бывае: «За дурной галавой нагам небалазе» (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). Глянулі мы на свае судзінкі, якія ледзь запоўнілі да палавінкі, глянулі на свае ногі, з якіх аж дым ідзе ад пераўтомы, і ціхенька заўздыхалі: «За дурной галавой і нагам неспакой...» (У. Дубоўка. За дурной галавой нагам неспакой). Рагуля ўпершыню падумаў: «За дурной галавой нагам неспакой; колькі разоў я прапанаваў мець рэзервістаў для пасылкі ў школы разведчыкаў. Дастаткова было ім выплачваць невялікую стыпендыю. Дык не пажадаў, скупеча» (І. Гурскі. Чужы хлеб). – Блага мне, мама. – Залішне бярэш сабе ў галаву... – За сябе я не бядую, мама, – сказала Кіра, пацягнуўшы носам. – За дурною галавою і нагам няма спакою... Возьмуць і пасадзяць яго! (С. Яновіч. Сцяна).

– *Насовіч*, с. 45: За дурною галавою нагам няма пакою; *Ляцкі*, с. 12: За дурной галавой нагам неўпакой; *Прыказкі*, кн. 2, с. 247: За дурной галавой нагам непакой; За дурною галавою нагам небалазе.

**Займі чорта ад варот, дык ён цераз плот**. *Гаворыцца пра бескарыснасць якіх-н. дзеянняў, бо яны не дадуць станоўчых вынікаў.* Гэтыя новыя межы на знос пойдуць. І гэта, што падзялілі гэтыя дзялянкі, што адхапілі ад хутароў (і тваё тут дабро запала), – усё ў адзін кацёл пойдзе. Усё як ёсць!.. Народ, можа, паддавацца не будзе, але гэта... займі чорта ад варот, дык ён цераз плот! (К. Чорны. Лявон Бушмар).

– *Федароўскі*, с. 69: Заступі чорту ад акна, то ён праз дзверы; Заступі чорту парога, то ён у комін.

**Зайца ногі ратуюць**. *Чый-н. намер ці парада каму-н. уцякаць як адзіны спосаб выратавацца ад чаго-н*. [Франэк:] Вартавы – нічога? [Павел:] Я яго... Давялося. [Франэк:] Ай-яй-яй... Праз 20 мінут у іх змена. [Кузнечык:] Братцы, зайца ногі ратуюць... Хутка світаць пачне. Клічце Улімку і ходу (А. Дзялендзік. Грэшная любоў).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 297: Заяц бярэ нагамі.

**За кампанію <і> цыган павесіўся**. *Гаворыцца жартаўліва пра таго, хто гатоў рабіць што-н. заадно з іншымі толькі таму, што гэтае самае робяць і яны.* Міхась таксама спачатку не згаджаўся гуляць [у карты]. І толькі тады, калі Васіль раззлаваўся і сказаў яму, каб не выломваўся, як тая паненка, ён узяў карты – за кампанію, маўляў, і цыган павесіўся (Л. Гаўрылкін. Сорак кіламетраў роздуму). – Па злоту з брата – не вялікая страта, га?.. – За кампанію, кажуць, цыган павесіўся... Можна і так (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). Кажуць, за кампанію і цыган павесіўся. Дык вось і з малодшымі палітрукамі нешта падобнае было – «беластоцкія», у тым ліку і доктараў брат, вырашылі ехаць да месца службы кружной дарогай, праз Гродна, балазе быў час, і яны, такім чынам, нікольні не пазніліся (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

* Пятро Аляксеевіч шаўковы, пакуль у кампанію не зацягнуць. А за кампанію ён гатоў павесіцца, як той цыган (І. Шамякін. Завіруха). – Не ведаю, як хто, а я буду спаць пад яблыняй, – заявіў Толік.. – Я таксама ў садзе, – сказаў Ігарок... – А я, як той цыган, што за кампанію павесіўся. – Старэйшы таксама пажадаў спаць у садзе (Л. Гаўрылкін. Касцы). [Віктар] адзін не п’е, няма яшчэ такое звычкі, а ў кампаніі – атлёт... Павесіўся б, як той цыган, за кампанію... (П. Місько. Ціхае лета).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 376: За кампанію цыган павесіўся.

**Закінеш назад – знойдзеш наперадзе**. *Гл.* Кінь (кінеш) за сабою, <то> знойдзеш перад сабою.

**Закінь наперад – знойдзеш ззаду**. *Гл.* Кінь (кінеш, закінь) наперад – знойдзеш ззаду.

**Закончан (скончан) баль – і дудкі ў торбу**. *На гэтым і канец. Ужываецца (часцей жартаўліва) як выказванне пра завяршэнне чаго-н.* Заслона апускаецца. Застаецца адзін Несцерка. – Ну, людцы добрыя, закончан баль – і дудкі ў торбу! Вось гэтак і жывём – часам плачам, часам скачам (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн.2, с. 197: Скончан баль – і дудкі ў торбу.

**Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла**. *Закон заўсёды можа быць выкарыстаны самачынна, самаўпраўна. Гаворыцца як адмоўная ацэнка несправядлівасці, што чыніцца пад прыкрыццём закона.* А пасвіць жывёлу і ў пушчы і на Абадку нам па старых законах было забаронена. Забараняе нам гэта рабіць не закон, а пан. Вось тут і разбярыся ў такіх законах. Недарэмна ж кажуць: «Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла...» (А. Якімовіч. Канец сервітуту). – Закон, суседзе, што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла, – ківаў галавой Даніла (І. Аношкін. Чырвоная каліна стаяла). А дзе хто што хапае, то гэта справа розуму, таленту, спрыту. Законы ўсюды абыходзяць, як хто ўмее. «Закон – што дышла, – кажа народ, – куды павярнуў, туды і выйшла» (І. Шамякін. Крывінка). Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла. За аднолькавае злачынства адзін, скажам, атрымлівае 15 гадоў, другі 5 ці нават 3 гады пазбаўлення волі (Звязда. 1992, 13 лют.).

* Аказваецца, мы парушэнне зрабілі, ледзь па вымове нам не закацілі. Хоць і кажуць: закон што дышла, як павернеш, так і выйшла, але ж... Тая прымаўка ад старых часоў. Цяпер лепш закон не парушаць (Б. Сачанка. Дарога ў Хатынь).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 356: Закон як дышла: куды павярнуў, туды і выйшла.

**За маё жыта ды мяне і пабіта (набіта)**. *Гаворыцца з незадавальненнем, калі каму-н. за яго дабро адплачваюць злом.* Куды я трапіў? І мяне, няйнакш, як рыштанта водзяць? А за што? За маё жыта ды мяне і пабіта (Б. Сачанка. Вялікі Лес). – Спусціце гэтаму гнойнаму жуку парткі і на задзе ягоным напішыце плёткамі маё княжнае слова: «Не радуйся чужой бядзе». – За маё жыта дый мне ж набіта, – разгублена сказаў смерд, калі падступалі ўжо да яго з гарачымі плёткамі (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

– *Насовіч*, с. 45: За маё жыта ды й мне набіта; *Прыказкі*, кн. 1, с. 317: За маё жыта мяне пабіта; За наша жыта нам жа пабіта; За маё жыта ды мяне ж біта.

**За морам цялушка – палушка, ды перавоз рубель.** *І самы дзяшовы тавар становіцца дарагім, калі прыходзіцца дорага плаціць за яго перавозку. Гаворыцца, калі невыгодна везці здалёку дзяшовы тавар. [Палушка – устарэлае слова са значэннем 'чацвёртая частка капейкі'].* Англія не мела свайго лесу і купляла яго ўсюды, дзе толькі можна было; не верыў – вельмі ж дорага будзе каштаваць дастаўка – трэба будзе будаваць новыя дарогі, шукаць транспарт – за морам цялушка – палушка, ды перавоз рубель. Не можа быць, каб Англія пайшла на гэта... (Б. Сачанка. Палеская быль). Словам, як пісала Марына ў адным з лістоў [з Амерыкі]: «Работа вельмі напружаная, дый усё жыццё напружанае і не свята. Трава заўсёды зелянейшая на другім баку вуліцы». Гэта так, адносна «травы». Але гэта амерыканская прымаўка, наша вельмі вобразная: за морам цялушка – палушка, ды рубель перавоз (Звязда. 2006, 28 крас). Так прасцей – не ламаць галаву над забяспячэннем насельніцтва markрознымі «дробязямі», а грэць рукі на пастаўках замежных тавараў, якія адлюстроўваюць народную мудрасць: за морам цялушка – палушка, ды рубель перавоз (А. Сачкоўская. За морам цялушка – палушка...).

– *Насовіч*, с. 46: За морам цялушка палушка, ды руб перавозу; *Федароўскі*, с. 58, 189: За морам і цялушка палушка, ды рубель перавоз; *Прыказкі*, кн. 1, с. 467: За морам цялушка грош, ды за перавоз вала трэба аддаць; За морам палушка цялушка, ды перавоз дорага стоіць.

**Замуж пайсці – не лапці плясці**. *Замуж пайсці – не простая справа, якая робіцца раптоўна, не падумаўшы, без развагі*. А бацькі як прадчувалі. Маці вельмі плакала, бацька счарнеў, прасіў агледзецца, пачакаць: замуж, кажа, пайсці – не лапаць плясці. А я, як той матыль на святло (Звязда. 2001, 21 лістап.).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 57: Замуж ісці – не лапці плясці.

**За няўдачу даюць прыдачу**. *Кажуць пра няўдалую, непрыгожую дзяўчыну, якой, каб выйсці замуж, патрэбны вялікі пасаг.* – А бацька ж Антолін казаў, – падхапіла маці, – што калі Антоля пойдзе за добрага хлопца, дык ён дасць самую лепшую карову, свінню, дзве авечкі і пяцьдзесят рублёў золатам... – За няўдачу заўсёды даюць прыдачу, – буркнуў Тодар (К. Крапіва. Каровін мужык).

– *Янкоўскі*, с. 214: За няўдачу даюць прыдачу.

**Запас бяды не чыніць**. *Запас ніколі не пашкодзіць.* Запас бяды не чыніць, і Храпавіцкі распараджаецца, каб Салавей паслаў яшчэ хурманку ў горад па гарэлку, – ці мала якая патрэба можа быць у

гарэлцы? (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). [Ядзя:] Мне не патрэбны вашы запасы. [Федзя:] Запас бяды не чыніць (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Хяндога ведаў, што галодны чалавек не толькі набівае жывот, але клапоціцца і пра чорны дзень... Запас бяды не чыніць (М. Аўрамчык. Палон). Мацвей прамаўчаў, ведаў: перастараўся, не варта было лезці ў гэтае сена, накошанае ў лясніцтве. Дык брат наўміў: «Прывязі, запас бяды не чыніць» (М. Воранаў. Сена аленям).

– *Насовіч*, с. 46: Запас бяды не чыніць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 189: Запас бяды не чыніць.

**За пастой грошы не плацяць**. *Кажуць пры запрашэнні сесці.* **Сін**.: У *нагах праўды няма.* – Сядай, мой мілы, мой харошы, бо за «пастой» не плацяць грошы, – сказаў сярмяжнік дабрадушны... (Я. Колас. Новая зямля).Ваўчок, прыткнуўшыся да большага, абслізганага ўлетку.. [каменя], махнуў рукою, запрашаючы сесці Міцю: – Садзіся, чаго там, за пастой, як кажуць, грошы не плацяць (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). Леанора згледзела яго [Веню], пажартавала: – Сядай, мілы мой, харошы, за пастой не плацім грошы (В. Мыслівец. Мужанцы).

– *Насовіч*, с. 46: За пастой не плацяць, а дорага бяруць; *Раманаў*, с. 296: За пастой грошай не бяруць.

**За пераборы лапці ды аборы**. *Кажуць неадабральна пра капрызнага, пераборлівага чалавека, якога чакае пройгрыш, няўдача.* **Сін**.: *З выбірачкі выбераш гарачку, а калі з раду, то нуду.*

* Пры выбары жаніха, таго, з кім давядзецца ўсё жыццё жыць разам, быць у полі, і за сталом, і ў пасцелі, яе [жаночую] волю не ўлічвалі. «За пераборы дастаюцца пасталы і аборы» (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). – Жаніць збіраемся Тараску свайго... – Я ўжо даўно казаў яму... Цяпер моладзь такая пайшла, што яе і не вельмі ўламаеш... Усё выбіраюць, выбіраюць, а за тыя выборы лапці ды аборы (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). – Шкада Ніну, – уздыхнула Віка. – Гаварылі мы ёй, што Віктар падмануць можа, пераборлівы... – З доўгага выбору лапці ды аборы, – зазначыў яе субяседнік (А. Адамовіч. Першая запаведзь).

– *Насовіч*, с. 46: За пераборы – лапці ды аборы; *Прыказкі*, кн. 2, с. 30: За пераборы – лапці ды аборы; Чэраз вялікія пераборы асталіся пасталы ды аборы; З вялікіх выбораў – лапці ды аборы.

**За пчолкаю – у мёд, за жуком – у гной**. *Праст. Зносіны з добрым чалавекам даюць добрыя вынікі, а з дрэнным – завяршаюцца дрэнна.* Трэба падыход [да людзей], каб вадзіца з нашага

калодзежа была не горшай для іх, чым брагінская ці хойніцкая. Праўду людзі кажуць: за пчолкаю – у мёд, за жуком – у гной (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

* Такі ж не мелюць языком, а праўду кажуць людзі: як папаўзеш ты за жуком, дык апынешся ў брудзе (К. Крапіва. Мурашка і Жук). Суседскія хлопцы, равеснікі Носа, былі павялі ўжо яго на бераг, грозячы ўтапіць, а калі ён пусціў слязу, далі выспятка: «Пайшоў вон! За жуком пойдзеш, невядома ў што ўпэцкаешся!» (М. Лужанін. Наўздагон за падвойнікам).

– *Янкоўскі*, с. 67: За пчолкаю – у мёд, за жукам – у гной.

**Зарадзіў драсён – не будзе красён**. *Гл.* Пайшоў (зарадзіў) драсён – не будзе красён.

**Заракалася кошка мышэй не лавіць**. *Кажуць пра таго, хто ніяк не можа адмовіцца ад прывычнага*. **Сін.:** *Заракалася свіння за вугол хадзіць.* Яна [маці] забывае, што год назад кляла і Колю, і свой лёс, і «гэтыя бураке», бажылася, што не возьме ні каліва. Заракалася кошка мышэй не лавіць (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў).

**Заракалася свіння за вугол хадзіць.** *Праст. Кажуць насмешліва пра таго, хто ніяк не можа адмовіцца ад прывычнага.* **Сін.:** *Заракалася кошка мышэй не лавіць.* – Ну, на гэты раз павер мне – каб я жыў – апошні раз! – Ой, не раз я гэта чую! Заракалася свіння за вугол хадзіць, Тарасе, – і табе не веру я (Я. Колас. Пахмелле). – Спачатку ты быў, што малпа, а пасля – як цяжка хворы. – Насця! Сёння – ні кроплі! Клянуся. – Заракалася свіння... (І. Шамякін. Выкармак).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 371: Заракалася свіння град не капаць; *Аксамітаў*, с. 42: Заракалася свіння ў гарод лазіць.

**Заручылі дзеўку проціў (супраць, супроць) панядзелку**. *Кажуць іранічна пра таго, хто вінаваціць за свае дзеянні, праступкі не сябе, а іншых.* – Я – цэнтр усяго, паўсюдна мяне высоўваюць, усё мне даручаюць. Пасля й хацеў бы адбрыкнуцца, ды язык не варочаўся. – Заручылі дзеўку проціў панядзелку – па нейкай дзіўнай асацыяцыі гукнуў настаўнік (А. Мрый. Навалілі).

– *Выслоўі*, с. 56: Заручылі дзеўку супраць панядзелку. Заручыны як абрад атрымання згоды маладой на шлюб не рабіўся ў панядзелак, бо ён лічыўся нешчаслівым днём (як і аўторак ды пятніца).

**За спрос не б’юць у нос**. *За зварот да каго-н. з пытаннем, просьбай не павінны крыўдзіцца.* **Сін**.: *За спрос платы не бяруць.* – Колькі гадкоў табе? Надта ты малая для сорак чацвёртага... – Не, я з пяцідзесятага. Кажуць, што з пяцідзесятага, – паправілася Віня. –

Ну, так я і думала. Проста, дай папытаюся, кажу сабе. За спрос не б’юць у нос... (В. Іпатава. Вузялок Святагора). – Ці прадаецца зруб? – паглядзела запытальна на мужа жонка. – Дый ці дазволяць там, у вёсцы, дачу табе мець? – Трэба паспрабаваць, – вырвалася ў Архіповіча. – За спрос, кажуць, не б’юць у нос (Б. Сачанка. Зруб). Я і сам не сляпы – бачу [што хлеў вось-вось разваліцца]. Паехаў у Глініцы, там лясніцтва, авось памогуць. Як той казаў: за спрос не б’юць у нос (В. Шырко. Споведзь правінцыяла). – Бачыў я тыя катэджы... З нашымі грашыма нас туды й блізка не падпусцяць. – А ты ўсё ж пацікаўся... За спрос не б’юць у нос (А. Масарэнка. Паточная лінія).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 469: За спрос не б’юць у нос.

**За спрос платы не бяруць**. *За зварот да каго-н. з пытаннем, просьбай не павінны крыўдзіцца.* **Сін.**: *За спрос не б’юць у нос.* [Каліберaў:] Ну, а як жа ты, Гарошка, да ўборачнай падрыхтаваўся? За колькі дзён думаеш выканаць хлебапастаўкі? [Гарошка:] Вось таму, Сцяпан Васільевіч, я і заехаў да вас. Прасіць буду. Вельмі буду прасіць. [Каліберaў:] За спрос платы не бяруць (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

– *Шкраба*, с. 88: За спрос платы не бяруць.

**Застаў дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб’е**. *Гл.* Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб’е.

**За сытага і вош не зачэпіцца**. *Гл.* За гладкага (сытага) і вош не зачэпіцца.

**Захацеўшы сабаку выцяць, палку знойдзеш**. *Гл.* Захочаш сабаку выцяць (ударыць) – палку (кій) знойдзеш.

**Захочаш павесіцца, то знойдзеш вяроўку.** *Праст. Калі захочаш дасягнуць чаго-н., то дасягнеш. Звычайна гаворыцца з неадабрэннем пра што-н. адмоўнае, недапушчальнае, забароненае і пад.* **Сін.:** *Захочаш сабаку выцяць – палку знойдзеш.* Быццам менш сталі гнаць. І ўсё ж зацятыя выпівохі знаходзілі гарэлку. Нібыта і не варыў ніхто, і ў крамах п’яніцам не адпускалі – усё роўна хадзілі пад хмелем. Праўду кажуць: захочаш павесіцца, то знойдзеш вяроўку (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

**Захочаш сабаку выцяць (ударыць) – палку (кій) знойдзеш**. *Калі захочаш дасягнуць чаго-н., то дасягнеш.* **Сін.:** *Захочаш павесіцца, то знойдзеш вяроўку.* – Так што, Іване, дабывай стрэльбу. А як, падумай. За Пцічою легіянеры стаяць, па сёлах шастаюць, часам адстаюць ад абозаў. Папалюй за каторым, от і карабін... – Яно праўда. Захочаш сабаку выцяць – палку знойдзеш (С. Грахоўскі.

Рудабельская рэспубліка). У народзе гавораць: «Захочаш ударыць сабаку – палку знойдзеш». Сапраўднае валоданне мовай прыходзіць па-сапраўднаму тады, калі вучань адчуе практычнае значэнне яе (Я. Ермаловіч. Сіняя птушка). **Захацеўшы сабаку выцяць (ударыць), палку (кій) знойдзеш**. – Хіба каб дзе спыніцца пагрэцца... – Дзе ж ты тут пагрэешся? – Захацеўшы сабаку выцяць, дык кія знойдзеш (К. Чорны. Вясна). [Іванчанка:] Гэта ж не блізка. Як жа ты дарогу знайшла? [Люба:] Захацеўшы сабаку ўдарыць, палку знойдзеш (А. Кучар. Заложнікі). **Калі захочаш сабаку выцяць, то кій знойдзеш**. – Алеся, ты тут? – крычала з-пад хаты маладым голасам прысадзістая дзеўка ў малінавай вязанай хустцы. – Го, тут!.. – Газы пазыч. – А ці ёсць там у саміх? – Калі захочаш сабаку выцяць, то кій знойдзеш... (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

– *Янкоўскі*, с. 189: Захацеўшы сабаку выцяць, кія знойдзеш; *Прыказкі*, кн. 1, с. 206; кн. 2, с. 485: Як захочаш выцяць сабаку, дык і кій знойдзеш; Хто хоча сабаку ўдарыць, той кій найдзе.

**За чужое лычка раменьчыкам плацяць**. *Гаворыцца пры выпадку, калі за чый-н. дробязны ўчынак сурова караюць іншага чалавека, невінаватага.* – Гаспадар Пархімчык, –упоцемках звярнуўся да знаёмага селяніна Барыс, – Бог да вас літасцівы таксама. – Гэта сёння, а што заўтра будзе? – і ўздыхнуў: – За чужое лычка раменьчыкам плацяць (В. Якавенка. Пакутны век).

– *Раманаў*, с. 296: За чужое лычка сваім рамушком заплаціш; *Насовіч*, с. 45: За лычка рамушком плаціцца (з такім паясненнем: «Пазычаная сапсаваная або згубленая рэч адкуплена павінна быць новаю»); *Прыказкі*, кн. 2, с. 440: Узяўшы чужое лычка, аддасі рамяшком (рамянцом); Лычка ўкрадзь, раменьчыкам заплаціш; За чужое лыка аддасі свой раменьчык; За чужое лычка згубіш свой рамушок; За чужое лычка сваім рамушком не расплацішся.

**За чужой шчакой зуб не баліць.** *Чужая бяда не адчуваецца, здаецца не такой сур'ёзнай, як свая.* **Сін.:** *Чужая болька не баліць; Чужую бяду рукамі развяду.* А ты не падумаў, што падставіў мяне пад абух? Ад замка толькі адзін ключ. І ён у мяне. Што, за чужой шчакой зуб не баліць? (А. Шлег. Сталінскія «байструкі»).

**За што купіў (купіла), за тое <і> прадаю (прадаў, прадала)**. *Паўтараю тое, што чуў. Кажуць, калі не ручаюцца за дакладнасць паведамлення.* [Касперскі:] Не можа быць!.. [Лучыніна:] За што купіла, за тое прадаю... Прыехаў старшыня савета з раёна, расказваў... (І. Гурскі. Хлеб). – А можа, хлусіць ваша знаёмая?.. –

Ну, за гэта я не магу ручацца. За што купіў, за тое і прадаю (І. Навікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). – Думаеш, пра Анціпа Партаса я выдумаў? – стараўся апраўдаць сябе Архіп Архіпавіч. – Далібог, не. А, казаў той, за што купіў, за тое і прадаю... (І. Сіняўскі. На паляванні). – Што скажаш? – прыпыніўся надзьмуты, чырвоны ад злосці Корсак. – Праўда, за што купіў, за тое і прадаю: бальшавікі арыштавалі Аўсяніка (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). Пры чым тут я? За што купіў, за тое прадаў (В. Каваленка. Падвышанае неба). – Цыц! Ты пры сваім розуме ці што? «Грушы тваёй работа». Мы з ёй разам, калі хочаш знаць, шукаем злачынцу... – Ну тады не ведаю... За што купіў, за тое і прадаў. Людзі і так баюць. Не сам жа прыдумаў (В. Ткачоў. Дрэва...).

– *Насовіч*, с. 48: За што купіў, за тое й прадаў; *Ляцкі*, с. 12: За што купіў, за тое й прадаў.

**З багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца**. *Гл.* З дужым не дужайся, з багатым не судзіся.

**Збоку <заўсёды> лепш відно**. *З пазіцыі староннняга, незацікаўленага чалавека лепш разумеецца, усведамляецца што-н.* Калі пачынаецца сумненне – гэта страшна... А можа, і я – сапраўды не я: збоку ж, кажуць, заўсёды лепш відно. Але з боку сябе Купала бачыць Луначарскага, Карскага, Чарвякова, Коласа, Замоціна (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 481: Збоку лепей відно.

**Збродлівай кошцы хвост уцінаюць**. *Шкадлівага, прагавітага чалавека чакае пакаранне.* Скажам, чалавек, па сваёй прагавітасці або празмернай цікаўнасці, улез не ў сваю справу. За гэта ён пакараны. Гэта з'ява выклікае ў нас прыказку, скажам, такую: «Збродлівай кошцы хвост уцінаюць» (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). Унучак заўважыў, як яна абдымалася з гэтым «супрацоўнікам» на балконе. Збродлівай кошцы хвост уцінаюць. Чаму Іван так цацкаўся з ёй – невядома. Сынка свайго – школьніка, мабыць, шкадаваў, таму і не разводзіўся (С. Лобач. Пажывём для людзей).

– *Насовіч*, с. 48: Збродлівай кошцы хвост уцінаюць.

**Зваранай рыбе вада не патрэбна**. *Гаворыцца як папярэджанне не рабіць што-н. недарэчнае.* [Багдан:] Захапілі мы дзядзінец, як ты нам загадаў. Разбілі і знішчылі ўсё дашчэнту. Усіх пусцілі пад меч. А гэтую ляльку... да цябе прывязлі. Рабі з ёю, што хочаш, твая воля! [Машэка:] Развязаць!.. [Сымонка развязвае Ганцы рукі.] [Багдан:] Дарма! Не варта гэтага рабіць, Машэка. Нашто ёй воля? Зваранай рыбе вада не патрэбна! (В. Вольскі. Машэка).

– *Янкоўскі*, с. 189: Зваранай рыбе вада не патрэбна.

**З ваўкамі жыць – па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць**. *Жывучы ў пэўным асяроддзі, чалавек мусіць прыстасоўвацца да яго, рабіць так, як і тыя, з кім ён жыве.* **Сін**.: *Трапіў у вараны, крычы, як яны*. Дзе дзецца ад усяго гэтага [прагавітага і агіднага]? Ці плюнуць на ўсё, адрачыся ад усяго ды ісці ў свет, шукаць сабе працы і людскога жыцця, ці змагацца з усім гэтым (але якім чынам?), ці, нарэшце, махнуць на ўсё рукой, рабіць па прыказцы «з ваўкамі жыць, па-воўчы выць» (К. Крапіва. Мядзведзічы). Цётка Марыя і цётка Надзя насілі зброю, падзялілі нягоды вайны нароўні з мужчынамі. Забівалі? Магчыма. «З ваўкамі жыць, па-воўчы выць» (А. Тарановіч. Яны). [Артур:] Толькі дурні могуць аддаць такую інфармацыю задарма. А мы з табой не дурні. І яны гэта добра ведаюць. З ваўкамі жыць – па-воўчы выць (М. Матукоўскі. Калізей). Але ж гэта глупства, цяпер жа не тое. З ваўкамі жыць – па-воўчаму выць. Але хто ж воўк, дзе хаваецца гэтая воўчая злосць, у каго ж гэты лёскат воўчых зубоў. Дзе ваўкі, дзе іх воўчыя зубы? (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). Я адзін чужы сярод уркаганаў. Як яно будзе? Вырашыў: з ваўкамі жыць, па-ваўчынаму выць (С. Грахоўскі. Зона маўчання). Быццам яму, Петраку, вялікая радасць піць з ім [Гужам] гарэлку, прыслужваць ды яшчэ слухаць яго знявагі? Але калі хочаш жыць, мусіш трываць не такое. З ваўкамі жыць – па-ваўчынаму і выць (В. Быкаў. Знак бяды).

* Прыйшлося б і Гарыдаўцу тады быць спіцай толькі ў нечым калясе. Баяўся гэтага Гарыдавец, але, калі пайшоў, здружыўшыся, у лес з ваўкамі – па-ваўчынаму і вый (М. Танк. Янук Сяліба). Тут толькі пакажы слабасць, дык цябе адразу з'ядуць, бо навокал ваўкі, каб з імі жыць, трэба па-воўчаму выць... (І. Шамякін. Гандлярка і паэт). Меў Міхед вялікі вопыт, мог з ваўком па-воўчы выць (А. Астрэйка. Прыгоды дзеда Міхеда).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 467: З ваўкамі жыць – па-воўчу выць; Сярод ваўкоў жыць – па-воўчу і выць.

**З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон**. *Каго не бачыш, таго і забываеш, пра таго і перастаеш думаць.* Ваяк не судзіць Насця строга, і ім даруецца віна. Такіх выпадкаў мімалётных, нязначных стрэч, пустых, як сон, у жыцці налічыцца мільён, іх час праносіць беззваротна паводле прыказкі журботнай: «З вачэй далоў – і з сэрца вон» (Я. Колас. На шляхах волі). Каб Сяргей увесь час быў дома, дык яна б [Волька] і не падумала пра Чыгараўца. Мусіць, праўда ў той прыказцы гаворыцца: «З воч далоў і з сэрца вон» (Р. Сабален-

ка. Перастарка). [Ірына:] Ах, Сярожа, Сярожа!.. Цяпер усе хлопцы пасля арміі ў горадзе застаюцца. Я і падумала. Значыць, праўду кажуць: з вачэй далоў і з сэрца вон (М. Матукоўскі. Наследны прынц). Вось і адплата! Не хочуць успамінаць. З вачэй далоў і з сэрца вон... А, бывала ж, гарнуліся, кляліся ў вернасці, віншавалі з перамогай (А. Асіпенка. Лабірынты страху).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 470: Як з вачэй, то і з думкі; Абы з воч, дык і з памяці проч.

**Зверху міла, а ўсярэдзіне гніла.** *Пра неадпаведнасць вонкавага выгляду і сутнасці чаго-н.* Калі сатыра перад Днепрабудам апынецца, дык у яе і душа ў пяткі. Не яе гэта спажыва. Вось калі зверху міла, а ўсярэдзіне гніла, калі яно і вялікае і моцнае здаецца, а ўсярэдзіне збуцвела, гэта для сатыры самы раз, тут ёй ёсць чым пажывіцца (К. Крапіва. Што мне рупіць).

**Зверху шоўк, а ўсярэдзіне шчоўк**. *Кажуць пра няўмелага або някемлівага чалавека, які любіць модна, прыгожа прыбірацца.* Іншая вясковая дваццаць гарадскіх за пояс заткне. Яна табе і вышывае, і шые, і ў полі робіць... Адна назва – гарадская. Зверху шоўк, а ўсярэдзіне шчоўк (М. Лупсякоў. Драбяза).

– *Насовіч*, с. 87: На пузе шоўк, а ў пузе шчоўк; *Янкоўскі*, с. 310: На пузе шоўк, а ў пузе шчоўк.

**З воч далоў і з сэрца вон**. *Гл.* З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон.

**З выбірачкі выбераш гарачку, а калі з раду, то нуду**. *Гаворыцца неадабральна пра капрызнага, пераборлівага чалавека, якога чакае пройгрыш, няўдача*. **Сін**.: *За пераборы лапці ды аборы*. Маці не баялася, што дачка не выйдзе замуж, застанецца ў дзеўках. Але яна, як і ўсе маці, трывожылася за яе. «Замуж замужу рознь. З выбірачкі выбераш гарачку, а калі з раду, то нуду», – любіла паўтараць старая Гарабініха, Клаўдзіна маці (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 30: За перабірачку выбераш гарачку.

**З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>**. *Якая-н. справа, шумная, гучная напачатку, часам завяршаецца нікчэмнымі вынікамі.* **Сін**.: *З вялікае хмары малы дождж (*у 2 знач.*).* – Што скажаш, Янка: хораша, утульна, спакойна тут! – сказаў, азіраючыся навакол, Лабановіч. – Што хораша, то хораша, але не гэта я спадзяваўся пачуць ад цябе, – заўважыў Янка: – Выходзіць, з вялікага грому малы дождж! (Я. Колас. На ростанях). [Бандарчык:] Слава пра наш калгас грыміць на ўсю вобласць. [Здаравеня:] Грыміць, брат, грыміць. Толькі з вялікага грому часамі

малы дождж бывае (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). – Ну, цябе не судзяць... Ды і іх не стануць, – супакоіў Пярэмскі. – З вялікага грому – заўсёды малы дождж (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік). [Насця:] Яна ж ужо ўсё сказала, што ёй трэба было. [Нюша:] А я чакала большай навальніцы. [Федзя:] А гэта заўсёды так: з вялікага грому – малы дождж! (В. Зуб. Злавацца не трэба).

– *Насовіч*, с. 51: З вялікага грому часам малы дождж бываець; *Ляцкі*, с. 13: З вялікага грому малы дождж.

**З вялікае хмары малы дождж**. **1**. *Гаворыцца ў прамым сэнсе, ў дачыненні да хмары і да дажджу.* – Хіба не бачыш, што хмара насоўваецца? – Нічога, не бойся, – дражніцца з сястрою брат. – Не з цукру, не размокнеш. А ты забылася, што з вялікай хмары малы дождж? (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

**2**. *Якая-н. справа, шумная, гучная напачатку, часам завяршаецца нікчэмнымі вынікамі.* **Сін**.: *З вялікага грому малы дождж <бывае>*. Другім рэйсам паехалі, мо паспеюць да цёмнага... Казаў шафёр – многія вярхі пацярэблены ўжо, пабраны. На сухастой давялося націскаць. – З вялікае хмары малы дождж... А дзень канчаецца ўжо (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). Хто на многае спадзяецца, таму мала ўдаецца. Няйначай як у прыказцы: «З вялікае хмары малы дождж» (В. Рагаўцоў. Хто на многае спадзяецца).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 53: З вялікае хмары малы дождж.

**З вялікае хмары малы дождж**. *Гл.* З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.

**Згода будуе, а нязгода руйнуе**. *Пра непасрэдную залежнасць парадку, дабрабыту і пад. ад адносін паміж людзьмі ў сям'і, калектыве і г.д.* Надзея на аднаўленне сямейных адносін з Валяй згарэла ў першы дзень яго вяртання на радзіму, і цяпер ён [Конак] не ведаў, што рабіць са сваім раскіданым гняздом. Згода будуе, а нязгода руйнуе. Яму выпадала жыць на руінах (І. Карэнда. Воплаўская госця). Бачыш, Альбінка, усё ўладкоўваецца, праз год заручымся, а там і вяселле зладзім. Няхай не адыдуць ад нас любоў, згода. Недарма людзі кажуць, што згода будуе... (М. Віж. Лабірынт).

– *Янкоўскі*, с. 120: Згода дом будуе, нязгода – руйнуе.

**З гора і курыца заспявае**. *Бяда, гора змушаюць чалавека на што-н. незвычайнае.* – Прыйсці то ты прыйшоў на гатовае, толькі ці прымем мы цябе, як быўшага манаха... – Людцы мае! Ды то ж было пры старым прыжыме. Я, можна сказаць, даўно ўжо не веру ў рэлігію... А што ў маладосці было, дык то ж, каб на яго немач! З гора, кажуць, і курыца заспявае (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі).

– *Сцяшковіч*, с. 646: На бяду і курыца заспявае.

**Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца**. *І бывалы чалавек можа памыліцца. Гаворыцца ў апраўданне чыйго-н. промаху, памылкі.* **Сін**.: *Конь на чатырох нагах, і то спатыкаецца.* Што ж, я сапраўды памыліўся. Атрымалася, як у той прыказцы: «Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца». Паспадзяваўся на сваю памяць, не заглянуў у запісы – вось і наблытаў (М. Ткачоў. Згуртаванасць).

**З дзявочай красы вады не нап'ешся**. *Дзявочая прыгажосць не самае важнае.* **Сін**.: *З красы не пап'еш расы.* – Хвалю, сынок, хвалю, – падняўся з-за стала бацька, – была ў нас адна дачка Волечка, а цяпер ужо дзве... А пекная якая! – З дзявочай красы вады не нап'ешся! – уздыхнула маці (В. Шырко. Анатоль Мацвеевіч).

* Змоў мне цяпер у князя Сямёна яго пляменніцу Соф'ю. Можа, хоць з роду русінскага мне Бог дзяцей дасць. Няхай сабе і прыгажэйшая Васіліса, ды з красы вады не піць. Хай маладзейшаму дастанецца (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю).

– *Янкоўскі*, с. 121: З дзявочае красы вады не нап'ешся.

**З добрага цеста добрая паляніца, а з добрай дзеўкі добрая маладзіца.** *Кажуць (праз супастаўленне з іншай з'явай) пра добрую маладзіцу з добрай дзеўкі.* – Няўжо, Марыля, яна, статная і гожая, не вартая шоўку, аздобаў усялякіх? – Вартая, Усяслаў, – уздыхнула старая. – Але яна – не баярыня. Воява дачка. Ёй, як і нам усім, трэба ўсё сваё, простае. Іначай сапсуецца. З добрага ж цеста добрая паляніца, а з добрай дзеўкі добрая і маладзіца! (Г. Далідовіч. Кліч роднага звона).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 12: З добрага цеста добрая паляніца, з добрай дзеўкі добрая маладзіца.

**З добраю жонкаю гора – паўгора, а радасць удвайне**. *Часцей ужываецца як парада маладому чалавеку пры выбары нявесты.* – Мяне нябожчык бацька так вучыў: сенажаць агледзь, як раса абсохне, а дзяўчыну – на рабоце, – нібы між іншым сказаў Саўка. – З добраю жонкаю гора – паўгора, а радасць удвайне (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Ліцвінка*, с. 83: Калі добрая жонка, то гора напалову, а радасць удвая.

**З добрым гаспадаром нажывешся, з дрэнным гора набярэшся**. *Ад паводзін, якасцей гаспадара, кіраўніка, начальніка вельмі многае залежыць.* З добрым гаспадаром, сынок, нажывешся, з дрэнным гора набярэшся. Не было ў нас наверсе гаспадароў. Схамянуліся, ды баюся – пазнавата (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

– *Рапановіч,* с. 83: З добрым гаспадаром нажывешся, а з ліхім – гора набярэшся.

**З доўгага выбору лапці і аборы**. *Гл.* За пераборы лапці і аборы.

**Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх**. *Пра пагардлівыя адносіны да здрадніка.* – А што ад яго хацець, – вымавіў Дзягцяр. – Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх (І. Гурскі. Чужы хлеб).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 550: Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх.

**Здраду прымаюць, а здрадніка вешаюць**. *Пра супрацьлеглае стаўленне да здрадніка з боку чужых і сваіх*. [Салдат:] Дазвольце спытаць. Што рабіць з гэтым чалавекам? [Ільзенвельдэ:] З гэтым... чалавекам? Расстраляйце тут жа, зараз, ля грэблі... Як кажа прымаўка гэтага народа: «Здраду прымаюць, а здрадніка вешаюць» (У. Караткевіч. Млын на Сініх Вірах).

– *Федароўскі*, с. 360: Здраду прымаюць, а здрадніка вешаюць.

**З дужым не дужайся, з багатым не судзіся**. *Ужываецца як сцвярджэнне, што судзіцца з багатым – безнадзейная справа.* Пачаліся суды. Ды даўно ўжо нехта разумны сказаў: з дужым не дужайся, з багатым не судзіся... (А. Якімовіч. Канец сервітуту). Сяляне вёскі Красны Бераг ужо даўно судзяцца з адміністрацыяй князя Радзівіла за сервітутную пашу. Апошнія капейкі выцягваюць з іх розныя дамарослыя адвакаты, але толку з гэтага няма... Не шкодзіла б успомніць тут усім вядомую прыказку: «З багатым не судзіся» (Я. Колас. На ростанях). **З багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца**. [Сторож:] Я не суддзя, але наперад кажу, што з багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца. [Жонка:] Мы яго засудзім, наша крыўда відавочная. [Сторож:] Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ (У. Галубок. Суд). **З дужым не бярыся, а з багатым не судзіся**. – Баюся, мае даражэнькія, каб зусім мужа з дарогі не прагналі. З дужым не бярыся, а з багатым не судзіся... (А. Ус. За лесам – бярозавы гай).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 353: З дужым не барыся, а з багатым не судзіся; З моцным не біся, а з багатым не судзіся; З дужым лепш не бароцца, а з багатым не судзіцца.

**Зерне падае (упала, кінута) не на камень.** *Функц. не зам. Павінны быць належныя вынікі пасля чыёй-н. парады, размовы, настаўлення, агітацыі і пад.* Сахута зірнуў на гадзіннік і зразумеў, што савет зацягваецца, але на гэты раз ён не спяшаўся «закругліць» абмеркаванне. А можа, будзе нейкая карысць з гэтай раз-

мовы, бо зерне падае не на камень (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян). У страсным маналогу «кулака» Скуратовіча, акрамя недаверу да ўсіх на свеце, нямала горкай праўды пра жорсткасць жыцця, пра блізкі апакаліпсіс, калі дзеці, «трэцяе пакаленне», будуць бадзяцца беспрытульнымі па ваенных дарогах. Міхалка чуе гэтую яго праваты: зерне падае не на камень (М.Тычына. Цана прароцтва). [Адамовіч] сказаў, што такая [дакументальная] кніга павінна быць, і такую кнігу можа зрабіць толькі жанчына. «Баба бабе раскажа тое, што ніколі не раскажа мужыку...» Святлана Алексіевіч тады працавала ў «Нёмане». Зерне ўпала не на камень... (А. Кудравец. Партрэты). Зерне было кінутае не на камень – яно ўзышло, дало плады. Адным з тых, хто гэтую ідэю [мець сваю самастойную дзяржаву] падтрымаў і панёс далей, быў удзельнік паўстання 1863 г. Ф. Багушэвіч (Б. Сачанка. Беларуская эміграцыя: Факты і меркаванні). Тое, што зрабілі нашы вялікія папярэднікі... не было дарэмным: зерні ўпалі не на камень і далі ўсходы (Н. Гілевіч. Людскае жыццё само не прыйдзе). Добрае, разумнае, справядлівае слова заўсёды дасць плён. Зерне падае не на камень (Настаўн. газ. 2007, 6 чэрв.). Так склалася: у свой час Уладзімір Нікалайчук быў студэнтам факультэта журналістыкі, а я працаваў выкладчыкам (настаўнікам) і вёў дысцыпліны творчага накірунку, кіраваў яго практыкай, быў кіраўніком курсавых і дыпломнай работы. Зерне, як бачыце, падала не на камень. Яшчэ ў студэнцкія гады Валодзя Нікалайчук раскрыў свой талент (Б. Стральцоў. Слова настаўніка).

– Відаць, паходзіць ад назвы аповесці І. Пташнікава «Зерне падае не на камень» (1959).

**З-за блох не кінеш кажуха.** *З-за дробязей нельга пакідаць куды больш важнае, істотнае.* [Дзед Ахрэм:] Панкі.. на карак селі казакам. І хоць ізноў у свет бяжы, шукай для волі рубяжы. [Рыгор:] Куды ж народ ўвесь уцячэ? Сам ад сябе ці што? Цячэ рака, а з рэчкай і ўюны, куды вада, туды й яны, куды народ, туды й паны. [Дзед Ксаверы:] Куды кажух, туды й блыха, з-за блох не кінеш кажуха (М. Клімковіч. Кацярына Жарнасек).

* За апошнія гады не траплялася твора накшталт «Не хлебам адзіным» і яму падобных, аўтары якіх упадабаліся тым шукальнікам блыхі ў новым кажуху, якія з-за гэтай блыхі гатовы былі спаліць кажух (М. Лынькоў. Слаўны час).

– *Ляцкі*, 10: Дзеля вошы кажуха не кінуць.

**Зіма ліха, а без зімы яшчэ горш**. *Пра двоякае стаўленне да зімы*. – Управіліся да зімы ўжо? Тыдзень-другі, зусім малы дзень

будзе. – Восені яшчэ ладна наперадзе. А! У нас кажуць – зіма ліха, а без зімы яшчэ горш. Усяго трэба (А. Кажадуб. Старая хата).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 72: Зіма – ліха, а без зімы яшчэ горш.

**Зімняя ночка – бацьку сарочка**. *Устар. Пра ручное прадзіва ў доўгія зімнія ночы.* Сабіна дзеўкаю папасядзела за тымі кроснамі, нават помніць прымаўку: зімняя ночка – бацьку сарочка. Усё самі рабілі, ткалі, кроілі, шылі (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Насовіч*, с. 49: Зімняя ночка – бацьку сарочка; *Прыказкі*, кн. 1, с. 91: Зімняя ночка – бацьку сарочка.

**З кім жыць, таго не гнявіць**. *Нельга крыўдзіць таго, з кім разам жывеш ці жыў.* – Цвёрда вырашылі ехаць? – бедавала Параска. – Як жа так... – З кім жыць, – развёў рукамі Саўка, – таго не гнявіць (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Насовіч*, с. 157: З кім жыць, таго не гнявіць.

**З кім павядзешся, ад таго <і> набярэшся**. *З кім дружыш, жывеш, водзішся, ад таго міжвольна пераймеш погляды, прывычкі і пад.* Мой таварыш Сяргей вельмі ахвотнік да рыбалкі. Уцягнуў ён у гэтую справу і мяне. Ды так уцягнуў – па самыя вушы! Недарэмна ж кажуць: «З кім павядзешся, ад таго набярэшся» (А. Якімовіч. На рыбалцы). Шыманскі сядзеў моўчкі, поўны дум, як далей жыць. «З кім павядзешся, ад таго і набярэшся, – меркаваў ён. – Калі апынуўся ў балоце, дык трэба неяк выкіроўвацца, каб не трапіць у дрыгву, бо можа засмактаць» (І. Гурскі. Чужы хлеб). [Валерыя Герасімаўна:] Не, дарагуша, далей ад такой інтэлігенцыі... Бо з кім павядзешся, ад таго і набярэшся (П. Васілеўскі. 2 × 2 = ?). А калі ведаеш, дык не хаўрусуйся абы з кім. Недарэмна ж кажуць: з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Кніжкі лепей чытай, з добрымі людзьмі сустракайся... (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

* – А хутчэй – гэта ад Жаны. Яна любіць паказаць сябе. З кім павядзешся... – Ад таго блох набярэшся, – памог сястры Толя, без усмешкі і, здаецца, без асаблівай цікавасці да іх размовы (І. Шамякін. Атланты і карыятыды).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 383: З кім павядзешся, ад таго і набярэшся.

**З красы не пап'еш расы.** *Функц. не зам. Не краса, не прыгажосць істотна, важна. Гаворыцца пры выбары не зусім прыгожай нявесты або жаніха.* **Сін**.: *З дзявочай красы вады не нап'ешся.* Па старых мерках, Сонька была б прыдатнай жонкай Барысу. Жыве побач. Не гультайка, майстрыца. Што красой не ўдалася, дык гэта не загана. Бацька казаў: «З красы не пап'еш расы» (У. Ліпскі. Цунамі над намі).

**Злавілі плотку, што не лезе ў глотку**. *Убачылі, здабылі, знайшлі што-н. нечаканае, абсалютна непатрэбнае*. Рыбы не было, затое паважна сядзела дзябёлая зялёная жаба і са здзіўленнем пазірала на незнаёмую абстаноўку. Якуб так і паехаў са смеху. – Злавілі плотку, што не лезе ў глотку, – рагатаў ён (Я. Колас. На ростанях). Лісоўчыкі, якія скруцілі велізарнага шведскага рэйтара, не ведалі, што з ім рабіць. Палонны паныла стаяў між іх. Чырвоныя абдзёртыя рукі дробна трымцелі. – Злавілі плотку, што не лезе ў глотку, – разгублена шкроб падбародак Антон Даніловіч-Гоцкі. – Трэба было б адразу прыкончыць яго, і ўвесь гамон. А цяпер думай, куды дзець гэту жалезную ляльку (Л. Дайнека. Пра лісоўчыка, злога хлопчыка).

– *Янкоўскі*, с. 215: Злавілі плотку, што не лезе ў глотку.

**Злазь з даху <і> не псуй гонту (гонты, гонтаў)**. *Перастань займацца тым, да чаго нявдатны. Гаворыцца як асуджэнне чыйго-н. няўмельства.* Адкуль ні паглядзі – нікудышны Вы кіраўнік, нядбалы гаспадар. У народзе ў такіх выпадках кажуць: злазь з даху, не псуй гонту (А. Макаёнак. Старшыні калгаса «Спартак»). Я на тваім месцы абмазгаваў бы ўсё як след і, можа, сам адмовіўся б ад гэтай пасады. Раз не можаш, тады злазь з даху і, як кажуць, не псуй гонты... (В. Праскураў. Высокі поўдзень). [Сямёнаўна:] А цяпер, Фядос, злазь з даху і не псуй гонту! Свята ў нас... і суд вялікі... (А. Петрашкевіч. Укралі кодэкс). І мы з Санькам таксама заспявалі, дакладней кажучы, заверашчалі, хоць вушы затыкай... Скок нас з Санькам спыніў. – Ды ну вас, хлопцы, – махнуў ён рукой. – Злазьце з даху, не псуйце гонтаў (І. Сяркоў. Мы – хлопцы жывучыя).

* Кадру, кадру гнаць на фронт! Даволі іх тут песціць! Пара ім з даху злезці, каб не псаваць тут гонт! (Я. Колас. На шляхах волі). Сцяпану дадзена адстаўка. Не псуй, брат, гонту, з даху злазь далоў (У. Корбан. Лоры і Жоры). Выклікаў аднойчы [трактарыста] Сцяпана старшыня калгаса ў свой кабінет. – Нам, братка, «балалаечнікаў» не трэба. Не хочаш быць чалавекам, дык, як той казаў, злазь з трактара і не псуй баразны (М. Пянкрат. Расказы дзеда Яўхіма).

– *Янкоўскі*, с. 277: Злазь з даху і не псуй гонту!; *БРС*, т. 1, с. 329: Злазь з даху, не псуй гонтаў.

**Злодзей крадзе, а лес бачыць**. *Пра непазбежнасць раскрыцця таго, што было чыёй-н. тайнай.* **Сін**.: *Лес крадзе – поле бачыць; Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць; Няма нічога тайнага, каб не стала яўным.* Маці сказала, нібыта між іншым: – Нешта зачасціў да цябе Тамаш. Што ў вас з ім? Шэпчацеся, бы ўсё адно змоўш-

чыкі.. – Ён, мама, і раней часта бываў у нас. І шапталіся мы таксама... – Я-то нічога, хай ходзіць. Толькі баюся, каб не папаліся вы на чым. Асцярожнымі трэба быць. Злодзей крадзе, а лес бачыць... (Б. Сачанка. Загадка аднаго падполля).

**Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ**. *Пра разбуральную моц пажару.*

* – Збірала не адзін год, пэўна, дачцэ на пасаг... – Няма чаго ёй бога гнявіць. Гэта агонь, кажуць, усё забярэ, а злодзей хоць вуглы пакіне. Так што і бабе нешта асталося (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

– *Федароўскі*, с. 357: Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь і тое забярэ; *Прыказкі*, кн. 1, с. 59: Ад злодзея вуглы застануцца, а ад агню нічога; Агонь горш за злодзея: злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь нічога.

**Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа**. *Гаворыцца як сцвярджэнне, што злавіць злодзея – складаная справа.* – А Пятрусь жа дома? – Дзе вы бачылі?.. Пабег шукаць [украдзенага каня]... З Тамашом Кірыкам удвух. Дык каб жа ведаў хоць, у які бок бегчы... – Але. Злодзею, як кажаш, адна дарога, а хто шукае, таму многа, – згадзілася Ганская. – Дык я ж, Язэпка, пайду ўжо (К. Крапіва. Мядзведзічы).

* [Гапон:] Ах, доля ж наша горкая! Відна, як мы крэпка паснулі, злодзеі адпраглі скацінку; трэба папрасіць каня ў суседа Ігната і гнацца. [Куліна:] Ці ты адурэў, ці што? Куды ты пагонішся? Для цябе дзесяць дарог, а для злодзея адна (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты).

– *Насовіч*, с. 16: Вару адна дарога, а хто даганяець, таму многа; *Федароўскі*, с. 357: Злодзею адна дарога, а таму, хто гоніць, – дзесяць; Злодзею адна дарога, а тым, што ловяць, – дзесяць.

**З любым рай і ў шалашы**. *Гл.* З мілым (з любым) рай і ў шалашы.

**Зляпіў бог душу – ні ў пень, ні ў грушу**. *Гаворыцца з асуджэннем пра таго, хто недарэчна паводзіць сябе.* І ўсе гэтыя дні гарнуўся [Мазура] да Змітрыка.., і ўжо на ўсе вычваранні Грушкі толькі са злосцю касавурыўся: «Зляпіў бог душу – ні ў пень, ні ў грушу» (В. Адамчык. Год нулявы). І ўвесь час гэты чалавек апраўдваецца, прабачэння просіць, кланяецца па тры разы аднаму слупу... Ну што тут скажаш – зляпіў бог душу, ні ў пень, ні ў грушу (А. Кажадуб. Рака вады жывой).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 310: Даў бог душу – ні ў пень, ні ў грушу; Сатварыў бог душу – ні ў пень, ні ў грушу.

**З мілым (з любым) рай і ў шалашы (у будане)**. *З любімым чалавекам усюды добра, нават у цяжкіх умовах.* Адной уцехай для нас была прыказка, што з мілым і ў шалашы рай. Затое сапраўдным раем здаўся нам пакой, які праз некаторы час атрымалі мы ў папоўскім доме (К. Крапіва. Ад маленства да сталасці). – Шкада, што ў ім [замку] жыць нельга, – сказаў Сцяпан. – З мілым і ў шалашы рай, – адказала яна [Мая] (І. Дуброўскі. Вялікая Мядзведзіца). – А вы тут доўга думаеце жыць?.. – спытаў Мікола ў Валі. – Пакуль нам няма дзе, – адказала яна. – З мілым рай і ў шалашы, – засмяяўся Вадзім (Л. Гаўрылкін. Прашу звольніць мяне). – Мілы, які ты смешны. А дзе ж мы жыць будзем? – Ты сказала «мілы». Дык жа з мілым і ў шалашы рай (М. Пянкрат. Шчасце маё). Людзі кажуць, што з любым і ў будане рай!.. Любы быў з ёю, быў яе, увесь да капелькі яе!.. (І. Кудраўцаў. Разгневаная зямля). – Неяк бы жылі, – ціха адказала Святлана. – З любым рай і ў будане... (А. Крыга. Порт прызначэння). – А куды мы едзем?.. – А мне ўсё адно, – адказала радасная, задаволеная Клаўдзя. – З мілым рай і ў будане (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

* – Хадзем жа! – Не магу. – Чаму? Адвагі мала. Далёкі свет, чужы... – А помніш, ты казала пра рай і ў шалашы? (А. Куляшоў. Песня аб слаўным паходзе). [Саладуха да Наташы:] Зажывём мы паціху... спакойна... Нашто нам тыя камяніцы?.. Колькі працы!.. Як гэта кажуць: з мілым і ў шалашы добра... (І. Гурскі. Свае людзі). Як захочаш смачна есці, жыць, не лічачы грашы, умудрышся спрытна несці, з мілым рай і ў гаражы! І нясеш, і весела ад любога несіва! (Р. Барадулін. Несуны).

– Запазычанне з рускай мовы, куды выраз прыйшоў з народнай песні на словы паэта Н. М. Ібрагімава – аўтара «Рускай песні» (1815), дзе ёсць такія радкі: «Не ищи меня, богатый, ты не мил моей душе. Что мне, что твои палаты? С милым рай и в шалаше!»

– *БРС*, т. 1, с. 200: З мілым рай і ў будане; *Рабкевіч*, с. 72: З мілым і ў шалашы рай.

**З міру па нітцы – голаму сарочка (кашуля)**. *Ад усіх патроху – і атрымаецца нешта значнае, адчувальнае для каго-н. аднаго.* Пра цесця ў інстытуце маладыя аспіранты гаварылі, што ён працуе па прынцыпу: з міру па нітцы і – голаму сарочка... (В. Гігевіч. Мелодыі забытых песень). Калі нічога не падкіне пляменнік Змітрок, то ягоны цесць, Маруцін бацька Дзям’ян, нешта прыстараецца... Ды і суседзі па рублю падкінуць. Недарма ж кажуць: з міру па нітцы – голаму сарочка (М. Гроднеў. Нязведаная

даль). – Вёска ж зноў уся заселена... Як і была... – Абы зямля, а людзі знойдуцца, – смяецца дзядзька. – З міру па нітцы, а голаму сарочка... То з Сібіру прыехалі, ведаеш, высылка некалі была, то іх выслалі... То з другіх сёл сёй-той перабраўся... (Б. Сачанка. Апошнія і першыя). Чакаць планавай камплектацыі тэлецэнтра раней, чым за пяцігодку, – справа безнадзейная, і Лапін стаў дзейнічаць па прынцыпе: з міру па нітцы – голаму кашуля (В. Блакіт. Уваскрасенне ўчарашняга дня). [Агата (кладзе на прылавак мануфактуру):] А мануфактуру адмярай так. (Бярэ метр, моцна нацягвае на яго матэрыял, адмярае.) Бач, колькі нацягнула. На метр тры сантыметры. Як кажуць, з міру па нітцы, а голаму кашуля. Ад прыбытку галава не баліць (С. Свірыдаў. Любіць не любіць...).

* Увайшоўшы ў пакой, у якім былі накрыты сталы, усе былі ў захапленні. Ёсць што выпіць і закусіць. Румянцава не ўтрымалася: – Усёй грамадой па нітцы, голаму кашуля (І. Гурскі. Вецер веку). Са свету па нітцы, беднаму кашуля. Бадай гэтага прынцыпу прытрымліваліся асобныя і, дарэчы, зусім не бедныя работнікі сэрвісу (Вожык. 1983. № 2). Старшыня дазволіў браць салому з буртоў, дзе выбрана бульба. Дзякуй і за гэта. З кожнага па нітцы – беднаму кашуля (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– *Насовіч*, с. 52: З міру па нітачцы, голаму сарочка; *Федароўскі*, с. 188: З міру па нітцы, то голаму рубашка; *Прыказкі*, кн. 1, с. 371: З міру па нітцы – голаму сарочка; З міру па нітцы, а голаму кашуля.

**З музыкі хлеб невялікі**. *Заробак у музыканта невялікі, незайздросны*. **Сін.:** *У музыкі хлеб невялікі, а спявакі маюць ніякі.* Шосты год ужо [Юлік] жыве. Музыкай, вядома ж, не займаецца, і гэта яго больш за ўсё непакоіць... – З музыкі – хлеб невялікі... Пільнуйся свайго другога бацькі, дык ён цябе і тут, у вёсцы, выведзе ў людзі, без скрыпкі (А. Масарэнка. Юлік, айчым і ваўчанё). Аднойчы пан завітаў да бацькі і за невялікую плату прапанаваў вывучыць Цімоха на музыканта. Але бацька не дазволіў: з музыкі хлеб невялікі (У. Клімковіч. Цімохава скрыпка).

– *Прыказкі*, кн.1, с. 163: З музыкі хлеб невялікі.

**З музыкі хлеб невялікі, а з гулякі – зусім ніякі**. *Кажуць з насмешкай і асуджэннем пра гультаёў*. Раней казалі: з музыкі – хлеб невялікі, а з гулякі – ніякі. Прымаўка, відаць, устарэла напалову. Гультаям ва ўсе часы абы дзень да вечара пражыць, а там хоць певень не кукарэкай.. А вось музыкі сёння ў пашаноце. Дай бог кожнаму за месяц зарабіць, колькі яны зарабляюць за адно вяселле (В. Шырко. О, sancta simplicitas!). У родных Крывічах здаў-

на не ў пашане былі вясёлыя справы. «З музыкі хлеб невялікі, а з гулякі – зусім ніякі», – гаварылі мае аднавяскоўцы. Цанілася чамусьці найболей тое, што здабывалася чорным мазалём, найперш працай на полі (І. Карэнда. Здумкі-згадкі). Стась спакойна бярэ пад бараду скрыпку і пачынае граць з астатнімі... Не думаўшы доўга, бацька адказаў сваёй прымаўкай хутчэй астатнім вясельнікам, чым яму: – Ну, з музыкі хлеб невялікі, а з гулякі – ніякі (У. Клімковіч. Капэла весялосці).

**Знае кошка, чыё сала з'ела**. *Гл.* Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела.

**Знайшоў дурань чарапок і смяецца.** *Праст. Гаворыцца з неадабрэннем пра таго ці таму, хто беспадстаўна радуецца чаму-н., смяецца.* – Знайшоў дурань чарапок і смяецца, – з горкаю ўсмешкаю азваўся Пятро. – Слухаю вас, хлопцы, і дзіўлюся: чаму вы радуецеся?! – раптам, мяняючы тон, накінуўся ён: – Таму, што будуць вас біць шампаламі? (Я. Колас. Дачакаўся).

**З напасці не прапасці**. *Гл.* Ад (з) напасці не прапасці.

**Зняўшы галаву, па валасах не плачуць**. *Страціўшы важнае, вялікае, няма чаго шкадаваць малое, дробязі. Гаворыцца, калі позна і бескарысна шкадаваць што-н.* **Сін**.: *Прапала кароўка, прападай <і> вяроўка; Прапаў конік, прападай і хамуток.* [Жлукта:] Ці думаў я месяц таму назад, што чорт мяне загоніць сюды?.. Ну, як табе падабаецца пакой? [Клава:] А, ужо які ёсць. Зняўшы галаву, па валасах не плачуць (К. Крапіва. Мілы чалавек). Смешна і несур'ёзна гаварыць доўга цяпер пра раскулачванне. Зняўшы галаву, па валасах не плачуць (І. Мележ. Завеі, снежань). Тут, як кажуць, зняўшы галаву, па валасах не плачуць. Раз здарылася – няхай! Я да цябе ніколі з просьбамі не звяртаўся – першы раз (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік). Вось тут і сказаў сваё кулямёт. Злосці было і ў яго, і ў тых, што па барознах бульбы перабягалі сюды. Пашчапалі крыжоў шмат. Было два мармуровыя помнікі – і тым дасталося. Дзе ўжо тут: зняўшы галаву, па валасах не плачуць (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму).

* [Баярын:] Калі што якое, маскавіты выкупяцца тваёй галавой перад манголамі. [Осцей:] Пасля галавы па валасах не плачуць, баярын. Здаецца, так гавораць на вялікай Русі (І. Чыгрынаў. Осцей – Альгердаў унук).

– *Янкоўскі*, с. 189: Згубіўшы галаву, па валасах не плачуць; *Рабкевіч*, с. 83: Зняўшы голаў, па валасах не плачуць.

**Золата за плячыма, а чорт перад вачыма.** *Кажуць, калі чыйму-н. прывольнаму жыццю раптоўна прыходзіць канец.* Атрымалі ў Мінску добрую кватэру. Жыве ў сваю асалоду. Гэтак і было, пакуль выпадак не падвёў. Кажуць жа, золата за плячыма, а чорт перад вачыма... Карацей, муж раней прызначанага тэрміну вярнуўся з камандзіроўкі – застукаў жонку любую ў ложку са сваім лепшым сябрам... Вядома, што ў гэткіх выпадках... І палюбоўніку яна хутка стала непатрэбнай, не кажучы ўжо пра мужа (А. Фомчанка. Выкрасленыя з жыцця).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 483: Золата за плячыма, а чорт перад вачыма.

**Золата і ў смецці (у попеле) блішчыць (відна)**. *Добрае, вартае нідзе не траціць сваіх якасцей, усюды прыкметнае.* – Трэба самому быць толькі добраму, набліжацца нейкім чынам да гэтай эліты. – Сярод смецця? – Хаця б і так. Золата, кажуць, і ў смецці блішчыць. – Устарэла. У вялікай кучы смецця золата век ніхто не заўважыць (Я. Ермаловіч. Валуны). Сват тым часам ужо сеў за стол, паставіў паўлітра і гаварыў далей: – Ой, мацi, кінь чысціць [шкло ў лямпе]. Золата і ў попеле блішчыць. Нас пазнаеш за вярсту. Мы людзі знакамітыя, не лыкам шытыя (У. Дамашэвіч. Дзявочая клятва). – У самыя рукі аддаў [бранзалет]. – Каму? – Вядома, каму – літоўскай князёўне. Ого-го, якая яна прыгажуня. Праўду кажуць: золата і ў попеле відна (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

– *Насовіч*, с. 51: Золата і ў попеле відна; *Прыказкі*, кн. 2, с. 427: Золата і ў гразі блішчыць; Золата і ў попеле свеціцца (пазнаць, відаць).

**З паклону (з паклонаў) галава (галоўка) не баліць**. *Кажуць як адабрэнне пакорлівага, ветлівага чалавека.* Карыся, Кацярынка, старому, кланяйся і маладому, з паклонаў галоўка не баліць, стары і малы благаславіць (В. Дунін-Марцінкевіч. Гапон). Трэба быць пакорлівым і далікатным у абыходжанні: «З паклону галава не баліць» (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

* Бо хоць кажуць, што з уклону не баліць галоўка, – не зважай: з ярма-прыгону выйшла гэта слоўка (Я. Колас. Будзь цвёрды).

– *Насовіч*, с. 158: З паклону галава не баліць нікому.

**З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык, касмыль)**. *Праст. Калі нельга атрымаць ад каго-н. многае, то рады ўзяць хоць што-н. нязначнае. Гаворыцца пра каго-н. з непашанай.* [Скарына:] У крайнім выпадку, калі пагодзімся дараваць доўг вялікаму князю, калі ён пагодзіцца на адкрыццё ў Маскве друкарні, у якой бы я мог рабіць кнігі як на

патрэбу княскага двара і рускай праваслаўнай царквы, так і на вываз у свой беларускі край... [Максім Грэк:] З паршывай авечкі хоць шэрсці клок... (А. Петрашкевіч. Прарок для Айчыны). «З шалудзівай авечкі хоць воўны клок», – падумаў Рыгор Бяда, рады, што і заданне выканаў, і вінтоўку сабе так нечакана здабыў (Б. Сачанка. Вялікі Лес). [Заслонаў:] Пі чай з нямецкім шакаладам. [Тоня:] З нямецкім не хачу. Хай яны ім падавяцца. [Заслонаў:] Ну, гэта ты дарма. З паршывай авечкі хоць поўсці касмык! (М. Матукоўскі. Паядынак). Няхай ён напаследак яшчэ паслужыць беларускай справе; з паршывай авечкі хоць поўсці касмыль... (А. Федарэнка. Нічые). Канечне, Звяждоўскі не быў зацікаўлены ў перамозе рускай арміі і ўсяляк, як мог, аслабляў яе моц. А калі і «нагрэў рукі» на пастаўках, то дзейнічаў практычна па прынцыпе «З паршывай авечкі хоць воўны касмыль» (В. Чаропка. Сякера пры корані дрэва).

* [Каравай:] Пры падпісанні [дагавору] не выпілі магарыч, то давай за скасаванне... [Скаромны, выліваючы каньяк у рот:] Хоць шэрсці клок (А. Макаёнак. Таблетку пад язык). Калі Загадай і Абабурка не дурні, яны пабаяцца такога суда: гэта паставіць крыж на іх кар'еры. Ды хутка [Журковіч] пераканаўся, што з Фросі Абабуркі здзярэш хіба клок воўны, як з паршывай авечкі (І. Шамякін. Завіхрэнне).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 206: З паршывай сабакі хоць шэрсці клок.

**З песні слова не выкінеш**. *Функц. не зам.* **1.** Парадыйную песню, некім перайначаную на гэцікаўскіх хлопцаў, падхапіў і Мяжэнны: «А той Хролік, як у полі волік. Ой, не аддай мяне, маці!». Хролік не крыўдаваў – нічога не зробіш. З песні слова не выкінеш, – падыгрываў на ўсе басы і галасы (М. Гроднеў. Заручыны).

**2.** *Прыходзіцца гаварыць усё, усю праўду. Кажуць у апраўданне, калі даводзіцца гаварыць і што-н. не зусім прыемнае.* Што зробіш, калі гэта праўда, даражэнькі. Людзі ж кажуць: з песні слова не выкінеш... (У. Мяжэвіч. Два Якубы). Як кажуць, з песні слова не выкінеш, – Нідэрланды не толькі змагаліся за сваю незалежнасць і самастойнасць супраць заваёўнікаў, але і самі былі заваёўнікамі – падпарадкавалі сабе Інданезію, Сурынам і большую частку Антыльскіх астравоў (Б. Сачанка. У краіне польдэраў і цюльпанаў). Шмат пра што зараз быццам і ўспамінаць непрыстойна, але, як кажуць, з песні слова не выкінеш... (В. Блакіт. Усмешка Фартуны). Сам выбіраў [жонку], дык, калі што якое, на сябе, як той казаў, і наракай. Ну, а што было, дык было – з песні слова не выкінеш... (М. Кусянкоў. Жар пад прыскам).

– *Федароўскі*, с. 234: З песні слова не выкінеш; *Прыказкі*, кн. 2, с. 195: З песні слова не выкінеш; З песні слова не выкідаюць: як спяваюць, так спяваюць.

**З пустога цэбра вады не набярэш.** *Кажуць пра немагчымасць мець што-н., часцей веды, не атрыманыя ў часе навучання.* Не трэба было Сашу тлумачыць, што з пустога цэбра вады не набярэш... Таму і налягаў на вучобу. І вучыўся слухаць народную мудрасць, бо калі ёсць у мяшку, то будзе і ў гаршку (Настаўн. газ. 2000, 10 чэрв.).

– *Федароўскі*, с. 222: З парожняга не насыпаць; З парожняга не нальеш.

**З пустой бочкі многа шуму.** *Пусты, абмежаваны чалавек мае вялікую ганарлівасць.*

* Як казаў ужо, малоць язык ахвочы. У пустой бочцы звону паўнютка. Як за што возьмецца, мусоліць аб рабоце бясконца, а тая ні з месца (Полымя. 1989. № 5).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 342: З пустой бочкі многа шуму; Парожная бочка моцна грыміць.

**З работы коні дохнуць**. *Гл.* Ад (з) работы коні дохнуць.

**Зранку і коні не п’юць**. *Кажуць суразмоўніку, адмаўляючыся ад яго запрашэння нашча, зранку выпіць спіртнога.* – Сядай, вып’ем разам... – Зранку не спажываю і табе не раю. Зранку і коні не п’юць. Пакінь на вечар (К. Мохар. Апошнія дні).

**З рога ўсяго многа**. *Гаворыцца пра вялікае мноства ўсялякай усячыны.* Там Бог не спазнаны, а тут Бог забыты. А з рога – усяго многа. Хто сумняваецца. А ты прызнайся, прызнайся!.. Што думалася яму [паэту В. Маракову] перад расстрэлам?.. (С. Верацiла. Страх нараджаецца на ўскрайку дня). Прафесар Замоцін пісаў, што Максім Адамавіч супакойваў іх тым, што ў яго... не сухоты і ён хутка ачуняе... Гэта ўжо нешта «з рога ўсяго многа»: можна падумаць, што прафесар няўважліва чытаў успаміны бацькі паэта. Адкуль ён узяў такія звесткі? (Я. Міклашэўскі. Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча). Памылкі друку з’яўляюцца ці не адзіным, але істотным недахопам гэтага змястоўнага выдання... Ну, а далей – з рога ўсяго многа. Тут табе і «на пасту» (замест «на пашу»), і «фартух», і «дзяцька», і «дзвумя» (адразу дзве памылкі ў адным слове!) (ЛіМ. 2000, 2 чэрв.).

– Паходзіць з аднайменнай беларускай народнай казкі, дзе, апрача іншага, расказваецца і пра дзіўны сярэбраны рог, які падараваў журавель беднаму дзеду, пакрыўджанаму панам. Урывак з

казкі: «– Скажы: «З рога ўсяго многа!» – З рога ўсяго многа! – крыкнуў зайздросны аканом. Тут, адкуль ні вазьміся, выскачылі з рога дванаццаць хлопцаў-малайцоў з бізунамі ды давай лупцаваць аканома».

– *Санько*, с. 69: З рога ўсяго многа.

**З тварам да вянца, з розумам да канца**. *Гаворыцца пра перавагу розуму перад прыгажосцю пры выбары жаніха ці нявесты.* **Сін**.: *Хараство (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.* Ідзі, Анютка, за Петрыка. Уся вёска ведае, як ён сам гэтага прагне. Ён разумны, працавіты, памяркоўны, лішне ў чарку не заглядае. З тварам да вянца, з розумам да канца. Падумай, дачушка, што я табе казала (Т. Супрановіч. Жыць ды цешыцца...). Але ці зразумее кароль? Мяне і князя друцкага? Атрымаў ад яго цвёрды наказ: сватаць толькі Соф'ю. З тварам, кажа, да вянца, а з розумам да канца (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 90: З тварам да вянца, а з розумам да канца.

**З твару яйка (яйцо), а ўсярэдзіне баўтун**. *Праст. Кажуць з асуджэннем пра няшчырага, крывадушнага чалавека.* Можа, ён [Мазура] хацеў вырвацца з турмы, спадзяваўся выйсці на волю, такім спосабам знайсці ратунак. Ці, можа, яго дапёк распусны, жулікаваты Грушка, і ён уцякаў абы-куды, хоць у пекла. Бо Грушку таго першага здзеку дараваць не мог і ўжо ў вочы ўпікаў: «З твару яйка, а ўсярэдзіне – баўтун» (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 324: З твару – яйка, а ўнутры – баўтун.

**З хараства вады не нап'ешся**. *Хараство, прыгажосць не асноўнае пры выбары жонкі ці мужа.* – Бойся ты яе [Алесі]. – А чаго я маю баяцца?.. – Харошая надта. А з хараства, кажуць, вады не нап'ешся. Жыць трэба. Мужыка першага са свету звяла... Род ужо іхні гэдакі... (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). **З твару вады не піць**. Пажаніліся. Праўда, не вельмі прыгожая яна была, але, як людзі кажуць, з твару вады не піць (Р. Саламаха. Прывід у скураным крэсле).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 27: З красаты вады піць не будзеш.

**З хаткі ў хатку, дык на рубель упадку**. *Перасяленне на новае месца вымагае значных выдаткаў.* Дый рыштунку многа, што тут гаварыць, з хаткі ў хатку, дык на рубель упадку, а тут не рублём пахне (К. Крапіва. На пасёлкі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 391: З хаты ў хатку – рубель упадку.

**З чужога воза і сярод (у) гразі (броду, балота) злазь (злазяць, злезеш)**. *З чым-н. чужым даводзіцца расстацца і ў самы нязручны момант.* Коля разводзіць рукамі і гаворыць, звяртаю-

чыся да Ціхана: – З чужога воза і сярод гразі злазь. Але нічога, Цішка, лічы, што лыжы ў цябе на нагах (Г. Васілеўская. Малюнак на снезе). – Разважаць будзем потым, – ужо са злосцю сказаў Карней. – Што датычыцца трантаў тваіх, ты забярэш, калі мяне дома не будзе. А пакуль па-добраму – вунь парог. – Ён не аспрэчваў, не агрызаўся. Ведаў, што з чужога воза і сярод броду злезеш (М. Гроднеў. Сын). Ігар ужо збіраўся папрасіцца ў Станіслава, каб ён дазволіў пажыць у яго які месяц ці два, але той апярэдзіў: «Праз тыдзень да мяне прыязджаюць. Так што...» Хто прыязджае і чаго прыязджае, Ігар не дапытваўся. Крыўдна было, што яго як быццам выганяюць, але што зробіш. З чужога воза і ў гразі злазь (У. Шахавец. Двое сярод астатніх). Другому б сказалі: з чужога воза сярод балота злазь – гэтаму паверылі (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

– *Насовіч*, с. 159: З чужога коніка і ў гразі ссядаюць; *Федароўскі*, с. 341: З чужога воза сярод балота злазь; *Прыказкі*, кн. 1, с. 282: З чужога вазка і сярод гразі злазяць; З чужога каня злазь у гразь.

**З шалудзівай авечкі хоць шэрсці клок**. *Гл.* З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці клок.

**З якою лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне**. *Гл.* Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне такім.

**Зямлю ўгноіш – хлеба падвоіш**. *Функц. не зам. Пра прычынна-выніковую залежнасць велічыні ўраджаю ад ступені ўгнаення глебы.* Мы ў горадзе спакваля адвыкаем ад спрадвечнай сялянскай працы. Прыязджаем, вядома, памагаем бацькам. Працуем ужо без натхнення, без радасці. А нашы дзеці, пэўна, зусім будуць вярнуць убок насы ад вазка з гноем: «Фу, смярдзіць!» А што без гною вырасце на пясочках? Лебяда, макрыца? А колькі прыказак народ прыдумаў пра гэты самы гной. «Дзе гноем смярдзіць, там і радзіць. Дзе гной, там і лой. Зямлю ўгноіш – хлеба падвоіш...» (В. Шырко. O, sancta simplicitas!).

– *Янкоўскі*, с. 82: Зямлю ўгноіш – хлеба падвоіш.

**Зямля святая ўсіх прымае**. *Пра смяротнасць кожнага чалавека.* Будзе на свеце хоць трошкі праўды, дык людзі і жыцьмуць. А згоніш яе з зямлі – збірайцеся, людцы, і паўзіце на могілкі. Кажуць, зямля святая ўсіх прымае (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 52: Зямля ўсіх прымае: і здаровых, і слабых; Зямля-матушка ўсіх прымае; кн. 2, с. 415: Зямля святая ўсё прымае.

**Зяць любіць узяць**. *Пра ўзаемаадносіны паміж зяцем і цесцем ці цешчай.* Цешча ўкруга зяця і так і гэтак, зяцёк, сынок.

Што цешчы, абы дачцэ добра было, а дачка не жаліцца. I кабанчык у хлевушку рохкае, дурань, не ведае, што час яго адмераны. Зяць любіць узяць. I Сымоніха рада (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму). Ну, што? Нажылася ўжо ў зяця ў горадзе? Пачакай, соладка не будзе... Кожны зяць любіць узяць... Вось як! (Я. Каршукоў. Тэкля і пеўнік). Іван Андрэевіч злавіў хітранькі падтэкст: не тое што некаторыя жмоты, але не пакрыўдзіўся, наадварот, развесяліўся яшчэ больш. «Зяць любіць узяць» (І. Шамякін. Вернісаж). Малодшы зяць насіў пагоны палкоўніка, даўно меў машыну, ездзіў да цешчы часцяком, асабліва як было чым пажывіцца: як выспелі ягады, як наліліся яблыкі, як падрасла бульба. Нездарма кажуць: зяць любіць узяць (У. Дамашэвіч. Месяц у Раі...).

* [Ціхонь:] Чакай, сваток, пачакай, свацця! I з музыкай нельга спяшацца. Мы людзі не такія простыя, і каб нам сесці, вы павінны вуглы ды кішэні свае патрэсці. Сам ведаеш добра, што зяць стараецца ўзяць ды прыўзяць (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). А падзякі ад дзяцей хіба дачакаешся? Зяць, абы ўзяць, пакуль будзе што даць, а потым цешчу віламі на печ падсадзіць (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Насовіч*, с. 53: Зяць любіць узяць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 99: Зяць любіць узяць; Цесць любіць чэсць, а зяць любіць узяць.

**Зяць на парог – цешча за бутэльку (яешню)**. *Пра гасціннасць цешчы пры сустрэчы з зяцем.* **Сін.:** *Зяць на парог – цешча за яйцы.* Уваходзіць Ганна. У руках бутэлька гарэлкі. [Хазяінаў:] Вось гэта дзела: зяць на парог – цешча за бутэльку. Бадай што, гульнём... [Ганна:] Гуляй, мамо, гуляй, тату, развярнулі свінні хату (А. Петрашкевіч. Соль).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 99: Зяць за парог – цешча за яешню; Зяць на двор, то і чарка на стол.

**Зяць на парог – цешча за яйцы.** *Гаворыцца звычайна жартаўліва ці іранічна пра гасціннасць цешчы пры сустрэчы з зяцем.* **Сін.:** *Зяць на парог – цешча за бутэльку (яешню).* – Дамоў паспееш. А ў нас завядзёнка такая: госць на парог, закуска – на стол, як у прымаўцы. – Вечна ты, жоначка, перайначваеш прымаўкі, – роблена зморшчыўся Вількоўскі. – Трэба: зяць – на парог, цешча – за яйцы. – Без солейка не можаш, – адказала гаспадыня (Я. Курто. На свой хлеб).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 99: Зяць на двор – цешча за яйцы.



**І без папа ведаю (ведаем, знаю, знаем), што ў нядзелю свята**. *Гэта ж – відавочная ісціна. Ужываецца іранічна ў дачыненні да таго, хто сцвярджае што-н. агульнавядомае.* Напэўна, [Семілапаў] сказаў бы ехаць на месца пражывання і ад мясцовага паліцэйскага начальства прасіць дазволу жыць і працаваць у Вільні. «Але я і без папа ведаю, што ў нядзелю свята», – прыгадаў Лабановіч старую прыказку (Я. Колас. На ростанях). – Ачэрпай вады – напаіць трэба, – нехта раіць збоку. – Тппр!.. І без папа ведаю, што ў нядзелю свята. Тппр, каб на цябе Пранцэля не глядзела! Тппр, калёсы перавернеш!.. (Я. Лёсік. Апавяданне без назвы). – Ну і спявак вы, дзядуля! Пашукаць такога. – Я і без папа ведаю, што ў нядзелю свята, – задаволена згадзіўся дзед, але працягваў слухаць пахвальбу (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча). – Не пазірай воўкам. Не збіраюся я адбіваць тваю абранніцу... – А я і без папа ведаю, што ў нядзелю свята, – адказаў Іван, хоць толькі што пэўнасці такой у яго не было. – Ведаю. Што не адаб'еш, – паўтарыў ён (Маладосць. 2005. № 4).

* – Ты мне закрэсліла ўсю нататку! – Лішняга нічога я не крэсліла. Ты чуў, як у нас старыя людзі кажуць: «І дурань ведае, што ў нядзелю свята!» А як мы з табой пачынаем? Мы, – гэта яна сказала дыпламатычна, нібыта і яна дольшчыца на тую нататку. – «Мы ўсе добра ведаем...» А калі мы ўсе добра ведаем, дык навошта тады і галаву людзям дурыць? Ты скажы пра тое, чаго мы не ведаем (У. Дубоўка. Жоўтая акацыя).

– *Насовіч*, с. 53: І без папа знаем, што ў нядзелю свята; *Янкоўскі*, с. 181: Без папа ведаю, што ў нядзельку свята; *Прыказкі*, кн. 1, с. 332: Мы ведаем без папа, што ў нядзелю свята; Вядома і без папа, што ў нядзелю свята.

**<І> бога хвалі і чорта не гнявi**. *І адных паважай, і другіх не настройвай супраць сябе.* [Навум:] Пан з панам пазнаюцца, а мы ўсё-такі ў бядзе. Добра кажа прыгаворка: і бога хвалі і чорта не гнявi (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). **Бога любі, але і чорта не гнявi.** Якой бы Доля з нараджэння ні была, змагацца з гэтым лёсам, калі ён дрэнны, неяк трэба было спрабаваць. У народных песнях, казках беларус – напалову язычнік (бо быў бліжэй да прыроды): «Бога любі, але і чорта не гнявi» (Звязда. 2003, 3 студз.).

– *Насовіч*, с. 53: І богу маліся, і чорта не гнявi; *Ляцкі*, с. 4: Бога хвалі, чорта не гнявi; *Федароўскі*, с. 53: Бога не гнявi і чорта не смяшы; *Прыказкі*, кн. 2, с. 158: І бога хвалі і чорта не гнявi.

**Іван ківае на Пятра <а Пётр на Івана>**. *Функц. не зам. Адзін звальвае сваю адказнасць, віну на другога.* Там [у трэсце] адмаўляюцца: маўляў, да нас гэты бальшак не мае дачынення. Райвыканкам таксама захоўвае поўнае маўчанне. Вось і атрымліваецца, што Іван ківае на Пятра, а дарога як ляжала ў калдобінах, так і ляжыць (Звязда. 1976, 11 верас.). Адгаворваюцца [мясцовыя ўлады], што загаду не атрымалі. Вось я ваенны чалавек, у нас на першым плане загад і яго выкананне... А тут Іван ківае на Пятра... Чакаюць (А. Кажадуб. Дуб). Увядзенне мэрства таксама накіравана на ліквідацыю звыклага нашаму вуху і вобразу жыцця: Іван ківае на Пятра, а Пётр – на Івана (Звязда. 1990, 14 снеж.). **Янка ківае на Петруся, а Пятрусь на Янку**. – Мы кіраваліся паказаннямі тэхнічнага аддзела... – Янка ківае на Петруся, а Пятрусь на Янку?.. Так... Ну, а былі якія здарэнні з цягнікамі пры такіх от бессістэмных прыпынках ля пільні? – Не... Не было, – пачуўся суладны адказ (Х. Шынклер. Сонца пад шпалы).

* На тэлебачанні, здаецца, не засталося ніводнага яго запісу... – А ты куды глядзеў? Не мог зрабіць перадачу пра земляка? – Я ж не літдрама. У мяне навукова-папулярная рэдакцыя. – Ну во, калі трохі змяніць выслоўе, то будзе: Пятро ківае на Івана. Вось такія мы гаспадары... (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян).

– Запазычанне з рускай мовы, дзе прыказка развілася на аснове фразеалагізма *ківаць на Пятра,* які па сферы першапачатковага ўжывання з'яўляецца крылатым выразам з байкі І. А. Крылова «Люстэрка і Малпа». У маралі байкі гаворыцца: «Што Клімыч рукі грэць умее, – людзі знаюць; пра хабар Клімычу чытаюць, а ён украдкаю ківае на Пятра» (Пераклад М. Клімковіча).

**І воўк сыт і каза цэла.** *Гл.* І воўк сыты і козы цэлы(-я).

**І воўк сыты і козы цэлы(-я).** *І для адных, і для другіх выгадна. Гаворыцца, калі імкнуцца знайсці выйсце з цяжкага становішча. Часцей ужываецца ў складаным сказе пасля злучніка* к а б. **Сін.:** *І козы сытыя і сена цэлае.* [Грышка, да бацькі і шляхты:] Злажыце [грошы] у кучу ды паднясіце найяснейшай кароне. Дык ён зжаліцца над вамі і дзела кончыць; вось як яны, людзі судовыя, умеюць: і воўк будзе сыты, і козы цэлы (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта). [Ядзя:] Ды што ты, Федзя! І гэта гаспадарка палову часу ад школы адрывае ў мяне, а ты яшчэ павялічыць хочаш яе! [Федзя:] Трэба рабіць так, каб быў і воўк сыты – і козы цэлыя (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі)**. І воўк сыт і каза цэла.** [Кацярына:] Вось лепей памірыцеся ды думайце, як з гэтай бяды выка-

раскацца, каб воўк быў сыт і каза цэла (Я.Купала. Прымакі). **І козы цэлы і ваўкі сыты.** [Глуздакоў:] Як быць? З кім параіцца?.. [Цесакоў:] Ёсць! Прыдумаў! Ход канём!.. І козы цэлы і ваўкі сыты! Лявоніха! Жонка Чмыха! Замест зяця! (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце). **І ваўкі сыты і авечкі цэлы**. Трэба было неяк мяняць сваю пазіцыю, мяняць так, каб і ваўкі былі сыты і авечкі цэлы (М. Лынькоў. Містэр Лаяна).

* А гэта якраз тое, што Шлык шукаў – можна рабіць халтуру. Маўляў, авечкі цэлыя і ваўкі сытыя (Я. Радкевіч. Антаніна). У нашай справе, на жаль, не бывае так, каб і козы аставаліся цэлыя і ваўкі былі сытыя... (У. Карпаў. За годам год).

– *Федароўскі*, с. 254: Так трэба рабіць, каб воўк быў сыты, і козы цэлы; *Прыказкі*, кн. 2, с. 454: І воўк сыты, і козы цэлы; *Ліцвінка*, с. 107: І ваўкі сыты, і козы (воўцы) цэлы.

**І да булавы трэба галавы**. *Усё трэба рабіць абдумана, кіруючыся разумным сэнсам. Звычайна кажуць як папрок каму-н. за яго паспешлівыя, непрадуманыя дзеянні*. Што ты нарабіў, Сашка?.. Каму стала лягчэй ад тваіх палымяных прамоваў? Што зменіцца да лепшага? І да булавы трэба галавы... (Л. Рублеўская. Сутарэнні Ромула).

–*Федароўскі*, с. 44: І да булавы трэба галавы; *Санько*, с. 13: І да булавы трэба галавы.

**І да грыба трэба нагнуцца**. *Каб дасягнуць чаго-н., мусіш часам рабіць і што-н. не зусім прыемнае.* [Царык:] Будзем на волі. Я, можа, і не пайшоў бы да гэтага Карыбы, але, як кажуць, і да грыба трэба нагнуцца (В. Адамчык. Голас крыві брата свайго).

**І за лучынку знойдзе прычынку**. *Кажуць з незадавальненнем пра таго, хто беспадстаўна прыдзіраецца да каго-н.* **Сін**.: *І за шчэпку знойдзе прычэпку.* – Ах, вы дурныя і хітрыя! – загневаўся яшчэ больш цар скамарохаў. – Голадам морыце людзей! Бязбожнікі вы! Грэшнікі вы! У пекла я вас кіну! Вы хочаце мець вечных дармовых парабкаў? – Ой, ой, ой... – узмаліўся пан. – Строгі бог гасподзь, і за лучынку знойдзе прычынку, каб накрычаць... (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка). Валодзька не так ужо і многа жыве з Надзяй, але не скажаш, што жылі яны душа ў душу. Усяго было. І цешча за лучынку знаходзіла прычынку, і ў Надзі часта субота заскоквала раней за пятніцу (М. Гроднеў. Заручыны).

– *Насовіч*, с. 45: І за лучынку можна найці прычынку; *Янкоўскі*, с. 290: І за лучыну знойдзе прычыну.

**І за шчэпку знойдзе прычэпку**. *Кажуць з незадавальненнем пра таго, хто беспадстаўна прыдзіраецца да каго-н.* **Сін**.: *І за*

*лучынку знойдзе прычынку.* Пра цівуна расказваюць на сяле, як пра самага страшнага разбойніка. Цівун і за шчэпку знойдзе прычэпку, каб паздзекавацца з чалавека (А. Якімовіч. Адкуль ліха на свеце). – Гыр-гыр-гыр! – Кусі, кусі, кусі!.. На тое ж вы людзі, а прычэпку знойдзеш і за шчэпку... (М. Гарэцкі. Антон).

– *Насовіч*, с. 55: І за шчэпку найдзеш прычэпку; *Прыказкі*, кн. 1, с. 318: І за шчэпку пан знойдзе прычэпку; *Янкоўскі*, с. 290: І за шчэпку знойдзе прычэпку.

**І козы сыты(-я) і сена цэлае.** *І для адных, і для другіх выгадна. Гаворыцца, калі імкнуцца знайсці выйсце з цяжкага становішча. Часцей ужываецца ў складаным сказе пасля злучніка к а б ці к а л і.* **Сін.:** *І воўк сыты і козы цэлыя.* Карнач праявіў выключную прынцыповасць, напісаўшы пісьмо. У той час, калі многія з нас «хэндэ хох» перад міністэрствам. Будзем шчырымі і скажам яму дзякуй, Карначу. Гэта той варыянт, калі і козы сытыя і сена цэлае (І. Шамякін. Антланты і карыятыды). Васіль Пятровіч барабаніў пальцам па стале, шукаючы такога выйсця, якое завецца: каб і козы былі сытыя і сена цэлае (П. Пестрак. Серадзібор). Казік падышоў да прадаўшчыцы, стаў раіцца з ёю, што б гэта купіць свайму зяцю, каб, як кажуць, і козы былі сытыя і сена цэлае (В. Дайліда. Буслы над вёскай). Цапок малады і павінен ведаць гэтую дзяўчыну. А што, калі Цапок паручыцца і пад яго адказнасць я адпушчу дзяўчыну?.. І козы сыты і сена цэлае... (Б. Сачанка. Пакуль не развіднела). **І сена цэла (-е) і козы сыты(-я).** – Ну, што? Лоўка я падвёў? І сена цэла, і козы сыты! – смяяўся Базыль, сходзячы з веранды (Х. Шынклер. Ічэ). – А вы не знаходзіце, што за гэта можна паплаціцца галавою? – Трэба рабіць так, каб і сена было цэлае і козы сытыя... (І. Гурскі. Вецер веку). Нічога, мы падумаем, як абставіць справу так, каб і сена было цэлае і козы сытыя (І. Навуменка. Ачышчэнне). Васіль даложыць куды трэба, даложыць, як і праз каго можна даведацца пра дзеда Талаша, а там няхай дапытваюцца самі. І сена будзе цэла, і козы будуць сыты (Я. Колас. Дрыгва).

– *Ляцкі*, с. 14: І козы сыты, і сена цэла; *Федароўскі*, с. 141: Каб козы былі сыты і сена цэла; *Прыказкі*, кн. 2, с. 454: І козы сыты, і сена цэла.

**І козы цэлы і ваўкі сыты.** *Гл.* І воўк сыты і козы цэлы (-я).

**І кот не мыўся, і госць з’явіўся**. *Кажуць пра нечаканае з’яўленне каго-н.* Аднойчы з-за парослых шчаціністым калючым ельнікам узгоркаў вываліўся купецкі воз – шасцёра саней, гружаных мёрзлай рыбай. Купцы, абматаныя ад марозу тоўстымі башлыкамі,

шчодра падзяліліся з ваяводам сваім грузам. – І кот не мыўся, і госць з’явіўся, – пажартаваў Зміцер Дайнеба (Л. Дайнека. Назаві сына Канстанцінам).

**Ілбом сцяны не праб’еш**. *Гл.* Галавою (ілбом) сцяны не праб’еш.

**Ілья ўкінуў лядня**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара; пасля Ільі – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 20 ліпеня (па старым стылі) – вада ў рацэ халадзее.*

* Даўно ўжо ўкінула лядня Ілля ў раку (Р. Барадулін. Каго, каму я і чаму...).

– *Раманаў*, с. 298: Ілля ўкінуў лядня («пасля Іллі купацца грэх»). *Лядзень* – лядзяк.

**<І> мой грош таксама не шчарбаты.** *Гаворыцца тады, калі хто-н., жадаючы ўдзельнічаць у агульнай справе, уносіць у яе свае грошы.* – Ну, хлопцы, вы мяне проста ўзрушылі, я проста не чакаў, прызнаюся, – усхвалявана загаварыў Кірыенка. – Калі ўжо так, то дазвольце і я вазьму [гарэлкі] тры па сто, мой грош таксама не шчарбаты (Н. Гілевіч. Што ты шукаеш, Сцяпан?). **І мая капейка не шчарбатая**. [Уладзімір:] Не будзем марнаваць час на размовы, даражэнькая! Паспяшаюся ў Ноўгарад, збяру грошы на банкет і зараз жа назад! Я не такі багаты, як мой браток Яраполк, князь кіеўскі. Але і мая капейка не шчарбатая (Я. Казлоў. Старажытны перыяд, або Гісторыя і каханне).

– *Раманаў*, с. 290: Аж і мая капейка не шчарбатая (жаданне ўдзельнічаць у складчыну); *Федароўскі*, с. 11, 313: Наце, можа, і мой асьмак не шчарбаты; Няхай і мой траяк не будзе шчарбаты (пры адорванні на хрэсьбінах і вяселлі); *Прыказкі*, кн. 1, с. 476: І мая капейка не шчарбатая.

**І на сонцы ёсць плямы**. *Функц. не зам. І ў значным, станоўчым, прывабным могуць быць недахопы, заганы, штосьці адмоўнае.* Але ёсць плямы і на сонцы, і Долін мой праз пару дзён убачыў, што іх меў і Дон (Я. Колас. На шляхах волі). Думаеш, ты бязгрэшны? Бязгрэшных не бывае... І на сонцы плямы ёсць. А ты – не сонца. Усіх не сагрэеш (І. Шамякін. Губернатар). Мяне часта людзі бачаць і адчуваюць такім, якім я хацеў бы быць, але да гэтага яшчэ далёка. «І на сонцы ёсць плямы» (М. Забэйда-Суміцкі. Мужным мне нялёгка быць...). Уваходзіць Уладзімір з нажом у руцэ, цягне за сабою Рагнеду. [Уладзімір:] Дурніца, нож патрэбны для іншай справы! [Рагнеда:] Выбачай, даражэнькі, і на сонцы ёсць плямы! Я проста хацела напалохаць цябе. І здаецца, у мяне атрымалася... (Я. Казлоў. Старажытны перыяд, або Гісторыя і каханне). Існава-

ла тэорыя: без недахопаў прац не існуе! На сонцы і то плямы ёсць! (Маладосць. 1996. № 7). Думаецца, калі пісьменнік нават пасля нязначных ушчуванняў у свой адрас (і на сонцы ёсць плямы!) рэагуе акрэсленым чынам, то наўрад ці ён сапраўды заслужана і справядліва абураецца ды шукае праўду, спрабуючы абараніць сябе, зняважанага (І. Запрудскі. Бадай-2).

* Трымаю голаў на тваіх каленях, і згоды я ніколі тым не дам, хто кажа: «І на сонцы плямы-цені...» А я хачу, каб ты была без плям (Р. Тармола. Галоўнае). Глядзі, ты выбіўся ў намы [намеснікі], але запомні – і тады ты не шукай на сонцы плямы і не чыні другім бяды (М. Скрыпка. Тармазы).

– *Рапановіч*, с. 196: І сонца свае плямы мае.

**Індык думаў, думаў (многа думаў) ды здох**. *Праст. Ужываецца як рэакцыя на слова д у м а ц ь (п а д у м а ц ь) у папярэдняй рэпліцы суразмоўніка.* – Заўтра можа пайсці дождж, і хлеб загіне. Паветкі ж ніводнай не маеце. Ты падумаў аб гэтым? – Індык многа думаў ды здох (В. Праскураў. Святая сівізна). – Згубіў што?.. – Але, згубіў... Супакой згубіў. – І на вуліцы знайсці думаеш? – Але, думаю... Усё думаю... – Індык думаў, думаў ды здох (М. Ільінскі. Любоў да «бліжняга»). [Сцяпан:] Мала што яны думаюць. У народзе ёсць такая прымаўка: індык думаў, ды здох... (С. Свірыдаў. Аперацыя «Сабіна»).

– *Янкоўскі*, с. 301: Індык думаў, думаў, папаў у мох дый здох; *Выслоўі*, с. 60: Індык думаў, думаў дый здох.

**І няўмека пячэ (спячэ), калі з засека цячэ**. *Кожны згатуе ежу, калі ёсць з чаго гатаваць*. **Сін.:** *Калі ёсць у мяшку, то будзе і ў гаршку; Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня.* Калгас.., дзякуй богу, жыве-такі, трымаецца, і мы заадно з ім, галатва, не пухнем з голаду... Яно ж, і няўмека пячэ, калі з засека цячэ! (А. Масарэнка. Між зямлёй і зорамі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 251: І няўмека спячэ, калі з засека цячэ.

**<І> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць**. *І хацелася б зрабіць што-н., ды немагчыма. Гаворыцца, калі каму-н. прыходзіцца прымірыцца з абставінамі.* **Сін.:** *Рада б цяпер наша мама выйсці за пана, ды пан не бярэ.* – Жаніцеся, ці што, а то... – Я і рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць! – выгукнуў Міця наўздагон Сямёну. – Каця не хоча, кажа, мала зарабляю (А. Макаёнак. Твой хлеб). Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць – помню гэтую ўсмешку змалі. А цяпер думаю, што трымаюць нас грахі як даўжэй на зямлі (Р. Барадулін. Рад бы ў рай...). – Дзяўчына яна прыгожая, хлопцы знойдуцца. –

А ты адмаўляешся? – І рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць (І. Чыгрынаў. Трэція пеўні). **Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць**. У тым-то, брат, і загвоздка, што хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць. На чыім возе едзеш, таму і песню спявай (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). **<І> рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць**. – Здаравенькі булы! Бог помач! – Казаў бог, каб і сам дапамог! – адказваюць яму. – І рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць... (Р. Няхай. Туман над стэпам). [Гудовіч:] Ну, лавіце на здароўе [рыбу]. [Максіменя:] А вы? [Гудовіч:] Другім разам. Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць (К. Крапіва. З народам). **Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць**. Мне вядома і тое, чаму на міліцыю злуешся. Стаіць, відаць, птушачка ў пашпарце. Але і сам я не лепшы. Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць (І. Навуменка. Вася-Бліцкрыг).

* Майстры такія ветлівыя, вясёлыя. «Раней не можам, дарагі грамадзянін. Рады б душою, ды не можам. Як той казаў, і рады б у рай, ды план не пушчае. Самі разумееце...» (М. Пянкрат. Дыялог).

– *Насовіч*, с. 143: Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 168: Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць; Хацела б душа ў рай, ды грахі не пушчаюць.

**І ракаў не хачу, і ног не мачу**. *Гаворыцца як катэгарычны адказ ад якой-н. прапановы суразмоўніка.* **Сін.:** *І рыбы не хачу, і адзежкі не змачу.* – Вы будзеце камерсантам, значным камерсантам... Адкрыеце ўласную краму пад шыльдаю... – Не, браткі, і ракаў не хачу, і ног не мачу. Я ў прынцыпе супраць прыватнага капіталу... (У. Караткевіч. Млын на Сініх Вірах).

– *Янкоўскі*, с. 216: І ракаў не хачу, і ног не мачу.

**І рыбы не хачу, і адзежкі не змачу**. *Кажа той, хто адмаўляецца ад удзелу ў чым-н.* **Сін.:** *І ракаў не хачу, і ног не мачу.* [Іцка:] Але з ты, Цітачка, сказы, цы заплаціс! [Навум:] І піць не хачу і грошы не плачу. Знаеш прыпавесць: і рыбы не хачу і адзежкі не змачу (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 152: І рыбы не хачу і хваста не мачу.

**<І> сам не гам і другому не дам**. *Кажуць з неадабрэннем пра таго, хто сам не карыстаецца і іншым не дае карыстацца чым-н.* «Нізашто ніколі не аддам я людзям таго, што сам прыкмеціў». Калі перакласці гэтае высокае віційства на мову прозы, дык дакладны сэнс гэтых радкоў такі: і сам не гам і другому не дам (В. Вітка. Пакаленне, гартаванае ў агні). Пакуль што яны баяцца мяне, лічацца, але калі зразумеюць, што я і сам не гам і другому не дам, то... (Л. Гаўрылкін. Не магу без цябе). Паставілі ка-

пец, і цяпер ужо ніхто сюды не меў права паткнуцца. Так ён і марнеў, гэты кавалак, без карысці, нават жывёлу на ім не пасвілі; сам, значыцца, не гам і другому не дам (К. Чорны. Бацькаўшчына). Пад кустом ляжалі зрэзаныя ліпавыя пруты. Нехта нядаўна праходзіў тут, парэзаў усё і кінуў: «Сам не гам і другому не дам» (А. Чарнышэвіч. Світанне). А сад Сінчык зглуміў: пазабіваў медныя цвікі ў ствалы, і дрэвы пасохлі. Сам не гам і другому не дам (Х. Жычка. Зброю бяруць сыны). **Як сабака на сене – і сам не гам і другому не дам**. Плюшкін, самы сапраўдны Плюшкін нашага часу. Як сабака на сене – і сам не гам і другому не дам (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца).

* Калі сам не гам, дык нікому не дам? Так ты падумала пра мяне? (П. Пестрак. Гумно без варот). А на што яна разлічвала, калі ў народны кантроль, у парткам падавала? Вярнуць мяне? Каб я раскаяўся і вярнуўся? А мо проста кары для мяне хацела? Каб напакасціць больш... Калі сама не гам, то й другому не дам... (П. Місько. Градабой).

– *Насовіч*, с. 152: Сабака на сене ляжыць, сама не есць і другім не дасць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 333: Сам не гам і другому не дам; Сядзіш, як сабака на сене: і сам не гам і другому не дам.

**І сена цэла(-е) і козы сыты(-я).** *Гл.* І козы сыты(-я) і сена цэлае.

**Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару**. *Умей своечасова засцерагчыся ад якой-н. непрыемнасці, небяспекі.* – То каб нам якую паперку... – А навошта яна вам? – Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару... Добра было б друкаваную паперку мець, тады ніякая навалач не прычэпіцца (І. Гурскі. Вецер веку). Быць ці не быць? Не сумняваюцца толькі тугадумы. Разумныя людзі праўду кажуць: іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару... (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 449: Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару.

**І сцены маюць вушы**. *Каго-н. могуць падслухаць. Ужываецца як папярэджанне быць асцярожным у размове, каб не падслухалі.* [Навум:] Маўчы, Ціт! Не наша дзела аб гэтым гаманіць. Знаеш прымаўку: і сцены маюць вушы (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Размова гэта вялася ў гумне і, здэцца, сам-насам, але ж праўду, мусіць, людзі кажуць, што і сцены маюць вушы (К. Крапіва. Каровін мужык). Усе, хто быў у карчме, пераглядаліся і пачыналі гаварыць: – Пане Казімір, ціха, а то і сцены маюць вушы...

(П. Пестрак. Камень). Хоць цесць і свой чалавек і ў зяцевы справы лішне нос не торкае, але не ўсё можна ў хаце гаварыць. Бо, як вядома, і сцены маюць вушы (І. Навуменка. Вецер у соснах). **І ў сцен ёсць вушы.** Рыбак хацеў перапыніць Басю – навошта было расказваць усё тое? Каму не вядома, што і ў сцен ёсць вушы (В. Быкаў. Сотнікаў).

* [Князь:] А часам сцены вушэй не маюць, пан Ашторп? [Ашторп:] Панове, будзьце спакойны (В. Гарбацэвіч. Максім Саравітан). Сядзелі, ціха разважалі, бо вушы могуць быць і ў сцен (Я. Колас. Рыбакова хата).

– *Насовіч*, с. 57: І сцены маюць вушы; *Прыказкі*, кн. 2, с. 43: І сцены маюць вушы; І вуглы вушы маюць.

**Ісціна нараджаецца ў спрэчках**. *Гл.* У спрэчках (спрэчцы) нараджаецца ісціна.

**І ў сцен ёсць вушы**. *Гл.* І сцены маюць вушы.

**І чорт літасць мае.** *Гаворыцца з асуджэннем пра таго, хто не мае літасці, спагады, жаласці да каго-н.* [Фядора:] Ад гэтага ж абмену [кватэрамі] можна ровам зараўці. І чорт жа літасць мае! Нашай жа хадзьбе канца-берага не відно (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Янкоўскі*, с. 67: І чорт літасць мае.

**Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць**. *Кажуць іранічна пра таго, хто, адправіўшыся куды-н., забыўся ўзяць з сабой неабходную рэч.* «Фу, чорт, а мянташку не ўзяў», – падумаў ён [Васько] і ўжо ўголас, каб не выклікаць кпінаў, сам пажартаваў: – Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць. Мікалай Васільевіч, а вастрыць касу пальцам загадаеш? (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 270: Пайшла рында жыта жаць, забылася сярпа ўзяць.

**Ішоў ваякам, а назад ракам**. *Праст. Гаворыцца насмешліва пра таго, хто выхваляецца сваёй адвагай.* – Давай прыспешвай, – зверавіта азірнуўся, нібы ўгадаў Імполевы думкі, Рэпка. – Нешта ты ўсё агінаешся. – Ішоў ваякам, а назад ракам. Адважны знайшоўся, – каламуццю закіпела ў Імполя злосць на Рэпку (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 554: Ішоў да нас ваякам, а назад паўзе ракам.

**<І> я не я і кабыла не мая**. *Гл.* Я не я і хата не мая.

# *К*

**Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.** *Гл.* Каб (калі б) ведаў, дзе павалішся, <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.

**Каб ведаць чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.** *Гл.* Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.

**Каб ды кабы, дык у роце б раслі (выраслі) грыбы.** *Праст. Наўрад ці магчыма гэта. Ужываецца жартоўна або іранічна як рэакцыя на слова* к а б, *ужытае суразмоўнікам у канструкцыі з умоўным ці мэтавым значэннем.* Косця выбраў каменьчык, прыжмурыў вока, шпурнуў, адно шкельца пырснула, але на зямлю амаль нічога не ўпала... – Вось каб выламіць. – Каб ды кабы, дык у роце б выраслі грыбы, – адмахнуўся Косця (Маладосць. 1998. № 7).

* – Каб палажыць канец бяспраўю і няволі кожнага чалавека, – прадаўжае чытаць Ясь, – трэба дабіцца такіх законаў, каб... – Каб і каб, – ківае галавой дзядзька Кананові, – во капаюць. – Каб ды кабы, на печы б раслі грыбы, – устаўляе сваё слоўца рабочы за спінай Парфена (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Выслоўі*, с. 61: Каб ды кабы, дык у роце раслі б бабы, тады быў бы не рот, а <поўны> агарод.

**Каб (калі б) ведаў, дзе павалішся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.** *Калі б ведаў, што здарыцца нешта непрыемнае, то асцярогся б, зрабіў бы інакш. Гаворыцца, калі чалавек бачыць вынікі сваіх дзеянняў, учынкаў і шкадуе, што быў неабачлівы.* – І навошта ж было шукаць сабе ліха?.. – А я вам і казала, каб не ездзілі, – ціха заўважыла Ліда, не падымаючы галавы. – Эх, – уздыхнуў Лабановіч, – каб ведаў, дзе павалішся, то саломкі падаслаў бы (Я. Колас. На ростанях). [Федзя:] Хто ж мог нават падумаць, што ўсё так павернецца... Каб жа ведаў, дзе павалішся, то саломкі падаслаў бы (В. Зуб. Злавацца не трэба). [Арсен] ужо здагадаўся, што ферма, на якую яго прывёз намеснік, «гасцявая», «узорна-паказальная»... Пацёгся пешку, праявіў прынцыповасць: глядзець дык глядзець. Каб ведаў, дзе ўпадзеш, саломкі падаслаў бы... (М. Герчык. Вяртанне да сябе). Міла гаворыць: – Ну, што ж цяпер расстройвацца попусту, не падымеш яго. Адкуль хто ведае. Нездарма ж людзі гавораць: калі б ведаў, дзе павалішся, то саломкі падаслаў бы (В. Гігевіч. Варыянт). **Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца (пакоціцца), то пераступіў бы тое месца (саломкі патрусіў бы). –** Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пе-

раступіў бы тое месца, – заўважыў Ціток (М. Лобан. На парозе будучыні). – Людскі быў чалавек... І жыць мог бы яшчэ доўга... – Да-а-а... Каб ведаў чалавек, дзе пакоціцца, то саломкі патрусіў бы... (П. Місько. Градабой).

– *Насовіч,* с. 65: Каб веданне, айдзе павалішся, валей бы сесці там; *Прыказкі,* кн. 2, с. 485: Каб ведаць, дзе павалішся, саломкі бы падсцяліць; Каб ведаў, дзе ўпаду, дык і саломкі падаслаў бы; Як бы чалавек знаў, дзе спатыкнецца, то б абышоў тое месца.

**Каб на хмель (на гарох) не мароз, <дык> ён бы <цераз> тын перарос**. *Гаворыцца з насмешкай пра таго, хто пагардліва-фанабэрыста выхваляецца дасягнуць чагосьці, але церпіць няўдачу.* Янычары нібы спатыкнуліся, карацейшым і драбнейшым зрабіўся крок. Аказалася, што і ім, султанавым сынам, не вельмі хочацца паміраць. Ды Гасан Нечапай.. і не падумаў спыняцца. Як гара, наваліўся ён на ліцвінаў... Але Ян Карсакоў, захіснуўшыся шчытом, так гвазданууў асілка цяжкай шыпаванай булавой па пукатай грудзіне, што той збіў дыханне, захаўкаў ротам, захістаўся. – Каб на гарох не мароз, ён бы цераз тын перарос, – весела сказаў Іван Маладзей. – Зараз мы цябе, страхалюдзіна турэцкая, падмарозім (Л. Дайнека. Назаві сына Канстанцінам). – З-за чаго ж увесь сыр-бор разгарэўся?.. – Правініўся!.. – А што? Каб на хмель не мароз, ён бы тын перарос! Ведаеце, Мацвей Іванавіч, мала прыемнага, і ганарыцца ёй няма як і забыць няможна... (В. Якавенка. Ах, Арэса, Арэса...).

– *Ляцкі*, с. 15: Каб на хмель не мароз, дык бы тын перарос; *Янкоўскі*, с. 217: Каб на хмель не мароз, дык ён бы тын перарос.

**Каб не было снегу, не было б і следу.** *Без прычыны нічога не бывае. Гаворыцца тады, калі распаўсюджваюцца якія-н. чуткі.* **Сін.:** *Дыму без агню не бывае* (у 2 знач.). – Ага, раз апраўдваешся, то дыму без агню не было... Значыць, грэўся ля Соф'інага цяпельца... Мо адаграваў мёрзлыя рукі, га? – хіхікнуў Стась. – І нічога тут благога няма, не чырваней ты, не сарамота гэта. Бо каб не было снегу, не было б і следу... Як гэта нармальны рыцар выпусціць з рук здабычу? (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю).

– *Федароўскі*, с. 306: Каб не было снегу, то і не было б следу.

**Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце.** *Каб чалавеку не трэба было есці і піць, ён быў бы надзвычайна багатым.* **Сін.:** *Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка.* [Трубайла:] Мой старэйшы брат загінуў, і зараз калішні хутар павінен належаць мне. Можа, вы можаце гэта аформіць? [Штаркенфауст:]

Добра. Добра. Эверт, яшчэ чарку чалавеку. [Трубайла:] Як кажуць, каб не дзірка ў роце – хадзіў бы ў злоце. Ваша здароўечка, панове [п'е] (У. Караткевіч. Млын на Сініх Вірах).

* І ўсё ж трэба было жыць, выкручвацца, бо голад – не цётка. «Каб не было дзіркі ў роце, хадзілі б у золаце», – успамінаў Андрэй, едучы на мясакамбінат (А. Камароўскі. Смаката).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 257: Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце.

**Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка.** *Пра вялікія выдаткі на яду і адзенне.* **Сін.:** *Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце.* Кажуць, каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка. За абновамі ў нашай вёсцы не ганяюцца. У кожнага мужчыны ёсць выхадны касцюм, чыстыя кашулі, чаравікі, галіфэ, хромавыя боты (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 267: Каб не ежка, не адзежка, то была б грошай дзежка.

**Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).** *Кажуць пра цесляроў, якія пры будаўніцтве драўляных будынкаў усе хібы сваёй працы хаваюць з дапамогай моху і кліноў.* – А мох навошта, – прыйшоў на дапамогу Антону з суседняга вугла цясляр. – Вы хочаце сказаць: «Каб не клін ды не мох, дык цясляр бы падох». Гэта старая прыказка (А. Пальчэўскі. Вясна на аблогах). З хлопцаў якія яшчэ там былі плотнікі. Як у той прымаўцы: «Каб не клін ды не мох, то і плотнік бы здох» (С. Кухараў. Бацькавічы). – Сцягнем скобамі стойку з вуглом, да канца веку будуць сцены стаяць. А ў шчылінкі моху пабольш... – Ага... Каб не клін ды не мох, то і цесля б здох... (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...).

– *Федароўскі*, с. 175: Каб не клін ды не мох, цесля бы здох; *Прыказкі*, кн. 1, с. 157: Каб не клін і мох, то плотнік даўно б здох; Каб не клін ды не мох, даўно б майстра здох.

**Каб не мерлі, дык бы неба падперлі.** *Кажуць пра няўмольнасць і непазбежнасць смерці кожнага чалавека.* **Сін.:** *Людзі мруць, нам дарогу труць.* Самым прыбытковым бізнесам, асабліва ў райцэнтрах і мястэчках, стаў выраб трунаў. На іх сталы попыт і грошы жывыя, як любяць казаць у народзе. Здаровы народны фаталізм: каб не мерлі, дык неба б падперлі (С. Астравец. Жыццё ёсць жыццё). Усё жывое павінна некалі памерці. «Каб не памерлі, дык неба б падперлі». Здаецца, гэтак кажуць на планеце Зямля? (Л. Дайнека. Чалавек з брыльянтавым сэрцам). Навакольныя вёскі апусцелі: маладыя плішчацца ў Мінск, Маладзечна, а старыя ідуць

да «Пасэцкага». І тут нічога не паробіш – такія законы жыцця. Нездарма людзі кажуць: каб не мёрлі, дык неба падпёрлі (Л. Левановіч. Чалавечы век).

* А вось да смерці [гарадчукі] падыходзілі спакойна. «По одном, по одном ды ўсе помром, бо каб ні ўміралі, то б небо подпіралі!» – складна прыгаворвалі, а маглі і хітрэй пажартаваць... (Л. Дранько-Майсюк. Горад Боны і Давыда).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 414: Каб не мерлі, дык неба падперлі; Каб людзі ды не мерлі, то б неба падперлі.

**Каб не смяяліся і не цешыліся, дык даўно павесіліся б.** *Без смеху і іранічнага стаўлення да цяжкіх жыццёвых умоў нельга пражыць.* Бабачкі! Не плачце. У перадавіках усе гады хадзілі. Стаханаўкі. Сталіна перажылі. Вайну! Каб не смяяліся і не цешыліся, дык даўно павесіліся б (Крыніца. 1993. № 3).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 402: Каб не смяяліся ды не цешыліся, так бы даўно павесіліся.

**Каб не спатыкацца, трэба пад ногі прыглядацца.** *Каб не памыліцца, трэба быць уважлівым да ўсяго, ва ўсім разабрацца.* – А я думала, ты з нашай фельчаркай Сімошкінай ажэнішся... – Ну і сказала! Як кажуць, каб не спатыкацца, трэба пад ногі прыглядацца. Я гэтай Сімошкінай баяўся, як смерці (Я. Галубовіч. Жыві сабе).

– *Янкоўскі*, с. 249: Каб не спатыкацца, трэба пад ногі прыглядацца.

**Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.** *Каб пазнаць чалавека, трэба з ім доўга пражыць разам.* Сябры жылі пад адною страхою не дужа вялікі час. Яны лічылі, што ведаюць адзін аднаго да самых што ні ёсць маленькіх дробязей. Ды ў народзе бытуе простая мудрасць: каб пазнаць чалавека, дык трэба з'есці з ім пуд солі (Я. Колас. На ростанях). Мяне і раней цікавіў Корань, з ім было аб чым пагаварыць, але сёння ён паўставаў у іншым святле. Не дарма кажуць: каб чалавека пазнаць, трэба з ім пуд солі з'есці (І. Гурскі. На скрыжаванні дарог). Нарэшце прыглядзіся да гэтай самай Каці. Колькі ты яе ведаеш? Зусім мала. А можа, яна і не такая, як табе здалося. Каб чалавека пазнаць, трэба пуд солі з'есці (Л. Гаўрылкін. Каця). Алесь лічыў сябра памяркоўным. А тут – не пазнаць яго стала. Нібы падмянілі камсорга. І Алесь падумаў: «Відаць, нездарма кажуць: каб ведаць чалавека, трэба з'есці з ім пуд солі...» (І. Сіняўскі. Заранка). **Трэба пуд солі з'есці, каб пазнаць чалавека.** Не крыўдуйце. У каго не бывае памылак. Не адразу разбярэшся, хто добры, а хто дрэнны.

Трэба пуд солі з’есці, каб пазнаць чалавека, – гаворыць людская прымаўка (М. Пянкрат. Буян).

– *Федароўскі*, с. 62: Каб пазнаць чалавека, то трэба з ім бочку солі з’есці; *Прыказкі*, кн. 2, с. 482: Каб пазнаць чалавека, трэба з ім пуд солі з’есці.

**Каб пілося ды елася ды яшчэ хацелася.** *Ужываецца як жартаўлівы застольны тост.* Плісні хто [у кілішак]. Другую прынята піць без перадыху... Каб пілося ды елася ды яшчэ хацелася, значыць... Ну ды ладна... За вас, братва. І за дружбу нашу... (Маладосць. 1989. № 5).

* Усе трое зайшлі ў «Закусачную». Хутка на стале з’явіліся выпіўка і закуска. – Ну, хлопцы, каб жылося-вялося-елася ды яшчэ хацелася! – падняў тост Волах (Л. Прокша. Каб жылося-вялося).

– *Выслоўі*, с. 161: Дай божа, каб пілося, елася ды яшчэ хацелася!

**Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці**. *Каб дабіцца чаго-н. жаданага, трэба дзейнічаць, старацца, праяўляць актыўнасць*. **Сін**.: *Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся; Не раскусіш арэх, зерня не з’ясі*. Бацька Іван Васільевіч прайшоў шлях ад качагара да машыніста паяздоў, маці Ніна Рыгораўна шчыравала на льнокамбінаце. У сям’і часта паўтаралі мудры народны выраз: «Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці» (У. Вялічка, А. Марціновіч. Аршанскі плацдарм).

– *Санько*, с. 7: Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці.

**Каб свінні рогі, не саступіла б (не сышла б) з дарогі.** *Калі б была ў каго-н. улада, сіла, магчымасць, то ён крыўдзіў бы іншых, злоўжываў бы сваім становішчам. Гаворыцца з асуджэннем пра несправядлівага чалавека.* Пазнаныя пры дапамозе назіранняў асаблівасці характару жывёлы пераносяцца звычайна на чалавека: «Каб свінні рогі, не саступіла б з дарогі» (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). – Пра Кандыбовіча ты чуў? – спытаў Ганько ў Станіслава. – А як жа! Каб свінні рогі, не сышла б з дарогі (І. Гурскі. Чужы хлеб).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 343: Каб свінні рогі, не саступіла б з дарогі; Дай свінні рогі, то не будзе дарогі.

**Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.** *Справядлівую справу не перамагчы; праўду не схаваеш.* Сёння ваша права, але наша праўда. І гэтую праўду вам не задушыць, бо, як гаворыцца, каб сонца засланіць, вушэй асліных мала (Я. Міско. Яго любілі на «Крэсах»). Той, хто збіраецца спыняць гэта развіццё [беларускай культуры і мовы], няхай успомніць словы Крапівы: «Каб сонца засланіць – вушэй асліных мала» (У. Дубоўка. Пра нашу літара-

турную мову). На ўрачыстым прыёме кожнаму з гасцей з розных рэспублік было прапанавана прывесці ў тосце нейкую мудрасць з роднага фальклору. Я з ходу нічога іншага не прыдумаў, як працытаваць Крапіву: «Каб сонца засланіць – вушэй асліных мала» (Я. Брыль. Пішу, чытаю, жыву).

* Твой голас ніхто не заглушыць... Не! Сонца асліныя вушы сабой не заслоняць ніяк! (Я. Колас. Да трыццацігоддзя Кастрычніка). Не ўдаецца і ніколі не ўдасца асліным вушам засланіць Сонца, прыхаваць ад працоўных многіх краін свету ўсю хвалюючую праўду пра вялікія перамогі сацыялізму (М. Лынькоў. Пісьменнік-грамадзянін).

– З байкі К. Крапівы «Сава, Асёл ды Сонца», якая заканчваецца радкамі: «І вось Аслу нарэшце ясна стала: каб Сонца засланіць – вушэй асліных мала».

**Каб таго сабаку воўк з'еў, што на свой хвост брэша.** *Гаворыцца з абурэннем пра таго, хто хоць і аб'ектыўна, але не са станоўчага боку распавёў вусна ці пісьмова пра сваіх суседзяў, землякоў і пад.* «Што ты нарабіў там? – ледзь не плакала ў трубку маці. – Хто ж гэта праўду піша? Суседзі злуюць... Дажыўся, таварыш пісьменнік, дапісаўся... Вось так: ты не вучыш бацькоў, як бульбу акучваць і даіць карову, а яны раяць, як трэба пісаць. Сам вінаваты. Гаварыў нябожчык дзед Алесь: каб таго сабаку воўк з'еў, што на свой хвост брэша. Але ж вельмі ўжо хацелася прачытаць земляку хоць старonaчку пра нашу вёску (В. Шырко. O, sancta simplicitas!).

– *Федароўскі*, с. 269: Каб таго сабаку ваўкі з'елі, што на свой хвост брэша.

**Каб такіх часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі.** *Зламысны праклён у дачыненні да нядобрага, шкоднага чалавека.* Наняла [Алена] чалавека з суседняй вёскі страху накрыць. Сядзіць той на страсе, малатком цюкае. Тым часам і абедаць упору. Прывяла чалавека ў хату, частаваць пачала. Бутэльку на стол паставіла: «Пі, чалавеча». А не ведала таго, што гарэлку зяць даўно выпіў, а замест яе вады наліў... – Каб такіх, як твой зяць, часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі! – прабурчаў Марцін (А. Вараповіч. Ластаўкі пакідаюць гнёзды).

– *Федароўскі*, с. 62: Каб такіх людзей густа сеялі, ды рэдка сходзілі; *Янкоўскі,* с. 361: Каб такія часта сеяліся ды рэдка ўзыходзілі; *Рапановіч,* с. 84: Каб такіх многа сеялі, ды мала ўсходзіла; Хай такіх густа сеюць, ды рэдка ўсходзяць.

**Каб той розум наперад, што пазней прыходзіць.** *Кажуць, калі хто-н. са спазненнем рэагуе на што-н., калі патрэбная думка прыходзіць запознена.* **Сін.:** *Кожны па часе мае розум; Мужыку розум прыходзіць па шкодзе.* Каб той розум наперад, што пазней прыходзіць!.. Мо не давялося б ляжаць у бальніцы, бы прыкуты Праметэй, не дзяўблі б мяне дактары ўколамі-блакадамі (П. Місько. Ахвяра моцы). **Каб той розум наперадзе, што ззаду**. – У кожнай справе ёсць свае плюсы і мінусы... Але каб я ведаў, што гэтым скончыцца... – Каб жа той розум наперадзе, што ззаду... Усе мы разумныя пасля бяды... (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

– *Федароўскі*, с. 263: Каб то быў той чалавеку розум спераду, што ззаду; *Сцяшковіч*, с. 641: Каб той розум наперад, што ззаду.

**Кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася.** *Перамагае ў якой-н. справе дужэйшы, спрытнейшы.* **Сін.:** *Хто дужшы, той прутшы.* Да суда адносіны досыць скептычныя, бо тут праўда заўсёды на баку дужэйшага, багацейшага: кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Прыказкі*, кн., 1, с. 354: Кабыла з ваўком цягалася – хвост ды грыўка асталася.

**Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).** *У якім бы стане ні знаходзіўся чалавек, яго думы і дзеянні звязаны з жыццёвымі, надзённымі інтарэсамі.* **Сін.:** *Паміраць збірайся, а жыта сей.* – Мне вунь – тры чвэрці да смерці, ці ўжо пра станік пытацца... – Нічога, варухнуў калматымі бровамі і адышоўся ад печы Улас Корсак, – кабыла здыхае, а за траву хватае. Так і ты мо... (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). Разведчыкі ўбачылі ў возе і іншую «траву». Нарабаванаю «травою» было і тое, што хавала жонка пад фартухом. Сапраўды, «конь здыхае, а траву хапае» (Ф. Янкоўскі. Пра запаветнае).

– *Насовіч*, с. 61: Кабыла здыхаець, а траву хапаець; *Прыказкі,* кн. 1, с. 143: Кабыла здыхае, а за траву хватае (хапае).

**Каб яды, як на дзяды, а рабіць (працаваць, работы), як у нядзельку.** *Кажуць з неадабрэннем пра тых, хто любіць шмат і смачна паесці, а да працы не мае ахвоты. (На Дзяды – старадаўняе памінанне нябожчыкаў – гатавалася сем-дзесяць страў: куцця, бліны, клёцкі, яечня, мяса і інш.)* Старалася, гатавала, а яны з норавам. Распанелі, павыдумлялі нейкія першыя, другія. Хочуць, каб яды, як на дзяды, а працаваць, як у нядзельку (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў). Такім, хто марыць, каб яды – як на дзяды, а работы – як у нядзельку, будуць даваць ад варот паварот (В. Гродні-

каў. Непаднятая цаліна). [Малдрык:] Прыдворныя мне зайздросцяць. Каб прымелі, то ў лыжцы вады ўтапілі б. Карацей, па ўзросце маю права на пенсію. Хачу на печы ляжаць і каб яды было, як на дзяды, а работы, як у нядзельку (Я. Казлоў. Старажытны перыяд, або Гісторыя і каханне). Гэтак, бывае, марым: каб яды было, як на дзяды, а работы, як у нядзелю (Я. Сіпакоў. З чаго мы смяёмся).

* У хаце жылося несамавіта: штодзённы недастатак!.. Праўду кажуць, найбольш вінават быў гэтай бядзе сам Сцёпка: хоць любіў, каб яды было, як на дзяды, але хацеў, каб работы было, як у нядзелю (Ядвігін Ш. Зарабіў).

– *Янкоўскі*, с. 265: Каб яды – як на дзяды, а каб рабіць – як у нядзельку.

**Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць.** *Кажуць іранічна пра таго, хто беспрычынна спалохаўся чаго-н.* Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць (Эпіграф да байкі К. Крапівы «Чорт»). Белавалод адхіснуўся назад, але, прыгледзеўшыся, здагадаўся, што ніякі гэта не чалавек, а палавецкі ідал, якога паганцы прыцягнулі са стэпу. Праўду кажуць людзі: кажух ляжыць, а дурань дрыжыць (Л. Дайнека. След ваўкалака).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 247: Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць.

**Казала качарга гуляць да чацвярга**. *Гаворыцца жартаўліва як станоўчы адказ на чыю-н. просьбу ці прапанову (звычайна пайсці ці паехаць куды-н.).* [Малдрык:] Прыдворныя мне зайздросцяць. Каб прымелі, то ў лыжцы вады ўтапілі б. Карацей, па ўзросце маю права на пенсію... [Вітаўт:] Разумею цябе, Малдрык. Казала качарга гуляць да чацвярга. Адпускаю са службы. Але не з пустымі рукамі, а з узнагародай. Атрымаеш футры і коней. І сто коп грошай (Я. Казлоў. Старажытны перыяд, або Гісторыі і каханне).

– *Шкраба*, с. 107: Казала качарга гуляць да чацвярга; *Аксамітаў*, с. 47: Казала качарга гуляць да чацвярга. У абедзвюх працах прыказка пададзена без тлумачэння, але ў слоўніку А. Аксамітава гаворыцца, што яна запісана А. Вярыгам, апублікавана ім у зборніку «Прыказкі Лагойшчыны» (Нью-Йорк, 1960) з такім, хутчэй за ўсё, народнаэтымалагічным паясненнем: «Даўней вяселле ў Беларусі звычайна працягвалася да серады, але, калі госці разгуляюцца, дык яно працягваецца да чацвярга. А калі і ў чацвер госці не разыходзіліся, дык гаспадару даводзілася разганяць вяселле качаргой». Параўн. у рамане У. Гніламёдава «Валошкі на мяжы» – у эпізодзе, дзе размова ідзе якраз пра вяселле: «А Гамон толькі дапа-

магае – казала качарга гуляць вяселле да чацвярга! – падахвочваў ён гасцей, каб болей выпівалі і закусвалі».

**Казала ліха, што не быць дабру.** *Гаворыцца з асуджэннем таго, хто не верыць у надыход добрага, лепшага.* – Куды ж горш. Але – адужаем неяк [пасляваенную разруху]... – Казала ліха, што не быць дабру, – падтрымала яе [Аўдоццю] Аксіння. – Эх, чаго плакаць! Пераб'ёмся як-небудзь! Не можа ж быць, каб не адужалі! Не калекі ж і не паны, рукі ёсць, дзякуй богу! (І. Мележ. Мінскі напрамак).

– *Насовіч,* с. 59: Казала ліха, што не быць дабру; *Федароўскі,* с. 164: Казала ліха, што дабра не будзе.

**Казала Насця, як удасца.** *Невядома, ці ўдасца ажыццявіць што-н.* – Папрывыкалі, каб вам усё гатовае, каб усё само ў хату плыло. Савецкая ўлада вас, галоту, паразбэшчвала. Немцы цяпер як стой адвучаць... – Казала Насця, як удасца, – прыгадаў Дзям'ян прымаўку (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). – Зямліца што трэба... Ну, цяпер трымайся, Васіль Іосіфавіч. Хопіць табе ў перадавіках хадзіць... – Казала Насця, як удасца, – жартуе Ціхан. – Налета і наша брыгада атрымае да трохсот гектараў тарфянікаў (В. Праскураў. Сонца ў зеніце).

– *Рабкевіч*, с. 188: Сказала Насця: як удасца.

**Казаў бог, каб <і> ты памог.** *Кажуць жартаўліва ў адказ на зычэнне пры рабоце: «Памагай бог!»* – Памагай табе бог, Пракоп! – пад самае вуха пракрычаў Кандрат. – Казаў бог, каб ты памог, – прагугніў у адказ Пракоп (М. Лобан. На парозе будучыні). – Памагай бог! – Казаў бог, каб і ты памог, – у тон яму адказвае Аўдоля, не пакідаючы малаціць (К. Крапіва. Мядзведзічы).

– *Янкоўскі*, с. 344: Казаў бог, каб і ты памог; *Выслоўі*, с. 176: – Памагай бог! – Казаў бог, каб і ты памог.

**Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.** *Пра залежнасць дабрабыту ў гаспадарцы ад яе гаспадара.* [Куторга:] Ды і пасаг [Марыся] мае гаспадарскі: адна ў бацькоў, а стары грошы асьмінаю мерае; у гумне поўна, у хаце дастатак, і абора багата. Добра гутарка кажа: калі абора цячэ, – гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, – гаспадар з хаты ўцячэ (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта).

– *Федароўскі,* с. 121: Калі гумно цячэ, то гаспадар з дому ўцячэ, а калі хлеў цячэ, то ён аладкі пячэ.

**Калі бацька рыбак, то і сын (сыны, дзеці) глядзіць на ваду.** *Дзеці пераймаюць схільнасці, прывычкі сваіх бацькоў.* **Сін.:** *Ад*

*крывога дрэва не бывае прамога ценю; Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Яблык ад яблыні недалёка падае; Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка; Які куст, такі і адростак; Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын; Якое карэнне, такое і насенне.* – Не буду крывіць душой, прыелася мне гэтая работа [на рачным параходзе]. Здаецца, запрог бы коніка і басаnож, усмак прайшоўся за плугам ці ўзяў бы сякеру ў рукі, распраміў плечы... Эх, праўду кажуць, калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду... (В. Шырко. Споведзь правінцыяла). Часам гляджу на іх [сям'ю фермера] і думаю: вось каб усе ў нас так працавалі, мы б паўсвета прадуктамі завалілі. Малыя і тыя, хоць з-за руля галоўкі не відаць, а машыну водзяць, за трактар садзяцца... Праўду кажуць: калі бацька рыбак, то і дзеці на ваду глядзяць (В. Гроднікаў. Яд контррэвалюцыі).

– *Насовіч,* с. 62: Калі бацька рыбалка, дык і дзеткі глядзяць у ваду; *Прыказкі*, кн. 2, с. 125: Калі бацька рыбак, то й сын у воду паглядае.

**Калі б ведаў, дзе паваліўся, <то> саломкі падаслаў бы.** *Гл.* Каб (калі б) ведаў, дзе паваліўся, <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.

**Калі беднаму жаніцца, <то і> ноч кароткая.** *Гл.* <Як> сіраце жаніцца, <дык> і ноч (ночка) кароткая (малая).

**Калі б маладосць умела (ведала), а (калі б) старасць магла.** *Функц. не зам. Кажуць у дачыненні як да маладых людзей, якія яшчэ многае не ўмеюць, не ведаюць, так і да старых, якія ўжо не ўсё могуць, не на ўсё здольныя.* Маладыя мала чаго ведаюць. Не ўмеюць... Як гэта ў народзе кажуць: калі б маладосць умела, калі б старасць магла... (Л. Левановіч. Ларыса, або Прыгоды аўтамабіліста). Калі б маладосць ведала, а старасць магла (Эпіграф да аднаго з раздзелаў рамана В. Гігевіча «Пярэварацень»). Мушу прызнаць з запозненым шкадаваннем: каб праявіў у тыя гады больш цікаўнасці і назіральнасці, карысць была б відавочная. Калі б старасць магла, а маладосць умела! Сёння застаецца толькі ўздыхаць ды дакараць сябе (М. Зяньковіч. Вяртанне гонару).

– Калька з французскай мовы: *Si jeunesse savait, si vieillesse pouvait.* Аўтар афарызма – пісьменнік Анры Эт'енне (1531–1598), ужыў у зборніку «Les Premices» (1594).

**Калі Бог захоча пакараць каго, дык таго пазбаўляе розуму.** *Гл.* Калі Бог захоча (хоча) пакараць каго (чалавека), то адбярэ яго розум (таго пазбаўляе розуму).

**Калі Бог захоча (хоча) пакараць каго (чалавека), то (дык) адбярэ ў яго розум (таго пазбаўляе розуму).** *Гаворыцца з асуджэннем, калі хто-н. дзейнічае неразумна, робіць непрадуманыя, дзівацкія ўчынкі.* – Але ж [японцы] на нешта спадзяюцца, калі не пабаяліся першымі зачапіць нас... – Калі Бог захоча пакараць каго, то першым чынам адбярэ ў яго розум, – строга кажа пісар (Я. Колас. На ростанях). – І дурны ж ты, Іван, дурны! Праўду кажуць, калі Бог захоча пакараць, дык адбярэ розум. – Слухай, не капай! Без цябе моташна. А стараешся дарэмна – не адгаворыш (С. Грахоўскі. Засвеціцца акно). – Далёка едзеце, калі не сакрэт? – Далёка. – А чаму ж тут злезлі? – Нячысцік спакусіў... Кажуць жа людзі: калі Бог захоча пакараць чалавека, дык адбярэ ў яго розум (А. Пальчэўскі. Жніўеньская раніца). У сваім блізкім да вар'яцтва паталагічным жаданні ўтрымаць уладу наўрад ці яны разумеюць, што твораць. Сапраўды, калі Бог хоча пакараць, таго ён пазбаўляе розуму. Яны ўжо пэўна страчваюць розум (В. Быкаў. Баль у часе чумы). Аўтар нібы развіваў тэзіс адной мудрай прымаўкі, што калі Бог хоча пакараць чалавека, то спярша адбярэ ў яго розум. І тады, само сабой, чалавек наробіць усяго... (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

– Калька з лацінскай мовы: *Quem Deus nerdere vult, dementat prius*.

**Калі важыў на рыбу, трэба важыць і на юшку.** *Калі наважваешся на штосьці значнае, нельга адмаўляцца і ад чаго-н. дробязнага, ад якога залежыць поспех і ў дасягненні таго значнага.* [Юлія:] Калі ты мяне паслухаеш у адным дзеле, то, можа, мы і зладзім... Навумка, я хачу, штоб ты надзеў адзежу ды на маё места прыйшоў сюды [у сад да Яна]. Хадзі, я ўжо цябе навучу, як маеш з ім абайціцца. [Навум, які хацеў бы ажаніцца з Юліяй:] Глядзі, мая перапёлачка, штоб з гэтага піва не выйшла якога дуру... Але што рабіць? Чалавек, калі важыў на рыбу, трэба важыць і на юшку (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч*, с. 12: Важыш на рыбу, важ і на юшку; *Прыказкі*, кн. 1, с. 462: Калі ж важыў на рыбу, трэба важыць і на юшку.

**Калі воран каркае (крача) – бяда будзе.** *Ужываецца як народная прымета.* [Дамарад:] Да чаго раскаркаліся вароны. Галалоб, гэта на дождж? [Галалоб:] Калі воран каркае – бяда будзе. [Дамарад:] Ну, я ў гэтыя забабоны... Вось калі па справе ідзеш і заяц дарогу перабяжыць... (А. Дзялендзік. Грэшная любоў).

* Крача воран. Чуеш, воран крача? Да чаго б яно, браток Рыгор? (Г. Бураўкін. Рыгору Барадуліну).

**Калі гавораць гарматы, музы маўчаць.** *У ваенны час музы (мастацтва), любячы цішыню і спакой, не праяўляюць сябе, маўчаць.* Кажуць, калі гавораць гарматы – музы маўчаць. Сапраўды, так часам бывае. Скажам, Янка Купала на пачатку Першай сусветнай вайны, у 1915 г., замоўк як паэт, не напісаўшы за тры гады ні радка (В. Рагойша. «Душой і сэрцам мы з вамі, герой...»). Знакаміты афарызм «Калі гавораць гарматы, музы маўчаць» жыццём – дзякуй богу – не пацвярджаецца. Нідзе і ніколі – ні ў сусветнай гісторыі, ні ў айчыннай. Так было ў глыбокай старажытнасці, калі славутыя песняры ішлі наперадзе адважных вояў... (С. Кліменценка. Калі музы не маўчаць).

* Гаварылі наконт гэтага рознае, напрыклад: калі грымяць гарматы, тады музы маўчаць. Сказана нібыта моцна, афарыстычна, але ці шмат у гэтым афарызме праўды? (Н. Гілевіч. Жыццесцвярджэнне).

– Перароблена з лацінскай прыказкі «Калі грыміць зброя, законы маўчаць», упершыню ўжытай у прамове Цыцэрона падчас абароны Мілона (52 г. да н. э.).

**Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары.** *Функц. не зам. Кажуць, калі даводзіцца ісці да таго, хто сам павінен быў прыйсці да цябе.* – Ён не пайшоў са мной. Ну што ж. Калі гара не ідзе да Магамета, то... – Што ты там мармычаш? – Пра сына... Зараз, гавару, пайду да свайго сына (У. Кузьмянкоў. Споведзь). – І як да іх паддобрыцца? – Ты ж крычаў: калі гара не ідзе да Магамета... Ага... Паплыву да іх без акваланга, паспрабую з рук пакарміць... Як дзікія, не верыцца, што з дэльфінарыя (П. Місько. Грот Афаліны). У дзверы пазванілі. Павал адчыніў і ўбачыў на пляцоўцы Віку. – Калі гара не ідзе да Магамета, – усміхнулася Віка, – то Магамет ідзе да гары. – Уваходзь, Магамет, – сказаў Павал. – Пачастуйся юшкай. Такой ты яшчэ не ела (А. Дзялендзік. Эскулап і фея).

* Неяк выходзіць у нас з вамі дзіўна: запрашалі вас да сябе, а вы чамусьці ўсё не выбераце часу. А раз Магамет да гары не ідзе, астаецца гары ісці да Магамета. Ці не так, паважаны маёр? (М. Лынькоў. Векапомныя дні). – Ты, Лёня, сходзі да Тасі, папрасі яе прыйсці дахаты, мне страшна адной... – Ты, Тамарачка, просіш немагчымага. Гара да Магамета не пойдзе... (Б. Мікуліч. Дужасць). Магамет не пайшоў да гары. Пайшла гара да Магамета. Я раскажу, як было ўсё гэта, я растлумачу вам міф стары (А. Вярцінскі. Каментарый да Карана). Толькі сабраўся [я] выехаць у раён – зва-

нок з прыёмнай першага. Загад тэрмінова прыбыць у райкам. Сапраўды, калі гара не ідзе насустрач Магамету, то Магамет ідзе насустрач гары (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– Паўкалька з англійскай мовы: *I the hill will not come to Mahomed, Mahomed will go to the hill.* Цытата з «Маральных і палітычных нарысаў» англійскага філосафа Фрэнсіса Бэкана (1561-1626), дзе гаворыцца і пра легенду, паводле якой, Магамет, заснавальнік іслама, жадаючы даказаць свае незвычайныя магчымасці, загадаў гары, каб яна падышла да яго; калі ж яму гэта не ўдалося, ён сказаў: «Ну што ж! Калі гара не хоча ісці да Магамета, то Магамет пойдзе да яе».

**Калі (дзе) двое б'юцца, трэцяму карысць.** *Непрыязныя адносіны паміж кім-н. выкарыстоўваюцца іншымі людзьмі.* Тут падляцеў і другі верабей. Усчалася бойка. Карыстаючыся зручным момантам, трэці верабей-разбойнік імгненна ўхапіў пірог і паляцеў, а два першыя ўсё працягвалі біцца. – Так і сярод людзей бывае: калі двое б'юцца, трэцяму карысць, – сказала Вера Ягораўна (Л. Прокша. Пакуль жывеш на свеце).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 398: Дзе двох сварацца, там трэці карыстаецца; Дзе двух б'юцца, там трэці карыстае; *Янкоўскі*, с. 211: Дзе б'юцца два, там трэці рукі грэе.

**Калі добра пастарацца, то павінна атрымацца.** *Гаворыцца пры выкананні якой-н. працы.* – Баюся, што лазня, якую я спраектую, Віктар Аляксандравіч, будзе больш падобна на ізалятар для хворай жывёлы, – з іроніяй прамовіў Мачыц. – Ёсць такая прымаўка, Алесь Сяргеевіч: «Калі добра пастарацца, то павінна атрымацца» (І. Дуброўскі. Красна хата не толькі пірагамі).

**Калі добры кусок сала, дык і грыб навара (патрава).** *Гаворыцца як жартаўлівая ацэнка згатаваных грыбоў праз іх параўнанне з іншымі, больш пажыўнымі прадуктамі харчавання.* Стол дзядзька Іван сабраў багаты, але я лепей за ўсё ўпадабаў марынаваныя баравічкі ў смятане і пахваліў іх гаспадару, а ён аджартаваўся: «Калі добры кусок сала, дык і грыб навара» (У. Рубанаў. Грэцкі арэх).

– *Санько*, с. 21: Калі ёсць сала, то і грыб патрава.

**Калі ёсць у мяшку, то будзе і ў гаршку.** *Калі ў гаспадарцы ёсць грошы ці запасы прадуктаў харчавання, то будзе за што ці з чаго згатаваць ежу.* **Сін.:** *І няўмека пячэ, калі з засека цячэ; Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня.* Саша вучыўся слухаць народную мудрасць, бо калі ёсць у мяшку, то будзе і ў гаршку (Настаўн. газ. 2000, 10 чэрв.).

– *Ляцкі*, с. 16: Калі ёсць у мяшку, будзе і ў гаршку; *Санько*, с. 17: Калі ёсць у мяшку, то будзе і ў гаршку.

**Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра.** З глыбіні гісторыі ў нашага народа вызначаюцца адносіны да гэтага звярка паводле прыказкі: «Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра!» (А. Карпюк. След на зямлі). **Хто заб'е бабра, не будзе мець дабра.** Ез адчыбучу, сетку драцяную пастаўлю – бабёр, бывала ненарокам і забрыдзе ў мой ез, захлынецца... Прадам футра, дык паўзімы з хлебам, гора не ведаў. – Хто заб'е бабра, кажуць, не будзе мець дабра. А ў цябе, стары грахаводнік, усё наадварот, значыць? (А. Масарэнка. На бабровых тонях).

– *Насовіч,* с. 63: Калі заб'еш бабра, не будзеш мець дабра; *Прыказкі*: кн.1, с. 318: Хто заб'е бабра, не мецьме дабра; Хто заб'е бабра, той не мае дабра.

**Калі захочаш сабаку выцяць, то кій знойдзеш.** *Гл.* Захочаш сабаку выцяць (ударыць) – палку знойдзеш.

**Калі здаецца, дык (то) трэба хрысціцца.** *Ужываецца як іранічная рэакцыя на слова з д а е ц ц а (з д а л о с я) у папярэднім выказванні, нібыта ўспрынятае са значэннем 'уяўляецца'.* «Здаецца, на гэты раз, – пісалася ў канцы артыкула, – новаспечанага бандыцкага генерала ўжо не ўратуе ніякая яго лапцюжная стратэгія...» «Ага, «здаецца», – усміхнулася Карпаўна. – А па-руску кажуць, калі здаецца, дык трэба хрысціцца...» (У. Краўчанка. Апавяданне пра смелае сэрца). [Святлана:] Мне здалося, што... [Васіль:] Калі здаецца, то хрысціцца трэба... (А. Макаёнак. Таблетку пад язык). **Калі здаецца, перахрысціся.** [Ганна:] Фактаў у мяне няма, але здаецца... [Павел:] Калі здаецца – перахрысціся! Дурніцы... (А. Дзялендзік. Грэшная любоў).

* У нас на вёсцы кажуць, калі каму што здаецца: «Перахрысціся – не будзе здавацца» (Я. Колас. На прасторах жыцця). [Кузьміха:] Здалося мне... [Нічыпар:] Перахрысціся, і справе канец (А. Петрашкевіч. У спадчыну – жыццё).

– *Выслоўі*, с. 134: Як здаецца, то хрысціся; *Ліцвінка,* с. 57: Калі здаецца, то хрысціся.

**Калі значыцца, дык ацеліцца.** *Гаворыцца як іранічная рэакцыя на частае ўжыванне слова «значыцца» ў папярэднім выказванні, нібыта ўспрынятае са значэннем 'знешне выяўляць прыметы хуткага ацёлу [пра карову]'.* – Усе, значыцца, сабраліся?.. Значыцца, пачнём!.. – Калі значыцца, дык ацеліцца. – Цяленне – адна справа, а пасяджэнне бюро – іншая (Л. Калюга. Ні госць ні

гаспадар). – Значыцца... – Калі значыцца, дык і ацеліцца (Р. Барадулін. Вушацкі словазбор).

– *Янкоўскі*, с. 353: Калі значыцца, то скора ацеліцца.

**Калі камарна, то і хлебна.** *Народная прымета пра сувязь паміж мноствам камароў і ўраджайнасцю збожжавых палёў.* І была яшчэ процьма драбніц, пра якія ведаў толькі лесавік і мала хто з людзей. Ластаўкі нізка лятаюць – дождж будзе... Калі камарна, то і хлебна... (А. Кажадуб. Лесавік).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 85: Калі камарна, то і хлебна.

**Калі курэц, то насі люльку і тытунец.** *Гаворыцца як адмоўны адказ таму, хто просіць закурыць.* **Сін.:** *Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.* [Пунктовіч] ідзе, пускаючы дымок. Позняк просіць закурыць. Пунктовіч адказвае: – Калі курэц, то насі люльку і тытунец (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). [Павел:] Пачастуй, дзед, самасадам. [Кузнечык:] Калі ты добры курэц, братка-беларус, то насі люльку і тытунец (А. Дзялендзік. Грэшная любоў).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 363: Калі курэц, то насі трубку і тытунец.

**Калі маеш грошы, то не будзеш босы.** *Калі маеш грошы, то не будзеш цярпець нястачы.* [Іцка:] Ну, Ціт! Ці маеш ты грошы? [Навум:] Калі маеш грошы, то не будзеш босы. [Іцка:] Ой, мой ты Навумка! І я скажу прымаўку... (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч*, с. 64: Калі маеш грошы, не будзеш хадзіць босы; *Рапановіч,* с. 46: Калі маеш грошы, не будзеш босы.

**Калі на гумне не малоцiцца, тады ў хаце калоцяцца.** *Эканамічныя цяжкасці, матэрыяльная незабяспечанасць становяцца прычынай сваркі, разладу.* Жыта было павымакла, а рэшту градам пабіла... А ў звязку з такімі акалічнасцямі народ быў сярдзіты. Свае са сваімі сварыліся. Старая беларуская прыказка кажа, што калі на гумне не малоцiцца, тады ў хаце калоцяцца (У. Дубоўка. Пялёсткі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 45: Як у гумне не малоцiцца, дык у хаце калоцяцца.

**Калі на Макавея дождж, дык будзе многа грыбоў.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара. Макавей – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 1 жніўня (па новым стылі). Другая, больш пашыраная назва гэтага свята – Макаўе (засведчана ў «Слоўніку беларускай мовы» І. І. Насовіча як «свята Макавеяў»).* Як борзда ідзе час! Першага жніўня Макавей. Людзі кажуць – калі на Макавея дождж, дык будзе многа грыбоў. Ладжуся на Балачанку (Я. Колас. На схіле дзён).

**Калі на Стрэчанне нап'ецца певень вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы.** *Гл.* Як (калі) на Грамніцы (Стрэчанне) нап'ецца певень вадзіцы, дык (то) на Юр'я наесца вол травіцы.

**Калі на Юр'я роса, сей грэчку і проса.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды. Юр'я – свята ў хрысціян (23 красавіка па старым стылі).* Цяпер во, мусіць, і яе ўнук не ведае таго, што ведала яна малая. Ды яму і не трэба, пэўне, ведаць. Хіба гэта ўсё праўда? Калі на Юр'я роса, сей грэчку і проса. Раней у гэта верылі, цяпер, мусіць, не. Калі скажуць таму ж Ігару, тады ён і ідзе ў поле (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

**<Калі> не наеўся, дык (то) і не наліжашся.** *Калі не паспеў зрабіць што-н. за большы тэрмін, то гэтага ўжо не нагоніш за меншы тэрмін.* Надумаўся выехаць раней – 30/X, хоць тэрмін мае камандзіроўкі канчаецца 2/XI. Я ў гэтым выпадку кіруюся мудрым правілам: «Калі не наеўся, дык і не наліжашся» (Я. Колас. М. Лынькову). Што, уласна, ад гэтага зменіцца: суткі ці тыдзень пабудзеш у гасцях? Праўду ў народзе кажуць: калі не наеўся, дык і не наліжашся (Р. Няхай. Сарочы лес). Брыгадзірава [жонка] зусім асталася ад Яніны. Хаця і постаць яе вузейшая за Янініну, а не паспела за той. Але, як кажуць, не наеўся, то і не наліжашся – за ўвесь дзень не магла зжацца з Янінаю, дык цяпер і падаўна не дагоніш (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). – Давай ночы пачакаем. Як змеркнецца, тады ў вёску ўедзем?.. – І ўночы не ўсе спяць. Навошта рызыкаваць? Кажуць, не наеўся, дык і не наліжашся (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 229: Калі не наеўся, то і не наліжашся; Не наеўшыся, не наліжашся.

**Калі не пераскочыў, не кажы гоп.** *Гл.* Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў.

**Калі не поп, <дык> не ўбірайся ў рызы.** *Гл.* Не поп, не ўбірайся ў рызы.

**Калі няма шчасця зрання, то не будзе да змяркання.** *Пра чый-н. нешчаслівы лёс ад нараджэння да канца жыцця.*

* Пра чалавечае жыццё кажуць, што яно «якім складаецца зрання, такім будзе да змяркання». Невясёлым было Рыгорава ранне (В. Кадзетава. Каця).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 425: Калі няма шчасця зрання, то не будзе да змяркання.

**Калі пайшоў у бойку, дык чуба не шкадуй**. *Гл.* Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй.

**Калі пуста, а калі і густа.** *Гаворыцца як ацэнка чыёй-н. неаднолькавай, з пераменным поспехам, матэрыяльнай забяспечанасці.* – Ты паглядзі, як ты жывеш: холадна, цёмна, пуста... – Ну гэта не заўсёды так бывае, – запярэчыў Саўка, – калі пуста, а калі і густа (Я. Колас. Дрыгва).

**Калі п'яны (як п'ян), дык капітан, а калі (як) праспіцца, дык свінні баіцца.** *Пра п'янага, які, праспаўшыся, становіцца ціхім, паслухмяным.* – Учора Ганна прыбягала. Уся ў слязах. П'яны [Харытон] ганяў яе па двары. А сёння раніцай бегаў за жонкаю, прасіў яе, каб даравала. – Калі п'яны – капітан, а калі праспіцца – свінні баіцца, – азваўся з-за перагародкі дзед (М. Капыловіч. Былі б рукі). Ах ты, помак гнілы! Як п'ян, то капітан, а як праспіцца, то і свінні баіцца? Падатак не аплочаны, дзеці голыя, а ён п'янствуе! (В. Ластоўскі. Панас гуляе). Здорава ж ён вас запужаў... Як п'ян, то капітан, а праспіцца – свінні баіцца (П. Місько. Самыя кароткія ночы).

– *Янкоўскі,* с. 342: Як п'яны – дык капітан, а праспіцца – свінні баіцца; *Рапановіч,* с. 136: Як п'ян, дык капітан, як праспіцца – свінні баіцца; *Рабкевіч,* с. 257: Як п'ян, дык капітан, а як праспіцца, дык свінні баіцца.

**Калі робіш у купе, не баліць у пупе.** *Працуючы гуртам, менш адчуваеш стому, цяжкасці.* Рабіць лепш за ўсё гуртам, калектывам, – так і лягчэй, і спарней: калі робіш у купе, не баліць у пупе (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). – Адпачну трохі: грузавік цэглы разгрузіць не так лёгка... – Калі робіш у купе, не баліць у пупе (І. Сычык. Бацькаўшчына). Калі ўзважыць, то Стасік ледзь не галоўная фігура. Без крана не заробіш, і план згарыць. – Калі робіш у купе, не баліць у пупе. Га, Цімох? – Стасік ажно заліваецца смехам. Цімох набірае паўнюткі туфель гравію і раз, і раз... (В. Супрунчук. Тыгрыная клетка). **Рабіць у купе – не баліць у пупе.** Папі вады, скінь кашулю, шапкі не здымай, галаву напячэ, і даганяй [касцоў], далёка не адставай, у купе лягчэй, чым аднаму. Рабіць у купе – не баліць у пупе (В. Шырко. Стукаў).

– *Насовіч,* с. 65: Калі робіш у купе, не баліць у пупе; *Прыказкі,* кн. 1, с. 374: Працуючы ў купе, не забаліць у пупе.

**Калі ўдасца жарабё з лысінкай, дык і здохне такім.** *Гл.* Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне такім.

**Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж.** *Гл.* Узяўся за гуж, <дык> не кажы, што не дуж.

**<Калі> улез у дугу, <дык> не кажы <што> не магу.** *Калі ўзяўся за якую-н. справу, то выконвай да канца тое, што трэба. Кажуць, калі хто-н. хоча ўхіліцца ад абавязкаў, абяцанняў і пад.* **Сін.:** *Назваўся груздом – лезь у кош; Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не аглядайся; Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.* – Каб набыць добрых кароў на племя – грошы дай!.. На свіней – таксама грошы! На электрастанцыю таксама падлічылі, колькі трэба?.. Адкуль жа я вазьму?.. Дзяржбанк абрабую, ці што?.. – Калі ўлез у дугу, не кажы не магу! Не панікуй, не панікуй, таварыш Самусевіч, а будзь гаспадаром (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). Вітут Тумаш раптам аб'явіў, што ён не хоча быць бургамістрам і збіраецца ехаць назад у Берлін... – Прабачце, але тут прымаўка падыходзіць: «Калі ўлез у дугу, не кажы не магу» (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). – Не магу я, дзядзька Аляксей. – Не, чалавеча! Калі ўлез у дугу, дык не кажы, што не магу. Слухаць нават не хачу тваіх адгаворак (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках). Хочацца махнуць на ўсё рукой і падацца назад у Прусы, а так сказаць людзям: «Дрэнны я бранябойшчык. Не магу дамагчыся свайго». А тут, як на тое ліха, прыгадваецца вядомая прыказка: «Улез у дугу, не кажы – не магу» (М. Сергіевіч. Перамагаючы цяжкасці).

* А ты – філосаф... Не, браце, такога не бывае – ні з кім! Раз ужо ўзяўся за дугу, не кажы «не магу». Раз ужо наважыўся на адно, то і трымайся за яго. Бо за двума зайцамі пабяжыш – толькі людзей насмяшыш. Вось так! (У. Дамашэвіч. Развітанне ў 37-м).

– *Ляцкі,* с. 17: Калі ўлез у дугу, не кажы не магу; *Федароўскі,* с. 323: Калі ўзяўся за дугу, не кажы, што не магу.

**Калі ў студзені дажджы – дабра не жджы**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды.* Студзень – самы халодны месяц года. Гэта ў ім трашчаць маразы. Але беларус рады маразам і не хоча, каб яны слаблі. Бо памятае продкаў: «Барані нас Бог ад цёплага студзеня», – казалі яны. Ды і сам ён ведае: «Калі ў студзені дажджы – дабра не жджы» (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 74: Калі ў студзені дажджы – дабра не жджы.

**Калі хата без гаспадыні – вуглы гараць, а без мужыка (гаспадара) – увесь дом.** *Пра выключную ролю гаспадара ў хаце, значна большую за ролю гаспадыні.* **Сін.:** *Без гаспадара дом сірата; Хата без гаспадара плача.* – Матка сама нават касу не можа накляпаць... Вы паглядзіце на нашу хату. – Ты ўжо нешта кумекаеш?

Гэта добра. І твая праўда: калі хата без гаспадыні – вуглы гараць, а без мужыка – увесь дом (І. Капыловіч. Айчым).

**Калі хата гарыць, не да пацераў.** *Гл.* Не да пацераў, калі хата гарыць.

**Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.** *Пра даўнейшы звычай браць у дарогу хлеб.* Перш чым браць у рукі бохан, яго перахрышчвалі. Без хлеба не выходзілі з хаты («Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе»), хлебам-соллю сустракалі самых дарагіх і шаноўных гасцей (Б. Сачанка. Вечны кругазварот).

– *Федароўскі,* с. 53: Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.

**Калі худ, не лезь на кут.** *Не бярыся за важныя справы, калі не маеш для гэтага сіл, здольнасцей, магчымасцей, сродкаў і пад.* – Усё ж, яму далі па пысе. – А трэба было галаву адцяць. Калі худ, не лезь на кут (І. Гурскі. Вецер веку). Адразу ж у душы пачала закіпаць злосць. Клён пагардліва пражмурыў вочы, сказаў з'едліва і з расцяжкаю: – Калі худ, не лезь на кут. – Не разумею цябе... – А сказаў я табе старадаўнюю беларускую прымаўку. Прымаўку ж не прынята тлумачыць. – Растлумач... – Добра, слухай. На кут, ганаровае месца за сталом, саджалі самых шаноўных людзей. Самых разумных, самых аўтарытэтных, самых добрых. Калі ж чалавек быў «худ», быў, як кажуць, шчуплы і розумам, і плячамі, яго не саджалі на кут (Л. Дайнека. Чалавек з брыльянтавым сэрцам). Многіх пачынае загрызаць зайздрасць – самае паганае, што існуе на зямлі. Ад яе і ўсе беды, і, у першую чаргу, несправядлівасць. Нехта можа спаслацца на народнае: калі худ, не лезь на кут. Слушна, канечне, як слушна і наступнае: жывеш сам, дай пажыць іншым, не пераходзь яму дарогі (У. Паўлаў. Помніць сябе).

– *Насовіч,* с. 66: Калі худ, не лезь на кут; *Федароўскі,* с. 55: Калі худ, не лезь на кут.

**Калі што якое, дык што там такое**. *Гл.* А калі што якое, дык што тут (там) такое.

**Калі я ем, дык (і) глух і нем.** *Гл.* Як (калі) я ем, дык (і) глух і нем.

**Калі (як) не знае, дык на зоры пазірае.** *Кажуць пра таго, хто, задумаўшыся над чым-н., пазірае ўдалеч.* Задумаліся. Ганулька ажно лоб зморшчыла, пачала глядзець некуды ўгору. – Калі не знае, дык на зоры пазірае, – усміхнулася баба (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока). Бухгалтары-касіры.. доўга трэслі кішэні, чухалі патыліцы, пазіралі ў далечыню, быццам у ёй, далёкай і загадкавай, ніклі ўсе іхнія грошы... Як тут не ўспомніць: як не знае, дык на зоры пазірае (А. Кажадуб. Крокі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 184: Калі не знае, дык на зоры пазірае.

**Калі (як) топішся, дык (то) за брытву хопішся (ухопішся).** *У бязвыхадным становішчы, калі няма выбару, звяртаешся нават да безнадзейнага сродку.* **Сін.:** *Тапелец і за саломінку хапаецца.* Дык вось куды завяла яго [Серафіма] безвыходнасць: да сутарэння, у якім жыве Глеб Кротаў. Ну што ж, калі топішся, дык за брытву ўхопішся (А. Асіпенка. Лабірынты страху). [Аляксей] зарагатаў, прыкрываючы шчарбаты рот. – Калі топішся, дык за брытву хопішся (В. Супрунчук. Сяргей Сяргеевіч). [Панасу] здавалася, што куды лягчэй галавой уніз хадзіць, чымся навучыцца грамаце. Але «як топішся, то за брытву хопішся», – кажуць людзі (З. Бядуля. Панас на небе). **Хто топіцца, той за брытву хопіцца.** Хто топіцца, той за брытву хопіцца. Рубашка адчуваў, што выратаваць яго мог толькі цуд. Ён верыў у гэты цуд. Зрабіць яго павінен быў сам (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

* Ты думаеш, Сегенецкі адмовіўся б узяць свайго брата Якуба за парабка?.. А калі той не захоча ісці, дык прымушаны будзе рабіць гэта, бо хто гэта спакойна ўмірае з голаду? Калі хто топіцца, дык за вострыы нож хапаецца (К. Чорны. Ідзі, ідзі). Юзічак, а можа, усё-такі да знахароў з’ездзім, га?.. Калі ўжо і міліцыя не памагае, то, можа, хоць яны памогуць. Людцы нездарма кажуць: як топішся, дык і за лязо схопішся... (В. Гігевіч. Палтэргейст). У гэты час яны [Васіль і Антон] пачулі хрыпучы стогн, і чалавечая рука, слабая, брудная, ухапілася за каменны парог каплічкі. Так, як кажа народная мудрасць, калі топяцца – хапаюцца за брытву (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 480: Калі топішся, і за брытву хопішся; Хто топіцца, і за брытву хопіцца.

**Калі (як) шанцуе, то (тады) і Халімон танцуе.** *Гаворыцца пра таго, каму пашанцавала ці павінна пашанцаваць.* **Сін.:** *Каму шанцуе, той і ў лапцях танцуе.* [Навум:] Відна, ужо ты мяне не мінеш. Яно кажуць: калі шанцуе, то і Халімон танцуе. Пайдзём ды навучы мяне, што маю рабіць (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Не першына: калі шанцуе, то і Халімон танцуе, а іншаму куды ні кінь, усюды клін. Вось такія кліны спатыкаў на сваім жыцці Юрка Сухавей (Ядвігін Ш. Шчаслівая). – Калі шанцуе, то й Халімон танцуе, – сказаў Адась, абы не маўчаць. – Добра вам рызыкаваць, калі вы гаспадар у хаце... (Я. Лёсік. Па-валачобнаму). Галагуцкі певень доўга хварэў, але-такі жыве на радасць. Як гэта кажуць: як шанцуе, тады і Халімон танцуе... (З. Бядуля. Летапісцы).

– *Насовіч,* с. 57: І Халімон танцуе, калі яму шанцуе; *Прыказкі,* кн. 1, с. 457 і кн. 2, с. 199: Калі шанцуе, то і Філімон (Хвілімон) танцуе.

**Калядкі – добрыя святкі: пад’еў ды на палаткі.** *Ужываецца як ацэнка Каляд – хрысціянскага свята, якое адзначаецца 25 снежня (каталіцкія Каляды) і 7 студзеня (праваслаўныя Каляды).* [Альжбета:] Ідзі ды кладзіся спаць. Гэта ж табе тут не карчма! [Сцяпан:] Сон – не кепская рэч. Для чаго Калядкі – добрыя святкі, што пад’еў ды на палаткі (Я. Купала. Паўлінка).

– *Федароўскі,* с. 147: Калядкі – добрыя святкі: наеўся, напіўся да й на палаткі; *Прыказкі*, кн.1, с. 94: Калядкі – добрыя святкі: пад’еў ды на палаткі; *Насовіч*, с. 139: Прыйшлі калядкі – бліны ды аладкі.

**Каля (ля) вады <ходзячы> намочышся.** *Будучы звязаным з чым-н., можаш аказацца замешаным у што-н. заганнае.* **Сін.:** *Каля мукі ходзячы, запылішся.* Табе ўжо было папярэджанне ў рэвалюцыі і даволі грознае. Пагуляў, і будзе, бо ты гуляеш з агнём. А ёсць прыказка: каля вады намочышся, каля агню апячэшся (Я. Колас. На ростанях). [Сымонка:] Ты на мяне не крыўдуй, дзядзька Рабіна, бо няма роду без выродку, але не варта яна гэтага. [Рабіна:] І я так думаю, што не варта, хоць яна мне і дачка. Сумна і мне без яе часам, ды што ты зробіш? Такі, відаць, лёс. [Сымонка:] Часам і на добрай яблыні гнілыя яблыкі бываюць. [Рабіна:] Вядома, ля вады ходзячы, намочышся (В. Вольскі. Машэка).

* «Вялікі ты грэшнік, Мамута, – падумаў ён, – і калі ёсць Божы суд, дык давядзецца табе трымаць адказ... Але што зробіш? Жыццё – рэч складаная. Як гэта хадзіць ля вады ды не намачыцца?..» (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян).

– *Насовіч,* с. 66: Каля вады ходзячы, умочышся; *Федароўскі,* с. 325: Каля вады памочышся, каля дабра пажывішся; *Прыказкі,* кн.1, с. 347: Каля вады хадзіўшы, памочышся.

**Каля мукі ходзячы, запылішся.** *Будучы звязаным з чым-н., можаш аказацца замешаным у што-н. заганнае.* **Сін.:** *Каля вады <ходзячы> намочышся.* – Бацька твой цяпер тут не робіць. Яго знялі за махлярства. – За якое махлярства?.. – Хто яго ведае. Мне тым часам старшыня сказаў: ідзі прымай вятрак – дык я і прыняў. А якое там было махлярства, хіба мне ў галаве. – Каля мукі ходзячы, вядома, што запылішся, – сказаў нехта з завознікаў (Р. Сабаленка. Іду ў жыццё). **Быўшы ля мукі, запылішся. –** Не трэба было табе ў старасты ісці, не трэба было згаджацца на службу [гэ]тую, –

круціла галавою маці. – Бо быўшы ля мукі – запылішся, а ля вады – замочышся (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

* Ва ўсім нейкую выгаду, карысць вышукваць пачнеш. Вось таму недарэмна, пэўна, і гавораць: мельнік каля мукі заўсёды запыліцца (В. Казько. Хроніка дзетдомаўскага саду).

– *Федароўскі*, с. 190: Каля мукі ходзячы, апылішся, каля вады памочышся; *Прыказкі,* кн.1, с. 348: Ходзячы каля мукі, запылішся.

**Камедыя, хто не ведае, а хто і ведае, дык усё роўна камедыя.** *Гаворыцца як іранічная ацэнка чаго-н. забаўнага ці недарэчнага.* [Марыля:] А што – Зоська? Дзе ты яе бачыў? [Данілка:] Дзе бачыў? Я з двара ішоў, а яна ў той бок цягнулася, распусціўшы валасы, як русалка якая. [Марыля:] Няшчасная дзяўчына! Дарэшты губіць яна сама сябе гэтай гульнёй непатрэбнай. Не кажы хаця аб гэтым Сымону. [Данілка:] Камедыя – хто не ведае, а хто і ведае, дык усё роўна – камедыя (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

– *Насовіч, с.* 67: Камедыя, хто не ведае, а хто ведае, таму няма нічога; *Ляцкі,* с. 18: Кумедыя, хто не ведае, а хто ведае, таму не кумедыя; *Прыказкі,* кн. 2, с. 185: Хто не ведае – камедыя, а хто ведае – нічагусенькі.

**Каментарыі лішнія (не патрэбны)**. *Функц. не зам. Зусім няма неабходнасці далей тлумачыць што-н., разважаць пра што-н. Часцей гаворыцца з неадабрэннем ці асуджэннем чаго- ці каго-н.* Колькі мы ні прасілі аб дапамозе, адказ быў усюды аднолькавы: «Нічога не будзе. І не чакайце!» Тут, як кажуць, каментарыі не патрэбны (Маладосць. 1993. № 4). Можа, пад тэкстам казкі ёсць якое-небудзь асуджэнне разбою? Не, няма. Ёсць толькі пытанне да вучняў: «Хто з герояў асабліва спадабаўся? Хто выклікаў у вас іншыя пачуцці? Менавіта якія? Як багатыры адносіліся да царэўны? Чаму?» І ўсё. Каментарыі, як гаворыцца, лішнія (І.Я. Лепешаў. Дазнанні). У апавяданні «Адкрыццё сезона» Ул. Ляўданскі піша наступнае: «Калі ўжо былі запрэжаны коні, да мяне падбег цыганёнак. – Дзядзька, дай закурыць, – папрасіў ён. Я моўчкі выхапіў партсігар, выбраў з яго ўсе папяросы і аддаў яму. Ён ад радасці падскочыў і пабег за возам». Каментарыі, як кажуць, лішнія. Шчодрасць, праяўленая апавядальнікам, яўна антыпедагагічная (І. Навуменка. Кніга адкрывае свет).

– Паўкалька з нямецкай мовы: *Kommentar überflüssig*. Выказванне нямецкага юрыста Германа Штаўба (1856-1904), яго прывычная фраза, якой ён звычайна заканчваў сваё выступленне.

– *ТСБЛМ*, с. 269: Каментарыі не патрэбны.

**Каму вайна, а каму военка (войначка).** *Гаворыцца з асуджэннем пра таго, хто ў ваенны час жыве, не ведаючы небяспекі, гора, цяжкасцей.* Зараз жа з работніцкіх пакункаў падаставалася піва: усё гэта рухавы Майзель прыстараўся. Сталі частавацца... – Каму вайна, а каму военка, – гаварылі здатчыкі (Р. Мурашка. Сын). Каму вайна, а каму войначка, – гаварылі падчас Вялікай Айчыннай вайны і ў даволі доўгім часе пасля яе. В. Быкаў перш за ўсё сваімі ваеннымі аповесцямі паказаў, што на вайне, як на экзамене – экзаменуецца ў чалавеку, у народзе ўсё (А. Лойка. Дзівосы прозы).

* Відзіш, Абраша, – цэла ўсё... Во каму не вайна, а военка была... Няплоха ім тут жылося, няплоха... (П. Місько. Поезд ішоў на захад).

– *Янкоўскі,* с. 48; Адным вайна, а другім войначка; *Прыказкі,* кн. 1, с. 501: Каму вайна, а каму военка; Каму вайна – каму войначка, каму пятля – каму воўначка.

**Каму густа, <а> каму пуста.** *Гл.* Аднаму густа, а другому пуста.

**Каму кірмаш, а каму жыццял нямаш.** *Пра неаднолькавасць, няроўнасць у жыцці людзей.* – Як арыштавалі? – цёр запарушанае вока Ікон Жыток. – Ён жа ж [Аўсянік] у [ту]рмах сядзеў, ажно мох на шчоках парос. Яго ж свята цяпер. – Каму кірмаш, а каму жыцця нямаш (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 458: Адным кірмаш, а другім жыцця нямаш.

**Каму па каму, а каму (нам, мне) <дык> два камы.** *Гаворыцца неадабральна, калі неаднолькава адносяцца да каго-н., несправядліва дзеляць што-н. і пад.* **Сін.:** *Аднаму густа, а другому пуста; Аднаму льецца, а другому нават не капае.* [Гарошка:] Польскія лаюць рускіх, рускія лаюць польскіх, а як прыйдзе што да чаго, каб нашага простага чалавека пакрыўдзіць, дык і польскія, і рускія ў адну дудку граюць. [Ганулля:] Ды яно ж гэтак, мой сваток. Каму па каму, а нам, казаў той, дык два камы (Я. Купала. Тутэйшыя). – Чаму ж... [аднаму] аб'яднанню сельгастэхнікі адвальваюць вялікія сумы на капітальныя ўкладанні, а вам, а вам ні ломанага граша?.. Вы што ж, бедны родзіч багатага дзядзькі або не аднаго бацькі дзеці? – Аднаго, ды толькі ласка бацькоўская неаднолькавая чамусьці... Прыгадваецца прымаўка: «Каму па каму, а каму два камы» (І. Дуброўскі. Буйнець коласу).

* Віноўнікаў шукаць дарма! Зацішша на выгодзе. Паклёпнікі? Такіх няма! Ёсць дамавік дый годзе. Каму, як кажуць, па каму, каму

па два нібыта. Ды што казаць, калі, каму аднойчы пераблытаў. Перастараўся дамавік... (Р. Барадулін. Дамавік).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 393: Каму па каму, а каму два камы; *Янкоўскі*, с. 344: Каму па каму, а мне два камы.

**Каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе.** *Гл.* Каму шанцуе (пашанцуе), той і ў лапцях танцуе.

**Каму шанцуе (пашанцуе), той і ў лапцях танцуе.** *Гаворыцца пра таго, каму пашанцавала ці павінна пашанцаваць.* **Сін.:** *Калі шанцуе, то і Халімон танцуе.* [Кароль:] Бачу я, хлопец, ты шчаслівы. [Янка:] Каму шанцуе, той і ў лапцях танцуе (В. Вольскі. Цудоўная дудка). – Кожны можа быць высокім, калі яму пашанцуе і бог паможа... Гледзячы хто і што яго высока падыме. Ды ты, бабка, проста мудрэц! Твая праўда: каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе (Я. Колас. На ростанях). **Калі шанцуе, то і ў лапцях танцуе**. Будзем рэалістамі і трэцяе месца ў Еўропе для Беларусі – неверагодны цуд, шчасце, якое надоўга застанецца з намі... Што, панове, калі шанцуе, то і ў лапцях танцуе? Не чулі, пэўна, такой прымаўкі? Праўда, раз пашанцуе, два пашанцуе, а там, як ні круці, – уменне (В. Шырко. Залатыя вы нашы, сярэбраныя).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 199: Калі пашанцуе, то і ў лапцях станцуе.

**Каму што, а Базылю аладкі.** *Кажуць іранічна пра таго, у каго наўме заўсёды адно і тое ж.* **Сін.:** *Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца; Каму што, а лысаму грэбень; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а пеўню бойка; Каму што, а свінні месіва; Каму што, а чорту балота; Ліса спіць і курэй бачыць; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду.* – Што ж, едзь, калі трэба, адзін. Там ужо і за маё здароўечка... Каб не гэты Ядвісін лысы смаркуль, дык і я... – Ну, ну, ваяка! Каму што, а Базылю – аладкі. Чакай мяне праз гадзіну (Я. Брыль. Апошняя сустрэча).

– *Выслоўі*, с. 63: Каму што, а Барысу ладкі.

**Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца.** *Кажуць іранічна пра таго або таму, хто нечакана выказаў захапленне чым-н.* **Сін.:** *Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а лысаму грабеньчык; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а пеўню бойка; Каму што, а свінні месіва; Каму што, а чорту балота; Ліса спіць, і курэй бачыць; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду.* – Дзяўчаткі апранаюць кароткія спаднічкі. Любата на тратуар зірнуць. – Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца. – Праўду кажуць, сухі ты чалавек, Дыбін (Полымя. 1989. № 7).

**Каму што, а лысаму грэбень (грабянец).** *Кажуць іранічна пра таго, у каго наўме заўсёды што-н. дзівацкае, недарэчнае.* **Сін.:**

*Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а пеўню бойка; Каму што, а свінні месіва; Каму што, а чорту балота; Ліса спіць, і курэй бачыць; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду.* Гледзячы на тых, хто ўмее жыць, бясконца паўтараюць: «Як гэта ім удаецца?» Вось дзівакі. Носяцца з гэтым пытаннем, кудахтаючы, як курыца з яйцом... Каму што, а лысаму грабянец, га-га-га-га! (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа). Няўжо бракуе сіл і сродкаў пабудаваць лазні, дзе б маглі памыцца бедныя людзі за сімвалічную плату? А то, бачыш ты, замахнуліся на асваенне космасу! З'ядаюць грошы, як трусы капусту... Каму што, а лысаму грэбень... (В. Гроднікаў. Так можна і ў космас вошай занесці).

– *Янкоўскі*, с. 354: Каму што, а лысаму грэбень.

**Каму што, а папу кадзіла.** *Кажуць іранічна пра таго або таму, у каго наўме заўсёды адно і тое ж.* **Сін.:** *Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца; Каму што, а лысаму грэбень; Каму што, а пеўню бойка; Каму што, а свінні месіва; Каму што, а чорту балота; Ліса спіць і курэй бачыць; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду.* Давай па гэтай чарцы шмарганём і прагуляемся. Няхай галава крыху выветрыцца. Да вечара яшчэ далекавата, а прыцемкам козак на машыне здымем. – Каму што, а папу кадзіла (А. Казлоў. Так і жывём).

**Каму што, а пеўню бойка.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, у каго наўме заўсёды адно і тое ж.* **Сін.:** *Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца; Каму што, а лысаму грэбень; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а свінні месіва; Каму што, а чорту балота; Ліса спіць і курэй бачыць; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду.* – У яго талент чысціць кішэні ды даваць пад дых... – Каму што, а пеўню бойка, – неахвотна вымавіў Кулеба (Звязда. 1989, 15 жн.).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 359: Каму што, а пеўню бойка.

**Каму што, а свінні месіва.** *Праст. Кажуць з неадабрэннем пра таго, у каго наўме заўсёды адно і тое ж.* **Сін.:** *Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца; Каму што, а лысаму грэбень; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а пеўню бойка; Каму што, а чорту балота; Ліса спіць і курэй бачыць; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду.* – Можа, яна, гэтая станцыя, пілаваць і не стане... – Будзе! – настойваў мужчына. – Прымусім... – Вось каб яна яшчэ піва варыла! – засмяяўся крыху п'янаваты хлапец. – Каму што, а свінні месіва, – упікнула яго жанчына... (П. Броў-

ка. Калі зліваюцца рэкі). На самую танную каву не стае сродкаў. Хоць новая прыказка і гаворыць: «Не я каву нашу, а яна мяне носіць». Праўда, іншы можа падумаць пра мяне: каму што, а свінні месіва... Я не пакрыўджуся (В. Гроднікаў. Як жыць, як дажываць).

– *Янкоўскі,* с. 191: Каму што, а свінні месіва.

**Каму што, а чорту балота**. *Кажуць з неадабрэннем пра таго, у каго наўме заўсёды адно і тое ж.* **Сін**.: *Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца; Каму што, а лысаму грэбень; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а пеўню бойка; Каму што, а свінні месіва; Лісіца спіць і курэй бачыць; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду.* Учапіўшыся за Яна, дзед неўпрыкмет пераходзіў да калгасаў – каму што, а чорту балота... – Дзе ты бачыў, басота, ды хочаш, каб доўга адзеражаліся... Толькі людзей узбунтавалі, галадранцы (Б. Сачанка. Не, не ўсё роўна).

**Канец – дзелу вянец.** *Кажуць пра паспяховае заканчэнне якой-н. справы.* Нездарма кажуць: канец – дзелу вянец. Няскончанасць, незавершанасць нервуе, непакоіць чалавека, не дае яму думаць пра нешта іншае, не пускае яго наперад (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

– Відаць, склалася на аснове лацінскага выслоўя *Finis coronat opus* (літаральна «Канец увенчвае справу (дзела)»).

– *Насовіч,* с. 67: Канец – дзелу вянец; *Федароўскі, с.* 136: Канец – дзелу вянец.

**Каню хваста не вяжы, а бабе праўду не кажы.** *Кажуць з незадавальненнем пра жанчыну, якая не можа трымаць тайну.* [Эміля:] А ўспомні: ты ж раней бажыўся і казаў, што сярод партызанаў пазнаў Радаслава. [Загорскі (гаворыць убок):] Праўду кажуць, каню хваста не вяжы, а бабе праўду не кажы (В. Адамчык. Чорны цмок).

**Канюшына – каню сіла.** *Пра канюшыну як найлепшы і дзейсны корм для каня.* А сядзелі дзядзькі на возе, кошык, выплецены з вербалоззя, добрай гунькаю быў накрыты, канюшынаю набіты. «Канюшына – каню сіла», – праўду прыказка гаварыла (М. Лужанін. Мехалупы). «Канюшына» – самае наскае слова. Гэта ж які добры ласунак каню, яго сіла. Так і прамаўляецца: каню-ю-шына, каню-ю – сіла! А яшчэ мядок пчале! (К. Камейша. Паміж кубкам і вуснамі).

– *Шкраба*, с. 112: Канюшына – каню сіла.

**Каня куюць, а жаба ногі падстаўляе.** *Кажуць пра таго, хто сам напрошваецца на непрыемнасці.* На дварэ вясна, усе просяць: туфлі дастань, плашч раздабудзь... І можна было б сёе-тое пры-

везці... А тут гэтая рэвізія як снег на галаву... А што тваёй Тамары? Яна ж не дырэктар і не бухгалтар. Ёй чаго баяцца?.. От сапраўды, каня куюць, а жаба ногі падстаўляе... (Л. Левановіч. Пасля разводу).

– *Федароўскі*, с. 362: Як каня куюць, то й жаба ногу настаўляе; *Прыказкі*, кн. 2, с. 343: Дзе каня куюць, там жаба падстаўляе свае клешні.

**Капейка рубель беражэ.** *Функц. не зам. Гаворыцца як парада быць эканомным, ашчадным.* Капейка рубель беражэ, – кажам мы, бухгалтары (А. Пальчэўскі. Чорны дзень). Капейка рубель беражэ. Святая праўда. А грош – капейчына? Яна не рублі – чырвонцы пашкамутае, пусціць на вецер (В. Праскураў. Бярозавы сок). Калі тое было, каб я атрымаў прэмію? Не сплю я неяк і рашаю: што, калі ўзяцца нейкім чынам за эканомію? Капейка рубель беражэ. Назбіраю ды сам сябе і прэмірую (А. Палітыка. Не падмажаш – рыпіць). Аказваюць навучэнцы дапамогу ва ўборцы ўраджаю і жыхарам суседніх вёсак... Аплата невялікая, але нездарма кажуць: капейка рубель беражэ. Таму на рахунак ліцэя пералічваецца даволі значная сума (Беларуская думка. 2007. № 1).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 482: Капейка рубель беражэ.

**Караля робіць акружэнне**. *Функц. не зам. Аўтарытэт, прэсціж, папулярнасць начальніка залежыць ад складу яго падначаленых.* – Часам я не магу разабрацца, хто з нас губернатар – я ці ты? – Ты, ты. Але даўно сказалі мудрыя: караля робіць акружэнне. Ты можаш ганарыцца сваім акружэннем. А хто падабраў табе штат? (І. Шамякін. Губернатар).

**Карова на двары, <дык> і харч на стале.** *Пра выключную ролю каровы ў гаспадарцы.* – І кароўку збыла... От, ужо шкада было! Колькі выплакала потым па ёй. Кароўка – другая маці. Карова на дварэ – дык і харч на стале. Хіба не праўду кажу? – заглянула бабуля яму ў твар (Н. Маеўская. Надзеевіч).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 198: Карова на дварэ – харч на стале; Карова ў хляве – харч на стале.

**Карова целіцца, а ў быка зад баліць.** *Праст. Кажуць насмешліва пра таго, хто занадта ўразліва, з павышанай пачуццёвасцю ставіцца да чыёй-н. справы.* Карова целіцца, а ў быка зад баліць (Эпіграф да байкі К. Крапівы «Кувада»).

– *Насовіч,* с. 68: Карова целіцца, а ў быка зад чэшацца.

**Карову б’юць за зык, а бабу за язык.** *Кажуць з асуджэннем пра жанчыну, калі яна гаворыць што-н. лішняе.* – Валацугі нейкія нядаўна пабеглі. – Якія валацугі? – Вот праўду кажуць: ка-

рову б'юць за зык, а бабу за язык, – сказаў гаспадар (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 51: Карову б'юць за зык, а бабу за язык.

**Кароль <жа> голы.** *Функц. не зам. Якая-н. тэорыя, палітыка або чый-н. аўтарытэт на самай справе беспадстаўныя, фальшывыя, уяўныя.* Пільнае вока калі-нікалі заўважае тое, што прывычна не бачыцца, а разняволены розум прымушае час ад часу ўскрыкваць: «Кароль жа голы!» (М. Захаранка. Культура і «культура»). Дык чаго ж крыўдзіцца на тых, хто пра нашу раўнадушнасць і халуйства гаворыць праўду? Чаго абурацца і гневацца? Чаго абараняць мундзір, якога няма (кароль голы)? (Н. Гілевіч. Вялікае беларускае сэрца). Пімен Панчанка быў сынам свайго часу... Але сынам, які адбіваўся ад рук, але паэтам, які не толькі славіў, а часцей крычаў, што кароль голы (Р. Барадулін. Сам сябе не выдумляў...). Наперабой хваляць творы, у якіх ні зместу, ні формы, ні думкі. Бо кожны баіцца выглядаць дурнем – не разумее, маўляў, усёй глыбіні і ўсяго падтэксту. Пакуль не знойдзецца наіўны, які скажа: «А кароль жа голы!» (Л. Арабей. Пошукі ісціны).

– Калька з дацкай мовы. Паходзіць з казкі Г. – Х. Андэрсена «Новае адзенне караля» (1837). У ёй расказваецца, як два ашуканцы ўзяліся выткаць для караля найтанчэйшую тканіну і сшыць яму адзенне, якое не маглі бачыць толькі дурні і тыя, хто не адпавядае сваёй пасадзе, прызначэнню. Падмануты кароль у гэтым «адзенні», а фактычна галышом ішоў па вуліцы. Усе, баючыся апынуцца ў дурнях, захапляліся хараством каралеўскага «адзення». І толькі адзін хлопчык закрычаў: «А кароль жа голы!» Усім стала зразумела, што яны абдураныя. Прыказка *Кароль <жа> голы*, структурна арганізаваная як прэдыкатыўнае словазлучэнне, пераўтвараецца ў назоўнікавы фразеалагізм з найбольш тыповай для такіх выразаў структурай «прыметнік + назоўнік» *(голы кароль)* і ўжо выражае не суджэнне, а паняцце, абазначаючы 'пасрэдны чалавек з прэтэнзіяй на аўтарытэт ці з перабольшаным аўтарытэтам': «Уяўляеце вы сабе сімпатычнага брандахлыста, фантазёра, які проста *голы кароль*?» (У. Караткевіч).

**Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса (касец) дамоў.** Касцы, пацягваючыся, уставалі, вымалі прыхаваныя ад сонца косы, не спяшаючыся ішлі займаць новы пракос. – Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса дамоў, – дэкламаваў вясёлым голасам дзядзька Язэп (У. Дамашэвіч. Горад прыйдзе). Марцін падаўся разам з хлопцамі да Андрэя, які дабіваў астатні пракос. Дзядзька весела ска-

заў: – Касі, каса, пакуль раса, раса далоў, касец дамоў! (Я. Колас. На ростанях). Некаторыя і дадому ўвечары не вяртаюцца, начуюць там, у знарок збудаваных з зялёнага галля куранях, каб як мага раней прачнуцца, пакасіць з расою – «касі, каса, пакуль раса, раса далоў – касец дамоў...» (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). Касіць ішлі рана, на шэрай гадзіне. Уранні не душна і трава лёгка рэжацца. Не дурань выдумаў: «Раса далоў – каса дамоў» (Я. Ермаловіч. Валуны).

* Махай дружна касой, пакуль згіне раса... (Я. Купала. Касьба).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 133: Касі, каса, пакуль раса, раса далоў, касец дамоў; Касі, каса, пакуль раса.

**Катку жарты – мышцы смерць.** *Тое, што аднаму здаецца жартамі, забаўкай, для другога становіцца непрыемнасцю, прыносіць яму пакуты.* **Сін.:** *Кошцы гулі, а мышцы слёзы.* – Прафесар, што ты гаворыш? Хто цябе крыўдзіў? – Калі ты не памятаеш, то я не забыўся. – Перастань, ты часам не разумееў жартаў. – Добрыя жарты! Катку жарты – мышцы смерць (У. Дамашэвіч. Студэнты апошняга курса). – Нікому [ні] слова. – І праўда ж, ці ж я маленькая... – Чы ты веш, цо то значы? – даўганосы злавіў ззаду сябе прыклад карабіна, паляпаў рукою па ім. – Катку жарты, мышцы смерць... – Якія тут жарты? Ці каму казацьму, – Алесю ўжо зноў авеяў скразняк страху (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Насовіч,* с. 69: Кошцы жартушкі, а мышцы смерць наўме; *Федароўскі,* с. 150: Катку забаўка, а мышцы смерць.

**Каторы конь цягне, таго і паганяюць.** *На таго, хто добрасумленна адносіцца да справы, ускладваюць яшчэ большыя абавязкі.* **Сін.:** *Хто цягне, на таго і навальваюць.* Я ёй [сястры] тлумачу, што, значыцца, трэба, калі затрымаўся [швагер]. А яна: «Адным сэрцам свету не запаліш». Пэўна, кажу, важнае даручэнне далі. А мая [жонка] ёй падтаквае: «Каторы конь цягне, таго і паганяюць» (І. Гурскі. Вецер веку).

* Не раз на жалабы Міхала ляснічы так казаў бывала: – Што ж? Добры конь і цягне дужа! – І не пускаў Міхала з гужа (Я. Колас. Новая зямля).

– *Федароўскі,* с. 148: Каторы конь цягне, таго і паганяюць.

**Каханне і кашаль не схаваеш (не ўтоіш).** *Пра немагчымасць захаваць у тайне каханне.* – А твая маці... нічога не гаворыць? – Гаворыць. Кажа, каб позна не прыходзіла. А так проста пакрыквае. Я прымаўку адну вычытала... Сказаць? – Скажы. – Каханне і кашаль не схаваеш... – і блiснула з-пад рукі хітрым вокам (А. Кажа-

дуб. Дуб). [Кацярына:] Ды затое як прытуліць ды як прыгалубіць [Андрэй]. Ой, што гэта я кажу! [Несцерка:] То і кажаш, што ў думках. Каханне і кашаль не схаваеш. Толькі забудзь пра сваё каханне. Якая з яго карысць? (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі). Апошні год сустракаліся Пётр і Ліда то ў інтэрнаце, то ў яе на кватэры. І ўсё ўкрадкам, таропка, на хаду. У рэдакцыі той-сёй ведаў пра гэта, бо каханне, як і кашаль, не схаваеш (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян). Хоць і здавалася ім, што ніхто не здагадваецца пра іх адносіны, але, як кажуць, каханне і кашаль не ўтоіш (У. Гніламёдаў. Усход). Дзяўчына не знаходзіла месца, не ведаючы, што думаць, што рабіць, стала нервовай і няўважлівай, яшчэ больш замкнёнай і адзінокай. Праўду кажуць людзі: каханне і кашаль не схаваеш (М. Вуж. Лабірынт).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 7: Каханне і кашаль не схаваеш.

**Кашы (кашу) маслам не сапсуеш (не папсуеш). 1.** *Гаворыцца ў дачыненні да кашы.* [Яніна:] Кашы маслам не сапсуеш, а песні – голасам такім, як у цябе (І. Козел. Папараць-кветка). Уладлен стаяў з напоўненым рогам, глыбока ўдыхаў паветра, як нырнуць намерыўся ў глыбіню. – Не. Дайце змажу маслам. – Дайце яму масла. Няхай змажа спіртавод. – Сапсуеш апетыт. – Ад масла? Ні кашы, ні апетыту маслам не сапсуеш. Пі, Валодзя! Залпам! (І. Шамякін. Выкармак).

**2.** *Неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць.* – Не, пачакай, Яўцех! Ты скажы... ты быў супраць лекцыі? – Лекцыі? Як кажуць... кашу маслам не сапсуеш... Але, наогул, у мяне свая думка (І. Грамовіч. На Крутой гары). – Блакіраваць гарнізоны. І таксама дробнымі групамі. Па рыбе і снасць. А ты? – Па-мойму, варта падняць на ногі і самаабарону. – Кашы маслам не папсуеш... (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). – Я якраз паснедаў, калі сюды ехаў. – Не, чаму ж, – настойваў Рыбчанка. – Чаму ж не пакаштаваць? Маслам кашу, кажуць, не сапсуеш. Вось тут, калі ласка, я вам круглячок пастаўлю. Ганка, дай міску таварышу старшыні (М. Лупсякоў. У «Чырвоным беразе»). Бурыльшчыкі добра вырашылі, якога памеру трэба апусціць «тарпеду»... Карнееў баяўся, што гэткай бомбай можна папсаваць сценкі ствала. – Нічога – кашу маслам не папсуеш, – запярэчыў Юсуф-задэ. – Потым праверачным долатам пачысцім ствол (Э. Ялугін. Сіндбад вяртаецца).

* – А ці не лішне мы навазілі таго торфу?.. Гэта ж штабялёў панастаўлялі, што на поле не ўз'едзеш... А гной жа яшчэ возім... – Масла кашы не зашкодзіць, – усміхаецца і старшыня (В. Палта-

ран. Жыццё набірае разгон). – А чаго ты там [каля камбайна] поўзаеш? Непарадак знайшоў? – Усё ў норме, але лішняя кропля масла ніколі не сапсуе кашы. Хочацца перад боем праверыць яшчэ раз хадавую часць... (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

– *Насовіч,* с. 60: Кашу маслам не сапсуеш; *Прыказкі,* кн. 1, с. 246: Кашу маслам не папсуеш; Маслам кашы не змарнуеш.

**Каюся, ды за тое ж хапаюся.** *Пра становішча, калі чалавек, хоць і разумее, што менавіта так нельга рабіць, зноў працягвае тое самае.* Далібор разумеў, што грэх яму, сямейніку, нават у думках трымаць чыстую, не аблагоджаную мужчынам дзяўчыну, але зноў і зноў трызнілася Рамуне. Нездарма гавораць людзі: «Каюся, ды за тое ж хапаюся» (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 173: Каюся, ды за тое хапаюся; Аб грахах нашых скрушаемся, ды і зноў за іх хапаемся.

**Кволае цяля (цялятка) і ў Пятроўку (улетку) зябне. 1.** *Кажуць, часам жартоўна, таму ці пра таго, хто скардзіцца, што яму холадна.* **Сін.:** *Старой бабе і ўлетку на печы холадна.* Апрытомнеў сярод ночы. Бацька і маці не спалі. Галава гарэла, а сам, здаецца, замярзаў ад холаду: кідала ў дрыжыкі. – Накрыйце чымнебудзь – калоціць... – Кволае цяля і ў Пятроўку зябне, – бацька накінуў паверх коўдры кажух (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў).

**2.** *Пра што-н. слабае, чаму не дапамагаюць і ўмовы, спрыяльныя для развіцця, росту і пад.* Сем гадоў дзівіліся, што стане з гаспадаркі, у якой была распаёвана маёмасць. Выйшла, што кволае цялятка і ўлетку зябне, нягледзячы на шматлікія падкормкі (інвестыцыі) сельскай гаспадарцы (В. Гроднікаў. Час вулкана).

– *Янкоўскі*, с. 165, 169: Кволае цяля і сярод лета зябне; Слабое цяля і ў Пятроўку мерзне.

**Кепска, пане Грыгоры: што (чым) далей, то (тым) горай.** *Гаворыцца пры няспынным пагаршэнні якіх-н. жыццёвых абставін.* Аб тым, каб заснуць, не можна было і думаць... «Кепска, пане Грыгоры: што далей, то горай!» – сказаў сабе Адась, а потым устаў, абмацаў папоцемку пасцель свайго старэйшага жанатага брата, Петры, і стаў шарыць рукамі ў галавах, шукаючы капшука з тытуном (Я. Лёсік. Па-валачобнаму). «Кепска, пане Грыгоры: чым далей, тым горай». Хочацца хутчэй выехаць з Ташкента... (Я. Колас. Дзённікі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 503: Кепска, пане Грыгоры, што далей, то горай. І.І. Насовіч (с. 60, 142) называе гэту прыказку гістарычнай і этымалагічна звязвае яе ўзнікненне з Грыгорыем Загорскім, які,

будучы ўніяцкім Полацкім архіепіскапам, жорстка ўціскаў праваслаўнае духавенства.

**Кепская (бедная) тая дамова, дзе вала бадзе карова.** *Гаворыцца як насмешка над мужам (ці мужчынам), калі ім кіруе, бярэ над ім верх жонка (ці жанчына).* **Сін.:** *Гора табе, воле, калі цябе карова коле; Няхай той бык здохне, якога пабора карова.* – Клопат пра сям’ю – не малая турбота. Дзеля яе, бывае, трэба ісці і на тое, на што душа і не згаджаецца... – Асабліва, калі ў цябе такая жонка, як Раксана! – Не заракайся! І тваё цялятка рана-позна будзе з рагамі! – Кепская тая дамова, дзе вала бадзе карова! (Г.Далідовіч. Кліч роднага звона).

– *Насовіч,* с. 39: Дурная тая дамова, дзе вала бадзе карова; *Прыказкі,* кн. 2, с. 52: Бедная тая дамова, дзе вала бадзе карова.

**Кінь (кінеш, закінь) наперад (уперад) – знойдзеш ззаду.** *Калі зробіш каму-н. ласку, то і табе адплацяць тым самым.* **Сін.:** *Далей кінеш – бліжэй возьмеш; Кінь за сабою, <то> знойдзеш перад сабою.* [Парфіяновіч:] Якую ж даць сабе мне раду? Закінь наперад – знойдзеш ззаду. Я пана выпушчу... Ну так! (М. Клімковіч. Кастусь Каліноўскі). Адама Касперавіча не вучыць, каго і куды запрасіць, каму і што паднесці... Нездарма кажуць: кінеш уперад – знойдзеш ззаду (І. Аношкін. Тры клічнікі). **Кінь перад сабою, знойдзеш за сабою.** Другому трэба нейкую ласку рабіць, аддзячыць, а гэты ўжо «аддзячаны»: мёду яму давала ж! «Кінь перад сабою, знойдзеш за сабою» – яшчэ ж як праўдзіць прымаўка (П. Місько.Градабой). – Нешта ты лістам сцелешся перад ім... – Ну што ты хоць вярзеш?! Проста – кінь перад сабою, знойдзеш за сабою. Гэта ж мо дырэктар універмага! (П. Місько. Дзень нараджэння). Пацёршы далонню лоб, [Дамінік Ануфрыевіч] загаварыў спакойна, абдумваючы кожнае слова: – Кінь перад сабою – знойдзеш за сабою... Надумаўся я выводзіць Янку ў людзі... Трэба яго грамаце вучыць, хоць канторшчыкам будзе... (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

* [Касперскі:] Як не дапамагчы суседу. Закінеш наперад, як знойдзеш (І. Гурскі. Хлеб). Ды не, таварыш Наркевіч, не глупства. Не кінеш наперад, не знойдзеш ззаду. Або, як у вас, у гандлёвай сетцы: ты мне – я табе... Даю, каб і ты мне даў (Л. Левановіч. Мадонна з кветкаю). Стуканок трымаўся свайго жыццёвага правіла: наперад кінеш – ззаду возьмеш. Гэта ў тым сэнсе, што не скупіся перад «патрэбным чалавекам» (А. Рылько. Стуканок у аблавушцы).

– *Ляцкі,* с. 18: Кінь напярод (наперад), а знойдзеш назаду; *Прыказкі,* кн. 2, с. 459: Кінь перад сабою – знойдзеш за сабою.

**Кінь (кінеш) за сабою, <то> знойдзеш перад сабою.** *Калі зробіш каму-н. ласку, то і табе адплацяць тым самым.* **Сін.:** *Далей кінеш – бліжэй возьмеш; Кінь наперад – знойдзеш ззаду.* Кінь за сабою, то знойдзеш перад сабою... От тады прынялі хораша Аляксея Аляксеевіча, то і ён як чалавек паставіўся да нас (П. Місько. Ціхае лета). Ехалі праз Нясвіж: бацька і дзядзька Антось хацелі заглянуць у замак і перадаць знаёмым падпанкам сякі-такі гасцінец – мяшочак арэхаў, вязку сушаных грыбоў, свежай рыбы. Кінеш за сабою – знойдзеш перад сабою! (С. Александровіч. На шырокі прастор). Не праціўся, калі гоняць дарогу правіць не сваю дый дарма: можа, часам і цябе будуць па ёй весці, дык не будзеш каяцца; кінь за сабою, знойдзеш перад сабою (Я. Купала. Старыя праўды на новы лад). Ды якая б бескарыслівая ні была дапамога, недзе ўсё ж схавана і выгада таго, хто памагае: бач, які я добры, у мяне ўсяго столькі, што я табе магу крыху даць. Ці па прынцыпе: кінь за сабою, знойдзеш перад сабою. Ці нават прасцей: я табе, ты – мне (У. Дамашэвіч. На мяжы цярпення). **Кінь (кінеш, закінеш) назад – знойдзеш наперадзе.** Не пра фермы, вядома, клапоціцца [Адзярыха]. Але ліха з ім. Яго, Сашава, хата з краю. Назад кінь, наперадзе знойдзеш. Можа, і прыйдзецца калі-небудзь заехаць (І. Навуменка. Бульба). – Загадваеце? – Не маю права. Прасіць – маю права. Закінеце назад – знойдзеце наперадзе (Я. Ермаловіч. Валуны).

* – Калі-небудзь мне падможаш, – засмяяўся Цырык, паказваючы шчарбаты з абодвух кутоў рот. – Хто кіне за сабою, знойдзе перад сабою (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). Хацелася хлопцу мець свой куточак, бацькі памаглі сыну, бо разумелі: кідае хлопец за сабою, каб знайсці потым перад сабою (А. Пальчэўскі. Чорны дзень).

– *Насовіч,* с. 61: Кінь хлеб-соль пазадзі, знойдзеш уперадзе; *Прыказкі,* кн. 2, с. 459: Кінь за сабой – найдзеш перад сабой; Закінь назад – наперадзе знойдзеш.

**Кінь назад – знойдзеш наперадзе.** *Гл.* Кінь (кінеш) за сабою, то знойдзеш перад сабою.

**Кінь перад сабою, знойдзеш за сабою.** *Гл.* Кінь (кінеш, закінь) наперад – знойдзеш ззаду.

**Кіпцюрык ушчаміўся – усёй птушцы прападаць (гінуць)**. *Варта толькі пачаць што-н. адмоўнае, заганнае, як ужо не змо-*

*жаш выкруціцца.* – Значыць, ты і ёсць той самы сведка абвінавачвання, чыё імя ў інтарэсах бяспекі не [выдаецца]? – Я і ёсць. Няма куды дзецца. Як гаворыцца, кіпцюрык ушчаміўся – усёй птушцы прападаць (Н. Бабіна. Рыбін горад).

– *РБС*, т. 1, с. 361: Кіпцюрык ушчаміўся – усёй птушцы гінуць.

**Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай.** *Ужываецца з незадавальненнем у дачыненні да тых кіраўнікоў, якія занадта любяць указваць, накіроўваць чыю-н. дзейнасць, распараджацца кім-н.* Партыйная дысцыпліна, нібы жалезная аброць, прымушала трымацца баразны, па якой вялі вышэйшыя лідэры, тыя, што сядзелі ў Крамлі і трымалі лейцы. Каб жа толькі трымалі! Дык жа бязлітасна тузалі! І не раз узгадваў Андрэй крылатыя, мудрыя словы: «Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай!» (Л. Левановіч. Палыновы вецер).

* Нам і настаўнік гаварыў, што ў нас, маўляў, не цар кіруе, а палітбюро. А бабы ў адзін голас: хіба ж мы супраць таго бюро?! Па нас няхай бы сабе там хоць хто быў, абы па-людску кіраваў ды не вельмі тузаў. І каб дзетачак нашых не забівалі ў далёкіх чужых землях за той доўг, якога мы ні ў каго не пазычалі... (А. Петрашкевіч. Дагарала свечачка).

– З сатырычнага верша К. Крапівы «Едзе крытык малады» (1932), дзе гаворыцца, як верхаводзілі ў літаратуры пралетарскія пісьменнікі ды крытыкі-вульгарызатары і як нарэшце «не сцярпеў пакутнік: – Крытык! Родненькі! Даруй мне з маёю музай! Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай».

**Клін выбіваецца клінам.** *Гл.* Клін клінам выбіваюць (выганяюць).

**Клін клінам выбіваюць (выганяюць).** *Непрыемныя вынікі якіх-н. дзеянняў ці стану ліквідуюцца тымі ж сродкамі, якімі выкліканы гэтыя дзеянні або стан.* **Сін.:** *Няма прыёму супраць лома, апрача самога лома.* – Без папаўнення боепрыпасаў не вельмі навалюеш, а мы іх страцілі багата... – Клін клінам выбіваюць, – сказаў Каляда. – Пакуль ёсць захопленыя ў фашыстаў боепрыпасы, будзем імі біць... (І. Гурскі. У агні). Няўдача ў каханні, канфлікт з рэжысёрам... Клін клінам выбіваюць. І я таксама паспрабаваў «клін клінам выбіць». Жыла ў родным маім горадзе дзяўчына, з якою я калісьці трохі пагульваў – хадзіў у кіно, на танцы, праводзіў дадому (Б. Сачанка. Белая мыш). [Халяўкін:] Даўно ж вядома, што клін клінам выбіваюць. Толькі новае моцнае каханне можа выціснуць тугу па той асобе, якая здрадзіла яму (В. Зуб. Марная трывога).

[Авяр'ян:] Ведаеце, што б я зрабіў на вашым месцы? Клін выганяюць клінам! У горадзе поўна адзінокіх жанчын. Я мог бы... і падказаць некага... (А. Дзялендзік. Гіпапатам). **Клін выбіваецца клінам.** Галена адчула, што зараз Сыракомля ўпадзе ў істэрыку. Або зап'е смяротна – тут ці ў прыдарожнай карчме... Клін у такіх выпадках, здаецца, выбіваецца клінам... (А. Мальдзіс. Восень пасярод вясны). Час – лечыць. Клін клінам выбіваецца. Не сядзі рукам, не стагні над разбітым і патрушчаным гаршчэчнікам свайго ўяўнага шчасця, а дзейнічай... (А. Казлоў. Паразумецца з ветрам).

– Калька з лацінскай мовы: *Cunas cuneum trundit.*

– *Насовіч,* с. 62: Клін клінам выганяюць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 489: Клін клінам выбіваюць (выганяюць).

**Кляні пана – пан сычае.** *Гл.* Пана клянуць, а пан тлусцее.

**Кожнай агародніне свой час.** *Карані, клубні, зяленіва агародных раслін, плады садовых, куставых, травяністых і іншых раслін вырастаюць, выспяваюць у свой, пэўны час*. Лабановіч абвёў поглядам наваколле і ціха сказаў: – Кожнай агародніне свой час. Свой час ягадзе і свой час баравіку... (Я. Колас. На ростанях).

– *Ліцвінка*, с. 126: Усякай гародніне свой час.

**Кожнай сястрыцы па завушніцы**. *Кожнаму дастанецца аднолькава (пры пакаранні каго-н. ці пры размеркаванні, дзяльбе чаго-н.)*. Кунцэвіч [арыштаваны] сцяў зубы, кінуў злосны позірк на Корзуна. – Неблагая ферма была, га, Фёдар Сяргеевіч? – Вам відней, – Кунцэвіч ухіліўся ад прамога адказу. – А віна ўсё роўна на дваіх. – Кожнай сястрыцы па завушніцы? (У. Шыцік. Па жураўля ў небе). Пералічваць іх [пісьменнікаў] няма патрэбы. Ды і немагчыма, бо ў «званых і выбраных» [У. Саламахі] разглядаецца творчасць амаль сотні літаратараў. Варыянт «кожнай сястрыцы – па завушніцы» тут не праходзіць (В. Гардзей. На мяжы двух сусветаў).

*У Мінску паэткі і пісьменніцы змагаліся за званнне першай прыгажуні... Раздаць усім сёстрам па завушніцах вырашыла пісьменніца Алена Масла (М. Малевіч. Літаратурная «Першая прыгажуня»).

– *Санько*, с. 11: Кожнай сястрыцы па завушніцы.

**Кожнаму дразду па свайму гнязду.** *У кожнага па-свойму неаднолькава складваюцца жыццёвыя абставіны.* – Добрага ў няволю пагналі, а гэты цямрук раскашуе, як крапіва пад плотам... Чаму ўсё так робіцца, Ядрэйка? – Кожнаму дразду па свайму гнязду, – адказаў рыбалоў. – Даўно заўважыў я, баяры вы мае дарагія, што мякчэйшыя людзі на мулкіх палатках спяць... А той, у каго

сэрца з валуна высечана, на пухавіках, на ядвабе свае белыя костачкі песціць (Л. Дайнека. След ваўкалака). Прыгадваецца адно сачыненне сучаснага гарадскога вундэркінда: «Мой тата можа ўсё! Але ў яго няма на гэта часу, бо ён павінен дапамагаць маме выціраць посуд і мыць бялізну». Не буду бэсціць сучасных бацькоў. Кожнаму дразду – па свайму гнязду (У. Ліпскі. Бацька). Нябёсы даюць прытулак на зямлі кожнаму чалавеку і пасылаюць яму толькі тыя выпрабаванні, якія ён можа годна пераажыць. Як кажуць, кожнаму дразду – па свайму гнязду (І. Карэнда. Воплаўская госця).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 289: Кожнаму дразду па свайму гнязду.

**Кожнаму ездаку – свае санкі.** *У кожнага свае схільнасці, звычкі, магчымасці і г. д., кожнаму што-н. сваё падыходзіць, прыдатнае і пад.* **Сін.:** *Кожнаму сваё.* – Што пастаўлена, у тым і жыць будзеш. – Навошта так? Ты сваю службу ведаеш, я – сваю. Ты на сваім месцы, я – на сваім. Кожнаму ездаку – свае санкі. А прыхільнасць і любоў тут ні пры чым (М. Пянкрат. Буян).

**Кожнаму сваё.** *Функц. не зам. У кожнага свае схільнасці, здольнасці, магчымасці і г. д., кожнаму што-н. сваё падыходзіць, прыдатнае і пад.* **Сін.:** *Кожнаму ездаку – свае санкі.* Сапраўды па-беларуску ціха ўспрымаў народ Беларусі рэвалюцыю: ціха, але глыбока – як сваю, кроўную. Беларус – не экспансіўны італьянец ці іспанец. Кожнаму – сваё (А. Лойка. Як агонь, як вада). Хтосьці пайшоў у магілу, а ён [Сідар] пад вянец. І тут зноў, як кажуць, кожнаму сваё, у кожнага свой лёс, і наканаванне гэтага лёсу калёнымі літаркамі на лобе ў кожнага напісана (В. Казько. Хроніка дзетдомаўскага саду). – Можа, ажаніўся? – Яшчэ не... – Так і жывеш? – А што зробіш. Кожнаму сваё (М. Зарэмба. Здань у храме святой наіўнасці). – Нам, простым работнікам культурнага фронту, да Героя як ад зямлі да неба. – Я сур'ёзна, Вы хочаце стаць Героем? – А хто ж ім не хоча стаць. Але, як кажуць, кожнаму сваё (І. Стадольнік. Залатое вяселле). Антон пісаў кідкія рэкламныя плакаты, і так званыя новыя беларусы ахвотна плацілі яму. Ёй [Віцы] гэта не падыходзіць. Кожнаму сваё (Р. Баравікова. Ля берагоў Аўстраліі).

* Засталася лірыка Аркадзя Куляшова, паэмы, пераклады. Ад шмат якіх паэтаў, абвешчаных пасадамі, і напаміну не засталося. Кожнаму сваё – каму вуда, каму пугаўё (Р. Барадулін. А. Куляшоў).

– Калька з лацінскай мовы: *Suum cuique.*

**Кожнаму сваё (роднае) дзіця міла.** Кожнаму сваё дзіця міла (Эпіграф да раздзела «Імя» ў кнізе Б. Сачанкі «Вечны кругазварот»).

Праўда тое, што ўсякая маці хваліць сваіх дзяцей. Кожнаму роднае дзіця міла. Бадай, адна Ліна Костачка ніколі не гаварыла адназначна пра свайго сына Пашку (В. Мыслівец. Выгнанне грэшнікаў).

– *Насовіч,* с. 59: Каждаму сваё дзіця міла; *Янкоўскі, с.* 140: Кожнаму сваё діця міла.

**Кожная варона за сваё каркае.** *Кожны мяркуе вельмі суб'ектыўна, аднабакова, з асабістага пункту гледжання.* [Жабрак:] А як збоку глянеш, Аўдзей, дык што чалавеку трэба – акрайчык хлеба, ды каб пагрэцца, ды каб не гналі. Госпадзі, як падумаеш, ну што чалавеку трэба! [Аўдзей:] Кожная варона за сваё каркае. Чалавеку многа трэба! (У. Бутрамееў. Страсці па Аўдзею).

**Кожная птушка ляціць у сваю чараду.** *Кожнага цягне да сваіх, да аднадумцаў, да падобных на сябе.* Не трэба было Сашу тлумачыць.. і тое, што кожная птушка ляціць у сваю чараду. Таму і налягаў на вучобу!.. Прахадны бал у інстытут узяў з першага заходу (Настаўн. газ. 2000, 10 чэрв.). Мог бы [Ягайла] і яе, нявопытную, мудрасці навучыць. А ён без дай прычыны абвінавачванні сыпле. Няўжо памылілася, пасняшалася, забылася, што кожная птушка ляціць у сваю чараду? Калі так, яна можа адступіцца. Можа не трымацца за такое замужжа (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвае каралю).

– *Янкоўскі*, с. 191: Кожная птушка ляціць у сваю чараду.

**Кожная сасна свайму бору песню спявае.** *Кожны чалавек абараняе інтарэсы людзей свайго асяроддзя.* – А што вы на судзе гаварылі, забыліся? Дык я магу нагадаць, яно ў пратаколе запісана. – Чаму забыўся? Не. Але, ведаеце, кожная сасна свайму бору песню спявае... Я ж быў афіцыяльным прадстаўніком (А. Капусцін. Дзённік суддзі Верасаўца).

* Кожная сасна свайму бору пень пакідае (Л. Дайнека. Парадаксізмы).

– *Прыказкі,* с. 1, с. 290: Кожная сасна свайму бору песню пяе.

**Кожны гад чужому грошу рад.** *Гл.* Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.

**Кожны кулік сваё балота хваліць.** *Кожны хваліць тое, што яму найбольш блізкае, дарагое.* **Сін.:** *Кожны старац сваю торбу хваліць; Кожны цыган сваю кабылу хваліць.* – Клімат тут харошы. Заўваж, у вас калі засуха, то высмаліць дазвання ўсё. Кладзі зубы на паліцу. А тут ніколі не бывае, каб недарод кругом. На нізкім вымачыць, дык вырасце на сухім... – Кожны кулік сваё балота хваліць (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). Кажуць, кожны кулік

сваё балота хваліць. Хвалю, слаўлю, у меру сіл і здольнасцей, і тыя мясціны, дзе нарадзіўся і рос, бо ведаю, добра ведаю – няма лепшага раю ад роднага краю (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). Сказаць, што ў нас прыгожая мясціна, – значыць, нічога не сказаць. Зрэшты, кожны кулік хваліць сваё балота (Л. Левановіч. Там, дзе Бесядзь-рака). Калі ж [я] гаварыла ўніверсітэцкім сяброўкам, што ў нас цяплей, раней пачынаецца вясна, той-сёй не прымаў гэта ўсур'ёз... Ведама, кожны кулік сваё балота хваліць (Н. Маеўская. Слуцкая бэра).

– *Рабкевіч*, с. 85: І кожны кулік сваё балота хваліць.

**Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.** *Гаворыцца як адмоўны адказ таму, хто просіць закурыць.* **Сін:** *Калі курэц, то насі люльку і тытунец.* [Авечка:] Ці не маеце часам закурыць, нешта тут пад грудзямі... [Сторaж:] Не маю, кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец (У. Галубок. Суд).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 363: Кожан курэц мае сваю люльку і тытунец.

**Кожны па часе мае розум.** *Кажуць пра таго, хто са спазненнем рэагуе на што-н., каму патрэбная думка прыходзіць запознена.* **Сін.:** *Каб той розум наперад, што пазней прыходзіць; Мужыку розум прыходзіць па шкодзе.* [Лявон:] Што ўспамінаць, чаго не вернеш! Кожны па часе мае розум. Я толькі хацеў праўды шукаць. Ха-ха-ха? Здурэў і праўду шукаў!.. (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 231: Кожны па часе мае розум.

**Кожны плача па сваім бацьку, як умее.** *Кожны дзейнічае, паводзіць сябе па-свойму, адпаведна сваім прывычкам, схільнасцям і пад.* Там [ва ўніверсітэце] непараўнана болей шырокае поле для ўсебаковага развіцця... А ўрэшце, кожны плача па сваім бацьку, як умее. Не буду навязваць табе сваіх думак і адносін да настаўніцкага інстытута, бо, можа, я памыляюся, а знайсці праўду і намацаць правільны шлях у жыцці не так лёгка і проста (Я. Колас. На ростанях). **Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.** Уладзік настойваў на сваім: – Калі ўжо браць абы-каго, дык лепей ісці ўдвух. Падумаеш, такі ўжо ты там, у той штрафкампаніі, закончыў курсы. Хто як хоча, так па свайму бацьку плача. Будзе ў нас і свой вопыт (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). **Як хто хоча, так па сваім бацьку плача – хто ў кулак, а хто ніяк.** – То ж была, мусіць, прычына [прыйсці ў госці праз пяць дзён пасля пахавання маці]. – Прычына? Таму новую кватэру далі, няхай сабе яны стол збіра-

юць, няхай сабе чарка будзе. А ёй чаго? – Ат, памаўчала б. Як хто хоча, так па сваім бацьку плача – хто ў кулак, а хто ніяк (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог).

– *Насовіч,* с. 196: Як хто хочаць, па сваём бацьку плачаць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 144: Як хто хоча, так па свайму бацьку плача; Кожны плача па свайму бацьку, як умее.

**Кожны салдат носіць у ранцы маршальскі жэзл**. *Кожны салдат марыць зрабіцца маршалам.* **Сін**.: *Дрэнны той салдат, які не хоча стаць генералам*. А чаму смяяцца [з мары пра залатыя зоркі генерала]? І чаму саромецца прызнацца пра такую мару? Па-першае, як казаў мой бацька: не багі гаршкі лепяць. А яшчэ даўно-даўно мудры палкаводзец сказаў: кожны салдат носіць у ранцы маршальскі жэзл. Маршальскі! А генеральскі – то пэўна! (І. Шамякін. Зона павышанай радыяцыі).

– Паўкалька з французскай мовы. Паводле кнігі Э. Блаза «Ваеннае жыццё ў часы імперый» (Парыж, 1837), гэты выраз належыць Напалеону.

**Кожны старац сваю торбу хваліць.** *Кожны хваліць тое, што яму найбольш блізкае, дарагое.* **Сін.:** *Кожны кулік сваё балота хваліць; Кожны цыган сваю кабылу хваліць.* – Як не забраць такога добрага хлопца? – Кожны старац сваю торбу хваліць, – суха сказала старая. – Забірай (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі). – Кожны старац сваю торбу хваліць, – памякчэла Хоя. – У нас хоць няма Волгі, але не горш. У нас палі жытнёвыя, лугі квяцістыя, бары хваёвыя, гаі бярозавыя, рэчкі і рэчачкі ціхія, азёры задуменныя! (Л. Калодзежны. Пад халодным небам).

**Кожны (усякі) цыган сваю кабылу хваліць.** *Кожны хваліць тое, што яму найбольш блізкае, дарагое.* **Сін.:** *Кожны кулік сваё балота хваліць; Кожны старац сваю торбу хваліць.* [Мікола:] Вы ў сватах як загнулі героя, дык мне чорт ведае што і казаць. Я ледзь не згарэў ад сораму. [Пытляваны:] У сватах, як на таргу: кожны цыган сваю кабылу хваліць (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). – Не, я свайго не біў. Так, можа, калі... А баяўся. І цяпер баіцца. І дзеўкі слухалі. – А-а, – кракнуў Галавацкі. – Кожны цыган сваю кабылу хваліць. А мае што: дурні? І я, па-твойму, дурны? (Я. Ермаловіч. Зазімак). – А каб ты ведала, Раечка, якое наша вучылішча? Ва ўсім Саюзе лепшага няма! – Кожны цыган сваю кабылу хваліць... (П. Місько. Градабой). У канцы гутарка пайшла пра тое, чые лепшыя грыбы. Кандрат хваліў сваіх баравікоў, Грыгор – сваіх, бо ўсякі цыган сваю кабылу хваліць (Я. Колас. За што пабіліся хлопцы).

– *Насовіч*, с. 59: Каждый цыган сваю кабылку хваліць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 461: Кожны цыган сваю кабылу хваліць.

**Кожны чарток ведай свой куток.** *Гл.* Ведай цвіркунок (каток) свой куток.

**Кожны чорт на сваё кола ваду цягне.** *Гл.* Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне.

**Колас ад коласу – не пачуеш голасу.** *Пра зусім кепскія разлікі на ўраджай.* А паласа тая была не простая. Паказухіна паласа! З краю стаіць сцяной, а далей колас ад коласу – не пачуеш голасу. Ды каласкі, што камарыныя наскі (Л. Левановіч. Ці любіце вы грэчку?).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 136: Колас ад коласа не чуе голаса; Колас ад коласа, што не чуваць чалавечага голаса.

**Колькі вяровачку ні віць, канец будзе.** *Гл.* Колькі вяровачцы не віцца, а канцу быць (канец будзе).

**Колькі вяровачцы ні віцца, а канцу быць (канец будзе).** *Нядобрыя ўчынкі, несамавітыя справы, колькі б яны ні працягваліся, стануць вядомымі, будуць мець канец. Гаворыцца з упэўненасцю, што дрэнным справам, учынкам прыйдзе канец.* – Але злавілі Соміка, патроху выкрыем і прыстасаванцаў... – Аге ж, і то праўда, – пачулі ў адказ. – Колькі вяровачцы ні віцца, а канцу быць... (Б. Сачанка. Зямля маіх продкаў). – Калі гэта гісторыя як-небудзь выплыве, вы... Вас... – Выганяць, як сабаку, – усміхнуўся Раманоўскі. – І правільна зробяць. Але я стары, мне гэта не страшна. Усё роўна, колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе. А ты яшчэ малады, табе яшчэ працаваць і працаваць... (М. Герчык. Вяртанне да сябе). [Напарнік:] На вас даўно трэба не сарочкі смірыцельныя надзяваць – кандалы. І надзенуць, надзенуць, галубчыкі! Колькі вяровачцы ні віцца, канец будзе! Адальюцца вам людскія слёзы! (І. Шамякін. Сатанінскі тур). **Як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца.** Гэта ж многае з таго, чым займаліся Архіп Іванюк і Сцяпан Крэмнеў, паступова праяснялася, вырысоўвалася гісторыя з пачаткам і, мяркуючы ўжо па наяўных матэрыялах, канцом. Бо нездарма ж кажуць, як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца (П. Кавалёў. Падзенне Хвядоса Струка). **Колькі вяровачку ні віць, канец будзе (павінен быць).** За ўсіх адказаў Лабун: – Колькі вяровачку ні віць – павінен быць канец ёй (А. Пальчэўскі. Збітыя рогі).

* Вярнуцца ёй [Паліне] у СД больш не давялося. Колькі б вяровачка ні вілася, канец мусіў быць (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Хто ласы несумленна жыць – абавязкова кары не пазбыцца... Колькі вяровачцы ні віцца, а кончыку заўсёды быць? (Э. Валасевіч. Агульны інтарэс).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 355: Колькі вяровачцы ні віцца, канец будзець.

**Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць (паглядае).** *Як ні старайся перамяніць сутнасць чалавека, яго прывычкі, якасці, яны абавязкова праявяць сябе.* **Сін.:** *Воўчы дух да лесу цягне.* [Студэнт:] Бараню бедных людзей... Мой абавязак. [Гаспадыня:] Даруй, папраўлю... Не абавязак, а сам такі. З мужычых пялёнак узяла цябе, а колькі ваўка ні кармі – усё ў лес паглядае (У. Галубок. Ганка). Гэты «слуга божы», відаць, надумаў нешта нядобрае. Нездарма зноў зрабіўся дзікуном. Праўду кажуць людзі: як ваўка ні кармі, ён у лес глядзіць (Я. Маўр. У краіне райскай птушкі). У часе контратакі белякоў яны [былыя палонныя] і адкрылі фронт сваім нядаўнім саслужыўцам... Ваўка як ні кармі, а ён у лес глядзіць (А. Асіпенка. Лабірынты страху). Калі Пісар вечарам таго ж дня прыйшоў дадому, дзядзька Сцяпан сказаў яму: «Як воўка ні кармі – ён у лес глядзіць...» (І. Капыловіч. Аблава). **Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, а яго ў лес цягне.** Бач, што надумала? Кінуць жывога мужа, свякруху, якой, можа, тыдзень да смерці, і ляцець ці ў блізкі свет. Недарма кажуць: як ваўка ні кармі, усё адно яго ў лес цягне (І. Шамякін. Аксана). – Прабачце... Я забыўся, што сёння абяцаў падзяжурыць на электрастанцыі. Хлопец чакае, не магу, – апраўдваўся Барэйка. – Пусціце яго. Ваўка як ні кармі, а яго ў лес цягне... (М. Ваданосаў. У Баркоўскай пушчы). Тры гады [Анкуда] быццам мяняўся і не змяніўся, цішэў і не пацішэў. Колькі воўка ні кармі – у лес цягне (В. Карамазаў. Пагоннік). Ах ты, прыватніцкая вантроба... А ўсё-такі правільна кажа народная прымаўка: як воўка ні кармі, а яго ўсё роўна ў лес цягне... (В. Дайліда. Мне – пару слоў).

* Мне здалося, што ты нават у характары змяніўся... Адно ж аблічча ў цябе стала авечае, а нутро асталося воўчае... Як ты Радзецкага ні кармі, а ён у лес глядзіць... (І. Гурскі. У агні). Снедаю, жонка дагаджае, каб забыў учарашняе, прыганяе, каб еў, а я быццам той воўк – яго кормяць, а ён у лес пазірае (М. Кусянкоў. Жар пад прыскам).

– *Насовіч,* с. 14: Ваўка як ні кармі, усё ў лес глядзіць; *Раманаў,* с. 231: Сколькі воўка ні кармі, а ён к лесу глядзіць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 266: Як ваўка ні кармі, а ён у лес пазірае.

**Конская матка не здохла.** *Гаворыцца пра каня як апраўданне, што ён не апошні на свеце і што няма чаго шкадаваць яго.* Наста ехала самая апошняя, астаўшыся ззаду, і калі злезла з воза,

Буланчык быў стаў, пасля, павярнуўшы галаву, даў у хамут і, пачуўшы, мусіць, што палягчэла, пайшоў за возам... Ёй трэба было цяпер даганяць калёсы, бо ні да каго другога не падсядзеш пад’ехаць: усе наперадзе... «Чорт бы не ўзяў Буланчыка. Не такая я і грамазда. Пашкадавала... Конская матка не здохла...» (І. Пташнікаў. Тартак).

– *Насовіч,* с. 61: Кабылля матка ніколі не здыхаець.

**Кончыў дзела – гуляй смела.** *Гл.* Скончыў (кончыў) дзела – гуляй смела.

**Конь здыхае, а <за> траву хватае.** *Гл.* Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае.

**Конь на чатырох нагах <і то> спатыкаецца.** *Кожны можа памыліцца, апынуцца ў цяжкім становішчы. Кажуць у апраўданне чыёй-н. памылкі.* **Сін.:** *Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца.* [Трэці калгаснік:] Ну, канешне, бывалі і памылкі. Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца (А. Макаёнак. Каб людзі не журыліся). – Пакінь ушчуваць хлопца, – спакойна прамовіў дзядзька Антось. – Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца часам... (С. Александровіч. На шырокі прастор). У чым хто з вас перада мной правінаваціўся – я скажу. У чым я перад кім вінаваты – вы скажыце. Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца... А мы... Мы ж людзі... (Б. Сачанка. Шчырасць). – Ну, ведаеце, у жыцці кожнага чалавека можа быць памылка, кожны можа аступіцца, – выкручваўся дырэктар, чырвоны, як памідор. – Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца (В. Дайліда. Чортаў тузін). – Дык што, таварыш аграном, рабіць будзем? – Што ж рабіць, – кажу, – конь на чатырох нагах спатыкаецца, а чалавеку таксама дазваляецца спатыкнуцца. Недагледзеў (М. Пянкрат. Шчасце маё). **У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца. –** Эх, хлопцы, хлопцы! – у засмучэнні гаварыў далей Лабановіч. – Лягчэй за ўсё шукаць вінаватых. Ды якая ў тым карысць? Ты ж, Алесь, – звярнуўся ён да Садовіча, – не згрызайся! У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца (Я. Колас. На ростанях).

* Не магу ж я дапусціць, каб памылку настаўніка паўтарылі вучні. Памылілася я. Бывае так, што і на роўнай дарозе конь спатыкаецца. І чалавек, бывае, памыляецца (Я. Ермаловіч. Сіняя птушка).

– *Насовіч*, с. 67: Конь на чатырох нагах спатыкаецца.

**Корань навукі (навучання) горкі, ды плады яго салодкія.** *Функц. не зам. Навучанне – нялёгкая, напружаная праца, але вынікі яе плённыя.* – І ты, нарэшце, павінна ўзяцца за сваю адукацыю. – Ізноў адукацыю! Агоркла ўжо яна мне. – Пачакай. Корань навукі

горкі, ды плады яго салодкія. Пытанне цяпер у тым, як мы будзем весці нашы заняткі (Я. Колас. Адукацыя).

* Усе баяры і сам бацька глядзелі на яго, а яшчэ таму, што мужчына павінен вучыцца цярпець боль. – Горкі корань у вучэнні, ды салодкія плады, – паблажліва сказаў лях Някрасу і ледзь паспеў вывернуцца з-пад магутнага ўдару, які панёс Далібор (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

– Калька з грэчаскай мовы. Выказванне належыць Арыстоцелю (384–322 да н. э.).

**Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, хто напачатку задобрывае каго-н., каб дасягнуць пэўнай мэты.* **Сін.:** *Кось-кось, пакуль у аглоблі.* – Не жолаб да каня, конь да жолаба ідзе. Ціснецеся туды, мужчынкі. – Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку, – выскаляўся нехта з грамады... (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

* Беларус, глядзі не каркай, бо адчуеш сваім каркам, чаму пан такі стаў добры: кось-кось-кось – пакуль у аглоблі, потым па баку дугою ды ў жывот яшчэ нагою (К. Крапіва. На «Крэсах усходніх»). А з ім, селянінам, абышліся так: кось-кось да аброку, а тады – па боку. У такі хамут загналі і так супоню зацягнулі, што яму ні ўзад, ні ўперад (Я. Пархута. Адзінец).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 320: Косю, косю, да аброку, а як пойме, то й кіем па боку; Кося-кося, дам аброку, а там дугою па боку.

**Кось-кось (кося-кося, косю-косю), пакуль (ды) у аглоблі.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, хто напачатку задобрывае каго-н., каб дасягнуць пэўнай мэты.* **Сін.:** *Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку.* – Мусіць жа, Ціхон вашу зямлю ўзяў ураблянь? – пытаецца Шура. – А маё ты дзіцятка! Хто яго ведае, як яно тут выходзіць. Як той казаў, кось-кось, пакуль у аглоблі, – прыцішыла Марыська голас. – Як угаворваліся, дык усё добра было: і рабіць мы нічога не будзем, і глядзець яны нас будуць. А цяпер кажа: «Калі вы на поле не будзеце выходзіць, дык падумаюць, што я зусім вашу зямлю сабе забраў, ды яшчэ ў фонд адбяруць» (К. Крапіва. Мядзведзічы). «Не ведаю, што ад мяне трэба». – «Тут пытанні задаём мы. А твой абавязак сумленна адказваць», – умяшаўся Надзеждзін. «Ведаю, чыстасардэчнае прызнанне і гэтак далей. У народзе гэта называецца: «Кось-кось, пакуль у аглоблі» (С. Грахоўскі. Зона маўчання). «Табе колькі марак у дзень Хірт вызначыў плаціць?» – «Чатыры». – «А ўсім па тры. Глядзі, каб гэтая лішняя марка не... Кось-кось, пакуль у аглоблі...» (П. Місько. Калянае

лісце). Сілы фашыстаў на зыходзе, і ім трэба прыцягнуць на свой бок моладзь. За кім моладзь, за тым будучае. Вось і стараюцца... саюз прыдумалі: «Кося, кося, пакуль у аглоблі...» (Г. Васілеўская. Бывай, Грушаўка). – Гэта яшчэ кветачкі, а ягадкі наперадзе! Нездарма ж у райспажыўсаюзе кажуць, што яму да трох не гавары. – Косю, косю, пакуль у аглоблі, а потым... (В. Праскураў. Святая сівізна). Ласкаю заўсягды болей можна ўзяць, чым гвалтам. Кось-кось, ды ў аглоблі... Во так, так у разумных... (Б. Сачанка. Вялікі Лес). **Кось-кось, пакуль за грыву.** [Стася:] Ведаю я тваё «пакуль што». Кось-кось – пакуль за грыву. Так? (І. Шамякін. Дзеці аднаго дома).

– *Насовіч,* с. 68: Кося, кося! Штоб толькі паймаць удалося; *Прыказкі,* кн. 1, с. 313 і кн. 2, с. 319: Кось-кось, пакуль не ўхапіў за грыву; Кось-кось, ды й у аглоблі; Кось-кось, ды й за грыву.

**Кось-кось, пакуль за грыву.** *Гл.* Кось-кось (кося-кося, косю-косю), пакуль (ды) у аглоблі.

**Косю-косю, пакуль у аглоблі.** *Гл.* Кось-кось (кося-кося, косю-косю), пакуль (ды) у аглоблі.

**Кося-кося, пакуль у аглоблі.** *Гл.* Кось-кось (кося-кося, косю-косю), пакуль (ды) у аглоблі.

**Кот гладак, што паеў і набак.** *Пра чыю-н. абыякавасць, бесклапотнасць, раўнадушнасць да навакольнага, да таго, што адбываецца.* Ад такіх невясёлых думак я сохну. Зрабілася, як шчэпка. А дачка спраўная. «Кот гладак, што паеў і набак», – гаворыць народная прымаўка. Так і дачка (С. Лобач. Пажывём для людзей).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 262: На то і кот гладак, што паеў і набак.

**Кошка вочкі жмурыць, а кіпцюры вострыць.** *Пра чалавека хітрага, помслівага, здольнага на нечаканыя дзеянні, учынкі.* Крыжакі і плётку пусцілі, што менавіта Ягайла загадаў задушыць Кейстута і тое самае рыхтаваў Вітаўт. Як быццам у Ягайлы не хапіла б сілы альбо рашучасці давесці да канца задуманае. Не, ён зусім не хацеў гэтага. Тыя ж зайздроснікі-крыжакі самі ўсё і ўчынілі. А пасля раззванілі на ўвесь свет. Кошка вочкі жмурыць, а кіпцюры вострыць (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю).

– *Ляцкі,* с. 18: Кошка вочкі шчура, а кіпцюры востра.

**Кошку б'юць – нявестцы намёкі даюць.** *Караючы каго-н. аднаго, тым самым палохаюць, папярэджваюць іншых.* **Сін.:** *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць.* [Стары:] Слухай, а міністры мне дасталіся ўсе старыя? [Дружок:] Хочаце памяняць? Вы можаце каго-небудзь скінуць для постраху. Я іх па кругу пушчу, а вы мне толькі кіўніце – каторага, і я... Пярун ударыць аднаго, а баяцца

ўсе. [Стары:] Кошку б'юць – нявестцы намёкі даюць. Добра, давай. Ты толькі называй – каторы хто (А. Макаёнак. Кашмар).

– *Рапановіч,* с. 85: Кошку б'юць, а нявестцы намёк даюць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 96: Кошку б'юць, а нявестцы наветкі даюць.

**Кошцы гулі, а мышцы слёзы.** *Тое, што аднаму здаецца жартам, забаўкамі, для другога становіцца непрыемнасцю, прыносіць яму пакуты.* **Сін.:** *Катку жарты – мышцы смерць.* Пятровіч быў далёкім ад палітыкі і лічыў, што яна – занятак для людзей з велізарнымі комплексамі, словам, у нейкай ступені – забаўка для ідыётаў; але кошцы гулі, а мышцы слёзы – колькі крыві і слёз пралілося з-за таго, што палітыку аддалі на водкуп уродцам і вылюдкам? (А. Кудласевіч. «Жэзл Жалезны»).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 208: Кошцы смешкі, а мышцы слёзкі; *Ліцвінка,* с. 110: Кату жарты (смешкі), а мышцы смерць (слёзкі).

**Краса да вянца.** *Краса, прыгажосць патрэбна толькі пры вянчанні. Кажуць таму, хто прыхарошваецца.* Змітрок.. мусіў расчасацца на два бакі. З праборам яно куды высакародней, а калі прыгледзецца, дык і міла. – Краса да вянца, – суцяшала цётка Аксіння. – Як прычэшашся, так і добра будзе (М. Гроднеў. Пярэдадзень). Да работы ахвочая была. За што ні возьмецца – жыта жаць ці кросны ткаць – ўсё гарыць у яе руках. А на красу не дужа... Краса да вянца, казалі тады, абы не ляная... (М. Гроднеў. Заручыны).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 13: Красата да вянца; *Ліцвінка*, с. 80: Краса да вянца.

**Краса прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.** *Гл.* Хараство (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.

**Кропля камень крышыць (дзяўбе).** *Функц. не зам. Частымі і настойлівымі дзеяннямі можна дасягнуць многага.* – Але што з гэтага будзе, лістоўкай жа нічога не зробіш? – зглянуўшы ў вочы Казюку, запытала Адэля. – Кропля камень крышыць, – пераконваў Казюк каханку (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). Спачатку начальства энергічна ставала на абарону маладога здольнага супрацоўніка, але, як кажуць, кропля камень крышыць... З цягам часу абарона рабілася ўсё больш вялай, няўпэўненай, з агаворкамі і нарэшце пала... (В. Блакіт. Усмешка Фартуны). Ты сказаў, я сказаў. Усе разам сказалі. Хаця б пра таго самага Слюнчанку, калі ён яшчэ быў у нас старшынёй сельсавета. Нябось, нешта б было. Кропля камень дзяўбе (Я. Ермаловіч. Піліп з Касцяніц). Паступова, трохупатроху далучалі тэлегледача да новага – «антысацыялістычнага» – кінамастацтва. Ну і далучылі. Кропля, як кажуць, камень дзяўбе.

А тут не кроплі капалі, а патокі несліся-віравалі, залівалі безабаронныя душы брудам (Н. Гілевіч. А што прапануеце вы?).

* І ўсё, што гаварыў Капейка,ападала на цвёрдае сэрца майго швагруся, нібы кропля за кропляй на камень. Паслаць такога суцяшальніка к чорту – што ён зрабіў бы раней – Міхась ужо не мог: кроплі рабілі сваё... (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

– Калька з лацінскай мовы: *Gutta cavat lapidem*. Аўтар афарызма – старажытнарымскі паэт Авідзій, які ў «Пасланнях з Понта» пісаў: «Кропля дзяўбе камень не сілай, а частым падзеннем».

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 489: Капля па каплі і камень ламае.

**Кроў людская (чужая) не вадзіца**. *Функц. не зам. Забойства людзей, людскія расстрэлы, непазбежна патрабуюць адплаты, пакарання*. – І не агледзяцца гады, як Чырвоная Армія будзе тут... – Каб жа даў бог! Хай бы і яны, фашысты, спазналі, што такое вайна, разбурэнні, смерць блізкіх і бяздомніцтва... – Спазнаюць. Сама ты неяк казала – кроў людская не вадзіца. І слёзы людскія не раса. Давядзецца рана ці позна за ўсё расплачвацца (Б. Сачанка. Аксана). Злачынства кату хочацца пазбыцца. Яно ж пры ім – як неадводны цень. У час свой прыйдзе непазбежны дзень – напомняць: кроў чужая – не вадзіца (У. Паўлаў. Кажуць...).

– *Федароўскі*, с. 153: Кроў не вада, разліваці шкада; *Рапановіч*, с. 197: Кроў не вада, а сэрца не камень.

**Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе.** *Гл.* Груган группу вока не выдзеўбе.

**Круцельствам свет пройдзеш, а назад не вернешся.** *Гл.* Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш, а назад не вернешся.

**Круці не вярці, а трэба памерці.** *Гл.* Круці не круці (не вярці), а трэба памерці.

**Круці не круці (не вярці), а трэба памерці (памярці, умерці).** *Пра непазбежнасць і няўмольнасць смерці.* **Сін.:** *Ад смерці доктара няма; Ад смерці не адкупішся; Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць (у 1 знач.); Смерць не ручаінка – не пераскочыш; Смерць нікому ў зубы не глядзіць; Смерць у бутэльку не заткнеш.* Мне ўжо нядоўга, пара сабірацца ў цёмну магілку галоўку злажыць, з сырою зямелькай навек павянчацца і з вамі, дзетачкі, годзе ўжо жыць! А ўжо як дасць бог – так яно і будзе. Круці не круці, а памерці трэба (В. Дунін-Марцінкевіч. Вечарніцы). «Круці не круці, а трэ памерці!» Нейкі зачараваны круг... (З. Бядуля. Падмогі). І ўспамінаецца іншая восень... І замаруджваюц-

ца крокі... І думка – ці не ўпершыню ў жыцці – а засталося ж менш, чым прайшло! Круці не круці, а трэба памярці... (А. Федарэнка. Мяжа). Вялі хлопцы гаспадарку, трымаліся сваіх сем'яў. Ды як у пінскай прымаўцы сказана: «Круці не круці, а трэба ўмерці». Смерць раўняе ўсіх (У. Ліпскі. Я: Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод).

– *Насовіч,* с. 69: Круці не вярці, а прыйдзецца ўмерці; *Ляцкі,* с. 18: Колькі не вярці, а ўмерці трэба; *Прыказкі*, кн. 2, с. 412: Круці не круці, трэба ўмярці; Колькі ні вярці, а прыйдзецца ўмярці.

**Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся.** *Гл.* Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш, а назад не вернешся.

**Крывая дарога з простай смяецца.** *Па абходнай, крывой дарозе ісці або ехаць больш надзейна, чым напрасткі, напрамкі.* **Сін.:** *Напрасткі <адна> варона лятае, затое <ніколі> дома не бывае; Пойдзеш нацянькі – праходзіш тры дзянькі; Хто прамікуе, той дома не начуе*. Мясцовы жыхар так настойліва запэўнівае нас, што праз амшару прайсці немагчыма... Мы вырашылі ісці ў абход, суцяшаючы сябе тым, што «крывая дарога з простай смяецца» (Настаўн. газ. 2002, 25 чэрв.).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 276: Крывая дарога каля простай смяецца; *Рабкевіч,* с. 169: Крывая дарога з простай смяецца.

**Крывое кола на сябе гразь кідае.** *Упарты, капрызны чалавек сам сабе шкодзіць, сваімі ўчынкамі пляміць сам сябе.* [Казімір:] А я ўсё роўна раскажу ўсім, што галёшы айца Нікана ператварылі ў паштовую скрынку. [Стась – Казіміру, шматзначна:] Крывое кола на сябе гразь кідае... Май гэта на ўвазе... (В. Зуб. Юнацтва рыцара). Божа, божа, у якой мы апынуліся лужыне?! У якім брудзе! Праўду людзі кажуць: крывое кола на сябе гразь кідае. Здаецца, і радні багата – усе краіны СНД і краіны-ізгоі, а паабедаць няма з кім... (В. Гроднікаў. Непаднятая цаліна).

– *Ляцкі,* с. 18: Крывое калясо на сябе балота кідае; *Янкоўскі,* с. 192: Крывое кола на сябе гразь кідае; *Прыказкі*, кн. 1, с. 274: Крывое калясо на сябе гразь цягнець.

**Крывое (малое) дрэва ў сук расце.** *Пра мужчыну малога росту ці кульгавага, але вельмі здатнага на любошчы.* З таго вечара ці, можа, правільней, ночы зацялася Клаўдзя на Хомку, амаль не гаварыла. А калі слова якое і скажа, дык не проста так, а з падкусам: «А я верыла, што і праўда крывое дрэва ў сук расце», – скажа і засмяецца. Абыходзіў Хомка Клаўдзю, стараўся блізка не

быць ля яе (Б. Сачанка. Вялікі Лес). – Скора і зноў адзін застаўся – жонка пакінула. – За тое, што малы? – Не. Яшчэ хвалілася: малое дрэва ў сук расце. Так нешта (М. Воранаў. Яніна).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 128: Крывое дзерава ў сук расце.

**Крывое (-ога) дрэва не выпраміш (не выправіш).** *Чые-н. перакананні, недахопы, заганы, звычкі не выправіш. Кажуць з перакананнем, што хто-н. не зменіцца ў лепшы бок.* **Сін.:** *Гарбатага магіла выправіць; Як удасца жарабё з лысінкай, дык і здохне такім.* Казалі, што сваю актыўнасць зноў праявіў амбіцыйны аўстрыйскі князь Вільгельм – былы жаніх Ядвігі. Вось ужо сапраўды крывое дрэва не выпраміш. Пасля смерці каралевы ў яго ажылі надзеі здабыць польскі трон (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю). Праўду кажуць, што крывога дрэва не выправіш. Бо рэўнасць ваша не толькі ў сям'і праявілася. І не толькі цяпер. Усіх дужых і здатных раўнуеце. Хто не слабейшы за вас (Маладосць. 2003. № 8).

– *Федароўскі,* 2428: Крывое дзерава трудна выпрастаць; *Санько,* с. 14: Крывое дрэва не выпрастаеш.

**Ксёндз і доктар і ў лесе з голаду не памруць.** *Гл.* Поп (ксёндз) і доктар і ў лесе з голаду не памруць.

**Куды вароне ні лятаць, дзярмо кляваць**. *Праст. Гаворыцца з насмешкай пра няўдачніка, пра таго, каму аніяк не шанцуе.* Міша з Янкам ведалі, што найбольш грошай ішло на іх вучобу, таму і вырашылі вярнуцца назад, хоць прадчувалі, што вясковыя насмешнікі сустрэнуць іх прыказкай: «Куды вароне ні лятаць – дзярмо кляваць» (У. Калеснік. Янка Брыль).

– *Насовіч*, с. 36: Вароне куды ні ляцець, усюды гаўно кляваць; *Прыказкі*, кн. 1. с. 66 Куды вароне ні ляцець, а падаль кляваць.

**Куды вецер, туды і дым.** *Куды адзін, туды і другі. Пра людзей, цесна звязаных паміж сабой.* **Сін.:** *Куды іголка, туды і нітка.* – А дзе цябе халера носіць? – У Дварчанах быў. – Куды вецер, туды і дым. Ты ўсё да яе [Хрысці] (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 56: Куды вецер, туды і дым.

**Куды еду, туды еду, ды ўсё карчмы не міну.** *Пра п'янага і п'янства.* [Навум уваходзіць п'яны і сам да сябе кажа:] Добра кажа прыгаворка: куды еду, туды еду, ды ўсё карчмы не міну... Цяпер смела пайду да двара, штоб пана нашага прыняць (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 495: Туды едзе, сюды едзе – карчмы не мінае.

**Куды іголка (іголачка), туды і нітка (нітачка).** *Куды адзін, туды і другі. Пра людзей, цесна звязаных паміж сабой; часцей пра мужа і жонку.* **Сін.:** *Куды вецер, туды і дым.* Варыць жонка есці, даглядае дзяцей, парадак у хаце трымае – і даволі. А жонка ж – сябра, паплечнік... І недарэмна ж жонку завуць палавінаю. Куды іголка, туды і нітка... А ў нас... Кожны папоўз у сваю нару. Быццам і не адно цэлае было, не сям'я (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Хацела [Пелагея] запярэчыць: калі надумаў, то едзь адзін. Але не адважылася: як гэта ён адзін? Куды іголка, туды і нітка (М. Гроднеў. Нязведаная даль). Спакон жа веку так вялося: куды іголка, туды і нітка. Гэтыя словы, бы ў апраўданне, Вадзім чуў ад Веркі апошнія дні (А. Рыбак. Трэба было жыць). – Паглядзіш, Танечка, мы адразу станем на ногі: адзенемся, абуемся і сотню-другую будзем мецць пра запас, – падахвочваў ён [Іван] жонку. – Слухай толькі мяне... – Ды ўжо прыйдзецца слухаць, – згадзілася Тацццяна. – Куды іголачка, туды і нітачка, кажуць людзі... (А. Пальчэўскі. Чорны дзень).

* Выходзіць, што без Сяргея не абыдзешся. Вось дык звёў нас лёс, нібы нітку з іголкай! Куды адзін, туды і другі... (Р. Няхай. Туман над стэпам).

– *БРС,* т. 1, с. 542: Куды іголка, туды і нітка; *Янкоўскі,* с. 130: Куды іголка, туды і нітка.

**Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй (з клюшнямі).** *За старэйшым і больш вопытным, пераймаючы яго, цягнецца і маладзейшы, нявопытны. Часцей ужываецца як адмоўная ацэнка таго, хто пераймае чые-н. дзеянні, звычкі і пад.* Вядома ж, куды конь з капытом, туды і рак з клюшнямі. Нахватаўся, мабыць, смаркач розуму ў гэтых крытыкаў і давай вучыць пісьменніка... (І. Навуменка. Сельская ідылія). У пакоі Андрэя шалеў магнітафон, чулася нейкая валтузня. Яна [маці] пастукала, прычыніла дзверы. Андрэй і Ліда Нячай сядзелі на канапе чырвоныя, разгубленыя. Ліда нервова папраўляла на грудзях блузку. «Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй», – падумала яна, кіўком павіталася і зачыніла дзверы (М. Герчык. Вяртанне да сябе). Як кажуць, куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй. Не забываў пра свае асабістыя інтарэсы так званы партыйна-савецкі актыў і ў кожнай рэспубліцы, кожнай вобласці былога эсэсэра (М. Замскі. Камуністы-альтруісты).

– Як лічыць А.А. Патабня ў працы «З лекцый па тэорыі славеснасці», гэта агульная для ўсходнеславянскіх моў прыказка – варыянт байкі «Лягушка і Вол», у якой «расказваецца, што падкоўвалі каня, а рак падставіў сваю клюшню, каб і яго падкавалі».

– *Насовіч,* с. 70: Куды конь з капытом, туды і рак з кляшнёю; *БРС,* т. 1, с. 610: Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй.

**Куды ні кінь, усюды клін.** *Што ні рабі, што ні прыдумвай, усё дрэнна. Пра складанае, бязвыходнае становішча.* **Сін.:** *<І> адтуль горача, <і> адсюль боляча; Ты на гару, а чорт за нагу.* У Вас, як кажуць, куды ні кінь – усюды клін. Сельскагаспадарчы інвентар да веснавой сяўбы не адрамантавалі, хамутоў і пастромкаў не хапае, угнаенне на поле вывезлі не поўнасцю (А. Макаёнак. Старшыні калгаса «Спартак»). Цяжкай была ноч для прафесара і яго пацыентаў. Думалі, нібы валуны варочалі. Куды ні кінь, усюды клін (І. Новікаў. Ачышчэнне). – І так не тое, і так не тое, – гаварыла яна [маці]. – А дзе, дзе яно, тое? – пытаў, шчыра пытаў у маці Апанас. – Куды ні кінь, усюды клін? (Б. Сачанка. Вялікі Лес). – Лёгка раіць, – не пагаджаецца Мікалай, – вунь колькі тэхнікі трэба: і БМ-6, і КС-6Б, і авіяапрацоўка... Куды ні кінь – усюды клін (В. Шырко. Дыханне жыта). **Куды (дзе) ні кінь, дык клін.** Зямлю паны цэняць дорага. Не толькі чвэрткі – дзясятай долі не аплаціць за яе бедны мужык. Адным словам, куды ні кінь, дык клін (А. Якімовіч. Адкуль ліха на свеце). – Фашыстам было: куды ні кінь, дык клін, – скупа ўсміхнуўся Пахом. – Тут уцёк, затое там падарваўся (Х. Жычка. Апошняя старонка). А што за зямля? Адзін пясок... Плыты пагоніш – таксама не забагацееш, а толькі накараешся. Дзе ні кінь, дык клін? (С. Александровіч. На шырокі прастор).

– *Насовіч,* с. 70: Куды ні кінь, усё клін; *Ляцкі,* с. 62: Як ні кінь – усё клін; *Прыказкі*, кн. 1, с. 413, 455: Куды ні кінь, усё клін; Куды ні кінь, усюды клін.

**Куды ноч, туды і сон.** *Гаворыцца, калі каму-н. прысніцца нядобры сон, як пажаданне забыцца пра яго.* – Прыснілася нешта нядобрае... – То скажы: «Куды ноч, туды і сон». І тройчы плюнь цераз левае плячо (В. Кадзетава. Ля трох пуцявін). – Снілася мне, што паўзе з-за небакраю вялізная чорная хмара. Напаўзла, насунулася, закрыла сабою ўсё неба. А потым... Злавесны сон. Прарочы. – Людзі кажуць: куды ноч, туды і сон. Не думай пра яго (Г. Каржанеўская. Чарнабог). Каб спакойна заснуць, паўтару забабон: «Грукні тройчы ў сцяну – куды ноч, туды й сон» (М. Лужанін. Гадзіны бяссонныя). – Ноч – год, хоць і лета. Дзіва што напляцецца... – Ага... Куды ноч, туды й сон... Хай іх людзі не знаюць, гэтыя сны (П. Місько. Куды ноч, туды і сон).

– *Насовіч*, с. 70: Куды ноч, туды й сон.

**Куй жалеза, пакуль гарачае.** *Спяшайся рабіць што-н., пакуль не позна, пакуль ёсць спрыяльныя ўмовы; карыстайся момантам.* Пасля звароту з Масквы Канстанцін Міхайлавіч ізноў засеў за «Дрыгву». Куй жалеза, пакуль гарачае! Пішы, браток, калі з ахвотай і настроем пішацца! (С. Александровіч. Сейбіт песні і мудрасці). Дзейны, нястомны Мураўёў там жа, у Пецярбурзе, – «куй жалеза, пакуль гарачае», – склаў запіску цару, у якой выклаў свае меркаванні адносна будучыні Заходняга краю і кіравання ім (Б. Сачанка. Мураўёў-вешальнік). – Вы дарэмна спяшаецеся, трэба з толкам выбіраць, думаць. – А навошта чакаць? – шчыра здзівіўся Грышка. – Куй жалеза, пакуль гарачае (А. Дзятлаў. Падман). Калі што наклёўваецца, то трэба браць адразу. Як гаворыцца, куй жалеза, пакуль гарачае... (В. Гігевіч. Варыянт). **Куй жалеза, пакуль не астыла.** Рыкае скацінка, іграюць жалейкі, над цэлай мясцінкай стаіць гоман нейкі. Усё йграе й ззывае да працы – аж міла... Куй, браце, жалеза, пакуль не астыла! (Я. Купала. Вясенняя раніца).

* Разумеў і Кляпец, што трэба каваць жалеза, пакуль яно гарачае (І. Дуброўскі. На новыя кругі). Паедзе на Малы Месяц ён [Мельнік] сам. Калі ўжо каваць жалеза, дык гарачае! (М. Гамолка. Шосты акіян). [Лёня] і праўда тады панёс на станцыю сваю карціну – назаўтра ж. Марусі спадабалася тое, што ён сказаў, і трэба было каваць жалеза, пакуль яно не астыла... (П. Місько. Калянае лісце).

– Калька з лацінскай мовы: *Ferrum quando calet cudere quisque valet* (літаральна «Кожны ў сілах каваць жалеза, пакуль яно гарачае»).

– *Федароўскі,* с. 363: Куй жалеза, пакуль гарачае; Куй жалеза на гарача; *Прыказкі*, кн. 2, с. 449: Куй жалеза, пакуль куецца; Куй жалеза, пакуль не астыла.

**Куй жалеза, пакуль не астыла.** *Гл.* Куй жалеза, пакуль гарачае.

**Куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу.** *Гаворыцца як высокая ацэнка трапнага, дасціпнага выступлення.* Дзе ўжо гэтаму пустазвону Калатухіну цягацца з Мясніковым. У таго слова раўназначна кулі. Больш таго: куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу. Заслухаешся! (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 186: Куляй пацэліш у аднаго, у двух, а трапным словам – у тысячу.

**Кума куме, дый пайшло па ўсім сяле.** *Гл.* Кума (кум) куме, а кума па ўсім сяле.

**Кума (кум) куме, а кума па ўсім сяле.** *Сказанае каму-н. пад сакрэтам становіцца вядомым для ўсіх.* **Сін.:** *Кумка кумцы па сакрэту, а кумка – усяму свету; Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вулі-*

*цы.* – Глядзі ты! З Вольчыным жаніхом паспала, дык і ні да носа! – кінуў ёй наўздагон Віктар. Жураўская спынілася, нібы ёй у спіну стрэлілі. «Вось яно, сяло... Нехта падгледзеў, кума куме, а кума – па ўсім сяле», – узрушана падумала яна (М. Ваданосаў. Надзеі і здзяйсненні). Я, канечне, нічога дрэннага пра твайго дзеда не хачу сказаць. Але ж ведаеш прымаўку: кума куме, а кума па ўсім сяле (Я. Курто. Над ярам). Нехта некаму ці праўду казаў, ці так – на ўзвей вецер – брахнуў, што на барысаўскім тракце ёсць курганок і ў ім быццам француз, уцякаючы, бочку чырвонцаў закапаў. Ведама, зараз кум куме, а кума – па ўсім сяле. Гэтак дазналіся засцянкоўцы... (У. Галубок. Не паклаўшы, не возьмеш). **Кума куме, дый пайшло па ўсім сяле.** [Хмара:] Браткі, нехта накляпаў... [Звягіна:] Ну але: кума – куме, дый пайшло па ўсім сяле (І. Гурскі. Новы горад).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 394: Кума куме ды па ўсём сяле; Сказала кума куме – пайшло па ўсім сяле.

**Кумка кумцы па сакрэту, а кумка – усяму свету.** *Сказанае каму-н. пад сакрэтам становіцца вядомым для ўсіх.* **Сін.:** *Кума куме, а кума па ўсім сяле; Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы.* – Я ж толькі ёй... – Ага, толькі ёй! А яна Залатухінай, Залатухіна толькі Пятрухіну, а Пятрухін толькі Балбатухінай, а тая – чортавай бабулі... Адным словам, кумка кумцы па сакрэту, а кумка – усяму свету! (М. Чавускі. Толькі строга між намі).

* [Гаўрыленка:] Вы з Пётрам? Чаму ўдвух адразу [хочаце пагаварыць]? Жаніцца абодва надумалі? Не пярэчу. [Пётра:] Размова, так сказаць, канфідэнцыяльная. [Гаўрыленка:] Ого! Па сакрэту – усяму свету. Ну што ж, тады паехалі (Л. Леванові. Чабор).

– *Янкоўскі*, с. 309: Кумка кумцы па сакрэту, а кумка – усяму свету.

**Кум куме, а кума па ўсім сяле.** *Гл.* Кума (кум) куме, а кума па ўсім сяле.

**Купіў мыла – еш, хаця і не міла.** *Кажуць іранічна пра таго ці таму, хто аказаўся падманутым пры куплі-продажы або якой-н. іншай здзелцы.* [Пшэбыеўскі, якога лоўка падманулі, падмяніўшы нявесту:] Дык што мне цяпер рабіць?! [Несцерка:] Вяселле гуляць. Такая ўжо тут справа – глядзець трэба. На кірмашы і бык цельны. А купіў мыла – еш, хаця і не міла (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 463: Купіў мыла – еш, хоць няміла.

**Купіў не купіў (куплю не куплю, купіш не купіш, купім не купім), а патаргавацца (патаргаваць) можна (варта).** *Удасца*

*які-н. намер ці не ўдасца, а паспрабаваць можна.* – А калі б пабачыў, што мяне запыняюць і зробяць вобыск, дык сказаў бы: а я іду якраз у паліцыю – недазволеную літаратуру знайшоў. – Так бы яны табе і паверылі? – Ну, што ж? Купіў не купіў, а патаргаваць можна, – у тым жа вясёлым тоне адказаў Янка (Я. Колас. На ростанях). [Пушкарэвіч:] Ну, зматвай свае вудачкі і пайшлі ў сваты. Купім не купім, а патаргаваць можна (І. Гурскі. Свае людзі). Дык, хлопцы, давайце дапісваць прашэнне... Трэба канчаць гэтую работу... Купіш не купіш, а патаргаваць можна. Нельга сядзець склаўшы рукі (Л. Арабей. На струнах буры). – Ніхто з яўрэяў не адважваецца ісці на чыгунку. Вы думалі пра гэта, калі падаваліся на чыгунку, малады чалавек? – Думаў, але... – прашаптаў Іцка... – Ну, але так, мой любы малады чалавек, купіш не купіш, а патаргавацца варта! (Х. Шынклер. Ічэ).

– *Насовіч,* с. 71: Купіў не купіў, а патаргаваць вольна; *Прыказкі,* кн. 1, с. 469: Куплю не куплю, патаргаваць можна; Купіў не купіў, а патаргаваць можна.

**Купіць – як вош забіць, а прадаць – як скочку спаймаць.** *Прадаць што-н. на рынку значна цяжэй, чым купіць. (Скочка – абласны назоўнік са значэннем ‘блыха’.)* – Мудрэц мой дзядуля, у вёсцы жыве... Ён кажа: купіць – як вош забіць, а прадаць – як скочку спаймаць, – уздыхае Дэн [яму не ўдаецца прадаць на рынку] (П. Місько. Мушкецёр).

**Купляй кабылу гарбатую, а жонку бяры лупатую, дык ніхто не звядзе.** *Гаворыцца як іранічная парада пры выбары жонкі.* «А мой жа ты сакалок, плакаў ці што – вочкі ў цябе чырвоныя, – быццам шкадуючы, прыязна азвалася падгавораная Наталкай старая Агапка, – чаго ж ты, сакалок? Жоначку ж ты ўзяў багатую. Цешыцца павінен. Ды яшчэ і тое скажу, што спакой ты будзеш мець. Не дарма кажа прыказка: «Купляй кабылу гарбатую, а жонку бяры лупатую, дык ніхто не звядзець» (Л. Грымак. Васілёва вяселле).

**Куранят увосень (восенню) лічаць.** *Меркаваць пра што-н. трэба па канчатковых выніках. Гаворыцца, калі хто-н. заўчасна радуецца ад мажлівага поспеху ў якой-н. справе.* – А ўсё ж ваша возьме, – сцвярджаў стары рабочы, пуцілавец. – Куранят лічаць увосень, – не здаваўся чыгуначнік (І. Гурскі. Вецер веку). Эх, Максім Антонавіч, куранят лічаць увосень. Хто ведае, ці яно падсушыць, ці яно падмочыць (І. Шамякін. У добры час). Тады, выходзячы з выканкама, Даміра раззлавана сказаў Старыковічу: – Куранят увосень лічаць. Паглядзім, у каго болей сена будзе, альбо ў мяне, альбо ў хвалёнага вамі ракіцянскага старшыні (А. Асіпен-

ка. Паплавы). – Можа, хто хоча паправіць Аляксандра ці дапоўніць? – спытаў Кірыленка. – Куранят восенню лічаць, – толькі і сказаў Стукаў (В. Шырко. Дыханне жыта).

* Пажадаю табе не ўступаць у канфлікты на новым месцы са станавым прыставам. А што да праўды, дык наперад выведзем куранят, а палічым іх увосень (Я. Колас. На ростанях).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 195: Увосень курчат лічаць; Куранят увосень лічаць; *БРС,* т. 1, с. 626: Куранят увосені лічаць.

**Курачка (курыца) па зярнятку клюе (збірае).** *Гаворыцца, калі хто-н. задавольваецца малымі патрэбамі, паступова назапашвае што-н.* Мы адмаўляем тваю тэорыю – «курыца па зярнятку клюе». Не для нас яна. Мы не бабулькі стогадовыя. Тым больш – фінансы пяюць рамансы (П. Місько. Мушкецёр).

– *Насовіч*, с. 71: Курачка па зёранку сабіраіць і сыта бываіць; *Янкоўскі*, с. 86: Курачка па зярнятку збірае і сыта бывае.

**Курыца не птушка, а баба не чалавек.** *Устар. Гаворыцца як адмоўная ацэнка жанчыны, яе кемлівасці, здатнасці і пад.* Нешта яшчэ гаварылі, спрачаліся, і Хіма нічога не разумела. А Нупрэй пахлопаў па плячы. – Вось і пакажаш сваю вучонасць, хе-хе-хе... – Курыца не птушка, а баба – не чалавек... (В. Каваль. За доляю).

* У Галапузаўцы... не было такога чалавека і такой жанчыны (у нас таксама кажуць, што баба – не чалавек), якія б не ведалі Ванькі Кудлатага (Я. Колас. Ванька Кудлаты). У афіцэрскім асяроддзі прапаршчык Канстанцін Міцкевіч па-ранейшаму адчуваў сябе чужаком, мужыцкім сынам. Нездарма кажуць: «Курыца не птушка, прапаршчык – не афіцэр». (С. Александровіч. На шырокі прастор).

**Курыца па зярнятку клюе (збірае).** *Гл.* Курачка (курыца) па зярнятку клюе (збірае).

**Куфэрак (куфэрачак) адчыняецца (адчыняўся) проста**. *Пытанне хоць і здаецца цяжкаватым, але рашаецца лёгка, не патрабуе асаблівага роздуму*. Не кожнаму чытачу знаёмы гэты музычны тэрмін [арыёза]. Пра арыю чулі нават тыя, каму мядзведзь на вуха наступіў, а тут – арыёза. А куфэрак, між іншым, адчыняецца проста: гэта напеўны характар выканання (В. Шырко. Вялікаму караблю – вялікае плаванне).Здалі экзамены аднолькава: сяброўка паступіла, а я не. Куфэрачак адчыняўся проста. Яе дзявочае прозвішча пачыналася з першай літары алфавіта. Зрэшты, менавіта так расшыфравалі маю няўдачу самі выкладчыкі (Беларуская думка. 2006. № 11).

– Паўкалька з рускай мовы: *А ларчик просто открывался*. Паходзіць з байкі І.А. Крылова «Ларчик».

# Л

**Лапаць боту не пара.** *Гл.* Бот лапцю не пара.

**Лапці ваду не прапускаюць.** *Кажуць жартаўліва таму, хто занадта асцярожна трымае ў руках пасудзіну, звычайна чарку, напоўненую вадкасцю.* Бацька.. прасачыў, як асцярожна і абачліва бярэ сваю [чарку-берасцянку] Герман, супакоіў: – Не бойся. Не пральецца. Недарэмна кажуць: лапці ваду не прапускаюць... Ну, будзем здаровы, сын (В. Казько. Бунт незапатрабаванага праху).

**Ласкавае слова што дзень ясны (веснавы).** *Пра добрае ўражанне ад пачутага ласкавага слова.* – На зіму пад яблыні гной трэба класці. Тады не памерзнуць, – ласкава раілі вяскоўцы. А ласкавае слова – што дзень ясны (В. Праскураў. Сады цвітуць). Ніна была надта здзіўлена такой чуласцю трохі разкаватай і заўсёды катэгарычнай калегі, а на душы зрабілася добра-добра. – Тваё ласкавае слова што вясновы дзень. Дзякуй, Ірачка, – шчыра прамовіла (В. Рудава. Крылы).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 9: Ласкавае слова што веснавы дзень.

**Ласка – не каляска, сеўшы не паедзеш.** *Гаворыцца як іранічная рэакцыя на слова «ласка» ці выраз «калі ласка» ў выказванні суразмоўніка.* – Няхай першы выступіць той, хто рэплікамі кідаецца, – здагадаўся нехта. І старшыня аж узрадаваўся: – Калі ласка! – Ласка – не каляска, сеўшы не паедзеш, – загадкава ўсміхнуўся чалавек, падымаючыся на трыбуну (М. Чавускі. Слова ў спрэчках).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 9: Ласка – не каляска, сядзеш не паедзеш.

**Ласка панская на рабым (дохлым) кані едзе.** *Устар. Панскія абяцанні, спагада, лагоднасць ненадзейныя, не выклікаюць даверу.* Кацярына крыкнула першая: «Дручок любіць панскі бачок». Напалоханы пан стаў прасіць: «Усё аддам, толькі пусціце жывога». Жанчыны адступілі. «Не верце гэтаму жываглоту! – выгукнула Кацярына. – Ласка панская на рабым кані едзе!» (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Ляцкі,* с. *33:* Панская ласка на быстрым кані едзе; *Янкоўскі,* с. 37: Панская ласка на дохлым кані едзе.

**Ласы на чужыя прыпасы (каўбасы).** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, хто прагны, сквапны да чужога.* [Пытляваны:] Мусіць, маму шкадуеце пакідаць? Дык мы і маму забяром. [Тумілові:] Сват ласы на чужыя прыпасы. Мала таго, што агратэхніка ў мяне забірае, дык яшчэ хоча і лепшую цялятніцу забраць (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). – Ну, калі няма [мёду], то няма... – вінава-

та прамовіў Грыбок і падаўся на дарогу за гумнамі. «Ласы на чужыя каўбасы! Мёду захацеў! – падумаў непрыхільна Васіль. – Аге ж, чакай!.. Надаешся вам усім!..» (І. Мележ. Людзі на балоце). У першы ж дзень [Мікола], калі прыехаў, заўважыў: брат, Цімафей, так і косіцца на яго, так і хоча сказаць: «Валачыўся па белым свеце, а цяпер са сваім вывадкам на ўсё гатовенькае... Усе ласы на чужыя каўбасы...» (І. Капыловіч. Браты). – Так і скажам: народ не хоча Сурмілу... – Бач ты: знайшоўся ласы на чужыя каўбасы... (В. Блакіт. Шануй імя сваё). – Ого, – здзівіўся ён [Ігнат], – які капітал! – А ты не будзь ласы на чужыя каўбасы. Мае. Гарбом зарабіла (Г. Марчук. Крык на хутары).

– *Насовіч,* с. 169: Усе ласы на чужыя прыпасы; Ласы на чужыя прыпасы, а сваіх няма ў запасе; *Прыказкі,* кн. 2, с. 438: Ласы на чужыя каўбасы.

**Латва знойдзе, хто шукае.** *Кажуць з упэўненасцю пра лёгкія і станоўчыя вынікі пошукаў каго- ці чаго-н.* **Сін.:** *Хто шукае, той знаходзіць.* [Ян:] Я шукаў паненкі ўсюды, а знайшоў вось тут, як цуда. [Юлія:] Ці ж знаходзіць рэч цяжкая? Латва знойдзе, хто шукае (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Янкоўскі*, с. 259: Латва знойдзе, хто шукае. Прыслоўе *латва* ў ТСБМ не падаецца, а ў «Слоўніку беларускай мовы» І. І. Насовіча тлумачыцца як ‘лёгка, без цяжкасцей’. На аснове *латва* ўтворана прыслоўе *лацвей* са значэннем ‘лепей, зручней, ямчэй’. У «Слоўніку беларускай мовы» (1987, с. 358): **латва**, *прысл.*

**Лепей <адзін> раз убачыць, чым сто разоў пачуць.** *Гл.* Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць, чым сто разоў пачуць.

**Лепей вучоны, як залачоны**. *Пра перавагу адукаванасці, вучонасці ў чалавека над багаццем.* «Лепей вучоны, як залачоны?» Праўдзівасць гэтай народнай прымаўкі можна апошнім часам аспрэчыць. Усё часцей выбар робіцца не на карысць першага. Эканамічная сітуацыя ў краіне балюча закранула галіну адукацыі і навукі. Нізкі ўзровень заработнай платы работнікаў негатыўна адбіваецца на настроі педагогаў (Настаўн. газ. 2000, 28 кастр.).

–*Ляцкі*, с.58: Часам вучоны будзе лепей, як злацоны.

**Лепей горкая праўда, чым салодкая мана.** *Гл.* Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана.

**Лепей дрэнна ехаць, чым добра ісці.** *Гл.* Лепш (лепей) дрэнна ехаць, чым добра ісці.

**Лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.** *Гл.* Лепш (лепей) з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.

**Лепей кепскі родны бацька, чым добры айчым.** Яе [Вікторыю] сапраўды турбавала – ці мае яна права пазбавіць Славіка радзімы, назаўсёды адлучыць ад роднага бацькі... Ад некага яна чула – лепей кепскі родны бацька, чым добры айчым... Дык ці мае яна права рашаць такое пытанне за дзіця? (Л. Арабей. Перавал).

**Лепей нічога, чым благога.** *Гаворыцца як рэакцыя на слова «нічога» ў адказе суразмоўніка на пытанні тыпу «Што чуваць?», «Як маешся?», «Як жывеш?»* – Ну, што ў цябе чуваць? – запытаўся Васіль не па праграме. – Нічога, – даволі суха азвалася Аўгіня. – Лепей нічога, чым благога, – дзелавіта заўважыў Васіль (Я. Колас. Дрыгва).

**Лепей позна, чым ніколі.** *Гл.* Лепш (лепей) позна, чым (як) ніколі.

**Лепей смерць на полі, чым (як) жыць (жыццё) у няволі.** *Функц. не зам.* [Цымерфельд:] Доктар – партызан. Дзіўна. [Доктар:] Нічога дзіўнага. Лепей смерць на полі, чым жыць у няволі (І. Гурскі. Доктар).

– *Рапановіч*, с. 308: Лепей смерць на полі, як жыццё ў няволі.

**Лепш біць свае вошы, чым (чымся) лічыць чужыя грошы.** *Гаворыцца, калі чалавека, які мае справу з чужой, дзяржаўнай маёмасцю, грашамі, напаткала непрыемнасць (растрата, пакража, напад і пад.).* Нашто табе гэты камітэт, нашто табе вазекацца з чужымі грашамі! Праўду людзі кажуць – не падзівіце: лепш біць свае вошы, чымся лічыць чужыя грошы!.. Во ён павёз здаваць грамадзянскія грошы, а нейкія зладзеі падсцераглі, грошы забралі, а самога крыху зусім не забілі (А. Мрый. Працоўны дзень савецкага лекара).

* Трудзяга твой бацька. Рабіў сумленна. Казаў: «Лепей лічыць свае вошы, чым чужыя грошы». Совесны быў (У. Ліпскі. Бацька).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 442: Лепей біць свае вошы, чым лічыць чужыя грошы.

**Лепш даваць, чым прымаць**. *Часцей кажуць як прабачэнне, калі звяртаюцца да каго-н. за дапамогай ці просьбай.* – Не з лёгкім сэрцам даводзіцца звяртацца па дапамогу, – кажа Георгій Сапун. – Слова Божае гаворыць, што лепш даваць, чым прымаць. Але святая справа вымушае нас прасіць і з вялікай удзячнасцю прымаць любую лепту як ад асобных грамадзян, так і ад прадпрыемстваў і арганізацый (Звязда. 2005. 4 мая).

– Паходзіць з Бібліі (Дзеянні, 20, 35); паўкалька з царкоўнаславянскай мовы: Блаженнее давать, нежели принимать; *Феда-*

*роўскі*, с. 74: Лепш даваць, ніж прасіць; *Ліцвінка*, с.111: Лепш самому даць, чым у каго-небудзь прасіць (пазычыць).

**Лепш едучы змерзнуць, чым ідучы спацець. Сін.:** *Лепш дрэнна ехаць, чым добра ісці.* Людзі кажуць: лепш едучы змерзнуць, чым ідучы спацець. І ўсё ж да вайны, калі аўтобусы былі не ў модзе, чурылаўцы не зважалі на гэтую разумную прымаўку. Яны дапіналі на сваіх дваіх ажно да Мінска (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў).

**Лепш кепскія скокі, чым добрыя хаўтуры.** *Гаворыцца, звычайна жартаўліва, калі мусяць пагадзіцца з адсутнасцю чаго-н.* [Цётка Рахіля:] Чаму вы не злавілі замест гэтай акулы некалькі карпаў, Арсен? Я сама ведаю, што ў нашай рэчцы яны не водзяцца, але ж... Ну, добра, добра, не будзем пераборлівыя. Як кажуць, лепш кепскія скокі, чым добрыя хаўтуры. А мы ўсё-такі маем рыбу, ды яшчэ якую цудоўную (М. Герчык. Вяртанне да сябе).

**Лепш крыху (крышку) зрабіць, чым багата нагаварыць**. *Пра перавагу пэўнага дзеяння над гаварэннем.* Лепей хоць крыху варушыцца, а не толькі крочыць энергічна, чым аддавацца не дзень і не тыдзень успамінам. Як і лепей крыху зрабіць, чым багата нагаварыць (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог). – Дзіма, праўда, абараняешся? – падбегла да яго Ніна. – Чаму ж ты дасюль маўчаў? – А ён забабонаў баяўся, каб не сурочылі, – пакпіў Пятро. – Лепш крышку зрабіць, чым багата нагаварыць, – у тон яму адказаў Дзіма (Р. Рудава. Крылы).

– *Янкоўскі*, с. 86: Лепей трошку (крышку) зрабіць, чым багата нагаварыць.

**Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць. Сін.:** *Не вер чужому слову, а вер свайму воку.* Народная мудрасць кажа: «Лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць». Не быў бы дзіцячы дом жыццёвай калыскай паэтэсы [Вольгі Іпатавай], не нарадзіліся б і многія яе шчырыя радкі (А. Бачыла. Чыстыя расінкі пачуцця). – А ведаеш, – пытаецца Яўген, – Ісакій нічуць не большы, чым у маім Жыраве Успенскі сабор. – Можа быць, – згаджаецца Купала, – не быў, не бачыў. – Я ж табе кажу. – Лепш раз убачыць, чым сто – пачуць... (А. Лойка. Як агонь, як вада). Удакладняць, уласна кажучы, не было чаго: усё бачылі сваімі вачамі. Справядлівая народная мудрасць: лепей раз пабачыць, чым сто разоў пачуць (В. Праскураў. Далёка ад дому). Чытаў я пра вопыт Ванькowіча... Пасля задумвацца пачаў: можна лгаць, але каб вось так, не падсяваючы... Лепш раз убачыць, чым сто разоў

пачуць (В. Шырко. Павышэння не будзе). – Што расказваць, – засмяяўся Адам. – Як кажуць, лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Прыязджайце, самі на свае вочы ўбачыце... (Б. Сачанка. Хай ведаюць людзі).

– *Ліцвінка,* с. 111: Лепш адзін раз убачыць, чым дзесяць разоў пачуць.

**Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана (хлусня, падман).** *Функц. не зам.* Пятро сядзеў нерухома і пазіраў на яе [Ірыну]. Хіба вінаваты ён, што стаў на яе шляху? Ён жа не хацеў гэтага. Ён хацеў аднаго, каб яна была шчаслівая. Але як гэта зрабіць? Не маной жа. Лепш горкая праўда, чым салодкая мана (І. Новікаў. Тварам да небяспекі). Радавалі Стадуба адкрытасць, шчырасць, зацікаўлены дыялог на самой нарадзе, у гасцініцы з даўнімі сябрамі, на кватэры ў сына Алёшы. Усе нібыта гаварылі праўду. Разумелі: далей жыць так, як жылі раней, нельга! Патрэбны змены! Прызнавалі, што лепш горкая праўда, чым салодкая хлусня (В. Мыслівец. Выгнанне грэшнікаў). Наша сіла ў праўдзе, галоснасці, развіцці і ўмацаванні дэмакратычных інстытутаў. Усе павінны ведаць усё. Лепш горкая праўда, чым салодкі падман (М. Зяньковіч. Вяртанне гонару).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 435: Лепей горкая праўда, чым салодкая мана.

**Лепш (лепей) дрэнна ехаць, чым добра ісці. Сін.:** *Лепш едучы змерзнуць, чым ідучы спацець.* Ехаць на кані хоць і было мулка ды парка, асабліва сыспаду, аднак праўду кажуць дасціпныя людзі, што лепей дрэнна ехаць, чым добра ісці (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі). Неяк перад самым адыходам у армію ён [Колька] ехаў во па гэтай жа дарозе, толькі назад, у вёску. І дагнаў яе, Ганулю. Дагнаў і спыніўся, запрасіў, каб садзілася, сказаў, што лепш дрэнна ехаць, чым добра ісці (І. Капыловіч. Мацвееў стажок). Гадзіны дзве той язды, а душу вытрасе. Цесна. Тлумна. Пах поту, перагару. Адчыніш фортку – крыкі, лаянка. Вядома, усім не дагодзіш. Адно суцяшэнне: лепш дрэнна ехаць, чым добра ісці (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 283: Лепей пагана ехаць, чым добра ісці.

**Лепш (лепей) з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.** *Звычайна гаворыцца з неадабрэннем пра таго, з кім лепш не звязвацца, бо немагчыма прыйсці да згоды.* [Ціўчык:] Дык як, Бэндзік, адкрыў Амерыку? Вынайшаў пугу? [Бэндзік:] Леў Львовіч, я ад усёй душы... [Ціўчык:] Праўду кажуць: лепш з разумным згубіць,

чым з дурнем знайсці. З тваёй жа пугай, Бэндзік, мы аскандаліліся на ўсю вобласць (А. Рылько. Кот у мяшку). – Ці чуў ты Дэньку Банадысёвага, з Драздоў? – А як жа!.. Лепей з разумным згубіць, чымся з дурнем знайсці (І. Гурскі. Лясныя салдаты). Доля кінуў акурак на мокрую сцежку і як не сваімі нагамі паклыпаў у хату. «Лепш з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці», – прыйшла яму на памяць народная прымаўка. Чаму яна не прыйшла яму ўчора? (У. Дамашэвіч. Доля-пустацвет).

* Нездарма ў Верамейках кажуць – лепей з Меляшонкам згубіць што, чым з Раманам знайсці дзе тое самае (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

– *Насовіч, с.* 75: Лепей з добрым згубіць, чым з дурным знайсці; *Прыказкі*, кн. 2, с. 249: Лепш з разумным згубіць, як з дурным знайсці.

**Лепш (лепей) позна, чым (як) ніколі.** *Функц. не зам. Ужываецца як рэакцыя на якія-н. дзеянні, што адбыліся са спазненнем.* – Назначылі мяне з першага кастрычніка. Ну, покі прыйшло назначэнне – а жыву я ў Смаленшчыне – ды покі заехала сюды, ды ў Пінску трохі ў знаёмых пабыла, вось і апазнілася. – Ну, што ж? Лепей позна, чым ніколі (Я. Колас. На ростанях). [Лютынскі:] Трэ было раней гэта зрабіць, але... лепш позна, чым ніколі. Думаю, што такіх памылак у мяне больш не будзе (К. Крапіва. Канец дружбы). Зайшоў Былінскі. Паглядзеўшы на ручны гадзіннік, здзівіўся і папрасіў у гаспадароў прабачэння за спазненне. – Лепш позна, чым ніколі, – усміхнуўся Граноўскі (І. Гурскі. У агні). Лепей, як той казаў, позна, чым ніколі. Адумалася – і добра. Я не сумняваўся наконт цябе, Крайнова (Т. Бондар. Марыя). Выбачай, што я замарудзіў крыху з адказам на тваё пісьмо. Але лепей позна, як ніколі (Я. Купала. Да Я.Ф. Калітоўскага).

– Калька з французскай мовы: *Micux vaut tard que jamais.* Мяркуюць, што ў французскую мову выказ трапіў з латыні (*Potius sero guam nunguam*) – як выраз з «Гісторыі» рымскага пісьменніка Ціта Лівія (59 да н. э. – 17 н. э.).

– *Федароўскі,* с. 242: Лепш потым, ніж ніколі; *Прыказкі,* кн. 2, с. 472: Лепей позна, чым ніколі.

**Лепш мець вераб'я ў руцэ, чым арла на суку.** *Лепш мець хоць што-н. пэўнае менавіта цяпер, чым спадзявацца на большае і лепшае ў аддаленай будучыні.* **Сін.:** *Лепш сініца ў руцэ, чым жураўель у небе.* Дарэмна я ёй [Касі] сказаў пра Галю. Дурань, сам адбіў у яе цікавасць да сваёй асобы. А дзяўчаты ж разважаюць

так, як у прымаўцы: «Лепш мець вераб’я ў руцэ, чым арла на суку». Навошта ёй я, калі ў мяне ёсць залётка (Л. Прокша. Урок любві і нянавісці).

– *Ліцвінка*, с. 111: Лепш у руцэ верабей, чым сініца ў небе; чым голуб на даху.

**Лепш пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.** *Лепш пражыць у нястачы, але з прыгожым мужам.* [Яніна:] Лепш, як кажуць, пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець. [Лабыш:] Хараство з гадамі ў кожнага праходзіць, а багацце не кожнаму харошаму даецца. Падумай, я ж ліха табе не жадаю (І. Козел. Папараць-кветка).

– *Федароўскі,* с. 50: Хоць пад лаўкай сядзець, абы на красівага глядзець; *Прыказкі,* кн. 2, с. 8: Хоць пад лаўкай сядзець, абы на прыгожага глядзець; Хоць пад лаўкаю пасяджу, а на прыгожага пагляджу.

**Лепш сем разоў згарэць, як адзін раз аўдавець.** *Пра гаротную долю стаць, быць удавой.* – А я, дзякуй богу, яшчэ добра чуюся... Шчасця вот толькі, малавата... Лепей сем разоў згарэць, як адзін раз аўдавець... Ды ў маладым веку... – усхліпнула, шморгнула носам [Каця], але ўтрымалася, хутка выцерла падалом вочы... (Г. Далідовіч. Міхаіл Апанасавіч і Каця).

– *Ліцвінка,* с. 111: Лепей сем разоў згарэць, як адзін раз аўдавець.

**Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.** *Лепш мець што-н. пэўнае менавіта цяпер, чым спадзявацца на большае і лепшае ў аддаленай будучыні.* **Сін.:** *Лепш мець вераб’я ў руцэ, чым арла на суку.* Раз хлопец так улягае, то, відаць, сэрца ў яго не на месцы. А людзі кажуць, лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе. Ну, чым Лёня горшы за твайго Антона? (А. Пальчэўскі. Жнівеньская раніца). Федзя нейкую хвіліну ўзіраўся Івану ў твар, потым яхідненька захіхікаў: – Ці ты ідзеш па прынцыпу: лепш сініца ў руцэ, чым жораў у небе? А? Са стопрацэнтнай гарантыяй? Тады хвалю... (А. Кудравец. Раданіца). Не глядзім яшчэ часам далёка наперад: «Лепш сініца ў жмені, чым жораў у небе», – разважаюць яшчэ многія. Зразумела? (А. Бялевіч. У калгасе «Рассвет камуны»).

* Мне хоць трошкі раўнавагі трэба, бо характар у мяне такі: жураўля я не спаймаў у небе, а сініцу выпусціў з рукі (С. Блатун. Мне хоць трошкі раўнавагі трэба...). Сініца – у руцэ, а недзе ў небе жораў. Ці выйдзе поўны збор паэтавых паўтораў? (Р. Барадулін. Чакаючы). Бачаннем не зловіш жураўля. Дый лавіць яго ці ёсць

патрэба. Без сініцы смуціцца зямля, без жураўкі сірацее неба (Р. Барадулін. Бачаннем не зловіш жураўля).

– *Федароўскі,* с. 277: Лепшая сініца ў руках, як журавель пад небясамі.

**Лепш старожа, як варожа.** *Звычайна гаворыцца як парада лепей дзейнічаць асцярожна, чым рызыкаваць, гадаць, варажыць, як можа здарыцца, павярнуцца што-н.* [Альжбета:] Вы бы, дзеткі, занеслі пасудак на тую палавіну. [Паўлінка:] Усё роўна; я пасля занясу сама, а цяпер... *(Пaглядаючы хітравата на Адольфа)* я баюся з панам Адольфам ісці адна на тую палавіну!.. [Пранцісь – да Паўлінкі:] А праўда, собственно, лепш старожа, як варожа, пане дабрудзею. [Агата:] А ты «старожа», не мялі попусту, а думай, як дахаты ісці (Я. Купала. Паўлінка). – Прымкнуў? – А бадай цябе!.. Я й забыўся зусім [прымкнуць кабылу спецыяльным путам]... Ат, ды хто там на яе дужа папаталіцца! Нічыпар і то сваю заўсёды вяроўчатым путам путае... – Гэта то так... але ўсё ж старожа лепш, як варожа (М. Зарэцкі. Як гэта часам трапляецца).

– *Прыказкі*, кн., 2, с. 299, 482: Старожа лепей варожы; Лепей астарожна, чым варожна. Прыказка падаецца і ў «Слоўніку беларускай мовы» І. І. Насовіча (1870, с. 66, 616): *Старожа лепей варожы*, дзе слова *старожа* тлумачыцца як ‘асцярожнасць’, а *варожа* як ‘варажба, гаданне’. Прыводзіць двойчы прыказку *Лепей (лепі) старожа, як варожа* і А. Аксамітаў (с. 58, 176), але з недакладным, няправільным тлумачэннем яе сэнсу: «Прымаўляе дбайны селянін, лічачы, што лепей страціць час на вартаванне сваёй гаспадаркі, чым быць абрабаваным» і «Лепей вартаваць, чым думаць, што не ўкрадуць».

**Лепшы спосаб абароны – нападзенне.** *Функц. не зам.* [Дзед Цыбулька:] Вот як шарахну між вачэй – тут табе і будзе няўстойка твая! [Скаромны:] Што-о? Пагражаць? Я да пракурора пайду! Я... [Паляныця:] Ну, дывысь! Він шчэ й крычыць! [Юрка:] Лепшы спосаб абароны – нападзенне (А. Макаёнак. Таблетку пад язык). **Самая лепшая абарона – нападзенне.** [Стась:] Самая лепшая абарона – нападзенне. Прапаную выкарыстаць гэты канфлікт і прад’явіць ім [кіраўнікам] нашы патрабаванні (В. Зуб. Юнацтва рыцара). – Значыцца, ты і мне вайну аб’яўляеш? – Аб’яўляю. Інакш вы мяне праглынеце. – Малайцом. Лепшая абарона – нападзенне (А. Петрашкевіч. Соль). Рагвалод не на жарт спалохаўся. Бяды не мінуць. Але спакойна сядзець склаўшы рукі не выпадала. Лепшая абарона – нападзенне! Затрубілі паходныя ражкі, і пачаў князь

збіраць сваё войска, каб у паход ісці (А.А. Марціновіч. Ой ты, княжна, ды свабодная...). **Лепшая абарона – наступленне**. Тут Залоза перайшоў да сваёй улюбёнай тактыкі: лепшая абарона – наступленне (І. Шамякін. Губернатар).

* Ці гэта запал дыскусіі круціць, хмяліць ім галовы, дыктуе свае законы? Законы ж гэтыя лёгка скеміць: першы закон абароны – нападзенне, цябе не ашчаджаюць, ты не ашчаджай; першым нападзеш, больш шансаў на перамогу... (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Ліцвінка,* с. 135: Найлепшая абарона – наступленне.

**Лес крадзе – поле бачыць.** *Пра непазбежнасць раскрыцця таго, што было чыёй-н. тайнай.* **Сін.:** *Злодзей крадзе, а лес бачыць; Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць; Няма нічога тайнага, каб не стала яўным.* Гэта ж ён [Мацюшоў], Сямёнаў і Грышкевіч атрымалі прэмію.., напіліся і паехалі... Ну і збілі на дарозе ля мастка дзяўчыну з Беліцы. Яшчэ каб яны адразу спыніліся ды адвезлі яе ў бальніцу, можа, не было б такога гора. А то дзяўчына, кажуць, калекай застанецца. Яны ж, нягоднікі, збілі і ўцяклі. Думалі, сведкаў не будзе. Але, як кажуць, лес крадзе, а поле бачыць. Забралі іх (В. Кадзетава. Вяртанне). **У лесе крадзеш – поле ўбачыць, на полі крадзеш – лес убачыць. –** Папытаюся я вас: адкуль жа ў вёсцы ведаюць пра тую сустрэчу з Паўлючыкам? Нікога, здаецца, і блізка не было... – Скуль, пытаецеся? Во, чалавеча! У лесе крадзеш – поле ўбачыць, на полі крадзеш – лес убачыць. А то як? Кася, калі не забыліся, якраз у гародзе калупалася... (Ф. Янкоўскі. Людзям трэба людзьмі жыць).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 366: Лес крадзе – поле бачыць; Лес крадзе – поле бачыць, поле крадзе – лес бачыць; У лесе крадзеш – поле ўбачыць, на полі крадзеш – лес убачыць.

**Лес сякуць – трэскі ляцяць.** *Функц. не зам. У вялікай справе не бывае без памылак, недахопаў, ахвяр. Гаворыцца як апраўданне памылак, недахопаў, ахвяр, якія не закранаюць асноўнага, сутнасці справы.* **Сін.:** *Дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць.* – Сёння знішчым рыбу, а калі яе развядзеш? – Не турбуйся, – супакоіў старога Рудак, – я ведаю спосаб, як і развесці. А сягоння нічога не зробіш: лес сякуць – трэскі ляцяць (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). За вымушаныя ўцёкі з мястэчка, страчаны набытак Макар ні на кога не крыўдаваў, наадварот, паблажліва ўсміхаўся: – Лес сякуць, трэскі ляцяць. Перагібы, канешне. У новым дзеле бываюць перагібы (І. Навуменка. Апошняя восень). – А навошта ў вёсцы спыніўся? Ты ж лядаўцаў пад удар падстаўляеш. Ці табе

ўсё роўна?.. – Лес сякуць – трэскі ляцяць (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). [Касценя:] Будуем то шмат. Ды вось кепска, што не заўсёды з розумам... [Садовіч:] Ёсць, ёсць! Але лес сякуць – трэскі ляцяць (П. Васілеўскі. Твой заўтрашні дзень).

* [Маша:] Няўжо яны могуць так лёгка растаптаць лёс чалавека? [Траян:] Могуць. У іх правіла: калі лес сякуць – на трэскі не зважаць. [Маша:] Але ж ты не трэска! Ты – чалавек! (М. Матукоўскі. Бездань).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 479: Лес сякуць – трэскі ляцяць.

**Лесу без падлеску не бывае**. *Функц. не зам. Старэйшае пакаленне павінна клапаціцца пра моладзь як сваю змену.* У 1973 годзе нашы вядомыя празаікі старэйшага пакалення Янка Брыль, Вячаслаў Адамчык і маладзейшы Анатоль Кудравец далі Алесю Жуку свае рэкамендацыі для ўступлення ў творчую суполку. І вось ужо трыццаць тры гады адпрацоўвае ён высокія творчыя гарантыі-спадзяванні людзей, якія паверылі ў здольнасці дваццаціпяцігадовага хлопца, упэўніліся ў перспектыўнасці яго таленту. І не памыліліся. Разумелі, відаць, прадбачлівыя людзі, што лесу без падлеску не бывае (А. Бутэвіч. Каб быў чалавекам чалавек).

**Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць.** *Пра непазбежнасць раскрыцця таго, што было чыёй-н. тайнай.* **Сін.:** *Злодзей крадзе, а лес бачыць; Лес крадзе – поле бачыць; Няма нічога тайнага, каб не стала яўным.* Сцяпан выпусціў стрэльбу, абедзвюма рукамі схапіўся за шыю і пахіліўся ніцма, на Чортавы Жорны, абліваючы халодны камень крывёю... Але так зроблена на гэтым свеце, што лес усё чуе, а поле ўсё бачыць. І таму быў трэці чалавек, які бачыў і агеньчыкі двух сустрэчных стрэлаў, чуў, як уцякае падбітая машына, ведаў, што там зрабілася (А. Жук. Паляванне на Апошняга Жураўля). У аповесці абронена вельмі глыбокая, значная думка: «Але так зроблена на гэтым свеце, што лес усё чуе, а поле ўсё бачыць». Гэта бачыць маці-Прырода вачыма сваіх насельнікаў (У. Гніламёдаў. Проза Алеся Жука).

* Міхась акунуўся ў гэтыя колеры, пахі, акунуўся ў лясныя гукі – трывожныя крыкі соек, тужліва-прыцягальныя – зязюль, свіст, ценьканне, шчоўканне, крумканне, трашчанне іншага нябачнага птаства – і не звяртаў на гэта ўвагі... Поле бачыць, а лес чуе – гэта было для яго зразумела, як дзень і ноч (А. Кажадуб. Крокі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 356: Лес чуе, а поле бачыць; *Шкраба*, с. 190: Поле бачыць, а лес чуе.

**Лета год корміць.** *Гл.* Летні дзень год корміць.

**Летам дзень мокне, а гадзіну сохне, восенню ж гадзіну мокне, а дзень сохне.** *Гаворыцца пра летнія і асеннія дажджы і іх наступствы.* Дзён пяць запар ішоў дождж, ішоў, не перасціхаючы, дзень і ноч. Сёння дажджу няма, але вакол усё сырое, мокрае. Кажуць, летам дзень мокне, а гадзіну сохне. Восенню ж гадзіну мокне, а дзень сохне. Тут жа сыпала пяць дзён (Л. Арабей. Іскры ў папялішчы).

**Летам і гнілая калода варочаецца.** *Летам у часе ўборкі ўраджаю ўсе (і старыя, і малыя) у няспынным руху.* Нават і я прыйшоў – старшыня. Летам, як кажуць старыя, і гнілая калода варочаецца, а я ж сем год не выходзіў з касой!.. (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

**Летам кожны кусцік начавацъ (пераначавацъ) пусціць.** *Летам і пад кусцікам можна пераначаваць.* Летам дык яно кожны кусцік начаваць пусціць, а пачалася восень – ніхто малую ўзяць не хоча. У каго і сваіх хапае, а хто і баіцца, каб немцы не прычапіліся (Я. Брыль. З новай кнігі). Цяпер лета, а летам, як сцвярджаюць вопытныя людзі, кожны кусцік пераначаваць пусціць (Я. Васілёнак. Бліскавіца). «Будзем збірацца ў дарогу...» Стэфа.. нетаропка падышла да шафы і прыпынілася. Ванда, мабыць, заўважыла гэтую нерашучасць сваёй таварышкі, бо сказала, усміхаючыся: – Цяпер жа не зіма: кожны кусцік пераначаваць пусціць (А. Марціновіч. Першае каханне).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 86: Улетку кожны кусцік начаваць пусціць.

**Летні дзень год корміць.** *Пра залежнасць дабрабыту чалавека ад таго, як ён стараецца ў касавіцу і жніво.* Хоць летняя ноч малая, вячэрняя зара праходзіць невялікі кружок над лесам, і зноў на ўсходзе вылазіць сонца, але сход правялі ўвечары, не забываючы, што летні дзень – год корміць (Я. Ермаловіч. Прыкры вузел). **Лета год корміць.** Адным словам – старацца трэба. Лета год корміць: нельга марнавацца, маргаць (І. Мележ. Людзі на балоце).

* Прыйшло лета – няма калі спаць. Дзень год корміць (У. Дамашэвіч. Ключ да шчасця). Жніво. Пагода – нібы па заказу. Дзень выдаўся такі, што корміць год. Няма калі ўцерці пот! І зжаць, і змалаціць патрэбна ўсё адразу (У. Корбан. Калгасніца і певень).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 82: Летні дзень зіму корміць.

**Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш.** *Не так лёгка зрабіць што-н., як здаецца. Звычайна ўжываецца як адмоўная рэакцыя на слова* л ё г к а *ў папярэднім выказванні.* – От пабачыце, ашукаю Алеся. Не верыце? Як піць даць! Памянеце маё слова. І зусім лёгка ашукаю. – Спадцішка. – Лёгка, гаворыш? – смяялася з Высоц-

кага. – Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш (В. Праскураў. Зялёная рапсодыя).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 68: Лёгкае пер'е (пяро), ды на страху не закінеш.

**Лёгка нарадзіць, ды нялёгка ўскарміць.** *Пра нялёгкасць выгадаваць, вырасціць дзяцей.* Лёгка нарадзіць, ды нялёгка ўскарміць. І нашы продкі ведалі гэта не горш за нас. Таму і шукалі розныя спосабы, каб памагчы самім сабе (Б. Сачанка. Вечны кругазварот).

**Ліса спіць і курэй бачыць.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, у каго наўме заўсёды адно і тое ж.* **Сін.:** *Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца; Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а лысаму грэбень; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а пеўню бойка; Каму што, а свінні месіва; Каму што, а чорту балота; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду.*

* Ты выконвай волю божу, дык я так цябе размножу, дзеля нашага знаёмства павялічу так патомства, – будзе ўнукаў, як пяску: ты ж дзядок яшчэ ў саку. (Хто што думае, то й сніцца – сніць так курыцу лісіца.) (К. Крапіва. Біблія).

– *Рапановіч,* с. 254: Лісіца спіць, а курэй бачыць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 64: Ліса спіць і курэй лічыць; Ліса і ў сне курэй бачыць.

**Ліслівае (ласкавае, пакорнае) цяля (цялятка) дзвюх матак (дзве маткі) ссе.** *Хто ўсім дагаджае, той карыстаецца іх апекай, дапамогай, прыхільнасцю.* «Ліслівае цяля дзве маткі ссе». Вы гэту прыказку, напэўна, чулі ўсе. Але на практыцы выходзіць, што і цяляткам часта шкодзіць залішне многа малака (К. Крапіва. Ліслівае цяля). Бач ты, як мякка сцелеш... Бач, як ты ўжо запеў! Ну але, але, ліслівае цялятка дзвюх матак ссе (П. Місько. Градабой). [Шпакоўскі:] Ну, хоць бы абняла. [Марфа:] Магу! [Шпакоўскі:] Задушыш! Вар'ятка! [Марфа:] Ліслівае цялятка дзвюх матак ссе (І. Гурскі. Свае людзі). [Казакевіч] хітры, мусіць, вельмі, бо надта ўжо ласкавы: ласкавае цялятка дзвюх матак ссе (В. Супрунчук. Сяргей Сяргеевіч). Бацьку ўсё абяцаюць... кватэру, але не даюць нешта. Ён ужо і з начальствам лаецца. У хаце таксама спакою няма – маці гаворыць, каб бацька не лаяўся, а схадзіў папрасіў. «Ласкавае цяля дзвюх матак ссе», – кажа яна (А. Кажадуб. Доўгі дзень Мацака). [Навум:] Лепей прышчамі зубамі язык і кланяйся нізка, пакуль яго мяцеліца ад нас вымеце; бо знаеш: пакорнае цялятка дзве маткі ссець (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). [Зязюля:] Не буду асцярожным у бліжэйшыя пяцьдзесят гадоў! Асцярож-

ных і без мяне навалам! [Жанчына:] Эх, Іванавіч! Колькі гаварыла – ласкавае цяля дзвюх матак ссе, а гордае – ніводнай (А. Дзялендзік. Гаспадар).

* Спачатку новы дырэктар стараўся дагадзіць і раённаму начальству, і людзям, мусіць, чуў пагаворку пра ласкавае цялятка, якое дзвюх матак ссе (В. Шырко. Споведзь правінцыяла).

– Недакладная калька з грэчаскай мовы: *To kalonarnin duo mannas budzanee* (літаральна «Ліслівае ягня дзвюх матак ссе»).

– *Насовіч,* с. 72: Ласкавае цялятка дзвюх матак ссець; *Ляцкі,* с. 18: Ласкавае цяля дзвюх матак ссець; *Прыказкі,* кн. 2, с. 327: Пакорнае цялятка дзве маткі ссе; Ласкавае (пакорнае, лісявае, лісліваае) цялятка дзве маткі ссе, а гордае – ні адной.

**Лістам сцеліцца, а ўкусіць цэліцца.** *Кажуць з асуджэннем пра крывадушнага чалавека.* – Дайце мне любое заданне... Я... – Лістам сцелецца, – гаварыў Шпакоўскі, – а ўкусіць цэліцца (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 549: Лістам сцелецца, а ўкусіць цэліцца.

**Ліха без дабра не бывае.** *Гл.* Няма ліха без дабра.

**Ліхтаром пушчы не асвеціш.** *Паўпраўдай, непрызнаннем не абыдзешся. Кажуць таму, хто чамусьці не пра ўсё расказвае суразмоўнікам.* [Гапка:] Ну, як жа з прызывам, забракавалі, а мо здалі, кажы, родненькі, не муч. [Бязродны:] Нічога страшнага, прызыў адлажылі. [Гапка:] Не веру, Янучок, не веру. Сэрца маё трывожыцца, і пагляд вачэй тваіх не такі, як заўсёды. [Маці:] Усё роўна, дзеткі, ліхтаром пушчы не асвеціш, кажы, не скрывай. Калі радасць, то ўсе ўзрадуемся, а калі гора, разам заплачам (У. Галубок. Бязродны).

– *Шкраба*, с. 131: Ліхтаром пушчы не асвеціш; *Іванова*, с. 89: Ліхтаром пушчы не асвеціш.

**Лішняга і свінні не ядуць (свіння не есць).** *Праст. Залішняе, празмернае ў дзеяннях, паводзінах асуджаецца. Кажуць як пажаданне захоўваць пачуццё меры.* **Сін.:** *Што задужа, то не здрова.* – Кепскі з мяне божы служка, – жартам адказаў Лабановіч.. – Вельмі добрым і не трэба быць. Не дужа ўдавайся ў святасць, бо лішняга і свінні не ядуць... (Я. Колас. На ростанях). Стары разлічыўся, паклаў наверх яшчэ дзесятку, але Алачка рашуча засунула яе яму ў кішэню: а вось гэта рабіць не трэба, лішняга і свінні не ядуць (М. Герчык. Вяртанне да сябе). – Толькі ты, мамачка, нічога лішняга не гавары; ён чалавек далікатны, не глядзі, што трактарыст. Ён завочна інстытут канчае. – Лішняга не скажу. Лішняга і свіння не есць... (М. Пянкрат. Прынцыповы пасаг). Сталі

прасіць дзеда спець яшчэ што. Але ён адмовіўся наадрэз: – Хопіць. Лішняга і свінні не ядуць (Я. Курто. На свой хлеб).

– *Насовіч*, с. 189: Што надта, таго і свінні не ядуць; *Федароўскі,* с. 166: Лішняга то і свіння не есць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 254: Лішняга і свінні не ядуць; Праз меру і свінні не ядуць.

**Лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.** *Гл.* <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.

**Лыжкай акіян не вычарпаеш.** *Гл.* Лыжкай мора (акіян) не вычарпаеш.

**Лыжкай мора (акіян) не вычарпаеш. 1.** *Немагчыма, безнадзейна чым-н. мізэрным справіцца з чымсьці аграмадным, вялізным.* Тэўтон завыў ад злосці, крыкнуў: Ты – травяны кароль, а наша царква з жалеза! На каго ўзняў руку? Лыжкай не вычарпаеш акіян! Будзеш ляжаць каля ног нашай царквы! (Л. Дайнека. Меч князя Вячкі).

**2.** *Нічога прыкметнага не здараецца з чым-н. вялізным (напрыклад, прадпрыемствам) са знікненнем у ім чагосьці нязначнага.* Антось з Генкам знайшлі пралаз у агароджы і падцікавалі. Сцапалі Рыгора з авоськай. Прасіўся той, як мог. Падумаеш, маўляў, прыхапіў з дзясятак [дэталяў]... Лыжкай мора не вычарпаеш... А яны, малайцы, прыцягнулі яго з грузам на ўчастак, выклікалі міліцыю... (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 481: Лыжкаю мора не вычарпаеш.

**Лысае цялятка і здохне з лысінкай.** *Гл.* Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне такім.

**Любіў добрае, палюбі ж і злое.** *Ужываецца як павучанне цярпліва пераносіць нечаканыя непрыемнасці.* [Ян, зрывае чапец з галавы Навума:] Якое гэта брыдкае пудзіла!.. Адказвай, д’ябал пракляты, хто ты? [Навум:] Ды я ж Навум, войт тутэйшы... Чаго ж ты чураешся цяпер ад мяне? Знаеш прымаўку: любіў добрае, палюбі ж і злое (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч,* с. 75: Любіў добрае, цярпі ж і злое; *Прыказкі,* кн. 2, с. 430: Любіў добрае, палюбі ж і злое.

**Любіў катацца, любі і саначкі вазіць.** *Гл.* Любіш катацца, любі і саначкі вазіць.

**Любіў рак жабу, аж вочы выеў.** *Праст. Кажуць з недаверам пра таго, хто на словах любіць ці шкадуе каго-н., а на самай справе гатовы падмануць яго, нашкодзіць яму.* **Сін.:** *Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>*. Журналіст зарагатаў, яшчэ мацней абшчаперыў Тоньку. «Любіў рак жабу, аж вочы выеў», – падумала баба Зося (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 320: Любіў рак жабу, аж вочы выеў.

**Любіць аржаная каша сама сябе хваліць**. *Гл.* Аржаная каша сама сябе хваліць.

**Любіш катацца, любі і саначкі вазіць.** *Непазбежна прыходзіцца расплачвацца за тое, што было зроблена з ахвотай, з задавальненнем. Гаворыцца, калі ўзнікаюць непрыемнасці, выкліканыя чыімі-н. ранейшымі дзеяннямі.* [Каліберау:] Любіш катацца, любі і саначкі вазіць. Сцеражыся, Моцкін (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка). Трэба ж было мне сустрэцца з ёю тады ў вагоне. А потым і сысціся. Як усё адно незнарок, вяло мяне... А цяпер... Выходзіць, праўду ў народзе кажуць – любіш катацца, любі і саначкі вазіць (Б.Сачанка. Родны кут). Любіш катацца – любі і саначкі вазіць, гавораць у народзе, калі хочуць падкрэсліць абавязак чалавека адказваць за свае ўчынкі (Звязда. 1995, 21 лістап.). **Любіў катацца, любі і саначкі вазіць. –** Усю не ўсю [вёску], а трохі прарэдзім, – ужо зусім павесялеў Змітро Шламак. – Прыаднай уладзе адны жылі, цяпер другія няхай пажывуць. А як жа – любіў катацца, любі і саначкі вазіць. – Але ж гэтак усіх без разбору ў спісы... – ніяк не мог супакоіцца Апанас Харчэня (Б. Сачанка. Вялікі Лес.)

* [Старая:] Сур'ёзны ён быў, самастойны і добры. Ён і цяпер добры. [Стары:] На добрых ваду возяць. Хопіць! Кончылася дабрата. Не-е! Любіш катацца – вазі саначкі! Во як! Павазі. У турме (А. Макаёнак. Кашмар). Свае работнікі аўтакалоны таксама любяць катацца, але не любяць санкі вазіць, у даным выпадку – плаціць за выкарыстанне дзяржаўнага транспарту для асабістых патрэб (Вожык. 1985. № 13).

– *Ляцкі,* с. 19: Любіш ездзіць, любі саначкі вазіць; *Янкоўскі,* с. 231: Як любіш катацца, то любі й саначкі вазіць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 467: Любіш катацца, любі і саначкі вазіць (цягаць).

**Любоў зла – палюбіш і казла.** *Пра вялікую сілу ўлюбляцца ў каго-н.* Закахаўся я, што называецца, па самыя вушы ў дзяўчыну адну... Люся яе звалі... Не сказаць, каб там было нешта асаблівае, але ж недарэмна кажуць: любоў зла, палюбіш і казла... Вось і я... (Б. Сачанка. Белая мыш).

**Людзей (другіх) слухай, а (ды) свой розум май.** *Хоць чыя-н. парада і не зашкодзіць, але трэба трымацца сваіх поглядаў, быць самастойным у сваіх дзеяннях, учынках.* – Як сабе хочаце, сват, параіць я вам тут нічога не магу, – сказаў Каржакевіч. – Як той кажа, людзей слухай, ды свой розум май (К. Крапіва. Мядзведзі-

чы). – Ды я і не пайшла б туды [санітаркай у бальніцу] – Ільюша ўсё... – Ільюша... А ў цябе галава на плячах ёсць? Яго слухай, а свой розум май (П. Місько. Сітус інверсус). – Як добра, тады толькі хваляць. А як бяда, тады кажуць: а што, ці я табе не казала? – Людзей слухай, ды свой розум май... (У. Дамашэвіч. Камень з гары). **Другіх слухай, а сваім розумам жыві. –** Прапанавалі, і я, дурань, паслухаўся. – Ведама ж, як кажуць людзі: другіх слухай, а сваім розумам жыві, – прабубніў Даніла (В. Быкаў. Круглянскі мост). **У людзей пытай і свой розум май.** Кажуць людзі: у людзей пытай і свой розум май. А гаспадарку яна [нявестка], ведзьма, вядзе, дык толькі крый ты божа! (З. Бядуля. Летапісцы).

– *Насовіч*, с. 247: Людзей слухай, а свой розум май; *Ляцкі,* с. 10: Другога паслухай і свой розум май; *Прыказкі,* кн. 2, с. 448: Людзей слухай, а сваім розумам жыві; У людзей пытай, ды свой розум май.

**Людзі брэшуць – мяне цешуць.** *Кажуць, калі не зважаюць на распаўсюджванне розных чутак, плётак. «*Маці ігумення, не адну цябе замяло». – «Каго ж яшчэ?» – «А во гэтага. Баву Каралевіча. Адкапаў, заходжу – сядзіць, як у пячоры». Гедзіян не пакрыўдзіўся, толькі прабубніў: «Людзі брэшуць – мяне цешуць» (М. Воранаў. Яніна).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 387: Людзі брэшуць – языкі чэшуць.

**Людзі і мядзведзя вучаць.** *Гаворыцца як сцвярджэнне вялікіх магчымасцей навучання.* – Вучаных мядзведзяў вадзілі па кірмашах, прымушалі ісці ў скокі перад сялянамі. А павадыры ігралі на скрыпцы, потым збіралі з гледачоў і слухачоў па капейцы, зрэшты, хто што дасць. – Адсюль, мусіць, і прыказка: людзі і мядзведзя вучаць (М. Лужанін. Размовы з Якубам Коласам). Людзі і мядзведзя вучаць (Эпіграф да раздзела «Вучоба» ў кнізе Б. Сачанкі «Вечны кругазварот»).

– *Насовіч,* с. 56: І мядзведзя вучаць; *Федароўскі,* с. 199: І звера людзі навучаць, не то чалавека.

**Людзі мруць, нам (другім) дарогу труць.** *Кажуць пры пахаванні каго-н. як пра няўмольнасць і непазбежнасць смерці для кожнага чалавека.* **Сін.:** *Каб не мерлі, дык бы неба падперлі.* Смерць – гэта няўхільнасць для кожнага чалавека, а таму і адносіны да яе досыць спакойныя. Людзі мруць, нам дарогу труць, – заўважае спакойна беларус, бачачы чыё-небудзь пахаванне (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). Не крыўдуючы, недасягальная аніякай крыўдзе, першай падняла чарку: – Людзі мруць, другім дарогу

труць, пярэдні задняму мост – на пагост. Дык чаму ж гэта я не маю права паглядзець, як па мне пройдуць другія. Вып’ем, дзеўкі, пакуль жывыя (В. Казько. Неруш).

– *Насовіч*, с. 75: Людзі мруць, нам дарогу труць.

**Людзям языка (языкоў) не завяжаш.** *Людзей не прымусіш маўчаць. Кажуць з неадабрэннем пра распаўсюджванне розных чутак, плётак.* **Сін.:** *На чужы рот гузіка не нашыеш; На чужы рот замок не навесіш; На чужыя вусны не накінеш хусты; Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш; Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш.* А рост і дапраўды падвёў мяне. «Аршын з шапкаю», – кажуць пра мяне. А я толькі смяюся... Няхай кажуць, людзям языка не завяжаш (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). – За мяне вы не чырванейце, дзеткі. А што маці ваша такая, дык тут ні вы, ні я не вінаваты. – Канечне, не нам вучыць вас, але ж людзям не завяжаш языкоў. – Няхай сабе гавораць (А. Пальчэўскі. Малако). Параска на свае вушы чула, што яе дачку завуць перастаркаю. Людзям языкоў не завяжаш, ды і гады ж гэтыя, як вада, цякуць (Р. Сабаленка. Перастарка). Косцю што – сёння тут, заўтра – там. А вось што сабе Маня думае? Ёй жа тут аставацца, і людзям языкоў не завяжаш (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). **Людскога языка не завяжаш.** – А куды ж гэта пайшоў сын? – Як куды, у войска. – А то-бо казалі, што ён каля дома, – гавораць людзі. – Людзі, гэтыя людзі! Людскога языка не завяжаш. У войску Толя, от ліст прыслаў (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

– *Насовіч,* с. 145: Рота нікому не завяжаш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 380: Людзям языка не прывяжаш.

**Людскога языка не завяжаш.** *Гл.* Людзям языка (языкоў) не завяжаш.

**Ля вады <ходзячы> намочышся.** *Гл.* Каля (ля) вады <ходзячы> намочышся.

**Лянівы два разы ходзіць.** *Лянівы застаецца ў пройгрышы, бо мусіць паўторна перарабляць што-н. Гаворыцца як асуджэнне ляноты.* [Паўліна:] Кожнай аблавусе не нakланяешся. [Злыдзень:] Не заракайся красці... Не плюй у калодзеж... Лянівы два разы ходзіць, скупы два разы плаціць... Я не збіраюся чытаць вам лекцыю на тэму: «Фальклор – крыніца народнай мудрасці» (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 285: Скупы два разы плоціць, лянівы два разы ходзіць.

# М

**Магдалена – вады па калена.** *Ужываюць як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; Магдалена – дзень Марыі Магдаліны, які ў праваслаўных прыпадае на 22 ліпеня (па старым стылі).* Звычайна гэтай парой у іншыя гады ў Забесяддзі стаялі над зямлёй хмары, ішлі пераходныя дажджы, засцячы ад вачэй і поле, і лес. Нездарма ў народзе кажуць: «Магдалена – вады па калена» (І. Чыгрынаў. Вяртанне да віны).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 108, 532. Магдалена – вады па калена.

**Маем тое, што маем.** *Функц. не зам. Маем тое, што ёсць, чаго заслугоўваем, чаго вартыя. Гаворыцца як аб'ектыўная канстатацыя негатыўнага ў жыцці.* Пыл запоўніў сусек. Маем тое, што маем (Ю. Голуб. Заснежаны сшытак). А пакуль... Пакуль, на жаль, маем тое, што маем, і пра гэта пераканаўча і самакрытычна выказаўся наш паэт... (А. Хадановіч. Паміж «Дранько» і «Майсюком»). Палітыкі ад літаратуры вырашылі па-іншаму. У выніку маем тое, што маем – паступова-няўхільную дыскрэдытацыю літаратурнай прэміі... (С. Грышкевіч. Несуцяшальны дыягназ). Часам думаеш сабе, добра, мы былі такія-сякія, абдураныя, з падвойным жыццём і такой жа маральнасцю. І маем тое, што маем (А. Чобат. Зямля св. Лукі). Адарванасць ад сваіх каранёў перадаецца з пакалення ў пакаленне, і зараз маем тое, што маем (ЛіМ. 2006, 7 сак.).

**Маеш дачку – трымай гарэлку ў глячку.** *Калі ў бацькоў ёсць дарослая дачка, то яны ў любы час павінны быць гатовы да яе вяселля.* [Шпакоўскі:] Як гэта даўней казалі: маеш дачку – трымай гарэлку ў глячку. [Кажамяка:] А ў сватоў, таго гэтага, хіба няма за што купіць? Хто працуе, той і мае (І. Гурскі. Свае людзі). Бывала, казалі: «Як маеш дачку, то май і трымай ты гарэлку ў глячку». Цяпер жа інакшыя меры: разменьвайце, «продкі», кватэру, каб выдзеліць зяцю з дачкой прасторны і светлы пакой (М. Скрыпка. Розныя пасагі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 89: Калі маеш дачку – дзяржы (май) гарэлку ў глячку.

**Май – каню <сена> дай, <а> сам на печ уцякай.** *Ужываюць як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды.* А сцюжа не адступае. Праўду казаў калісьці мой дзед: «Май – каню сена дай, а сам на печ уцякай» (М. Танк. Дзённікі). Ідзе снег. Ішоў і ўсю ноч, гэтулькі навaліла на страху, што зімой. «Май – каню дай, сам на печ уцякай», – падумаў [Андрэй] (І. Пташнікаў. Мсціжы).

– *Раманаў*, с. 301: Месяц май: сена каню дай, а сам на печ палязай; *Прыказкі*, кн. 1, с. 80: Май: каню (валам) сена дай, а сам на печ уцякай; Вот май – валам дай, а сам на печку ўцякай.

**Маладзец супраць (супроць, сярод) авец, а супраць (супроць) малайца – сам аўца.** *Кажуць пра таго, хто смелы, самаўпэўнены толькі сярод слабейшых, горшых за яго ў якіх-н. адносінах.* Маладзец супроць авец, супроць малайца – сам аўца (Назва верша П. Панчанкі). І Міканор – «справядлівы» такі, перарабіць не мог! Маладзец сярод авец, а з Карчом не справіўся!.. (І. Мележ. Подых навальніцы).

– *БРС,* т. 1, с. 664: Маладзец супраць авец, а супраць малайца – сам аўца.

**Маладое піва заўсёды шуміць.** *Чалавек у маладыя гады вельмі энергічны, поўны кіпучай дзейнасці.* [Гарошка:] Гэта настаўнік.. маёй Аленцы ў галаве ўсё дагары нагамі перакуліў. І цяпер тая ўжо, як папугай, паўтарае за ім: «Недачаканне іх! – кажа, – будзем самі сабе гаспадарамі!» [Гануля:] Звычайная рэч, мой сваток. Маладое піва заўсёды шуміць (Я. Купала. Тутэйшыя). Вы адно аднаму да пары. Што цяпер, як бачыш, чэпіцца, гаворыць абы-што, дык на тое свая прычына. Маладое піва заўсёды шуміць, але выхадзіцца... (Г. Далідовіч. Кліч роднага звона).

– *Федароўскі*, с. 236: Маладое піва яшчэ шуміць.

**Маладосць – дурносць.** *Кажуць як прабачэнне дураслівасці дзіцяці або маладога чалавека.* **Сін.:** *<Як> малады – <то> дурны.* Бабка падняла яе [фотакартачку]. Глядзіць, смяецца. Пазнала ўнука і ўнучку, гаворыць: – От жа гарэзнікі! Валя ўзбілася на калені Дзімку, ашчаперыла браціка за шыю... Маладосць – дурносць... (В. Мыслівец. Выгнанне грэшнікаў). Дзед Пятро кіўнуў Мэндалю: – Чуеш, маладосць скрозь бярэ верх, весяліцца. – Маладосць – дурносць... (В. Якавенка. Пакутны век).

– *Ляцкі,* с. 21: Маладосць – дурносць.

**Малады – дурны.** *Гл.* <Як> малады – <то> дурны.

**Малако ў каровы на языку.** *Колькасць і якасць малака ў каровы залежыць ад таго, як яе кормяць.* – Кажуць, малако ў каровы на языку, – гаварыла тым часам без паперкі жанчына. – Толькі не ў нашых кароў. Нашым хоць манную кашу тапчы ў рот, болей не даб'ешся (Л. Гаўрылкін. Катэдж з цёмнымі вокнамі). Малако ў каровы на языку. Наесца яна чарамшы – і малако аддае лясной цыбуляй, наскубецца дзяцеліны – малако салодкае, смачнае: п'еш не нап'ешся (В. Шырко. Хай людзі бачаць). – Калгаснаму пастуху ці патрэбна

гэтая прылада, – кіўнуўшы на пугу, сказаў Пятро. – Малако ў каровы на языку, а не на канцы пугі (Р. Сабаленка. На сцежках маладосці). **У каровы малако на языку.** Колькі я табе даказвала, што ў каровы малако на языку... (І. Шамякін. У добры час). Дасціпнаму кіраўніку, які быў да рэформы ахвочы, сказалі раз у вочы, што ў каровы малако – на языку... (Э. Валасевіч. Змікіціў).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 200: У каровы малако на языку.

**Малая куча ды смярдзюча.** *Гаворыцца пра нікчэмнага чалавека, які назаляе каму-н., шкодзіць, бэсціць, абгаворвае і пад.* А тое, што гэты жываглот у магілу мяне загоніць сваімі выбрыкамі. – Ён узяў самапісу і пачаў нервова перабіраць яе ў пальцах. – Вось ужо дзе – малая куча ды смярдзюча! Мёртвага дапячэ... (М. Южын. Марыянеткі і лялькаводы).

**Маленькая сучачка заўсёды шчаня.** *Гл.* Маленькі сабачка да старасці шчанюк (шчаня).

**Маленькі сабачка да старасці шчанюк (шчаня).** *Чалавек малога росту заўсёды здаецца маладзейшым за свае гады.* – Ды не такое ўжо яно і дзіцянё, як табе здаецца... Хаця... Маленькі сабачка да старасці шчанюк... – Стась засмяяўся (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму). Гавораць: маленькі сабачка да старасці шчанюк. Яе сябровак ужо даўно – прынамсі, на рабоце, у абставінах службовых, афіцыйных, называлі па імені і па бацьку, яна ж для ўсіх – і супрацоўнікаў, і аўтараў, з якімі мела справу, заставалася Алачкай... (М. Герчык. Вяртанне да сябе). – Трэба і яе [Ніну] зразумець: дзяўчыне хочацца сям'і, нейкага ладу, пастаянства. – А дзе яно, гэта пастаянства? У мяне яго няма. Ці будзе калі. Мой сусед у Селішчы любіць паўтараць: «Маленькі сабачка заўсёды шчанюк» (А. Кудравец. Смерць нацыяналіста). **Маленькая сучачка заўсёды шчаня.** – Не такі ўжо й маладзенькі [муж]. З гэтае восені дваццаць шосты пойдзе, – варухнула звялымі, пасінелымі губамі Кася. Маленькая сучачка заўсёды шчаня... Ці ўгадаеш па малым чалавеку, колькі яму год (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

– *Янкоўскі,* с. 193: Маленькі сабачка да веку шчаня; *Прыказкі*, кн. 2, с. 205: Маленькі сабачка да веку цюцька; Маленькі сабачка да старасці шчанюк.

**Малое дрэва ў сук расце.** *Гл.* Крывое (малое) дрэва ў сук расце.

**Малое – дурное.** *Кажуць пра малога часцей як прабачэнне за якія-н. яго дзеянні, паводзіны, словы.* [Малы] разгублена заморгаў вачанятамі і горка заплакаў. – Я не буду больш, мама... – Вядо-

ма, малое – дурное... Я яму дам! Будзе ведаць, як соваць свой нос куды не трэба, – крычала жанчына, гледзячы на паліцаяў (Р. Няхай. Героі не адступаюць).

– *Ляцкі*, с. 21: Моладасць – дурнасць; *Федароўскі*, с. 175: Малады – дурны.

**Малы жук, ды вялікі гук.** *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто перабольшвае свае якасці, магчымасці.* – Патрэбен ты мне, як хата сабаку! – Патрэбен не патрэбен, а, мабыць, не адмовіла б! – Малы жук, ды – вялікі гук! – Яна [Ганна] сказала гэта з такой абразлівай насмешкай, што Яўхім адразу не знайшоў, што і сказаць (І. Мележ. Людзі на балоце). Узрост падлеткавы. Але пра такіх гавораць: «маленькі, ды ўдаленькі», ці, беручы да ўвагі спецыфіку імпрэзы, «маленькі жук, ды вялікі гук» (П. Васілеўскі. Віцебск – Рыа-дэ-Жанейра па-беларуску).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 344: Малы жук, а вялікі гук.

**Малы залатнік, ды дарагі.** *Пра таго ці пра тое, хто ці што хоць знешне здаецца малым і нязначным, але каштоўны (каштоўнае) па сваіх якасцях, па сваёй сутнасці.* – Ды вашу газету не толькі чытаць – на памяць завучваць будуць, як пацеры, – ахкаў і дзівіўся [Максім]. – Малая, але такая баявая!.. – Малы залатнік, ды дарагі, – радаваўся Кастусь, бачачы, як захапіўся іхняй газетай яе першы чытач, рабочы чалавек (А. Якімовіч. Кастусь Каліноўскі). Захар аж разгубіўся, але, убачыўшы, як шустра пераходзіць з плыта на плыт Васіль, адпіхваючыся багром, паспакайнеў. «Малы залатнік, ды дарагі... Кгм, хто гэта прыдумаў так?» (М. Воранаў. Асінавае шула). Ёсць тут у нас адна жанчына, маленькая такая. Кнопкай яе завуць, але праўду кажуць людзі – малы залатнік, ды дарагі (І. Капыловіч. Пералётныя птушкі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 204: Мал залатнік, ды дораг; *БРС,* т. 1, с. 450: Малы залатнік, ды дарагі.

**Малыя дзеткі – малыя бедкі <падрастуць дзеткі – падрастуць і бедкі>.** *Гл.* Малыя дзеці – малы клопат <большыя дзеці – большы клопат>.

**Малыя дзеці – малы клопат <большыя дзеці – большы клопат>.** *Гаворыцца як сцвярджэнне, што чым большымі становяцца дзеці, тым большы клопат для бацькоў.* **Сін.:** *Малыя дзеці топчуць бацькам ногі, вялікія – сэрца*. Яно, я табе кажу, сваячок, добра, як добра. Дужа добра, калі добра. Няўрокам кажучы, Міхейка, малыя дзеці – малы клопат, большыя дзеці – большы клопат. Вялікі клопат можа быць, сваячок (Я. Ермаловіч. Прыкры вузел).

Старая ўзялася за клямку і ўжо сказала пра дзяцей: – Нябось, цяжка іх гадаваць... А павырастаюць... Праўду кажуць: малыя дзеці – малы клопат. А мой... Чаго яго пагнала ў гэтую паліцыю? (В. Адамчык. Там, на хутары). Дзяцей, як бобу. Адно другога не падыме. Міколка яшчэ пеша пад стол ходзіць, а меншай, Марыльцы, толькі чацвёрты месяц пайшоў. Малыя дзеці – малы клопат. А падрастуць... (В. Праскураў. Аповесць пра шчасце). **Малыя дзеткі – малыя бедкі** <**падрастуць дзеткі – падрастуць і бедкі**>. А Васілёк усё мадэлі майструе. На дах залезе і сядзіць там. Хачу, кажа, быць лётчыкам. Прывыкаю да вышыні. Зваліцца, разаб'ецца... Растуць дзеткі. Малыя дзеткі – малыя бедкі. Большаюць дзеткі – і клопат [зу]сім другі (Л. Левановіч. Бацькоўскі наказ). Выраслі [дзеці], сваім розумам жывуць, а душа смыліць-смыліць. Праўду кажуць: малыя дзеткі – малыя бедкі, падрастуць дзеткі – падрастуць і бедкі. Асабліва дочкі хвалююць. Не клеіцца ў іх жыццё (В. Блакіт. Шануй імя сваё). **Малыя дзеткі – малыя і бедкі, выраслі дзеткі – выраслі і бедкі**. Спадзяваўся, што пасля вяселля [унучкі Машы] знікне трывога. Не, не знікла. Чаго зараз баюся? Усяго. Малыя дзеткі – малыя і бедкі, выраслі дзеткі – выраслі і бедкі (І. Шамякін. З дзённікаў).

– *Насовіч,* с. 76: Малыя дзеці – малы клопат, большыя дзеці – большы клопат; *Прыказкі,* кн. 2, с. 120: Малыя дзеткі – малыя і бедкі.

**Малыя дзеці топчуць бацькам ногі, вялікія – сэрца.** *Ужываецца як сцвярджэнне, што чым большымі становяцца дзеці, тым большы клопат для бацькоў.* **Сін.:** *Малыя дзеці – малы клопат <большыя дзеці – большы клопат>.* – Маленькія дзеці топчуць бацькам ногі, вялікія – сэрца, – сумна сказала Ірына Уладзіміраўна. – Гэта адвечны афарызм усіх матак. Я яго чула, і неаднойчы, ад мамы, калі разышлася з мужам (А. Шлег. Сталінскія байструкі).

**Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.** *Няпраўда недаўгавечная, несумленнасцю многага не даб'ешся. Кажуць з асуджэннем пра таго, хто жыве падманам, несумленна.* **Сін.:** *У хлусні кароткія ногі.* – Добра было б да кожнага фрыца надпіс прычапіць... Няхай бы іх Гетруды прачыталі... – Можна, – згадзіўся Ігнат, пачынаючы дыктаваць. – «Наеліся па горла, напіліся па бараду», «Маной свет пройдзеш, але назад не вернешся»... (І. Гурскі. Лясныя салдаты). – Ад людзей нікуды не схаваешся, – сказаў разважліва, але ўпэўнена Хомка... – Маной свет пройдзеш, а назад не

вернешся. І адкажа чалавек за ўсё, што б і дзе калі ні рабіў (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Няпраўдай свет пройдзеш, ды назад не вернешся. – Пра фашысцкіх разбойнікаў (К. Крапіва. Прыказкі). – Хай мяне пярун заб’е, калі я каму што схлусіла. Няпраўдай, як той казаў, свет пройдзеш, а назад не вернешся, – адказвала на патрабаванне жандара Хадора (Р. Сабаленка. Спатканне). [Сымонка:] Бач, як пераапрануўся, стары пёс. Ды толькі нас не ашукаеш. [Рабіна:] Хітрасцю свет пяройдзеш, а назад не вернешся (В. Вольскі. Машэка). Свабоду здабудуць сваімі грудзьмі «дурні», а разумнікі такія, як Падаляка, заўсёды знойдуць спосаб ашукаць «наіўных», каб далей эксплуатаваць давер’е народа. Не, Падаляка, «наіўнікі» ўжо кажуць: «Хітрасцю свет пяройдзеш, але назад не вернешся» (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). Вывучыўшы эканоміку калгаса «Зялёны гай», Брагінец аднойчы пры людзях сказаў старшыні: «Круцельствам свет пройдзеш, але назад не вернешся» (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя). **Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.** Паны вам казалі, што нічога ў нас няма, што нашы машыны на гліняных калёсах. Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся (Я. Колас. Дарагія землякі). **Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся.** Не міне ён [Гітлер] свайго заслужанага канца. Пра яго мы можам сказаць: круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся (Я. Купала. Кліч да беларускага народа). Не памогуць немцам ніякія авантуры! Ніколі яны ім не памагалі. Наконт падобных спраў наш народ склаў прымаўку: «Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся» (К. Чорны. Шарлатанскі зброд на службе ў нямецкіх акупантаў).

– *Насовіч,* с. 40: Круцючы, свет пройдзеш, ды назад не вернешся; *Янкоўскі,* с. 323: Круцельствам свет пройдзеш, ды назад не вернешся; *Прыказкі,* кн. 2, с. 313: Брахнёю (абманствам, лганствам, няпраўдай) свет пройдзеш, назад не вернешся.

**Марац адмарозіць палец.** *Пра мажлівыя ў сакавіку маразы.* **Марац укусіць за палец**. У пачатку сакавіка ўстанавілася мяккая адліга, ачысцілася ад хмараў неба. Марац укусіць за палец, – гаварылі тут, але ўжо ў сакавіку набрынялі сокам бярозы, зацвіла сасна і людзі забыліся пра мароз (У. Гніламёдаў. Вяртанне).

* Мароз быў такі, што птушкі на ляту замярзалі. На вачах у партызан, пералятаючы цераз дарогу, верабей упаў каменем. Недарма ў народзе кажуць: «Прыйшоў марац, адмарозіў палец» (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 78: Марац адмарозіць палец; Марац укусіць за палец; Марац шчыпле палец.

**Мароз сем баб павёз.** *Пра вельмі моцны мароз.* – А ты заўсёдзі мяне дадому, – папрасіў Сяргейка. – Я адзін буду. – Куды я цябе павяду? На двор няможна носа вытыркаць. Ды і мароз... сем баб павёз (А. Казлоў. Ікаўка, мяцеліца і Сяргейка).

– *Насовіч,* с. 57: Мароз сем баб павёз.

**Масква слязам не верыць.** *Кажуць тады, калі чые-н. слёзы, скаргі не выклікаюць спачування, не могуць дапамагчы.* Ладна. Хопіць вільгаць разводзіць. Усё роўна Масква слязам не верыць (С. Грахоўскі. Зона маўчання). – Расплакаўся тут. Мяне гэтым не возьмеш. Масква слязам не вер[ыць], – ужыла яна [настаўніца] у размове з вучнем без усякай патрэбы і сэнсу гэтую грубую і несправядлівую прымаўку (Я. Ермаловіч. Пачыналася вясна). Ніщто не магло даняць каменданта. – Масква слязам не верыць, – адно сцвярджаў ён (Р. Няхай. Туман над стэпам). Абодвум найбольшая радасць была, што так удала пашэнціла ўпаляваць зладзюгу [ката]. І хоць сам ён ужо не ваюе, а жаласна мяўкае ў мяху, але нездарма кажуць: Масква слязам не верыць (Я. Лецка. Дарога ў два канцы). Грызі сухі калач, збірай завялы верас... Не плач, народ, не плач – Масква слязам не верыць... (Г. Бураўкін. Б'юць па спіне цапы...).

– Запазычана з рускай мовы: *Москва слезам не верит.*

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 506: Масква слязам не верыць.

**Матка парве пазуху, хаваўшы для дзяцей, а дзеці парвуць пазуху, хаваўшы ад маткі.** *Маці больш клапоціцца пра дзяцей, чым дзеці пра маці.* Матка апошняе аддасць, нічога не пашкадуе. Кажуць жа, што матка парве пазуху, хаваўшы для дзяцей, а дзеці парвуць пазуху, хаваўшы ад маткі. Яна дзень пры дні думае пра сына, згадвае, што ён там парабляе, куды ідзе, з кім гаворыць, а ці ўспамінае ён пра маці?.. (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Насовіч,* с. 77: Маткі дзяруць пазухі, дзецям хаваючы, а дзеткі дзяруць кішэні, ад матак хапаючы; *Ляцкі,* с. 20: Матка падзерла пазуху, носячы дзеткам, а дзеткі – ад маткі; *Федароўскі,* с. 174: Маці падзярэ пазуху, дзецям хаваючы, а дзеці – хаваючы ад мацеры.

**Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).** *Функц. не зам. Кажуць пра чалавека, у паслугах якога больш не адчуваюць патрэбы.* [Рагнеда:] Не хвалюйцеся. Вам шкодна. [Захарка:] Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа адысці. Не-е, я не адыду!

(Л. Прокша. На задворках). Халуёў такога тыпу ўсе баяцца і ўсе ненавідзяць, нават самі прадстаўнікі ўлады. Па магчымасці ад іх стараюцца пазбавіцца: маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці. Калі іх выганяюць са службы, яны з-за пачуцця помсты ўходзяць у крымінал (В. Дашук. Баль Сатаны). Анатоль добрасумленна выканаў, так і хочацца сказаць, адказнае заданне партыі і ўрада. Але, мусіць, заўсёды: маўр зрабіў сваю справу, маўр можа адысці (В. Блакіт. Уваскрасенне ўчарашняга дня). Магу суцешыць: гэты бульдог з генеральскімі эпалетамі доўга ў Вільні не затрымаецца. Вось-вось вернецца ў свой столічны асабняк на Вялікай Марской. Маўр, як кажуць, сваю справу зрабіў (М. Віж. Лабірынт).

– Паўкалька з нямецкай мовы, дзе стала ўжывацца як выраз з п'есы Ф. Шылера «Загавар Фіеска ў Генуі» (1783).

– *БРС*, т. 1, с. 679: Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці.

**Маўчанне – знак згоды.** *Функц. не зам. Гаворыцца тады, калі на пытанне не адказваюць, што дае магчымасць успрымаць маўчанне як станоўчы адказ.* [Васіль:] А як ты думаеш, Жэня? [Жэня маўчыць.] [Шыдлоўскі:] І дзе яе жывасць дзелася, у жыта б ёй галавой! [Шыдлоўская:] І не дзіва, калі яе лёс вырашаецца зараз. [Стась:] Маўчанне – знак згоды, гавораць (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). [Гаўрыла Патапавіч:] Вось што, матулі! Давайце больш сур'ёзна да справы. Назад ходу няма. Ды і дзеці вашы, я так думаю, толькі за вяселле па-новаму. Ці не так?.. [Ганулі Міцю:] Ну, скажы! [Гаўрыла Патапавіч:] Маўчанне – знак згоды! (У. Сауліч. Адзін Гаўрыла ў Полацку). – Дык як, згодны? – Вярхоўская ўсміхнулася, з цікавасцю аглядала яго. Тугоўскі адварочваў ад яе твар і маўчаў. – Маўчанне – знак згоды. Значыць, скончана, – падхапіў Тамашэвіч (В. Вальтар. Роджаныя пад Сатурнам).

* Ціхон Пракопавіч перасмыкнуў плячыма, што ў перакладзе на мову азначала: «Не знаю нават, што сказаць». – Прыпомнім лацінскую прыказку: «Маўчанне, калі чалавек павінен гаварыць, азначае згоду» (А. Пальчэўскі. Збітыя рогі).

– Калька з лацінскай мовы: *Qui tacet – consentire videtur* (літаральна «Хто маўчыць, разглядаецца як згодны») ці: *Silentium videtur confessio* (літаральна «Маўчанне раўназначнае прызнанню»).

– *БРС,* т. 1, с. 679: Маўчанне – знак згоды.

**Маўчу, дык, пэўне, замуж хачу.** *Кажуць жартаўліва пра дзяўчыну, калі яна маўчыць, не адказвае на пытанні таго, хто да яе заляцаецца.* [Навум:] Не саромейся, а скора гавары, мая сікора!.. Прымаўка кажа: маўчу, дык, пэўне, замуж хачу. Яна ж не кажа

нічога; ой, хоча замуж нябога (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – Давайце... згуляем шчаслівае вяселле. – А як жа Проська?.. Маўчыць, не азываецца... – спытаў сватоў памагаты Аўгустын. – Маўчу, дык, пэўна, замуж хачу, – вырвалася з грудзей дзяўчыны, і яна заплакала (У. Ліпскі. З палаты «мінёраў»).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 31: Маўчу, дык, пэўне, замуж хачу.

**Маўчы, бо будуць таўчы!** *Не гавары нічога лішняга, бо будзеш жорстка пакараны. Звычайна ўжываецца і як характарыстыка ўлады, якая пазбаўляе людзей свабоды слова.* [З «Прыказак» К. Крапівы, апублікаваных у снежні 1944 г.:] Маўчы, бо будуць таўчы! (Пра гітлераўскі рэжым у Германіі).

– *БРС*, с. 918 (у выданні 1962 г.): Маўчы, бо будуць таўчы!; *Санько*, с. 17: Маўчы, а то будуць таўчы.

**Маўчы, язычку, кашкі дам.** *Гаворыцца з асуджэннем маўклівых, залішне асцярожных людзей.* А што ж маем рабіць мы, бачачы знявагу, абразу і здзек не сям-там, а ўсюды і скрозь, на кожным кроку, і найперш – здзек са святыняў святынь народа? Які павінен быць наш гнеў і наш пратэст? Але ці можа быць пратэст у народа, які прыдумаў для сябе ж такую геніяльную прыказку: «Маўчы, язычку, кашкі дам!» (Н.Гілевіч. Вось што чакае і нас, калі...).

– *Аксамітаў,* с. 186: Язычок, маўчы, піражок з’ясі.

**Машына любіць догляд і змазку, а конь – авёс і ласку.** *Часцей гаворыцца ў дачыненні да каня праз супастаўленне з адносінамі да машыны.* Іван Аляксандравіч кіўнуў на коней: – Будзеш іх карміць, паіць, чысціць. Машына любіць догляд і змазку, – дадаў ён, – а конь – авёс і ласку (У. Гніламёдаў. Усход). – Чысціня ў вас, дзядзька Коля, як заўсёды. – Машына, Віця, любіць што? – ... ласку і змазку, – успомніў Барташ (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 516: Машына любіць змазку, чыстату і ласку.

**Мая душа не крывая, усё прымае.** *Я чалавек памяркоўны, нічым і нікім не пагарджаю.* [Шчырэцкі:] О божа! Чы я гэтага ад маёй дачкі спадзяваўся?.. [Навум:] Нічога, нічога, пане куме! Хоць яна з панам трошкі пагаманіла, ды мы ж тут блізка былі. Я не чураюся сваяго слова, вазьму яе, бо знаеш прымаўку: мая душа не крывая, усё прымае (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – Кубак кавы? Ці мо белавежкі падарожанай, што й рэцэпту іншага, што й у пляшцы такой – як цацка? – Як сабе, так і мне. Душа мая не крывая, што дасі – прымае (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог). – Панятлі-

вы ты мой, за гэта табе і каньяку не шкада. – Мая душа не крывая, усё прымае (У. Ліпскі. «Чыстая брахня»).

* [Гаспадарык] вінаваты стаяў перад грознай цёткай Агатай і калаціўся – чыста асінавы ліст: – Я што? – Ён яшчэ і храбрыўся: – Я, як той казаў, збоку прыпёку. Мая душа крывая, усякага прымае... (С. Кухараў. Зорка Канікула). Мая душа прамая – усё прымае. Хоць кароткая шыя, але добра п’е. Чэрава – не дзерава – раздасца (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Насовіч,* с. 38: Душа мая не крывая, усё прымае (паясняецца трыма рознымі маўленчымі сітуацыямі, у якіх прамаўляецца прыказка); *Выслоўі,* с. 148: Душа мая не крывая, яна ўсё прымае.

**Мая справа цялячая: пад’еў ды ў хлеў.** *Кажа той, хто лічыць, што ад яго нічога не залежыць, што ён не можа і не будзе ўмешвацца ў якую-н. справу.* **Сін.:** *Мая хата з краю і я нічога не знаю; Я не я і хата не мая.* – Ты за Банадыся, Яўхім? – Не, ён сам за сябе. – Значыцца, за Банадыся. – Чаму гэта я за Банадыся? А божа мой. – А што ж, пачакаўшы крыху, дык ты сам гэтакі, як Банадысь, зробішся. – А божачка, што ты маеш да мяне! Мая справа цялячая: пад’еў ды ў хлеў (К. Чорны. Вясна).

* [Гарбуз:] Што праўда – праўда тое, пані Вонж. Усе справы мне – пад’еў ды ў хлеў (М. Клімковіч. На Віленскім шляху).

**Мая хата з краю <і я> нічога не знаю.** *Кажа той, хто лічыць, што ён не мае ніякага дачынення да чаго-н.* **Сін.:** *Мая справа цялячая: пад’еў ды ў хлеў; Я не я і хата не мая.* Высахла зямля, перасохлі балоты, пачалі гарэць тарфы. Мяне гэта дужа непакоіла. Брала злосць на людзей, якія праходзілі міма гэтых пажараў па прыказцы: мая хата з краю, я нічога не знаю (Я. Колас. На схіле дзён). – А яшчэ, даражэнькі паночку, няхай ён мне пашые боты за маю ласку. Вось жа сам пан бачыць уборы мае, – трасе Казюк перад каморнікам сваімі лахманамі. – Мая хата з краю, нічога не знаю, – кажа каморнік на ўсю яго каніцель... (М. Гарэцкі. Калоніі). Я спрытна заткнуў дзюрачку ў бочцы мяккім хлебам, і квіта, пане Мікіта! Мая хата з краю, я нічога не знаю! Зняў шапку, пакланіўся панічу... (З. Бядуля. Дудар). Жахліва, калі мы з чалавека пачынаем рабіць вырадка. Бацькі – патачкай, а мы найчасцей тым, што мая хата з краю і я нічога не знаю (А. Жук. Чорны павой).

– *Насовіч,* с. 115: Нічога не знаю, мая хата з краю; *Ляцкі,* с. 20: Мая хата з краю, нічога не знаю.

**Меней (менш) гавары – болей (больш) пачуеш. –** Чаму вы мала гаворыце? – спытаў ён [Ласла] цераз перакладчыцу. – У нас

на Беларусі ёсць такая прымаўка: «Меней гавары – болей пачуеш» (В. Праскураў. Далёка ад дому).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 466: Менш гавары – больш пачуеш.

**Менш гавары – больш пачуеш.** *Гл.* Меней (менш) гавары – болей (больш) пачуеш.

**Міласці прашу к нашаму шалашу.** *Жартаўлівае запрашэнне далучыцца да кампаніі, сесці за стол.* [Скробат:] Ці ёсць хто ў хаце? [Цётка:] Ёсць, ёсць. Міласці прашу к нашаму шалашу (К. Крапіва. Людзі і д'яблы).

**Міл (мілы, дараг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.** *Пра замілаванне да роднага краю, да мясцін, дзе нарадзіўся хто-н.* **Сін.:** *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл; Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіся; Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае; Мой родны кут, як ты мне мілы; Няма лепшае справы ад свае хаты; Родная зямелька як змораному пасцелька; У родным краю, як у раю.* А ты... а цябе дадому пацягнула? Ясна... Правільна кажуць: міл той куток, дзе абрэзалі пупок (Л. Калодзежны. Трэція пеўні). – А што ён у сваім Бабчыным Сконе, гэты вясковы чалавек, бачыць? За што ён чапляецца? – запытаў Сцепановіч. – Без святла! Без магазіна! Без клуба! Без школы!.. Але не перабіраецца ў Налібакі. І чаму? Бо ў яго такі характар, такая псіхалогія: мілы той куток, дзе рэзалі пупок!.. (Г. Далідовіч. На новы парог). Кожнаму любы, блізкі сэрцу край, дзе ты нарадзіўся і вырас, дзе жывуць ці жылі твае бацькі. Нездарма ёсць такі выраз: «Мілы той куток, дзе абрэзалі пупок». Таму менавіта роднаму Палессю прысвяціў амаль усе свае творы вядомы беларускі мастак Уладзімір Гардзеенка... (Беларуская думка. 2006. № 2). Дараг той куток, дзе рэзалі пупок... А чалавек без радзімы, што салавей без песні (І. Гурскі. Вецер веку). [Прадслава:] Я, між іншым, адданая патрыётка Бацькаўшчыны. Не хачу нікуды з Полацка з'язджаць. Нездарма кажуць, мілы той куток, дзе абрэзалі пупок. Мы з Валодзем будзем тут жыць... (Я. Казлоў. Старажытны перыяд, або Гісторыя і каханне). **Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок. –** А можа, – раптам заскакалі хітрынкі, – можа, ты ўжо з гэтага выраю дадому захацеў? Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок (А. Варановіч. Скрыжаванні).

– *Насовіч,* с. 77; Мілы той куток, дзе рэзалі пупок; *Прыказкі,* кн. 1, с. 287: Дараг той куток, дзе рэзалі пупок; Мілы той куток, дзе вязалі пупок.

**Мілы той куток, дзе абрэзалі пупок.** *Гл.* Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.

**Мілыя сварацца – толькі цешацца.** *Гаворыцца як сцвярджэнне, што не варта надаваць значэнне сварцы паміж блізкімі, бо яны хутка паміраюцца.* – Нічога, памірыліся. Мілыя сварацца – толькі цешацца. Твой, – Уліта ўсім казала «ты», – хоць ціхі, а мой нябожчык, бывала, з кулакамі лез. А нічога – жылі (І. Шамякін. Ах, Міхаліна, Міхаліна). [Агей Мінавіч:] Што гэта ты, мой зайчык, сёння замаркочаная? Радавацца трэба, а не журыцца. Ці Юстын Фаміч пакрыўдзіў? Ну, гэта не бяда. Мілыя сварацца, толькі цешацца (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы). – Ці не сватацца ты, Лёнік, прыйшоў? Чаму ж адзін? – Ну, нічога, мілыя сварацца – толькі цешацца, кажуць людзі... (А. Пальчэўскі. Жнівеньская раніца).

**Мінулася кату масленіца.** *Кончылася для каго-н. лёгкае, прывольнае жыццё.* Гэта Галавін? Толькі што прачытаў Ваш фельетон «Мінулася кату масленіца» (І. Гурскі. Вецер веку). Сцяпан Ягоравіч – чалавек настойлівы. Задумаў – скруціў нас у бараноў рог, не чакаючы канца навучальнага года. – Так, паскачаце вы цяпер. Мінулася кату масленіца (Я. Ермаловіч. Малады старшыня).

* Прывыклі вось да млека ды яйка! Кончылася ваша масленіца! (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

– *Федароўскі*, с. 151: Мінулася кату масленіца; *Прыказкі,* кн. 2, с. 169: Мінулася кату масленіца.

**Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі.** *Кончыліся для каго-н. маладыя гады з іх уздымам, росквітам жыцця.* А наш Жучка ўжо гэтак, як калісьці, не брэша – нейкую хрупку дастаў. Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі (З. Бядуля. Летапісцы).

* Э-хе-хе, былі рокі, калі паны браліся ў бокі. А які з мяне музыка быў у тых гадах, дык толькі дзяржыся! (З. Бядуля. Дудар).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 320: Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі.

**Млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе.** *Балбатлівасць, пляткарства прыводзяць да непрыемнасці, бяды.* [Куторга:] Бойцеся бога, не губіце беднага чалавека. Мала што язык малоў, – добра кажа прыказка: млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе. Выбачайце майму дуру (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта). Прыкусі язык. Млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе (П. Місько. Пагаварылі).

– *Федароўскі,* с. 127: Млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе; *Прыказкі,* кн. 2, с. 390: Млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе.

**Многа шуму з нічога.** *Функц. не зам. Пра якое-н. нечаканае вялікае ажыўленне, шум, беспарадак і пад., што, аднак, або было беспрычынным, або не дало належных вынікаў.* Ну, вось і ўсё. Усё скончылася. Многа шуму з нічога. Хіба такому цямцю-лямцю, як я, рабіць рашучыя крокі? (І. Шамякін. Пошукі прытулку). Абверг закон захаванне энергіі – стварыў многа шуму з нічога (ЛіМ. 1980. № 8).

– Калька з англійскай мовы: *Much ado about nothing*. Загаловак камедыі (1600) англійскага паэта і драматурга У. Шэкспіра (1564 –1616).

– *РБС*, т. 2, с. 612: Многа шуму з нічога.

**Можа надвое варожа.** *Усяляк, па-рознаму можа быць. Ужываецца як рэакцыя на слова м о ж а ў папярэднім выказванні.* Выбачайце, калі ласка, за шчырае пісьмо. Можа, яно вам і дапаможа. Хоць кажуць: можа надвое варожа (А. Макаёнак. Старшыні калгаса «Спартак»). – Управіцеся сёння? – Справа такая, што і сам не ведаю... – Няўжо сакрэт? – Можа, і так... – Можа надвое варожа (П. Кавалёў. Суседзі). – Вазьміце, га, – яшчэ раз папрасіла Рая. – А ты хіба не бачыш, як мы едзем, – злосна сказаў адзін з тых, што мянялі кола. – Дык, можа, паправіце, – жаласна сказала Рая. – Можа надвое варожа, – буркнуў мужчына (Л. Арабей. Іскры ў папялішчы). – Можа, пачакаем з гэтай фермай? – нясмела перашэптваліся старэйшыя калгаснікі. – Не гарыць жа... – Можа надвое варожа, – пярэчылі маладзейшыя (В. Праскураў. Высокі поўдзень). – Будзем на лепшае спадзявацца... Можа, неяк і абыдзецца. – Можа – надвое варожа. А калі не абыдзецца?.. Падумай, а то давай не будзем чакаць, а сёння ж, уночы, і махнём у дарогу? (Б. Сачанка. Аксана).

– *Ляцкі,* с. 21: Можа надвое варожа, а без малітвы і бог не паможа; *Прыказкі,* кн. 2, с. 174: Можа надвое варожа.

**Мой бацька (тата) нікому не вінен: у аднаго пазычыць, другому аддасць.** *Насмешка з таго, хто не вылазіць з даўгоў.* Маці як пазычыць грошы і не можа іх у час аддаць, непакоіцца ўсё... Затое ж мой тата нікому не вінен: у аднаго пазычыць, другому аддасць (С. Лобач. Горкую лілею пакашу...).

– *Насовіч,* с. 78: Мой бацька нікому не быў вінен, у аднаго, бывала, возьме ды другому аддасць; *Федароўскі,* с. 333: Мой татка нікому не вінен: у аднаго пазычыць, другому аддасць.

**Мой дом – мая крэпасць**. *Гаворыцца як станоўчая ацэнка свайго жылля і аховы, абароны ад мажлівых непрыемнасцей.* Ён думае, што Аркадзя – лёгкі Савачка, зараз жа і пабяжыць прама ў лапы. Няма дурных! Аркадзю на мякіне не правядзеш. Аркадзя дома пасядзіць, а дома ён не мае права мяне чапаць. Як казалі нашы саюзнікі, англічане, былі яны ў нас: «Мой дом – мая крэпасць». Увесь дзень Аркадзя з дому не выходзіў (У. Саламаха. Шурка Лёгкая Рука). А зараз ён [Сцяпан] разгублена глядзеў на старэнькую хаціну, якая быццам толькі і чакала, каб хто прыйшоў хутчэй і ўратаваў яе самую. «Мой дом – мая крэпасць...» – сумна ўсміхнуўся Сцяпан... (М. Філіповіч. Кветка для каханай). [Васіль (рашуча ступае да яе):] Галка! [Галя (засланяецца рукамі, адступае, але, відаць, што ёй хочацца, каб хлопец зрабіў нешта незвычайнае, смешнае):] Ну, ну... Мой дом – мая крэпасць (І. Шамякін. І змоўклі птушкі). Пяць вокан, што выходзілі на вуліцу, ужо былі закратаваны гэтымі палосамі. «Мой дом – мая крэпасць, – успомнілася Шуру недзе прачытанае. – Хлопцы займаюць кругавую абарону» (А. Шлег. Сталінскія байструкі).

* Мацвей Іванавіч кіўнуў на сядзібу: – Свой дом – свая крэпасць. – Як бачыце... Добры дом. Гэта ўжо Валя, а дакладней, яе радня пастаралася, каб у нас была такая хаціна (В. Якавенка. Ах, Арэса, Арэса...).

– Калька з англійскай мовы: *My house is my castle* (літаральна «Мой дом – мой замак»). Паходзіць з трактата англійскага юрыста Э. Кока (1552 – 1634) «Трэці інстытут законаў Англіі».

**Мой родны кут, як ты мне мілы.** *Функц. не зам. Пра замілаванасць да роднага краю, да мясцін, дзе нарадзіўся хто-н., да ўсёй Беларусі.* **Сін.:** *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл; Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся; Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае; Міл той куток, дзе абрэзалі пупок; Няма лепшае справы ад свае хаты; Родная зямелька як зморанаму пасцелька; У родным краю, як у раю*. Паспрабуйце, напрыклад, перакласці на рускую мову крылатае коласаўскае «Мой родны кут, як ты мне мілы». Радок стаў беларускай ідыёмай, знаёмай кожнаму беларусу з маленства (Р. Барадулін. Ці цяпер адродзімся, ці ніколі!). [Сяргей паставіў чамадан, радасна аглядае пакой:] Мой родны кут, як ты мне мілы... Праўду кажуць, у гасцях добра, а дома лепей (В. Зуб. Незвычайная праверка). А пісаць сёння пра што – вось хаця б далей распрацоўваць бясконцую тэму: «Мой родны кут, як ты мне мілы!..» (У. Арлоў. Творцы і

ўладарцы). Гэта родны кут, які я меў хіба што ў маленстве. Асаблівы сэнс набывалі радкі паэта, якога вучыў у школе: «Мой родны кут, як ты мне мілы» (І. Шамякін. Зона павышанай радыяцыі).

* І ляцелі думкі. І дрыжалі душы дзіўна-маркотным гукам: «Мой родны кут, як ты мне мілы, уцяміць цябе не маю сілы». «Эге ж, уцяміць, пазнаць, зразумець ніколі не здолееш», – быў чуцен шэпт (М. Гарэцкі. У лазні).

– Першы радок з паэмы Я. Коласа «Новая зямля» (1923).

**Мой тата не вінен: у аднаго пазычыць, другому аддасць.** *Гл.* Мой бацька (тата) нікому не вінен: у аднаго пазычыць, другому аддасць.

**Муж баіць пра паходы, жонка – пра расходы**. *Гаворыцца аб суладдзі ў гаспадарцы паміж мужам і жонкай, хоць, як здаецца, размаўляюць яны пра розныя рэчы.* Кажуць, муж баіць пра паходы, жонка – пра расходы. У тваёй сям'і ўсё было распісана, як у вайсковым статуце. Муж будуе хату, жонка напаўняе яе цяплом. Муж засыпае ў бочку, кладзе ў кубел, а жонка бярэ ўсё адтуль і носіць на стол (У. Ліпскі. Бацька).

**Муж (гаспадар) і жонка – найлепшая сполка.** *Муж і жонка супольна і дружна жывуць, аднолькавыя ў сваіх жаданнях, намерах і г. д.* **Сін.:** *Муж і жана – адна сатана.* [Гаворка:] Мы, паэты, заўжды хаваемся за народную мудрасць, калі нічога не можам прыдумаць свайго, – дык вось ён, мудры народ, сказаў: «Гаспадар і жонка – адна кішонка». [Галя:] Гавораць і лепш: «Муж і жонка – найлепшая сполка». Тут больш мудрасці, бо маецца на ўвазе супольнае жыццё, а не супольнае спажыванне (І. Шамякін. Выгнанне блудніцы). Нездаровая я, дачушка. Але, як той казаў, – раз радзіла маці, то трэба паміраці. Цябе, дзіця, шкада. Дзядзькі дзядзькамі, але ў сваіх дзеці гадуюцца. Замуж табе трэба. Гаспадар і жонка – найлепшая сполка. Ідзі, Анютка, за Петрыка (Т. Сапранович. Жыць ды цешыцца...).

– *Санько*, 205: Мужык і жонка – найлепшая суполка (сполка); Гаспадар і баба – адна рада.

**Муж і жана – адна сатана.** *Муж і жонка аднолькавыя ў сваіх жаданнях, імкненнях і пад.* **Сін.:** *Муж (гаспадар) і жонка – найлепшая сполка.* Хоць жылі яны, як кот з сабакам, але – не дарэмна кажуць у народзе, што муж і жана – адна сатана, – не маглі не ўплываць адно на аднаго (І. Шамякін. Атланты і карыятыды). [Домна:] Мы з Анісімам ніколі яшчэ не пасварыліся. [Сасноўскі:] Недарма кажуць, што муж і жана – адна сатана, разбярэш іх, калі яны сва-

рацца, а калі мілуюцца (І. Гурскі. Патрыёты). – Арыштавалі ж яе!.. – Я-як... арыштавалі? – Муж у яе хаваўся, акавец... Мусі быць, дзялішкі за ім чысляцца. Ну – і яе заадно: муж і жана – адна сатана... (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). У каго ў маладосці калатнечы не бывае? А пасля міракцца і – глядзіш – жыццё пражываюць разам. Нездарма ж людзі гавораць: «Муж і жана – адна сатана» (В. Гігевіч. Калі пойдзе снег).

– *Насовіч,* с. 80: Муж да жана адна сатана: *Прыказкі,* кн. 2, с. 49: Муж і жана – адна сатана.

**Муж носіць мяшком, а гаспадыня – гаршком.** *Гаворыцца аб суладдзі ў гаспадарцы паміж мужам і жонкай.* Муж засыпае ў бочку, кладзе ў кубел, а жонка бярэ ўсё адтуль і носіць на стол. Розніца ў тым, што муж носіць мяшком, а гаспадыня – гаршком. Плуг корміць, верацяно апранае. Суладдзе, як у вядомай прыпеўцы... (У. Ліпскі. Бацька).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 68: Мужык не наносіць мяшком, што баба гаршком.

**Мужык глядзіць, як варона, а хіцер, як чорт.** *Устар. Гаворыцца як ацэнка хітрасці і праніклівасці мужыка.* [Навум:] Але, бачыцца, хтось ідзе? Здаецца, чы не яго толькі казала мне пільнаваць яго загладуха? Пайду да скажу ёй, што ўжо ідзе. Але не, яна казала аб адным, а іх тут двох. О! І я не дурань. Схаваюся да падслухаю, чы не выгаваруцца аб чым. О гэтак! О! І я ў цемя не біт. Добра кажа прымаўка: мужык, як варона, а хіцер, як чорт (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч,* с. 80: Мужык глядзіць, як варона, а хіцёр, як чорт; *Ляцкі,* с. 21: Мужык глядзіць, як варона, а хіцер, як чорт.

**Мужык – дурань, як умее, так і пее.** *Кажуць у апраўданне, што хто-н. гаварыў шчыра, проста, так, як умее.* [Навум:] Даруй, вяльможны пане, якім слаўцом і загнявіў цябе, але ж мей увагу на тое, што мужык – дурань, як умее, так і пее (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч,* с. 84: Мужык дурань, як умее, так і пее; *Рапановіч,* с. 119: Мужык як умее, так і пяе.

**Мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца.** *Муж з жонкай сварыцца, калі няма з чаго варыць страву.* А яно ж і праўда: мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца... Як жа ўладзіць хадзяіну свайму смачна зварыць, калі няма з чаго? От і стараешся, выдумляеш (А. Масарэнка. Свякруха і нявестка). Жартаваў Кірыла да апошняга. Днём, пачуўшы, як сва-

рацца Апраска з Пятром, засмяяўся: – Калі жонка з мужыком сварыцца, дык у гаршку трасца варыцца (У. Гніламёдаў. Усход).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 45: Мужык з жонкай сварыцца – у гаршку трасца варыцца; Тады муж з жонкай сварыцца, калі ў гаршку трасца варыцца; Калі ў печы трасца варыцца, тады муж з жонкай сварыцца.

**Мужыку розум прыходзіць па шкодзе.** *Кажуць, калі хто-н. са спазненнем рэагуе на што-н., калі патрэбная думка прыходзіць пасля дапушчанага промаху, недагляду.* **Сін.:** *Каб той розум наперад, што пазней прыходзіць; Кожны па часе мае розум.* Тут трэба вузел, во так, бо зноў паскачуць [качаны капусты]. Як той казаў – мужыку розум прыходзіць па шкодзе (А. Кажадуб. Дарога на Замчышча).

– *Ляцкі*, с. 21: Мужыку розум прыходзе па шкодзе; *Янкоўскі,* с. 286: Яму розум прыходзе па шкодзе.

**Мый ды чашы, потым спяшы, заплаці каму, каб вывез з даму**. *Гаворыцца як жартаўлівае вызначэнне маладой незамужняй дзяўчыны.* [Куторга:] Дык чаго ж чакаць! Гэта, кажуць, кепскі тавар: мый ды чашы, потым спяшы, – заплаці каму, каб вывез з даму. [Ціхон:] Добра, пане Куторга, – бяры сабе дачку, і пасаг дам, толькі зрабі ласку: выцягні з бяды (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта).

– *Ляцкі*, с.12: Заплаці йшчэ каму, вывез гной з даму.

**Мыш капы не баіцца. 1.** *Гаворыцца ў дачыненні да жанчыны, несуадноснай па камплекцыі з мужчынам.* [Павел] высокі мужчына, а яна – маленькая, як мыш. Але праўду кажуць, мыш капы не баіцца, – колькі мужчын у яе перабыло. Пахаджваў нават і Габрыель Жагала (В. Адамчык. Кілавы д'ябал). – Не пара яна Рыгору. Не пара! Ён такі бугай, а яна – як перапялічка. – Мыш капы не баіцца... – Ха! Ха... (П. Місько. Градабой).

**2.** *Кажуць, часам іранічна, калі хто-н. не баіцца мацнейшага за сябе праціўніка.* Вось на гэтыя гумавыя дубінкі і рвануўся Майстра. Рвануўся і асеў. Не таму, што спалохаўся, мыш, як кажуць, капы не баіцца. Голас пачуў. Енк і плач (В. Казько. Да сустрэчы). – Майце на ўвазе, экіпіроўку паўстанца і салдата расейскай арміі не параўнаць. – Затое на нашым баку веданне мясцовасці, раптоўнасці і... імпэта, – не здаваўся Артур. – Як у нас кажуць, мыш капы не баіцца (А. Наварыч. Літоўскі воўк). – Прабачце, дазвольце прайсці. – Куды, малеча, прэш?.. Раздушаць... – Мыш капы не баіцца, – рагатнуў іншы голас (Л. Левановіч. Рэферы).

– *Янкоўскі*, с. 193: Мыш капы не баіцца; *Прыказкі*, кн. 1, с. 136: Мыш капы не баіцца.

**Мэта апраўдвае сродкі**. *Кніжн. Звычайна гаворыцца з недадабрэннем у дачыненні да таго, хто для дасягнення якой-н. мэты выкарыстоўвае любыя сродкі, і ў тым ліку амаральныя.* Усе спосабы з благаславення Рымскага Папы, памятаючы «святы» яго наказ: «мэта апраўдвае сродкі», пускаюць яны [імперыялістычныя заправілы] у ход (Я. Колас. Вясна новага жыцця). Канонік гаварыў: «Нічога не паробіш, суровая неабходнасць. У нас вялікая мэта. Мэта апраўдвае сродкі. А граху не бойся... Павяршай дзела, як знаеш» (В. Чаропка. Архангел святой Ганны).

– Лічыцца, што гэты выраз, як аснова маралі езуітаў, склаўся на базе лацінскага выказвання *Cui licitus est finis, etiam licent media* (Каму дазволена мэта, таму дазволены і сродкі), якое належыць езуіцкаму святару і багаслову Герману Бузенбаўму (1600–1663) і змешчана ў яго трактаце «Асновы маральнага багаслоўя» (1645).

– *Іваноў*, с. 71: Мэта апраўдвае сродкі.

# *Н*

**На адно вуха слепаваты, на адно вока глухаваты.** *Ужываецца як адмоўная, іранічная ацэнка несправядлівага, непрыязнага чалавека.* Да гэтага, гуляючы ў конікі, як называў партыю ў шахматы Купала, пра Бэндэ Купала звычайна пачынаў: «На адно вуха слепаваты...» Колас дадаваў: «На адно вока глухаваты...» (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Янкоўскі*, с. 354: На адно вуха слепаваты; На адно вока глухаваты; *Выслоўі*, с. 70: На адно вока глухаваты; На адно вуха слепаваты.

**На адным месцы і (нават) камень <мохам> абрастае. 1.** *Жывучы на адным месцы, чалавек разжываецца, становіцца багацейшым.* Хоць і Ласток не бог ведае што, але ж мы тут крыху абжыліся... На адным месцы і камень мохам абрастае (С. Александровіч. На шырокі прастор). – А вы няблага ўладкаваліся, – заўважыў Сяргей. – Дык ты, напэўна, ужо даўно тут жывеш? – Не так і даўно, а мохам крыху аброс. Амаль два гады, як у гэты горад завітаў. А на адным месцы, як кажуць, і камень абрастае (І. Аношкін. Сустрэча). – Паслухайце мяне, дурную бабу, – гаварыла Рая. – На чорта нам тое Зазер'е, калі на добры толк. На адным месцы і камень абрастае мохам. Думаеш, там адзін мёд...

Тут і дзеткі да школкі прывыклі, і мама ля нас... (В. Шырко. Дыханне жыта).

**2.** *Чалавек зжываецца з аднастайнымі, прывычнымі абставінамі, з месцам, дзе жыве.* Кароль жа ўсё больш госцем у сваім двары бывае, таму не ведае, што ў жончынай ложніцы дзеецца. Аднак Сонка з маладымі ахмістрынямі час бавіць. А на адным месцы нават камень мохам абрастае (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю). – На адным месцы і камень абрастае! – грымеў Кавалёў голас. – Хто ад роднай зямлі адрываецца, той не здольны пусціць на новым месцы глыбокія карані! (В. Якавенка. Наперад па крузе). Чалавек нараджаецца, каб жыць, працаваць. А на адным месцы, гэта ж кожнаму вядома, нават камень мохам абрастае. Дзе ж яшчэ, як не дома, у сваёй вёсцы, сярод людзей сваіх, і жыць чалавеку... (Б. Сачанка. Соль).

* Нарэшце [Ігнат Сцяпанавіч] глыбока зацягваецца, пускае дым, гаворыць ціха, як сам сабе: – Камень на адным месцы і той абрастае, а пачні качаць яго туды-сюды – у порах рассыплецца (А. Кудравец. Сачыненне на вольную тэму).

– *Насовіч,* с. 86: На адным месце і камень абрастаець; *Федароўскі,* с. 185: На адном месцу і камень мохам абрастае; *Янкоўскі*, с. 193: На адным месцы і камень абрастае.

**На бабскім (бабіным) языку кароста сядзіць.** *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто не ўмее захоўваць тайну або займаецца пустымі размовамі.* [Бірка:] Шкада, што гаспадыні дома няма. [Бусыга:] А ведаеш, васпане, пры такой справе, можа, і лепей, калі яе тут не будзе: на бабскім языку кароста сядзіць (Я. Колас. У пушчах Палесся). [Фядора:] Во праўду людзі кажуць, на бабіным языку кароста сядзіць (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

**На базары і бык цельны.** *Гл.* На кірмашы (базары) і бык цельны.

**На беднага Макара і шышкі валяцца.** *На няшчаснага чалавека абрушваюцца ўсякія непрыемнасці.* «На беднага Макара і шышкі валяцца» – гэтак і з намі, беларусамі, усякі нападае на нашу цемнату за тое, што мы слабы, бедны (В. Ластоўскі. Ці-ткі мы сапраўды цямней за ўсіх?).

– *Насовіч*, с. 84: На грэшнага Макара і шышкі валяцца; *Прыказкі*, кн. 1, с. 454; кн. 2, с. 420: На няшчаснага Макара і шышкі валяцца; На беднага Івана ўсе шышкі валяцца. На аснове прыказкі склаўся як яе «абломак» фразеалагізм <*усе*> *шышкі валяцца (сыплюцца, ляцяць)* на каго, захаваўшы частку сэнсавага зместу ўсёй

прыказкі – ‘усякія непрыемнасці абрушваюцца на каго-н.’: «– А пры чым тут Беражкоў... – Э, не, цяпер *усе шышкі* на яго аднаго *пасыплюцца...*» (Я. Васілёнак).

**На Беларусі пчолы як гусі <мёд кашамі носяць>.** *Часцей гаворыцца як замілаванне да роднага краю.* «На Беларусі пчолы як гусі», – прыгадваў зямляк у выраі. Зоры спелі, зоры гаслі, мох зязюльчын рос на вываратнях. «Ем сырую зайчыну, ды люблю Айчыну!» – прысягаў паўстанец нябёсам (Р. Барадулін. «На Беларусі...»). Усе смяюцца [слухаючы пра аўстралійскіх павукоў]... Сапраўды, нам толькі іхніх павукоў не хапае. А свае як жа? На Беларусі пчолы як гусі (А. Кажадуб. Лоўчыя). Асабліва вылучаўся Мазырскі павет, дзе на кожныя сто двароў было 293 калоды – без малога тры пчаліныя сям’і на адну сялянскую. Ці не ў тыя часы нарадзілася прымаўка: на Беларусі пчолы як гусі, мёд кашамі носяць (В. Жук. Лыжка мёду, бочка дзёгцю).

– *Федароўскі*, с. 30: На Белай Русі пчолы як гусі; *Прыказкі*, кн. 1, с. 68: У Беларусі пчолы як гусі, рэзгінямі мёд носяць; *Янкоўскі*, с. 391: На Беларусі пчолы як гусі.

**На Беларусі ўсе Марусі.** *Гаворыцца суразмоўнікам як часцей жартаўлівая рэакцыя на імя «Маруся» ў папярэднім выказванні.* – Лепш памерці ў мужа ў нагах, чым у дзяцей на руках, – гаварыла маладая ўдавіца Маруся, уздыхаючы: – Мне ўжо не будзе таго шчасця, хоць яшчэ Маруся, калі пастараюся... – На Беларусі ж усе Марусі, – можа, спецыяльна для Янкі Купалы як паэта яна [нявестка] ні з таго ні з сяго аб’явіла... – Пэўна, мусіць, – у рыфму сказаў Купала (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Выслоўі*, с. 71: На Беларусі ўсе Марусі.

**На бога спадзявайся, а (ды) сам не давайся (не агінайся, не зявай).** *Ужываецца як рэакцыя на слова б о г у папярэднім выказванні і як парада разлічваць не на каго-н., а на свае ўласныя дзеянні.* **Сін.:** *Бог то бог, але і сам не будзь жох.* [Дзед Бадыль:] Няхай табе, панечка, бог заплаціць за тваю дабрату... [Батура:] На бога спадзявайся, ды сам не давайся (К. Крапіва. Партызаны). – Людзі крыўдзяць адзін аднаго, гнятуць, от як твой гаспадар, а мой сусед Яўхім Халуста... – І бог яго не карае, Сымон! Не! Ён нават памагае. – А ты чуў прыказку: на бога спадзявайся, а сам не агінайся? (А. Чарнышэвіч. Засценак Малінаўка). [Італьянец] не дужа спадзяваўся на пратэкцыю папы рымскага, створаную яму перад богам. Дзейнічаючы па прынцыпу: «На бога спадзявайся, а сам не

зявай», Умберта Нобіле не патрацію на даследаванне полюса і трыццаці гадзін... (У. Корбан. Цеплаход ідзе на Поўнач).

* [Лявон:] Стануць людзі жыць багата, будзе свята, прыйдзе свята! [Дзед Струкач:] Дай жа божа! [Адась:] На бога няма чаго спадзявацца, трэба самім дабівацца (І. Козел. Папараць-кветка). – Мо ты ўжо табліцу праверыў? Мо выйгралі? – Смалы мы выйграем! – весела сказаў Мечыслаў Станіслававіч. – Як той казаў, на бога і на табліцу спадзявайся, а сам маху не давай! (Я. Васілёнак. Сучасная тэма).

– *Насовіч,* с. 82: На бога спадзявайся, а сам, нябога, спарамляйся; *Ляцкі,* с. 22: На бога надзейся, а сам не плашай; *Федароўскі,* с. 290: На бога спадзявайся, але і сам старайся.

**На бяду мала трэба (многа не трэба).** *Бяда можа здарыцца нечакана, раптоўна.* – Пражылі ў Ліпніках месяц, нічога не здарылася, пражывём і адну гадзіну, пакуль сцямнее... Хто ў лес на вечар пойдзе да нас? Яшчэ немцы не падурэлі. Ля разбітых вагонаў топчуцца... – На бяду мала трэба... (А. Карпюк. Пушчанская адысея). На дварэ тады стаяў студзень. Сяргей на сваёй калясцы выехаў падыхаць свежым паветрам (сям'я жыла ў дачным пасёлку) і... На бяду, кажуць, многа не трэба: кола ўехала ў яму, ён разам з каляскай апынуўся на зямлі, на ўзбочыне, паміж двух вялікіх кустоў (Я. Кобрынец. Пад сузор'ем слёз).

– *Федароўскі,* с. 27: На бяду мала (нямнога) трэба.

**На бязлюддзі і поп чалавек.** *Калі няма каго-н. лепшага, то і той, хто ёсць, лічыцца добрым.* **Сін.:** *На бязрыб'і і рак рыба; У цёмным месцы і гніляк свеціцца;Чорт з голаду і мухі еў.* [Кардынал:] Як гэта вашы беларусы кажуць: «На бязлюддзі і поп чалавек». А я – каталіцкі поп! Хоць я чорны, затое праворны (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка). Ён, можа, нічога і не разумеў у драматычным мастацтве, але калі няма больш свядомага беларуса, дык, як кажуць, на бязлюддзі і поп чалавек! (А. Мрый. «Цар Максімільян» у вёсцы).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 333: На бязлюддзі і поп чалавек; У недастатку людзей то і поп чалавек; У аднаселлі і поп чалавек.

**На бязрыб'і і рак рыба.** *Калі няма нічога лепшага, то прыходзіцца абмяжоўвацца і тым, што ёсць.* **Сін.:** *На бязлюддзі і поп чалавек; У цёмным месцы і гніляк свеціцца; Чорт з голаду і мухі еў.* Справы не чакалі, і ён [пан Вячорык] прыняўся за тлумачэнне агенту новага задання. З гэтай прычыны ён і выклікаў яго. Нічога не парадзіш, на бязрыб'і і рак рыба, а на бязлюддзі і Сашка – чала-

век (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). Што Стася? На бязрыб'і, як кажа мая гаспадыня, і рак – рыба. Не той гэта чалавек. Не па мне. У Стасі свае дарогі, у мяне – свае (А. Кандрусевіч. Кругі на белай паляне). [Данута:] Юстын Фаміч, вядома, не арол, але не горш за другіх. Зразумела?.. [Ганузя:] Зразумела... На бязрыб'і і рак рыба (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы). Хоць і на сто метраў пад зямлёй бачыць наш першы сакратар, але на гэты раз ён даў маху, не тую падабраў кандыдатуру. Яго можна зразумець: на бязрыб'і і рак рыба (В. Шырко. Дыханне жыта).

* І ад нашых мужыкоў адмаўляцца нельга... Ва ўсякім разе на нашым бязрыб'і пакуль і рак сыдзе за шчупака (І. Чыгрынаў. Свае і чужынцы).

– *Насовіч,* с. 82: На бязрыб'і і рак рыба; *Прыказкі,* кн. 1, с. 244: На бязрыб'і і рак рыба.

**На вайне як на вайне. 1.** *На вайне, у ваенных умовах усякае можа здарыцца. Гаворыцца часцей як апраўданне якіх-н. дзеянняў, учынкаў, спраў у ваенны час ці як прымірэнне з тым, што здарылася.* **Сін.:** *Вайна ўсё спіша.* Пакружыўшы яшчэ з хвіліну і не пачуўшы выбуху [падбітага самалёта], штурман лёг на зваротны курс. – Халера. Гэта вайна, – заспакойваў ён сябе. – На вайне як на вайне, – раздражнёна амаль выкрыкнуў ён крыху пазней (А. Дашкевіч. З вышыні птушынага палёту). Не зважаючы на поўную дрывотню, жаўнеры ламалі на дровы згароду... Зрэшты, на вайне як на вайне (У. Арлоў. Сны імператара.) Камандуючы мяне не прыспешваў, інакш даў бы знаць: з палком у яго сувязь надзейная, а батальён звязаны з штабам палка не толькі па радыё, але і палявым тэлефонам. На вайне як на вайне (І. Шамякін. Зона павышанай радыяцыі).

**2.** *Гаворыцца, калі неабходна прынароўлівацца да незвычайных абставін жыцця.* І я выйшла замуж... У другі раз... за чалавека, які забіў бацьку майго дзіцяці... маё каханне... Дваццаць гадоў з ім пражылі, дачку нарадзіла. Дзяцей любіў, майго сына любіў, як свайго. Але ніхто не здагадваўся, не ведаў... якія ночы я пражыла... пераплакала... У мяне была яшчэ адна вайна. На вайне як на вайне. Яго пякла рэўнасць... «Ты Івана кахаеш, а не мяне. Ніяк прах не забудзеш». У сіняках, у крывавых сіняках хадзіла... (Крыніца. 1997. № 4).

– Калька з французскай мовы: *A la guerre comme a la guerre.*

**На воўка памоўка, а мядзведзь цішком.** *Падазраваюць аднаго, а вінаваты не ён, а іншы.* Людзі кажуць, такога яшчэ не было,

каб адным стрэлам два будынкі запаліла... Цётка Мальвіна адно цвердзіць: «На воўка памоўка, а мядзведзь цішком» (А. Пальчэўскі. Запознены пасаг).

– *Насовіч*, с. 83: На воўка памоўка, а мядзведзь з падналуску; *Янкоўскі,* с. 221: На воўка памоўка, а мядзведзь цішком.

**На выбітай дарозе трава не расце.** *Гл.* На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.

**На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.** *У гуляшчай, распуснай жанчыны дзяцей не бывае.* Бацька, казалі людзі, пракляў дачку-ўцякачку, бачыць яе не хоча і крычаў, напіўшыся ў Белазора, што Дзіна адна такая гуляшчая з усіх Радзімавічаў і што на вытаптанай дарозе трава не расце (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі). Кажу сёння нашаму прыдурку ездавому: бяры мяне, Дзёмка, замуж, добрай жонкай буду, а ён рагоча: на ліха ты мне? Ад цябе дзяцей не дачакаешся, бо на выбітай дарозе трава не расце. Уяўляеш, па самым балючым месцы секануў (А. Асіпенка. Цыркачка і маёр).

– *Насовіч,* с. 89: На торнай дарозе трава не расцець; *Прыказкі,* кн. 2, с. 23: На торнай дарозе трава не расце.

**На вяку (жывучы) усяго нажывеш – і Кузьму татам назавеш.** *У жыцці здараецца так, што абставіны прымушаюць выказваць пашану каму-н.* [Пацяруха:] Ды ён не зайздросціць, ён... ад хвалявання так сказаў. Нервуецца вельмі – лекцыя пад пагрозай зрыву. [Ганна Піліпаўна:] Ад хвалявання ўсё можа быць. Нездарма ж людзі кажуць, жывучы, усяго нажывеш – і Кузьму татам назавеш (Н. Гілевіч. Не кажы «гоп»...).

* Баўдзей хітра зірнуў на Лабановіча. А Лабановіч падумаў: «На свеце пажывеш і Баўдзея другам назавеш» (Я. Колас. На ростанях). Усяго было... Кажуць, у жыцці ўсяк нажывешся – і Кузьму родным бацькам назавеш... (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). [Дар'я:] Бач, якая мяккая стала, хоць к хвораму месцу кладзі. А то нос вышэй коміна насіла! Ага! Як у бяду ўпадзеш, Кузьму бацькам назавеш (М. Чарот. Мікітаў лапаць).

– *Насовіч,* с. 83: На вяку ўсяго нажывеш, і Кузьму татаю назавеш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 408: Усяго нажывеш, як пажывеш, – і Кузьму бацькам назавеш.

**Нага нагу падпірае, рука руку абмывае.** *Адзін дапамагае другому ў якой-н. несумленнай справе.* **Сін.:** *Рука руку мые; Чорт за чортам цягне.* І да цябе прыходзілі, і ты абяцаў [дапамагчы з абменам кватэры]... Што ж гэта за парадкі такія: нага нагу падпі-

рае, рука руку абмывае, а людзі па паверхах матляюцца, прыступкі лічаць?! (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– Хутчэй за ўсё, склалася на аснове калькі з лацінскай мовы *Manus manum lavat* (літаральна «Рука руку мые») у выніку нарошчвання аднаструктурнага выказвання з суадноснымі саматычнымі кампанентамі (*рука – нага*).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 346: Нага нагу падпірае, рука руку абмывае; Нага ногу падпірае, рука руку абмывае.

**На голага <і> сабакі брэшуць.** *Беднага чалавека ўсе крыўдзяць.* Цяпер у Катоў асталася шастуха – шостая частка валокі, па цяперашніх мерах – тры гектары з нечым, ды і тая не зямля, адна камяніца. А на голага сабакі брэшуць (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 264: На голага і сабакі брэшуць.

**На Грамніцы нап’ецца певень вадзіцы.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; Грамніцы – свята ў хрысціян, якое ў праваслаўных прыпадае на 15 лютага па новым стылі, а ў католікаў – на 2 лютага.* «Вясною ўжо запахла... На Грамніцы нап’ецца певень вадзіцы». – «Ага, Стрэчанне сёння», – успомніў і Рыгор (П. Місько.Градабой).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 95: На грамніцы нап’ецца пятух вадзіцы; На грамніцы можна пеўню напіцца.

**На грош упіўся, на тры прытварыўся**. *Пра паводзіны п’янаватага чалавека.*

* [Шыдлоўская, з гневам:] Каб ты праваліўся... як ты мучыш мяне! На грош выпіў – на два прытварыцца трэба! (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Хадзем сюды, Усяслаў... У нас ж так: вып’ем на грош, а п’яныя на цэлы злоты... (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). Васіль узяў ды адразу прызнаўся: – Аднаму піжоністаму хлопцу падцёр нос, дык два тыдні пасядзеў [у зняволенні] і знялі з машыны. – П’яны быў? – Ну. – Вось якія мы!.. Вып’ем на грош, а глупства наробім на рубель (А. Алешка. Васілі).

– *Янкоўскі*, с. 340: На грош упіўся, на тры прытварыўся; *Рапановіч*, с. 130: На грош выпіў, на злот прытварыўся.

**На гэта лета добра і гэта.** *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто не асабліва дбае пра заўтрашні дзень.* Жывуць [у вёсцы] як набяжыць: на гэта лета добра і гэта (В. Гроднікаў. Аброць на Беларусь).

– *Насовіч*, с. 83: На гэта лета добра і гэта (з паясненнем: «Жартоўная падзяка за што-н. нязначнае»); *Янкоўскі*, с. 69: На гэта лета добра і гэта.

**На двух конях верхам не паедзеш.** *Немагчыма адначасова займацца дзвюма справамі.* – Не, бацька, – пастражэў тварам сын, – я не хачу, каб мяне з вучылішча выкінулі. Трэба выбіраць – альбо я, альбо яны [бандыты]. На двух конях верхам не паедзеш (А. Кажадуб. Хутар).

– *Рапановіч*, с. 200: На двух канісках адзін не паедзеш.

**Надзея – матка дурных.** *Няма на што спадзявацца. Гаворыцца з прыкрасцю ў бязвыхадным становішчы.* «Надзея – матка дурных», – кажа старая прыказка, шмат каму вельмі нялюбая. Я і сам некалі цярпець яе не мог. Цяпер троху прызвычаіўся (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). Абяцанка – цацанка, надзея – матка дурных. Тое вядома даўно. Колькі разоў лёс смяяўся з даверлівасці беларусаў, з нашай вясковай дурноты! (В. Быкаў. Не бойцеся суду гісторыі...). Спадзяванне толькі ў пошуку новых, невядомых дагэтуль лекаў. Ці знойдзем іх?.. Прабачце за жорсткі гумар, але нагадаю даўно вядомае і практыкай (і праўдай) жыццёвай і мастацкай пацверджанае: надзея сапраўды памірае апошняй, але ж помніце, што надзея – матка дурных (А. Карлюкевіч. Дзе тая «сапраўднасць» жыцця?).

**Надзея памірае апошняй.** *Функц. не зам. Кажуць як суцяшэнне, што нельга страчваць надзею нават у самых крытычных жыццёвых абставінах.* Дырэктар выдавецтва.. суцяшае мяне аптымістычным пафасам: – Надзея памірае апошняй! – Здараецца, што аўтар апярэджвае... – Не будзем спяшацца! (А. Васілевіч. Я жыву ў Краіне...). Спадзяванні ёсць спадзяванні. Нездарма ж кажуць, што надзея памірае апошняй (Я. Лецка. Згода...). У шчымлівым самападмане людзі паўсюль звязваюць з Новым годам лепшыя спадзяванні. А як жа іначай? Надзея ж памірае апошняй! (ЛіМ. 2000, 22 снеж.). – Вы згубілі ўжо веру ў тое, што вашу справу могуць перагледзець? – Як кажуць, надзея памірае апошняй. Я спадзяюся на справядлівы перагляд (Звязда. 2000, 28 лістап.). «Надзея памірае апошняй, – часта паўтарала сама сабе Эльвіра Львоўна. – Другім пашчасціла, а чым я горшая? Лагічна? Так. Вось і чакай» (А. Казлоў. Тралейбуснае шчасце).

**Над пешым арлом і варона з калом.** *Кажуць з пагардай, калі нікчэмныя людзі асуджаюць, зневажаюць, пераследуюць і г.д. таго, хто перастаў быць для іх уплывовай асобай, кіраўніцтвам і пад.* На Знамяроўскага кінуліся і скруцілі яму рукі і ногі... І калі нехта штурхнуў яго, загрымеў: – Што, над пешым арлом і варона з калом? На калені, хлопцы (У. Караткевіч. Цыганскі кароль).

– *Насовіч*, с. 84: Над пешым арлом і сарока з калом.

**Над сіратою Бог з калітою.** *Бог дапамагае сіротам, пакрыўджаным, абяздоленым. Часцей гаворыцца як спадзяванне на лепшую будучыню.* [Камісар, убок:] Ох, на такое пана вітанне дрыжу я цэлы! Што ж далей будзе? Маё бабахне, знаць, панаванне, калі не з'едзе зноў ён у людзі. [Навум, убок:] Над сіратою Бог з калітою. Што ж, камісару, будзе з табою, як пан дзядзічны з намі асядае? Не будзеш болей глуміць нас, гадзе! (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Над сіратою Бог з калітою... Лёс прывёў Карнея да пана Свінвіна... Карней даглядаў сад у пана, выходзіў на касьбу і ўборку ўраджаю. Аднойчы, калі Карней прыгнаў новую партыю валоў, пан разлічыўся і сказаў: – Вось што, Карней. За тваю дабрату дару табе чатыры дзесяціны зямлі і дзве дзесяціны лугу. А ў прыдачу забірай гнядога каня Ваську. Ты яго прывучыш да працы і будзеш добрым гаспадаром (В. Бондараў. Пад кронай вечнасці).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 104: Над сіратой Бог з калітой; *Насовіч*, с. 47: За сіратою і Бог з калітою.

**Наелася пападдзя круп, дык жарствы захацела.** *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто стаў пераборлівы ад сытасці ці гультайства.* [Жыгліцкая:] А мы без запасу не жывём. Ёсць і хлеба і грошы на чорны дзень. [Ядзя:] Мне не патрэбны вашы запасы... [Жыгліцкая:] Вядома, наелася пападдзя круп, дык жарствы захацела (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Янкоўскі,* с. 222: Наеўся поп круп, дык жарствы захацеў.

**На жывой касці мяса мусіць нарасці**. *Гл.* На жывой касці мяса нарасце.

**На жывой касці мяса нарасце.** *Гаворыцца з упэўненасцю, што хто-н. абавязкова паправіцца пасля хваробы, ранення і пад.* [Галя:] Пацярпі, Касцючок. Патрывай, мой галубочак. Пакуль жаніцца – усё загаіцца. На жывой касці мяса нарасце. А раначка ў цябе невялікая (І. Шамякін. Дзеці аднаго дома). Лямaнту нарабіла мая Волька, як па нябожчыку, вяжа мне палец, адарвала палоску ад ручніка. А рукі трасуцца ў яе! «Сціхні! – кажу. – На жывой касці мяса нарасце...» А яна яшчэ горай заходзіцца... (П. Місько. Поезд ішоў на захад). – Ніначка, нешта вы пахудзелі, кепска выглядаеце... – Нічога, Павел Рыгоравіч, – быццам бесклапотна адказала Ніна. – На жывой касці мяса нарасце (Л. Арабей. Халодны май). – Што худы – не бяда, – жартаваў Валодзя, – на жывой касці мяса нарасце (І. Капыловіч. Бяроза на мяжы). **На жывых касцях мяса нарасце.** [Каваль:] Хоць, вядома, дасталося столькі ды яшчэ паўстолькі, і не ведаю, калі еў. Але, як кажуць, на жывых касцях мяса

нарасце. Важна, што сустрэліся і жывыя асталіся (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). – Старая з Марылькаю тут гасцінцаў табе напакавалі, дык бяры, паскаромся трошкі, а то ўчарнееў на нішчымніцы, аж скура да касцей папрысыхала. – На жывых касцях мяса нарасце (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). **На жывой касці мяса мусіць нарасці. –** Не бядуй, – супакойваў Сушко, – скажу дактарам – скора залечаць, і следу не застанецца. На жывой касці мяса мусіць нарасці (І. Новікаў. Да світання блізка).

* – Жывеш, пане Дамінік, у выгодзе, каню сена, пэўна, хапае... А чаму ж сам нешта пахудзееў і ў каня рабрыны тырчаць?.. – Былі б косці, мяса нарасце... (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Насовіч,* с. 84: На жывой касці мусіць мяса абрасці; *Прыказкі,* кн. 2, с. 219: На жывой касці мяса нарасце.

**На жывых касцях мяса нарасце.** *Гл.* На жывой касці мяса нарасце.

**Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае.** *Функц. не зам. Нельга вярнуць ці паўтарыць тое, што прайшло, што было ў мінулым.* Зразумела, механічна паўтараць малюнак вобраза і яго трактоўку сапраўдны артыст, мастак ніколі не згодзіцца... Жыццё ёсць жыццё. «Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае» (Б. Бур’ян. Век на мяжы – і «Паўлінка» ў афішах). Хаджу па Пружанах, а на сэрцы прыемна і... балюча. «Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае...» Жыццё ідзе і мусіць ісці наперад, сённяшні дзень заўтра пойдзе ў нябыт (ЛіМ. 2003, 5 ліп.).

– Паходзіць з паэмы Я. Коласа «Новая зямля» (1910–1923), дзе ў раздзеле «Леснікова пасада», прыгадваючы сваю вясну-маладосць, паэт піша: «Вясна, вясна! не для мяне ты! Не я, табою абагрэты, прыход твой радасны спаткаю, – цябе навек, вясна, хаваю. Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае».

**Назад толькі ракі поўзаюць.** *Гл.* Задам (назад) толькі ракі поўзаюць.

**Назваўся груздом – лезь у кош (кошык).** *Калі ўзяўся за якую-н. справу, то выконвай яе да канца.* **Сін.:** *<Калі> улез у дугу, <дык> не кажы <што> не магу; Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не аглядайся; Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж.* – Вельмі падобны [на цырульніка], – аж здзівіўся Лёня. – Я, па праўдзе кажучы, нават і падумаў аб гэтым. Дарэчы, і пахнеш ты, як цырульнік. – Назваўся груздом – лезь у кош... Як у цябе з дакументамі? (І. Новікаў. Руіны страляюць ва ўпор). Кандрат Крапіва і

Пятро Глебка трымалі шафёраў. Дарагая раскоша – 800 рублёў у месяц. Але што зробіш – назваўся груздом... (І. Шамякін. Начныя ўспаміны).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 288: Назваўся груздом – хутчэй у кошык; Калі назваўся грыбам, то лезь у каробку.

**На злодзеі шапка гарыць.** *Той, хто правінаваціўся ў чым-н., сам міжвольна выдае сябе сваімі паводзінамі.* **Сін.:** *Хто парася ўкраў, у таго ў вушах пішчыць.* [Кароль:] Цяпер палічымся з другімі. [Камісар:] Пан! А я ці атрымаю тваё прабачэнне? [Навум, убок:] Ага! На злодзеі шапка гарыць (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). У народзе гавораць, што на злодзеі шапка гарыць. У Горбікава гарэла ўсё. Яму здавалася, што свапінцы здагадваюцца аб яго дэзерцірстве і ненавідзяць яго, тыкаюць пальцам і кажуць: вунь здраднік пайшоў (П. Дудо. Першы салют). [Моцкін:] Цесця выручаеце, таварыш пракурор? [Курбатаў:] Праўду кажуць, што на злодзеі шапка гарыць. Не выкручвайцеся, грамадзянін Моцкін. Не выйдзе. На спіртзаводзе я забраў гарантыйныя распіскі гэтых ашуканцаў (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка). Былі хвіліны, калі Пракопу здавалася, што ў вёсцы пра яго змову з Перапечкам ужо ведаюць, але пакуль маўчаць. Недарэмна ж кажуць: на злодзеі шапка гарыць (І. Сіняўскі. Пракоп).

* – Ніхто пра нас не ўспамінаў? – Іван меў на ўвазе пахаванне. У злодзея шапка гарэла (М. Лобан. На парозе будучыні). На злодзеі – пажарная каска (Л. Дайнека. Парадаксізмы).

– *Насовіч,* с. 84: На злодзею шапка гарыць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 372: На злодзеі шапка гарыць.

**Называй хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй.** *Гл.* Хоць гаршком заві (называй), адно ў печ не стаўляй.

**Найшла (наскочыла) каса на камень.** *Адзін аднаму ні ў чым не хоча саступаць.* Некаторыя з хлопцаў смяяліся, другія мнагазначна пераміргваліся – найшла каса на камень – хто каго? (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). – Каса на камень найшла! – усміхнуўся [Яўхім] па-сяброўску. – Я і сам – як жарабец неаб’езджаны! Мне каб хто пярэчыў?! Ды яшчэ дзеўка! (І. Мележ. Людзі на балоце). Па ўсім было відаць, што наскочыла каса на камень: чым настойлівей Раман дамагаўся збіць цану, тым меней уступаў Прахор, зразумеўшы, што пакупніку кабыла вельмі патрэбна (А. Макаёнак. Нячыстая сіла). Сакратар райкома, трымаючы Інфанцьева за гузік кіцеля.., нешта горача гаварыў. Да іх размовы прыслухоўваліся здаля трое старшынь. Васько падміргнуў Вярнову: – Най-

шла каса на камень (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік). Калі многія ўспрымаюць гэта [рашучасць Гальшкі] спакойна, а то і абыякава, а паміж сабой нярэдка пагаворваюць: «Магла б гардыню скінуць, а то найшла каса на камень!», дык наглядчык заўсёды паспагадае, але ў душу надта не лезе (А.А. Марціновіч. Страсці з прыгодніцкім элементам).

– *Насовіч*, с. 133: Папала каса на камень; *Ляцкі*, с. 17: Каса на камень нашла; *Прыказкі*, кн. 2, с. 303: Папала (трапіла, найшла, наскочыла) каса на камень. На аснове гэтай прыказкі склаўся аманімічны фразеалагізм, набыўшы здольнасць быць структурным элементам сказа, уступаць у пэўныя сувязі і адносіны са словамі кантэксту: *найшла каса на камень* ***у каго*** са значэннем ‘сутыкнуліся розныя непрымірымыя погляды, інтарэсы, характары і пад.’; напрыклад: «Вось добра, што ўсе сабраліся, бо ў нас тут *найшла каса на камень*» (П. Броўка).

**На каго бог, на таго і людзі.** *Гаворыцца, калі крыўдзяць чалавека, якому і без таго не пашанцавала.* А ён [тата] шалёны... а ўсё пузганцы, галапупцы вясковыя, бегаюць за ім і крычаць: «Шалёны, шалёны!» А ён ходзіць і маўчыць... Не адвернецца, не плача, нават не ўцякае; ходзіць і маўчыць... На каго бог, на таго і людзі (З. Бядуля. Тата). І як табе не сорам, Якаў? На каго бог, на таго й людзі. Не варта гэтак (М. Гарэцкі. Антон). – Яно ж гэдак: на каго бог, на таго і людзі, – пад старою Мондрыхаю на палку зашамацела перацёртая салома. – Бацьку нядаўна пахавалі, і на табе... [пакралі бялізну] (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). [Ціхонь:] Бачылі вы? На каго бог, на таго і людзі. Цьфу, што за народ! (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Вось яны [жанчыны] і сыходзілі, беглі з хатаў і сваіх падворкаў... І трапнялі на той свет, не дайшоўшы нават да суседкі. Нехта па звычцы заступаў дарогу, як заведзена ўжо, на каго бог – на таго і людзі (В. Казько. Час збіраць косці).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 370: На каго бог, на таго і людзі.

**На кірмашы (базары) і бык цельны.** *Пры гандлёвай ці іншай здзелцы могуць падмануць.* [Несцерка:] Заплацім паночку – толькі распіскаю. Ад вашае жонкі. Памятаеш, Маланка, тысячу, што дамаўляліся? [Пшэбыеўскі:] Якой жонкі? [Малання:] А то не? А то не абяцаў, а то не вянчаліся?.. [Несцерка, аддае распіску:] Вось і разлічыліся. Адным словам, каму вінен – усе прабачце. [Пшэбыеўскі, якога лоўка падманулі, падмяніўшы нявесту:] Дык што ж мне цяпер рабіць?! [Несцерка:] Вяселле гуляць. Такая ўжо тут справа – глядзець трэба. На кірмашы і бык цельны (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 463: На базары і бык цельны.

**На кожны чых (на ўсякае чханне) не наздароўкаешся (не навітаешся).** *На ўсё, што гаворыцца, не адклікнешся; усім не дагодзіш. Кажуць, калі не лічаць патрэбным звяртаць увагу на чые-н. выказванні.* – Ды ўжо б, небажаты, не варта было б залазіць у гэтую кашу... – А чаму? – Або ты, Сёмка, не разумееш. Лішняя прычэпка ў Берагавых руках. – Пляваць. На ўсякае чханне не навітаешся (Ц. Гартны. Сокі цаліны). О, гэта адвечная беларуская трывучасць і абыякавасць да сябе! Ат, на кожны чых не наздароўкаешся... З ног жа яшчэ не падаю. Авось і так пройдзе... (П. Місько. Зялёныя змеі).

* Таварыш начальнік, у вас і так хапае клопатаў, на кожны чых «Будзь здароў» не накажашся (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...).

– *Ляцкі,* с. 23: На кожнае чмых не наздароваешся; *Федароўскі,* с. 65: На ўсякае чханне не наздароўкаешся.

**На крывой дарозе наперад не відаць.** *Гл.* Па (на) крывой дарозе наперадзе (наперад) не відаць.

**На ласы кусочак знойдзецца куточак**. *Гаворыцца ў застоллі, калі госцю прапануюць з'есці яшчэ штосьці вельмі смачнае*. Надзвычай багата семантычных адценняў мае слова «кут»... Прымаючы пачастункі, прыгаворваюць: на ласы кусочак знойдзецца куточак (Р. Барадулін. Адным словам).

– *Выслоўі*, с. 151: На смашны кусочак найдзецца куточак.

**На лаўца і звер бяжыць.** *Зацікаўленаму ў чым-н. чалавеку сустрэўся якраз той, каго ён хацеў бачыць.* А мы якраз шукалі магчымасці сустрэцца і пагутарыць з вамі. Вось і пашанцавала... Бачыце, якраз па прыказцы: «На лаўца і звер бяжыць...» (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Кныш, калі ўбачыў арыштаваную Зіну, аж падскочыў ад радасці: – Вось яна! Што я вам казаў! На лаўца і звер бяжыць (Р. Няхай. Шлях на Эльбу). – Я тут на кані. Сена прывозіў здаваць. Хадзем. Да Зацішша даедзеш. «На лаўца і звер бяжыць», – падумаў Сяргей (І. Чыгрынаў. Па дарозе дамоў). – Глядзі ты! На лаўца і звер бяжыць! – здзіўлена выгукнуў Яцковіч. – Здароў быў, Антончык!.. (У. Ягоўдзік. Пугачова песня).

* [Фядора:] За такую кунічку [дзяўчыну], якую табе падстрэліць удалося, і не такое сцярпець можна. [Тарык:] На добрага стралка і звер бяжыць (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Насовіч,* с. 85: На лаўца і звер бяжыць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 154: На паляўнічага і звер бяжыць.

**На лечаным кані далёка не заедзеш.** *Вялікай карысці ад чаго-н. няспраўнага, сапсаванага ці рамантаванага не дачакаешся, не даб'ешся.*

* – Ну, і так жа, Васіль Міхайлавіч, нельга, – ужо рэзка запярэчыў Варанецкі. – На спутаным кані далёка не паедзеш (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы).

– *Насовіч,* с. 86: На лечаным каню не многа ўедзеш; *Прыказкі,* кн. 1, с. 142: На лечаным кані доўга не наездзіш; На кульгавым кані далёка не заедзеш.

**На людзях і памерці не страшна.** *Гаворыцца як жаданне не быць адзінокім у хвіліны адчаю, небяспекі.* Цяпер, калі яна [Рая] выразна адчула і сваё адзіноцтва, і адказнасць за даручаную справу, і небяспеку, ёй стала ніякавата. Самае непрыемнае – побач няма сябра. Нездарма кажуць, што на людзях і памерці не страшна (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Разумееце, мне з людзьмі весялей. Недарма кажуць: на людзях і памерці не страшна (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 369: На людзях (на міру) і смерць красна.

**На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.** *Кажуць насмешліва пра небагатага чалавека, які любіць модна прыбірацца.* [Бірка:] А мог бы ты, Саўка, заўваж, суседзе, капялюш з пяром, як пан, насіць і боты са скрыпам... [Саўка:] На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць (Я. Колас. У пушчах Палесся). Франтаўство наогул не паважаецца, а калі няма чаго есці, дык тады яно і зусім недарэчы, а таму бязлітасна асмейваецца: на назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

* Галадранцы. На назе саф'ян рыпіць, а ў баршчы трасца кіпіць! Чужога нашармачка захацелася. Наце, атрымайце! (А. Наварыч. Літоўскі воўк).

– *Насовіч,* с. 36: На назе чаравік (бот) скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць; *Ляцкі,* с. 48: У другога бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 231: У чабатку рыпіць, а чорт у гаршку кіпіць.

**На наш век дурняў хопіць.** *Кажуць з упэўненасцю, што падобнае да таго, аб чым гаварылася, не знікне, не перавядзецца, будзе паўтарацца.* – Але дзе ж мы цяпер другога такога мядзведзя знойдзем? – ужо з жартам прамовіў Віктар. – На наш век дурняў хопіць, – засмяяўся Мірон. Пратрымаемся як-небудзь тыдзень, а там прыйдуць нашы «збаўцы» (Я. Маўр. Палескія рабінзоны).

* [Альдона:] Хто ж гэтыя шэдэўры купіць? [Арнольд:] Куплялі і будуць купляць. У людзей розны густ. [Люся:] На яго век дурняў хопіць (Г. Марчук. Альдона, Анэта, Анфіса).

– *Раманаў,* с. 301: На наш век дуракоў хваціць.

**Наняўся, як прадаўся.** *Наняўшыся рабіць што-н., чалавек мусіць строга выконваць волю гаспадара.* Апавяданае здарэнне на іх наводзіць засмучэнне. – Ну, што ж? Цярпі, маўчы зацята, бо так выходзіць, небажаты: – Наняўся, кажуць, як прадаўся! – Міхал зласмешна адазваўся (Я. Колас. Новая зямля). З рук агента Дзяніс трапіў на тэкстыльную фабрыку, ды ў такое цяжкае для працы аддзяленне, што каб не ведаў англійскую мову і ўсе павароты ў гэтай страшна незнаёмай краіне, то ніколі не згадзіўся б там застацца. Але што зробіш, калі рабочы чалавек тут адразу робіцца нявольнікам? Недарма кажуць – наняўся, як прадаўся (П. Пестрак. Апошні крыж).

– *Насовіч,* с. 86: Наняўся, як прадаўся; *Федароўскі,* с. 197: Калі наняўся, то як запрадаўся.

**На Падоллю пірагі па коллю, а мы прыйшлі ды скулля знайшлі.** *Хоць прывабным здаецца жыццё ў чужых краях, але на самай справе яно горшае, чым думалася.* Захачу – з усім скарбам у Масковію ад'ехаць магу, адпускае [Радзівіл]. – А што я там, – пытаюся, – не бачыў? Як той казаў, на Падоллю пірагі па коллю, а мы прыйшлі ды скулля знайшлі. Тут хоць лусту хлебную чым прысаліць маем, а там у людзей і солі няма (У. Арлоў. Міласць князя Гераніма).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 293: На Падоллю пірагі на коллі, а мы прыйшлі і там іх не знайшлі.

**На Пакровы дай сена карове.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара. Пакровы (Пакроў) – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 1 кастрычніка (па старым стылі).* Напярэдадні Пакроваў Ірэна са свякрухаю спяклі пірог, абышлі з ім усе гаспадарчыя пабудовы, прыкладваючы да кожнае страхі, каб буры, што пачынаюцца ад Пакроваў, не разбурылі іх. Паклалі сена каровам: На Пакровы дай сена карове, гэта каб былі сытыя ўвесь год (Л. Адамовіч. Кветкі самотнай князёўны).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 111: На пакровы дай сена карове.

**Напалоханая варона і вераб'я баіцца.** *Гл.* Пужаная варона <і> куста баіцца.

**На памылках вучымся.** *Функц. не зам. Улічваем раней зробленыя промахі, памылкі і імкнёмся іх не паўтараць.* – Уэлса тры

тамы – хто пааддаваў? Дзе ён цяпер, Уэлс? Хоць адзін том вярнуўся назад? Нават не памятаеце, каму аддавалі! – Тата, бываюць выключэнні... На памылках вучымся, – сказаў сын (П. Місько. Аддай рукамі, хадзі нагамі). Праваднік яму [важнаму чыну] далажыў, што чуў, як пасажыры па-замежнаму размаўлялі. На памылках вучацца. Улічыце гэта пры падыходзе да граніцы (І. Гурскі. Чужы хлеб). – Чаму, здараецца, не ўдаецца? Слаба вучымся, таварыш, лепшы вопыт не так, як трэба, пераймаем, не так, калегі. – Мнагавата ўсё-такі на памылках вучымся, – уставіў Барташ (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа). А як жа з усім ранейшым? Яго ж ні з галавы, ні з сэрца не выкінеш – не забудзеш... Што ж, будзем лічыць, што на памылках вучацца. І я павучуся... Галоўнае цяпер – новых бы памылак не нарабіць... (Б. Сачанка. Родны кут).

**На паследкі даюць аб'едкі.** *Таму, хто спазніўся куды-н., нічога ці амаль нічога не дастаецца.* Дома вячэралі. Запытаўшы, дзе я столькі гуляў, маці паказала на стол, – заўсміхалася – «на паследкі даюць аб'едкі» (М. Воранаў. Госці).

**На пахілае дрэва козы скачуць.** *Гл.* На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.

**На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.** *Пакорлівага, падатлівага чалавека ўсе крыўдзяць.* Заходзіла Жухалава. І лаяла, не выбіраючы слоў: «Гавораць? Хай гавораць... Руку на цябе падняла [Маня]? А ты здачы дай! На пахілую вярбу козы скачуць...» (П. Місько. Градабой). На пахілае дрэва і козы скачуць! У якой канаве ты, шляхецкая костка, спаў, калі Вусаціха на кані галёкаў?! (А. Наварыч. Літоўскі воўк).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 217: На пахілае дзерава і козы скачуць.

**Наперад не вырывайся і ззаду не заставайся.** *Пра спосаб паводзін, пры якім пазбягаюць крайнасцей, рызыкоўных рашэнняў, дзеянняў.* Па натуры ён [Мішка] быў асцярожны і цаніў народную мудрасць: «Наперад не вырывайся і ззаду не заставайся!» (У. Калеснік. Доўг памяці).

– *Ляцкі*, с. 23: Наперад не вытыкайся, пазаду не аставайся, серадзіны трымайся – будзеш цалейшы; *Прыказкі*, кн. 2, с. 461: Упярод не вырывайся і ззаду не аставайся.

**На пераправе коней не мяняюць.** *У неспрыяльных ці небяспечных умовах карэнных змяненняў, перамен дзе-н. не робяць.* Коней на пераправе не мяняюць... Хацелася б, каб будучыя кіраўнікі ўмелі своечасова гасіць полымя радыкалізму як з левага, так і з правага бакоў (Я. Малец. Пазбегнуць радыкальных перамен). Як і

меркавалася, з’езд выбраў яго зноў кіраўніком саюза на чарговы тэрмін. Коней на пераправе не мяняюць (П. Васілеўскі. Коней на пераправе не мяняюць).

* Нахабнік? Трэба прыгледзецца да яго, панюхаць, чым пахне. Пакідаць на пасту ці выгнаць? Месца тут сёння не святое, аднак пустым не будзе, любому прапануем – не адмовіцца. Але калі гэты Пыльчанка з галавой, то лепш, як кажуць, на пераправе не мяняць, няхай цягне да чыстага часу (І. Шамякін. Злая зорка).

**Напісанае застаецца.** *Кніжн. Напісанае (часцей пра мастацкія творы) не прападае бясследна ў часе, захоўваецца ў памяці пакаленняў.* Літаратура не сканчаецца ні са сканчэннем улад, ні са знікненнем дзяржаў, яна не сканчаецца нават тады, калі мёртваю робіцца мова, на якой яна ствараласся. Напісанае застаецца і адгукаецца ў вечнасці. Так было – і так будзе (У. Някляеў. Гэта ўлада татальнай маны). Прайшло больш як стагоддзе. Кніга ўспамінаў Панаевай успрымаецца як Фенікс, што паўстаў з попелу. Сапраўды, напісанае – застаецца... (Т. Мушынская. Пра каханне і алхімію). Твары, мастак, і не крыўдуй, дзівак, калі хто-небудзь крывенька ўсміхнецца і скажа: «Гэта ўсё не так...» Напісанае, кажуць, застаецца! (А. Салтук. Напісанае застаецца). Ніколі [М. Багдановіч] нікому не жаліўся. І зараз – насуперак смерці – не самотны! Бо напісанае – застаецца. А ён напісаў сваю кнігу. Вось яна, побач... (А. Петрушкевіч. Я не самотны). Адно можна сказаць, што памёр [Мікола Гусоўскі] недзе пасля 1533 года. Памёр? Жыве! Усміхаецца, радасна махае рукой. Праз стагоддзі, праз вякі махае. Запомнім яго! А напісанае... Напісанае жыве па сваіх законах. Напісанае застаецца... (А.А. Марціновіч. Песня пра Беларусь).

– Калька з лацінскай мовы: *Scripta manent.*

**Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.** *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго ці таму, хто хоча ісці куды-н. напрасткі.* **Сін.:** *Крывая дарога з простай смяецца; Пойдзеш нацяанькі – праходзіш тры дзяанькі; Хто прамікуе, той дома не начуе.* – Да Гардзееўкі далёка? – Вёрст трыццаць, лічы. – А калі напрасткі? – Напрасткі? Д[ы]к напрасткі адна варона лятала, затое дома не бывала! (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі). Малады лес цягнуўся бясконца. Богшу разбірала злосць: якога чорта ён палез у гэтую гушчэчу? Мог проста абысці яе. Во ўжо нехта сказаў праўду: напрасткі варона лятае, ды ніколі дома не бывае (А. Асіпенка. Святыя грэшнікі).

*Прыказкі,* кн. 1, с. 279: Напрамую толькі варона лятае; Сарока напрамкі (напрасткі) лятае, ды дома ніколі не бывае.

**Напроці ветру не падзьмеш.** *Немагчыма, бескарысна супрацьстаяць сіле, уладзе.* **Сін.:** *Галавою сцяны не праб'еш; Пугай абуха не пераб'еш; Супраць ражна не папрэш.* – Адно дрэва расце, а другое ў цяньку чэзне, покуль не высахне. – Але ж і з цяньку дрэвы выбіваюцца. Лес жа не гіне. – Хі-хі... Падлавіў ты мяне. Толькі скажу табе: напроці ветру не падзьмеш. Але ж некаму трэба. Я не дасціг свайго, то, можа, ты да чаго добрага дойдзеш! (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

– *Насовіч,* с. 141, 164: Трудна дыхаць проціў ветру; Проціў ветру не спышашся; *Прыказкі,* кн. 1, с. 341: Трудна проці ветру дыхаць.

**Напужаў мех, дык і торба страшна.** *Аднойчы сутыкнуўшыся з непрыемнасцямі, няўдачай, робішся празмерна асцярожным, баязлівым.* **Сін.:** *Апёкшыся на малацэ, і на ваду дзьмеш; Пужаная варона і куста баіцца.* «Ці Раіса Андрэеўна дома?..» – «Раіса Андрэеўна прасіла зайсці заўтра а дванаццатай гадзіне»... [Лясніцкі] – ашаламелы, збянтэжаны – паціху павярнуўся і пайшоў з хаты... Падыходзячы да дому Андрэя, Лясніцкі адчуў мімавольную трывогу. «Можа, і тут сустрэне што-небудзь нядобрае?» Потым сам гэта заўважыў і ўсміхнуўся: «Напужаў мех, дык і торба страшна» (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

– *Насовіч*, с. 88: Настрашыў мех, дык і торба страшна; *Янкоўскі*, с. 302: Напалохаў мех, дык і торба страшна.

**Народжаны поўзаць лятаць не можа**. *Функц. не зам. Той не можа перамяніцца, хто па сваёй прыродзе, па сваіх якасцях не здольны стаць іншым. Гаворыцца з незадавальненнем.* Хай прабачаць педагогі-тэарэтыкі – практыкі ж, спадзяюся, пагодзяцца са мною – не веру я ў тое, што чалавека можна перавыхаваць, і таму цалкам пагаджаюся з думкай: «Народжаны поўзаць лятаць не можа» (В. Кадзетава. Тэст на першае каханне). Мы разлічвалі, нават спадзяваліся, што вось-вось будуць зроблены станоўчыя захады з другога боку. Але народжаныя поўзаць лятаць не могуць. Згублены час, а праблема, якая хвалюе нас, ні на міліметр не скранулася з мёртвай кропкі (ЛіМ. 2005, 17 вер.). Ірына некалі спрабавала вучыць і тую ж Кузьмянкову, і добры дзесятак колішніх практыкантаў. Ды народжаныя поўзаць лятаць не могуць (С. Бязлепкіна. У межах Нагорнай пропаведзі). У школе тыя лэдзі наўрад ці плакалі над класічнымі навеламі... Але што Юлечцы да іх [гэтых лю-

дзей]! Паўсядзённасць – не яе доля. Чорны хлеб звычайшчыны. Народжаны лятаць не можа поўзаць! (А. Брава. Менада і яе сатыры).

– Паўкалька з рускай мовы. Паходзіць з «Песні аб Сокале» (1898) М. Горкага, дзе з прамым значэннем слоў дастасоўваецца да Вужа.

**На сваім сметніку і певень (верабей) гаспадар.** *У сваім доме ці на прывычным месцы чалавек адчувае сябе гаспадаром, паводзіць сябе незалежна.* **Сін**.: *Шляхціц на сваім гародзе ровен ваяводзе.* [Гарнак:] Я напішу яе [думку] у форме афарызма, павешу на кручок, а вы потым прачытаеце. Той кручок ёсць родны кут мае мудрасці. А на сваім сметніку і певень гаспадар (Я. Колас. Забастоўшчыкі). Зрэшты, не дай бог куды-небудзь пераязджаць, як той казаў, на сваім сметніку і певень гаспадар. Няхай сабе і радыяцыя, толькі б не чапалі, не гналі са сваёй хаты (А. Кажадуб. Палескія сны). – Марцін, ты там не агінайся, ідзі сюды бліжэй, – важна падняўся над сталом Чабоцька. – Я добра прымастаколіўся і тут. – А на сваім сметніку і верабей гаспадар, чаго там, хай пасядзіць, – засмяяліся з жаночай купкі, што стаяла каля высокай пабеленай пліты (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). Пераехалі мы ў Баку, да мужавых родзічаў. Як сэрца падказвала: не едзь у людзі, і певень на сваім сметніку гаспадар (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 191, 209: На сваём сметніку і певень гаспадар; На сваём сметніку й певень смелы; На сваім сметніку і гарабей гаспадар.

**На сем прыганятых адзін араты.** *Працуе адзін, а плёнам яго працы карыстаюцца многія.* **Сін**.: *Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай*. Бяда, калі не хапае кадраў. Але мала радасці, мякка кажучы, і тады, калі рабочых рук залішне і атрымліваецца, як у вядомай прыказцы: «На сем прыганятых адзін араты» (Звязда. 2001, 18 мая).

– *Санько*, с. 32: На сем прыганятых адзін араты.

**Насільна мілы (міл, любы, люб) не будзеш.** *Насільна не выклікаеш чыёй-н. сімпатыі да сябе.* **Сін.:** *Даганяючы не нацалавацца.* [Язэпка:] Я па-харошаму, дурніца... Ну, а калі не любіш... насільна мілы не будзеш (А. Асіпенка. Жыта). Дырэктар нічога не сказаў, сеў у машыну і паехаў... Што ж, насільна люб не будзеш (В. Шырко. Споведзь правінцыяла). За жарты прабач, пастараюся надалей вытрымліваць чыста дзелавую этыку. Насільна міл не будзеш (А. Жук. Такая восень). **Сілай мілы (міл) не будзеш.** [Прышчэпа:] Але тое, што ад людзей акапаўся, нікуды, браце, не варта. [Зыль:] Як кажуць, сілай міл не будзеш (К. Губарэвіч. Першы ўрок).

А ты, Квачык, не крыўдуй на мяне. Не трэба. Кажуць, сілай не быць мілай (І. Шамякін. Вясновымі днямі). А галоўнае, вядома, у тым, што Тамара не кахае мяне; як кажуць, сілай міл не будзеш... (А. Марціновіч. Цень крумкачовага крыла). – Я была тады зусім, ну... дурная, гаварыла абы-што... Зразумела: сілаю не будзеш мілаю. Так я кажу? – Дапусцім, так, – ён не ведаў, куды хіліць Варанчак (У. Дамашэвіч. На мяжы цярпення).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 11: Насільна міл не будзеш; Сілаю не быць мілаю.

**Насіў воўк, панеслі і ваўка (воўка).** *Гл.* Цягаў (цягнуў) воўк, пацягнулі і воўка.

**Наскочыла каса на камень.** *Гл.* Найшла (наскочыла) каса на камень.

**На смелага сабакі брэшуць, а баязлівага рвуць.** *Смелы, рашучы чалавек дабіваецца большага, лепшага, чым баязлівы.* – Смелыя людзі беларусы. – На смелага сабакі брэшуць, а баязлівага рвуць (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 295: На смелага сабака брэша, а баязліўца кусае.

**На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым.** *Не ўсе аднолькава ўспрымаюць, ацэньваюць адны і тыя ж з'явы, падзеі, абставіны і пад.* – На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым, – разважала жанчына. – А наш камандзір лічыць, што пад страхою чалавек значна лепш сябе адчувае (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Рапановіч,* с. 256: На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым.

**На спадзевах яешню не спражыш.** *Надзеі, спадзяванні не заўсёды здзяйсняюцца.* [Максім Грэк:] Алелькавічы і паслалі цябе да маскавіцян? [Скарына:] Некалі яны фінансавалі мае пражскія выданні. Сёння я бедны як царкоўная мыш. І ўсе мае спадзевы на Алелькавічаў. [Максім Грэк:] На спадзевах яешню не спражыш (А. Петрашкевіч. Прарок для Айчыны).

**На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.** *Гаворыцца пра таго, хто пад выглядам дабрадзейства вызваляецца ад чаго-н. ці каго-н. непатрэбнага.* – Навошта ён [Езуп] тут? – Яго Каспар Крумінь прыслаў... – На табе, божа, што нам нягожа, – яшчэ больш разыходзілася Васілене. – Каспар быў рад ад яго адчапіцца, дык табе і падкінуў (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). І яшчэ здаля [маёр] вызначыў: нейкі хліпкі хлопец, спешчаны... Ці не падсунулі райкамаўцы па прыказцы: «На табе, божа, што нам нягожа?» (І. Нові-

каў. Да світання блізка). І так чамусьці атрымалася, што на нізаўскім возе ляжалі сухія, прамыя дошкі, а верхакоўцы панадавалі абы-чаго. На табе, нябожа, што мне нягожа! (К. Каліна. Світанне). – Міхей Арцёмавіч, прымай эстафету. – Ды ўжо ж, эстафета, – незадаволены быў дзядзька Міхей. – Сам дык рукі ўмыў. А тут на табе, божа, што мне нягожа (У. Кузьмянкоў. Вяснушка). Крывамазага [каня] перадалі ў брыгаду, а Максіму, калі хочаш, бяры стрыгунка неаб'езджанага. На табе, божа, што нам нягожа! Ну дзе ж старому чалавеку валаводзіцца з ім, шэльмай? (В. Якавенка. Ах, Арэса, Арэса...).

* Даюць [атаву ў саўгасе], акурат як дажджы пойдуць, ты яшчэ выхапі яе, высушы... Хіба гэта сена, каровы есці не хочуць. Думаў, толькі ў нас такое разумнае начальства, не – амаль ва ўсім раёне. Бяры, нябожа, што ім нягожа (В. Шырко. Споведзь правінцыяла).

– *Насовіч,* с. 88: На табе, нябожа, што мне нягожа; *Ляцкі,* с. 24: На табе, божа, што нам не гожа; *БРС*, т. 1, с. 805: На табе, божа, што мне нягожа.

**На тое бог даў людзям язык, каб умець маўчаць.** *Ужываецца як сцвярджэнне, што варта быць асцярожным у выказваннях, маўчаць, калі трэба.* [Кручкоў:] Пакінь, стары хрыч, думаць аб жаніцьбе, а заматай сабе на вус, каб крэпка дзяржаць язык за зубамі. [Куторга:] Буду сабе часта браць на розум філасофскую прыпавесць: на тое бог даў людзям язык, каб умець маўчаць (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта).

– *Янкоўскі*, с. 310: На тое бог даў людзям язык, каб умець маўчаць.

**На тое і шчупак у моры (у вадзе), каб карась не драмаў.** *Небяспека прымушае быць заўсёды пільным.* Шырокага лічылі іграком не зусім лаяльным, але аб гэтым яму ў вочы не казалі. Сам жа ён у цеснай кампаніі часамі гаварыў: – На тое ж і шчупак у моры, каб карась не драмаў (Я. Колас. На ростанях). [Палкоўнік:] Ты ж абула ў лапці Пясецкую. [Гаспадыня:] Не абувала б я, абуў бы нехта другі. На тое шчупак у моры... (У. Галубок. Ганка). Канечне, ведаюць цябе. Але на тое шчупак у вадзе, каб карась не драмаў. Асцярожна трэба. У сваім раёне не паказвайся. Будзеш хадзіць толькі на явачныя кватэры (І. Новікаў. Да світання блізка).

* А калі на тое, чым я вінаваты! На тое і лавец, каб рыба не драмала. Хіба б лепей было, каб упусціў такі кавалак! (І. Мележ. Людзі на балоце).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 342: На тое шчупак у моры, каб карасі не драмалі.

**На торнай дарозе трава не расце.** *Гл.* На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.

**На трактар спадзявайся, а каня не прадавай.** *Пра станоўчыя адносіны да каня.* – Эмтээс жа ў вас пад бокам, і машын яна мае багата, – асцярожна заўважыў я. – Эмтээс... – насмешліва адгукнуўся брыгадзір. Ёсць добрая прыказка: «На трактар спадзявайся, каня не прадавай» (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 515: На трактар спадзявайся, але каня не забывай; На трактар надзейся, а каня не кідай.

**На тым свеце не дадуць.** *Ужываецца з жартаўлівым адценнем пры запрашэнні выпіць ці дапіць, даесці што-н.* **Сін.:** *Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш; Піце, жылы, пакуль жывы, бо як памрэш, дык калом не ўваб'еш.* – Я заўсёды гатовы. На тым свеце не дадуць, – дзед зноў пачаў наліваць шклянкі. – Таварышы начальнікі, на дарожку... (Л. Левановіч. Паводка сярод зімы). [Сліваншын:] Ну, а зараз наша справа такая – партызанская, пакуль жывы – пі на здароўе. Як той казаў – пі, пакуль тут, на тым свеце не дадуць. [Камісар:] Шкодная пагаворка. Калі б так партызаны рабілі, то да гэтага часу ўжо ні аднаго б не было (А. Макаёнак. Ворагі).

– *Лепешаў,* с. 105: На тым свеце не дадуць.

**На ўсё воля божая.** *З кожным можа здарыцца што-н. нечаканае, незалежнае ад чалавека.* **Сін.:** *Усе <мы> ходзім пад богам.* – Добрая душа гэта паненка, – казала бабка і ўздыхала. – Уся ў матку пайшла... Не даў ёй бог яшчэ пажыць трошкі, дзетак падгадаваць. – Чаго ж яна, бабка, так рана памерла? – пытаў бабку настаўнік. – Памерла, панічок... На ўсё воля божая (Я. Колас. На ростанях). – Будуць расстрэльваць тых, хто не паслухае. Усю сям'ю. І хату спаляць... – На ўсё воля божая... (Я. Брыль. Маці). Ай, стары дурань не ведае, пра што ляпае. Не бяры да галавы. На ўсё воля божая. Бацьку твайго ўспамінае (Г. Марчук. Кветкі правінцыі). Гэта мае ранейшыя дзеткі па Божых законах хрысціліся. З падказкі бацюшкі імёны ім давалі. Але вядома, які лёс іх быў. Не, я на Бога не наракаю. На ўсё воля Божая, як той казаў. Бог даў, Бог і ўзяў (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

**На ўсіх пірага не спячэш.** *Усім не дагодзіш.* [Дычыха:] Міца, міца, каля брамы з рабочым стаіць – распытвае, гаворыць, а рабочыя на вас горы вернуць. [Лось:] Ну, што ж, няхай, на ўсіх пірага

не спячэш. Такая наша доля, цяжка быць інжынерамі, веры няма (У. Галубок. Белая зброя).

**На ўсякае чханне не наздароўкаешся.** *Гл.* На кожны чых (на ўсякае чханне) не наздароўкаешся.

**На <усякае> хаценне ёсць цярпенне.** *Гаворыцца як адказ на чыё-н. моцнае жаданне ці просьбу, бо хутка выканаць іх цяжка ці нельга. «*Кватэра мне патрэбна цяпер... Я тут задыхаюся. Мне цесна! Я тут як у клетцы...» – «На хаценне ёсць цярпенне», – адказаў спакойна татка (У. Дамашэвіч. Лішняе дзіця...). – Мама, купі мне гармонік! – Што ты, сынок. Пабойся бога. Дзе ж я вазьму такія грошы. Вось на свой хлеб пойдзеш, тады і купіш. – Мне цяпер трэба! – На ўсякае хаценне ёсць цярпенне. Я таксама хацела б, каб у нас усё было (А. Варановіч. Бубен для сына). – Давайце хутчэй рабіць абед, – захныкала Зоська, падключаючыся да работы. – Бо так хочацца торціка, не магу ўтрываць. – На хаценне ёсць цярпенне, – напомніла прыказку Зарына Сымонаўна (А. Марціновіч. На спадзе лета). Ах, як хочацца зазірнуць за край небакраю, убачыць, што там цябе чакае! Аднак пацярпі – на хаценне ёсць цярпенне (Маладосць. 2006. № 1).

– *Насовіч*, с. 90: На хаценне ёсць пацярпенне; *Прыказкі*, кн. 2, с. 300: На пахаценне ёсць пацярпенне; У хаценні жывець цярпенне.

**Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакукуе.** *Жонка зможа настаяць на сваім, перамяніць думкі мужа.* Жонка на мужа мае значны ўплыў, асабліва ў інтымных адносінах. Пад гэтым уплывам ён часта перамяняе свае ранейшыя намеры: начная зязюлька дзённую перакукуе (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). – Цьфу! – плюнуў [бацька]. Канечне ж, зазлаваў на сына, які ўкленчыў перад жонкаю. – Каб на цябе халера: начная зязюля перакукуе-такі дзённую... (Г. Далідовіч. Пабуджаныя). – Не, Нюшка. Твайму ўжо хлопцу на цябе і губу скрывіць няма за што. Ён табе павінен з аднаго золата труну выштукаваць. – Ай, хоць бы з сырых якіх дошак зрабіў... Мамка добра, а жонка лепей. Начная зязюля ўсё роўна, уніяціна, перакукуе дзённую (Я. Сіпакоў. Стафета). Я магла б угаварыць мужа пайсці працаваць на рынак (як кажуць, начная зязюля дзённую перакукуе) (С. Шаўцоў. «Гэта гучыць горда»?).

– *Насовіч,* с. 116: Начная зязюлька дзённую перакукуець; *Федароўскі,* с. 355: Начная зязюля (кукуля) перакуе дзённую.

**На чужой старане і жук мяса <і старая баба – маладзіца>.** *На чужой старане ўсё, што ні ёсць, мусіць быць прыдатным, прыгодным.* А старшыня не ў кішэню за словам, адразу ж адпеў: –

На чужой старане і жук – мяса і старая баба – маладзіца (В. Мыслівец. Мужанцы).

* – Тяжело, чай, жыць в дзярэўні? – Які чай, якія дзярэўя? – Барсучыха глядзіць на Поцю, нібы на вар'ята. Пагаварылі, называецца. Эх, Поця, Поця, лепей у сваіх людзях з голаду паміраць, чым у чужых людзях золата збіраць. Далёка ад дому і жук – мяса, і старую бабу маладзіцаю назавеш (В. Шырко. О, sancta simplicitas!).

– *Насовіч,* с. 90: На чужой старане і жук мяса і старую бабу маладзіцаю назавеш; *Прыказкі,* кн. 1, с. 293: На чужой старане і жук мяса; У чужым краю і жук мяса.

**На чужой старонцы рад сваёй варонцы.** *Гаворыцца з задавальненнем пры сустрэчы з земляком у чужой мясцовасці.* Праз некалькі дзён Аляксей прыехаў з возчыкамі ў саўгас. Воранаў прыняў земляка ветліва, нават пажартаваў: «На чужой старонцы рад сваёй варонцы» (А. Пальчэўскі. Землякі).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 292: На чужой старонцы рад сваёй варонцы.

**На чужы каравай рота (рот) не разяўляй (не разявай).** *Не разлічвай на чужое. Гаворыцца таму, хто хоча атрымаць тое, што яму не належыць.* – Авой, Зіна, са смагі памрэш, бо гэты твой зломак будзе ў краме мокнуць. – Яму і маладзіц хопіць. Цяпер гэтага тавару – як дроў. – На чужы каравай рот не разяўляй... (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік). – Яно, канешне, і дрэнна зрабілі б, каб прынялі мяне [у калгас], – прызнаўся Раман, – каб прынялі без каня. На чужы каравай, як кажуць... (А. Макаёнак. Нячыстая сіла). – Не, не. Тваёй [пенсіі] буду чакаць. – Маёй? Як кажуць, на чужы каравай рота не разявай. Мая будзе ці не будзе (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам). [Жыгліцкая:] Але на чужы каравай рота не разявай... [Федзя:] А што ж гэта за чалавек, які не спрыяе ў хату? (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Насовіч,* с. 90: На чужы каравай рота не разявай, а свой спарамляй; *Прыказкі,* кн. 2, с. 438: На чужы каравай рота не разявай (не разяўляй); На чужы каравай рота не разяўляй, а свой старайся.

**На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць (наставіць).** *Робячы непрыемнасці іншым людзям, чакай і ад іх таго самага.* [Навум:] Калі я каму якое як, дык багдай бы мяне, няхай бы мяне... От хоць чэраз чорную казу руку дам: бо я не баюся. О!.. ведаю добра прымаўку, што на чужы лоб сягаючы, трэба і свой наставіць (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Яшчэ мяне мой дзед навучаў некалі: «Не чапайся ні з кім, – казаў ён. – Памятай,

што шыбаючы на чужы лоб, трэба і свой падстаўляць». Праўда, я тады быў малады, дурны і часта прыходзіў дадому з гузамі на лбе (К. Крапіва. Мая прынцыповасць).

– *Насовіч,* с. 190: На чужы лоб шыбаючы, трэба і свой падставіць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 359: На чужы лоб сягаючы (шыбаючы), трэба і свой падставіць.

**На чужым горы (няшчасці) шчасця не пабудуеш.** *Гаворыцца пра таго, хто дамагаецца сваёй карыслівай мэты, ігнаруючы інтарэсы іншага чалавека.* Калі суджана табе жыць з гэтым чалавекам, у цябе ўсё атрымаецца само па сабе, а калі – не, то навошта лезці ў чужыя сем'і? Як кажуць, на чужым горы шчасця не пабудуеш. Так яно і ёсць (Звязда. 2001, 9 жн.). Ой, Люба-Люба, ці хоць будзе ў цябе шчасце? Чуе маё сэрца нядобрае. Праўду, мусіць, кажуць старыя людзі: на чужым няшчасці не пабудуеш шчасця... (В. Блакіт. Вяселле ў Беражках). А на самай справе – ён даўно жанаты. Як даведалася, што збіраецца кідаць дзвюх маленькіх дачок, то адразу ж выкінула яго з галавы. На чужым горы сваё шчасце не пабудуеш (П. Савоська. Фіктыўны шлюб).

* Так і прапала абмундзіроўка з майго шыкоўнага генеральскага шыняля. Сапраўды, з чужога няшчасця сабе шчасця не будзе (В. Быкаў. Доўгая дарога дадому). [Гаспадыня:] Ажаню Васіля, возьмем вялікі пасаг, ад якога стане на ногі наша гаспадарка. [Палкоўнік:] Так, план твой хітры. Значыцца, на чужым няшчасці хочаш будаваць сваё шчасце! (У. Галубок. Ганка).

– *Ліцвінка*, с. 60: На чужым горы шчасця не пабудуеш.

**На чужыне і камар загіне.** *У чужой старане жыць нязносна цяжка.* – Дадому вяртацца нам трэба з табою, баярышня, – казаў між тым Сцяпан. – Памолімся за душу рабы божай Хадоскі, прыстанем да полацкіх купцоў і паедзем, дадому паедзем. На чужыне і камар загіне (Л. Дайнека. След ваўкалака).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 291: На чужыне і камар загіне.

**На чужы рот (раток) гузіка не нашыеш.** *Людзей не прымусіш маўчаць. Кажуць з неадабрэннем пра распаўсюджванне розных чутак, плётак.* **Сін.:** *Людзям языка не завяжаш; На чужы рот замок не навесіш; На чужыя вусны не накінеш хусты; Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш; Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш.* [Драніцы] трэба было на вачах у аднавяскоўцаў вытрымаць ролю перакладчыка – няхай абы выгляд размовы, каб унікнуць на гады наперад іхняга рогату, бо на чужы рот гузіка не нашыеш (І. Чыгрынаў. Апраўданне крыві). Некаторыя лічаць мяне

фантазёрам, апантаным, а хто і прылунелым. «На чужы раток гузіка не нашыеш», – ёсць такая прымаўка. Няхай што хочуць гавораць (С. Лобач. Пажывём для людзей).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 381: На чужы раток гузіка не нашыеш.

**На чужы рот (раток, язык) замок не навесіш (не павесіш, не начэпіш).** *Людзей не прымусіш маўчаць. Кажуць з неадабрэннем пра распаўсюджванне розных чутак, плётак.* **Сін.:** *Людзям языка не завяжаш; На чужы рот гузіка не нашыеш; На чужыя вусны не накінеш хусты; Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш; Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш.* Размовы, вядома, былі: на чужы рот замок не навесіш. Акімава шкадавалі: звязаўся з паскуддзю, алкагалічкай, атруціць яна яму жыццё (М. Герчык. Вяртанне да сябе). «Вылітае цыганя», – часта казалі Аксінні суседкі. А тая крыўдзілася за гэтыя словы, сурова падціскала тонкія маршчыністыя вусны, але не пярэчыла: на чужы язык замок не павесіш (М. Даніленка. Журлівіца). Слухаць не хацелася, але ж не заткнеш сваіх вушэй і не начэпіш замок на чужы раток (Ф. Янкоўскі. Абразкі). – І ты, Вера, прысядзь, няхай сын ад нас пачуе, пра што гамоняць у вёсцы... – Не гамоняць, а злыя языкі плявузгаюць... – Усё адно лепш, каб у сям'і мір і згода. А на чужы раток, як кажуць, не павесіш замок (В. Праўдзін. Нелюбімыя гінуць).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 380: На чужы раток не павесіш замок.

**На чужыя вусны не накінеш хусты.** *Людзей не прымусіш маўчаць. Кажуць з неадабрэннем пра распаўсюджванне розных чутак, плётак.* **Сін.:** *Людзям языка не завяжаш; На чужы рот гузіка не нашыеш; На чужы рот замок не навесіш; Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш; Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш.* Прачытаў гэты ліст сусед, пераказаў знаёмым, і пайшло гуляць па вёсцы: «Дзе быў? – У Бузука. – Да каго пойдзем? – Да Бузука!» На чужыя вусны не накінеш хусты (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 380: Няма такой хусты, каб завязаць усім усты.

**На чужы язык замок не навесіш.** *Гл.* На чужы рот (язык) замок не навесіш.

**На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).** *Мусіш дагаджаць, выконваць волю таго, ад каго залежыш.* **Сін.:** *Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.* [Сабковіч:] Ідзі і рабі тое, што кажу, інакш дастанеш кіем. [Пятрук:] Нечага казаць, на чыём вазку едзеш, таму і песенькі спявай (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты). Ну, а Гарбача чаго

ж баяцца, хто такі Гарбач... Працадні ад яго не залежаць. Гарбач адчувае, што думаюць гэтак усе. На чыім возе едзеш, таму й песеньку вядзеш (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). Хваліць чалавек яшчэ і таго, ад каго залежыць яго дабрабыт: на чыім возе еду, таму й песню пяю (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). У тым, брат, і загвоздка, што хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць. На чыім возе едзеш, таму і песню спявай (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). – Памятай, дзе жывеш, хто табе хлеб дае. Як гэта там у вас кажуць: на чыім коніку едзеш, таму і песеньку спявай, – тлумачыў Кунік (Г. Марчук. Крык на хутары).

– *Насовіч,* с. 90: На чыім коніку (на чыіх калёсах) едзеш, таму і песенькі пяеш; На чыім вазку еду, таму і песеньку спяваю.

**Наша гарэза ўсюды пралезе.** *Пра лоўкага, пранырлівага чалавека, які ўсюды паспявае.* – Напэўна, справу Казаковай і Бараны вы аб'ядналі? – Прыйшлося... Генерал Рашэтнікаў даў дабро... «Наша гарэза ўсюды пралезе», – падумаў Мікуліч (В. Праўдзін. Танцавальны марафон).

– *Санько,* с. 28: Наша гарэза ўсюды пралезе.

**Наша горніца з богам не спорніца.** *Пра памяшканне, унутры якога амаль такая самая тэмпература, як на вуліцы.* Гэта быў самы недалужны капысіцкі гаспадар камбедавец Цыбулька. – Наша горніца з богам не спорніца! – з дурным гонарам весела казаў ён пра сваю хаціну-развалюху, дзе адно на печы маглі сагрэцца ягоныя вечна галодныя дзеці (У. Арлоў. Мой радавод да пятага калена...).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 211: Наша горніца з богам не спорніца; *Федароўскі,* с. 113: Наша горніца з богам не спорніца: як на дварэ, так і ў ёй.

**Нашто богу маліцца – ён нас і так баіцца.** *Жартаўлівае апраўданне таго, хто не хоча памаліцца.* Калі часамі каму напамінаюць аб патрэбе памаліцца, дык ён жартаўліва адказвае: – Нашто богу маліцца, – ён нас і так баіцца (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 154: Нашто богу маліцца – ён нас і так баіцца.

**Нашы дзяды не ведалі бяды, іх унукі спазналі мукі.** *Гл.* Дзяды не знаді бяды, а ўнукі набраліся мукі.

**Не адзін Гаўрыла <што> у Полацку.** *Хто-н. ці што-н. не з'яўляецца адзіным прадметам размовы.* Не адзін Гаўрыла, што ў Полацку – на Захадзе і на Усходзе існуюць альтэрнатывы тае наваствоpанай еднасці [дзяржаў] (В. Быкаў. Пошукі аптымістычна-

га зыходу). – І каму я павінен быць удзячным за такі пачастунак? – Прэзідэнту. – Рузвельту?.. – Не адзін Гаўрыла, што ў Полацку (Л. Прокша. Камедыянты). – А я хацеў у іх пытацца, дзе той дзіцячы дом. – Дапытаемся і без іх!.. Не адзін Гаўрыла ў Полацку, – адказалі з другое фурманкі (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). – А граф Тышкевіч, выпадкова, не далёкі ваш родзіч? – Не адзін Гаўрыла ў Полацку, – усміхаецца Аляксандр Леанідавіч, – хоць, хто яго ведае, карані ў нас лагойскія... (В. Шырко. Не чакаць, пакуль прыйдзе бяда).

* Тонкія жончыны губы ўздрыгнулі: – Грашавітага знайду... Хіба адзін Гаўрыла ў Полацку?.. Не сышоўся ж клінам свет – іншага падчаплю! (Л. Калодзежны. Водар палыну). [Заціруха:] А вы не сваячка, часам, будзеце нашаму дырэктару завода?.. [Матруна:] Хіба адзін Гаўрыла ў Полацку? (В. Зуб. Злавацца не трэба).

– *Насовіч*, с. 101: Не адзін Гаўрылька, што ў Полацку; *Янкоўскі,* с. 139: Не адзін Гаўрыла, што ў Полацку; *Прыказкі,* кн. 1, с. 510: Не адзін Гаўрыла ў Полацку.

**Не адразу Масква будавалася.** *Хутка нічога не робіцца; на ўсё патрэбен час.* – Засуха ў нас, – гэта яшчэ нішто, а вось вайна што нарабіла. – Адным словам, не адразу Масква будавалася (І. Шамякін. У добры час). – Нічога, дай часу, і ў нас ўсё ўладкуецца, – упэўнена заявіў Воранкоў. – Не адразу Масква будавалася, дарагі таварыш (І. Гурскі. У агні). Пачакай крыху, дзед. Не адразу Масква будавалася. Разбяромся мы ў сваіх шарэнгах, паглядзім, ацэнім, на што мы самі вартыя (В. Ткачоў. Вятрак – птушка вольная).

– Паўкалька з рускай мовы: *Москва не сразу строилась.*

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 505: Масква не адразу будавалася; Не за год Масква пастаўлена.

**Не багі гаршкі лепяць.** *Гл.* Не святыя (не багі) гаршкі лепяць.

**Не баішся ківа, пабаішся кія.** *Гаворыцца як пагроза пакараць таго, хто не прымае добрых парад, папярэджанняў.* Сіняк... стварае нейкую новую арганізацыю... Нічога не выйдзе ў цябе!.. Не баішся ківа, пабаішся кія (І. Гурскі. Чужы хлеб). **Не слухаеш ківа, дык паслухаешся кія.** І за ранейшую абразу, што прапіў жыта, а тым больш за «пустадомка», ён [Ермалай] дараваць не мог. – Не слухаеш ківа, дык паслухаешся кія... (А. Пальчэўскі. Сцежкі).

* Мы адганялі далей кароў ад ячменю, а яны ўсё косяцца на зялёную рунь. Упадабалі. Хочацца яшчэ раз пакаштаваць. – Ах вы, травяныя мяшкі, не слухаеце ківа, паспытаеце кія, – нязлосна бурчыць на кароў бацька (В. Шырко. Хай людзі бачаць). Старыя людзі

гавораць: «Добры чалавек пабаіцца і ківа, а благі не баіцца і кія». Наша агульная задача – выхаваць дзяцей добрымі людзьмі (Р. Барадулін. Варголы для дасціпнай Ланы).

– *Насовіч*, с. 93: Не баішся ківа, пабаішся кія; *Раманаў,* с. 304: Не слухае ківа, паслухае кія.

**Не бойся госця, які сядзіць, а бойся таго, што стаіць.** *Кажуць пра госця, які пасля застолля мае звычку гаварыць, а то і ўчыніць недарэчнасць. «*Не бойся госця, які сядзіць, а бойся таго, што стаіць», – гэтая прыказка колькі разоў прыходзіла ў галаву гаспадара, пакуль ён стаяў ля дзвярэй кватэры, праводзячы спазнелага госця. Ужо яны разы тры паручкаліся, а госць усё не мог скончыць думку... (В. Быкаў. Бедныя людзі).

* – Ну, сябры, мне было сёння ў вас даволі ўтульна, як ужо даўно не было. – Ён ласкава ўсміхнуўся Ніне, а яна памрачнела, адышла ўбок. – Бойцеся госця стаячага! – падняў Дзіма руку ўгору і павярнуў ручку дзвярэй (В. Рудава. Крылы).

– *Прыказкі*, кн., 1, с. 389: Не бойся госця сядзячага, а бойся стаячага.

**Не бойся крыклівага, а бойся моўклівага.** *Баяцца трэба не таго, хто хоць і крычыць, але праўдзівы, шчыры, а таго, хто скрытны.* – Маёй сяброўцы муж сказаў «кахаю» толькі на трэцім годзе сямейнага жыцця! – Не спадзявайся на гэта, – уздыхнула Маруся. – Калі чалавек маўчыць, значыць, яму ёсць чаго маўчаць. «Не бойся крыклівага, а бойся маўклівага», – недарэмна так кажуць у народзе (Л. Адамовіч. Кветкі самотнай князёўны).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 325: Не бойся сварлівага, а бойся маўклівага.

**Не бойся смерці, бойся старасці**. *Гаворыцца ў дачыненні да старога, слабага, хворага чалавека, які дажывае ў адзіноце, без прыгляду.* У вёсцы яго недалюблівалі за брыдкае ўменне з рознай вады выходзіць сухім. Але ж і дажыванне ў яго было па прыказцы: не бойся смерці, бойся старасці. Даседжваў, далежваў на сваім хутары адзін, усімі пакінуты, нямыты, нястрыжаны, барада па калені. Ні накарміць, хоць раз на дзень, ужо толькі з лыжкі, ні памыць, хоць раз на месяц у цэбры якім ці балеі, не было каму (Я. Брыль. Парастак).

**Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца.** *Баяцца трэба не таго, хто праўдзівы, шчыры, а таго, хто скрытны, ліслівы.* – Яшчэ большая злосць яе [жонку] апанавала. Толькі выгляду не падае: хваліць дзяўчынку за работу, лёстачкі падпускае... – Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго,

што лашчыцца, – устаўляе свае пяць капеек Волька (В. Шырко. Хай людзі бачаць).

– *Насовіч,* с. 92: Не бойся звяглівага, а куслівага; *Прыказкі,* кн. 2, с. 465: Бойся не таго сабакі, што брэша, а таго, што лашчыцца.

**Не будзе Гірша (-ы), <дык> будзе чорт іншы.** *Гаворыцца пра непазбежнасць чаго-н., пра тое, што немінуча павінна здарыцца.* [Паўлінка:] Што ж гэта нешта таттавага зяця так позна ні слуху ні духу? Ці не знюхаў ён, што ў мяне пасагу нямашака? [Сцяпан:] Каханенькая, родненькая, не бядуй. Не будзе Гірша, будзе чорт іншы (Я. Купала. Паўлінка).

* Не было б Рымшы – дык быў бы чорт іншы. Так, здаецца, калісьці казалі?.. Ты пачынай з Бабрука, які не справіўся з пастаўкай. За гэта ж мы і судзілі яго (Я. Брыль. У Забалоцці днее). Падумаеш, нейкі Корнеў будзе ганьбаваць мяне, ды хоць бы мяне аднаго, а то ж і Дуню няславіць. І я назнарок груба сказаў яму: – Ну во, няма Рымшы – знайшоўся чорт іншы... Дуню не чапай! (М. Масарэнка. Баргузінскае лета).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 495: Не будзе Гіршы, дык будзе чорт іншы.

**Не будзь горкім і не будзь салодкім, – горкае праплююць, а салодкае праглынуць**. *Гл.* Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць.

**Не будзь ні войтам, ні панам – не будзеш чалавекам паганым.** *Устар.* Раніцай зноў ішлі на панскае поле. Быў пан, аканом, войт ды цівун – лютыя, як сабакі. Не давядзі свет! У нас і прыказка такая была: «Не будзь ні войтам, ні панам – не будзеш чалавекам паганым» (В. Каваль. Палескае апавяданне).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 310: Не будзь ні войтам, ні сватам – не будзеш чалавекам праклятым.

**Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць.** *Гаворыцца як парада пазбягаць крайнасцей, трымацца прамежкавых пазіцый, паводзін і пад.* І от баркаўчане, каб ні благімі, ні добрымі не быць (бо ёсць прыказка: не будзь салодкі – а то праглынуць, не будзь горкі – а то праплююць), спяць кожнае гадавое свята з ранку да вечара цалюткі дзень (Л. Калюга. Нядоля Заблоцкіх). **Не будзь горкім і не будзь салодкім, – горкае праплююць, а салодкае праглынуць.** Злынькоўцы не вельмі перліся наперад, яны прытрымліваліся погляду: не будзь горкім і не будзь салодкім, – горкае праплююць, а салодкае праглынуць (І. Гурскі. Пчаляр).

* Змалку ён засвоіў тую ісціну, што склалася вякамі: салодкі будзеш –праглынуць, горкі – выплюнуць. І стараўся быць ні горкім, ні салодкім... (Б. Сачанка. Баравое рэха).

– *Федароўскі*, с. 112: Не будзь горкі, ні салодкі: горкага праплююць, салодкага праліжуць: *Прыказкі,* кн. 2, с. 462: Не будзь салодкі і не будзь горкі: будзеш салодкі – пракаўтнуць, а будзеш горкі – праплююць; Не будзь лішне салодкая, бо праглынуць, не будзь лішне горкая, бо праплююць; Не будзь салодкі – зліжуць, не будзь горкі – сплюнуць.

**Не было б шчасця, ды (дык) няшчасце памагло.** *Гаворыцца, калі ў выніку якой-н. непрыемнасці, бяды і пад. адбываецца штосьці прыемнае, шчаслівае.* **Сін.:** *Няма ліха без дабра; Няма таго злога, каб не выйшла на добрае.* Страляніна ў горадзе яшчэ працягвалася. У гэтым вэрлаху і тлуме стрэл, што прагучаў на татарскіх агародах, не прыцягнуў нічыёй увагі. Не было б шчасця, дык няшчасце памагло. Цяпер адно магло выратаваць – цярплівасць (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Адзін з выкладчыкаў, Паламарчук, даведаўшыся, што паступае пляменнік яго непрыяцеля Татарэвіча, закаціць яму тройку, а Татарэвіч адпомсціць Паламарчуку тым самым... І замест аднаго месца, якое мне трэба, вызваліцца аж два... Што ж, у народзе кажуць: не было б шчасця, ды няшчасце памагло... (Б. Сачанка. Трэцяе вока). З левага борта паспелі ўжо спусціць катэр. Ён імкліва набліжаўся да Мацея з Прохарам. Тыя падплылі адзін да аднаго і, як абняўшыся, чакалі, пакуль да іх падыдзе катэр. – Ну, цяпер яны карашкі аж да магілы... – засмяяліся на палубе. – Не было б шчасця, дык няшчасце памагло... (А. Крыга. Мацей з «Астроі»). Нездарма кажуць у народзе: «Не было б шчасця, ды няшчасце памагло». Суседскія адносіны з камандзірам блокпаста былі гарантыяй бяспекі вёскі (Полымя. 1997. № 5).

* Тая акалічнасць, што хлопец гэты ў першы ж дзень на волі моцна захварэў.., памагала пэўным чынам і Вользе, і яму: як кажуць, не было б дабра, ды бяда памагла (І. Шамякін. Гандлярка і паэт).

**Не было ні граша, а (ды) раптам алтын.** *Кажуць пры нечаканай удачы ці радасці пасля нешанцавання, няхваткі ў чым-н.* Права на гэтую зямлю атрымалі сяляне, якія працавалі ў калгасах і саўгасах, а таксама работнікі сацыяльнай сферы, што абслугоўвалі сельскае насельніцтва. Спачатку тыя, хто атрымаў пай, разгубіліся. Як гаворыцца, не было ні граша, а раптам – алтын (В. Гроднікаў. Час вулкана). [Людвіг:] Брат, мы ўратаваны. 2 тысячы

долараў. Не было ні граша, ды раптам алтын. Я павязу цябе ў Італію (Г. Марчук. Муж, жонка і целаахоўнік).

**Не варта шкурка вырабу.** *Справа не варта патрачаных на яе сіл, сродкаў і пад.* **Сін.:** *Гульня не вартая свечак; Спяваць дарма – баліць гарла.* Пра тое, што малаціць цэпам – не варта шкурка вырабу, стары і слухаць не хацеў. «А што ж будзеш рабіць цэлую зіму?» – такое чуў Юзік кожны раз на свае довады (К. Крапіва. Мядзведзічы). **Аўчына (аўчынка) вырабу не варта.** Хведар супакоіў жонку, далічыў пры яе дапамозе, колькі губак палатна можа выйсці з бабчынай пражы, памножыў губкі на аршыны і выказаў такую параду: – Ведаеш, Ганначка, што гэтая аўчына не варта вырабу (А. Пальчэўскі. Сцежкі). Вазіць цялят дзясяткамі эканамічна нявыгадна. Як кажуць, не варта вырабу аўчынка (В. Шырко. Сцяжына да людзей). Качагар судзіўся за тое, што яго скалечылі на чыгунцы. І бацька хадзіў за яго сведчыць. Васіліна не ведала, што ён там сведчыў, толькі чула, як паміж сабой гаварылі, што «аўчынка не варта вырабу» (А. Ус. За лесам – бярозавы гай). **Варта шкурка (аўчына, аўчынка) вырабу.** *З супрацьлеглым значэннем.* Поршань памяняць, цыліндр растачыць... Але ў нас у майстэрні гэтага не зробіш. Дый ці варта шкурка вырабу? Лепш купіць новы матор... (П. Місько. Градабой). Немцы не спяшаліся абмундзіроўваць сваіх паслугачоў, рашылі спачатку выпрабаваць іх у баях з партызанамі, упэўніцца, што варта аўчынка вырабу (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Апавяданне надрукавалі ў дванаццатым нумары часопіса. Я атрымаў за яго дзвесце пяцьдзесят рублёў ганарару і зразумеў, што аўчынка вартая вырабу (А. Кажадуб. Без настальгіі).

– *Федароўскі,* с. 281: Не варта скура вырабу; *Прыказкі,* кн. 1, с. 162: Аўчынка вырабу не варта; Шкура вырабу не варта.

**Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не сунься (суйся) у ваду.** **1.** [Шалёхін:] Краскін, сукін сын, здорава намуціў: запэўніў, што тут ёсць пераправа цераз Прыпяць... Дарэчы, дзе ён? [Грыгарук:] Ды ён цяпер сам не свой ходзіць. У балоце па вушы выкачаўся, шукаючы пераправы. [Путнік:] Не ведаючы броду, не суйся ў ваду (Я. Колас. У пушчах Палесся). Вясной ды ўвосень яны, такія рачулкі, прагна ўбіраюць снегавыя ды дажджавыя воды, якія лёгка сцякаюць па глiністых схілах узгоркаў, набухаюць, набіраюцца багатырскай сілы, становяцца грознымі ды свавольнымі. Тады сцеражыся, падарожнік, не лезь у ваду, не пашукаўшы броду (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Нехта з афіцэраў, што

прыязджалі сюды раней, сказаў, што ў той рэчцы нават рыба не жыве. Здзіўляўся, як гэта нас туды занесла. Сапраўды – «не ведаючы броду, не суйся ў воду...» (М. Фядосік. Служу Радзіме).

**2.** *Не бярыся за незнаёмую справу непадрыхтаваным, без адпаведнага вопыту.* – Мой тата заўсёды кажа, што, не ведаючы броду, не сунься ў воду... – смяяўся Андрэй. – А я не паслухаўся (М. Ваданосаў. Рэха). Не ведаючы людзей і горада, спадзявацца на поспех нельга. Наконт гэтага існуе другая прымаўка, таварыш камроты: не ведаючы броду, не сунься ў воду... (І. Сіняўскі. На правым флангу). Мы пераправімся. І людзі нашы, каму трэба, пераправяцца. Перапраўляліся ж, калі мастоў не было. А вось немцы... Не ведаючы броду, не сунься ў воду (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Мы з табою, Якім Захаравіч, людзі старой, моцнай гартоўкі. Не зведаўшы броду – не сунемся ў воду. Вось так (М. Пянкрат. Шчасце маё).

* Смешная ты, маці! Няўжо ты думаеш, што я такі дурны і палезу ў воду, не пабачыўшы броду? Не, брат: Пракопа ты за тры капейкі не возьмеш! (Я. Колас. Адшчапенец). У адной кароткай сутычцы байцы батальённай аховы захапілі ў палон нямецкага матацыкліста – імчаў, не гледзячы броду, і сунуўся ў воду... Не дапамог і кулямёт, з якога люта адстрэльваўся... (К. Кірэенка. З аповесці вайны). Нарэшце, акрыялыя ўдачамі, мы зрабіліся настолькі нахабнымі, што рашыліся на буйную аперацыю, якая нам вельмі дорага абышлася, калі, як кажуць, не змераўшы броду, сунуліся ў воду (Р. Няхай. Туман над стэпам).

– *Насовіч,* с. 98: Не зведаўшы броду, не кідайся ў воду; *Прыказкі,* кн. 2, с. 455: Не знаўшы броду, не лезь у воду; Не спазнаўшы (не змераўшы) броду, не суйся ў воду.

**Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.** *Пра адсутнасць даверу жонцы.* [Паваротны] залпам выпіў куфель піва і мнагазначна сказаў: – Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома... – Дзіва што... – зазначыла гаспадыня (І. Гурскі. Вярнуўся). Іваноў правёў яе [жонку] вачыма аж да дзвярэй, пачакаў хвілінку, а потым прызнаўся: – Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома, га? Правільная прымаўка? (І. Новікаў. Тварам да небяспекі).

* [Куліна:] Не вер у свеце нікому: каню ў полі, жонцы ў дому; бо хто толькі жонцы верыць, той як сітам ваду мерыць (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты).

– *Насовіч,* с. 95: Не вер каню ў дарозе, а жонцы ў двары; *Прыказкі,* кн. 2, с. 72: Не вер жонцы ў дому, кабыле ў дарозе.

**Не вер чужому слову, а вер свайму воку.** *Лепш самому ўбачыць, чым меркаваць з чужых слоў.* **Сін.:** *Лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць.* Ягайла намаганнем волі змусіў сябе стрымацца, мо згадаў, што людзі кажуць: не вер чужому слову, а вер свайму воку. Толькі грозна ляпнуў далонню па стале, зморшчыў высокі лоб і спытаў: – Ты часам не звар'яцеў? (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю).

**Не воўчы зуб, дык лісіны хвост.** *Калі не сілай, дык хітрасцю зрабіць што-н.*

*[Пану] воўчы зуб не памагае, дык палітыка другая ў яго як бач паспела – хвост пусціць лісіны ў дзела... (К. Крапіва. На «Крэсах Усходніх»). Параўн. таксама: «Лісі хвост і воўчы клык» – назва сатырычнага верша К. Крапівы пра палітыку нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 г.

**Невучоны (нявучаны) як (што) сляпы.** *Гаворыцца пра неадукаванага чалавека.* **Сін.:** *Чалавек невучоны як тапор нетачоны.* – Глядзі ж, сынок! – спыніў яго бацька. – Слухай настаўніка, бо нявучаны – усё роўна як сляпы, а граматны чалавек нідзе не прападзе. Каб я з маткаю цешыліся з цябе... (Я. Колас. Школа).

* Бацькі і добрым словам, і пагрозай прабавалі ўтлумачыць яму [Рыгору], што без навукі жыць дрэнна, што невучоны горш за сляпога, – нічога не памагло (У. Галубок. Апошняе спатканне).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 178: Невучоны што сляпы.

**Не вучы вучонага.** *Кажуць, калі не жадаюць слухаць чыю-н. параду.* **Сін.:** *Не вучы дзядулю кашляць; Не вучы рыбу плаваць.* «Глядзі на машыну не напарыся!» Яльгун скупа адказаў праз зубы: – Не вучы вучонага! (М. Лынькоў. Восеньскай ноччу). – Ты, можа, не ў той бок круціш, – кажа Калюня. «Не вучы вучонага...» – думае Яська, але на ўсякі выпадак пачынае ганяць стрэлкі ў другі бок, і праз некалькі абаротаў яны падаюць на цыферблат (М. Гіль. Пуд жыта). – Ты хоць язык, як баба, не высоўвай. Пасядзеў у рэстаране – і будзь задаволены. – Ладна, не вучы вучонага, – адмахнуўся Прохар (А. Крыга. Мацей з «Асторыі»). – Малакасос, – хрыпла вылаяўся адзін з ценяў. Клацнуў затворам. – Ты асцярожней, – папярэдзіў другі цень. – Не вучы вучонага, – адказаў першы (Полымя. 2008. № 1). – Ты ж, Алёша, норму ведай! Перапіць – дзела не мудронае. Лепш недапіць яе, акаянную. – Не вучы вучонага! – лёгка злуецца дзядзька Аляксей (М. Парахневіч. Жыццё пражыць...).

* – Сцяпан усё дапытваўся, хто быў са мною. Я не выдаў вас. Калі будуць пытацца – гавары, што нічога не ведаеш. – Вучы вучонага! (М. Зарэмба. Камандзір зялёнага патруля).

– *Рапановіч,* с. *178:* Не вучы вучонага.

**Не вучы дзядулю кашляць**. *Кажуць, калі не жадаюць слухаць чыю-н. параду*. **Сін**.: *Не вучы вучонага; Не вучы рыбу плаваць*. Падлогу ім рабі. А дзе дошкі? Давай дошкі – зробім... Рабі падлогу – і не кірхай! Я гаварыў, дарэчы, і старшыне Гусеву пра гэта. А ён паслаў мяне куды трэба. «Не вучы дзядулю кашляць!» (В. Ткачоў. Дошкі).

**Не вучы рыбу плаваць.** *Пра майстра сваёй справы, якому не патрэбныя чые-н. парады.* **Сін.:** *Не вучы вучонага; Не вучы дзядулю кашляць.* Невядомы чалавек вырываецца. [Сымонка:] Трымай яго, дзядзька Рабіна! Трымай мацней! [Рабіна:] Не вучы рыбу плаваць (В. Вольскі. Машэка).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 456: Не вучы рыбу плаваць.

**Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а ў агародзе.** *Гл.* Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.

**Не гань чужога, калі свайго не маеш.** *Гаворыцца як парада быць самакрытычным пры ацэнцы каго- ці чаго-н.* Пыталіся: «Такога, як у Пешчура», «каб як у Кіпеля?», «каб як у...?» Дзед на гэта нічога не казаў, – то змоўчваў, то вёў размову на іншую сцяжынку. Ды яно ж так: не гань чужога, калі свайго не маеш. Пешчураў конь дужы, але цяжкавы. Кіпелеў стройна ідзе, прыгожа бяжыць, а пакуль грэблю пераедзеш на ім, то ў яго лапаткі задрыжаць, закалоцяцца (Ф. Янкоўскі. Дзед Тамаш).

**Не гаспадар, у каго вецер у павеці гуляе.** *Гл.* <Той> не гаспадар, у каго вецер у павеці гуляе.

**Не да вас п’юць, не кажыце здароў будзь.** *Гл.* Да цябе не п’юць, не кажы здароў будзь.

**Недагледзіш (недаглядзіш) вокам, заплаціш бокам.** *Недагляд, няўважлівасць, промах становяцца прычынай цяжкіх наступстваў.* Калі здарыцца якое-небудзь няшчасце па віне самога чалавека, дык ён не звяртаецца да бога, а выводзіць правіла: недаглядзіш вокам, заплаціш бокам (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Янкоўскі*, с. 252: Недагледзіш вокам, заплаціш бокам.

**Не дажыўшы да паўдня, не плануй вечар.** *Няма чаго загадзя беспадстаўна гадаць пра далейшы ход падзей.* – Калі б Вы былі Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі, што найперш зрабілі б? – Ведаеце, ёсць мудрая прымаўка – не дажыўшы да паўдня, не

плануй вечар. На ўсё воля Госпада... (М. Коктуш. Трэба часцей бываць у абіцелі).

**Не дай бог два разы жаніцца і два разы сяліцца.** *Гаворыцца як папярэджанне, засцярога ад нежаданага паўторнага вяселля ці наваселля (з-за вялікіх выдаткаў, розных іншых непрыемнасцей).* [Эмігранты], вядома, нудзяцца, сумуюць па дамоўцы. Але вярнуцца на Радзіму не кожны можа... Ды і няпэўнасць, насцярога ў кожнага – тут абжыліся, неяк зводзяць канцы з канцамі, а як там, дома, будзе?.. Недарэмна ж, мусіць, гавораць – не дай бог два разы жаніцца і два разы сяліцца (Б. Сачанка. Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні). – Году не пройдзе – на папялішчах хаты вырастуць. І якія! Лепшыя, чымся былі. І поле сваё ўробім... – Нялёгка, ох, як нялёгка будзе, – зноў уздыхнула, заохкала маці. – Не дай бог два разы жаніцца і два разы сяліцца (Полымя. 1971. № 5). Цяпер мы тут ужо як свае, ніхто ніколі нас ні ў чым не зняважыў, не абразіў, наадварот, імкнуліся людзі дапамагчы, падтрымаць... У народзе кажуць: не дай бог два разы жаніцца і два разы сяліцца. Пра апошняе не думалі і мы, усім было даспадобы жыць у родным Стралічаве... Шкада, што безнадзейна ўсё рассыпалася, баліць душа і сэрца... (А. Сакун. Як жывеш, перасяленец?).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 210: Не дай бог часта жаніцца і часта сяліцца.

**Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.** *Кажуць пра таго, хто, атрымаўшы багацце ці ўладу, пачынае несправядліва адносіцца да такіх, якім быў сам, злоўжываць сваім становішчам.* Здзекуюцца вяскоўцы больш за ўсё з Галінай ганарыстасці, пагарды да ўсяго тутэйшага, вясковага, з яе да пацешнага ненатуральнай гарадской вытанчанасці, напятай, як маска, з-пад якой, як ні хавай, а вылазіць звычайная дурнаватая вясковая баба. Пра такіх здаўна кажуць: не дай бог свінні рог, а мужыку – панства (В. Блакіт. Вырай). А як нашы людзі ставяцца да набытага, праўдзіць пагаворка: «Не дай бог свінні рог, а мужыку панства». Калі і ўдасца што, дык будзем «сала есці, салам закусваць і яго ж пад ногі» (Л. Анфілеўка. Зберажом!).

* [Мікіта:] Эх, каб я быў, междду протчым, царом! Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амерыкі і ад Смаленску да Берліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы. А то круці галавой над языкамі, як баран які над студняй. [Янка:] Бачыў бог, што не даў свінні рог, а рэгістратару панавання (Я. Купала. Тутэйшыя). І толькі дзядзька Тамаш.. першы здага-

даўся сказаць – ці то пра настаўніка, ці то пра яго навуку: «Ат! Не дай бог свінні рог, а хамуйле панства». І хоць за ім першым і другія пачалі наракаць на унтэр-афіцэра за яго «свецкі форс» і «дужа ўжо панскую мову», але Тамашовы дзядзькавы словы мёдам леглі на сэрцы ў Хомкі (М. Гарэцкі. Горкая прамудрасць). Адно цешыла, што не даў бог свінні рогі, бо калі б у Гаркушы быў сапраўдны мастацкі талент, гэта быў бы дысідэнт, роўны Салжаніцыну (М. Кусянкоў. Арляк і зязюля). [Рыгор:] Як народны кантроль я хачу, каб перамагла законнасць! Таму што цяпер кожны п'яніца ведае – што б ні здарылася, Зязюля выручыць. [Жанчына:] Адна паршывая авечка... [Антонавіч:] Дай свінні рогі, дык яна ўвесь свет пераверне (А. Дзялендзік. Гаспадар). – Ды ты памаўчаў бы ўжо, – заступаецца за мяне Іванава маці. – Бог свінні рогі не даў, так і табе мазгоў, сыночак! (А. Новік-Шлег. Іван ды Мар'я).

– *Насовіч,* с. 96: Не дай бог свінні рог, а мужыку панства; *Рапановіч,* с. 68: Не дай бог свінні рог: нічога па дарозе не прапусціць; *Рабкевіч,* с. 134: Не дай бог свінні рог.

**Не дай бог удаве чыніцца, а сіраце радзіцца**. *Кажуць пераважна пра сірату, пра цяжкую сірочую долю.* Я была сірата і жыла ў матчынай сястры – цёткі Ванды. «Не дай бог удаве чыніцца, а сіраце радзіцца». Зімой сувей вялікі надула на ганку, цётка турыць мяне на холад: «Ідзі мяці снег» (С. Лобач. Журба прылегла).

**Не да каляды, калі поўная хата бяды.** *Функц. не зам. Не час займацца чымсьці высокім, святочным, калі знаходзішся ў вельмі цяжкім становішчы.* **Сін.:** *Не да парасят, калі свінню смаляць; Не да пацераў, калі хата гарыць.* У апошнія гады пішу пераважна публіцыстыку – на жаль, у вершах таксама. Па прычынах, пра якія ўжо гаварыў: «Не да каляды, калі поўная хата бяды» (Н. Гілевіч. Сто вузлоў памяці...). Народ кажа: «Не да каляды, калі поўная хата бяды». Акрамя пакут, у мяне нічога іншага няма (Крыніца. 1993. № 2).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 444: Не да каляды, калі поўная хата бяды.

**Не да парасят, калі свінню смаляць.** *Няма як займацца кім-н. ці чым-н., калі самому крута прыходзіцца.* **Сін.:** *Не да каляды, калі поўная хата бяды; Не да пацераў, калі хата гарыць.* [Жлукта:] Я тады і сам нічога не ведаў, куды еду. А браць у няпэўную дарогу такія цымбалы, як твая мама... [Клава:] Табе цымбалы, а мне яна мама! І ты не смей так гаварыць... [Жлукта:] Тут не да парасят, калі свінню смаляць. Тут, брат, трымай вуха востра, бо і не агледзішся, як галавою наложыш (К. Крапіва. Мілы чалавек).

[Куліна:] З хлебам трэба нешта рабіць. Збыць каму? [Халімон:] Не да парасят, калі свінню смаляць (У. Сауліч. Халімон камандуе парадам). Я шкадаваў. А мяне... Хто мяне пашкадуе? Пятро Кірылавіч і той... Ён пра сябе думае. Самому б пры пасадзе застацца, ацалець. Не да парасят, калі свінню смаляць... (Б. Сачанка. Родны кут). **Свінні не да парасят, калі яе смаляць.** Марфа здагадалася, што яе будуць судзіць за самагонку, і вельмі занепакоілася. Яна ведала, чым гэта можа скончыцца, і забылася пра скаргу на Алеся. Нездарма, мабыць, кажуць: свінні не да парасят, калі яе смаляць (І. Сіняўскі. Заранка). У мяне ўражанне, што ўвогуле нашая культура, наш інтэлект спыніліся на пэтэвушна-карасінай стадыі... Толькі пра гэта пэтэвушнік больш ужо не хіхікае, бо, як гавораць на Беларусі, свінні не да парасят, калі яе смаляць (В. Казько. Зазірнуць у вочы свайму «Я»).

* – А што, дзед, як твае пчолы?.. – Э, пчолы! Не да парасяці было, калі свінню смалілі. Яшчэ ў першую зіму фашысты мёд павыдзіралі, і канец прыйшоў пчолкам. А цяпер думаю, сынок, зноў наладжваць вуллі (У. Краўчанка. Вясна на Палессі).

– *Насовіч,* с. 97: Не да парасят, калі саму свінню смаляць; *Янкоўскі,* с. 231: Свінні не да парасят, калі хвост смаляць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 380: Не да парасят, калі свінню смаляць; Не да парасят свінні, калі яе смаляць.

**Не да пацераў, калі хата гарыць.** *Не час каму-н. займацца чымсьці высокім, аддаленым, калі самому крута прыходзіцца.* **Сін.:** *Не да каляды, калі поўная хата бяды; Не да парасят, калі свінню смаляць.* Скажаце: сягаць у будучыню. Але народ, каторы не знайшоў яшчэ веры ў сябе, ці ж захоча паверыць у казкі аб будучыні? І паэт воляй-няволяй не можа абмінаць і замоўчваць цяперашняга жыцця. Не да пацераў, калі хата гарыць (Я. Купала. Чаму плача песня наша?). Не да пацераў, калі хата гарыць, – браў Купала прыказку, каб сцвердзіць, што не да малітваў красе, калі трэба весці бітвы супраць нядолі (А. Лойка. Як агонь, як вада). Гэткае ганебнае становішча [засмечанасць мовы шматлікімі запазычаннямі] выправіць у бліжэйшы час наўрад ці ўдасца – не да пацераў, калі хата гарыць (Я. Зэльвіч. Чысцец для мовы). **Калі хата гарыць, не да пацераў.** Калі хата гарыць, не да пацераў. Ва ўмовах палітычнага генацыду, што пачаўся са знішчэння розуму нацыі – інтэлігенцыі, перш за ўсё творчай і навуковай, на пярэдні план выступіла праблема захавання нацыі! (В. Рагойша. Бацька нацыі).

– *Санько,* с. 29: Не да пацераў, калі хата гарыць.

**Недаростку трэба падмостку.** *Чалавеку нізкага росту, каб дастаць што-н. уверсе, трэба якая-н. падстаўка.* Стораж няёмка памяўся, а потым прысеў на калодачку, на якую станавілася бабка Параска, каб залажыць юшкі. «Недаростку трэба падмостку», – гаварыла яна ў такіх выпадках пры людзях (Я. Колас. На ростанях).

– *Янкоўскі*, с. 167: Недаростку трэба падмостку.

**Не да танцу абадранцу.** *Кажуць, калі не вераць у чые-н. магчымасці, здольнасці зрабіць штосьці істотнае.* Ды якая карысць, калі пасярод вашых захопліваючых планаў, як абух па галаве, чуеш бурчэнне: «Не да танцу абадранцу», «Усуньце кляп у горла сакатуну – няхай не брэша». «Ат! Лысае ўрадзілася, лысым і здохне»! Гэтыя агульныя выкрыкі, праўда, шэптам сказаныя, але іх чуеш (А. Мрый. Тварам да вёскі).

– *Насовіч*, с. 97: Не да танцу абадранцу; *Прыказкі*, кн. 1, с. 409: Не да танцу абадранцу.

**Не да цябе п'юць, не кажы здароў будзь.** *Гл.* Да цябе не п'юць, не кажы здароў будзь.

**Не дораг абед, а дораг прывет.** *Ласкавыя, добразычлівыя адносіны да каго-н. прыемнейшыя, лепшыя за пачастунак.* «Не дораг абед, а дораг прывет». Кармілі нас сытна, да адвалу... А вось прывета і не хапала (А. Вярцінскі. «Не дораг абед, а дораг прывет»). Нездарма людзі кажуць: не дораг абед, а дораг прывет. Падсілкаваўся трохі падарожнік-чарадзей, пачаў распытваць у аратага пра ягонае жыццё-быццё, якую ён хацеў бы мець палёгку... (У. Ягоўдзік. Жаўрук).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 391: Не так дораг абед, як дораг прывет; Дарагі не абед, а прывет.

**Не дражні ліха, пакуль ціха.** *Гл.* Не чапай ліха, калі спіць ціха.

**Не дурань, хто маўчыць.** *Гаворыцца звычайна як станоўчая ацэнка маўклівага чалавека.* А бацька ў іх маўчун быў. Нават па паставе відно, што маўчун. Але ж кажуць: не дурань, хто маўчыць. Навучыла яго жыццё маўчаць (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Ляцкі,* с. 30: Не дурань, хто маўчыць.

**Не ён першы, не ён апошні.** *Гаворыцца ў апраўданне чыйх-н. паводзін, учынкаў, бо падобнае здараецца ці можа здарыцца і з іншымі людзьмі.* Што чакае іх [дзяцей] у такую ліхую гадзіну, калі яны астануцца толькі з Ганнай?.. Але паміраць трэба. Не ён першы, не ён апошні (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). [Васька] гнаў у вёску гусей і адчуваў, што, як гэтых гусей, яго таксама абкружваюць, спрабуюць некуды загнаць. І загоняць, ён усведамляў

гэта, і не вельмі супраціўляўся... Не ён першы, не ён апошні (В. Казько. Неруш).

– *Федароўскі,* с. 233: Не ты першы і не ты астатні.

**Не жолаб да каня, <а> конь да жолаба ідзе.** *Каму-н. непасрэдна самому трэба нешта рабіць, а не чакаць немагчымага ад іншых.* – Не жолаб да каня, конь да жолаба ідзе. Ціснецеся туды, мужыкі. – Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку, – выскаляўся нехта з грамады... (В. Адамчык. I скажа той, хто народзіцца).

– *Федароўскі,* с. 365: Не жолаб да каня, а конь да жолаба; *Насовіч,* с. 110: Не яслі к коням, а коні к яслям ходзяць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 201: Жолаб да каня не ходзіць.

**Нежывога з магілы не падымеш.** *Мінулага не вернеш.* **Сін.:** *Што з воза ўпала, тое прапала.* I сам сабе, гад, жытку атруціў і дзяцей пасіраціў. Колькі б ні сядзеў [у турме], усё роўна таго не адседзіш... Нежывога з магілы не падымеш (К. Чорны. Ліст Якуба Малькевіча).

– *Федароўскі,* с. 320: Умерлага з магілы не падымеш.

**Незапрошаны госць горш за татарына.** *Гл.* Няпрошаны (незапрошаны, нязваны) госць горш за татарына.

**Не за тое воўка б'юць, што ён шэры, а за тое, што авечку з'еў.** *Каго-н. караюць за яго злачынства, а не за якія-н. неістотныя якасці.* Беларускія людзі ў кожным кутку таўкуць немца і прыгаварваюць: «Не за тое воўка б'юць, што ён шэры, а за тое, што авечку з'еў». Доўга гэта нянавісць будзе палымнець у сэрцах людзей да немцаў, аж датуль, пакуль не будзе выбіты дур з галавы немцаў – аб заваёве свету (І. Гурскі. Над Нёманам).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 368: Не за тое воўка б'юць, што ён шэр, а за тое, што авечку з'еў.

**Не заўсёды кату масленіца.** *Гл.* Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.

**Не заўсёды світае, як певень спявае.** *Не заўсёды так бывае, як каму-н. думаецца, як хто-н. мяркуе. Кажуць у адказ на чыё-н. сцвярджэнне, меркаванне, пытанне.* – Няўжо на ліхое ідзе? – спытала Маня, увязваючы ў старую хустку мох, каб падаць цесляру на зруб. – Няўжо на вайну будуемся? – Ай, як кажуць, не заўсёды світае, як певень спявае. Можа, толькі гавораць, а вайны не будзе, – сказаў Васіль... (В. Адамчык. Год нулявы). – Да Хрысці бяжыш. Што, не, няпраўду кажу? – задраў угору брылёк свае кепачкі Жэнік Рэпка... – Не заўсёды світае, як певень спявае (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 91: Не заўсёды світае, як певень спявае.

**Не заўсягды, як на дзяды.** *Не заўсёды бывае для каго-н. толькі адно прыемнае. Гаворыцца, калі каму-н. не шанцуе, перастала шанцаваць.* **Сін.:** *Не ўсё кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.* Ніхто не мог так жаласна енчыць і пяяць Лазара, як Сідаронак; ніхто не мог так прычытваць, як Магдуля. Самы найгоршы павінен быў даць ім што-колечы... Але «не заўсягды, як на дзяды», бо шчасце – не палец, у рукі не возьмеш. Вырвалася яно ад іх на час (З. Бядуля. Ашчаслівіла).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 170: Не заўсягды, як на дзяды.

**Не зважай (не ўважай) на ўраджай, а жыта сей.** *Выконвай сваю працу, не ставячы гэта ў залежнасць да яе вынікаў.* Ягады не растуць раней за кветкі. Спачатку папрацуеш, а потым убачыш плён свае працы. А мо і наогул не ўбачыш, але ніколі аб гэтым не шкадуй і тым больш не апраўдвай свае ляноты. Як кажуць, не зважай на ўраджай, а жыта сей (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

– *Насовіч,* с. 105: Не ўважай на ўраджай, а жыта сей; *Прыказкі:* кн. 1, с. 125: Не ўважай на ўражай, а жыта сей; Не глядзі на ўраджай: жыта сей.

**Не зведаўшы броду, не сунься ў воду.** *Гл.* Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не сунься ў воду.

**Не зведаўшы гора, шчасця не ацэніш**. Як вясковы чалавек не адчувае свежасці паветра, пакуль не пабудзе ў горадзе, так і шчаслівы чалавек не адчувае сябе шчаслівым, пакуль не здарыцца бяда. Нездарма кажуць людзі: не зведаўшы гора, шчасця не ацэніш (Л. Левановіч. Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста).

– *Ліцвінка*, с. 62: Хто не бачыў гора, таму і шчасце не прынясе радасці; Хто ніколі не перажыў няшчасця, той і шчасце не ацэніць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 449: Не пабачыўшы гора, дабра не ўбачыш.

**Не злавіў – не злодзей.** *Гл.* Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.

**Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.** *Гаворыцца ў апраўданне таго, каго падазраюць у зладзействе ці іншых адмоўных учынках, але не маюць бясспрэчных доказаў яго віны*. – Не злавіў за руку, не кажы, што злодзей, – уставіла гаспадыня. – Яго хоць за руку і не злавілі, а ўсе ведаюць, што ён злодзей, – злосна сказаў гаспадар (Л. Арабей. Сіні бор). – Табе не здаецца, што яны [Царукі] высачылі, калі я з лесу прыходзіў, паліцаям перадалі? – Хто ведае, – паціснула плячыма Агапа. – Можа, і яны. Але... Не злавіў за руку – не кажы злодзей (Б. Сачанка. Горкая радасць

вяртання). Арыштавалі шмат каго, а потым выпусцілі. Не ўзяў за руку – не кажы: злодзей (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). **Не злавіўшы, не кажы, што злодзей.** Максім пералічыў колькі гаспадароў з вёскі, што былі ў яго на вялікім падазрэнні. Але не злавіўшы, не кажы, што злодзей (Я. Колас. Малады дубок). **Не злавіў – не злодзей.** – А калі ён заальхоўскага чалавека стрэў на дарозе ды каня і грошы адабраў, калі пошту з грашыма пераняў, дык і гэта яго рук не мінула. – Так, пане ты мой, яшчэ нельга гаварыць. Мала што... Не злавіў – не злодзей, як тыя людзі кажуць (К. Крапіва. Мядзведзічы). **Не злоўлены <за руку> – не злодзей.** Старшы бухгалтар зрабіў прыбіральшчыцы заўвагу. Тая заплакала, клялася, што ні ў чым не вінавата. Праўда, не злоўлены – не злодзей, але ж... (М. Пянкрат. Ціхі чалавек). Тваё ж калегі дадуць санкцыю, бо тваё выкрыванне ўдарыць і па іх – усе бяруць. І ўсе знаюць пра гэта. Але ўсе высокамаральныя. Не злоўлены за руку – не злодзей. Назваць зламысніка злачынцам можа толькі суд, больш ніхто (І. Шамякін. Выкармак).

– *Насовіч,* с. 94: Не ўзяў за руку, не кажы злодзей; *Ляцкі,* с. 26: Не кажы злодзей, пакуль не ўхопіш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 375: Не злавіў – не кажы злодзей.

**Не злавіўшы, не кажы, што злодзей.** *Гл.* Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.

**Не злоўлены – не злодзей.** *Гл.* Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.

**Не кажы гоп, не пераскочыўшы.** *Гл.* Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў.

**Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў (не пераскочыш).** *Не лічы што-н. зробленым, пакуль не давядзеш яго да канца. Гаворыцца таму, хто занадта самаўпэўнены і заўчасна радуецца поспеху.* **Сін.:** *Не хваліся, ідучы на раць; Хваляцца з кірмашу едучы.* [Андрэеў:] Калі ўсё добра будзе – у тры гады выканаем. [Шаталаў:] Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў (Р. Кобец. Гута). [Пацяруха:] Яшчэ тры тыдні назад вы мяне стукалі па плячы і казалі: «Ну, цяпер ужо можаш лічыць сябе аспірантам!» А што ж выходзіць? Што праўду кажа старая прыказка: не кажы «гоп», пакуль не пераскочыў! (Н. Гілевіч. Не кажы «гоп»...). – Вось абдурым фрыцаў, – радаваўся Ігар. – Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў, – зазначыў Грыша (М. Ткачоў. Небяспека побач). Дзе тваё цвёрдае слова [кінуць курыць]? Гэта якраз пра цябе прымаўка: не кажы гоп, пакуль не пераскочыш! (М. Паслядовіч. Навошта цябе

адкрылі, Амерыка?). – Ну, Мікола, цяпер ужо зусім блізка да хаты... – Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш, – весела адгукнуўся Лятняк (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік). **Не кажы гоп, не пераскочыўшы.** [Пiлiп:] Ды нечага там, мы й самі з вусамі. [Ульляна:] Ой, не кажы гоп, не пераскочыўшы! (Л. Родзевіч. Пакрыўджаныя). – Не кажы «гоп», не пераскочыўшы! – сказала мачаха бацьку (І. Мележ. Людзі на балоце). **Не пераскочыўшы, не кажы гоп.** [Грэнка:] Меры забяспекі намі прыняты. У нас варта прызначана. А наша сялянства – народ свядомы: добра ведае, што настаўнік – не вораг яму, і ліха нам ніхто не зробіць. [Гарнак:] Не пераскочыўшы, не кажы гоп! (Я. Колас. Забастоўшчыкі). [Маланння:] Я за сваю брыгаду ручаюся. Сваіх баб сагітую і табе нос падатру... [Рахункавод:] Не пераскочыўшы, не кажы гоп (А. Макаёнак. Узыходы шчасця). **Не пераскочыў, не кажы гоп.** Вельмі хацелася [Сашы] пахваліцца сваім поспехам, дысертацыяй, якая будзе хутка абаронена, але стрымаўся. Не пераскочыўшы – не кажы гоп. Ды і не варта адразу раскрываць карты (І. Навуменка. Бульба). **Калі не пераскочыў, не кажы гоп.** Зноў жа, нечага хваліцца тым, што яшчэ не зроблена: калі не пераскочыў, не кажы гоп (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

* Пастой, брат, не фарсі, не пераскочыўшы, не гопай: прыпруць – і пойдзеш у акопы, і хвігу ты з’ясі (Я. Колас. На шляхах волі). [Антоні:] Ці ж не казаў табе я, брат Кліменці, што трэба «гоп» казаць, як рэчку пераскочыш? (М. Клімковіч. Адплата). Невядома, як абернецца справа. Лепш пачакаць, пакуль скончацца экзамены. Не пераскочыўшы роў няма чаго і «гоп» казаць (Я. Колас. На прасторах жыцця).

– *Насовіч,* с. 101: Не пераскочыўшы рэчкі, не гавары гоп; *Прыказкі,* кн. 2, с. 340: Не пераскочыўшы, не кажы гоп; Не кажы гоп, не пераскочыўшы; Пакуль не пераскочыш, не кажы гоп; Не кажы гоп, калі не пераскочыў.

**Не кайся, рана ўстаўшы (падняўшыся) і рана жаніўшыся.** *Часцей ужываецца ў адказ на рэпліку суразмоўніка, які лічыць што-н. заўчасным.* – Не жнуць, не косяць, а ты граблі прадаеш?! – Э, чалавеча, кажуць, не кайся, рана ўстаўшы і рана жаніўшыся. Рана ўстанеш – многа зробіш, рана жэнішся – дзяцей пры маладым здароўі пагадуеш. Так і граблі – купіш, то мецьмеш у пору (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). – Ці не дужа мы рана сабраліся? – Не кайся, рана падняўшыся і рана жаніўшыся (М. Воранаў. Сена аленям). **Не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніў-**

**ся.** І мой во ходзіць, як бык, адзін. Жаніцца, хлопцы, пара. Перастарэеце, і ніхто тады за вас не пойдзе. Кажуць, не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся (Я. Ермаловіч. Валуны).

– *Насовіч,* с. 98: Не кайся, рана ўстаўшы, а молад жаніўшыся; *Ляцкі,* с. 26: Не кайся, рана ўстаўшы, а замалада ажаніўшыся; *Прыказкі,* кн. 2, с. 54: Не кайся, рана ўстаўшы, замаладу ажаніўшыся; Рана ўстаўшы, то не кайся, і рана жаніўшыся.

**Не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся**. *Гл.* Не кайся, рана ўстаўшы і рана жаніўшыся.

**Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.** *Непрыемнасць можа здарыцца з тым, хто жадае ці робіць яе іншым. Часцей ужываецца як перасцярога не рабіць благога каму-н.* – Цяпер ён сам трапіў у блакаду. Праўду людзі кажуць: не капай другому яму... – Сам увалішся, – падхапіла Аксана (М. Гамолка. Лясная крэпасць). У галаве хадуном хадзілі думкі: «Ну і чалавек! І ўсё нахабней становіцца. Паводзіць сябе як звер які... Палохаць уздумаў – не запалохаеш!..» Лявон паступова супакоіўся, уздыхнуў: «Не капай другому яму, бо сам у яе ўвалішся...» (У. Гніламёдаў. Вяртанне). **Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.** [Навум:] Глядзі, мая перапёлачка, штоб з гэтага піва не выйшла якога дуру, бо знаеш прымаўку: хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

* Тут на полі людзі расказвалі Кірылу пра Віткоўскага, як ён немцам лізаў боты і, каб выслужыцца, тапіў сваіх людзей. – Што ж, капаў другім яму, – гаварыў Кірыла, – сам у яе ўваліўся (І. Гурскі. На родных гонях).

– Паходзіць з Бібліі: «Хто капае яму, той упадзе ў яе» (Кніга Эклезіяста, 10, 8).

– *Насовіч,* с. 99: Не капай на чалавека яму, сам упадзеш; *Федароўскі,* с. 125: Хто на каго яму капае, той сам у яе ўваліцца; *Прыказкі,* кн. 2, с. 458: Не капай каму яму, бо сам увалішся; Хто яму капае, той сам туды пападзе.

**Не конь вязе, а дарога.** *Пры паездцы, падарожжы куды-н. многае залежыць не ад каня, а ад якасці дарогі.* А самую дарогу было не пазнаць: звычайная гравейка ператварылася ў асфальтаваную шашу. «Праўду кажуць: не конь вязе, а дарога...» – Нават Лявошка не ўтрываў, пахваліў (П. Місько. Градабой).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 275: Не конь вязе, а дарога.

**Не красна хата вугламі, а пірагамі.** *Хата прываблівае не знешнім выглядам, а гасціннасцю гаспадароў.* Трэба, каб.. архі-

тэктура, усё будаўніцтва прыносіла людзям выгоды і радасць. Ранейшая прымаўка – не красна хата вугламі, а пірагамі – устарэла. Хата наша, сучасная, павінна быць красна і пірагамі, і вугламі (І. Дуброўскі. Красна хата не толькі пірагамі).

– *Насовіч,* с. 99: Не красна хата вугламі, а пірагамі; *Ляцкі,* с. 27: Не слаўна хата вугламі, а слаўна пірагамі; *Прыказкі,* кн. 1, с. 211: Слаўна хата не вугламі, але пірагамі.

**Не кручаны – не рэмень (не рамень), не вучаны – не чалавек.** *Пра важную ролю ведаў, адукацыі.* «З цябе, Караткевіч, выйдзе добры матэматык, – казаў настаўнік, – толькі не кідай вучобы». Я і не думаў кідаць. Вясковы мудрэц дзед Янка любіў паўтараць: «Не кручаны – не рэмень, не вучаны – не чалавек» (В. Шырко. Споведзь правінцыяла).

– *Прыказкі:* кн. 2, с. 177: Не кручаны – не рамень, не вучаны – не чалавек.

**Не купіў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць.** *Кажуць іранічна, калі што-н. не ўдалося, не атрымалася або калі хто-н., спадзеючыся на каго-н. іншага, не паклапаціўся, каб забяспечыць сябе чымсьці неабходным.* Тым часам ні спаць, ні ляжаць Адасю не хацелася [ён на першы дзень Вялікадня прагуляў усе свае яйцы і не выбіў ніводнае біткі] і аставацца ў цёмнай хаце было не саладка, але ж і на вуліцы – яшчэ горшае згіненне.. Не, лепш ляжаць дома і нічога не бачыць. Нічога не зробіш. Лепшага ратунку няма-шака. Не купіў бацька шапкі – няхай вушы мёрзнуць! (Я. Лёсік. Па-валачобнаму). – Чым займаешся, Саўка Лявонавіч?.. – Ды вось... галаўны ўбор майструю... – І каб неяк пазбыцца непрыемнага пачуцця, дадаў жартуючы: – Як у прыказцы той: не купіў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

* Лагодна добры досціп кпіў, калі ні ў тры, ні ў два: раз бацька шапкі не купіў – хай мерзне галава! (Р. Барадулін. Шапку з бабра прымерваюць...).

– *Насовіч*, с. 99: Не купіў тата шапкі, няхай вушы мерзнуць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 130: Не купіў бацька шапкі – няхай вушы мерзнуць.

**Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.** *Не ўмешвайся ў справы, якія не маюць дачынення да цябе.* **Сін.:** *Не лезь, певень, туды, дзе гусі пасуцца.* Ён [слесар] добра ведаў прыказку: не лезь, жаба, туды, дзе коні куюць. І стараўся не лезці, не заўважаць, ведаць толькі сваю работу (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Не дай божа і сёння зачапіць (няхай нават неглыбока) парадкі ў арміі, КДБ, міліцыі; па-

дымаецца вэрхал: званкі начальству, пагрозы. Адным словам, не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць (В. Шырко. Дзеля карысці).

* Нялёгка, відаць, настаўнікам з такім вучнем. Трэба было паставіць яго на месца... Не лезь босы, дзе коней куюць... (А. Кудравец. На балоце скрыпелі драчы).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 343: Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.

**Не лезь, певень, туды, дзе гусі пасуцца.** *Не ўмешвайся ў справы, якія не маюць дачынення да цябе.* **Сін.:** *Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.* І вось я хаджу на сходы, плачу ўзносы. Крытыкую – злуюць, не лезь, певень, туды, дзе гусі пасуцца. Даю параду, няхай і слушную, – глядзяць з пагардай (В. Шырко. Споведзь правінцыяла).

**Не людзі выбіраюць бяду – бяда людзей выбірае**. *Гаворыцца, калі з кім-н. здарылася бяда, няшчасце і пад.* **Сін**.: *Бяда не па лесе, а па людзях ходзіць; Не шукай бяды, яна <сама > цябе знойдзе.* Яно, вядома, нялёгка будзе, ды яшчэ пасля такіх пакут: надарвеш пупавіну ды рукі [выцягваючы воз з балота]. Але што зробіш – усялякае бывае. Не людзі выбіраюць бяду – бяда людзей выбірае. А яна бывае рознай – бяда гэта (А. Жук. Сашок).

– *Янкоўскі*, с. 68: Не людзі выбіраюць бяду – бяда людзей выбірае.

**Не май сто рублёў, а май сто сяброў.** *Часта сябры даражэйшыя за багацце. Кажуць, калі сябры або знаёмыя выручаюць у бядзе, дапамагаюць ці могуць дапамагчы.* Аспірантура – таксама валынка... Каб экстэрнам мінімум здаць!.. Замежная цяжэй за ўсё... Ха-га... А Наталачка-палтавачка, «англічанка» з «іняза»? Выручыць... Не май сто рублёў, а май... І гэтак далей (П. Місько. Ціхае лета). – Дык па якім жа тады прынцыпе падбіраў у свой трэст кадры? – Каюся! Па прынцыпе: «не май сто рублёў, а май сто сяброў». Вінават, памыляўся (А. Макаёнак. Дарагая дружба). Век жыві і век вучыся. І яшчэ адна народная мудрасць: не май сто рублёў, а май сто сяброў... Гэта пацвердзілася яшчэ раз, калі разбіралася мая справа (І. Новікаў. Гульня ўнічыю). А ў купэ ўжо і афіцыянтка з вагон-рэстарана спрытна зняла з падноса белую сурвэтку. – Хто гэта прыдумаў? – даваўся дзіву Пятрусь. – Ці няма каму? – завіхалася каля століка афіцыянтка. Нездарма кажуць: не май сто рублёў, а май сто сяброў... Прашу! (І. Аношкін. Тэлеграма).

– *Насовіч,* с. 100: Не мей сто рублёў, а мей сто другоў; *Федароўскі,* с. 82: Больш значыць сто другоў, як сто рублёў; *Прыказкі,* кн. 1, с. 382: Лепш сто сяброў, чым сто рублёў.

**Не мела баба клопату, <дык> купіла парася.** *Сам сабе прычыніў шмат клопату, цяжкасцей. Гаворыцца, калі ў каго-н. пачынаюцца непрадбачаныя турботы, цяжкасці з-за непрадуманага дзеяння, учынку і пад.* – Манах! Манах! – гукнулі два падшывальцы і, тузянуўшы Сцяпанавы падрызнікі, пусціліся драла. «Не мела баба клопату, купіла парася», – думаў, ходзячы, Сцяпан, страціўшы надзею знайсці купца (Я. Колас. Старыя падрызнікі). Мне ўжо страшна надаела з імі тут валынка ўся: баба клопату не мела, дык купіла парася! (К. Крапіва. Біблія). [Камісар:] Урача выклікалі? [Партызан:] Ёсць выклікаць урача! [Камісар:] Схаджу пагляджу, што там такое. [Камандзір:] Не мела баба клопату – купіла парася (А. Макаёнак. Ворагі). Усе суседзі ведалі, што Рэня прыняла сабе прымака. – Не мела баба клопату – купіла парася, – сказаў першы. – Ну, што вы! Як жа з такім калекаю жыць? – сказаў другі (В. Гардзей. Дынамік на школьным коміне). Ну, каго з вас падмяніць? Спацелі вы абое. Не мела баба клопату... (Э. Ярашэвіч. Святло імя твайго).

– *Насовіч,* с. 100: Не мела баба клопату, купіла парася; *Раманаў,* с. 302: Не было бабе клопатаў, дык купіла парася.

**Не месца красіць чалавека, а чалавек месца.** *Ужываецца як сцвярджэнне, што ўсё залежыць ад самога чалавека, а не ад месца, дзе ён працуе.* Перш за ўсё – месца перамяніць трэба, хоць з другога боку – не месца красіць чалавека, а чалавек месца (Я. Колас. У глыбі Палесся). **Не мясціна ўхарошае людзіну, а людзіна ўхарошае мясціну.** Чыталі мы [ваш ліст] калектыўна, чыталі і паасобна. Нам вельмі хацелася зразумець: чаму вам сумна? Як мы ні раіліся ў сваім калектыве, але ўрэшце прыйшлі да старой народнай прымаўкі: «Не мясціна ўхарошае людзіну, а людзіна ўхарошае мясціну». Гэту прымаўку мы разумеем так, што ад людзей, ад нас саміх залежыць, каб нам, дзе мы знаходзімся, жывём, было добра, прыгожа, весела (У. Дубоўка. Алелька).

– Калька з лацінскай мовы: *Non locus ornate hominem, Sed homo locum.*

– *Янкоўскі*, с. 176: Не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек месца.

**Не мне казаць, не табе слухаць.** *Гэта і так усе ведаюць. Кажуць у апраўданне, калі даводзіцца гаварыць агульнавядомае.* Эх, Цётка! Не мне казаць, не табе слухаць... Павінна ты гэта ведаць лепей за мяне... Я – рабочы... Дзе я працую – там маё і ўсё (М. Гарэцкі. Віленскія камунары).

– *Ліцвінка,* с. 46, 65: Не мне брахаць, а табе слухаць; Не табе гэта казаць, не мне слухаць.

**Не можа быць, каб лапці ваду прапускалі**. *Гл.* Хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць?

**Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.** *Гаворыцца таму, хто недарэчна ўмешваецца ў чые-н. справы.* Не ўмешвайся ты, бацька, не ў свае справы. Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы (К. Чорны. Зямля). Яны [куваднікі] усё ныюць, хныкаюць, бядуюць. Такому б я сказаў: – Слюнцяй, не скавычы! Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы! (К. Крапіва. Кувада). – Ну – чаго маўчыш? – А што гаварыць? Як казаў Крапіва, не можаш памагчы, дык лепей памаўчы (П. Місько. Градабой).

– *Насовіч,* с. 100: Не можаш памагчы, то лепей памаўчы; *Прыказкі,* кн. 1, с. 371: Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.

**Не мылься (дарэмна мылішся), галіцца не будзеш.** *Нават не думай зрабіць штосьці, бо з тваіх намераў нічога не атрымаецца.* [Бусько:] Кім ты быў і кім ты стаў? Быў штучным бугаём, штучным бараном, штучным кнырам. А стаў інжынерам. Дык ты ўсё-такі не кідаеш сваёй прафесіі? Разлагаеш мне апарат? Мой апарат? [Гарык:] Я яшчэ нікога не разлажыў. [Бусько:] І не разложыш! Не дам! Не мылься, галіцца не будзеш. Не дапушчу! (А. Макаёнак. Пагарэльцы). Стась падсеў зусім блізка. Надзя адсунулася, сказала: – Дарэмна мылішся, галіцца не будзеш... – А гэта мы паглядзім. – Паліцэйскі абхапіў Надзю за шыю, адсунуў нагамі стол і зашаптаў, дыхаючы перагарам... (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне).

– *Аксамітаў*, с. 74: Не мачыся, бо голены не будзеш.

**Не мы першыя, не мы апошнія.** *Кажуць як апраўданне чыіх-н. калектыўных дзеянняў, паводзін, учынкаў і пад. – нярэдкіх у жыцці людзей.* Не мы першыя, не мы апошнія. Неяк перагаруем лета, не так шмат ужо засталося (К. Крапіва. Мядзведзічы). Мы рыхтуемся да самага горшага. Пакуль ёсць патроны, будзем адбівацца, а там... Што ж, не мы першыя, і не мы апошнія, як кажуць людзі (В. Быкаў. Трэцяя ракета). – Мая месячная зарплата пайшла на штаны. – Што зробіш? Не мы першыя, не мы апошнія (А. Жалязоўскі. Іду на канфлікт).

– *Федароўскі,* с.233: Не ты першы і не ты астатні.

**Не мясціна ўхарошае людзіну, а людзіна ўхарошае мясціну**. *Гл.* Не месца красіць чалавека, а чалавек месца.

**Не наеўся, дык і не наліжашся.** *Гл.* <Калі> не наеўся, дык (то) і не наліжашся.

**Не падмажаш – не паедзеш.** *Калі не дасі хабару, то нічога і не даб'ешся.* **Сін.:** *Сухая лыжка рот дзярэ.* У мяне ў гасцях часам бываюць начальства з фельдкамендатуры, гарадскі бургамістр і нават камандуючы вобласці. Сам ведаеш прымаўку: «Не падмажаш – не паедзеш». Вось я і падмазваю. Кожны раз так накачаю, што на нагах не стаяць (І. Новікаў. Тварам да небяспекі). «Прыязджай раней. Я буду чакаць. Ёсць у мяне тут па чарцы...» Косця прытоена ўсміхнуўся: стары хоча падмазаць. «Ну што ж, – падумаў задаволена, – не падмажаш, не паедзеш. Усё правільна!» (А. Варановіч. Сон на зялёнай паляне). Стуканок думаў: «Не падмажаш – не паедзеш» і ледзь не кожны дзень падносіў Сярожу гасцінцы (А. Рылько. Стуканок у аблавушцы). Войцік дык той і тайны з гэтага не рабіў: браў добрага падсвінка, аб'яўляючы свінаркам: «Трэба завезці патрэбнаму чалавеку. Не падмажаш – не паедзеш» (І. Шамякін. Палеская мадонна). **Не падмазаўшы, не паедзеш.** Што тут «пане Чыжэўскі»... Сведкі – галоўнае. Ты, брат, сам павінен ведаць, не малы: не падмазаўшы, не паедзеш!.. (Я. Брыль. Марыля). [Зойка:] Мы грошы прынеслі... [Жора:] Грошы?.. Малайцы! Не падмазаўшы, кажуць, не паедзеш (А. Петрашкевіч. Укралі кодэкс). **Не падмажаш, то і не паедзеш**. Трэба самому большае начальства пачаставаць, і таму і сяму сунуць. Тут, браце, такая ўжо завядзёнка, як той казаў, – не падмажаш, то і не паедзеш (Я. Лецка. Па цаліку).

– *Насовіч,* с. 101: Не падмажаш і не паедзеш; *Прыказкі,* кн. 1, с. 347: Не падмажаш – не паедзеш; Не мазаўшы, не паедзеш; Не падмасліўшы, не паедзеш.

**Не падмажаш, то і не паедзеш**. *Гл.* Не падмажаш – не паедзеш.

**Не падмазаўшы, не паедзеш.** *Гл.* Не падмажаш – не паедзеш.

**Не пад тую дудку пчолка скача, што чмель ладзіць.** *Не так даводзіцца жыць, як хацелася б.* Цудоўная жанчына, а што яна бачыла добрага ад яго за пяць гадоў сямейнага жыцця?.. Пэўна ж, не толькі на гэта разлічвала медсястра са сталіцы, калі выходзіла замуж за жыццярадаснага выпускніка лётнага вучылішча. Але, як кажуць, не пад тую дудку пчолка скача, што чмель ладзіць (Ф. Сіўко. Маэстра і лётчык).

**Не пад'ясі – і залатую фурманку аддасі.** *Каб не быць галодным, мусіш пакарыцца абставінам, будзеш гатовы аддаць апошняе.* **Сін.:** *Голад не цётка.* – Так еўшы, не доўга і тлушчам заплысці... – Хто есць, Максімачка, той і цягне. Нездарма ж старыя людзі яшчэ мне, як была я ў дзеўках, гаварылі: «Не пад'ясі – і залатую фурманку аддасі» (А. Казлоў. Адкуль з'яўляюцца яны?..).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 221: Як не пад'ясі, дык і залатую карэту прадасі.

**Не пад'ясі, то і святых прадасі**. *Галодны чалавек здольны на такія ўчынкі, якія б у іншых, нармальных умовах не рабіліся.* – Ану распранайся, абедацьмеш. – Нешта не хочацца, мяне тут у адных дранікамі пачаставалі са смятанай. – Ты што, дзевачка, паесці ўсё роўна трэба. Не пад'ясі, то і святых прадасі (А. Кажадуб. Стрэчанне). [Янкель:] Калі чэсна, то мы з Ахметам такія іудзеі і мусульмане, як вы хрысціяне. Ды даруюць нам багі нашы. [Ахмет:] Ён ужо забыўся, што бальшавікі зрабілі і з нашымі верамі, і з нашымі багамі, і з нашымі мовамі, кнігамі, храмамі... [Янкель:] І намі самімі. Ім што габрэй, што татарын, што паляк, што беларус, што хахол – адзін быдлячы інтэрнацыянал. [Ахмет:] Таму і кіруемся вашай прымаўкай: не пад'ясі, то і святых прадасі (А. Петрашкевіч. Інтэрнацыянал па-беларуску).

– *Насовіч*, с. 64: Калі не пад'ясі, і святых прадасі.

**Не пазналі сваіх нашы, бярозавай далі кашы**. *Кажуць, звычайна іранічна, калі каму-н. даводзіцца цярпець пабоі ці іншыя непрыемнасці не ад чужых людзей, а ад сваіх жа*. [Маргун (да Батуры, які таксама занепакоіўся, пачуўшы, што вось-вось павінна ўступіць у вёску польскае войска):] А табе чаго баяцца? Гэта ж вашы... Ты ж паляк, здаецца? [Батура (загадкава падміргвае):] Не пазналі сваіх нашы, бярозавай далі кашы (К. Крапіва. Партызаны). Неўзабаве па нашай пазіцыі пачала прыстрэльвацца [наша] артылерыя. Андрэй [камандзір] быў чалавекам, які не ведаў страху. Ён і цяпер пачаў смяяцца, што не пазналі сваіх нашы, даюць бярозавай кашы (У. Калеснік. Доўг памяці).

– Парэмійны наватвор К. Крапівы. Склаўся з двух выказаў. Першы – крыху зменены варыянт старадаўняй прыказкі з евангельскага тэксту: *Своя своих не познаша*. (Параўн. у зборніку В.З. Аўсянікава «Литературная речь» (М., 1933, с. 241): *Своя своих не познаша, своя своих побиваша*). Другая частка наватвора – фразеалагізм – *бярозавая каша* з дзеясловам-суправаджальнікам *даць*.

– *Насовіч*, с. 147: Свой свайго пазнаў ды й на пачостку пазваў (з паясненнем: «Насмешка над пацярпелым ад свайго прыяцеля пабоі»).

**Не паклаў (не паклаўшы), не шукай.** *Гаворыцца, калі не ўдалося знайсці што-н., пакладзенае іншым.* [Адам] хуценька напісаў [пісьмо], пацікавіўся ў лісце, колькі каштуюць пясцовыя шкуркі, пачаў шукаць канверт. Паглядзеў у кнігах, пакорпаўся ў

шуфлядзе – не знайшоў, паўшчуваў сябе: не паклаў – не шукай (М. Воранаў. Карона).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 453: Не паклаўшы, не шукай.

**Не паклаўшы, не шукай.** *Гл.* Не паклаў (не паклаўшы), не шукай.

**Не памыляецца той, хто нічога не робіць.** *Гл.* Хто <нічога> не робіць, той не памыляецца.

**Не пераскочыў, не кажы гоп.** *Гл.* Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў.

**Не пераскочыўшы, не кажы гоп.** *Гл.* Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў.

**Не пі, не еш і з хаты не лезь.** *Пра вельмі дрэнную пагоду (звычайна зімой).* Першая ваенная зіма была халодная. Як кажа прыказка: не пі, не еш і з хаты не лезь. Але з хаты трэба было вылазіць (Р. Сабаленка. Успомненае).

– *Насовіч,* с. 164: Тры дні не пі, не еш, а з хаты не лезь; *Прыказкі,* кн. 1, с. 56: Не пі, не еш і з хаты не лезь; Не пі, не еш і з печы не лезь.

**Не піў – не мог, а выпіў – ні рук, ні ног.** *Часцей гаворыцца пра таго, хто пасля выпіўкі не хоча ці не можа працаваць.* [Навум:] Досць таго лайдацтва, пойдзем у карчму да нап’емся гарэлкі: бо штосьці душы не вядзецца! Але няма чаго казаць, яно чы вып’еш, чы не, рабіць не хочацца; чалавек штось адвык ужэ ад дзела. Добра кажа тая пагаворка: не піў – не мог, а выпіў – ні рук, ні ног (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 247: Не піў – не мог, а выпіў – ні рук, ні ног.

**Не плаціць багаты, а вінаваты.** *Той і заплаціць ці аддзячыць, хто вінен каму-н., хто мае доўг.* Ты запісаў, браце, быў мне тыя пяць дзён у працапоўдні... Але – запішы на поўныя дні, што табе значыць? Ты вінаваты не будзеш. Праўда, не плаціць багаты, а вінаваты, гэта так, але – братачка ты мой! Я на тое месца наганю работаю. Пастараюся (К. Чорны. Брыгадзірава памылка).

* – Маці просіць вас, пачакайце трошкі грошы за арэнду... Праз месяц, а то і раней мы ўсё сплоцім, яшчэ з працэнтамі нават... – Плаціць не багаты, а вінаваты. Перадайце гэта, будзьце ласкавы, сваёй маці... Бывайце здаровы!.. (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Насовіч,* с. 101: Не плаціць багаты, а вінаваты; *Прыказкі,* кн. 1, с. 345: Не плаціць багаты, а вінаваты.

**Не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца.** *Не рабі непрыемнасцей каму-н., бо гэтым можаш у далейшым пазбавіцца чыёй-н.*

*падтрымкі, дапамогі.* [Наташа:] А яна такі трапіла. У маі месяцы. [Курбатаў:] Пад суд? [Наташа:] За суддзю... замуж выйшла. [Курбатаў:] Ага, не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка). Сяргей Сяргеевіч успомніў, як яны сварыліся з Карасікам і той крычаў наўздагон: «Не плюй у калодзеж, бо напіцца, можа, прыйдзецца» (В. Супрунчук. Сяргей Сяргеевіч). Ад гэтага ж міністэрства яшчэ як залежыць моц графа Замойскага на ваяводскай пасадзе. Так што, як кажуць, не плюй у калодзеж... (І. Аношкін. Чырвоная каліна стаяла). **Не плюй у карытца – прыдасца напіцца**. Бах, нашу Айчыну без нашае волі, як тую аўчыну ў шматкі папаролі. А нам чужы статут паднёс пяць паветаў, – жыві і ўладай тут! Ну, дзякуй за гэта!.. Не плюй у карытца – прыдасца напіцца. І «польскі», і «рускі», і ўсякі чорт іншы на сказ беларускі плюе, не купіўшы – каб нам, беларусам, і немач, і ліха... А мы што? – пад вусам бармочама сціха: не плюй у карытца – прыдасца напіцца (Я. Купала. Не плюй у карытца...).

* [Янка:] Ці не паспяшаліся, пане рэгістратар, пляваць у карытца – каб не прыйшлося напіцца (Я. Купала. Тутэйшыя). А цябе, мой друг, я папярэджваю, дарэмна ты плюеш у мой калодзеж, спатрэбіцца вады напіцца... (І. Гурскі. У агні). Не ведаю, як вы, а я рад, што маю зручны выпадак пагаварыць з вамі шчыра, ад усяго сэрца. Тэма нашай гутаркі: не плюй у крыніцу, давядзецца напіцца (А. Макаёнак. Старшыні выканкома...).

– *Раманаў,* с. 303: Не плюй у ваду: давядзецца напіцца; *Прыказкі,* кн. 2, с. 458: Не плюй у ваду, згадзіцца напіцца; Не плюй у карытца, мо прыйдзецца напіцца; Не плюй у калодзеж, мо прыйдзецца напіцца.

**Не поп, не ўбірайся (не прыбірайся) у рызы.** *Не бярыся не за сваю справу.* **Сін.:** *Не ў свае сані не садзіся.* – Вы тут самі з вусамі. Уносіць вам тут свае парадкі я і не думаю. Рабіце, што вам трэба. – Не поп – не ўбірайся ў рызы. Чаго сеў на кут? – гаварыла Ева, пазіраючы з-за Кузьмы на старшыню (Я. Ермаловіч. Ева.). Я яму, блазну, рукі за гэта паадбіваў бы – не лезь, куды не трэба! Не лезь! Не поп, не ўбірайся ў рызы... (Р. Няхай. Сарочы лес). Тамадой быў я. Быў – кажу катэгарычна – першы і апошні раз. Як той казаў: не поп, не прыбірайся ў рызы... (М. Пянкрат. Тамада). **Калі не поп, <дык> не ўбірайся ў рызы (у рызу).** А ўсё гэты чортаў Шлёма: не нагані яго чэрці – і ў галаву не прыйшло б Сцяпану купляць гэтыя дрынды. Ні іх надзець, ні іх перарабіць. Праўду казаў той Мікола: «Калі не поп – не ўбірайся ў рызы» (Я. Колас.

Старыя падрызнікі). Наконт заатэхніка я скажу адно: «Калі не поп, дык не ўбірайся ў рызу» (В. Праскураў. Святая сівізна).

– *Насовіч,* с. 64: Калі не поп, не ўбірайся ў рызы; *Прыказкі,* кн. 2, с. 288: Калі не поп, не ўбірайся ў рызу.

**Не рабі благога і не бойся нікога.** *Гаворыцца як парада, настаўленне каму-н.* Яна ведае, пераканана, што не зробіць яе сын нікому ліхога, не на тое яна нарадзіла яго. Не такі ён, каб залезці на чужое седала. Сама не раз настаўляла: не рабі благога і не бойся нікога (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю).

– *Ліцвінка,* с. 115: Не рабі благога і не бойся нікога; *Аксамітаў,* с. 179: Не рабі нічога, не бойся нікога.

**Не радзіся красны, а радзіся шчасны.** *Пра перавагу шчасця над прыгажосцю.* «Не радзіся краснай, а радзіся шчаснай!..» – прымаўку старую ўспамінаю часта (Е. Лось. Не радзіся краснай...). Не радзіся краснай, а радзіся шчаснай, – любіла паўтараць Куліне маці, калі бачыла, што тая зайздрослівым позіркам праводзіць вабных сяброўак ды цяжка ўздыхае (Н. Рыбак. Куліміна каханне). **Не радзіся красівы, а шчаслівы**. Жывуць яны добра... – Вось бачыце, як яно ў жыцці бывае, – сказаў Андрэй павесялелым голасам, – а вы за сваю дачку хвалюецеся. Праўду людзі кажуць: «Не радзіся красівай, а шчаслівай!» (П. Савоська. Запіскі халасцяка).

– *Насовіч,* с. 102: Не радзіся красны, а радзіся шчасны; *Прыказкі,* кн. 2, с. 423: Не радзіся красны, а радзіся шчасны; Не радзіся красівы, а шчаслівы; Не радзісь прыгож, а радзісь шчасліў.

**Не раскусіш арэх, зерня не з'ясі.** *Не змагаючыся за што-н. жаданае, прыемнае, не атрымаеш яго.* **Сін.:** *Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся; Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці.* – Дык кажаш: не раскусіш арэх, зерня не з'ясі? – Да Салаўя звярнуўся пануры салдат. – Без новай рэвалюцыі не мецьмем свабоды? – Вядома, – ажывіўся Салавей. – Нічога само не зробіцца. Пачаў работу, то канчай (І. Гурскі. Вецер веку). – Адно хачу сказаць: усё-такі самі сябе часта б'ём, калі нячыста малоцім і жнём. Бачыце, дробязі, чарнавая работа не падабаецца... Як жа без яе? Арэх не раскусіш – зерне не з'ясі (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 167: Не раскусіўшы арэх, зерне не з'ясі; Арэх не раскусіш – зерня не з'ясі.

**Не руш чужога і не бойся нікога.** *Гл.* Не чапай нічога і не бойся нікога.

**Не святыя (не багі) гаршкі лепяць.** *І звычайны чалавек справіцца з цяжкай справай. Гаворыцца, каб падбадзёрыць таго, хто*

*бярэцца за нязвыклую для яго справу.* Знаёмства і гутарка прастадушнага Шайбака з жывым паэтам яшчэ раз пацвердзіла яго ўлюбёную прымаўку, што не святыя гаршкі лепяць. Патрэбна толькі смеласць (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне). Прыгледзеўшыся да Шалюты на новай пасадзе, ён [Варановіч] паверыў, што з таго пры старанні можа выйсці раённы кіраўнік. Не святыя ж гаршкі лепяць. Ды і калі што – я табе памагу (Б. Сачанка. Вялікі Лес). – Што вопыт? Набудзеце яго ў самым хуткім часе... – Ну што ж, паспрабуем, Пятро Халімонавіч. – Вось і добра. Не багі ж, як гаворыцца, гаршкі лепяць (М. Лынькоў. Векапомныя дні). – Ого, каб мне набыць голас Валянціна Адамавіча! – З тваімі здольнасцямі гэта няцяжка. Ты далёка пойдзеш... – А што вы думалі? Не багі гаршкі лепяць (І. Шамякін. Снежныя зімы). Ды, у рэшце рэшт, не багі гаршкі лепяць. Авалодаць любой спецыяльнасцю няцяжка, калі за плячамі ўсяго дваццаць пяць, як у Сямёна (Я. Каршукоў. У першыя дні).

* Я проста не маю права не пісаць. Калі я не буду пісаць, мне гэтага ніхто не даруе. А што, хіба святыя гаршкі лепяць? Не, не святыя, а зусім наадварот (Я. Васілёнак. Сучасная тэма). Кніжку выпусціць – многа праз сябе трэба прапусціць. Можа, калі і мы што выпусцім. Не святыя гаршкі лепяць, а ганчары, звычайныя, як мы з табой, людзі (Я. Ермаловіч. Малады старшыня). Рыфма, як бачыце, акаймавала вялікую філасофскую думку, што не толькі багі могуць ляпіць гаршкі (С. Шушкевіч. Пра рыфмы). Не багі гаршкі ляпілі – багі перунамі лупілі. Гаршкі ляпілі замораныя гаршкалепы з няблізкага Морына (Д. Бічэль-Загнетава. Гаршкалепы).

– *Федароўскі,* с. 105: Не святыя гаршкі лепяць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 158: Не святыя гаршкі лепяць.

**Не слухаеш ківа, дык паслухаеш кія**. *Гл.* Не баішся ківа, пабаішся кія.

**Не смейся, рабе, дасць бог і табе.** *Кажуць у адказ на чые-н. насмешкі як папярэджанне ці спадзяванне, што і з суразмоўнікам можа здарыцца штосьці падобнае.* Я так сташчаў, быццам на вайне быў. А яна, як амяла, што на дрэве, пухнатая, касматая. І ўсё насміхаецца з мяне: «Ты як конь здохлы». Ёсць прымаўка: «Не смейся, рабе, дасць Бог і табе!» Ніхто б і не падумаў, што ў яе смерць пад носам: ехала да сваіх палюбоўнікаў і папала ў аварыю (С. Лобач. Горкую лілею пакашу...).

– *Рабе* – форма клічнага склону назоўніка *раб.*

– *Янкоўскі,* с. 293: Не смейся, рабе, бо давядзецца і табе; *Ляцкі,* с. 30: Не смейся, брудзе, бо й табе будзе.

**Неспаведныя шляхі твае, Госпадзе**. *Гл.* Неспавядальныя шляхі Гасподнія.

**Неспавядальныя шляхі Гасподнія.** *Функ. не зам. Немагчыма прадугадаць усе павароты лёсу, прадвызначыць будучыню.* Сапраўды, неспавядальныя шляхі Гасподнія: ніколі не ведаеш, дзе знойдзеш, дзе страціш, дзе сустрэнеш блізкага тваёй душы чалавека... (ЛіМ. 2001, 29 верас.). – А, Сяргей Адамавіч! Добры дзень. Кукуем? Сама «Сельгастэхніка» засела. Віншую, віншую... Як жа гэта вы? Вось табе і ўсюдыход! – Неспавядальныя шляхі Гасподнія, – трагічна прамовіў Марынчук (М. Ракітны. Была вясна...). **Неспаведныя шляхі твае, Госпадзе.** Ці мог Васіль Быкаў, ваюючы супраць Германіі, лічачы немцаў смяротнымі ворагамі, думаць, што некалі, праз пяцьдзесят гадоў, будзе шукаць прытулку ў Германіі ад беларускіх цемрашалаў? І прызнавацца, што тут, у Германіі, ён адчувае сябе больш бяспечна, чым у Беларусі і ў Расіі? Неспаведныя шляхі твае, Госпадзе (Л. Арабей. Пошукі ісціны). **Шляхі Гасподнія няведамы. –** Калі Гітлер прыйдзе, то праз дваццаць-пятнаццаць хвілін. – Думаеце, усё-ткі прыедзе? – Шляхі Гасподнія няведамы (І. Чыгрынаў. Ігракі). **Божыя дарогі неспазнаныя.** А ў нас знайшлося яшчэ трое дзяцей, ачуняў-такі бацька, лёгкая работа, чыстае паветра, на ферме даяркі не шкадавалі пастуху малака – пі колькі хочаш. Як кажуць, Божыя дарогі неспазнаныя: даўно няма маці, а бацька жыве (В. Шырко. Анатоль Мацвеевіч). **Нявызнаныя шляхі Божыя.** О, я бачу боль на вашым твары... Але ж ваш сябра будзе жыць, па сутнасці, дзякуючы вам. Нявызнаныя шляхі Божыя... (У. Арлоў. Місія папскага нунцыя). **Шляхі твае, о Божа, нязведаныя**. Шляхі твае, о Божа, нязведаныя. Нам здаецца часам, што мы набліжаем волю, а на самай справе мы накладаем на сябе новыя вярыгі (Я. Сіпакоў. Яма).

– Паходзіць з Бібліі (Пасланне да Рымлянаў, 11, 36); паўкалька з царкоўнаславянскай мовы: *Неисповедимы пути Господни.*

**Не столькі работы, колькі турботы.** *Гаворыцца пра што-н. нескладанае, але турботнае.* Фруза павярнулася да акна, уявіла пад ім Рамуальда і сябе: паказвае дзіця... «Толькі б хутчэй, толькі б... – слаба ўсміхнулася. – Не столькі работы, колькі турботы...» (М. Воранаў. Карона).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 186: Не так работы, як заботы.

**Не судзіце, ды не судзімы будзеце.** *Кніжн. Гаворыцца звычайна як парада ці заклік не ўмешвацца ў непрыемнасці.* [Алімпія:] Што я табе, сынок, скажу? Вайна ўсё пераблытала. Быў доб-

ры – стаў дрэнны, а той, пра каго не думаў, чалавекам аказаўся... Не судзіце, ды не судзімы будзеце. Вайна... (А. Дзялендзік. Грэшная любоў). Цяпер у друку часта неапраўдана асуджаецца партызанскі рух, але каб асуджаць, трэба добра ведаць усе абставіны. Тыя, хто асуджае, часта іх не ведаюць. Хочацца ім параіць: «Не судзіце, ды не судзімы будзеце» (А. Жураўскі. Інтэрв'ю). Чаму так зрабілася, зараз сказаць цяжка. Была вайна. І прыхаджане, і святары гэту тэму стараюцца абыходзіць: не судзіце, ды не судзімы будзеце (Звязда. 2005, 4 мая). Выправіла ўсё ж маці сынка Іванчыка, вока сваё адзінае, на станцыю. Дзіця горкае, на матчынай мове не тое што мовіць, плакаць яшчэ не навучыўся. Выправіла... А мо і сама соннага аднесла. Хто ведае, хто ведае. Не судзіце, ды не судзімы будзеце (В. Казько. Нахаў).

* Непрыкметна і тактоўна Галя – не выкрэсліваннем – дапіскамі здымала маю ўзлаванасць. Вусна яна часам ўзгадвала евангельскае выслоўе: – Не судзі – ды не судзімы будзеш (І. Шамякін. Зона павышанай радыяцыі). У гэтых радках [Хведаровіча] – подых часу, наша гісторыя, наша агульная трагедыя. І паэт тут менш за ўсё вінаваты. Ды і ў чым можа быць віна таго, хто сам здолеў «над краем бездані ўтрымацца»? Не судзі, як кажа Біблія, каб самому не быць асуджаным (А. Бельскі. «Праз плынь лядовае тугі...»).

– Паходзіць з Бібліі (Матф., 7, 1–2): «Не судзіце, ды не судзімы будзеце. Бо якім судом судзіце, такім будзеце судзімы; і якою мераю мераеце, такою і Вам будуць мераць».

– *Федароўскі*, с. 293: Не судзі нікога – не будзеш сам суджаны; *Насовіч*, с. 98: Не кархай на людзей, самога абкархаюць.

**Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве.** *Не ў апошні момант робіцца тое, што трэба было зрабіць раней. Гаворыцца з незадавальненнем, калі выяўляецца непадрыхтаванасць да якой-н. справы.* **Сін.:** *Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці*. Мы робім выгляд, што нічога не ведаем, хаця са свайго боку ўжо прынялі ўсе магчымыя ў нашых умовах захады. Гэта і зразумела: не тады ж вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве (В. Праскураў. Далёка ад дому).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 482: Не тады плаваць вучыцца, калі вада ў рот плыве.

**Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці (ехаць).** *Не ў апошні момант робіцца тое, што трэба было зрабіць раней. Гаворыцца з незадавальненнем, калі выяўляецца непадрыхтаванасць да якой-н. справы.* **Сін.:** *Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот*

*плыве.* Але ж не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці. Трошкі наперад трэба зазіраць. Сёння сем [машын], а праз год, можа, усіх дзесяць будзе! (М. Паслядовіч. Слаўны плёс).

* Цяпер самому з сябе смешна, які я быў стралец. А вывад: вучыся страляць загадзя, каб не карміць сабак, едучы на паляванне... (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). – А што са жняяркаю чуваць? – падаў голас Мікуць. – Няма на складзе цяпер. – Яны, значыцца, хартоў кормяць тады, калі на паляванне трэба выбірацца? (К. Чорны. Вясна). – Сам ведаеш, Лёнька, восень, уборка, не да парома было. Ды, сказаць, і не к спеху, ён і без рамонту смела дахадзіў бы да зімы. А ўжо вясной... – У нас заўсёды так: як на паляванне ісці – сабак кормяць (У. Краўчанка. Палессе).

– *Насовіч,* с. 104: Не тагды сабак кормяць, калі на ўловы ехаць; *Федароўскі,* с. 214: Як на паляванне ехаць, то тады сабак не карміць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 156: Не тады харты (сабакі) карміць, як на паляванне ісці; Не тады хартоў кормяць, як у ловы едуць.

**Не такі (не так) чорт страшны, як яго малююць.** *Не так страшна на самай справе, як здаецца, як гавораць іншыя. Кажуць, каб падбадзёрыць таго, хто залішне хвалюецца перад чым-н. невядомым.* [Піліп]: Ой, нешта цвёрдае, нешта ёсць, вось як стукаціць гаршчок ці скрынка, ёсць, ёсць... Не такі чорт страшны, як яго малююць... (Л. Родзевіч. Пакрыўджаныя). З гэтага дня і сам Прахарэня, і ўсе байцы яго атрада пераканаліся, што не такі чорт страшны, як яго малююць (А. Якімовіч. Цяжкі год). Не ісці ж даваць тлумачэнне сакратару камітэта! Ды не такі страшны чорт, як яго малююць (У. Карпаў. Вясеннія ліўні). Будыка смяяўся, ён быў вясёлы, як ніколі: вярнуцца з такой аперацыі! Толькі ўваліўшыся ў зямлянку, заключыў: «Не такі страшны чорт, як яго малююць!» (І. Шамякін. Снежныя зімы). Дубовік сам адчуваў, што бярвенні коцяцца ўгору амаль без яго дапамогі, і нават быў задаволены. «Не так страшны чорт, як яго малююць», – думаў ён пра сваю новую работу (А. Чарнышэвіч. Затор на дваццатым). Тут жа Палянічкін пацікавіўся поспехам, спытаў: – Ну, як з тымі пліткамі? – Ды не так чорт страшны, як яго малююць, – адказаў Яўген Іванавіч (М. Гроднеў. Сонечны вецер). Немцы пакуль не чапаюць. Можа, і дарэмна толькі пужалі. Кажуць, не так чорт страшны, як яго малююць (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

* Горад зноў стаў нашым. Гэта была першая наша перамога над фашыстамі. Яна падбадзёрвала нас: аказваецца, не такі ўжо страшны фашыст, як яго малююць (Х. Жычка. Дзе растуць бяс-

смертнікі). А мо ён [Кунцэвіч] проста прыдзіраецца да Сурмілы? Мо нечага не разумее? Мо не такі страшны Сурміла, якім яго малююць? (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

– *Насовіч,* с. 104: Не так чорт страшны, як яго малююць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 163: Не такі чорт страшны, як намаляваны.

**Не так чорт страшны, як яго малююць.** *Гл.* Не такі (не так) чорт страшны, як яго малююць.

**Не тое добра (дабро, хороша), што добра (дабро, хороша), але тое, што каму даспадобы.** *Падабаецца не тое, што і сапраўды добрае, а тое, што каму-н. найбольш даспадобы.* – Эт! – махнуў рукой Змітрок. – Не тое дабро, што дабро, але тое, што каму даспадобы. Мне жаніцца даспадобы! (В. Кажадуб. Ваўкалакі).

– *Ліцвінка,* с. 116: Не тое добра, што добра, а тое добра, што каму падабаецца; *Санько,* с. 30: Не тое хороша, што хороша, але тое, што каму даспадобы.

**Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.** *Ужываецца як ацэнка сапраўднага сябра.* Касач нават тады пакрыўдзіўся на Салаўя. А потым, падумаўшы, прызнаў памылку. Не той друг, што мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа. Давялося выправіць памылку (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 382: Не той друг, хто мёдам мажа, а той, хто праўду кажа; Не той сябра, хто мёдам губы мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа.

**Не той дужы, хто коней стрымлівае, а той, хто сябе стрымлівае.** *Пра перавагу над фізічнай сілай чалавека яго ўмення валодаць сабой, стрымліваць парывы сваіх пачуццяў, захоўваць вытрымку.*

* [Фаіна Кандратаўна:] Правільна сказана. Так і трэба рабіць. Не спяшацца, каб потым не кусаць сябе за локці. [Бабка Зося:] Мая маці, бывала, гаварыла: не то сіла, што каня задзержыць, а то, што сэрца... [Тарасевіч:] Так, Антонаўна, стрымаць сэрца нялёгка (Л. Левановіч. Пасля разводу).

– *Рапановіч,* с. 167: Не той дужы, хто коней стрымлівае, а той, хто стрымлівае самога сябе; *Ліцвінка,* с. 57: Не той дужы, хто стрымае коней, а той дужы, хто сябе стрымае; *Аксамітаў,* с. 73: Не гэта сіла, хто ўтрымае палкага каня, а гэта сіла, хто ўтрымае сваё пылкае сэрца.

**Не той піва п’е, хто варыць.** *Не той, хто вырабляе што-н., карыстаецца вынікамі сваёй працы.* Беларус-селянін уцяміў, што «не той піва п’е, хто варыць» і што варыць піва гэта ён, а п’е яго нехта іншы, хто жыве за кошт працоўных (К. Крапіва. Беларускія

прыказкі). Сярод народу жыву. А на народзе свет стаіць. Толькі не той піва п'е, хто варыць (І. Гурскі. Вецер веку). – Але хто ўсё гэта дасць? – Толькі свая ўлада! – У прынцыпе – так! Ды няма таго... Народ жыве на зямлі. Зямля сумуе па гаспадару. А гаспадар – пад канвоем!.. Не той піва п'е, хто варыць. Іншыя... (В. Якавенка. Пакутны век).

– *Насовіч,* с. 104: Не той піва п'ець, хто варыць.

**Не той шчупак, што з вуды сарваўся, а той шчупак, што ў вядры застаўся.** *Пра несумненны поспех у якой-н. справе можна гаварыць толькі пры яе завяршэнні.* – У гарадскім упраўленні цікавіліся новымі шэрлак-холмсамі. Значыць, заўважылі. Працуем някепска, а трэба лепш. От гэта правільней. От за гэта дзякуй. – Не той шчупак, што з вуды сарваўся, а той шчупак, што ў вядры застаўся. – На што намякаеш? Кажушок, па-мойму, у вядры, а не на кручку... (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 152: Не той шчупак, што з вуды сарваўся, а той шчупак, што ў вядры застаўся.

**Не траць, куме, сілы, спускайся на дно**. *Гл.* Апускайся, куме, на дно.

**Не ты першы, не ты апошні.** *Кажуць каму-н., што ягоныя паводзіны, учынкі, дзеянні не з'яўляюцца новым, нечаканым для суразмоўніка і што гэта – звычайная жыццёвая з'ява.* Не ты першы, не ты апошні. У мяне тут многія хочуць злавіць тую самую – а якую, дык і самі не ведаюць, – рамантыку (Л. Гаўрылкін. Не магу без цябе). Калі-небудзь здасі [экзамен]. Не ты першы, не ты апошні (А. Крыга. Паўночны фальватэр).

– *Федароўскі,* с. 233: Не ты першы, і не ты апошні.

**Не ўважай на ўраджай, а жыта сей.** *Гл.* Не зважай (не ўважай) на ўраджай, а жыта сей.

**Не ўздыхай, чаго няма, то няхай.** *Кажуць жартаўліва таму, хто ўздыхае.* У памяці Грушэўскага выбліснуў светлы вобраз яго сястры – бялявай і прыгожай дзяўчыны, якая пайшла за сваім прыяцелем і таварышам у Сібір, – выбліснуў і стух. Грушэўскі лёгка ўздыхнуў. – Чаго вы ўздыхаеце? «Не ўздыхай, – кажа беларуская прыказка, – чаго няма, то няхай» (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

– *Рабкевіч,* с. 145: Не ўздыхай: няма – і няхай.

**Не ўзяў за руку, не кажы <што> злодзей.** *Гл.* Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.

**Не ўрадзіў мак, перабудзем і так.** *Не мае асаблівага значэння. Гаворыцца пра якую-н. няўдачу як пра нешта неістотнае, нявартае ўвагі.*

* Колька пачаў вагацца, не ведаў, што рабіць: ці сапраўды паварочваць аглоблі назад і ў клуб, ці ўсё ж прывезці дзеду Мацвейку са Спорнага балота стажок? – Толькі тае бяды, што мак не ўрадзіў, – Банэд нечакана передумаў пра клуб. – Давай і я з табой? Чым не памочнік, га? (І. Капыловіч. Мацвейкаў стажок).

– *Насовіч,* с. 412: Не ўрадзіў мак, перабудзем (пражывём) і так.

**Не ў свае сані не садзіся.** *Не бярыся за справу, з якой не можаш справіцца.* **Сін.**: *Не поп, не ўбірайся ў рызы.* Гутар звярнуўся да Алены Пятроўны: – Жонка аказалася разумнейшай за яго, яна папярэджвала: не ў свае сані не садзіся... (І. Гурскі. Вецер веку). [Пракапчук]: Ведаеце што, таварыш карэспандэнт ці як там... Я люблю папросту гаварыць, без хітрыкаў... Кожнаму коніку свой хамут: ці як мой дзед вучыў: не ў свае сані не садзіся... Вы ж да нас прыехалі не толькі як карэспандэнт, а і... і як быццам бы і жанішок (А. Макаёнак. Перад сустрэчай).

* Адно скажу, што ногі людзі перабіць могуць, калі будзеш лезці не ў сваё. Не ў свае аглоблі не ўпрагайся, Мікіта (П. Галавач. Праз гады).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 439: У чужыя сані не садзіся; *БРС,* т. 2, с. 438: Не ў свае сані не садзіся.

**Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.** *Не заўсёды бывае для каго-н. толькі адно прыемнае, настане і нялёгкае жыццё. Гаворыцца, калі на змену бесклапотнаму жыццю прыходзяць цяжкасці, ускладненні.* **Сін.**: *Не заўсягды, як на дзяды.* – Што ж, іх суд, іх і праўда, – заморгаў выцвілымі вачыма стары. – Але не заўсёды кату будзе масленіца – прыйдзе і вялікі пост. Людзі ўсё помняць, нічога не даруюць (І. Гурскі. Вецер веку). [Бусько:] Ён [Хведар Паўлавіч] цяпер хто? Ніхто. Пенсіянер. Яму цяпер няма чаго рабіць, вось хай і ходзіць. Быў час, хадзілі да яго, а цяпер хай і ён паходзіць. Не ўсё кату масленіца (А. Макаёнак. Пагарэльцы). Прымаўку «не ўсё кату масленіца» загадчык базы ўспомніў толькі на лаве падсудных (Б. Сачанка. Манпансье з гарчыцаю). Як вынік, таварышы строга асудзяць у Саўчыку ягоныя хібы, і Саўчык панясе партыйнае спагнанне. Не ўсё кату масленіца (В. Якавенка. Вясковыя дыспуты).

* «Памятай, Мікола Крывавы: цяпер табе масленіца, але прыйдуць і посныя дні». Так канчалася брашурка (Я. Колас. На ростанях).

– *Насовіч,* с. 94: Не ўсё кату масленіца, будуць і загавіны; *Прыказкі,* кн. 2, с. 168: Не ўсё кату масленіца, прыйдзе і вялікі пост; Не заўсёды кату масленіца, бываюць і запускі.

**Не ўсё тое золата, што блішчыць (свеціць).** *Не ўсё прывабнае, знешне прыгожае мае вялікую каштоўнасць.* Унучак, мяне, старога, паслухай: у жонкі трэба дзяўчыну браць не на красу багатую, а ціхую, губатую... Не ўсё тое золата, што блішчыць... (А. Масарэнка. Дыялогі). – Брыгада – казка. Можа, чулі?.. – Гэта тая, у якой тэатр?.. – Тая самая. Перадавая. Але не ўсё золата, што блішчыць. Пажывяце – самі пераканаецеся (А. Кобец-Філімонава. Агні за пераваламі). Нашы Балотцы «залатым дном» ахрысцілі. Перааралі іх гэтым самым плугам, што амаль у рост чалавека баразну гоніць, і цяпер – каторы год! – пакутуюць на тым «дне». Мылец узнялі наверх, а на ім нават сівец расці не хоча. І не будзе. Не ўсё тое золата, што блішчыць (В. Праскураў. Бярозавы сок). Пераборлівая вы сталі занадта. Красунь шукаеце і забываецеся, што не ўсё тое золата, што блішчыць. У чалавека павінна быць у першую чаргу прыгожая душа (І. Шамякін. Крыніцы). У пасляалімпійскім інтэрв’ю Алег Шэпель шмат добрых слоў сказаў пра бацькоўскі характар, жыццялюбства ЛюдмілыВаўчок.., два медалі Васіля Шаптабоя.. І ўсё ж не ўсё тое золата, што свеціць. Памятаеце просьбу-наказ Ядвігі Скарабагатай Людміле Ваўчок? (Беларуская думка. 2006. № 6).

– *Насовіч,* с. 94: Не ўсё тое золата, што блішчыць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 346: Не ўсё тое золата, што блішчыць (свеціць).

**Не ў службу, а ў дружбу.** *Кажуць, калі просяць зрабіць паслугу па дабрыні, а не па абавязку.* Ведаеш, Сашок, не ў службу, а ў дружбу: маці даручыла мне аднесці вось гэты скрутак Марылі Шастаковай, швачцы... Аднясі ёй гэты скрутачак і аддай (А. Чарнышэвіч. На першы погляд). Люся, не ў службу, а ў дружбу – бутэльку шампанскага і цукерак (А. Дзялендзік. Аперацыя «Мнагажэнец»). Ты ўжо, братка, не распрагаючы, правязі яе [Раю] да Сярпішчына... Не ў службу, а ў дружбу (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Не ў службу, а ў дружбу, Васіль, – купі шкларэз там добры, бо мой ступіўся, а без яго, сам знаеш як – паб’ецца шыбка, то бяжы кланяйся каму (І. Капыловіч. Асенні гром).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 382: Не ў службу, а ў дружбу.

**Не ўсякі той пан, у каго штаны навыпуск.** *Гаворыцца як іранічная ацэнка чалавека, схільнага да франтаўства.* [Паўліна:] Адыдзі, не чапляйся, кароста! [Злыдзень (сам сабе):]. На дзіва нека-

мунікабельная баба. [Ігнат (Паўліне):] Навошта ты так? Можа, начальнік які? [Паўліна:] Не ўсякі той пан, у каго штаны навыпуск (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Янкоўскі,* с. 177: Не ўсякі пан, у каго штаны навыпуск.

**Не ў тым дзела, што кабыла бела, а што воз не бярэ.** *Гл.* Не ў тым сіла, што кабыла сіва, а што воза не цягне.

**Не ў тым сіла, што кабыла сіва, а што воза не цягне.** *Кажуць з насмешкай, адкідаючы чые-н. няслушныя доказы, меркаванні, прычыны.* Мы так нядбалы, нярупны, што не можам падтрымаць свае ядынае газеты «Нашай Нівы». Не ў тым, кажуць, сіла, што кабыла сіва, а што возу не цягне. Не аб тым ідзе, каб назвацца беларусам ды сядзець зацяўшы рукі. Пачэснае імя «беларус» вымагае дзела... (Я. Лёсік. Украінска-беларуская вечарынка ў Сібіры). **Не ў тым дзела, што кабыла бела, а што воза не бярэ.** А мне, прызнацца, думаецца: не ў тым дзела, што кабыла бела, а што воза не бярэ... – І задаволена ўсміхнуўся, датлумачыўшы: – Канечне, дэкрэты вашы патрэбны, ды толькі ж самім... сваімі рукамі... паруліцца трэба (А. Пашкевіч. І дам табе вянок жыцця).

– *Насовіч,* с. 95: Не ў том сіла, што кабыла сіва, а што возу не вязець; *Ляцкі,* с. 24: Не аб тым сіла, што кабыла сіва, а аб тым, што воза не вязець; *Раманаў*, с. 302, 311: Не ў том дзела, што кабыла бела, а ў том, што воза не вязець; То не дзіва, што кабыла сіва, а то дзіва, што воза не вязе.

**Не хвалі дзень з раніцы, а жонку змоладу.** *Нельга меркаваць аб якасцях жонкі толькі па першых днях сумеснага жыцця.* **Сін**.: *Хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам.* Андрэй здзівіўся, што маці не дае ніякай ацэнкі ягонай абранніцы, пачаў расхвальваць: мае добры характар, працавітая, акуратная, гатаваць умее... – Дык гэта ж добра... Мой дзед, бывала, казаў: «Не хвалі дзень з раніцы, а жонку змоладу...» (Л. Левановіч. Сіняе неба).

**Не хвалі дзень зранку, дзіця – змалку**. *Нельга меркаваць аб будучыні чалавека, зыходзячы толькі з назіранняў за ім ў яго дзіцячым узросце. «*Не хвалі дзень зранку, дзіця – змалку». Цімохавы бацькі не маглі надыхацца на яго: як жа, доўгачаканы сынок, народжанай ягонай саракагадовай маці... Вучыцца Цімох не захацеў. Стаў рамантаваць тэлевізары. Шчыра кажучы, нічога не атрымлівалася ў яго... (С. Лобач. Па закутках памяці).

**Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы.** *Не хвалі каго-н. заўчасна, не пераканаўшыся ў яго станоўчых якасцях.*

* Таварышок начальнік нам Сурмілу сватае [старшынёй калгаса]... Сватава дзела сватаць, а мы самі з вусамі. Не хвалі, сваток, кабылу запрагаючы, а нявесту прыбіраючы... (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

– *Федароўскі,* с. 149: Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы; *Прыказкі,* кн. 2, с. 26: Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы.

**Не хваліся, ідучы на рацьО.** *Не лічы што-н. зробленым, пакуль не давядзеш яго да канца. Гаворыцца таму або пра таго, хто занадта самаўпэўнены і заўчасна радуецца поспеху.* **Сін.:** *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў; Хваляцца з кірмашу едучы*. [Рунец:] Хіба вы [пра тое, што «пад Масквой фашыстам далі па зубах»] не ведалі? [Скробат:] Адкуль жа? Я вымушан быў па вёсках туляцца, пакуль вас знайшоў. Як жа цяпер з бліцкрыгам будзе? Хваліліся, што вось-вось Маскву возьмуць. [Братка:] Выходзіць, не хваліся, ідучы на рацьО (К. Крапіва. Людзі і д’яблы). Мусіць, памятала Святлана Адамаўна пра няўдачу Анжэлікі Агурбаш, не хвалілася, ідучы на рацьО. Ды і як хваліцца, калі першая прадстаўніца краіны Вольга Сацюк на аналагічным конкурсе была чацвёртай, а Ягор Вомчак праз год – дванаццатым (В. Шырко. Палесся дзіўнае дзіця). – Было б няблага заваяваць чатыры медалі... У пазамінулую Алімпіяду мы ніводнага медаля не ўзялі, у мінулую – два, а цяпер чатыры, – пажартаваў вялікі спарстсмен, пяціразовы алімпійскі чэмпіён. Лічбы заварожваюць: 0, 2, 4... Цот. У рэшце рэшт, не хваліся, ідучы на рацьО... (Беларуская думка. 2006. № 6).

**Не хлебам адзіным жыве чалавек.** *Функц. не зам. Чалавек павінен клапаціцца не толькі пра свае матэрыяльныя, але і пра духоўныя патрэбнасці.* Быў я надта галодны, нават пры сваёй прыроднай жарлівасці. Але не хлебам адзіным жыве чалавек, і «лепш быць вольным ваўкалакам, чым на прывязі сабакам» (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). – Грэшны, люблю смачна паесці. – Мара мешчаніна, – абсек Шыманскі. – Не адзіным хлебам жыве чалавек (І. Гурскі. Чужы хлеб). [Яснікаў:] Да ўсяго яму клопат, усюды суне нос... [Галя:] Хіба гэта дрэнна, Лёня? [Яснікаў:] Часам яго патрабаванні збіваюць нас з Макарам з рытму. У нас больш важная задача. [Галя:] Не хлебам адзіным жыве чалавек (І. Шамякін. Выгнанне блудніцы).

* – Як лепей называць па-беларуску: чай ці гарбата? – Як ні называеш, – усё будзе добра, абы смачна, – адказаў жартам Лабановіч. – Ды не адным чаем жыў будзе чалавек (Я. Колас. На ростанях).

– Паходзіць з евангельскага тэксту: «Не аб хлебе адзіным жыў будзе чалавек» (Лука, 4, 4). Параўн.: [Янка] выказаў жаль, што ў хаце нікога няма, усе ў полі, а таму і пачаставаць няма чым і няма каму. – Не аб адным хлебе жыў будзе чалавек, – азваўся Лабановіч (Я. Колас. На ростанях). І хоць сыны Вінцэнтага таксама раскашней атайбаваліся на зямлі цяпер, але Вінцэнты ведае, што «не аб адным толькі хлебе жыў будзе чалавек» (К. Чорны. Лявон Бушмар).

– *Янкоўскі*, с. 223: Не аб адным толькі хлебе жыў будзе чалавек.

**Не чапай гною (бруду), бо смярдзець будзе**. *Не трэба чапаць каго-н. – сабе на шкоду.* [Маці:] «Вось вы пайшлі супраць начальства, зняважылі цара, а зараз седзіце без месца. Забыліся вы прыказку: не чапай гною, бо смярдзець будзе». Лабановіч громка зарагатаў: – Вось гэта, мама, праўда. Але раз гэта гной, што зусім справядліва, дык яго трэба ў зямлю закапаць, каб угнойваў яе (Я. Колас. На ростанях). Што ты махнуў рукою на сваіх недругаў, дык ты зрабіў добра. Ёсць такая беларуская прыказка, хоць яна не дужа далікатна выказана, але яе асноўная мысль трапная: «Не чапай г..., бо смярдзець будзе» (Я. Колас. А.А. Усу).

* Паліцай быў ужо зусім блізка, і дзед Нупрэй на ўсякі выпадак прытрымаў язык: – Не чапай... ета самае... яно і смярдзець не будзе (В. Ткачоў. Вятрак – птушка вольная).

– *Насовіч,* с. 109: Не чапай гаўна, ваняць не будзе; *Янкоўскі*, с. 92: Не чапай гною, бо смярдзець будзе; *Аксамітаў*, с. 72: Не чапай бруду, бо смярдзець будзе.

**Не чапай ліха, калі спіць ціха.** *Гаворыцца як парада не чапаць каго-н., не задзірацца з кім-н.* Пры сустрэчы з настаўнікам... арандатар толькі спытаў, як вучацца яго дзеці. Не пацікавіўся бацька, дык і настаўнік не стаў нагадваць яму пра ўчынак сына. «Не чапай ліха, калі спіць ціха», – раіць народная мудрасць (А. Пальчэўскі. Сцежкі). Калі тыя [фашысты] наязджалі на хутар, яна прыкідвалася глухой, як пень. Забяруць яны, бывала, сала, уловяць апошнюю курыцу, пагергечуць і паедуць. «Не чапай ліха, калі спіць ціха...» (С. Лобач. Па закутках памяці). **Не чапай ліха, пакуль спіць. –** А можа, давай хоць падражнім сяго-таго... – Не чапай ліха, пакуль спіць. Цяпер нам патрэбен яшчэ спакой (А. Якімовіч. Кастусь Каліноўскі). **Не дражні ліха, пакуль ціха.** Баба хапае чапялу, і стары, і малы ўмомант вылятаюць з хаты. Не дражні ліха, пакуль ціха (В. Шырко. Хай людзі бачаць). **Не чапай ліха, пакуль ціха**. Суседзі не сціхалі, наадварот, крычалі мацней, як рэзалі адзін аднаго. – Пайду паспрабую ўгаманіць... – Не раю... Не чапай ліха,

пакуль ціха (І. Шамякін. Бумеранг). Прайшоў месяц з дня аперацыі... Здаецца, я зрабіў памылку, даверыўшыся сябрам і звярнуўшыся да медыцыны. Ну крыху пабольвала ў баку (часам), быццам нічога страшнага. А цяпер у адначассе з нармальнага ператварыўся ў інваліда. Сапраўды – не чапай ліха, пакуль ціха (В. Быкаў. Ліст да Л. Лазарава).

* Лезці на ражон нікому не рэкамендуецца. Не чапай нічога, не бойся нікога. Сядзі ціха, не чапай ліха (Я. Колас. На ростанях). – Глядзіце, зноў гэтая жахлівая птушка! Усю дарогу ляцела за намі і цяпер прысуседзілася. Трэба адагнаць яе прэч. – Не чапай крумкача, Родзька. Не будзі ліха, пакуль яно ціха (С. Кавалёў. Звар'яцелы Альберт).

– *Насовіч,* с. 93: Не будзі ліха, няхай спіць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 453: Не будзі ліха, калі спіць ціха; Не будзі ліха, калі ліха спіць; *Ліцвінка,* с. 61: Не руш ліха, калі яно спіць ціха.

**Не чапай ліха, пакуль спіць.** *Гл.* Не чапай ліха, калі спіць ціха.

**Не чапай нічога і не бойся нікога.** *Гаворыцца як павучанне і як сцвярджэнне, што невінаватаму няма чаго баяцца.* – Бываюць розныя людзі, што без дай прычыны прывяжуцца да цябе. І ўсё ж самае лепшае правіла: не чапай нічога і не бойся нікога. – А вось жа ты сядзеў ціха, нічога не чапаў, а пристава збаяўся і задаў уцекача, – укалоў Лабановіч (Я. Колас. На ростанях). За парушэнне права ўласнасці таксама караюць, а таму: не чапай нічога і не бойся нікога (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). Мама вучыла: «Не чапай чужога – і не бойся нікога». А бацька: «Пазычай – а пра сваё дбай» (В. Рагаўцоў. Імгненні). **Не руш чужога і не бойся нікога. –** Загубіла Мархуту тое золата, – круцілі галовамі людзі. – Жыла б, як усе... А то... Спакою жанчыне няма... Не, не дарэмна кажуць: не руш чужога і не бойся нікога... (Б. Сачанка. Забытыя селішчы).

– *Насовіч,* с. 92: Не бяры чужога нічога, не бойся нікога; *Прыказкі,* кн. 2, с. 439; Не руш (не бяры, не чапай) нічога, не бойся нікога.

**Нечая сучка мазь паела і сама сабе мазёнку на галаву надзела.** *Гаворыцца іранічна пра чыё-н. паведамленне ці сцвярджэнне, якому ніяк нельга паверыць.* – Навошта табе было падпісваць гэту лухту? – Толькі з тае прычыны, што за мяжой жывуць не дурныя людзі. У крайнім выпадку не дурнейшыя за тых, што пісалі гэта «опровержение». І яму будзе столькі ж веры, колькі і таму, што нечая сучка мазь паела і сама сабе мазёнку на галаву надзела (А. Петрашкевіч. Воля на крыжы).

**Нечым ваўку спаражняцца, дык ён лыкам (-і).** *Праст. Кажуць з абурэннем ці з насмешкай пра таго або таму, хто няўмела, беспадстаўна апраўдваецца ці ўзводзіць паклёп на каго-н.* – У тваёй асабістай справе сказана, што працоўны стаж непарыўны, так? – Калі сказана, то, значыць, рэабілітаваны я, чысты... – Хм, нібы ў той прыказцы: нечым ваўку спаражняцца, дык ён лыкамі. Сумленне тваё, Фядотавіч, выходзіць, такое ж, як і мой плеш: як ні хавай яго, а ён здалёк відзён (А. Масарэнка. Лесавік). – Не ўмееш ты хадзіць [гуляючы ў шахматы]! Я табе адразу мат прыляпіў бы, каб ты, шэльма, не скруціў! – Калі я, гэта тое як яго, скруціў? Нечым ваўку, гэта тое як яго, дык лыкамі? (А. Мрый. Запіскі Самсона Самасуя). **<Калі> няма ваўку чым спаражняцца, дык ён лыкам**. [З «Прыказак» К. Крапівы, апублікаваных у снежні 1944 г.:] Няма чым ваўку спаражняцца, дык ён лыкам (Пра звыштатальную мабілізацыю ў Германіі). Гэта было зроблена выключна паводле прынцыпу: «Калі няма ваўку чым с..., дык ён лыкам» (У. Дубоўка. Ліст да Д. Бугаёва).

– *Насовіч*, с. 109: Нечым ваўку спаражняцца, дык лыкамі.

**Не шукай багацця, а шукай розум.** *Гаворыцца як парада халасцяку аддаваць перавагу пры выбары дзяўчыны не яе багаццю, а розуму.* І калі ён успамінаў Хрысцю, яму ўспаміналася тое, што сказаў яму некалі ў гумне стары малацьбіт, калі прыцікаваў, што ў яго, у Імполя, нешта ўжо завязвалася з Алесяю: «Жыцьмеш, але нашто табе стоптаны лапаць. Знойдзеш. Не шукай багацця, а шукай розум». Імполь тады зазлаваў (В. Адамчык. Год нулявы).

**Не шукай бяды, яна сама цябе знойдзе.** *Гаворыцца, калі з кім-н. здарылася бяда, няшчасце і пад.* **Сін.:** *Бяда не па лесе, а па людзях ходзіць; Не людзі выбіраюць бяду – бяда людзей выбірае.* – Не шукай бяды, яна цябе знойдзе. Вунь уланаўская маладзіца знайшла смерць на шашы. – Як? – Шашу баранавала, а там міна якраз. – Кажуць, пагоняць і нас з баронамі шукаць падкладзеныя міны (В. Адамчык. Голас крыві брата твайго).

– *Насовіч,* с. 109: Не шукай бяды, бяда сама цябе найдзець; *Федароўскі,* с. 26: Аднае бяды не трэба шукаць, яна сама знойдзе; *Прыказкі,* кн. 1, с. 438: Не шукай бяды, яна сама прыдзе; *Рабкевіч,* с. 147: Не шукай бяды: яна сама цябе знойдзе.

**Не шукаючы, не знойдзеш.** *Не праяўляючы руплівасці, клопату, не дасягнеш жаданага.* Жыву гол як кол. Турботы адны... – Але ж і то скажу, – зрабіў закід Іваноўскі, – не шукаючы, не знойдзеш... (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

– *Насовіч,* с. 109: Не шукаючы не знойдзеш; *Янкоўскі,* с. 255: Не шукаючы, не знойдзеш.

**Не я першы, не я апошні.** *Кажуць у апраўданне сваіх ці чыіх-н. паводзін, учынкаў, таго, што нярэдка здараецца з рознымі людзьмі.* [Куторга:] Будзе клопату нямала – о-ёй! Не раз пачашу патыліцу... Дык што ж рабіць? Не я першы, не я апошні,– дурных дзядоў нямала на божым свеце (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта). Ну... што ж парадзіць: забяруць-забяруць. Пасяджу – не я першы, не я – апошні... (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Можна і потым... сцэнарый гэты... Па гатовым фільме зрабіць... Не я першы, не я апошні... Яшчэ мудрэй робяць...(П. Місько. Ціхае лета). Каханне – гэта каханне, а здрада – гэта здрада, самае агіднае, на што здатны чалавек. Ну, што ж, цяпер буду дзейнічаць я. Мы разыдземся, размяняем кватэру. Не я першая, не я апошняя (М. Герчык. Вяртанне да сябе).

– *Федароўскі,* с. 233: Не ты першы і не ты астатні.

**Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс.** *Пра безгаспадарлівасць ці беднасць.* Няпраўда, што конь сябе аджыў і што трымаць яго нерэнтабельна. Конь сябе акупіць. І таго, хто працуе на ім, пракорміць з ліхвой. Іншая справа, калі коні зіму і сярэдзіну лета гуляюць. То няма каму запрэгчы, то няма ў што запрэгчы. «Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс» (Я. Ермаловіч. Малады старшыня).

– *Рапановіч,* с. 51: Ні калёс, ні атос, воўк кабылу панёс.

**Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.** *Гл.* Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.

**Ні села, ні пала, дай, баба, сала.** *Гл.* Ні села, ні пала, захацела баба сала.

**Ні села, ні пала, захацела баба сала.** *Кажуць іранічна ці з незадавальненнем пра таго, каму раптоўна, нечакана захацелася чаго-н.* [Паўлінка, просячы:] Скажыце, скажыце, татачка! [Сцяпан:] Ага, ні села, ні пала, захацела баба сала! Калі ўжо табе, каханенькая, родненькая, так хочацца, дык скажу (Я. Купала. Паўлінка). Ну, жанчыны. Як кажуць, ні села, ні пала – захацела баба сала. Адзін купіў – давай другі (А. Вараповіч. Скрыжаванні). **Ні села, ні пала, дай, баба, сала.** Воч не паспела працерці ды й за едала ўжо... Ні села, ні пала, як той казаў, дай, баба, сала (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). Каб выявіць, як засвоілі яго неслухі граматыку і знакі прыпынку, Галабурда часта дыктаваў прымаўку: «Ні села, ні пала: дай, баба, сала» (М. Даніленка. Два Іваны).

* Бач, якая лоўкая. Там людзі гадамі кватэру чакаюць, а яна.. ні села, ні пала, дай куме сала. Не так скора. Пачакай! (А. Макаё-

нак. Верачка). Нейкі час [Братачка] корпаўся ў скрынцы, што стаяла ва ўзгалоўі саней, і вярнуўся да вогнішча з бутэлькай «сталічнай» у руках і скруткам з закуссю пад пахай... «Вось гэта дык мах-толь. Ні села ні пала – і чарка, і сала», – падумаў Пракоп. Смелыя паводзіны Братачкі азадачылі яго (І. Сіняўскі. Пракоп).

– *Насовіч,* с. 114: Ні села, ні пала, дай, баба (бабе), сала; *Янкоўскі,* с. 281: Ні села, ні пала, дай, баба, сала; *Выслоўі,* с. 83: Ні села, ні пала, дай, бабе (баба), сала.

**Ніхто два разы не жыве.** *Ужываецца як сцвярджэнне смяротнасці кожнага чалавека.* А я паміраць не баюся. Ніхто два разы не жыве. І ліст аблятае, і дрэва падае (Полымя. 1994. № 4).

– *Насовіч*, с. 33: Два вякі жыць не будзем.

**Ніхто не бача, як сірата плача, а (але) кожны (усякі) бача, як сірата скача.** *Чалавеку, які дабіваецца больш высокага становішча ў грамадстве, пачынаюць аказваць пашану, хоць да гэтага стаўленне да яго было абыякавае.* Калі стаў настаўнікам.., амаль у кожным суседнім сяле знайшлося столькі сваякоў, што проста дзіва. З гэтага выпадку ўспамінаецца прымаўка: «Ніхто не бача, як сірата плача, а кожны бача, як сірата скача» (М. Скрыпка. Кожнаму – сваё).

– *Ляцкі*, с. 29: Ніхто не бача, як сірата плача, але кожны бача, як сірата скача; *Янкоўскі*, с. 128: Ніхто не бача, як сірата плача, але ўсякі бача, як сірата скача; *Рапановіч*, с. 120: Не кожны бача, як сірата плача, а бача, як скача.

**Ніхто не ведае, як хто абедае.** «Во, гвалтам цягне ў хату, – кажа Сымоніха. – Дзякую, сястрычка, ды ідзем у маю хату, – і мы людзі хрышчоныя!» Гэта значыць: калі ніхто не ведае, як хто абедае, дык я даведаюся, бо ўлегцы мяне не возьмеш! (З. Бядуля. Лявоніха і Сымоніха).

* [Поп:] Благадаць божая зышла на гэты стол. Дзеці мае, адкуль у вас такое багацце?.. Дай божа, каб усё было гожа! Праўду людзі кажуць: не кожны ведае, як хто абедае... (В. Вольскі. Дзед і Жораў). Маці брала сопкую бульбу, ела салату, піла малако. Ад слабасці на ілбе ў яе выступалі кропелькі поту. – Ніхто не ведае, калі бедны абедае, – маці ўсміхалася, пазірала на сына (І. Капыловіч. Не пагаварылі).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 260: Ніхто не ведае, як хто абедае; Ніхто не ведае, хто што абедае.

**Ніхто не зробіць горш табе, як (чым) <ты> сам сабе.** *Ужываецца як перасцярога быць абачлівым у паводзінах, дзеяннях, адно-*

*сінах да іншых людзей або як папрок за парушэнне гэтых няпісаных правілаў.* Чалавек бядуе сваю бяду, цяжка яму. І нібы на свеце толькі адзін ён бядотнік, гаротнік, няшчаснік. А выйдзе на людзі, пабачыць людзей, пачуе людзей і ці падумае, ці падкажуць...: ніхто не зробіць горш табе, як сам сабе (Ф. Янкоўскі. Хітра, мудра...). Ах, Вардамацкі, Вардамацкі! Навошта табе быў твой «эксперымент»? Праўду кажуць: «Ніхто не зробіць горш табе, чым ты сам сабе» (ЛіМ. 2000, 10 лістап.). Памятаю, на самым першым сваім уроку (было гэта ў дзевятым класе) ён [настаўнік] сказаў так: «Дарагія мае сябры! Перш чым з вамі пачнём размову пра такую важную рэч, як літаратура, вазьміце ў рукі чырвоныя алоўкі і вялікімі літарамі на першай і апошняй старонках сваіх агульных сшыткаў запішыце: «Ніхто не зробіць горш табе, чым ты сам сабе». І пастарайцеся запомніць гэтыя словы на ўсё жыццё» (В. Кадзетава. Праверка).

– *Янкоўскі*, с. 128: Ніхто не зробіць горш табе, як (чым) сам (сама) сабе; *Рабкевіч*, с. 152: Ніхто так не зробіць, як сам сабе.

**Ніхто не чуе, дзе бяда начуе.** *Пра немагчымасць прадбачыць якую-н. нечаканую бяду.* Праўду людзі кажуць: ніхто не чуе, дзе бяда начуе. І Мікалай Дарошка таксама не чуў. Сядзеў дома на лаве, глядзеў на тыя грошы, што сын, Косцік, прынёс, з-за пазухі і кішэняў падаставаў, не ведаючы, што рабіць з грашыма тымі, дый заадно і з Косцікам, сынам, караць ці дараваць, і гадаць не гадаў, што ўжо пра іншае, іншае яму трэба думаць (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

**Нішто не вечна (-е) пад месяцам.** *Функц. не зам. Гаворыцца як сцвярджэнне, што ўсё на свеце мінаецца, канчаецца.* Чамусьці нікому не хацелася застацца тут навекі на прыгожым узгорачку пад старымі ясенямі і клянамі. Могільнік быў надзвычай паэтычны. Не ведаю, ці захаваўся ён да гэтага часу. Нішто не вечна... (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). І галоўнае тут – вера. Пад яе крылом чалавек становіцца лепшы, чысцейшы, больш аб’ёмны... Нішто не вечнае пад месяцам (Г. Марчук. Пеўчыя 41 года).

* Але нічога не вечна пад ясным месяцам. Не гадаў Лабановіч, што яго віленскаму дабрабыту прыйдзе нечаканы канец (Я. Колас. На ростанях). Але ж ты праўду кажаш, што нішто не вечнае пад сонцам. Паглядзеў я на Арэсу... Няма ўжо той вады, няма... Дый у вадзе шчупакі здрабнелі (В. Якавенка. Ах, Арэса, Арэса...).

– Паходзіць з верша М. М. Карамзіна «Вопытная Саламонава мудрасць, або Выбраныя думкі Еклезіяста» (1797), дзе ёсць радок «Ничто не ново под луною», які з’яўляецца перайманнем з біблейскай «Кнігі Еклезіяста» («... няма нічога новага пад сонцам»).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 410: Нішто не вечна.

**Нішто чалавечае мне (ім** і інш.**) не чужое.** *Функц. не зам. Усё, характэрнае для людзей, уласціва і мне (ім і інш.). Часам ужываецца і як апраўданне якіх-н. людскіх слабасцей.* Дома – «маменчын сынок», жыву з маці. За парогам – самастойны, упэўнены ў сабе. Без дрэнных звычак у будзённыя дні. У святы – нішто чалавечае мне не чужое (Маладосць. 2000. № 12). Я хачу, каб яны [вучні] зразумелі, што пісьменнікі – таксама жывыя людзі са сваімі слабасцямі і, наадварот, з жывою душою. Як кажуць, нішто чалавечае ім не чужое (У. Міхно. Адзін дзень у школе). Ёсць шмат і іншага, на чым даволі падрабязна спыняецца А. Вярцінскі. Бо дыпламаты – гэта жывыя людзі, і ім усё, як кажуць, чалавечае не чужое (Б. Сачанка. Папаўненне беларускай амерыканіяны).

– Калька з лацінскага выслоўя, аўтар якога – рымскі пісьменнік Тэрэнцій (185–159 гг. да н. э.): *Homo sum, humani nihit a me alienum puto* (літаральна «Чалавек я, і нішто чалавечае мне не чужое»).

**Новае сітка на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца.** *Новы чалавек ці новы прадмет карыстаецца большай увагай, чым іншыя людзі ці іншыя прадметы.*

* [Марыся:] Казалі, што ён мае пару коней, дзве каровы, два валы да і свіран не пусты і ў гародах не стоўпіцца. [Пятрук:] Ах ты, гадзіна! На пальцах, бач, ужо палічыла, што Панас мае. Дык гэта так? Новае сітка на калочку вешаеш, а старое пад лаву кідаеш? А знаеш: стары друг лепш за новых двух (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты). Сабраўся пан ды паехаў аглядваць свой новы маёнтак. Як паехаў, дык і застаўся там на ўсё лета: вельмі ж яму спадабаўся новы маёнтак. Праўду бо кажуць, што новае сіта на калочку вісіць, а старое пад лавай ляжыць (А. Якімовіч. Як Сцёпка з панам гаварыў).

– *Насовіч,* с. 115: Новае сітца на колічку навісіцца; *Раманаў,* с. 305: Новае сітца на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца; *Прыказкі,* кн. 1, с. 216: Новае сітца на калку (на круку) навісіцца, а старое і пад лаўкай паваляецца.

**Новая мятла па-новаму мяце.** *Новы начальнік, кіраўнік дзейнічае па-свойму, па-новаму, заводзіць свае парадкі.* **Сін.:** *Новы поп, дык новае і маленне.* З практыкі ўсе ведалі – новы начальнік рэдка працуе са старым штатам. Звычайна набірае новы. Ці прыводзіць з сабою з ранейшага свайго месца. Словам, новая мятла па-новаму мяце... (Б. Сачанка. Трэцяе вока). – Чаго чакаць, Леанід Сцяпанавіч,

ад новага начальніка?.. – Ёсць адна ісціна на ўсе часы, – сказаў Блатун. – Новая мятла па-новаму мяце (А. Жалязоўскі. Іду на канфлікт). Новы кіраўнік лічыў, што галоўная прычына адставання калгаса ў бяздзейнасці спецыялістаў, і заняўся іх заменай. – Новая мятла па-новаму мяце, – гаварылі ў гаспадарцы. – Можа, і сапраўды будзе парадак (Звязда. 1986, 27 чэрв.). Новая мятла, кажуць, па-новаму мяце. Цяперашняя ўлада патрабавала, каб сялянскі воз быў пафарбаваны і каб на ім была шыльда з надпісам – чый, з якой вёскі (У. Гніламёдаў. Вяртанне).

* Двор, дзе служыў ён [Прахор], прадалі, і гаспадарыць узяўся другі. Новая мятла іначай мяце, і пачалі вымятаць усё непатрэбнае, і вымелі Прахора за браму (У. Галубок. Сірата Прахор). У Андрэя нарэшце развязаліся рукі – цяпер без аглядкі на былога шэфа можна заводзіць свае парадкі: новая мятла мусіць і мясці па-новаму (В. Блакіт. Усмешка Фартуны).

– *Ляцкі,* с. 29: Новы венік чыста мяце; *Прыказкі,* кн. 1, с. 343: Новая мятла і па-новаму мяце; Новая мятла па-свойму мяце.

**Новы поп, дык новае і маленне.** *Новы начальнік, кіраўнік дзейнічае па-свойму, па-новаму, заводзіць свае парадкі. Гаворыцца звычайна з неадабрэннем.* **Сін.:** *Новая мятла па-новаму мяце.* [Нічыпар:] Гэта, брат, стол! Каб некалі мне такі пляц зямлі, то я б гаспадаром быў. [Цёця Каця:] Новы поп, дык новае і маленне. У таго дырэктара, бывала, адзін столік, два крэслы, і ўсё. А ў гэтага ж стол гэтакі, а на стале ж мартаплясаў усялякіх панастаўлена – таксама грошай каштуюць (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

– *Ляцкі,* с. 60: Што поп, то новыя й пацеры; *Прыказкі,* кн. 1, с. 331: Новы поп – новае маленне; Што новы поп, то новая пропаведзь.

**Новы час – новыя песні.** *Функц. не зам. Пра ўменне і неабходнасць адчуваць патрэбы, павевы часу, ісці ў нагу з часам.* – Ну што ж, малайчына, – нарэшце сказаў Галушка. – Як той казаў, па ўсіх паказчыках абышоў. Сапраўды, новы час – новыя песні. Умееш спяваць, не тое, што я. Чуў, з ільном сёлета добра? (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока). – Дарэчы, вы даўно, пан Рыбентроп, звярталіся да Бісмарка? Да яго знешняй палітыкі? – Новы час патрабуе новых песень, здаецца, так гавораць у народзе (І. Чыгрынаў. Ігракі).

**Ноччу (поначы) усе каты (кошкі) шэрыя.** *Ноччу, у цемры ўсё здаецца аднолькавым, аднастайным.* [Навум, пераадзеты ў вопратку сялянкі:] Прымаўкам трэба даць веры: паночы ўсе каты шэры. Цёмна ж ноч – ён не спазнае, пэўна мяне спадабае (В. Дунін-

Марцінкевіч. Сялянка). Божачкі ж ты мой! Сам малы, нос доўгі... А дачка смяецца. Абняла мяне і кажа: «Прывыкнеш, мама!..» «А як жа ты яго абдымаеш, як цалуеш у такія тоўстыя губы?» – пытаюся ў яе. А яна засмяялася і кажа: «Мама! Ноччу ўсе каты шэрыя!» (П. Савоська. Запіскі халасцяка).

– *Федароўскі,* с. 151: Поначы ўсе каты буйныя; *Прыказкі,* кн. 1, с. 208: Поначы ўсе каты серыя; *Ліцвінка,* с. 124: Увечары ўсе кошкі шэрыя.

**Нуда горш за каросту.** *Іранічная рэпліка ў сувязі з пачутым ад суразмоўніка небеларускім спалучэннем «ну, да». «Гаворыцца тады, калі хто, заміж беларускага, – «ну, так», ужывае рускае «ну, да»* (К. Крапіва). [Франэк:] Дамарад, еш квас з грыбамі, трымай язык за зубамі. [Дамарад:] Ну, да... [Франэк:] Нуда горш за каросту (А. Дзялендзік. Грэшная любоў).

– *Прыказкі*, кн., 1, с. 407: Нуда горш за каросту.

**Няведанне – нягрэшанне.** *Учынак, зроблены кім-н. не знарок, а па няведанні, можна прабачыць.* [Юлія:] Не гневайся, мой бацечка, ды я ж не ведала. [Навум:] Нічога! Нічога! Знаеш прымаўку: няведанне – нягрэшанне (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч,* с. 95: Няведанне не чыніць граха; Невядомасць грэху не чыніць.

**Нявучаны як сляпы.** *Гл.* Невучоны (нявучаны) як (што) сляпы.

**Нявызнаныя шляхі Божыя.** *Гл.* Неспадзяваныя шляхі Гасподнія.

**Нядоўга музыка іграла.** *Што-н. адбывалася непрацяглы час. Часцей іранічна пра што-н. адмоўнае.* – Можа, пра Маскву што? Пра ГКЧП? – Так, путчысты арыштаваны. Нядоўга музыка іграла... (Л. Левановіч. Палыновы вецер). Толькі пасля нам дазволілі друкаваць газету. Але нядоўга музыка іграла... (Полымя. 1995. № 6).

**Нязваны госць горш за татарына.** *Гл.* Няпрошаны (незапрошаны, нязваны) госць горш за татарына.

**Нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць.** *Маўклівы, асцярожны ў выказваннях чалавек выгадвае ў параўнанні з тым, хто гаворыць лішняе.* – Я ўсё ведаю. Ведаю, напрыклад, што той паранены быў партызан. – Ведаеш, і добра, а гаварыць, Зойка, не трэба. – Я ж толькі табе. – Мне таксама не трэба. Нікому-нікому! – паўтарыла Наташа. – Ёсць прымаўка: нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць... Цяпер, кажуць, і сцены вушы маюць (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне).

* Гаварыць – серабро, маўчаць – золата. Нязнай ляжыць, а Знайка далёка бяжыць (Р. Барадулін. Блакада).

– *Насовіч,* с. 98: Нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць; *Раманаў,* с. 297: Знайка бяжыць, а нязнайка ляжыць; *Ляцкі,* с. 13: Знайка па дарожцы бяжыць, а нязнайка на пячы ляжыць.

**Няма большай кары, чым кара свайго сумлення.** *Кніжн. Пра маральную ацэнку чалавекам сваіх дзеянняў і ўчынкаў.* Міліцыя неўзабаве пакінула Лёню ў спакоі... Але яго душу не пакідала ў спакоі сумленне, памяць, любоў. Відаць, праўду людзі кажуць, што няма большай кары, чым кара свайго сумлення (А. Варановіч. Валацуга).

**Няма гаду без яду.** *Пра людзей, арганічнай патрэбай якіх з'яўляецца шкода, помста каму-н.* – Міліцыя на яго кватэры воз дэталей знайшла. У ёй – рознага багацця шмат. Як на судзе ўсплыло: што накраў, што на выручку за вынас дэталей прыдбаў. Во прайдоха. Усё канфіскавалі, адны вуглы пакінулі... Не дарує ён ім. – Чаму так думаеце? – Няма гаду без яду. А гэты помслівы, ох, які помслівы... (Звязда. 1989. 7 жн.).

– *Федароўскі,* с. 98: Няма гаду без яду.

**Няма горшай балесці, як хочацца есці.** *Пра фізічнае самаадчуванне галоднага чалавека.* Ты не галадала ў гэту вайну. У партызанах табе нейкую скарынку давалі з'есці, а нам з верасу хлеб даводзілася пячы. А няма ж горшай балесці, як хочацца есці (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Лепешаў*, с. 106: Няма горшай балесці, як хочацца есці; *Аксамітаў*, с. 74: Няма горшай балесці, як хочацца есці.

**Няма горшай долі, як жыць у няволі**. *Гаворыцца як ацэнка нявольнага, гаротнага жыцця.* – Змясці паганцаў – святая справа кожнага, хто дыхае вольнасцю. Няма горшай долі, як жыць у няволі! – Глябовіча зноў закалаціў кашаль, твар пакрыўся кропелькамі поту (М. Віж. Лабірынт).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 313: Няма горшай долі, як жыць без волі.

**Няма горшай халеры, як на адной падушцы дзве веры.** *Вельмі кепска***,** *калі муж і жонка неаднолькавыя паводле веравызнання або іншых ідэйных поглядаў.* Ларыса хадзіла ў касцёл.., нават марыла, што Рамейка перахрысціцца на католіка, і не будзе, як у той прымаўцы: няма горшай халеры, як на адной падушцы дзве веры (У. Дамашэвіч. На мяжы цярпення).

**Няма горш, як даганяць і чакаць.** *Гл.* Чакаць і даганяць горш за ўсё.

**Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.** *Пра варожасць, нядобразычлівасць старой незамужняй дзяўчыны.* Жарт жартам,

а і на самай справе наўрад ці хто пазайздросціць лёсу Чыжэўскай, лёсу ўсіх старых дзевак, якія, пэўна, ні разу і не адчулі сябе жанчынамі. І праўду, мусіць, кажуць: няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі. Неўрастэнічнасць, зацятая, безразважлівая ўпартасць, здаецца, ужо сталі натурай Чыжэўскай... (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 18: Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.

**Няма лепшага панства, як гаспадарства.** *Пра перавагу ўласнай гаспадаркі над усім іншым.* Будзем працаваць, дык і хлеб будзе свой на стале. Прыказка і праўда: няма лепшага панства, як гаспадарства. Не дурныя людзі казалі (Л. Калюга. Ні госць ні гаспадар).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 298: Гаспадарства – панства.

**Няма лепшае справы ад свае хаты.** *Пра замілаванне да роднага краю, дзе хто-н. нарадзіўся і жыве.* **Сін.:** *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл; Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся; Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае; Міл той куток, дзе абрэзалі пупок; Мой родны кут, як ты мне мілы; Родная зямелька як змораламу пасцелька; У родным краю, як у раю.* А некаторых з іх [вяскоўцаў] баба Зося дык і шкадавала, бо бачыла ў іх толькі прытулаў, прымакоў. Нездарма кажуць – няма лепшае справы ад свае хаты. А свая хата толькі тут, у Валюхах, баба Зося гэта ведала цвёрда (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 209: Няма лепшае справы ад свае хаты.

**Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.** *Гл.* Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.

**Няма лесу без ваўка.** *У калектыве заўсёды ёсць і такі чалавек, які сярод іншых вылучаецца сваімі дрэннымі якасцямі.* **Сін.:** *Няма роду без выроду; У сям'і не без выродка.* – Не трэба было лезці ў палітыку... – Не абышлося без сваіх. Нехта ж падкусіў. – Няма лесу без ваўка. Ці я не знаю, што ўдалі свае (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 61: Няма лесу без воўка.

**Няма ліха без дабра.** *Гаворыцца, калі ўдача, што-н. добрае, карыснае стала вынікам якой-н. бяды, непрыемнасці.* **Сін.:** *Не было б шчасця, ды няшчасце памагло; Няма таго злога, каб не выйшла на добрае.* Дзяўчына з жаласным стогнам павалілася на спод чоўна... Але няма ліха без дабра. Паваліўшыся на спод, яна трапіла ў халодную ваду і адразу апамяталася (Я. Маўр. Сын вады). Няма, як кажуць, ліха без дабра: выпадак звёў нас хоць у суднай залі (М. Клімковіч. Георгій Скарына). Салдаты нават не азірнуліся на дзяў-

чат, не развіталіся, выскачылі, а за імі афіцэр... – Ну, няма ліха без дабра! – аблегчана ўздыхнула Ядзя (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Няма ліха без дабра... Во, мы дома. А я ж як сам не свой лез пад той дрот: усё чакаў, калі прашыюць з кулямёта, як прашылі палячка, помніш? (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). **Ліха без дабра не бывае.** [Талаш, цешачыся са стрэльбы:] Ах, згінь іх доля! І чаму, голубе, мяне з вамі не было. Праўдзівая прыказка: ліха без дабра не бывае (Я. Колас. У пушчах Палесся). – Што ж тут добрага? Што ў шпіталь трапіла? – усміхнулася сястра. – Нават і гэта добра... А я думаў, што і аддзякаваць не выпадае. Сапраўды, ліха без дабра не бывае (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). Не бывае ліха без дабра. Выпадак гэты памог яму [Лемяшэвічу] зблізіцца, падружыцца з Наталляй Пятроўнай, да чаго ён так імкнуўся... (І. Шамякін. Крыніцы).

– *Насовіч,* с. 5: Без худа не відаць дабра; *Прыказкі,* кн. 2, с. 428: Ліха без дабра не бывае.

**Няма мяса – і гэта не закраса (не прыкраса).** *Ужываецца як ацэнка чаго-н. нязначнага, не вартага ўвагі.* Раённы конкурс дзіцячай песні падыходзіў к канцу. Апошнімі выступалі другакласнікі мясцовай школы. Сем дзяўчынак і сем хлапчукоў нясмела выстраіліся на сцэне тоненькім ланцужком. У журы сталі пазяхаць, а старшыня журы нават пажартаваў: няма мяса – і гэта не закраса. І раптам загучала песня... (Р. Сутуло. Тра-ля-ля).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 247: Няма мяса – і гэта не прыкраса.

**Няма (не бывае) правілаў без выключэння.** *Функц. не зам. Кажуць пра што-н. адзінкавае, якое вылучаецца на фоне тыповага, пашыранага.* Нямногія ў сталым узросце працуюць актыўна, усё ж прырода чалавека такая, што некалі трэба і адпачыць. Ды нездарма кажуць: няма правілаў без выключэння. А «выключэнне» ў беларускай літаратуры – чатыры народныя пісьменнікі: Янка Брыль, Васіль Быкаў, Іван Навуменка, Іван Шамякін (А. Марціновіч. З вышыні пражытага). Яшчэ старажытнагрэчаскія мысліцелі і філосафы сцвярджалі, што ўсё цячэ, усё змяняецца. А ці заўсёды гэта так? Кажуць жа, што няма правілаў без выключэнняў (Настаўн. газ. 2001, 20 верас.). Гэта яна, дзяржава, ураўнаважыла ў правах лайдака і рупліўца, п’яніцу і майстра. Скажаце, не так? Магчыма, там-сям і не так; правілаў без выключэння не бывае. Але ж у асноўным гэта было правіла (А. Зэкаў. Дарагія мае старыя...). – Нездарма ў народзе кажуць: якое карэнне, такое і насенне. – У прыродзе, магчыма, гэта так. Але ж няма правіл без

выключэнняў. З гэтага я і пачну гісторыю маіх сялянскіх парахункаў з рэакцыяй. Калі дазволіце, я кораценька... – Калі ласка... (Л. Прокша. Урок любві і нянавісці).

– Відаць, паўкалька з рускай мовы, дзе афарызм стаў крылатым пасля таго, як А. С. Пушкін ужыў яго ў «Яўгеніі Анегіне» ў такіх радках: «Хоть он людей, конечно, знал, и вообще их презирал; но *(правил нет без исключений)*: иных он очень отличал». У рускую мову выслоўе прыйшло як калька з лацінскай мовы (словы належаць філосафу Сенеку): *Nulla regula sine exceptione.*

**Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала (што не стала б, каб не было) яўным.** *Функц. не зам. Пра непазбежнасць раскрыцця таго, што было чыёй-н. тайнай.* **Сін.:** *Злодзей крадзе, а лес бачыць; Лес крадзе – поле бачыць; Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць.* Няма нічога патайнага, што не стала б яўным, як казаў калісь дзяк Бацяноўскі. Пачакаю трохі: да дванаццатага жніўня застаецца не так ужо многа. А можа, і да гэтага часу што-небудзь адслоніцца (Я. Колас. На ростанях). Але нічога няма тайнага, каб не было яўным. Патрошку-патрошку папаўзлі Сілцамі, перш невыразныя, а далей усё паўнейшыя ды паўнейшыя, чуткі, што Сёмка выклікаўся да станавога... (Ц. Гартны. Сокі цаліны). – Думаеш, на заводзе не ведаюць, што ты махлюеш? – Не злавіў за руку, не кажы – злодзей... – Зловяць! Няма нічога тайнага, каб не стала яўным... (І. Гурскі. Вярнуўся). Сканцэнтроўваць увесь запас [прадуктаў харчавання] небяспечна нават у двух-трох месцах, бо няма нічога тайнага, што не стала б яўным (М. Зяньковіч. Вяртанне гонару). Але, кажуць, няма нічога тайнага, што б не стала яўным. У класе нейкім чынам даведаліся, што мы з Тасяй сустракаемся па вечарах. Нехта на перапынку напісаў крэйдай на дошцы: «Тася + Павел = любоў» (Б. Сачанка. Загадка аднаго падполля).

– Паходзіць з евангельскага тэксту: «Няма нічога тайнага, што не зрабілася б яўным» (Марк, 4, 22).

**Няма прарока (-ў) у сваёй айчыне.** *Функц. не зам. Належным чынам не цэніцца ў сваёй айчыне ці ў акружэнні блізкіх чалавек, варты высокай ацэнкі.* Ну дапусцім, кажу, з елкай мы разабраліся, а як жа Пікасо з ягоным кубізмам? Адбівае падачу, ды як рэжа!.. А кажуць, няма прарокаў у сваёй айчыне (М. Кусянкоў. Арляк і зязюля). Віцікавы бацькі лічылі Саню сур'ёзным і разважлівым хлопцам. Такім жа сур'ёзным хлопцам лічылі Валовікі Віціка, і кожная сям'я нічога добрага не гаварыла пра сваё дзіця. Няма прарока ў сваёй айчыне – супакойвалі сябе хлопцы (А. Ка-

жадуб. Паход). Кажуць, няма пракаў у сваёй айчыне. Але гэта да часу. Кожны народ мае свае постаці, якімі ён ганарыцца. Па іх вызначаецца час, эпоха. Па іх народ, краіна пазнаюцца ў прасторы і часе (А. Сакалоўская. Цяжка на зямлю сысці пракам...)

– Паходзіць з Бібліі, дзе неаднойчы паўтараецца ў блізкіх варыяцыях (напрыклад, у «Евангеллі ад Марка», 6, 4) як словы Ісуса пра тое, што не бывае прарока без пашаны, хіба толькі ў айчыне сваёй і ў доме сваім.

**Няма прыёму супраць лома, апрача самога лома.** *Якія-н. непрыемныя дзеянні можна ліквідаваць толькі тымі ж сродкамі, якімі выкліканы гэтыя дзеянні.* **Сін.:** *Клін клінам выбіваюць.* Паспрабуй крануць Яроша – давядзецца перад ім капітуляваць, – няма прыёму супраць лома, а ў Яроша лом даволі важкі: «Янка Купала не здолеў па шэрагу прычын даць правільнае, глыбокае асвятленне гэтай праблемы» (Г. Колас. Карані міфаў). Улада прыняла рашэнне: фермера Алеся Касача ў прыродзе існаваць не павінна. І паслядоўна сваё рашэнне выконвала... Супраць лому няма прыёму, апрача самога лому. Значыць, палічыў Алесь, трэба брацца за лом, пратэставаць адкрыта, іначай не заўважаць (С. Шаўцоў. Хросны ход Алеся Касача). **Супраць лому няма прыёму.** Супраць лому няма прыёму.У паэта ён ёсць і адзіны – алюзія (В. Вітка. Запаветная пушча Максіма Танка). Выйсці на іх з сякеркай, якую баба заўжды трымала пад ложкам? Смешна. Горка. Пазваніць у міліцыю? Навошта – яны ж пад Кукалем ходзяць. Няма, няма прыёму супраць лому (В. Бабіна. Рыбін горад).

**Няма роду без выроду.** *У калектыве заўсёды ёсць і такі чалавек, які сярод іншых вылучаецца сваімі дрэннымі якасцямі.* **Сін.:** *Няма лесу без ваўка; У сям'і не без вырадка.* Няма роду без выроду, кажа народная прыказка. Так і ў нас. Вось каля шчырых працаўніц прытулілася Алена Дрыгель. Яна таксама скончыла сярэднюю школу. Але не пайшла па шляху сваіх сяброўак (М. Сергіевіч. У Доме культуры).

* [Сымонка:] Ты на мяне не крыўдуй, дзядзька Рабіна, бо няма роду без вырадку... (В. Вольскі. Машэка).

– *Насовіч,* с. 20: У роду не без выроду; *Прыказкі*, кн. 2, с. 44: Няма роду без выроду.

**Няма таго злога (дрэннага), каб не выйшла на добрае.** *Гаворыцца з надзеяй, што вынікам якой-н. бяды, непрыемнасці павінна стаць удача, што-н. добрае.* **Сін.:** *Не было б шчасця, ды няшчасце памагло; Няма ліха без дабра.* [Якім:] Калі, калі ўжо

надыдзе тая часінка, што нас злучыць навекі, і мы ўжо ніколі не расстанемся? Калі? Калі?.. [Паўлінка:] Ха-ха-ха! На святое ніколі! Вельмі ўжо татка мой заеўся на цябе з таго часу, як даведаўся, што мы з табой злюбіліся. Ну, а без таткі гэты інтарэс наладзіць будзе вельмі трудна. [Якім:] Трудна то яно трудна, але няма таго злога, каб не выйшла на добрае (Я. Купала. Паўлінка). Урэшце, як кажа наша прымаўка: «Няма таго дрэннага, каб не выйшла на добрае». У 1940 годзе мяне за адну правіннасць вывезлі са Львова на Усход. О, я тады не лічыў сябе вінаватым і, канечне, пакрыўдзіўся. А атрымалася так: На Усход я трапіў як праванарушальнік, а ў Польшчу вярнуўся афіцэрам (Л. Прокша. Пакуль жывеш на свеце...).

* Хлеб наш горкі, але не вечны. Як паночкі гавораць: «Няма таго дрэннага, з якога добрае не выйшла б». Чуў? Будзе і наша свята (Я. Брыль. У сям'і).

– *Федароўскі,* с. 166, 357: Няма таго злога, каб не выйшла на добрае; Няма нічога ліхога, каб на добрае не выйшла.

**Няма таго, што раньш было.** *Пра адсутнасць, непаўторнасць, а то і немагчымасць былога, таго, што было раней.* Раней мы грошы клалі ў кашалёк, а ўсю правізію – ў мяшок. Паэт, тваё прароцтва ажыло: «Няма таго, што раньш было» (Ю. Свірка. Раней і цяпер). Паказаць мужу [лісток са словамі: «Кахаю. Чакаю. Сумую»]? Ці пазнае ён сваё колішняе «пісьмо»? Не. Не хочацца бачыць яго скептычныя ўсмешкі або, горш таго, пачуць нешта, на яго думку, сціплае, накшталт «няма таго, што раньш было» (В. Кадзетава. Лякарства ад стомы). Тварцы, у тым ліку і пісьменнікі, і іхні саюз – збяднелі. Няма таго, што раньш было, як спяваецца ў вядомай песні (ЛіМ. 2001. 11 лістап.). Масква ўжо колькі гадоў не самы-самы горад па чытанні кніг. Таго няма, што раньш было (В. Дубінка. У Маскве адтопчуць ногі). Зараз, як тое ні скрушна сцвярджаць, няма таго багацця паэтычных кніг, хоць выдавецтваў стала болей у некалькі разоў... «Няма таго, што раньш было»... Чаму? На гэтае пытанне кожны адказвае па-свойму... (В. Ярац. Дзве згадкі).

* Маліўся зранку дзед, ледзь не разбіў чало. – Дай божа на абед «... таго, што раньш было» (У. Ермалаеў. Няма таго...). – Ведаю, фору дасце маладым, калі часам прыглядная кабета з'явіцца. – Сёння была з'явілася адна... Ці, праўдзівей, я да яе. – І што? – Ой, цяжка прыйшлося. Саўсім не то, як пісаў знакаміты паэт, што раньш было (В. Адамчык. Чорны цмок).

– З верша М. Багдановіча «Ізноў пабачыў я сялібы...» (1913), дзе ёсць радкі: «Я ў сад пайшоў. Ўсё глуха, дзіка, усё травою за-

расло. Няма таго, што раньш было, і толькі надпіс «Вераніка», на ліпе ўрэзаны ў кары, казаў вачам аб той пары». Верш, пакладзены на музыку (кампазітар І. Лучанок), стаў песняй, таму радок набыў асаблівую крылатасць.

– *Іванова*, с. 110: Няма таго, што раньш было.

**Няма той (тае) крамы, каб прадаваліся мамы (дзе прадаюцца родныя мамы).** *Гаворыцца як пра непапраўнае бедства, калі хто-н. асірацее, страціўшы маці.* Мацярынскае пачуццё непадкупнае. Яно ставіцца вышэй за ўсялякія матэрыяльныя інтарэсы: няма тае крамы, дзе прадаюцца родныя мамы (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

* Сляза гаручая пяску адчаю намые. Песня сірочая не адчыніць дзверы нямыя: няма ў іх клямак. І няма тых крамак, дзе прадаюць мамак... (Р. Барадулін. Шчодры голас твой).

– *Насовіч*, с. 100: Няма той крамы, штоб прадаваліся родныя мамы; *Федароўскі*, с. 177: Няма той крамы, што купляюць мамы; *Янкоўскі*, с. 129: Няма тае крамы, каб прадаваліся мамы.

**Няма той хаткі, дзе б (каб) не было звадкі.** *У кожнай сям'і могуць быць сваркі. Гаворыцца як спроба апраўдаць сямейную звадку.* Мне скажуць, што няма той хаткі, дзе б не было звадкі! Але ж мы ўлічыць павінны – бацькі ваююць, а ў дзяцей калоцяцца чупрыны... (Э. Валасевіч. Халодная вайна).

– *Насовіч,* с. 100: Няма тэй хаткі, штоб не было звадкі; *Федароўскі,* с. 50: Няма тае хаткі, каб не было сваркі; *Прыказкі,* кн. 2, с. 45: Няма той хаткі, каб (дзе б) не было звадкі.

**Няпраўдай свет пройдзеш, а назад не вернешся.** *Гл.* Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а назад не вернешся.

**Няпрошаны (незапрошаны, нязваны) госць горш за татарына.** [Барыс:] Я... я ўжо некалькі разоў збіраўся да вас, але кожны раз успамінаў прыказку: няпрошаны госць горш за... А сёння пастараўся забыць пра гэта і зайшоў... (А. Маўзон. Пад адным небам). Вы прабачце, Міхаліна Казіміраўна. Я ведаю: незапрошаны госць горш за татарына (І. Шамякін. Ах, Міхаліна, Міхаліна). – Рашыў пабыць варажскім, – о, не! – папраўляецца Пашка, – нязваным госцем. А нязваны госць горш за татарына, – сыпле ён (У. Паўлаў. Спелыя травы).

– Паўкалька з рускай мовы: *Незваный гость хуже татарина.* У прыказцы адлюстраваны адносіны да татараў у перыяд татарскага нашэсця.

– *Рапановіч,* с. 238: Няпрошаны госць горай за татарына.

**Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца**. *Гл.* Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.

**Няхай конь думае: у яго галава вялікая.** *Гл.* Хай (няхай) конь думае: у яго галава большая (вялікая).

**Няхай лепш разумны паганіць, чым дурны пахваліць.** *Кажуць з асуджэннем пра недарэчную пахвалу кімсьці каго- ці чаго-н.* Як далёка, прынамсі, можа сягнуць чалавечы ідыятызм. Адзін выдавец, кажуць, у сваім інтэрв'ю выпаліў геніяльную сентэнцыю: «Мы выдалі Адамчыка, бо ён вышэй за Каліноўскага». Ад такой пахвалы можна звар'яцець. Не дарам жа ў народзе кажуць: няхай лепш разумны паганіць, чым дурны пахваліць (В. Адамчык. З дзённіка 1999 года).

**Няхай (хай) жыве <і пасецца> беларуская птушка бусел (бацян)! 1.** *Жартоўнае прывітанне пры сустрэчы з кім-н. знаёмым або як дадатак пры звычайным прывітанні.* Бліжэйшы хлопец весела павітаўся, як быццам толькі што пад'ехаўшы: – Здаровы, дзядзька, былі! Няхай жыве беларуская птушка бацян! (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

**2.** *Жартоўны застольны тост.* Усе апытаныя намераны працягваць святкаванне за бяседным сталом. «Наша ніва» далучаецца да аднаго з прапанаваных тостаў: Хай жыве і пасецца беларуская птушка бусел! (ЛіМ. 1999, 3 сак.). Пятро наліў шклянку Данілу. У вялікай шырокай дужай далоні нават гранёная малянкоўская шклянка падалася маленькай і крохкай. – Ужо шмат чаго было сказана... Ну, няхай жыве беларуская птушка – бацян! (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян). Хведзька сыпаў жартачкамі... – Хай здохне той, хто нас не любіць! – абвяшчаў ён. – Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел! – і зноў уздымаў кубак, з якога струменіў у дабрацінскі лес кававы водар (Н. Бабіна. Рыбін горад).

– *Лепешаў*, с. 106: Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел (ужываецца як жартоўны застольны тост, на які адзін з суразмоўнікаў адказвае ў рыфму: – Бусел не бусел, але выпіць мусел!).

**Няхай (хай) той бык здохне, якога пабора карова.** *Гаворыцца як насмешка над мужам, калі ім кіруе, бярэ над ім верх жонка.* **Сін.:** *Гора табе, воле, калі цябе карова коле; Кепская тая дамова, дзе вала бадзе карова.* Ляскатлівая бравура не цягнулася доўга і, безабароннаму ўжо, жонка ўляпіла па шчацэ смачную аплявуху, усё роўна што нейкую прэмію. Маўклівы і задыханы, заенчыў ён, што няхай той бык здохне, якога пабарола карова...

(С. Яновіч. Цывілізаванне Сакольскай). Мужы – «Хай той бык здохне, якога пабора карова!» – лупцавалі сваіх бабаў, падкіх на стройных лейтэнантаў (С. Яновіч. Не жаль пеража̄ытага).

– *Федароўскі,* с. 337: Няхай таго вала ваўкі з'ядзяць, каторага бора карова.

**Няхай хоць гаршком завуць, абы ў печ не ставілі.** *Гл.* Хоць гаршком заві (называй), адно ў печ не стаўляй (не стаў).

**<Няхай> хоць сава, абы з другога (чужога) сяла. 1.** *Пра звычай браць жонку не з сваёй вёскі.* Дзеўку Ігар браў не валюхаўскую, знайшоў ён сабе хамут на шыю аж у Церабеях, вёсцы, што стаіць на Месяц-возеры, кіламетраў за дзесяць адсюль. Нездарма кажуць: хоць сава, абы з другога сяла (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

**2.** *Чужы здаецца лепшым, чым свой.* **Сін.:** *Чужое ўсё смачней; Чужы хлеб – гасцінец, а чужая жонка – прыгажуня.* У нас спяшаюцца выдаваць такія [запазычаныя] сістэмы за інавацыі і апошнія дасягненні псіхолага-педагагічнай навукі. Вось ужо сапраўды «няхай хоць сава, абы з чужога сяла», як гаворыць беларуская прыказка (Настаўн. газ. 2001, 26 мая).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 20: Хоць сава, абы з другога сяла.

**Няшчасце людзей лучыць.** Мусім лучыцца ў гуртку і гэткім манерам закупліваць збожжа для цэлай вёскі там, дзе яго ёсць лішніца. У хаўрусе шмат лягчэй і карысней гэта рабіць. «Няшчасце людзей лучыць», – кажа прыказка. Хай жа гэта прыказка і тут сябе пакажа, каб у супольнай згодзе забяспечыць сябе ад голаду і холаду (Я. Купала. Вайна і самапомач).

**Няшчаснаму Івану няма нідзе талану.** *Гл.* Беднаму (няшчаснаму) Івану няма нідзе талану.



**Па аблічча апостал, а па зубах сабака.** *Праст. Пра таго, у каго знешняя ветлівасць, далікатнасць не адпавядае ўнутраным якасцям, здольнасці прычыніць шкоду, непрыемнасці.* Адносна Лабановіча пракурор заўважыў, што гэты падсудны хоць і мала фігуруе ў абвінавачванні, але, як гаворыць народная прыказка, – па аблічча апостал, а па зубах сабака (Я. Колас. На ростанях).

– *Янкоўскі, с.* 177: Па аблічча анёл, а па зубах – сабака.

**Па адзежы (адзежцы) сустракаюць, а па розуму праводзяць.** *Пра ацэнку чалавека не па знешнім выглядзе і адзенні, а па*

*яго ўнутраных якасцях, разумовых здольнасцях.* Караткаватая куртка, з якой ён [Максімка] даўно вырас, рабіла яго смешным, але ён не звяртаў на гэта ўвагі, помнячы бацькавы словы: «Па адзежы сустракаюць, а па розуму праводзяць» (І. Гурскі. Максімка). Дый у абы-што не апранешся. Як-ніяк – журналіст! Трэба, каб і выгляд адпаведны быў. Бо гэта толькі кажуць так – «па адзежы сустрэнуць, а па розуму правядуць». На самай справе адзежа – гэта... Добра ты апрануты – значыцца, і чалавек прыстойны (Б. Сачанка. Запіскі Занядбайлы). **Па адзенні страчаюць, а па розуму праводзяць.** Пятро сціпла пасміхнуўся – сам ад сябе ён не быў у захапленні. Ды, зрэшты, знешні выгляд яго заўсёды менш за ўсё цікавіў. І не толькі таму, што ведаў прымаўку: «Па адзенні страчаюць, а па розуму праводзяць», а яшчэ і таму, што не любіў выдзяляцца і не мог трываць, калі апынаўся пад скрыжаваннем цікаўных позіркаў (У. Рубанаў. Каштаны).

* На жаль, агульнае афармленне выдання [вокладка, загаловачныя літары артыкулаў] пакідаюць жадаць лепшага. Пра чалавека кажуць: «Па вопратцы сустракаюць...». Тое самае можна сказаць і пра кнігу (І. Казакова. Духоўная спадчына Беларусі).

– *Насовіч,* с. 133: Па адзенню страчаюць, а па вуму праважаюць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 401, кн. 2, с. 233: Госця па адзежы сустракаюць, а па розуму праводзяць.

**Пабачым – сказаў сляпы.** *Кажуць з недаверам пра магчымасць здзяйснення таго, пра што гаварылася ў папярэднім выказванні.* – Я – веру, – упэўнена сказаў сяржант. – Верыў і веру... Мы вернемся сюды зноў. Вось пабачыш. – Пабачым – сказаў сляпы, – няўпэўнена азваўся Лукашык (У. Дамашэвіч. Між двух агнёў).

– *Раманаў,* с. 306: Пабачым, як сляпы казаў; *Прыказкі,* кн. 2, с. 208: Сляпы сказаў: «Паглядзім».

**Паважай чужое, але і свайму ганьбы не давай.** *Функц. не зам.* Струменілася меладычная ўкраінская мова [з вуснаў бацькі], і ў вачах гасцей я чытаў светлую радасць. Прыемна за сотні кіламетраў ад Украіны, у сэрцы Беларусі, пачуць родную мову не ад артыста ці перакладчыка, – ад звычайнага селяніна. Калі бацька закончыў чытаць, яго акружылі, ціснулі рукі, хвалілі. Але, як кажуць у народзе, паважай чужое, але і свайму ганьбы не давай. – А зараз прачытаю вам... вершаванае апавяданне Якуба Коласа «Паслушная жонка», – сказаў бацька (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў). Хай жа чытач не падумае, што кожны цыган сваю кабылу хваліць. Аддадзім належнае і Насовічу, і Далю. Як гаворыцца, па-

важай чужое, але і свайму ганьбы не давай (І. Лепешаў. Пра два зборнікі прыказак).

**Павінную галаву <і> меч не сячэ.** *Таго, хто раскайваецца, не караюць. Кажуць, калі даруюць вінаватаму, які раскайваецца, або калі спадзяюцца на дараванне.* **Сін**.: *Пакаянную галаву не сякуць.* – Каго на плаху? – вачыма паказвае на выбітае акно настаўнік. 5 С не ведае, што адказваць. – Павінную галаву меч не сячэ, – папярэджвае настаўнік. 5 С здагадваецца пра сэнс яго выслоўя (А. Васілевіч. Новы свет). Ну што ж, душа любезны, павінную галаву і меч не сячэ. А памылкі бываюць. Конь на чатырох нагах – і то спатыкаецца. Мы – людзі, на сваіх дваіх (Л. Левановіч. Паводка сярод зімы).

* – Мы яшчэ вернемся на бацькаўшчыну, а толькі не з пакаяннем... – Пакаянную галаву меч не сячэ, – заўважыў Кунцэвіч (І. Гурскі. Чужы хлеб).

– *Насовіч,* с. 128: Павіннай галавы і меч не ймець; *Прыказкі,* кн. 2, с. 328: Пакорную галаву і меч не сячэ.

**Паганае да чыстага не прыстае.** *Гл.* Бруднае (паганае) да чыстага не прыстае.

**Паганая авечка ўвесь статак псуе.** *Гл.* <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка ўвесь статак псуе.

**Пад гумар жартуюць, а ў злосці катуюць.** *Пра тых, хто ўсяляк прыніжае падняволеных ім людзей і здзекуецца з іх.* Без мовы, без роднага слова, народ, як тое быдла, з якім робяць хто што хоча. Пад гумар жартуюць, а ў злосці катуюць. Прыпамятай, беларусе, што з табой выраблялі?! (Я. Лёсік. «Вольная Беларусь»).

**Пад кожнай крышай (у кожнай крышы) свае мышы.** *У кожнага свае асаблівасці, звычкі, клопаты і пад.* Выйдзе [чалавек] на людзі, пабачыць людзей, пачуе людзей і ці падумае, ці падкажуць: пад кожнай крышай свая мыша (свае мышы) (Ф. Янкоўскі. Хітра, мудра...). – І жыццё навокал якое, і людзі харошыя. Ат жа завёўся нейкі гнілляк... – Дзе мёд, там і мухі. – У кожнай крышы – свае мышы, – пагадзіўся дзядзька Коля (Полымя. 1989. № 6).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 193: У кожнай крышы ёсць свае мышы.

**Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ, не бяжыць, не пабяжыць).** *Калі нічога не рабіць, то справа не зрушыцца з месца, нічога не зменіцца. Кажуць, калі хто-н. бяздзейнічае, не клапоціцца пра якую-н. справу.* Пад ляжачы камень вада не цячэ. Кастусь паехаў у Мінск: трэба паспрабаваць трапіць да губернатара. А можа, і пашанцуе (С. Александровіч. На шырокі прастор). –

Палавіна людзей без вінтовак. – Самі вінаваты. Заседзеліся. Пад ляжачы камень вада не цячэ (І. Навуменка. Вецер у соснах). Дзядзька Хвядос даўно на пенсіі, але без работы не сядзіць. Ён гадуе з паўсотні гусей – хата яго стаіць блізка ля Бесядзі, – мае кароўку і цялушку, пару парсючкоў. – Усё ж трэба. Пад ляжачы камень вада не цячэ, – зазначыў стары (Л. Левановіч. Адказ дзядзьку Хвядосу). Урэшце [Зараневіч] прамовіў: – Так то яно так... Але пад ляжачы камень вада не пацячэ... Мы павінны, мы мусім нешта рабіць... (П. Пестрак. Пачатак). – Час нам брацца за справу, – адказаў Даўгулевіч, паглядаючы на Караткевіча. – Пад ляжачы камень вада не пацячэ... (І. Гурскі. У агні). Трэба.. дамагацца ўсімі сіламі, каб будаўніцтва дарогі ўсё ж паставілі ў план. Дый саміх людзей мабілізаваць... Варушыцца трэба, бо пад ляжачы камень вада не бяжыць... (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Мае рацыю Дрэль: пад ляжачы камень вада не пабяжыць. Трэба нешта рабіць. І чым хутчэй, тым лепш (В. Праскураў. Высокі поўдзень).

– *Насовіч,* с. 130: Пад ляжачы камень вада не цячэць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 283: Пад ляжачы камень вада не цячэ (не бяжыць, не падплыве).

**Падняўшы меч, ад мяча і згіне.** *Функц. не зам. Таго, хто распачынае несправядлівую барацьбу, чакае адплата, пагібель.* Расійскі «бальшавізм» спрыяе нацыянальным дамаганням і повен жадання здаволіць самыя крайнія дэмакратычныя вымогі, але нядоля яго ў тым, што ён нежыццёвы, не мае грунт і асуджан на знішчэнне. Тут дапраўды справядлівы словы: падняўшы меч, ад мяча і згіне (Я. Лёсік. Паўстанне і нашы задачы). **Хто меч падняў, і згіне ад мяча.** Хто меч падняў, і згіне ад мяча. Нямецкае войска збіраецца на нашай граніцы, і кожны міг агонь вайны гатоў закінуцца і ў нашу дзяржаву (Я. Колас. Вайна вайне). **Хто з мячом прыйдзе, той ад мяча і згіне**. Хто з мячом прыйдзе, той ад мяча і згіне. Гінула напалеонаўская армія не толькі ад мяча. Гінула пад ударамі сялянскіх вілаў, навостраных косаў, знятых з вазоў аглобляў... (К. Тарасаў. Памяць пра легенды).

– Паходзіць з Бібліі (Матв., 26,52): *Взявшие меч – мечом погибнут.*

**Пажар (агонь) агнём не тушаць (не гасяць).** *Што-н. непрыемнае для каго-н. не ліквідуеш дакорамі, натацыяй і пад.* – Глеб, не пячы ты, калі і так сэрца гарыць. Ну цябе! Сказаў слова, дзякую. Можа, яно і патрэбнае. Пажар агнём не тушаць, – узлаваўся Макар, але ў голасе яго прагучала лагоднасць. – Тушаць. І агнём

тушаць. Калі лес гарыць, то агонь супраць агню пускаюць. Ведаеш гэта? (І. Дуброўскі. Паўз самыя вокны).

– *Федароўскі,* с. 7: Агонь агня не гасіць; Агня агнём не загасіш.

**Пажывём – пабачым (убачым).** *Кажуць, калі не хочуць ці не маюць дастатковых падстаў выказацца пра тое, што можа высветліцца толькі з часам.* – Прыгледзішся да мяне лепей, яшчэ знойдзеш што-небудзь, незаўважанае дагэтуль. – Можа. Пажывём – пабачым, – згадзілася Ніна (А. Пальчэўскі. Шчырасць). – Ці надоўга пасялілі тут?.. – Пажывём – пабачым, – адказала Марыйка (І. Новікаў. Да світання блізка). – Невядома яшчэ, як што складзецца... Пажывём – пабачым... – Аляксана не сказала, што і сама не ведае, як будзе з хатаю, з гаспадаркаю, што сама сядзіць як на вулкане (П. Місько. Градабой). – Хто яго ведае, можа, і на тваім баку праўда, – не то згадзіўся, не то не згадзіўся з Поляю Васіль. – Пажывём – пабачым... (Б. Сачанка. Вялікі Лес). – За цябе, старога ражна, дык мне будуць скуру дзерці? Не можа быць! – Будуць ці не будуць, а пажывём – убачым! – казаў дзед (У. Галубок. Як Сымон у воласці выкруціўся). [Анастасія:] Ну, не, са мной гэтага не здарыцца! [Клаўдзія:] Пажывём – убачым (А. Дзялендзік. Гіпапатам).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 469, 483: Пажывём, пабачым больш; Пажывём далей, угледзім болей.

**Пазайздросціў шалудзівы паршываму.** *Гл.* Пазайздросціў шалудзівы пляшываму (паршываму).

**Пазайздросціў шалудзівы пляшываму (паршываму).** *Гаворыцца іранічна, калі хто-н. зайздросціць каму-н. іншаму, роўнаму сабе.* [Любка:] Сколько все славянские девки и бабы недобрали, сколько деток не родили, сколько мужской да и своей радости в могилу унесли. Вы то со своими мужиками хоть что да успели. [Марфа:] Пазайздросціў шалудзівы пляшываму... Можа, каторая і не дабрала, а ты, відаць, свайго не ўпусціла (А. Петрашкевіч. Дагарала свечачка). [Нічыпар:] Двое ў нас, братачка, мужчын на ўсю вёску. Адзін, як бачыш, без нагі, а другі яшчэ і без рукі. [Сівы:] Усё адно вам жыць можна. [Нічыпар:] Пазайздросціў шалудзівы паршываму (А. Петрашкевіч. У спадчыну – жыццё).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 64: Пазавідаваў пляшывы шалудзіваму.

**Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку.** *Кажуць таму, хто, будучы непрыбраным, няёмка адчувае сябе перад чужым чалавекам.* [Настуля:] Адзін пажылы, а другі малады. [Дзед Бадыль:] То ці не сваты, глядзі? [Настуля:] Што ты, дзядуля! Да каго ж яны маюць быць? [Дзед Бадыль:] Ды ўжо няйначай, як да мяне. [На-

стуля:] Няўжо да мяне? Дзедачка, што ж мне рабіць? Адзета ж я абы-як. [Дзед Бадыль:] Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку (К. Крапіва. Партызаны). – І ты сядай за стол, разам будзем... Во, насупраць. – Вой, я ж не ўвабраная... Мае ж апранахі – там!.. – Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). Гражына выйшла з сяней, выціраючы хвартухом поўныя рукі. – Ой, даруйце, я ж на ферму сабралася... – Ды нічога, пазнаюць нашу дачку і ў андарачку... – супакоіў яе Баляслаў (В. Дайліда. Мне – пару слоў). – Ну ты і сабраўся. Як механізатар. Ці бомж які, – з дакорам сказала жонка. – Апрані новую куртку. Не шкадуй... – Гэта цяплейшая. Нічога, пазнаюць нашу дачку і ў андарачку, – абняў Анатоль жонку. – У такім убранні дзеўкі не будуць чапляцца (Л. Левановіч. Крыжаванка).

* «Пазнаюць бабіну дачку і ў андарачку», – гаварылі людзі пра харошых скромных дзяўчат, якія пад матчыным крылом, ткучы і прадучы ў тую пару, цярпліва чакалі на свой лёс (Л. Геніюш. Манютаў скарб).

– *Насовіч,* с. 130: Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку; *Прыказкі,* кн. 2, с. 88: Пазнаюць нашу дачку і ў чырвоным андарачку.

**Пайшоў (зарадзіў) драсён – не будзе (не жджы) красён.** *Гаворыцца як сельскагаспадарчая прымета: не будзе ўраджаю на лён, калі поле зарасло драсёнам.* У трэцяй брыгадзе лён быў зарос, усе палеткі залыгаў драсён. Самі ведаеце: пайшоў драсён – не жджы красён. Хлопцы з хіматрада так пастараліся на тых палетках, што цяпер там ні лёну, ні драсёну (В. Праскураў. Бярозавы сок).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 117: Зарадзіў драсён – не будзе красён.

**Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны (пастрыжаны, астрыжаны).** *Кажуць пра таго, хто, імкнучыся атрымаць якую-н. выгаду, трапіў у бяду, непрыемнасць.* [Стары:] Нічога я не павінен. Не дам. Плаці сам. А я пайду спаць... [Сын:] Та-ак... Сустрэчны іск. [Дачка:] Вот, Жан, пайшоў ты па воўну, а вярнуўся стрыжаны (А. Макаёнак. Кашмар). Кожная куля павінна несці ворагу смерць. Скажам фашыстам: пайшлі вы, паганцы, па воўну, вернецеся стрыжаныя! (М. Гамолка. Лясная крэпасць). Пасля заключэння «кантракту» спрытная жанчына вымушана была раскашаліцца: давялося заплаціць 500 рублёў штрафу. Як кажуць, пайшла па воўну, а вярнулася стрыжаная (Звязда. 1991, 5 лют.). [Сямёнаўна:] І Цімох вось кажа, што часам так бывае: пойдзе па воўну, а вернецца стрыжаным (А. Петрашкевіч. Укралі кодэкс). «Каб у новую бяду не ўскочыць, – думаў, асцярожнічаў ён [Яўхім Бабай]. –

Бо пойдзеш па воўну, а вярнуцца можаш пастрыжаны» (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

* Шкада дзяўчыны... Але чым ён можа ёй памагчы. Нічым... Яшчэ маладая, знойдзе сваё – шчасце ці няшчасце... Бо бывае ж такое: ідзеш па шэрсць, а вяртаешся астрыжаны (У. Дамашэвіч. Порахам пахла зямля).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 369, 552: Пайшоў па воўну, а вярнуўся абстрыжаны; Пайшоў воўк па воўну, але там астаўся астрыжаным.

**Пайшоў па попел, а чорт ухопіў.** *Кажуць пра таго, хто, пайшоўшы куды-н., бясследна знік.* – Нічога, – паклаў Раману руку на плячо Сілка Хрупчык, – табе [гэ]та можа і добра, што ў Бабінавічы пайшлі Драніца з Брава-Жыватоўскім, таму як па цяперашнім часе ісці туды, дык усё роўна, што ісці па попел, – кажуць жа, пайшоў па попел, а чорт ухопіў (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

– *Федароўскі,* с. 211: Пайшоў па попел, ды й чорт ухопіў.

**Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй.** *Пачаўшы якую-н. справу, перанось усе цяжкасці, не шкадуй выдаткаў.* [Туміловіч:] Лепш не займайся, сват, з нашымі жанкамі, яны цябе абрамізяць. [Пытляваны:] Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). **Калі пайшоў у бойку, дык чуба не шкадуй.** «Пайшоў на повадзе ў адсталых элементаў», – гаварылі там [у раёне]. І Брагінец пачаў думаць, што справа можа скончыцца для яго дрэнна. «А толькі калі пайшоў у бойку, дык чуба не шкадуй», – развважаў ён (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя).

– *Насовіч,* с. 136: Пайшоўшы ў драку, не жалей хахла; *Прыказкі,* кн. 2, с. 359: Пусціўшыся ў бойку, хахла не шкадуюць.

**Пакаянную галаву не сякуць**. *Таго не караюць, хто прызнае сваю віну, памылку перад кім-н., каецца. Гаворыцца тады, калі даруюць каму-н. ці спадзяюцца на дараванне.* **Сін**.: *Павінную галаву <і> меч не сячэ*. Што даказаць? Каму даказаць? Які сэнс некаму нешта даказваць? А мо прызнаць памылкі, пакаяцца? Пакаянную галаву не сякуць. Але якія памылкі? У чым каяцца? (В. Блакіт. Адчай).

– *Насовіч*, с. 128: Павіннай галавы не сцінаюць; *Прыказкі*, кн. 1, с.329: Пакорную галаву і меч не сячэ.

**Пакорнае цяля дзвюх матак ссе.** *Гл.* Ліслівае (ласкавае, пакорнае) цяля (цялятка) дзвюх матак ссе.

**Па кропельцы – рэчка, па сянінцы – копка, а па копцы – стог.** *Паслядоўнымі намаганнямі з малога ствараецца што-н. значнае.* Але ж, як любіць гаварыць Рыгор Іванавіч, з адкладу няма

ладу, паколькі нічога само не зробіцца. Звычайна ён удакладняе сказанае цікавым выслоўем, падслуханым яшчэ ў дзеда: па кропельцы – рэчка, па сянінцы – копка, а па копцы – стог (В. Праскураў. Бярозавы сок).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 133: Па капельцы – мора, па травіцы – стог.

**Пакрышым буракі на абодва бакі.** *Зробім памяркоўную справу, выгадную для абодвух бакоў.* Не затойвай крыўды, успрымі ўсё як жарт. Зробім так: і дамову заключым – на новую карціну, і падарункі аформім. Адным словам, пакрышым буракі на абодва бакі, чуў такую прымаўку? (А. Казько. Апалонавы чаравікі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 326: Крышыць буракі на воба бакі.

**Пакуль вялікі нагнецца, малы нап’ецца.** *Чалавек ў адзіночку парупіцца пра сябе хутчэй, чым гэта зробіць грамада.* Селянін свайго не ўпусціць. Дзе што кепска ляжыць з калгаснага, ён абавязкова прыцягне да сябе на двор. Ой, людзі праўду прыкмецілі: пакуль вялікі нагнецца, малы нап’ецца (В. Гроднікаў. Аброць на Беларусь).

– *Янкоўскі,* с. 177: Пакуль вялікі нагнецца, дык малы нап’ецца.

**<Пакуль> гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца.** *Пакуль не здарыцца бяда, непрыемнасць, бестурботны чалавек не думае пра гэта, не асцерагаецца.* Мы пастаянна ў сваёй рубрыцы паведамляем, як гінуць дзеці ад неасцярожна пакінутых іх бацькамі запалак, як небяспечна курыць у ложку, а потым засынаць і не прачынацца. І ўсё роўна колькасць пажараў расце. Як кажуць у народзе, пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца (Звязда. 1991, 27 лют.).

* Няма калі хварэць [Сяргею Сяргеевічу]. І зараз дацягнуў да позняй восені, а тады не вытрымаў, злёг. Мужыцкая натура: не перахрысціцца, пакуль пярун не грымне. Хаця б не інфаркт ці інсульт, працаваў жа на знос (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– *Насовіч*, с. 80: Мужык не пераксціцца, калі гром не ўдарыць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 173: Пакуль гром не загрыміць, мужык не перажагнаецца; Пакуль не загрыміць, то мужык не перахрэсціцца.

**Пакуль да бога, дык (то, так) чорт душу выме.** *Пакуль настане што-н. жаданае, доўгачаканае, то прыйдзецца перанесці шмат гора, нядолі.* **Сін.:** *Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць; Пакуль траўка падрасце, конік з голаду памрэ.* – Хурс маю работу ацэніць. – Перш за ўсё павінен ацаніць тваю работу я, тады ўжо Хурс. – Пакуль да бога, дык чорт душу выме. – Пакуль да Хурса, дык я над табою начальнік. Або ты аддасі мне зараз жа матэрыя-

лы, або... (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). Просіць [Мікодым] братоў, каб выслалі грошай на дарогу дадому. Хоча на сваім котлішчы памерці. Ці вазьмі тых, што ў турмах сядзяць. Пакуль... да бога, то чорт душу выме (У. Дамашэвіч. Дзявочая клятва). – Ты чуў? Кажа, такім, як ты, няма ўжо даверу. Дык каму ж тады? – Улада яшчэ не асталявалася, вось яны і стараюцца... Гэта самаўпраўства. – Я ж і кажу, – зноў крыкнуў, каб перабіць грукат калёс, ведравецкі сваяк, – пакуль да бога, так чорт душу выме (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

– *Федароўскі,* с. 68: Пакуль да бога, то чорт душу выме; *Раманаў,* с. 84: Пакуль да бога, то чорт душу выме, пакуль да цара, то пан і скуру здыме.

**Пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца.** *Гл.* Дзіця не плача, матка (маці) не дагадаецца.

**Пакуль жаніцца – загаіцца.** *Гаворыцца жартаўліва як суцяшэнне таму, хто параніў што-н., выцяўся і пад.* – Бывае, брат, і горш. Ну, нічога. Пакуль жаніцца – загаіцца, – кажа бацька, узяўшы Алеся на рукі (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). – Пакуль жаніцца, загаіцца, – успомніў я матчыну прыказку, калі яна вымала часам стрэмку з нагі, а я крычаў (Р. Няхай. Шлях на Эльбу). Проста так нас таўкуць без усякага і ўсё па дзесяць разоў на дзень. Мы ўжо звыкліся з гэтым і з болем звыкліся. Пабаліць, пабаліць і перастане, пакуль жаніцца – загаіцца (В. Казько. Но пасаран). Сашка перавязаў нагу чыстай анучкай і зажмурыў вочы: – Разумееш, так тузае, нібы б’е токам. Але гэта нічога, пакуль жаніцца – загаіцца (В. Дайліда. Гарох пры дарозе).

– *Раманаў,* с. 309: Пакуль жаніцца – загаіцца; *Ляцкі,* с. 32: Пакуль жаніцца – загаіцца; *Прыказкі,* кн. 2, с. 219: Пакуль жаніцца – загаіцца, а ўміраць, то і не знаць.

**Пакуль жывеш – усяго трэба, а як памрэш – чатыры дошкі і зямлі трошкі.** *Гаворыцца пра пастаянныя клопаты, надзённыя інтарэсы аж да самага канца чалавечага жыцця.* Пакуль жывеш – усяго трэба, а як памрэш – чатыры дошкі і зямлі трошкі (Эпіграф да падраздзела з твора В. Гігевіча «Пярэварацень»). Пакуль жывеш – усяго трэба. Так і я. Як жыла, то старалася. Дапамагала сыну і мэблю справіць, і дываны. І кватэру з-за мяне большую далі (У. Сауліч. Сабака з залатым зубам).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 417: Пакуль жывеш – усяго трэба, а як памрэш – чатыры дошкі і пяску трошкі.

**Пакуль (покі) сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.** *Пакуль дачакаешся чаго-н. жаданага, то будзе позна і прыйдзецца перанесці шмат гора, нядолі.* **Сін.:** *Пакуль да бога, дык чорт душу выме; Пакуль траўка падрасце, конік з голаду памрэ.* [Навум:] Прыказаў нам пан пісар, штоб, калі маем крыўду да камісара, смела гаварылі. Але і я місцюк [майстар]! Ведаю добра гутарку, што пакуль сонца ўзойдзе, раса вочы выесць (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Верыць народ, што прыйдуць лепшыя дні. Вось і трэба жыць гэтай верай, не зважаючы на тое, што «покі сонца ўзыдзе, раса вочы выесць» (Я. Колас. На ростанях). – Кажуць, што твой пісаў скаргу некуды ў цэнтр, дык мо разбяруцца, – сказала Яніна... – Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць. Не ведаю я, ці пісаў ён што, ці не (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). – Ах, братка Раман, ці ж мы ведалі, што так абернецца? Думалі – яны зразумеюць, пачакаюць яшчэ... – Зразумеюць! Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць, – сказаў дзядзька Лявон (Л. Ялоўчык. Вясельныя сустрэчы). – Я напішу ў «Праўду», – сказаў Арсен. – Гэта – злачынства, і я так проста не здамся. – Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць (М. Герчык. Вяртанне да сябе).

*А бачу й добра сам: ідуць да праўды людзі, расцецъ яе жаўнер, і шырыцца прастор марудна, братачка! І пакуль сонца ўзыдзе, дык вочы выесць нам салёная раса, і покуль першы дзень людскога шчасця прыйдзе, мільёны сэрц праткне гароты злой каса (А. Гарун. Паэту).

– *Насовіч,* с. 132: Пакуль сонца ўзыйдзець, раса вочы выберэць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 455: Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.

**Пакуль (покуль) з багатага пух, то (дык) з беднага дух.** *Чалавеку беднаму, бяспраўнаму дарэмна, безнадзейна судзіцца, спрачацца з багатым, уладным.* **Сін.:** *Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ.* [Марыля:] Я казала, што нічога не выйдзе. Ці з багатым беднаму судзіцца? Пакуль з багатага пух, то з беднага дух (Я. Купала. Раскіданае гняздо). [Каляда:] Якраз тыя, у каго многа чаго ёсць, першыя лажацца на дарозе прагрэсу. [Нагорны:] Іх душыць няўмольнае кола гісторыі. [Каляда:] Покуль з багатага пух, дык з беднага дух (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 419: Пакуль з багатага пух, то з беднага дух.

**Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ.** *Чалавеку беднаму, бяспраўнаму дарэмна, безнадзейна судзіцца, спрачацца з багатым, уладным.* **Сін.:** *Пакуль з багатага пух, то з беднага дух.* [Стораж:] Я не суддзя, але наперад кажу, што з багатым не варта судзі-

цца, а з дужым біцца. [Жонка:] Мы яго засудзім, наша крыўда відавочная. [Сторож:] Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ (У. Галубок. Суд).

– *Насовіч,* с. 132: Пакуль жырны ссохнець, датуль худы здохнець; *Федароўскі,* с. 296: Пакуль сыты ссохне, то худы здохне; *Прыказкі,* кн. 1, с. 419: Пакуль сыты схуднее, то худы прападзе.

**Пакуль сыты ссохне, дык худы здохне.** *Гл.* Пакуль тоўсты (сыты) ссохне (усохне), дык (то) худы (сухі) здохне.

**Пакуль тоўсты (сыты) ссохне (усохне), дык (то) худы (сухі) здохне.** *Тоўсты, сыты чалавек перажыве худога, змарнелага.* [Бабка Дарка:] Вось памру, застанешся адзін, нагаруешся. [Дзед Лукаш:] Я першы дух спушчу. Косці ды рэбры засталіся, ад ветру хістае. А на табе тлушчу, як на мядзведзіцы перад спячкай. Цэлую зіму можна праспаць не еўшы. Праўду людзі кажуць, пакуль тоўсты ссохне, дык худы здохне (В. Шырко. Дзед Лукаш і кірмаш). А вось калі арандатарка Луцэўчыха возьме табурэтку і сядзе паблізу жнеяў – тут бабы чаго толькі не выдумлялі, хоць іншая і абрывала таварак: «Пакуль сыты ўсохне, сухі – здохне!..» Ды ці сапраўды была сытая яна, Луцэвічыха? Ці сквапная? (А. Лойка. Як агонь, як вада). «Не хачу я быць спартсменкай», – пасля гэтых слоў у таты, мабыць, перахапіла дыханне. Ён паклаў трубку, каб паразважаць. А я хутчэй да халадзільніка: дастану піцу, разагрэю. «Эх, пакуль тоўсты ссохне, худы – здохне». Калі ў мяне добры настрой, апетыт удвойваецца (С. Лобач. Пажывём для людзей). – Эх, Курыла, Курыла, вялікая сіла, мне б тваё здароўе. Бач, які ты спраўны, які гладкі ды тоўсты. – Пакуль тоўсты ссохне, дык худы здохне, – бадзёра адказаў Курыла Валун, і ўсе засмяяліся (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 419: Пакуль сыты ссохне, то худы здохне.

**Пакуль траўка падрасце, конік з голаду памрэ.** *Пакуль дачакаешся чаго-н. жаданага ці абяцанага, то будзе позна і прыйдзецца перанесці шмат гора, нядолі.* **Сін.:** *Пакуль да бога, дык чорт душу выме; Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.* Кіраўніцтва краіны мяркуе палепшыць стан настаўнікаў і работнікаў дашкольных устаноў... у 2005 годзе. Як кажуць, «пакуль траўка падрасце, конік з голаду памрэ» (ЛіМ. 1998. 31 ліп.).

**Пакуль <у (на) гумне> цэп, патуль (датуль) <на стале> хлеб.** *Пакуль чалавек працуе, патуль ён мае сродкі для існавання.* – Як у вас сёлета з хлебам? – Пакуль у гумне цэп, датуль на стале хлеб (І. Гурскі. Вецер веку). Нораў яна [Алеся] мае... Ого!

Свякрусе і залувіцы жыцця ад яе не будзе. Згоніць іх са свету. А табе што? Калі якая нявыкрутка, за шапку ў ахапку... У нас з табою, як кажуць, пакуль цэп, патуль хлеб. Каб, маючы рукі, сёння чалавек прапаў?.. (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

– *Насовіч,* с. 132: Пакуль на гумне цэп, патуль на стале хлеб; *Прыказкі,* кн. 1, с. 137: Пакуль на гумне цэп, патуль (датуль) на стале хлеб; Пакуль цэп, патуль (датуль) хлеб.

**Палавіна свету скача, а другая палавіна свету плача.** *Пра сацыяльную няроўнасць.* **Сін.:** *Адны пануюць, другія гаруюць; Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца.* Кожны чалавек ніколі не будзе шчаслівы. Усе старыя людзі казалі: палавіна свету скача, а другая палавіна плача (Г. Далідовіч. Заходнікі).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 431: Палавіна свету скача, палавіна плача; *Рапановіч,* с. 52: Палавіна свету скача, палавіна свету плача.

**Палегчала (палепшала) бацьку к смерці.** *Гаворыцца іранічна пра пагаршэнне якой-н. справы.* [Дзюбка:] Не, калі ўжо вы мяне зрабілі камерсантам, дык цярпіце, калі я хачу пазабаўляцца... [Лаўрановіч:] Як гандлюецца? Лягчэй цяпер? [Дзюбка:] Палегчала бацьку к смерці. Раней крычаў, а зараз толькі глядзіць. Нічога, кармлю сябе, і ёсць грошы на абарот (У. Караткевіч. Млын на Сініх Вірах).

– *Насовіч,* с. 132: Палепшала бацьку к смерці.

**Паляваў куню, упаляваў красуню**. *Кажуць пра таго, хто выбраў як жонку добрую, прыгожую дзяўчыну.* – Але ж не вельмі добра і тады, калі – во, як Уладка, – з печы полымем, з хаты – дымам, з двара – віхрам. – А ты што думаў? – смяецца дзядзька Амброжык. – Паляваў куню, упаляваў красуню. – Ну, скажу табе, дарагі суседзе, – суседам дзядзьку Амброжыка пачынае называць і Купала, – жонка – во! – і як агонь, і хоць з агню, а вырве (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Выслоўі*, с. 92: Паляваў куню, а ўпаляваў красуню.

**Па малаку ног не павалаку.** *Здаровым, працаздольным не будзеш, калі ўжываць толькі адно малако.* Ва ўсім Замошшы адна карова ў сям'і мнагадзетнай. Кажучы мовай газетнай. Адна карміцелька выжыла на ўсю талаку. Хоць некалі да вайны стагнала прымаўка-выжыла: па малаку ног не павалаку (Р. Барадулін. Асірацелая балада). «Па малаку – ног не павалаку» – так звычайна казалі мужчыны-касцы чэрвеньскімі роснымі раніцамі, з ухвалаю пазіраючы на сваіх клапатлівых гаспадынь, якія, пакуючы ссабойку, клалі паміж лустамі добрага вясковага хлеба ладныя скрылі

кіндзюка (С. Законнікаў. Ліёнскі тыдзень). Але галоўную ролю сала павінна сыграць у час касьбы, бо галодны мужчына – не работнік, а трэба ж на зіму пуньку сенам шчыльна напхнуць. Кажуць жа – па малаку ног не павалаку... (С. Давідовіч. Яго вялікасць сала).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 246: Па малаку ног не павалаку; *Рапановіч,* с. 157: Па малаку ног не павалаку.

**Памалу едучы, далей будзеш.** *Гл.* Цішэй едзеш – далей будзеш.

**Паміраць збірайся (збіраешся), а жыта сей.** *У якім бы стане ні знаходзіўся чалавек, яго думы і дзеянні звязаны з жыццёвымі, надзённымі інтарэсамі.* **Сін.:** *Кабыла здыхае, а <за> траву хватае.* – Навошта вы сюды прыйшлі? – Як навошта? – здзівіўся Ліс... – Людзі кажуць, паміраць збірайся, а жыта сей... (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). Прыходзілася думаць, як пасадзіць бульбу, дзе дастаць гною, хто ўзарэ соткі. Кажуць жа – паміраць збірайся, а жыта сей (С. Грахоўскі. З воўчым білетам). Абарвалася ў душы [Анюты] тая нітачка, якая вядзе чалавека па жыцці з мінулага ў будучае. Дзеля чаго існаваць? Але ж не накладваць рукі на сябе. Паміраць збірайся, а жыта сей... (А. Вараповіч. Дзве жанчыны). – А вы ўсё пілуеце ды пілуеце? Каму гэта, пане мой, патрэбна будзе, калі ўсё дагары нагамі перавернецца? – Паміраць збіраешся, а жыта сей, – адказаў Гантман (М. Лобан. На парозе будучыні). Але ж, кажуць, паміраць збіраешся, а жыта сей. Так і я... Валька трохі памагла, накруцілі [на жорнах] з горам папалам (П. Місько. Мора Герадота). Не сяджу склаўшы рукі, а працую, жыву, людзям патрэбны... Нездарма людзі кажуць: паміраць збіраешся, а жыта сей (В. Шырко. Споведзь правінцыяла). **У прочкі выбірайся, а жыта сей.** Я наліў у адну чарніліцу чарніла і таксама паставіў яго на настаўніцкі стол. «У прочкі выбірайся, а жыта сей», – успомніў я прыказку, разважаючы аб тым, прыйдзе хто-небудзь да мяне вучыцца ці не (А. Якімовіч. Канец сервітуту).

* [Аўдоцця:] Глядзі, дачушка, разглядайся, каб пасля не каялася [выйшаўшы замуж]. Я цябе прымушаць не хачу. Як твая душа і розум табе кажуць, так і рабі. [Насця:] Ну, добра! Яшчэ паглядзім ды падумаем. Пайшлі, дзяўчаткі! Замуж збірайся, а жыта сей (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 125: Паміраць збірайся, а жыта сей; У прочкі збірайся, а жыта сей.

**Панадзіўся журавель у зялёны канапель.** *Кажуць, часам іранічна ці жартаўліва, пра таго або таму, хто стаў часта хадзіць куды-н., наведваць каго- ці што-н.* [Дарнілоўскі:] А добра

тут у цябе. Зноў кажу, як добра... Пайду прайдуся на рэчку. Ты кладзіся, Бронік, змарыўся! [Бронік:] Панадзіўся журавель у зялёны канапель!.. (М. Грамыка. Над Нёманам).

– *Выслоўі,* с. 92: Панадзіўся журавель у нашу канапель.

**Пана клянуць, а пан тлусцее (таўсцее).** *Кляцьба нікалькі не шкодзіць багатаму, уладнаму чалавеку.* [Дзед Бадыль:] Усяго і злосці ў нашага чалавека, што скляне ад шчырага сэрца, зачыніўшыся ў хаце. Дык каму гэта баліць? Як тая прыказка кажа – пана клянуць, а пан тлусцее (К. Крапіва. Партызаны). – Нас зненавідзелі. Праклінаюць... – «Пана клянуць, а пан таўсцее» – любіў гаварыць фон Готберг, – па-ранейшаму ўхмыляўся Ганько (І. Гурскі. Чужы хлеб). **Кляні пана – пан сычае (таўсцее).** Не вадзіць на добрых нам паноў ніколі. А вось такі «Рак», ліха долі, не будзе мець табе і зносу. Так, брат: для нашага ён лёсу! І ёсць жа прыказка такая: «Кляні ты пана – пан сычае!» (Я. Колас. Новая зямля). [Паліна:] Каб іх за сэрца ўзяло ды не адпусціла. Учора паўсяла сагналі, а сёння і да нас чарга дайшла, каб ім на захад сонца сысці... [Максім:] Кляні пана – пан сычае (А. Петрашкевіч. Злавеснае рэха).

* «Ой, пане! – лаецца народ, крычыць услых: пан – абармот, няхай яго забіла б громам!» Смяецца пан: – Мой дабрадзею, не дарма ж прыказка ў іх ёсць: «Кляні ты пана, пан таўсцее і абрастае яго косць» (Я. Колас. Рыбакова хата).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 306: Пана клянуць, а пан таўсцее; Кляні ты пана – пан таўсцее.

**Па (на) крывой дарозе наперадзе (наперад) не відаць.** *Вядучы крывадушны спосаб жыцця, нельга прадбачыць свой далейшы лёс.* Што ж будзе заўтра, як вы думаеце? Ды што я пытаюся: на крывой дарозе наперад не відаць... (В. Гроднікаў. Непаднятая цаліна).

– *Янкоўскі*, с. 227: Па крывой дарозе наперадзе не відаць.

**Пан за пана цягне (верне).** *Адзін уплывовы, уладарны чалавек садзейнічае, дапамагае другому.* Аксён Каль выступаў ад грамады як давераная асоба. Хадзіў па судах, пачынаючы з акружнога, і давёў справу да сената, дзе яна і захлынулася, бо ўсюды пан цягне за пана (Я. Колас. На ростанях).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 297: Пан за пана верне.

**Пан з пана – пан, пан з хама – хам.** *Кажуць з пагардай пра таго, хто, стаўшы панам, не пазбавіўся сваіх ранейшых адмоўных звычак, якасцей.* Рабская, хамская пыхлівасць цешыць самалюбства героя-антыгероя, кіруе інтанацыяй, з якой ён прамаўляе. Ён – воляй гістарычнага лёсу – цар. А па сутнасці: быў рабом, ра-

бом і застаўся. Ці, як цвердзіць народная мудрасць: пан з пана – пан, пан з хама – хам (А. Петрушкевіч. Верш Янкі Купалы «...О так! Я – пралетар!..»). – Людовік! – усклікнуў Стасік. – Спыні ты гэтага хама. Праўда кажуць: калі з пана пан, то пан, а калі з хама пан... (А. Наварыч. Літоўскі воўк).

* І як гэта ні прыкра ўсведамляць, да некаторых нашых кіраўнічых асоб вельмі ж падыходзіць прыказка пра хама, з якога не зробіш пана... (ЛіМ. 1995, 24 лістап.).

– *Насовіч*, с.124: Пан усягды панам, а хам хамам.

**Па нітачцы і клубок знойдзецца.** *Па розных дробных прыметах высвятліцца якая-н. складаная, заблытаная справа.* Муж даслужыўся да звання палкоўніка. Ды раптам у яго адсутнасць загінуў адзін салдат. «Па нітачцы і клубок найдзецца», – думала я. Але доўга з мужам не разбіраліся: хуценька разжалавалі і адправілі са службы, нават не прызначыўшы пенсіі (С. Лобач. Па закутках памяці).

– *Насовіч*, с. 133: Па нітачцы клубочак знаходзяць; *Ляцкі*, с. 33: Па нітачцы і клубок знайдзеш.

**Панскае вока каня тучыць (гадуе).** *Ласкавае слова, добрыя адносіны да каго-н. дапамагаюць у справе.* [Навум:] Добра прымаўка нас вучыць: панскае вока каня тучыць. Што сватоў к ёй маю слаць, лепш самому папытаць... Як бы тут ёй заляцацца, кабы лепей спадабацца? Гутаркамі ёй заграю, – пазнае, што розум маю (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч,* с. 124: Панскае вока каня тучыць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 309: Панскае вока каня гадуе. [*Тучыць* (дыялектызм) – рабіць тлустым, параўн. у польскай мове: tuczyc – адкормліваць].

**Пан ці прапаў.** *Усё ці нічога, дабіцца ўсяго жаданага ці ўсё страціць. Ужываецца як выказванне рашучасці перад прыняццем рашэння, пры намеры рызыкнуць.* Па-мойму, Юркевіч разумеў, што ідзе на недазволенае. Заўважылі? Ён вельмі спяшаўся, дзейнічаў напрапалую – пан ці прапаў (У. Карпаў. За годам год). Сына чалавек хацеў. Разумееш, мара такая была. А тут – няма і няма. Рашыўся мо ў апошні раз. Як кажуць, пан ці прапаў. І на табе – дачка! Мара лопнула, от што галоўнае (М. Гіль. За ружовымі фіранкамі). – Ах ты, жаба аблезлая! Ты яшчэ мяне крыўдзіць будзеш?! Лявонава рэакцыя была імгненная: «Пан ці прапаў!..» Ён прыгнуўся і, цаляючы ў Божыкаву сківіцу, рэзка крутнуў галавой. Дастаў! (У. Гніламёдаў. Вяртанне). **Або пан або прапаў.** Што зробіш, такі лёс: або пан або прапаў! Так гавораць на яго былой роднай зямлі...

(М. Гамолка. Шосты акіян). Інакш бы мы не вырваліся... Тут так: або пан або прапаў (Р. Няхай. Туман над стэпам). **Альбо пан альбо прапаў.** Можаш адразу не адказваць. Ідзі падумай. Але помні: альбо пан альбо прапаў (В. Быкаў. Сотнікаў). Многа загіне, вядома, але многа і прарвецца. Гэта быў жэст адчаю, амаль стыхія – альбо пан альбо прапаў (П. Місько. Мора Герадота). **Ці пан ці прапаў.** Ці пан ці прапаў, а развязваць спорку трэба. Хто каго скіне з кладкі, чый будзе верх – англічанкі ці немца – хутка пабачым (Я. Лёсік. Хто вінавайца вайны). Нам цяпер так: ці пан ці прапаў! Выбіраць няма чаго! (І. Мележ. Завеі, снежань). Я ўлучыў мінуту і даў драпака. Ці пан ці прапаў – думаю (А. Ставер. Пад канвоем). Эх, было не было! Ці пан ці прапаў, не ў такія сітуацыі даводзілася трапляць, ды бач, жывы пакуль! Войшалк не падаў духам (А.А. Марціновіч. Ля вытокаў Вялікага княства).

– Недакладная паўкалька з лацінскай мавы: *Aut Caesar aut nihil* (літаральна «або цэзар або нішто»). Параўн. у аповесці У. Арлова «Час чумы»: «Эразм пачуў, як той смела сказаў камусьці на добрай лаціне: «Aut Caesar aut nihil».

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 294: Ці пан ці прапаў.

**Паны б’юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.** *Пры сутыкненні ўладных людзей церпяць іх падначаленыя.* Паны паміж сабой судзяцца, а гэта цяжка адбіваецца на сялянах: паны б’юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). Усё я разумею, пан Ляснеўскі, але, як кажа мой бацька, калі паны б’юцца, у мужыкоў чубы трашчаць. Баюся, што ў гэтай бойцы мы нічога добрага, акрамя кухталёў, не атрымаем... (З. Дудзюк. Архірэевы скарбы).

* Каля Гары сабраўшыся, стаяць Мароз і Сонца, Вецер з цёмнай Хмарай. Не так стаяць, а сварацца яны. Для спрэчкі лёгка адшукаць прычыну! Даўней казалі: «Сварацца паны, а чуб трашчыць заўсёды ў селяніна» (У. Дубоўка. Хто дужэйшы). А каб падумаць, чаго часамі біліся, дык чорт ведае. Відаць, гэта выходзіла так, як некалі казалі: «Пан рагоча, а ў мужыкоў чубы трашчаць» (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). Чакай, браце ты мой... Можа, не след нам у такое дзела нос соваць? Калі паны б’юцца, у парабкаў, гэта самае, чубы трашчаць (А. Шлег. Сталінскія «байструкі»).

– *Насовіч,* с. 125: Паны дзяруцца (судзяцца), а ў мужыкоў хахлы трасуцца; *Прыказкі,* кн. 1, с. 319: Паны дзяруцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.

**Папаўся жучку ў панскую ручку.** *Хто-н. трапіў у складанае, непрыемнае становішча.* [Навум:] Досыць жа [камісару] нас

мучыць. Добра прыгаворка вучыць: папаўся, наш пане жучку, ды ў панскую ручку. Ты намі паневяраў, апошняе выдзіраў; цяпер мы, паганскі сыну, дадзім добра чосу ў спіну! (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – Адкуль гэта, Рыгор? – Не твая справа!.. – Як гэта, не мая?! – Памаўчы, Алесь... Нясі ты іх [мяхі] ды кладзі на воз. А сам выходзь на дарогу. Што глядзіш! Мо дрэннае што задумаў! Глядзі, чалавеча... «Значыць, папаўся жучку ў панскую ручку... Што ж цяпер рабіць?» (А. Чарнышэвіч. Світанне).

– *Насовіч,* с. 133: Папаўся чорны жучку ў белую ручку; *Федароўскі,* с. 360: Папаўся наш жучку ў панскую ручку.

**Папаўся ў вароны, то крычы, як воны**. *Гл.* Трапіў у вараны, крычы, як яны.

**Пара, госцейкі, дадому, бо паелі конікі салому.** *Жартоўная прапанова раз'язджацца, разыходзіцца пасля гасцявання.* Янка ўстаў і сказаў старую беларускую прымаўку: «Пара, госцейкі, дадому, бо паелі конікі салому». Усе засмяяліся, устала Рагнеда, потым усе астатнія... Рагнеда і Янка развіталіся з маткаю... (У. Дамашэвіч. Месяц у Раі...).

**Пара касцей не ломіць.** *Гаворыцца, калі хто-н. не адчувае нязручнасці ад празмернай гарачыні на вуліцы або ў памяшканні ці ад вельмі цёплага адзення.* **Сін.:** *Ад цяплосці не баляць косці.* Спачатку ладзілі жыццё, як і раней, – пры спякотным клімаце. Душнавата, праўда, было, але, як кажуць, пара касцей не ломіць (М. Ткачоў. Пошукі скарбаў). Ісці не пры касцюме было гэтаксама няёмка. Таму, пагаварыўшы які момант, [Павэлак] усё ж накінуў пінжак на плечы. А мо не ўпрэе. Пара касцей не ломіць (Т. Бондар. Жывыя жывуць). [Калун:] Дзякую, бабуля. Парылачка што трэба. Такой і ў горадзе не знойдзеш. Даўно так не парыўся. [Ганна:] На здароўечка. Пара касцей не ломіць (А. Петрашкевіч. Соль).

– *Насовіч,* с. 125: Пара касцей не ломіць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 213: Пара (пар) касцей не ломіць.

**Паранены звер страшны (яшчэ больш небяспечны).** *Чалавек, якому прычынілі шкоду, пакуты, здольны на адчайны, непрадказальны ўчынак.* – Ад Пальчынскага ўсяго можна чакаць, – хваліўся Падвойскі. – Паранены звер страшны... (І. Гурскі. Вецер веку). Пашкуматаны вораг больш не асмельваўся ў адкрытую паказвацца ў заланьскіх вёсках. – Паранены звер яшчэ больш небяспечны, – сказаў аднойчы Пятро Сцяпанавіч. – Трэба падшукаць зручнае месца і быць гатовым вывесці туды ўсю вёску (В. Праскураў. Чалом табе, стараполіца).

– *Ліцвінка,* с. 121: Самы страшны звер той, што паранены.

**Парою сена косяць.** *Усё павінна рабіцца ў пэўны, адпаведны час, якраз тады, калі трэба.* **Сін.:** *Усяму свой час.* Яшчэ падумалася, што і бацька нічога не сказаў пра нявестку. Адно паўтараў: «Ну і правільна, сынок. Час ужо заводзіць сям'ю. Парою сена косяць» (Л. Левановіч. Сіняе неба). «Хоць бы сын хутчэй ажаніўся», – падумаў ён. Павел не раз гаварыў пра гэта з Алесем: маўляў, парою сена косяць.., дваццаць пяць гадоў, адукацыю маеш... (Маладосць. 1997. № 7).

– *Насовіч*, с. 134: Парою сена косяць; *Федароўскі,* с. 276: У пару сена косяць.

**Паршывая авечка ўвесь статак псуе.** *Гл.* <Адна> паршывая авечка ўвесь статак псуе.

**Па Сеньку (па Хомку) <і> шапка.** *Кожны атрымлівае тое, чаго ён варты, што адпавядае яго становішчу.* **Сін.:** *Якія сані, такі і гаспадар.* – Люблю тых, хто мерае вялікай меркай, – пацёр Ціхан рукі, калі гарнец заняў сваё месца на сярэдзіне стала. – Па Сеньку шапка, – пахваліў Прахор (А. Пальчэўскі. Жнівеньская раніца). Так яна [Паліна] па заданню СД і сышлася з Аляксеем Пцічкіным. Як кажуць, па Сеньку і шапка (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Па Хомку, як кажуць, і шапка. Якім быў начальнік, такімі аказаліся і некаторыя яго падначаленыя... (У. Корбан. Цеплаход ідзе на Поўнач).

– *Насовіч,* с. 134: Па Саўку шапка; *Прыказкі,* кн. 1, с. 435: Па Сеньку шапка; Па Хомку шапка; Па Юрку і шапка.

**Пасля бойкі кулакамі (рукамі) не махаюць.** *Бескарысна і позна дзейнічаць, абурацца, апраўдвацца пасля таго, калі ўжо што-н. зроблена, адбылося.* Не раю вам гэтага рабіць, пасля бойкі кулакамі не махаюць. Разбіты надзеі... Усё прапала... (І. Гурскі. Вецер веку). – Ты крыўдуеш, што я пайшоў дамоў з пушчы? – Што мне крыўдаваць, пасля бойкі рукамі не махаюць (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). Слухай, дарагі: пасля бойкі рукамі не махаюць. Спрабуй ты пабыць справядлівым і дадумайся да таго, што ва ўсім гэтым рызыкую я і толькі я! (С. Яновіч. Сцяна).

– *Рапановіч,* с. 206: Пасля сваркі рукамі не махай.

**Пасмяяўся гаршчок з катла.** *Кажуць неадабральна таму, хто высмейвае каго-н., хоць і сам заслугоўвае насмешкі.* **Сін.:** *Пасмяяўся шалудзівы з пляшывага.* [Базыль:] Ага, чаго ты, Янук, у хаце адседжваешся? [Янук:] А чаго ты толькі па сватах ды вяселлях ходзіш? [Базыль:] Пасмяяўся гаршчок з катла. Ад дарма-

вой гарэлкі і ты не вельмі адмаўляешся (І. Козел. Папараць-кветка). «Не баба, а страхоцце. І трэба ж было за гэтакую яшчэ паспорыць, – ціха ўхмыльнуўся Сымон Чачотка. – Але ці ж лепшы сам? Пасмяяўся гаршчок з катла» (В. Адамчык. Нязрушаны камень). Яна перабірала розныя варыянты сустрэчы, як яна будзе паводзіць сябе і што гаварыць.., каб потым яны, два хлопцы, не смяяліся з яе вясковасці, недапечанасці, а папросту – вясковай цемры, «дзеравеншчыны», хоць, калі падумаць, то і яны самі такія ж, як і яна: пасмяяўся кацёл з гаршка! (У. Дамашэвіч. Крайняя авечка). – Нешта дрэнна ты б’еш [у бубен]!.. Як бы не еўшы!... – Пасмяяўся гаршчок з катла, – парыраваў Гамон (У. Гніламёдаў. Вяртанне).

* Кажуць, кацёл з гаршка не насмяецца, бо абодва чорныя. Я, мае вы дзеткі, каб на цяперашні розум, то замуж за Сяргеевага бацьку не пайшла б (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– *Ляцкі,* с. 23: Насмяяўся чыгун з катла: абодва чорныя; *Прыказкі,* кн. 2, с. 399: Пасмяяўся кацёл з гаршка, што той чорны; Насмяяўся гаршчок з катла, агледзеўся – і сам чорны.

**Пасмяяўся лысы з пляшывага.** *Гл.* Пасмяяўся шалудзівы з (каля) пляшывага.

**Пасмяяўся шалудзівы (лысы) з (каля) пляшывага.** *Кажуць неадабральна таму, хто высмейвае каго-н., хоць і сам заслугоўвае насмешкі.* **Сін.:** *Пасмяяўся гаршчок з катла.* – У вас жа ў школе гэтак. Вучань не так літару вывеў – педсавет і настаўніку вымова. – Утрыруеце ўсё. Ну, утрыруйце, утрыруйце, што ж. Пасмяяўся шалудзівы каля пляшывага (Я. Ермаловіч. Зазімак). – Так і далася [баба памыцца]! – Смяяўся лысы з пляшывага! – папікнуў Міхась. – Ты ўспомні, калі ты сама ў лазні пачала мыцца. І колькі ў нас тых лазняў на дзвесце пяцьдзесят двароў (В. Кадзетава. Ля трох пуцявін).

– *Насовіч,* с. 88: Насмяяўся шалудзівы пляшываму; *Прыказкі,* кн. 2, с. 399: Пасмяяўся лысы з пляшывага; Насмяяўся голы з пляшывага.

**Паспех – людзям на смех.** *Гаворыцца як парада дзейнічаць не спяшаючыся, каб не памыліцца і не выклікаць насмешак.* **Сін.:** *Паспяшыш – людзей насмяшыш; Хутка каты робяцца, ды сляпыя родзяцца.* – Хутчэй, хутчэй, – падганяў Шацкі Аляксея. – Паспех – людзям на смех, – пільна ўзіраючыся ў шэрасць наперадзе, толькі і зазначыў Аляксей (Я. Васілёнак. Замець). – Няма куды спяшацца, – адказала статная, чарнабровая, мусіць, смялейшая за сваю сяброўку і, напэўна, намякаючы на цяжкасці ваеннай пары, пац-

вердзіла сваю думку прымаўкаю: – Паспех – людзям на смех (М. Аўрамчык. Палон). І ён жа, Лахановіч, таксама ж даўно, мусіць, пакутуе, мучыцца, нічога не піша... А мо і правільна: паспех – людзям на смех. Хопіць, і так напісалі шмат глупства... (Б. Сачанка. На беразе Іслачы). Возера знікла. Вада сплыла разам з грашамі за работу ў тую трубу, што так неахайна прыстасавалі дарожнікі. Як кажуць, паспех – людзям на смех (Вожык. 1987. № 2). **Скоры паспех – людзям на смех.** [Ротмістр:] Пані Раіна! Гэта такое шчасце!.. Я проста не дачакаюся таго часу. [Арына, перапыняе:] Ха-ха-ха! Які спрытны! Скоры паспех – людзям на смех... (М. Зарэцкі. Белыя ружы).

* Леанід... працуе няспешна, памятаючы, што паспех – курам на смех, а тым больш у такой справе, як літаратуразнаўства (В. Шніп. Помнік рэпрэсаваным літаратарам).

– *Насовіч,* с. 135: Паспех людзям на смех; *Прыказкі,* кн. 1, с. 179: Паспех людзям на смех; Скоры паспех людзям на смех.

**Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.** *Кажуць пра таго, хто, пакараны за сваю віну, памятае пра гэта і асцерагаецца.* Праўду кажа беларуская прыказка: «Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела». А каб фашысцкая свіння не забылася і надалей, Чырвоная Армія бесперапынна напамінала ёй (К. Крапіва. Кацёл).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 557: Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.

**Паспяшыш – людзей нясмяшыш.** *Гаворыцца як парада дзейнічаць не спяшаючыся, каб не памыліцца і не выклікаць насмешак.* **Сін.:** *Паспех – людзям на смех; Хутка каты робяцца, ды сляпыя родзяцца.* [Корань] выхапіў вудзільна, пацмокаў, паахкаў, зноў начапіў прынаду і закінуў вуду. – Не дарма кажуць: паспяшыш – людзей насмяшыш, – вяртаючыся да кастра, шкадаваў ён (І. Гурскі. На скрыжаванні дарог). [Антон:] Не падумаўшы, лезці напралом нельга. Ведаеш пагаворку: паспяшыш – людзей насмяшыш? А тут калі паспяшыш – плакаць будзеш (А. Макаёнак. Ворагі). А навошта спяшацца? Паспяшыш – людзей насмяшыш (В. Праскураў. Высокі поўдзень). Мяккая, сапрэлая ад доўгага зімовага сну зямля як быццам правальваецца пад нагамі, і я падаю. І праўда: паспяшыш – людзей насмяшыш (У. Ягоўдзік. Пугачова песня).

* [Паўлінка:] Можа б было лепей, каб яшчэ трохі пачакаць, а то так скора, раптам... Хто спяшыць, той людзей смяшыць (Я. Купала. Паўлінка).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 179: Паспяшыць – людзей насмяшыць.

**Па Хомку <і> шапка.** *Гл.* Па Сеньку (па Хомку) <і> шапка.

**Паціху едзеш – далей будзеш.** *Гл.* Цішэй едзеш – далей будзеш.

**Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>.** *Кажуць пра таго, хто толькі на словах шкадуе каго-н., а на справе гатовы нашкодзіць яму.* **Сін.:** *Любіў рак жабу, аж вочы выеў.* – Дык, значыць, прызначаны замяшчаць небараку Спалона, якога аходалі вашы бальшавікі. Не вынес, нябога, ганьбы свае краіны! Мацуйцеся і вы! – Пашкадаваў воўк кабылу, пакінуў хвост ды грыву, – насмешліва адзначыў Самойла (І. Гурскі. Вецер веку). – Ох, шкада мне цябе, дзед. – Пашкадаваў воўк кабылу... (І. Шамякін. Петраград – Брэст). [Федзя:] Чаго вы ад мяне хочаце? [Ціт.:] Далібог, нічога. Проста клапоцімся аб тваім здароўі. [Федзя:] Ведаю я вашы клопаты. Пашкадаваў воўк кабылу... (В. Зуб. Злавацца не трэба). – Нейкая ты, як хворая... – Не трэба мне твайго спачування... Пашкадаваў воўк кабылу... (У. Дамашэвіч. На мяжы цярпення). На трэці дзень жонка забрала яго з бальніцы. – Званіў Прытока, пытаўся пра тваё здароўе. – Пашкадаваў воўк кабылу: пакінуў хвост ды грыву (І. Шамякін. У засені палаца).

* Пашкадаваў воўк кабылу, пакінуў капыты ды чэк (Л. Дайнека. Парадаксізмы).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 320: Пажалеў воўк кабылу, аставіў хвост ды грыву; *БРС,* т. 1, с. 240: Пашкадаваў воўк кабылу, пакінуў хвост ды грыву.

**Пашлі дурнога, а за ім другога.** *Гаворыцца з абурэннем пра таго, хто, пасланы куды-н. з пэўным заданнем, доўга не вяртаецца назад.* Калі ўсе ўчацвярых пакінулі памяшканне, на дзядзінцы іх стрэла Волька. – Пашлі дурнога, а за ім другога, – зарагатаў Андрэй. – Бяжы, – кіўнуў ён на мяне, – выручай свайго Сухарку (С. Грахоўскі. Гарачае лета). Пятро Цэдрык сядзеў у канторы і чакаў каваля Герасіма. Даўно ўжо паслаў хлопца ў кузню, каб пазваў яго, і от, бач, не прыйшоў ні адзін, ні другі. «Пашлі дурнога, а за ім другога», – падумаў Цэдрык сам сабе, насунуў на галаву шапку і хацеў быў ужо ісці дамоў снедаць (М. Капыловіч. На сваім селішчы).

– *Насовіч,* с. 134: Паслаўшы дурнога, за ім пашлі другога; *Раманаў,* с. 301: Пашлі дурнога, а за ім другога; *Прыказкі,* кн. 2, с. 248: Пашлі дурнога, а за ім другога.

**Пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб’е.** *Гл.* Загадай дурню богу маліцца, дык ён лоб разаб’е.

**Пашлі дурня па быка, дык ён цялушку прывядзе.** *Гаворыцца з абурэннем пра таго, каму бескарысна растлумачваць што-н.* – Калі што, званіце, – кінуў наўздагон. Не прайшло і тыдня, як з гаспадаркі пазванілі. Паляцела шасцярня. Антось аж ускіпеў: – Пашлі дурня па быка, дык ён цялушку прывядзе... Падбярыце яшчэ [патрэбную дэталь], ды глядзіце мне, – паківаў Антось (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 248: Пашлі дурака па быка, так ён двух прывядзець; *Ліцвінка,* с. 43: Пашлі дурака па быка, дык ён цёлку прывядзе.

**Пень гарэў, а чорт хвост (плечы, рукі) пагрэў (грэў).** *Гаворыцца пра чалавека, сваяцтва з якім выклікае сумненне, падазрэнне.* [Ядзя:] Ён жа брат мой! [Жыгліцкая:] Брат... Пень гарэў, а чорт хвост пагрэў – такая ў цябе радня з ім! (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Прыперлася ў госці з Амерыкі нейкая радня: быццам па дзедавай прабабцы галоўка ў пятнаццатай стрэчы... Як кажуць, пень гарэў – чорт плечы грэў... (С. Давідовіч. Ёкарны бабай).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 161: Пень гарэў, а чорт рукі пагрэў.

**Пень прыбяры, то і пень харошы.** *Добрае адзенне або парадак, чысціня ўпрыгожваюць каго-н. ці што-н.* Вось шубу купім за чатырыста рублёў ды боцікі за сто дваццаць – заўважыць. Пень прыбяры, то і пень харошы. А дзе тыя спадніцы джынсавыя прадаюць? І спадніцу можна купіць. Чым ты не такая, як усе? (Н. Маеўская. Надзеевіч). Я такога багатага адзення яшчэ не бачыў. Дзябёлы эсэсавец стаў зграбным і прыгожым, цыбатая фрау выглядала як дзяўчына. Кажуць жа ў нас: прыбяры пень – і пень харошы (М. Грыбаў. Галасы нявconfigurationолі). **Прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы.** Зоська неаднойчы чула ад старэйшых прымаўку, што прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы. Геньку, аднак, пасавала ўсякае ўбранне: ці быў на ім каверкотавы сіні касцюм і адмысловыя скараходскія чаравікі, ці парусінавы шэры камбінезон і простыя рабочыя боты (М. Пасляловіч. Святло над Ліпскам). **Прыбяры пень, дык і той прыгожы будзе**. Наша адзенне скіравана на чалавека і без чалавека не існуе – яны ўспрымаюцца толькі разам: чалавек і яго адзенне. Нездарма ж беларусы гавораць: «Прыбяры нават пень, дык і той прыгожы будзе» (Я. Сіпакоў. Як мы апранаемся).

* О! Такі ж недарма кажуць тыя людзі: убяры ты і пень, то харошы будзе! Не, дапраўды: зірні – што за хата стала! Хат такіх на сяле ты налічыш мала. А за гэта за ўсё гаспадыні хвала! (Я. Колас. Батрак). Прымаўка з даўніны ходзіць светам: будзе пень

прыгожы – прыадзень... Адмаўляю прымаўку я гэту: прыбярэш яго ў самацветы – як і быў, глухім застаўся пень (А. Бялевіч. Залаты запас). Апранутая ва ўсё моднае, дарагое, яна з выклікам спыталася: «Мікалай Арцёмавіч, а я – прыгожая?» – «Вельмі прыгожая», – адказаў той і, прайшоўшы некалькі крокаў, дадаў: – «Урэшце, апрані пня, і пень будзе прыгожы» (Х. Жычка. Пісьменнікі – людзі дасціпныя).

– *Насовіч,* с. 136: Прыбяры пень, і пень будзець прыгож; *Прыказкі,* кн. 1, с. 271: Прыбяры пень, і пень харошы (прыгожы); Убяры пень, і пень харош.

**Перад смерцю не надышашся.** *У апошні момант не паправіш цяжкага становішча, не зробіш таго, што не было зроблена раней, за больш працяглы час.* Ніякім прачэсваннем тыла Гітлер не заткне дзірак на фронце. «Перад смерцю не надышашся», – кажа беларуская прыказка (К. Крапіва. Перад смерцю не надышашся). Правільна кажуць людзі: «Перад смерцю не надышашся». І таму Сіверт стараўся заспакоіць дыханне, заганяў яго ўглыб, а сам няспынна хрысціўся (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

– *Насовіч,* с. 126: Перад смерцю не надышашся*; Прыказкі,* кн. 2, с. 410: Перад смерцю не надышашся.

**Пражылі лета гарачае, пражывём і дзярмо сабачае.** *Праст. Кажуць з упэўненасцю ці з надзеяй пражыць, выцерпець што-н., справіцца з цяжкасцямі*. – Эх, хлопцы, хлопцы! – сказаў я, каб атрэсціся ад цяжкіх думак. – Пражылі мы, як той казаў, лета гарачае, пражывём і дзярмо сабачае. Грышкі ўсякія, носікі, бабрукі... Дырэмна ты, Іване, многа думаеш пра іх (Я. Брыль. У Забалоцці днее). – Пад Ленінградам, у блакадзе, горш даводзілася, а ўсё пражылі. Не дрэйф! – І то праўда! – пагаджаліся беларусы. – Пражылі лета гарачае, пражывём і дзярмо сабачае (Р. Кобец. Ноеў каўчэг).

* [Аўгіня:] А маё сэрца нібы чула, што я вас убачу... І вось як яно сталася. [Талаш:] Нічога, нічога, Аўгінька. Пражылі лета гарачае, пражывём і панскую няволю (Я. Колас. У пушчах Палесся).

– *Ферадоўскі*, с. 366: Перабыла лета гарача, перабуду жыццё сабача.

**Перамелецца – мука будзе.** *Усё дрэннае, непрыемнае з часам пройдзе, забудзецца. Кажуць, каб суцешыць, супакоіць таго, хто ўсхваляваны чым-н., перажывае якія-н. цяжкасці.* Ён [Дулеба] не парушыўся ў сваіх перакананнях, нават пабачыўшы бурлівы вір маніфестантаў на вуліцах Пінска, калі паліцыя баязліва па-

хавалася. А старшыні сказаў: – Нічога, Захар: перамелецца – мука будзе. – Або му́ка, або му́ка, – уздыхае старшыня (Я. Колас. На ростанях). [Ракітны:] Заява непакоіць? Глупства ўсё гэта. Перамелецца – мука будзе (К. Крапіва. На вастрыі). Падтрымаеце мяне – будзеце жыць і гора не мець... А што думае Саша – гэта мне і так вядома. Нічога. Перамелецца – мука будзе (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). Ты не перажывай надта. Перамелецца – мука будзе (А. Рыбак. Трэба было жыць).

* [Янка:] Ці ж першыя для Менску гэтыя трывожныя мінуты? Час было б, цётачка, і прывыкнуць да іх. [Ганулля:] Ды яно ж так. Але сваім чынам да дзела ўсё гэта, ах, як да дзела! [Янка:] Э! Ліха перамелецца і мука будзе (Я. Купала. Тутэйшыя).

– *Насовіч,* с. 126: Перамелецца, мука будзе*; Федароўскі,* с. 190: Усё перамелецца, а мука будзе*; Прыказкі,* кн. 1, с. 457: Перамелецца – мука будзе.

**Пераможцу (-аў) не судзяць.** *Функц. не зам. Гаворыцца ў абарону таго, хто хоць і заслугоўвае крытыкі ці іншага пакарання, але яму можна гэта прабачыць з-за яго ранейшых значных поспехаў, перамог у чым-н.* – І я доктара падтрымліваю, – ажывілася Грыноўская. – Узгрэйце яго, Міхал Сцяпанавіч. – З прыемнасцю. Але пераможцу не судзяць... (І. Гурскі. У агні). – Я ж штаны з цябе павінен зняць за тое, што адбываецца. А ты і мяне ў саўдзельнікі гэтага злачынства запісваеш... – Пасля, Іван Хведаравіч, разбярэмся. Здымеш з мяне штаны, калі выратуем хлеб. А выратуем – я голы, без штаноў, прайду праз увесь Княжбор. – Пераможцаў не судзяць, на гэта спадзяешся... (В. Казько. Неруш). – Вайна для яго [Чарнухі] стала спортам. Памятаеш гісторыю з бронедрызінай? – Пераможцаў не судзяць (А. Дзялендзік. Грэшная любоў). Акапян чакаць не мог. Зямля прагрэлася, падсохла, самы час араць. Загадаў забраць усе плугі для калгасаў свайго раёна. Так і зрабілі. Ён прыкінуў: пакуль у вобласці будуць чухацца, яны адсеюцца, а пераможцаў не судзяць (Л. Левановіч. Палыновы вецер).

– Паўкалька з рускай мовы. Прыпісваецца імператрыцы Кацярыне II, якая нібыта гэтак сказала пра Суворава, калі той самавольна павёў войскі на штурм Туртукая і авалодаў горадам.

**Пераначуем, болей пачуем. 1.** *Гаворыцца з надзеяй пачуць у бліжэйшы час што-н. новае.* [Броня:] І сёння нейкага чына хавалі. Кажуць, ля Рудзенска недзе партызаны ўходалі. [Гудовіч:] Ну вось! А ты казала, няма добрых навін. [Броня:] Дык гэта мала. [Гудовіч:] Пераначуем, болей пачуем (К. Крапіва. З народам). – Коля, ці не

пара спаць? Дай людзям адпачыць. – І праўда, – дабрадушна згадзіўся ён, бо самога ўжо марыў сон. – Можа, заўтра яшчэ пагаворым? – спытала на развітанне Ганна. – Бадай што не. Раненька еду. – Ну што ж, пераначуем – болей пачуем, – засмяялася яна (І. Новікаў. Тварам да небяспекі).

**2.** *Раніцай прыйдзе больш правільнае рашэнне. Кажуць пры адкладванні рашэння чаго-н. на заўтрашнюю раніцу, калі ўсё стане ясней, больш відавочна.* **Сін.:** *Раніца мудрэйшая за вечар*. – Але можа здарыцца, што заўтра будзе позна... – Бог бацька!.. – Богам просім! – Пераначуем – болей пачуем (І. Гурскі. Вецер веку). – Дык пойдзем заўтра ў Крычаў ай не?.. – Пераначуем – болей пачуем, – адказала Палага (І. Чыгрынаў. Апраўданне крыві). Надзя заспяшалася, напаследак сказала: – Заўтра яшчэ пагамонім – пераначуем, то болей пачуем (І. Капыловіч. Бяроза на мяжы). [Крыштоф:] Толькі позна ўжо сёння, браце, прымаць нейкія рашэнні. [Людвік:] Пераначуем – болей пачуем (А.А. Марціновіч. Палон, які пайшоў на плён).

– *Насовіч,* с. 126: Пераначуем, болей пачуем; *Прыказкі,* кн. 1, с. 405: Пераначуем, болей пачуем.

**Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.** *Кажуць таму, хто другі ці трэці раз жэніцца.* – Навошта табе гарадская? Бяры нашу, гарадоцкую. Баявая, працавітая. Табе догляд трэба, каб зварыць умела. Ці любіш? – І сам не ведаю. – Гэта на ўсё жыццё. Першая ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта. Помні (Г. Марчук. Кветкі правінцыі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 73: Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.

**Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).** *Кожная наступная чарка гарэлкі лягчэй п’ецца. Гаворыцца, калі хто-н. запар выпівае некалькі чарак пітва або калі адмаўляецца піць яшчэ.* Мысліцкі наліў яму [Іодку] чарку. – Як кажуць... Першая – калом... другая – сакалом... а трэцяя – сама ўляціць (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). – А кажаш, што майстар выпіць... – дапёк Іваноў. – Хіба шаўцы моршчацца ад чаркі? – Першая – калом, другая – сакалом, астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі, – у жарт сказаў Пятро (І. Новікаў. Тварам да небяспекі). Калі п’еш-чокаешся, то рабі як куль... як чалавек... Ф-фу-у... Першая – калом, другая – сакалом, трэцяя – дробнай пташачкай... Давай адразу па другой, і баста. І завяжам... навекі... (П. Місько. «Ты мяне паважа-

еш?»). Яны выпілі яшчэ. Калатай гэтым разам адчуў нейкі смак. Успомнілася свая прымаўка: першая чарка – калом, другая – сакалом, трэцяя – дробнай птушачкай (У. Дамашэвіч. Фінская лазня...).

– *Насовіч,* с. 125: Першая чарка калом, другая сакалом.

**Першы блін выйшаў камяком**. *Гл.* Першы блін камяком.

**Першы блін камяком.** *Пачатак якой-н. справы бывае няўдалым. Гаворыцца ў апраўданне няўдалага пачатку якой-н. справы.* – Нічога не зрабілі і самі ледзь з зубоў смерці вырваліся. – Першы блін камяком, Ніна (Р. Няхай. Алёшка-атаман). **Першы блін выйшаў (атрымаўся) камяком. –** Ну што, перапісалі?.. – Перапісаў, гаспадзін інжынер, ды толькі першы блін выйшаў камяком. Калі б вы былі ласкавы і далі мне аркуш чыстай паперы, дык я зрабіў бы гэта добра (Я. Колас. На ростанях). – Але, таварыш Платовіч, я маю на воку не толькі мл[ы]н, а і лесапілку... – Чакай, чакай, чакай! – замахаў рукою Платовіч. – Спраўся наперад з адным, а пасля пяройдзеш да другога... А то бывае, што ў муку насыплецца пілавін і... першы блін выйдзе камяком... (Ц. Гартны. Свае бліны). Стаянкі свае мы больш-менш упарадкавалі, цяпер за падпольныя групы як след возьмемся. Дык пастарайцеся, каб першы блін не атрымаўся камяком (М. Ткачоў. Згуртаванасць). «Нягледзячы на тое, што пра першы беларускі «Дзень паэзіі» неаднолькавыя думкі і меркаванні, для большасці, хто любіць і паважае роднае паэтычнае слова, усё-такі ясна, што, насуперак прыказцы, першы блін не выйшаў камяком» (Н. Гілевіч. Доўгіх год табе, «Дзень паэзіі»).

– *Насовіч,* с. 125: Першы блін і тэй комам; *Прыказкі,* кн. 1, с. 242: Першы блін комам.

**Першы дзень госць – золата, другі – срэбра, трэці – медзь, дадому (дахаты) едзь.** *Пра неабходнасць захоўваць меру пры гасцяванні.* Але кожнаму гасцяванню прыходзіць канец. Праўду кажуць: «Першы дзень госць – золата, другі – срэбра, трэці – медзь, дадому едзь». І мы пачалі збірацца ў дарогу (С. Грахоўскі. З воўчым білетам). Мая бабка... казала так: госць першы дзень золата, другі – срэбра, трэці – медзь, дахаты едзь. Таміліся мы абое з жонкай мо з таго, што білі лынды, не было работы (Г. Марчук. Кветкі правінцыі).

– *Насовіч,* с. 28: Госць першы дзень – золата, другі – серабро, трэці – медзь, хоць і з двару едзь; *Прыказкі,* кн. 1, с. 401: Першы дзень госць – золата, другі – серабро (срэбра), трэці – медзь, дамоў едзь.

**Пешы коннаму не таварыш. 1. –** Схадзі, сястрыца!.. І мне ролю выбераш, – пажартавала Зосітэ, і гэта навяло на жарт Анеж-

ку. – Дык як жа мы пойдзем? – упікнула яна Алеся. – Пешы ж коннаму не таварыш! – Дзеля вас я назаўсёды спешуся... (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). – Як жывеш, Зміцер? Нешта мы з табой рэдка бачымся. – Ды што ж, братка, пешы коннаму не таварыш. Ты ўсё гойсаеш недзе, а наша дзела такое – пяхота (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

**2.** *Людзей, розных па характары, сацыяльным становішчы і пад., нішто не можа аб'яднаць. Кажуць пра таго, хто не раўня каму-н.* **Сін.:** *Арлу з савой не па дарозе; Воўк казе не таварыш; Гусь свінні не таварыш.* [Сцёпка:] Ну што папалюем, Вася? [Васіль:] Пешы коннаму не таварыш. Ты са стральбой, а ў мяне і солі няма, каб качкам на хвост насыпаць. Хіба загоншчыкам быць у цябе (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Конны пешаму не таварыш. Ідзі сваёю дарогаю, пакуль рэбры не пералічыў (П. Місько. Пагаварылі).

– *Насовіч,* с. 142: Пешы коннаму не таварыш; *Прыказкі,* кн. 1, с. 429: Пешы коннаму не таварыш; Конны пешаму не таварыш.

**Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.** *Гаворыцца як жартаўлівае застольнае пабуджэнне піць і есці.* **Сін.:** *На тым свеце не дадуць; Піце, жылы, пакуль жывы, бо як памрэш, дык калом не ўваб'еш.* [Навум:] Відна, кум, што ўчора губы не жалаваў. Ты, відна, помніў прымаўку: патуль пій ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). **Еш, пакуль рот свеж.** – Учора закалолі кабанчыка, ухадзілася збольшага... – На вячэру хопіць? – пажартаваў сын. – Хопіць... Абы здароўе было есці... – Па гэтым пакуль што не плачам... – Ага, сынок: еш, пакуль рот свеж... (А. Кудравец. Песня). Вядома, еш, пакуль рот свеж, ды не ўзялі каб сыць і заеж. Не пакуль жывеш, датуль жывеш, – пакуль надзею ў сэрцы маеш (Р. Барадулін. Тварэц у таварыстве па ахове аўтарскіх правоў).

* [Захар:] Глядзіш, дык душа радуецца. Даўно нашы палі не бачылі такіх усходаў... [Кузьма:] Чаму ж нам не піць! Як кажуць: пі і еш, пакуль рот свеж, а як у роце завяне, дык і муха не загляне (А. Макаёнак. Узыходы шчасця).

– *Насовіч,* с. 192: Еш, пакуль рот свеж, а як умрэш, і калом не вапрэш; *Янкоўскі,* с. 256: Патуль пі ды еш, пакуль рот свеж; *Выслоўі,* с. 148: Еш, пакуль рот свеж, а як памрэш, дык і не лізнеш.

**Пі, ды розуму не прапі.** *Пра ўмеранасць пры ўжыванні спіртнога.* [Ціт:] Да вас, куме! (П'е да войта і падае яму.) [Навум:] Знаеш прымаўку? Пій да розуму не прапій (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч,* с. 127: Пі, ды вума не прапі; *Раманаў,* с. 306: Піць пі, але ўма не прапі; *Ляцкі,* с. 35: Піць пі, але вума не прапі.

**Пісаў пісака, што не разбярэ і сабака.** *Кажуць насмешліва пра таго, хто піша неразборліва, нечытальна.* – Ну, і пісар жа з цябе! – накінуўся ён [стараста] на Міхалку. – Пісаў пісака, што не разбярэ і сабака... Бадай ты згарэў! Ідзіце, хлопцы, дахаты. Прыйдзе пісар, дык і напіша... (Я. Колас. Кантракт). Трэба Нахаў сказаць, а ён, хто яго ведае, дзіця не горкае, сказаў... А мо пачулася так тым, хто пісаў, ці проста вясёлым быў народ, пісарчукі гэтыя. Як кажуць, пісалі пісакі, не разбяруць і... (В. Казько. Нахаў).

* – Не, – наш Алесь пісаць умее! – Ну, гэта я-то трохі знаю, хоць часам сам не расчытаю, што напішу, – такі пісака – не расчытае і сабака (Я. Колас. Новая зямля). Нас мардавалі чыстапісаннем два гады. І потым увесь час зніжалі адзнакі за дрэнны почырк. У выніку што я напішу, – такі пісака, – не расчытае і сабака (Я. Лапатка. Дзяцінства светлая часіна).

– *Федароўскі,* с. 235: Пісала пісака, не прачытае сабака; *Прыказкі,* кн. 2, с. 182: Пісаў пісака – не разбярэ ні кот, ні сабака.

**Піце, жылы, пакуль жывы, бо як памрэш, дык калом не ўваб'еш.** *Гаворыцца як жартаўлівае застольнае пабуджэнне піць і есці.* **Сін.:** *На тым свеце не дадуць; Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.* Народ часцяком мусіў памінаць [нябожчыкаў] самагонам уласнага вырабу. Прыгаворваючы пасля чарговага тосту: смерць у бутэльку не заткнеш. А з другога боку стала адказвалі: піце, жылы, пакуль жывы, бо як памрэш, дык калом не ўваб'еш (С. Астравец. Жыццё як жыццё). – Ага, яшчэ не ўсё выпіла на гэтым свеце... – А што ты думаеш? На гэтым лепш. Чуў, як кажуць: піце жылы, пакуль жывы, бо як памрэш, то й калом не ўваб'еш? Дык я п'ю. Мо каб жыцця такога не бачыць (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

– *Выслоўі,* с. 149: Ешце [піце], жылы, пакуль жывы, а памрэш – і калом не ўб'еш.

**Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.** *Гл.* Плакаў, плакаў – усё бог аднакаў, пачаў пяяць (спяваць) – стаў бог даваць.

**Плакаў, плакаў – усё бог аднакаў, пачаў пяяць (спяваць) – стаў бог даваць.** *Лепш весяліцца, чым бедаваць, плакаць. Гаворыцца для падбадзёрвання каго-н.* Як скончылі чытаць [пісьмо], усе пасумнелі і не ведалі, з чаго пачаць гутарку... – Эт! – махнуў рукой Габрусь, – «плакаў, плакаў – усё бог аднакаў, пачаў пяяць –

стаў бог даваць». Бярыся, Халімон, за гармонік! (З. Бядуля. На стаянцы). **Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.** Драбнейшую [рыбу] пакінулі сабе, адборную ж Андрэй і Янка патарабанілі ў Панямонь. За парогам Янка сказаў: – Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць (Я. Колас. На ростанях). Павесялелы Гамон смяяўся, шчэрачы бяззубы рот: «Плакаў я плакаў, а бог быў аднакаў, а як стаў танцаваць, пачало шанцаваць!» Грамада падтрымала яго дружным рогатам: Гамонава прымаўка спадабалася (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

– *Федароўскі,* с. 238: Плакаў, плакаў – бог аднакаў, стаў спяваці – стаў бог даваці; *Прыказкі,* кн. 2, с. 157: Хоць усцеж плакаў, плакаў, усё ж быў аднакаў, а як пачаў пяяць, стаў і бог даваць.

**Платон мне сябра (друг), а (ды, але) ісціна даражэйшая.** *Функц. не зам. Ужываецца як сцвярджэнне, што ўсё павінна рабіцца і гаварыцца не па абавязку сяброўства, знаёмства, аўтарытэтнасці, а ў поўнай згодзе з праўдай.* – Я вельмі паважаю Івана Фядотавіча, – і Бабрыцкі адважыў паклон у бок Салаўёва, – але як кажуць, Платон мне друг, ды ісціна даражэйшая (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы). – Спадзяюся, вы разумееце, што падобнае меркаванне – вам не на карысць? – Канечне, разумею. Ды што ж, калі праўда? Платон мне друг, але ісціна даражэйшая – так, здаецца? (Ф. Сіўко. Адпачынак ля палаца Аляксандра III).

* Вельмі важна дзейнічаць аб'ектыўна, справядліва, прынцыпова, кіруючыся мудрай парадай: «Платон мне сябра, а ісціна – яшчэ большы сябра» (У. Вялічка. Крылы мацнеюць у палёце).

– Калька з лацінскай мовы: *Amicus Plato, sed magis amica veritas* («Платон мой сябра, але ісціна даражэйшая»). У такой, найбольш папулярнай, форме афарызм сустракаецца ў рамане Сервантэса «Дон Кіхот» (1615). А першакрыніцай афарызма былі словы грэчаскага філосафа Платона (427–347 гг. да н. э.): «Наследуючы мне, меней думай аб Сакраце [вучню Платона], а болей аб ісціне». Пасля ў лацінскай мове адбылася замена імя *Сакрат* імем *Платон*.

**Плачучы рот не паправіш.** *Плач не дапаможа таму, у каго бяда, гора, маркота.* Анна нарэшце пайшла. Азіралася раз-пораз, хацела памахаць скамечанай, мокрай ад слёз хустачкай, але не стала. Паглядзела толькі, усміхнулася крыва – што ж, плачучы рот не паправіш... (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). «Раман, а як будзе з тымі, хто стыпендыю не атрымоўвае? Прыедзем, а за што жыць?» Раман абяцаў падумаць. Потым вырашылі, што складуцца з тых гро-

шай, якія саўгас выдзяляе на дарогу. – Плачучы, рота не паправіш, – казаў Вічу Скакалаў (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

* «Тады, дзеду, іграйце адразу вясёлае? Добра?» Дзед Мікіта, трымаючы перад тварам сваю «пісклю», усміхнуўся, – ужо без хітрасці, а неяк крыва. «З песні, Даніла, слова не выкінеш, – сказаў ён, – а плачучы рота ніхто не паправіць». Над лугам загаласіла – той самай жніўнаю песняй – жалейка. Сіратлівая, сумная песня!.. (Я. Брыль. Сірочы хлеб).

– *Янкоўскі*, с. 111: Плачучы, рота не паправіш.

**Плёткай абуха не пераб’еш.** *Гл.* Пугай (плёткай) абуха не пераб’еш.

**Плюй на ўсё і шануй (беражы) <сваё> здароўе.** *Гаворыцца як парада не зважаць на якія-н. непрыемнасці.* Іванок Перагуд карыстаўся славаю дзівака і філосафа. Асноўная формула яго філасофіі казала: «Плюй на ўсё і шануй сваё здароўе»... – Не мяшаюся ў жыццё.., няхай яно ідзе, як ідзе. Плюй на ўсё і шануй сваё здароўе (Я. Колас. На ростанях). [Ян Серафімавіч – Агею Мінавічу фамільярна:] Усё гэта дробязі. Плюй на ўсё – беражы здароўе! (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы).

**Пойдзеш нацянькі – праходзіш тры дзянькі.** *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто ідзе ці едзе куды-н. напрасткі, нацянькі.* **Сін.:** *Крывая дарога з простай смяецца; Напрасткі <адна> варона лятае, затое <ніколі> дома не бывае; Хто прамікуе, той дома не начуе.* – Ну і замучыўся! – бухае на зямлю лодку... Сухапутнае падарожжа Лявона Кірэя з лодкай на плячах пацвердзіла народную мудрасць: «Пойдзеш нацянькі, праходзіш тры дзянькі» (Г. Пашкоў. Палескія вандроўнікі). Аднойчы ўзімку нейкае тлумленне на яе найшло. Дзесьці і блукала, не натрапіла на сцежку, што вяла дадому. Нездарма прымаўка ёсць: «Пойдзеш нацянькі – праходзіш тры дзянькі!» (С. Лобач. Затрымацца на гэтым свеце).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 278: Пойдзеш нацянькі – згубіш тры дзянькі; Пойдзеш нацянькі – будзеш ехаць тры дзянькі; *Янкоўскі,* с. 231: Пайшла нацянькі, хадзіла тры дзянькі; *Аксамітаў,* с. 51: Калі пойдзеш нацянькі, дык праходзіш тры дзянькі.

**Покі сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.** *Гл.* Пакуль (покі) сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.

**Покуль з багатага пух, то з беднага дух.** *Гл.* Пакуль (покуль) з багатага пух, то з беднага дух.

**Поначы ўсе каты шэрыя.** *Гл.* Ноччу (поначы) усе каты (кошкі) шэрыя.

**Поп (ксёндз) і доктар і ў лесе з голаду не памруць.** *Святары і ўрачы ўсюды знойдуць сабе заняткі, а значыць, і сродкі для жыцця.*

* Вінцэнт Карскі наняўся служыць дзячком у старой царкве... Абжыўся. Ведама: доктар ды дзяк і ў лесе з голаду не памруць (Я. Янушкевіч. Няма імя без слова).

– *Федароўскі,* с. 240, 241: Поп (ксёндз) і дохтар і ў лесе з голаду не памрэ.

**Поп сваё, <а> чорт сваё.** *Ты яму гаворыш пра адно, а ён, не зважаючы, зусім пра іншае. Кажуць пра ўпартага чалавека, з якім цяжка дамовіцца.* **Сін.:** *Ты яму «стрыжана», а ён табе «голена»; Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто ў сачыўку>; Я яму пра плот, а ён пра азярод; Я яму пра Фаму, а ён мне пра Ярому.* Як дурню законы, так чорнай сотні гісторыя не пішацца. Поп, кажуць, сваё, а чорт сваё. Праца царызму дарма не прапала – выйшлі багатыя скуткі... (Я. Лёсік. Нацыянальны ўціск). Вы думаеце, што мы нічога не рабілі, каб ахапіць падпіскай іх?.. У кожнай хаце пабывалі. І што? Ці палену гавары, ці ім. «Вы, – кажуць, – электрычнасць нам правядзіце, каб мы не сляпіліся пры комінах ды газоўках». Як той казаў, поп сваё, а чорт сваё (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам). – Што ж яму рабіць засталося? – Чалавекам быць. – Поп сваё – чорт сваё. Лёгка сказаць. Тут бы камень не ўтрываў – перавярнуўся (Л. Калодзежны. Водар палыну). [Міністр:] Чым больш у арміі генералаў і маршалаў, тым большы ў яе аўтарытэт. [Правадыр:] Поп сваё, а чорт сваё! Навошта нам армія, калі Абібія не хоча з намі вайны? (М. Матукоўскі. Калізей).

– *Насовіч,* с. 134: Поп сваё, а чорт сваё: аддай маю малітву; *Прыказкі,* кн. 1, с. 333: Поп сваё, а чорт сваё; Поп сваё, чорт сваё.

**Посуд любіць чысціню.** *Кажуць як запрашэнне каго-н. у застоллі даесці ці дапіць усё з пасудзіны.* – Не глядзі так, як кот на смятану: тут і табе яшчэ застанецца. То вып'ю. Дазваляеш? – Посуд любіць чысціню, – памяркоўна сказаў Амерыканец (В. Ткачоў. Да неба камень не дакінеш).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 215: Пасуда чыстату любіць; *Янкоўскі,* с. 168: Посуд чыстату любіць.

**Пра воўка (аб воўку, на воўка) памоўка, а ён <і сам> тут.** *Кажуць пра таго, хто прыходзіць якраз тады, калі пра яго гавораць, успамінаюць.* Як кажуць, пра воўка памоўка, а ён тут. Так было на гэты раз і з мядзведзем (А. Якімовіч. Казка пра смелага вожыка). А вунь і сам Віктар з завулка паказаўся. Пра воўка памоўка, а ён і сам тут (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). Пра воўка

памоўка, а ён і тут. А ён і тут – ну проста цуд! З’явіўся ў тую ж мінуту якраз. «Дзень добры!» – кажа, і мы – у адказ (А. Вярцінскі. Пра воўка памоўка...). [Навум:] Маўчы, Ціт! Не наша дзела аб гэтым гаманіць... Ты гамоніш, а ён шмыг – і тут. Ведаеш прыпавесць: ты з варот, а ён чэраз плот, аб воўку памоўка, а ён тут (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – А во, і сам Банэдык! – усклікнула Ганна. І заўсміхалася. – На воўка памоўка, а ён і тут (Б. Сачанка. У вёску, да маці). **Пра воўка памоўка, а воўк на парог**. [Пыза:] Вось бачыш, вялікая канкурэнцыя. А яшчэ мясцовыя ўлады як накладуць падатак [за паказ вандроўнага звярынца] – дык збірай манаткі і ў дарогу. (З’яўляецца дырэктарка звярынца Эрна і Бумістр мястэчка – мужчына з прэтэнзіямі на элегантнасць). [Жабрачка:] Пра воўка памоўка, а воўк на парог! (С. Кавалёў. Вяртанне Галадара).

* На першае яна [Ніна] зробіць халаднік з яйцом, на другое – рыбу. І чыгунок бульбы маладое адварыць. І сяледчык ёсць. Хоць госця прымай. А госць – як воўк на памоўку. На двары стукнула фортка варот. Андрэй? (М. Лобан. Гарадок Устронь). [Карпа:] Пан Альберт вярнуўся! [Тамаш:] Пра пана памоўка, а пан на парог! (С. Кавалёў. Звар’яцелы Альберт).

– *Насовіч,* с. 139: Пра воўка памоўка, а воўк з падналуску; *Прыказкі,* кн. 1, с. 333: Аб воўку памоўка, а воўк тут; *Санько*, с. 23: Пра воўка памоўка, а воўк на парог.

**Прагнасць фраера згубіла.** *Гл.* Сквапнасць (прагнасць) фраера згубіла.

**Пра мёртвых (нябожчыкаў) або добрае, або нічога.** *Пра памерлых нічога дрэннага не гавораць.* Бачыце, [жонка] не магла даравацць здрады! Ды калі на тое пайшло, то я таксама мог бы ёй што-колечы прад’явіць. Але няхай, было б пра што гаварыць! Пра мёртвых альбо нічога, альбо больш добрае. Так кажуць (І. Чыгрынаў. Ігракі). Няўжо ён тады казаў праўду? Няўжо ён бачыў наперад? Не трэба было мне пра гэта згадваць. Правільна кажуць, – пра нябожчыка альбо добра, альбо нічога... (М. Клімковіч, У. Сцяпан. Цень анёла).

* Бэндэ для Купалы – нябожчык, труп. Пра нябожчыкаў або не гавораць нічога, або памінаюць дабром (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– Калька з лацінскай мовы: *De mortuis aus bene, aut nihil.*

– *Насовіч,* с. 140: Пра нябожчыкаў лепей маўчаць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 145: Пра нябожчыка благога не кажуць.

**Прапала кароўка, прападай (няхай прападае) <і> вяроўка.** *Страціўшы вялікае, няма чаго шкадаваць малое, дробязі.* **Сін.:**

*Зняўшы галаву, па валасах не плачуць; Прапаў конік, прападай і хамуток.* [Юзік:] Нічагуткі, не пужайцеся. Усяк бывае, і жабрак пану грош кідае... Піце. Дзе наша не прападала. Прапала вяроўка, прападай кароўка. Хоць у мяне дык наадварот, прапала кароўка, прападай вяроўка (Л. Родзевіч. Блуднік). Дубель прыйшоў дадому спустошаны – як мяшок, з якога высыпалі зерне. Кажуць: прапала кароўка, няхай прападае і вяроўка. Чыстая праўда. Не дурань выдумаў. Якая радасць з гаспадаркі, калі на службе нелады? (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам). Маці сваёй я перастаў пісаць. Наогул з радзімай парваў усякія сувязі. Нават прызнавацца, што я беларус, нікому не хацеў. Як кажуць, прапала кароўка, няхай прападае і вяроўка (Б. Сачанка. Споведзь).

* Дзе сякуць, там лятуць шчэпкі проч, соладка ці горка; дзе прапала кароўка за ноч, – прападай вяроўка (Я. Купала. З угодкавых настрояў). – А мне ўсё роўна, – са скрухай махнуў я рукой. – Згубіўшы кароўку, не плачуць па вяроўцы... У мяне нічога няма (Р. Няхай. Сарочы лес).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 197: Прапала кароўка, прападай і вяроўка; Прапала кароўка – няхай прападае і вяроўка.

**Прапаў конік, прападай і хамуток.** *Страціўшы вялікае, няма чаго шкадаваць малое, дробязі.* **Сін.:** *Зняўшы галаву, па валасах не плачуць; Прапала кароўка, прападай і вяроўка.* Часцей стаў [Мікалай Мікалаевіч] глядзець у чарку. Не было ахвоты рыхтаваць ні тару для прыёмкі каштоўных карэнняў кок-сагызу, ні пляцоўкі для іх адгрузкі. Адным словам, не стала гаспадара, так сказаць, прапаў конік – прападай і хамуток (А. Макаёнак. На пікантныя тэмы).

– *Ліцвінка,* с. 109: Прапаў конь, прападай і хамут.

**Праўда вочы коле.** *Праўда не заўсёды прыемная, раздражняе, выклікае злосць. Кажуць, калі хто-н. пярэчыць, не згаджаючыся з крытычнымі заўвагамі.* [Дзед Мікіта:] Вось табе фігурацыю за тваю турбацыю. Сам праваліўся, чуй, дурань-браце. [Аслаў:] Бачыш, як не злюбіў: праўда вочы коле (Я. Колас. Вайна вайне). [Прадстаўнік асветы:] Слухайце, паненачка! Я вас прашу пакінуць размову аб палітыцы! [Маруся:] Не падабаецца?.. Праўда вочы коле? (У. Галубок. Краб). Сяргей паспрабаваў быў зайсці на «трыбуну». – О, не-е! – замахаў рукамі Русаковіч. – Цябе, галубчык, добра ведаем яшчэ па выступленні ў гімназіі! – Што, праўда вочы коле? – злосна кінуў Сяргей (І. Гурскі. Вецер веку). – Не падабаецца, пэўна, – казаў Пятрусь, – праўда вочы коле (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі).

– *Насовіч,* с. 131: Праўда вочы колець; *Прыказкі,* кн. 2, с. 434: Праўда вочы коле.

**Праўда наверх выйдзе.** *Праўду не схаваеш, яна абавязкова выявіцца.* Успомнілі, што і тады, пасля суда Соміка з Наздрэйкам, ён [Агей] усё на штосьці намякаў, кажучы, што злодзея шукаюць не там і што праўда наверх выйдзе (К. Крапіва. Мядзведзічы). – Галя Сяміножка дуб дубам... – А ў журнале ў Галі адны пяцёркі, – уздыхала маці. – Нічога, – супакойваў нас бацька. – Праўда, знаеш, наверх выйдзе (В. Мыслівец. Выгнанне грэшнікаў).

– *Янкоўскі,* с. 156: Праўда наверх выйдзе.

**Праўда не скварка, з кашаю не з'ясі.** *Праўда непазбежна пераможа.* Вось тады, калі вынікала якая заблытаная справа агульнавясковага характару, злазіў з печы зусім стары ўжо дзед Мікодым, выходзіў на вуліцу і голасна зазначаў: – Вы не думайце таго – праўда не скварка, з кашаю не з'ясі. Выйдзе наверх яна, родная, бо ўжо сама зямля прысягала небу не пускаць адгэтуль цёмнай, заблытанай праявы (Я. Колас. На ростанях).

– *Прыказкі,* кн. 2; с. 433: Праўда не скварка – з блінам не з'ясі.

**Праўду не схаваеш.** *Кажуць, калі вераць у перамогу справядлівасці*. **Сін.:** *Жыццё закон нязломны мае: ніколі праўда не ўмірае; Усё мінецца, а праўда застанецца.* [Марозаў:] Каця, неадкладна званіце на пошту, папярэдзьце жонку тэлеграмай. [Жук:] А што хаваць? Ды і праўду не схаваеш. [Лена:] Якую праўду?! [Жук:] Многія... бачылі. Калі хочаце, я ніколі не хлусіў (А. Дзялендзік. Начное дзяжурства).

– *Янкоўскі,* с. 156: Праўду не закапаеш (не схаваеш).

**Праца не воўк, у лес не ўцячэ.** *Гл.* Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).

**Працу палюбіш – чалавекам будзеш.** – А ці не лепей пайсці працаваць? – сам сабе разважаў Кулік. – Працу палюбіш – чалавекам будзеш (І. Гурскі. Чужы хлеб).

– *Рабкевіч,* с. 169: Працу палюбіш – чалавекам будзеш.

**Працуюць і смаку не чуюць.** *Гаворыцца пра незадаволенасць чыёй-н. працай ці пра яе безвыніковасць.* [Цёця Каця:] Зараз год, як я на гэтым месцы, а не магу ўцяміць, што тут людзі робяць. Такі ж каваль у кузні куе, то знак ёсць, настаўнік дзяцей вучыць, і то знак ёсць, а тут людзі нешта робяць, робяць, і работы гэтай не відаць. [Нічыпар:] Кажаш, працуюць і смаку не чуюць. [Цёця Каця:] Яны, можа, і чуюць, але я не бачу, які тут смак. Нейкія ўсё каменні, косці перабіраюць, пясок перасыпаюць (К. Крапіва. Хто

смяецца апошнім). Я сам у дварэ за парабка быў, рабіў на гэтым полі. Вам не даводзілася так, што працуеш і смаку не чуеш, каб тваім дабром лысы чорт запамогся. А мне ўсяго на вяку было (Л. Калюга. Пустадомкі). [Агата:] А што мы атрымліваем на той працадзень: кіло хлеба, ды два – бульбы, ды паўрубля... Як той казаў, працуеш, а смаку не чуеш (С. Свірыдаў. Любіць не любіць...).

– *Янкоўскі,* с. 94, 229: Працуюць і смаку не чуюць.

**Прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы**. *Гл.* Пень прыбяры, то і пень харошы.

**Прывычка – другая натура.** *Функц. не зам. Прывычка – арганічная патрэба, унутраная схільнасць каго-н.* Увогуле, лежачы ў халаце на мяккай міністэрскай канапе, Троцкі адчуваў асалоду ад язды, ад камфорту. Ён любіў камфорт. Што зробіш – прывычка – другая натура (І. Шамякін. Петраград – Брэст).

– Паўкалька з лацінскай мовы: *Consuentudo est altera natura.*

**Пры добрым падыходзе і кот гарчыцу есць.** *Пры добрым падыходзе да каго-н., уменні дагадзіць яму, выклікаць яго прыхільнасць да сябе можна мець значны поспех, дабіцца шмат чаго.* [Фаіна Кандратаўна:] Што? Як ты сказала? Пры добрым падыходзе і кот гарчыцу есць? Пастараемся дагадзіць рэвізорам (Л. Левановіч. Пасля разводу).

– *Рапановіч,* с. 194: З добрым падыходам і кот гарчыцу есць.

**Прыйдзе Ілья – наробіць гнілля.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; пасля Ільі – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 20 ліпеня (па старым стылі), – звычайна пачынаюцца дажджы.* [Міхальчук:] Дый надвор’е ў нас такое, што... Клімат. Не загадаеш, дый не паслухаецца. Прыйдзе Ілья і наробіць гнілля. Як у мінулым годзе – восем гектараў аўса пагніло на полі і шэсць гектараў жыта парасло ў бабках (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка). Кажуць, прыйдзе Ілья – наробіць гнілля. Але не кожны год здаралася, каб амаль скрозь усе спасы на двары стаяла багно (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі). «Прыйшоў Ілья, нарабіў гнілля» – звычайна ў ліпені ішлі зацяжныя – па тыдні, а то і па два – дажджы (Б. Сачанка. Вечны кругазварот).

* Павел выключыў тэлевізар, выйшаў на балкон. Пах паленага торфу памацнеў. Хутчэй бы Ілля, можа, пойдзе дождж. Кажуць жа людзі: Ілля наробіць гнілля (Л. Левановіч. Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста). – Так, без навальніцы не абыдзецца, – ахвотна падтакнуў Сомаў. – Ілья наробіць гнілля... (А. Масарэнка. На бабровых тонях).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 106: Прыдзець Ілья – наробіць гнілля; Прыйшоў Ілья – даў гнілля.

**Прыйдзе і на крапіву мароз.** *Гл.* Будзе (прыйдзе) і на крапіву мароз.

**Прыйдзе і на нашу вуліцу свята.** *Гл.* Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай вуліцы свята.

**Прыйшла каза да ваза, а скубці няма чаго.** *Пра кепскія вынікі ў якой-н. справе.* Вось вынікі падпіскі на выданне: індывідуальная падпіска – 115, ведамасная – 1106, усяго – 1221 экзэмпляр... Як кажуць у народзе, прыйшла каза да ваза, а скубці няма чаго... Такіх мізэрных паказчыкаў яшчэ ніколі не было (ЛіМ. 2004, 17 верас.).

– *Насовіч,* с. 137: Прыйдзе каза да майго ваза прасіць сена; *Федароўскі,* с. 141: Прыйдзе каза да ваза прасіць аброку, дастане кіем па боку; Прыйдзе каза да воза, ды не будзе сена.

**Прыйшла Прачыстая – усё поле чыстае.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; Прачыстая – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 15 жніўня (па старым стылі).* У сёлах звычайна казалі: «Прыйшла Прачыстая – усё поле чыстае». Ні снапа, ні каліва, ні зярняці, ні бульбіны ў полі не асталося (С. Грахоўскі. Мястэчка... Мястэчка).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 109: Прыйшла Прачыстая – стала поле чыстае.

**Прыйшлі куры на хаўтуры, верабейка памёр.** *Кажуць з гумарам пра гурт людзей, асабліва жанчын, калі яны, выпадкова сабраўшыся, гавораць пра розныя дробязі.* Вам, бабачкі, толькі даволі есці ды піці, а для галавы нічога не трэба... Во сабраліся гандзюліць. Як той казаў, прыйшлі куры на хаўтуры, верабейка памёр. Толькі і ведаеце, як лалэхаць языком (А. Мрый. Алё, Алёна!).

– *Насовіч,* с. 139: Прыйшлі куры на хаўтуры, верабейка памёр; *Віслоўі,* с. 98: Прыйшлі куры на хаўтуры, верабейка памёр.

**Прыйшлі (мінулі) Пакровы – заганяй у хлеў каровы.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; Пакровы (Пакроў) – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 1 кастрычніка (па старым стылі).* Мы [пастухі] супакоіліся і цягнулі сваю службу да канца – гэта значыць да Пакроў. «Прыйшлі Пакровы – заганяй у хлеў каровы» – гаворыцца ў народнай прыказцы. Так было і ў нас (А. Якімовіч. Канец сервітуту). «Мінулі Пакровы – заганяй у хлеў каровы», – прускаўцы не заўсёды трымаліся гэтай прымаўкі і, калі дазваляла надвор'е, выганялі статак пасля

Пакроў, пакуль не закружацца ў паветры белыя мухі (У. Гніламёдаў. Вяртанне).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 111: Пакровы – зарыкалі каровы; Пакрова – зарыкала ў хляве карова.

**Прыйшлі ў маю (нашу) хату і (ды) б’юць майго (нашага) тату.** *Ужываецца з асуджэннем як пратэст супраць разбою, несправядлівасці звычайна з боку чужынцаў, захопнікаў.* – Задзярэш зараз пяты, чорт гладкі!.. – Ану... ану, давай, паспрабуем. Бач ты, нахаба якая! Прыйшлі ў маю хату ды б’юць майго тату... Давай... паспрабуем, хто пяты задзярэ (У. Караткевіч. Цыганскі кароль). Словы матчыны з Вушаччыны:...Прыйшоў у маю хату і б’ець майго тату... (Р. Барадулін. Здубавецця). – У смердаў песня ёсць, – усё больш узбуджаўся, наліваўся ярасцю князь, – і ў той песні, ведаеш, як спяваецца? «Прыйшлі ў маю хатку, ды б’юць майго татку». А ты роднага татку не пашкадуеш... (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

* Ён думаў – прыйшла рэвалюцыя – можна ісці ў маю хату ды лаяць, як кажуць, майго тату (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца).

– *Янкоўскі,* с. 224: Прыйсці ў хату і біць майго тату?

**Прыйшло і на нашу вуліцу свята.** *Гл.* Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай вуліцы свята.

**Прыйшоў Барыс – за саху бярысь.** *Пра пачатак апрацоўкі глебы пад азіміну. Ужываецца як паказчык народнага календара; Барыс і Глеб – свята ў Хрысціян (24 ліпеня па старым стылі).* Мінавала спасаўка. Мы праязджалі каля хутара Белазора. Стары папраўляў плот. – Што, дзядуля? Прыйдзе Барыса – за саху бярыся? (Ф. Янкоўскі. Абразкі).

– *Ляцкі*, с. 3: Барыс – за саху бярысь; *Янкоўскі, с.* 94: Прыйшоў Барыс – за саху бярысь.

**Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку і (ды) сей памаленьку.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; Мікола – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 9 мая.* Прыйшоў святы Мікола. «Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку і сей памаленьку», – кажуць людзі, хоць перад Міколаю і пасаджана, і пасеяна, астаецца, можа, толькі грэчка не пасеяна (Я. Колас. Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле). – А зярняты хіба роўна сяліся? – запытаў Валодзя. – Не так, вядома, як з сеялкі. Але нішто. Я нават прыказку помню: «Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку ды сей памаленьку» (А. Якімовіч. Асінае гняздо).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 101: Прыйшоў Мікола – сей, не пытай ні ў кога.

**Прыйшоў нязваны і ідзі нясланы.** *Гаворыцца як рэакцыя на прыход нежаданага, нязванага госця.* Васіль, які ішоў следам за настаўніцамі, бачыў гэтыя «праводзіны». Дагнаўшы іх, ён прывітаўся і запытаў: «Каго ж вы праводзілі? Чаму ж ты, Ганначка, не памахала яму ручкай?» Настаўніцы зірнулі адна на другую і засмяяліся: – Не варта, Васілёк! Ды мы яго і не праводзілі. Пра такіх гасцей у нас ёсць прымаўка: «Прыйшоў нязваны і ідзі нясланы» (У. Дубоўка. Ганна Алелька).

– *Насовіч,* с. 139: Прыйшоў не званы і ідзі не гнаны; *Прыказкі,* кн. 1, с. 399: Прыйшоў не званы і ідзі сабе не сланы.

**Прыйшоў Пятрок – апаў лісток; прыйшоў Ілья – апала два.** *Пра набліжэнне восені. Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара; Пятрок і Ілья – святы ў хрысціян (першае – 29 чэрвеня, другое – 20 ліпеня па старым стылі).* «Прыйшоў Пятрок – апаў лісток; прыйшоў Ілья – апала два». Так кажуць людзі, бачачы чуць відны паварот ад лета к восені (Я. Колас. Восень). Першы жоўты лісток адарваўся ад галінкі бярозы і квола, сумна зашапацеў у траве – «прыйшоў Пятрок, апаў лісток...» (Б. Сачанка. Апошнія і першыя).

* І ўсё жывое чакае, калі пачне падавацца на восень, калі прыйдзе Пятрок – адшчыкне лісток, прыйдзе Ілья – адшчыкне два (А. Кажадуб. Стрэчанне). Пакуль Пятрок гаямі і не прайшоў і не сарваў лісток з бярозы, ідзём у лес ламаць вішшо. Над пожняй стракацяць стракозы (Р. Барадулін. Па зялёныя венікі).

– *Насовіч,* с. 139: Прыйшоў Пятрок – апаў лісток; прыйшоў Ілья – апала два; *Прыказкі,* кн. 1, с. 104: Прыйшоў Пятрок – адпаў лісток; прыйшоў Ілья – адпала два.

**Прымачы хлеб – сабачы.** *Гаворыцца як ацэнка становішча прымака, што жыве ў доме бацькоў жонкі.* Гаворыцца, што прымачы хлеб – сабачы. А я, браткі, па праўдзе вам скажу: жыву сабе, не ныю і не плачу, па бацькаваму дому не тужу (В. Вітка. Прымак). Твая карова, твая цялушка, а я тут хто? Прымак... Праўда, людзі кажуць, што прымачы хлеб – сабачы... (І. Капыловіч. Айчым). Самастойнае жыццё трэба і пачынаць самастойна, гэта аксіёма. Можа, вас згодзіцца ўзяць бацька Веранікі? Але я б не раіў да іх ісці. Знаеш, як кажуць у народзе: прымачы хлеб сабачы (М. Герчык. Вяртанне да сябе). [Фядора:] Нешта я ніколі не чула, каб хоць аднаму прымаку соладка жылося. [Даніла:] Ну, гэта не ў даў-

нія часы. [Гарык:] Што ў даўнія, тое і ў нашы, адна халера: прымачы хлеб сабачы (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Федароўскі,* с. 250: Прымачы хлеб – сабачы; *Прыказкі,* кн. 2, с. 99: Прымачы хлеб – сабачы; Прымацкі хлеб – сабацкі.

**Прыходзіць і на нашу вуліцу свята.** *Гл.* Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай вуліцы свята.

**Прыяцель пазнаецца ў няшчасці.** *Гл.* Дружба (прыяцель) пазнаецца ў няшчасці.

**Пугай (плёткай) абуха не пераб'еш.** *Немагчыма, бескарысна супрацьстаяць сіле, уладзе. Кажуць, калі каму-н. прыходзіцца змірыцца з абставінамі.* **Сін.:** *Галавою сцяны не праб'еш; Напроці ветру не падзьмеш; Супраць ражна не папрэш.* Наплакаліся, нагараваліся, як досыць. Плач не плач, як той казаў, пугай абуха не пераб'еш; так і мы аплакалі лес, а па нас ніводзін бес (У. Галубок. Абмылка вучонага). Не, Мікола, прыйдзецца адступаць. Як сцямнее, падмазваць пяткі і абрывацца ў лес. Значыць, правільна гавораць – пугаю абуха не пераб'еш (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). Дзеля гэтага трэба не гаруноўскім розумам гаспадарку весці. Ну, а перамагчы Гарунова, самі ведаеце... Як кажуць, пугай абуха не пераб'еш (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы). Аляксей Пятровіч хоць і разумеў, што пугай абуха не пераб'еш, аднак лёгка давацца не збіраўся (А. Кажадуб. Помнік). Усё жыццё Макар помніў словы свайго бацькі: «Сынок, плёткаю абуха не пераб'еш... Калі хочаш застацца жыць, ідзі разам з усімі...» (Л. Левановіч. Сіняе неба).

* Не чапай ты гэтага Скакуна, Янка. Хай яго лепей пярун заб'е... Дый у раёне, гавораць, у яго плечы ёсціка. Ці ж пераб'еш ты адзін, Янка, абух пугаю... (І. Галубовіч. Кувала зязюлька).

– *Насовіч,* с. 127: Плеццю абуха не перасячэш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 481: Плеццю абуха не пераб'еш; *БРС,* т. 1, с. 50: Пугай абуха не пераб'еш.

**Пужаная варона <і> куста баіцца.** *Той, хто ўжо аднойчы сутыкнуўся з непрыемнасцямі, няўдачай, робіцца празмерна асцярожным і баіцца нават таго, што нічым не пагражае.* **Сін.:** *Апёкшыся на малацэ, і на ваду дзьмеш; Напужаў мех, дык і торба страшна.* – Ім і хавацца няма чаго. – Ведаеш, Сярожа, пужаная варона і куста баіцца (М. Машара. «Крэсы» змагаюцца). На шчасце, музыка за дзвярамі раптам абарвалася. Стала ціха-ціха. Хрысціна аж засмяялася са сваіх страхаў: пужаная варона і куста баіцца. Гэта ж зяць, Ігар, калі нешта робіць, дык уключае музыку (А. Асіпенка. Рэха даўніх надзей). – Пяцёра мужыкоў з бярданкамі

раззброілі ледзь не ўзвод салдат. І гэта – армія?.. – Што вы, Казімір Андрэевіч! Вас дрэнна інфармавалі. Там было каля сотні бандытаў. Разумееце? Іх ужо каля сотні! – Праўду кажуць, пужаная варона і куста баіцца, так і гэтыя легіянеры (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка). Па шпалах, павольна ступаючы, ішоў немец. Але ён чамусьці больш глядзеў у бакі, чым на рэйкі, і хутка мінуў гэта месца. – Пужаная варона куста баіцца, – з усмешкай на твары прамовіў Максім (А. Стаховіч. Шумяць лясы). **Напалоханая варона і вераб'я (куста) баіцца.** Не хацелася псаваць з ім [Іваноўскім] адносіны ці выклікаць падазрэнне. Напалоханая варона і вераб'я баіцца. А ён вунь як напалоханы (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). І я праклінаў той дзень, калі ўбіўся сюды. Няхай бы ў Бор падаўся. Няхай бы хоць ва ўрочышча Задне кінуўся ці ў Садвішчы прытаіўся. Дык не! У нейкую прорву палез. Сапраўды, людзі праўду кажуць: напалоханая варона і куста баіцца (Я. Пархута. Адзінец).

* – А раптам ты вільнеш хвастом, сказаўшы «адзью»? Як тады сыскаць свае кроўныя грошы? Судом? – А ты хіба хочаш, каб кінула цябе? – Палоханая варона і кусту не давярае, – спаслаўся Іван на людскую прыказку (А. Пальчэўскі. Чорны дзень).

– *Насовіч,* с. 87: Напужаная варона і вераб'я баіцца; *Прыказкі,* кн. 2, с. 295: Пужаная варона куста баіцца.

**Пустазелле з поля вон.** *Ад непатрэбнага, бескарыснага ці шкоднага чалавека ахвотна пазбаўляюцца.* – З Мінска паведамляюць, што пакараны смерцю рэдактар фашысцкай «Беларускай газеты» Уладзіслаў Казлоўскі і бургамістр горада Вацлаў Іваноўскі, – дакладваў ад'ютант. – Пустазелле – з поля вон, – махнуў рукою Былінскі, збіраючыся ісці (І. Гурскі. У агні). Калі ўбачыце, што [练акоп] перашкаджае вам, блытаецца між ног, то я вам раю: пустазелле – з поля вон (А. Макаёнак. Узыходы шчасця). [Віктар:] Каб на мой розум, дык адмяніць бы плату за кандыдацтва і – усё. Навука пазбавілася б ад баласту. Засталіся б сапраўдныя вучоныя. А пустазелле з поля вон... Хаця, канечне, усё складаней, чым думаецца... (Л. Левановіч. На возеры).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 117: Ліхая трава з поля вон.

**Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол.** *Праст. Кажуць з асуджэннем пра грубага, нявыхаванага чалавека, здольнага зрабіць каму-н. розныя непрыемнасці.* Мужчыны дружна падхапілі каляску і адвярнулі, але, адварочваючы, выкінулі панскае сядзенне, адкуль пасыпаліся бутэлькі з выпіўкамі і вяндліна, завернутая ў паперу. – Мядзведзі вы! – крыкнуў пан: – толькі шко-

ды наробіце. – Эх, пане, дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць, – сказаў Грыгор. – Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол, – не вытрымаў фурман (Я. Колас. У балоце). Што адказаць такому нахабніку? Паддайся такому: пусці свінню пад стол... – Куды ты Матрону падзеў? – спытаў строга, падумаўшы: – «Калі звольніў – мала табе не будзе» (І. Шамякін. Губернатар).

– *Насовіч,* с. 64: Калі за стол, дык і ногі на стол; *Ляцкі,* с. 33: Пасадзі свінню за стол, а яна й ногі на стол; *Прыказкі:* кн. 2, с. 265: Пусці свінню пад стол, яна залезе на стол; Пусці свінню за стол, яна з нагамі на стол.

**Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не аглядайся (не азірайся).** *Узяўшыся за якую-н. справу, даводзь яе да канца, не адступаючы.* **Сін.:** *Калі ўлез у дугу, дык не кажы, што не магу; Назваўся груздом – лезь у кош; Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж.* Сябры вырашылі ехаць. Янка для храбрасці і большай смеласці сказаў: – Пусціўся Мікіта ў валакіту – дык ідзі, не аглядайся (Я. Колас. На ростанях). І няма чаго хітрыць: пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не азірайся. Вось як я мыслю! (Я. Колас. Забастоўшчыкі).

– *Насовіч,* с. 142: Пусціўся Мікіта на валакіту; *Прыказкі,* кн. 1, с. 416: Пусціўся Мікіта на валакіту.

**Пытаецца (спытае) люты, ці добра абуты.** *Пра надвор'е ў лютым, які звычайна бывае марозным месяцам.* Ад бадзёрага марозіку – пытаецца люты, ці добра абуты – прытуптвала ўся сабраная грамада, як бы танец вясельны развучвалі (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю). – Усе замеры, як кажуць, у меры. – Замеры?.. Боты як ні прымервай у жніўні, толку не многа. Спытае люты, ці добра абуты. От і тутака так... – тлумачыў-разважаў дзядзька Коля (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Насовіч,* с. 142: Пытаецца люты, ці добра абуты; *Федароўскі,* с. 168: Люты пытае, ці абуты?; *Ляцкі,* с. 19: Люты, ой люты, ці добра ногі абуты?

**П'янаму бог падсцілае падушку.** *Кажуць, часам іранічна, пра моцна п'янага, які хоць і падае, але не калечыцца.* Пасівелы, ужо немалады чалавек, што меў нават унукаў, бачачы, як уцякалі ў невядомы свет, як у прорву, асаднікі, і таксама ашалелы ад страху і не ведаючы, якую даць сабе раду, знайшоў адно выйсце – падняцца на пажарную драўляную вежу і кінуцца стрымгалоў уніз. Балазе для адвагі ён выпіў спірту, а п'янаму, кажуць, бог падсцілае падушку, і пану Свіраку пашэнціла – ён упаў у кветнік і астаўся жывы, зламаўшы нагу і тры рабры (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

**П’янаму <і> мора па калена.** *П’янаму нічога не страшна, усё нічога не значыць.* «Паддопытны» сарамяжліва і вінавата апускае вочы, хвілінку думае. – П’янаму, гаспадзін следчы, і мора па калена, – журботна прызнаецца ён і дадае: – А за кампанію, як кажуць, цыган павесіўся (Я. Колас. На ростанях). Цені нешта замармыталі, але не спыніліся: вядома, п’яным і мора па калена (А. Якімовіч. Цяжкі год). Страшна бачыць гэта, страшна чуць: каб у мірны час сярод белага дня гінулі людзі! Але прычына адна – былі п’яныя. Пераацанілі свае сілы. П’янаму і мора па калена, а тут нейкі канал, два метры глыбіні... Але, як на бяду, то і гэтага хопіць (У. Дамашэвіч. Плач па сыну). Нездарма кажуць: п’янаму і мора па калена. Што для яго там нейкае вузенькае асфальтавае палатно з матацыклам? Затармазіць Сіманькоў не паспеў, ён паспрабаваў крута збочыць направа, але ўсё ж наляцеў на Грабоўскага (У. Шыцік. Другая версія).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 356: П’янаму і мора па калена; П’янаму і мора па калена, а лужа – па вушы.

**П’яніца праспіцца, а дурань ніколі.** *Кажуць у апраўданне п’янага чалавека.* – Ах, ён п’яніца такі... – П’яніца праспіцца, а дурань ніколі... – спакойна заўважыў Мікуцкі (П. Броўка. Каляндры). [Віхура:] Бачыш, да чаго ты дайшоў. Жыгалка і той смяецца... [Скакун:] П’яніца праспіцца, а дурань ніколі... Захачу і не буду піць... і на работу прыйду... (І. Гурскі. Новы горад).

– *Насовіч,* с. 142: П’яніца праспіцца, а дурань ніколі; *Прыказкі,* кн. 2, с. 241: П’яніца праспіцца, а дурань ніколі.

**П’яны грош шалёны.** *Пра таго, хто ў стане ап’янення не шкадуе грошай.* Ад сораму ў вачах цёмна. Учарашні выпадак не даваў спакою. «Нездарма кажуць, што п’яны грош шалёны, – колькі ж я прапіў?» Гэта было нейкай дзіўнай нечаканасцю для яго самога (У. Гніламёдаў. Уліс з Прускі).

# Р

**Рабіць у купе – не баліць у пупе.** *Гл.* Калі робіш у купе, не баліць у пупе.

**Работа дурняў (дурня, дурных) любіць.** *Гавораць таму, чыё старанне не ўхвальваюць.* – Пасаромеўся б... Я яшчэ не снедаў. – Ха! Кажуць, работа дурняў любіць (І. Шамякін. Вясновымі днямі). [Ілья] подбежкам адцягваў іх [буракі] або адносіў у дальнія куткі. – Давай! Давай! Тэмп! Работа дурных любіць! – пакрыкваў ён звер-

ху (П. Місько. Сітус інверсус). – Ты толькі не чуеш мяне цяпер, а я гавару: усё спачатку, гавару. – Во-во, дурня работа любіць (В. Казько. Неруш). Хутка і ўвішна Пятро пачаў разгружаць машыну. Кідаў і кідаў на снег шурпатыя яловыя, бярозавыя і сасновыя круглякі. «Дурняў работа любіць», – непрыязна думаў пра сябе (Н. Маеўская. Надзеевіч).

– *Рапановіч,* с. 101: Дурня работа любіць.

**Работа і корміць і поіць.** *Гаворыцца пра работу, працу, пэўны род дзейнасці як аснову чалавечага жыцця.* Праца – гэта аснова жыцця, без яе жыццё не ўяўляецца, бо работа і корміць і поіць (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Насовіч*, с. 143: Работа і корміць і поіць.

**Работа не заяц, не ўцячэ.** *Гл.* Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).

**Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).** *З работай, са справай няма чаго спяшацца; яшчэ паспееца. Кажа той, хто не спяшаецца з выкананнем якой-н. справы.* Ідзі, Аўдоля, пасядзі трохі, адпачні. Работа не воўк, у лес не ўцячэ (К. Крапіва. Мядзведзічы). [Яніна:] Сядзь, адпачні!.. А работа – не воўк: у лес не ўцячэ (І. Козел. Папараць-кветка). – Ты любіш збіраць грыбы? Я дык страх як люблю! Пойдзем? – А табе ж на работу! – Ат, кажуць, работа не воўк, у лес не ўцячэ. Напрацуюся яшчэ. А грыбоў не стане (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). – Адпачніце, Мацвеевіч, – кажу я, – работа не воўк, у лес не ўцячэ (В. Шырко. Споведзь правінцыяла). – Э! Зязюлькі мае любыя, – падышоўшы, прабасаваў гаспадар. – Праца – не воўк, у лес не пабяжыць, кідайце – пойдзем (У. Галубок. Шчырае каханне). – Ды я пажартаваў... Не ў госці да цябе, а па справе, – упіраўся Васіль. – Справа – не воўк, у лес не ўцячэ... (І. Сіняўскі. Ціток). Ну што ты мяне не пазнаеш, старына! Паўз дом ідзеш і не заходзіш. Работа не воўк, у лес не збяжыць (А. Жук. Асінавыя прысады). **Работа не заяц, не ўцячэ. –** Адпачні, Волечка, што табе больш за іншых трэба, – гаварыла часам якая-небудзь з свінарак. – Работа не заяц, не ўцячэ... (В. Праскураў. Вялікая радня).

* [Даміцэля:] Бач ты яе, чаго захацела! А пацеры ўмееш? [Максім:] Нічога, кумка! Пацеры не воўк – у лес не збягуць (Я. Колас. Прымакі). – Паколькі мы сабраліся для таго, каб назаўсёды скінуць з сябе адзежу «ветхага Адама», – азваўся Іван Тадорык, – дык давайце наўперад пакупаемся ў Нёмане, а наш сход не мядзведзь, у лес не ўцячэ (Я. Колас. На ростанях). – Але ж вам холад-

на. І вас чакаюць дома. – Дом не воўк, у лес не збяжыць (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне). [Каліберaў:] Значыць, ты водпуск не бярэш? Будзем разблытваць? [Курбатаў:] Такая служба. [Моцкін:] Служба не воўк, у лес не ўцячэ (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка). – І ты тут, Марта? – А чаму б мне не быць тут?.. Папрасілі, я і паехала... – А падсочка?... – Падсочка не воўк, у лес не ўцячэ... (Б. Сачанка. Баравое рэха).

– *Федароўскі,* с. 255: Работа не заяц, не пабяжыць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 276: Дзела (работа) не воўк, у лес не ўцячэ.

**Работы ніколі (век) не пераробіш. –** Я, можа, не ў час зайшоў да вас і пашкодзіў вам у рабоце? – запытаў Лабановіч. – Барані божа! Якая ж у нас работа?.. Вы так рэдка да нас заходзіце... – Што маю права часамі і спыніць вашу работу, асабліва калі яна непрыемная? – Работы, пане настаўніку, ніколі не пераробіш. – Гэта праўда (Я. Колас. На ростанях). – Табе і памерці не будзе калі... Работы век не пераробіш. – Яно так, але і без хлеба блага, – задумённа гаварыў Кірыла (І. Гурскі. На родных гонях).

* Ну, схадзі, паганяй «чорта». Усёй работы не пераробіш (Л. Прокша. Стрэлы над ярам).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 181: Работы ніколі не пераробіш.

**Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.** *Гл.* <І> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

**Рада б цяпер наша мама выйсці за пана, ды пан не бярэ.** *Хацелася б зрабіць што-н., ды немагчыма. Кажуць з насмешкай пра чые-н. нязбытныя ці недарэчныя планы.* **Сін.:** *<І > рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.*

* – А я? Чытала б і чытала. На лекцыі не хадзіла б, а то – і вучыцца б кінула... – Хацела б цётка за пана, але пан не бярэ, – нібы так сабе сказала бабулька... (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог).

– *Насовіч,* с. 143: Рада б цяпер наша мама выйсці за пана, ды пан не бярэць; *Ляцкі,* с. 37: Рада б наша мама цяпер за пана, ды пан не бярэць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 66: Рада б наша мама за пана, дык ліха яго дзярэ, не бярэ.

**Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.** *Гл.* <І> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

**Радні не пералічыш, а давядзецца тапіцца – няма за каго ўхапіцца.** *Хоць побач хапае радні, блізкіх людзей, але ў пэўнай сітуацыі няма на каго абаперціся, атрымаць ад каго падтрымку.* – Во пайшлі дзеткі, каб вас агні выпалілі з такімі характарамі! Ім жа, паршыўцам, робім, для іх жа карысці стараемся, а яны – вось табе

аддзячылі! – Табе падзякі не хапае? – А што гэта ўжо і пажартаваць нельга? – Я б табе за гэтыя жартачкі... – Я ж, выходзіць, яшчэ і вінаватая? Во праўду людзі кажуць: радні не пералічыш, а давядзецца тапіцца – няма за каго ўхапіцца (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 140: Сваіх многа, а як прыходзіцца тапіцца, не за каго ўхапіцца.

**Радня да паўдня, а як сонца зойдзе, сам чорт не знойдзе.** *Кажуць пра сваякоў вельмі далёкіх або такіх, якія прызнаюць каго-н. раднёй толькі ў неабходных выпадках.* Аб больш далёкай радні ўжо няма чаго і казаць, – яна радніцца да тае пары, пакуль чалавек багаты, а як збяднее, тады сваяўство забываецца: радня да паўдня, а як сонца зойдзе, сам чорт не знойдзе (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). [Масляк:] Дзядзечка! Ды мы ж з табой яшчэ і радня. [Дзед Штукар:] Радня да паўдня... Кузьма Сцяпану – родны Хведар (М. Скрыпка. Чорт дапамог).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 143: Радня да паўдня, а як сонца зойдзе – сам чорт не знойдзе.

**Разбітае не склееш.** *Ранейшыя сувязі, адносіны не адновіш***.** Аляксей хацеў быў ёй [Лізе] напісаць, каб яна не спяшалася, добра падумала, перш чым разводзіцца, але потым вырашыў: «Разбітае не склееш» (І. Гурскі. У вялікай дарозе).

– *Ліцвінка*, с. 120: Разбіты збанок не склееш.

**Раз (калі) пайшла такая п’янка, <то> рэж апошні агурок**. *Праст. Няхай будзе гэтак; так таму і быць. Выказванне згоды з чым-н. або рашучасці перад тым, як зрабіць што-н., сказаць пра што-н. ці прызнацца ў чымсьці і пад. Часцей гаворыцца, з адценнем жартаўлівасці, у застоллі.* Мужчыны зноў дружна загаманілі... – Случай быў, – Дубадзел адрэзаў лусту сала, укінуў у рот.. – Гадоў мо з трыццаць было тое. Анікому не расказваў, але ж, калі пайшла такая п’янка, то, як кажуць, рэж апошні агурок. Маладь быў, дурны, што пень яловы. Прыйшоў з арміі, адслужыў, як мае быць... (У. Бельскі. На паляванні).

– *Выслоўі*, с. 100: Раз прышло такое дзела, рэж паследні агурок.

**Разумнаму дастаткова.** *Кніжн. Разумнаму доўга і шмат думаць не трэба.* **Сін.:** *Разумны зразумее.* – Кароль і двор – яшчэ не ўся дзяржава. У той час калі Сулейманавы сланы топчуць няшчасных сербаў, калі турэцкая чума распаўзаецца ўсё шырэй і шырэй... – Разумнаму дастаткова. Я ведаю, пра што ты хочаш сказаць, – перапыніў мецэнат (У. Арлоў. Час чумы). Тут сваіх апанентаў аўтар таксама, як і ў іншых раздзелах кнігі, вельмі часта б’е

іхнімі ж выказваннямі. Прыкладам, зводзіць у адно дзве цытаты з С. Балахонава... І досыць. Як той казаў, разумнаму дастаткова (Ю. Пацюпа. Публіцыстыка лінгвіста). У «Прадмове» Багушэвіч нездарма падкрэсліваў: «Наша мова для нас святая.., але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек...» Разумнаму – дастаткова (І. Запрудскі. Самы слынны з пакалення беларускіх нігілістаў).

– Калька з лацінскай мовы: *Sapienti sat (est)* або *Verbum sapienti*.

**Разумная галава, ды дурню дасталася.** *Гаворыцца з асуджэннем ці шкадаваннем пра чалавека, які робіць непрадуманыя, безразважныя ўчынкі.* Чамусьці сёння лезлі яму ў галаву нейкія такія думкі пра вечнасць, пра сваю ролю ў гэтым жыцці, пра тое, чаго не зрабіў ён, а павінен быў зрабіць, каб меў людскую галаву на плячах. Пра такіх гавораць: разумная галава, ды дурню дасталася. Вельмі моцна сказана – менавіта пра яго... (Л. Левановіч. Доля-пустацвет).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 237: Разумная галава, ды дурню прыйшлася (ды не на тыя плечы; ды на дурной шыі).

**Разумны зразумее.** *Функц. не зам. Разумнаму доўга тлумачыць не трэба.* **Сін.:** *Разумнаму дастаткова.* Правільна, вось і паказаўся лесавік дзяўчыне ў лесе, і нясе ён гэты камень для таго, каб людзі ўсё ж успомнілі, што былі калісь лесавікі, і сёй-той з тых лесавікоў застаўся нават цяпер. Разумны, як той казаў, зразумее. Дурань жа і ёсць дурань (А. Кажадуб. Лесавік).

– *Федароўскі,* с. 260: Разумны дагадаецца; Разумнаму шмат не трэба талкаваць.

**Разумныя валасы пакінулі дурную галаву.** *Праст. Кажуць зняважальна пра лысага.* – Што ён пляце? Што ён вярзе? – Ён умее. Таму і лысы. Разумныя валасы пакінулі дурную галаву (В. Ткачоў. Дрэва...).

* Пяцьдзесят, а бегае, як дзяцюк, толькі шапкі з галавы не здымае: лысіна сонца прыцягвае. Хацеў яго адзін карэспандэнт без шапкі сфатаграфаваць, Богуш пакрыўдзіўся: «Чым я табе не дагадзіў?» І меў рацыю: дурныя валасы пакінулі разумную галаву, лепш яе прыкрыць, каб не выстаўляць кожнаму стрэчнаму сваю мудрасць (В. Шырко. Жаваранак над нівай).

– *Лепешаў,* с. 103: Дурныя валасы пакідаюць разумную галаву – «кажуць жартаўліва пра таго, хто пачынае лысець».

**Рана пташачка запела, каб (як бы) кошачка не з'ела.** *Рана радавацца, калі яшчэ невядома, чым усё можа закончыцца.*

[Дзімітраўна, глядзіць на танцуючых:] Рана пташачка запела, каб кошачка не з’ела. [Антаніна Максімаўна:] На век не наплачашся, Дзімітраўна. Колькі таго жыцця, і тое ў крапінку (Л. Марушка. Юля). – Заўчора хіба ладна аблапошылі аднаго п’янчугу?.. – Ды чуў. Рана пташачка запела, як бы кошачка не з’ела. За тыя рэ ды кухталі... Можа быць, Лёха, рашотка чорная ў казённым доме... (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа). Толькі сэрца затахкала больш спакойна: начных прыгод з Чэсем не будзе. Але нехта як бы параіў не спяшацца. Нечакана згадалася прымаўка: «Рана пташачка запела, як бы кошачка не з’ела...» (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

**Раней устанеш – болей зробіш.** – А навошта спяшацца? Паспяшыш – людзей насмяшыш. – Нічога: раней устанеш – болей зробіш (В. Праскураў. Высокі поўдзень).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 184: Раней устанеш – болей зробіш; Рана ўстанеш – многа зробіш.

**Раніца мудрэйшая (мудрэй) за вечар.** *Раніцай прыйдзе больш правільнае рашэнне. Гаворыцца пры адкладванні рашэння чаго-н. на заўтрашнюю раніцу, калі ўсё стане ясней, больш відавочна.* **Сін.:** *Пераначуем, болей пачуем (у 2 знач.)* – І пагарыш у першае ж лета на сваёй творчасці. – Ды лепш ужо згарэць у чыстым полі, чым у цёплым клазеце. – Не блазнуй, Іван. Ты выпіў. Раніца мудрэйшая за вечар. – Дарэмна ты спадзяешся на ранішнюю мудрасць (І. Шамякін. Снежныя зімы). Загаварыў Максім Данілавіч: – Дык от што, галубка... З ходу я табе нічога не магу параіць, хто памог бы. Будзем думаць, раніца мудрэй за вечар (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...) – Давай падрэмлем, – прапанаваў, зусім размораны цяплом печы і выпітай самагонкай, Піліп. – А то хто ведае, што чакае нас заўтра. Ды і раніца, кажуць, мудрэй за вечар (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Так у нас гаворыцца спрадвечна: «Раніца мудрэйшая за вечар». І мы пагаджаемся з такою прамоўкаю, лічым звычайнаю з’явай, калі адкладваюцца на заўтра незакончаныя справы (Я. Крупенька. Раніца мудрэйшая за вечар). – Калі аперацыя? – Заўтра... – Доктар! Толькі прашу, каб аперацыі рабілі на абедзвюх нагах адразу.. – Адпачывайце, Зінаіда Міхайлаўна. Раніца мудрэйшая за вечар (У. Ліпскі. Крутыя вёрсты).

– *Ляцкі,* с. 52: Утра вечара разумней.

**Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.** *Гл.* Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы працірае.

**Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы працірае.** *Працавіты чалавек ужо наробіцца да таго часу, пакуль гультай толькі прачынаецца.* [Навум:] Баш, як добра заранее карчму праведаць. Не дарма кажа прымаўка: ранняя пташачка крылкі цярэбіць, а позняя вочы працірае (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). **Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.** – Бачыш, як некаторыя робяць! – А ён рот нараспашку ды язык на плячо, – ужо зусім нязлосна сказаў Парфён Вяршкоў пра Рамана Сёмачкіна. – Ранні зайчык заўсёды цярэбіць зубкі, а позні вочкі прадзірае (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

– *Насовіч,* с. 144: Ранняя птушачка носік цярэбіць, а позняя вочкі працiраець; *Федароўскі,* с. 347: Ранні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае; *Прыказкі,* кн. 1, с. 176: Ранняя птушка зубкі цярэбіць (цярэбе, прачышчае), а позняя вочы (вочкі) працірае (прадзірае).

**Родная зямелька як зморанаму пасцелька.** *Пра замілаванне да роднага краю, да мясцін, дзе нарадзіўся хто-н.* **Сін.:** *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл; Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся; Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае; Міл той куток, дзе абрэзалі пупок; Мой родны кут, як ты мне мілы; Няма лепшае справы ад свае хаты; У родным краю, як у раю.* – Во, суседка, і добра, што вярнулася [на радзіму]... – А нягож... Родная зямелька як зморанаму пасцелька... (І. Галубовіч. Кувала зязюлька). Якіх толькі добрых слоў не напрыдумваў беларус пра сваю карміцельку!.. «Родная зямелька – як зморанаму пасцелька»... (Я. Сіпакоў. Наша зямля). Трэба выхоўваць моладзь на любові да роднай старонкі, не ў званы званіць, а штодзённа, клапатліва адстойваць хрысцянскія каштоўнасці. Як пісаў Антон Бялевіч: «Чалавек без радзімага краю, як без песні ў гаі салавей». Родная зямелька – зморанаму пасцелька (У. Гук. Адзін дуб у полі – не лес).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 287: Родная зямелька як зморанаму пасцелька.

**Розум не кулеш, у галаву не накладзеш (не ўвальеш).** *Не прымусіш каго-н. абразуміцца, рабіць так, як хацелася б.* **Сін.:** *Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.* Даўбешка ты! Праўду кажуць: розум не кулеш, у галаву не накладзеш (А. Мрый. Алё, Алёна!).

– *Янкоўскі,* с. 149: Розум не кулеш, у галаву не ўвальеш.

**Розум не кулеш, у галаву не ўвальеш.** *Гл.* Розум не кулеш, у галаву не накладзеш (не ўвальеш).

**Розум не сякера – не пазычыш.** *Кажуць пра таго, хто робіць бязглуздыя ўчынкі.* Сярод дзяцей таксама траплялiся неслухі, «што ўбіў, то і ўехаў», падпадалі пад уплыў людзей не лепшых у вёсцы. «Розум жа не сякера – не пазычыш». Ды і схільнасці не ў кожнага былі да таго, да чаго яго прывучалі (Б. Сачанка. Вечны кругазварот).

– *Янкоўскі,* с. 149: Розум не сякера – не пазычыш.

**Розуму грашыма не заменіш**. *Пра перавагу разумных дзеянняў над усім іншым.* Заўважалася, бралася на заметку ўсё – як дзе нарыхтоўваюцца кармы, што чым засяваецца і на якім полі, якая тэхніка лепшая, і самае галоўнае – арганізацыя працы. На гэта Кунцэвіч глядзеў больш за ўсё і гаварыў: розуму грашыма не заменіш (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 475: Розуму грашыма не заменіш.

**Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.** *Свайго розуму не дасі каму-н., не прымусіш каго-н. рабіць так, як хацелася б.* **Сін.:** *Розум не кулеш, у галаву не накладзеш.* Цяпер Зазыба ўспамінаў пра тую размову ў Сідаравай хаце, як пра нешта вартае спагады: да чаго можа давесці пачуццё перасцярогі, выкліканае не столькі бояззю за даручаную справу, колькі недаверлівасцю. Тым не менш на душы ў Зазыбы было прыкра, хоць ён і добра ведаў, што розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

– *Насовіч,* с. 145: Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.

**Ружы без калючак не бывае.** *Прыгожага, прыемнага, добрага ў жыцці не бывае без горычы, непрыемнасцей.*

* Ружы ў садзе не радавалі, марская галька ў кабінеце перастала шумець морам. Але руж няма без шыпоў – хто гэтага на свеце не ведае? Таму і шыпы прымаліся як належнае, думалася: «Часовае!.. Палепшае!..» (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– Недакладная калька з нямецкай мовы: *Keine Rose ohne Dornen* (літаральна «няма ружы без калючак»).

– *Ліцвінка, с.* 120: Ружы без калючак не бывае.

**Рукапісы не гараць.** *Функц. не зам. Ужываецца як сцвярджэнне, што рукапісныя тэксты (звычайна пісьменнікаў) не знікаюць бясследна, рана ці позна знаходзяць доступ да чытача.* У некаторых [пісьменнікаў] пасля смерці засталіся ненадрукаваныя пакуль што творы. Навошта іх трымаць, хаваць ад народа? «Рукапісы не гараць» – добрае суцяшэнне, але на практыцы бывае ўсяк. Колькі іх ужо згарэла, загінула! (Б. Сачанка. Гараць ці не гараць

рукапісы?..). У журналіста пішучага ёсць адна рашаючая перавага: блакнот. У яго ты заносіш на ўсякі выпадак усё, што чуеш і бачыш. Калі потым пішаш артыкул, выбіраеш патрэбнае, але непатрэбнае застаецца таксама. І праз нейкі час бачыш, што гэта непатрэбнае якраз і было самым патрэбным. Можа быць, адзіным і патрэбным. Рукапісы не гараць. Класік меў рацыю... (Звязда. 2001, 30 мая). Як вядома, паперка ў сучаснай папяровай цывілізацыі – вялікая сіла. Рукапісы не гараць, але не ўсе гараць і даносы, што ўвогуле памагае ісціне, да якой імкнецца літаратура... Пройдзе небагата часу, і мы пераканаемся, што не толькі рукапісы не гараць, але сказанае застаецца. У тым ліку і сказанае ў сакрэтных аддзелах КДБ (В. Быкаў. Доўгая дарога дадому).

– Запазычанне з рускай мовы. Паходзіць з рамана М. Булгакава «Майстар і Маргарыта» (1929–1940), дзе ў 24-м раздзеле Майстар гаворыць, што не можа паказаць напісаны ім раман аб Понціі Пілаце, бо «спаліў яго ў печцы». «Даруйце, не паверу, – адказаў Воланд, – гэтага быць не можа. Рукапісы не гараць». І праз кароткі час усе ўбачылі «тоўстую пачку рукапісаў».

**Рука руку мые.** *Адзін выгароджвае другога ў якой-н. несумленнай справе.* **Сін.:** *Нага нагу падпірае, рука руку абмывае; Чорт за чортам цягне. «*Чаму ж з ім [начальствам] не падружыць? Як кажуць, рука руку мые, – разважаў Данілка. – Дагаджу я, дагодзяць і мне» (П. Пестрак. Вярнуўся). – Заводу патрэбна насенне... Дык у чым справа? Я вам дастану. Але... – Што? – Рука руку мые, – усміхнуўся Прыбыткоўскі (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя). Варанецкі і Бобрык – адна «шайка-лейка», не можа быць, каб рука руку не мыла. Інакш іх адносіны Выжлік сабе ўявіць не мог (І. Дуброўскі. Зямныя вузлы). Той жа былы сакратар партыйнай арганізацыі калгаса.. прапісаўся ў новай кватэры ў Мінску. А калі спытаеш, на якіх правах, то я і адкажу, што рука руку мые. Як кажуць: ты мне – я табе (А. Казлоў. І птушкі не спяваюць).

– Калька з лацінскай мовы: *Manus manum lavat.*

– *Насовіч, с.* 145: Рука руку мыець; *Федароўскі,* с. 226: Рука руку мые, каб абедзве былі белы.

**Рукі вымажаш – вадою памыеш, душу вымажаш – і мылам не адмыеш.** *Гл.* Рукі пабрудзіш – вадою адмыеш, душу забрудзіш – і мыла не паможа.

**Рукі пабрудзіш – вадою адмыеш, душу забрудзіш – і мыла не паможа.** *Ад ганебных учынкаў, амаральных паводзін не ачысцішся.* – Усё будзе добра, баця, – вінавата гаварыў Валодзька. –

Знойдзецца і для мяне занятак. Не ўсё адразу. – Яно мо і знойдзецца, ды не ўсё перайначыш. Рукі пабрудзіш – вадою адмыеш, душу забрудзіш – і мыла не паможа. Ці падумаў ты пра гэта, калі пачаў рабіць нялюдскае... (М. Барэйша. Запозненая вясна). **Рукі вымажаш – вадою памыеш, душу вымажаш – і мылам не адмыеш.** [Мартынюк:] Я леташняй зімой быў у доме адпачынку, дык на сёмы дзень, значыцца, рукі адмыў. А ты, Пётра, не бядуй. Галоўнае, каб душа была чыстая. [Пётра:] А я і не бядую. [Дзед Змітрок:] Хадзі, голубе, травы табе дам, ураз адмыеш. Рукі вымажаш – вадою памыеш, душу вымажаш – і мылам не адмыеш (Л. Левановіч. Чабор).

* Бруд, калі ён зверху, адмываецца, а вось калі душа чорная, яе ніколі не адмыеш! (М. Ваданосаў. Пад чужым паролем).

– *Ляцкі,* с. 38: Рукі пабрудзіш – і вадой памыеш, а душу забрудзіш – і мылам не адмыеш; *Рапановіч,* с. 297: Рукі забрудзіш – вадой адмыеш, а душу забрудзіш – і мылам не вымыеш.

**Рыба з галавы псуецца (загніваецца, пачынае гніць, гніе).** *Распад, разлажэнне ў якім-н. асяроддзі пачынаецца раней за ўсё зверху.* – Парадку ў нас няма. Хацеў бы з часткай людзей да вас ісці, але пабаяўся, што не прымеце. Такая пра нас ідзе слава. – А ў чым справа? Хто вінаваты? – Рыба, як кажуць, з галавы псуецца (І. Гурскі. У агні). Потым пачалося незвычайнае: наш маленькі дружны калектыў пачаў катастрафічна псавацца. Рыба псуецца з галавы, а наш калектыў пачаў псавацца з хваста. Пайшлі чуткі, што прыбіральшчыца Яўгіння Прохараўна крадзе чыстую канцылярскую паперу (М. Пянкрат. Ціхі чалавек). [Блашынскі:] Смерць, смерць юдам... Усіх... Па парадку... Па адным... Але першага яго [старшыню], сухара... здыхляка... Галаву! Бо рыба з галавы загніваецца... (В. Дайліда. Мне – пару слоў). «Хопіць, – падумаў Саўчык, – рыба пачынае гніць з галавы. Трэба браць Якава» (Г. Марчук. Крык на хутары). І яна тут, у электрычцы, раптам падумала: ён не злодзей. Вось так! Які ён злодзей? Ён – гаспадар. Падбіраў. Вы, начальнікі, самі яго і зрабілі такім. Рыба з галавы гніе... А людзям жыць трэба (Т. Гарэлікава. Вось так, гаспадарства).

* Чаму гэта рыба гніе з галавы, а чысцяць яе з хваста? (Р. Барадулін. Чаму).

– *Федароўскі,* с. 346: Рыба пачынае смярдзець з галавы.

**Рыбак рыбака бачыць здаляка.** *Людзі, падобныя па якіх-н. звычках, якасцях, хутка зблiжаюцца, дасягаюць поўнага паразумення.* **Сін.:** *Жабрак жабраку відзён па кійку; Сваяк сваяка пазнаў здаляка.* [Жлукта:] Хацеў цішком прайсці, каб я і не заўва-

жыў? Не, брат, я цябе ўгледзеў, як ты толькі ў сад увайшоў. [Андрэй Сымонавіч:] Рыбак рыбака бачыць здаляка (К. Крапіва. Мілы чалавек). «А што ж гэта Сяргей з Андрэем так прызналіся? – здзіўляўся радасна Алесь, і сама тая радасць, здаецца, давала адказ: – Сваяцтва душ з Крушынам, рыбак – рыбака...» (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). – Павудзім, доктар? – звярнуўся Гукан да Яраша, мабыць, адчуўшы ў ім аднадумца, недарма кажуць: «Рыбак рыбака бачыць здаляка» (І. Шамякін. Сэрца на далоні). Рыбак рыбака бачыць здаляка. Прамоўцу-камсамольца прыкмеціў старшыня сельсавета Стрык, худы, высокі, з чорным, нібы вымазаным дзёгцем, тварам (І. Навуменка. Вецер у соснах).

* [Пушкарэвіч:] Куды ні ткнешся, на рыбака трапіш. [Порхаўка:] Свае людзі. Паляўнічы рыбака – бачыць здаляка (І. Гурскі. Свае людзі).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 152: Рыбак рыбака бачыць здаляка.

**Рыба любіць ваду.** *Пад'еўшы прыгатаванай з рыбы ежы, хочацца піць.* Чай рыхтавалі самі зняволеныя ў якіх-небудзь пражавелых бляшанках, знойдзеных на дарозе. Бо «рыба любіць ваду». Пасля салёнай камбалы нап'ецца чалавек такога «чаю» – і адразу ж панос. А лазарэта ў дарозе няма (П. Пруднікаў. Пекла).

– *Лепешаў,* с. 107: Рыба любіць ваду.

**Рыба ў рацэ, ды (яшчэ) не ў руцэ.** *Кажуць жартаўліва пра яшчэ не злоўленую рыбу.* Яшчэ адно невялікае азярцо. У ім Ігнась разы два чуў раптоўныя ўсплёскі, на месцы якіх разыходзіліся кругі хваляў, – гуляла рыба. Ясна: і ў азярцах, і ў рэчцы рыба ёсць. Толькі рыбка ў рацэ – яшчэ не ў руцэ. Яе трэба неяк налаўчыцца лавіць (К. Цвірка. Воўчая выспа).

* – А я рыбкі налавіў, баяры вы мае дарагія, – пахваліўся Ядрэйка. – Каб ты яе яшчэ зварыў, было б зусім добра... А можа, яна тут вараная ў рацэ плавае? – У рацэ не ў руцэ, – адказаў Ядрэйка. – Разам варыць і есці будзем (Л. Дайнека. След ваўкалака).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 152: Рыбка ў рацэ, ды не ў руцэ; Рыба не ў руцэ, а ў рацэ; Не рыба ў рацэ, а рыба, што ў руцэ.

**Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (лепей, лепш).** *Гаворыцца пра таго, хто рашае змяніць сваё жыццё з надзеяй на лепшае, або як апраўданне сваіх дзеянняў, учынкаў.* [Мікола:] Я гатоў у прымы, але ў лепшую гаспадарку, як кажа Макар Піліпавіч. [Пытляваны:] Ну, гэта іншая справа. Гэта прынцып правільны: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек – дзе лепш (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). Каму-нікаму яшчэ цяжка зразумець гэта. Цяж-

ка таму, што жывуць яны яшчэ па старой прымаўцы: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (І. Шамякін. У добры час). – Значыць, ад калгаса ўцякаеш... – Калгаса ў нас яшчэ няма. Але рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек – дзе ляпей... І я... (Р. Няхай. Гудкі абуджаюць вясну). – Чаму ж ты адмовіўся? – раптам павесялеў Козел. – Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек – дзе лепей (У. Мяжэвіч. Кляпчанскі рэпартаж). [Андрэй:] Сапраўдны вучоны рвацтвам займацца не будзе, навуку ў сродак нажывы не ператворыць. [Зарудны:] Ну, тут справа такая... рыба шукае, дзе глыбей, чалавек, дзе лепш... (А. Маўзон. У ціхім завулку).

– *Насовіч,* с. 145: Рыба шукаець, дзе глыбі, а чалавек, дзе лепі.

**Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам.** *Гаворыцца як парада загадзя рыхтаваць тое, што спатрэбіцца праз пэўны час.* Народная мудрасць гаворыць: рыхтуй калёсы зімой, а сані летам. Калі зыходзіць з яе, то мы павінны ўжо заканчваць падрыхтоўку да работы ў асенне-зімні перыяд. Аднак, на жаль, яшчэ не ўсе кіруюцца гэтай мудрасцю (Звязда. 1988, 31 ліп.). Вы забыліся пра адну прыказку, якую вельмі любіў паўтараць ваш дзед: «Рыхтуй сані летам, а калёсы зімой», і таму плана веснавой сяўбы зімой не рыхтавалі (А. Макаёнак. Выбачайце, калі ласка).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 274: Рыхтуй летам (улетку) сані, а зімой калёсы; Ладзь калёсы зімой, а сані летам.



**Сабака брэша, а караван ідзе.** *Не варта звяртаць увагу на чые-н. недарэчныя словы, дзеянні. Гаворыцца з асуджэннем каго-н. за яго выказванні, учынкі.* **Сін.:** *Сабака брэша – вецер носіць.* Плюецца [крытык] слоўнаю кашаю, лаецца і чакае, што будзе? Нічога не будзе. Сабака брэша, а караван ідзе (З. Дудзюк. Сімптом паталогіі). Зноў паліўся бруд, з’явіліся беспадстаўныя абвінавачванні, падтасоўка фактаў. Здавалася б, лепей на гэта ніяк не рэагаваць, навошта звяртаць асаблівую ўвагу. Пабрэшуць – супакояцца. Як кажуць на Усходзе, сабака брэша, а караван ідзе (А.А. Марціновіч. Прамень з Налібоцкай пушчы). Адзін не змаўкае крычаць, што ён лепшы, другі адкрыта прызнаецца ў сваёй зайздрасці, але хавае яе ў двукоссі, трэці ненавідзіць мёртвых славутых паэтаў за тое, што іх слухаў і шчыра любіў народ. Але ж сабака брэша, а караван ідзе (ЛіМ. 2002, 11 кастр.). Шмат [пра В. Быкава] напіса-

на подлага, брыдкага, пра што і ўспамінаць не хочацца, бо куплена ўсё кан'юнктурай і нянавісцю да бескампрамісна-нязменнай мастацкай і грамадзянскай пазіцыі пісьменніка. Усходняя мудрасць гаворыць жорстка: «Сабака брэша, а караван ідзе». У каравана свой маршрут і свая мэта. Але і каравану лягчэй ісці без гэтага сабачага галашэння (А. Кудравец. На крыжы).

* Не збяднела зямля беларуская на асілкаў, на таленавітых спартсменаў. Як ні дзіўна, хапае зайздроснікаў. І «засуджваюць» нашых ні за нюх табакі, і вышукваюць плямы на сонцы (і тое не гэтак, і іншае не так), але караван ідзе, хоць і гаўкае цюцька (В. Шырко. Залатыя вы нашы, сярэбраныя).

– Паводле М.І. Міхельсона, калька з турэцкай мовы.

– *Ліцвінка,* с. 120: Сабака брэша, а чалавек ідзе (едзе); *Аксамітаў,* с. 205: Сабака брэша, а дваранін едзе.

**Сабака брэша – вецер носіць.** *Не варта звяртаць увагу на чые-н. недарэчныя словы, плёткі, балбатню. Гаворыцца з асуджэннем каго-н. за яго выказванне.* **Сін.:** *Сабака брэша, а караван ідзе.* – Калі паслухаць іх, дык страх бярэ, – прызналася Марыся. – У адным месцы столькі нашых знішчылі, у другім... – Эт, – махнула рукою Агрыпіна. – Сабака брэша – вецер носіць (І. Гурскі. У агні). [Зарудны:] Прачытаў [фельетон]. Аўтару рублёў чатырыста заплацяць, а ўвогуле – глупства. Сабака брэша – вецер носіць (А. Маўзон. У ціхім завулку). Сабака брэша – вецер носіць, а Санька Лахвіч такога можа наплесці, толькі слухай (М. Кацюшэнка. Прыезджы чалавек). [Васіліна:] А тое, што Агата плявузгае, – не звяртай увагі. Сабака брэша – вецер носіць (С. Свірыдаў. Любіць не любіць...).

* Нам ужо абрыдлі досыць байкі прайдзісвета. – Гебельс брэша – вецер носіць, – кажам мы на гэта (К. Крапіва. Гебельс брэша – вецер носіць). – Не падыходзь нават да хлява!.. – Баба брэша, вецер носіць, – нарэшце сказаў стары Галушка. – Памагай, Антон, калёсы закаціць (М. Пянкрат. Напрадвесні). А вярнуўся [Канькоў] зноў у кухню, то кінуў у дзверы Кацінага пакоя, нібы ў Раін твар: – Сучка брэша, вецер носіць… Хто табе паверыць (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 387: Сабака брэша – вецер носіць.

**Сабака і на бога брэша.** *Кажуць пра таго ці таму, хто незаслужана бэсціць, абгаворвае каго-н.* «Сабака і на бога брэша». Не проста прыказка, а сродак з народнай медыцыны. Ад незаслужана крыўднага абгавору (Я. Брыль. Блакітны зніч). – Пытаеш, што за птушка брыгадзір Шарамет?.. Злодзей... – А гаваркі, дык

аж на ліха. Вечна рот на баку. Нешта яму не падабаецца. – Сабака і на бога брэша. Задзярэ галаву і гаўкае. Фальшывы чалавек (У. Навумовіч. Такое бывае аднойчы).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 158: Сабака і на бога брэша.

**Сабака не з’есць, пакуль не пакачае.** *Кажуць іранічна пра таго, у каго ежа выпала з рук.* Наглядчык кінуўся выконваць майстраў загад, паслухмяна выкульваючы на траву змесціва аднаго і другога каша. «Сабака не з’есць, пакуль не пакачае», – мільганула ў Міхасёвай галаве (М. Аўрамчык. Палон).

– *Раманаў,* с. 309: Сабака не пакачаўшы не з’есць; *Федароўскі,* с. 270: Сабака не з’есць не пакачаўшы.

**Сабаку <і> сабачая смерць.** *Гаворыцца з пагардай пра дрэннага чалавека, які заслужыў пакаранне смерцю.* – Толькі вось нядобра, што ты забіў Павэлка, – нечакана дадаў Дубальт. – Вядома, сабаку сабачая смерць, але замазаць тваю віну ў забойстве будзе мне цяжкавата... (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). [Мікола:] Баярына зваліў ён кісцянём. [Ключарка:] Не войкнуў, ляжыць. [Дараш:] Памёр. [Мікола:] Падох. [Ключарка:] Сабаку смерць сабачая... (Е. Міровіч. Машэка). У Даўгабродскім лесе Ліпніцкага знайшлі павешаным... – Сабаку – сабачая смерць, – сказаў Яўхім, – яшчэ на другую галіну Манішэўскага трэба было павесіць... (М. Чарот. На пасеках). Дайце, я сам яго прыкончу. Сабаку і сабачая смерць! (Р. Няхай. Туман над стэпам). – Сабаку і смерць сабачая! – праз агідны і жорсткі смех працадзіў Гардон і сціснуў Юткевічава горла (Б. Мікуліч. Дужасць).

– *Насовіч,* с. 153: Сабацы сабачча і смерць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 414: Сабаку сабачая смерць.

**Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як сама>.** *У дзецях паўтараюцца недахопы, заганы іх бацькоў.* Так, Пестэль рацыю меў тройчы: жывой вады не дасць скала, сава не родзіць сакала... (С. Дзяргай. На шашы энтузіястаў). У вас тут таксама некаторая зададзенасць... Ці свая філасофія: корань усіх учынкаў, добрых і благіх, крыецца ў тым, які жыццёвы багаж у чалавека за плячыма. Сава не прывядзе с[а]кала – гэта даволі пераканаўча (У. Дамашэвіч. Камень з гары). Хітрая, уся ў сваю маці... А тая, каб ты ведаў, пляменнік, да чаго злыднючая... Ідзе ўзмежкам, і калі не ўкрадзе з майго загона гарбуз ды не перакіне на свой – жывая не будзе. Усё ёй мала... От, здаецца мне, і Люда тое ж самае: сава не родзіць сакала, а такога ж чорта, як сама... (І. Капыловіч. Дача).

– *Насовіч,* с. 153: Сава не родзіць сакала; *Прыказкі,* кн. 2, с. 129: Сава не ўродзіць сакала; Сава не прывядзе сакала, а такую саву, як сама; Сава не родзіць сакала, а такога ж чорта, як сама.

**Салавей байкамі не сыты.** *Гл.* Салаўя байкамі (песнямі) не кормяць.

**Салаўя байкамі (песнямі) не кормяць.** *Размовамі сыты не будзеш. Кажуць, перапыняючы размову і запрашаючы госця да стала.* – Сябры мае, таварышы! – стараючыся перакрычаць сіплаватым голасам дружную грамаду, узняў угору абедзве рукі юбіляр. – Як кажуць, салаўя байкамі не кормяць... (М. Ваданосаў. Госці, называецца...). Па хаце пайшоў апетытны пах, і Мікола аж раптам перапыніў гаворку... – Сядайце бліжэй, салаўя байкамі не кормяць. Чым жа мне пачаставаць цябе? (В. Зуб. Надзейная апора). – Аднак салаўя песнямі не кормяць. – Іцка гукнуў: – Лэя! Да нас з дарогі госць зайшоў (І. Гурскі. Вецер веку). – Усё залежыць ад вас, – усміхнуўся палкоўнік. – Аднак песнямі салаўя не кормяць. Сільвестраў! – Слухаю... – Стол! – Усё гатова (А. Алешка. Дарогі без слядоў). От чалавек, калі не нагаворыцца ўдосталь, дык і не жыў. Людзі паесці хочуць, а ты... Песнямі салаўя не кормяць! (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). **Салавей байкамі (песнямі) не сыты.** [Агей Мінавіч:] Даўно я так ад душы не смяяўся! Які шчаслівы дзень у жыцці! [Ян Серафімавіч:] Салавей байкамі не сыты. Напоўніць чаркі, як сказаў паэт! (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы).

* [Мікіта:] Меджду протчым, мамаша, ці не далі б чаго закусіць нам, бо салавей аднымі песнямі сыт не бывае (Я. Купала. Тутэйшыя).

– *Ляцкі,* с. 39: Салаўя песнямі не накорміш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 191: Салаўя байкамі не кормяць; Салавей песнямі не сыт.

**Салдат спіць, а служба ідзе. 1.** *Кажуць жартаўліва пра салдата і тэрмін яго службы, куды залічваецца і час сну.* Служба ідзе паспяхова. Як у той прымаўцы – салдат спіць, а служба ідзе (Л. Левановіч. Якар надзеі). У афіцэраў свой клопат – вучыць, трымаць дысцыпліну і парадак, салдацкая філасофія – далёка ад начальства, бліжэй да кухні, салдат спіць, а служба йдзе. Вайсковы фальклор (В. Блакіт. Вяртанне на Саарэмаа).

**2.** *Гаворыцца як жартаўлівае апраўданне вымушанай бяздзейнасці каго-н. пры выкананні пэўных абавязкаў, што, аднак, не адбіваецца на аплаце яго працы, службы.* Мікола возіць начальніка Эдуарда Іванавіча Д., якога зараз чакае ў машыне. А таго няма. Але, як кажуць, салдат спіць, а служба ідзе (У. Саламаха. Пера-

кулены свет). Часам цётчын вадзіцель мог там прачакаць некалькі гадзін. Гэтаксама чакаў ён цётку і ля гасцініцы «Масква». «Салдат спіць – служба ідзе!» – казаў швейцарам (Л. Маракоў. 1975-ы).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 499: Салдат спіць, а служба ідзе.

**Салому еш, а фасону не губі.** *Нягледзячы на цяжкасці, умей трымацца з гонарам.* – Цяперака, не піўшы, не еўшы, слухай гэту трубільню [толькі што набыты радыёпрыёмнік] ды скачы ашалеўшы! – сказала Апанасіха... – Ат! З гэтага карысці як ад казла малака возьмеш! – падтрымалі яе суседкі і разам загаварылі, асуджаючы Апанаса. – І што ты з ёю рабіць будзеш? Хлеб яна табе дасць, труба гэта? – Салому еш, а фасону не губі! – адбіваў атаку Апанас. – Вам, бабачкі, толькі давай есці ды піці, а для галавы нічога не трэба... (А. Мрый. Алё, Алёна!).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 344: Салому еш, а хвост дзяржы дудкай; Хоць салому еш, а хвост дзяржы дудкай; Хоць салому еш, а фасон дзяржы.

**Сама сябе раба б’е, калі (што) нячыста жне.** *Самому ж даводзіцца адказваць, разлічвацца за недагляд, промах, нядобрае выкананне чаго-н. і пад.* – Што ж, нарабіў сабе лішняй работы? – Нарабіў, таварыш камандзір. – Памятаеш народную прыказку: сама сябе раба б’е, што нячыста жне. Думаю, што гаворка наша на падобную тэму будзе апошняя (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

– *Насовіч,* с. 146: Сама сябе раба б’ець, калі нячыста жнець; *Ляцкі,* с. 39: Сама сябе жнейка б’ець, калі нячыста жнець.

**Самая лепшая абарона – нападзенне.** *Гл.* Лепшы спосаб абароны – нападзенне.

**Сам заварыў кашу, <дык> няхай сам і расхлёбвае**. *Гл.* Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай.

**Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай.** *Сам распачаў што-н. клапатлівае, непрыемнае, сам і выкручвайся.* [Фёдар Мікалаевіч:] Дык што ж нам тады рабіць? Вас ці што назначыць галоўным інжынерам? [Русаковіч:] Я на гэта не прэтэндую, Фёдар Мікалаевіч. [Фёдар Мікалаевіч:] Відаць, так і прыйдзецца зрабіць. Самі заварылі гэту кашу, самі і расхлёбвайце (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). «Ага, заварыў, хлопча, кашу, – як бы нехта шаптаў Цітку на вуха. – Цяпер сам яе і расхлёбвай» (М. Гамолка. Лясная крэпасць). Званіў [Кібрыс]... Не са мною, а з табою хоча гутарыць... Зрэшты, і правільна, сама заварыла кашу – сама і расхлёбвай... (В. Блакіт. Час прылёту журавоў). **Сам заварыў кашу, <дык> няхай (хай)**

**сам і расхлёбвае.** Напалоханы [шахцёры]... Самі ж заварылі гэтую кашу, дык няхай самі і расхлёбваюць яе. Няхай пазнаюць, пачым фунт ліха (М. Аўрамчык. Падзямелле). [Паліцэйскі:] Званіла жонка Дзюрвіля. У іх дом уварваліся інваліды і рабочыя, схапілі Дзюрвіля і пацягнулі некуды. Прасіла дапамагчы... [Капітан:] Чорт з ім! Сам заварыў гэтую кашу, хай і расхлёбвае (А. Макаёнак. На досвітку).

* Перадайце, прапаршчык, гэтаму ідыёту, які хваліўся веданнем салдацкай душы і сваім уплывам на салдат, няхай сам сёрбае кашу, якую заварыў (І. Шамякін. Першы генерал). Не, брат, хоць ты і святы айцец, але разам заварылі кашу, давай разам і расхлёбваць. Не аднаму мне яна патрэбна была! (Р. Няхай. Гудкі абуджаюць вясну). Далі [журналісты] нейкі блытаны антынавуковы сенсацыйны матэрыял у газеце і заадно нас, навукоўцаў, абняславілі на ўвесь свет. А цяпер... просяць разабрацца. Самі кашу заварылі, а нам – сёрбай... (В. Гігевіч. Палтэргейст).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 466: Сама кашы наварыла, сама і еш.

**Сам не асамішся, калі бог не дасць.** *Пра залежнасць лёсу чалавека ад Божай волі.* Паводле гэтых [рэлігійна-філасофскіх] поглядаў, над светам стаіць бог, які наперад вызначае тое, што павінна адбыцца, і волю якога чалавек выконвае. «Сам не асамішся, калі бог не дасць», – гаворыць аб гэтым прыказка (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Насовіч,* с. 146: Сам не асамішся, калі бог не дасць.

**Сам не гам і другому не дам.** *Гл.* <I> сам не гам і другому не дам.

**Сам сіў, сіў, а дзеткі ціў, ціў.** *Кажуць пра пажылога чалавека, у якога дзеці зусім малыя.* [Андрэй] коратка расказаў, што пасля рэабілітацыі прыехаў у Мінск, атрымаў пакойчык і працуе завучам вячэрняй школы, ёсць жонка, пяцігадовая дачушка. Ён прыгадаў даўнюю прыказку: «Сам сіў, сіў, а дзеткі ціў, ціў» – і горка ўсміхнуўся (С. Грахоўскі. Так і было).

**Сам худ, а галава з пуд.** *Пра разумнага чалавека.* Якуб Якубыч Худ, у яго барада пад колер ліса і, як кажа прыказка, «сам худ, а галава з пуд» – чалавек разумны, нават мае лысіну (А. Куляшоў. Аманал).

– Магчыма, прыказка склалася на аснове такой самай загадкі пра бязмен.

– *Ліцвінка,* с. 74: Сам худ, а галава з пуд.

**Сарока з кола – дзесяць на кол.** *Гл.* Варона з куста, а пяць на куст.

**Сарока з куста – сорак на куст.** *Гл.* Варона з куста, а пяць на куст.

**Сарока на хвасце прынесла.** *Найчасцей ужываецца як жартаўлівы ці ўнiклiвы адказ на пытанне пра крынiцу навiн, чутак.* [Настуля:] Адкуль жа дзядзька гэта ведае, што расказаў? [Батура:] Сарока на хвасце прынесла (К. Крапiва. Партызаны). – А дзе ты ўсё гэта бярэш? – Сарока на хвасце прыносiць, – хiтра адказаў дзед Архiп (I. Гурскi. Лясныя салдаты). Чуў пагудку – сарока на хвасце прынесла, – што за каршэнь хочуць узяць тых, хто трохi замараны (В. Адамчык. I скажа той, хто народзiцца). Праўда, у вёсцы не-не дый пагаворвалi, што вiнаваты Сiдар у смерцi бацькi i дзядзькi Мар'янавых, ён навёў немцаў на iх хату. Але тут, як кажуць, што сарока на хвасце прынесла, да справы не падшыеш (В. Казько. Сад, альбо Заблытаны след рамана). – Назаўтра ўся вёска ведала, бабы языкамi абмывалi. – Адкуль яны ведалi? – Адкуль? Сарока на хвасце прынесла (Л. Левановiч. Чабор). Зноў [Юлiян] нешта прыдумаў. Ну i мастак жа ён на байкi! Не зразумееш – калi праўду кажа, калi жартуе. – Сарока на хвасце прынесла? – Сарока. А можа, i варона (Х. Жычка. Зброю бяруць сыны).

– *Насовiч,* с. 154: Сарока на хвасце прынесла; *Прыказкi,* кн. 2, с. 391: Навiну варона на хвасце прынясла.

**Сарока шчабеча – <то> гасцей кажа.** *Народная прымета пра з'яўленне нечаканых гасцей.* – То мы вас тады чакаем, Аўдоля Нiчыпараўна? Многа расказваць не трэба – з якога часу хату помнiце, як будавалася... Згода? – Добра, во толькi рукi памыю. Але ж ведала я, што прыйдзе нехта, бо як сарока шчабечыць – то гасцей кажыць. Сёння ўсю ранiцу па гародзе гойсала (А. Кажадуб. Старая хата).

– *Прыказкi,* кн. 1, с. 67: Сарока шчакечыць – гасцей кажыць; Сарока шчабеча – госць будзе.

**Свае людзi, памiрымся.** *Кажуць каму-н. з упэўненасцю, што змогуць дамовiцца памiж сабой, паладзiцца, разлiчыцца.* – Дык як жа яно, Цiхонка, будзе? Гэта ж, мусiць, i конiк будзе ўжо не мой, i кароўка будзе не мая? – Як на мой розум, дык што там лiчыцца – маё цi тваё. Свае людзi, памiрымся (К. Крапiва. Мядзведзiчы).

– *РБС,* т. 2, с. 366: Свае людзi – памяркуемся.

**Сваёй бяды нiкому не кажы, бо добры злякнецца, а злы пасмяецца**. *Гаворыцца як парада нiкому не расказваць пра сваю бяду*. Селянiн у творах пiсьменнiкаў мiнулага i сучаснасцi бывае скрытным, недаверлiвым, насцярожаным, асаблiва з малазнаёмымi

людзьмі... «Сваёй бяды нікому не кажы, бо добры злякнецца, а злы пасмяецца», «Пана слухай, а свой розум май» – раяць беларускія прымаўкі. Гэта тлумачыцца даволі моцнымі здзекамі з беларусаў з боку align рознага кшталту асімілятараў і дэнацыяналізатараў, якія навязвалі беларусам свае погляды, стыль жыцця (Беларуская думка. 2006. № 3)

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 446: Сваёй бяды нікому не кажы, бо добры злякнецца, а злы пасмяецца; *Федароўскі*, с. 28: Сваёю бядою нікому не жалься, бо добры збаіцца, а злы насмяецца.

**Свайго гарба ніхто не бачыць.** *Сваіх звычак, асаблівасцей характару, часцей адмоўных, чалавек не заўважае.* – То і ў вас, відаць, характар дай бог, настойлівы, – заўважыў Галуза. – Як жонка ні пярэчыла, а паехалі вучыцца... – Свайго гарба ніхто не бачыць, – усміхнуўся Саўка. – Аднак прыходзіцца варочацца... (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Янкоўскі,* с. 230: Свайго горба ніхто не бачыць; *Рапановіч,* с. 239: Свайго гарба ніхто не бачыць.

**Свайго лёсу не мінеш (не мінём).** *Функц. не зам.* **Сін.:** *Ад лёсу не ўцячэш; Суджанага і канём не аб’едзеш; Ты ў свет, і доля ўслед; Чаму быць, таго не мінаваць.* [Маці:] Разбурыць пан нашу хацінку! [Бацька:] Свайго лёсу не мінеш... Пойдзем тады па свеце, старая. Жабраваць будзем (В. Вольскі. Цудоўная дудка). А свайго ж мы лёсу не мінём ніколі: смерць усюды знойдзе... (Я. Колас. Прапаў чалавек).

– *Янкоўскі,* с. 199: Свайго лёсу не мінеш.

**Свайго не меўшы, трэба легчы (кладзіся) спаць не еўшы.** *Кажуць, калі немагчыма знайсці выйсце з цяжкага становішча і даводзіцца прымірыцца з абставінамі.* [Марыля:] Сягоння зышоў час наш выехаць, а мой нічога яшчэ сабе не прыстараўся. [Старац:] Дрэнна, вельмі дрэнна, калі так выходзіць. Свайго не меўшы, трэба легчы спаць не еўшы (Я. Купала. Раскіданае гняздо). – От, хадзіла ў Яцкаўшчыну, думала пазычыць грошай... – І пазычыла?.. – Дзе там... Свайго не меўшы, кладзіся спаць не еўшы (У. Дамашэвіч. Лявонава ноч).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 241: Свайго не меўшы, лажыся спаць не еўшы; Свайго не меўшы, сядзі не еўшы.

**Свату першая чарка і першая палка.** *Пра ролю свата ў шлюбным рытуале.* [Лявон:] А цяпер давайце за свата нашага, за старшыню! [Буйкевіч:] Ды што вы, што вы... [Лушка:] Не, не, старшыня! Гэта ж чэсць якая і дзецям нашым, і нам... [Лявон:] Як ка-

жуць, свату першая чарка. [Буйкевіч:]... і першая палка? [Лявон:] Калі што, дык і гэтага не купіць (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце). – Я думаю, мы не памылімся, калі дамо лейцы ў рукі Пятру Іванавічу Сухавею. Ён і брат бацьку, ён і сват, хай будзе і тамада. – Правільна! Свату першая чарка... – І палка! Палку не забывай... (П. Місько. Градабой). Звычайна ў ролі сватоў выступалі сваякі маладога ці суседзі, тыя, хто яго добра ведаў. Але, як правіла, жанатыя, не халасцякі. Свату ж першая чарка і першая палка!.. (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). – Ну і шалёны... Так і задушыць можна, – круціў шыяй Федзя. – Другі раз будзеш думаць, што гаварыць. – Ды ўжо ж. Свату і першая чарка, і першая палка... (А. Кудравец. Раданіца).

* – Кажы ўжо, каго на прыкмеце маеш? Калі што якое, дык можа сватам запросіш. – А свату або чарка, або палка, – падхапіла Зосьчына маці (А. Асіпенка. Кірыла Уласік).

– *Федароўскі,* с. 295: Свату першая чарка і першая палка; *Прыказкі,* кн. 2, с. 35: Свату першая чарка і першая палка.

**Свая бяда – не чужая.** Цяпер яму [Алесю] юрыст здаўся зусім прыстойным чалавекам. І з твару і манерай гаворкі. Вядома, свая бяда – не чужая (У. Шахавец. Дарога ў Бярозаўцы).

– *Ліцвінка,* с. 38: Свая бяда бліжэй за чужую.

**Свая кашуля (сарочка, рубашка) бліжэй да цела.** *Свае інтарэсы, патрэбы даражэйшыя, важнейшыя за чужыя.* Кожны хутчэй пра сябе думае. Вядома, свая кашуля бліжэй да цела (А. Чарнышэвіч. Світанне). – Пра іншыя калгасы я не думаў. Мяне свой непакоіў. – Вядома, свая кашуля бліжэй да цела. А мне трэба за ўвесь раён клапаціцца (А. Пальчэўскі. Гаспадары). Пакуль суд ды справа, рашыў [Журавінка] паклапаціцца пра сябе, як-ніяк – свая кашуля бліжэй да цела (М. Лобан. Гарадок Устронь). [Мусніцкі:] Не гарачыся, сын. Усе мы праліваем кроў толькі за саміх сябе. І кожнаму свая кашуля бліжэй да цела. Старая ісціна (П. Васілеўскі. Год дзевяцьсот сямнаццаты). Хіба ж не праўда, што свая сарочка бліжэй да цела? Хіба ж Грыбок, каб яму давялося, не зрабіў бы таго ж, што Васіль, хіба ж палез бы на ражон, на смерць... (І. Мележ. Людзі на балоце). Свая сарочка вам бліжэй да цела (М. Ткачоў. Згуртаванасць). Даўно ўжо Пшанічны прыглядаўся, чакаў зручнага выпадку, вагаўся і баяўся, але цяпер, трапіўшы ў тую мышалоўку, канчаткова рашыўся. Свая рубашка бліжэй да цела, а жыццё для яго даражэй за ўсё... (В. Быкаў. Жураўліны крык).

* [Дзюрвіль:] Зразумееў жа ты... Нарэшце зразумееў, што свая скура даражэй мне за сарочку, хоць яна таксама блізкая да цела... Тут вырашаецца мой лёс, лёс майго завода... (А. Макаёнак. На досвітку). Не будзе ў кутузаўцаў асаблівай зацікаўленасці ў лёсе комплексу. Маса прыбытку малая. Свая гаспадарка, як свая кашуля, будзе бліжэй да цела (І. Дуброўскі. Буйным крокам). А інакш усё, што мы робім, будуем, выконваем і перавыконваем планы, – усё гэта страціць сэнс, калі людзі не будуць шанаваць адзін аднаго, калі кожны будзе дбаць толькі пра сябе, пра сваё бруха, пра сваю кашулю, якая бліжэй да цела... (Л. Левановіч. Якар надзеі).

– *Ляцкі*, с. 40: Свая кашуля бліжэй к целу; *Прыказкі,* кн. 1, с. 377: Свая сарочка бліжэй да цела; Свая рубашка бліжы к целу.

**Сваяк сваяка пазнаў здаляка.** *Людзі, падобныя па якіх-н. звычках, якасцях, дасягаюць поўнага паразумення.* **Сін.:** *Жабрак жабраку відзён па кійку; Рыбак рыбака бачыць здаляка.* Вінаградаў адразу наструніў вушы, грудасты певень у садку, прыслухоўваючыся, задзёр дзюбу, і тое, што сваяк сваяка пазнаў здаляка, не выклікала сумнення: гэта яна, чорная курыца! (В. Гардзей. Блаславёныя зёлкі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 139: Сваяк сваяка бачыць (пазнае) здаляка.

**Свая ношка не цяжкая (не цягне).** *Тое, што робіцца для сябе, не здаецца цяжкім.* У адной руцэ сумка з вучнёўскімі сшыткамі, у другой – напоўнены да верху поліэтыленавы пакет. Аднак, як кажуць, свая ношка не цяжкая (А. Куліцкі. Фількава грамата). – Столькі навезла, як у цябе і сілы хапіла давалачы?.. – А нічога, як той казаў, свая ношка не цягне, – адказала маці (Л. Арабей. Горкія ягады). – Дайце мне каторага [блізнюка]. Паднясу... – Нічога. Свая ношка не цяжкая. Хлопцам выпрабаванне (Л. Левановіч. Турка).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 284: Свая ношка не цяжка.

**Свая рубашка бліжэй да цела.** *Гл.* Свая кашуля (сарочка, рубашка) бліжэй да цела.

**Свая рука ўладыка.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, хто дзейнічае толькі па сваім жаданні, бярэ, прысвойвае і г.д. тое, што хоча.* Кожная ж палічка ў шафах, кожная шуфлядка некалі былі забіты імпартам: касцюмамі, сукенкамі, абуткам, markнымі дарагімі і прыгожымі дробязямі. Свая рука ўладыка, дырэктар універмага магла дазволіць сабе любы тавар... (С. Бязлепкіна. У межах Нагорнай пропаведзі). Крыху пазней арыштавалі і Лагуна. Ад яго прывезлі ў раён дзве грузавыя машыны дыхтоўнай мяккай

мэблі і іншага дабра, нарабаванага ў панскіх маёнтках. Не дзіва – свая рука ўладыка, кажуць людзі. Быў першым старшынёй у гміне пасля вызвалення і выкарыстаў гэта ў сваю карысць (М. Машара. Старонкі летапісу). За выключэннем загадчыка аддзела аргпартработы (член бюро абкама) і фінансава-гаспадарчага (свая рука ўладыка), ніхто персанальных машын не меў, карысталіся дзяжурнымі (В. Блакіт. Уваскрасенне ўчарашняга дня).

– Відаць, запазычана з рускай мовы: *Своя рука влодыка;* параўн. і ва ўкраінскай мове: *Своя рука владика.*

– *Насовіч,* с. 147: Свая рука ўладыка; *Ляцкі,* с. 40: Свая рука – уладыка; *Прыказкі,* кн. 1, с. 147: Свая рука – уладыка: як зробіць, так і добра.

**Свая сарочка бліжэй да цела.** *Гл.* Свая кашуля (сарочка, рубашка) бліжэй да цела.

**Свая справа, свая і рада.** *Самі і вырашым сваю справу.* – Я табе брат ці не? – Брат. – Ну і ты мне брат. Свая справа, свая і рада. Што мы з табою скажам, тое і будзе, ніхто тут не паправіць (К. Крапіва. Мядзведзічы).

– *Янкоўскі,* с. 231: Свая справа, свая і рада.

**Свая сярмяжка не цяжка.** *Сваё лягчэйшае ці больш прымальнае, больш прыемнае, чым чужое.* – А пра мянушку, брат, ты ўжо нікому не кажы. – Пра якую мянушку? – Ну, што я там нейкі Цудатворца. – Зробіш даклад – не скажу, – смяюся я. – Ды сам жа ты і выдумаў яе. Свая сярмяжка не цяжка (Я. Брыль. У Забалоцці днее). «Свая сярмяжка не цяжка», – ёсць такая показка. Так мне лёгка было з сынком, прыемна яго гадаваць, выхоўваць (С. Лобач. Журба прылегла).

– *Насовіч,* с. 147: Свая сярмяжка не цяжка; *Прыказкі,* кн. 1, с. 268: Свая сярмяжка нікому не цяжка; Свая сярмяжка не важка.

**Свет не без добрых людзей.** *Кажуць з надзеяй, што чалавека не пакінуць у бядзе, дапамогуць яму.* [Герасім:] Прыказка недарма кажа: свет не без добрых людзей. Чужы чалавек, а прыняў у сваё сэрца і нашу бяду (У. Галубок. Белы вянок). Не тужы пра мяне вельмі. У мяне яшчэ вядуцца грошы, у бляхарні заробленыя. І свет не без добрых людзей, абы рукі ды ногі здаровыя. Зараблю, мама, неяк жыць буду (Р. Мурашка. Сын). Калі нельга будзе перапраўляцца на другі бераг, падумаем, дзе нам спыніцца, пажыць. Свет не без добрых людзей (Б. Сачанка. Вялікі Лес). «Усё ж свет не без добрых людзей», – думаў я пра сясцёр з удзячнасцю і стараўся адплаціць ім дабром (У. Кузьмянкоў. Падыход).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 371, кн. 2, с. 256: Свет не без добрых людзей.

**Свінні не да парасят, калі яе смаляць.** *Гл.* Не да парасят, калі свінню смаляць.

**Свіння лужыну (лужу, гразь) знойдзе.** *Праст. Кепскі чалавек знойдзе месца, дзе можна выявіць сябе адпаведным чынам.* [Таня:] Не жыве ўжо тут ваш Віталь. [Міхаліна:] Авой! Разышліся! [Таня:] Не зусім. Разыходзяцца па ўзаемнай згодзе. А ён згоды не пытаўся: узяў ды пайшоў... [Міхаліна:] Ай-яй-яй... Убіўся-такі. Свіння гразь знойдзе (Г. Каржанеўская. Вірус). – Ну, глядзі. Я пайшла. Толькі не пі, – не забылася, аднак, яго папярэдзіць. – З кім? За што? – Свіння знойдзе гразь (Вожык. 1993. № 11). «І дзе ён свой абутак у ідэальнай шведскай чысціні ўмудрыўся так страшэнна запэцкаць? – здзівіўся я. – Гэта ж як трэба было пастарацца? Хоць што і казаць? Свіння ўсюды гразь знойдзе. Нават у Швецыі» (Л. Маракоў. First Class).

* Будзіла гэты... з Лясінаў, нягодны – страх. От яго мужыкі баяліся. Дык ён цяпер у паліцыі ў мястэчку. Найшла свіння лужыну (В. Быкаў. Сотнікаў).

– *Ліцвінка,* с. 121: Свіння гразь знойдзе; Свіння лужу заўсёды знойдзе, нават у сухое надвор’е.

**Свой біся, рубайся, а чужы не мяшайся.** *Кажуць пра таго ці таму, хто ў спрэчку блізкіх людзей умешвае іншых асоб або сам умешваецца ў чужую справу.* Мяне раздражнялі матчыны «пацеры», бо яна мела рацыю, але выказвала свае прэтэнзіі пры другіх. Гэтага не дазвалялася рабіць. Вунь і сусед, Юзік Карыта, гаворыць: «Свой біся-рубайся, а чужы не мяшайся!» (У. Калеснік. Доўг памяці).

– *Ляцкі,* с. 40: Свой біся, рубайся, чужы не мяшайся; *Янкоўскі,* с. 132: Свой сячыся, рубайся, а чужы не мяшайся; *Прыказкі,* кн. 2, с. 140: Свой з сваім дзярыся, чужы не мяшайся.

**Свой за гарой, а сусед у акне.** *Пра ўзаеміны з добрым суседам, калі побач няма сваіх, блізкіх, родных.* [Ігнась:] Учора тапіў лазню. Хлопцы мае нешта не прыехалі [з горада на выхадныя дні]. Дык суседа запрасіў. Заўчора мы з ім дроў прывезлі. Нездарма людзі кажуць: свой за гарой, а сусед у акне... Папарыліся, па чарцы зрабілі (Л. Левановіч. Шорты).

**Свой свайго пазнаў ды на пачостку пазваў.** *Гаворыцца, часам жартаўліва, пра сустрэчу даўніх знаёмых, калі адзін запрашае другога на пачастунак.* Наша гутарка адбывалася ў другой палове жніўня. «Вось і мой палац, Валянцін Іванавіч». – «Даўно?» –

«Што?» – «Будаваны». – «Даўным-даўно». «Свой свайго пазнаў ды на пачостку пазваў». У хаце сустрэлі нас муж і жонка (В. Лобан. Чужая – і мілая).

– *Насовіч,* с. 147: Свой свайго пазнаў ды й на пачостку пазваў (паясняецца так: «насмешка над пацярпелым ад свайго прыяцеля пабоі»); *Ляцкі,* с. 40: Свой свайго пазнаў і на піва пазваў; *Федароўскі,* с. 67: Чорт д'ябла пазнаў, на піва пазваў.

**Святое месца пустым (-ое) не бывае (не будзе).** *Функц. не зам. Заўсёды знойдзецца той, хто зойме вызваленае месца на службе, рабоце і інш.* **Сін.:** *Варона з куста, а пяць на куст.* Дзён колькі легкавушка.. была без гаспадара. Але святое месца пустым не бывае: варона з кала, сем – на кол. Распіхнуўшы локцямі процьму сапернікаў, на дужа пашаноўны і прыбытковы «кол» усеўся Петрукоў... (В. Гардзей. Уратуй ад нячыстага). А месца святое не будзе пустое, і хочуць яго не святыя сабе захапіць, як і цёплае тое, якое ніколі не стыне. І вострая зайздрасць таксама тупая. На месца святое ахвочых хапае (Р. Барадулін. А месца святое...).

* Адно месца ў палаце вызвалілася... Мы прызвычаіліся ўжо да строгіх клінічных парадкаў і адна да адной. А якая будзе тая, што зойме ложак у куце? «Свята месца пуста не бывае»... (Е. Лось. Прадставіліся). Месца тут сёння не святое, аднак пустым не будзе, любому прапануем – не адмовіцца (І. Шамякін. Злая зорка).

– *Насовіч,* с. 148: Святое месца не будзець пуста; *Рапановіч,* с. 72: Святое месца пустым не бывае.

**Святы Пакроў, благаславі на кроў.** *Кажуць, збіраючыся рэзаць жывёлу; гэта звычайна рабілася на Пакровы (Пакроў) – свята ў хрысціян, якое прыпадае на 1 кастрычніка (па старым стылі).* Пакровы як бы выдаюць дазвол рэзаць жывёлу на мяса: святы Пакроў, благаславі на кроў (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Насовіч,* с. 148: Святы Пакроў, благаславі на кроў.

**Сей у гразь – будзеш князь.** *Пра добрыя вынікі і багацце ад ранняй, у непрасохлую глебу, сяўбы.* Адверне [плуг] скібу, дык хоць распісвайся на ёй, пячатку ляпай. Трактары калёсныя грузлі... Х-хэ, сей у гразь, будзеш князь... Яшчэ ж які князь! З голымі лыткамі... Трэба не ў гразь, трэба, каб за плугам пыл курэў... (П. Місько. Такое сліпучае сонца!..). Я больш, чым хто-небудзь, зацікаўлены, каб хутчэй і лепш адсеяцца: сей у гразь – будзеш князь. Каму не хочацца быць князем? (В. Шырко. Сцяжына да людзей). Авёс мы сеем як можна раней і супакойваем сябе: «Авёс сей у гразь – будзеш князь» (Я. Сіпакоў. Наша флора).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 127: Сей авёс у гразь – будзеш князь; Кінь мяне ў гразь, то будзеш князь.

**Села Паланея, думала, што паранее.** *Гаворыцца як папрок ці асуджэнне каго-н. за тое, што зусім не гатовы да чаго-н., спазніўся зрабіць што-н.* – Ён паслязаўтра едзе. – А божачкі! Паслязаўтра? Дык чаго мы сядзім? Села Паланея, думае, што паранее! Не сабрана ж нічога! Ты, сынок, на гару злазь, сундучок паглядзі, мо памыць яго трэба, а то пэўна, мышы лазілі... Штаны ж трэба залатаць, нацельнае паглядзець... (М. Гіль. Вяртанне).

**Сем бед – адзін атвет.** *Рызыкнём, а калі прыйдзецца адказваць, то за ўсё адразу. Гаворыцца, калі хто-н. рашыў зрабіць нешта рызыкоўнае і гатоў несці адказнасць за гэта.* **Сін**.: *Ці за адну нагу вісець, ці за дзве – адна ласка*. [Навум:] Бяды ж горшай не будзе; дай ну ж пець да выспеваць усю праўду. У пана аж вушы павялі. Думаю сабе: сем бед, да адзін атвет. Чаго тут маўчаць? (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – Трэба нейкі час пачакаць... – Каб паліцыя адумалася? «Сем бед – адзін атвет»... (Ц. Гартны. Сокі цаліны). **Сем бед за раз – адзін адказ.** Камісія, прысланая інстытутам, закончыла расследаванне і, мабыць, як ён [Васько] і чакаў, абвінаваціла калгас. «Інакш і быць не магло, – падумаў ён. – Дзе ўжо яны возьмуць віну на сябе. Ну, і ліха з імі. Сем бед за раз – адзін адказ» (А. Асіпенка. Непрыкаяны маладзік).

– Відаць, запазычана з рускай мовы: *Семь бед – один ответ.*

– *Насовіч,* с. 148: Сем бед, адзін атвет; *Ляцкі,* с. 41: Сем бед – адзін атвет; *Федароўскі,* с. 15: Сем бед – адзін атвет.

**Сем бед за раз – адзін адказ**. *Гл.* Сем бед – адзін атвет.

**Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было. 1.** *Гаворыцца іранічна пра якія-н. агародныя расліны або хлебныя ці кармавыя злакі, калі і без іх можна абысціся ў гаспадарцы.* – Таксама культуру знайшлі. Бура-кі! – хіхікалі больш свавольныя. – «Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было». Жылі ж неяк і без буракоў... (В. Праскураў. Святая сівізна). «Сем год мак не радзіў, а голаду не было». Гэта – цэлая аповесць, у якой ёсць усё: гумар, іронія, добрая ўсмешка, годнасць, нацыянальная адметнасць, духоўнасць, дабрыня і мудрасць (Я. Сіпакоў. Дні за спіною).

**2.** *Дагэтуль абыходзіліся без якіх-н. навыкаў, новаўвядзенняў, і цяпер яны непатрэбныя. Пра непрымальнасць чаго-н. новага.* Рэкламны шчыт на вуліцах горада: «Вырос? Купи себе офис!» Ага, мусіць, і праўда: сем год мак не радзіў, а голаду не было... (Я. Сіпакоў. Дні за спіною).

– *Ліцвінка,* с. 121: Сем гадоў мак і ўкроп не радзілі, а голаду не было.

**Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.** *Кажуць іранічна пра таго, хто не ведае чаго-н. простага, бяссрэчнага, агульнавядомага.* – Хм, кукуруза – кіёўкі? – А нягож... – Свякруха хітнула галавой, пасміхнулася. – Во, сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста... (А. Масарэнка. Свякруха і нявестка). **Сем гадоў (год) нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста. –** Хто яна, гэтая самая Прытыцкая? – Як хто? Ты як тая нявестка ўсё роўна: сем год жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста. Прытыцкай не ведаеш? (Я. Ермаловіч. Пачыналася вясна).

– *Федароўскі,* с. 202: Сем лет нявестка была, а не ведала, што сучка без хваста.

**Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала, што ў свёкра сучка без хваста**. *Гл.* Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала, што сучка свёкрава без хваста.

**Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.** *Функц. не зам. Перш, чым зрабіць што-н. сур'ёзнае, старанна абдумай.* У важных пытаннях Філатовіч трымаўся прымаўкі: сем разоў адмерай, адзін раз адрэж (М. Паслядовіч. Цёплае дыханне). – Тут працуюць і другія групы, кантралююць нас, а мы іх... – Гэта закон вайны... Сем разоў адмер, адзін раз адрэж (Р. Няхай. Туман над стэпам). – Дык мо іншым разам памяркуем?.. – Канечне, тут сем разоў адмерай – адзін раз адрэж (А. Капусцін. Зярняты на далоні). Перш чым рабіць, трэба падумаць. Народ гэта даўно зразумеў. Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж. І ўся мудрасць (Л. Леванові. Зямля і людзі). Там, у візіры, праглядвалася сузор'е накшталт Арыёна-прыгажуна – таго самага, аб якім так хараша пісалі паэты. Але ці сапраўдны Арыён гэта? «Сем разоў адмерай – адзін раз адрэж», – згадалася раптам прыказка... (М. Панасюк. Арыенцір – сузор'е Арыён). **Сем разоў (раз) адмерай, а раз адрэж.** [Маша:] Мусіць, яшчэ раз хочуць паглядзець, што-небудзь паправіць. Сем раз адмерай, а раз адрэж. Куды спяшацца? (І. Гурскі. Чужы хлеб). Прымаўку «Сем разоў адмерай, а раз адрэж» звычайна ўспамінаюць не перад тым, як узяцца штонебудзь рабіць, а пасля таго, як работа зроблена, і прытым кепска (Б. Сачанка. Манпансье з гарчыцаю).

* Яго асцярожнасць, разважлівасць, уменне «сем разоў адмераць, пакуль рэзаць» хараша ўраўнаважвала яго, Максімаву, выбу-

ховасць і размашыстасць, жаданне секчы любы вузел (І. Шамякін. Атланты і карыятыды). Толькі не зарывайся. Сем раз адмерай, перш чым адрэзаць... (У. Дамашэвіч. Я шукаю бацьку). Калі ў мірных умовах мы мералі сем раз, перш чым адрэзаць, то цяпер трэба будзе мераць па меншай меры сто раз (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). З налёту вырашаць – не дзела. Тут ты праўду кажаш... Думай, сем разоў мерай. Ніхто ў патыліцу не гоніць (П. Місько. Градабой). Мо і на самай справе трохі спаролі гарачку з гэтым узбуйненнем? Магчыма... Ва ўсякім разе, перш чым рэзаць, трэба было сем раз адмераць (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 462: Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж; Сем раз адмер, а раз адрэж.

**Сем разоў адмерай, а раз адрэж.** *Гл.* Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.

**Сёрбай юшку, на дне гушча.** *Кажуць іранічна пра вадзяністую, вельмі рэдкую, негустую страву.* Не спяшаючыся, Янка лыжкаю вывудзіў з баланды зялёны шпінат, а потым, каб трохі абагрэць астылае цела, нагбом выпіў цёплы недасолены ўзвар. Ухмыляючыся, успомніў прымаўку: «Сёрбай юшку, на дне гушча». А тут ніякай гушчы (М. Аўрамчык. Падзямелле).

– *Раманаў,* с. 308: Сёрбай юшку, на дне гушча.

**Сівізна не ўкарызна.** *Кажуць пра старога, сівога, але яшчэ моцнага чалавека.* На вёсцы кажуць: «Вунь старая Аляксандра – пад дзевяноста ёй, а яна яшчэ і чарку на хрэсьбінах вып’е і станцуе. Сівізна не ўкарызна» (М. Тычына. Бабуля Аляксандра).

– *Насовіч,* с. 149: Сівізна не ўкарызна.

**Сівізна ў бараду, а чорт у ляшкі.** *Гл.* Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.

**Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.** *Кажуць з насмешкай пра пажылога мужчыну, які пачынае цікавіцца жанчынамі.* [Ганна Паўлаўна:] Такі ціхоня, размазня! Хто б гэта мог падумаць! Ха-ха-ха. [Гарлахвацкі:] Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). Баюся я, што, астаўшыся адзін, ты зусім, як той казаў, пакоцішся ў балота, у гразь. Цяпер якая жытка, скажы? Чаго табе не хапала. Дык у цябе ў галаве ўсё вечарынкі, гарэлачка. Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну (А. Чарнышэвіч. Музыка). **Сівізна ў валасы (у галаву), <а> д’ябал (бес) у рабро**. – Не разумееш? Ах, які анёл! Сакратарка твая хвалёная-расхваленая. Няшчасная ўдава, акрамя працы і дзяцей, нічога не ведае. – Ліза! Як не сорамна! У такія гады... – Сівізна ў валасы – д’ябал у рабро.

Так і ў цябе. Здорава падбіраеш кадры, таварыш Ігнатовіч! Не забывай, на гэтым вельмі многія гарэлі (І. Шамякін. Атланты і карыятыды). – У вас, здаецца, сын дарослы. – Узяў грэх на душу. Сівізна ў валасы, а бес у рабро (І. Навуменка. Вецер у соснах). [Арына:] Што на гэты раз? [Іван:] «Сожительствую» з сакратаркай... [Арына:] А бог цябе ведае. Сівізна ў галаву – д'ябал у рабро (А. Петрашкевіч. Соль). **Сівізна ў бараду, а чорт ў ляшкі. –** Я, чалядкай у краўца Масея! Ад яго! – Масея? Ты не хлусіш? Дык яму ж гадоў сорак, дый жонка ёсць! Во халера! Сівізна ў бараду, а чорт у ляшкі! Як жа ты? (А. Мрый. Працоўны дзень савецкага лекара).

* У бараду сівізна, пад рабрыну – нячысцік. Ды восень, яна – не вясна, спадае фігавы лісцік (Р. Барадулін. Пра сівізну і рабрыну).

– *Насовіч,* с. 149: Сівізна ў бараду, а чорт у ляшкі; *Прыказкі,* кн. 2, с. 226: Сівізна ў бораду, а чорт у рабро; Седзіна ў галаву, а бес у рабро.

**Сівізна ў валасы, <а> д'ябал у рабро.** *Гл.* Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.

**Сілай мілы не будзеш.** *Гл.* Насільна мілы (міл, любы, люб) не будзеш.

**Сіла салому ломіць.** *Сіла, улада і пад. прымушаюць падпарадкавацца, скарыцца, адступіць.* [Нагляднік:] А на чым скончылася [бойка]? [Стораж:] Я яму бакі наламаў. [Нагляднік:] О! Я разумею... Сіла салому ломіць... (У. Галубок. Апошняе спатканне). Сам ведаеш, сіла салому ломіць. Так што дарэмна ты спадзяешся на бальшавікоў. Не вернуцца яны (І. Чыгрынаў. Апраўданне крыві). Як ні ўпарцілася Філіпкава.., ды ўсё ж, як гаворыцца, сіла салому ломіць – угаварылі яе на высяленне, вывезлі з Малінаўкі (В. Гігевіч. Кентаўры). Сіла ж салому ломіць. Прыцісне гора, то і цябе з дому выпраўлю ў людзі. Грамаце ж ты яшчэ не развучыўся? Канторшчыкам станеш, жывую капейку ў дом прынясеш... (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Насовіч,* с. 149*:* Сіла салому ломіць.

**Сіраце жаніцца, дык і ноч малая.** *Гл.* Як сіраце жаніцца, дык і ноч (ночка) кароткая (малая).

**Сіраце прыкіпіць (дакіпіць) у жываце.** *Бедны ці бяспраўны, неўплывовы чалавек мусіць прымірыцца з тым, што ёсць.* Вядома, калі б [у юшку] перцу ды лаўровага лісту – яшчэ лепш. А то ёсць у каторых мускатны арэх... Ат, сіраце – прыкіпіць у жываце! Не дай божа горшай бяды, як юшка без таго арэха ці перцу... (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). Бо мне ведаеш як? Як той сіраце...

дакіпіць у жываце! Вось так! Ужо такі трактар падсунулі, што толькі тое і раблю – або гляджу, або мажу! (К. Каліна. Бярэзіна).

– *Федароўскі,* с. 278: Сіраце дакіпіць і ў жываце; *Прыказкі,* кн. 2, с. 104: Сіраце дакіпіць і ў жываце.

**Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы.** *Сказанае каму-н. пад сакрэтам становіцца вядомым для ўсіх.* **Сін.:** *Кума куме, а кума па ўсім сяле; Кумка кумцы па сакрэту, а кумка – усяму свету.* [Хмара:] Браткі, нехта накляпаў. А скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы (І. Гурскі. Новы горад).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 394: Скажы адной курыцы, а яна ўсёй вуліцы.

**Скажы мне, з кім ты знаёмы, і я скажу, хто ты.** *Гл.* Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.

**Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.** *Па прывычках, поглядах тваіх сяброў няцяжка вызначыць і твае прывычкі, погляды.* Жанчына, ідучы, наглядала, як Сярго лёгка перабіраўся з купіны на купіну, скарачаючы шлях. «І гэты таксама, відаць, з арлінага племя, – падумала Марыя Іванаўна. – Недарма кажуць: скажы, хто твае сябры, і я скажу, хто ты» (І. Гурскі. Перад бурай). Заўсёды, калі мой герой гаварыў пра сваіх сяброў, таварышаў па змаганню, калі ў яго знешне спакойным голасе я чуў задушэўныя ноткі маладога захаплення і мудрай удзячнасці долі, я ўспамінаў міжвольна першыя словы вякамі праверанай прыказкі: «Скажы мне, хто твае сябры...» (Я. Брыль. Партрэт старэйшага таварыша). Пасля ўчарашняга вечара мне стала не па сабе... Як я жыла?! Асабліва апошнія гады. Добра, што яшчэ інстытут закончыла... З кім сябравала?! Кажуць, скажы, хто твой сябра, я скажу, хто ты... (Л. Марушка. Сутыкненне). Мікола смяецца: – Няхай ведае Галінка, хто твой сябар. Філосаф, брат, сказаў правільна: скажы мне, хто твой друг, я скажу, хто ты... (М. Пянкрат. Вясна належыць мне). **Скажы мне, з кім ты знаёмы, і я табе скажу, хто ты. –** Каго ты хочаш у дурнях пакінуць? – зняважліва пытае пісар. – Скажы мне, з кім ты знаёмы, і я табе скажу, хто ты, – прыводзіць ён вядомы афарызм (Я. Колас. На ростанях).

– Калька з іспанскай мовы: *Dime con guien andas y te dive guien eves.* Паходзіць з рамана «Дон Кіхот» (1605–1615) іспанскага пісьменніка Мігеля дэ Сервантэса Сааведры (1547–1616).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 385: Скажы, хто твой таварыш, я скажу, хто ты.

**Сказана – зроблена.** *Функц. не зам. Гаворыцца, калі чыё-н. рашэнне або намер адразу ж выконваецца, калі слова не разыходзіцца са справай.* Хутчэй на Нарач! На паляванне без стрэльбы. Буду там наглядаць за жыццём дзікіх птушак. Сказана – зроблена (В. Вольскі. Падарожжа па краіне беларусаў). – Прапаную зайсці ў кафэ, – сказаў Саша. – А на правах старэйшага абмяркоўваць прапанову не дазваляю: сказана – зроблена (Э. Ярашэвіч. Дзень далёкі і блізкі). – Гэта можна лічыць абяцаннем?.. – Усё. Сказана – зроблена, – энергічна і весела сціснуў вялізны свой кулак Змітровіч (Я. Радкевіч. Антаніна). [Брыгадзір] ламаў галаву, ламаў, прыдумаў: «Касец косіць у адзін бок, назад каса ідзе ўхаластую. А што, калі касіць на абодва бакі?!» Сказана – зроблена (М. Тычына. Дажынкі).

– Калька з лацінскай мовы: *Dictum (as) factum*.

– *Насовіч,* с. 149: Сказана – звязана; *БРС,* т. 2, с. 465: Сказана – зроблена.

**Скачы, уража, як пан кажа.** *Гаворыцца, калі хто-н. мусіць рабіць тое, што загадвае ўладны чалавек.* Канец канцом мы сцямім і схамянёмся па часе, што нарабілі сабе клопату, але будзе позна. Нас заўсёды запыняць і скажуць: «Не верадуй, васпан, – скачы, уража, як пан скажа!..» (Я. Лёсік. Нашы патрэбы). Людзі.. рабілі несправядлівыя рэчы са спакойным сумленнем, а другія жылі ў беднасці, вечнай працы, холадзе, паняверцы, лічачы гэта за нармальны стан. Да бога далёка, да цара высока, скачы, уража, як пан кажа... (А. Уласік. Дні жыцця).

* [Камісар:] Хлопцы, клічце дзевак ў танцы! Так сказаў наш пан каханы. [Навум:] Добра прыгаворка кажа: вяліць пан, то скачы, уража! (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч,* с. 149: Скачы, уража, як пан кажа; *Ляцкі,* с. 41: Скачы, уража, як пан кажа; *Федароўскі,* с. 321: Скачы, уража, як пан кажа.

**Сквапнасць (прагнасць) фраера згубіла.** *Кажуць пра таго ці таму, хто з-за скваапнасці застаўся ў пройгрышы, пацярпеў няўдачу.* Паўлаў сустрэў нас здзеклівай зневажальнай усмешкай, голас яго быў ненатуральна спакойны. – Прагнасць фраера губіць. Вось так. Усё проста. – Пры чым тут прагнасць? – Да пры тым. Па сто пашкадавалі, па пяцьсот [рублёў] згубілі (І. Клімянкоў. Рацыяналіст). [Антось:] Не нападай, Тарасе, ніхто цябе не паліў. Не трэба было самагонку гнаць. [Тарас:] Не гнаў я самагон. Не п’ю яго. Мо перабраў з вугалем, больш даў. [Іван:] Гэта называецца «скваапнасць фраера згубіла» (Г. Марчук. Вясёлыя, бедныя, багатыя). Ка-

жуць, сквапнасць фраера згубіла... Атавар гэтыя грошы ці перавядзі куды-небудзь за бугор, як гэта робяць вопытныя мммэшнікі, любавацца б хлопцам экзотыкай з акон уласных катэджаў дзе-небудзь на Кіпры... (Вожык. 1977. № 4). Чуткі пра правяральшчыкаў з хуткасцю радыё разнесліся па ўсіх кутках. Гандляры сталі абачлівымі... Ды сквапнасць фраера згубіла. Ля чарговай палаткі «дэльтанцаў» чакалі дужыя хлопцы з някупленымі пасведчаннямі (У. Правасуд. Квартэт). – Даруйце... Я спазніўся. Неабходна было з'ездзіць, а трамвай гэтак павольна... – Чаму не злавіў таксі? – Дык... а дзе ж... пакуль зловіш... – Сквапнасць фраера згубіла (У. Клімковіч. Не жартуй з кампосцерам).

**Скончан баль – і дудкі ў торбу.** *Гл.* Закончан (скончан) баль – і дудкі ў торбу.

**Скончыў (кончыў) дзела – гуляй смела.** *Гаворыцца з адабрэннем пра выкананне працы і заслужаны адпачынак.* У мяне парадак такі: скончыў дзела – гуляй смела (І. Шамякін. У добры час). Раней, бывала, Шаргун, сцягваючы з рук у канцы рабочага дня брызентавыя рукавіцы, казаў: «Скончыў дзела – гуляй смела» (М. Гіль. Вяртанне). – Кончыў дзела – гуляй смела. – Правільна, мой хлопчык (А. Цяжкі. Дзе мой дом?). Прысеў да тэлефона, набраў дамашні нумар. – Прывітанне, Алёшка. Урокі зрабіў? Не пачынаў? Чаму? Салдацікі пачакаюць, выхадны, кажаш, вялікі... Помніш угавор? Во-во. Кончыў дзела – гуляй смела. Дзела, сынок, найперш (І. Макаловіч. Рэха даўняй стычкі). – У мяне электрычка праз гадзіну. – І цудоўна, Яўхім Назаравіч. Праедзем разам. Думаю, што вы не супраць? – Чаго ж, калі для дзела трэба! Яно павінна быць усюды так: кончыў дзела – гуляй смела (М. Парахневіч. Прыгарадная камандзіроўка).

– *Ляцкі,* с. 18: Кончыў дзела – гуляй смела; *Прыказкі,* кн. 1, с. 179: Кончыў дзела – гуляй смела.

**Скора каты робяцца, ды сляпыя родзяцца.** *Гл.* Хутка (скора) каты робяцца, ды сляпыя родзяцца.

**Скора састарышся, як усё будзеш ведаць**. *Гл.* Будзеш усё ведаць, хутка пастарэеш.

**Скоры паспех – людзям на смех.** *Гл.* Паспех – людзям на смех.

**Скрыплівае дрэва доўга скрыпіць.** *Гл.* Скрыпучае (скрыплівае) дрэва доўга скрыпіць (стаіць).

**Скрыпучае дрэва жывучае.** *Гл.* Скрыпучае (скрыплівае) дрэва доўга скрыпіць (стаіць).

**Скрыпучае (скрыплівае) дрэва доўга скрыпіць (стаіць).** *Чалавек хваравіты ці такі, што прытвараецца хваравітым, доўга жыве.* Што ні кажы, а [айчым] паранены на вайне. Рана хоць і загаілася, але даймала яму ўвесь час. Праўду, мабыць, кажуць – скрыплівае дрэва доўга скрыпіць... (І. Капыловіч. Айчым). – Ці мала хто жыве за Рысавам-Барысавам, мне шэсцьдзесят гадочкаў, а ледзьве хаджу, а цябе і калом не заб'еш, – заступаецца за жанчын маці. – Ледзьве ха-а-джу-у, – перадражнівае бацька, – скрыпучае дрэва доўга стаіць (В. Шырко. О, sancta simplicitas!). **Скрыпучае дрэва жывучае.** – А як ваша здароўе? – Скрыпучае дрэва – жывучае. Толькі адаспацца няма часу (І. Гурскі. Вецер веку). **Скрыпучая вярба два вякі жыве.** – Ке-хе, ке-хе, ке-хе! – неяк ненатуральна закашляўся Асон. – Парахня з мяне ўжо сыплецца, я во – ледзь дачоўп. «Скрыпучая вярба два вякі жыве», – хацеў сказаць Міхаль, але не стаў крыўдзіць Асона (А. Кандрусевіч. Пад рэактыўным гулам).

* [Хворы на сухоты лёгкіх і касцей, Р. Мурашка 28. 03. 1944 г. з партызанскага атрада пасылае ў Маскву К. Чорнаму ліст, які пачынаецца так:] Ты ўжо, напэўна, не спадзяваўся пачуць што-небудзь пра мяне калі. Але на дзіва я яшчэ жывы, – чорт яго ведае гэтыя рыпучыя дрэвы... Чуў, братка, што ты быў вельмі хворы, але ад душы рады, што выкараскаўся. Не час яшчэ, браце, збірацца туды, не час, – трэба рыпець... Краіна наша здратована, прытоптана і забруджана звярамі ў выглядзе людзей. Народ наш перажывае немаведама якія пакуты – я гэта бачу на свае вочы штодня, штохвіліны. А таму трэба рыпець, братка. Бо народ наш павінен убачыць волю сваю і славу сваю.

– *Насовіч,* с. 150: Скрыпучае дзерава доўга стаіць; *Федароўскі,* с. 95: Скрыпліва дзерава перажыве і здаровае; *Прыказкі,* кн. 2, с. 216: Скрыпучае дрэва два вякі стаіць.

**Скрыпучая вярба два вякі жыве.** *Гл.* Скрыпучае (скрыплівае) дрэва доўга скрыпіць.

**Скупы два разы траціць.** *Скупы застаецца ў пройгрышы, церпіць няўдачу. Гаворыцца як асуджэнне скупасці.* – Гэй, вязі [вугаль], дай пагрэцца!.. – Ідзі бяры шуфель – пагрэешся, чаго ж!.. – Ну, як сабе хочаш: скупы два разы траціць, – крыкнуў яму ў спіну мардаты грузчык... (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). **Скупы плаціць двойчы.** Каб пераадолець адставанне, потым спатрэбіцца працяглы час, спатрэбяцца большыя, чым цяпер, асігнаванні. Яшчэ раз пацвердзіцца ісціна: скупы плаціць двойчы (ЛіМ. 1992,

14 лют.). Палічыце, калі ласка, усе яе дарункі-пячэнікі, падушачкі, не забыўшы, вядома, кучку цукру на стале, і вы самі ўбачыце: скупы плаціць двойчы і тройчы (В. Гардзей. Блаславёны зёлкі).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 334: Скупы два разы траціць; Скупы два разы гіне.

**Скупы плаціць двойчы.** *Гл.* Скупы два разы траціць.

**Славен бубен за гарамі.** *Прывабным здаецца тое, што знаходзіцца дзесьці далёка.* [Навум:] Пісар расказваў нам, што скора з-за мора там якогась наш пан прыедзе. Пярвей мы былі вельмі цікавыя, а як даведаліся, то і ўсё! Добра той казаў, няма чаго казаць: славен бубен за гарамі (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

* Калі я да іх [чэхаў] прыглядалася, дык і народ наш не быў горшы ні ў чым за іх. «Слаўны бубны за гарамі, а як прыйдуць – роўны з намі», – падумала я сабе. Вось каб нам даць такую самастойнасць, як маюць яны, і мы ўмелі б працаваць для сябе не горай за іх, бо і нашы людзі талковыя (Л. Геніюш. Споведзь).

– *Насовіч,* с. 150: Славен бубен за гарамі; *Янкоўскі,* с. 314: Славен бубен за гарамі; *Прыказкі,* кн. 2, с. 197: Славен бубен за гарамі.

**Слова вецер, а пісьмо грунт.** *Функц. не зам. Напісанае мае значна большую сілу, значэнне, чым вуснае выказванне. Часцей кажуць, калі неабходна пісьмовае пацвярджэнне чаго-н.* У гэтых самых кузнях, дзе рабілася зброя, кавалі цяпер плугі ды іншыя прылады для вечнага чалавечага жыцця. Аб усім гэтым пісаў кучаравы паэт... Пісаць аб гэтым было вельмі цікава. Бо, як гэта кажуць: слова вецер, а пісьмо грунт (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

– *Насовіч,* с. 150: Слова вецер, а пісьмо грунт; *Прыказкі,* кн. 2, с. 182: Слова вецер, а пісьмо грунт.

**Слова не верабей, выпусціў (выпусціш, вылеціць, вылецела) – не зловіш.** *Сказаныя словы не вернеш. Гаворыцца, калі папярэджваюць не рабіць неабдуманых выказванняў ці шкадуюць аб тым, што было вымаўлена.* **Сін**.: *Слова не пірог, не выкінеш за парог.* Не варта было, Пятрусік, чытаць [верш] пісьменнікам... Ды нічога не зробіш – слова не верабей: выпусціў – не зловіш (Я. Колас. П. Броўку). Я ведаю, што вы хацелі сказаць. Тое, што хацелі сказаць, вы і сказалі. Слова – не верабей, выпусціў – не зловіш. А задам толькі рак паўзе (Я. Ермаловіч. Пачыналася вясна). Не дай бог сарвацца, сказаць не тое, што трэба. Слова – не верабей, выпусціш – не зловіш... (І. Навуменка. Асеннія мелодыі). Сто разоў адмерай, а раз адрэж; навучыся спярша маўчаць, а потым ужо га-

варыць. Слова ж не верабей: вылецiць – не зловiш (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Убачыў [Нікольскі], як радасна бліснулі вочы Сямашкі, і завагаўся: дарэмна лезеш у пастку. Але слова – не верабей, вылецела – не зловіш. Калі пачаў гаварыць, трэба і скончыць (І. Новікаў. Да світання блізка). То была, вядома, выдумка, непрыстойная, брудная, тут жа схамянуўся [Андрэй], апомніўся, але слова – не верабей... (В. Блакіт. Усмешка Фартуны).

– *Ляцкі,* с. 42: Слова як птушка: выпусціў – не вернеш; *Федароўскі,* с. 282: Слова як птушка: вылецiць, то не зловіш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 188: Слова не верабей: выпусціш – не зловіш.

**Слова не піраг, не выкінеш за парог**. *Сказаныя словы не вернеш і не перайначыш. Гаворыцца як папярэджанне не рабіць неабдуманых выказванняў.* **Сін**.: *Слова не верабей, выпусціў – не зловіш*. Не жадаю па-валюнтарысцку загадзя вынаходзіць у бягучым працэсе творы, якія сыграюць этапную ролю ў літаратурнай гісторыі. Слова не піраг, не выкінеш за парог (І. Запрудскі. Горад і сейбіты буры).

– *Рапановіч*, с. 181: Слова не піраг: не выкінеш за парог.

**Слова – серабро (срэбра), маўчанне – золата.** *Гаворыцца як парада абдумваць сваё выказванне і лепш прамаўчаць, чым сказаць лішняе.* Людзі, навучаныя вопытам барацьбы і жыцця, у большасці сваёй лічылі за лепшае больш назіраць, чым гаварыць. «Слова – серабро, маўчанне – золата», – вучыць даўняя прымаўка (П. Пестрак. Серадзібор). – Трэба самому перагаварыцца... – Слова – срэбра, маўчанне – золата (В. Мыслівец. Мужанцы). Як маленькі свой голас пробаваў, мне казалі: – Маўчы, бо шэры забярэ і зацягне ў логава! Я, дыханне стаіўшы, верыў. Стукне той-сёй парадай-молатам і цяпер, каб не соваў носа: – Слова – срэбра, маўчанне – золата... (П. Сушко. Годзе казкі казаць). Другія проста прамаўчалі, як набраўшы вады ў рот, помнячы, што «слова серабро, а маўчанне золата» (Н. Гілевіч. Між роспаччу і надзеяй).

* Маўчанне ніколі не было і не будзе золатам: яно – або ў шмат разоў даражэйшае, або – нічога не вартае (М. Танк. Маўчанне). «Не балбачыце лішняга!.. Праверце!.. Няхай яно, ліхое, затане!.. Маўчанне – золата, а лішак слова – смецце!..» А я не ведаю, што лішняе, што – не?! (А. Лойка. Сябрам).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 379: Слова – серабро, а маўчанне – золата.

**Слова як сажа, каго хочаш замажа**. *Выдумкі, плёткі беспадстаўна могуць зняважыць, зняславіць кожнага.* Можна кіўнуць, што [Глябовіч] свядома сунуўся з прашэннем на шлюб з

блудніцаю, каб дабрацца да вялізных грошай Жылінскіх... Языкаватая хваля чутак павалачэцца, пыл уздыме, цень на абаіх кіне, ганьбы ім не мінуць. Слова – як сажа, каго хочаш замажа (М. Віж. Лабірынт). **Слова як сажа, не заб’е, дык замажа**. Што можна сказаць пра гэту тэзу [спробу скампраметаваць Багушэвічава імя]? Хіба ці не гэтак: «Слова як сажа, не заб'е, дык замажа». Хто-ніхто, нават не жадаючы, паддаўся гэтаму крывадушнаму пастулату (У. Содаль. Зміцерава пераканание).

**Служачы хлеб – сабачы.** *Гаворыцца як ацэнка становішча чалавека, які робіць па найму ў сферы разумовай ці невытворчай фізічнай працы.* – Чуў ты? – гаворыць Якім. – Зарубу гоняць вон са службы... От прасіся за лесніка... – А! – махнуў рукой Андрэй. – Служачы хлеб – сабачы (Я. Колас. Малады дубок). Адно, брат, тут: старацца трэба, прыдбаць сваю скарынку хлеба, бо людзі кажуць: «Хлеб служачы не надта добры хлеб – сабачы» (Я. Колас. Новая зямля).

– *Янкоўскі,* 38: Служачы хлеб – сабачы.

**Служба не дружба.** *Гаворыцца, калі чалавек павінен рабіць што-н. як службовы абавязак.* Ой, ды лёгкай служба нідзе не бывае, бо служба – не дружба, – няволя цяжкая (Я. Купала. Ад рана да рана). Так, так, таварыш аграном. Кепска ў вас з вывазкай угнаенняў... Шкада цябе, а пакрытыкаваць давядзецца: служба – не дружба (У. Кузьмянкоў. Ішла вясна). [Мэер:] Часам, праўду кажучы, выпіваю перад абедам, і ні разу дрэнна не было. Ну, па маленькай! [Ракуба:] Нельга. [Чарно:] Не прыставай, Мэер, служба – не дружба. Дысцыпліна! (Р. Кобец. На заставе). – Неважнецкая, браце, твая служба. З такога тавару, як пясок, не пажывішся! – Служба не дружба! (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 358: Служба не дружба.

**Служка ў лапцях, а я (пан) босы.** *Гаворыцца з асуджэннем пра таго, хто просіць зрабіць што-н., хоць мог выканаць гэта і сам.* Бачыш ты, прывыклі: Сашка, схадзі; Сашка, прынясі; Сашка, падай. Служка ў лапцях, а я босы. Не пайду болей (Х. Лялько. Белыя брады).

– *Выслоўі,* с. 105: Служка ў лапцях, а пан босы; *Лепешаў*, с. 107: Служка ў лапцях, а пан босы.

**Служыў да вуса, служы і да барады.** *Кажуць, калі просяць каго-н. аказаць яшчэ адну паслугу ці аказваюць каму-н. не першую паслугу.* [Сташэўскі:] Зрабі апошнюю паслугу – і мы пойдзем. [Мірон:] Хіба што апошнюю. Што ж, кажуць, служыў да вуса, служы і да барады (І. Ісачанка. Вяснянка).

– *Насовіч,* с. 151: Служыў да вуса, паслужы ўжо і да сівой барады.

**Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш.** *Кажуць таму, хто плача або чым-н. расхваляваны, засмучаны.* **Сін.**: *Жуда бядзе не помач.* Ну, што ж? Слязамі бядзе не паможаш, а справу рабіць трэба. Жыццё ўсё наперадзе, хлопцы! (Я. Колас. На ростанях). Мы павінны жыць, каб біць ворага, каб помсціць. А слязамі гору не паможаш... І на цётку Васіліну няма чаго крыўдаваць (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). – А ты чаго румзаеш? Не табе баліць, – папракнула мяне Волька, сама ледзь стрымліваючыся ад жалю. – Перастаньце абодва. Слязьмі гору не паможаш, – пачаў супакойваць тата (А. Пальчэўскі. Юзікавы слёзы). Міхась ледзь стрымліваў слёзы. Не, ён не заплача... Маці яго не раз казала: «Слязьмі гору не паможаш» (А. Капусцін. Водгалас). Загаласіла і Паўлюкова жонка Гануля – блізка прымала чужое гора. – Слязьмі гору не паможаш! – прыкрыкнуў на жанчын Паўлюк (А. Вагановіч. Паўлюк з Жалезнікаў).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 449: Слязамі гору не дапаможаш.

**Сляпой курыцы і жарства – пшаніца.** *Чалавеку, які не ўсведамляе, не адчувае сапраўднага становішча спраў, і што-н. недарэчнае, абсурднае здаецца нармальным, прымальным.* Сам [дарадчык] да зялёнага моху аброс перакананнямі аб перавазе калгаснага ладу над дробнаўласніцкімі інтарэсамі. Яно так: сляпой курыцы і жарства – пшаніца (В. Гроднікаў. Ліцэнзія на прыгоннае права).

– *Янкоўскі,* с. 303: Сляпой курыцы і жарства – пшаніца.

**Сляпы сляпому не павадыр.** *Той, хто сам не разумее якой-н. справы, не разбіраецца ў чым-н., не можа быць важаком, павадыром іншых людзей.* Ці павадыры сляпыя сляпым? Наша народная прыказка адказвае на гэта пытанне адназначна: не! Сляпы сляпому не павадыр (А. Вярцінскі. Трывожны досвітак).

**Смачная кашка, да малая чашка.** *Кажуць, часцей жартаўліва, з'еўшы ці выпіўшы што-н. смачнае.* – Смачная кава з ромам? – запытаўся афіцэр, калі Каршукоў паставіў кубак на стол. – У нас кажуць: смачная кашка, ды малая чашка (А. Асіпенка. Вогненны азімут).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 247: Смачная кашка, ды малая чашка.

**Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.** *Хацелася б каму-н. атрымаць, ажыццявіць што-н., але няма магчымасці дасягнуць жаданага.* **Сін.:** *Бачыць вока, ды зуб няйме; Блізка локаць, ды не ўкусіш; Ёсць на ваўку кажух, ды не прышыты.* [Кастусь:] Хто пойдзе па Данілаву галаву, той сваю няхай дома пакідае. [Маргун:]

Нагнаў ён вам страху. [Кастусь:] Не так нам, як панам. [Маргун:] Баязліўцы!.. [Кастусь:] Бач, чаго яны захацелі! [Батура:] Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў (К. Крапіва. Партызаны). А наконт Беларусі і ўсялякіх замыслаў фашысцкіх грамiл і проста так аб заняволенні імі нашых сялян і рабочых скажам нашай простай і мудрай прыказкай: «Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў» (М. Лынькоў. Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў...). Таго, даўняга Данілы ўжо не існуе, ён, сённяшні, зусім іншы, ён дабіўся гэтага сваімі сіламі і сваім розумам. – О! Гэты хлопец не аборай хлеб кроіць!.. А таму, няўдаліцы, смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў (В. Іпатава. Знак Вялікага магістра).

* Ілгуны! Не тую выбралі дарогу: у маны кароценькія ногі, няхай яшчэ і тое знаюць: не жабе раскусіць арэх... (А. Бачыла. Загорская восень).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 471: Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.

**Смелага куля баіцца**. *Смеламу чалавеку больш шанцуе ў небяспечных абставінах, чым нясмеламу.* Дамейка не мог заставацца ўбаку. Ён уліўся ў паўстанцкую армію генерала Хлапоўскага. Хоць і кажуць, смелага куля баіцца, але здарылася так, што па недарэчнасці ледзь не загінуў... (А.А. Марціновіч. Душа – не падарожніца).

**Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.** *Функц. не зам. Смелы, рашучы чалавек усюды перамагае.* Толькі б смеласці болей, паболей адвагі – усё будзе тваё, чаго ні захочаш. «Смеласць гарады бярэ», – так калісьці казаў паважаны папаша (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). – Будзе і на нашай вуліцы свята. – Так, – вырашыў Сяргей. – Іншага выйсця не бачу. Недарма кажуць – смеласць гарады бярэ (І. Гурскі. Вецер веку). – А калі дырэктар леспрамгаса адмовіцца пілаваць, скандал учыніць? – Не адмовіцца. Начальства раённае нашто? – Смеласць гарады бярэ, – адазваўся ўрэшце і Карняплодаў (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). Няўрымслівасці, смеласці Проньку не пазычаць. А смеласць гарады бярэ (В. Каваленка. Падвышанае неба). – Ці варта трывожыць асінае гняздо? Нас толькі дванаццаць чалавек... – Чапуха, – перабіў мяне палкоўнік. – Храбрасць гарады бярэ. Спачатку расправімся з малачарняй, а потым абрушымся на маслазавод (Р. Няхай. Туман над стэпам).

– *Насовіч,* с. 120: Адвага гарады бярэць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 293: Смеласць гарады бярэ; Храбрасць гарады бярэ.

**Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны.** *Смерць і радзіны не падуладныя часу, могуць здарыцца ў любы час.* – Па дварчанскіх

хатах, па падсуседзях хаджу... – А чаму ж думаеш, што я цябе ў кватаранты вазьму? – Няўжо мне жыуём у пятлю лезці? – Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. Аставайся (В. Адамчык. Голас крыві брата твайго). Занесеная снегам дарога сопкая. Па такой дарозе некалі адвезлі маю маці да бабулі-шаптухі, якая і прыняла ў яе роды. Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. Я нарадзіўся слабы, як цень на вадзе. Маці слязьмі лілася, маліла госпада Бога, каб я выжыў (С. Лобач. Горкую лілею пакашу...).

* – Бачу святло ў тваіх вокнах. Чыркнула запалкай – на ходзіках поўнач. Ведаю, што маці ў Еўлічы пайшла да Зміцера, а ты адна. Ёкнула сэрца, прыляцела, аж во... – Я й сама не згадала, калі і што ... – Радзіны не глядзяць гадзіны, – памяркоўна разважыла Надзя і паклала побач з Параскай сына (У. Ліпскі. З палаты «мінёраў»).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 108: Смерць і радзіны не глядзяць аніякай гадзіны; Смерць і радзіны не ждуць добрай гадзіны.

**Смерць не ручаінка – не пераскочыш.** *Пра немагчымасць пераадолець смерць.* **Сін.:** *Ад смерці доктара няма; Ад смерці не адкупішся; Дзвюм смерцям не бываць, <а> адной не мінаваць* (у 1 знач.)*; Круці не круці, а трэба памерці; Смерць нікому ў зубы не глядзіць; Смерць у бутэльку не заткнеш.* Дзіда-дзед правільна меркаваў: трэба быць адважным. Смерць не ручаінка – не пераскочыш. Але гэты закон пісаны толькі для баязліўцаў. Адважнаму і неба невысока, і мора неглыбока (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 412: Смерць не ручаінка – не пераскочыш.

**Смерць нікому ў зубы не глядзіць.** *Пра непазбежнасць і няўмольнасць смерці.* **Сін.:** *Ад смерці доктара няма; Ад смерці не адкупішся; Дзвюм смерцям не бываць, <а> адной не мінаваць* (у 1 знач)*; Круці не круці, а трэба памерці; Смерць не ручаінка – не пераскочыш; Смерць ў бутэльку не заткнеш.* – Мацвей, налівай чаркі... Давайце памянём... І Васілька дарагога... – Мама, не расстройвайся. Гэтым жа не паможаш. Тут жа ва ўсіх бяда. Смерць нікому ў зубы не глядзіць. Ці ты стары, ці малады, – супакойвала нявестка Нэля (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 411: Смерць у зубы не глядзіць.

**Смерць у бутэльку не заткнеш.** *Пра немагчымасць пераадолець смерць.* **Сін.:** *Ад смерці доктара няма; Ад смерці не адкупішся; Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць* (у 1 знач.)*; Круці не круці, а трэба памерці; Смерць не ручаінка – не пераскочыш; Смерць нікому ў зубы не глядзіць.* Народ часцяком мусіў памінаць нябожчыкаў самагонам уласнага вырабу. Прыгаварваючы

пасля чарговага тосту: смерць у бутэльку не заткнеш (Крыніца. 2001. № 4).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 412: Смерць у бутэльку не заткнеш.

**Смерць ускоча, калі захоча**. *Смерць не падуладна часу, можа здарыцца ў любы час.* Людзі сёння паміраюць стабільна і нават звыш за тое – больш паміраюць, чымсьці нараджаюцца. Смерць ускоча, калі захоча – кажуць людзі (Крыніца. 1994. № 3).

– *Санько*, с. 41: Смерць ускоча, калі захоча.

**Смех без прычыны – прызнак (знак) дурачыны.** *Праст. Кажуць з асуджэннем пра таго, хто беспрычынна смяецца.* Заўсёды і ўсюды я чую ваша прыдуркаватае гы-гы, з-за якога людзям некалі падумаць пра сябе, пра свой лёс, пра тую ж вялікую загадку Быцця і Смерці... Чаму ніводны з вас так і не ўспомніць ні разу мудрае, народнае: смех без прычыны – прызнак дурачыны?.. (В. Гігевіч. Не забывай пра свой дом, грэшнік). – Толькі не адбірай часу на смяшкі. – Здаровы смех – галоўнейшая зброя рэвалюцыянераў... Не ўсё ж плакацца... – Смех без прычыны... (А. Рыбак. Галаброды).

– *Янкоўскі,* с. 283: Смех без прычыны – знак дурачыны; *Прыказкі,* кн. 2, с. 402: Смех без прычыны – прызнак (знак) дурачыны.

**Смех не грэх.** *Ужываецца як станоўчая рэакцыя на чый-н. смех.* – Я ніколі так весела не смяяўся, як цяпер, калі страціў школу і бадзяўся адзін, як воўк па глухіх дарогах. – Вот гэта і добра, Янка, – падтрымаў яго Лабановіч. – Смех не грэх, а галавы не вешай (Я. Колас. На ростанях). [Эмілія:] О-о, мая ўжо і нявестачка тут, чуваць па смеху. [Загорскі:] Смех – не грэх (А. Адамчык. Чорны цмок). Упэўнены: чытач пераканаўся, што багатую спадчыну мае ўжо беларуская эпіграма. З ёй, несумненна, з ахвотай і добрай усмешкай на твары пазнаёмяцца шматлікія аматары творчасці. Сапраўднай і таленавітай творчасці. Ну, а смех, як вядома, не грэх, наадварот: смех падаўжае жыццё... (Звязда. 2000, 8 снеж.).

**Смяецца той, хто смяецца апошні.** *Гл.* <Добра> смяецца той, хто смяецца апошні.

**Сорам не дым, вачэй (вочы) не выесць.** *Сорам можна сцярпець.* Некаторыя старэйшыя нават упікалі Грамабоя, што ён звёў, казалі, што сорам так рабіць. Грамабой досыць лагодна на гэты раз ім адказваў, што сорам не дым, вачэй не выесць, а завязваць хлопцу свет немаведама за што – на гэта ён не згодзен (К. Крапіва. Мядзведзічы). – Не буду я на яго глядзець. Сорамна ж! – Сорам не дым, вачэй не выесць. Не маленькая ты ўжо, каб саромецца (Р. Са-

баленка. Лора). – Сорамна перад людзьмі? Дык у такіх выпадках мой бацька некалі казаў: сорам – не дым, вочы не выесць... (А. Пальчэўскі. Чорны дзень). – Толькі што сорамна туды вяртацца, – выказаў думку Гена... – Сорам – не дым, вочы не выесць... (А. Марцінкевіч. Сцюжа).

* А я думала, што і праўда хочуць з старшыні цябе зняць. Ажно толькі пасаромілі. Сорам не дым, як кажуць, у вочы не зойдзе (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам). Як ні ўпарціўся вол, пачаў рабіць нязвыклую для яго працу. Смешак, што праўда, хапіла ажно збыт. Але смех не дым, вочы не выесць (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 347: Стыд не дым, вачэй (вочы) не выкура.

**Спас – усяму час.** *Пасля Спаса (свята ў хрысціян, якое прыпадае на 19 жніўня па новым стылі) трэба пачынаць уборку збажыны і садавіны.* Яшчэ ў народзе гаварылі: «Спас – усяму час»: час уборкі збажыны, збор дароў саду, пачатак азімай сяўбы (Звязда. 2001, 18 жн.). Усё-такі свята, яблачны Спас. Марына пабедавала, што яблыкі не асвяціла ў царкве, што няма паблізу храма. – Можна і так есці. Спас – усяму час (Л. Левановіч. Палыновы вецер).

– *Насовіч,* 139: Прыйшоў Спас, усяму час; *Прыказкі,* кн. 1, с. 109: Спас – усяму час.

**Справа майстра баіцца.** *Гл.* Дзела дзельніка (справа майстра) баіцца.

**Справа не воўк, у лес не ўцячэ.** *Гл.* Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ.

**Спроба не хвароба.** *Можна паспрабаваць, варта рызыкнуць. Кажуць, калі лічаць, што трэба зрабіць што-н., хоць і няма цвёрдай упэўненасці ў поспеху.* **Сін.:** *Воўк не з'еў, дык бугай не забадае; Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў.* – А па загоне радыску пасеем... Салаты будзем рабіць... – Радыска хутка расце. А агуркі... – Калі б былі смачныя гуркі, дык іх елі б ваўкі, – азваўся з-за перагародкі дзед. – Сейце радыску. Спроба не хвароба (М. Капыловіч. Былі б рукі). – Васёк з дваццаць шостага пакоя звякнуў: з канікул навезлі [імпартовых шмотак гандляваць]. – Тады айда. Спроба – не хвароба. Вам толькі галовамі ківаць ды падтакваць. Астатняе маё дзела (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа). – Дый што там у тым горадзе рабіць?.. Нічога добрага я ў гэтым не бачу. – Спроба не хвароба, – сказаў Зелба. – Толькі я таксама не ведаю, што нам рабіць у тым горадзе (С. Дубавец. Кайлюс і Зелба).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 178: Спроба не хвароба.

**Спытае люты, ці добра абуты.** *Гл.* Пытаецца (спытае) люты, ці добра абуты.

**Спяваць дарма – баліць гарла.** *Справа не варта патрачаных сіл, часу і пад.* **Сін.:** *Гульня не вартая свечак; Не варта шкурка вырабу.* Невыпадкова ад гэтага «давеска» [класнага кіраўніцтва] найбольш здольныя, вопытныя педагогі стараюцца адмахнуцца, выкруціцца, бо «спяваць дарма – баліць гарла», кажуць у народзе (Настаўн. газ. 2000, 18 лістап.).

– Паўкалька з польскай мовы: *Spiewa darmo – bole gardlo.*

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 361: Спяваць дарма, боле гарла.

**Старасць не радасць <а горб не карысць>**. *Кажуць са шкадаваннем, калі ўспамінаюць свой узрост.* [Ян:] Як прыйдзецца рукі злажыць, то хто тады табе ў помач стане? Гаспадарку разарвуць, цябе пакрыўдзяць... Старасць – не радасць (К. Каганец. Модны шляхцюк). [1-ы селянін:] Спяшайся, кум, а то спознімся. [2-і селянін:] Прыстаў зусім, старасць не радасць (У. Галубок. Бязродны). Так, браце Андрэй, сядзі цяпер і не рыпайся. А чаму? Таму што слабыя мы сталі, а віною ўсяму: гады точаць падшыпнікі, не разгонішся цяпер, не раз’едзешся... А іначай кажучы, старасць – не радасць (М. Лынькоў. Андрэй Лятун). Не малады, галубка, мусіць, сказаў: старасць – не радасць. Охо-хо! І сярэдзіна баліць, і сама вось-вось рассыплюся (М. Даніленка. Праводзіны). Ён, Марыйка, на два гады старшы за мяне. Разам мы раслі. Усё мае свой пачатак і канец. Старасць не радасць, горб не карысць ды і смерць не ўцеха (А. Жук. Не забывай мяне).

* [Кацярына Карпаўна:] Якое там пратанне? Толькі што клёвала. Душа на нітачцы затрымалася. А як ты? [Дзед Язэп:] Дажываю таго быту, калі паложаць пад пліту. [Кацярына Карпаўна:] Старасць не радасць, а смерць – не падарунак (У. Сауліч. Сабака з залатым зубам).

– *Насовіч,* с. 156: Старасць не радасць, а горб не карысць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 205, 227: Старасць не радасць.

**Старасць нікога (чалавека) не красіць.** Мар’я.. доўга гаварыла пра жыццё, якое, яна казала, хоць і шчаслівае ў вёсцы, але цяжкае для іх, пенсіянераў. «Старасць нікога не красіць» (С. Кухараў. Родная глыбінка). – Ад чаго гэта ў вас такія рукі, Амос Адамавіч?.. – Ад старасці і ад раматусу. Старэе чалавек, змяняюцца і формы яго цела. Не красіць, мілы мой, старасць чалавека... (Я. Колас. На ростанях).

**Старога вераб’я на мякіне не зловіш (не падманеш, не правядзеш).** *Вопытнага, бывалага чалавека не перахітрыш, не падманеш.* А можа, Казлоўскі сам гэты партрэт перавярнуў. Старога вераб’я на мякіне не зловіш (Л. Прокша. Камедыянты). – У вас багаты вопыт... – Вельмі вам удзячны, – намотваў на вус Езавітаў. Ён падумаў: «Ну і жук! Але старога вераб’я на мякіне не падманеш» (І. Гурскі. Чужы хлеб). Відаць, ён проста хітруе, бо вопыт сапраўды ёсць – гэтага ў яго не адымеш: ведае, дзе і як сваю палітыку гнуць. Маўляў, старога вераб’я на мякіне не правядзеш (В. Ткачоў. Каласы на круглай зямлі).

* Ён [Лейба] слухаў, што гаворыць старшыня выканкама, рабіў выгляд, што верыць і спачувае, аднак не верыў. Яго, старога стрэлянага вераб’я, хочуць злавіць на мякіне! Дарэмная справа! (А. Чарнышэвіч. Світанне). [Пятро Пятровіч:] Старога вераб’я думаеце на мякіне правесці? Не выйдзе! Носам чую!.. (А. Махнач. Лазня без веніка). Захацелі старога вераб’я на мякіне правесці... Калі на тое пайшло, дык я ўжо, дзякуй богу, трэці год як экспанаты свае цэлымі зборамі ў адну навуковую салідную фірму здаю (У. Ягоўдзік. Пугачова песня). Стрэлянага вераб’я на мякіне не правядзеш: я цудоўна ведаў, што гэтае мноства «форм работы» іншы раз было толькі на паперы (А. Куліцкі. Адвучылі бацькоў ад дзяцей?).

– *Насовіч,* с. 155: Старога вераб’я на мякіну не падманеш; *Ляцкі,* с. 42: Старога вераб’я не падманеш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 226: Старога вераб’я на мякіне не зловіш (не ашукаеш, не правядзеш).

**Старога хвалі, ды з двара гані.** *Пра адносіны да старога, хілага чалавека ў параўнанні з маладым, здаровым.* – Столькі людзей у нас і маладых, і заслужаных, а вы – старую бабу [намалявалі]. – А чаму вы думаеце, што яна не заслужаная? – Ат, старога хвалі, ды з двара гані (М. Гроднеў. Права адплаты).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 461: Старога хвалі, ды з двара валі, а маладога гудзі, ды ў двары блюдзі.

**Старое што (як) малое.** *Гаворыцца паблажліва пры ацэнцы якіх-н. дзеянняў, паводзін, выказванняў старога чалавека.* [Міхась:] Я ледзь канцы не аддаў, а ім смешна!.. Ну, добра, яны неразумныя, а вам чаго гэтак весела?! Стары чалавек! Разумець павінны... [Дзед Ян:] Старое – што малое, сынок... (Ю. Кулік. Ноч на Івана Купалу). Кажуць, старыя – як малыя. Гэта сапраўды так, калі меркаваць па героях «Вечара» [А. Дударава]. Але тым уражваюць іх пакуты – быццам дзеці пакутуюць (Настаўн. газ. 2001, 18 снеж.). «Старое – як малое». Пра здзяцінеласць. Аднак не крыўдна, няхай

сабе і з паблажлівасцю, але ж і з цяпельцам у падтэксце. У разумнай сям'і (Я. Брыль. Леташняе).

– *Насовіч,* с. 156: Стары як малы; *Янкоўскі,* с. 144: Старое як малое.

**Старой бабе і ўлетку на печы холадна.** *Кажуць пра слабага старога чалавека, якому заўсёды і холадна, і хадзіць цяжка.* **Сін.:** *Кволае цяля і ў Пятроўку зябне* (у 1 знач.). Пасля вайны мы хадзілі па насенне ва Украіну. За трыццаць, за пяцьдзесят кіламетраў. Людзі па пуду насілі, а я тры. А зараз па хаце, бывае, не перайду. Старой бабе і ўлетку холадна (Маладосць. 1993. № 3).

– *Насовіч, с.* 155: Старая баба і ў Пятроўку на печцы мерзнець.

**Старой бабцы добра і ў шапцы.** *Гл.* Старой бабцы хораша (добра) і ў шапцы.

**Старой бабцы хораша (добра) і ў шапцы.** *Старому чалавеку неабавязкова быць добра прыбраным, прыгожа адзетым. Часцей гаворыцца жартаўліва.* Яна [Волька] ужо зусім супакоілася і цяпер была давольная, што не купіла той сукенкі. Ну і праўда, навошта ёй цяпер, у яе пажылыя гады, такая сукенка? У маладосці і то без строяў абыходзілася – не было за што купляць, а цяпер... Старой бабцы хораша і ў шапцы. Затое на кніжцы грошай прыбавілася (Л. Арабей. За паваroткаю).

– *Насовіч,* с. 156: Старой бабцы хораша і ў шапцы; *Прыказкі,* кн. 1, с. 271: Старой бабцы добра і ў шапцы.

**Старцу міля не круг.** *Адлегласць не перашкода, калі абавязкова трэба трапіць куды-н.* **Сін.:** *Старцу сяло не <у> наклад.* [Даніла:] Спяшацца не трэба. Пройдзеш аднаею сцежкаю, убачыш, што гразка, нельга праехаць – вярніся назад, прайдзі другою, паглядзі. [Дзед Бадыль:] Яно ж так, – старцу міля не круг (К. Крапіва. Партызаны). **Для старца міля не круг.** Сабраліся вяртацца назад, ды Галя ўспомніла: «Недзе ж тут недалёка жыве наша другая радня». І праўда: для старца міля – не круг, і, бачыш, вось мы ўжо і тут (А. Кудравец. Сачынне на вольную тэму). – Ты ж мог тут павярнуць налева. Бліжэй, – сказаў Сахута. – А ты едзеш укругавую. – Нічога, як гавораць людзі, для старца – міля не круг. Далей павярну... (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян).

* З яго [гаспадара краю] ласкі далі нам машыну, на якой мы і накруцілі некалькі тысяч кіламетраў па таёжных дарогах, калі іх можна назваць дарогамі. Сапраўды, старцу вярста не круг (Р. Барадулін. І коскі з месца не зрушу!..).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 417: Старцу міля не наклад; Старцу дзярэўня не круг.

**Старцу сяло не <у> наклад.** *Адлегласць не перашкода, калі абавязкова трэба трапіць куды-н.* **Сін.:** *Старцу міля не круг.* Ну, калі ў дарогу, то ў дарогу; старцу сяло не ў наклад. А папалуднаваць трэба, я сваё не дарую... (У. Галубок. Парабкі). [Георгій:] Праз Падую ісці на Рым ты будзеш. [Скамарох:] Праз Падую? А гэта па дарозе? Зрэшты, сяло, як кажуць, старцу не наклад (М. Клімковіч. Георгій Скарына).

– *Насовіч*, с. 156: Старцу сяло не наклад; *Прыказкі,* кн. 1, с. 416: Старцу сяло не наклад.

**Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).** *Стары, вопытны чалавек не сапсуе таго, за што бярэцца. Гаворыцца, калі за справу нараўне з маладымі бярэцца стары, але яшчэ моцны і вопытны.* Калі на тое пайшло, пане Вашамірскі, дык няхай ужо будуць коні самага лепшага гатунку. Стары вол баразны не псуе. Калісьці і я быў не з апошніх малайцоў! (З. Бядуля. Салавей). – Стары вол баразны не псуе, – сказала некалькі чалавек у адзін голас. А гэты «стары вол» пыхнуў дымам з люлькі, і дым закрыў яго твар, яго крыху сарамлівую ўсмешку (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). Аляксей узяў з рук маладога цесляра сякеру. Прачасаў метры два з аднаго боку і адагнуўся. Кантоўка была роўная і чыстая. – Стары вол баразны не псуе... – падмігнуў Воранаў земляку (А. Пальчэўскі. Землякі). Марыў – вясны, цяпла дачакаюся, паеду на дачу і там, на адзіноце, у цішы і спакоі, збяруся з думкамі, нешта напішу. Каб ведалі, не забывалі – стары вол баразны не псуе... (Б. Сачанка. На беразе Іслачы). [Дзед Струкач:] І далей не падкачаў бы. Стары конь баразны не псуе (І. Козел. Папараць-кветка). Называеш мяне, васпан, старым канём, дык ведай, – стары конь баразны не сапсуе (І. Гурскі. Чужы хлеб).

* – Я пайду з табою [на лекцыю]. – Навошта? – У мяне «фортка». А я даўно не слухала, як чытаеш. Не выбіваешся з баразны, стары конь? (І. Шамякін. Зеніт).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 92: Стары вол баразны не псуе; Стары вол ніколі баразны не сапсуе; Стары конь баразны не псуе, ды не глыбока арэ.

**Стары гаршчок як ні аплятай <дротам>, толку мала (пацячэ).** *Старога чалавека ўжо не амалодзіш, не вернеш яму страчаныя адзнакі маладосці.* – З венічкам вас папарым – а-а-а-а, дабрыня... на дзесяць гадоў памаладзееце. – Куды ўжо мне маладзець!

Стары гаршчок як ні аплятай дротам, толку мала. – Памраце, так і не ўведаеце, што такое лазня з парылкай (П. Місько. Каб не венікі). – Якія ў мяне кіпці? Слязамі баранюся. Не дай бог дажыцца да такога. – Сястрыца-галубіца, стары гаршчок як ні аплятай – пацячэ. Але не давядзі гасподзь перакінуцца на чужыя рукі. Свой і ўшчуне і скарэй спагадае (М. Клебановіч. Збродныя душы).

**Стары друг лепш (лепей) за новых двух.** [Пятрук:] А знаеш: стары друг лепш за новых двух... Я цябе не на жарты палюбіў, – хоць бы цэлы свет прыйшлося дагары нагамі перавярнуць, то ўсё-такі з табою ажанюся (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты). – А Дзіма, ведаеш, які? – Які? – Смелы. Заўсёды за мяне заступіцца. – Ну вось бачыш. Стары друг лепш за новых двух (В. Вітка. Дзеці і мы). Значыць, вы наш стары друг. Як у вас кажуць: стары друг лепей за новых двух. Дарэчы, у нас таксама гэтак гавораць (В. Праскураў. Далёка ад дому). [Людміла Міхайлаўна:] Вунь колькі ў Эдуарда ў інстытуце цікавых вучоных. А ён ўсё трымаецца за гэтых абывацеляў. Мне ўжо цяпер цяжка нават успомніць, як яны ў нас з'явіліся некалі. [Андрэй:] Стары друг лепш за новых двух. Чула тую памоўку (І. Чыгрынаў. Хто вінаваты?).

– *Федароўскі,* с. 83: Дарожшы адзін стары друг, як новых двух; *Прыказкі,* кн. 1, с. 382: Стары друг лепшы новых двух.

**Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум.** *Маладыя пераймаюць жыццёвы вопыт старых.* Словам, старыя – мудрыя людзі, яны пражылі жыццё і багата чаго ведалі, помнілі. Цяпер назапашанае яны раздавалі, раздорвалі. «Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум» (Б. Сачанка. Вечны кругазварот).

* [Талаш:] Дык пойдзем, сынку. Можа, як у вёску прабяромся і даведаемся. А ў дарозе нешта надумаем. Няхай нам пан робіць на глум, а мы, голубе, будзем браць на вум (Я. Колас. У пушчах Палесся).

– *Насовіч,* с. 176: Хто кажаць на глум, а ты бяры сабе на вум; *Прыказкі,* кн. 2, с. 92: Што кажа стары на глум – бяры, малады, на вум.

**Стары конь баразны не псуе.** *Гл.* Стары вол (конь) баразны не псуе (сапсуе).

**Студзень мяце – ліпень залье.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды.* Студзень усур'ёз узяўся за зямліцу – адна завея пераходзіла ў другую, снег несла і несла з панадрэчнай шэрані, ужо нават не было відаць, дзе тая рака, і ў кручы знікалі дамы і дрэвы, прападалі людзі. «Студзень мяце – ліпень залье», – успамінала Таня матчыны словы (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 74: Студзень мяце – ліпень залье.

**Суджанага і канём не аб’едзеш.** *Таго, што наканавана лёсам, ніяк не абмінеш.* **Сін.:** *Ад лёсу не ўцячэш; Свайго лёсу не мінеш; Ты ў свет, і доля ўслед; Чаму быць, таго не мінаваць.* [Навум:] Добра гутарка кажа: суджанага.. і канём не аб’едзеш. А калі ты ўжо маеш быць маёю суджанаю, дык скажы ды не сушы сэрца вайтоўскага (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Наогул, што вызначана лёсам, таго ніякім чынам не абыдзеш: суджанага й канём не аб’едзеш (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). **Што каму суджана, <дык і пехотай> таго не абойдзеш і <з канём> не аб’едзеш.** [Максім:] У мяне – Мацейка, у цябе – Кацярына, а там.., як ведаеш, кумка, і да царквы недалёка. [Даміцэля:] Яно ж так! Што каму суджана, дык і пехатой таго не абойдзеш і з канём не аб’едзеш (Я. Купала. Прымакі). Адзін выпадак, праўдзівей, адно спатканне змяніла Петрыкаў лёс у іншы бок. Лепш гэта было для Петрыка ці горай, сказаць цяжка. Але, кажуць людзі: што каму суджана, таго не абойдзеш і не аб’едзеш (Я. Колас. Між дзвюх рэчак). Сцяпану Песляку спадабалася ў Луцэвічаў. Дзень ён пражыў, два... Пагаліўся, адразу памаладзеў. Пачаў прасіцца ў парабкі: – Што каму суджана, дык і пехатой таго не абыдзеш і канём не аб’едзеш... – Былі б у мяне дочкі дарослыя, у прымакі ўзяў бы... (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Насовіч,* с. 157: Суджанага і канём не аб’едзеш; *Ляцкі,* с. 43: Суджанага і колам не аб’едзеш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 31: Суджанага і канём (валом) не аб’едзеш.

**Суджаны і з лужыны выпаўзе**. *Каму суджана, той выкруціцца з любога становішча.* [Артур:] З ваўкамі жыць – па-воўчы выць. Ну, чаго ты так глядзіш на мяне? [Путана:] Праўду людзі кажуць: суджаны і з лужыны выпаўзе... [Артур, пакрыўджана:] Гэта я выпаўз з лужыны? [Путана:] Ды яшчэ з якой! З ваеннай контрразведкі! У жыцці так не бывае. [Артур:] Значыць, з нас усё пачынаецца. Як з Адама і Евы (М. Матукоўскі. Калізей).

**Супраць лому няма прыёму.** *Гл.* Няма прыёму супраць лома, апрача самога лома.

**Супраць (супроць) ражна не папрэш.** *Праст. Немагчыма, бескарысна супрацьстаяць сіле, уладзе.* **Сін.:** *Галавою сцяны не праб’еш; Напроці ветру не падзьмеш; Пугай абуха не пераб’еш.* Падмануў мяне кудлаты чорт. А што ты яму зробіш? Супраць ражна не папрэш (В. Каваль. Шчасце Сілівея Зязюлі). [Гудовіч:] У нашых умовах небяспечна быць сумленным чалавекам. Значыць –

далоў сумленне? [Шкуранкоў:] Ну і супроць ражна не папрэш. Хочаш не хочаш, а прыходзіцца лічыцца з рэальнымі абставінамі (К. Крапіва. З народам).

– Склалася на аснове евангельскага выказвання: «Жестоко ти есть противу рожна прати».

**Сухая лыжка рот дзярэ. 1.** *Гаворыцца часцей як жартаўлівы намёк, што за сталом, перш чым есці, варта выпіць спіртнога.* [Анатоль] пакрысе падгаворваўся да гаспадыні перад снеданнем: маўляў, сухая лыжка рот дзярэ (М. Лужанін. Лісты Харужай). – Як смачна пахне! – паўтарыла Рыта, крутнуўшыся на месцы. – Люблю смажанае... – Сядайце, –прамармытаў [Аляксей Мікалаевіч]. – Вось... – Сухая лыжка рот дзярэ, – зарагатала Рыта (В. Рудава. Крыўда).

**2**. *Калі не задобрыш каго-н., то і не даб'ешся жаданага.* **Сін.:** *Не падмажаш – не паедзеш.* – А можа, яны не паставілі мне новыя краны таму, што я не дала ім на паўлітра? – здагадалася гаспадыня. Яны нешта такое намякалі, што «сухая лыжка рот дзярэ», але я не звярнула на гэта ўвагі (В. Зуб. Дробязі жыцця). Доўга выбіраў я [адваката], у людзей пытаўся. Параілі Андруцкага з Радашковічаў. Гэта, браце мой, хват, пан над панамі... Не скажу, што дарма, – сухая лыжка рот дзярэ... Адсудзіць жа адсудзілі і зямлю, і млын (З. Бандарына. Ой, рана на Івана). – Мне во як трэба [бутэлька самагонкі]! – чуецца звонкі Аборын голас. – Дай напавер! – Анігадкі! – кажа Прузына. – А мо інспектар і клюне! – стаіць на сваім Абора. – Сухая лыжка рот дзярэ... (Я. Пархута. Сонечныя борці).

– *Насовіч,* с. 157: Сухая лыжка рот дзярэць; *Прыказкі,* кн. 1, с. 347: Сухая лыжка рот дзярэ.

**Сцеражонага <і> бог сцеражэ.** *Гл.* Беражонага <і> бог беражэ.

**Сцерпіцца – злюбіцца.** *Гаворыцца як суцяшэнне таму, хто мусіць ісці супраць свайго жадання, і з упэўненасцю, што да ўсяго можна прывыкнуць, усё можна палюбіць. Часцей пра дзяўчыну або хлопца, якія ўступаюць у шлюб.* Не вельмі да душы ёй [Ганне] Яўхім, але хіба ж – праўда – не першы жаніх на сяле?.. Чаму было не паверыць векавечнай мудрасці: сцерпіцца – злюбіцца, мілым будзе? (І. Мележ. Людзі на балоце). – Каб жаніцца, трэба паказаць, а так – што? – казаў ён [Казімір]... Усе госці гукнулі ў адказ збітае, старасвецкае: «Сцерпіцца – злюбіцца!» (П. Пестрак. Камень). Каб не судзіла б мне яго доля, то не засылаў бы сватоў. Не адна такая, усе аднагодкі бадай гэтак замуж ідуць... А сцерпіцца – злюбіцца... (З. Бадарына. Ой, рана на Івана). – Навошта ён мяне

цягнуў у горад? – Сцерпіцца – злюбіцца. Трэба крыху і адпачыць ад цяжкага сялянскага жыцця (Г. Марчук. Альдона, Анэта, Анфіса). Не падумай, што ён мяне мучыць. Ён па-свойму добры чалавек і кахае мяне... Па-свойму... «Сцерпіцца – злюбіцца»... Якая лухта! (Л. Рублеўская. Слова гонару).

– *БРС,* т. 1, с. 522: Сцерпіцца – злюбіцца.

**Сытае бруха да навукі глуха.** *Багаты, матэрыяльна забяспечаны чалавек не надта дбае пра навуку, навучанне, духоўнае развіццё.* Пэўна, развёўся, абэлтус. Ды і з універсітэта, кажуць, яго вытурылі. Яно і вядома: сытае бруха да навукі глуха. У бізнес цяпер Кадзік кінуўся (Я. Галубовіч. Лявон Макейчык). Малайцы свіслаўцы! Жывуць больш заможна за іншых – могуць дазволіць сабе раскашавацца і на перыёдыку. А дзе матэрыяльная галота, там і духоўная беднасць. Атрымліваецца насуперак прымаўцы: сытае бруха да навукі глуха? Ды не! Проста гэта розныя рэчы... (ЛіМ. 2001, 30 лістап.).

– *Янкоўскі,* с. 150: Сытае бруха да навукі глуха.

**Сыты галоднага не разумее.** *Гл.* Сыты галоднаму не спагадае.

**Сыты галоднаму не спагадае.** *Гаворыцца пра таго, хто не здольны спачуваць іншым людзям, не разумее чыіх-н. патрэб, жаданняў.* «Сыты галоднаму не спагадае» – векавая пагаворка. Церпяць рабочыя... (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). – Дай божа і пану такую долю, якую даў нам... – потым [бежанец] махнуў рукою да пастухоў: – Забірайце, хлопчыкі, коней. Сыты галоднаму не спагадае. Ці ж гэта чалавек? (А. Якімовіч. Канец сервітуту). – Дай лепш паесці, я сам усё зраблю. – Паесці, гэта можна, – замітусіўся Рудзянка. – Паесці я зараз жа найду. Прабач, што не адразу прапанаваў, сыты галоднаму не спагадае... (І. Новікаў. Руіны страляюць ва ўпор). **Сыты галоднага не разумее.** [Ігар:] Басурманавы для грамадства больш небяспечныя, чым ваш рэжысёр. [Авяр'ян:] Сыты галоднага не разумее (А. Дзялендзік. Гіпапатам). І ўжо ж колькі мы гаварылі, і да таго ж Стомы Паліна Іванаўна ездзіла. Усё абяцанкамі-цацанкамі нас частуе. Словам, сыты галоднага не разумее (В. Супрунчук. Жывеш толькі раз). У іх вобласці яшчэ савецкая ўлада – гарэлку прадаюць без талонаў. Пустыя бутэлькі маеш – ідзі і бяры. Колькі пустых – столькі і поўных. Жыццё... Сыты галоднага не разумее (В. Казько. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел).

* Галодных сыты зразумець не можа, пакуль самога лёс не патрывожыць (У. Дубоўка. Чые рукі прыгажэйшыя).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 426: Сыты галоднаму не спагадае; Сыты голаду не разумее; Сыты галоднага не знае.

**Сышліся да кучы лапці ды анучы.** *Кажуць іранічна пра групу асоб, якія аб'ядналіся на аснове нікчэмных імкненняў.* – Прося там ужо, баранэса гарбатая, умее дагадзіць... Толькі ж ты, ды яшчэ напарнік твой, Ціток, ёй раўня, ды яшчэ Валька Чумышыха. Сышліся да кучы лапці й анучы, зліпліся! Вы ж там, у вартоўкі, нябось, і гарэлку п'яце, і курыце... І яны з вамі нараўне (А. Масарэнка. Рэўнасць).

**Сэрца не камень.** *Гаворыцца, калі хто-н. ідзе на ўступкі, адклікаецца на чые-н. просьбы, пачуцці.* [Максіменя:] Вось прывалаку торбу язёў, дык будзеце каяцца. А вам на тую злосць і панюхаць не дам... [Гудовіч:] Адпусціцеся, сэрца не камень (К. Крапіва. З народам). Сын падаў бацьку руку, сэрца не камень – стары працягнуў сваю (І. Гурскі. Жалейкава града). Вось тут я зразумеў народную мудрасць, якая сцвярджае, што сэрца не камень. І яно ёкнула. Ну што, падумаў я, калі з'езджу яшчэ раз на адзін з курортаў... (У. Корбан. Цеплаход ідзе на Поўнач). Сэрца, як кажуць, – не камень, насуперак пачуццю я пагадзіўся (В. Быкаў. Доўгая дарога дадому).

– *Федароўскі,* с. 274: Сэрца не камень; *Прыказкі,* кн. 2, с. 255: Сэрца не камень. Набыўшы канструктыўна абмежаванае значэнне (*сэрца не камень* у каго, чыё), прыказка ператвараецца ў аманімічны з ёю фразеалагізм з сэнсавым зместам 'хто-н. перастае супрацiўляцца, уступае чыёй-н. просьбе': «Лепш ідзі к бацькам сваім: *сэрца* бацькава *не камень,* бацькаў хлеб смачней віна» (Я. Колас).

**Сэрцу не загадаеш.** *Не прымусіш сябе кахаць ці не кахаць каго-н.* Сэрцу ж не загадаеш. Так і выйшла [Анісся] замуж за Сяргея Круцяля, які быў кааператыўшчыкам у суседнім сяле (М. Лынькоў. Насустрач жыццю). Ачарсцвелі мы за вайну... А толькі вы для мяне кім былі, тым і засталіся... Сэрцу не загадаеш... (І. Гурскі. На гуце). – Мо я кепскі ўнук, але ў сэрцы ў мяне нічога не скранулася, калі вы мне сказалі пра дзеда... – Што ж, сэрцу не загадаеш, – азваўся ён [капітан] нарэшце... (А. Крыга. Порт прызначэння). – Страляй, – сказала Аксана, засланіўшы сабою Акімава. – Сам ведаеш: сэрцу не загадаеш. А мне без яго не жыць, вось і ўся гаворка (М. Герчык. Вяртанне да сябе). – Сэрцу не загадаеш, Міхась, – з сумам і болем сказала Іра. – І не трэба мардаваць сябе. Мо мне і горай за ўсё, што ты мардуеш сябе... (В. Блакіт. Вяселле ў Беражках).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 7: Сэрцу не загадаеш, каго любіць; Сэрцу не падкажаш.

**Сябры пазнаюцца ў бядзе**. *Функц. не зам.* **Сін**.: *Дружба пазнаецца ў няшчасці.* – Ты мне сябра, мой дарагі сябра, але навошта гэтыя грошы? Навошта? – Калі я табе сябра і ты мне сябра – ты павінен узяць. Не спрачайся. Сябры пазнаюцца ў бядзе. А ў цябе бяда. Я павінен табе памагчы. Бяры (У. Дамашэвіч. Фінская лазня...). Народная мудрасць кажа: сябры пазнаюцца ў бядзе. Калі летам мінулага года я апынуўся ў бальніцы, – адным з першых мяне праведаў Генадзь Карпенка (Н. Гілевіч. Дзяржаўны муж, якога любіў народ).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 381: У бядзе друга пазнаюць; Прыяцеля пазнаеш у няшчасці.

**Сядзем радком, пагаворым ладком.** *Сяброўскае запрашэнне сесці і пагаварыць сардэчна, па душы.* – Дзядзька Лявон! Ну, а як твая нага, не баліць?.. – Нічога, жыць можна. Хоць і крывая, як дуга, але ж свая... – А можа, па чарачцы зробім? Сядзем радком, пагаворым ладком. Га, дзядзька Лявон? (Я. Галубовіч. Лявон Макейчык).

**Сядзі ў будзе ды чакай, што будзе.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, хто пасіўнічае, чакаючы невядома чаго.* А во – надзьмуўся! Я – пра тое, што брат не раіць табе ўцякаць. Што ж ён думае – з мамінай печы, з-пад жончынай коўдры – нам тут з табою, як кажуць, сядзі ў будзе ды чакай, што будзе? А дудкі! Насядзеліся... (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

– *Санько,* с. 118: Сядзі ў будзе і чакай, што будзе.

**Сядзі ціха, калі не хочаш мець ліха**. *Гаворыцца як парада не высоўвацца, не праяўляць залішняй актыўнасці ў жыццёвых абставінах.*

* І нашто, думалася мне, панесла Сакольскага з юрыстаў у войска? Жыў бы ў сваім маёнтку, не маючы абавязку ваяваць. Сядзеў бы ціха, як казала мая бабуля, не зведаў бы ліха (К. Тарасаў. Аўдытарская праверка ў Нясвіжы).

– *Ляцкі*, с. 43: Сядзі ціха, калі не хочаш мець ліха.

**Сякі-такі (хоць які) целяпей, усё ж такі ўдваіх ляпей.** *Пра перавагу замужняга жыцця над жыццём адзінокай жанчыны.* **Сін.:** *Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей.* У той момант адзіноты яна [Марыя] гатова была паступіць па прыказцы: «Сякі-такі целяпей, усё ж такі ўдваіх ляпей». А жыць давялося не ўдваіх, а чацвярым (У. Калеснік. Янка Брыль).

– *Федароўскі,* с. 57: Сякі-такі целяпей, а ўсё будзе ляпей; *Прыказкі,* кн. 2, с. 61: Сякі-такі целяпей, такі ўсё ўдваіх ляпей; Хоць які целяпей, але ўдваіх ляпей.

**Сялянскаму роду няма пераводу.** *Гаворыцца ў абарону сялянскай годнасці.* «Мне, – казаў [Васіль], – і ў камеры месца не знайшлося, адно слова – сялянскае быдла. Ды сялянскаму роду няма пераводу. Выпусцілі [з турмы]» (А. Кажадуб. Даўгі нашы). Селянін мае права на ўсё, што здабываў стагоддзямі для іншых! Сялянскаму роду няма пераводу, але кінь вокам на прыгонную вёску. Жудасна!.. (М. Віж. Лабірынт).

* [Аксён:] Той Несцерка, у якога дзетак шэсцера, рабіць ляніцца, красці баіцца, прасіць не пасмее? [Несцерка:] Не, дзядзька. Сын сялянскага роду, якому няма пераводу (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 321: Сялянскаму роду няма пераводу.

**Сямёра аднаго не чакаюць.** *Гаворыцца, калі многія не могуць ці не хочуць чакаць аднаго.* Што ж, сямёра аднаго не чакаюць. А ў нас жа не сямёра на аднаго прыпадае (А. Якімовіч. Таямнічы сундучок). Іван Васільевіч, давай каманду. Сямёра аднаго не чакаюць (І. Шамякін. Снежныя зімы). Што будзем рабіць, гаспадар? Як кажуць, сямёра аднаго не чакаюць. Не будзем жа тут, сабраўшыся, сядзець, бы на закуцці, ды пазіраць адзін на аднаго, як у святую пятніцу. Як ты думаеш?.. (М. Машара. Старонкі летапісу).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 374: Семера аднаго не ждуць.

**Сяннік не падушка, а нявестка не дачушка.** *Пра непараўнальную перавагу дачушкі над нявесткай.* Фёкла старалася не крыўдаваць на свякроў. Нічога не зробіш: «Сяннік не падушка, а нявестка не дачушка», – як кажуць у Запалонным (У. Гніламёдаў. Усход).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 95: Нявестка не дачушка – сяннік не падушка.

**Сям'я не без выродка.** *Гл.* У сям'і не без выродка.



**Тады дзеўка схамянулася, як у жываце страпянулася**. *Гл.* Тады дзеўка схамянулася, як у пузе (жываце) страпянулася.

**Тады дзеўка схамянулася, як у пузе (жываце) страпянулася**. *Гаворыцца пра дзяўчыну, якая адчула сябе цяжарнай.* Докторша адразу зразумела: павяла яе ў бальніцу. Там абгледзела і сказала: – Во што, галубачка! Чаму ж ты раней не запыталася? А то як кажуць: тады дзеўка схамянулася, як у пузе страпянулася! Цяпер я табе нічым дапамагчы не магу... (А. Мрый. Працоўны дзень савецкага лекара). [Куліна:] І табе, Марфа, пара б утаймавацца.

[Халімон:] Тады дзеўка схамянулася, як у жываце страпянулася (У. Сауліч. Халімон камандуе парадам).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 22: Тады дзеўка схамянулася, як у пузе страпянулася.

**Тады маці міла, як ногі мыла.** *Кажуць з асуджэннем пра сына ці дачку, калі яны не паважаюць маці.* «Гэта ты... на матку сваю, га? Ты-ы... гэ-так... на матку?! – у яе ўжо цямнела ў вачах, калола ў скронях і патыліцы, здушыў горла плач: – Ну, але... Нашто табе ўжо матка... Тады маці была міла, як... як ногі мыла...» (П. Місько. Ціхае лета).

– *Ляцкі*, с. 9: Датуль матка міла, дакуль бруд мыла; *Прыказкі*, кн. 2, с. 83: Мамка міла, пака ножкі мыла; Тагды матка была міла, калі нашы рукі і ногі мыла.

**Тады сіўка аглядзеўся, як хвост загарэўся**. *Гаворыцца са шкадаваннем ці іроніяй пра што-н. непапраўна страчанае*. Як я магла адмовіцца ад права называць Толіка маім? А цяпер ужо нічога не зробіш... Позна. Фатальна позна. Тады сіўка аглядзеўся, як хвост загарэўся (Н. Бабіна. Рыбін горад).

– *Рапановіч*, с. 266: Тады сіўка аглядзеўся, як хвост загарэўся.

**Такая зямля добрая: пасадзі аглоблю – калёсы вырастуць**. *Гаворыцца з захапленнем пра вельмі ўрадлівую зямлю.*

* А зямля, у якой аж стагоддзі знікалі іхнія карэнні, была не самай багатай, не кубанскі чарназём і не малдоўскі гектар, дзе з аглобліны вырастаюць калёсы. На ёй спрадвеку былі балоты (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока). А пад Княжборам зямля добрая, аглоблю пасадзі – і тая парасткі пусціць, буяе ўсё (В. Казько. Неруш). Тут на абодва бакі дарогі – найлепшая куранёўская зямля, куранёўскі чарназём, на якім уваткні сухую палку – вырасце дрэва! Масла, а не зямля! (І. Мележ. Подых навальніцы). Зямля не надта што: дзе лясок, дзе мыслец, а дзе й сам не разбярэш, што яно такое. Не тое, што вунь у Кармалёх, што каб дзіця пасадзіў на раллі, як кажуць, то й яно б расло (К. Крапіва. На пасёлкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 51: Такая зямля добрая: пасадзі аглоблю – калёсы вырастуць.

**Так дык так, не так, дык памяняўшы**. *Можа, гэтак і будзе. Гаворыцца як частковая згода з суразмоўнікам.* – Адрас [фатографы] запісалі, сказалі, з горада [карткі] прышлюць... – Прышлюць... адзін такі маліўся, дык быў паваліўся... – А чаму вы ведаеце, дзед? Мо і прышлюць. Бутэльку дала, не што-небудзь. – Бу-

тэлька, яно канечне... Як той казаў: так дык так, а не так, дык памяняўшы (А. Кажадуб. Пара коней сівых).

– *Раманаў*, с. 310: Так дык так, не так, дык памяняўшы; *Выслоўі*, с. 108: Так дык так, не так, дык памяняўшы.

**Такія дактары вымуць душу без пары**. *Гаворыцца як адмоўная ацэнка якога-н. няўмелага медыка*. Вось такія дактары вымуць душу без пары (Загаловак сатырычнага верша К. Крапівы). Там добрыя дактары вымуць душу без пары (В. Вітка, В. Суша, В. Ціхамірава. Роднае слова). Паводзіны [кіраўнікоў] мне нагадваюць тэрапеўта, які ўсё жыццё лячыў толькі таблеткамі, крытыкаваў хірургаў. Але раптам узяў у рукі нож і кажа: «Кладзіся на аперацыю. Я самы лепшы хірург». Вы згадзіліся б, каб ён вас аперыраваў? То-то ж! «Вам такія дактары вымуць душу без пары» (Нар. газ. 1993, 5 сак.). – І што гэта за спецыяльнасць?.. – Медыцынская сястра, – прыязна глянула дзяўчына. – Так што, калі захварэеце – прыходзьце лячыцца... – Вось такія дактары вымуць душу без пары, – весела працытаваў ён радкі з верша і тут жа схамянуўся: а раптам пакрыўдзіцца?! (В. Блакіт. Вяселле ў Беражках).

– *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1902. Т. 2. С. 144: Намацеў, напацеў і сам к чорту паляцеў. Гэтыя дактары вымуць душу без пары: не лечуць, ды яшчэ калечуць.

**Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца.** *Пра сацыяльную і іншую няроўнасць людзей.* **Сін.:** *Адны пануюць, другія гаруюць; Палавіна свету скача, а другая палавіна свету плача.* І я, нібы тая пчолка, абудзілася ад сну: столькі задумак, столькі памкненняў і надзей! А ці здзейсняцца, пажывём – пабачым. Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца (С. Лобач. Пажывём для людзей).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 431: Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца.

**Так нічога не бывае <усё за грошы>**. *Ужываецца іранічна як рэакцыя на слова т а к у незаконченым выказванні суразмоўніка*. [Ядзя:] Каб ты быў добры, дык і жонка была б добрая, а так... [Іван:] Так нічога не бывае, усё за грошы! (З. Дудзюк. Заложнікі шчасця).

– *Янкоўскі*, с. 200: Так сабе нічога не бывае.

**Такога цвету па ўсяму свету.** *Такога дабра хапае ўсюды. Кажуць іранічна пра каго-н.* – А хітра прыладзіўся, Дзятлік! – падміргнуў Яўхім. – Такі нібы варона, а як да дзеўкі – не промах!.. –

Адыдзі ты!.. – Не бойся, не адаб’ю. Такога цвету – па ўсяму свету! (І. Мележ. Людзі на балоце).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 26: Гэтага цвету па ўсяму свету.

**Там добра, дзе нас няма**. *Усюды аднолькава. Кажуць іранічна як адмаўленне, што дзе-н. жыццё, становішча і пад. добрае, лепшае, чым тут.* [Данілка:] Мусіць, добра жыць на гэтым свеце вялікім? Я ўжо мамцы казаў, што добра. [Старац:] Там добра, дзе нас няма (Я. Купала. Раскіданае гняздо). І не ведаў, не ведаў даўно ўжо Апанас Харчэня, дзе яму лепш будзе – у выгнанні ці дома, у сваёй вёсцы. «Мабыць, усюды аднака. Там добра, дзе нас няма», – прыходзіла на памяць чутае, і Апанас згаджаўся з народнай мудрасцю (Б. Сачанка. Вялікі Лес). А показка гаворыць пра райскі кут: там добра, дзе нас няма. Таму і жывём мы тут! (Р. Барадулін. Таму). **Добра там, дзе нас няма.** А ці не раз ён [Васіль] наважваў плюнуць на зямлю, на хату, на пэўныя заробкі і паспрабаваць шукаць шчасця дзе-небудзь у вялікім горадзе. Але ён добра памятаў народную прыказку: «Добра там, дзе нас няма» (Р. Няхай. Гудкі абуджаюць вясну). Як ехалі людзі ў Польшчу, ён [Кароль] завёз яе [жонку] сюды на вакзал, а сам з канём вярнуўся дадому. А куды ехаць – ад свайго не ўцячэш. Кажуць, добра там, дзе нас няма (В. Адамчык. Кароль Нябожа). – Глупства ўсё гэта, Маруткін, – сказаў Пятро і падняўся. – Хто гэта будзе кідаць работу, якая палюбіцца. Добра там, дзе нас няма (У. Рубанаў. Каштаны).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 292: Там добра, дзе нас няма.

**Тапелец і за саломінку хапаецца.** *У бязвыхадным становішчы, калі няма выбару, звяртаюцца да безнадзейнага сродку.* **Сін.:** *Калі топішся, дык за брытву ўхопішся.* Трэба скарэй да земскага падавацца. Хоць на яго і ніякай надзеі, але тапелец, кажуць, і за саломінку хапаецца (А. Якімовіч. Канец сервітуту). Нечакана [у Крупадзёрава] мільганула думка: а мо прызнацца, што ён зусім малапісьменны, таму і ўліп у гэтую гісторыю з бульбай. Нездарма кажуць: тапелец і за саломінку хапаецца (Л. Левановіч. Паводка сярод зімы). Наскамі валёнак, адзетых у буцы, Юзік пачаў калупаць на дне ямы, спадзеючыся адшукаць якія кол ці рагаціну, каб можна было імі зачапіцца за край, мо і падцягнуцца. Ён недзе ўсведамляў, што гэта задума марная, пустая, але ж не хаваць сябе пожыву, нешта трэба рабіць. «Тапелец і за саломінку хапаецца», – успомнілася людская мудрасць (А. Рыбак. У яме). **<Той> хто топіцца, <і> за саломінку (саломку) хопіцца**. – Цяпер яны [эсэры] крычаць, што мы ўкралі ў іх аграрную праграму, – сказаў Петэр... –

Хто топіцца – за саломінку хопіцца. Так і эсэры (І. Шамякін. Першы генерал). – Бальшавікі адчуваюць сваю канчыну, – паўтарыў за фонам перакладчык на нейкай дзіўнай, хоць і беларускай мове, – і таму чыняць масу бясчынстваў. Той, хто топіцца, і за саломку хопіцца (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). **Як топішся, дык і за саломінку хапаешся**. – Ай, мама, не хачу так. Начальства прывяжа яго [Алёшу] да мяне, ці што?.. – Маё ж ты дзіцятка, ведама. Але як топішся, дык і за саломінку хапаешся (М. Гіль. Таццянін чэрвень).

* Дзіда-дзед хацеў рознымі хітрыкамі адцягнуць сваё жыццейка, як кароўку за рогі, яшчэ на гадок, – і падлабуньваўся салодкімі слоўцамі. Як топішся, дык за цюцькін хвост хопішся (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка). – А як жа Галіна?.. А Толік?.. Ты хоць пра іх падумаў? – як за апошнюю саломінку, ухапіўся я за гэтую думку (Я. Васілёнак. Вячэрняя размова). І хоць [Андрэй] разумеў, што шанц нешта паправіць, перайначыць у яго не больш, чым саломінка для тапельца, усё роўна не рашаўся забіраць дакументы, спадзеючыся на цуд (В. Блакіт. Усмешка Фартуны).

– *БРС*, т. 2, с. 431: Калі топішся, то і за саломінку ўхопішся; *Янкоўскі*, с. 244: Як топішся, то і за саломку ўхопішся.

**Тая зязюля, ды не так кукуе.** *Пра чалавека, які не з'яўляецца тым, кім лічаць яго, за каго прымаюць.* Можа, вы падумалі, што... Канстанцін Рубашка мой сваяк? Не, гэта цёзка па прозвішчы, як кажуць, тая зязюля, ды не так кукуе (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

– *Рапановіч*, с. 93: Тая ж зязюля, ды не так кукуе.

**Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра**. *Функц. не зам.* **Сін.:** *Адклад не ідзе на лад; З адкладу няма ладу.* – Адклад не ідзе на лад, вы ж ведаеце. Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра, – банальна сказаў Раман і сам узлаваўся на сябе за гэта (Я. Васілёнак. Вячэрняя размова). Вы запрасіце загадчыка райфінаддзела і намесніка па будаўніцтве і гадзін у 10 вечара да мяне... Не позна... Не, тое, што можна сёння зрабіць, на заўтра адкладваць не трэба. А заўтра і за справу (А. Макаёнак. Жыццё патрабуе). **Тое, што можна зрабіць сёння, ніколі не адкладвай на заўтра.** Карчагін сам любіў працу і прывіваў гэту любоў дзецям. Любімымі яго словамі былі, якія ён часта паўтараў: «Тое, што можна зрабіць сёння, ніколі не адкладвай на заўтра» (І. Гурскі. Настаўнік). **Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння.** [Арцём:] Калі памяняемся? [Барыс:]

Ніколі не адкладвай на заўтра тое, што можна зрабіць сёння. Зараз я збяру свае манаткі (М. Матукоўскі. Мужчына, будзь мужчынам...).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 173: Не адкладвай на заўтра, што паспееш зрабіць сёння; Не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сягоння.

**Тое, што можна зрабіць сёння, ніколі не адкладвай на заўтра.** *Гл.* Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.

**<Той> не гаспадар, у каго вецер у павеці гуляе**. *Гаворыцца з асуджэннем пра нядбайнага, лянівага гаспадара*. – Тут ужо ён не хлусіў; хіба ў каго каровы, свіней няма? Ёсць! – Як жа без гэтага?.. – Праўда, той не гаспадар, у каго вецер у павеці гуляе, – пагадзілася бабуля (Н. Маеўская. Надзеевіч).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 188: Не гаспадар, калі вецер у павеці гуляе.

**Той пан добры, што на асіне вісіць**. *Устар. Пра стаўленне селяніна да паноў.* Зноў жа, які пан дабрэйшы – буйны ці дробны, – пытанне вельмі туманнае. Памеры багацця ніколі не вызначалі панскай дабраты і адносін да селяніна. Праўду кажа старая прыказка: «Той пан добры, што на асіне вісіць» (М. Лужанін. Закрытая рэцэнзія...).

**<Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца**. *Гл.* Тапелец і за саломінку хапаецца.

**Трапіў у вараны, крычы, як яны**. *Чалавек мусіць прыстасоўвацца да пэўнага асяроддзя, паводзіць сябе так, як і тыя, да каго ён трапіў.* **Сін.:** *З ваўкамі жыць – па-воўчы выць.* – Ты сабе як хочаш, а мне абрыдла... Я на такое не наймаўся. – А ты на што спадзяваўся? Дудкі, трапіў у вараны, крычы, як яны (А. Асіпенка. Вогненны азімут). **Убіўся ў вароны, каркай так, як оны**. – А каб вас з вашым панствам. І ты ўжо, бачыш, шляхціц, пан: дровы на сыне возіш... – Ну, убіўся ў вароны – каркай так, як оны (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). **Папаўся ў вароны, то крычы, як воны**. Думаю, хоць бы тыя [хлопцы] дзе сабе галовы паскручвалі, пакінулі майго ў спакоі. Дзе там! Ніякая трасца іх не возьме... Кажуць жа людзі: папаўся ў вароны, то крычы, як воны. Вось і мой пад іх пяе. Бывае, прыедзе, дык аж не пазнаю. На бутэльку заглядаецца... (А. Кажадуб. Стрэчанне).

* [Лене] успомнілася старая прымаўка: сярод варон жыць – воронаю каркаць. Яна так не можа. І шкадавала, што паддалася на зман, што не хапіла вытрымкі ў спрэчцы з Волькай (М. Ваданосаў. Надзеі і здзяйсненні).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 373: Папаў у вараны, крычы, як яны; Улез у вароны, гракай, як і оны.

**Тры лісе ў адно зліліся**. *Пра букет хваробаў у каго-н*. У нас ён паківаў галавой і сказаў прымаўкай, што тут, у Ніны, «тры лісе ў адно зліліся»: застуджаны грып, на ім падхапілася запаленне лёгкіх, а на дадатак – яшчэ і коклюш, гэты самы балючы, гвалтоўны кашаль, які надрывае і без таго хворыя лёгкія (Я. Брыль. У сям'і).

**Трэба пуд солі з'есці, каб пазнаць чалавека.** *Гл.* Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з'есці з ім пуд солі.

**Трэцяга не дадзена.** *Кніжн. Гаворыцца ў сітуацыі, калі іншага выйсця няма і не можа быць, апрача толькі выбару адной з дзвюх магчымасцей.* У нас два шляхі – альбо змагацца і выжыць, альбо здацца і памерці, трэцяга не дадзена (М. Кахановіч. Не кусайце локці). Толькі мы самі, і ніхто іншы, зможам забяспечыць сабе дастойнае жыццё, калі возьмем лёс ва ўласныя рукі. Трэцяга не дадзена (В. Серафімовіч. Жывём чужымі ідэямі). Спалучэнне *дс* у словах тыпу *людскі* вымаўляецца як *ц*: *люцкі*. І калі б напісанне такіх слоў засноўвалася на фанетычным прынцыпе, то іх і трэба было б пісаць праз *ц*. Калі ж кіравацца марфалагічным прынцыпам, то тут трэба захоўваць *дс*. Значыць, або фанетычныя напісанні праз *ц*, або марфалагічныя праз *дс*. Трэцяга, як кажуць, не дадзена (Настаўн. газ. 1999, 13 мая). – Не блазнуйце, княжа, перад боскай праўдай! – рэзка абарваў Завіша, змерыўшы старога дакорлівым позіркам. – Хто сябра, а хто вораг, кожны з нас ведае выдатна. Трэцяга тут не дадзена (М. Віж. Лабірынт).

– Калька з лацінскай мовы: *Tertium non datur.* Першапачаткова ўжывалася як фармулёўка лагічнага закону аб выключэнні трэцяга, г.зн. калі дадзена два палажэнні, адно з якіх сцвярджае штонебудзь, а другое адмаўляе, то трэцяга не можа быць. Лічаць, што выказванне паходзіць ад слоў Цыцэрона *Non est tertium* (няма трэцяй магчымасці).

**Турма вялікая, але ніхто не хоча там жыць**. *Гл.* Турма моцная (вялікая), але ніхто не хоча там жыць.

**Турма моцная (вялікая), але ніхто не хоча там жыць**. *Гаворыцца як іранічная і засцерагальная рэакцыя на словы «моцны» ці «вялікі» ў папярэднім выказванні, ужытыя ў дачыненні да якога-н. іншага прадмета.* Пераканала запэўненне Лося, што ім [чаравікам] зносу не будзе, аплацяцца. «Паглядзіш, якія яны моцныя». Мне хоць і прыгадвалася бацькава засцерагальная прыказка: «Тур-

ма моцная, але ніхто не хоча там жыць», ды я ўсё ж уступіў старэйшаму і зычліваму апекуну (У. Калеснік. Доўг памяці).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 357: Вялікая цюрма, ды ніхто ў яе не хоча; Харошы астрог, ды чорт яму рад.

**Ты за мора, а за табою бяда і гора**. *Гаворыцца, калі чалавеку не шанцуе, калі непрыемнасці ідуць адна за адной.* **Сін.:** *Адна бяда – не бяда; Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>; Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе; Чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе.* – Што тут расказваць, зноў [немцы] будуць браць мужчын. – Што ні ліхата, то ўсё на нас... – Праўду кажуць, ты за мора, а за табою бяда і гора (В. Адамчык. Голас крыві брата твайго).

**Ты з варот, а ён цераз плот**. *Кажуць пра таго, хто можа нечакана, непрадбачана аказацца перад кім-н.* [Навум:] Маўчы, Ціт! Не наша дзела аб гэтым гаманіць.. Ты гамоніш, а ён шмыг – і тут! Ведаеш прыпавесць: ты з варот, а ён цераз плот (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 372: Ты з варот, а ён чэраз плот.

**Ты іграеш, як сам знаеш, а я скачу, як сам хачу**. *Пра бязладдзе, беспарадак і адсутнасць узгодненых дзеянняў паміж кім-н.* Хто не праклінаў і сваё жыццё, і сваю долю, і ўсе дарожныя парадкі? А парадкі гэтыя ўсё-ткі астаюцца ў непарадку, праўду кажа тая прыказка: «Ты іграеш, як сам знаеш, а я скачу, як сам хачу» (Я. Купала. Мястэчка Здарэнне...).

– *Ляцкі*, с.46: Ты іграеш, як знаеш, а я скачу, як хачу.

**Ты на гару, а чорт за нагу**. *Ніяк не ўдаецца пазбавіцца ад чаго-н., выйсці з цяжкага становішча. Кажуць, калі каму-н. не шанцуе.* **Сін.:** *<І> адтуль горача, <і> адсюль боляча; Куды ні кінь, усюды клін.* Абабраў, аграбіў мяне нехта... Нейкае ліха мне жыць не дае... Ты на гару, а чорт за нагу... (З. Бядуля. Сымон). Праўду кажуць людзі, ты на гару, а чорт за нагу. Яго судовая справа такая самая, як і ў мяне. Праўда, у мяне да камсамольскіх грахоў прыплюсаваны яшчэ і канфіскаваныя вершы (М. Машара. Лукішкі). Вось так заўсёды. Ты на гару, а чорт – за нагу. Хочаш, каб хутчэй, а тут... (П. Місько. Канал імя Віцькі Зайцава). Ці заўсёды і ўсюды чалавек? Бывае, што і наадварот... Вось як цяпер: ты на гару, а чорт за нагу (У. Дамашэвіч. Порахам пахла зямля). **Чалавек на гару, а чорт за нагу**. Ды, як людзі кажуць, чалавек на гару, а чорт за нагу. Зоі было пяць гадоў, калі Валя цяжка захварэла, памучылася з паўгода і памерла (Л. Арабей. Камень). **Як чалавек на гару, дык чорт за нагу**. Камісар працягваў у тон Мірону гаварыць: – І

скажы ты: як чалавек на гару, дык чорт за нагу. Але трасцу немец нас убярэ! (І. Гурскі. Лясныя салдаты).

– *Насовіч*, с. 166: Ты хочаш на гару, дык чорт за нагу; *Федароўскі*, с. 64: Што чалавек на гару, то чорт за нагу; *Прыказкі*, кн. 2, с. 159: Ты на гару, а чорт за нагу; Чалавек на гару, а чорт за нагу.

**Тырчаў на дарозе пень, пакуль за яго не чапляліся, а сталі чапляцца – пню не ўтрымацца**. *Калі хто-н. становіцца перашкодай, яго адхіляюць*. – Завошта ж, брат, цябе выдалілі? – спытаў замест адказу, нібы нічога не ведаючы, Андрэй. – Тырчаў на дарозе пень, пакуль за яго не чапляліся, а сталі чапляцца – пню не ўтрымацца. – Дык не за дубок адмовілі ад службы?.. – Скуль ты ведаеш аб дубку? (Я. Колас. Малады дубок).

– *Янкоўскі*, с. 201: Тырчаў на дарозе пень, пакуль за яго не чапляліся, а сталі чапляцца – пню не ўтрымацца.

**Ты ў свет, і доля ўслед**. *Кажуць пра немінучасць, непазбежнасць чаго-н., як бы загадзя вызначанага.* **Сін**.: *Ад лёсу не ўцячэш; Свайго лёсу не мінеш; Суджанага і канём не аб'едзеш; Чаму быць, таго не мінаваць.* З цягам часу маці нагледзела і прыдбала хату, давяла да толку, выштукавала: жыць – не гараваць! Сын радаваў першымі ўдачамі-поспехамі. Але праўду кажуць: ты ў свет, і доля ўслед. Цяжка захварэў прыгажун-падлетак – яе адзіны сонечны праменьчык у жыцці і адзіная надзея. Медыцына аказалася бяссільнай для юнака, які толькі што закончыў сярэднюю школу... (Г. Раманчук. І доля ўслед).

– *Федароўскі*, с. 79: Хоць мы ў свет, наша доля ўслед; Хоць праз свет – за табою доля ўслед.

**Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць**. *Пра ўпартага чалавека, перакананні, прывычкі якога нічым не зменіш. Гаворыцца з неадабрэннем.* «Не, гэтых не прырахманіш, не Ганскі, – думаў [Жагула] пра Рыгора і Сцёпку. – Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць» (К. Крапіва. Мядзведзічы). А «наогул» то ён «нашым шляхам ідзе». «Не прадасць за мільён пралетарскіх ідэй». Так, на словах то наш, толькі к чорту глядзіць: яго маслам ты маж, а ён дзёгцем смярдзіць (К. Крапіва. «Наш»).

– *Янкоўскі*, с. 327: Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.

**Ты яму «стрыжана», а ён табе «голена».** *Кажуць з асуджэннем пра ўпартага, незгаворлівага чалавека.* **Сін.:** *Поп сваё, а чорт сваё; Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто ў сачыўку>; Я яму пра плот, а ён пра азярод; Я яму пра Фаму, а ён пра Ярому.* [Вінцэся], як заўпарціцца, хоць нажом крой на кавалкі. Ты яму – «Стрыжа-

на!», а ён табе – «Голена!» (П. Місько. Ціхае лета). [Жыгліцкая:] Чуеш, што кажа? І гэта называецца жонка, памочніца твая. Ты ёй слова – яна табе два, ты ёй «голена» – яна табе «стрыжана» (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 302: Гавары яму – стрыжана, а ён табе – голена; Ты яму кажы, што стрыжана, а ён табе, што смалена.

**Тэатр пачынаецца з вешалкі**. *Функц. не зам. Пра значнасць чаго-н. цэлага можна меркаваць і па яго асобных, здавалася б, другарадных, дробязных частках, дэталях.* Трапіў у тэатр нечакана... Стаяў ля сцяны з партрэтамі артыстаў і міжволі здзіўляўся. Нельга было не здзіўляцца. Тэатр пачынаецца з вешалкі? Не, тут ён пачынаўся з фае. З гэтых партрэтаў. З публікі. А публіка была не абы-якая... (Л. Маракоў. 1975-ы). Тэатр, як вядома, пачынаецца з вешалкі, а музей павінен пачынацца з тратуару перад будынкам (Нар. газ. 2000, 22 лістап.).

– Запазычанне з рускай мовы. Мяркуюць, што аўтар гэтага выказвання – вядомы рэжысёр, акцёр і тэарэтык тэатра К. С. Станіслаўскі (1863–1938).

# У

**У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька**. *Поўная бяссэнсіца, бязглуздзіца. Пра непаслядоўнасць выказвання, нелагічнасць маўлення.* – Не магу во апомніцца!.. – Ты па парадку давай, а то спакой душэўны, галандскія сарты і акадэмік Альсмік. У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька, – перабіў Бялькевіча Карагедаў (В. Шырко. Сцяжына да людзей). Раскідалася я сёння ва ўсе бакі. «У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька». Хацела запісаць толькі, як хадзіла да Сівалобіхі, а дапісалася да Адаліны (І. Шамякін. Снежныя зімы). Вы прыводзіце нейкія спрэчкі паміж намі наконт таго, ці выходзіць на суботнік са сцягамі, ці без іх. Маўляў, я не пагадзіўся на сцягі і, вядома ж, абураны, сказаў, што ў такім разе не збіраюся прадстаўляць вам інструменты і саджанцы ды ляснуў дзвярыма, і кропка. Парадокс. У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька. Ніякімі інструментамі і саджанцамі я не загадваў, не помню спрэчак пра сцягі, не ляскаў дзвярыма (В. Якавенка. Дазвольце не пагадзіцца...). Для байкі вельмі і вельмі важна, каб павучальны вывад, які звычайна даецца ў канцы твора, вынікаў з самога сюжэта, з характараў, а не прывязваўся па прынцыпу: «у гародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька» (Н. Гілевіч. Майстэрства байкапісца).

* Я свет няпраўдай не праходзіў, быў часам тлум у галаве – то бузіна расце ў гародзе, то дзядзька ў Кіеве жыве (П. Панчанка. Простыя ісціны). У гародзе бузіна, а ў Кіеве Кучма (Л. Дайнека. Парадаксізмы).

– Запазычана з украінскай мовы: *На городі бузина, а в Києві дядько.*

**У <аднаго> няўмекі рукі не баляць**. *Гаворыцца з неадабрэннем пра няўмелага, няздатнага да работы чалавека*. Прачнецца, бывала, Харытоніха пасля трэціх пеўняў. А гаспадар усё гарбее над машынаю, грукоча... Бо і то праўда: у аднаго няўмекі рукі не баляць. А Харытон Марымуха быў ого майстар! З усёй ваколіцы сыпаліся заказы (П. Місько. Амяла на бярозе).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 286: У няўмекі рукі не баляць; Няўмеламу рукі не баляць.

**У айчыма чэрці пад вачыма**. *Гаворыцца як адмоўная ацэнка айчыма ў яго адносінах да нядродных дзяцей. «*Гэта ж айчым яго выправіў на касьбу... Збяёдаць хлопца хоча». – «Праўду людзі кажуць: у айчыма чэрці пад вачыма...» (В. Шырко. Стукаў).

– *Прыказкі*, кн.2, с. 87: У айчыма чэрці пад вачыма.

**У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая)**. *Устар. Кажуць пра жанчыну, калі яна памылілася ў чым-н., неразважліва сказала ці зрабіла што-н.* [Альжбета:] Не смяшы ты людзей. Калі падпіў, дык ляж спаць! [Сцяпан:] Маўчы, баба!.. Ты, каханенькая,родненькая, нічога не разбіраеш... Валасы доўгія, а розум кароткі (Я. Купала. Паўлінка). – Я помню тое, што павінна помніць кожная жанчына... – Ты помніш? Ды няўжо ж людзі брэшуць, што ў бабы волас доўгі, а памяць кароткая? (К. Крапіва. Гарэлік і яго жонка).

* Ой жа, ой, даруйце – э, Рыгор Міхасевіч, вось вам пісулька. Утрапёная я баба... Сапраўды з доўгімі касамі, а з кароткім розумам... Дзяўчынка якаясьці прынесла і вельмі прасіла тэрмінова перадаць... (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

– *Насовіч*, с. 166: У бабы волас довіг, да вум каротак; *Прыказкі*, кн. 2, с. 77: Волас доўгі, ум кароткі.

**Убіўся ў вароны, каркай так, як і оны**. *Гл.* Трапіў у вараны, крычы, як яны.

**У бога дзён многа**. *Яшчэ паспееца, яшчэ ў запасе ёсць час зрабіць што-н.* – Мы ў вас не адны, але ў бога дзён многа. Быць не можа, некалі разбяромся, – сказаў Дзічкоўскі (А. Алешка. Дарогі без слядоў). – У мяне ўжо спіну разломвае, хоць пудовы камень да

яе прывязвай. – А ты б не перасільваўся. Як гавораць – у бога дзён многа (А. Казлоў. Перакуліся, перакуленае). – Як вам Сакрэ-Кёр? – Нішто. Шкада, мала тут пабылі. – У бога дзён многа (Ф. Сіўко. Мары з бульвара Даву). Пра сённяшні дзень я яшчэ напішу. «У бога дзён многа», – казала мая маці (І. Шамякін. Зона павышанай радыяцыі).

– *Федароўскі*, с. 254: У Бога дзён многа – паробім; *Прыказкі*, кн. 2, с. 276: У бога дзён многа.

**Увосень і верабей багаты**. *Увосень, пасля ўборкі ўраджаю, яды хапае ўсім.* **Сін.:** *Увосень і кабан паросен*. Сама больш іх [святаў] прыпадае на восень, зіму, калі і работы менш і свята можна было справіць па-належнаму, бо было з чаго (увосень жа і верабей багаты) (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). Настрой у Гамона не благі. Паспеў і атаву скасіць, і бульбу выбраць. Жыць, што ні кажы, стала лепш – увосень, як кажуць прускаўцы, і верабей багаты (У. Гніламёдаў. Вяртанне).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 87: Увосень і варабей багат; Па восені і верабей багат.

**Увосень і кабан паросен**. *Увосень, у часе ўборкі ўраджаю, яды хапае ўсім*. **Сін.:** *Увосень і верабей багаты*. Гаспадар сам падсмажыў грыбы, Ларыса зрабіла салату з памідораў, наабірала бульбы, зваранай у мундзірах. – От, сёння ў нас пір на ўвесь мір, – радаваўся Павел. – У нашай вёсцы кажуць: увосень і кабан паросен. Але ты не таўсцей. А то любіць не буду (Л. Левановіч. Ларыса, або Прыгоды аўтамабіліста).

– *Ліцвінка*, с. 16: Увосень і кабан паросен; *Рабкевіч*, с. 55: Увосень і кабан паросен.

**Увосень і мухі робяцца пякучымі**. *Кажуць пра таго, хто, нібы прадчуваючы сваю пагібель, робіцца злым, нясцерпным.*

* Надзей не трачу я: хоць валіць дым, – замрэ агонь пякучы. Такі закон: перад канцом сваім і мухі тнуць балюча... Збяры, народ, ты сілы ўсе і дух, напружся, як спружына: смяртэльна ранены звер слеп і глух, цаляй жа ў лоб звярыны! (Я. Колас. У апошні час).

– *Ліцвінка*, с. 89: Увосень і мухі робяцца пякучымі.

**Увосень – работ восем**. *На восень у сельскай гаспадарцы прыпадае вельмі многа рознай работы.* Увосень – работ восем. Так што, браце, пойдзем са мной, па дарозе ўсё чыста вырашым (В. Праскураў. Святая сівізна). У вёсцы ў гэтую пару людзі прыходзяць дамоў тады, калі ўжо на зямлю кладуцца густыя прыцемкі. Увосень – работ восем (І. Галубовіч. Настасін гай). **Восень – ра-**

**бот восем**. Якаў Васільевіч, ідучы да сваёй машыны, ушчуваў сябе, што так лёгка адпусціў Соню, ладам не пагаварыў з ёю. Восень – работ восем. Сто восем (М. Клебановіч. Соня).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 87: Восень – работ восем.

**У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць**. *Ад ліхога, нядобрага чалавека толькі і можна чакаць зла, напасці*. Маё прозвішча – Каваль, зваць – Даніла. Я з Камарына... Дык вось што: у гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць. У нас стаіць нямецкая карпусная артылерыя. Атрыманы нейкі загад генерала Гофмана. На нас рыхтуюць напад. Афіцэр хваліўся, што хутка «Салаўя прашчыплем»... (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Ляцкі*, с. 47: У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 64: У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць.

**У гародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька**. *Гл.* У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька.

**У гасцях добра, а дома лепей (лепш)**. *Кажуць, калі збіраюцца ісці адкуль-н. дамоў або пасля вяртання дамоў*. – А ўсё ж: у гасцях добра, а дома лепей. Факт. – У якіх там да чорта гасцях... – Дык у прыяцеляў, – падсмейваўся Шкадарэвіч (І. Гурскі. Вецер веку). «Вацлаў Вароўскі» ўжо двойчы грозна раўнуў, папярэджваючы турыстаў, якія... загасцяваліся ў палярнікаў, што ў гасцях добра, а дома лепей (У. Корбан. Цеплаход ідзе на Поўнач). [Сяргей паставіў чамадан, радасна аглядае пакой:] Мой родны кут, як ты мне мілы... Праўду кажуць, у гасцях добра, а дома лепш (В. Зуб. Незвычайная праверка). – Хутчэй дахаты, – сказала Таня, – у гасцях добра, а дома лепш (А. Кажадуб. Стрэчанне). – У гасцях добра, а дома лепей. – Пабудзь яшчэ, сястрычка, – просіць цётка Гануля. – Не, дзякуй, час нам дахаты збірацца, –адказвала маці (А. Ус. За лесам – бярозавы гай).

– *Федароўскі*, с. 106: У гасціне добра, а ў дому лепей; *Прыказкі*, кн. 1, с. 394: У гасцях добра, а дома лепш.

**У голад <людзі> намруцца, а ў вайну налгуцца**. *Гаворыцца з недаверам як рэакцыя на розныя чуткі, якія распаўсюджваюцца ў ваенны час*. Багата чутак ходзіць, і чуткі ўсе розныя. Як казалі старыя людзі: у голад людзі намруцца, а ў вайну налгуцца... Яно трохі так і выходзіць, бо чуткі ёсць чуткі (М. Лынькоў. Векапомныя дні). З хаты ў хату, з вёскі ў вёску перадаваліся франтавыя навіны. Вельмі часта самыя неверагодныя... Гэта тады я ўпершыню пачуў такую прымаўку: «У голад намруцца, а ў вайну налгуцца» (А. Пальчэўскі. Сцежкі). Цяпер Язэп зразумеў, чаму цётка Тац-

цяна перапыніла мужа: – Авой, дзетка маё, у голад намруцца, а ў вайну налгуцца... Наш Міхась яшчэ ў пачатку сорак другога прыйшоў. Якраз перад Грамніцамі (А. Асіпенка. Жыта). **У мор намруцца, а ў вайну налгуцца**. Не слухайма благіх языкоў, што рассяваюць такія ці сякія плёткі, бо, як кажуць, у мор намруцца, а ў вайну налгуцца. Не спыняйма працы дома і за домам, якая ішла да вайны і якая павінна далей ісці (Я. Купала. Хай рунь красуе...).

* А ў нас к-казалі, што расстралялі цяб-бе. Вось, сап-праўды, што ў голад п-пап-паўміраюць, а ў вайну п-пап-панабрэшуцца (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 501: У голад намруцца, а ў вайну налгуцца; У вайну налгуцца, а ў моры намруцца.

**У грыбы хадзіць і то лепш са шчасцем**. *Кажуць пра таго, каму шанцуе ў жыцці*. Расціце, мілыя, як жыта, і красуйцеся, як жыта. Няхай колас вашага жыцця наліваецца шчасцем. У грыбы хадзіць і то лепш са шчасцем (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

– *Насовіч*, с. 159: З шчасцем і ў грыбы харашо хадзіць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 424: Са шчасцем добра і ў грыбы пайсці.

**Удава – шалёная галава**. *Гаворыцца пра ўдаву, калі яна робіць непрадуманыя ўчынкі*. Ох, недарэмна гаворыцца: удава – шалёная галава. Усё ў яе выйшла навыварат, не па-людску. Трэба было не парабка наймаць, добрых людзей смяшыць, а свайго, старэйшага пакінуць гаспадаром, а меншы ўжо хай бы вучыўся (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 105: Удава – бедная галава.

**Удаве бяды дзве**. *Пра гаротную, бездапаможную долю ўдавы*. **Сін.:** *Удовіна і сякера не сячэ, і кабылка не вязе*. [Нічыпар:] Шкадавала... на сваю галаву. У мяне вунь таксама адна, але я не даваў ёй сваволіць. Затое цяпер перад людзьмі не сорам. [Аўдоцця:] На тое ж ты і бацька. А я што, – удава. А ўдаве, як кажуць, бяды дзве. Не слухае ён мяне (А. Макаёнак. Выйгрыш).

**Удалося забіць бабе лося**. *Кажуць насмешліва таму ці пра таго, хто хваліцца чым-н. нязначным*. – Выфранцілася, як мінісцерша якая. – А і ён не такі, каб стары. – Пэўна, разводнік. – Мо і ўдавец. – Удалося забіць бабе лося (Д. Слаўковіч. Апошняя чарка).

– *Насовіч*, с. 166: Удалося забіць бабе лося.

**Удзень кавярзень, увечары барышня**. *Гаворыцца насмешліва пра вясковую дзяўчыну, якая прыхарошваецца ўвечары, ідучы на гулянку (к а в я р з е н ь – лыкавы лапаць з закрытымі насамі)*. – Вядома, такі кавалер быў! – выцерла слёзы Маруся. – Ані людзям

паказаць, ані сабе глянуць. – А то ты не такая была. Удзень кавярзень, увечары барышня (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 14: Удзень кавярзень, увечары барышня.

**Удовіна і сякера не сячэ, і кабылка не вязе**. *Пра гаротную, бездапаможную долю ўдавы*. **Сін.:** *Удаве бяды дзве*. У народзе гавораць, што ўдовіна і сякера не сячэ, і кабылка не вязе. Сапраўды, горкая яна – удовіна доля. Як страшна, балюча ў першы час, і не хочацца жыць (І. Бекіш. Удоўка, удава – бедная галава).

– *Прыказкі*, кн.2, с. 106: Удовіна і сякера не сячэ, і кабылка не вязе.

**У доме павешанага не гавораць пра вяроўку**. *Кніжн. Каму-н. не гавораць у вочы пра тое, што непрыемна нагадвае пра яго недахопы, заганы і пад.* Адны хочуць забыць і жыць, як быццам нічога не адбылося, другія лічаць, што ў доме павешанага не гавораць пра вяроўку і лепшы спосаб забыць – гэта не гаварыць, трэція адчуваюць сябе ахвярамі... (В. Коўтун. У пошуках вечнага чалавека).

* Смяецца прыкмета, сабе паверыўшы: у доме паэта не кажуць пра вершы (Р. Барадулін. Не кажуць).

– Калька з французскай мовы: *On ne parle pas de corde dans la maison d'un pendu.*

**У дурнога салаўя і дурныя песні**. *Гаворыцца пра таго ці таму, хто кажа або робіць што-н. недарэчнае.* «Мо каб ты не курыла, яна [дачка] была б здаравейшая? Ды каб ты яшчэ яе грудзьмі карміла, як другія маткі...» Гэта ўжо кранула за жывое і жонку. – У дурнога салаўя дурная песня, – ледзь стрымліваючы сябе, каб не ўзарвацца, сказала рэзка (У. Дамашэвіч. На мяжы цярпення).

* Ат! Якая там мова! Некрасівая... – Э, не, дзед, у дурнога пеўня дурная песня... (У. Міхно. «Тубік»). «Веря, зверюга, убью!» – крычыць ён на жонку, і вяскоўцаў ад рогату як трасца трасе. Дурнога салаўя – дурная песня (В. Шырко. O, sancta simplicitas!). У дурной птушкі дурныя песні (Р. Барадулін. Прыбабунькі).

– *Прыказкі*, кн.2, с. 155: У дурнога салаўя і дурная песня; *Рапановіч*, с. 155: У дурнога салаўя і песня нялюдская.

**У жыцці згода як у жніво пагода**. *Гаворыцца як высокая ацэнка згоды паміж кім-н.* – Вось так: на работу пойдзеце – аддамо ўсё, – прапанаваў Глушкевіч. – Дык хто ж гэта супраць згоды? У жыцці згода як у жніво пагода, – прымаўкай адказала Параска, выціраючы рогам хусткі сухія вочы. Глушкевіч паверыў Парасцы, не думаючы, што прымаўка – чужыя словы. Гусей і свіней аддалі, а Параска на работу ўсё ж не пайшла (І. Дуброўскі. П'яўка).

**У закаханай кухаркі няўдалая страва выходзіць**. *У закаханага чалавека не ўсё ладзіцца на рабоце.* [Нодэльман:] Глядзі, не закахайся. [Карнейчык:] Злачынства невялікае. [Нодэльман:] Я не супярэчу, калі прамфінплану не пашкодзіць. У закаханай кухаркі, кажуць, няўдалая страва выходзіць, а што выйдзе ў закаханага дырэктара, гэта для мяне яшчэ не ясна (К. Крапіва. Канец дружбы). Адно словазлучэнне – «нешта пісалася» – вельмі шмат значыць для характарыстыкі псіхалогіі іх [творцаў] творчасці. Не буду развіваць... Бо нешта атрымліваецца як у прыказцы: «У закаханай кухаркі няўдалая справа выходзіць». Як і ў самазакаханых пісьменнікаў творы (І. Запрудскі. Сапраўды-2).

– *Янкоўскі*, с. 135: У закаханай кухаркі няўдалая страва выходзіць.

**У здаровым целе – здаровы дух**. *Функц. не зам. Ад стану здароўя чалавека залежыць яго настрой, працаздольнасць і пад.* [Альховы:] Фізкультура – здароўе чалавеку. [Смык:] А як жа: у здаровым целе – здаровы дух (І. Гурскі. Новы горад). – У здаровым целе – здаровы дух, – гаварыла яна [Лена] дамашнім. – Пасля трэніровак так добра працуецца (Р. Няхай. Алёшка-атаман). Настаўнік таксама заўсміхаўся: – Ну што ж... Такі настрой мяне абнадзейвае. Як кажуць: у здаровым целе – здаровы дух (М. Зарэмба. Сакрэт тэлепата). Нездарма кажуць, што ў здаровым целе – здаровы дух. Варта разгледзець гэтую ўзаемазалежнасць і ў адваротным парадку. Што і робяць педагогі і медыкі (Настаўн. газ. 2001, 20 снеж.). Змалку, са школьнай парты, запомніў я: у здаровым целе – здаровы дух. Але гэта не зусім так. Я быццам не хворы, нішто ў мяне не баліць, а дух... нездаровы (Б. Сачанка. Запіскі Занядбайлы). Ведаеш што, Лукаш, хадзем я цябе накармлю. Ты проста галодны. А ў здаровым целе здаровы дух (М. Лобан. Шэметы).

* Працаваць ёсць над чым, але памятай: у здаровым толькі целе жыве здаровы дух (Я. Колас. М. Ц. Лынькову). Дзень першага красавіка ў нас праходзіць пад дэвізам: «У здаровым целе – здаровы смех» (У. Правасуд. Самы сур’ёзны дзень). [Нікалаеў выцірае слёзы смеху:] Даўно ўжо так не смяяўся... У здаровым целе здоровы смех (А. Петрашкевіч. Соль).

– Калька з лацінскай мовы: *Mens sana in corpore sano*.

– *БРС*, т.1, с. 395: У здаровым целе здаровы дух; *Рапановіч*, с. 171: У здаровым целе і здаровы дух.

**Узяўся за гуж, <дык> не кажы, што не дуж**. *Калі ўзяўся за якую-н. справу, не адмаўляйся, спасылаючыся на цяжкасці яе*

*выканання.* **Сін.:** *<Калі> улез у дугу, <дык> не кажы <што> не магу; Назваўся груздом – лезь у кош; Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не аглядайся.* Вандроўкі на хутар не дужа вабілі Лабановіча... Ды ўжо адступаць позна. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж (Я. Колас. На ростанях). Як я напішу тое пісьмо? Але адступаць ужо было позна. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж (А. Якімовіч. Канец сервітуту). Цяжка з голымі рукамі брацца за такую работу, але нічога не зробіш – ніхто за нас рабіць не будзе. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж (І. Гурскі. На гуце). – Прыдумай што-небудзь, Майсеевіч, – казаў Пацярайчанку аўтар праекта Більдзюкевіч... «Лёгка сказаць, прыдумай», – разважаў Іван Майсеевіч. Але не аднекваўся: узяўся за гуж – не кажы, што не дуж (Г. Пашкоў. За восеньскай Лошыцай). Мне і перад ім [Сымонам] няёмка, а перад бацькам яшчэ болей: узяўся за гуж, дык не кажы, што не дуж. Сам жа начлежнічаць напрасіўся (Я. Шарахоўскі. Першы заробак). Дойдзем, дзеўка, дойдзем. Чула, як людзі кажуць? Узяўся за гуж, дык не кажы, што не дуж (М. Даніленка. Ля Дняпра, у другім эшалоне). **Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж**. [Сліваншын:] Усе з немцамі ваююць, а я дома сядзець? [1-ы партызан:] Ну дык і бурчэць нечага. Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж (А. Макаёнак. Ворагі). – Ну, а сам хутка вернешся ці мо там і астанешся?.. – Кажуць, калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж (Р. Няхай. Гудкі абуджаюць вясну). **Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж**. Куплю, куплю, каласочак мой, а як жа гэта кажуць, узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж (З. Бядуля. Летапісцы).

* Дзе ж тут зман той? Вось дзівак! Раз узяўся ты за гуж, не кажы, што я не дуж (Я. Колас. Сымон-музыка). [Скамарох:] Я таксама прымаўку пісьменную трымаю і, узяўшыся за гуж, на недуж не спашлюся (М. Клімковіч. Георгій Скарына). Не давала мне спакою ўсё гняздо буслова тое, што далей пісаць мне ў казцы, у яе наступнай частцы. Калі ўзяўся, брат, за гуж, адмаўляцца непрыгожа, што не дужы, не кажы (А. Астрэйка. Прыгоды дзеда Міхеда).

– *Насовіч*, с. 13: Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж; *Федароўскі*, с. 89: Калі ўзяўся за гуж, то не кажы, што не дуж; *Прыказкі*, кн. 2, с. 287: Узяўся за гуж, не кажы (не гавары), што не дуж.

**Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж**. *Гл.* Узяўся за гуж, <дык> не кажы, што не дуж.

**У каго грошы, у таго і розум**. *Чалавека лічаць разумным, калі ён мае шмат грошай.* – Маці неяк па сакрэту казала, што не толькі на валоку, а нават на дзве валокі хопіць «гузікаў», яшчэ і астануц-

ца... – Скупасць – не дурасць. Разумны чалавек. – Але, у каго грошы, у таго і розум. Мяне ён лічыць дурнем (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Федароўскі*, с. 118: У каго грошы – у таго розум.

**У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца**. *Багатаму, гаспадарліваму чалавеку шанцуе ў жыцці*. **Сін.:** *Багатаму і чорт у кашу дбае; Багатаму чорт дзяцей калыша*. – Хіба ў яго каровы, свіней няма? Ёсць! – Як жа без гэтага?.. – Праўда, той не гаспадар, у каго вецер у павеці гуляе, – пагадзілася бабуля. – А ў каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца! (Н. Маеўская. Надзеевіч). **Каму вядзецца, таму і певень нясецца**. – Багацце – яно такое, скажу вам, што аднаго любіць, а другога – не, каму шанцуе, а каму – не надта... – так заўсёды было, – пацвердзіла Фёкла. – Каму вядзецца, таму і певень нясецца (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

– *Федароўскі*, с. 328: У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.

**У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>**. *Гаворыцца жартаўліва пра таго, хто кашляе*. – Мне кашаль не дае спакою. – У каго кашаль, той і красен, – засмяяўся Алесь, – і ў роце не суха, і ў хаце не глуха! (А. Чарнышэвіч. Світанне).

– *Раманаў*, с. 311: У каго кашаль, той і красен.

**У каго сем – тым і доля ўсем, а ў каго адно – і тое не ладно**. *Кажуць пра адзінае ў сям'і дзіця, якое, на жаль, не мае шчаслівай долі*. – Падумай, дачка, даўно час падумаць, хто ты: дзеўка, баба ці ўдавіца?.. – Бацька кашляў доўга. Яна легла, а ён ўсё кашляў і чакаў адказу. – Праўду кажуць: у каго сем – тым і доля ўсем, а ў каго адно – і тое не ладно (У. Паўлаў. Спелыя травы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 91: У каго дачак сем – ёсць доля ўсем, а ў каго адна – долі жадна; Дзе сем, там і доля ўсем, а дзе адна, так і той долі няма.

**У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца**. *Гл.* Конь на чатырох нагах <і то> спатыкаецца.

**У каровы малако на языку**. *Гл.* Малако ў каровы на языку.

**У карцішкі няма брацішкі**. *Пры гульні ў карты кожны імкнецца абгуляць усіх іншых, не шкадуючы нікога*. Селі іграць у карты. Чыноўніка падпаілі. Як пайшоў ён іграць! Якая-то была ігра: як хто хацеў, так і махляваў. Назаўтра чыноўнік пазычыў у свайго знаёмага на дарогу грошай і паехаў. Эх, каб яшчэ бог прывёў хоць са тры такіх чыноўнікаў! Ну, што ж! «У карцішкі няма брацішкі» (Я. Колас. З днеўніка пана Жылака).

– *Федароўскі*, с. 138: У карцішак няма брацішак.

**Укаталі сіўку крутыя горкі.** *Нялёгкае жыццё, праца, узрост і пад. пазбавілі каго-н. ранейшай сілы, магчымасцей, зрабілі слабым.* **Сін.:** *Быў конь, ды з'ездзіўся.* – Да мяне дайшла чутка... А можа, гэта няпраўда? Можа, плётка? Ну, што вы падалі ў адстаўку... – На жаль, Ягоравіч, гэта праўда. Укаталі сіўку крутыя горкі. Прашуся на ўзбочыну. Каб перавесці дых (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян). – І што з гэтага? – А тое, што і я, стары конь, хачу звярнуць у кусты. Укаталі сіўку крутыя горкі. – Што ж, я вас разумею... Вы сапраўды заслужылі адпачынак. Хоць мне, прызнацца, шкада вас адпускаць... (Полымя. 2003, № 4).

* Чаго маўчыш? Калі а пятай не атрымліваецца, давай на пару гадзін пазней. Ці ўкаталі конікі крутыя горы? (А. Казлоў. Паразумецца з ветрам).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 225: Укаталі бурку крутыя горкі.

**У каханкі смаляныя лаўкі**. *Прыйшоўшы да каханай, доўга прабудзеш у яе.* Жартаўлівыя ж людзі пасля смяяліся, што палкоўнік Вэйтка еў куццю ў свае каханкі, а «ў каханкі – смаляныя лаўкі», дык ён прыліп там, заседзеўся і спазніўся пачаць выступленне... (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). Некаторыя з дружыннікаў абаранялі сваіх дзяўчат, сказаўшы, што гэта іхнія нявесты і што яны прыйшлі развітацца. Тады Раман загадаў не чапаць. – У каханкі смаляныя лаўкі, – рагатаў Ядрэйка. – Глядзі, ваявода, прыліпнуць хлопцы да гэтых лавак і не аддзярэш іх. Не будзе з кім у паход ісці (Л. Дайнека. След ваўкалака).

– *Насовіч*, с. 167: У каханкі смаляныя лаўкі; *Федароўскі*, с. 133: У каханкі смаляныя лаўкі.

**У кія (палкі) два канцы.** *Чые-н. дзеянні ці пагрозы могуць выклікаць супрацьдзеянні.* Ох, ох, напужаў, аж лыткі трасуцца. Не забывай – у кія два канцы (П. Місько. Пагаварым). «А ты чаго тут?.. Ідзі адсюль! Пакуль не даў». Гэтага яшчэ не хапала! Але прапускаю міма вушэй тую гразьбу, спакойна кажу: – У палкі два канцы!.. (Я. Пархута. Адзінец).

– *Федароўскі,* 144, 215: У кія два канцы; У палцы два канцы; *Прыказкі,* кн. 1, с. 318: У палкі два канцы: адзін канец па нам, а другі па панам; *Санько,* с. 33: У кіі два канцы і абодва б'юць.

**У кожнай хаце па печы**. *Кожны павінен думаць пра сябе і асабіста рашаць свае клопаты*. Чорнавалосая прабегла вачыма па выпісцы з рашэння аб браніраванні кватэры. Даведку глядзець не стала, прамовіўшы: – Як кажуць у народзе, «у кожнай хаце па печы». Хвароба вашай дачкі – ваш клопат (В. Кадзетава. Вяртанне).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 212: Усякай хаце па печы.

**У кожным (любым) жарце ёсць доля праўды**. Потым дайшлі чуткі аб рамане Корнева з Касяй. У форме жарту, зразумела, якi зыходзiў ад таго ж Рудовiча. Але ў кожным жарце ёсць доля праўды,– думала Клава (Л. Прокша. Урок любвi i нянавiсцi). «А вось i Цётка, якая на бяду сабе пазнаёмiла мяне з Купалам...» Колькi рэальнай праўды было ў гэтым жарце, не магу меркаваць, але, як кажуць, у любым жарце ёсць свая доля праўды, i мне ўвогуле чамусьцi з той рэплiкi Уладзiславы Францаўны пачало здавацца, што Купала жанiўся, калi ўжо Цёткi не стала (А. Лойка. Як агонь, як вада). Аддаць ключы i пячатку, а самому пайсцi, легчы i адаспацца ў анабiёзным, на цэлы тыдзень, сне. Гэта ўсё, канешне, жарты, але, як кажуць, у кожным жарце... (В. Казько. Выратуй i памiлуй нас, чорны бусел).

* Стомленыя байцы iшлi за Мiколам i Таняй, абыякава слухалi, што гаворыць камандзiр. Кожны разумеў, што Мiкола жартуе, але нездарма людзi кажуць: дзе жарт, там i праўда. Была яна i ў Мiколавых словах (I. Новiкаў. Тварам да небяспекi). Жонка, праўда, не прамiнула пажартаваць: «Ты хоць перад дарогай да генерал-губернатара збегаў?» У гэтым жарце была доля iсцiны. Справа ў тым, што I. Чэрскi для царскага ўрада па-ранейшаму заставаўся дзяржаўным злачынцам i знаходзiўся на правах ссыльнага (А.А. Марцiновiч. Ён i мёртвы – наперадзе).

**Укрой – не ўдой**. *Гаворыцца як павучанне быць эканомным пры расходаваннi мяса, сала, хлеба – усяго, што, будучы ўкроеным, адрэзаным, ужо не папаўняецца так, як малако пры чарговым удоi.* [Жыглiцкая:] А што ж мая гаспадыня на палудзень варыла, цiкава?.. (Заглядае ў печ). Суп мясны i катлеты... Ого, затлуста адным мясам жыць. Укрой – не ўдой, трэба памятаць (I. Козел. Над хвалямi Серабранкi).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 238, 542: Укрой – не ўдой.

**Улез у дугу, дык не кажы <што> не магу**. *Гл.* <Калі> улез у дугу, дык не кажы <што> не магу.

**У лесе крадзеш – поле бачыць, на полі крадзеш – лес бачыць**. *Гл.* Лес крадзе – поле бачыць.

**У лесе людзі дзічэюць, а сярод людзей людненюць**. *Пра станоўчы ўплыў грамады, калектыву на чалавека*. Старшыня Савета любога ўзроўню адзiн – нiхто. Пчолы, як i ўсе мы, па адной не селяцца. Згадваю прымаўку: «У лесе людзi дзiчэюць, а сярод людзей людненюць!» Адкрываць сотнi гадоў адкрытую Амерыку смеш-

на. І мы ў сваім Савеце найперш вывучаем досвед сваіх суседзяў (Беларуская думка. 2006. № 12).

– *Федароўскі*, с. 64: У лесе людзі дзічаюць, а ў людзях людняюць.

**У лістападзе досвітак з прыцемкам сярод дня сустракаюцца**. *Пра кароткі дзень у лістападзе.* А ўжо ў лістападзе вецер і дождж абтрасаюць, распранаюць усе нашы дрэвы – на іх, зусім голых, нават рэдкаму цяпер промню няма за што зачапіцца. Дождж змагаецца са снегам, цяпло – з холадам. Світае позна, цямнее рана. Як мы кажам: «У лістападзе досвітак з прыцемкам сярод дня сустракаюцца» (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля).

**У любым жарце ёсць доля праўды**. *Гл.* У кожным (любым) жарце ёсць доля праўды.

**У людзей пытай і свой розум май**. *Гл.* Людзей (другіх) слухай, а свой розум май.

**У Мазыры елі царскія сыры**. *Устар. Гаворыцца пра тых, хто, пазбаўлены свабоды, сядзеў у Мазырскай турме.* – Можа, і цябе дзесь бачыў... – А дзе было гэта «дзесь»? – запытаўся Цімох. Саўка хітра зірнуў на Будзіка. – Калі не памыляюся, дык у Мазыры елі царскія сыры (Я. Колас. Дрыгва).

**У маны кароткія ногі**. *Гл.* У хлусні (маны) кароткія ногі.

**У музыкі хлеб невялікі, а спявакі маюць ніякі**. *Пра невялікія заробкі музыкантаў і спевакоў.* **Сін.:** *З музыкі хлеб невялікі.* Назаўтра «артысткі» расхварэліся і занемаглі ад перажытага хвалявання. «У музыкі хлеб невялікі, а спявакі маюць ніякі», – адгаворваліся яны і кляліся, што больш ніколі не будуць спяваць (П. Місько. Градабой).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 163: З музыкі хлеб невялікі; У стральца і музыкі хлеб невялікі.

**У нагах праўды няма**. *Кажуць пры запрашэнні сесці.* **Сін.:** *За пастой грошы не плацяць.* То сядайце, добры чалавек, у нагах, як казалі некалі, праўды няма... (М. Лынькоў. Векапомныя дні). – Вы сядайце, – запрасіў нарэшце Іван. – У нагах праўды няма (І. Шамякін. Вазьму твой боль). – Сядай, дружа, – пачулася з кутка. – У нагах праўды няма (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). – Садзіся – у нагах, кажуць, праўды няма. – Гура п付казаў галавою на крэсла з вялікаю, выціснутаю на фанеры кветкаю (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). «Сядайце з намі, у нагах праўды няма», – весела гаворыць Юліус (С. Законнікаў. Вячэра пад райскім дрэвам).

– Паўкалька з рускай мовы: *В ногах правды нет.* У старажытныя часы выказ абазначаў «біцём па нагах наўрад ці даб'ешся праўды» і ўзнік, як мяркуе С. Максімаў, у сувязі з суровай судовай практыкай: западазронага ў чымсьці падвешвалі і білі па нагах тоўстымі прутамі, дапытваліся праўды. Калі такія прыёмы следства зніклі, а значыць, і выказ *У нагах праўды няма* страціў апору на адпаведныя рэаліі, то яго форма запоўнілася новым зместам. Цяпер (і даўно ўжо) прыказка ўжываецца як запрашэнне сесці.

– *Янкоўскі*, с. 201, 326: У нагах праўды няма; *БРС*, т. 2, с. 270: У нагах праўды няма.

**У няўмекі рукі не баляць**. *Гл.* У <аднаго> няўмекі рукі не баляць.

**У полі дзве волі**. *Хто каго пераможа ў барацьбе. Гаворыцца пры паядынку паміж групамі людзей.* [Рабіна] усіх хлопцаў дзеліць на дзве роўныя групы... Потым бярэ жэрдку, трымаючы яе пасярэдзіне. Абедзве групы хлопцаў бяруцца за супрацьлеглыя канцы жэрдкі. Дзядзька Рабіна робіць на зямлі рысу: – Ну, хлопцы, у полі дзве волі, – узяліся?.. Цягні!.. Змагайся, цягайся, адзін аднаму не паддавайся!.. (В. Вольскі. Машэка).

– Паходзіць ад старажытнага звычаю рашаць спрэчку выяўленнем фізічнай сілы. Прыведзены ўрывак з драмы «Машэка», у якой дзея адбываецца на Беларусі ў XIV ст., адлюстроўвае гэты звычай. Прыказка ўжывалася і ў больш поўнай форме: *У полі дзве волі: каму Бог паможа.*

– *Насовіч*, с. 20: У полі дзве волі.

**У прочкі выбірайся, а жыта сей**. *Гл.* Паміраць збірайся, а жыта сей.

**У пустым шынку без грошай не вельмі разгуляешся.** *Пры безграшоўі нічога не зробіш, нічога не даб'ешся.* Бачаць [за граніцай] – паскакалі, пагулялі таварышы ды назад. У пустым шынку без грошай не вельмі разгуляешся, як гаворыць народ. Заводы і фабрыкі забралі, а пусціць не могуць: і казна пуста, і спецыялістаў няма. Вось і прыходзіцца кланяцца той жа заграніцы, каб памагла (К. Крапіва. Мядзведзічы).

**Урадзілася цяля з белаю лапінкаю на лбе, так яно і памрэ**. *Гл.* Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне такім.

**<Урадзіўся, удаўся> ні ў бацьку, ні ў маці, а ў краўца, што спаў у хаце**. *Кажуць (часцей жартоўна) пра дзіця, якое ні знешне, ні рысамі характару непадобнае да бацькоў.* Мала чаго бывае на свеце, у каго толькі часам не ўдаюцца дзеці! «Ані ў бацьку, ані

ў маці, а ў краўца, што спаў у хаце», – прыгадалася прыказка (М. Лужанін. Дзівадла).

– *Насовіч*, с. 111: Ні ў радню, ні ў айца, а ў прахожага малайца; *Ляцкі*, с. 50: Урадзіўся ні ў маць, ні ў айца, а ў прахожага малайца (дабаўляюць часам жартоўна: чы салдаты йшлі, чы на торзе былі).

**У разумнага вочы і на патыліцы сядзяць**. *У разумнага чалавека шырокае ўспрыманне навакольнага свету*. Ці ж разумнаму Дзіда-дзеду адгукнуцца на яе брахню? У разумнага вочы і на патыліцы сядзяць. Ён ведае ўчарашні дзень, ён без акуляраў бачыць і заўтрашні (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

– *Рапановіч*, с. 182: У разумнага вочы на патыліцы.

**Уродзіцца цяля з лысінкаю, то і з лысінкаю здохне**. *Гл*. Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне такім.

**У родным (сваім) краю (-і), як у раю (-і)**. *Пра замілаванне да роднага краю, да мясцін, дзе нарадзіўся хто-н.* **Сін.:** *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл; Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся; Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае; Міл куток, дзе абрэзалі пупок; Мой родны кут, як ты мне мілы; Няма лепшае справы ад свае хаты; Родная зямелька як зморанаму пасцелька.* Гамоняць дзве чарнобыльскія бабы... – У родным краю, як у раю. А на чужыне і сонца не свеціць. – А мая мама калісьці мяне вучыла, што вазьмі абразок і перавярні яго, і каб ён гэтак тры дні павісеў. Дзе б ты ні была, абавязкова дадому вернешся (С. Алексіевіч. Чарнобыльская малітва). [І ў родных мясцінах] ён бы [Кунцэвіч] не згубіўся. Не гэтак бы хутка аказаўся на грэбні – але ўзышоў бы на яго, не сарваўся б. Нездарма ж кажуць – у родным краі, як у раі (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока). – Вырашыў наведацца, як вы тут маецеся. Што чуваць? – У сваім краю, як у раю. Але вам тут нельга! Тут немцы, сёння нават камендант прыехаў (У. Караткевіч. Млын на Сініх Вірах). Усе расселіся. Ігнат разліў гарэлку ў чаркі. Выпілі. Закусілі. Павесялелі. – У сваім краю, як у раю, – заўважыў Бондар. – Праўду кажаш, Бондар, – падтрымаў Клянчук (І. Сычык. Бацькаўшчына).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 287: У родным (сваім) краю, як у раю.

**У сваёй хаце і качарга маці**. *У сваёй хаце адчуваеш сябе смела, спакойна, надзейна*. **Сін.:** *У сваёй хаце і вуглы памагаюць.* – Дам тваёй сям'і месца ў флігелі. Хоць сёння займай большую палову. – У сваёй хаце і качарга – маці, – не надта ўзрадаваўшыся, сказаў Гаранок... (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі). Маладыя навасёлы не маглі нарадавацца свайму новаму становішчу. У абаіх

узняўся настрой. – Праўду кажуць – у сваёй хаце і качарга маці, – цешылася Прося (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 24: У сваёй хаце і качарга маці.

**У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць**. *У сваёй хаце адчуваеш сябе смела, спакойна, надзейна*. **Сін.:** *У сваёй хаце і качарга маці.* Дык я і цяпер за тое, каб застацца тут, бліжэй да сваіх. У сваёй хаце і вуглы памагаюць (І. Шамякін. Дзеці аднаго дома). Што, так і не заснулі? Дарэмна, дарэмна. А я добра паспаў і вось на свежую галаву нешта, здаецца, прыдумаў... Не трацьце надзеі, у сваім доме і сцены памагаюць (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). Жыхары вярталіся здалёк дамоў, бо родная зямелька – як зморанаму пасцелька. Ці, як кажуць у Чамярах, у сваёй хаце і вуглы памагаюць (С. Чыгрын. Чамяры і чамяроўцы). **Дома і вуглы (сцены) памагаюць (дапамагаюць)**. Выбраўся я з гасцініцы і паехаў у той горад, дзе нарадзіўся, дзе вучыўся, дзе жыла мая маці. Кажуць жа: дома і вуглы памагаюць (Б. Сачанка. Белая мыш). У гаспадароў нядрэнны быў настрой: усё ж на свеце ісціну не забываюць, што дома і вуглы дапамагаюць (У. Корбан. Расплата). Хай і ў нас тут не самы лепшы час настаў, а ўсё ж дома будзеш! А дома і сцены памагаюць (В. Кадзетава. Вяртанне).

* Эх, розум малады! На сваім котлішчы, дачушка, табе паможа вугал, куст, а там пакрыўдзіць кожны хлюст, тут – гаспадар ты, а там – служка... (Я. Колас. На шляхах волі).

– *Насовіч*, с. 20: У сваёй хаце і вуглы памагаюць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 211: У сваёй хаце і вуглы памагаюць; У сваім доме і вуглы памагаюць; Дома і вуглы памагаюць.

**У сваім доме і вуглы памагаюць**. *Гл.* У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.

**У сваім краю (-і), як у раю (-і)**. *Гл.* У родным (сваім) краю (-і), як у раю (-і).

**У сваім стане і прыстаў цар**. *Сярод сваіх падначаленых і невялікі начальнік адчувае сябе поўнаўладным, неабмежаваным гаспадаром*. На сваім сметніку, кажуць, і певень гаспадар. А ў сваім стане і прыстаў – цар. Жыў той прыстаў у Ігумене. Нягодны, сярдзіты, як звер (Я. Колас. «Слабода»). У камедыі «Пінская шляхта» спалучэннем *найяснейшая карона* называюць царскага чыноўніка Кручкова, нібы адштурхоўваючыся ад вядомай прыказкі *ў сваім стане і прыстаў цар* (І. Я. Лепешаў. Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 339: У сваім стане і прыстаў цар.

**Усе бабры дабры, адна выдра ліхая**. *Няма падставы аддаваць перавагу каму- ці чаму-н. аднаму перад іншымі*. **Сін.:** *Усе яршы харашы, адзін шчупак як дурак*. – Праедзьце ў мядзведжы кут, убачыце: паляшук – дармовы батрак. Памешчыкі асабліва лютыя. – Усе бабры дабры, адна выдра ліхая, – усумніўся салдат на мыліцах. – Памешчыкі ўсюды аднолькавыя (І. Гурскі. Вецер веку). «Гэта раней, як абвянчае поп, то што вужышчамі звяжа. Любіш не любіш – жыві. Але ж і тады разыходзіліся, як прыпячэ...» – «Каб так усё проста было, як вам здаецца!..» – уздыхае ён [зяць]. «Усе бабры дабры, адна выдра ліхая», – сказала я і пайшла з хаты (П. Місько. Поезд ішоў на захад).

– *Насовіч*, с. 17: Усе бабры дабры, адна выдра – ліха яе бяры; *Федароўскі*, с. 14: Усе бабры дабры, адна выдра ліхая; *Прыказкі*, кн. 2, с. 257: Усе бабры дабры, адна выдра ліхая (дурная).

**Усе дзяўчаты добрыя, а адкуль бяруцца дрэнныя жонкі?** *Гаворыцца, звычайна жартаўліва, мужчынамі пра сваю жонку пры незадавальненні яе характарам*. Кажуць: усе дзяўчаты добрыя, адкуль жа бяруцца дрэнныя жонкі? Трэба ж было так здарыцца, што заварожанасць мая пачала знікаць менавіта неўзабаве пасля жаніцьбы. Першы экзамен быў вельмі сур'ёзны. Віялета не любіла жыць у цеснаце... (А. Марціновіч. Надзя).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 76: Усе дзяўчаты, як цяляты, дык адкуль жа злыя бабы?

**Усе за аднаго і адзін за ўсіх**. *Гл*. Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

**Усе <мы> пад богам ходзім**. *З кожным можа здарыцца што-н. нечаканае, незалежнае ад чалавека*. **Сін.:** *На ўсё воля божая*. Як той казаў, пад богам усе мы ходзім, грэшныя, хоць пішам некралогі, бадзёрыя і ўцешныя... (В. Вітка. Як той казаў). – Не перажывайце так, Іван Іванавіч, – пачалі яго суцяшаць. – Усе мы ходзім пад богам... Ніхто не ведае, што каго і дзе чакае... (Б. Сачанка. Чортава прапанова). «Што ж рабіць, хто ж ведаў. Усе мы пад богам ходзім», – толькі і шаптаў у адказ Юліуш (Г. Марчук. Крык на хутары). Жыццё ёсць жыццё, усе, як кажуць, пад богам ходзім, і ніхто не ведае, калі і як будзе вынесены прысуд (М. Кацюшэнка. Сітуацыя).

**Усе чэрці адной шэрсці**. *Кажуць з неадабрэннем пра людзей, аднолькавых па якіх-н. якасцях*. Хоць усе чэрці адной шэрсці, але бараніцца ад іх трэба па-рознаму (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). – Па Мяснікову і Сталіну – там [ва ўрадзе] усе нашы чэрці

адной шэрсці, – прамовіў Жылуновіч (Г. Далідовіч. Свой дом). – Навагародак варты таго, каб быць сталіцай! – Але ж ты заўсёды любіла Вільню!.. – Ай! Нашай пані ўсе чэрці адной шэрсці! (В. Іпатава. Знак Вялікага магістра).

– *Насовіч*, с. 18: Усе чэрці адной шэрсці; *Федароўскі*, с. 69: Усе чэрці адной шэрсці.

**Усе яршы харашы, адзін шчупак як дурак**. *Няма падставы аддаваць перавагу каму- ці чаму-н. аднаму перад іншымі*. **Сін.:** У*се бабры дабры, адна выдра ліхая.* – Буду ведаць, за каго бога маліць! – Яшчэ мацней таўхануў [Рыгор] нагою тое крэсла, што стаяла ў канцы прыстаўнога стала, нібы падножку даў, і яно ўпала. Бокам ступіў да крэсла каля сцяны, прысеў, цяжка дыхаючы: – Усе яршы харашы, адзін шчупак як дурак... – І мэблю не ламай! Хуліганіць тут табе не дазволім! – ужо зусім смела выкрыкваў Сташэвіч (П. Місько. Градабой).

**Усё геніяльнае – простае.** *Кніжн. Кажуць, часцей іранічна, пра нечаканае вырашэнне якога-н. пытання.* – Во хітруган – капітан! За плагіят хоча ганарар злупіць. – А што! Гэта ідэя. Усё геніяльнае – простае. Не карціна геніяльная – назва. І гэта не плагіят, хлопцы (І. Шамякін. Злая зорка). Гаўрыла Патапавіч прапануе ідэю вечнага шлюбу без рэгістрацый. [Рэдзька Самазвон:] Вось я і хачу ведаць, як у вас атрымалася? [Гаўрыла Патапавіч:] Усё геніяльнае – проста! Здарылася гэта пад канец рабочага дня... (У. Сауліч. Адзін Гаўрыла ў Полацку). Усё геніяльнае – простае. Як лічыць казачы атаман, варта напяць казацкія шаравары – і нават пенсіянеркі пачнуць даваць «прыток людскіх рэсурсаў» (Вожык. 1996. № 4).

*[Любачка:] І прапішуць яго без слова ў сумежным пакойчыку?! [Злыдзень:] На векі вечныя. А прапісаўшыся – развядуцца, калі захочуць. [Любачка:] Геніяльна і проста. [Злыдзень:] Геніяльнае заўсёды простае (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

**Усё добра, што добра канчаецца (заканчваецца)**. *Функц. не зам. Гаворыцца з задавальннем пра паспяховае завяршэнне чаго-н.* Вядома, не ўсё гладка і ў мяне ішло. Давялося аднаму майму месцу не раз расплачвацца за памылкі галавы. І шомпалаў перападала, і ў турме пасядзець давялося. Ды, як у нас кажуць, усё добра, што добра канчаецца. Я жывы, здаровы, працую, быццам нічога таго ўсяго і не было (Б. Сачанка. Дарога ў Хатынь). Усё добра, што добра канчаецца. Шчасліва скончыліся і касмічныя палёты нашых землякоў (В. Грышкавец. Бюро знаходак). Яшчэ праз нейкі час з суседняй Выгнанкі з'явіліся Іван з Фядораю. З Іванам Кужалі

паспелі ўжо зблізіцца, дараваўшы і забыўшы нанесеную на вяселлі крыўду. Усё добра, як кажуць, што добра канчаецца (У. Гніламёдаў. Вяртанне). Уявіце і быццам бы немагчымае: нядаўнія ворагі тым не менш прыйшлі ў судовай зале да міравога пагаднення і вызначылі нарэшце свае межы і ў доме, і на ўчастку. Так і хочацца сказаць: усё добра, што добра заканчваецца (Звязда. 2001, 31 ліп.). Нам варта быць асцярожнымі, інакш наступстваў не мінаваць. Але добра, што добра заканчваецца (А. Казлоў. Мінск і воран, Парыж і здань). **Добра тое, што добра канчаецца**. Дзякуй, сябры, за выручку! І што са мной было б, калі б не вы? Завёз бы мяне Галоўны пірат на чужбіну... – Добра тое, што добра канчаецца, – сказаў я (М. Зарэмба. Сакрэт тэлепата). Што ж, добра тое, што добра канчаецца. А з «Амністыяй» [М. Матукоўскага] усё скончылася надзвычай добра: яна прынесла аўтару многа прыемных хвілін, памяць пра якія не здольны сцерці ніякія пазнейшыя ўзрушэнні (С. Лаўшук. Здавён тэатрам зачараваны).

**Усё забыта, што зямлёй зарыта (пакрыта, прыкрыта)**. *Пра мінулае няма чаго ўспамінаць.* – Я тут жыву. Дачка з мужам. Ён харошы. Я ты як? – У мяне ўсё добра. Усё забыта, што зямлёй зарыта. Я – адзін... Дзеці далёка (В. Лобан. Чужая – і мілая).

– *Насовіч,* с. 17: Усё забыта, што зямлёй прыкрыта; *Федароўскі,* с. 346: Усё забыта, што зямлёй пакрыта.

**Усё мінецца, а праўда застанецца**. *Гаворыцца, калі вераць у перамогу справядлівасці*. **Сін.:** *Жыццё закон нязломны мае: ніколі праўда не ўмірае; Праўду не схаваеш*. У Азаркевіча астаўся на душы непрыемны асадак ад лаянкі прадстаўніка, потым падумаў: «Усё мінецца, а праўда застанецца» (І. Гурскі. На гуце). Калісь, у нялёгкі для беларускага пісьменніка [В. Быкава] час, выдатны паэт сучаснасці Аляксандр Твардоўскі падтрымаў яго паштоўкаю, дзе былі такія словы: «Усё мінецца, а праўда застанецца» (С. Законнікаў. Неўміручасць праўды). Што б там ні гаварылі, няхай і тагасветна, а Беларусь ёсць, існуе. Жыве Беларусь і будзе жыць. Усё мінецца, а праўда застанецца, нягледзячы на здзек, пагарду і абразу (В. Казько. Зазірнуць у вочы свайму «Я»).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 433: Усё мінецца, адна праўда застанецца.

**Усё можна, толькі (ды) асцярожна**. *Можна пры пэўнай умове што-н. зрабіць, набыць і пад. Ужываецца як рэакцыя на слова м о ж н а ці н я м о ж н а ў папярэднім выказванні.* [Янка:] Эге! Пляшку бачу! А кажуць, што няможна дастаць. [Мікіта:] Усё можна, толькі асцярожна (Я. Купала. Тутэйшыя). – Яблыкі не толькі

дзяржава купляе. Гэта ж на базары я сёння была – там разы ў два даражэй. А каб у пограб ссыпаў ды да зімы пачакаў – па рублю можна кілаграм прадаць, а то і паболей... – Можна, ды асцярожна, – зыркнуў на кабету мужчына. – Па-першае, дапільнаваць яблыкі да зімы не так і лёгка. Выкінеш палавіну... (Б. Сачанка. У вёску, да маці). – Калі ласка, колькі слоў пра свае творчыя планы... – Можна, але, як кажуць, асцярожна. Я – поўны задумак, планаў і напрацовак. Не падвялі б гады і здароўе (У. Бяляцкі. Праўда і шчырасць Яўгена Гучка).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 482: Усё можна, толькі асцярожна.

**Усё на свеце мае <свой> канец**. *Функц. не зам. Гаворыцца пры заканчэнні чаго-н. або як надзея, што прыйдзе канец чаму-н.* Добра, што ўсё на свеце мае свой канец!.. (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). Усё на свеце мае канец, скончыліся і танцы-выдрыганцы, Саўка Дыракол аб'яўляе «белы вальс» (П. Місько. Градабой). **Усяму на свеце ёсць канец**. Доўгія-доўгія годы, цэлыя вякі, жыла пушча згодна і шчаслівa, жыла поўным, багатым жыццём. Але ўсяму на свеце ёсць канец (Я. Колас. Стары лес).

* А ўсё, што мае пачатак, тое мае і канец. Вось чаму я так упэўнены ў тым, што і самадзяржаўю з прыдуркаватым Міколам прыйдзе канец не сам сабою, а ў выніку рэвалюцыйнага паўстання ўсяго народа (Я. Колас. На ростанях). Скарджуся вам як загадчыку аддзялення. Хаця... зматваеце вуды. Усё, Аляксей Міхайлавіч, мае пачатак і канец. Нават камандзіроўка (А. Дзялендзік. Начное дзяжурства).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 410: Усяму канец бывае (будзе).

**Усё новае – <гэта> добра забытае старое.** *Кніжн. Ужываецца як ацэнка чаго-н. нібыта новага, якое на самай справе ўжо было раней, адбывалася, бачылася, чулася і пад.* Афені – гэта былі такія дробныя гандляры ў часы ранняга рускага сярэднявечча. Хадзілі-ездзілі па вёсках і прадавалі ўсякую ўсячыну. Так што ўсё новае – добра забытае старое. Старажытныя традыцыі вельмі хутка адрадзіліся. Калі гэта дазволілі (С. Шаўцоў. Крытычная маса). Кажуць, што ўсё новае – гэта добра забытае старое. Прайшоўшы праз рамантычна-жаноцкія 60-я і маладзёжна-раскаваныя 70-я, цяпер мода «зарулiла» ў элегантныя 80-я і азнаменавалася з'яўленнем у адзенні ўсялякіх дэталяў, якія надаюць аб'ёмнасць: фальбонаў, складак, валанаў, пышных рукавоў (Звязда. 2001, 6 снеж.). Неабходны пошук, смелы пошук. Праўда, кажуць, што ўсё новае – гэта добра забытае старое. Таму і забываецца, пэўна, стараецца

быць забытым, каб яго ўспаміналі, шукалі, тым самым не гублялі майстэрства, вечнасць ісціны (Р. Барадулін. Браць і аддаваць). А што ў гэтым свеце арыгінальнае? Мой бохан неяк сказаў адзіную разумную ісціну: усё новае – даўно забытае старое (І. Шамякін. Сэрца на далоні).

* З прычыны відавочнай неэфектыўнасці радыкальных мераў было вырашана звярнуцца да мераў традыцыйных, прыпамятаўшы, што не ўсё старое ёсць кепскае. Тым болей, што ўсё новае – даўно забытае старое (В. Быкаў. Новая цывілізацыя).

– Калька з французскай мовы. Лічыцца, што ўпершыню нібыта так сказала мадэмуазель Бертэн, мадыстка Марыі Антуанеты, паднавіўшы старую сукенку каралевы. Магчыма, у французскай мове гэты афарызм склаўся пад уплывам біблейскага тэксту (Еклезіяст, 1, 10): «Бывае нешта, аб чым кажуць: «глядзі, вось *гэта* новае», але гэта было ўжо ў вяках, якія былі да нас».

**Усё пазнаецца ў параўнанні**. *Функц. не зам. Сутнасць, вартасці, якасці чаго- ці каго-н. выяўляюцца, вызначаюцца супастаўленнем, параўнаннем з іншымі падобнымі з'явамі, рэчамі, асобамі і г.д.* З архітэктурна-эстэтычнага боку гэта зусім нецікавае збудаванне: у плане – круг, глухія сцены, праўда, распісаныя іерогліфамі. І ўсё. Наша бібліятэка выглядае куды больш імпазантна. Так што ўсё пазнаецца ў параўнанні... (І. Шамякін. Парадоксы нашага жыцця). Так што, Вера, дарэмна мы наракаем на сваё жыццё: і тое нам не так, і гэта. Усё пазнаецца ў параўнанні (В. Кадзетава. Тэст на першае каханне). Усё пазнаецца ў параўнанні. 19 лістапада 1700 года пад Нарвай у Эстоніі адбылася бітва паміж шведамі і рускімі. Войска Пятра панесла паражэнне... У той жа самы дзень здарылася другая бітва, у якой удзельнічала, мусіць, не менш людзей, чым у бітве пад Нарвай. На Віленшчыне, каля Алькенікаў, сышліся войскі Сапегаў і канфедэратаў. Жорсткі бой, акружэнне прынеслі перамогу «рэспубліканцам»... (К. Тарасаў. Памяць пра легенды).

**Усё: спіткі-з'едкі – выбачайце, деткі!** *Гаворыцца як канстатацыя бязвыхаднага становішча.* Няйначай як нейкае пракляцце на нас звалілася і не сыходзіць: не хочам жыць на сваёй уласнай зямлі гаспадарамі, не хочам каваць сваю чалавечую долю самі! Гэта ўжо нешта такое, чаго людства свету зразумець не можа. Калі і наша моладзь не будзе пра гэта думаць – і з вялікім болем, і з вялікім гневам – тады... Тады, як казаў некалі мой дзед Мікалай, – усё: спіткі-з'едкі – выбачайце, дзеткі!.. (Н. Гілевіч. Што было і нашым лёсам).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 119: Спіткі, з’едкі – не вам, мае дзеткі; *Янкоўскі*, с. 436: Вось табе і спіткі і з’едкі.

**Усё цячэ, усё мяняецца (змяняецца)**. *Функц. не зам. Усё знаходзіцца ў бесперапынным руху, у пастаяннай зменлівасці*. Жыццё і прырода і ўсе з’явы жыцця не знаходзяцца ў стане спакою і нерухомасці. Яшчэ старадаўні грэчаскі філосаф сказаў: «Усё цячэ, усё змяняецца» (Я. Колас. На ростанях). Вось так, усё цячэ, усё мяняецца. Што было грахом, стала дабром (А. Макаёнак. Дыхайце эканомна). Усё цячэ, усё мяняецца... Ён [маёр] толькі што апрытомнеў і не памятаў, як яго раніла (М. Лупсякоў. Пераправа). [Антэк:] Тады Фелікс аддаваў перавагу іншым метадам выхавання... [Фелікс:] Усё цячэ, усё мяняецца (В. Зуб. Юнацтва рыцара). Бог з ёй, з гісторыяй. Яе яшчэ не раз перапішуць. Медыцыну і тую перапісваюць. Усё цячэ, усё мяняецца... (І. Шамякін. Стары рамантык).

* Стоячы пад дзіравым дахам, жыхар уздыхаў: – Усё цячэ, ды не ўсё мяняецца... (П. Саковіч. Карацелькі).

– Калька з грэчаскай мовы: *Panta rhei, panta kinetai*. Выказванне належыць старажытнаму грэчаскаму філосафу Геракліту.

**У снежні мароз і снег вышэй хаты – год будзе багаты**. *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды*. Снежань зноў апранае дрэвы. Але не ў зялёнае, а ў белае адзенне. І намятае да іх каранёў гурбы снегу. Навейвае сумёты па самыя стрэхі. І мы радуемся: «У снежні мароз і снег вышэй хаты – год будзе багаты» (Я. Сіпакоў. Зялёны лісток на планеце Зямля).

**У спрэчках (спрэчцы) нараджаецца ісціна**. *Кніжн. Гаворыцца пры неабходнасці вырашыць спрэчнае пытанне.* У спрэчках, як кажуць, нараджаецца ісціна. Любая навука.. можа паспяхова развівацца толькі пры ўмове, калі па яе асноўных і прыватных пытаннях сутыкаюцца розныя пункты гледжання (Беларуская мова і літаратура. 2000. № 3). – Ну, а цяпер давайце па парадку, – Сямён Данілавіч глядзеў з дапытлівай сур’ёзнасцю. – Ісціна, як кажуць, нараджаецца ў спрэчцы... Але ж спрэчка і сварка – розныя рэчы. А ў вас? (М. Зарэмба. Пераправа). – Спрэчкі – гэта добра. Што там старажытныя філосафы наконт іх гаварылі, не забыўся? – У спрэчцы нараджаецца ісціна (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа). Ісціна, як вядома, нараджаецца ў спрэчцы... Мы не жадаем выступаць тут у ролі трацейскага суддзі, які валодае апошняй праўдай, але пэўны каментар падаецца неабходным (С. Грышкевіч. Паэтычная камасутра, альбо вершы пра пустату). Разам – паглыбім разуменне надзённых і важных пытанняў, якія

стаяць перад нашым грамадствам, магчыма, прыйдзем па некаторых з іх да агульнай думкі, і гэта ўжо будзе поспех. Папрацуем, адным словам. У спрэчках нараджаецца ісціна... (В. Якавенка. Памяну і свечку пастаўлю).

– Відаць, склалася на аснове афарызма з лацінскай мовы: *Nimium altercando veritas amittitus* (літаральна «У празмерных спрэчках страчваецца ісціна»).

**У старой бабы і на печы ўхабы**. *Старому, слабаму чалавеку ўсё баліць, усюды кепска*. Цётка ішла, цяжка соўгаючы хворымі нагамі, нейкая прыгорбленая, прыцішаная, непадобная сама на сябе. – Куды вы?.. Мне сказалі, вам нядужыцца, ногі баляць. – У старой бабы і на печы ўхабы... (А. Тулупава. Рэха ў калысцы).

– *Насовіч*, с. 156: Старой бабе і на печы ўхабы; *Прыказкі*, кн. 2, с. 227: Старой бабе і на печы ўхабы.

**У страху вочы вялікія.** *Спалохаўшыся, чалавек перабольшвае небяспеку ці бачыць яе там, дзе яе няма*. – У страху вочы вялікія, – здзекліва пакпіў Хяндога ў часе чарговага вобыску (М. Аўрамчык. Палон). Вось нехта ідзе... Здаецца, якраз як іхні бухгалтар... Не, проста ў страху вочы вялікія... (У. Дамашэвіч. Ад шчасця таксама плачуць). – Ат, лухта! – не паверыў Кандрат. – У страху вочы вялікія. Не бывае вадзяных, выдумка ўсё гэта (В. Праскураў. Над Шчарай-ракой). З перапалоху я рваў ад хаты. Бег не чуючы пад сабой ног, нездарма кажуць – у страху вочы вялікія (В. Супрунчук. Наўпрост).

– *Насовіч*, с. 168: У страху вочы па яблыку; *Ляцкі*, с. 51: У страху вялізныя вочы; *Прыказкі*, кн.2, с. 295: У страху вялікія вочы.

**Усюды добра, а дома лепей.** *Пра замілаванне да роднага кута.*

* Усюды добра, дома – лепей, дзе гуляў дзяцінай, дзе ніхто цябе не чэпе так, без дай прычыны (Я. Купала. Чатыры крыжы).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 288: Усюды добра, а дома лепей; Усюды добра, а дома лепш за ўсё.

**Усяго было даволі, толькі прынукі не было.** *Гл.* Было што піць і есці, але прынукі не было.

**Усякая будзе гаспадыня, калі мукі поўная скрыня**. *Гл.* Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня.

**Усякая птушка сваё гняздо бароніць.** *Кожны чалавек бароніць сваю радзіму.* – Але хіба гэта выйсце – дэзерціраваць з фронту? Я, напрыклад, не маю намеру гэта рабіць. Усякая птушка сваё гняздо бароніць (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Рапановіч*, с. 94: Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

**Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.** *Кажуць з асуджэннем пра таго, хто сквапны на чужое.* Людзі сквапны на чужое: усякі гад чужому грошу рад (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). – Суд гісторыі... – не дагаварыў Вашкевіч, ён пахіснуўся і, каб яго не падхапілі, упаў бы. І ўжо седзячы заключыў: – Кожны гад чужому грошу рад. Усіх іх выявіць і судзіць... Паставіць да ганебнага слупа! (І. Гурскі. Чужы хлеб).

– *Насовіч*, с. 59: Кожны гад чужому грошу рад.

**Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне**. *Кожны чалавек усё робіць на сваю карысць.* **Сін.:** *Адна толькі курыца грабе ад сябе*. Вядома ж, усе ў палацы змагаюцца, каб быць бліжэй да Гедзіміна альбо хоць бы да ягоных дзяцей. «Усякі чорт на сваё кола ваду цягне», – кажуць у народзе. І гэта праўда (В. Іпатава. Вяшчун Гедзіміна). – Кожны чорт на сваё кола ваду цягне, – сказаў баярын Белакур, землі і сядзіба ў якога былі над ракой Шчарай. – Трэба нам, князь Войшалк, узнімаць дружыну, узнімаць апалчэнне мужоў, наваграджан, слаць ганцоў да кунігаса Міндоўга і разам з ім бараніць дзяржаву (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

* [Капуста:] Не такі мужык варона. Сам ён ведае, што возіць кожны чорт на свой млын воду, ды і сам зарве ў шкоду, калі зручны міг знаходзіць (М. Клімковіч. Кацярына Жарнасек).

– *Насовіч*, с. 18: Усякі чорт на сваё кола ваду цягнець; *Прыказкі*, кн. 1, с. 379, кн.2, с. 162: Усякі чорт на сваё кола ваду цягне.

**Усякі цыган сваю кабылу хваліць**. *Гл.* Кожны (усякі) цыган сваю кабылу хваліць.

**У сям'і не без вырадка**. *У калектыве заўсёды ёсць і такі чалавек, які сярод іншых вылучаецца сваімі дрэннымі якасцямі.* **Сін.:** *Няма лесу без ваўка; Няма роду без выроду.* Тутэйшаму чалавеку можна даверыцца і ў радасці, і ў горы... Адзінкі могуць быць ні богу свечка ні чорту качарга, у сям'і не без вырадка... (І. Гурскі. Расцвілі вішні). У сям'і не без вырадка, кажа прыказка. Такія выпадкі, як сёння, хоць і рэдкія, але былі і будуць... (У. Дамашэвіч. Дарожная гісторыя). Як ні цяжка, але трэба прызнацца: відаць, і ў вашым дружным і добрым гурце ёсць паганец, нядобразычлівец. Што ж, у сям'і не без вырадка, як кажуць... (Г. Далідовіч. Дырэктар). **Сям'я не без вырадка**. – А ты толькі што казаў, – перапыніў яго Купрыянаў, – што сваім людзям трэба давяраць... А што выходзіць? – Выходзіць, дружа, што сям'я не без вырадка, – прымаўкай адказаў Павел і тут жа прапанаваў: – Хопіць пра гэта гаварыць (І. Сіняўскі. На правым флангу).

– Паўкалька з рускай мовы: *В семье не без урода.* Гэта прыказка, хутчэй за ўсё, народнага паходжання, хоць некаторыя аўтары (М. С. Ашукін, М. Г. Ашукіна, В. М. Макіенка і інш.) лічаць яе цытатай з байкі І. А. Крылова «Слон на воеводстве» (1808). Але прыказка ўжывалася ў рускай літаратуры яшчэ да згаданай байкі – у творах XVIII ст.; напрыклад, у п’есе П. А. Кропатава (1736–1790) «Фомушка, бабушкин внучек».

– *Насовіч*, с. 149: Сям’я не без вырадка; *Прыказкі*, кн. 2, с. 44: І ў добрай сям’і вырадак бывае.

**У сямі нянек дзіця без носа (без вока)**. *Справы кепскія, калі за іх бярэцца адразу некалькі чалавек. Гаворыцца з асуджэннем пра безадказныя адносіны да справы, калі адзін спадзяецца на другога.* **Сін.:** *Дзе нянек многа, там дзіця бязнога.* Відаць, нездарма ў народзе кажуць, што ў сямі нянек дзіця без вока. І таму замест чаканых урачыста-ўзнёслых афіцыйных провадаў наша дэлегацыя, даведаўшыся ў перадапошні дзень, што ніхто білетаў для яе не прыдбаў, дабіралася ў сталіцу хто як мог (Г. Тычка. Пасля нарады). Ну, яшчэ ўплывае [на дзяцей] вуліца, сябры, суседзі, радыё, тэлебачанне, кіно, тэатр... І ўсе нашаму дзіцяці зычаць дабра. Жадаюць усяго найлепшага... От тут і складанасць рашэння задачы. У сямі нянек, як прымаўка гаворыць, дзіця без носа (І. Грамовіч. Сям’я Вішнёвых). Трэба, каб «галоўны распарадзіцель», свой кіраўнік быў... А раз няма самага галоўнага – у сямі нянек дзіця без носа... (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). У сямі нянек і праўда, мусіць, дзіця без носа. За гады, што прайшлі з дня адкрыцця, музей прыйшоў у заняпад, нават і тое, што было зроблена калісьці, прасіла абнаўлення і рамонту, не кажучы пра папаўненне экспазіцыі, пра стварэнне новых аддзелаў (М. Гіль. Тэлеграма з Кавалевіч).

* Завозіцца макуха ў сістэму маслапрома для стрэчнага продажу яе малаказдатчыкам пад звышпланавую здачу малака. Але захоўваецца яна, як тое дзіця, што мае сем нянек і, паводле прыказкі, ходзіць без носа (А. Макаёнак. Вадзяная стыхія). Для выхавальнікаў важней запланаваныя мерапрыемствы з вучнямі, а вучоба – справа настаўнікаў, якіх кантралюе райана. Вось і атрымліваецца: у сямі нянек дзіця без нагляду (Звязда. 1987, 12 лістап.).

– *БРС*, т.1, с. 808: У сямі нянек дзіця без носа.

**Усяму на свеце ёсць канец**. *Гл.* Усё на свеце мае <свой> канец.

**Усяму свой час**. *Функц. не зам. Усё адбываецца тады, калі трэба.* **Сін.:** *Парою сена косяць.* Дзівіцца дзед мудрасці людской.

Новы свет паўстаў. Нарадзіліся новыя людзі. Ну, што ж? Так трэба, так павінна быць – усяму свой час (Я. Колас. Збоку ад жыцця). – Столькі сродкаў угрохалі! Каб іх пусціў на Нечарназем'е, то за гэты час мо яшчэ вынікі былі б. І рэк не трэба было б спускаць, Палессе асушваць. – Дык цяпер жа і бяруцца за Нечарназем'е. Усяму свой час! (П. Місько. Градабой). [Сокалаў:] Сямён Захаравіч, мілы! Ці не час адмяніць спакой? [Чайка:] Усяму свой час. А пакуль – слухацца, раз загадана (В. Палескі. Песня нашых сэрцаў).

* А я ўсё чакаю, што ты вось-вось пастукаешся ў вароты, каб узяць з майго двара нявесту! Добра, не саромейся. На ўсё свой час. Цяпер і праўда не да вяселля (І. Чыгрынаў. Осцей – Альгердаў унук).

– *БРС*, т. 2, с. 693: Усяму свой час.

**Уткні мяне, божа, куды мне не трэба**. *Кажуць з асуджэннем пра таго, хто ўмешваецца ў чужыя справы*. Яму [Лабановічу] было крыўдна тое, што сам ён – мужык, а не ведаў мужыцкіх звычаяў і зрабіў па прыказцы: «Уткні мяне, божа, куды мне не трэба». І, наогул, трэба зазначыць, што ён не ўмее трымаць сябе з людзьмі (Я. Колас. На ростанях).

– *Ліцвінка*, с. 126: Уткні мяне, божа, куды мне не трэба.

**У хлусні (маны) кароткія ногі**. *Хлусня, няпраўда недаўгавечныя, несумленнасцю многага не даб'ешся.* **Сін.:** *Маной свет пройдзеш, а назад не вернешся*. Не будзем каго б там і што б ні было ні абяляць, ні ачарняць, будзем гаварыць усё як на духу, памятаючы, што ў хлусні кароткія ногі (Б. Сачанка. У працяг размовы). За праўду даюць паўцаны, як толькі яна нямая. Кароткія ногі ў маны? Хто ж праўду тады абганяе? (Я. Міклашэўскі. Шматквецце). Урачыстасці ў Германіі з нагоды 50-годдзя народнага паўстання [17.06.1953] яшчэ раз яскрава высвецілі вядомае. У прыватнасці, тое, што ў хлусні – кароткія ногі і праўду не схаваеш (ЛіМ. 2003, 20 чэрв.).

**У цеснаце, <ды> не ў крыўдзе**. *Кажуць, калі дзе-н. збіраецца шмат людзей*. **Сін.:** *Дзе цесна, там пацешна; Цяснота – не крывота*. – Са мною хлапец, – паказаў рукою Галуза. – На двух месца хопіць. У цеснаце, ды не ў крыўдзе! (І. Гурскі. Вецер веку). Хутка прыйшла Віця. Яна паведаміла: – Начаваць давядзецца ў нас. У цеснаце, ды не ў крыўдзе (І. Новікаў. Руіны страляюць ва ўпор). З аднаго боку тузанулі мяне за паліто, з другога боку пацягнулі. Далі месца, пацісну ўшыся. – У цеснаце, ды не ў крыўдзе, – сказаў нехта (Я. Ермаловіч. Трактарыст Антон Знак). – Ой, малы стол!.. Гэта ж колькі разоў казала, каб купілі другі, што рассоўваецца...

Ёсць такія гарадскія сталы... Так і не сабраліся... – Нічога, нічога... У цеснаце, ды не ў крыўдзе... – суцяшаў Прыбытак (П. Місько. Ціхае лета). Прашу вас заняць месцы за сталом. У цеснаце – не ў крыўдзе (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Нават як селі, дык і цеснавата спачатку было. Ды абышлося. У цеснаце, кажуць, не ў крыўдзе (М. Гіль. Пустыня).

* Я сам з-пад Гомеля, а жонка тутэйшая. Жывём пакуль у яе брата, і хоць не ў крыўдзе, але ў цеснаце. У яго свая сям'я вялікая (Э. Ярашэвіч. Святло імя твайго).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 211: У цеснаце – не ў крываце; *БРС*, т. 1, с. 620: У цеснаце, ды не ў крыўдзе.

**У цёмным месцы і гніляк свеціцца.** *Калі няма нічога лепшага, то прыходзіцца абмяжоўвацца і тым, што ёсць.* **Сін.:** *На бязлюддзі і поп чалавек; На бязрыб'і і рак рыба; Чорт з голаду і мухі еў.* – Вы ведаеце, што такое павага людзей, іх удзячнасць? – А як жа! У сваім крузе я, можа, блішчу зоркай першай велічыні. – У сваім цёмным асяроддзі? У цёмным месцы і гніляк свеціцца... (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 479: У цёмным месцы і гніляк свеціцца.

**У ціхай вадзе чэрці водзяцца**. *Гл.* У ціхім балоце чэрці водзяцца.

**У ціхім балоце чэрці водзяцца (вядуцца)**. *Ціхі, знешне пакорлівы чалавек здольны на нечаканыя, неспадзяваныя ўчынкі.* **Сін.:** *Хто ціха ходзіць, той густа месіць; Ціхая вада берагі мые; Ціхая вада грэблю рве; Ціхая свіння глыбока рые.* Загадаў [Гусеў] сваім падначаленым не спускаць вачэй з хаты Траянавых. «Добранькія яны, працавітыя, ціхія, але ў ціхім балоце чэрці водзяцца» (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). Паўлік мацюкаўся, ды не самаўпраўнічаў, як гэты. А то бач яго, які ціхоня! І праўду кажуць, што ў ціхім балоце чэрці водзяцца (Л. Гаўрылкін. Пакінутая на досвітку). Можа, якраз Бусел або Турскі і падпаліў. Ціхія, але ж недарма кажуць, што ў ціхім балоце чэрці водзяцца (В. Каваленка. Падвышанае неба). – Глядзі ты! Ціхоня – і на табе! – У ціхім балоце чэрці водзяцца (Л. Калодзежны. Андрэй-Андрэйка). – А я? Можа, яшчэ не за цябе бяднейшы быў! Дробна ўсё ў мяне ішло. – Дробна? Дробны, ціхенькі, у ціхім балоце чэрці вядуцца (К. Чорны. Брыгадзірава памылка). [Левановіч:] Туляга? Па-мойму, ён не здольны ні на якія штукі. [Гарлахвацкі:] І я так думаў. Адно ж сапраўды – у ціхім балоце чэрці вядуцца. Некалькі хвілін назад яго накрылі з Зёлкінай у маім кабінеце (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). **У ціхай вадзе чэрці водзяцца**. – Калега – манах. Ён

любіць глуш і адзіноцтва і хоча жыць пустэльнікам. – Ведаем мы гэтых пустэльнікаў, – зноў падміргнуў Дубейка. – У ціхай вадзе чэрці водзяцца (Я. Колас. На ростанях).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 325: У ціхім віру (балоце) чэрці водзяцца; У ціхім балоце чэрці растуць.

**У чорта спіна сцёрта**. *Праст. Ужываецца з незадавальненнем як рэакцыя на слова «чорт» у папярэднім выказванні суразмоўніка*. [Мальвіна:] Каб цябе людзі не зналі! Каб цябе чорт схапіў! [Несцерка:] У чорта спіна сцёрта, на ім не паедзеш, а за мяне, цётка, не бойся, мяне чорт не возьме, хутчэй цябе, бо вельмі ж ты да яго падобна! (В. Вольскі. Несцерка).

**У чужой старонцы не так свеціць і сонца**. *У чужой мясцовасці ўсё здаецца нязвыклым, чужым*. Так хочацца басанож прайсціся па расе, схадзіць у грыбы, пакупацца ў нашай рачулцы, пачуць родную мову, нашыя песні... Праўду ты казала: «У чужой старонцы не так свеціць і сонца...» Як збяру я болей грошай, каб купіць зямлі, прыеду дамоў (Л. Левановіч. Павел і Хуаніта).

* І няхай паўсюдна ёсць вада, растуць дрэвы, аднакава на ўсе чатыры бакі зямля, але яго дрэва, яго зямля, яго вада адметная, чужое ўсюды чужое, на чужыне і сонца ўсходзіць інакш, і не так грэе, і не свеціць. Махахей жадае памерці на роднай зямлі... (В. Казько. Неруш).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 291: У чужой старонцы не так свеціць і сонца.

**У чужой царкве свечак не папраўляй**. *У чужым месцы нельга парушаць прынятыя тут правілы, звычаі, парадак і пад. Гаворыцца з незадавальненнем, як папрок*. Піць, дык усім разам, адказваць – таксама. Не так закон, як імкненне да роўнасці і справядлівасці. Але Толя Белы не паслухаўся і пацягнуўся да бутэлькі. – Пастаў, – загадаў яму Лазар. – У чужой царкве свечак не папраўляй (В. Казько. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел).

– *Насовіч*, с. 21: У чужой царкве не папраўляй свячэй; *Прыказкі*, кн. 1, с. 331: У чужой цэркві (чужым касцёле) свечак не папраўляй.

**У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем**. *Функц. не зам. У іншых бачым нават дробныя недахопы, а ў сябе не заўважаем і вялікіх*. – У Ватыкане таксама не ўсё ідзе добра з іх «місіянерамі»... – У чужым воку саломку бачаць, а ў сваім бервяна не заўважаюць, – уздыхнуў айцец Роберт (І. Гурскі. Чужы хлеб). «Ага! – злавіў сябе на думцы Віктар. – Самому можна, а другім – не? У чужым воку саломінку ўбачыў, а ў сваім і бервяна не заўважаеш?» (А. Кобец-Філімонава. Агні за

перавалам). **Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем**. – Ды яно, калі б на тое пайшло, а. Мікалай, – стары вол баразны не псуе. – Ось бачыш!.. Так-то, Амос Адамавіч, – дадае а. Мікалай, – мы бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем (Я. Колас. На ростанях). Дарэмна ты, Лёнечка, зусім дарэмна на нас. Сучок у воку брата свайго бачыш, а ў сваім воку не заўважаеш і бервяна. Мы ніколі супраць ніякай улады не ішлі (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

* Пылінку бачым у суседа, ды што? – у яго іх не адна! А ў сваім воку, даўнім следам, не заўважаем бервяна (Я. Купала. На тэму крытыкі і самакрытыкі). Брахні іх – грош цана! Згадаем прымаўку мы на хвілінку: ва ўласным воку дык не бачаць бервяна, а ў іншых адшукаць імкнуцца парушынку (Э. Валасевіч. Брахуны). Сурачкін... усімі раскамандаваўся, усім дае ўказанні, а сам што талковага зрабіў? Дзе твае фільмы? Як у чужым воку, дык і парушынку бачыць, а ў сваім... (В. Гігевіч. Пярэварацень).

– Паходзіць з евангельскага тэксту: «Што ты глядзіш на сучок у воку брата твайго, а бервяна ў тваім воку не адчуваеш?..» (Матф., 7,5).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 473: У чужым воку і пылінку бачыць, а ў сваім і бервяна не заўважае; У чужым воку і парушынку ўгледзім, а ў сваім і цэлай калоды не пабачым; У чужым воку і порах відна, а ў сваім калода не відна.

**У чужых руках пірог вялік**. *У другога усё здаецца лепшым, большым, чым яно ёсць на самай справе.* Кажуць, вялік пірог – у чужых руках. Беларускі пірог і сапраўды вялікі, ды яшчэ як расце – 9 % ВВП за мінулы год: гэта прызнаў Еўрасаюз. Так што, балбатня пра дэмакратыю – шырма, дай адно раскрасці Беларусь... (Беларуская думка. 2006. № 5).

* Паглядзеў стары Патап і пазайздросціў: корму ў яго хапае сабе і жывёле і рыбы ловіць чорт ведае колькі – вёдрамі цягае! Праўда, Мамай не раз ішоў з рыбы з пустым вядром, але ў чужой руцэ кусок здаецца заўсёды большым (Я. Колас. Крывавы вір). Рэўнасць балюча варухнулася ў Ірыніным сэрцы. – Нешта ты занадта хваліш яе. – Ёсць за што. Чалавек умее аддаць справе ўсяго сябе. Мне здаецца, што Міколу з ёй лёгка. – У чужых руках пірог і з хрэнам салодкі, – ужо больш нервова сказала Ірына (І. Новікаў. Тварам да небяспекі). Сілівейчыкі тым часам не зводзілі вачэй з «падушачак». Ведама ж дзеці: для іх звычайны пернік у чужых руках мядовым здаецца (В. Праскураў. Людзі-суседзі). Шчаслівы

ты! У сарочцы нарадзіўся! Нікому з табой не зраўняцца... – У чужых руках заўжды кус большы. Гэта здаецца толькі (Л. Калодзежны. Скарга).

– *Насовіч*, с. 21: У чужых руках піраг вялік; *Прыказкі*, кн. 2, с. 264: У чужых руках піраг вялік.

# *Ф*

**Факт застаецца (заставаўся) фактам.** *Функц. не зам. Гэта – бясспрэчная ісціна. Гаворыцца як сцвярджэнне таго, што сапраўды мае ці мела месца, адбываецца ці адбылося.* Мы яго, бясспрэчна, адшукаем... аднак зараз – факт застаецца пакуль што фактам: выйшаў са сферы агентурнага нагляду (Э. Самуйлёнак. Тэорыя Каленбрун). Салавей-крамнік казаў, што страляў не аб'ездчык, а страх яго, але гэта справы не перайначвала, – факт заставаўся фактам: стрэл быў (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). [Вера Паўлаўна:] Ён яшчэ не пазбыўся аднаасобніцкай псіхалогіі. [Пытляваны:] Я ўжо дваццаць гадоў у калгасе. [Вера Паўлаўна:] І нягледзячы на гэта, факт застаецца фактам (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). Факт застаецца фактам: машыны, якія выпускае прадпрыемства, ужо не задавальняюць спажыўцоў (Звязда. 1986, 6 мая).

**Факты – рэч упартая.** *Функц. не зам. Факты нельга абвергнуць.* [Ракітны:] Думаю, што добра [усё скончыцца]. Як жа іначай? Праўда, версія, што вы дапусцілі памылку ці нават злачынства, некаторым паказалася верагоднай. Асабліва шэф напірае на гэта. Але факты – рэч упартая (К. Крапіва. На вастрыі). Брыгада (дывізія) «Беларусь» у канцы красавіка 1945 г. здалася ў Баварыі ў палон амерыканцам. Гэта факты, а факты, як кажуць, упартая рэч, ад іх нікуды не падзенешся... (Б. Сачанка. У працяг размовы). У ТСБМ слова *сардэчны*, апісанае на аснове картатэкі, мае 7 значэнняў і 5 сэнсавых адценняў. Усе яны падмацоўваюцца ілюстрацыямі з твораў Я. Купалы, Я. Коласа, У. Дубоўкі, Я. Брыля і г. д. Факты, як кажуць, – рэч упартая (Настаўн. газ. 2000, 1 крас.). Мне вельмі падабаецца твая самаўпэўненасць, але ж гэта толькі словы, а дзе ж факты, якія б сведчылі, што ты маеш рацыю? Факты, як вядома, рэч упартая (Р. Сабаленка. Юнацтва ў дарозе). Як у нечым сумнявацца, калі аўтар аперыруе выкрывальнымі фактамі, абнародаванымі ў друку? Факты – рэч упартая (Беларуская думка. 2006. № 7).

– Калька з англійскай мовы (*Facts are stubborn things*).

– *БРС*, т. 2, с. 640: Факты – упартая рэч.

**Фініта ля камедыя.** *Канец якойсьці справы. Кажуць, часта іранічна, пра завяршэнне чаго-н.* Нарэшце адчуўшы, што хопіць [капаць яму-магілу], Забела збольшага параўняў дол у яме, памераў крокамі. Атрымалася восем крокаў удаўжкі, мабыць, хопіць на ўсіх. – Фініта ля камедыя! – знарок бадзёрым голасам гукнуў ён і кінуў угору рыдлёўку. – Ладна, годзе, – глуха азваўся камандзір і паклікаў астатніх. – Усе – сюды! (В. Быкаў. На Чорных лядах). Дворнік Нічыпар і прыбіральшчыца цёця Каця разводзілі рукамі і ледзь стрымлівалі трыумфальны смех. Фініта ля камедыя! (Б. Бур’ян. Купалаўцы – любоў мая). На лычоўскіх руках раптам апынуліся трафейныя кайданкі... – Ну ўсё, капцы. Фініта ля камедыя (Крыніца. 1996. № 4). За акном вялікі натоўп крычыць «ура!». [Правадыр:] Што гэта? [Міністр:] Паніхіда па табе, камедыянт! Фініта ля камедыя! (М. Матукоўскі. Калізей). – Ты некуды спяшыш, – павольна жуючы, сказаў Рымар. – Мне дык ужо няма куды. Фініта ля камедыя. – Моцна сказана (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

– Запазычанне з італьянскай мовы: *Finita la comedia* (літаральна «Закончана камедыя»).

# *Х*

**Хай кішка лепш кішку прыцісне, чым страва скісне.** *Гаворыцца жартаўліва ў застоллі як просьба да гасцей апаражніць пасуду, каб не прападала страва.* І госцікі зноў пацеюць, зноў ядуць: бяруць кавал і шосты, і сёмы, а смех гучыць вясёлы: – Бярыце хоць восьмы, у нас не лічаць! Хай кішка лепш кішку прыцісне, чым страва скісне! Мы – не панскія духі, не баімся сівухі! (А. Лойка. Як агонь, як вада).

**Хай (няхай) конь думае: у яго галава большая (вялікая).** *Кажуць жартаўліва ці іранічна ў адказ таму, хто раіць падумаць пра што-н.* [Лабыш:] Я табе, Надзя, як і роднай дачцэ сваёй, ліха не жадаю, калі ты розум мець будзеш, дык ты за Толіка замуж пойдзеш. Прадумай толькі нашу размову з табой. [Надзя:] Хай конь думае: у яго галава большая – а я ўжо ўсё перадумала... (І. Козел. Папараць-кветка). – А чаму ты ніколі не думаеш пра нашы адносіны? – Нашто мне думаць? Няхай конь думае, у яго галава вялікая (З. Дудзюк. Заложнікі шчасця). – Гэта зусім не тыя мінусы, пра якія ты думаеш. – А я і не думаю нічога, – паціскаў плячыма Мікола, – хай коні думаюць, у іх галовы вялікія (А. Кажадуб. Святы калодзеж). Маховіч прыкмеціў у вачах Сенчука гэта лёгкае недаў-

менне: – Здзіўляешся? Не думай пра гэта, хай конь думае, у яго галава вялікая (А. Дзятлаў. Крык у прадонні).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 243: Няхай конь думае, бо вяліку галаву мае; У кабылы большая галава, няхай сабе яна думае.

**Хапіў з дзежкі, аж (што) не бачыць сцежкі.** *Кажуць насмешліва пра п'янага.* [Грушэўскі:] Учора ў аднаго майго друга быў дзень нараджэння... Адзначылі як мае быць. Я заначаваў у яго на дачы... Дык і сёння яшчэ шал з галавы не выйшаў. [Ракітны:] Гэта называецца – хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі (К. Крапіва. На вастрыі). – От да чаго даводзіць праклятая гарэлка, каб на яе ліха якое... – Дапіўся, дагуляўся. Хапіў з дзежкі, што не бачыў сцежкі (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Насовіч*, с. 171: Хваціў з дзежкі, што не відзіць сцежкі.

**Хараство (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.** *Пра перавагу розуму перад прыгажосцю.* **Сін.:** *З тварам да вянца, з розумам да канца.* – Ну й хутаранкі, халера, хоць вады напіся. – Хараство, кажуць, прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца, – крыва, неяк адным бокам рота ўсміхнуўся Аўсянік. – Можа, і так... (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 232: Краса прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.

**Харош ўрадзіўся, ды не прыгадзіўся.** *Кажуць пра каго- ці што-н., знешне добрае, але не прыгоднае для пэўнай справы.* Пакруціў яе [дэталь] Куневіч у руках, узяў навобмацак дый кажа: – Не падабаецца мне. – Чаму? Усе замеры, як кажуць, у меры. – Кажуць і такое: харош урадзіўся, ды не прыгадзіўся (Звязда. 1988, 15 жн.).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 71: Харош урадзіўся, ды не прыгадзіўся.

**Хата без гаспадара плача.** *Пра выключную ролю гаспадара ў хаце.* **Сін.:** *Без гаспадара дом сірата; Калі хата без гаспадыні – вуглы гараць, а без мужыка (гаспадара) – увесь дом.* [Фядора:] Ну, а ўдваіх, кажуць, добра і жабраваць пайсці. Дый хата без гаспадара плача. А калі да таго – у Ігната яшчэ і сякець і паліць... (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

**Хата рагата.** «*Кажуць, разумеючы, што ў хаце па гаспадарцы многа можна знайсці работы; некалі сядзець склаўшы рукі»* (І. І. Насовіч). І колькі жыла мама, усё даробляла хату... Для ўдавы ўсё было дорага і недаступна. Прымаўка праўду кажа: хата рагата (Р. Барадулін. На таку майго вяку).

– *Насовіч*, с. 171: Хата рагата; *Ляцкі*, с. 53: Хата рагата: усяго многа нада; *Прыказкі*, кн. 1, с. 214: Хата рагата: на каждым рагу

найдзеш работу; Хата рагата, дзела ў ёй шмат; *Лепешаў*, с. 105: Лес бес, хата рагата (кажуць у сувязі з будаўніцтвам новай хаты, што яшчэ шмат работы наперадзе).

**Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.** *Гл.* <I> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

**Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць.** *Гл.* <I> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

**Хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам**. *Нельга меркаваць аб якасцях жонкі па першым уражанні*. **Сін**.: *Не хвалі дзень з раніцы, а жонку змоладу*. Сваты вярнуліся позна. Лявон з Фёклай цярпліва чакалі... – А як дзяўчына? – нецярпліва запытала Фёкла. – Добрая дзеўка! Але, як кажуць, хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

–*Прыказкі*, кн. 2, с. 26: Хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам.

**Хвалі каня пасля дарогі, а пана – як выцягнуў ён ногі.** *Гаворыцца як нязгода з тым, хто лічыць багатага чалавека добрым.* [Першая жанчына:] Вядома, пан жа таксама чалавек. [Другая жанчына:] Павінен і ён сэрца мець. [Бацька:] Хвалі каня пасля дарогі, а пана – як выцягнуў ён ногі (В. Вольскі. Цудоўная дудка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 308: Хвалі каняку пасля дарогі, а пана – як выцягне ногі; Каня хвалі пасля дарогі, а пана – як выцягнуць за ногі.

**Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная.** *Гаворыцца з насмешкай пра таго, хто хваліцца чым-н.* **Сін.:** *Аржаная каша сама сябе хваліць*.

* Ён сказаў гэта, быццам ганарыўся, што сям’я загінула, нібыта гэта ўзвышала яго, давала права на ўзнагароду. – Хвалілася рэдзька: «Ты мяне з мёдам пакаштуй, пабачыш, якая я смачная». Знаёма! – абураўся Воранаў. – Пасаромеўся б! (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі).

– *Ліцвінка*, с. 56: Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная; *Санько*, с. 38: Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная.

**Хвалілася сініца мора падпаліць.** *Хто-н., хвалячыся, наабяцаў шмат чаго, ды не змог выканаць.*

* Як хочаш хату падпаліць, дык пачынай з вугла. Хацела мора падпаліць сініца – не змагла (Р. Барадулін. Як мора падагрэць?).

– Паўкалька з рускай мовы: *Хвалилась синица море поджечь.* У рускай мове прыказка ўжываецца і ў такім варыянце: *Наделала синица славы, а море не зажгла.*

**Хваляцца з кірмашу едучы.** *Няма падстаў хваліцца, пакуль не зроблена што-н., не даведзена да канца.* **Сін.:** *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш; Не хваліся, ідучы на раць.* [Андрэй:] Не бойся, тата, яна тады яшчэ мацней мяне пакахае. [Паніч:] Пакахае! А калі я перашкоджу? [Андрэй:] Не палохайце. Я ведаю Надзею, Надзея ведае мяне. Перашкодзіць нам ніхто не здолее, адно хіба смерць. [Паніч:] Добра. Пабачыш. Занадта не бярыся. Хваляцца з кірмашу едучы (В. Гарбацэвіч. Чырвоныя кветкі Беларусі).

– *Янкоўскі*, с. 236: Хваляцца з кірмашу едучы.

**Хвароба калі не ўморыць, то (дык) скрывіць.** Два гады, верце, людцы добрыя, ці не, ляжала ў бальніцы. Бога маліла, каб забраў. Схуднела, ледзь ногі перастаўляла: хвароба калі не ўморыць, то скрывіць (В. Шырко. Сцяжына да людзей). Мне і ад трыццаці васьмі градусаў кепска. Тыдзень трымаецца, ніякімі антыбіётыкамі не збіць. А тут пад сорак. Давядзецца паваляцца. Хвароба калі не ўморыць, то скрывіць (Маладосць. 1998. № 8).

– *Насовіч*, с. 171: Хвароба калі не ўморыць, дык скрывіць.

**Хвароба – мігрэнь: жраць (есці) ахвота, а працаваць лень**. *Праст. Ужываецца як адмоўная рэакцыя на словы х в а р э ц ь, х в а р о б а ў папярэднім выказванні, калі гавораць пра лянівага чалавека і не вераць, што ён хварэе.* [Здаравеня:] Чатырыста пяцьдзесят шэсць [рублёў]. [Бандарчык:] У каго ж гэта так мала? [Здаравеня:] У Тадоры Белакапыцкай. Хварэе ўсё. [Бандарчык:] Хвароба – мігрэнь, жраць ахвота, а працаваць лень. [Здаравеня:] Ты, Бандарчык, мог бы добрым доктарам быць. Вельмі ж правільны дыягназ ставіш (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). Іван адправіўся ў нейкі незапланаваны рэйс (калі полем буракі, у яго заўсёды рэйсы), а Люся нечакана «захварэла». Да панядзелка яна, вядома, ачуняе, а ў суботу і нядзелю паляжыць у пасцелі. – У Івана і Люсі мігрэнь, – жартуе Марына, – есці ахвота, а працаваць лень (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў).

– *Ліцвінка*, с. 137: У яго мігрэнь: есці ахвота, а працаваць лень.

**Хвароба <нікога> не красіць. –** Уй, глядзіце! Падняўся! – усхліпнула Тамара, выглянуўшы ў акно. – Сам! Старшыня... – Нарэшце! – радуецца і Юліна маці. – А схуднеў, бедны. Хвароба не красіць. – Цэлы месяц качаўся ў пасцелі, – не дзіва (А. Макаёнак. Не пакінеш мяне). Я хачу, каб ты запомніў мяне прыгожай. Не такой, як зараз. Я страшная зрабілася. Худая, як трэска. Хвароба нікога не красіць... (Л. Левановіч. Бесядзь цячэ ў акіян).

* – Ха, адмыўся хоць трохі ад мазуты. – Хвароба аднаго рака красіць... Мо больш за месяц у бальніцы качаўся і дома ўжо з месяц, на бюлецені (П. Місько. Градабой).

– *Насовіч*, с. 171: Хвароба нікога не красіць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 215: Хвароба нікога не красіць.

**Хвораму і на залатым ложку кепска**. *Хворага чалавека нішто не радуе*. Кажуць, хвораму і на залатым ложку кепска... Я часта згадваю майго сябра Караедава... Прыняў занядбалую гаспадарку, але гадоў праз 5-6 калгас стаў ці не лепшым на Гомельшчыне... Толькі Сяргей Сяргеевіч з кожным маім новым прыездам выглядаў усё горш. Усё часцей даводзілася класціся ў бальніцу. А там і цукровы дыябет адолеў. Не стала Караедава ў 55 (В. Жывіца. Скачок «Багіры»).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 218: Хвораму і на залатым ложку кепска.

**Хвост выцягнеш – нос увязне, нос выцягнеш – хвост увязне.** *Ніяк не выходзіць што-н., не ладзіцца то адно, то другое.*

* – А што ты чуў?.. – Яно, браток, халера яго ведае, заўсёды так: лыч схаваеш – хвост відаць, хвост уцягнуў... – Ды гавары ты, як чалавек! (Я. Брыль. Апошняя сустрэча).

– *Ліцвінка,* с. 62: Хвост выцягнеш – нос увязне, нос выцягнеш – хвост увязне.

**Хіба чорт здумаў гэтыя залёты: ані ўночы сну, ані ўдзень работы.** *Гаворыцца звычайна бацькамі жартоўна ці з незадавальненнем пра сына, які з прычыны залётаў і недасыпання не надта ахвочы да работы ўдзень*. Вось тут, відаць, дайшло да Марусі, што дачка іхняя напраўды ідзе замуж, не проста на дзень-два да каго ў госці, а, лічы, назаўсёды ідзе з хаты... А мужчыны нічога, не адсоўваліся далёка ад бутэлькі, гаварылі, Пятро пацвельваўся з сына: «Хіба чорт здумаў гэтыя залёты: ані ўночы сну, ані ўдзень работы» (А. Кажадуб. Высока сонейка, высока).

– *Федароўскі*, с. 348: Хіба чорт здумаў гэтыя залёты: ані ўночы сну, ані ўдзень работы.

**Хітрасцю свет пройдзеш, а назад не вернешся.** *Гл.* Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш, а назад не вернешся.

**Хіцер Зміцер, але (ды) і Саўка не дурань (не дурны).** *Кажуць пра таго, хто хоча абхітрыць, падмануць каго-н.* Яны разлічвалі, відаць, на тваю жаночую даверлівасць. Гэта іх стары метад. Але, як кажуць, хіцер Зміцер, ды і Саўка не дурань (М. Машара. Лукішкі). Прыязджаў да нас нейкі Кастроўскі Зміцер, палохаў

нас казацкімі бізунамі... Хіцер Зміцер, але і Саўка не дурны (І. Гурскі. Вецер веку). «Няхай думае, што ніхто не знайшоў жыта. Няхай думае, што яно тут, пад галлём, ляжыць. Хе-хе, – аж смяяўся ад свае хітрасці Яўхім. – Зміцер хіцер, але і Саўка не дурань... Хе-хе!» (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Магчыма, і спецыяльна Акуліч не спяшаўся даводзіць сваю машыну да ладу, каб ніхто на ёй за час яго адсутнасці не працаваў. Так сказаць, маленькая хітрасць. Хіцер Зміцер, але і Саўка не дурань. Раскусілі яго праўленцы (В. Шырко. Сцяжына да людзей). **Хіцёр Зміцёр, ды і Саўка не дурны.** [Бруй:] Ад такой работы, ягамосцю, мазоль не сядзе. [Саўка:] Хіцёр Зміцёр, ды і Саўка не дурны (Я. Колас. У пушчах Палесся). Чаго [Кулеба] радуецца, што Лёха з сяброўкамі садзіцца на лаўку падсудных? Ён жа ведае, што іх затрымалі па справе аб забойстве. Хаця стоп, тут далёкі разлік... Хіцёр Зміцёр... (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

* Жыў мужычок, на імя Зміцёр; хоць дурань вялікі, ды мужык хіцёр (В. Дунін-Марцінкевіч. Вечарніцы). Не валяй дурня! Хіцер Зміцер, але і Ванька не дурны. Гані паўтары тысячы на нос – тады і гаварыць можна (В. Блакіт. Вырай). [Вадзім] ведаў напэўна, што гаспадар сена недзе цікуе за ім. «Хіцер Зміцер, але і я не дурань», – нагадаў Вадзім чутыя ад некага словы... (А. Рыбак. Трэба было жыць). – Зноў учора выпіў... Ох, Адаме, Адаме, нічога цябе не бярэ. – А што мяне возьме?.. Хіцер Зміцер, а з Івана дурня робіш. Сам ужо ўрэзаў зранку... (В. Казько. Літары на мармуры).

– *Ляцкі*, с. 53: Хіцер Дзміцер, ды й Саўка не дурак; *Прыказкі*, кн. 2, с. 318: Хіцёр Міцёр і Саўка не дурак; Зміцер то хіцер, ды і Сава не дурань.

**Хіцёр Зміцёр, ды і Саўка не дурань.** *Гл.* Хіцер Зміцер, але і Саўка не дурань.

**Хлеб і вада – маладзецкая яда.** *Гаворыцца як сцвярджэнне, што гэта не голад, калі пры адсутнасці іншай яды даводзіцца есці толькі хлеб.* Кожны меў права, калі быў галодны, адрэзаць кавалак хлеба ды падсілкавацца, запіваючы вадой паводле прыказкі: «Хлеб і вада – маладзецкая яда» (У. Калеснік. Доўг памяці).

– *Насовіч*, с. 172: Хлеб і вада – маладзецкая яда; *Прыказкі*, кн. 1, с. 233: Хлеб, соль і вада – маладзецкая яда.

**Хлеб на стале – рукі свае.** *Кажуць, запрашаючы да пачастунку.* [Сцяпан:] Чым хата багата – тым і рада. Хлеб на стале – рукі свае (Я. Купала. Паўлінка). – Чым хата багата – тым і рада. Бярыце, Яначка, бярыце! – «Хлеб на стале – рукі свае», – сказаў

бы Сцяпан Крыніцкі, – засмяяўся госць (С. Александровіч. На шырокі прастор). Бянігда Іванаўна накрыла стол чыстым абрусам, паставіла перад Валодзем талерку з мёдам, сыр, прынесла шклянкі і збанок малака. – Хлеб на стале – рукі свае. Чым хата багата – тым рада (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

* [Марыля:] І не саромейцеся: хлеб і гарэлка на стале, а рукі свае (І. Козел. Папараць-кветка).

– *Рапановіч*, с. 240: Хлеб на стале, рукі свае – адрэж дый з’еш.

**Хлеб не нявеста, з’есца – другі будзе**. *Гаворыцца за сталом у часе абеду.* Маці наварыць вядзернік крупені – высербаем ураз. Некалькі буханак хлеба змяталі са стала ў абед. «Хлеб – не нявеста, з’есца – другі будзе», – казала маці (С. Лобач. Знайдзі сябе...).

**Хлеб-соль еш, а праўду рэж.** *Ужываецца як парада смела гаварыць праўду, не зважаючы ні на што.* – А вы – падхалім! Перад дырэктарам спіну згінаеце ў тры пагібелі, а перад намі нос угару... – Правільна, Антось! Хлеб-соль еш, а праўду рэж (І. Гурскі. Качагары). – Хлеб-соль еш, а праўду рэж, – старшыня павярнуўся тварам да Васіля. – Мо хто і спалохаўся, што я ўзяўся за пераробкі... (І. Капыловіч. Асенні гром). Чалавек я, можна сказаць, такі, што, як кажуць, хлеб-соль еш, а праўду рэж, і калі дзе што якое, адным словам, дык я тут жа, на месцы... (М. Тычына. Аперацыя). Усе хочуць, як і я, выдаваць мастацкія ісціны ў апошняй інстанцыі і шчыра радавацца кожнай публікацыі, чарговай кнізе, якіх ніхто не чытае. Ну! Адстаяў права на іранічную ўнікальнасць! Хлеб-соль еш, а праўду рэж. Ды нешта яна сёння мала каго цікавіць (І. Запрудскі. Сапраўды-2).

* [Сабковіч:] Што гэта?.. Ты смееш павучаць мяне!.. [Пятрук:] Паночак... Цьфу ты, пропасць! – хацеў сказаць – ясны пане – то ж ведама стара гутарка: хлеб еш, а праўду рэж (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты). Як упёрся [Цімох], дык сваё і сваё: «Бульбіну сухую еш, а праўду ў вочы рэж» (Я. Ермаловіч. У родных мясцінах). Выгадна ці нявыгадна, а знаць праўду ўсё адно трэба. Як у нас кажуць, хлеб, мякіну еш, а праўду ў вочы рэж... (Б. Сачанка. Дарога ў Хатынь). Я чалавек прамы, калі і салгу, то зрэдзь. Хлеб еш, а праўду-матку ў вочы рэж (В. Ширко. Дзед Манюкін не салжэ).

– *Насовіч*, с. 172: Хлеб-соль еш, а праўду рэж; *Прыказкі*, кн. 2, с. 434: Хлеб-соль еш і праўду рэж.

**Хлеб усяму галава**. *Функц. не зам. Хлеб – самае галоўнае, найбольш важнае сярод іншага (ужываецца найчасцей як ацэнка зерневых раслін – жыта, пшаніцы і пад.).* Будзе ўгнаенне – мець

будзем ураджай. А добры ўраджай – гэта хлеб. А хлеб усяму галава. (П. Кавалёў. Гаспадар). Пра хлеб думалася: тут нешта не тое. Хіба яго так ужо многа ў нас, каб задарам аддаваць? Хлеб – усяму галава. Заўсягды ў поце твару здабываўся, заўсягды цану меў (Я. Пархута. Адзінец). У бядняцкіх хатах даўно не пяклі хлеба, абыходзіліся каржамі і бульбай. Лаўрэн здзекліва пасміхаўся: – Хлеб усяму галава. Прыйдзе вясна – укленчыўшы будзеце жменьку прасіць (А. Ус. За лесам – бярозавы гай). «Хлеб – усяму галаву», – кажа народная мудрасць. І сціплы сняданак, і святочнае застолле не абыходзяцца без хлеба. Ён займае пачэснае месца ў рацыёне кожнага чалавека (Роднае слова. 2009. № 4).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 231: Хлеб – усяму галава; *Ліцвінка*, с. 95: Хлеб усяму галава (аснова).

**Хораша ў найме, ды не дай божа мне.** *Гаворыцца з неадабрэннем ці іроніяй пра работу па найму.* Раённы Міжкалгасбуд непадалёку ад нашай вёскі замахнуўся на вялікі кароўнік. А сілы рабочай бракуе. Людзі кажуць: хораша ў найме, ды не дай божа мне. Пацёгся і я ў тыя наймы. А пушчанец з мяне не надта дужы, хілаваты, трэба сказаць. Наляпаюць мне тачку раствору з верхам, піхаю яе па дашчатым насціле і падаю (К. Камейша. Паміж кубкам і вуснамі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 359: Хораша ў найме, ды не дай божа мне.

**Хоць гаршком заві (называй), адно (толькі, а) у печ не стаўляй (не стаў).** *Гаворыцца, калі хто-небудзь не зважае на тое, як яго назвалі ці празвалі.* Кулак, кажуць на мяне нашы засцянкоўцы. Чорт вас бяры, кажу: хоць гаршком заві, адно ў печ не стаўляй (К. Крапіва. Мядзведзічы). – Не паліцыянты, а міліцыянты... – Кажы, як хочаш, – зіркнула спадлоб'я Анюта. – Хоць гаршком называй, толькі ў печ не стаў (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). Поп давай мяне сарамаціць, бязбожнікам называць. – Ты, – кажу, – бацюшка, хоць гаршком мяне называй, а ў печ не стаўляй (В. Шырко. Дзед Манюкін не салжэ). **Заві (называй) хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй.** Стуканок за клічку «Заморыш» зусім не крыўдзіўся, маўляў, заві мяне хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй... (А. Рылько. Стуканок у аблавушцы). – Цудоўнае імя... – А ўвогуле, як даўней гаварылі, называй хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй... (А. Марціновіч. На спадзе лета). **Няхай хоць гаршком завуць, абы ў печ не ставілі.** Празвалі мяне «вучоным», хоць я лічу сябе невукам. Першыя дні мяне гэта крыўдзіла, а цяпер асвойтаўся, няхай хоць гаршком завуць, абы ў печ не ставілі

(І. Гурскі. Лясныя салдаты). Пашка, мабыць, здагадваецца па няласкавым твары цёткі Саветы і па загадкавай усмешцы дзядзькі Нічыпара пра іх размовы. Што ж, няхай завуць хоць гаршком, абы ў печ не ставілі (У. Паўлаў. Спелыя травы). Божа мой! Пра што я думаю? Пра мянушкі. Ды няхай хоць гаршком назавуць, абы ў печ не ставілі (І. Шамякін. Палеская мадонна).

* – Ты мяне хоць гаршком называй, але ў агонь не стаў. – Баішся агню? – задзірыста і бадай з'едліва пажартаваў камандзір (І. Шамякін. Гандлярка і паэт). – О, як добра гучыць – Мікола! Я і буду вас Міколам зваць. – Хоць гаршком, абы не ў печ... (П. Місько. Градабой). З тае пары Гапей і пачаў называць Аксінню гарэзай. «Хоць і гаршком, абы ў печ не паставіў», – дражнілася яна (М. Гроднеў. Нязведаная даль). У рэшце рэшт, хіба ў прозвішчы справа?! Называйся хоць гаршком, абы ў печ не сунулі... (В. Блакіт. Усмешка Фартуны).

– *Раманаў*, с. 513: Хоць гаршком назаві, толькі ў печ не станаві; *Прыказкі*, кн. 2, с. 188: Хоць гаршком назаві, толькі ў печ не станаві.

**Хоць горшае, абы іншае.** *Звычайна кажуць з неадабрэннем, калі хто-н., грэбліва ставячыся да свайго, прывычнага, аддае перавагу іншаму, горшаму.* Успомнілася, пасля тых «клопатаў па гаспадарцы» і «клопатаў па дачы», знаёмая і незабыўная прыказка: хоць горшае, абы іншае... Ці добра, ці трэба: «патрэбна... па гаспадарцы», «работа па гаспадарцы», «клопаты па дачы» (Ф. Янкоўскі. Гаваркое, неасцярожнае, «нятое»...).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 276: Хоць горшае, абы іншае.

**Хоць еш крапіву і салому, але пры дому.** *Дома, у прывычных абставінах жыць лягчэй, чым дзе-н. у іншых умовах.* **Сін.:** *Дома і салома ядома.* Я – адзін... Дзеці далёка. Хоць еш крапіву і салому, але пры дому (Звязда. 2002, 23 кастр.).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 288: Хоць еш крапіву ды салому, але пры дому.

**Хоць за вала, абы дома не была.** *Говорыцца як насмешка з дзяўчыны, якая з-за пэўнах прычын гатова пайсці замуж абы за каго.* Седзячы побач, ён думаў зусім другое: «Яна не кахае мяне, ёй цяпер хоць за вала, абы дома не была, абы схаваць свой дзявочы сорам» (Б. Сачанка. Дзік-бадзяга).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 20: Хоць за вала, абы дома не была.

**Хоць і відаць, але далёка дыбаць.** *Гл.* Блізка відаць, ды далёка дыбаць.

**Хоць крывое ды гарбатае, абы слаўнае ды багатае.** *Пра нявесту ці жаніха, калі пры іх выбары перавагу аддаюць багаццю і славутасці.* – Пакінь казаць, дзіўная. Цяпер не вельмі глядзяць на красу; грошы давай – вось у чым увесь сэнс. Хоць крывое ды гарбатае, абы слаўнае ды багатае, ці то хлопец, ці дзяўчына, – разважала другая кабета (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 29: Хоць крывое ды гарбатае, але слаўнае ды багатае.

**Хоць кум, ды сабака.** *Кажуць, часцей жартаўліва, куму або пра кума, калі той не дагадзіў чым-н.* [Навум:] Вось табе на!.. Я яму добра раджу, а ён мяне ж лае. Эй, кум, кум! Знаеш прымаўку: хоць кум, ды сабака (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 110: Хоць кум, ды сабака.

**Хоць муж (мужык) з лапаць, абы з (за) ім не плакаць.** *Пра памяркоўныя адносіны жонкі да мужа, калі ён не строгі, не суровы.* Жанчына часамі згодна папусціцца фізічнымі якасцямі дзеля дабраты характару свайго чалавека: хоць мужык з лапаць, абы з ім не плакаць (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

* Я то й не пайшла б за другога [замуж], але ж трэба нейк дабываць веку. Хай муж будзе як лапаць, абы за ім не плакаць (П. Місько. Браканьеры).

– *Насовіч*, с. 13: Хоць бы муж быў з лапаць, было б за ім не плакаць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 60: Хоць муж як лапаць, абы за ім не плакаць.

**Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.** *Праст. Гаворыцца з пагардлівасцю пра бессаромнага ці занадта памяркоўнага або недалёкага, някемлівага чалавека.* А к чорту вас, ні ўдзень, ні ўночы ад вас спакою мне нідзе, – хоць ты ім плюй, здаецца, у вочы – усё роўна кажуць: дождж ідзе (К. Крапіва. Няма дурных на небе). – Пусці! – яна вырвалася і пайшла. Ён [Анатоль] дагнаў яе і моўчкі пайшоў побач. «Хоць плюй у вочы, а ён скажа, што гэта дождж», – падумала Жана з агідай (У. Дамашэвіч. Асеннім вечарам). [Раман] заняў кароў і пагнаў. Як нічога не было. Калі яму гаварылі, гігікнуў: гі-гі-гі... Смяяўся, як дзіця. Другі памёр бы са стыда, а гэтаму плюй у вочы, а ён будзе гаварыць, што дождж ідзе (І. Пташнікаў. Алімпіяда).

* [Адольф:] А панна Паўлінка ўсё кампліменты мне гавора. [Паўлінка, убок:] Дурню плюнь у вочы, а ён скажа: дождж ідзе! (Я. Купала. Паўлінка).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 348: Бессаромнаму плюй у вочы, а ён кажа: дождж ідзе.

**Хоць сава, абы з другога (чужога) сяла.** *Гл.* <Няхай> хоць сава, абы з другога (чужога) сяла.

**Хоць які целяпей, усё ж такі ўдваіх ляпей.** *Гл.* Сякі-такі (хоць які) целяпей, усё ж такі ўдваіх ляпей.

**Хочаш есці калачы, то (так, дык) не сядзі на пячы**. *Гаворыцца як павучанне працаваць, а не гультаяваць*. **Сін**.: *Без працы не будзеш есці коляцы*. Хочаш есці калачы, то не сядзі на пячы (эпіграф да раздзела ў аповесці У. Ліпскага «Я: Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод»). – Чым займацца? – Як чым? Хочаш есці калачы, не сядзі, брат, на пячы. Авалодвай рамяством (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа).

– *Прыказк*і, кн. 1, с. 166: Хочаш есці калачы, так не сядзі на пячы.

**Хочаш жыць – умей круціцца.** *Пра неабходнасць быць у жыцці выкрутлівым, энергічным, спрытным, лоўкім, хітрым.* Тут, у Высокім, я нічога не купляю, там бяру і масла, і малако, і смятану, і мяса – там яно ўсё танней... Хочаш жыць – умей круціцца. От і круцімся... (ЛіМ. 2000, 22 снеж.). [Маёр Козлікаў:] Вам смешна, што начальнік медвыцвярэзніка маёр Козлікаў у мундзіры, пры пагонах гоніць самагонку?! Эх, людзі, людзі! Усе мы людзі! Усе мы чалавекі!.. Хочаш жыць – умей круціцца! (У. Сауліч. Сабака з залатым зубам). – Даю тры [рублі], а вернеш з працэнтамі – пяць.. Хочаш жыць, умей круціцца (Г. Марчук. Альдона, Анэта, Анфіса).

**Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.** *Гаворыцца як парада не быць пасіўным у жыцці.* – Аднаму шчасце ракою плыве, а другі ў няшчасці цэлы век жыве. На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым. – Хочаш многа знаць, трэба мала спаць, – уставіў салдат на мыліцах (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Рапановіч*, с. 301: Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.

**Хочаш убачыць чорта, напаі бабу.** *Кажуць з асуджэннем пра п'яную жонку, якая ў такім стане паводзіць сябе незвычайна.* [Шмонька – Лаўры:] Пайшлі!.. Шухер!.. Додзікі! Ташнілаўка! (Выводзіць за дзверы.) [Аліна Іванаўна – услед:] Лаецца, аж вантробы выварочвае. [Шмонька:] Хочаш убачыць чорта – напаі бабу! (У. Сауліч. Адзін Гаўрыла ў Полацку).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 76: Хочаш убачыць чорта, напаі бабу.

**Храбрасць гарады бярэ.** *Гл.* Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.

**Хрэн за рэдзьку не саладзейшы.** *Хто-н. ці што-н. не лепшы (не лепшае), чым той (тое), з кім (чым) параўноўваюць.* – Табе не падабаецца слова «будучыня», вазьмі – «вечнасць». – Во-во! Будучыня... Вечнасць... Хрэн за рэдзьку не саладзейшы... (Т. Бондар. Ахвяры). Следства скончылася. Цэлы тыдзень Эдзіка нікуды не выклікалі. А потым перавялі ў турму на Урыцкага. Хрэн за рэдзьку не саладзейшы, як кажуць. На Урыцкага не білі і не дапытвалі, але былі там свае «ўцехі»... (А. Майсеня. Вечная мерзлата). Некалі гаварылі: хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар. У нас саўгас, але, як кажуць, хрэн за рэдзьку не саладзейшы. Я асабіста ніколі не краў і цяпер не краду, але не пабягу і заяўляць на злодзея, многія не ад дабра крадуць. За капейку працавалі, здароўя няма, а цяпер як жыць (В. Шырко. Споведзь правінцыяла).

* «Уцёк ад адных, а трапіў да другіх... – паныла падумаў Сцяпан. – А гэта значыць, што хрэн горкі, а рэдзька не саладзейшая...» (Г. Далідовіч. Заходнікі).

– *БРС*, т. 2, с. 672: Хрэн за рэдзьку не саладзейшы.

**<Хто> ажэніцца, <той> пераменіцца.** *Гаворыцца са спадзяваннем, што хто-н., ажаніўшыся, перастане быць легкадумным, ветраным і пад.* [Завальня:] Няшчасце чакае паненку Амелію, калі, крый божа, дасць згоду гэтаму ветрагону. Хаця ёсць прыказка: хто ажэніцца, той пераменіцца. [Тамаш:] Не, пане дабрадзею, кажуць людзі, што калі родзіцца жарабя з лысінкай, дык з той самай лысінкай і ваўкі з'ядуць (С. Кавалёў. Звар'яцелы Альберт).

– *Насовіч,* с. 41, 126: Жэніцца, пераменіцца; Пераменіцца, як ажэніцца; *Федароўскі*, с. 11: Як ажэніцца, то адменіцца.

**Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае**. *Гл.* Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш.

**Хто арэ, хто баранue, бог усіх параўнуе.** *Гл.* Хто сее (арэ), хто баранue, бог усіх параўнуе.

**Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос.** *Кажуць пра таго, хто сам прагаварыўся або яшчэ якім-н. чынам выдаў сябе.* [Навум:] Гэ! Дык ваша і па-паньску ўмееш шчабятаць. Эгэ, кумок! Вашая дачка, знаць, паньскага хову. Хто б пазнаў дзятла, што б не яго нос? (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Косцік яшчэ больш разгубіўся, збянтэжыўся (яго ж не цягнулі за язык, навошта было ва ўсім гэтак шчыра прызнавацца? Хто б дзятла ведаў, каб не яго нос?) (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

* – Такі прыйдзецца, кажа, перавыхоўвацца. – Хто б Дразда пазнаў, каб не яго доўгі нос, – засмяяўся Саўка (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Насовіч*, с. 175: Хто б дзятла знаў, калі б не яго доўгі нос; *Прыказкі*, кн. 2, с. 375: Хто б аб дзятле ведаў, каб не яго доўгі нос; Чорт бы дзятла знаў, калі б не яго доўгі нос; Хто пазнаў бы дзятла, каб не доўгі нос.

**Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае.** *Хто лоўкі, хітры або знаходзіцца ў лепшых прыродных, тэрытарыяльных і пад. адносінах, той і карыстаецца пэўнымі выгодамі, перавагай над іншымі.* На рабоце, каб толькі дзень да вечара. Такія не лянуюцца чужога абеду дачакацца. А шмат і такіх: хто бліжэй да міскі, той і чэрпае. Канешне, ад такой трасцы за адзін дзень не пазбавішся (В. Гроднікаў. Непаднятая цаліна). [Размова па тэлефоне:] Ім добра гаварыць, таварыш Варонін, калі ў іх станцыя пад бокам! Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае. А табе... Што? Ды хто з вамі тыкаецца? Гэта я сам сабе... (Я. Брыль. Апошняя сустрэча).

– *Янкоўскі*, с. 237: Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае.

**Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.** *Уважлівы,назіральны чалавек ні ў чым не заблытаецца.* [Пан:] Бачу я, знаходлівы ты, хлоп. Спрытны. Ёсць у цябе розум. [Несцерка:] Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам (В. Вольскі. Несцерка). Ды вось выдаткаў не абярэшся... Прыйдзецца ўжо ў тым-сім адмаўляць сабе... Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 324: Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.

**Хто гняздо ўе, у таго і ўецца.** *Хто стараецца ўладкаваць сваё жыццё, таму і ўдаецца гэта.* **Сін.:** *Хто дбае, той і мае.* [Андрэй:] А ўчора іду, чую, за хатай бацька з маці размаўляюць. Я прыслухаўся. Трэба жаніць, кажа бацька, цяпер не той час, аддзяляць, хату з вясны пабудуем, каня дам. На свае ногі, цяпер і зямлі больш дадуць, бо асобная гаспадарка. І маці згодна. [Верка, весела:] Ой, Андрэечка... [Андрэй:] Хто гняздо ўе, у таго і ўецца (У. Бутрамееў. Страсці па Аўдзею).

**Хто гуляе змаладу, той памрэ з голаду.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго ці таму, хто ў маладыя гады больш гуляе, чым займаецца якой-н. карыснай справай.* У пакоі [інтэрната] – гармідар. Адзін муху душыць на баку, другі бульбу лупіць на вячэру, двое ў падкіднога рэжуцца. А карты – не жарты. «Няважна адпачываеце, чарцякі, – гавару ім, – хто гуляе змаладу, той памрэ з голаду» (Полымя. 1989. № 9).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 361: Хто гуляе змоладу, той памрэ з голаду; *Санько,* с. 14: Хто гуляе змоладу, той памрэ з голаду.

**Хто дбае, той і мае. Сін.:** *Хто гняздо ўе, у таго і ўецца.* Хто дбае, той і мае, – кажа старая прыказка. У дачыненні да мовы яна захавала свой сэнс у поўнай меры (М. Лужанін. Мова ў газеце). – Ого! – багата жывяце! – Хто дбае, той і мае (І. Гурскі. Вецер веку). [Федзя:] Жыві, як сплануеш. Хто дбае, той і мае (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Такі закон: хто дбае – той і мае (Э. Валасевіч. Хто дбае – той і мае). Хто дбае, той і мае. А хто мае, той не займае (В. Рагаўцоў. Імгненні). **Хто робіць, той і мае.** – Дзесяць [мяшкоў зерня], – адказала дачка, расчэсваючы валасы. – Гэта першая рата. – Першая? Гм. Хто робіць, той і мае (К. Чорны. «Святая» папружка).

* [Вятрак] не меў, быў час такі, вольнай ні хвілінкі. Ціш табе не снілася, глушыня нямая. Прыказка дражнілася: той, хто круціць, мае! (Р. Барадулін. Радкі пад руку ветраку).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 185: Хто дбае, той і мае.

**Хто добры пастух, той і гаспадар добры.** *Ужываецца як сцвярджэнне, што па добрым стаўленні гаспадара да пастухоўства можна беспамылкова меркаваць і пра самога гаспадара.* Дзясяткі прыказак, прымавак прыдумаў народ пра сваю карміцельку. Варта згадаць асобныя з іх. Хто добры пастух, той і гаспадар добры. Не карміў карову буракамі, не пашлеш за быкамі. Летні дождж – на сена гной, а на карову – лой. Не галодная кароўка, калі пад носам саломка. Увосень давай карове, што есць, а ўвесну, што ёсць (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў).

– *Федароўскі*, с. 223: Хто добры пастух, той гаспадар добры.

**Хто дужшы, той прутшы.** *Перамагае ў якой-н. справе дужэйшы, спрытнейшы.* **Сін.:** *Кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася.* [Вінцэнтаў сын] гаварыў і пра нейкае парабкоўства ў кагосьці з калгасаўцаў, і пра нейкую паншчыну, якая некім робіцца. Старэйшы брат усміхаўся з гэтага, але нарэшце дадаваў сваю думку пра гэта ўсё: – Хто дужшы, той прутшы (К. Чорны. Лявон Бушмар). – У вас адабралі зямлю? І вы з гэтым змірыліся? – Адным сэрцам свету не запаліш. Хто дужшы, той прутшы (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Насовіч*, с. 176: Хто дужэй, той пружэй; *Прыказкі*, кн. 1, с. 353: Хто дужшы, той лепшы.

**Хто заб’е бабра, не будзе мець дабра.** *Гл.* Калі заб’еш бабра, то не будзе дабра.

**Хто з богам, з тым і бог.** *Сумленнаму, добраму чалавеку шчасціць, шанцуе.* Інакшая ж Сака доля, – гараваў, дзеткі, як змог. Дзейся, кажа, божа воля! А хто з богам, з тым і бог... І скора забагацелі, з іх усяк; і дзетачкі загудзелі, – забыў гора добры Сак! (В. Дунін-Марцінкевіч. Быліцы, расказы Навума).

– *Аксамітаў*, с. 234: Хто з богам, то і бог з тым.

**Хто зявае, той ваду сярбае (хлябае).** *Гаворыцца з неадабрэннем пра чыю-н. някемлівасць, няспрытнасць, што вядзе да адмоўных вынікаў у жыцці.* Вот у цябе што ў хаце? Крэслы абшарпаныя. На сценах пустэча. А ў мяне... Ты быў у мяне? То-та ж... Трэба ўмець жыць. Хто зявае, той ваду сярбае (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа). Хто зявае, той ваду хлябае. А я хачу скібку на два бакі мазаную (П.Місько. Пагаварылі).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 174: Хто зявае, той ваду сярбае; Хто зявае, той юшку хлябае.

**Хто каго любіць, той таго і чубіць.** *Кажуць пра ўзаемаадносіны паміж тымі, хто неабыякавы адзін да аднаго.* – У пана Лабановіча і ёсць гэты асаблівы талент, – прамовіла Ядвіся. – Што гэта, паночку, яна да вас прычапілася? – спытаў пан падлоўчы. – Не ведаю, – адказаў Лабановіч. – На свеце, пане-суседзе, бывае так, што хто каго любіць, той таго і чубіць. – Ха-ха-ха! – засмяяўся пан падлоўчы. – Што, Ядвіся, дастала? (Я. Колас. На ростанях). – Хоць мы і лаемся калі-небудзь, але пагаворка кажа: хто каго любіць, той таго і чубіць, – і Адам засмяяўся (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). Ладна, тата, не перажывайце. Усё добра будзе. Ну, пагарачыліся трошкі, паспрачаліся... Такой бяды! З кім не бывае? Хто каго любіць, той таго і чубіць... (М. Гіль. Развод). Мы чулі, што ты часам канфліктуеш з Нетрай... Нядобра гэта ўвогуле. Але нішто, уладкуецца, калі ўсё ідзе, як у той прыказцы: хто каго любіць, той таго і чубіць (М. Ткачоў. Пошукі скарбаў).

– *Насовіч*, с. 176: Хто каго любіць, той таго й чубіць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 50: Хто каго любіць, той таго і чубіць.

**Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.** *Гаворыцца з неадабрэннем пра чыю-н. неашчаднасць.* Хіба ў яго [бацькі] было б такое багацце, каб ён растыкаў усё, што плыве яму ў рукі? Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца (М. Лобан. На парозе будучыні).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 336: Хто капейкі не беражэ, той сам рубля не варт.

**Хто <коней> мяняе, у таго хамут гуляе.** *Кажуць з асуджэннем пра таго, хто любіць перабіраць, мяняць каго-н. ці што-н.* –

Мяняем? – Згода, – адказаў Яўхім. – Адно глядзі, не падашукайся. Хто мяняе, у таго хамут гуляе, – пажартаваў ён (Я. Лёсік. Па-валачобнаму). [Якім] любіў яшчэ гандляваць коньмі. Гэта пра яго мой дзед казаў: «Хто коней мяняе, у таго хамут гуляе» (М. Танк. Лісткі календара). – Мяняеш? – прыставаў цыган. – Хто мяняе, у таго хамут гуляе, – яшчэ раз акінуўшы вачыма цыганову клячу, у якой ходырам хадзілі бакі, адказаў селянін (І. Гурскі. Вецер веку).

* [Навум:] Не перабірай [жаніхоў], бо знаеш прыказку: хто перабірае чы часта мяняе, у таго заўсёды хамут гуляе (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч*, с. 176: Хто коней мяняець, у таго хамут гуляець; *Прыказкі*, кн. 1, с. 465: Хто мяняе, таго хамут гуляе; Хто часта коней мяняе, у таго хамут гуляе.

**Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.** *Кажуць, калі чалавек згодны з тым, што ёсць, не прэтэндуе на лепшае.* Тая ж самая рэч ці тое ж самае становішча могуць быць і дабром, і недабром: гэта залежыць ад таго, якую ступень дабра ў дадзеным кірунку чалавек мае. Прыказкай гэта выказваецца проста: хто лепшага не мае, таму і гэта добра (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 412: Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.

**Хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дачку.** *У кожнага чалавека свае густы, звычкі, погляды.* Незразумела толькі, чаму Глуздакоў даражыць гэтымі крэсламі: ці то ад беражлівасці, ці то душэўная прыхільнасць і прывычка да гэтай мэблі бяруць сваё, а можа, сталы густ яго проста адмаўляе новыя формы новай мэблі... Не будзем хаяць за гэта Глуздакова: хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дачку (А. Макаёнак. Лявоніха на арбіце).

* – А якая яна, гэта Аксана, прыгожая? – Як на чый густ... – А ўсё ж такі? – не адступаўся Лабановіч. Янка адказаў усё ў тым жа тоне: – Каму падабаецца поп, каму пападдзя, а каму папова дачка. – А каму ўраднікава, – падражніў Янку Лабановіч (Я. Колас. На ростанях). Хто правы з іх [ювелір ці мастак] – я не суддзя: каму па густу поп, каму і пападдзя... (Э. Валасевіч. Густы).

– *Насовіч*, с. 176: Хто любіць папа, а хто пападдзю, а я, дурачок, люблю паповых дачок; *Прыказкі*, кн. 1, с. 335: Хто любіць папа, а хто пападдзю.

**Хто мае вушы, пачуе**. *Кніжн. Гаворыцца як пабуджэнне да лепшага ўразумення сказанага перад гэтым.* Вось як піша М. Зарэцкі пра рэакцыю сведак на вар’яцтва і дзікую бесчалавеч-

насць Аснача: «Усе моўчкі стаялі, спалоханыя. Усе ўзіраліся ў недалужна-паніклае панскае цела. І дзіўна, што ні ў каго не мігнула ў гэты жудасны момант думка асуджэння. Быццам усе згодны былі з Аснsocom, быццам кожны разважаў сваім простым, нямудрым розумам: – Яму трэ было гэтак зрабіць...» Як сказана: хто мае вушы, пачуе. Тут не толькі абзац ці радок, але кожнае слоўка крычыць пра «пазіцыю пісьменніка» (Беларуская мова і літаратура. 2008. № 11).

– Паўкалька з царкоўнаславянскай мовы. Паходзіць з Бібліі: «Хто мае вушы слухаць, няхай пачуе» (Матфей, 11, 15).

**Хто мае грошы, той і харошы.** [Параска:] Пагляздзі на сябе... Маеш кут, сыты, чаго табе яшчэ? Якога ражна не хапае?.. Патрэбны табе грошы! [Кукса:] Гы-гы, прыдадуцца... Той і харошы, хто мае грошы (М. Ільінскі. Лес цёмны).

* – На маёй памяці, зусім нядаўна вы ставілі новую хату, а нашу хату мой тата ставіў яшчэ тады, калі мяне і на свеце не было. Калі ўсё ж такі ваша хата так хутка заняпала, дык за чым жа астаноўка? Хіба ў Рубяжы майстроў не хапае? – Ды не, рыбачка! У каго грошы, для таго і майстар харошы. Я ўсё пытаюся, калі мы заможнымі станем? (У. Дубоўка. Ганна Алелька).

– *Федароўскі*, с. 116: Хто мае грошы, той добры і харошы; *Прыказкі*, кн. 1, с. 474: У каго грошы, той і харошы.

**Хто мае дочкі, той ходзіць без сарочкі.** *Гаворыцца як намёк на пасаг, які бацькі давалі дочкам, калі яны выходзілі замуж.* Пачаў [Сцяпан] прасіцца ў парабкі... – Былі б у мяне дочкі дарослыя, у прымакі ўзяў бы... Парабкаў не нам трымаць... Хто мае дочкі – той ходзіць без сарочкі, – адказаў Дамінік Ануфрыевіч (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 89: У каго (хто мае) дочкі, той ходзіць без сарочкі.

**Хто мае тавар, той купцам рад.** *Кажуць бацькі свату, які завітаў да іх у дом.* [Андрэй (прыйшоў як сват):] А калі будзеце рады купцам, дык сяду. [Янка:] Ды ўжо ж, хто мае тавар, той і купцам рад. Што да цаны, то не зойдземся, – дык ласкава просім (А. Каганец. Модны шляхцюк).

**Хто мажа, той і едзе.** *Хто дае хабар ці іншым чынам умее падлагодзіцца, той і дабіваецца поспеху.* **Сін.:** *Чырвонае – белае ўсё перадзелае.* Уся справа, браце, у грашах. Падсунуў ціхенька і – ша! Ды не дражні суседзяў. (Хто мажа, той і едзе!) Ты дай мне веры – праз месяц будзеш у кватэры (М. Скрыпка. Падмазаў).

* [Юлія:] Надарма мая трывога, – можа ён мне быць падмогай. Кінем гідасць сваю вон, ды спытаем, што за ён. [Навум:] Добра прыгаворка кажа: скора едзе той, хто мажа (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). Эх, мілы мой ты! За панамі няма прадыху. Хто з грашамі і мажа збоку, – той і едзе, так вось і робіцца, суседзе (Я. Колас. Новая зямля).

– *Ляцкі*, с. 55: Хто мажа, той едзе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 346: Хто мажа, той едзе; Хто шмаруе, той і едзе.

**Хто матку забывае, таго Бог карае.** *Пра нікчэмнасць існавання і незайздросны лёс таго, хто забывае сваю маці, усё роднае, Бацькаўшчыну.* Моцна стойце на родным грунце! Любіце бацькаўшчыну сваю ўсёю душою, усім сэрцам сваім, бо хто матку забывае, таго Бог карае (Я. Лёсік. «Вольная Беларусь»).

**Хто меч падняў, і згіне ад мяча.** *Гл.* Падняўшы меч, ад мяча і згіне.

**Хто на малога дубца шкадуе, той на сябе пятлю гатуе.** *Гаворыцца як сцвярджэнне пра неабходнасць строгага выхавання бацькамі сваіх малых дзяцей.* [Куліна:] Хто цябе вучыў пад ногі дабро кідаць? Я? Бацька? [Бярэ дубец.] Колькі разоў казала: кідай у карыта. У карыта!.. [Вася (не дае біць Змітрака):] Цётка Куліна... [Куліна:] Хто на малога дубца шкадуе, той на сябе пятлю гатуе (У. Сауліч. Халімон камандуе парадам).

– *Федароўскі*, с. 91: Хто на дзеці дубца шкадуе, то на сябе вяроўку гатуе.

**Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць.** *Чалавек, звязаны з якой-н. справай, павінен належным чынам ставіцца да яе.* Гэта ўжо, замарыўшыся, Аксён зазваніў раптам ва ўсе званы, а тады апраўдаў сябе: – Ліха табе... Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць!.. Забыўся гэта... (В. Каваль. Сяльчане).

* А вось папробуй на цікавасць стрымай службовую рухавасць, службы спусціўшы рукавы і выкінь службу з галавы, – такія ў лесе выйдуць справы – пажар, парубкі і патравы – не адкараскацца ад ліха. А хочаш ты, каб было ціха, на чым сядзіш, таго глядзі ты! (Я. Колас. Новая зямля).

– *Насовіч*, с. 177: Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць; *Федароўскі*, с. 274: На чом хто сядзіць, няхай таго і глядзіць.

**Хто не бачыў новага, той і старому рады.** *Кажуць іранічна пра таго, хто не імкнецца да новага, трымаючыся за старое, прывычнае.* Яго, беларуса, цягнуць наперад, у лепшае і заможнае жыццё, а ён, як толькі можа, упіраецца седалам і нагамі, не жада-

ючы развітвацца са сваім змрочным мінулым. Праўду кажуць: хто не бачыў новага, той і старому рады (В. Гроднікаў. Асцярожна: «пятая калона»!).

– *Насовіч*, с. 177: Хто новага не відаў, той і старому рад.

**Хто не курыць і не п'е, той здаровенькі (-м) памрэ.** *Жартаўлівы адказ таму, хто асуджае каго-н. за курэнне ці п'янку.* Я хацеў узяць ягоную атруту і кінуць у вядро, аднак той, зразумеўшы, у апошні момант руку з цыгарэтай адхіліў. – Хто не курыць і не п'е, той здаровенькім памрэ, – са смехам прадказаў мне лёс Пятро (В. Шабалтас. Душагуб). То ў той, то ў гэтай хаце бразне дзвярыма. Можа, у той чарку нальюць, а ў гэтай цыгарку «страль-не»? Знойдзе, патопчацца ў парозе, паныгае, пакруціць носам, памыргае вачыма і зноў дзвярыма «бразь». А недзе ў хаце і паўшчуваюць: «Да чаго дажыўся, дапіўся, дакурыўся!..» А ён ім сваёй частушкай: «Хто не курыць і не п'ець, той здаровенькі памрэць». І жыве яшчэ, курылка (К. Камейша. Паміж кубкам і вуснамі). – Я не п'ю. – Во шчаслівы чалавек! – сказала цётка Дуся. – Што вы, Уладзіслаў Іванавіч! Малады вучоны! – А хто з вучоных не п'е? Навука закісне. – Хто не курыць і не п'е, той здаровенькі памрэ, – выгукнуў маўклівы Гвоздзік, што ажыў ад набліжэння выпіўкі (І. Шамякін. Сатанінскі тур).

**Хто не нараджаецца, той не памірае.** *Пра непазбежнасць смерці.* Данілу Пятровічу чамусьці прыйшла ў галаву думка аб смерці, і ён ніяк не мог адкараскацца. «Што ж, хто не нараджаецца, той не памірае, – падумаў ён. – Аднак калі прыйдзе кірпаносая, дык каб на роднай зямлі» (І. Гурскі. Чужы хлеб).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 411: Хто не нарадзіўся, той уміраць не будзе.

**Хто не працуе (не робіць), той не есць.** *Функц. не зам. Пра недапушчальнасць дармаедства, паразітавання.* [Каваль:] А жыць з чаго будзеш? [Фрося:] На бабчыны грошы. [Каваль:] Ты што, жартуеш, каб я, рабочы, ды на гэткі спосаб. О не!.. Так няможна, ты ведаеш – ёсць такі закон: хто не працуе – той не есць (У. Галубок. Ветрагоны). – Ну што, малеча, цяжка цягнуць такое на гарбе? – прамовіў Жук, заўважыўшы Мурашку. – А мы працуем на сябе. – Ды чуў... Пра гэта ўсюды трубяць. Павага, слава, чэсць. – Хто не працуе, той не есць (К. Крапіва. Мурашка і Жук). – Працаваць мы прывыклі. Без гэтага не пражывеш... – Гэта правільна, – пацвердзіў Мікалай Іванавіч. – Хто не робіць, той не есць (Р. Няхай. Гудкі абуджаюць вясну).

– Паходзіць з Бібліі: «Калі хто не хоча працаваць, той і не еш» (Пасланне апостала Паўла да фесаланійцаў, 3, 10).

– *БРС*, т. 2, с. 282: Хто не працуе, той не есць.

**Хто не робіць, той не есць.** *Гл.* Хто не працуе (не робіць), той не есць.

**Хто не рызыкуе, той не мае (не жыве).** *Гаворыцца як апраўданне рызыкі з надзеяй на шчаслівы канец.* **Сін**.: *Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага.* Вось ён [начальнік] і выклікае: «Антаніна Яфімаўна, зайдзіце». Нібы па справе. Ну, і робім сваю справу. Тут асаблівы смак ёсць: у любую хвіліну ў дзверы пастукаць могуць. Рызыка! Але, як кажуць, хто не рызыкуе, той не жыве (В. Кадзетава. Рэлікт). [Патыліца:] І яшчэ адно. Аладкі па-пінску: кіля мукі, замешанай на конскім казляку з дабаўленнем мачы маладога пеўня. [Абдула:] Першы раз чую. Вельмі арыгінальна. [Патыліца:] Хто не рызыкуе, той не мае (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі).

* Брыдка было браць [у маці апошняе цэлае яйцо], але ж гадалася, што пашанцуе нарэшце і можна будзе адгуляцца. Недарма ж бо кажуць: хто не рыскуе, той не зыскуе. Дык на табе! Прабіў у першай бойцы [яйцо] (Я. Лёсік. Па-валачобнаму).

– *Федароўскі*, с. 268: Хто не рызыкуе, той не траціць (не мае).

**Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага**. *Гаворыцца, часам жартаўліва, перад прыняццем якога-н. рызыкоўнага рашэння з надзеяй на шчаслівы канец.* **Сін**.: *Хто не рызыкуе, той не мае.* – Мне бедаваць няма чаго. А ты будзь асцярожнай. Хоць і малы, як ты кажаш, начальнік, а наламаць дроў можа. І нервы папсуе... – Так, можа… Ну, але хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага (Л. Левановіч. Ларыса, або Прыгоды аўтамабіліста). Знайшоўся пакупнік [брыльянта]. І падводнік да яго прыглядаўся, і зэк не зводзіў вачэй. Быццам паважны, спакойны, вочы не бегаюць, усміхаецца. «Эх, было не было! Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага!» (В. Шырко. Справа пра чорныя брыльянты). – А зараз чым займаешся? Давай папрацуем разам... – Валянцін, не хачу рызыкаваць, хадзіць па лязе... – «Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага!» Ты ж ведаеш, самы вялікі прыбытак даюць рызыкоўныя аперацыі (А. Дзялендзік. Эскулап і Фея).

**Хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не паможа.** *Пра непазбежнасць канца якіх-н. дзеянняў, спраў, учынкаў.* – Глупства ўсё гэта, таварышы, – сказаў Кастусь, – будзем працягваць работу. Варожыя штучкі. Хто не ўтрымаўся за грыву – таму і хвост не паможа (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 453: Як не ўтрымаўся за грыву, дык і на хвасце не ўдзяржышся.

**Хто <нічога> не робіць, той не памыляецца.** *Функц. не зам. Кажуць у апраўданне дапушчаных ці мажлівых памылак пры рабоце.* Хто нічога не робіць, той не памыляецца. Важна не настойваць на памылках, а іх выпраўляць (І. Гурскі. Вецер веку). Справа ў тым, што я будую кватэры. Калі якія непаладкі – гаварыце, пішыце. Хто не робіць, той не памыляецца (М. Пянкрат. Чалавек без твару). Не памыляецца той, хто нічога не робіць. Скажыце, дзе, калі, у якім ладзе вы бачылі абсалютна ўсё ідэальнае? Кажуць жа: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек – дзе лепей. Не памыляецца той, хто нічога не робіць (І. Капыловіч. Сорак цумаўскіх прыступак).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 169: Той не памыляецца, хто нічога не робіць.

**Хто новага не бачыў, той старому рад.** *Функц. не зам. Пра чыё-н. нежаданне мяняць прывычнае ў жыцці на новае.* Некаторыя пачалі вагацца. Дзіва: хто новага не бачыў, той старому рад (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Насовіч*, с. 177: Хто новага не відаў, той і старому рад; *Федароўскі*, с. 290: Хто не бачыў новага, той старому рад.

**Хто пад’еўшы не аддыша, таго бог за свінню запіша.** *Гл.* Хто па ядзе (пад’еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.

**Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае**. *Гл.* Не капай другому яму, сам у яе ўваліўся.

**Хто палку ўзяў, той і капрал.** *У каго сіла, у таго і ўлада, той і распараджаецца.* – Каго выберам за старшыню? Я раю выбраць Нічыпара Янкаўца. – Хто палку ўзяў, той і капрал, – адгукнуўся Нічыпар (Я. Колас. На ростанях). Лес належаў князю Патаржыцкаму, які, дарэчы, ніколі тут і не жыў. А прыбыткі яму ішлі. Тады былі такія парадкі: хто палку ўзяў, той і капрал... (І. Гурскі. Адвечная песня).

**Хто палюе і рыбачыць, той хлеба не бачыць.** *Кажуць непахвальна пра таго, хто захапляецца паляўнічтвам ці рыбнай лоўляй на шкоду асноўнаму занятку.* **Сін.:** *Хто рыбу вудзіць, той гаспадаром не будзець.* Муж пастаянна на рацэ. Жыў ён бедна. Нездарма ў Прусцы кажуць: хто палюе і рыбачыць – той хлеба не бачыць (У. Гніламёдаў. Уліс з Прускі).

– *Федароўскі*, с. 214: Хто палюе і рыбачыць, то хлеб рэдка бачыць.

**Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.** *Той, хто правінаваціўся ў чым-н., сам міжвольна выдае сябе сваімі паводзінамі.* **Сін.:** *На злодзеі шапка гарыць.* Лабановіч узяў білет, акінуў вокам станцыю. Нічога небяспечнага ні тут, ні на пероне ён не заўважыў. Але прыказка гаворыць: хто ўкраў парася, у таго ў вушах пішчыць (Я. Колас. На ростанях). [Цёця Каця:] Якая ж тут злосць, таварыш Зёлкіна. Я ж праўду кажу: вы сакратар, а ён дырэктар, дык як жа вы без яго можаце абысціся альбо ён без вас? [Зіначка:] Ладна, ладна, яхідная жанчына, я вам гэта прыпомню! [Цёця Каця, адна:] Хто парасё ўкраў, у таго ў вушах пішчыць. Я і не думала ёй шпільку падпускаць (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). Хто баіцца, той сам сабе прысуд дае... Ведаеце, дзядзька, як кажуць: хто парася ўкраў, у таго ўвушшу пішчыць (М. Зарэцкі. Вязьмо). Івану здавалася, што кожны сустрэчны глядзіць на яго кароткія рукавы і штаны. Тады падумалася: «Як у прымаўцы: хто ўкраў парася, у таго ў вушах пішчыць» (І. Новікаў. Да світання блізка). «А што, калі гэтая запіска – вынік раскрыцця маёй таямніцы, – раптам падумаў Сяргей Сяргеевіч. – Недарэмна ж кажуць: хто парася ўкраў, у таго ў вушах пішчыць (І. Сіняўскі. Тры навелы).

* [Шчырэцкі:] О божа! чы я гэтага ад маёй дачкі спадзяваўся? [Навум:] Вот табе на! Хто парася ўкраў, а каму ў вушах пішчыць... Нічога, нічога, пане куме! Хоць яна з панам трошкі і пагаманіла, ды мы ж тут былі блізка (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч*, с. 177: Хто парася ўкраў, у таго і ў вушах пішчыць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 372: Хто парася ўкраў, у таго ў вушах пішчыць (вішчыць).

**Хто пасее вецер, той пажне буру.** *Гл.* Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.

**Хто па ядзе (пад'еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.** *Пасля яды абавязкова трэба адпачыць, зрабіць аддышку.* Развязалі торбу, з'елі па куску сала з хлебам і прылеглі, каб «сала завязалася», прытрымліваючыся старой пагудкі: «Хто па ядзе не аддыша, таго бог за свінню запіша» (Я. Колас. Хвароба). Нарэшце яны [госці] паснедалі, наеліся да колак у жыватах і, паружавелыя, размораныя, вялыя, нібы зрабілі нейкую цяжкую работу, селі адпачыць. – Хто пад'еўшы не аддыша, таго бог за свінню запіша, – заўважыў на гэта дзед (М. Капыловіч. Былі б рукі).

– *Федароўскі*, с. 4: Хто пад'еўшы не аддыша, таго бог за свінню запіша.

**Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.** *Функц. не зам. Пра матэрыяльную і іншую залежнасць падначаленага ад свайго гаспадара, кіраўніка, начальніка і пад.* **Сін.:** *На чыім возе едзеш, таму і песню спявай.* А каля начальства, тут ужо як заведзена, трэба выбіраць: ці ты з ім заадно і яно лічыць цябе за свайго, ці ты супраць, а гэта значыць – не патрэбен яму. Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку. Халуйстваваць ён [Уладзімір] асабліва не халуйстваваў, але пенсію сваю адрабляў (В. Казько. Хроніка дзетдомаўскага саду).

* [Каравай:] У каго грошы, той і музыку заказвае. Грошы ў яго [Скаромнага]. Афармляйце дагавор (А. Макаёнак. Таблетку пад язык). У канцы шасцідзесятых былі свае патрабаванні да журналістыкі, газеты ж нашы... іграюць толькі другасную ролю. Урэшце, плаціць той, хто заказвае музыку. У той час трэба было захапляцца дасягненнямі, і я не абмінуў агульнай завядзёнкі (М. Зяньковіч. Вяртанне гонару).

– Недакладная калька з англійскай мовы: *He who pays the piper should (may) call the tune* – Хто плаціць дудару, той і называе мелодыю.

– *Ліцвінка*, с. 12: Музыку заказвае той, хто плаціць.

**Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.** *Кажуць пра таго ці таму, хто са спазненнем прыходзіць куды-н.* **Сін.:** *Апошняму парасяці цыцка пад хвастом* (у 1 знач.). Каб хаця не спазніцца, бо яны гатовы без мяне і баль увесь скончыць. Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць (М. Зарэцкі. Ная). – О, ранняя птушка... – Я ўздрыгнуў ад дзядзькавага голасу. – Гэта добра. Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць (П. Місько. Сваяк). – Чаму спазніліся? Справаздачу на стол! – У добрых людзей штрафную за гэта даюць. – Хто позна ходзіць – сам сабе шкодзіць (У. Карпаў. Нямігі крывавыя берагі). Познішся, вызвалены брат, а народ кажа: «Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць». Вось і ты, Міхась, ледзь не нашкодзіў сам сабе (М. Машара. Старонкі летапісу).

– *Насовіч*, с. 177: Хто позна ходзіць, сам сабе шкодзіць; *Ляцкі*, с. 55: Хто позна прыходзе, сам сабе шкодзе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 176: Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць.

**Хто пра бяду, а яна (ён) усё пра гавяду.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, у каго наўме заўсёды адно і тое ж [Гавяда – абласное слова са значэннем ‘карова’].* **Сін.:** *Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а вераб’ю мякіна; Каму што, а лысаму грэбень; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а пеўню бойка; Каму што, а свінні месіва; Каму што, а чорту балота; Ліса спіць і ку-*

*рэй бачыць.* – Ой, і з твару харошы [арыштант]. – Харошага ты, Магдалена, не прамінеш. – Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду, – сплюнула і адышлася ад купкі маладзіц пажылая кабета (В. Адамчык. Падарожжа на Буцафале).

**Хто прамікуе (прастуе), той дома не начуе.** *Гаворыцца з неадабрэннем пра таго ці таму, хто хоча ісці або ехаць куды-н. напрамкі, напрасткі.* **Сін.:** *Крывая дарога з простай смяецца; Напрасткі адна варона лятае, затое ніколі дома не бывае; Пойдзеш нацянькі – праходзіш тры дзянькі.* Ад мехдвара калгаса «Верны шлях» да ЦК нацянькі роўна 12 км, вымерана ўсімі спідометрамі калгасных машын. Але 12, гэта калі строга па прамой. А як вядома, прамая дарога не заўсёды верная, хто прамікуе, той дома не начуе. Вось давялося яму выкручваць па аб'ездах, кантрабанднымі патаемнымі сцежкамі абыходзіў пасты ДАІ і міліцыі, каб не трапіць ім на вока, лучыў падабрацца да ЦК з тылу (В. Казько. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел). Сцежка выходзіць якраз ля могілак, а яны за вёскай. Хоць і кажуць, хто прастуе, той дома не начуе, але іду шукаць сцежкі (К. Камейша. Паміж кубкам і вуснамі).

* Як хто ведае, то сюдою напрасткі блізка. Хто дарогу прастуе, той дома не начуе (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 279: Хто прасцікуе (прастуе), той дома не начуе.

**Хто прастуе, той дома не начуе.** *Гл.* Хто прамікуе (прастуе), той дома не начуе.

**Хто пытае, той не блудзіць.** *Пытаючыся, даведваешся пра ўсё, што трэба.* **Сін.:** *Язык да Кіева давядзе.* Панас, папаўшы ў незнаёмае месца, пачаў азірацца па баках і скора ўцяміў, як і што: «Эт, язык да Кіева давядзе. Хто пытае, той не блудзіць» (З. Бядуля. Панас на небе). Аб'ехаў я гэта... не пазнаю Красназорак, дый годзе. Гэтак адмяніліся з таго часу, як я калісь праз іх праязджаў. Нават аж папытаўся, бо кажуць жа: «Хто пытае, той не блудзіць» (А. Бабарэка. Як Красназорцы зямлі сцураліся). Цяпер прымайся за работу. А што якое... Не забывайся на мяне. Хто пытае, той не блудзіць (Э. Ярашэвіч. Святло імя твайго). – А чаму вы пытаеце? – Хто пытае, той не блудзіць, – адказаў стары (Я. Курто. Дарога бяжыць насустрач). – Ты не журыся, а выйдзі на шашу ды папытай. – І схаджу. Хто пытае, той не блудзіць (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

– *Насовіч*, с. 177: Хто пытаець, той не блудзіць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 280: Хто пытае, той не блудзіць.

**Хто рана ўстае, таму <і> бог дае.** *Хто рана ўстае, таму шанцуе, той многа зробіць.* Хто рана ўстае, таму бог дае. Бачыце ж, колькі сёння работы зрабілі... (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...). – Ну і работнікі, ні сну ім няма, ні ўпынку. Такая рань, а яны ўжо на нагах, працуюць... – Хто рана ўстае, таму і бог дае... (Б. Сачанка. Варэйка золата). З матчыным малаком ён [Мікалай Мацвеевіч] успрымаў мудрасць старога свету: «Хто рана ўстае, таму бог дае» (У. Мяжэвіч. Разам з людзьмі). – Хто рана ўстае, таму пан Бог дае, – сказала Рагнеда, як толькі расплюшчыла вочы. – А мы гультаі, дзявятая гадзіна пачынаецца (У. Дамашэвіч. Месяц у Раі...). Мішка, пад уздзеяннем выпітага з Мікалаем, хацеў пажартаваць, нешта накшталт: хто рана ўстае, таму бог дае, але Кот раптам часта пакрыўджана заміргаў, абурыўся... (У. Саламаха. Расступіся, зямля).

* У куце, на пачэсным месцы, пераходны чырвоны сцяг. Усё так, як у перадавіка. Толькі на адной сцяне самаробны плакацік: «Хто рана ўстае, таму і калгас дае» (А. Макаёнак. Не пакінеш мяне).

– *Федароўскі*, с. 258, 322: Хто рана ўстае, таму бог дае; *Прыказкі*, кн. 1, с. 174: Хто рана ўстае, таму бог дае.

**Хто робіць, той і мае.** *Гл.* Хто дбае, той і мае.

**Хто рыбу вудзіць, той гаспадаром не будзець.** *Гаворыцца непахвальна пра таго, хто захапляецца рыбнай лоўляй на шкоду асноўнаму занятку.* **Сін.:** *Хто палюе і рыбачыць, той хлеба не бачыць.* – Штосьці з рыбай слабавата, – гаварыў Зміцер. – Я дык і не наеўся ні разу... – Хто рыбу вудзіць, той гаспадаром не будзець (А. Кажадуб. Па Бярозе-рацэ). А тут яшчэ завялася рыба, залаты карась, ды ў такой колькасці, што рыбакі-небаракі зусім згубілі галаву. Пра іх так і гавораць: хто вудзіць, той гаспадаром не будзець (А. Кажадуб. Ляцяць качкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 151: Хто рыбу вудзіць, той гаспадаром не будзець.

**Хто сее (арэ), хто баранue, Бог усіх параўнуе.** *Перад Богам усе роўныя, усе ў Божых руках.* Корсак зславіў гэты зірк [Чабоцькі], дагадаўся, што ён значыць – дадому няма Змітрыка: глядзі, можа, вырваўся з адной зашмары ды ўляцеў у другую... – Хто сее, хто баранue, Бог усіх параўнуе. Можа, і так, – Язапат зламысла выцер аб аблеглую.. траву наліплы да ног пясок і пайшоў... (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца).

– *Насовіч*, с. 177: Хто пашаць, хто барануець, усіх Бог параўнуець; *Янкоўскі*, с. 53: Хто арэ, хто баранue – усіх Бог параўнуе.

**Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.** *Функц. не зам. Таго, хто распачынае бойку, напад і пад., чакае жорсткая адплата, кара.* Гора таму, хто адважыцца пайсці на нас, яму будзе зламана галава. Не дарма ў нашым народзе кажуць: «Хто пасее вецер, той пажне буру» (І. Гурскі. У агні).

* Бура ўсходзіцца, завея, згіне гэта пыха, бо хто зло-няпраўду сее, пажынае ліха (Я. Колас. Сымон-музыка). Толькі ён, вораг той, ад сябе не адхіліць удар: хто агонь той пасеяў – смяротны пажне тут пажар... (А. Куляшоў. Грозная пушча). Уведаўшы здраду аднойчы, уведаўшы цану і вагу срэбранікаў, яны [выхрысты] гатовы былі прадаваць усюды і заўсёды, перахрышчвацца на кожным кроку, пакланяцца і маліцца кожнаму новаму павеву ветру, спапяляючы ўсё вакол сябе і ў сабе, сеючы вецер і попел, пажынаючы буру ў адказ на сваё маленне: «пусть сильнее грянет буря» (В. Казько. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел).

– Паходзіць з Бібліі: «Паколькі яны сеялі вецер, то і пажнуць буру» (Кніга прарока Асіі, 8, 7).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 560: Хто пасее вецер, той пажне буру.

**Хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць?** *Іранічна гаворыць таму, хто не паверыў у сказанае суразмоўнікам.* Як знайсці новыя таленты? Дзе яны?.. Ну, вядома ж, у Мазыры, ну, вядома ж, у Святланы Стацэнкі, апантанай, таленавітай бландзінкі. І гэтая «гожасць» – яе прыгажуня-гарэза Ксюша. Памаўчыце нядобразычліўцы, хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць? Ксюша так запяе, што ўвесь свет пачуе, так падскочыць і падбрыкне, што ўсім захочацца пусціцца ў скокі (В. Шырко. Палессе дзіўнае дзіця). **Не можа быць, каб лапці ваду прапускалі.** У новым рамане Віктара Казько палескае: «Хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць?». Гэта ў мяне запісана ў канцы васьмідзесятых. А яшчэ ў ранейшым блакноце – наша, з Міршчыны, таксама ж вясёлае: «Не можа быць, каб лапці ваду прапускалі!..» (Я. Брыль. Леташняе).

**Хто спіць, <дык> той не грашыць (не грэшыць).** *Гаворыцца, часта жартаўліва, пра таго, хто спіць або збіраецца спаць.* [Данілка:] Ну, але мне спаць хочацца!.. Пойдзем, малыя! Хто спіць, той не грашыць (Я. Купала. Раскіданае гняздо). Яшчэ б тут можна байкаю пацешыць, ды не хачу трывожыць «праведнікаў» сноў я. Не буду – спіце на здароўе! «Хто спіць, дык той не грэшыць» (К. Крапіва. Угоднікі-маўчальнікі). [Ядзька:] Вы сягоння доўга спалі... [Костусь:] Хто спіць, той не грашыць (Ф. Аляхновіч. Няскончаная драма).

* Спі, шаноўная пані Сарачынская, разам з усім тваім пышным дваром! А хто спіць, той не грашыць і салодкія сны сніць (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

– *Федароўскі*, с. 296: Хто спіць, той не грашыць.

**Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.** *Кажуць, калі не хочуць успамінаць мінулых крыўд, непрыемнасцей і пад.* [Жыгалка:] Памятаеце, палкоўнік... [Беразоўскі:] Хто старое ўспомніць... (І. Гурскі. Новы горад). Пакінем крыўды. Хто старое ўспамяне, таму вока вон. Кожны чалавек памыляецца, я таксама (Т. Хадкевіч. Даль палявая). Я рахунак крыўды не вяду. Да таго ж лічу, народная прыказка вельмі мудрая: «Хто старое памяне...» (І. Шамякін. Не верце цішыні). **Хто старое памяне, таму распёкшы палец ды ў вока.** Яна не памінала пра старое, не раўняла старое «вільготнае жыццё» з новым жабрацкім і часта паўтарала: «Хто старое памяне, таму, распёкшы палец, ды ў вока!» (А. Мрый. Працоўны дзень савецкага лекара).

* – Ні стопкі, ні гуменца. Пуста. Усё забраў Данік... – Каторы Данік? – Не малады ды хворы, а стары, Васіль... – Хто старое спамяне, таму асцюк у вока, – сказаў Петрык (А. Алешка. Крумкачоў гай). [Кульбакоў:] Нам усё адно: што паляк, што саветы, што немец, га?.. Не час сварыцца, Сямён!.. Не час. Хто старое ўспомніць, таму зуб вон! [Сямён:] Я ўсё помню. Цягнулі разам, а сеў адзін.. (Г. Марчук. Пеўчыя сорак першага года).

– *Насовіч*, с. 177: Хто старое памянець, таму распёкшы палец ды ў вока.

**Хто топіцца, той за брытву хопіцца.** *Гл.* Калі (як) топішся, дык (то) за брытву хопішся.

**Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто (ты) у сачыўку>.** *Адзін гаворыць пра адно, а другі, не зразумеўшы, пра іншае. Кажуць з незадавальненнем пры непаразуменні паміж суразмоўнікамі.* **Сін.:** *Поп сваё, а чорт сваё; Ты яму «стрыжана», а ён табе «голена»; Я яму пра плот, а ён пра азярод; Я яму пра Фаму, а ён мне пра Ярому.* [Цёця Каця:] Нашто вам, маладой дзяўчыне, гэтыя старыя косці спатрэбіліся? [Вера:] Косці ў яго старыя, але душа маладая. [Цёця Каця:] Хто ў боб, хто ў гарох. Я пра тыя косці, што ў шафах. [Вера:] А я думала, пра Аляксандра Пятровіча (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). – Дурная, – не стрымаўся і Грэчка. – Хто ў боб, а хто ў гарох... Хіба ты не ведаеш, што ідзе вайна? (Р. Няхай. Сарочы лес). – А ты глянь на сябе. Якавою ты стала. – Тата, ці ж ты не

бачыш, што я... – Хто ў боб, хто ў гарох, а ты, як кажуць, у сачыўку. Я пра другое кажу (В. Адамчык. Год нулявы).

– *Янкоўскі*, с. 285: Хто ў боб, хто ў гарох; *Выслоўі*, с. 123: Хто ў боб, хто ў гарох; Хто ў боб, хто ў гарох, а хто ў саладуху.

**Хто ў жыцці спазнаў рай, той памрэ ў пекле.** *Пра супрацьпастаўленне зямнога жыцця багатых людзей і іх замагільнага свету.* Кажуць, хто ў жыцці спазнаў рай, той памрэ ў пекле. Калі быў рай у Івана Мацюка, то хіба да нараджэння, ва ўлонні маці, бо ўсё астатняе жыццё гаравалася ў чорнай агорклай бядоце (В. Адамчык. Бронекамізэлька № 36).

**Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.** *Гаворыцца як апраўданне крадзяжу ў лесе.* Амаль не кожны дзень думкі Андрэя вярцеліся каля гэтага дубка... Праўда, у лесе красці не грэх. Гэта не тое, што залезці да чалавека ў хату. І хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар (Я. Колас. Малады дубок). – Не столькі тае пажывы, як абняславіш сябе, калі зловяць; ды заплаціць прыйдзецца. – У лесе – гэта не ганьба. Не дурны чалавек выдумаў: хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар (К. Крапіва. Мядзведзічы). Няўжо бацька не адважыцца пайсці ў лес ды зваліць на дранку якую хвою? Сам жа навучаў Рыгора – хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар (М. Ваданосаў. Суседзі). Падняліся дзеці – стала лягчэй. Будаваўся, лесу свайго не меў, падчас прыкупліваў, падчас і асадніцкі сек; вядома, хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар (В. Адамчык. Свой чалавек).

* Наракаючы на каго-небудзь з мужыкоў, [ляснік] любіў ужываць прыказку: і ты добра знаеш, і я ведаю: «Хто ў панскім лесе не злодзей, той дома не гаспадар» (А. Пальчэўскі. Сцежкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 190: Хто ў лесе не злодзей, у доме не хазяін; Хто ў лесе не ўкраў, той дома не гаспадар.

**Хто хлеб з сабой носіць, той есці не просіць.** *Гаворыцца з адабрэннем пра таго, хто, адпраўляючыся куды-н., бярэ з сабой харчовыя ці іншыя запасы.* Мяне агортвае думка: добра, што паслухаўся мамы і ўзяў усю нарыхтаваную торбу харчоў: бохан хлеба, кавалак сала, слоік масла ды коржыкаў з куплёнай мукі... Я не хацеў столькі браць, але мама настаяла: – Бяры, сынок, усё бяры. Там як знойдзеш... З капейкі будзеш жыць... Нам нічога купляць тут не трэба, а табе ўсё купі за грошы, а іх не скора яшчэ палучыш... А хто хлеб носіць, той есці не просіць (А. Пальчэўскі. За парогам). [Нюра:] Вазьміце на дарогу бутэльку малака і акраец хлеба. [Сабіна:] Дзякуй. Не трэба. [Плаксун:] Бярыце, бярыце. У

дарозе спатрэбіцца. [Нюра:] Хто хлеб носіць – той есці не просіць (С. Свірыдаў. Аперацыя «Сабіна»).

* [Шчарбакоў:] Дзякуй. Не галодны. Да таго ж у мяне хлеб ёсць і нават сала... Вось бачыш. А хто з хлебам ходзіць, той есці не просіць (С. Свірыдаў. Паланянка).

– *Насовіч*, с. 178: Хто з сабой носіць, той у другога не просіць; *Ляцкі*, с. 56: Хто хлеб з сабой носе, той есці не просе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 240: Хто носіць, той не просіць; Хто торбу носіць, той есці не просіць.

**Хто хлусіць, той вып’е і закусіць, а хто праўду кажа, той галодны (так спаць) ляжа.** *Гаворыцца, часцей з гумарам, што таму, хто ўмее складна, лоўка прыдумляць, больш шанцуе, чым таму, хто кажа толькі праўду.* [Каця:] Скажы, бабуля, а табе даводзілася калі-небудзь гаварыць няпраўду? Толькі чэсна... [Бабка Зоя:] Ну і дзеці! Акзамент. Чысты акзамент наладзілі старой. Што вам і адказаць, не ведаю. Вось калі скажу: не даводзілася, то і будзе няпраўда. Хто хлусіць, той вып’е і закусіць, а хто праўду кажа, той галодны ляжа (Л. Левановіч. Пасля разводу).

– *Янкоўскі*, с. 104: Хто хлусіць, той вып’е і закусіць, а хто праўду скажа, той так спаць ляжа.

**Хто ціха ходзіць, той густа месіць.** *Ціхі, скрытны чалавек здольны на рашучыя, неспадзяваныя дзеянні, учынкі.* **Сін.:** *У ціхім балоце чэрці водзяцца; Ціхая вада берагі мые; Ціхая вада грэблю рве; Ціхая свіння глыбока рые.* Не паспеў і думку гэтую дадумаць, як перад вачыма Саўка Маўчун мільгануўся. Вось па кім па першым вяроўка плача! Праўду кажуць: хто ціха ходзіць, той густа месіць. Замясіў Маўчун на нашай крыві сабе пірог, ды хутка падавіцца (У. Арлоў. Міласць князя Гераніма).

– *Насовіч,* с. 180: Ціха ходзіць, ды густа месіць; *Прыказкі,* кн. 2, с. 321: Хто ціха ходзіць, той густа месіць.

**Хто цягне, на таго і валяць.** *Гл.* Хто цягне, на таго і навальваюць (валяць, грузяць).

**Хто цягне, на таго і грузяць.** *Гл.* Хто цягне, на таго і навальваюць (валяць, грузяць).

**Хто цягне, на таго і навальваюць (валяць, грузяць).** *На таго, хто добрасумленна адносіцца да справы, ускладваюць яшчэ большыя абавязкі.* **Сін.:** *Каторы конь цягне, таго і паганяюць.* – Дыхнуць, брат, не даюць. «Ты, кажуць, не працуеш – дык што табе рабіць...» Вось і бегаю... – Разумею: хто цягне, на таго і навальваюць (Л. Прокша. На пасадзе). Вельмі ўжо роўна вёў Гняды баразну,

не наравіўся, не прыставаў. За гэта яго цанілі, хаця і не берaглі: грузілі, паганялі, не заўважалі крывавых мазалёў пад хамутом. Як кажуць, хто цягне, на таго і грузяць (М. Зарэмба. Дзень магнітнай буры).

– *Янкоўскі*, с. 41: Хто цягне, на таго і валяць.

**Хто цярплівы, той шчаслівы.** *Пра таго, хто ўмее захоўваць вытрымку, самавалоданне.* Вашура знарок стражэў: «Годзе, годзе квахтаць. Вучыся цярпець. Хто цярплівы, той шчаслівы» (М. Воранаў. Карона).

– *Янкоўскі*, с. 316: Хто цярплівы, той шчаслівы.

**Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае**.

* – Гэта ж дзесяцін з пяцьсот лесу тут будзе каля балота. – А калі і будзе, то што? Няма чаго чужое лічыць. – Хто, пане мой, чужога не лічыць, той свайго не мае (М. Лобан. На парозе будучыні).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 443: Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае; Хто чужога не шануе, свайго мець не будзе.

**Хто шукае, той знаходзіць.** *Функц. не зам. Кажуць з упэўненасцю пра станоўчыя вынікі якіх-н. пошукаў.* **Сін.:** *Латва знойдзе, хто шукае.* Калі, напрыклад, толькі заводзілі ў культуру цукровыя буракі, у іх было ўсяго 6 працэнтаў цукру. А цяпер мы трымаем курс на 35 працэнтаў... Гэта ўсё робіць творчая думка і людская праца. Хто шукае – той знаходзіць. Вось і я адшукаў у стагадовай кнізе, выдадзенай у Санкт-Пецярбургу, цікавыя звесткі (У. Ліпскі. Адпяванне жывых). – Мы гэтаму дзіваку пакажам дзе ракі зімуюць, – прыгразіў невядома яшчэ каму Расолька. – Толькі б знайсці яго. – Хто шукае, той знаходзіць (У. Шахавец. Дарога пачыналася ў Бярозаўцы). [Сяргей:] А дзе ж знайсці тое кавадла і той молат? На нашым заводзе толькі пнеўмамолаты, пракатныя станы, аўтаматычныя лініі. [Зацейка:] Не вешайце носа, дарагі Сяргей Пятровіч. Хто шукае, той знаходзіць. Галоўнае – была б ідэя (І. Стадольнік. Залатое вяселле). Безумоўна, ёсць арганізацыі, якія сапраўды маглі б вырашыць вашы праблемы. Хто шукае, той знаходзіць (Звязда. 1992, 8 снеж.).

* Пасля доўгіх пошукаў я знайшоў такое ці амаль што такое [сямейнае жыццё, пра якое марыў]. Як некалі казалі ў Жыціве, хто чаго шукае, той тое знойдзе (В. Гігевіч. Не забывай пра дом свой, грэшнік).

– *Янкоўскі*, с. 203: Хто шукае, той знаходзіць.

**Хто языком штурмуе, не шмат наваюе.** *У балбатлівага чалавека вынікі працы малыя, нязначныя.* – Вам не сумна мяне слухаць? Рабочы не прывык языком штурмаваць, а больш рукамі. –

Што вы! – запярэчыў я, успомніўшы народную прыказку: «Хто языком штурмуе – не шмат наваюе» (І. Гурскі. Сталасць).

– *Рапановіч*, с. 314: Хто языком штурмуе, той нямнога наваюе.

**Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.** *Гл.* Кожны плача па сваім бацьку, як умее.

**Худы – хоць куды, а тлусты – чалавек пусты.** *Хударлявы чалавек мацнейшы здароўем, чым тлусты.* – Такая здэраў, такі таўсмач... Здавалася, зносу яму не будзе. – Худы – хоць куды, а тлусты – чалавек пусты. – І што – ніякага ратунку ўжо не было? (П. Місько. Градабой).

**Хутка (скора) каты робяцца, ды сляпыя родзяцца.** *Гаворыцца як парада не спяшацца з чым-н.* **Сін.:** *Паспех – людзям на смех; Паспяшыш – людзей насмяшыш.* [Ігнат:] Кватэрамі са свацця́й хацелі абмяняцца і каб хутчэй. [Яснотка:] У нашага народа, калі чулі, ёсць такая прымаўка: хутка каты робяцца, ды сляпыя родзяцца. У Бранябойнага, у аддзеле чуласці, паверхам вышэй, вазьміце даведку... Тады і пагаворым (А. Петрашкевіч. Злыдзень).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 180: Скора каты робяцца, ды сляпыя родзяцца.



**Цаляеш у варону, а пападаеш у карову.** *Пра недагляд, промах у якой-н. справе.* – Вы ж, мужчынкі, пэўна, без мяне абыдзецеся... Я ж надта баюся... – Ну, глядзі, а то заколем [парсюка], ды не таго... – Такой бяды, абы скварка... – Яно бывае і так: цаляеш у варону, а пападаеш у карову... – стары малацьбіт.. схаваўся ў настылай за ноч цемнаце сяней (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 310: Лучаў (меціў) у варону, а папаў у карову.

**Цаца-цаца, ды ў кішэнь.** *Кажуць, найчасцей жартаўліва, таму, хто, прыхільна ставячыся да каго-н. ці чаго-н., можа закахацца ў каго-н. або прысвоіць што-н.* [Гарлахвацкі:] Харошая дзяўчына гэта Верачка. [Чарнавус:] Слаўная дзяўчына. Я проста рад, што маю такую памочніцу. [Гарлахвацкі:] Глядзіце, Аляксандр Пятровіч, не закахайцеся. А то вы – цаца-цаца, ды ў кішэнь. [Чарнавус:] Што вы, баценька! Куды мне, старому! (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

– *Насовіч*, с. 179: Цаца-цаца, ды ў кішэнь; *Янкоўскі*, с. 104: Цаца, цаца – дый за пазуху (ды ў кішэнь); *Прыказкі*, кн. 2, с. 370: Цаца, цаца – ды ў кішэню.

**Цераз сілу і конь не цягне.** *Больш за тое, што ў чыіх-н. магчымасцях, сіле, нельга зрабіць.* **Сін.:** *Вышэй пупа не падскочыш; Вышэй <самога> сябе не скочыш.* [Шыбер:] І запасныя часткі звыш плана, і прамфінплан – як жа я ўпраўлюся? [Карнейчык:] Паспрабуй не ўправіцца! [Шыбер:] Цераз сілу і конь не цягне (К. Крапіва. Канец дружбы). [Курыльчык:] Раз я выканаў план, дык давай мне тое, што належыць. [Падабед:] А работы шмат не любіш? [Курыльчык:] Хто яе любіць – лішнюю? Цераз сілу і конь не цягне (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

– *Раманаў*, с. 314: Цераз сілу і конь не пацягне; *Прыказкі*, кн. 1, с. 142: Цераз сілу і конь не цягне (не бярэ, не возьме).

**Цешся, ліска, вяселле блізка – каўбасы з’ясі.** *Гаворыцца, калі паблажліва ставяцца да чыіх-н. заняткаў, учынкаў.* **Сін.:** *Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала.* На дзедава абурэнне песнямі Лазара Уладзік казаў: – Сапраўды, гэта не спевы, а скуголенне сабакі, які не прывык яшчэ да ланцуга. Ды няхай спявае. Цешся, ліска, вяселле блізка – каўбасы з’ясі (Я. Колас. На ростанях).

– *Янкоўскі*, с. 239: Цешся, ліска, вяселле блізка, каўбасы з’ясі.

**Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.** *Няма падстаў спадзявацца на ўдачу, поспех у якой-н. безнадзейнай справе.* Цешыцца царскае самаўладства, што прыдушыла рэвалюцыю. Мы ж напомнім яму: цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю (Я. Колас. На ростанях). Група беларускіх партызан чытала фальшывую лістоўку. Чыталі, пасмейваліся. Адзін запытаўся: – Калі гэта было напісана? – У марце месяцы... – Ну, вось, бачыце... Ёсць такая прыказка ў нас: цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю... То ж будзе і з гэтым валацугам Гітлерам... Не ў маі, дык, можа, пазней, але свайго не міне... (М. Лынькоў. Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю...).

– *Насовіч*, с. 181: Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно і ў маю нясуць яго да гаю.

**Ці за адну нагу вісець, ці за дзве – адна ласка.** *Аднолькавае пакаранне чакае каго-н. Кажуць пры згодзе зрабіць яшчэ што-н. і быць гатовым несці адказнасць за ўсё адразу.* **Сін.:** *Сем бед – адзін атвет.* [Трахім:] А цяпер, можа, паскачам, кумка? Мацейка пайграе нам. [Паланея:] Ды ўжо ж, кумок!.. Ці за адну нагу вісець, ці за дзве – адна ласка (Я. Купала. Прымакі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 350: Усё роўна – за адну нагу павесяць ці за дзве; Усё роўна, ці за адну нагу вісець, ці за дзве целяпацца.

**Ці з перцам, ці не з перцам, абы было з шчырым сэрцам!** *Ужываецца пры святочным частаванні як адно з праяўленняў гасціннасці, сардэчнасці ў абыходжанні з гасцямі.*

* З’яўляўся ў хаце госць, і як бы з усіх куткоў і шчылін гэтага дому адкуль толькі браўся прымус?! Просім да столу бяседу вясёлу! Ешце, абмачайце, а на лепшае – выбачайце! З печы, з полу – усё к столу! Ой, ці з перцам, ці з амберцам, абы са шчырым сэрцам! (А. Лойка. Як агонь, як вада).

– *Янкоўскі*, с. 73: Ці з перцам, ці не з перцам – абы было з шчырым сэрцам.

**Цікаўнай Варвары <сабакі> нос адарвалі.** *Гаворыцца як уніклівы адказ суразмоўніку на яго залішнюю цікаўнасць, імкненне ўведаць што-н.* – Дзе дастаў? – Еш. І не пытайся! Цікаўнай Варвары, кажуць, нос адарвалі!.. (І. Мележ. Мінскі напрамак). – Але ж ты першы выдумаў, што бомбу робіш... Гэта каб ты не сунуў свой кашачы нос куды не трэба. Але ж цікава... – Цікаўнай Варвары сабакі нос адарвалі (А. Зэкаў. Як Гаўка ў космас збіраўся). – Іш, цікаўная... Хіба не ведаеш, што цікаўнай Варвары нос адарвалі? (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча).

– *Рабкевіч*, 106: Любапытнай Варвары нос адарвалі.

**Ці памёр Гаўрыла, ці яго скула задавіла.** *Няма ніякай розніцы паміж чым-н., што-н. абсалютна аднолькавае.* – Мы вельмі зрабілі добра, што паправілі «змагацца з царскім ладам» на «змагацца з царскім рэжымам». – А! – махнуў рукою Нічыпар, – ёсць прыказка: «Ці памёр Гаўрыла, ці яго скула задавіла». Тое самае і тут. Лад, рэжым – адзін чорт (Я. Колас. На ростанях). Ды што тут мянціць языкамі, з пустога ў парожняе ліць? На Нёман хадзем з бусакамі, каму гэта справа баліць! Усё адзін чорт: памёр той Гаўрыла, ці скула яго задавіла, агледзець жа трэба хоць порт (Я. Колас. Прапаў чалавек).

– *Янкоўскі*, с. 139: Ці памёр Гаўрыла, ці скула задавіла.

**Ці пан ці прапаў.** *Гл.* Пан ці прапаў.

**Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася (папаску мела).** *Праст. Кажуць з неадабрэннем пра непрыбраны пасля яды стол.* [Альжбета:] Прыбірай ты ўжо, дзеткі, са стала. [Пранцісь:] Собственно, ці свінні елі, ці шляхта папасвалася – гэтак, вось-цо-да, стол выглядае, пане дабрудзею (Я. Купала. Паўлінка). [Лямэнт:] Ды тры дні гразь на стале. [Юзя:] Гэта ж вы з гасцямі елі, елі... Ці свінні елі, ці шляхта папаску мела (К. Чорны. Ірынка).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 350: Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася; Нельга пазнаць, ці шляхта ела, ці свінні папасваліся.

**<Ці> ты кпіш, ці дарогу (-і) пытаеш (напытваеш)?** *Ужываецца як іранічнае і рытарычнае пытанне да суразмоўніка ў сувязі з яго дзіўным або недарэчным выказваннем.* – За выпіўку дзякую вам. Не бяру. – Ром – гэта выпіўка? Э-э, кпіш ты ці дарогу напытваеш? Ну, давай... – наліў ён толькі Сцяпану, у паўшклянку (С. Яновіч. Сцяна).

* [Старшыня:] А кажуць жа, што вы схавалі жыта. [Паўліна, збянтэжана:] Што ты, братка! Смяешся ці дарогі пытаеш? (К. Крапіва. Канец дружбы).

– *Ляцкі*, с. 56: Ці ты кпіш, ці дарогі пытаеш?; *Янкоўскі*, с. 203: Ці ты кпіш, ці дарогі пытаеш?; *Рапановіч*, с. 270: Ці ты кпіш, ці дарогі пытаеш?

**Ціхая вада берагі мые.** *Ціхі чалавек здольны на рашучыя, неспадзяваныя дзеянні, учынкі.* **Сін.:** *У ціхім балоце чэрці водзяцца; Хто ціха ходзіць, той густа месіць; Ціхая вада грэблю рве; Ціхая свіння глыбока рые.* Тані трэба было з кім-небудзь гаварыць, шукаць спагады, адчуваць побач моцнае плячо. Што ж, ціхая вада берагі мые (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 300: Ціхая вада берагі мые (падмывае, разрывае).

**Ціхая вада грэблю рве.** *Ціхі чалавек здольны на рашучыя, неспадзяваныя дзеянні, учынкі.* **Сін.:** *У ціхім балоце чэрці водзяцца; Хто ціха ходзіць, той густа месіць; Ціхая вада берагі мые; Ціхая свіння глыбока рые.* – А трактарыст гэты не промах, вось табе і ціхоня. – Ціхая вада грэблю рве, – адказала яму «немка»... (І. Шамякін. Вазьму твой боль).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 300: Ціхая вада грэблі рве.

**Ціхая свіння глыбока рые (капае).** *Ціхі, скрытны чалавек здольны на рашучыя, неспадзяваныя дзеянні, учынкі.* **Сін.:** *У ціхім балоце чэрці водзяцца; Хто ціха ходзіць, той густа месіць; Ціхая вада берагі мые; Ціхая вада грэблю рве.* [Данута:] Ён здольны малады вучоны... І па-свойму прыгожы: ціхі, уважлівы, далікатны. Да ўсяго гэтага – любіць мяне моцна... [Ганука:] Ціхая свіння глыбока рые... (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы). – Затаіўся здраднік, жыве з намі тут побач... А хто? – Ціхая свіння глыбока капае, – задуменна сказаў Карабан (А. Кобец-Філімонава. Жаваранкі над Хатынню). – А ў яго друг быў, ціхманы, а хітры: такі і чорта ашукае, і богу не дадасць. – Ціхая свіння глыбока рые, – згадзілася з маці Маруся (В. Шырко. Хай людзі бачаць). **Ціхая свіння глыбокі корань рые.** Ціхі характарам чалавек звычайна вызначаецца

глыбінёю думкі і падыходам да справы: ціхая свіння глыбокі корань рые (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

* [Сарока:] Ці не трэба ачышчацца ад такіх, як Асмалоўскія, якія перашкаджаюць працаваць... [Іваноўскі:] І ад Сіліна, качагара, які хоць і ціхі, але глыбока яму капае (І. Гурскі. Качагары). Рагочуць досціпы старыя, што ціхі лыч глыбока рые (Р. Барадулін. Пра ціхасць).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 325: Ціхая свіння глыбока капае; Ціхая свіння глыбокі корань рые.

**Ціхая свіння глыбокі корань рые.** *Гл.* Ціхая свіння глыбока рые (капае).

**Ці хто родзіцца, ці ўмірае, поп нікога не мінае.** *Пра неабходнасць плаціць папу і пры хрышчэнні, і пры пахаванні, і ў іншых выпадках.* Мы вось і святкуем забітых грабежнікаў ды плацім за гэта даніну жывому грабежніку – папу, бо вядома – ці хто родзіцца, ці памірае, поп нікога не мінае – падай госпадзі! (К. Крапіва. Мядзведзічы).

– *Янкоўскі*, с. 53: Ці хто родзіцца, ці ўмірае, поп нікога не мінае.

**Цішэй едзеш – далей будзеш. 1.** *Умераная, непаспешлівая, цішэйшая язда на машыне, кані больш надзейная і бяспечная.* Я трымаў хуткасць кіламетраў пяцьдзесят, а то і сорак. Цішэй едзеш – далей будзеш. (П. Місько. Браканьеры). – А ці нельга хутчэй, га? А то я, чаго добрага, і на поезд спазнюся. – Нельга, – не пазіраючы на Андрэя, флегматычна адказаў шафёр. – Вы ж ведаеце – цішэй едзеш – далей будзеш. Асабліва ў нас у Маскве (Я. Васілёнак. Першы стрэчны). Войска рушыла наперад, адна чарапаха не спяшалася. – Чаго адстаеш? – спытаў, абганяючы яе, калючы вожык. – Цішэй едзеш – далей будзеш! – флегматычна адказала чарапаха (П. Саковіч. Байкі ў прозе). Ехалі на дзвюх падводах. Хведар вёз «маладых»... – Цішэй едзеш – далей будзеш, Федзенька, – сказала яму «маладая». – Не спяшайцеся, дзядзьку! – падтрымаў жонку Лявон (У. Гніламёдаў. Вяртанне).

**2.** *Чым менш паспешлівасці ў якой-н. справе, тым лепш. Кажуць у апраўданне асцярожных, але мэтанакіраваных дзеянняў.* [Бондар:] Яго [Анішчука] погляд: «Цішэй едзеш, далей будзеш». Гэты погляд стары. Мы цяпер не тыя людзі, што былі раней, мы навучыліся рабіць хутка і добра (І. Гурскі. Хлеб). Не ў яго гады кідацца ў гэты пякельны вір, у якім так лёгка страціць галаву. Ён [Крамер], калі і малады быў, не кідаўся. Залатое правіла: цішэй едзеш – далей будзеш (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). Вопыту

работы на камбайне ў мяне не было, калі не лічыць, што адзін год хадзіў у памочніках. Трэба да людзей прыглядацца, не рваць напачатку. Цішэй едзеш – далей будзеш (В. Шырко. Прадчуванне свята). **Паціху едзеш – далей будзеш.** [Дожджык] і крэпіць і крэпіць сабе, – паціху едзеш – далей будзеш (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). **Памалу едучы, далей будзеш.** Хутка ён [Адам] ужо суцяшаў сябе: «Памалу едучы, далей будзеш. У цяньку можна лепш адсядзецца. Бо як яно павернецца, ліха яго ведае» (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску).

– *Насовіч*, с. 180: Паволі едучы, далей будзеш; Цішы едзеш, далей будзеш; *Прыказкі*, кн. 1, с. 278: Паволі едзеш – далёка будзеш; Памалу едзеш – далей заедзеш.

**Цягаў (цягнуў) воўк, пацягнулі і воўка.** *Прыйшоў час адплаты каму-н. за прычыненае ім зло.* [Навум:] Добра вучыць нас прымоўка: цягаў воўк, пацяглі воўка. Цішком нас ты к сабе зваў, аб камісару пытаў. Мы ж языка не шчадзілі, добра яму засалілі (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – Супакойся, Міша, – старшы следчы коратка ўсміхнуўся. – Ёсць старая народная прымаўка: цягаў воўк, пацягнулі і воўка. Суд народа скажа пра яго важкае слова (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках). – У лесе, каля нейкага Пералога, злавілі трох паліцыянтаў. – Вой, што робіцца... – Цягнуў воўк, пацягнулі й воўка, – ловячы ў місцы слаіста-дрыготкую грудку кіслага малака, зазначыў гаспадар (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). **Насіў воўк, панеслі і ваўка (воўка).** Гаспадарылі ж як хацелі, што ў галаву толькі прыходзіла, тое і рабілі. Але нічога, мінулася кату масленіца. Насіў воўк, панеслі і ваўка... (Б. Сачанка. Вялікі Лес). Арыштавалі А. Александровіча праз год – 1 ліпеня 1938 го-да. Заходнебеларуская прэса адрэагавала на гэта афарыстычна: «Насіў воўк – панеслі і воўка» (Я. Саламевіч. Праз гады). Чырвоны гальштук з яго [Міхася, бацьку якога – адказнага супрацоўніка з наркамата ўнутраных спраў, нядаўна арыштавалі] сарвалі так, што мяккая тканіна нечакана балюча шарганула па шыі. А яшчэ... нечы зласлівы шэпт: «Насіў воўк, панеслі і ваўка»... (Л. Рублеўская. Кветка малайскага лёну).

* Цягнуў воўк – пацягнулі паляўнічага (Л. Дайнека. Парадаксізмы).

– *Насовіч*, с. 15: Валачыў воўк авец, павалаклі і воўка; *Прыказкі*, кн. 1, с. 355: Пацягаў воўк, пацягнулі і воўка; Браў воўк, узялі і воўка; Насіў воўк, панялі і воўка.

**Цяжка злавіць (знайсці, адшукаць) чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма.** *Функц. не зам. Пра немагчымасць знайсці, выявіць што-н. там, дзе яго няма. Ужываецца як іранічны аргумент супраць нерэальных сцвярджэнняў.* [Запіс з дзённікаў П. Панчанкі «Думаю, думаю...»:] «Цяжка злавіць чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі там яе няма». У памянёнай рэпліцы Куторгі нават і пад мікраскопам нельга заўважыць ніякіх намёкаў ні на сімвалы, ні на колеры «нашага гістарычнага сцяга». Чаго няма, таго няма. Або, як кажуць кітайцы: цяжка знайсці чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма (І. Лепешаў. Дазнанні). Даў бы аўтар хоць якое-небудзь маленькае пацвярджэнне ці хаця б намёк на яго... Але адкуль яго возьмеш, калі не было такога. Праўду кажуць кітайцы: цяжка знайсці чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма (Настаўн. газ. 2000, 27 верас.). Значыць, заставалася адно: моўчкі лапаціць паперы ў надзеі, што можна будзе напаткаць патрэбную паперчыну проста выпадкова. Па сутнасці, у стозе сена трэба было шукаць іголку. Брусевіч усміхнуўся: «Цяжка адшукаць у цёмным пакоі кошку, асабліва калі яе там няма». Так, той чорнай кошкі, якую шукаў зараз маёр, магло і не быць (Б. Беляжэнка. Таямнічы веласіпедыст).

*Вось такім чынам – спакойна і разважліва трэба тлумачыць падобныя пытанні людзям, а не спрабаваць распальваць несвядомыя інстынкты, не шукаць чорнага ката ў цёмным пакоі, дзе яго няма (Крыніца. 1997. № 3).

– Калька з кітайскай мовы. Аўтар афарызма – кітайскі мысляр Канфуцый (551–479 гг. да н. э.).

**Цянькі адбіраюць дзянькі.** *Язда нацянькі, напраcткі заканчваецца нялепшымі вынікамі.* – Едзем! – пазваў Павал. – Я думаю, на аб’езд, Лукаш? – выгукнуў той, што меў справу з Рыгорам. – А ліха яго ведае! Давай нацянькі! – Цянькі адбіраюць дзянькі! (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

* Чаго мяне няшчасце пагнала па гэтай дарозе? У народзе ж нездарма кажуць: «Пойдзеш нацянькі – згубіш дзянькі» (П. Місько. Браканьеры). «Едзьце проста да самага моста, а там па левай руцэ пасёлак будзе. Ад Петрыкава проста аж да Славінска. Простая дарога...» Напрасткі пагубляеш дзянькі (Ф. Янкоўскі. З нялёгкіх дарог).

– *Янкоўскі*, с. 104: Цянькі зводзяць дзянькі.

**Цярпі, Грышка, карчма блізка.** *Будзь цярплівы і дачакаешся чаго-н. лепшага. Кажуць, часцей жартаўліва, таму, хто скар-*

*дзіцца на цяжкасці, боль і пад.* **Сін.:** *Цярпі, казак, атаманам будзеш.* – Цягаемся невядома дзе, чаго, – скуголіў, спатыкаючыся на межах, Сымон Лапаткевіч. – І наогул уся гэта выдумка дабром не скончыцца. – Цярпі, Грышка, карчма блізка, – развясельваў яго Тукала. – І не люблю я ў такі вясёлы, радасны дзень, каб чалавек стагнаў, нібы ў яго нясцерпна баліць зуб (Я. Колас. На ростанях).

– *Рапановіч*, с. 58: Цярпі, Грышка, збавенне блізка.

**Цярпі, Зося, так прыйшлося!** *Гаворыцца, часцей жартаўліва ці іранічна, таму або пра таго, хто мусіць мірыцца з чымсьці, зносіць якія-н. непрыемнасці.* Свякроў пытаецца: – І па колькі прапанавала [класная кіраўніца] скінуцца? – Па дзесяць тысяч. – Вытрымае ваш сямейны бюджэт. Цярпі, Зося, так прыйшлося! Сынок жа твой у адной з лепшых школ сталіцы (Настаўн. газ. 2001, 3 сак.). – Падвязе [сын-трактарыст] каму што, соткі пабаранue ці абарэ – плацяць гарэлкай. Яму радасць, а матцы – гора. Ды што зробіш: цярпі, Зося, так прыйшлося. – Вас Зосяй зваць? – Ды не! – засмяялася жанчына. – Я Мар’я. А пра Зосю гэта ў нас прыслоўе такое (Ф. Сіўко. Трое).

– Параўн. у *Прыказках* (кн. 2, с. 199): Танцуй, Зося, як прыйшлося.

**Цярпі, казак, атаманам будзеш.** *Будзь цярплівы і дачакаешся чаго-н. лепшага. Кажуць, часам жартаўліва, таму, хто скардзіцца на цяжкасці, боль і пад.* **Сін.:** *Цярпі, Грышка, карчма блізка.* [Перагуд:] Але мне хацелася паслухаць вас і... пабачыць. [Наталля:] Ах, вось што!.. Я гэтага не ведала, а то раней бы прыйшла. [Перагуд:] Здзекуйцеся, я ўсё сцярплю. [Наталля:] Цярпі, казак, атаманам будзеш (К. Крапіва. Проба агнём). [Федзя:] Ты абараняеш мяне, Ядзя, але я сцярплю лепей. [Жыгліцкая:] Цярпі, казак, атаманам будзеш (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). – Табе не страшна тое, аб чым я расказваю? – Трошкі страшна, дзядуля, але я пацярплю. – Ну што ж, цярпі, казак, – атаманам будзеш... (М. Ткачоў. Вялікая сям’я). Бацька паклаў мне на плячо сваю вялікую, цяжкую руку. Падбадзёрыў: – Цярпі, казак, атаманам будзеш! Слухайся толькі Макара Апалінаравіча (Б. Сачанка. З новай кнігі).

* – Зноў не спаць... – Нічога не зробіш, прыйдзецца, – усміхнуўся Бардзін, падбадзёрваючы: – Трымайся, казак, атаманам будзеш! (І. Гурскі. Вецер веку). Як кажуць, цярпі, казак, атаманам станеш. Рана хоць і марудна, а ўсё ж гаілася, і настаў дзень, калі Яворскі расстаўся з павязкай на назе (А. Марціновіч. Цень крумкачовага крыла).

– Запазычанне з украінскай мовы: *Терпи, козаче, отоманом будеш.*

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 300: Цярпі, казак, атаманам будзеш.

**Цяснота – не крывота**. *Кажуць, калі дзе-н. збіраецца шмат людзей.* **Сін**.: *Дзе цесна, там пацешна; У цеснаце, <ды> не ў крыўдзе.* [Несцерка:] Дарагі госць Патыліца ідзе да Анці, «Абдула» – да Аксёна. Усё. Цяснота – не крывота (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Янкоўскі*, с. 73: Цяснота – не крывота; *Санько,* с 12: Цяснота – не крывота.

# Ч

**Чаго ж бы плакаў слеп, каб бачыў свет (след).** *На ўсё ёсць свая прычына. Пра прычынна-выніковую сувязь паміж з'явамі.* [Навум:] Які ты цікун, хочаш ведаць аб камеце! Ды што вам аб гэтым талкаваць, калі гэта вельмі бальшое дзіва, такое вялікае, што я аб нём і сам нічога не праведаў і сказаць не магу. Знаеш прыгаворку: чаго ж бы плакаў слеп, каб відзеў свет? Ды і я б не дзівіўся, што б ведаў (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Насовіч*, с. 181: Чаго б то плакаў слеп, калі б відзеў след; *Прыказкі*, кн. 2, с. 207: Не плакаў бы слеп, каб бачыў след; Чаго б сляпы плакаў, каб сцежку бачыў.

**Чаго не ясі, таго ў рот не нясі.** *Гл.* Што (чаго) не ясі, <таго> у рот не нясі.

**Чаго субоце раней за пятніцу быць.** *Навошта парушаць традыцыю ці парадак, які ўсталёўваецца самім жыццём.* – Гаспадару вялікі княжа Вітаўце! Маю я вялікую пашану да каранаванага брата твайго караля Ягайлы. І не магло б лепей сястрычне маёй Соф'і стацца, як за Яго Міласць замуж пайсці. Аднак чаго субоце раней за пятніцу быць? Вы не горш за мяне ведаеце звычаі нашыя. Не гадзіцца мне рабіць сорам і ганьбу яе старэйшай сястры тым, што малодшая раней замуж пайшла б. Не магу я зняславіць Васілісу (А. Бутэвіч. Каралева не здраджвала каралю). – А ты вучышся? – Не, зваршчыкам на заводзе... – Ладная работа. І нішто плата? – Не скарджуся. – Так, так, Жэнік. Вось і ў мяне... Але, як кажуць, чаго субоце раней за пятніцу быць – як расставіла жыццё, няхай так і будзе, – сказаў ляснік (А. Бароўскі. Шыпшынавы цвет).

– *Прыказкі,* кн. 2, с. 18: А чаго субоце раней быць за пятніцу?

**Чаго, чорце, у балоце сядзіш? – Бо прывык.** *Прывычка прывязвае чалавека да родных мясцін, не заўсёды прывабных для іншых людзей.* Гэтыя гарадкі і гарады яго ўзгадавалі, і, відаць, пабываць у тых гарадках дзяцінства і юнацтва яму ўжо не давядзецца. Аднак жа ён добра ведаў, што без іх не было б яго. Значыць, яны заўсёды з ім. Праўда, адзін з яго знаёмых неяк усміхнуўся і нагадаў прыказку: «Чаго, чорце, у балоце сядзіш?» – «Бо прывык» (А. Кажадуб. Крокі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 160: Чаго, чорце, у балоце сядзіш? – Бо прывык; Айдзе прывык, чорце? – А ў балоце.

**Чакай, баба, Пятра – будзеш сыр есці**. *Гл.* Чакай Пятра – сыр (сыру) з'ясі.

**Чакай Пятра – сыр (сыру) з'ясі.** *Няма надзей, што збудзецца тое, пра што ідзе размова.* [Кацярына:] На чым гэта ты абжывешся? На дзвюх дзесяцінах? [Рыгор:] Калі бальшавікі ўтрымаюцца, то і зямля будзе. [Кацярына:] Утрымаюцца... Чакай Пятра, сыр з'ясі (К. Крапіва. Партызаны). Хто будзе шукаць забойцу Рудзянкі? Каму гэта трэба? Можа, шэф слязу пусціць? Чакай Пятра, сыр з'ясі! (І. Новікаў. Руіны страляюць ва ўпор). – Шула згніло. Што тут ужо мастаколіць. Імполь вернецца ды паправіць. – Чакай Пятра – сыр з'ясі (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). – А мо водаправод будуць цягнуць у гэты канец... – Чакай Пятра – сыр з'ясі, – ажно заліваецца Шурык (А. Дзятлаў. У вёсцы капаюць калодзеж). – Ты ўжо захопіш [пакоі]! Каб хто сказаў! – Хіба я які пірат? Прыйдзе час – нам і самі дадуць. – Чакай Пятра – з'ясі сыру (У. Дамашэвіч. Камень з гары). – Прыехаў нейкі хлапчына, пажаліўся, паскардзіўся, а калі ад'язджаў – дзясятку папрасіў... Як вы думаеце, прывязе ён дзясятку? – Чакай Пятра – з'ясі сыру, – задаволена рагатаў Лявон Бурак (В. Гардзей. Кавэрда). **Чакай, баба (цётка), Пятра – будзеш сыр есці (сыр з'ясі).** [Марыля:] Казаў жа [Сымон], што ўжо на след напаў і скора ўсё скончыцца. Неўзабаве ўсю гаспадарку да ладу прывядзе. [Данілка:] Чакай, баба, Пятра – будзеш сыр есці! (Я. Купала. Раскіданае гняздо). – Ну, ты яшчэ пачакай, – запярэчыў Срэтун-Сурчык. – Сход заяву паслаў у дырэкцыю, каб мяне пакінулі тут... – Чакай, цётка, Пятра – будзеш сыр есці (Я. Колас. На ростанях). – Не можа таго быць, каб такія грошы прапалі. – Чакай, баба, Пятра – сыр з'ясі (М. Лобан. На парозе будучыні).

– Пятро – рэлігійнае свята (29 чэрвеня па старым стылі), якому папярэднічае двухтыднёвы пост.

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 103: Чакай Пятра – з'ясі сыр.

**Чакай, цётка, Пятра – будзеш сыр есці**. *Гл.* Чакай Пятра – сыр (сыру) з'ясі.

**Чакаць і даганяць горш за ўсё.** *Кажуць з незадавальненнем, калі прыходзіцца чакаць ці даганяць каго-н.* З галавы [Гарбачэўскага] не выходзіла: адклад не ідзе на лад. Аднак нічога не зробіш, прыйдзецца чакаць. А чакаць і даганяць горш за ўсё (І. Гурскі. Чужы хлеб). **Няма горш, як даганяць і чакаць.** Мікола з Марусяй зайшлі ў клуб, а я прысланіўся ў цемнаце да старога клёна і смаліў цыгарку за цыгаркай. Няма горш, як даганяць і чакаць (В. Шырко. Споведзь правінцыяла). Выйшаў з вакзала на вуліцу. Няма горш, як даганяць і чакаць. Але што зробіш? Трэба чакаць – гэта лепш, чым даганяць (У. Дамашэвіч. Падкова на шчасце). Няма горшага – даганяць і чакаць: каго даганяеш – той уцякае, каго чакаеш – той пляцецца (М. Воранаў. Карона).

* – Трэба дагнаць аўтобус. Муж паехаў у Польшчу і забыўся... – Э-х, маладзічка! Уцякаць і даганяць – самае найгоршае. Я ніколі нікога не даганяю і... не ўцякаю (І. Шамякін. Сатанінскі тур).

– *Рапановіч*, с. 226: Няма нічога горай, як чакаць і даганяць; *Ліцвінка*, с. 117: Няма нічога горшага, як чакаць і даганяць.

**Чалавека вочы водзяць.** *Чалавек позіркам выбірае сабе напрамак руху, дарогу.* – Тогда идите вот так... – начштаба паказаў рукою напрамак, а далей, як гаворыцца, чалавека вочы водзяць... Не будзь зломак... (К. Кірэенка. З аповесці вайны).

– *Федароўскі*, с. 335: Чалавека вочы водзяць; *Янкоўскі*, с. 151: Чалавека вочы водзяць.

**Чалавек мяркуе, а Бог не чуе.** *Функц. не зам. Не заўсёды бывае так, як хто-н. мяркуе, хоча, разлічвае.* **Сін.:** *Бог плануе, а чорт руйнуе; Чалавек страляе, а чорт кулю носіць*. Сябра сустрэў мяне на вакзале нейкі нездаволены. – Не шанцуе, ліха на яго!.. Нездарма кажуць, чалавек мяркуе, а Бог не чуе. Карацей, стары, да Кузьмы Нупрэевіча з табой паехаць не змагу – справы. Трэба зараз жа выязджаць у калгас (У. Краўчанка. Палессе). **Чалавек мяркуе, а Бог распараджаецца.** Ці ж гэта справядліва? Не, лепш не паглыбляцца, не разважаць. Нездарма кажуць, што чалавек мяркуе, а Бог распараджаецца. Што будзе, тое і будзе. А цяпер трэба думаць пра надзённае (В. Кадзетава. Вяртанне). **Чалавек марыць, а Бог уладарыць.** «Вось ажаню свайго Міколку, пабудуем новую хату і буду пры маладых няньчыць унукаў», – марыла немаладая, спрацаваная жанчына. Але, як кажуць, чалавек марыць, а Бог ула-

дарыць (С. Сяргей. Туман). **Чалавек мяркуе, а Бог распарадкуе.** Ды толькі чалавек мяркуе, а Бог распарадкуе. Нядоўга мая «радасць» – прадчуванне блізкай любімай працы – цягнулася (А. Федарэнка. З кошыкам). **Чалавек плануе, а Бог выракуе.** Людзі могуць планаваць на дзесяцігоддзі і стагоддзі сваё жыццё, а з'яўленне адной невядомай каметы лёгка можа парушыць гэтыя планы. Як кажуць, чалавек плануе, а Бог выракуе (М. Тычына. Кантрапункт пакутаў). **Чалавек мяркуе, а Бог размяркуе**. І каб хто сказаў тады Марцінкевічам, што акурат праз месяц яны будуць набываць нейкі там маёнтак за Радавым.., ніхто б з іх не паверыў. Ды... чалавек мяркуе, а Бог размяркуе. Цягам.. месяца прыйшоў з Пецярбурга станоўчы адказ за подпісам самога Бенкендорфа (Я. Янушкевіч. Трагікамедыя ў Люцынцы).

– Відаць, паўкалька з рускай мовы: *Человек предполагает, а Бог располагает*. У рускай мове прыказка скалькавана з лацінскай мовы (*Homo proponit, sed Deus disponit*) або з нямецкай (*Der Mensch denkt, Gott lenkt*) ці англійскай (*Man proposes, God disposes*).

– *Ляцкі*, с. 57: Чалавек думае так, а Бог іначай; Чалавек намяркуе, а Бог пашванкуе; Чалавек прымярае, а Бог адразае.

**Чалавек на гару, а чорт за нагу**. *Гл.* Ты на гару, а чорт за нагу.

**Чалавек не арэх, адразу не раскусіш.** *Добра разгадаць, уведаць характар, асаблівасці чалавека не лёгка.* Вядома, чалавек – не арэх, адразу не раскусіш, не заўсёды за словамі адкрываецца душа, але здалося Міколу, што начальства падабрала хлопцаў баявых... (І. Новікаў. Тварам да небяспекі). – Ат, гідота... Хапіла б чарніла, усіх бы ачарніў... – Няўжо ўсе так і верылі зласліўцу? – Чалавек не арэх – адразу не раскусіш (І. Макаловіч. Версія капітана Барташа). Што я вам скажу: чалавек не арэх, не раскусіш адразу. Больш за трыццаць гадоў пражыла я са сваім мужыком, і, вы думаеце, цацка быў? Ніхто з суседзяў не ведаў, ці ён благі, ці добры. Адна я ведала (С. Лобач. Горкую лілею пакашу).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 318: Чалавек не арэх, не раскусіш.

**Чалавек не вол, у адной скуры не старэе.** *У чалавека на працягу яго жыцця адбываюцца змены ў яго становішчы, поглядах і інш.* Палажэнне чалавека і яго погляды звычайна мяняюцца: чалавек не вол, у адной скуры не старэе (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Насовіч*, с. 182: Чалавек не вол, у адной кожы не старэе.

**Чалавек невучоны як (што) тапор нетачоны.** *Гаворыцца пра неадукаванага чалавека.* **Сін.:** *Невучоны як сляпы.* Прасцей тлумач-

це дзецям, як гэта хораша, калі школьнік спраўна вучыцца. Чалавек жа невучоны што тапор нетачоны (В. Праскураў. Бярозавы сок).

* – Навука ўсё пераробіць на карысць чалавека!.. – Мы на гэта нічога ні скажам. Правільна. Людзіна невучоная, як сякера нетачоная! А толькі людзі пад свой бок скарэй цягнуць (А. Мрый. Па Дзвіне ў Сураж).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 177: Чалавек невучоны як тапор нетачоны.

**Чалавек плануе, а Бог выракуе.** *Гл.* Чалавек мяркуе, а Бог не чуе.

**Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.** *Не заўсёды бывае так, як хто-н. мяркуе, хоча, разлічвае.* **Сін.:** *Бог плануе, а чорт руйнуе; Чалавек мяркуе, а Бог не чуе.* [Марыля:] Усе ж да апошняга часу думалі, што за намі зямлю прызнаюць, тым часам наадварот выйшла. [Старац:] Так, так, пані гаспадыня. Чалавек страляе, а чорт кулю носіць (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 159: Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.

**Чаму быць, таго не мінаваць.** *Кажуць з упэўненасцю пра непазбежнасць, немінучасць чаго-н.* **Сін.:** *Ад лёсу не ўцячэш; Свайго лёсу не мінеш; Суджанага і канём не аб'едзеш; Ты ў свет, і доля ўслед.* – Ты не думай, – спагадліва сказала Клава. – Не гаруй: чаму быць, таго не мінаваць. Яшчэ і невядома, як яно ўсё пойдзе (І. Мележ. Мінскі напрамак). Я, браток, чуў некалі ад старых: чаму быць, таго не мінаваць... Арэхаў у нас даўно на прыкмеце. Хай крыху пагуляе. Ёсць важнейшыя справы і без яго... (Р. Няхай. Героі не адступаюць). [Лявон], хоць быццам бы і скарыўся – чаму быць, таго не мінаваць, – ды не схіляў галавы (М. Гроднеў. Нязведаная даль). – Вось заўтра зранку ты і выпраўляйся да яго [знахара]... – Ладна, так таму і быць: з'езджу. Чаму быць – таго не мінаваць, як казаў мой бацька (В. Гігевіч. Палтэргейст).

– *Насовіч*, с. 182: Чаму быць, таго не мінаваць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 419: Чаму быць, таго не мінаваць.

**Час ад часу не лягчэй.** *Функц. не зам. Чым далей, тым горш, тым больш новых непрыемнасцей, цяжкасцей. Гаворыцца пры вестцы пра новую чарговую непрыемнасць*. Раптам ён убачыў, што дзяўчынка паказвае яму на свой рот. Ён так і застыў з табурэткаю ў руках. «Ты што... нямая?!» Яна кіўнула галавою: так. «Ну і ну! Час ад часу не лягчэй... Але ж ты чуеш? І ўсё разумееш?» Ківок галавою: так (А. Федарэнка. Афганская шкатулка). Ні побач з ложкам, ні пад ім, ні наогул нідзе ў пакоі не было нават знаку на ўласнае яе адзенне. Час ад часу не лягчэй! І дзе ж тады яна распранала-

ся ўчора? І навошта нацягнула на сябе недарэчную гэтую хламіду? І чыя яна, дарэчы? (Г. Аўласенка. Прачнуўшыся раніцай). А наперадзе ж дыпломная праца. А тут, час ад часу не лягчэй, пранеслася чутка, што нам на наш дыпломны курс прысылаюць новага выкладчыка (Наша слова. 2007, 27 чэрв.).

**Час – гэта грошы.** *Функц. не зам. Гаворыцца як напамінак у сітуацыі, калі прамаруджанне нявыгадна (з фінансавага ці іншага боку).* Добра, хопіць балбатаць, пара брацца за работу. Бачыце, кліент ужо чакае. Час – грошы! (Вожык. 1994. № 16). На Захадзе, а цяпер і ў нас кажуць: «Час – гэта грошы». Хто мае шмат грошай – можа набыць усё патрэбнае і без чаргі. Каштоўнасць усялякай рэчы вымяраецца тым часам, які спатрэбіўся чалавеку (або чалавецтву), каб яе атрымаць (Ю. Барысевіч. Чарга). Ты на маёй тэрыторыі бабкі збіраеш. Сячэш! А ўдзячнасці – нуль. Але твая праўда: час – грошы. Пайду і я працаваць (А. Кудласевіч. Пераход). – Цярпеннем трэба было запасціся, цярпеннем! – Цярпеннем... А забыў, што час – грошы? Не ведаеш, дзе выйграеш, дзе прайграеш (П. Місько. Грот Афіны).

– Калька з англійскай мовы: *Time is money.* Выказванне належыць амерыканскаму палітычнаму дзеячу В. Франкліну, які ў кнізе «Парада маладому купцу» (1748) пісаў: «Памятай, што час – грошы».

**Час мінеш – век жывеш.** *Іншы раз неабходна адзіна правільна скарыстаць пэўны час, каб пазбегнуць бяды, небяспекі, немінучай пагрозы жыццю і пад.* – Што ты думаеш рабіць, Міхась? Будзеш зашывацца ў падполле ці дасі арыштаваць сябе? – А што б ты, Ігнат, зрабіў на маім месцы?.. – Я б пастараўся адшукаць надзейны схоў, каб перачакаць там гэты час. Людзі кажуць: «Час мінеш – век жывеш» (М. Машара. Старонкі летапісу).

**Час – найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).** *Кніжн. Час найлепш лечыць фізічныя ці душэўныя траўмы.* Час – найлепшы доктар, каб залячыць смутак аб дарагім і выдатным чалавеку (К. Чорны. Аб Э. Самуйлёнку). Трэба лячыць нервы. Самы лепшы доктар – час! (Я. Колас. Дзённікі). Не-не, мабыць, адышла трохі [Волька] пасля Апанасавай смерці... Час – добры лекар. Страта бацькі, потым мацеры.. паступова прытуплялася (Л. Арабей. Халодны май). Час – вялікі лекар. Вылечыў ён і мяне. Пакрысе забылася першае маё аднабаковае каханне (М. Пянкрат. Вясновыя напевы).

– Калька з лацінскай мовы, упершыню ўжыў у «Споведзі» Аўгусцін (354–430 гг. да н. э.).

**Чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе.** *Гаворыцца, калі чалавеку не шанцуе, калі непрыемнасці ідуць адна за адной.* **Сін.:** *Адна бяда – не бяда; Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>; Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе; Ты за мора, а за табой бяда і гора.* [Куторга:] А калі б яму [твайму бацьку] і ўдалося перапрасіць найяснейшую карону, то не канец яшчэ бядзе. Ведаеш, што кажуць людзі: чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе. Справа ў суд як пойдзе, дык так дапякуць юрысты, моў баравіка на вугаллях, – адцураецца і сваіх (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта). Пяць гадоў судзіліся Кавалеўскія з панам за зямлю... – Што ж рабіць, Марыля, недарам кажуць людзі: «Чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе». Казалі мы табе – не шукай праўды ў судзе... (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Насовіч*, с. 182: Чалавек адну бяду перабудзець, а дзесяць іх прыбудзець; *Федароўскі*, с. 26: Кадук бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 443: Чорт адну бяду перабудзе, адна міне, дзесяць будзе.

**Чорт за чортам (за д'ябла) цягне.** *Адзін дапамагае другому, выгароджваючы яго ў якой-н. справе.* **Сін.:** *Нага нагу падпірае, рука руку абмывае; Рука руку мые.* Не ў тым штука, кажу. Трэба ж удумацца, што не ў адным пане бяда. Чорт за чортам цягне. Калі пану стала горача, дык, як бачыце, на падмогу прыстаў са стражнікамі (Р. Мурашка. Сын). – Дурні здумалі, плятуць немаведама што; а ён ім і веры дае. – Ды цябе сем сабак не перабрэша, а не то каб я адзін. Аднаго заводу з Тахвіляю. Чорт за д'ябла цягне (Л. Калюга. Тахвілін швагер).

**Чорт з голаду і мухі еў.** *Калі няма чаго лепшага, то прыходзіцца абмяжоўвацца і тым, што ёсць.* **Сін.:** *На бязлюддзі і поп чалавек; На бязрыб'і і рак рыба; У цёмным месцы і гніляк свеціцца.* «Чорт з голаду і мухі еў». А я, не абражаючы Энгельса як вучонага, спрабую ад бяскніжнасці дачытаць ягонае «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы» (Я. Брыль. Пішу, чытаю, жыву).

– *Янкоўскі*, с. 172: Чорт з голаду і мухі еў.

**Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).** *Кажуць пра мужа і жонку, якія не ўступаюць адно аднаму па сваіх якасцях, часцей адмоўных.* «Чорт не адны лапці стаптаў, пакуль такую пару дабраў», – жартаваў ён [Лапінка] з сябе і з Марты... (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). Бацька – скнара і скупеча, ды і маці не лепшая. Не адны чорт лапці стаптаў, пакуль такую пару сабраў (М. Машара. «Крэ-

сы» змагаюцца). Доўга тросся і перхаў ад смеху стары Літавар, потым выцер жменяю мокрыя губы: – Мусіць, чорт не адну пару лапцей стаптаў, покуль такую пару дабраў (В. Адамчык. І скажа той, хто народзіцца). Амежнік з Груняй.. сядзяць сабе на мяшках, вясёлыя, гаманкія. – Чорт не адну пару лапцей стаптаў, пакуль такую пару сабраў! (В. Мыслівец. Мужанцы). **Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль (покуль) пару дабраў (сабраў).** Ніхто не мог пярэчыць волі лютага пана. Не лепшай была і пані Мазурская. І хто ведае, можа, ад іх і пайшла прыказка: «Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару сабраў» (А. Якімовіч. Базылёў курган). Я яшчэ не ведаю, як ты глядзіш на свет, але мне здаецца, што ты таксама не выбіраеш крывых, абыходных сцежак. Значыць, чорт сем пар лапцей стаптаў, покуль пару дабраў... (У. Дамашэвіч. Камень з гары).

* «А яна ж таксама цецярук, ці як там... цяцерка... – думала Ірына... – Два цецерукі, пэўна, чорт не адну пару ботаў стаптаў, пакуль падабраў такіх мужа і жонку» (М. Герчык. Вяртанне да сябе).

– *Насовіч*, с. 101: Не адну пару жалезных лапцей чорт садраў, пакуль іх да купы сабраў; *Прыказкі*, кн. 2, с. 48: Чорт лапці стаптаў, пакуль пару дабраў; Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль такую пару дабраў.

**Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.** *Гл.* Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль такую пару дабраў (сабраў).

**Чорт чорта пазнаў і на піва (у госці) пазваў.** *Гаворыцца пра тых, хто здружыўся і дзейнічае заадно.* **Сін.:** *Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся.* «Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў». Ёсць у старога прыказка пра запас на такі выпадак. Бачаць: хатнік гаворыць з Бладзікам па-добрасці. Некуды ісці збіраюцца (Л. Калюга. Ні госць ні гаспадар). Неяк незаўважна Люся здружылася з Ірынаю – чорт чорта пазнаў і ў госці пазваў. Цяпер сыдуцца разам, быццам і шаптацца няма пра што, а яны дудукаюць з паўдня, не развесці... (Т. Гарэлікава. Дзе лес шуміць). Сухадольскія ў хаўрусе з сычэўнікамі (чорт чорта пазнаў і на піва пазваў) і разбэшчаным калектывам, а дакладней, натоўпам – вельмі небяспечныя (М. Верціхоўская. Усе яго чакаем...).

* [Дубовік:] Заўтра прыйдзеш на бюро. [Хмара:] У адну дудку [іграеце]. Дурань дурня пазнаў і на піва пазваў... (І. Гурскі. Новы горад).

– *Насовіч*, с. 184: Чорт чорта пазнаў, ды й на піва пазваў; *Ляцкі*, с. 40: Свой свайго пазнаў і на піва пазваў; *Федароўскі*, с. 67: Чорт д'ябла пазнаў, на піва пазваў; *Прыказкі*, кн. 1, с. 430: Чорт чорта пазнаў і ў госці пазваў; Свой свайго пазнаў і на піва пазваў.

**Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся.** *Кажуць іранічна пра тых, хто здружыўся і дзейнічае заадно.* **Сін.:** *Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў.* [З «Прыказак» К. Крапівы, апублікаваных у снежні 1944 г.:] Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся (Пра Гітлера і Франко).

– *Насовіч*, с. 184: Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся; *Янкоўскі*, с. 359: Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся; *Аксамітаў*, с. 50: Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся.

**Чужая болька (рана, скула) не баліць.** *Чужая бяда не адчуваецца, здаецца не такой сур'ёзнай, як свая.* **Сін.:** *За чужой шчакой зуб не баліць; Чужую бяду рукамі развяду.* – Думай, сем разоў мерай. Ніхто ў патыліцу не гоніць. «Ага, не гоніць... Што яшчэ скажаш, братухна? Што ты ведаеш пра маю жытку, акрамя плётак? Чужая болька не баліць, і пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца... Але ж я не дзіця, а ты – не маці і не бацька мне. І слёз маіх не дачакаешся...» (П. Місько. Градабой). [Порхаўка:] Апошняя мая надзея – печ, дык сцягнулі. Вам добра смяяцца, чужая рана не баліць (І. Гурскі. Свае людзі). Сход яшчэ цягнуўся з гадзіну, але Драгун, стомлены напружаннем, ужо не так востра ўсё перажываў. Дзіўная чалавечая натура! Чужая рана не баліць... (У. Дамашэвіч. Камень з гары). Брыдкі быў свет. Даўней не пыталіся ў мяне, чаму нага такая [пакалечаная]: у кожнага свой клопат. Чужая скула не баліць (У. Кандраценя. Каханне).

* У выніку, тыя, каму, як кажуць, дапякло, вымушаны адпрошвацца з работы, вучобы і шукаць паратунку ў іншых раёнах або нават у Мінску. Ніхто не падлічваў, колькі з-за гэтага траціцца часу, сродкаў... Зрэшты, чужое не баліць, і не міністэрства расплачваецца за няўвагу да нашых патрэб. А дарэмна (Звязда. 1998, 22 верас.).

– *Насовіч*, с. 184: Чужая болька нікому не баліць; *Янкоўскі*, с. 240, 328: Чужая скула нікому не баліць.

**Чужая душа – пацёмкі (цёмны лес).** *Цяжка зразумець душэўны стан, намеры, настрой, паводзіны каго-н.* **Сін.:** *Душа чалавека не кажух, не вывернеш.* Ці ўсур'ёз ён, ці жартуе – хто яго разбярэ: чужая душа – пацёмкі (М. Лынькоў. Журавель мой, жура-

вель). Чужая душа – пацёмкі, і як ты таго ні хаці, у змроку, дзе цень стане ломкі, блукаць давядзецца ў жыцці. Чужая душа – пацёмкі, яно і ў сваёй не святлей... (Р. Барадулін. Чужая душа – пацёмкі). Праўда, сказаць цяжка, што людзі адчувалі пры гэтым. Усё-такі чужая душа пацёмкі (І. Чыгрынаў. Кожны шукае сябе). – Каб той кашалёк быў у бацькавых штанах і трапіў у Рыгоравы рукі... невядома яшчэ, чым скончылася б. – І я быў усумніўся... – Праўда, што чужая душа пацёмкі, – першы раз абазваўся Федзя (П. Місько. Градабой). Дзед ляжаў, застыла ўставіўшыся вачыма ў столь, і нешта думаў. Што?.. Ах, каб гэта можна было ведаць... Ды чужая душа – пацёмкі (Б. Сачанка. Не, не ўсё роўна). Праўду кажуць: «Чужая душа – цёмны лес», тым болей – душа прыгожай і разумнай дзяўчыны (С. Грахоўскі. Ранні снег). Магчыма, дыспутант абмовіўся... Чужая душа – цёмны лес (ЛіМ. 1998, 17 ліп.).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 327: Чужая душа – пацёмкі; *Ліцвінка*, с. 128: Чужая душа – пацёмкі.

**Чужая душа – цёмны лес.** *Гл.* Чужая душа – пацёмкі (цёмны лес).

**Чужая жонка мёдам мазана, а свая смалой.** *Кажуць пра таго, хто аддае перавагу не жонцы, а іншай жанчыне.* [Брындзюкоўна:] Вось верціхвостка! Вось няшчасце на маю галаву, сораму – на ўвесь горад. Гэта ж падумаць – мяне, бургамістаршу, на гэтую верціхвостку памяняць! [Несцерка:] Э-э, хто без граха. Чужая жонка мёдам мазана, а свая смалой (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 65: Чужая жонка мёдам мазана, а свая смалой.

**Чужая рана не баліць.** *Гл.* Чужая болька (рана) не баліць.

**Чужая старана – цёмны лес.** *У чужой старане ўсё незнаёмае, незразумелае.* Дакуль мы будзем тут [у зарубежнай краіне] гібець?.. Чужая старана – цёмны лес (І. Гурскі. Чужы хлеб).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 292: Чужая старана – цёмны лес.

**Чужая старонка – мачаха.** *Пра непрыветлівасць у чужой старонцы.* Чужая старонка – мачаха. Страшна памерці ў чужых краях. Я на чужыне мала сплю, а многа сню (І. Гурскі. Чужы хлеб).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 290: Чужая старонка – мачаха.

**Чужая хатка такая, як свякроўка ліхая.** *Пра кепскае, няўтульнае жыццё ў чужой хаце, кватэры.* Ды я ж свой век гаравала, ды я ж век старалася і будавалася, а цяпер уся мая сіланька прапала – дымам пайшла... Ды дзе ж мне прытуліцца, ды дзе ж мне нагрэцца, бо чужая хатка такая, як свякроўка ліхая. І чу-

жая печ халодная. Ох, долечка мая непагодная! (У. Сауліч. Сабака з залатым зубам).

– *Янкоўскі*, с. 42: Чужая хата як ліхая свякроўка; *Рабкевіч*, с. 240: Чужая хатка такая, як свякроўка ліхая.

**Чужая яечня не вечна.** *Пра недаўгавечнасць чужога дабра.* Імперыялістычныя драпежнікі ўсведамляюць тую вядомую ісціну, якая добра выказана беларускай прыказкай: чужая яечня не вечна (М. Лынькоў. Гісторыя ідзе наперад). Дзе ж гэта відана, каб ад родных бацькоў на чужы хлеб дзіця выпраўляць?! Чужая яечня не вечна. Не зырся на гэта, Ясь! Ты не сіраціна, маеш матку родную, і бацька табе не чужы, не адцураецца (З. Бандарына. Ой, рана на Івана).

– *Насовіч*, с. 184: Чужая яешня не вечна.

**Чужое дабро не грэе.** *Чужое дабро не ідзе на карысць.* **Сін.:** *Чужы кажух цела не грэе.* [Пятрук:] Ці гэта будзе па-панску? Ці прыгожа цягацца да чужога дабра?.. [Сабаковіч:] Хоць не прыгожа, але складна дастанем сабе задарма колькі кажухоў. [Пятрук:] Кажуць старыя людзі, што чужое дабро не грэе (В. Дунін-Марцінкевіч. Залёты).

– *Насовіч*, с. 185: Чужое не грэець; *Федароўскі*, с. 18: Чужое багацтва не грэе.

**Чужое ўсё смачней.** *Чужое здаецца лепшым, чым сваё.* **Сін.:** *<Няхай> хоць сава, абы з другога (чужога) сяла (*у 2 знач.*); Чужы хлеб – гасцінец, а чужая жонка – прыгажуня.* [Бутрым, як скончылі песню:] Гэта я разумею!.. Новая песня – жывая, як вада!.. [Параска:] У нашай старонцы і не чутно такіх! [Ганна, паказваючы на Касю:] Ёй вось трэба дзякаваць: яна нас навучыла!.. [Параска:] Прыказка праўду кажа: чужое ўсё смачней!.. (У. Галубок. Пан Сурынта).

* У людской натуры здаўна зло такое, што лягчэй смакуе, дзетачкі, чужое (В. Дунін-Марцінкевіч. Травіца брат-сястрыца).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 235: Чужы хлеб смачнейшы.

**Чужую бяду рукамі (і пальцамі) развяду.** *Чужыя цяжкасці, беды здаюцца не такімі сур'ёзнымі, як свае.* **Сін.:** *За чужой шчакой зуб не баліць; Чужая болька не баліць.* – Я прыбегла, бо думала – бяда ў цябе... А гэта ўсё... Вядома, непрыемна, але не так і страшна... Перажывеш... – Чужую бяду рукамі развяду, – сказала Таня (Л. Арабей. Дзень мінулы, дзень наступны). Здалёк і гладкаціха, і чужое гора не гора. А хто сказаў: чужую бяду рукамі развяду? Не я, не я... Але чаму народ так сказаў? Што – і праўда, чужому гору даць лёгка рады, лёгка разабрацца? (П. Місько. Хлопцы,

чые вы будзеце...). Што ёй сказаць, Свеце, калі Ніка нічога пэўнага не сказала і сабе, сама нічога не разумела, – то хіба разбярэцца Света? Хоць і кажуць: чужую бяду рукамі развяду... (Т. Гарэлікава. Дзе лес шуміць). – У кожнай свая бяда, – сказала Ніна... – Нездарма гавораць: чужую бяду рукамі развяду. А што з сваёй рабіць, ніхто не ведае (А. Кажадуб. Стрэчанне). Яна [Мікіціха] разумная. Усіх разважыць і рассудзіць. Кажуць, чужую бяду і пальцам развяду (Я. Ермаловіч. Вясна). – І табе не трэба хваляваццa. – Кажаш, чужую бяду і пальцам развяду, – са злосцю прамовіў Алесь... (І. Сіняўскі. Заранка).

*[Несцерка:] Не бойся, браце! Я тваю бяду рукамі развяду (В. Вольскі. Несцерка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 445: Чужую бяду рукамі развяду; Чужую бяду й пальцам развяду.

**Чужы дурань – смех, свой дурань – сорам.** *Пра пачуццё сораму, калі бачыш бязглузды ўчынак, дзівацтва блізкага чалавека.* Чужы дурань – смех, свой дурань – сорам. Часам горкі, крыўдны і ганебны сорам. Такім вось дурнем быў той, на падлозе ў дзяжурцы, Букраба (Я. Брыль. Птушкі і гнёзды). – Аддавай назад [пярсцёнак]... – Праўду людзі кажуць: чужы дурань – смех, а свой – сорам. – Ну дык смейся (Ю. Кулік. Ноч на Івана Купала).

– *Янкоўскі*, с. 139: Чужы дурань – смех, а свой – сорам.

**Чужы кажух цела не грэе.** *Нельга спадзявацца на чужое, а лепш мець сваё.* **Сін.:** *Чужое дабро не грэе.* – Была я на тваёй радзіме. Спадабалася. Людзі як людзі. Скажы яму, што ён заўтра памрэ, усё роўна хату будуе. Нейкая ж сіла духу ёсць. А ты... – Дык давай паедзем туды! – Давай, давай, – абыякава адказала жонка і махнула на мяне рукой, маўляў, што далей гаварыць. – Герой цешчыны бліны есці. Чужы кажух цела не грэе (Г. Марчук. Кветкі правінцыі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 436: Чужы кажух (нікога) не грэе (не нагрэе).

**Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка (добра).** *Лёгка карыстацца вынікамі чужой працы. Гаворыцца з неадабрэннем.* – Не спяшайся ты так падтрымліваць галоўнага інжынера, бо хто гэта можа сказаць з упэўненасцю, да чаго тое [брыгадны падрад] прывядзе? – задумліва прамовіла Ларыса. – Самая ціхая і выгадная пазіцыя – мая хата з краю... – Самахоць у пастку лезеш, глядзі, даражэнькі, а то завыеш... Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка... (І. Капыловіч. Асенні гром).

– *Насовіч*, с. 184: Чужымі рукамі толькі жар заграбаць харашо; *Прыказкі*, кн. 2, с. 285: Чужымі рукамі добра толькі жар заграбаць.

**Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш.** *Людзей не прымусіш маўчаць. Кажуць з неадабрэннем пра распаўсюджванне розных чутак, плётак.* **Сін.:** *Людзям языка не завяжаш; На чужы рот гузіка не нашыеш; На чужы рот замок не навесіш; На чужыя вусны не накінеш хусты; Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш.* На чужы раток, кажуць нашы шоўкаўцы, не накінеш платок і гузік не нашыеш. Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш. От і чыркануль на цябе, бацька, пасля вайны. Хто? Не будзем разгадваць. Бог суддзя (У. Ліпскі. Бацька).

– *Насовіч,* с. 185: Чужы рот не хлеў, не зачыніш; *Прыказкі,* кн. 2, с. 381: Чужы рот не варот – не зачыніш.

**Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш**. *Людзей не прымусіш маўчаць. Кажуць з неадабрэннем пра распаўсюджванне чутак, плётак.* **Сін**.: *Людзям языка не завяжаш; На чужы рот гузіка не нашыеш; На чужы рот замок не навесіш; На чужыя вусны не накінеш хусты; Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш.* Пятро аж кіпеў ад абурэння, аднак падсвядома яму хацелася даведацца, чым жа скончыцца размова. – Філосаф! Жан-Жак Русо са Сцяпанаўкі! – неяк ненатуральна выгукнуў ён. – Усё сказаў? – Амаль. – Тады «дзякуй». Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш (В. Рудава. Крылы).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 384: Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш.

**Чужы хлеб – гасцінец, а чужая жонка – прыгажуня.** *Чужое здаецца лепшым, чым сваё.* **Сін.:** *<Няхай> хоць сава, абы з другога (чужога) сяла* (у 2 знач.)*; Чужое ўсё смачней*. Даўно вядома, што чужы хлеб – гасцінец, а чужая жонка – прыгажуня. У Вялікіх Аўцюках я пераканаўся, што і мёд чужы – надзвычай смачны (Л. Левановіч. Аповеды былі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 360: Чужы хлеб гасцінец.

**Чуткамі зямля поўніцца.** *Чуткі, весткі пра каго-н. або пра што-н. дайшлі і да нас. Кажуць, калі не хочуць сказаць, як ці ад каго даведаліся пра што-н.* – Я ведаю, – адказаў Тарас, – што Толя табе не сваяк... – Адкуль? – Чуткамі зямля поўніцца (А. Якімовіч. Смелыя людзі). [Сасноўскі:] Адкуль вы ведаеце пра заяву Байкача? [Домна:] Чуткамі зямля поўніцца (І. Гурскі. Патрыёты). – Мне вядома ваша майстэрства рабіць дакументы. – Адкуль вы ведаеце? – Зямля чуткамі поўніцца... (І. Новікаў. Руіны страляюць ва

ўпор). Ты ўявіў, як не скажаш, то мы тут, у Ельніках, і ведаць нічога не будзем? Э-э, не, брат, чуткамі зямля поўніцца (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

– *Насовіч*, с. 151: Слухам зямля поўна; *Прыказкі*, кн. 2, с. 392: Зямля чуткамі поўніцца.

**Чуў, кум, сонца, бачыў гром?** *Ужываецца як выказванне здзіўлення ад чаго-н. нечаканага, незвычайнага, пачутага ад суразмоўніка.* [Аўлас:] Ці ж так просяць? Мая гармонь ласку любіць... Ласку з паперачкамі. [Юрка:] Чуў, кум, сонца, бачыў гром? (А. Макаёнак. Выйгрыш).

* [Эмілія:] Я кажу, што вы, Дзянісавіч, як гэта я вазьму [халадзільнік]? Навошта? У мяне грошай няма столькі. А ён гаворыць: «Бяры! І ўсё тут. Ніякіх грошай! Агата пярэчыць не будзе». [Дзед Змітрок:] Чуў, Кузьміч, сонца? Бачыў гром? [Трухан:] Гэта ўсё роўна як семсот рублёў з кішэні выкінуць (Л. Левановіч. Чабор).

– *Янкоўскі*, с. 241: Чуў, кум, сонца? Бачыў гром?; *Ліцвінка*, с. 128: Ці чуў, кум, сонца, ці бачыў гром?

**Чые бычкі, абы цяляткі мае.** *Гл.* Чые бычкі ні былі б, абы нашы цяляткі.

**Чые бычкі ні былі б, абы нашы цяляткі.** *Не мае значэння, хто бацька гэтага дзіцяці. Пра бязбацькавіча.* Петрунеі ж [Клім] строга наказаў, каб не зважала на людскія падмовы. «Чые бычкі ні былі б, абы нашы цяляткі... Чалавек жа гэта, трэба памагаць гадаваць» (П. Місько. Ціхае лета). **Чые бычкі, абы цяляткі мае.** – Ну, беларусок, пара падумаць пра наша вяселле, пакуль нічога па маім стане не пазнаць! – пагляд у Манькі, не на смех, шалёна пабліскваў. Я так і не вылаяўся... Адумаўшыся потым, прыкінуў сам сабе: няважна, чые бычкі, абы цяляткі мае, а Манька, як-ніяк, працавітая, і не модніца, і не будзе лішняй, вось, яшчэ пара рук на маёй гаспадарцы... (С. Яновіч. Як я стаў беларусам).

– *Насовіч*, с. 76: Мала чые бычкі, былі б нашы цяляткі; *Прыказкі*, кн. 2, с. 443: Чые бычкі, абы маё цялятка было; Чые бы бычкі ні скакалі, былі б нашы цяляткі.

**Чым абыякага, дык (то) лепей ніякага.** *Гл.* Чым <мець> абыякага, дык (то) лепей ніякага.

**Чым багаты, тым і рады.** *Кажуць, калі прымаюць гасцей і просяць іх паблажліва аднесціся да таго, што маюць і чым сардэчна дзеляцца з імі.* **Сін.:** *Чым хата багата, тым і рада.* Так што, таварышы, выбачайце, калі што, без гаспадыні я... Чым багаты, тым і рады... Калі ласка, спрабуйце, частуйцеся (М. Лынькоў.

Векапомныя дні). Маня, накрыўшы стол белым абрусам, пачала падаваць на стол. – Чым багаты, тым і рады, – сказаў Тамаш, калі Маня паставіла на стол пачастунак (У. Краўчанка. Прыкрае здарэнне). Ой, людзі добрыя, дарагія мае таварышы... Чым багаты, тым і рады. Больш нічога ў мяне няма (А. Бялевіч. Споведзь сэрца). [Гаспадыня] падкладвала ў нашы талеркі то вяндліну, то сыр і ўсё прыгаворвала: – Ешце на здароўе, ешце, даражэнькія... Чым багаты, тым і рады... (І. Сіняўскі. Куры).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 390: Чым багат, тым і рад; Чым багаты, тым і рады.

**Чым бы дзіця ні цешылася, абы (толькі б) не плакала. 1**. *Ужываецца ў дачыненні да дзіцяці, з прамым значэннем слоў.* Як заўсёды, таўкуся пад нагамі, малы, мусіць, першакласнік (а мо ўвогуле тады яшчэ ў школу не хадзіў). Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала; каб хоць чым заняць, мне даручаюць... выступаць на вечары. Буду чытаць на памяць купалаўскага «Хлопчыка і лётчыка» (У. Міхно. Ці пазайздросцяць мёртвыя жывым?).

**2**. *Няхай робіць, што хоча. Кажуць, калі паблажліва ставяцца да чыіх-н. заняткаў, учынкаў і пад.* **Сін.:** *Цешся, ліска, вяселле блізка – каўбасы з'ясі.* «Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала», – успомніў Чубар нечае выслоўе ў сувязі са сваімі доследамі над мурашкамі... (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі). – Хопіць, а то крыўдзіць адзін аднаго пачняце, – спыніў жарты Валодзя. – Няхай рагочуць, – дабрадушна азваўся Аляксей. – Чым бы дзіця ні цешылася, толькі б не плакала (І. Новікаў. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску). – Чаго ж трубіш? – Люблю музыку... – Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала, – пакпіў нехта. – Няхай іграе (Л. Калодзежны. Раллі пяшчотны дух). – Цяпер можна пачынаць пасяўную!.. – У добры час! – адказала маці. – Як кажуць: чым бы дзіця ні цешылася... – дадала яна, хітра паглядаючы на даччыну работу (А. Якімовіч. Маніна градка).

* Аднак, якое дрымучае палітычнае невуцтва! Што ж, няхай пагавораць. Чым бы дзіця ні цешылася – абы маўчала (І. Шамякін. Першы генерал).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 122: Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала.

**Чым далей у лес, тым болей (больш) дроў.** *Чым далей разгортваюцца падзеі, тым больш узнікае цяжкасцей, нечаканасцей, перашкод.* Цяпер Балоціч развёў рукамі: – Напускаеш ты мне нейкага туману: чым далей у лес, тым болей дроў (Я. Колас. На роста-

нях). Чухноўскі бачыў, што «чым далей у лес, тым больш дроў», сход раскалыхваўся не на жарты, нягледзячы на тое, што Верабей, не шкадуючы, стукаў лінейкай па стале (П. Пестрак. Серадзібор). [Трафімаўна:] Ратаваць чалавека трэба, вось што... Пакуль не позна... Бо вядома, чым далей у лес, тым болей дроў (В. Зуб. Марная трывога). Плюй ты на ўсе прычыны. Бо чым далей у лес, тым болей дроў. Ужо вунь і так абы-што на цябе людзі гавораць (Б. Сачанка. Вялікі Лес). **Далей у лес – болей дроў.** Ведаючы з практыкі, што далей у лес, болей дроў, стары больш не спрачаецца. Ён ведае, што Тадора дарэмна прыкідваецца сіратою (К. Крапіва. Мядзведзічы). [Дзяўчаты] усю душу выматаюць, перш чым скажуць што-небудзь пэўнае. Хопіць, хопіць, трэба ўцякаць ад іх, іначай далей у лес – болей дроў (М. Ткачоў. Пошукі скарбаў). Марылька нічога Сямёну не адказала. Такі ўжо ён чалавек: далей у лес – болей дроў (В. Мыслівец. Мужанцы). На гэты раз Галічэнка вырашыў памаўчаць: далей у лес – болей дроў (І. Скарынкін. Рэзерв камбата).

– *Насовіч*, с. 32: Далей у лес, болей дроў (труску); *Прыказкі*, кн. 2, с. 489: Чым далей у лес, тым болей дроў.

**Чым за морам віно піць, лепш (лепей) з Нёмана (у Нёмане) вадзіцу.** *Пра замілаванне да роднага краю, які для кожнага чалавека найдаражэйшы, лепшы за іншыя, няродныя.* **Сін**.: *Чым на чужыне ў пярыне, лепей дома на мякіне*. Але чаму так цягне да сябе бацькоўскі кут? І чым далей і даўжэй чалавек ад яго, тым мацней. Таму што на чужой старонцы не так свеціць і сонца? Ці таму, што прымаўка не дае спакою: «Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу?» (М. Ткачоў. Свет – наш дом). Гаварыў жа я табе, што гарадскія булкі прыядуцца скора. Дык не, не паверыла, нават слязу пусціла, што не ўбачымся болей... – А нягож... Чым за морам віно піць, лепей у Нёмане вадзіцу... (І. Галубовіч. Кувала зязюлька).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 290: Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу.

**Чым <мець> абыякага, дык (то) лепей ніякага.** *Кажуць звычайна пра хлопца, жаніха, які не падабаецца таму, хто гаворыць.* – Якая я панна!.. Хай пан шукае сабе панну. А мне... мне і так добра. – І нечакана з языка сарвалася: – Чым мець абыякага, дык лепей ніякага (В. Праскураў. Над Шчарай-ракой).

– *Янкоўскі*, с. 241: Чым абыякага, то лепей ніякага; *Прыказкі*, кн. 2, с. 21: Чым абыякага, дык лепей ніякага.

**Чым на чужыне ў пярыне, лепей дома на мякіне**. *Пра замілаванне да роднага краю, які для кожнага чалавека найдаражэйшы, лепшы за іншыя, ня родныя.* **Сін**.: *Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу.* Сцяпану моцна, як малому дзіцяці, захацелася дадому, у родную вёску. «Чым на чужыне ў пярыне, лепей дома на мякіне», – тузанула яго душу дакучлівая думка (І. Карэнда. Воплаўская госця).

**Чым рыжэй, тым даражэй**. *Гаворыцца як жартаўлівая ацэнка рыжага чалавека або як рэакцыя такога чалавека на слова «рыжы», пачутае ад суразмоўніка.* Бацька як радаваўся, што чурылаўцы адметныя, не падобныя на іншых. Яго можна зразумець. Рудыя любяць сваіх дзяцей за тое, што яны рудыя: чым рыжэй, тым даражэй (В. Шырко. Вунь чурылавец пайшоў).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 210: Што рыжэй, то даражэй.

**Чым такі скорам, дык лепш нішчымніца.** *Гаворыцца як ацэнка пры параўнанні двух чалавек або прадметаў.* Такога, як Амелька, ніколі не пакахала б. Або што ён знайшоў у гэтай вяртлявай, як галка, Ігнасі? Усміхнулася сама сабе: чым такі скорам, дык лепш нішчымніца (П. Місько. Знахарка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 247: Як абы-якая заправа, дык лепей нішчымнае.

**Чым хата багата, тым і рада.** *Кажуць, калі прымаюць гасцей і просяць іх паблажліва аднесціся да таго, што маюць і чым сардэчна дзеляцца з імі.* **Сін.:** *Чым багаты, тым і рады.* [Альжбета:] Старайцеся, госцейкі, старайцеся. Вось – сыр, масла, вяндліна!.. [Сцяпан:] Чым хата багата – тым і рада (Я. Купала. Паўлінка). [Якуб:] Дзякую. Калі ж неяк і піці сорамна. [Ян:] Чаму так? Чым хата багата, тым і рада (К. Каганец. Модны шляхцюк). Прымай, дзядзька Сцяпан, і мой уклад. Чым хата багата, тым і рада (Я. Брыль. У Забалоцці днее). То чэрпайце яшчэ малачко. Чым хата багата, тым і рада (Р. Сабаленка. Незамужняя ўдава). – Ого! – зноў ускінуў бровы Данілавіч і пасунуўся бліжэй да стала... І звярнуўшыся да мяне: – То давайма! Як людзі гавораць, чым хата багата... (Я. Пархута. Акварэлі аднаго лета).

* Хто вясёлы, хоць і ў горы, таму слава, таму чэсць. Чым багата, рада хата, не жалейце піць і есць (Я. Купала. Адвечная песня).

– *Насовіч*, с. 183: Чым хата багата, тым і рада; *Прыказкі*, кн. 1, с. 380: Чым хата багата, тым і рада.

**Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).** *Няхай так і будзе; варта рызыкнуць. Выказванне рашучасці перад*

*прыняццем рашэння.* **Сін.:** *Воўк не з'еў, дык бугай не забадае; Дзвюм смерцям не бываць, <а> адной не мінаваць (*у 2 знач.*); Спроба не хвароба.* – Дык вось што я надумаўся: давай махнём у Амерыку. Грошы ў мяне трохі ёсць, рахманага агента мы знойдзем... – Чорт яго, брат, ведае. Ніколі аб гэтым не думаў... – А ты падумай. Лепш ветру ў чыстым полі, чым за высокімі агароджамі... – Згодзен! Чым чорт не араў, тым і сеяць не стаў. Хоць свету пабачым (Я. Колас. На ростанях). Я не вярнуўся назад, мне, неразважнаму, тады здавалася ўсё, што праз нішто ніякае наробіш спалоху і падазронасць падзе на цябе. Ды, кажуць, чым чорт не араў, тым сеяць не будзе, – я рашыўся на ўсё (В. Адамчык. На крыжавых дарогах). Ярошка нібы ачнуўся ад задумлівасці і, махнуўшы рукою, сказаў: – Давай! Чым чорт не араў, тым сеяць не стаў (У. Дамашэвіч. Студэнты апошняга курса).

– *Насовіч*, с. 23: Дзе чорт не араў, там і сеяць не будзець; *Прыказкі*, кн. 1, с. 385: Чым чорт не араў, тым і сеяць не будзе.

**Чым чорт не жартуе, калі (пакуль) бог спіць.** *Усё можа здарыцца, усякае бывае. Гаворыцца, калі дапускаюць магчымасць чаго-н. нечаканага, непрадбачанага.* Зноў жа: калі яшчэ будзе тая машына, калі яна яшчэ сапсуецца ці трапіць у аварыю, а многія запісвалі адрасы няпрошаных майстроў. Я запісваць не запісваў, але адзін адрас запомніў. На ўсякі выпадак. Чым чорт не жартуе, калі бог спіць... (У. Шахавец. Блакітная мара). Няўжо Валодзік Струнеўскі за ёй [Ганнай] сапраўды тайком валочыцца? А ўсё можа быць... Чым чорт не жартуе, калі бог спіць... (В. Дайліда. Буслы над вёскай). І чым чорт не жартуе, калі бог спіць. Мо на самай справе ў Млынішчах прызямлілася лятаючая талерка, што, канешне, вельмі і вельмі сумніцельна (В. Казько. Выратуй і памілуй нас, чорны бусел). – Ой, у вас такая цікавая работа, увесь час ездзіце па рэспубліцы, па Саюзе, за мяжу... – Ну – за мяжу-то яшчэ не скора выберуся. А там – чым чорт не жартуе, пакуль бог спіць? (П. Місько. Ціхае лета).

**Чырвонае – белае ўсё перадзелае.** *З дапамогай чырвонцаў, грошай, хабару ўсё можна перарабіць. Часцей ужываецца з асуджэннем хабарнікаў.* **Сін.:** *Хто мажа, той і едзе.* [Ціхон:] Гэты сабака Ліпскі падаў на мяне ў суд, што я яго адлупцаваў, дык вот і асэсара прыслалі. Ну, абдзярэ, як ліпку! [Куторга:] Вот дзіва, – на тое ён і асэсар! Заўваж толькі – у яго і рукі даўжэй, як у другіх людзей. Ты ведаеш яго прыпавесць: чырвонае – белае ўсё перадзелае... Гдзе ўнадзіцца юрыста, вымеце хату дачыста (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта).

**Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).** *Не табе пра гэта гаварыць. Кажуць з незадавальненнем у адказ на папрокі, абвінавачванні таго, хто сам чым-н. абняславіў, запляміў сябе.* Маўчым... І маўчаць будзем. Вунь сказаў я раз, дык твой жа, ну, сакратар ячэйкі твае, і сказані мне: «Чыя б кароўка мычала, а твая б маўчала...» (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). – У нас другога покуль добра па галаве не дзеўбанеш, дык ён не паварушыцца... – А першага цябе! – Чыя кароўка мычала б, а твая маўчала б!.. (І. Шамякін. У добры час). – Праз такіх, як ты, чарцей паласатых, поле лысае. Ці ж гэта работа?! – Ша! Ша! Работнік! – агрызаецца Міця. – Чыя б кароўка мычала, а твая маўчала (А. Макаёнак. Твой хлеб). – Ніяк, дзядзька, ад дармаўшчынкі не можаш адвыкнуць? – упікнуў Халадовіча Міша Самок. – Чыя б кароўка мычала, а твая б маўчала, – са злосцю кінуў Ігналь (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). – Быў жа Віця першым вучнем і ў пятым і ў шостым класе з восені? Быў. – Быў ды сплыў. Во!.. – Чыя б кароўка мычала, а твая памаўчала, – дакорліва глянула Ліда на брата (А. Пальчэўскі. Тайна аднаго звяна). [Жлукта:] Глупства ты гаворыш. Наогул мяне гэта мала турбуе, але ты павінна трымаць сябе больш прыстойна. [Клава:] Чыя б карова мычала, а чыя б і памаўчала (К. Крапіва. Мілы чалавек).

– *Ліцвінка,* с. 66: Чые б цяляты мычалі, а твае б маўчалі.



**Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў.** *Той, хто робіць што-н. для іншых, не мае магчымасці зрабіць гэта для сябе.* **Сін.:** *Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць; Шавец у падзёртых ботах ходзіць.* – У нас нават прымаўка пайшла ў народзе: шавец заўсёды без ботаў. Гэта пра нашага тутэйшага шаўца. Можа, дзе шаўцы іншыя. А наш гэтакі (К. Чорны. Ідзі, ідзі). Галя толькі яшчэ на дзеўку бралася, калі ў іх вёску, Гаросіцу, прыйшлі з Касцюкоў краўцы-кажушнікі, два здаравенныя панурыя браты. Абодва ў доўгіх кажухах, нібы ў доказ таго, што не заўсёды шавец ходзіць без ботаў... (Я. Брыль. Галя). **Шавец ходзіць без ботаў.** Шавец ходзіць без ботаў, катэгарычны імператыў, вечны, як сама зямля. Я зрабіла людзьмі тысячы дзяцей, а свой сын вырас вылюдкам. Дык навошта яно, усё маё жыццё?.. (М. Герчык. Вяртанне да сябе).

– *Федароўскі*, с. 237: Кажан шавец без ботаў ходзіць.

**Шавец у падзёртых ботах ходзіць.** *Той, хто робіць што-н. для іншых, не мае магчымасці зрабіць гэта для сябе.* **Сін.:** *Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку есці варыць; Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў.*

* – Хатка ў цябе на падпорках трымаецца, а сам жа майстра... – У шаўца заўсёды боты дзіравыя... (С. Пянкрат. Замачыў).

– *Ляцкі*, с. 59: Шавец у падзёртых ботах ходзіць; *Прыказкі*, кн. 1, с. 161: Шавец у дзіравых ботах ходзіць.

**Шалудзівая авечка ўвесь статак псуе.** *Гл.* <Адна> паршывая (шалудзівая) авечка ўвесь статак псуе.

**Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе.** *Добра дагледжаны конь не падвядзе гаспадара ў дарозе.*

* – Далей на гэтых конях ехаць нельга, можна іх сапсаваць... – Дзіва! – аж засмяяўся Даўгулевіч. – Неабходна па-гаспадарску да каня ставіцца... Не дарма кажуць: шануй каня ў дарозе... (І. Гурскі. У агні).

– *Ляцкі*, с. 59: Шануй каня ўдому, а ён цябе ў дарозе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 141: Дагледзь каня дома, то ён цябе ў дарозе.

**Шлюб <быў> пад плотам, а вяселле потым.** *Пра пазашлюбныя сувязі паміж хлопцам і дзяўчынай. Гаворыцца з асуджэннем.* [Лабыш:] І бацька ахвотна аддае яе за цябе? [Лявон:] А вось аб гэтым, прызнацца, дык я яшчэ і не гаварыў з яе бацькам. [Лабыш:] Ну-у, то дарэмна радуешся! [Лявон:] Не-е! Ён не павінен стаць мне ўпоперак дарогі, бо дарога ў нас адна, і вельмі цесная. Бачыце, мы, можна сказаць, ужо як і жанатыя. [Лабыш:] Значыць, шлюб пад плотам, а вяселле потым? (І. Козел. Папараць-кветка).

* Цяпер у вас, маладых, так: любоў пад плотам, а вяселле – потым. Адсюль і жорсткасць, сіроцтва і зло (А. Масарэнка. Лесавікі).

– *Янкоўскі*, с. 139: Шлюб пад плотам, а вяселле – потым.

**Шляхі гасподнія няведамы.** *Гл.* Неспавядальныя шляхі гасподнія.

**Шляхціц на сваім гародзе ровен ваяводзе**. *У сваім доме, у сваёй гаспадарцы чалавек паводзіць сябе незалежна.* **Сін**.: *На сваім сметніку і певень гаспадар.* [Адарка:] Ды я такую цяпліцу адбарабаню... Тэлебачанне прышлюць здымаць. [Тарас:] Вось гэта ўжо не трэба,.. без тэлебачання. Лепей, каб ціха. [Адарка:] А чаму ціха? На сваім карчу без дазволу крычу. Шляхціц на сваім гародзе ровен ваяводзе (Г. Марчук. Вясёлыя, бедныя, багатыя). – Пабіліся браты Мамонькі. Не падзялілі бацькаў пляц... – Здавён у нас... шляхціц на сваім гародзе ровен ваяводзе (Г. Марчук. Кветкі правінцыі).

**Што блюдзём, то <і> людзём**. *Што захоўваем, зберагаем, тое становіцца набыткам іншых людзей*. Адкуль жа бярэцца наша сіла? Скуль яна, беларуская мадэль, да якой мы ўзялі ў разумных людзей патрошку? Яна ад руплівасці, як казалі дзяды: што блюдзём, то – і людзём (М. Палескі. Агонь у шапцы).

– *Насовіч*, с. 187: Што блюдзём, то людзём (з тлумачэннем: «Кажуць часцей з прыкрасцю, калі зберажоны толькі для сябе прадмет застаецца іншым»).

**Што <будзе> міру, тое (то) і бабінаму сыну.** *Што выпадзе ўсім, тое будзе і нам (мне, табе і пад.).* Мы з дзедам запрэглі Арла ў сані, узялі пілу і сякеру ды рушылі за людзьмі ў пушчу па дровы. «Што будзе міру, – сказаў дзед устрывожанай матцы, – тое і бабінаму сыну» (А. Якімовіч. Канец сервітуту). А ўжо, браток, што будзе міру, тое і бабінаму сыну... Калі мы ўцалеем, то і цябе не выдадзім. Можаш не турбавацца (І. Сіняўскі. На правым флангу). – Гэта ж трэба дадумацца: тры сельсаветы зганяць у адну камуну. І ўправы на іх не знойдзеш... – Што міру, тое і бабінаму сыну... (А. Асіпенка. Лабірынты страху). – Хай бы ішла [Зіна] з намі! – Куды? – Куды мы, туды і яна. Што міру, то і бабінаму сыну (Р. Няхай. Сарочы лес). Не плач, дачка, не плач, ты ўжо не малая. Што міру – то і бабінаму сыну. Будзем, як і ўсе... (І. Пташнікаў. Тартак). – Не хацелі вам гаварыць, каб не хваляваць, не ўзнімаць панікі. – Надта б вы мяне ўсхвалявалі, – адказваю я. – А наконт панікі – то я не панікёрша і наогул што міру, то і бабінаму сыну (Л. Арабей. Каранцін).

– *Насовіч*, с. 189: Што міру, то й бабінаму сыну; *Прыказкі*, кн. 1, с. 372: Што міру, тое і бабінаму сыну; Што ўсяму міру, то і бабінаму сыну.

**Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.** *Выказванне поўнай рашучасці дабіцца таго, каб хто-н. не ажыццявіў сваіх намераў, пацярпеў паражэнне.* [Навум:] Ты намі паневяраў, апошняе выдзіраў; цяпер мы, паганскі сыну, дадзім добра часу ў спіну! Бо што будзе, тое будзе, Саўка на куце не будзе! (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 434: Што будзе, то будзе, а Грышка на куце не будзе.

**Што было, тое (то) сплыло.** *Кажуць пры нежаданні ўспамінаць пра што-н. з мінулага.* [Паўлінка:] А даўно гэта таткаў гняды ўцёк з Лужанкі, і татка дамоў пехатой прытрапаў? [Сцяпан:] Што было, тое сплыло і болей, каханенькая, родненькая, не будзе,

як кажуць людзі (Я. Купала. Паўлінка). Ой, зайграю, загуду. Што было, тое сплыло, пайду з дудкаю ў сяло (В. Вітка. Дударык). [Маланння Адамаўна:] Дзякую, дзякую. За старое не крыўдуйце. Што было, тое сплыло (Э. Валасевіч. Бывайце здаровы). – Лішняе, Ігнат, – крануў яго за локаць Волак. – Не пра тое трэба... Што было, то сплыло (Р. Няхай. Гудкі абуджаюць вясну). Не варта, дзядзька Мікіта, пра гэта. Што было, то сплыло (І. Навуменка. Раман з эпілогам).

* Што было, што не – сплыло ўсё, як вадзіца ў мора, засталіся толькі думкі на бяду, на гора (Я. Купала. Дзе?..). – Ты калісьці кахала мяне. – Што калісьці было – за вадою сплыло. – І ніколі не вернецца? – Не (А. Куляшоў. Грозная пушча).

– *Насовіч*, с. 187: Што было, на мора сплыло; *Федароўскі*, с. 77: Што было, даўно на мора сплыло.

**Што вінен, аддаць павінен.** *Ужываецца ў дачыненні не толькі да пазычаных грошай, рэчаў, але і да чаго-н. узятага на пэўны час.* Звычайнае і простае, ва ўсіх адносінах людскае: нясу ў бібліятэку кніжкі, даўнавата ўзяў; аднесці трэба, што вінен – аддаць павінен; з бібліятэкі ўзяў з дзесяць; аднясу, некаму таксама трэба, нехта ж чакае... (Ф. Янкоўскі. Гаваркое, неасцярожнае, «нятое»). Адлічыў роўна паўтары тысячы долараў і аддаў іх Аляксандру. Нездарма кажуць: што вінен, аддаць павінен. Асабліва калі гэта доўг у «зялёных». Калі прыйшоў тэрмін аддаваць «баксы», Аляксандр пастукаўся ў дзверы Эльмара і, апусціўшы вочы да дарагога дывана на падлозе, пачаў бубнець: маўляў, інфляцыя, падзенне курса... (Звязда. 2001, 15 лют.).

– *Федароўскі*, с. 333: Што вінна, то аддаць павінна; Хто вінен, аддаць павінен.

**Што гадок, то і ядок (сынок).** *Кажуць пра сям'ю, у якой часта нараджаюцца дзеці.* **Сін.:** *Што <ні> год, то ўдод.* Часам у Ліхадзіевічах жартавалі: «У Хімкі з Януком што гадок, то і ядок» (І. Гурскі. Дзве сястры). Марылька Гарцава – баба рабочая, што гадок, то й сынок (Я. Брыль. Праведнікі і зладзеі). Пра Ігната на ўсю вёску ўжо пусцілі пагалоску: «Ну й багат! Як Ігнат!» Хто цялушкамі й быкамі, а Ігнат дык едакамі: што гадок, то й ядок (К. Крапіва. Святло ў кут – менш пакут).

– *Янкоўскі*, с. 139: Што гадок, то і ядок; Што гадок, то і сынок.

**Што галава, то розум.** *Гл.* Што <ні> галава, то розум.

**Што год, то ўдод.** *Гл.* Што <ні> год, то ўдод.

**Што дазволена Юпітэру, <тое> не дазволена быку.** *Гаворыцца з асуджэннем пра чыю-н. няскромнасць, нетактоўнасць*

*або пра чые-н. беспадстаўныя прэтэнзіі.* – Давайце гаварыць шчыра і цвяроза. Каб выратавацца, бальшавікі не пабаяліся ніякай плямы, падпісалі з Германіяй вельмі ўніжальную дамову, сунулі ёй аграмністы прэзент. Дык чаму дзеля свайго выратавання мы не можам самі падпісаць сваю, можа, таксама не зусім прыемную дамову з той жа Германіяй?... – Па-першае, што дазволена Юпітэру, тое не дазволена быку... (Г. Далідовіч. Свой дом). Трэба нагадаць, што, мабыць, адзін з самых антыдэмакратычных афарызмаў усіх часоў і народаў – «Што дазволена Юпітэру, не дазволена быку» – мае прамое дачыненне да Еўропы. Еўропы, якая ўпершыню губляла сваю цнатлівасць – у постаці гераіні старагрэцкага міфу (А. Хадановіч. Закапаная прыгажуня). – Галоснасць усё-такі... – Не забывайцеся, што ёсць два ўзроўні галоснасці! – Дзіўна... Партыя ж адна і народ адзін. – Тое, што дазволена Юпітэру, не дазволена быку! – мовіў мэтр (В. Якавенка. Памяну і свечку пастаўлю). Што ні кажыце, а падобныя жэсты – вартыя Напалеона. Быў яфрэйтарам, стаў маладым сяржантам. Быў палкоўнікам... Хаця, канешне, няцяжка адным росчыркам пяра раскідаць зоркі па пагонах тым, каму сапраўдныя званні прысвойваў, напрыклад, маршал Жукаў. Зрэшты, што дазволена Юпітэру, тое не дазволена быку, як казалі старажытныя (С. Астраўцоў. Шампанскае на асфальце).

– Калька з лацінскай мовы: *Quod licet Jovi, non licet bovi.* Юпітэр – вярхоўны бог у старажытных рымлян (як Зеўс у грэкаў). Мяркуюць, што ўзнікненне прыказкі звязана з міфам пра ператварэнне Юпітэра ў быка пры выкраданні ім вельмі прыгожай Еўропы.

– *Ліцвінка,* с. 147: Што дазволена Юпітэру, тое не дазволена быку.

**Што два, то не адзін.** *Пра перавагу ў чым-н. двух чалавек перад адным.* Назаўтра з раніцы Таня пайшла да Зойкі, да каго ж ісці, як не да лепшай сяброўкі. Нездарма кажуць: што два, то не адзін (А. Кажадуб. Стрэчанне).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 37: Што два, то не адзін.

**Што дзень – бліжэй да смерці.** *Пра няўмольнае набліжэнне смерці.* Зараз буду лысы дзядзя, зараз горб на спіну сядзе, зараз немач ногі скруціць... Так, што дзень – бліжэй да смерці (К. Крапіва. Шкірута).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 409: Што раз, то бліжэй да смерці.

**<Што> дзень (дзянёк) пражыў, то і дзякуй богу.** *Пра трывожнае, неспакойнае існаванне, калі даводзіцца чакаць горшага ў жыцці.* – Ну як жа, кумка, маецца? – Кума ў кумы пытаецца. – І не пытайся лепш, кума: цяпер жа, ведаеш сама, што дзень пражыў, то

й дзякуй богу (К. Крапіва. Дзве кумы). Ты ніяк пра дзіця не дбаеш, ты думаеш, што дзень пражыў, то і дзякуй богу? А што наперадзе? Ты думаеш, вайны не будзе? (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). Прыйдуць немцы, абкружаць гэты дом, пабяруць усіх – і скончана. Ці прыляціць самалёт, можа нават свой самалёт, плясне бомбу – і таксама ўсё скончана. Вайна. Што дзень пражыў, то й дзякуй богу (Л. Арабей. Іскры ў папялішчы). Усім не салодка жывецца. Вось хоць бы і мая доля. Што за доля? Пражыў дзянёк – і дзякуй богу (Я. Колас. Цяжкая доля).

**Што дразду па чужому гнязду?** *Кажуць пра таго, каго зусім не кранаюць інтарэсы, справы іншага чалавека, калектыву, дзяржавы і г. д.* Пасля апячатвання судна ён хадзіў у пасольства Расіі. На Юзіка паглядзелі прыязна, запэўнілі, што Беларусь, вядома, братняя дзяржава, і яны разумеюць яго незайздроснае становішча, але – што дразду па чужому гнязду? (Звязда. 2001, 20 студз.).

– *Федароўскі*, с. 82: Што дразду па чужому гнязду; *Прыказкі*, кн. 2, с. 442: Што дразду па чужому каню.

**Што дурны папсуе, то і разумны не выправіць.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго ці таму, хто сваімі дзеяннямі ці словамі непапраўна нашкодзіў супольнай справе.* Як увялі [на вочную стаўку] Грабчука і Чарныша, Кулеба тут жа кінуў рэпліку: – Што дурны папсуе, то і разумны не выправіць. – Грамадзянін Кулеба, вам слова не давалі, прашу не парушаць парадак, – папярэдзіў следчы, адчуўшы, што ў рэпліцы ягонай пэўны намёк (Маладосць. 1989. № 3).

– *Федароўскі,* с. 87: Што дурны папсуе, то і разумны не выправіць.

**Што задужа (занадта, залішне), то (тое) не здрова (не здорава).** *Залішняе, празмернае не ідзе на карысць. Кажуць як жаданне захоўваць пачуццё меры.* **Сін.:** *Лішняга і свінні не ядуць.* – Ну, хлопцы, што задужа, то не здрова, – Платон Верамей.. саскочыў на зямлю. – Аднаго [мужчыну] можна так і заездзіць. Праўда, Восіп? (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына). Не любіць такіх катухоў Петрунея: што занадта, то не здрова. Парасятам мо і падабаецца лазіць, а і прыбіраць там цяжэй, і карміць – падымай вядро ледзь не да свайго носа... (П. Місько. Ціхае лета). Не раскідвайцеся ўзнагародамі. А то яны сваю вагу губляюць. Што занадта, тое не здорава (А. Махнач. На паляванні). – Спаіць мяне хочаце? Не выйдзе! Мінуліся тыя часы. Досыць з мяне таго, што выпіў. Як кажуць, «што занадта, то не здрова». Я на ўласным вопыце ў гэтым пераканаўся (В. Зуб. Госці з космасу). А да вас я адношуся, як

і да ўсіх іншых. Уражанне ж такое нядобрае ў вас, мусіць, таму, што вельмі часта бываеце тут. Ведаеце прымаўку – што залішне, то не здорава? (І. Чыгрынаў. Чалавек з мядзведжым тварам). Вока і інтуіцыя падказвалі Шуру, што вось менавіта на гэтым руху напільніка яму трэба спыніцца, бо, як кажа Пашка Селяшчук, «цо занадта, то нездрова» (А. Шлег. Сталінскія «байструкі»). – А гарэлку піць можна?.. – Не толькі можна. Трэба. Але ў норме. Таварышы, папярэджваю: у норме. Цо задужэ, то не здрова, як кажуць палякі (І. Шамякін. Злая зорка).

– Паўкалька з польскай мовы: *Co zaduzo, to nie zdrowo.*

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 475: Што задужа, то не здарова; Што задужа, то не здрова.

**Што залішне, то не здрова.** *Гл.* Што задужа (занадта, залішне), то (тое) не здрова (не здорава).

**Што занадта, то не здрова.** *Гл.* Што задужа (занадта, залішне), то (тое) не здрова (не здорава).

**Што з воза ўпала, тое (то) прапала.** *Што страчана, згублена, таго не вернеш.* **Сін.:** *Нежывога з магілы не падымеш.* Той, хто памёр дагэтуль, дык яго ўжо не вернеш назад у жыццё. Што з воза ўпала, то прапала! (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка). Дык чаго ты нос павесіў? Вальку ўсё сніш? Што з воза ўпала, тое прапала, кажуць старыя людзі, кінь, забудзь назаўсёды... (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). Нічога не трэба шукаць... Што з воза ўпала, тое прапала (Я. Васілёнак. Таццяна Ларына). – Трасцу аддамо, – прагудзеў мужчына з чорнаю барадою. – Што з воза ўпала, тое прапала, – уставіў і невялікі дзяцюк (Л. Арабей. На струнах буры).

– *Насовіч*, с. 188: Што з возу спала, пішы прапала; *Федароўскі*, с. 341: Што ўпала, то прапала; *Прыказкі*, кн. 1, с. 283: Што з воза ўпала, то ўжо прапала; Што з воза ўпала, даўно прапала.

**Што кажух, то не вата, <а> што капуста, то не гарбата.** *Кажуць пра перавагу аднаго прадмета над другім.* – А можа, кажух, паніч, надзенеш? – А добра, бо штось халаднавата. – Даў яму [гаспадар] кажуха апрануць, і едуць далей... – А што, паніч, не сцюдзёна цяпер? – О, не! Цяпер цёпла. – А можа, паніч, есці хоча? – О, і дужа хачу. – А што, панічу: што кажух, то не вата, а што капуста, то не гарбата (К. Каганец. Што кажух, то не вата). [Заціруха:] Згатуем капусту! Кіслую капусту! Вельмі карысная страва. У ёй шмат вітамінаў, і яна вельмі спажыўная. Нават прыказка такая ёсць: «Што кажух, то не вата, што капуста, то не гарбата!» (В. Зуб. Злавацца не трэба). – Цяпер я вось кажухі шыю. – Маладзец! – пах-

валіў гаспадар і жартам дадаў: – Што кажух – то не вата, што капуста – то не гарбата (У. Гніламёдаў. Вяртанне).

– *Янкоўскі*, с. 172: Што кажух – то не вата, што капуста – то не гарбата; *Прыказкі*, кн. 1, с. 273: Што кажух – то не вата.

**Што каму баліць, той пра тое і гаманіць.** *Гл.* Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаворыць, крычыць).

**Што каму дапякае, той пра тое і гукае.** *Кожны гаворыць пра набалелае.* **Сін.:** *Што каму рупіць, той тое і жупіць; Што ў каго баліць, той пра тое і гаманіць.* Ну возьмем хаця б крытыку (што каму дапякае, той пра тое і гукае). Чытаю-перачытваю шматлікія рэцэнзіі на паэтычныя зборнікі апошніх гадоў і пераконваюся, што наша сучасная крытыка не проста талерантная, паважна-ўнікальная, але досыць часта камплiментарная, усхваляльная, безадносна-аморфная да мастацкай шэрасці (А. Бельскі. Каму розгі, каму смех).

– *Санько,* с. 49: Што каму дапякае, той пра тое і гукае.

**Што каму рупіць, <то> той тое (пра тое) і жупіць.** *Кожны гаворыць ці думае пра набалелае.* **Сін.:** *Што каму дапякае, той пра тое і гукае; Што ў каго баліць, той пра тое і гаманіць.* – А хто табе казаў пра ўсё гэта? – Хто мне казаў пра ўсё гэта? Што каму рупіць, то той пра тое і жупіць. Калі мне што трэба пачуць, дык я да таго і прыслухоўваюся (К. Чорны. Бацькаўшчына). Я ведаў, што пры першым зручным выпадку дырэктар абавязкова скажа: ат, справы не важныя – бухгалтар у мяне не надта складны. Як кажа народная прымаўка: што каму рупіць, той тое і жупіць (Я. Скрыган. Дакументальная рэвізія). Што каму рупіць, той тое і жупіць. Мне вельмі хацелася пазнаёміцца з аўтаматам, хоць бы ў чарцяжах (Я. Васілёнак. Самае важнае адкрыццё).

– *ТСБМ*, т. 2, с. 260: Што каму рупіць, той тое і жупіць; *БРС*, т. 1, с. 413: Што каму рупіць, той тое і жупіць.

**Што каму суджана, <дык і пехатой> таго не абойдзеш і <з канём> не аб'едзеш**. *Гл.* Суджанага і канём не аб'едзеш.

**Што край, то абычай.** *Гл.* Што <ні> край, то <і, свой> абычай (звычай).

**Што лапці сплятуць, таго боты не разблытаюць.** *Што прыдумае мужык (ніжэйшы чын), таго не разгадаць, не прадугадаць пану (вышэйшаму чыну).* [Несцерка:] Адпраўляй Кацярыну насустрач Андрэю, а як звечарэе – прыходзь да касцёла. Будзе яму [пану] нявеста ды з другога цеста. Папомні маё слова: што лапці сплятуць, таго боты не разблытаюць. Будзе вяселле! (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 408: Што лапці зробяць, таго боты не паправяць.

**Што маем – не шануем (не беражом), а як страцім (згубіўшы) – плачам.** *Ужываецца ў дачыненні як да канкрэтных прадметаў, так і да асоб.* Ён успомніў сустрэчу з Марынай у лесе, яе просьбу астацца ў брыгадзе. Каляда абвінаваціў сябе, што так здарылася. Яму чамусьці прыгадалася прыказка: «Што маем – не шануем, а як страцім – плачам» (І. Гурскі. У агні). Ён даруе сваім былым жонкам, і яны яму няхай даруюць. Як у той прымаўцы: што маем – не шануем, а як страцім – плачам (Звязда. 2000, 9 снеж.). – Нельга без практыкі! Іграць п’есу без усялякіх слоў аднымі рухамі – не казкі казаць! – Слава губіць чалавека. – Ды мне б хоць крыху таго, што ёсць у яе, я б начавала на рэпетыцыях! – Мы што маем, не беражом, а згубіўшы – плачам (С. Уласевіч. Дзякую).

– Паўкалька з рускай мовы: *Что имеем, не храним, потерявши – плачем.* Паводле паходжання гэта афарызм К. Пруткова.

**Што напішаш (напісана) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.** *Тое, што напісана і стала вядомым, ужо не заменіш, не выправіш.* [Навум:] Няма чаго казаць, пане аляндару! Рынуў слаўцом, як пярцом; а што напішаш пярцом, то не вырубіш тапарцом (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). – Вам можа за гэта так уляцець, – пагрозлівым тонам сказаў Крушынскі, – што самі шкадаваць будзеце. Што напішаш пяром – не вырубіш тапаром! (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). Мала што горкае слова выкіне ў вочы, але яшчэ не раз і запіша, а ўжо ж ведама і з прыказкі – што напісана пяром – не высечаш тапаром. Запісанае пяром перажывае вякі і торкае праўдай, як пальцам у вочы... (В. Ластоўскі. Паншчына). Можа, гэта і праўда, што ўсё, што напісана пяром, не высечаш тапаром. Але ж напісанае пяром вельмі лёгка сцерці звычайнай гумкай (Б. Сачанка. Манпансье з гарчыцаю). Парфір.. хацеў паказаць, што ўсё гэта запісана на паперы, а што напісана пяром, не высечаш тапаром (Л. Левановіч. Дзікая ружа).

* А жыла ж [песня] каб век вяком, спішу на паперы, бо што спісана пяром, не выйме й сякера (Я. Купала. Песня аб песнях). [Бабкоў] зрабіў вывад, што заносіць лічбу ў падпісны ліст. Поп кінуўся да стала, каб спыніць старшыню, бо што запісана пяром... (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

– *Насовіч*, с. 189: Што напісана пяром, не вырубіш і тапаром; *Прыказкі*, кн. 2, с. 182: Што напісана пяром, не высечаш і тапаром.

**Што <ні> галава, то <і> розум.** *Кожны мяркуе інакш, па-свойму, не так, як іншыя. Гаворыцца, калі людзі па-рознаму падыходзяць да якой-н. справы.* Партызаны аказаліся з розных атрадаў, і, як часта бывае, што ні галава, то розум (У. Карпаў. Сотая маладосць). Яны [суседзі] там не сядзяць склаўшы рукі. Узялі спарылі пярэднія колы – і зусім іншы ход у камбайна... Во людзі – што ні галава, то розум! (І. Капыловіч. Асенні гром). – Падлатаць можна было б, ды холадна. – Мы ў хату ўнясём невад. – Што ні галава, то розум (М. Воранаў. Перад адлігай). Адносна таго, якім спосабам ліквідаваць гэтыя недахопы [у арфаграфіі], існуюць самыя розныя погляды. Тут што галава, то і розум (К. Крапіва. Пытанні беларускага правапісу). – Што гаварылі?.. – Ну-у... Што ты... запіў... – І як рэагавалі на гэта? – Па-рознаму. Што галава, то і розум, – дабрадушна ўсміхнуўся Міхась (Б. Сачанка. Белая мыш).

– Калька з лацінскай мовы: *Quot capita, tot sensus* або *Quot homines tot sentential.* Цытата з камедыі «Фарміён» рымскага паэта Тэрэнцыя (ІІ ст. да н. э.).

– *Насовіч*, с. 188: Што галава, то розум; *Ляцкі*, с. 60: Што галава – то розум.

**Што <ні> год, то ўдод.** *Кажуць пра сям'ю, у якой часта нараджаюцца дзеці.* **Сін.:** *Што гадок, то і ядок.* І ўпрочкі бегаць не было куды. А потым ужо – куды пабяжыш, калі пасыпаліся дзеці: што год, то ўдод (М. Гарэцкі. Віленскія камунары). [Дар'я:] А мы, Галечка, раджалі іх [дзяцей] без плана. У другіх бывала: што ні год – то ўдод. Нічога, раслі. Якія людзі выраслі! (І. Шамякін. Выгнанне блудніцы). Замуж выйшла. Ну, думала, адпачну за мужыком. А яно пайшло: што год, то ўдод: Яўхім, Марына, Сцяпан, Адарка. Ды памерла трое (І. Сяркоў. Мы – хлопцы жывучыя).

– *Насовіч*, с. 188: Што год, то ўдод; *Янкоўскі*, с. 139: Што год, то ўдод.

**Што <ні> край, то <і, свой> абычай (звычай).** *У кожным краі свае звычаі.* – А вы скажыце Піліпу, няхай сходзіць да старасты, каб жанок выслаў. Гэта ўжо яго клопат. – Што ні край, то свой абычай, – сказаў настаўнік і папрасіў бабку паклікаць стоража (Я. Колас. На ростанях). Ды і само ж Палессе – неаднароднае. Тое, што характэрна для адной яго часткі, зусім неабавязковае для другой. Тут, як кажуць, што ні край – то і свой абычай (Б. Сачанка. Вечны кругазварот). Во, праўду такі кажуць: «Што край, то звычай». У нас гэтак конна не ездзяць (В. Ластоўскі. Прыгоды Панаса і Тараса). Піша [Кася], што там, у Латвіі, не сярпом, а нейкім на-

жом жнуць і не жменяю, а грабелькамі ловяць жыта. Праўду кажуць, што край – то абычай (В. Адамчык. Год нулявы). – Што ні край, то і звычай, – заўважыў Яўхім, калі старасціха адышлася. – Дзе ты, ліханька, знойдзеш у нашым Зазер'і ці ў вашай Скобраўцы агародчык перад хатай без чаромхі і бэзу, а тут – пустка (А. Пальчэўскі. Жнівеньская раніца).

– *Ляцкі*, с. 60: Што край – то абычай, што старана – то навіна; *Прыказкі*, кн. 1, с. 293: Што край, то абычай; Што ні край, то свой звычай.

**Што ні мах, то ўсё бяда па зубах.** *Кажуць, калі на кожным кроку чалавека чакае бяда.* Народ кажа: «Што ні мах, то ўсё бяда па зубах». Акрамя пакут, у нас нічога іншага няма. Няма іншай гісторыі, няма іншай культуры... (Крыніца. 1993. № 2).

– *Федароўскі*, с. 26: Дзе ні мах, то ўсё бяда па зубах.

**Што <ні> поп, то свая малітва.** *Кожны кіраўнік, начальнік дзейнічае па-свойму, заводзіць свае парадкі.* Што ні поп, то свая малітва. Што ні начальнік астрога, то свае здзекі над людзьмі. Пасля забойства начальніка Мінскага турэмнага замка арыштантаў пачалі тасаваць і перакідваць каго куды (С. Александровіч. На шырокі прастор).

– *Ляцкі*, с. 60: Што поп, то новыя й пацеры.

**Што ні робіцца, усё на лепшае (да лепшага).** *Ужываецца як выказванне прымірэння з тым, што ёсць, і спадзявання на лепшае.* Чалавек не заўсёды ведае, ці правільна ён выбраў. І добра, калі ты ўведаеш, што выбраў няправільна. А як уведаеш? Супакоіш сябе думкай: што ні робіцца – усё на лепшае (А. Кажадуб. Мае рэкі). – Оля, ну навошта так убівацца? Дасць Бог – усё да лепшага. Што ні робіцца, усё да лепшага (Г. Марчук. Люцікі-кветачкі).

**Што пасееш, тое і пажнеш.** *Функц. не зам.* **1.** *Кажуць пра залежнасць ураджаю ад сяўбы.* На полі праца аж кіпіць – адной хвіліначкі ўпусціць сяўба не дазваляе. У гэты час не адпачнеш, бо што пасееш, тое і пажнеш (У. Корбан. Супоня). Якраз выхадныя, і большасць людзей, учарашніх вяскоўцаў, цяпер на лецішчах ці ў родных вёсках – на агародах: што пасееш, тое і пажнеш, вясновы дзень і сапраўды год корміць (Б. Пятровіч. Нічый Чарнобыль). Што пасееш, тое й пажнеш... Таму руплівцы ратаі і сейбіты спрадвеку жывуць святым клопатам: і каб ўдосталь намалаціць, і каб засталося – пасеяць (В. Рагаўцоў. Што пасееш, тое й пажнеш...). – Я вось ад сястры еду, маці пасылала праведаць. – І як ёй там у замужжы? – Жывуць, хлеб жуюць. Сэрца забалела, як зірнуў на тое

поле, што бацькі ёй аддалі ў пасаг. Пераарана абы-як! Зглумілі зямлю! – Што пасеюць, тое і пажнуць (З. Дудзюк. Слодыч і атрута).

**2.** *За свае справы, учынкі даводзіцца расплачвацца.* [Дубовік:] Некалькі хвілін таму назад цешыліся з яго работы... [Жыгалка:] Чалавек з сілы выбіўся... і... [Смык:] Што пасееш, тое і пажнеш (І. Гурскі. Новы горад). Як насенне перад тым, як кінуць яго ў глебу, правяраецца па некалькі разоў, так павінна правярацца кожнае слова, што адрасуецца дзецям. «Што пасееш – тое і пажнеш», – не ў меншай меры, а яшчэ ў большай адносіцца да таго поля, назва якога – юная чалавечая душа (Б. Сачанка. Дбаючы пра заўтрашні дзень).

* Работа ў іх – курам на смех, работа ў іх ідзе за плот, а як пасееш, так пажнеш, такі мець будзеш умалот (Я. Купала. Над ракою Арэсай). Як ты гукнеш, так адгукнецца, а што пасееш, тое жнеш. Сваё сябрам адкрыеш сэрца – душу сяброў пазнаеш лепш (Я. Непачаловіч. Маё крэда). Партызанскія сілы растуць з кожным днём. Мы не дамо жыцця захопнікам. Яны пажнуць тое, што пасеялі (І. Шамякін. Глыбокая плынь). Мы вучым дзяцей хлусіць, мы падрываем веру ў справядлівасць, сумленнасць, чысціню. А потым уздыхаем: чаму старшакласнікі нахабныя, бессаромныя цынікі? Мы жнём тое, што сеем (Л. Левановіч. Якар надзеі).

– Паходзіць з Бібліі (Пасланне апостала Паўла да Галатаў, 6, 7): «Не падманвайцеся: Бог зганьбаваны не бывае. Што пасее чалавек, тое і пажне».

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 128: Што пасееш, тое і пажнеш.

**Што праўда, то не грэх**. *Што было на самай справе, тое трэба прызнаваць.* Што праўда, то не грэх: набудавалі мы з табою, Сяргей Віктаравіч, нямала. Але ўсё-такі вечная спешка нам шкодзіла... Нам абы хутчэй і болей... (І. Капыловіч. Асенні гром). А вось тыя з праўдаю не прыбеглі да цябе, па хатах сядзяць. А я знаю, што перш да маткі трэба, як жа ёй, беднай, не знаць нічога. Што праўда, то не грэх (А. Кажадуб. Стрэчанне). [Скарына:] Дык што гаспадар казаў? [Слуга:] Што пан доктар чараўнік і іезуіт. [Скарына:] Што праўда – то не грэх (М. Адамчык, М. Клімковіч. Vito brevis, або Нагавіцы святога Георгія).

– *Насовіч*, с. 189: Што праўда, то не грэх; *Янкоўскі*, с. 158: Што праўда, то не грэх.

**Што ступіў, то прыплаціў.** *Кажуць з неадабрэннем пра таго, хто за ўсякую паслугу хоча, каб яму заплацілі.* [Дзед Змітрок:] Цяперака... на талаку цяжка ўзварушыць людзей. Сытыя сталі.

Зарабляюць многа. Папросіш падсобіць – плаці. Што ступіў, то прыплаціў (Л. Левановіч. Чабор).

**Што ў каго (каму) баліць, той пра тое (аб тым) і гаманіць (гаворыць, крычыць)**. *Кожны гаворыць пра набалелае.* **Сін**.: *Што каму дапякае, той пра тое і гукае; Што каму рупіць, той тое і жупіць.* Што ў каго баліць, той аб тым і гаманіць (назва раздзела ў рамане Р. Мурашкі «Сын»). – Зноў ты пра сваё... – Што ў каго баліць, той пра тое і гаварыць, – растлумачыў ён [Зорык] (І. Новікаў. Да світання блізка). Словам, што ні выступленне, то рэцэпт, як пазбегнуць грому і маланкі. Вось ужо і праўда: што каму баліць, той пра тое і крычыць (І. Аношкін. Страшная помста).

* Некалькі дэлегатаў драмалі, сёй-той быў заняты перыёдыкай і мастацкай літаратурай, а дзве жанчыны горача абмяркоўвалі, ці будуць у перапынку гандляваць цукеркамі. Як кажуць, у каго што баліць. Толькі незразумела: навошта гэтыя людзі згаджаліся ісці на канферэнцыю? (Звязда. 1999, 16 кастр.).

– *Ляцкі*, с. 49: У каго што баліць, той аб тым і гаварыць.

**Што ўложыць хам, <то> не выме і пан.** *Часцей гаворыцца як пагроза сурова пакараць каго-н.* [Язэп:] Ідзі, пляга! А то... пачакай!.. Калі толькі прагаворышся каму-небудзь – нашых рук не мінеш... Што ўложыць хам, не выме і пан! Ідзі (З. Бядуля. Салавей). Якіх толькі дактароў не прывозілі – нічога не парадзяць, бо яму [пану], мабыць, Рымша адсадзіў печанцы. А што ўложыць хам, то не выме і пан (А. Якімовіч. Пану навука).

– *Насовіч*, с. 190: Што ўкладзець хам, не выймець і пан; *Прыказкі*, кн. 1, с. 323: Што ўложыць хам, таго не выме і пан.

**Што ў цвярозага ў галаве (на розуме), то (тое) у п’янага на языку.** *П’яны чалавек лёгка выказвае тое, што раней стрымліваўся сказаць.* – Ты зусім ап’янеў, Франэк... – Не, Баніфацый... – Цвярозы ты мне гэтага не сказаў бы. – Заўважыш, пане: што ў цвярозага ў галаве, то ў п’янага на языку (А. Чарнышэвіч. На сажалках). Хто ведае, можа, сам камендант даручыў ахове прыглядаць за Шпунцам, бо асцерагаўся, каб ён не натварыў чаго? Ад такога можна ўсяго чакаць: што ў цвярозага ў галаве, то ў п’янага на языку (М. Аўрамчык. Палон). Гэтая грубая, крыўдная няпраўда, хай сабе і з вуснаў п’янаватага Ігара (што ў цвярозага ў галаве, то ў п’янага на языку), балюча торкнула Клаўдзю, але – о дзіва! – ніколечкі не абразіла (В. Блакіт. Вырай). Прымаўку – «што ў цвярозага ў галаве, тое ў п’янага на языку» – чамусьці не хацелася браць за правіла, хоць яна ўвесь час і круцілася ў галаве (У. Ягоўдзік.

Стрэл дуплетам). [Дубовік:] Замаўчыш ты ці не? [Віхура:] Няхай гаворыць, што ў цвярозага на розуме, тое ў п'янага на языку... (І. Гурскі. Новы горад).

* [Скаруба:] Дык гэта ж ён так... П'яны вось і вярзе. [Віталік:] Што ў п'янага на языку, тое... (А. Маўзон. Куды ідзеш, Сяргей?).

– Калька з лацінскай мовы: *Quod in animo sobrii, id est lingua* (літаральна «Што ў думцы (душы) цвярозага, тое (ёсць) на языку п'янага»). Відаць, у лацінскую мову выказванне прыйшло з грэчаскай мовы, дзе яно ў блізкай да папярэдняга форме належыць пісьменніку і філосафу Плутарху(45 – каля 127 гг.).

– *Насовіч*, с. 190: Што ў цвярозага наўме, то ў п'янага на языцэ; *Прыказкі*, кн. 2, с. 355: Што ў цвярозага на вуме (на мыслі, на думцы, у галаве), то ў п'янага на языку.

**Што хачу, тое і варачу**. *Раблю так, як хочацца, як уздумаецца (пра паводзіны самадура).* Вікенцій Паўлавіч.. рабіў усё з аглядкай на нормы маралі, этыкет: крый божа, не даць сабе, як кажуць, забурэць, стаць уладаром: што хачу, тое і варачу. Застацца чалавекам! (І. Шамякін. Губернатар).

**Што (чаго) не ясі, <таго> у рот не нясі. 1.** *Не ўмешвайся не ў свае справы.* – Зараз учыню цуд. Каго ажывіць з усёй гэтай каралеўскай кампаніі? Ці, можа, усіх ажывіць? – Не жартуй! Кінь глупства плясці!.. – Нікога не ажыўляць, – загадаў Дзіда-дзед. – Што не ясі, у рот не нясі! (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

**2.** *Не чапай таго, што не падабаецца.* – Не бойся, не адаб'ю [у цябе тваю каханку]. Такога цвету – па ўсяму свету!.. – Чаго не ясі, таго ў рот не нясі! Шчасце якое! Патрэбен ты мне, як хата сабаку (І. Мележ. Людзі на балоце).

– *Насовіч*, с. 181: Чаго не ясі, таго і ў рот не нясі; *Янкоўскі*, с. 258: Чаго не ясі, таго і ў рот не нясі; *Ліцвінка*, с. 95: Чаго не ясі, таго ў рот не нясі.

**Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.** *Гаворыцца як парада хлопцу пры выбары жонкі.* **Сін.:** *Выбірай жонку не на ігрышчы, а на іржышчы.* – Чаму не танцуеш?.. – Не хочацца, дзядзька, – сказаў Андрэй. – І то праўда, – адразу згадзіўся Лаўрэн. – Мой нябожчык бацька казаў: «Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе» (Л. Дайнека. Людзі і маланкі). **Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а ў агародзе.** Дзядуля некалі жартаваў: «Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а ў агародзе». Карагодам лічылі будні жыцця, а гародам – у каго як, і прымаўкі цалялі дасціпна: праз агонь скачы, а дзеўку сам сачы (В. Дубінка. Не плач, душа мая).

* У народзе кажуць: не шукай жонку ў карагодзе, а шукай на рабоце. Эх, колькі цудоўных майстроў паслаў Бог нашай старонцы. І прадуць кудзелю, і ткуць палатно, і вышываюць (Беларуская думка. 2007. № 3).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 27: Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а шукай у агародзе.

**Шукай цар царыцу, а пастух пастушку.** *Жонку трэба выбіраць сярод роўных сабе.* [Кудрачок:] Вось выведу дачку ў людзі [выдам замуж] – тады можна і ў труну. [Несцерка:] А чым Андрэй не людзі? Шукай цар царыцу, а пастух пастушку (У. Бутрамееў. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Федароўскі*, с. 47: Шукае цар царыцы, а пастух пастушыцы.

**Шукайце і знойдзеце.** *Функц. не зам. Каб знайсці што-н., трэба шукаць.* Яго [Барыса Кіта] талерантная натура прагнула Міру і душэўнай гармоніі, пры якіх толькі і магчыма было разгарнуць свае стваральныя здольнасці. Тое надарылася не адразу, але, як сказана, – шукайце і знойдзеце. Спадар Кіт шукаў (В. Быкаў. Цярновы шлях). Людзям жа ён заўсёды казаў-вучыў: – Прасіце – і дасца вам, шукайце – і знойдзеце, стукайцеся – і адчыняць вам (А. Бароўскі. Сцеражыся майго гневу).

– Паўкалька з царкоўнаславянскага тэксту Бібліі (Матфей, 7, 7): *Ищите и обрящете.*

**Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць.** *Кажуць, калі каго-н. раптоўна напаткае бяда.* Волька выпраўляла Марціна з плачам, быццам ён ужо садзіўся ў турму. Сказала яму, стрымліваючы слёзы, але ўсхліпваючы: – Гэта ўсё-такі праўда: шчасце адно не ходзіць, бяду за сабой водзіць... (В. Каваленка. Падвышанае неба). Рада маці. Усе ёй зайздросцілі. Але праўду людзі кажуць: шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць. Трапіў яе сын пад страшэнную навальніцу. Як ляснула маланкай, ён і ўпаў нежывы (В. Шырко. Хай людзі бачаць). У народзе кажуць: «Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць». У 1989 годзе пасля цяжкай хваробы адышла Лідзія Цімафееўна ў іншы свет (Л. Целеш. Дарога іх жыцця).

**Шчасце не конь – у аглоблі не запражэш.** *Дасягнуць шчасця, поўнага задавальнення жыццём – не лёгкая справа.* – А ты сама твары сабе лёс! Нечага чакаць міласці ад Бога. – Шчасце не конь – у аглоблі не запражэш (Настаўн. газ. 2000, 7 снеж.). **Шчасце не конь, у аглоблі не ўпражэш і не паедзеш. –** А ты што рабіў трыццаць год? – З хвосцікам. Шмат чаго. Шчасце не конь, у аглоблі не ўпражэш і не паедзеш... (А. Лобан. Чужая – і мілая).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 422: Шчасце не конь – у аглоблі не запражэш.

**Шчасце пераходзячы жыве.** *Шчасце – не пастаянны, зменлівы стан.* Чалавек за сваё жыццё мусіць пабачыць і добрага, і дрэннага, бо шчасце пераходзячы жыве (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Насовіч*, с. 190: Шчасце пераходзя жыве; *Прыказкі*, кн. 2, с. 424: Шчасце пераходзя (пераходам) жыве.

**Шылам кісялю не схваціш (не схопіш).** *Пра марнасць чыіх-н. намераў, немагчымасць дасягнуць чаго-н.* Шылам кісялю не схваціш. Нічога мне гэты святы пісьмапісец не зробіць. Аднак.. чаго ён ад мяне хоча? (З. Бядуля. Сярэбраная табакерка).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 226: Шылам кашы не схваціць.

**Шылам мора не нагрэеш.** *Дзейнічаючы мізэрнымі сродкамі, не даб'ешся ніякіх вынікаў.* – Выходзіць, нейкую затаўку да прыварка і вам даюць. Унь як смачна пахне. – А як жа, даюць трохі. – Раман прыжмурыўся, хітра зірнуў на сына. – Шылам мора, сынок, не нагрэеш. З'еў бы сам, дык толк быў бы, а так кожнаму і панюхаць не дастанецца (С. Грахоўскі. Рудабельская рэспубліка).

– *Рапановіч*, с. 273: Шылам свет не нагрэеш; *Аксамітаў*, с. 145: Гарачым шылам мора не нагрэеш.

**Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш).** *Немагчыма ўтаіць тое, што само сябе выдае.* Азнаёміўшыся з данясеннямі афіцэраў, нахмураны генерал устаў і захадзіў па пакоі. «Шыла ў мяшку не схаваеш, – падумаў ён. – Прыйдзецца афіцыйна давесці да ведама войска» (І. Гурскі. Вецер веку). У рэдакцыі пакуль нічога не заўважалі, а Таня нікому нічога не расказвала, нават Любе. І ўсё ж – шыла ў мяшку не схаваеш. Першая зноў-такі заўважыла Люба (Л. Арабей. Дзень мінулы, дзень наступны). Кажуць, шыла ў мяшку не схаваеш – пра маю здольнасць прадбачыць падзеі даведаліся і настаўнікі (Б. Сачанка. Трэцяе вока). Ад яе, ад маці, Валодзя стараўся ўтаіць прычыну частых затрымак у Каласках. Смешны ён, шыла ў мяшку не схаваеш (І. Капыловіч. Бяроза на мяжы). Шыла, як кажуць, у мяху не ўтоіш, так і Дзянісава сцежка атапталася, і сябры даведаліся, што ў вёсцы Бягунцах жыла нейкая сіраціна, каторая прыглянулася сіраціне (У. Галубок. Посная гусяціна). – Прачулі, гады, у якой ты арміі. – Што ж, шыла ў мяшку не ўтоіш (М. Ткачоў. На беразе Сожа). Вечарам прыйшоў дзядзька Ігналь. Ля парога спыніўся і ціха спытаўся у Алесевай маці: – Ведае ўжо? – Ведае. – Не трэба было казаць хвораму... – Шыла ў мяшку не ўтоіш (І. Сіняўскі. Заранка). Як ты не скрывай, а людзі

ўсё роўна даведаюцца – шыла ў мяшку не ўтоіш... (В. Блакіт. Шануй імя сваё).

* Які б ні быў Мароз асцярожны, а, ведаеш, што-ніштто вылезла, як шыла з мяшка (В. Быкаў. Абеліск). Гэты факт, які ніяк нельга абмінуць, хоць калі-небудзь ды ён можа нагадаць пра сябе. Гэта як шыла ў мяшку (У. Дамашэвіч. Німфа). Любая, нават мізэрная радасць, што шыла ў мяшку. Ну паспрабуй яе схаваць! (П. Палітыка. Свой хлопец).

– *Насовіч*, с. 186: Шыльца ў мяшэчку не ўтоіш; *Прыказкі*, кн. 2, с. 479: Шыла ў мяшку не схаваеш; Шыла ў мяшку не ўтоіцца (не ўхаваеш, не ўтоіш).

**Шэпты хату зводзяць (губяць)**. *Гаворыцца з неадабрэннем, калі хто перашэптваецца, сакрэтнічае.* Івацэвічыха.. сказала мужчынам: – Ці то вы што задумваеце, ці рабіць вам няма чаго – усё шэпты ды сакрэты... Шэпты хату зводзяць (Я. Рамановіч. Камароўскія мы...). [Радаслаў:] Я чую, што вы тут занадта гучна пагаварылі. [Загорскі:] А нашто шаптаць, шэпты хату зводзяць, як гаворыцца (В. Адамчык. Чорны цмок, або Яблык спакусы). Свякроў не любіла, калі мы перашэптваліся, усё казала: «Шэпты хату губяць» (Л. Марушка. Сутыкненне). [Кастусь:] Я хачу з табой пагутарыць. [Пронка:] Ведаю я твае гутаркі... [Алесь да Кастуся і Пронкі:] Шэпты хату губяць (І. Ільінскі. Лес цёмны).

– *Федароўскі*, с. 299: Шэпты хату губяць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 44: Шэпты хату губяць; Шэпты хату зводзяць і вуглы разносяць.



**Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца**. *Гл.* Яблык ад яблыні недалёка падае (коціцца).

**Яблык ад яблыні недалёка падае (коціцца)**. *Свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў.* **Сін**.: *Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю; Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду; Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка; Які куст, такі і адростак; Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын; Якое карэнне, такое і насенне.* – Праўду гавораць – яблык ад яблыні недалёка падае, – не слухаў, наступаў Арцём Іванавіч. – Быць таго не можа, каб у такога бацькі было паважнае дзіця. Гэта я ўжо ведаю (І. Мележ. Дом пад сонцам). [Ірэна:] Ну, а ты, як твой [бацька]? Яблык ад яблыні недалёка падае. [Станіслаў:] Вядома, кожны

ўдаецца ў свайго бацьку (В. Адамчык. Чорны цмок, або Яблык спакусы). А сынка якога [Скакун] выраджіў? Звер, а не чалавек. Праўду гавораць, што яблык ад яблыні недалёка коціцца (І. Галубовіч. Кувала зязюлька). **Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца (не коціцца)**. Кажуць, яблык ад яблыні далёка не адкоціцца, а бач, як яно... Міхал быў ляснік добры, служака хоць куды, а яго сын што думае (С. Александровіч. На шырокі прастор). – На маіх вачах гадаваўся. – І што вы скажаце пра яго? – Што я скажу, дзіцятухна? Сама ж, мабыць, ведаеш: яблык ад яблыні далёка не адкоціцца... (І. Сіняўскі. Дарога на Замлынне). – Тое ж і ёсць, што Хомка сабака. – А пры чым Ленка? – Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца (В. Мыслівец. Мужанцы). – Ён [Сак] добры хлопец. – Можа, і добры. Але радня якая. Яблык ад яблыні, як кажуць, далёка не коціцца (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам).

– *Насовіч*, с. 192: Яблыка недалёка коціцца ад яблыні; *Прыказкі*, кн. 2, с. 127: Яблыка ад яблыні далёка не адкочваецца.

**Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі**. *Пра сацыяльную няроўнасць і неаднолькавы дастатак, дабрабыт.*

* – Прабач! Песні ў нас розныя, і нашы дарогі скіраваны ў процілеглыя канцы... Адно толькі магу сказаць: па дарозе князёў мяшчэрскіх, дубровіных і гамзеяў гамзеевічаў я не пайду! – Гэта твая справа. Чалавек есць хлеб траякі: белы, чорны і ніякі (Я. Колас. На ростанях). І няўцям было многім, што нараджалася гэтая дабрата ў мнагадзетнай сям'і ўдавы-салдаткі, якая ў першыя пасляваенныя гады хадзіла ў лапцях і зведала той самы хлеб траякі: белы, чорны і ніякі (В. Праскураў. Дабрата).

– *Янкоўскі*, с. 42: Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі; *Прыказкі*, кн. 1, с. 237: Ямо хлеб траякі: чорны, белы і ніякі.

**Язык без касцей**. *Нагаварыць можна ўсяго, што хочаш. Кажуць, калі не надаюць значэння якім-н. чуткам, чыёй-н. балбатні.* Уздыхае Віцька Зайцаў... Трэба было ідэю ратаваць... Бо начальству што?.. Любое шэфства можа ўзяць. Язык без касцей. Яшчэ і ў раённай газеце напішуць пра гэтае шэфства (П. Місько. Канал імя Віцькі Зайцава). Ці мала што выдумаць ці сказаць людзі могуць? Язык без касцей... (Б. Сачанка. Вялікі Лес). [Верка:] Не плач... Ці мала што кажуць! Язык без касцей (Я. Шабан. Востраў Алены). – Усё выклала. Мусіць, і пра Ліду паведаміла? – І пра Ліду... – Няпраўда! Што-што, а гэта – напасць, паклёп. Язык без касцей (Л. Калодзежны. Трэція пеўні).

* Людскі ж язык касцей не мае. Я так бы раіў: выбраць час і аглядзець усё зараз, а там сама пакажа справа, ці варта шуму ўся аблава (Я. Колас. Новая зямля).

– *Ляцкі*, с. 61: Язык без касці – усё хвашчы; *Федароўскі*, с. 126: Язык без косці – што хоча, то хлосціць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 382: Язык без касці – што хоч, то й хвашчы. На аснове прыказкі склаўся аманімічны з ёю фразеалагізм, які кіруе залежным словам (лагічным дзейнікам), патрабуючы ад яго абавязковай, прымусовай сувязі «справа» – роднага склону з прыназоўнікам *у* (*язык без касцей* у каго), і абазначае ‘хто-н. вельмі балбатлівы, гаворыць лішняе’; напрыклад: «У Юлі *язык без касцей...* псуе нервы і сабе, і яму, Цімоху» (І. Капыловіч).

**Язык да Кіева давядзе**. *Пытаючыся, пра ўсё даведаешся, усё знойдзеш*. **Сін**.: *Хто пытае, той не блудзіць*. – Дзядзечка, я не тутэйшая. Як мне да Кіева дайсці? – Праўду кажуць, што язык да Кіева давядзе. Табе як найпрасцей ці мо бітым шляхам? (Р. Няхай. Туман над стэпам). – Жучок! – сказаў Хомка. – Яму не трэба ні батарэйкі, ні... Адно ціскай... – Тады куплю жучка. Так і спытаць? – Халера яго ведае, як пытаць, але ж язык да Кіева давядзе (І. Чыгрынаў. У горад). Нездарма кажуць, што язык да Кіева давядзе. Да Кіева як да Кіева, а да таго Грохува Алесь к вечару ўсё ж прыбіўся (І. Аношкін. Чырвоная каліна стаяла). Не адразу, але знайшоў я той дом... Язык да Кіева давядзе (В. Шырко. Споведзь правінцыяла).

* Пэўна, на ўсё жыццё [старая] запомніць гэту сваю паездку. Будзе апавядаць ды адно прыгаворваць, якая трапная прымаўка прыдумана людзьмі наконт языка і горада Кіева (М. Тычына. Сярод людзей). Язык да клінікі давядзе (Л. Дайнека. Парадаксізмы).

– Запазычана з украінскай мовы: *Язик до Києва доведе.*

– *Ляцкі*, с. 61: Язык да Кіева давядзе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 280: Язык да Кіева давядзе; Язык Кіева дапытаецца.

**Язык мой – вораг мой**. *Функц. не зам. Пра нястрыманасць у выказваннях ці прывычку гаварыць лішняе сабе на шкоду.* [Дзед Пíліп:] Пастаўка ты, хлопец, пад свой язык тармазы. А то ён без тармазоў у цябе. Просіш прабачэння – і тут зноў паехаў, як па глíністай дарозе. Коўзаешся ва ўсе бакі... [Гаворка:] О-о! А гэта ідэя – тармазы. Язык мой – вораг мой (І. Шамякін. Выгнанне блудніцы). – Дык чаму ў вас няма прыхода? Не далі? – вярнуў на тую тэму Антонія Мікульскі. – Язык мой – вораг мой... (П. Місько. Мора Герадота). [Галя:] Калі б у цябе язык меней малоў. [Вася:] О, язык мой – вораг мой! Не звяртай увагі на яго... (А. Макаёнак. Узыходзь, шчасце).

* Усё ты знаеш. У гэтым твая бяда. Не, не ў гэтым. Знаць можна... Язык не ўмееш трымаць за зубамі. Язык твой – вораг твой (І. Шамякін. Злая зорка).

– *БРС*, т. 2, с. 473: Язык мой – вораг мой.

**Языком гавары, а рукам волі не давай.** *Ужываецца звычайна дзяўчынай, калі хлопец пачынае чапаць, абдымаць яе.* – Языком гавары, а рукам волі не давай, – гэта Стэфчына прыгаворка заўсёды ацінала Марку, калі ён пачынаў дурэць якім непадобным спосабам (Л. Калюга. Пустадомкі).

– *Янкоўскі*, с. 318: Языком матляй, ды рукам волі не давай.

**Яйкі курыцу вучаць**. *Гл.* Яйцо (яйка) курыцу вучыць.

**Яйцо курыцы не вучыць**. *Гл.* Яйцо (яйка) курыцу вучыць.

**Яйцо (яйка) курыцу вучыць**. *Малады, нявопытны вучыць старэйшага, больш вопытнага. Гаворыцца з незадавальненнем пра таго, каго лічаць менш вопытным і чые парады непрымальныя.* [Стары рабочы:] Абмішуліўся я, гэта праўда. Ну, яна [Насця] далікатна, але, бачу, бярэ мяне ў абарот. Я і не залюбіў быў тады: яйцо курыцу вучыць (К. Крапіва. Канец дружбы). – А цяпер хамут засупоньце. Цягніце супоню... Ага... ага... – Во, брат, як выходзіць, – гаварыў Раман свайму таварышу, упіраючыся нагою ў аглоблі і цягнучы супонь. – Яйцо курыцу вучыць (Л. Арабей. Сіні бор). – Зараз жа прыбярыце гэта палена! Ачысціце пляцоўку!.. – Ха! Яйка вучыць курыцу!.. (Вожык. 1985. № 7). **Яйкі курыцу вучаць**. – Чым раней ты возьмешся за розум, тым табе ж будзе лепей... – Ай-яй-яй, яйкі курыцу вучаць. Ну і ну! (А. Асіпенка. Лабірынты страху). **Яйцо курыцы не вучыць (яйкі курыцу не вучаць)**. *Малады, менш вопытны не вучыць старэйшага, больш вопытнага.* – А я буду спадзявацца, што і мае словы знойдуць прытулак у тваёй галаве. – Не, брат, – круціць галавою пісар, – яйцо курыцы не вучыць (Я. Колас. На ростанях). [Цярэшка:] А знаеце што, дзеванькі? Ідзіце-тка к чорту лысаму. Сабраліся тут... Яйкі курыцу не вучаць! (А. Макаёнак. Трыбунал).

* – Ба-а-ач ты яго! – замаргаў вачыма і закруціў галавою Яцына. – Ты, хлопча, пажыві, а потым і гавары. Кураня, як той кажа, курыцу не вучыць (Я. Лецка. Па цаліку). І кожны другі абразіўся б, падыдзі я са сваім кантролем. Прафесійны гонар толькі зачапі... Ды яшчэ нейкі практыкант... яечка супраць курыцы! (Э. Ярашэвіч. Практыка ў Вербічах). Ну, сын шалапут, але яны, старыя людзі, навошта ўблыталіся? А ўсё ад таго, што яйка курыцу вучыць пачало: цяпер не тыя часы, устарэла! (В. Блакіт. Вяселле ў Беражках).

– *Насовіч*, с. 188: Яйцы курэй вучаць; *Прыказкі*, кн. 2, с. 124: Яйцы курыцу вучаць; Яйцы курэй не вучаць.

**Якая заслуга, такая і пашана**. *Кожны мае тое, што заслужыў.* **Сін**.: *Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць; Якая птушка, такое і гняздзечка; Якая справа, такая і слава; Які госць, такое і частаванне; Які музыка, такая і музыка; Якія самі, такія і сані.* [Пытляваны:] Віншую з узнагародаю! [Мікола:] Таксама і вас, Макар Піліпавіч! [Пытляваны:] Ушанавалі нас з табою як мае быць. [Мікола:] Якая заслуга, такая і пашана (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 525: Якая заслуга, такая і пашана.

**Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка**. *У дзецях паўтараюцца недахопы ці станоўчыя рысы бацькоў.* **Сін**.: *Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю; Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду; Яблык ад яблыні недалёка падае; Які куст, такі і адростак; Якое дрэва, такі,< і> клін, які бацька, такі <і> сын; Якое карэнне, такое і насенне.* Гавораць людзі: «Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка». Я не падобная да маці ні характарам, ні паводзінамі, ні тварам. І гэта мяне суцяшае (С. Лобач. Па закутках памяці).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 125: Якая клёпка, такая й бочка, якая маці, такая й дочка.

**Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць.** *Праст. Кожны мае тое, чаго ён заслугоўвае, чаго ён варты. Гаворыцца з асуджэннем.* **Сін.:** *Якая заслуга, такая і пашана; Якая птушка, такое і гняздзечка; Якая справа, такая і слава; Які госць, такое і частаванне; Які музыка, такая і музыка; Якія самі, такія і сані.* [Гаўрыла Патапавіч:] Выведзі яе [Лаўру]! [Шмонька:] Няёмка неяк так адразу! [Алімпа Іванаўна:] Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць! [Гаўрыла Патапавіч:] Вывадзі, вывадзі, а то даканае! (У. Сауліч. Адзін Гаўрыла ў Полацку).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 430: Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць.

**Якая птушка, такое і гняздзечка**. *Кожны мае тое, што заслужыў, чаго варты, што адпавядае яго становішчу.* **Сін**.: *Якая заслуга, такая і пашана; Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць; Якая справа, такая і слава; Які госць, такое і частаванне; Які музыка, такая і музыка; Якія самі, такія і сані.* [Пажылая госця, аглядаючы кватэру:] Якое ўтульнае гняздзечка! Праўда, Сеня? [Пажылы госць:] Якая птушка, такое і гняздзечка (К. Крапіва. Мілы чалавек).

– *Янкоўскі*, с. 141: Якая птушка, такое і гняздзечка.

**Якая справа, такая і слава.** *Кожны мае тое, чаго ён заслугоўвае, чаго ён варты. Гаворыцца з асуджэннем.* **Сін.:** *Якая заслуга, такая і пашана; Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць; Якая птушка, такое і гняздзечка; Які госць, такое і частаванне; Які музыка, такая і музыка; Якія самі, такія і сані.* – Дзімок гэты харош. Трэба ж, клюнуў на такую нажыўку, – гаварыў па дарозе Кулеба. – Гэта яму навука... Іх не выгараджваю... Якая справа, такая і слава. Доўбні распешчаныя, дурасліцы (Маладосць. 1989. № 3).

– *Прыказкі,* кн. 1, с. 172: Якая справа, такая і слава; *Санько,* с. 36: Якая справа, такая і слава.

**Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок – толькі поп ды дзячок**. У багатага і па смерці больш прыхільнікаў, чым у беднага: як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок – толькі поп ды дзячок (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). **Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок – толькі попік ды дзячок**. – А народу сабралася! – Але. Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок – толькі попік ды дзячок (А. Карпюк. Данута).

– *Раманаў*, с. 315: Як багаты ўмрэць, паследні з хаты прэць, а як худачок – толькі поп ды дзячок; *Ляцкі*, с. 53: Памёр багаты – па пяцёра з хаты, а памёр бедны худачок – толькі поп ды дзячок; *Федароўскі*, с. 19: Як багаты ўмрэ, то апошні з хаты прэ, а як бядак, то адно поп ды дзяк; *Янкоўскі*, с. 42: Як багаты памрэ, і апошні з хаты прэ, а як бядак-худачок – толькі попік ды дзячок.

**Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок – толькі попік ды дзячок**. *Гл.* Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок – толькі поп ды дзячок.

**Як быка ні кармі, малака не дасць**. *Бескарысна дабівацца ад чалавека таго, на што ён не здольны.*

* Як быка ні кармі, малака не дасць. А хіба для гэтага яго кормяць? (А. Зэкаў. Ёсць пытанне).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 139: Як быка ні кармі, то ўсё малака не дасць.

**Як ваўка ні кармі, <а> ён у лес глядзіць**. *Гл.* Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць.

**Як ваўка ні кармі, а яго ў лес цягне**. *Гл.* Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць.

**Як воўка ні кармі, <а> ён у лес глядзіць**. *Гл.* Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць.

**Як воўка ні кармі, а яго ў лес цягне**. *Гл.* Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць.

**Як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца**. *Гл.* Колькі вяровачцы ні віцца, а канцу быць.

**Як гніл, нікому не міл**. *Гаворыцца пра абыякавае, кепскае стаўленне іншых людзей да хворага, хілага чалавека.* Былая жонка і дачка калі-небудзь прыходзяць, каб што ўхапіць, а не дапамагчы яму, аблегчыць боль: і фізічны, і душэўны. «Як гніл, нікому не міл», – гэтыя словы такія праўдзівыя (С. Лобач. Знайдзі сябе...).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 215: Як гніл, нікому не міл.

**Як гол, так і васцёр.** *Бедны чалавек часта незгаворлівы і востры на язык.* Асабліва не любяць багатыя, калі бедната горача бароніць свае інтарэсы. Як гол, так і васцёр, – гавораць яны ў такіх выпадках (К. Крапіва. Беларускія прыказкі).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 408: Як гол, так васцёр; *Насовіч*, с. 173: Хоць гол, ды васцёр.

**Як гукнеш, так і адгукнецца**. *Як сам адносішся да каго-н., так і да цябе аднясуцца.* – Гэта гвалт! – звяртаючыся да Берсана, выкрыкнуў Шумскі. – Я пратэстую!.. – Як гукнеш, так і адгукнецца, – кінуў рабочы (І. Гурскі. Вецер веку). – Вы, доктар, злапомны. – Як гукнеш, так і адгукнецца, – адказаў Смірын (А. Алешка. Над намі мільён вышыні). Так, унучак... З людзьмі дзяліся, і яны з табою падзеляцца. Як гукнеш, так і адгукнецца. З людзьмі жыць – не па-воўчы выць... (П. Місько. Хлопцы, чые вы будзеце...).

– *Насовіч*, с. 194: Як гукнеш, так і адгукнецца; *Прыказкі*, кн. 2, с. 447: Як гукнеш, так і адгукнецца; Як гукаюць, так і адгукаюцца.

**Як даюць, то бяры, а як б’юць, то ўцякай**. *Гл.* Даюць – бяры, б’юць – уцякай.

**Як дбаеш, так і маеш.** *Пра залежнасць дастатку, матэрыяльнай забяспечанасці чалавека ад яго старання, руплівасці.* Кажуць: як дбаеш, так і маеш. Я, здаецца, ужо так дбаю, так дбаю, а нічога не маю (М. Нікіцкая. Хапу-лапу). – І выцягнула брыгаду Дуня. Перадавая стала. А раз так – там і аплата большая. Матэрыяльны стымул, так сказаць. – Па прынцыпу: як дбаеш, так і маеш, – уставіў Гайкевіч (М. Парахневіч. Непагадзь).

– *Федароўскі,* с. 254: Як робіш, так і маеш; *Аксамітаў,* с. 126: Як дбаем, так і маем.

**Як (дзе) сеў, дык (так) прыкіпеў.** *Кажуць пра сябе ці пра каго іншага, хто надоўга затрымаўся, забавіўся дзе-н.* Ну што, людцы, трэба ісці. А то во – як села, дык і прыкіпела. Паеду заўтра дахаты (Л. Лeвановіч. Пасля разводу).

– *Федароўскі*, с. 274: Як сеў, так і прыкіпеў; *Насовіч*, с. 23: Дзе сеў, там і прыкіпеў.

**Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей**. *Пра перавагу замужняга жыцця над жыццём адзінокай жанчыны.* **Сін.:** *Сякі-такі (хоць які) целяпей, усё ж такі ўдваіх ляпей.* – Ты даўно адна? – Даўно, – ціха адказала Таццяна. – А хацела б замуж?.. – Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей (І. Казлова. Прафесар робіць вывад). – А з саплівым Панцялеем жаніхацца можна?! І чаго цябе да Асмалоўскіх цягне?.. – Сёй-той засмяяўся. Кацярына зноў рванула руку і вызвалілася: – Які ні ёсць Панцялей, але з ім весялей! (Звязда. 2000, 15 лістап.).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 61: Які ні Панцялей, а жыць весялей; Які ні Панцялей, абы сэрцу весялей; Сякі-такі Панцялей, абы ў хаце весялей.

**Які госць, такое і частаванне.** *Кожны мае тое, што заслугоўвае.* **Сін.:** *Якая заслуга, такая і пашана; Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць; Якая птушка, такое і гняздзечка; Якая справа, такая і слава; Які музыка, такая і музыка; Якія самі, такія і сані.* [Пуп-Шкевіч:] Шляхту накарміць шклянкай замежнага віна, а гэтаму – 25 бізуноў. Які госць – такое і частаванне (Г. Марчук. Новыя прыгоды Несцеркі).

– *Ляцкі,* с. 62: Які госць, такое й частаванне; *Ліцвінка,* с. 96: Якія госці, такі і пачастунак.

**Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын**. *Гл.* Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.

**Які куст, такі і адростак**. *Свае недахопы, заганы дзеці пераймаюць ад бацькоў.* **Сін**.: *Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю; Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду; Яблык ад яблыні недалёка падае; Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка; Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын; Якое карэнне, такое і насенне.* А-а-а, гэта ж яго сына расстралялі, бандыта. «Які куст, такі і адростак», – успомнілася Галі чутае ад людзей, калі гаварылі пра дрэнных дзяцей, нядобрых бацькоў (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам).

* Сапраўды, хіба пры добрым бацьку дзеці робяцца зладзеямі? У іх так і гавораць: які куст, такая і адросля (А. Кажадуб. Стрэчанне). – А чаго ты дзівішся? – спытаў у Сцяпаніхі дзядзька Базыль. – Які корань, такі і парастак. Стары Гай у Пятлюры мардаваў, а сын тут пайшоў па бацькавай дарожцы (К. Каліна. Світанак).

– *Насовіч*, с. 193: Які куст, такі і адростак; *Раманаў*, с. 315: Які куст, такі і парастак; *Прыказкі*, кн. 2, с. 128: Які куст, такі і адростак; Які куст, такі і парастак.

**Які музыка, такая і музыка (такое і гранне).** *У кожнага атрымліваецца тое, чаго ён варты, на што ён здольны.* **Сін.:** *Якая заслуга, такая і пашана; Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць; Якая птушка, такое і гняздзечка; Якая справа, такая і слава; Які госць, такое і частаванне; Якія самі, такія сані.* [Карузлік:] Хачу залаты дождж!.. Хм, не атрымалася з першага разу. Паспрабуем зноў. [Дзяўчынка:] Які музыка – такая і музыка! (С. Кавалёў. Хохлік).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 197: Які музыка, такое і гранне.

**Які пан, такі і слуга.** *Які начальнік, такі і падначалены.* **Сін.:** *Які поп, такі і прыход.* Аж палягчэла на душы, як бы ачысціўся ад нечага бруднага, што нёс з сабой і хацеў выліць вунь на тых няшчасных маладзіц, якія пад спякотным небам не разгінаюць спіны. Святую праўду гаварыў некалі Яўхімаў бацька: «Які пан, такі і слуга» (У. Ліпскі. Невядомы).

– *Федароўскі,* с. 216: Які пан, такі слуга.

**Які поп, такі і прыход.** *Які начальнік, такія і падначаленыя.* **Сін.:** *Які пан, такі і слуга.* Калі Рудольф неяк спытаў: «Як вы пачуваеце сябе сярод нашых людзей?», я адказаў, што мы і не спадзяваліся на такую ўвагу, добразычлівасць, шчырае, сардэчнае апякунства. А Ліля дадала: «Які поп, такі і прыход» (С. Законнікаў. Вячэра пад райскім дрэвам). Кажу пра гэты малазначны выпадак, каб яшчэ раз прыгадаць народную мудрасць: які поп – такі і прыход. Людзі заўсёды імкнуцца быць падобнымі на свайго куміра, а падначаленыя – на свайго кіраўніка, незаўважана, міжволі пераймаюць ягоныя звычкі, ягоны стыль (В. Блакіт. Уваскрасенне ўчарашняга дня).

– *Насовіч*, с. 194: Які поп, такі яго й прыход; *Ляцкі*, с. 62: Які поп, такі і прыход; *Федароўскі*, с. 240: Які поп, такая парахвія.

**Які прывет, такі прыём.** *Як ставяцца да цябе, так трэба ставіцца і да іх.* Прыход Марыны пана ўзрушыў... «Пся крэў, а ладная кабета! Як гляне, проста кіне злот. Паможам ёй за адно гэта». І ён прыжмурыўся, як кот, і нават рыжы вус пакратаў, зірнуўшы ўкрадкам на свой дом. Які прывет – такі прыём. Які тавар – такая плата (Я. Колас. Рыбакова хата).

– *Янкоўскі*, с. 245: Які прывет, такі прыём.

**Які Хомка, такая яго жонка**. *Гл.* Які <чорт> Хомка, такая яго жонка.

**Які <чорт> Хомка, такая яго жонка**. *Абодва аднолькавыя ў якіх-н. адмоўных адносінах.* І бацька яго гэткі самы рызыкант быў: які чорт Хомка – такая яго жонка (З. Бядуля. Летапісцы).

– *Насовіч*, с. 194: Які Хомка, такая яго й жонка; *Прыказкі*, кн. 2, с. 49: Які Хомка, такая і жонка; Які чорт Хама, такая й сама; Які чорт Фомка, такая яго жонка.

**Якія самі, такія і сані**. *Кожны мае тое, чаго заслугоўвае, чаго варты, што адпавядае яго становішчу.* **Сін.:** *Якая заслуга, такая і пашана; Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць; Якая птушка, такое і гняздзечка; Якая справа, такая і слава; Які госць, такое і частаванне; Які музыка, такая і музыка.* – Якія самі – такія і сані, якая вёска – так і людзі ў ёй жывуць. Беднота. Няма ніводнай хаты прасторнай, чыстай – курнікі (М. Нікановіч. Перарадзіліся). Якія самі, такія і сані. Ты, хлопча, на вялікае не замахвайся. Хопіць табе рабенькай, крывенькай (І. Навуменка. Бульба). [Альжбета:] А што ж ты хацеў яшчэ? Якія самі, такія і сані (І. Козел. Папараць-кветка). Дзякуючы прадзедаўскай тэхналогіі мы глумілі і глумім драўніну. Як кажуць, якія самі, такія і сані (А. Дзік. Светлагорскі бумеранг).

– *Насовіч*, с. 193: Якія мы самі, такія нашы й сані; *Прыказкі*, кн. 1, с. 188: Якія самі, такія і сані.

**Якія сані, такі і гаспадар.** *Кожны атрымлівае, мае тое, чаго ён варты, што адпавядае яго становішчу.* **Сін.:** *Па Сеньку <і> шапка.* Зразумеўшы, якога гаспадара і якую хату мае на ўвазе Яшка, Адам заўважыў: якія сані, такі і гаспадар... па Сеньку і шапка... (М. Воранаў. Карона).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 188: Які воз, такі і гаспадар.

**Як (калі) на Грамніцы (Стрэчанне) нап'ецца певень вадзіцы, дык (то) на Юр'я наесца вол травіцы.** *Ужываецца як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; Грамніцы, Юр'я – святы ў хрысціян, першае прыпадае на 2 лютага, другое – на 23 красавіка (па старым стылі). Грамніцы і Стрэчанне – дзве назвы таго самага свята, другая – пераважна ў праваслаўных.* «Грамніцы ж сёння, Стрэчанне, – успомніла Сабіна. – Як на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы. Здаецца, багата адталінак, трэ прыгледзецца...» (А. Кажадуб. Стрэчанне). Стрэчанне сёння, сынок. Зіма з летам у полі стрэліся. Калісь старыя людзі казалі: «Калі на Стрэчанне певень нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я вол наесца травіцы» (У. Глушакоў. Чарнобыльскі шлях...). З Грамніцамі звязана нямала прымет на будучае надвор'е

і ўраджай. Самая распаўсюджаная і красамоўная, нават зарыфмаваная, – «Калі на Грамніцы певень нап'ецца вадзіцы, дык на Юр'я наесца вол травіцы». Вялікі мароз у гэты дзень зусім не прадказваў ні цёплай вясны, ні спрыяльнага лета, але снег абяцаў ляжаць нядоўга (Звязда. 2001, 15 лют.).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 96: Як на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я наесца вол травіцы; *Янкоўскі*, с. 84: Калі на Стрэчанне певень пад страхою нап'ецца, то на Юр'я вол травы наесца.

**Як (калі) не ела душа часнаку, <то і> пахнуць не будзе**. *Невінаваты чалавек не можа абвінавачвацца ў чым-н.* [Жэня:] Ну-ну, ці даўно яшчэ рукі твае Гэльку абдымалі ўпоцемку? [Андрэй:] Ды хіба ж можна змяніць сакавітую вішню на пажоўклы ападак з дрэва? [Жэня:] Ой ты, хват добры. Я цябе наскрозь бачу. [Андрэй:] Як не ела душа часнаку, пахнуць не будзе (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі). Бабам толькі дай зачэпку языкамі памянціць. Без граху грэшным зробяць... Але ж спрадвеку гавораць, што калі душа часнаку не ела, то і пахнуць не будзе (А. Казлоў. Незламаная свечка).

– *Насовіч*, с. 183: Чыя душа часнаку не ела, то і пахнуць не будзець; *Янкоўскі*, с. 346: Чыя душа часнаку не ела, пахнуць не будзе; *Прыказкі*, кн. 1, с. 348: Як душа не ела часнаку, не пахла б; Хто часнаку не еў, той смярдзець не будзе.

**Як (калі) трывога, тады (дык) да Бога**. *Да Бога найчасцей звяртаюцца ў няшчасці.* Як занялася ад хаты страха на хляве, а пасля на гумне, то нябось – [Уладзя] успомніў Бога, давай хутчэй хрысціцца. Кажуць жа: як трывога, тады да Бога (В. Каваленка. Падвышанае неба). Не верыла Мар'яна ні ў які той свет, але нездарма людзі кажуць: як трывога, дык да Бога... І Богу, і д'яблу пайшла б сёння служыць Мар'яна, каб ведала, што гэта паможа сыну (Л. Арабей. Маці – не сведка). Яна чула, як бацька перад якім-небудзь важным заняткам часта звяртаецца да Бога. А што вінаватыя мы перад ім, кажа, то гэта праўда. Успамінаем толькі, калі бяда якая. Праўду кажуць – калі трывога, тады да Бога (А. Бутэвіч. Апошняе ігрышча). [Ян:] Зноў за свае прымхі?! Сну людскога сасніць не можаш!.. Анёлы, крыжы, багі... [Фрося:] А як жа інакш? Нездарма ж людзі кажуць, як трывога, тады і да Бога. Ты ж сон мой не паслухаў... (А. Петрашкевіч. Скрадзены крыж).

– *Ляцкі*, с. 63: Як трывога, тады да Бога; *Прыказкі*, кн. 2, с. 151: Як трывога, тады да бога.

**Як (калі) удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай)**. *Пра нязменнасць характару чала-*

*века, яго прывычак, перакананняў і інш.* **Сін**.: *Гарбатага магіла выправіць; Крывое дрэва не выпраміш.* [Марфа:] Ты ад мяне нікуды не ўцячэш... Як удасца бычок з лысінкай, дык з лысінкай і здохне. [Шпакоўскі:] Што ты да мяне маеш? (І. Гурскі. Свае людзі). [Лабыш:] Сядзеў [Адась] тры гады ў турме за лістоўкі? Сядзеў. Думаеш, ён перамяніўся пасля гэтага? Не верыцца мне! Калі ўдасца жарабё з лысінкай, дык і здохне такім... (І. Козел. Папараць-кветка). [Агата:] А што я магу адна зрабіць са сваім вырадкам? Кажуць нездарма, што як удалося жарабё з лысінкай, дык і састарэе такім! (А. Махнач. На паляванні). **Уродзіцца цяля з лысінкаю, то і з лысінкаю здохне**. А на даярак напаў дурны смех. Адна вельмі сакатала – Лідачка-развядзёха: «Кэ-кэ-кэ-кэ!» Не даспадобы такія людзі Тарасісе: «Цьфу, пустальга! Уродзіцца цяля з лысінкаю, то і з лысінкаю здохне...» (П. Місько. Сітус інверсус). **Урадзілася цяля з белаю лапінкаю на лбе, так яно і памрэ**. – Нічога, мама, не бядуй, – пачаў супакойваць маці Раман. – Я трохі ў парадак селішча прывяду, папраўлю што-кольвечы. І з Мішкам, Пятром, Клаваю пагавару... – Думаеш, я з імі не гаварыла? Але... Урадзілася цяля з белаю лапінкаю на лобе, так яно і памрэ (Б. Сачанка. Непаваротлівы пухнаты чмель...). **З якою лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне**. Пазнаю, пазнаю: акураціст! З якою лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне. Пазнаю і схілен верыць (М. Лужанін. Трое). **Лысае цялятка і здохне з лысінкай**. – Вось і я думаю, што вы навучыце яго варушыцца хутчэй. – Хто яго навучыць? Лысае цялятка і здохне з лысінкай (А. Чарнышэвіч. Затор на дваццатым).

* «А за што на яго тачыць зубы, – Мануйла адводзіў і ад хрыстапрадаўца гнеў. – З лысінкай ён нарадзіўся, з лысінкай і памрэ» (М. Гроднеў. Нязведаная даль). Але ж нездарма пра тое цялятка з лысінкай кажуць людзі. Гэтак, пэўна, і чалавек. Што катораму наканавана ў жыцці (М. Гіль. Прагал). – Цяпер ужо, бацька, позна пра гэта гаварыць. Нічога не вернеш. – Тут, як той казаў, і на яе, і за яе. Яно-то, канешне, як уродзіцца цялятка з лысінкай, дык і на мясакамбінат з лысінкай адвязуць (В. Макоўскі. Бацькава слова). [Завальня:] Хаця і ёсць прыказка: хто ажэніцца, той пераменіцца. [Тамаш:] Не, пане дабрадзею, кажуць людзі, што калі родзіцца жарабя з лысінкай, дык з той самай лысінкай і ваўкі з'ядуць (С. Кавалёў. Звар'яцелы Альберт).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 304: Лысае жарабя ўрадзілася, лысае і здохне; Як урадзіўся з лысінкай, то і памрэ з лысінкай; Нарадзілася кабыла з лысінкай, дык і здохне, не сцёршы.

**Як (калі) я ем, дык (і) глух і нем.** *Гавораць у часе яды пры нежаданні размаўляць у гэтыя хвіліны або калі не хочуць адказваць на не зусім прыемнае пытанне, пакідаючы яго без увагі.* – Якой ты ад мяне жадаеш дапамогі? Калі я ем, дык глух і нем, і што мне да тваіх праблем! – Без клопату і без трывогі далей грызе ён [Чарвяк] яблык свой, хоць смерць ужо над галавой (К. Крапіва. Матыль і Чарвяк).

– *Насовіч*, с. 196–197: Як ем, і глух і нем; *Рапановіч*, с. 273: Як ем, то глух і нем.

**<Як> малады – <то> дурны.** *Кажуць як прабачэнне дураслівасці дзіцяці ці маладога чалавека.* **Сін.:** *Маладосць – дурносць.* Нічога, як малады – то дурны, некалі ж і яны паразумнеюць, і пабяруцца, і сям'ю наладзяць, будуць вось гэтак жа глядзець на ўнукава вяселле – і ўздыхаць будуць (А. Кажадуб. Высока, сонейка, высока). Як малады – то дурны. Адна толькі маці была за Марыю. Для яе ўсе дочкі харошыя. А што счэпяцца калі сварыцца з-за хлопцаў, казала: «Маладыя – дурныя» (М. Гроднеў. Заручыны). Рыгор здуру ляпнуў яшчэ нешта.. ведама, маладое – дурное... Рыгор не разлічыў. Так і не разгарнуўшыся, дыскусія закончылася тым, чым і павінна была закончыцца. Саноўны «мэтр» навукі прыцэльна наставіў на адно вока і стрэліў каратка і знішчальна: «Вон!» (Г. Змітрыеў. Хроніка непрыкаянай душы).

– *Федароўскі,* с. 176: Малады – дурны.

**Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня**. *Кожны можа добра згатаваць ежу, калі ёсць з чаго.* **Сін.:** *І няўмека пячэ, калі з засека цячэ; Калі ёсць у мяшку, то будзе і ў гаршку*. – А ты смачна варыш, гаспадынька. Як хадзіла на работу, то мы елі горш. – Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня. Дай мне час, дай з чаго, дык я табе так згатую, што цябе за вушы ад талеркі не адцягнеш... (У. Дамашэвіч. Камень з гары). **Усякая будзе гаспадыня, калі <мукі> поўная скрыня**. Аднаго разу, калі дачка стала павучаць яе, маўляў, хто ж гэтак робіць, дзіва што ў вас ніколі парадку не было, Марыля не вытрымала, сказала: – Усякая будзе гаспадыня, калі поўная скрыня (З. Прыгодзіч. Ноч перад нядзеляю).

– *Ляцкі*, с. 51: Усякая гаспадыня, калі мукі поўная скрыня; *Прыказкі*, кн. 1, с. 250: Калі мукі поўна скрыня, то і свіння гаспадыня.

**Як набыта махам, так і пайшло прахам.** *Як штосьці лёгка дасталося каму-н., так і ўсё пацярпела крах.* Жамойты, спадзеючыся на дапамогу Міндоўга, выбівалі рыцарскія гарнізоны з гарадоў і замкаў... На вачах ордэн траціў ўсё завяяванае. Як набыта махам, так і пайшло прахам (Л. Дайнека. Жалезныя жалуды).

– *Насовіч,* с. 139: Прыйшло махам і пойдзе прахам (тлумачыцца як «настаўленне не зайдросціць лёгкім даходам»); *Ляцкі,* с. 36: Прыйшло махам і пойдзе ветрам-прахам.

**Як на Грамніцы адліга – з ураджаю будзе фіга.** *Ужываюць як адзін з паказчыкаў народнага календара прыроды; Грамніцы – свята ў хрысціян, якое ў праваслаўных прыпадае на 15 лютага па новым стылі, а ў католікаў на 2 лютага.* Познюю вясну варажыла і завея на Грамніцы. Не прадказвала нічога добрага і рэзкае пацяпленне: «Як на Грамніцы адліга – з ураджаю будзе фіга». А вось лёгкі марозік абяцаў сухое пагоднае лета (Звязда. 2001, 15 лют.).

– *Прыказкі*, кн. 1, с. 96: Як на Грамніцы адліга – з ураджаю будзе хвіга.

**Як на Грамніцы нап’ецца певень вадзіцы, дык (то) на Юр’я наесца вол травіцы.** *Гл.* Як (калі) на Грамніцы (Стрэчанне) нап’ецца певень вадзіцы, дык (то) на Юр’я наесца вол травіцы.

**Як не знае, дык на зоры пазірае.** *Гл.* Калі (як) не знае, дык на зоры пазірае.

**Як не ўпяклося, дык і не ўварылася.** *Кажуць пра розныя з’явы, справы, якія на працягу доўгага перыяду не ладзяцца, не выходзяць так, як хацелася б.* Ёсць у нас цікавая, надта ж красамоўная прымаўка: «Як не ўпяклося, дык і не ўварылася». Гэта, няйначай, можна сказаць пра сёлетняе лета. Аказваецца, дажджоў, шквалістых вятроў, граду і іншай трасцы было нам яшчэ замала. Сіноптыкі абяцаюць у самы бліжэйшы час надыход... восені (ЛіМ. 1998, 21 жн.). **У маёй Таклюсі як не ўпяклося, дык не ўварылася**. А чым скончылася? Горкаю, пякучаю слязою і даўнім застарэлым болем. У маёй Таклюсі як не ўпяклося, дык не ўварылася... Надта ж нашая, беларуская прымаўка! Няйначай, усе мы і папраўдзе Таклюсі-недарэкі. Быццам не Бог над намі і ў нас, а – сам д’ябал. Згінь, сатана! (М. Гіль. Як я начараваў цётцы Ганне).

**Як ні ары, абы чорным дагары.** *Пра абыякавыя адносіны да працы, да справы.* У нашага Лявона на ўсё свае законы: «Як ні ары, абы чорным дагары». «Нікога не чапаю, бо мая хата з краю». «Трэба жыць, як набяжыць» (М. Скрыпка. Лявон). – Як раней казалі, дыму без агню не бывае... – Такія прымаўкі якраз для тых, хто вінаваціць некага ў нейкіх грахах, а вось як знайсці такія, каб апраўдацца? Так адзін казаў: як ні ары, абы чорным дагары. Святых на грэшнай зямлі няма, але людзі ўсё роўна не аднолькавыя: адны лепшыя, другія – горшыя... (У. Дамашэвіч. Месяц у Раі...).

* Што таіцца – ад думак [у Надзі] галава трашчыць. Б’ецца яна як рыбіна аб лёд, стараецца, а ўсё роўна атрымліваецца, як у таго заклятага богам і людзьмі гарапашнага Амелі: ары не ары, а ўсё чорным дагары (М. Гроднеў. Заручыны).

– *Янкоўскі*, с. 244: Як ні ары, абы чорным дагары.

**Як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці**. *Звычайна кажуць, калі просяць прабачыць за нечаканы парыў злосці.* [Федзя:] Ну, прабач ты мне, Ядзя... Пагарачыўся крыху... Сама ведаеш, як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці. Даруй мне, больш ніколі не паўторыцца гэта (І. Козел. Над хвалямі Серабранкі).

– *Федароўскі*, с. 63: Няма мяса без косці, а чалавека без злосці.

**Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын**. *У дзецях паўтараюцца недахопы ці станоўчыя рысы бацькоў.* **Сін**.: *Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю; Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду; Яблык ад яблыні недалёка падае; Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка; Які куст, такі і адростак; Якое карэнне, такое і насенне.* [Навум:] Нябожчык стары пан.. быў нам, як родны бацька: хлеба, солі нікому не жалеў... Будзь і ты яму схожы. Тагды спраўдзіцца прымаўка: якое дрэва, такі клін, які бацька, такі сын (В. Дунін-Марцінкевіч. Сялянка). [Ева:] Няўжо і Лявон згадзіўся? [Зяноўя:] Якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын (В. Гарбацэвіч. Вяселле). Пра яго гаварылі: «Яўхім ліпне да працы, як муха да мёду». Дзеці таксама цягнуліся да работы. Якое, кажуць, дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын (І. Гурскі. Ганульчына гора). Думала, бацька п’е, дык хоць сыны разумнейшыя будуць. Але ж: якое дрэва – такі клін, які бацька – такі й сын (Л. Дайнека. Запомнім сябе маладымі). **Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын**. [Пан:] Брэшаш, старая. Твой сын – лайдак, валацуга. Швэндаецца, мусіць, дзе-небудзь па свеце ды жабруе, а мо і крадзе, зладзюга. [Войт:] Уся іхняя парода гэткая, паночку. Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын (В. Вольскі. Цудоўная дудка). Сват спяваў, як салавей, на ўсе лады распісваючы і расквечваючы гаспадарку Лявона і саміх гаспадароў... – І пра яго, – дзядзька меў на ўвазе Васіля, – нічога благога не магу сказаць – разумны, гарэлкі не п’е. Ды што казаць! Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын. І працавіты вельмі! (У. Гніламёдаў. Валошкі на мяжы).

– *Насовіч*, с. 194: Якое дзерава, такі і клін, які бацька, такі і сын; *Раманаў*, с. 315: Які дуб, такі тын, які бацька, такі сын;

*Прыказкі*, кн. 2, с. 126: Якое дрэва (які дуб), такі і клін, які бацька, такі і сын.

**Якое карэнне, такое і насенне**. *Свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў.* **Сін.**: *Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю; Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду; Яблык ад яблыні недалёка падае; Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка; Які куст, такі і адростак; Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.* «Якое карэнне, такое і насенне», – кажуць у народзе. Хаменкаў сын пазбіраў усе бацькавы кропелькі (У. Юрэвіч. Пошукі вобраза – пошукі слова). – Выкручваецца [Свідэрскі]. Кажа, часам яго агортвае нейкае незразумелае вар'яцтва. І тады ён не помніць, што робіць. У іх родзе нешта падобнае было. Відаць, спадчына... – Спадчына? Магчыма... Нездарма ж у народзе кажуць: якое карэнне, такое і насенне... (Л. Прокша. Урок любві і нянавісці). Кавалік выказаўся, даводзячы, што тут вінаватая і маці Кіпеня, шаптухаправедніца... – Якое карэнне, такое і насенне, – нечакана выгукнуў Мішка Цярэшка (С. Кухараў. Зорка Канікула). Клапатлівая, чулая нявестка Таццяна даглядае сваю свякроўку, як родную маці. Гэта сапраўдная, інтэлігентная беларуская сям'я. Ёсць такая прымаўка: «Якое карэнне, такое і насенне». Гэта сказана і пра такіх, як яны (Л. Целеш. Дарога іх жыцця).

* Многія хвалілі яго [Івана Тарасавіча] як вопытнага арганізатара і спецыяліста, а наконт выхаванцаў казалі: «Добрае карэнне, добрае і насенне» (М. Гроднеў. Салодкі боль).

– *Янкоўскі*, с. 141: Якое карэнне, такое насенне.

**Якое семя, такое і племя**. *Пра залежнасць ураджаю ад якасці насення.* Не, Галі не трэба цвілое насенне. Бацька казаў: «Якое семя, такое і племя». Або: «Ад благога семя не чакай добрага племя». Тым больш лубін: ён пераборлівы. Яго трэба добра высушыць і трымаць у сухім (Я. Ермаловіч. Стаяў маладзік над лесам). Наўрад ці ў каго ў раёне такая азіміна. Ды і адкуль ёй быць такой? Засеяны палі ў асноўным масавай рэпрадукцыяй, рэдка дзе другая і трэцяя. Якое семя, такое і племя (В. Шырко. Сцяжына да людзей).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 127: Якое семя, такое і племя.

**Як папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца**. *Жонка радуецца, задаволеная, калі ў мужа ўсё добра, усё ўдаецца.* Што можна пра жонку сказаць? Як папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца. Сапраўды, яна баіцца, каб не астацца без прырэзкі зямлі. А я мяркую –

агулам выrабляць. Створым камунію. Мяркую – уламаю жонку (І. Гурскі. Вецер веку).

– *Ляцкі*, с. 17: Калі папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца.

**Як пасцелешся, так і выспішся**. *Вынікі ў якой-н. справе залежаць ад таго, як да яе ставішся, як стараешся.* [Сцяпан:] Ты вінаваты, бо праз гарэлку не бачыў свету белага, не арганізаваў работу. Праўда, і мы вінаваты: даўно б трэба было цябе папрасіць з брыгадзірства. Але лепш позна, чым ніколі. [Марына:] Адным словам, Макарка, як пасцелешся – так і выспішся (А. Рылько. Як пасцелешся – так і выспішся). Помніце прымаўку: як пасцелешся, так і выспішся. Звяркі таксама ведаюць гэтую народную мудрасць. Таму і шчыруюць цалюткі дзень, не ведаючы стомы. А доўгімі восеньскімі начамі старанна харчуюцца (У. Ягоўдзік. Барсук).

– *Насовіч*, с. 194: Як пасцелешся, так і выспішся.

**Як п'ян, дык капітан, а як праспіцца, дык і свінні баіцца**. *Гл.* Калі п'яны (як п'ян), дык капітан, а калі (як) праспіцца, дык свінні баіцца.

**Як сабака на сене – і сам не гам і другому не дам**. *Гл.* <I> сам не гам і другому не дам.

**Як сабаку кормяць, так сабака і брэша**. *Як другія ставяцца да каго-н., так і ён ставіцца да іх.* [Касабуцкі:] Станок ні к чорту матары не варт, рамонту просіць... [Насця:] Пра станок дагэтуль ты нічога не казаў. Самому трэба сумленна рабіць, дык і станок лепшы будзе. [Касабуцкі:] Як сабаку кормяць, так сабака і брэша (К. Крапіва. Канец дружбы).

– *Насовіч*, с. 196: Як сярка кормяць, так сярко і брэшыць; *Янкоўскі*, с. 304: Як цюцьку кормяць, так цюцька і брэша; *Прыказкі*, кн. 1, с. 204: Як сабаку кормяць, так ён і брэша.

**Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч.** *Праст. Па манеры паводзін, па звычаях, знешнасці адразу відаць, што гэта за чалавек.*

* Залезшы ў агарод, Свіння пусціла лыч у ход, спаласавала ўсё ўшчэнт. Пасля яшчэ, зрабіўшы разварот, перакуліла плот... Як ты свінню ні апранай і як ні кліч – заўсёды памятай пра лыч (М. Скрыпка. Свіння і Баран).

– Паходзіць з байкі К. Крапівы «Заява» (1925), у якой расказваецца, як Свіння «накрамзоліла заяву» «свайму старшыні», каб той даў ёй імя «новае, падмацаваўшы яго пастановаю». «А старшыня той розум меў: – Завіся, – кажа, – ты хоць – леў, аднак жа, як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч!»

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 204: Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч; *Янкоўскі*, с. 274 (у выданні 1962 г.): Як свінню ні кліч, яе выдасць лыч.

**<Як> сіраце жаніцца, <дык і> ноч (ночка) кароткая (малая)**. *Кажуць, калі каму-н. не шанцуе, калі ўзнікаюць нечаканыя перашкоды ў якой-н. справе.* І вось трыццаць год, а я – адзінокі, нібы тая тычка з саламяным вузлом сярод квітнеючага лугу. «Як сіраце жаніцца, дык і ночка кароткая», – апраўдваю я сваё становішча (А. Рылько. Анюта). А калі яны [маладыя] прыйшлі рэгістравацца, жанчына насварылася на іх, абвінаваціла ў падмане. Аказваецца, Зосьцы не было васямнаццаці. Во ўжо нехта праўду казаў: як сіраце жаніцца, дык і ночка кароткая (А. Асіпенка. Кірыла Уласік). Мокры, брудны... Людзі ж засмяюць... Агледзеў [Яўхім], гэты раз больш уважліва, зноў сябе. Плюнуў са злосцю пад ногі: – Цьфу! Сіраце жаніцца – ноч малая... (Б. Сачанка. Вялікі Лес). **<Калі> беднаму жаніцца, <то і> ноч кароткая**. Калі беднаму жаніцца – ноч кароткая. Так і нам з гэтым кіно. Такое надвор’е! Давай не пойдзем – усё адно спазняемся (І. Шамякін. Вячэрні сеанс). Беднаму жаніцца – ноч кароткая... Ледзь-ледзь прыдрамнуў, тут і пачалося. Гаспадыня ўсчала паліць грубку, грукатам высыпала дровы на бляху (А. Федарэнка. Нічые). Жахліва храбуснулі шасцерні, машына тарганулася, штуршкамі выкацілася на сярэдзіну скрыжавання і мёртва стала... – Чаму так? Як беднаму жаніцца, то і ноч кароткая, – Ганна адшпіліла рэмень бяспекі, – я пажартавала. Сварыцца мы не будзем (М. Клімковіч, У. Сцяпан. Цень анёла).

– *Насовіч*, с. 64: Калі нам жаніцца, тады і ноч кароткая; *Федароўскі*, с. 363: Як нам жаніцца, то й ноч малая; *Прыказкі*, кн. 1, с. 455 і кн. 2, с. 104: Як нам жаніцца, то і ночка кароткая; Як сіраце жаніцца, то й ноч пакарочала.

**Як топішся, дык за брытву хопішся**. *Гл.* Калі (як) топішся, дык (то) за брытву хопішся.

**Як топішся, дык і за саломінку хапаешся**. *Гл.* Тапелец і за саломінку хапаецца.

**Як у лес, так і з лесу**. *Кажуць як сцвярджэнне, як вядомую ісціну, што ёсць толькі адзіная, аднолькавая дарога ў якіх-н. абставінах.* Жонка махнула рукой. – Як ты пра нас клапоцішся! Проста не пазнаць. І дома стаў прыпыняцца. Што гэта з табою, калі не сакрэт? – Ніякага сакрэту. Як у лес, так і з лесу. – Што ты хочаш сказаць? Нешта я не цямлю... – Хачу толькі сказаць, што мы забываем свае абавязкі ў сям’і. І з гэтага ўсё пачынаецца (У. Дамашэвіч. На мяжы цярпення).

**Як хто хоча, так па сваім бацьку плача – хто ў кулак, а хто ніяк**. *Гл.* Кожны плача па сваім бацьку, як умее.

**Як чалавек на гару, дык чорт за нагу**. *Гл.* Ты на гару, а чорт за нагу.

**Як шанцуе, то і Халімон танцуе**. *Гл.* Калі (як) шанцуе, то (тады) і Халімон танцуе.

**Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць**. *Пра гультая, які шукае апраўданне сваёй ляноты.* У Нілы жыццё не складвалася. Яе згвалціў адзін хлопец. Яго прымусілі ажаніцца з ёй. Лепш была б адна. Ён аказаўся негадзяшчым, лежнем. «Раніцай яму росна, удзень млосна...». Адным словам, лянівы дуб (С. Лобач. Па закутках памяці).

* «Чаму, – пытае старшыня, – ты грады запусціла?» – «Калі ж іх выпалаць, старшынька, разбяры, – узмалілася кабета слёзна, – на ранку ж дужа росна». – «А ў поўдзень?» – «Млосна...» – «Увечары палі!» – «Кусаюць камары...» – «Ну, вось ты з ёй і гавары!» – аж плюнуў старшыня ад абурэння (У. Корбан. Пяшчотнае стварэнне). Зранне росна, у поўдзень млосна, а ўвечар камары, і ніяк сабе да працы не магу дабраць пары (А. Паўловіч. Маладая гаспадынька).

– *Прыказкі*, кн. 2, с. 270: Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць; З раніцы росна, удзень млосна, а ўвечары камары – не прачнуся да зары; Раніцаю росна, а ў поўдзень млосна, вечарам камары – і рабіць няма калі.

**Я не арганіст, не перабіраю**. *Гл.* Я не музыкант (не арганіст), не перабіраю.

**Я не музыкант (не арганіст), не перабіраю**. *Я не пераборлівы.* – Во, харошую знайшоў! Гэта ж некалі да яе ўсе хлопцы сваталіся... – Я ж не музыкант – не перабіраю. Якую ўжо бог даў, – Імполь чуў, што не можа схаваць сваю злосць, раздражняла гэта распытванне... (В. Адамчык. Чужая бацькаўшчына).

– *Насовіч*, с. 197: Я не арганіст, не перабіраю; *Федароўскі*, с. 9: Я не арганісты, пальцамі не перабіраю.

**Я не я і хата не мая**. *Нічога не ведаю, адмаўляюся ад чаго-н. Кажуць пра таго, хто поўнасцю адмаўляе сваё дачыненне да чаго-н.* **Сін**.: *Мая справа цялячая: пад'еў ды ў хлеў; Мая хата з краю <і я> нічога не знаю.* Усё гэта я кажу, каб ты ведаў, што ў пэўных выпадках адны рэчы пераходзяць у другія. Можна, скажам, давесці, што Пятрусь Маргун падобен з твару да архангела Міхаіла, што я – не я і хата не мая (Я. Колас. На ростанях). – Глядзіце, што ён нарабіў, хіжая шкура! – нервуецца Гулік. – Замок разбіў... – Хоча,

каб канцы ў ваду. – Маўляў, я не я і хата не мая... (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). Скурко зацята ад усяго адхрышчваўся: маўляў, я не я і хата не мая... Не хрысціў, не ведаю, і ўсё... (Э. Валасевіч. Сцяпан Лаўрэнцьевіч). Гэта вельмі хітры манеўр – на словах адцурацца ад эканомікі, маўляў, я не я і хата не мая (М. Замскі. Народ скажа? Народ сказаў!). **<І> я не я і кабыла не мая.** **[**Напорка:] Таварыш Лютынскі пра Далеўскага тут выказаўся так, што гэта, бачыце, «і я не я і кабыла не мая» (К. Крапіва. Канец дружбы). – Сам я таксама не буду вырашаць гэтай справы, тым больш, што Міхася начдыў ведае асабіста, ён ласкавейшы будзе да яго... – Перастраховачка, таварыш Свіліс... Маўляў, я не я і кабыла не мая... (М. Машара. Ішоў дваццаты год).

– *БРС*, т. 1, с. 559: Я не я і кабыла не мая; *Янкоўскі*, с. 304, 322: Я не я, хата не мая, і гаспадар не я; І я не я, і кабыла не мая; *Рапановіч*, с. 160: Я не я, і хата не мая.

**Янка ківае на Петруся, а Пятрусь на Янку**. *Гл.* Іван ківае на Пятра <а Пётр на Івана>.

**Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся**. *Пра немагчымасць усім дагадзіць, усіх задаволіць.* З Навагрудка Міхась пайшоў у свет, які завецца дарослым... Зусім яшчэ не ведаў, што чаго добрага, а ворагаў будзе. І што яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся (А. Кажадуб. Крокі). Колькі людзей, столькі і думак. Праўду кажуць: яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся (В. Шырко. Барада).

– *Янкоўскі*, с. 245: Яшчэ той (такі) не нарадзіўся, каб усім дагадзіў.

**Я яму пра плот, а ён пра азярод**. *Я яму гавару пра адно, а ён, не зразумеўшы ці знарок, пра другое. Кажуць з незадавальненнем пры непаразуменні паміж суразмоўнікамі. Азярод – прыстасаванне з слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны, травы і пад.* **Сін**.: *Поп сваё, а чорт сваё; Ты яму «стрыжана», а ён табе «голена»; Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто ў сачыўку>; Я яму пра Фаму, а ён мне пра Ярому.* – Куды працаваць пойдзеш? – Ой, мамачка мая родная! Я яму пра плот, а ён пра азярод. Баліць мне галава аб працы. Ёсць на гэта цесць. Калі не хоча, каб я сядзеў нахлебнікам у яго на спіне, дык няхай шукае (Я. Палубятка. Прыгоды Мармулка).

**Я яму пра Фаму (пра Кузьму, Хомку), а ён мне пра Ярому (Яромку)**. *Я яму гавару пра адно, а ён, не зразумеўшы ці знарок, пра другое. Кажуць з незадавальненнем пры непаразуменні паміж суразмоўнікамі.* **Сін**.: *Поп сваё, а чорт сваё; Ты яму «стрыжа-*

*на», а ён табе «голена»; Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто ў сачыўку>; Я яму пра плот, а ён пра азярод.* Сказаў бы прама, што яму трэба – і дзелу канец. А то сядзім, значыць, вечарам, гаворым. Я яму пра Фаму, а ён мне пра Ярому: цішком усё пра лес выпытвае (І. Кірэйчык. Добрай долі, Стадолічы!). – Раніцай выйдзеш на падворак – цішыня, возера, як люстэрка, за ім бор сінее, пад страхой ластаўкі шчабечуць... – Вось табе і на. Я яму пра Кузьму, а ён мне пра Ярому. Пры чым тут ластаўкі? (А. Варановіч. Высокі падмурак). – Вам трэба добра падумаць, бо ўлада не пацерпіць, калі вы здраднікаў будзеце і далей героямі выстаўляць. – Я вам пра Кузьму, а вы мне пра Ярому (М. Елянеўскі. Кротаўская трагедыя). Чытаць [такую] рэцэнзію не мае сэнсу, бо аўтар і рэцэнзент як бы стаяць на розных берагах ракі і кожны бачыць нешта адваротнае таму, што бачыць яго апанент. Пра такога крытыка трапна гаворыць прыказка: яму пра Фаму, а ён пра Ярому (В. Быкаў. Вялікая акадэмія – жыццё). Я ў вас пыталася, куды вы ідзеце, а вы мне адказалі, што вас завуць Насця Іванова. Гэта правільны адказ, толькі не на маё пытанне. Я вам – пра Хомку, а вы мне – пра Яромку (М. Верціхоўская. Вам – пра Хомку, а вы – пра Яромку).

# АЛФАВІТНЫ ПЕРАЛІК СЛОЎ

Пакольку, як ужо адзначалася ў раздзеле «Пра структуру Слоўніка», каля 90 % прыказак маюць у сваім складзе назоўнік, то менавіта ён звычайна і выступае як «апорны кампанент» у «Алфавітным пераліку слоў», што ўваходзяць у загаловачныя прыказкі або ў іх варыянты. Пры адсутнасці назоўнікавага кампанента выкарыстоўваюцца ўжытыя са значэннем назоўніка прыметнікі, займеннікі, лічэбнікі. У вельмі рэдкіх выпадках у якасці «апорнага слова» бярэцца дзеяслоў ці прыслоўе. *Гл.* пра гэта больш падрабязна на с. 45.

| | |
|---|---|
| **Абадранец**. | Не да танцу абадранцу. |
| **Абарона**. | Лепшы спосаб абароны – нападзенне. |
| | Самая лепшая абарона – нападзенне. |
| **Абед**. | Абед на абед не тое, што кій на кій. |
| | Не дораг абед, а дораг прывет. |
| **Абедня**. | Глухому дзве абедні не служаць. |
| | Для глухога дзвюх абедзень не служаць. |
| **Аблічча**. | Па абліччы апостал, а па зубах сабака. |
| **Абое**. | Бусенькі, бусенькі – абое галюсенькі. |
| **Абора**. | За пераборы лапці ды аборы. |
| **Абраза**. | Абразу лепей праглынуць, чым яе разжоўваць. |
| **Аброк**. | Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку. |
| **Абух**. | Пугай (плёткай) абуха не пераб’еш. |
| **Абыякі.** | Чым мець абыякага, дык лепей ніякага. |
| **Абяцанка**. | Абяцанка-цацанка, а дурню радасць. |
| | Абяцанкі-цацанкі, а дурню (дурному) радасць. |
| **Авечка**. | Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць. |
| | <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе). |
| | З паршывай (шалудзівай) авечкі хоць шэрсці (воўны, поўсці) клок (касмык). |
| **Авёс.** | Высока ляціць вырай – высокі вырасце авёс. |
| **Агароднiна.** | Кожнай агароднiне свой час. |
| **Аглобля**. | Кось-кось (кося-кося, косю-косю), пакуль (ды) у аглоблі. |
| **Агонь**. | Агонь агнём не тушаць. |
| | Дыму без агню не бывае. |
| | З аднаго палена агню не раскладаюць. |
| | Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ. |
| | Пажар (агонь) агнём не тушаць (не гасяць). |

| | |
|---|---|
| **Агурок**. | Раз пайшла такая п’янка, рэж апошні агурок. |
| **Адвага**. | Адвага альбо мёд п’е, альбо кайданы трэ. |
| | Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ. |
| **Адзежа**. | Па адзежы сустракаюць, а па розуму праводзяць. |
| **Адзежка**. | Выцягвай ножкі паводле адзёжкі. |
| | І рыбы не хачу, і адзежкі не змачу. |
| | Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка. |
| **Адзенне.** | Па адзенні страчаюць, а па розуму праводзяць. |
| **Адзін, адна, адно.** | Адзін дасужы, ды нядужы. |
| | Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. |
| | Адзін і ў кашы няспорны. |
| | Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон. |
| | Адзін у полі не воін. |
| | Аднаму густа, а другому пуста. |
| | Аднаму льецца, а другому нават не капае. |
| | Адны пануюць, другія гаруюць. |
| | Сямёра аднаго не чакаюць. |
| | Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца. |
| | Усе за аднаго і адзін за ўсіх. |
| | Што два, то не адзін. |
| **Адказ**. | Сем бед за раз – адзін адказ. |
| **Адклад**. | Адклад не ідзе на (у) лад. |
| | З адкладу няма ладу. |
| **Адкладваць**. | Ніколі не адкладвай на заўтра, што можна зрабіць сёння. |
| | Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра. |
| **Адростак**. | Які куст, такі і адростак. |
| **Ажаніцца**. | Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся. |
| **Ажаніць**. | Без мяне мяне жанілі (ажанілі) <мяне дома не было>. |
| **Азярод**. | Я яму пра плот, а ён пра азярод. |
| **Айчым**. | Лепей кепскі родны бацька, чым добры айчым. |
| | У айчыма чэрці пад вачыма. |
| **Аконца**. | Загляне сонца <і> у наша аконца. |
| **Акружэнне**. | Караля робіць акружэнне. |
| **Аладка**. | Дзе каша ды аладка, там і грамадка. |
| | Каму што, а Базылю аладкі. |
| **Андрэй**. | Андрэй за ўсіх мудрэй. |

**Апетыт**. Апетыт прыходзіць у час (у часе) яды.

**Апошні**. <Добра> смяецца той, хто смяецца апошні.
Не ён першы, не ён апошні.
Не мы першыя, не мы апошнія.
Не ты першы, не ты апошні.
Не я першы, не я апошні.

**Араты.** На сем прыганятых адзін араты.

**Араць.** Як ні ары, абы чорным дагары.

**Арганіст**. Я не музыкант (не арганіст), не перабіраю.

**Арол**. Арлу з савой не па дарозе.
Лепей мець вераб’я ў руцэ, чым арла на суку.
Над пешым арлом і варона з калом.

**Арэх**. Не раскусіш арэх, зерня не з’ясі.
Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.
Чалавек не арэх, адразу не раскусіш.

**Аставацца.** Наперад не вырывайся і ззаду не аставайся.

**Астрог.** Ад астрогу няма перасцярогу.

**Асцярожна**. Усё можна, толькі асцярожна.

**Аўца**. <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка (аўца) увесь статак (гурт, усю чараду) псуе (сапсуе).
Маладзец супраць (супроць, сярод) авец, а супраць (супроць) малайца – сам аўца.

**Аўчына**. Аўчына вырабу не варта.

**Ахвота**. Ахвота горш за няволю.

**Ашуканства**. Ашуканствам можна свет прайсці, але назад не вернешся.

**Баба**. Баба з воза – каню (кабыле) лягчэй.
Баба з калёс – калёсам лягчэй.
Баба і чорта звядзе.
Дай жонцы (бабе) волю – завядзе ў няволю.
Дурной бабе і галава мяшае.
Жонка (баба) у хаце тры вуглы трымае, а мужчына (мужык) адзін.
Каню хваста не вяжы, а бабе праўды не кажы.
Карову б’юць за зык, а бабу за язык.
Курыца не птушка, а баба не чалавек.
Не мела баба клопату, <дык> купіла парася.
Ні села, ні пала, дай, баба, сала.
Ні села, ні пала, захацела баба сала.
Старой бабе і ўлетку на печы холадна.

| | |
|---|---|
| | У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая). |
| | У старой бабы і на печы ўхабы. |
| | Чакай, баба, Пятра – будзеш сыр есці. |
| **Бабёр**. | Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра. |
| | Усе бабры дабры, адна выдра ліхая. |
| | Хто заб'е бабра, не будзе мець дабра. |
| **Бабка.** | Старой бабцы хораша і ў шапцы. |
| **Багаты**. | Багатаму і чорт у кашу дбае. |
| | Багатаму чорт дзяцей калыша. |
| | Багатаму шкада (шкода) карабля, а беднаму – кашаля. |
| | Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца. |
| | З багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца. |
| | З дужым не дужайся, з багатым не судзіся. |
| | Не плаціць багаты, а вінаваты. |
| | Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца. |
| | Пакуль (покуль) з багатага пух, то (дык) з беднага дух. |
| | Хоць крывое ды гарбатае, абы слаўнае ды багатае. |
| | Чым багаты, тым і рады. |
| | Як багаты пamрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок – толькі поп ды дзячок. |
| | Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны худачок – толькі попік ды дзячок. |
| **Багацце**. | За багацце розуму не купіш. |
| | Не шукай багацця, а шукай розум. |
| **Балесць.** | Няма горшай балесці, як хочацца есці. |
| **Балота**. | Было б балота, а чэрці знойдуцца. |
| | Каму што, а чорту балота. |
| | У ціхім балоце чэрці водзяцца (вядуцца). |
| **Баль.** | Закончан баль – і дудкі ў торбу. |
| **Барада**. | Вусы – чэсць, а барада і ў казла ёсць. |
| **Баран**. | І баран бы касіў, каб хто касу насіў. |
| **Барыс.** | Прыйшоў Барыс – за саху бярысь. |
| **Баўтун**. | З твару яйка (яйцо), а ўсярэдзіне баўтун. |
| **Бацька**. | Бацькоў не выбіраюць. |
| | Гуртам і бацьку добра біць. |
| | Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду. |
| | Кожны плача па сваім бацьку, як умее. |

Лепей кепскі родны бацька, чым добры айчым.
Мой бацька нікому не вінен: у аднаго пазычыць, другому аддасць.
Не купіў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць.
Палегчала (палепшала) бацьку к смерці.
<Урадзіўся, удаўся> ні ў бацьку, ні ў маці, а ў краўца, што спаў у хаце.
Хто як хоча, так па свайму бацьку плача.
Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын.
Якое дрэва, такі <і> клін, які бацька, такі <і> сын.

**Баязлівец.** Баязліўцу і заяц – воўк.

**Беднасць**. Беднасць не загана.

**Бедны**. Беднаму (няшчаснаму) Івану няма нідзе талану.
Калі беднаму жаніцца, <то і> ноч кароткая.

**Беларусь.** На Беларусі пчолы як гусі.
На Беларусі ўсе Марусі.

**Бервяно**. Бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.
У чужым воку саломку (саломінку) бачым, а ў сваім <і> бервяна не заўважаем.

**Бізун.** Даносчыку першы бізун.

**Благое.** Лепей нічога, чым благога.
Не рабі благога і не бойся нікога.

**Блін**. Блін не блін, пуза не расколе.
Першы блін выйшаў камяком.

**Бліннічак.** Адзін сын у сям’і – бліннічак, смятаннік.

**Блыха.** З-за блох не кінеш кажуха.

**Боб**. Хто ў боб, <а> хто ў гарох <а хто (ты) у сачыўку>.

**Бог**. Бадлівай карове бог рог не дае.
Без бога ні да парога.
Беражонага <і> бог беражэ.
Бога хвалі і чорта не гняві.
Бог даў, бог і ўзяў.
Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш.
Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей.
Бог не без літасці, казак не без шчасця.
Бог не выдасць (не дасць, не папусціць, не прадасць), свіння не з’есць.
Бог не роўна дзеліць.
Бог не слухае, што свіння рухае.

Бог не цяля, бачыць (пазнае) круцяля.
Бог плануе, а чорт руйнуе.
Бог сіротак любіць, але долі не дае.
Бог то бог, але і сам не будзь жох.
Бог тройцу любіць.
Бог цярпеў і нам вялеў.
Бог чэсных любіць, ды долі не дае.
Бог шэльму меціць.
Ведаў бог, каму не даў рог.
Госць у хаце, бог у хаце.
Да бога высока, да цара (да пана) далёка.
Дай бог адным кавалкам (куском) удавіцца (папярхнуцца).
Дай божа (бог) нашаму цяляці ваўка (воўка) спаймаці (з'есці).
Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай божа.
Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.
Дасць бог дзень, дасць і полудзень (хлеб, ежу, пажытак).
Даў бог цяля, ды не даў хлява.
Зляпіў бог душу – ні ў пень, ні ў грушу.
<І> бога хвалі і чорта не гняві.
Казаў бог, каб і ты памог.
Калі бог захоча пакараць каго, то адбярэ ў яго розум.
На бога спадзявайся, а (ды) сам не давайся (не агінайся, не зявай).
Над сіратою бог з калітою.
На каго бог, на таго і людзі.
На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.
На тое бог даў людзям язык, каб умець маўчаць.
Нашто богу маліцца, – ён нас і так баіцца.
Не дай бог два разы жаніцца і два разы сяліцца.
Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.
Не дай бог ўдаве чыніцца, а сіраце радзіцца.
Не святыя (не багі) гаршкі лепяць.
Не смейся, рабе, дасць бог і табе.
Пакуль да бога, дык (то, так) чорт душу выме.

Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.
П'янаму бог падсцілае падушку.
Сам не асамішся, калі бог не дасць.
Сцеражонага <і> бог сцеражэ.
У бога дзён многа.
Усе <мы> пад богам ходзім.
Уткні мяне, божа, куды мне не трэба.
Хто з богам, з тым і бог.
Хто матку забывае, таго бог карае.
Хто па ядзе (пад'еўшы) не аддыша, таго бог за свінню запіша.
Хто рана ўстае, таму <і> бог дае.
Хто сее, хто баранue, бог усіх параўнуе.
Чалавек мяркуе, а бог не чуе.
Чым чорт не жартуе, калі (пакуль) бог спіць.
<Што> дзень (дзянёк) пражыў, то і дзякуй богу.
Як (калі) трывога, тады (дык) да бога.

**Божа.** *Гл.* бог.

**Бойка.** Калі пайшоў у бойку, дык чуба не шкадуй.
Каму што, а пеўню бойка.
Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй.
Пасля бойкі кулакамі (рукамі) не махаюць.

**Бок.** Пакрышым буракі на абодва бакі.

**Болька.** Чужая болька (рана) не баліць.

**Бот.** Бот лапцю не пара.
На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.

**Бочка.** Бяздоннай бочкі (бяздонную кадушку) не напоўніш.
З пустой бочкі многа шуму.
Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка.

**Брат.** Брат любіць сястру багатую, а мужык (муж) жонку здаровую.
Брат мой, але хлеб еш свой.

**Брахня.** Брахня праўдзе вочы выдрала.

**Брацішка.** У карцішкі няма брацішкі.

**Брод.** Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не сунься ў воду.

**Бруд**. Не чапай гною (бруду), бо смярдзець будзе.

**Бруха.** Сытае бруха да навукі глуха.

**Брыгадзір.** Брыгадзір капейкі не варт, калі чарцы рад.

**Брытва.** Калі (як) топішся, дык (то) за брытву хопішся (ухопішся).
Хто топіцца, той за брытву хопіцца.

**Брэх.** Вялікага сабакі вялікі брэх.

**Бубен.** Славен бубен за гарамі.

**Бугай.** Воўк не з’еў, дык бугай не забадае.

**Буда.** Сядзі ў будзе ды чакай, што будзе.

**Булава**. І да булавы трэба галавы.

**Бура.** Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.

**Бурак.** Пакрышым буракі на абодва бакі.

**Бусел.** Няхай (хай) жыве <і пасецца> беларуская птушка бусел (бацян)!

**Бусенька**. Бусенькі, бусенькі – абое галюсенькі.

**Бутэлька.** Смерць у бутэльку не заткнеш.

**Бык.** Карова целіцца, а ў быка зад баліць.
На кірмашы і бык цельны.
Няхай (хай) той бык здохне, якога пабора карова.
Што дазволена Юпітэру, <тое> не дазволена быку.
Як быка ні кармі, малака не дасць.

**Быць.** Будзем жывы – не памром.
Дзе быў (хадзіў), там няма.
Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць.
Цішэй едзеш – далей будзеш.

**Бычок.** Быць бычку на вяровачцы (на лычку).
Чые бычкі ні былі б, абы нашы цяляткі.

**Бяда**. Ад бяды кіем не адаб’ешся (не абаронішся).
Ад бяды ўцёк, а ў гора трапіў.
Адна бяда не ідзе, другую за сабой вядзе.
Адна бяда – не бяда.
Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>.
Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе.
Бяда хоць мучыць, ды жыць вучыць.
Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару.
Калі воран каркае (крача) – бяда будзе.
Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.
Млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе.
На бяду мала трэба.
Не людзі выбіраюць бяду – бяда людзей выбірае.
Не шукай бяды, яна <сама> цябе знойдзе.

Ніхто не чуе, дзе бяда начуе.
Сваёй бяды нікому не кажы, бо добры злякнецца, а злы пасмяецца.
Свая бяда – не чужая.
Сем бед – адзін атвет.
Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш.
Хто пра бяду, а яна (ён) усё пра гавяду.
Чужую бяду рукамі (і пальцам) развяду.
Што ні мах, то усё бяда па зубах.

**Бядота.** Ад ляноты чакай бядоты.

**Бязлюддзе**. На бязлюддзі і поп чалавек.

**Бязрыб’е**. На бязрыб’і і рак рыба.

**Вада**. Апёкшыся малаком, ваду студзяць.
Апёкшыся на малацэ, дык і на халодную ваду дзьмуць будзеш.
Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш (дзьмухаеш).
Бяла не бяла, а ваду відала.
Вада не бяда.
Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.
Вясною вядро (кораб, цэбар) вады, а лыжка гразі, а восенню лыжка вады, а вядро (кораб, цэбар) гразі.
Грошы – вада.
Добры гаспадар не толькі ў жываце, а нават у ботах вады не любіць.
Зваранай рыбе вада не патрэбна.
З хараства вады не нап’ешся.
Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці.
Каля (ля) вады <ходзячы> намочышся.
Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве.
Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ, не бяжыць, не пабяжыць).
У ціхай вадзе чэрці водзяцца.
Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае.
Хто зявае, той ваду сярбае (хлябае).
Хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць?
Ціхая вада берагі мые.
Ціхая вада грэблю рве.

**Вадзіца**. Чым за морам віно піць, лепш (лепей) з Нёмана (у Нёмане) вадзіцу.
Кроў людская не вадзіца.

**Вазок**. На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).

**Вайна**. Быў на вайне, спагадай і па мне.
Вайна ўсё спіша.
Каму вайна, а каму военка.
На вайне як на вайне.
У голад <людзі> намруцца, а ў вайну налгуцца.

**Варвара.** Варвара ноч уварвала.
Цікаўнай Варвары <сабакі> нос адарвалі.

**Варона**. Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.
Варона з кала – сем на кол.
Варона з куста, а пяць на куст.
Куды вароне ні лятаць, дзярмо кляваць.
Кожная варона за сваё каркае.
Напалоханая варона і вераб’я баіцца.
Напрасткі <адна> варона лятае, затое (ды) <ніколі> дома не бывае.
Папаўся ў вароны, то крычы, як воны.
Пужаная варона <і> куста баіцца.
Убіўся ў вароны, каркай так, як і оны.
Цаляеш у варону, а пападаеш у карову.

**Вароты**. Ты з варот, а ён цераз плот.
Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш.

**Ваявода**. За ваяводам гожым усё зможам.

**Ваяка**. Ішоў ваякам, а назад ракам.

**Век**. Бывае на вяку, што і па спіне і па баку.
Век жыві, век будуйся.
Век жыві – век вучыся.
Век жыві – век вучыся, а дурнем памрэш.
Век звекаваць – усяго пазнаць.
Век зжыць – не мех сшыць.
Два вякі я жыць не збіраюся.
На вяку (жывучы) усяго нажывеш – і Кузьму татам назавеш.
На наш век дурняў хопіць.
Час мінеш – век жывеш.

**Векавуха**. Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.

**Вера**. Няма горшай халеры, як на адной падушцы дзве веры.

**Верабей**. Вераб'і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі.
Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца.
Лепш мець вераб'я ў руцэ, чым арла на суку.
На сваім сметніку і певень (верабей) гаспадар.
Слова не верабей, выпусціў – не зловіш.
Старога вераб'я на мякіне не зловіш (не падманеш, не правядзеш).
Увосень і верабей багаты.

**Верабейка**. Верабейка па зярнятку клюе – і сыты, а воўк авечак цягае – і галодны.

**Весці.** Добрыя весці, калі запрашаюць есці.

**Вецвейка.** Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла.

**Вецер**. Без ветру і дуб не шуміць.
Куды вецер, туды і дым.
Напроці ветру не падзьмеш.

**Відаць**. Блізка відаць, ды далёка дыбаць.
Збоку <заўсёды> лепш відно.
Хоць і відаць, але далёка дыбаць.

**Вінен.** Што вінен, аддаць павінен.

**Вінцо**. Дарагое не вінцо, а слаўцо.

**Вішня.** Вішня – зямля лішня.

**Воз**. Воз дадому возіць, а сані на базар.
Воз і цяпер (зараз, сёння) там.
На чыім возе (вазку, коніку) едзеш, таму і песню (песеньку, песенькі) спявай (пей, вядзі).
Што з воза ўпала, тое (то) прапала.

**Войт**. Не будзь ні войтам, ні панам – не будзеш чалавекам паганым.

**Вока**. Бачылі вочы, што бралі, дык ешце.
Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей.
Бачыць вока, ды зуб няйме.
Вочы – люстра душы.
Вочы не бачаць, душа не баліць.
Вочы па яблыку, <а> галава з арэх.
Вочы страшацца, а рукі зробяць.
Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?

Добрыя вочы дыму не баяцца.
З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон.
На адно вуха слепаваты, на адно вока глухаваты.
Не вер чужому слову, а вер свайму воку.
Недагледзіш вокам, заплаціш бокам.
Панскае вока каня тучыць (гадуе).
У разумнага вочы і на патыліцы сядзяць.
Хоць плюй у вочы, а ён кажа (скажа, будзе гаварыць), што дождж ідзе.
Хто глядзіць вокам, той не пойдзе бокам.
Хто старое ўспомніць (успамяне, памяне), таму вока вон.
Чалавека вочы водзяць.

**Вол**. Адзін з’еш хоць вала, <дык> адна хвала <а пакрысе, ды ўсе>.
Гутар, гутар, а валы ў жыта.
З аднаго вала дзвюх шкур не дзяруць.
Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).
Хоць за вала, абы дома не была.

**Волас**. Волас сівее, розум слабее.
Разумныя валасы пакінулі дурную галаву.

**Воля**. Вольнаму воля, <а> шалёнаму поле (уратаванаму рай).
Дай душы волю – завядзе ў няволю.
На ўсё воля божая.

**Воран**. Воран ворану вачэй не выклюе.
Калі воран каркае (крача) – бяда будзе.

**Восень**. Восень на рабым кані едзе.

**Воўк**. Адальюцца воўку авечыя слёзкі (слёзы).
Ваўка (воўка) ногі кормяць.
Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца – у лес не хадзіць.
Верабейка па зярнятку клюе – і сыты, а воўк авечак цягае – і галодны.
Воўк і лічанае бярэ.
Воўк казе не таварыш.
Воўк каля (паблізу) свайго логава не бярэ (не шкодзіць).
Воўк ліняе, ды нораву не мяняе.
Воўк не з’еў, дык бугай не забадае.
Воўк не пастух, казёл не агароднік.

Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.
Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл.
Ёсць на ваўку кажух, ды прышыты.
З ваўкамі жыць – па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць.
І воўк сыты і козы цэлы(-я).
Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён ў лес глядзіць (паглядае).
На воўка памоўка, а мядзведзь цішком.
Насіў воўк, панеслі і ваўка.
Не за тое воўка б’юць, што шэры, а за тое, што авечку з’еў.
Нечым ваўку спаражняцца, дык ён лыкам(-і).
Ні калёс, ні атос, а воўк кабылу панёс.
Няма лесу без ваўка.
Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>.
Пра воўка (аб воўку) памоўка, а ён <і сам> тут.
Работа (праца, справа) не воўк, у лес не ўцячэ (не збяжыць, не пабяжыць).
Цягаў (цягнуў) воўк, пацягнулі і воўка.
Як ваўка ні кармі, а яго ў лес цягне.

**Воўна**. Воўна не воўна, абы кішка поўна.
Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны (пастрыжаны, астрыжаны).

**Вочка**. Бачна па вочках, што ходзіць па ночках.

**Вош**. За гладкага (сытага) і вош не зачэпіцца.
Купіць – як вош забіць, а прадаць – як скочку спаймаць.

**Вугал**. Дома і вуглы (сцены) памагаюць.

**Вугол.** Заракалася свіння за вугол хадзіць.

**Вус**. Служыў да вуса, služы і да барады.

**Вусы**. Вусы – чэсць, а барада і ў казла ёсць.

**Вуха**. На адно вуха слепаваты, на адно вока глухаваты.
Хто мае вушы, пачуе.

**Вучоны**. Не вучы вучонага.

**Вучыцца.** Вучыцца ніколі не позна.

**Выдумка.** Голь на выдумку вострая.

**Вырадак**. Сям’я не без вырадка.
У сям’і не без вырадка.

**Вырай.** Высока ляціць вырай – высокі вырасце і авёс.

**Вырывацца.** Наперад не вырывайся і ззаду не аставайся.

**Высока.** Высока лятаеш, але нізка сядзеш.

**Вялікі.** Вялікае бачыцца на адлегласці.
За вялікім пагонішся – і малое згубіш.
Пакуль вялікі нагнецца, малы нап’ецца.

**Вярба**. На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.
Скрыпучая вярба два вякі жыве.

**Вяровачка**. Колькі вяровачку ні віць, а канцу быць (канец будзе).
Колькі вяровачку ні віць, канец будзе.
Як вяровачцы ні віцца, а канцу паявіцца.

**Вяроўка**. Вяроўка добра доўгая, а размова кароткая.
Доўг не вяроўка, ззаду не цягнецца.
Захочаш павесіцца, то знойдзеш вяроўку.
Прапала кароўка, прападай (няхай прападае) <і> вяроўка.
У доме павешанага не гавораць пра вяроўку.

**Вяселле**. Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле.
Цешся, ліска, вяселле блізка – каўбасы з’ясі.
Шлюб <быў> пад плотам, а вяселле потым.

**Гаварыць.** Меней гавары, болей пачуеш.

**Гад**. Няма гаду без яду.
Усякі (кожны) гад чужому грошу рад.

**Гадзюка**. У гадзюкі няма іншай навукі, як кусаць.

**Гадка.** Гадка (гідка) з’есці і шкада кінуць.

**Гадок**. Што гадок, то і ядок (сынок).

**Галава**. Адна галава добра, а дзве <яшчэ> лепш (лепей).
Быў бы папом, ды галава кляпом.
Вышэй галавы не падскочыш.
Галавою (ілбом) сцяны (сцяну, муру, мур) не праб’еш.
Гаманіць галава не баліць.
За дурной галавой нагам неспакой (небалазе).
Зняўшы галаву, па валасах не плачуць.
З паклону (з паклонаў) галава (галоўка) не баліць.
Пакаянную галаву не сякуць.
Разумная галава, ды дурню дасталася.
Разумныя валасы пакінулі дурную галаву.
Сам худ, а галава з пуд.
Хлеб усяму галава.

Што <ні> галава, то <і> розум.
Што ў цвярозага ў галаве (на розуме),
то (тое) у п’янага на языку.

**Галавешка**. Адна галавешка і ў печы не гарыць,
а дзве і ў полі не гаснуць.
Адна галавешка і ў печы не тлее (не гарыць).

**Галодны**. Галоднаму не спіцца, калі хлеб сніцца.
Галодны і каня з капытамі з’есць.

**Ганчар**. Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапку <есці> варыць.

**Гара**. Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды.
Гара нарадзіла (радзіла) мыш.
Калі гара не ідзе да Магамета,
то Магамет ідзе да гары.
Ты на гару, а чорт за нагу.
Чалавек на гару, а чорт за нагу.
Як чалавек на гару, дык чорт за нагу.

**Гарачка**. З выбірачкі выбераш гарачку, а калі з раду, то нуду.

**Гармата.** Калі гавораць гарматы, музы маўчаць.

**Гарох.** Жывём (жыву) як <той> гарох пры дарозе –
хто ідзе, той і скубе.

**Гаршчок**. Называй хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй.
Пасмяяўся гаршчок з катла.
Стары гаршчок як ні аплятай <дротам>, толку мала (пацячэ).
Хоць гаршком заві (называй), адно (толькі, а)
у печ не стаўляй (не стаў).

**Гарэза.** Наша гарэза ўсюды пралезе.

**Гарэлка**. Вада не гарэлка – шмат не вып’еш.
Воцат не гарэлка, а кума не жонка.
Гарэлка да дабра не давядзе.
Горкая гарэлка (гарэлачка), але п’юць,
дрэнна замужам, але ідуць.

**Гаспадар**. Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата.
Без гаспадара дом сірата.
Гаспадар за гарэлку, а гаспадыня за талерку.
Госцю трэба дараваць, а гаспадару памаўчаць.
Добры гаспадар і сабаку з двара (з хаты)
не выганіць у такую нягоду
(у такое надвор’е, у такі дзень).

З добрым гаспадаром нажывешся,
з дрэнным гора набярэшся.
Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ,
а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.
Калі хата без гаспадыні – вуглы гараць,
а без мужыка (гаспадара) – увесь дом.
Той не гаспадар, у каго вецер у павеці гуляе.
Хто добры пастух, той і гаспадар добры.
Хто рыбу вудзіць, той гаспадаром не будзець.
Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.
Якія сані, такі і гаспадар.

**Гаспадарка**. Гаспадарка – клапатарка.
Гаспадарку весці – не лапці плесці.

**Гаспадыня**. Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні хата.
Гаспадар за гарэлку, а гаспадыня за талерку.
Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ,
а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.
Калі хата без гаспадыні – вуглы гараць,
а без мужыка (гаспадара) – увесь дом.
Муж носіць мяшком, а гаспадыня – гаршком.
Усякая будзе гаспадыня, калі <мукі>
поўная скрыня.
Як мукі скрыня, дык і свінне гаспадыня.

**Гасподзь**. Гасподзь не без міласці, а казак не без долі.

**Гаўрыла**. Не адзін Гаўрыла <што> у Полацку.
Ці памёр Гаўрыла, ці яго скула задавіла.

**Гірша**. Не будзе Гірша(-ы), <дык> будзе чорт іншы.

**Глухі**. Глухім два разы ў касцёле не звоняць.

**Гніляк.** У цёмным месцы і гніляк свеціцца.

**Гной**. Дзе гной, там і лой.
За пчолкаю – у мёд, за жуком – у гной.
Не чапай гною (бруду), бо смярдзець будзе.

**Гняздо**. Для ўсякай птушачкі сваё гняздо мілае.
Кожнаму дразду па свайму гнязду.
Хто гняздо ўе, у таго і ўецца.
Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

**Год**. Абяцанага тры гады чакаюць.
Год на год не прыходзіцца (не выпадае).
Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было.

Сем гадоў нявестка жыла, а не ведала,
што сучка свёкрава без хваста.
Сем гадоў нявестка жыла замужам і не ведала,
што ў свёкра сучка без хваста.
Што <ні> год, то ўдод.

**Голад**. Голад не цётка.
Еш з голаду, <а> любі змоладу.
Хто гуляе змоладу, той памрэ з голаду.

**Голы.** Голаму разбой не страшан (не страшны).
Голаму сабрацца – толькі падпеdo разацца.
Голы збірайся, голы гатоў.
Голы разбою не баіцца.
З міру па нітцы – голаму сарочка (кашуля).
На голага <і> сабакі брэшуць.
Як гол, так і васцёр.

**Голь.** Голь на выдумку вострая.

**Гонта**. Злазь з даху <і> не псуй гонту (гонты, гонтаў).

**Гоп**. Калі не пераскочыў, не кажы гоп.
Не кажы гоп, не пераскочыўшы.
Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў
(не пераскочыш).
Не пераскочыў, не кажы гоп.

**Гора**. Абы ўмеў (умела) танчыць, а гараваць
(рабіць работку) гора наўчыць.
Ад бяды ўцёк, а ў гора трапіў.
Гора маё чубатае: ніхто мяне не сватае.
Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.
Гора табе, воле, калі цябе карова коле.
Гора толькі рака (ракаў) красіць.
Еду ціха – са мной ліха, еду скора – са мной гора.
З гора і курыца заспявае.
З добраю жонкаю гора – паўгора, а радасць
удвайне.
На чужым горы шчасця не пабудуеш.
Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш.

**Горача.** І адтуль горача, і адсюль боляча.

**Горб**. Свайго гарба ніхто не бачыць.

**Горка.** Укаталі сіўку крутыя горкі.

**Горніца.** Наша горніца з богам не спорніца.

**Горшы.** Хоць горшае, абы іншае.

**Госцейка**. Пара, госцейкі, дадому, бо паелі конікі салому.

**Госць**. Будзьце як дома, але і не забывайце, што ў гасцях.
Гасцям гадзі, але і сябе не галадзі.
Госці ў хату – свінні рады.
Госць мала гасцюе, ды багата бачыць.
Госць на парог – гаспадыня за пірог.
Госць на парог – радасць у хату.
Госць не костка, за вароты не выкінеш.
Госць – нявольнік.
Госць у дом, бог у дом.
Госць як нявольнік: ляжа, хоць і ў пярыну паложаць.
Госцю гадзі, ды і сябе глядзі.
Госцю двойчы рады: калі ён прыязджае і калі ён ад’язджае.
Госцю трэба даравацт, а гаспадару памаўчаць.
Дзе госць, там і бог ёсць.
І кот не мыўся, і госць з’явіўся.
Не бойся госця, які сядзіць, а бойся таго, што стаіць.
Няпрошаны (незапрошаны, нязваны) госць горш за татарына.
Першы дзень госць – золата, другі – срэбра, трэці – медзь, дадому (дахаты) едзь.
У гасцях добра, а дома лепей (лепш).
Які госць, такое і частаванне.

**Граза**. Граза ў лес не ідзе.

**Гразь**. Сей у гразь – будзеш князь.

**Грак**. Гракі цяпла не прыносяць.

**Грамніцы**. Грамніцы – палавіна зіміцы.
На Грамніцы нап’ецца певень вадзіцы.
Як на Грамніцы адліга – з ураджаю будзе фіга.
Як на Грамніцы нап’ецца певень вадзіцы, дык на Юр’я наесца вол травіцы.

**Гром**. З вялікага грому <часамі, заўсёды> малы дождж <бывае>.
<Пакуль> гром не грымне (не загрыміць), мужык не перахрысціцца.
Чуў, кум, сонца, бачыў гром?

**Грош**. <І> мой грош таксама не шчарбаты.
На грош упіўся, на тры прытварыўся.
Не было ні граша, а раптам алтын.
П’яны грош шалёны.

**Грошы**. Веру Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню.
Грошы – вада.
Грошы не пахнуць.
Дзе грошы гавораць, там праўда маўчыць.
Еш селядца з галавою, за ўсё грошы плачаны.
За грошы шчасця не купіш.
За пастой грошы не плацяць.
Калі маеш грошы, то не будзеш босы.
Лепш біць свае вошы, чым лічыць чужыя грошы.
У каго грошы, у таго і розум.
У пустым шынку без грошай не вельмі разгуляешся.
Хто мае грошы, той і харошы.
Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.
Час – гэта грошы.

**Груган.** Груган існае груганy вока (вачэй) не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе).

**Грузд.** Назваўся груздом – лезь у кош (кошык).

**Грыб**. І да грыба трэба нагнуцца.
Калі добры кусок сала, дык і грыб навара.
У грыбы хадзіць і то лепш са шчасцем.

**Грыва**. Кось-кось, пакуль за грыву.
Хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не паможа.

**Грышка**. Цярпі, Грышка, карчма блізка.
Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.

**Грэбень.** Каму што, а лысаму грэбень.

**Грэх**. Ад бога грэх і ад людзей смех.
Грэх не схаваеш у мех.
Грэх у мех, грашаняты ў торбу.
<І> рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.
Рада б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

**Гуж**. Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж.
Узяўся за гуж, <дык> не кажы, што не дуж.
Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.

**Гузік**. На чужы рот гузіка не нашыеш.

**Гук**. Забілі зайца не забілі, а гуку (шуму) многа нарабілі.
Малы жук, ды вялікі гук.

**Гукнуць**. Як гукнеш, так і адгукнецца.

**Гульня**. Гульня не вартая свечак.

**Гультай**. Гультай за дзела – мазоль за цела.
Гультай за работу – мазоль за руку (мазалі за рукі).
Гультаю – хлеб на кію.

**Гуляка**. З музыкі хлеб невялікі, а з гулякі – зусім ніякі.

**Гумар.** Пад гумар жартуюць, а ў злосці катуюць.

**Гумно**. Калі на гумне не малоціцца, тады ў хаце калоцяцца.
Пакуль <у (на) гумне> цэп, патуль (датуль) <на стале> хлеб.

**Густа.** Каму густа, а каму пуста.

**Гусь**. Гусі нізка – зіма блізка.
Гусь свінні не таварыш.

**Дабро**. Ад дабра дабра не шукаюць.
Калі заб'еш бабра, то не будзе табе дабра.
У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.
Хто заб'е бабра, не будзе мець дабра.
Чужое дабро не грэе.

**Даваць.** Даюць – бяры, б'юць – уцякай.
Лепш даваць, чым прымаць.

**Даганяць.** Даганяючы не нацалавацца.

**Дамова.** Кепская (бедная) тая дамова, дзе вала бадзе карова.

**Даносчык.** Даносчыку першы бізун.

**Дарога**. Бабіна (бабе, у бабы) дарога – ад печы да парога.
Божыя дарогі неспазнаныя.
Да роднай хаты няма далёкай дарогі.
Добрымі намерамі выслана (вымашчана) дарога ў пекла.
Крывая дарога з простай смяецца.
На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не расце.
Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.
Не конь вязе, а дарога.
Па (на) крывой дарозе наперадзе (наперад) не відаць.
<Ці> ты кпіш, ці дарогу(-і) пытаеш (напытваеш)?

**Дачка**. Дачка ў пары – не трымай у двары.
Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку.
Хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дачку.
Хто мае дочкі, той ходзіць без сарочкі.
Маеш дачку – трымай гарэлку ў глячку.
Якая клёпка, такая бочка, якая маці, такая дочка.

**Дбаць.** Як дбаеш, так і маеш.
**Двое.** Калі двое б’юцца, трэцяму карысць.
**Дзед**. Дзед бабцы купіў лапці, былі малыя – абсек пальцы.
**Дзела**. Дзела дзельніка (справа майстра) баіцца.
Дурное дзела няхітрае.
Скончыў (кончыў) дзела – гуляй смела.
**Дзень**. Вясенні (вясновы) дзень год корміць.
Дзень з алеем, а два (тыдзень) <так> галеем.
Дзень мала, а два многа.
Добры дзень пазнаецца з раніцы.
Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень.
Летам дзень мокне, а гадзіну сохне, восенню ж гадзіну мокне, а дзень сохне.
Летні дзень год корміць.
Не хвалі дзень з раніцы, а жонку змоладу.
Не хвалі дзень зранку, дзіця – змалку.
Хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам.
**Дзетка**. Дзетак узгадаваць – не грыбоў назбіраць.
Дзеткі падраслі, хатку растраслі.
Малыя дзеткі – малыя бедкі <падрастуць дзеткі – падрастуць і бедкі>.
Сам сіў, сіў, а дзеткі ціў, ціў.
Усё: спіткі-з’едкі – выбачайце, дзеткі!
**Дзеўка**. Была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася.
Дзеўка не конь, вупраж не накінеш.
Заручылі дзеўку проціў (супраць, супроць) панядзелку.
З добрага цеста добрая паляніца,
а з добрай дзеўкі добрая маладзіца.
Не выбірай дзеўку ў карагодзе, а ў агародзе.
Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы.
Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі.
Тады дзеўка схамянулася, як у пузе страпянулася.
**Дзёгаць**. Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.
**Дзірка.** Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце.
**Дзіця**. Адно дзіця – не дзіця, двое дзяцей – паўдзіцяці, трое дзяцей – гэта дзіця.
Адно дзіця – няма дзяцей, двое дзяцей – што адно, а трое – сям’я.
Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці.

Гадуй, мядзведзь, дзеці, каб было за кім сядзеці.

Дзе нянек многа, там дзіця бязнога (мурзатае).

Дзіця не плача, матка (маці) не дагадаецца.

Дзяцей радзіць – не грошы лічыць.

Кожнаму сваё (роднае) дзіця міла.

Малыя дзеці – малы клопат <большыя дзеці – большы клопат>.

Малыя дзеці топчуць бацькам ногі, вялікія – сэрца.

Не хвалі дзень зранку, дзіця – змалку.

Пакуль дзіця не заплача, маці не дагадаецца.

У сямі нянек дзіця без носа (без вока).

Чым бы дзіця ні цешылася, абы (толькі б) не плакала.

**Дзядуля**. Не вучы дзядулю кашляць.

**Дзяды**. Дзяды не зналі бяды, а ўнукі набраліся мукі.

Каб яды, як на дзяды, а рабіць (працаваць, работы), як у нядзельку.

Не заўсягды, як на дзяды.

**Дзяк**. Дзяк не поп, бярэ і боб.

**Дзякуй.** Дзякуй на хлеб не намажаш.

**Дзянёк.** Пойдзеш нацянькі – праходзіш тры дзянькі.

**Дзяўчына**. Усе дзяўчаты добрыя, а адкуль жа бяруцца дрэнныя жонкі?

Хвалі дзень вечарам, а дзяўчыну замужам.

**Дзяцел**. Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос.

**Добра.** Не тое добра (дабро, хараша), што добра (дабро, хараша), але тое, што каму падабаецца.

Там добра, дзе нас няма.

**Добры.** Добрае далёка чуваць.

Добрае далёка чуваць, а дрэннае яшчэ далей.

**Дождж**. Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць.

Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе косяць, не там, дзе ждуць, а там, дзе жнуць.

Калі ў студзені дажджы – дабра не жджы.

**Дожджык**. Альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо не.

**Доктар**. Ад смерці доктара няма.

Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца.

Поп (ксёндз) і доктар і ў лесе з голаду не памруць.

Такія дактары вымуць душу без пары.

**Доля**.
Доля як стадоля, а шчасце як заезджая карчма.
Няма горшай долі, як жыць у няволі.
Ты ў свет, і доля ўслед.
У каго сем – тым і доля ўсем, а ў каго адно – і тое не ладно.

**Дом**.
Дзякуй гэтаму дому, пайшлі к другому.
Мой дом – мая крэпасць.
Мый ды чашы, потым спяшы, заплаці каму, каб вывез з даму.
У сваёй хаце (сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.

**Досвітак**.
У лістападзе досвітак з прыцемкам сярод дня сустракаецца.

**Доўг.**
Доўг не вяроўка, ззаду не цягнецца.
Доўг не вяроўка, не парвецца.

**Дошка.**
Пакуль жывеш – усяго трэба, а як памрэш – чатыры дошкі і зямлі трошкі.

**Драсён**.
Пайшоў (зарадзіў) драсён – не будзе (не жджы) красён.

**Дровы**.
Далей у лес – болей дроў.
Чым далей у лес, тым болей (больш) дроў.

**Дрозд.**
Кожнаму дразду па свайму гнязду.
Што дразду па чужому гнязду?

**Друг**.
Для мілага друга і завушнічка з вуха.
Не той друг, што мёдам мажа, а той, што праўду ў вочы кажа.
Скажы <мне>, хто твае сябры (твой сябра, твой друг), <і> я скажу, хто ты.
Стары друг лепш (лепей) за новых двух.

**Другі**.
Аднаму льецца, а другому нават не капае.
Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>.
<І> сам не гам і другому не дам.
Пашлі дурнога, а за ім другога.
Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.
Так на свеце вядзецца: адзін плача, другі смяецца.

**Дружба**.
Дружба дружбай, а служба службай.
Дружба, дружба – цяжкая твая служба.
Дружба (прыяцель) пазнаецца ў няшчасці.
Не ў службу, а ў дружбу.

**Дрэва**. Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю.
Крывое дрэва ў сук расце.
Крывое (-ога) дрэва не выпраміш (не выправіш).
На пахілую вярбу (на пахілае дрэва) козы скачуць.
Скрыпучае дрэва жывучае.
Скрыпучае (скрыплівае) дрэва доўга скрыпіць (стаіць).

**Дрэнна.** Лепш дрэнна ехаць, чым добра ісці.

**Дуб.** Бадалася цялё з дубам.

**Дубец.** Хто на малога дубца шкадуе, той на сябе пятлю гатуе.

**Дуга**. <Калі> улез у дугу, дык не кажы <што> не магу.

**Дудка.** Будзе табе дудка, будзе і свісток.
Не пад тую дудку пчолка скача, што чмель ладзіць.

**Дума.** Дум не скуеш ланцугамі.

**Думаць.** Думай звечара, а рабі зрання.

**Думка.** Думкі за гарамі, а смерць за плячамі.

**Дурань**. Адзін дурань можа задаць (задасць) столькі пытанняў, што дзесяць (сем) разумных не адкажуць.
Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня – з усіх чатырох бакоў.
Вырас пад неба, а дурань як трэба.
Вялік пень, ды дурань.
Дурань дае, разумны бярэ.
Дурань дурнем і вушы халодныя.
Дурань не той, што спатыкаецца, а той, хто на тым жа месцы двойчы робіць гэта.
Дурань чырвонаму (з чырвонага) рад.
Дурню (дурному, дурням) закон не пісан.
Дурня і ў царкве б’юць.
Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца.
Еш, дурань, бо то з макам.
Жаніся, каб дурні не звяліся.
Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб’е.
Застаў дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб’е.
Знайшоў дурань чарапок і смяецца.
Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць.
Лепш (лепей) з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.
Не дурань, хто маўчыць.

Пашлі дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е.
Пашлі дурня па быка, дык ён цялушку прывядзе.
П'яніца праспіцца, а дурань ніколі.
Разумная галава, ды дурню дасталася.
Чужы дурань – смех, свой дурань – сорам.

**Дурны.** Няхай лепш разумны паганіць, чым дурны пахваліць.
Што дурны папсуе, то і разумны не выправіць.

**Дух**. Воўчы дух (воўчае насенне) да лесу цягне.
У здаровым целе – здаровы дух.

**Душа**. Вочы не бачаць, душа не баліць.
Дай душы волю – завядзе ў няволю.
Душа <чалавека> не кажух, не вывернеш.
Мая душа не крывая, усё прымае.
Хацела б душа ў рай, ды грахі не пускаюць.
Чужая душа – пацёмкі.
Як не ела душа часнаку, пахнуць не будзе.

**Есці.** Як я ем, дык глух і нем.

**Жаба**. Каня куюць, а жаба ногі падстаўляе.
Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць.

**Жабрак**. Жабрак жабраку відзён па кійку.

**Жаваранак**. Жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка з лістом.

**Жалеза**. Куй жалеза, пакуль гарачае.
Куй жалеза, пакуль не астыла.

**Жаніцца**. Не кайся, рана ўстаўшы (падняўшыся) і рана жаніўшыся.
Пакуль жаніцца – загаіцца.

**Жаніць**. Без мяне мяне жанілі (ажанілі) <мяне дома не было>.

**Жарт**. У кожным (любым) жарце ёсць доля праўды.

**Жбан**. Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца – збан паб'ецца>.

**Жолаб.** Не жолаб да каня, <а> конь да жолаба ідзе.

**Жонка**. Воцат не гарэлка, а кума не жонка.
Выбірай жонку не на ігрышчы, а на іржышчы.
Дай жонцы (бабе) волю – завядзе ў няволю.
Жонка (баба) у хаце тры вуглы трымае, а мужчына (мужык) адзін.
Жонка не лапаць, з нагі не скінеш.
Жонка не рукаў (не рукаво), не адпораш.

Купляй кабылу гарбатую, а жонку бяры лупатую, дык ніхто не звядзе.
Муж баіць пра паходы, жонка – пра расходы.
Муж (гаспадар) і жонка – найлепшая сполка.
Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.
Першая жонка ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта.
Усе дзяўчаты добрыя, а адкуль жа бяруцца дрэнныя жонкі?
Чужая жонка мёдам мазана, а свая смалой.
Чужы хлеб – гасцінец, а чужая жонка – прыгажуня.
Шукай жонку ў гародзе, а не ў карагодзе.
Які <чорт> Хомка, такая яго жонка.

**Жуда**. Жуда бядзе не помач.

**Жук**. На чужой старане і жук мяса <і старая баба – маладзіца>.

**Журавель**. Панадзіўся журавель у зялёны канапель.

**Жучок**. Папаўся жучку ў панскую ручку.

**Жывот**. Абедаў, а жывот не ведаў.

**Жывы**. Будзем жывы – не памром.
Жывому (жывым) наўме жывое.
Жывы (жывым) у зямлю (у магілу, у ямку) не палезеш (не ляжаш).
Жывы пра жывое <і> думае.

**Жыла.** Піце, жылы, пакуль жывы, бо як памрэш, дык калом не ўваб'еш.

**Жыта**. За маё жыта ды мяне і пабіта.
Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.
Не зважай (не ўважай) на ўраджай, а жыта сей.
Паміраць збірайся (збіраешся), а жыта сей.
У прочкі выбірайся, а жыта сей.

**Жыццё**. Жыццё закон нязломны мае: ніколі праўда не ўмірае.
Жыццё пражыць – не лапці сплесці.
Жыццё пражыць – не поле перайсці.
Жыццё што макаў цвет: раніцою расцвітае, а к вечару ападае.

**Жыць**. Хочаш жыць – умей круціцца.

**Завушніца**. Кожнай сястрыцы па завушніцы.

| | |
|---|---|
| **Зайчык**. | Ранні зайчык зубкі цярэбіць,<br>а позні вочкі прадзірае. |
| **Закон**. | Закон, што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла. |
| **Залатнік**. | Малы залатнік, ды дарагі. |
| **Залёты.** | Хіба чорт здумаў гэтыя залёты: ані ўночы сну,<br>ані ўдзень работы. |
| **Замок**. | На чужы рот (язык) замок не навесіш (не павесіш). |
| **Запас**. | Запас бяды не чыніць. |
| **Запрэгчы.** | Даўся запрэгчы, дасіся і паганяць. |
| **Заслуга**. | Якая заслуга, такая і пашана. |
| **Заяц**. | За двума зайцамі пагонішся, ніводнага<br>(ні аднаго) не зловіш.<br>Зайца ногі ратуюць. |
| **Збан**. | Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка<br>(вушка) адарвецца – збан паб’ецца>. |
| **Звадка**. | Няма той хаткі, дзе б (каб) не было звадкі. |
| **Звер**. | На лаўца і звер бяжыць.<br>Паранены звер страшны (яшчэ больш небяспечны). |
| **Зверху.** | Зверху міла, а ўсярэдзіне гніла. |
| **Згода**. | Згода будуе, а нязгода руйнуе.<br>У жыцці згода як у жніво пагода. |
| **Здавацца.** | Калі здаецца, дык трэба хрысціцца. |
| **Здароўе.** | Плюй на ўсё і шануй (беражы) <сваё> здароўе. |
| **Здрада.** | Дзе двое – там рада, дзе трое – там здрада.<br>Здраду прымаюць, а здрадніка вешаюць. |
| **Здраднік**. | Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх. |
| **Зерне.** | Зерне падае не на камень. |
| **Зіма**. | Зіма ліха, а без зімы яшчэ горш. |
| **Злодзей**. | Злодзей крадзе, а лес бачыць.<br>Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ.<br>Злодзею адна дарога, а хто шукае, таму многа.<br>На злодзеі шапка гарыць.<br>Не злавіў – не злодзей.<br>Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.<br>Не злавіўшы, не кажы, што злодзей.<br>Не злоўлены – не злодзей. |
| **Злы**. | Любіў добрае, палюбі ж і злое.<br>Няма таго злога, каб не выйшла на добрае. |
| **Злюбіцца.** | Сцерпіцца – злюбіцца. |
| **Змерзнуць.** | Лепш едучы змерзнуць, чым ідучы спацець. |

**Зміцер**. Хіцер Зміцер, але (ды) і Саўка не дурань (не дурны).

**Знайка**. Нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць.

**Знайсці.** Кінь за сабою, знойдзеш перад сабою.
Кінь наперад – знойдзеш ззаду.
Латва знойдзе, хто шукае.
Не шукаючы, не знойдзеш.

**Значыцца.** Калі значыцца, дык ацеліцца.

**Золата**. Золата за плячыма, а чорт перад вачыма.
Золата і ў смецці (у попеле) блішчыць.
Не ўсё тое золата, што блішчыць.

**Зорка.** Калі не знае, дык на зоры пазірае.

**Зося.** Цярпі, Зося, так прыйшлося.

**Зрабіць**. Лепш крыху зрабіць, чым багата нагаварыць.

**Зуб**. Бачыць вока, ды зуб няйме.
За чужой шчакой зуб не баліць.
Не воўчы зуб, дык лісіны хвост.
Смерць нікому ў зубы не глядзіць.

**Зязюля**. Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакукуе.
Тая зязюля, ды не так кукуе.

**Зямелька**. Родная зямелька як зморанаму пасцелька.

**Зямля**. Зямлю ўгноіш – хлеба падвоіш.
Зямля святая ўсіх прымае.
Такая зямля добрая: пасадзі аглоблю – калёсы вырастуць.
Усё забыта, што зямлёй зарыта.
Чуткамі зямля поўніцца.

**Зяць**. Зяць любіць узяць.
Зяць на парог – цешча за бутэльку (яешню).
Зяць на парог – цешча за яйцы.

**Іван**. Іван ківае на Пятра <а Пётр на Івана>.

**Іголка**. Куды іголка (іголачка), туды і нітка (нітачка).

**Іграць**. Ты іграеш, як сам знаеш, а я скачу, як сам хачу.

**Ілья**. Ілья ўкінуў лядня.
Прыйдзе Ілья – наробіць гнілля.

**Імя.** Абы сына прычакаць, а імя можна падшукаць.

**Індык**. Індык думаў, думаў (многа думаў) ды здох.

**Ісціна.** Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна.
Платон мне сябра, а ісціна даражэйшая.

**Кабан.** Увосень і кабан паросен.

**Кабыла**. <І> я не я і кабыла не мая.

Кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася.
Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).
Кожны (усякі) цыган сваю кабылу хваліць.
Купляй кабылу гарбатую, а жонку бяры лупатую, дык ніхто не звядзе.

**Кавалак.** Дай бог адным кавалкам (куском) удавіцца (папярхнуцца).

**Кавярзень.** Удзень кавярзень, увечары барышня.

**Кадушка**. Бяздоннай бочкі (бяздонную кадушку) не напоўніш.

**Кажух**. Ёсць на ваўку кажух, ды прышыты.
З-за блох не кінеш кажуха.
Чужы кажух цела не грэе.
Што кажух, то не вата, <а> што капуста, то не гарбата.

**Каза**. Дарма (задарма) і каза <ваўку> не скача.
І воўк сыты і козы цэлы (-я).
І козы сыты (-я) і сена цэлае.
Прыйшла каза да ваза, а скубсці няма чаго.

**Казак**. Дажыліся (дажылі) казакі (палякі), <што> ні хлеба, ні табакі.
Цярпі, казак, атаманам будзеш.

**Казаць.** Да цябе (да вас) не п’юць, не кажы здароў будзь.
Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў.
Не мне казаць, не табе слухаць.

**Калач**. Хочаш есці калачы, то не сядзі на пячы.

**Калёсы**. Бег сабака за калёсамі, мусіць бегчы і за санямі.
Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам.

**Калода.** Летам і гнілая калода варочаецца.

**Калодзеж**. Не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца.

**Каляда.** Не да каляды, калі поўная хата бяды.

**Калядкі**. Калядкі – добрыя святкі: пад’еў ды на палаткі.

**Камар**. На чужыне і камар загіне.
Яму раніцаю росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць.

**Камарна.** Калі камарна, то і хлебна.

**Камедыя**. Камедыя, хто не ведае, а хто і ведае, дык усё роўна камедыя.
Фініта ля камедыя.

**Каментарый**. Каментарыі лішнія (не патрэбны).

**Камень**. Зерне падае не на камень.
На адным месцы і камень <мохам> абрастае.

**Кампанія**. За кампанію <і> цыган павесіўся.

**Канец**. Канец – дзелу вянец.
У кія два канцы.
Усё на свеце мае <свой> канец.
Усяму на свеце ёсць канец.

**Канюшына.** Канюшына – каню сіла.

**Капейка**. Капейка рубель беражэ.
Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.

**Капітан**. Калі п’яны (як п’ян), дык капітан, а калі (як) праспіцца, дык свінні баіцца.

**Капрал**. Хто палку ўзяў, той і капрал.

**Кара.** Няма большай кары, чым кара свайго сумлення.

**Карабель**. Вялікаму караблю – вялікае <і> плаванне.

**Каравай**. На чужы каравай рота (рот) не разяўляй (не разявай).

**Караван.** Сабака брэша, а караван ідзе.

**Карова**. Адну карову мае і тую за хвост падымае.
Кепская (бедная) тая дамова, дзе вала бадзе карова.
Няхай (хай) той бык здохне, якога пабора карова.
Чыя б кароўка (карова) мычала, а твая (чыя) б маўчала (памаўчала).

**Кароль.** Караля робіць акружэнне.
Кароль жа голы.

**Карчма**. Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць.
Куды еду, туды еду, ды ўсё карчмы не міну.

**Карэнне**. Якое карэнне, такое і насенне.

**Каса**. Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса (касец) дамоў.
Найшла каса на камень.

**Каток**. Ведай каток свой куток.
Катку жарты – мышцы смерць.

**Каўбаса**. Ласы на чужыя прыпасы (каўбасы).

**Каханка**. У каханкі смаляныя лаўкі.

**Каханне**. Каханне і кашаль не схаваеш.

**Качарга**. Казала качарга гуляць да чацвярга.
У сваёй хаце і качарга маці.

**Каша**. Аржаная каша сама сябе хваліць.
Кашы (кашу) маслам не сапсуеш (не папсуеш).

Не пазналі сваіх нашы, бярозавай далі кашы.
Сам заварыў кашу, <дык> няхай сам і расхлёбвае.

**Кашаль**. Каханне і кашаль не схаваеш.
У каго кашаль, той і красен <і ў роце не суха, і ў хаце не глуха>.

**Кашка.** Маўчы, язычку, кашкі дам.
Смачная кашка, ды малая чашка.

**Кашуля**. Свая кашуля (сарочка, рубашка) бліжэй да цела.

**Каяцца.** Каюся, ды за тое ж хапаюся.

**Кветачка**. Гэта яшчэ (толькі, пакуль) кветачкі, а ягадкі наперадзе (уперадзе, яшчэ будуць).

**Кіеў**. У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька.
Язык да Кіева давядзе.

**Кій**. Захочаш сабаку выцяць (ударыць) – палку (кій) знойдзеш.
Не баішся ківа, пабаішся кія.
Не слухаеш ківа, дык паслухаешся кія.
У кія два канцы.

**Кінуць.** Далей кінеш – бліжэй возьмеш.

**Кіпцюрык**. Кіпцюрык ушчаміўся – усёй птушцы прападаць (гінуць).

**Кіраваць.** Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай.

**Кірмаш**. Каму кірмаш, а каму жыцця нямаш.
На кірмашы і бык цельны.
Хваляцца з кірмашу едучы.

**Кісель**. Шылам кісялю не схваціш (не схопіш).

**Кішка.** Воўна не воўна, абы кішка поўна.
Дай кішкам волю – праясі шчасце і долю.
Хай кішка лепш кішку прыцісне, чым страва скісне.

**Кішэнь**. Цаца-цаца, ды ў кішэнь.

**Клін**. Дзе ні кінь, дык клін.
Каб не клін ды не мох, дык (то і) цясляр (цесля, плотнік) бы падох (здох).
Клін выбіваецца клінам.
Клін клінам выбіваюць (выганяюць).
Куды ні кінь, усюды клін.

**Клубок**. Па нітачцы і клубок знойдзецца.

**Кожны**. Кожнаму сваё.

**Кол.** Адным калом плота не падапрэш.
Піце, жылы, пакуль жывы, бо як памрэш, дык калом не ўваб’еш.

**Кола**. Крывое кола на сябе гразь кідае.

**Колас.** Колас ад коласу – не пачуеш голасу.

**Ком.** Каму па каму, а каму два камы.

**Конік**. Пара, госцейкі, дадому, бо паелі конікі салому.
Прапаў конік, прападай і хамуток.

**Конь**. Быў конь, ды з'ездзіўся.
Вялікаму каню – вялікі хамут.
Дараванаму (дарованаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць.
Зранку і коні не п'юць.
Кабыла (конь) здыхае, а <за> траву хватае (хапае).
Каторы конь цягне, таго і паганяюць.
Конь на чатырох нагах <і то> спатыкаецца.
Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй (з клюшнямі).
Машына любіць догляд і змазку, а конь – авёс і ласку.
На двух конях верхам не паедзеш.
На лечаным кані далёка не заедзеш.
На трактар спадзявайся, <а> каня не прадавай.
Не вер каню ў дарозе, а жонцы дома.
Не жолаб да каня, <а> конь да жолаба ідзе.
Не той дужы, хто коней стрымлівае, а тое, хто сябе стрымлівае.
Стары вол (конь) баразны не псуе (не сапсуе).
Суджанага і канём не аб'едзеш.
У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца.
Хай конь думае: у яго галава большая (вялікая).
Хвалі каня пасля дарогі, а пана – як выцягнуў ногі.
Хто <коней> мяняе, у таго хамут гуляе.
Цераз сілу і конь не цягне.
Шануй каня дома, а ён цябе ў дарозе.
Што каму суджана, <дык і пехатой> таго не абойдзеш і <з канём> не аб'едзеш.

**Копка**. Па кропельцы – рэчка, па сянінцы – копка, па копцы – стог.

**Корань**. Без глыбокага кораня дуба не бывае.
Корань навукі (навучання) горкі, ды плады яго салодкія.

**Корч**. Баязліваму і корч мядзведзь.

**Костка**. Госць не костка, за вароты не выкінеш.

**Косць**. На жывой касці мяса мусіць нарасці.
На жывых касцях мяса нарасце.
Як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці.

**Кот**. Два каты ў адным мяшку не тоўпяцца (не месцяцца).
Добрае слова і кату (кошцы) прыемнае.
Жыве кот і жыве сабака.
Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака.
І кот не мыўся, і госць з’явіўся.
Кот гладак, што паеў і набак.
Мінулася кату масленіца.
Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>.
Поначы ўсе каты шэрыя.
Пры добрым падыходзе і кот гарчыцу есць.
Хутка (скора) каты робяцца, ды сляпыя родзяцца.

**Кошка**. Ведае (знае) кошка, чыё сала з’ела.
Заракалася кошка мышэй не лавіць.
Збродлівай кошцы хвост уцінаюць.
Кошка вочкі жмурыць, а кіпцюры вострыць.
Кошку б’юць – нявестцы намёкі даюць.
Кошцы гулі, а мышцы слёзы.
Ноччу (поначы) усе каты (кошкі) шэрыя.
Цяжка злавіць (знайсці) чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма.

**Край**. У родным краю, як у раю.
Што ні край, то <і, свой> абычай (звычай).

**Крама.** Вакол крам ды зноў к нам.
Няма той крамы, каб прадаваліся мамы.

**Крапіва**. Будзе (прыйдзе) і на крапіву мароз.
Хоць еш крапіву і салому, але пры дому.

**Краса**. З дзявочай красы вады не нап’ешся.
З красы не пап’еш расы.
Краса да вянца.

**Красуня**. Паляваў куню, упаляваў красуню.

**Крок.** Ад вялікага да смешнага адзін крок.

**Кропля**. Кропля камень крышыць (дзяўбе).

**Кроў**. Кроў людская не вадзіца.

**Крумкач**. Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе.

**Круцельства**. Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.

**Крывота**. Цяснота – не крывота.

**Крыклівы.** Не бойся крыклівага, а бойся маўклівага.

**Крыўда**. У цеснаце, <ды> не ў крыўдзе.

**Крыша.** Пад кожнай крышай свае мышы.

**Крэпасць**. Мой дом – мая крэпасць.

**Кубак.** Блізак кубак да губак, але шмат выбояў паміж ім і губою.

**Кузьма**. Я яму пра Фаму (пра Кузьму), а ён мне пра Ярому.

**Кулік**. Кожны кулік сваё балота хваліць.

**Куля**. Куляй у аднаго пацэліш, а трапным словам у тысячу.
Смелага куля баіцца.

**Кум**. Апускайся, куме, на дно.
Кум куме, а кума па ўсім сяле.
Не трāць, куме, сілы, спускайся на дно.
Хоць кум, ды сабака.

**Кума**. Галоднай куме хлеб (сыр) наўме.
Кума куме, дый пайшло па ўсім сяле.
Кума (кум) куме, а кума па ўсім сяле.

**Кумка.** Кумка кумцы па сакрэту, а кумка – усяму свету.

**Куня**. Паляваў куню, упаляваў красуню.

**Купа**. Калі робіш у купе, не баліць у пупе.
Рабіць у купе – не баліць у пупе.

**Купіць.** Купіў не купіў, а патаргавацца можна.

**Кураня**. Куранят увосень (восенню) лічаць.

**Курачка.** Курачка па зярнятку клюе.

**Куры**. *Гл.* курыца.

**Курыца**. Адна толькі курыца грабе ад сябе.
Ліса спіць і курэй бачыць.
Прыйшлі куры на хаўтуры, верабейка памёр.
Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы.
Сляпой курыцы і жарства – пшаніца.
Яйцо курыцы не вучыць.
Яйцо (яйка) курыцу вучыць.

**Курэц**. Калі курэц, то насі люльку і тытунец.
Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец.

**Кусочак**. На ласы кусочак знойдзецца куточак.

**Кусцік**. Летам кожны кусцік начаваць (пераначаваць) пусціць.

**Кут**. Дзе многа на куце сядзіць, там мусіць мыш галодна быць.
Добраму чалавечку добра і ў запечку <а благой (якой) благаце дрэнна і на куце>.
Калі худ, не лезь на кут.
Мой родны кут, як ты мне мілы.

**Куток**. Ведай цвіркунок (каток) свой куток.
Кожны чарток ведай свой куток.
Міл (мілы, дараг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок.
Няма лепш за той куток, дзе вязалі пупок.

**Куточак**. На ласы кусочак знойдзецца куточак.

**Куфэрак**. Куфэрак адчыняецца проста.

**Кухарка**. У закаханай кухаркі няўдалая страва выходзіць.

**Куча.** Малая куча ды смярдзюча.
Сышліся да кучы лапці і анучы.

**Лапаць**. Гулі не аднаго ў лапці абулі.
Замуж пайсці – не лапці плясці.
Каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе.
Лапці ваду не прапускаюць.
Служка ў лапцях, а я (пан) босы.
Хоць муж (мужык) з лапаць, абы з ім не плакаць.
Хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць?
Што лапці сплятуць, таго боты не разблытаюць.

**Ласка**. Ласка не каляска, сеўшы не паедзеш.
Ласка панская на рабым (дохлым) кані едзе.

**Ластаўка**. Адна ластаўка вясны не робіць.

**Лаўка**. Лепш пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.

**Лебедзь.** Бі сароку, бі варону, даб'ешся да белага лебедзя.

**Лень.** Ад лені не гнуцца калені.

**Лепшы.** Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.
Што ні робіцца, усё на лепшае.

**Лес**. Злодзей крадзе, а лес бачыць.
Лес крадзе – поле бачыць.
Лес сякуць – трэскі ляцяць.
Лесу без падлеску не бывае.
Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць.

У лесе крадзеш – поле ўбачыць,
на полі крадзеш – лес бачыць.
У лесе людзі дзічэюць, а сярод людзей люднеюць.
Як у лес, так і з лесу.

**Лета**. Лета год корміць.
На гэта лета добра і гэта.
Паражылі лета гарачае, пераажывём і дзярмо сабачае.

**Лёс**. Ад лёсу не ўцячэш.
Свайго лёсу не мінеш (не мінём).

**Ліпень**. Студзень мяце – ліпень залье.

**Ліса**. Ліса спіць і курэй бачыць.
Тры лісе ў адно спляліся.

**Ліска.** Цешся, ліска, вяселле блізка – каўбасы з'ясі.

**Ліст**. Лістам сцелецца, а ўкусіць цэліцца.

**Ліха**. Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.
Ад ліха ціха, дабра не відаць.
Горш, калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся.
Еду ціха – са мной ліха, еду скора – са мной гора.
Казала ліха, што не быць дабру.
Ліха без дабра не бывае.
Не дражні ліха, пакуль ціха.
Не чапай ліха, калі спіць ціха.
Не чапай ліха, пакуль спіць.
Няма ліха без дабра.
Сядзі ціха, калі не хочаш мець ліха.

**Лоб**. На чужы лоб сягаючы (шыбаючы),
трэба і свой падставіць (наставіць).
Урадзілася цяля з белай лапінкаю на лбе,
так яно і пaмрэ.

**Ложка.** Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай.

**Локаць**. Блізка (блізкі) локаць, ды (а) не ўкусіш.

**Лом.** Няма прыёму супраць лома, апрача самога лома.

**Лужына**. Свіння лужыну (лужу) знойдзе.

**Луста**. Адрэзанае лусты не прыклееш (не прылепіш).

**Лучынка**. І за лучынку знойдзе прычынку.

**Лыжка**. <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.
Дарагая (дорага) лыжка к абеду.
Лыжкай мора (акіян) не вычарпаеш.
Сухая лыжка рот дзярэ.

**Лысінка**. З якой лысінкай цёлка нарадзілася, з такой і здохне.
Лысае цялятка і здохне з лысінкай.
Уродзіцца цяля з лысінкаю, то і з лысінкаю здохне.
Як <калі> удасца жарабё (бычок) з лысінкай, дык і здохне (састарэе) такім (з лысінкай).

**Лычка**. За чужое лычка раменьчыкам плацяць.

**Любоў.** Любоў зла – палюбіш і казла.

**Любошчы.** Ад вялікіх любошчаў сабачае разбежышча.

**Любы**. Насільна мілы (міл, любы, люб) не будзеш.

**Людзі**. Было сватацца ўдзень, распытаўшыся ў людзей.
Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.
Людзі брэшуць – мяне цешуць.
Людзі і мядзведзя вучаць.
Людзі мруць, нам дарогу труць.
Людзям языка (языкоў) не завяжаш.
На людзях і памерці не страшна.
Не людзі выбіраюць бяду – бяда людзей выбірае.
Паспяшыш – людзей насмяшыш.
Свае людзі, памірымся.
Свет не без добрых людзей.
У лесе людзі дзічэюць, а сярод людзей люднеюць.
У людзей пытай і свой розум май.
Што блюдзём, то <і> людзём.

**Люты.** Пытаецца (спытае) люты, ці добра абуты.

**Лянівы.** Лянівы два разы ходзіць.

**Лянота.** Ад ляноты чакай бядоты.

**Магамет**. Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары.

**Магдалена**. Магдалена – вады па калена.

**Магіла**. Гарбатага магіла выправіць (выпрастае).
Нежывога з магілы не падымеш.

**Мазыр**. У Мазыры елі царскія сыры.

**Май**. Май – каню сена дай, а сам на печ уцякай.
Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.

**Мак**. Не ўрадзіў мак, перабудзем і так.

**Макавей.** Калі на Макавея дождж, дык будзе многа грыбоў.

**Макар.** На беднага Макара і шышкі валяцца.

**Маладосць.** Калі б маладосць умела (ведала), а (калі б) старасць магла.

**Малады**. Не кайся, што рана ўстаў або маладым ажаніўся.
<Як> малады – <то> дурны.

**Малако**. Малако ў каровы на языку.
Па малаку ног не павалаку.
Як быка ні кармі, малака не дасць.

**Маленне**. Новы поп, дык новае і маленне.

**Малітва**. Што ні поп, то свая малітва.

**Малы.** Малое – дурное.

**Мама.** Рада б цяпер наша мама выйсці за пана, дык пан не бярэ.

**Мана**. Маной (няпраўдай, хітрасцю, круцельствам) свет пройдзеш (пяройдзеш), а (але, ды) назад не вернешся.
У хлусні (маны) кароткія ногі.

**Марац**. Марац адмарозіць палец.

**Мароз**. Каб на хмель (на гарох) не мароз, дык ён бы <цераз> тын перарос.
Мароз сем баб павёз.
У снежні мароз і снег вышэй хаты – год будзе багаты.

**Масква**. Масква слязам не верыць.
Не адразу Масква будавалася.

**Матка**. Дарагая тая хатка, дзе радзіла (нарадзіла) мяне матка.
Конская матка не здохла.
Матка парве пазуху, хаваўшы для дзяцей, а дзеці парвуць пазуху, хаваўшы ад маткі.

**Маўклівы.** Не бойся крыклівага, а бойся маўклівага.

**Маўр**. Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа ісці (адысці).

**Маўчанне**. Маўчанне – знак згоды.
Слова – серабро (срэбра), маўчанне – золата.

**Маўчаць.** Маўчу, дык, пэўне, замуж хачу.
Маўчы, бо будуць таўчы!

**Маці**. Дзіця за руку бярэш – маці за сэрца.
Тады маці міла, як ногі мыла.

**Машына.** Машына любіць дагляд і змазку, а конь – авёс і ласку.

**Месіва**. Каму што, а свінні месіва.

**Месца**. Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца.

Не месца красіць чалавека, а чалавек месца.
Святое месца пустым не бывае.

**Месяц.** Ніхто не вечна пад месяцам.

**Мех**. Два каты ў адным мяшку не тоўпяцца (не месцяцца).
Напужаў мех, дык і торба страшна.
Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш).

**Мець.** Як дбаеш, так і маеш.

**Меч**. Павінную галаву <і> меч не сячэ.
Падняўшы меч, ад мяча і згіне.

**Мёд**. Будзе мёд і ў Сідаравай калодзе.

**Мёртвы.** Пра мёртвых (нябожчыкаў) або добра, або нічога.

**Мікіта.** Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не аглядайся.

**Мікола**. Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога,
бяры сявеньку і (ды) сей памаленьку.

**Мілы**. Мілыя сварацца – толькі цешацца.
Насільна мілы (міл, любы, люб) не будзеш.
Як гніл, нікому не міл.

**Міля**. Для старца міля не круг.
Старцу міля не круг.

**Мір**. Што <будзе> міру, тое (то) і бабінаму сыну.

**Міска.** Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае.

**Многа.** Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.

**Можна**. Усё можна, толькі асцярожна.

**Мора**. За морам цялушка – палушка, ды перавоз рубель.
Лыжкай мора (акіян) не вычарпаеш.
Ты за мора, а за табою бяда і гора.
Шылам мора не нагрэеш.

**Муж**. За добрым мужам і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне.
Муж баіць пра паходы, жонка – пра расходы.
Муж (гаспадар) і жонка – найлепшая сполка.
Муж і жана – адна сатана.
Муж носіць мяшком, а гаспадыня – гаршком.

**Мужчына.** Без гаспадара (без мужчыны) і дом сірата.

**Мужык**. Дай божа майму дзіцяці той розум наперад,
што да мужыка прыходзіць потым.
Мужык глядзіць, як варона, а хіцер, як чорт.
Мужык – дурань, як умее, так і пее.

Мужык з жонкай сварыцца, калі трасца ў гаршку варыцца.
Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.

**Муза.** Калі гавораць гарматы, музы маўчаць.

**Музыка**. З музыкі хлеб невялікі.
Нядоўга музыка іграла.
У музыкі хлеб невялікі, а спявакі маюць ніякі.
Які музыка, такая і музыка.

**Музыкант**. Я не музыкант (не арганіст), не перабіраю.

**Мука**. Быўшы ля мукі, запылішся.
Каля мукі ходзячы, запылішся.
Перамелецца – мука будзе.

**Муха**. Добра сабаку і муха.
Увосень і мухі робяцца пякучымі.

**Мыла.** Купіў мыла – еш, хаця і не міла.

**Мыліцца.** Не мылься (дарэмна мылішся), галіцца не будзеш.

**Мыш**. Дзе многа на куце сядзіць, там мусіць мыш галодна быць.
Мыш капы не баіцца.

**Мышка**. Катку жарты – мышцы смерць.
Кошцы гулі, а мышцы слёзы.

**Мэта**. Мэта апраўдвае сродкі.

**Мядзведзь**. Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць.

**Мякіна.** Каму што, а вераб'ю мякіна сніцца.

**Мяса**. Няма мяса – і гэта не закраса (прыкраса).

**Мясціна.** Не мясціна ўхарошае людзіну, а людзіна ўхарошае мясціну.

**Мятла**. Новая мятла па-новаму мяце.

**Мяшок**. Дзіравага мяшка (меха) не напоўніш (не напхаеш).
Калі ёсць у мяшку, то будзе і ў гаршку.
Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш).

**Навука**. Без мукі няма навукі.

**Нага**. Аддай рукамі, хадзі нагамі.
Каб не спатыкацца, трэба пад ногі прыглядацца.
Нага нагу падпірае, рука руку абмывае.
Не піў – не мог, а выпіў – ні рук, ні ног.
У нагах праўды няма.
Ці за адну нагу вісець, ці за дзве – адна ласка.

**Нагаварыць**. Лепш крыху зрабіць, чым багата нагаварыць.

**Надвое.** Можа надвое варожа.

**Надзея.** Надзея – матка дурных.
Надзея памірае апошняй.
**Наесціся.** <Калі> не наеўся, дык і не наліжашся.
**Найм.** Хораша ў найме, ды не дай божа мне.
**Наняцца.** Наняўся, як прадаўся.
**Напасць**. Ад (з) напасці не прапасці.
**Напісаны.** Напісанае застаецца.
**Нарадзіцца.** Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся.
**Нарадзіць.** Лёгка нарадзіць, ды нялёгка ўскарміць.
**Народжаны**. Народжаны поўзаць лятаць не можа.
**Насця**. Казала Насця, як удасца.
**Начынне.** Без начыння і лапця не спляцеш.
**Неба.** Каб не мерлі, дык бы неба падперлі.
**Недаростак.** Недаростку трэба падмостку.
**Ніхто.** Ніхто не зробіць горш табе, як (чым) <ты> сам сабе.
**Нішто.** Нішто чалавечае мне (ім і інш.) не чужое.
**Нішчымніца.** Чым такі скорам, дык лепш нішчымніца.
**Новы.** Усё новае – гэта добра забытае старое.
**Ножка**. Выцягвай ножкі паводле адзёжкі.
**Ноч**. Куды ноч, туды і сон.
**Ночка**. Зімняя ночка – бацьку сарочка.
**Ношка.** Свая ношка не цяжкая (не цягне).
**Нуда.** З выбірачкі выбераш гарачку, а калі з раду, то нуду.
Нуда горш за каросту.
**Нябіты**. За <аднаго> бітага двух нябітых даюць.
**Нябожа**. На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.
**Няведанне**. Няведанне – нягрэшанне.
**Нявестка.** Сяннік не падушка, а нявестка не дачушка.
**Няволя**. Няма горшай долі, як жыць у няволі.
**Нядзеля**. Гуляй, Ямеля, твая нядзеля.
І без папа ведаю (ведаем, знаю, знаем),
што ў нядзелю свята.
**Нязваны.** Прыйшоў нязваны і ідзі нясланы.
**Няўдача**. За няўдачу даюць прыдачу.
**Няўмека.** І няўмека пячэ, калі з засека цячэ.
У няўмекі рукі не баляць.
**Пагаварыць.** Сядзем радком, пагаворым ладком.
**Падмазаць**. Не падмажаш – не паедзеш.
Не падмазаўшы, не паедзеш.
**Падпал**. Без падпалу дровы не гараць.

**Пажар**. Пажар (агонь) агнём не тушаць (не гасяць).

**Пажыць.** Пажывём – пабачым (убачым).

**Пайсці.** Як набыта махам, так і пайшло прахам.

**Пакласці.** Не паклаў, не шукай.

**Пакровы**. На Пакровы дай сена карове.
Прыйшлі Пакровы – заганяй у хлеў каровы.

**Пакроў.** Святы Пакроў, благаславі на кроў.

**Паланея.** Села Паланея, думала, што паранее.

**Палена**. Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.

**Палка**. Захацеўшы сабаку выцяць, палку знойдзеш.
Захочаш сабаку выцяць (ударыць) – палку (кій) знойдзеш.

**Палушка.** За морам цялушка – палушка, ды перавоз рубель.

**Паляванне**. Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці (ехаць).

**Паляк**. Дажыліся (дажылі) казакі (палякі),
<што> ні хлеба, ні табакі.

**Памагчы.** Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.

**Памерці.** Круці не круці, а трэба памерці.

**Памылка.** На памылках вучымся.

**Пан**. Або пан або прапаў.
Абяцаў пан футра, ягоныя словы цёплыя.
Адзін Сцяпан – заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача.
Дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць.
Кепска, пане Грыгоры: што (чым) далей, то (тым) горай.
Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі.
Не будзь ні войтам, ні панам – не будзеш чалавекам паганым.
Не ўсякі той пан, у каго штаны навыпуск.
Пана клянуць, а пан тлусцее (таўсцее).
Пан за пана цягне (верне).
Пан з пана – пан, пан з хама – хам.
Пан ці прапаў.
Паны б’юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.
Скачы, уража, як пан кажа.
Той пан добры, што на асіне вісіць.
Хвалі каня пасля дарогі, а пана – як выцягнуў ногі.
Ці пан ці прапаў.
Які пан, такі і слуга.

**Панства.** Няма лепшага панства, як гаспадарства.
**Панцялей**. Які б ні быў Панцялей, а жыць весялей.
**Пападдзя**. Наелася пападдзя круп, дык жарствы захацела.
Як папу ўдаецца, то і пападдзя смяецца.
**Пара**. Пара касцей не ломіць.
**Парася, парасё**. Апошняму парасяці цыцка пад хвастом.
Не да парасят, калі свінню смаляць.
Свінні не да парасят, калі яе смаляць.
Хто парася (парасё) украў, у таго ў вушах (увушшу) пішчыць.
**Параўнанне**. Усё пазнаецца ў параўнанні.
**Парог**. Слова не пірог, не выкінеш за парог.
**Паслацца.** Як пасцелешся, так і выспішся.
**Паследкі.** На паследкі даюць аб’едкі.
**Паспех**. Паспех– людзям на смех.
Скоры паспех –людзям на смех.
**Пастарацца.** Калі добра пастарацца, то павінна атрымацца.
**Пастух.** Хто добры пастух, той і гаспадар добры.
Шукай цар царыцу, а пастух пастушку.
**Паўдня.** Не дажыўшы да паўдня, не плануй вечар.
**Пацеры**. Калі хата гарыць, не да пацераў.
Не да пацераў, калі хата гарыць.
**Пачатак**. Добры пачатак – палавіна справы.
**Пачостка.** Свой свайго пазнаў ды на пачостку пазваў.
**Певень**. Добры певень тлусты не бывае.
Каму што, а пеўню бойка.
На сваім сметніку і певень (верабей) гаспадар.
Не заўсёды світае, як певень спявае.
Не лезь, певень, туды, дзе гусі пасуцца.
**Пекла.** Хто ў жыцці спазнаў рай, той памрэ ў пекле.
**Пень**. Пень гарэў, а чорт хвост пагрэў.
Пень прыбяры, то і пень харошы.
Прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы.
Тырчаў на дарозе пень, пакуль за яго не чапляліся, а сталі чапляцца – пню не ўтрымацца.
**Перавоз.** За морам цялушка – палушка, ды перавоз рубель.
**Пераначаваць.** Пераначуем, болей пачуем.
**Пераправа.** На пераправе коней не мяняюць.
**Перац.** Ці з перцам, ці не з перцам, абы было з шчырым сэрцам.

| | |
|---|---|
| **Песня**. | З песні слова не выкінеш. |
| **Печ**. | Добрыя рэчы ляжаць на печы. |
| | Хочаш есці калачы, то не сядзі на пячы. |
| **Піва**. | Маладое піва заўсёды шуміць. |
| | Не той піва п’е, хто варыць. |
| **Пірог**. | На Падоллю пірагі па коллю, |
| | а мы прыйшлі ды скулля знайшлі. |
| | На ўсіх пірага не спячэш. |
| | Слова не пірог, не выкінеш за парог. |
| | У чужых руках пірог вялік. |
| **Пісака**. | Пісаў пісака, што не разбярэ і сабака. |
| **Піць.** | Дзе п’юць, там і льюць. |
| **Плакаць.** | Што маем – не шануем, а як страцім – плачам. |
| **Платон.** | Платон мне сябра, а ісціна даражэйшая. |
| **Племя.** | Якое семя, такое і племя. |
| **Плод.** | Забаронены плод салодкі. |
| | Корань навукі (навучання) горкі, |
| | ды плады яго салодкія. |
| **Плот.** | Адным калом плота не падапрэш. |
| | Я яму пра плот, а ён пра азярод. |
| **Плотка.** | Злавілі плотку, што не лезе ў глотку. |
| **Пляшывы**. | Пасмяяўся шалудзівы з (каля) пляшывага. |
| **Позна.** | Лепш позна, чым ніколі. |
| **Поле**. | Пустазелле з поля вон. |
| | У полі дзве волі. |
| **Помач.** | Дурная помач горш за немач. |
| **Поп**. | Быў бы папом, ды галава кляпом. |
| | Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з’еў бы. |
| | Калі не поп, <дык> не ўбірайся ў рызы. |
| | Каму што, а папу кадзіла. |
| | Не поп, не ўбірайся (не прыбірайся) у рызы. |
| | Поп (ксёндз) і доктар і ў лесе з голаду не памруць. |
| | Поп сваё, <а> чорт сваё. |
| | Ці хто родзіцца, ці ўмірае, поп нікога не мінае. |
| | Які поп, такі і прыход. |
| **Посуд.** | Посуд любіць чысціню. |
| **Правіла.** | Няма (не бывае) правілаў без выключэння. |
| **Правяраць.** | Давярай, але (ды) правярай. |
| **Прагнасць.** | Сквапнасць (прагнасць) фраера згубіла. |
| **Прарок.** | Няма прарока ў сваёй айчыне. |

| | |
|---|---|
| **Праўда**. | Брахня праўдзе вочы выдрала. |
| | Была калісь праўда, ды іржа з'ела. |
| | Дзе грошы гавораць, там праўда маўчыць. |
| | Жыццё закон нязломны мае: ніколі праўда не ўмірае. |
| | Лепш (лепей) горкая праўда, чым салодкая мана (хлусня). |
| | Праўда вочы коле. |
| | Праўда наверх выйдзе. |
| | Праўда не скварка, з кашаю не з'ясі. |
| | Праўду не схаваеш. |
| | Усё мінецца, а праўда застанецца. |
| | Хлеб-соль еш, а праўду рэж. |
| | Хто хлусіць, той вып'е і закусіць, а хто праўду кажа, той галодны (так спаць) ляжа. |
| | Што праўда, то не грэх. |
| **Прах.** | Як набыта махам, так і пайшло прахам. |
| **Праца**. | Без працы не будзеш есці коляцы. |
| | Галоднае бруха да працы глуха. |
| | Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі. |
| | Працу палюбіш – чалавекам будзеш. |
| **Працаваць.** | Еш, хоць распеisær ражыся, але і (толькі) працаваць не ляніся. |
| **Прачыстая**. | Прыйшла Прачыстая – усё поле чыстае. |
| **Прыбытак**. | Ад прыбытку галава не баліць. |
| | Дзе прыбытак чуюць, там памагачы начуюць. |
| **Прывет.** | Не дараг абед, а дараг прывет. |
| | Які прывет, такі прыём. |
| **Прывычка**. | Прывычка – другая натура. |
| **Прыгадзіцца.** | Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся. |
| | Харош урадзіўся, ды не прыгадзіўся. |
| **Прыём.** | Які прывет, такі прыём. |
| **Прыказка.** | Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца. |
| **Прыклад.** | Благія прыклады заразлівыя. |
| **Прымаць**. | Лепш даваць, чым прымаць. |
| **Прынука**. | Было што піць і есці, але прынукі не было. |
| | Усяго было даволі, толькі прынукі не было. |
| **Прыпасы**. | Ласы на чужыя прыпасы (каўбасы). |
| **Прыплаціць.** | Што ступіў, то прыплаціў. |
| **Прыстаў**. | У сваім стане і прыстаў цар. |
| **Прычына**. | Смех без прычыны – прызнак (знак) дурачыны. |

**Прычэпка**. І за шчэпку знойдзе прычэпку.

**Пташачка**. Рана пташачка запела, каб кошачка не з’ела.
Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы працірае.

**Птушка**. Благая тая птушка, што свайго гнязда не бароніць.
Кіпцюрык ушчаміўся – усёй птушцы прападаць (гінуць).
Кожная птушка ляціць у сваю чараду.
Ранняя птушка (птушачка, пташачка) зубкі (крылкі) цярэбіць, а позняя вочы працірае.
Усякая птушка сваё гняздо бароніць.
Якая птушка, такое і гняздзечка.

**Пуд**. Каб пазнаць (ведаць) чалавека, <дык> трэба з’есці з ім пуд солі.

**Пуза.** Блін не блін, пуза не расколе.

**Пуп**. Вышэй пупа (пят, галавы) не падскочыш (не скочыш).

**Пуста.** Калі пуста, а калі і густа.

**Пушча.** Ліхтаром пушчы не асвеціш.

**Пчала.** На Беларусі пчолы як гусі.

**П’янка**. Раз пайшла такая п’янка, рэж апошні агурок.

**П’яны**. П’янаму <і> мора па калена.

**Пяро**. Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш.
Што напішаш (напісана) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.

**Пята**. Вышэй пят не падскочыш.

**Пятніца.** Чаго субоце раней за пятніцу быць.

**Пятро**. Чакай Пятра – сыр (сыру) з’ясі.
Чакай, цётка, Пятра – будзеш сыр есці.

**Пятрок**. Прыйшоў Пятрок – апаў лісток; прыйшоў Ілья – апала два.

**Пятрусь**. Янка ківае на Петруся, а Пятрусь на Янку.

**Раба**. Сама сябе раба б’е, калі (што) нячыста жне.

**Работа.** Ад (з) работы коні дохнуць.
Бегаў Яначка ля плота – якая плата, такая і работа.
Не столькі работы, колькі турботы.
Работа дурняў (дурня, дурных) любіць.
Работа і корміць і поіць.
Работа не заяц, не ўцячэ.
Работы ніколі (век) не пераробіш.
Увосень – работ восем.

| | |
|---|---|
| **Рада.** | Дзе двое – там рада, дзе трое – там здрада. |
| **Радзіны**. | Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. |
| **Радзіцца.** | Не радзіся красны, а радзіся шчасны. |
| **Радня.** | Радні не пералічыш, а давядзецца тапіцца – няма за каго ўхапіцца. |
| | Радня да паўдня, а як сонца зойдзе, сам чорт не знойдзе. |
| **Ражон**. | Супраць (супроць) ражна не папрэш. |
| **Раз**. | Адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць? |
| | Лепш (лепей) <адзін> раз убачыць (пабачыць), чым сто разоў пачуць. |
| | Лепш сем разоў згарэць, як адзін раз аўдавець. |
| | Ніхто два разы не жыве. |
| | Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж. |
| **Разбіты.** | Разбітае не склеіш. |
| **Размова.** | Вяроўка добрая доўгая, а размова кароткая. |
| **Разумны.** | Няхай лепш разумны паганіць, чым дурны пахваліць. |
| | Разумнаму дастаткова. |
| | Разумны зразумее. |
| | Што дурны папсуе, то і разумны не выправіць. |
| **Рай**. | З мілым (з любым) рай і ў шалашы (у будане). |
| | Хто ў жыцці спазнаў рай, той памрэ ў пекле. |
| **Рак**. | Грозен (грозны) рак, ды (але) ззаду вочы. |
| | Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць). |
| | І ракаў не хачу, і ног не мачу. |
| | Любіў рак жабу, аж вочы выеў. |
| **Рака.** | Двойчы ў адну <і тую ж> раку ўвайсці немагчыма (нельга). |
| **Рамень**. | Не кручаны – не рэмень (не рамень), не вучаны – не чалавек. |
| **Раменьчык**. | За чужое лычка раменьчыкам плацяць. |
| **Рана**. | Чужая рана не баліць. |
| **Раніца**. | Раніца мудрэйшая (мудрэй) за вечар. |
| **Раць.** | Не хваліся, ідучы на раць. |
| **Рвацца.** | Дзе каротка (тонка), там і рвецца. |
| **Рог**. | Выпраўлялі быку рогі, ды скруцілі шыю. |
| | З рога ўсяго многа. |
| **Род**. | Няма роду без выроду. |
| | Сялянскаму роду няма пераводу. |

**Розум**. Вастры зуб аб зуб і розум аб розум.
Вырас, а розуму не вынес.
Дай божа майму дзіцяці той розум наперад, што да мужыка прыходзіць потым.
Другіх слухай, а сваім розумам жыві.
З тварам да вянца, з розумам да канца.
Каб той розум наперад, што пазней прыходзіць.
Кожны па часе мае розум.
Людзей (другіх) слухай, а (ды) свой розум май.
Мужыку розум прыходзіць па шкодзе.
Пі, ды розуму не прапі.
Розум не кулеш, у галаву не накладзеш.
Розум не сякера – не пазычыш.
Розуму грашыма не заменіш.
Розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш.
Хараство (краса) прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.

**Рот**. Гаворыць, а ў роце холадна.
Еш, пакуль рот свеж.
Каб ды кабы, дык у роце б раслі (выраслі) грыбы.
Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.
Плачучы рот не паправіш.
Чужы рот – не свае вароты, не зачыніш.
Што (чаго) не ясі, <таго> у рот не нясі.

**Роцік**. Чужы роцік не каўнерык, яго не зашпіліш.

**Рубашка**. Свая рубашка бліжэй да цела.

**Рубель**. З хаткі ў хатку, дык на рубель упадку.

**Ружа.** Ружы без калючак не бывае.

**Рука**. Аддай рукамі, хадзі нагамі.
Адной рукой і вузла не завяжаш.
Адной рукой у далоні не пляснеш.
Адсохні тая рука, што сабе не спрыяе.
Не піў – не мог, а выпіў – ні рук, ні ног.
Рука руку мые.
Рукі вымажаш – вадою памыеш, душу вымажаш – і мылам не адмыеш.
Рыба ў рацэ, ды не ў руцэ.
Свая рука ўладыка.
Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка (добра).

| | |
|---|---|
| **Рукапіс.** | Рукапісы не гараць. |
| **Рыба**. | Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці. |
| | Калі важыў на рыбу, трэба важыць і на юшку. |
| | Не вучы рыбу плаваць. |
| | Рыба з галавы псуецца (загніваецца, пачынае гніць, гніе). |
| | Рыба любіць ваду. |
| | Рыба ў рацэ, ды не ў руцэ. |
| | Хто рыбу вудзіць, той гаспадаром не будзець. |
| **Рыбак**. | Рыбак рыбака бачыць здаляка. |
| **Рыжы**. | Чым рыжэй, тым даражэй. |
| **Рэдзька**. | Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка (дрэнна, ліха) замужам, ды ідуць. |
| | Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная. |
| **Рэмень**. | Не кручаны – не рэмень (не рамень), не вучаны – не чалавек. |
| **Рэч**. | Добрыя рэчы ляжаць на печы. |
| **Сабака**. | Бег сабака за калёсамі, мусіць бегчы і за санямі. |
| | Жыве кот і жыве сабака. |
| | Жыве кот і сабака, ды жытка не аднака. |
| | Каб таго сабаку воўк з’еў, што на свой хвост брэша. |
| | На голага <і> сабакі брэшуць. |
| | На смелага сабакі брэшуць, а баязлівага рвуць. |
| | Не бойся таго сабакі, што брэша, а бойся таго, што лашчыцца. |
| | Сабака брэша, а караван ідзе. |
| | Сабака брэша – вецер носіць. |
| | Сабака і на бога брэша. |
| | Сабака не з’есць, пакуль не пакачае. |
| | Сабаку <і> сабачая смерць. |
| | Як сабака на сене – і сам не гам і другому не дам. |
| | Як сабаку кормяць, так сабака і брэша. |
| **Сабачка**. | Маленькі сабачка да старасці шчанюк (шчаня). |
| **Сава**. | <Няхай> хоць сава, абы з другога (чужога) сяла. |
| | Сава не родзіць (не прывядзе) сакала <а такога ж чорта, як сама>. |
| | Хоць сава, абы з другога сяла. |
| **Сажа**. | Слова як сажа, каго хочаш замажа. |
| **Сала.** | Калі добры кусок сала, дык і грыб навара. |

**Салавей**. Салавей байкамі не сыты.
Салаўя байкамі (песнямі) не кормяць.
У дурнога салаўя і дурныя песні.

**Салдат**. Дрэнны той салдат, які не хоча стаць генералам.
Кожны салдат носіць у ранцы маршальскі жэзл.
Салдат спіць, а служба ідзе.

**Салома**. Дома і салома ядома.
Салому еш, а фасону не губі.
Хоць еш крапіву і салому, але пры дому.

**Саломінка**. <Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца.
Як топішся, дык і за саломінку хапаешся.

**Саломка**. Каб (калі б) ведаў, дзе павалішся (упадзеш), <там, дык, то> саломкі падаслаў бы.

**Сам**. Ад <самога> сябе не ўцячэш.
Вышэй <самога> сябе не скочыш (не падскочыш).
<І> сам не гам і другому не дам.
Хто позна ходзіць, <той> сам сабе шкодзіць.
Якія самі, такія і сані.

**Саначкі**. Любіш катацца, любі і саначкі вазіць.

**Сані**. Воз дадому возіць, а сані на базар.
Не ў свае сані не садзіся.
Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам.
Якія самі, такія і сані.
Якія сані, такі і гаспадар.

**Сарока**. Сарока з кола – дзесяць на кол.
Сарока з куста – сорак на куст.
Сарока на хвасце прынесла.
Сарока шчабеча – гасцей кажа.

**Сарочка**. Свая сарочка бліжэй да цела.
Хто мае дочкі, той ходзіць без сарочкі.

**Сасна**. Кожная сасна свайму бору песню спявае.

**Саўка**. Хіцер Зміцер, але (ды) і Саўка не дурань (не дурны).
Хіцёр Зміцёр, ды і Саўка не дурны.
Што будзе, тое (то) будзе, <а> Саўка (Грышка) на куце не будзе.

**Сват**. Свату першая чарка і першая палка.

**Сваяк.** Сваяк сваяка пазнаў здаляка.

**Свет**. Круцячы свет пройдзеш, але назад не вернешся.
На тым свеце не дадуць.

Палавіна свету скача, а другая палавіна свету плача.
Ты ў свет, і доля ўслед.
Чаго ж бы плакаў слеп, каб бачыў свет (след).
Яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету згадзіўся (дагадзіў).

**Свіння**. Госці ў хату – свінні рады.
Давялося свінні на неба глядзець.
Заракалася свіння за вугол хадзіць.
Каб свінні рогі, не саступіла б (не сышла б) з дарогі.
Каму што, а свінні месіва.
Лішняга і свінні не ядуць (свіння не есць).
Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол.
Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася (папаску мела).
Ціхая свіння глыбока рые (капае).
Ціхая свіння глыбокі корань рые.
Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць.
Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч.

**Свой.** Бі сваіх, каб чужыя баяліся.
Бі свой свайго, каб чужы баяўся.
Не пазналі сваіх нашы, бярозавай далі кашы.
Свайго не меўшы, трэба легчы спаць не еўшы.
Свой біся, рубайся, а чужы не мяшайся.
Свой за гарой, а сусед у акне.
Свой свайго пазнаў ды на пачостку пазваў.

**Свята**. Будзе <калі-небудзь, некалі> і на нашай (маёй, тваёй) вуліцы свята.
Прыйдзе і на нашу вуліцу свята.

**Святы**. Не пад’ясі, то і святых прадасі.
Не святыя (не багі) гаршкі лепяць.

**Сена**. І козы сыты (-я) і сена цэлае.
Парою сена косяць.

**Сенька**. Па Сеньку (па Хомку) <і> шапка.

**Сесці.** Сядзем радком, пагаварым ладком.
Як (дзе) сеў, дык (так) прыкіпеў.

**Сеяць.** Каб такіх часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі.

**Сівізна**. Сівізна не ўкарызна.
Сівізна ў бараду, а чорт у ляшкі.
Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.

Сівізна ў валасы, <а> д’ябал у рабро.
Сівізна ў галаву – д’ябал у рабро.

**Сіла**. Не ў тым сіла, што кабыла сіва, а што воза не цягне.
Сілай мілы не будзеш.
Сіла салому ломіць.

**Сініца**. Вераб’і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі.
Лепш сініца ў руцэ (у жмені), чым журавель (жораў) у небе.
Хвалілася сініца мора падпаліць.

**Сірата**. Адкуль сіраце бацьку ўзяць.
Над сіратою бог з калітою.
Ніхто не бача, як сірата плача, але кожны бача, як сірата скача.
Сіраце прыкіпіць (дакіпіць) у жываце.
<Як> сіраце жаніцца, <дык і> ноч (ночка) кароткая (малая).

**Сіўка.** Тады сіўка аглядзеўся, як хвост загарэўся.
Укаталі сіўку крутыя горкі.

**Сказаць.** Сказана – зроблена.

**Скакаць**. Ты іграеш, як сам знаеш, а я скачу, як сам хачу.

**Сквапнасць.** Сквапнасць (прагнасць) фраера згубіла.

**Скокі.** Лепш кепскія скокі, чым добрыя хаўтуры.

**Скулка**. Задарам і скулка не сядзе.

**Скупы**. Скупы два разы траціць.
Скупы плаціць двойчы.

**Слава**. Добрая слава далёка ідзе, а кепская (ліхая) яшчэ далей <ляціць>.
Добрая слава на паліцы ляжыць,
а благая па дарожцы бяжыць.
Якая справа, такая і слава.

**Слаўцо**. Дзе толькі мужык з слаўцом, там за ім пуга з вузлом.

**След.** Каб не было снегу, не было б і следу.

**Слова**. Добрае слова і кату (кошцы) прыемнае.
Ласкавае слова што дзень ясны (веснавы).
Не вер чужому слову, а вер свайму воку.
Слова вецер, а пісьмо грунт.
Слова не верабей, выпусціў – не зловіш.
Слова не пірог, не выкінеш за парог.
Слова як сажа, каго хочаш замажа.

**Слуга**. Вось табе (вам) хамут і дуга, <і, а> я табе (вам) <больш, болей> не слуга.
Які пан, такі і слуга.

**Служба**. Служба не дружба.

**Сляпы**. Пабачым – сказаў сляпы.
Сляпы сляпому не павадыр.

**Смак.** Працуюць і смаку не чуюць.

**Смеласць**. Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.

**Смерць**. Ад смерці доктара няма.
Ад смерці не адкупішся.
Дзвюм смерцям (смярцям) не бываць, <а> адной не мінаваць.
Лепей смерць на полі, чым (як) жыць (жыццё) у няволі.
Не бойся смерці, бойся старасці.
Перад смерцю не надышашся.
Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны.
Смерць не ручаінка – не пераскочыш.
Смерць нікому ў зубы не глядзіць.
Смерць у бутэльку не заткнеш.
Смерць ускоча, калі захоча.
Што дзень – бліжэй да смерці.

**Смех**. Ад бога грэх і ад людзей смех.
Смех не грэх.

**Смяяцца.** Каб не смяяліся і не цешыліся, дык даўно павесіліся б.

**Снасць**. Адзін едзе на шчасці, другі на снасці.
Без снасці і вошы не заб’еш.

**Снег.** Каб не было снегу, не было б і следу.
У снежні мароз і снег вышэй хаты – год будзе багаты.

**Сонца**. І на сонцы ёсць плямы.
Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.
На сонца ўсе роўна глядзім, ды не ўсе роўна бачым.
Пакуль (покі) сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.
У чужой старонцы не так свеціць сонца.

**Сорам**. Сорам не дым, вачэй (вочы) не выесць.

**Сошка.** Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай.

**Спадзеў.** На спадзевах яешню не спражыш.

**Спас.** Спас – усяму час.

| | |
|---|---|
| **Спорніца.** | Наша горніца з богам не спорніца. |
| **Справа**. | Дурная справа не хітрая. |
| | Мая справа цялячая: пад’еў ды ў хлеў. |
| | Няма лепшае справы ад свае хаты. |
| | Свая справа, свая і рада. |
| | Якая справа, такая і слава. |
| **Спроба**. | Спроба не хвароба. |
| **Спрос**. | За спрос не б’юць у нос. |
| | За спрос платы не бяруць. |
| **Спрэчка.** | У спрэчках (спрэчцы) нараджаецца ісціна. |
| **Спяваць.** | Спяваць дарма – баліць гарла. |
| **Старана**. | Чужая старана – мачаха. |
| | Чужая старана – цёмны лес. |
| **Старасць**. | Ад старасці ды ад смерці няма лекаў на свеце. |
| | Калі б маладосць умела (ведала), |
| | а (калі б) старасць магла. |
| | Не бойся смерці, бойся старасці. |
| | Старасць не радасць <а горб не карысць>. |
| | Старасць нікога (чалавека) не красіць. |
| **Старац**. | Кожны старац сваю торбу хваліць. |
| | Старцу сяло не <у> наклад. |
| **Старожа.** | Лепш старожа, як варожа. |
| **Старонка**. | На чужой старонцы рад сваёй варонцы. |
| **Стары**. | Без старога каля хаты – як без сабакі. |
| | Старога хвалі, ды з двара гані. |
| | Старое што малое. |
| | Стары кажа на глум, а малады бярэ на вум. |
| | Усё новае – гэта добра забытае старое. |
| | Хто новага не бачыў, той стараму рад. |
| **Стол**. | Дзякуй гэтаму столу, а мы пойдзем дадому. |
| **Страва.** | Хай кішка лепш кішку прыцісне, чым страва скісне. |
| **Струмант**. | Без струманту (без снасці) і вошы (гніду) не заб’еш. |
| **Стрыжаны.** | Ты яму «стрыжана», а ён табе «голена». |
| **Субота.** | Чаго субоце раней за пятніцу быць. |
| **Судзіць.** | Не судзіце, ды не судзімы будзеце. |
| **Сума**. | Ад сумы і ад турмы не адракайся. |
| **Сусед**. | Добра, як сусед блізкі і пералаз нізкі. |
| | Добры сусед раднейшы за роднага брата. |
| **Сучачка**. | Маленькая сучачка заўсёды шчаня. |

**Сучка**. Нечая сучка мазь паела і сама мазёнку на галаву надзела.

**Сцежка**. Хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі.

**Сціпласць.** Ад сціпласці не паміраюць.

**Сцяна**. Дома і вуглы (сцены) памагаюць.
І сцены маюць вушы.
І ў сцен ёсць вушы.

**Сын**. Адзін сын – не сын, два сыны – палова сына (паўсына), тры сыны – сын.
Адзін сын у сям'і – бліннічак, смятаннік.

**Сыр**. Дармовы (бясплатны) сыр бывае толькі ў мышалоўцы.
У Мазыры елі царскія сыры.

**Сыты**. Пакуль сыты пахудзее, дык худы памрэ.
Сыты галоднаму не спагадае.

**Сэрца**. Сэрца не камень.
Сэрцу не загадаеш.

**Сябар**. Не май сто рублёў, а май сто сяброў.
Сябры пазнаюцца ў бядзе.

**Сякера**. Удовіна і сякера не сячэ, і кабылка не вязе.

**Сяннік.** Сяннік не падушка, а нявестка не дачушка.

**Сярмяжка**. Свая сярмяжка не цяжка.

**Сястрыца**. Кожнай сястрыцы па завушніцы.

**Тавар.** Хто мае тавар, той купцам рад.

**Таварыш**. Пешы коннаму не таварыш.

**Тайны.** Няма нічога тайнага (патайнага), каб не стала яўным.

**Так.** Так дык так, не так, дык памяняўшы.
Так нічога не бывае <усё за грошы>.

**Тапелец**. Тапелец і за саломінку хапаецца.

**Тата.** Мой бацька (тата) нікому не вінен: у аднаго пазычыць, другому аддасць.

**Твар**. З тварам да вянца, з розумам да канца.

**Тлусты.** Худы – хоць куды, а тлусты – чалавек пусты.

**Той.** Двойчы дае той, хто зараз дае.
Добра таго біць, каму баліць, добра таго лаіць, хто сорам маіць.
З кім жыць, таго не гнявіць.
З кім павядзешся, ад таго набярэшся.
Маем тое, што маем.

Няма таго, што раньш было.
Тое, што можна зрабіць сёння,
не трэба адкладваць на заўтра.
Хто ажэніцца, той пераменіцца.
Хто гуляе змоладу, той памрэ з голаду.
Хто зявае, той ваду сярбае (хлябае).
Хто не курыць і не п’е, той здаровенькі памрэ.
Хто не рызыкуе, той не мае (не жыве).
Хто <нічога> не робіць, той не памыляецца.
Хто ціха ходзіць, той густа месіць.
Чаму быць, таго не мінаваць.
Што было, тое сплыло.
Што каму дапякае, той пра тое і гукае.
Што каму рупіць, той тое і жупіць.
Што ў каго баліць, той пра тое і гаманіць.

**Торба**. Ад торбы (ад сумы) і (ды) ад турмы не адракайся (не заракайся).

**Тоўсты.** Пакуль тоўсты ссохне, дык худы здохне.

**Трава**. Добрую траву (травіцу) людзі сеюць, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца.

**Травінка.** Вясной і травінка да травінкі хінецца.

**Трактар**. На трактар спадзявайся, <а> каня не прадавай.

**Траўка.** Пакуль траўка падрасце, конік з голаду памрэ.

**Трэці.** Трэцяга не дадзена.

**Тузаць.** Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай.

**Турма**. Ад торбы (ад сумы) і (ды) ад турмы
не адракайся (не заракайся).
Турма моцная, але ніхто не хоча там быць.

**Тэатр.** Тэатр пачынаецца з вешалкі.

**Уварыцца.** Як не ўпяклося, дык і не ўварыцца.

**Увесь.** Будзеш усё ведаць, хутка пастарэеш.
Гавары, ды не <усё> дагары.
Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.
Усе яршы харашы, адзін шчупак як дурак.
Усё геніяльнае простае.
Усё добра, што добра канчаецца (заканчваецца).
Усё забыта, што зямлёй зарыта.
Усё цячэ, усё мяняецца.
Чакаць і даганяць горш за ўсё.
Чырвонае – белае ўсё передзелае.

**Удава.** Удава – шалёная галава.
Удаве бяды дзве.
**Удача**. Да ўдачы не трэба прыдачы.
**Удой**. Укрой – не ўдой.
**Уздыхаць.** Не ўздыхай, чаго няма, то няхай.
**Узяць.** Далей кінеш – бліжэй возьмеш.
**Унук.** Дзяды не зналі бяды, а ўнукі набраліся мукі.
**Урадзіцца.** Харош урадзіўся, ды не прыгадзіўся.
**Усе.** *Гл.* увесь.
**Усё.** *Гл.* увесь.
**Устаць.** Раней устанеш – болей зробіш.
**Усявышні.** Бойся Усявышняга і не гавары лішняга.
**Ухаба**. У старой бабы і на печы ўхабы.
**Факт.** Факт застаецца фактам.
Факты – рэч упартая.
**Фама**. Я яму пра Фаму (пра Кузьму), а ён мне пра Ярому.
**Фраер.** Сквапнасць (прагнасць) фраера згубіла.
**Фурманка**. Не пад’ясі – і залатую фурманку аддасі.
**Футра.** Абяцаў пан футра, ягоныя словы цёплыя.
**Фэст**. Дзе фэст, там і я ест.
**Халера**. Няма горшай халеры, як на адной падушцы дзве веры.
**Халімон**. Калі (як) шанцуе, то (тады) і Халімон танцуе.
**Хам**. Што ўложыць хам, <то> не выме і пан.
**Хамут**. Была б (абы) шыя, <а> хамут знойдзецца.
**Хапацца.** Каюся, ды за тое ж хапаюся.
**Хата**. Да роднай хаты няма далёкай дарогі.
Мая хата з краю <і я> нічога не знаю.
Не красна хата вугламі, а пірагамі.
Не пі, не еш і з хаты не лезь.
Прыйшлі ў маю (нашу) хату і (ды) б’юць майго (нашага) тату.
У кожнай хаце па печы.
У сваёй хаце (у сваім доме) і вуглы (сцены) памагаюць.
Хата без гаспадара плача.
Хата рагата.
Чым хата багата, тым і рада.
Я не я і хата не мая.
**Хатка**. Чужая хатка такая, як свякроўка ліхая.

**Хаценне.** На хаценне ёсць цярпенне.
**Хацецца.** Каб пілося ды елася, ды яшчэ хацелася.
**Хацець**. Што хачу, тое і варачу.
**Хваля.** Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае.
**Хвароба** Хвароба калі не ўморыць, то (дык) скрывіць.
Хвароба – мігрэнь: жраць ахвота, а працаваць лень.
Хвароба <нікога> не красіць.
**Хворы**. Хвораму і на залатым ложку кепска.
**Хвост**. Апошняму парасяці цыцка пад хвастом.
Каню хваста не вяжы, а бабе праўды не кажы.
Не воўчы зуб, дык лісіны хвост.
Тады сіўка аглядзеўся, як хвост загарэўся.
Хвост выцягнеш – нос увязне, нос выцягнеш – хвост увязне.
**Хітрасць**. Хітрасцю свет пройдзеш, а назад не вернешся.
**Хлеб**. Без хлеба яда – да парога хада.
Быў бы хлеб, а мышы знойдуцца.
Дзякуй на хлеб не намажаш.
Ёсць хлеб – ядзім, а няма – глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра – не ведаем.
Жывём, хлеб жуём.
З музыкі хлеб невялікі.
З музыкі хлеб невялікі, а з гулякі – зусім ніякі.
Зямлю ўгноіш – хлеба падвоіш.
Не хлебам адзіным жыве чалавек.
Прымачы хлеб – сабачы.
Служачы хлеб – сабачы.
Хлеб на стале – рукі свае.
Хлеб не нявеста, з'есца – другі будзе.
Хлеб усяму галава.
Хто палюе і рыбачыць, той хлеба не бачыць.
Хто хлеб з сабой носіць, той есці не просіць.
Чужы хлеб – гасцінец, а чужая жонка – прыгажуня.
Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі.
**Хлопец.** Да дваццаці пяці хлопец сам жэніцца, з дваццаці пяці да трыццаці – людзі, а пасля сам чорт не ажэніць.
**Хлусня**. У хлусні (маны) кароткія ногі.
**Хмара**. З вялікае хмары малы дождж.

**Хомка**. Па Хомку <і> шапка.

**Храбрасць**. Храбрасць гарады бярэ.

**Хрэн**. Хрэн за рэдзьку не саладзейшы.

**Хто.** Добра таго біць, каму баліць, добра таго лаіць, хто сорам маіць.
Ніхто не ведае, як хто абедае.
Хто ажэніцца, той пераменіцца.
Хто гуляе змоладу, той памрэ з голаду.
Хто дбае, той і мае.
Хто дужшы, той прутшы.
Хто зявае, той ваду сярбае (хлябае).
Хто каго любіць, той таго і чубіць.
Хто лепшага не мае, таму і гэта добра.
Хто мажа, той і едзе.
Хто на чым сядзіць, той і таго глядзіць.
Хто не бачыў новага, той і старому рады.
Хто не нараджаецца, той не памірае.
Хто не працуе (не робіць), той не есць.
Хто <нічога> не робіць, той не памыляецца.
Хто прамікуе, той дома не начуе.
Хто пытае, той не блудзіць.
Хто спіць, той не грашыць.
Хто ціха ходзіць, той густа месіць.
Хто цягне, на таго і навальваюць.
Хто цярплівы, той шчаслівы.
Хто шукае, той знаходзіць.

**Худы.** Худы – хоць куды, а тлусты – чалавек пусты.

**Хуста**. На чужыя вусны не накінеш хусты.

**Цар**. Шукай цар царыцу, а пастух пастушку.

**Царква**. Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць.
У чужой царкве свечак не папраўляй.

**Цацка.** Аддайце мае цацкі, я з вамі не гуляю.

**Цвет**. Такога цвету па ўсяму свету.

**Цвіркунок.** Ведай цвіркунок свой куток.

**Целяпей.** Сякі-такі (хоць які) целяпей, усё ж такі ўдваіх ляпей.

**Цесна.** Дзе цесна, там пацешна.

**Цеста.** З добрага цеста добрая паляніца, а з добрай дзеўкі добрая маладзіца.

**Цешча.** Зяць на парог – цешча за бутэльку (яешню).
Зяць на парог – цешча за яйцы.

**Цэбар**. З пустога цэбра вады не набярэш.

**Цэп**. Брахаць – не цэпам махаць.

**Цялё.** Бадалася цялё з дубам.

**Цяля**. Кволае цяля і ў Пятроўку зябне.

**Цялятка.** Кволае цялятка ўлетку зябне.

**Цянёк**. Цянькі адбіраюць дзянькі.

**Цяплосць.** Ад цяплосці не баляць косці.

**Цяснота**. Цяснота – не крывота.

**Чалавек**. За добрым чалавекам, як за сцяною, а за благім, як за плотам.
Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей (лепей, лепш).
Трэба пуд солі з’есці, каб пазнаць чалавека.
Чалавека вочы водзяць.
Чалавек мяркуе, а Бог не чуе.
Чалавек на гару, а чорт за нагу.
Чалавек не вол, у адной скуры не старэе.
Чалавек невучоны як (што) тапор нетачоны.

**Чапаць.** Не чапай нічога і не бойся нікога.

**Чарка**. Дзе чарка, там і сварка.
Першая <чарка> калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць (астатнія паляцяць дробнымі птушачкамі).

**Чарток.** Кожны чарток ведай свой куток.

**Час**. Будзе час – будзе і квас.
Быў час, калі любілі і нас.
Новы час – новыя песні.
Усяму свой час.
Час ад часу не лягчэй.
Час – гэта грошы.
Час мінеш – век жывеш.
Час – найлепшы (самы лепшы, добры, вялікі) доктар (лекар).

**Частаванне.** Які госць, такое і частаванне.

**Чорт**. Выдумаў чорт моду, ды сам у воду, а вы, бабкі, ганіцеся.
Дзе чорт <сам> не зможа (не можа), туды (там) бабу пашле.

Займі чорта ад варот, дык ён цераз плот.
Золата за плячыма, а чорт перад вачыма.
І чорт літасць мае.
Каму што, а чорту балота.
Не будзе Гірша (-ы), <дык> будзе чорт іншы.
Не такі (не так) чорт страшны, як яго малююць.
Поп сваё, <а> чорт сваё.
Усе чэрці адной шэрсці.
Усякі (кожны) чорт на сваё кола ваду цягне.
У чорта спіна сцёрта.
Хіба чорт здумаў гэтыя залёты: ані ўночы сну, ані ўдзень работы.
Хочаш убачыць чорта, напаі бабу.
Чаго, чорце, у балоце сядзіш? – Бо прывык.
Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.
Чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе.
Чорт за чортам (за д’ябла) цягне.
Чорт з голаду і мухі еў.
Чорт не адны лапці (не адну пару лапцей) стаптаў, пакуль (покуль) такую пару дабраў (сабраў).
Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.
Чорт чорта пазнаў і на піва (у госці) пазваў.
Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся.
Чым чорт не араў, тым <і> сеяць не стаў (не будзе).
Чым чорт не жартуе, калі (пакуль) бог спіць.

**Чуб**. Дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць.

**Чужы**. Бі свайго, каб чужы баяўся.
Не гань чужога, калі свайго не маеш.
Не руш чужога і не бойся нікога.
Паважай чужое, але і свайму ганьбы не давай.
Хто чужога не шкадуе, той свайго не мае.
Чужое ўсё смачней.

**Чужына**. Чым на чужыне ў пярыне, лепей дома на мякіне.

**Чханне**. На ўсякае чханне не наздароўкаешся.

**Чысты.** Бруднае (паганае) да чыстага не прыстае.

**Чысціня.** Посуд любіць чысціню.

**Шавец**. Шавец заўсёды <ходзіць> без ботаў.
Шавец у падзёртых ботах ходзіць.

**Шалаш**. Міласці прашу к нашаму шалашу.

| | |
|---|---|
| **Шалудзівы**. | Пазайздросціў шалудзівы пляшываму. |
| **Шампанскае**. | Хто не рызыкуе, той не п’е шампанскага. |
| **Шанаваць.** | Што маем – не шануем, а як страцім – плачам. |
| **Шапка**. | Абяцаная шапка на вушы не лезе. |
| **Шкурка**. | Варта шкурка вырабу. |
| | Не варта шкурка вырабу. |
| **Шлях.** | Неспаведныя шляхі твае, Госпадзе. |
| | Неспавядальныя шляхі Гасподнія. |
| | Шляхі Гасподнія няведамы. |
| **Шляхціц**. | Шляхціц на сваім гародзе ровен ваяводзе. |
| **Шоўк.** | Зверху шоўк, а ўсярэдзіне шчоўк. |
| **Што.** | А калі што якое, дык што тут такое. |
| | За што купіў, за тое і прадаю. |
| | Што блюдзём, то <і> людзём. |
| | Што задужа, то не здрова. |
| | Што пасееш, тое і пажнеш. |
| **Шукаць.** | Шукайце і знойдзеце. |
| **Шум**. | Многа шуму з нічога. |
| **Шчасце**. | Адзін едзе на шчасці, другі на снасці. |
| | Дай кішкам волю – праясі шчасце і долю. |
| | Доля як стадоля, а шчасце як заезджая карчма. |
| | Калі няма шчасця зрання, то не будзе да змяркання. |
| | Не было б шчасця, дык няшчасце памагло. |
| | Шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць. |
| | Шчасце не конь – у аглоблі не запражэш. |
| | Шчасце пераходзячы жыве. |
| **Шчупак**. | На тое і шчупак у моры (у вадзе), каб карась не драмаў. |
| | Не той шчупак, што з вуды сарваўся, а той што ў вядры застаўся |
| **Шыя**. | Была б (абы) шыя, <а> хамут знойдзецца. |
| **Шэпт**. | Шэпты хату зводзяць. |
| **Юпітэр.** | Што дазволена Юпітэру, <тое> не дазволена быку. |
| **Юр’я**. | Два Юр’і і абодва дурні: адзін халодны, другі – галодны. |
| | Калі на Юр’я роса, сей грэчку і проса. |
| **Юшка.** | Сёрбай юшку, на дне гушча. |
| **Яблык**. | Яблык ад яблыні далёка не адкоціцца. |
| | Яблык ад яблыні недалёка падае (коціцца). |

**Яблычка**. Добра яблычка к Іспасу.
**Яд**. Няма гаду без яду.
**Яда**. Хлеб і вада – маладзецкая яда.
**Яечня**. Чужая яечня не вечна.
**Яздок**. Кожнаму ездаку – свае санкі.
**Язык**. Еш пірог (боршч) з грыбамі,
а язык трымай за зубамі.
Людскога языка не завяжаш.
На бабскім (бабіным) языку кароста сядзіць.
Хто языком штурмуе, не шмат наваюе.
Язык без касцей.
Язык мой – вораг мой.
Языком гавары, а рукам волі не давай.
**Яма**. Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.
Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.
**Янка**. Янка ківае на Петруся, а Пятрусь на Янку.
**Ярома**. Жыві, Ярома, да смерці дома.
Я яму пра Фаму (пра Кузьму), а ён мне пра Ярому.

Даведачнае выданне

**ЛЕПЕШАЎ** Іван Якаўлевіч
**ЯКАЛЦЭВІЧ** Марыя Антонаўна

ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ПРЫКАЗАК

Адказны за выпуск *М.У. Вахмяніна*
Камп'ютарная вёрстка: *М.І. Верстак*
Дызайн вокладкі: *В.В. Канчуга*

Падпісана у друк 22.07.2011. Фармат 60×84/16.
Папера афсетная. Рызаграфия. Гарнітура Таймс.
Ум. друк. арк. 40,46 . Ул.-выд. арк. 43,0. Тыраж 200 экз. Заказ .

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
ўніверсітэт імя Янкі Купалы».
ЛВ № 02330/0549484 ад 14.05.2009.
ЛП № 02330/0494172 ад 03.04.2009.
Завулак Тэлеграфны, 15а, 230023, Гродна.

ISBN 978-985-515-446-5

